**ББК** 63.3 (2–2СПб=411.3)

**М. Нікалаеў. Беларускі Пецярбург**

**Кніга выдадзена пры маральнай, арганізацыйнай і фінансавай падтрымцы**
згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшычына» і асабіста Алены Макоўскай
і Ніны Шыдлоўскай, Дома нацыянальнасцяў Санкт-Пецярбурга,

а таксама пецярбургскіх беларусаў:

Сяргея Сяргеевіча Алексаніна
Аляксандра Арсенцевіча Цалко
Міхаіла Іванавіча Снопака
Валянціна Рыгоравіча Юхімука
Івана Іванавіча Лебядзевіча
Сяргея Дзмітрыевіча Бадрунова
Грыгорыя Барысавіча Чарняка
Валерыя Васільевіча Атрашэўскага
Гіліля Майсеевіча Дворкіна
Уладзіміра Фёдаравіча Шышко
Мікалая Мікалаевіча Андрэйчанкі
Алега Георгіевіча Мусакова
Віктара Пятровіча Гаеўскага
Мечыслава Леапольдавіча Жыгала
Дзмітрыя Алегавіча Вінаходава
Пятра Леанідавіча Марціновіча
Анатоля Міхайлавіча Влаюка
а. Анатоля Мароза
Міхаіла Пятровіча Захарчанкі
Наталлі Сяргееўны Кардаш
Генадзя Фабіянавіча Рабцэвіча
Мікалая Яўгенавіча Русакевіча
Аляксандра Антонавіча Станкевіча
Віталя Станіслававіча Несцяровіча
а. Іаана Пашкевіча
Леаніда Іосіфавіча Балашэвіча
а. Уладзіміра Фаменкі

Кніга апавядае пра жыццё і дзейнасці выхадцаў з беларускіх земляў у Санкт-Пецярбургу напрацягу больш як 300 гадоў. Раздзелы згрупаваны па храналогіі, а таксама прафесійнай прыналежнасці больш як 2000 выдатных і ардынарных асобаў. У гістарычнай частцы свайго апавядання аўтар прыходзіць да высновы, што Пецярбург XIX стагоддзя, будучы па колькасці жыхароў-беларусаў самым вялікім у свеце гарадскім паселішчам, выконваў функцыю культурнай і адміністратыўнай сталіцы Беларусі.

Кніга адрасавана шырокаму колу чытачоў, якія цікавяцца гісторыяй і культурай беларускага народа, гісторыяй, культурай і этнаграфіяй шматнацыянальнага Санкт-Пецярбурга.

Книга дает широкую панораму жизни выходцев из Белоруссии в Санкт-Петербурге на протяжении более 300 лет истории города. Материал построен по хронологии, а также профессиональной принадлежности более 2000 персонажей. В исторической части своего повествования автор приходит к выводу, что Петербург-Петроград XIX – начала XX столетия, будучи самым большим в мире по количеству жителей-белорусов городским поселением, выполнял функции культурной и административной столицы Белоруссии.

Книга адресована широкому кругу читателей, интересующихся историей и культурой белорусского народа, историей и культурой многонационального Санкт-Петербурга.

У кнізе выкарыстаны фатаграфіі Андрэя Антаненкі, Ігара і Вольгі Жураўскіх, Вікторыі Зубоўскай, Міколы Нікалаева, Багдана і Івана Чэрнякевічаў, Анастасіі Шапавалавай, Соф'і Карабковай.

**@ Нікалаеў М.В., змест, 2009**
**@ Чэрнякевіч Б.І., афармленне, 2009**
**@ Выдавецтва «Агентство «ВиТ-принт»,**
**макет, предпечатная подготовка, 2009**

*In memoriam librarii Universitatis Petropolitanae*
*Bronislavi Epimach-Schipillo (1859–1934)*

# Прадмова

Горад гэты не вывучаюць у курсе геаграфіі і гісторыі Беларусі: цяперашнія падручнікі пабудаваны па дзяржаўна-тэрытарыяльным прынцыпе, а наш аб'ект знаходзіцца за межамі беларускай этнічнай тэрыторыі. Санкт-Пецярбург. Вялікі горад, які доўгі час быў сталіцай той дзяржавы, куды ўваходзіў беларускі край, адным з важных цэнтраў беларускай культуры працягвае быць і сёння. Ведаць больш пра Пецярбург — значыць лепш ведаць Беларусь. Без Пецярбурга нельга асэнсаваць феномен беларускай культуры XVIII–XX стагоддзяў, культуры дыяспары, якая назапасіла параўнальны, калі не большы, за метраполію патэнцыял. Пецярбург стаў на доўгі час месцам кантакту беларусаў з фінамі, немцамі, іншымі еўрапейскімі і азіяцкімі народамі. А магчымасці кантактаў з рускай культурай тут былі найбольшыя.

Адзін з парадоксаў беларускай старажытнай гісторыі: уладары з тытулам гаспадара нашай дзяржавы жылі на захад і на ўсход ад Беларусі — вялікім князем літоўскім быў польскі кароль, вялікім князем літоўскім зваўся і маскоўскі цар. У Рэчы Паспалітай XVIII ст. функцыі палітычнай сталіцы іншы раз выконваліся ў Гродне (месца паседжанняў соймаў) і няўхільна перасоўваліся ў Варшаву. Але з пачатку падзелаў Рэчы Паспалітай жыццё беларускага шляхціча ўсё часцей вымагала звяртацца да далёкага паўночнага гораду, што названы ў імя святога Пятра. «Жыццё вымушае чалавека да шмат якіх добраахвотных учынкаў»: каб вырашыць маёмасныя пытанні, атрымаць адукацыю, зрабіць кар'еру, трэба было ехаць у Пецярбург. Тут, на месцы ўпадзення Нявы ў Фінскі заліў, пражываў імператар, тут знаходзіўся двор, тут працавалі міністры, тут былі найбагацейшыя банкі, тут жыў каталіцкі магілёўскі архіепіскап і засядаў праваслаўны Сінод. Стала з'яўляліся ў горадзе перасяленцы-беларусы, найбольш — выхадцы з Віцебшчыны, Смаленшчыны, Полаччыны, Магілёўшчыны. Асаблівае шанаванне ў Пецярбургу (у параўнанні з іншымі рэгіёнамі Расіі) цудатворнага абраза Смаленскай Божай Маці, магчыма, звязана з гэтым прыбылым людам, які сяліўся пераважна ў сяле Смаленскім (цяпер раён праспекта Елізарава) і на Васілеўскім востраве, а пражыўшы адведзены Богам тэрмін, хаваўся на тамтэйшых Смаленскіх могілках. Здаецца, выхадцы з Усходняй Беларусі аднымі з першых пачалі спрабаваць асэнсаваць сваё літоўска-беларускае мінулае і суаднесці з новымі дзяржаўнымі рэаліямі. Прыгадаем хаця б дзейнасць і творы пецярбургскага (з 1831 г.) протаіерэя Іаана Грыгаровіча — першага, у сучасным сэнсе слова, беларускага гісторыка і археографа.

Заможныя ехалі сюды не толькі з Беларусі, але і з Украіны і Грузіі, Польшчы і Татарстану, Калмыкіі і Арменіі — з усіх канцоў неабсяжнай імперыі. Большасць, зрабіўшы справы, з'язджалі, але нехта заставаўся, каб працягваць тут вайсковую ці цывільную службу, скончыць навучанне альбо вучыць іншых. Як бы гэтым «прыбыльцам» ні было цяжка ўсталявацца ў Пецярбургу, адно яны маглі заўважыць адразу: іхняя нацыянальная прыналежнасць ніяк не замінае жыць на талерантнай Поўначы. Цалкам нацыяналістычная газета «Новы час» пісала 3 верасня 1899 г. (наконт фінаў): «Огромной российской столице за два столетия не удалось растворить их в себе и сделать из чухонцев русских. Это уникально. Почему именно Петербург, привлекая к себе, не оказывает такого влияния, как другие большие города?»

Беларусаў у горадзе заўсёды было дастаткова шмат, але знайсці іх часам цяжэй, чым прадстаўнікоў якога з іншых народаў. Армянаў можна шукаць каля армянскай царквы на Неўскім праспекце ці на Смаленскіх армянскіх могілках, тых жа фінаў прадстаўлялі лахцінскія малочніцы і прыхаджане фінскай кірхі на Вялікай Канюшанай, немцы гуртаваліся вакол рэдакцыі адной з найстарэйшых у горадзе газет «St.-Petersburger Zeitung» і лютэранскіх храмаў; шматлікія

іншыя храмы — грэцкая, галандская, эстонская цэрквы, бурацкі дацан, татарская мячэць — збіралі не толькі адзінаверцаў, але і зямляцкія абшчыны. Беларуская ж шматканфесійная грамада, молячыся, глядзела ў розныя часткі свету — Рым, Мекку, Іерусалім — і разыходзілася ў храмы розных вызнанняў. Праваслаўная большасць асобных беларускіх цэркваў не мела і належала да бліжэйшага прыхода. Язычнікі, якіх этнографы сустракалі ў беларускіх губернях і ў пачатку XX ст., калі й выязджалі ў Пецярбург, веру сваю там публічна не праяўлялі. Маскоўскі гісторык Васіль Ключэўскі (1841–1911) адносна нацыянальнай псіхалогіі заўважыў: «І маскаль, і хахол хітрыя людзі, і хітрасць абодвух выдаецца ў прытворстве. Аднак і той і іншы прытворшчыкі па-свойму: першы любіць прыкідвацца дурнем, а другі разумным». Месца беларуса ў гэтым назіранні Ключэўскім не акрэслена, пазней беларусам прыдалося вызначэнне «шчырыя», значыць наўмысна нехітрыя.

Каталіцкую шляхту з Вялікага Княства Літоўскага ў расійскім Пецярбургу галоўным чынам прызнавалі за палякаў; ёй самой трэба было альбо з гэтым моўчкі пагаджацца (і захоўваць свой гонар як «польскі»), альбо спрабаваць сцвердзіць сябе як расійскае дваранства. Выбар часцей за ўсё залежаў ад сямейнай традыцыі (шмат хто ўспамінаў свае старажытныя «рускія» карані), канфесіі. Выкарыстанне ў касцёле польскай мовы і польскі патрыятызм некаторых ксяндзоў на працягу ўсёй пецярбургскай гісторыі прыводзілі каталікоў-беларусаў у шэрагі польскіх партый. Пецярбургская «polonia» ад пачатку на вялікі працэнт складалася з выхадцаў з Беларусі. Беларуская шляхта, якая яшчэ памятала сваё паходжанне з Вялікага Княства, трымалася пры гэтым незалежна ад каронных палякаў. Больш за тое, шляхціч Восіп Сянкоўскі сфармуляваў тэорыю, якая тлумачыла заняпад Беларусі-Літвы няўдалым саюзам з Каронай. Польскія гісторыкі вельмі любяць даваць такім людзям тытул нацыянальных здраднікаў, але тыя не маглі імі быць, бо да польскай нацыі і не належалі. Яны проста «шукалі сябе». Менавіта ў Пецярбургу выразна акрэслілася тэндэнцыя пераходу выхадцаў з Беларусі да беларускай самасвядомасці — яскрава сведчаць аб гэтым дзейнасць інжынера Вацлава Іваноўскага, этнографа Аляксандра Сержпутоўскага, ксяндзоў-філосафаў Люцыяна Хвецькі і Фабіяна Абрантовіча, мовазнаўцы Браніслава Эпімаха-Шыпілы і шматлікіх іншых. Яшчэ ў самым пачатку XX стагоддзя пецярбургскія выдавецтвы ўнеслі значны ўклад у развіццё беларускай літаратурнай мовы, у станаўленне граматычных і правапісных нормаў. Пры гэтым у пачынальнікаў былі вялікія сумненні нават адносна таго, якім алфавітам пісаць да беларусаў — лацінкай, кірыліцай ці на абодвух. «Ці доўга вісецьме над намі двойчы-літэрнае праклянцьце — ніхто ня ведае цяпер, — пісаў у 1912 г. пецярбургскі часопіс «Маладая Беларусь». — Адно толькі добра ведаем, у вадно крэпка верым: сьведамаму беларусу ўсе літэры роўны — для яго важна не форма — а сама істота, не чым напісана, а што напісана».

Рэвалюцыя 1917 г. і перамога бальшавікоў істотна змянілі спачатку сацыяльную, а за ёй і нацыянальна-культурную сітуацыю ў горадзе. Аб'яўленая дзяржавай барацьба з рэлігіяй ліквідавала большасць храмаў, яны перасталі быць цэнтрамі нацыянальнага жыцця. Улада шукала больш-менш адэкватную замену ў выглядзе нацыянальных дамоў асветы, клубаў і гурткоў, нацыянальнага тэатра. Аднак і гэтыя асяродкі да 1937 г. былі знішчаны. Саветызацыя пачала значыць абавязковую русіфікацыю. Тым не менш кожны чарговы перапіс насельніцтва паказваў горад як шматнацыянальны, якім ён застаецца і зараз. Русіфікацыя адбываецца як натуральны працэс, непазбежны для ўсіх груп імігрантаў. Але падыход да гэтай тэмы з часам змяніўся: ад бескампрамісных і аднабокіх тэорыяў «плавільнага катла» перайшлі да прызнання больш спагадлівых ідэяў шматколернай мазаікі, у якой даецца права на існаванне кожнай этнічнай культуры.

* * *

Існуе велізарная краязнаўчая літаратура пра Пецярбург. Асобнае месца займаюць у ёй працы пра нацыянальныя меншасці гораду — фінаў, палякаў, грузінаў,

немцаў, украінцаў, французаў — кнігі і артыкулы на гэтую тэму з’яўляюцца пастаянна. Не засталася без увагі і тэма беларусаў. У працах польскіх даследчыкаў Алеся Барскага, Юркі Туронка, Рышарда Радзіка і Міхала Кандрацюка мы знойдзем цікавыя развагі пра лёсы беларусаў і беларускай культуры ў Пецярбургу. Багата публікацый належыць мінскім аўтарам. Рыгор Семашкевіч і Віталь Скалабан апісвалі грамадска-культурнае жыццё на мяжы XIX і XX стст., Вольга Гапоненка і Таццяна Процька — навукова-тэхнічную інтэлігенцыю, Міхаіл Ярмоленка — геолагаў і падарожнікаў, Віктар Скарабагатаў і Вольга Дадзіёмава — музыкантаў і музычнае жыццё, Надзея Усава — сувязі беларускіх земляў з пецярбургскай Акадэміяй мастацтваў.

Асабліва трэба падкрэсліць значэнне працы Рыгора Семашкевіча. Ён першы паказаў на пецярбургскі часопіс «Гоман» з яго асуджэннем царызму і ідэямі федэратыўнасці Беларусі ў складзе Расіі, рэвалюцыйны дэмакратызм Адама Гурыновіча, а таксама культурна-асветніцкую дзейнасць Браніслава Эпімаха-Шыпілы, як на тры састаўныя часткі развіцця беларускага літаратурна-грамадскага руху ў сталіцы ў канцы XIX ст. Гэтыя з’явы адлюстравалі ўзнікненне новага пакалення беларускай інтэлігенцыі: інтэлігенцыі перыяду канчатковага фарміравання беларускай нацыі.

У фундаментальных выданнях канца XX ст. — «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва», «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», даведніку «Хто ёсць хто сярод беларусаў свету» і агульнай «Беларускай Энцыклапедыі» шматлікія аўтары далі сціслую і змястоўную інфармацыю пра жыццё землякоў у паўночнай сталіцы. Шмат карыснага для нашай тэмы можна знайсці ў кнігах, прысвечаных асобным прафесіям. Адносна ваенных маракоў гэта праца Б. Даўгатовіча «Адміралы зямлі беларускай». Назва гучыць іранічна: на Беларусі ж няма мора! — (хаця воінскае званне «матрос» у беларускай арміі ёсць) — аднак інфармацыя сабрана вялікая[1]. Не засталіся ў баку ад беларусазнаўства і пецярбуржцы. Валянцін Грыцкевіч, Алег Лысенка, Тамара Юхнёва, Тамара Смірнова, Ігар Мацыеўскі даследвалі розныя бакі беларускага жыцця ў горадзе, Андрэй Антаненка напісаў успаміны пра падарожжа на радзіму продкаў, Уладзімір Бурачок, Аляксандр Макейчык — свае радаводы[2].

Да сёння, аднак, бракуе абагульняльнай працы, кнігі, якая з розных бакоў паказала б Санкт-Пецярбург як горад са значным беларускім насельніцтвам, асаблівасці мясцовых беларусаў, іх уплыў на эканамічную, палітычную і культурную сітуацыі на Радзіме, значэнне нацыянальных арганізацый. У персаналіі беларускага Пецярбурга мы сустракаем нашмат больш мужчын, чым жанчын, і гэта не толькі таму, што мужчыны больш мабільныя і дамагаліся большага. Лёсы жанчын, асабліва ў міжэтнічных шлюбах, асаблівасці іх стаўлення да рэлігійнага, палітычнага і культурнага жыцця ў чужым асяроддзі яшчэ трэба вывучыць.

* * *

Калі заязджаеш у родныя вёскі, старыя дзяды, якія цябе ня ведаюць, пытаюцца: «Ты чый будзеш, сынок?» Ім дастаткова пачуць, хто быў бацька, хто дзед… Беларусы — нацыя невялікая і дружная. Людзі любяць ведаць, хто адкуль, з каго. Таму галоўным нашым прадметам сталі ўраджэнцы беларускіх земляў, якія часова альбо стала жылі ў Санкт-Пецярбургу — Петраградзе — Ленінградзе, і іх нашчадкі, што нарадзіліся тут. Тэрмін пражывання не мае прынцыповага значэння — гэта могуць быць і некалькі месяцаў (як у выпадку наваградчаніна Адама Міцкевіча), і некалькі гадоў, і цэлае жыццё. Прыцягваюць увагу і тыя, хто пасля пецярбургскага перыяду (часцей за ўсё звязанага з атрыманнем адукацыі) з’ехалі з гораду, бо Пецярбург рабіўся адным з магутных фактараў выхавання і

[1] *Долготович Б.* Адмиралы земли белорусской. Минск, 2004.

[2] Акрамя прац пералічаных даследчыкаў аўтар шырока карыстаўся парадамі і дапамогай пецярбуржца Дзімітрыя Левіна і мінчукоў Віталя Скалабана і Адама Мальдзіса, за што выказвае ім шчырую ўдзячнасць.

фарміравання свядомасці. Цікавы феномен XIX стагоддзя — плённая дзейнасць сыноў уніяцкіх святароў. Беларускі ўплыў на Расію, якая нечакана атрымала ад асуджанага пануючай царквой уніяцтва адукаваных і сумленных грамадзянаў, вызначылі Урончанкі (Врончанкі), Касовічы, Карніловічы, Шпілеўскія. Пецярбург дапамог стаўленню і рэалізацыі іх талентаў. У часы СССР беларусы разам з іншымі будавалі новы сацыялістычны Ленінград, мацавалі яго прамысловы патэнцыял, цярпелі ад сталінскага тэрору, адстойвалі горад ў жорсткім супрацьстаянні з фашыстамі, гінулі ў блакадзе. І сёння тут жыве багата выхадцаў з Беларусі, якія аддана працуюць на карысць любімага і роднага горада.

Даўным-даўно, у 1975-м, аўтар гэтых радкоў запісваў народныя паданні і балэнды ў далёкай глухой вёсачцы на Магілёўшчыне. Людзі ў ёй не ўжывалі мацерных слоў, ні мужчыны, ні жанчыны. Я запытаў у адной старой: «А якая ж лаянка была самая моцная?» — «З селішча выганю!», — адказала тая. Вось так было: выгнаць з паселішча, адрачыся, выкрасліць з свайго роду — найгоршы праклён. А калі чалавек пайшоў сам? Пайшоў шукаць прыгоды, новыя ўражанні, долю-шчасце? — тады ён няяўна заставаўся сярод сваіх, яго лісты і пасылкі з Пецярбурга ці якой-небудзь Амерыкі ажыўлялі ўспаміны і абуджалі цікавасць. Часта за ім збіраўся нехта з маладзейшых.

У савецкія часы Пецярбург стаў Ленінградам, але паток беларускіх мігрантаў туды не зменшыўся, наадварот, пабольшаў і стаў рэгулявацца. Па спецнаборах і па сваёй ініцыятыве моладзь ехала вучыцца ў прафесійна-тэхнічныя школы і вучылішчы, каб потым папоўніць шэрагі рабочага класа. Уступныя экзамены ў Ленінградскі універсітэт пачыналіся на месяц раней, чым паўсюдна ў БССР, і лепшыя вучні з беларускіх школ часта ехалі сюды паспрабаваць сябе, а найлепшыя праходзілі па конкурсе і заставаліся вучыцца. Ваенкаматы паспяхова вербавалі хлопцаў у ленінградскія ваенныя вучылішчы.

«Дзе ж яны і хто цяпер?» — пытанне, на якое можна адказаць толькі асобнымі сацыялагічнымі і біяграфічнымі даследаваннямі. Беларусаў у Пецярбургу па апошнім перапісу 65 тысяч. Куды дзеліся тыя хлопцы і дзяўчаты, што паехалі ў Ленінград? Звычайна гэта былі добрыя вучні і большай часткай рамантыкі. Радзіма пакуль што не пералічыла і не ўшанавала іх: нарысы аб пяцёх пецярбургскіх беларусах-сучасніках у кнізе Г. Андрэеўца «Белорусы в России» (М., 2002 г.) гэта толькі падкрэслівае. Частка з гэтых рамантыкаў сталі прагматыкамі, частка — скептыкамі. Успамянуць некаторых мы паспрабуем на фоне штодзённага жыцця нашага горада. Аўтару хацелася б данесці да чытача каларыт розных эпох, таму на старонках кнігі мы ставім нашых землякоў (крыху больш за 700 асоб) у атачэнне сучасных ім грамадскіх і культурных падзей і архітэктурных помнікаў, прамысловых аб'ектаў, вуліц, дамоў, плошчаў, вакзалаў…

Як гэта атрымалася — мяркаваць чытачу. Урэшце, мае рацыю іранічны Аскар Уайльд: усе выдатныя асобы раней ці пазней вымушаны апынуцца на ўзроўні далікатнасці іх біёграфаў.

Другім прадметам апавядання сталі беларускія старажытнасці пецярбургскіх сховішчаў. У горадзе сабраны магутны патэнцыял кніг, архіўных дакументаў, рэчаў, твораў скульптуры, жывапісу і ўжытковага мастацтва, гістарычнай зброі, помнікаў нумізматыкі. Вывучаны ўсе яны вельмі слаба, а выкарыстанне іх для выставаў, экскурсійнай працы, кіна- і тэлефільмаў, не гаворачы ўжо пра мультымедыйныя публікацыі, пакуль што справа будучыні. Вандруючы па гістарычных мясцінах паўночнай сталіцы, мы будзем спыняцца каля тых сховішчаў, дзе ёсць датычныя Беларусі матэрыялы, і старацца хаця б трошкі расказаць пра іх. Як ілюстрацыі выкарыстаны фатаграфіі, малюнкі з відамі горада і партрэты пецярбургскіх беларусаў. Аб усім і ўсіх расказаць немагчыма; аўтар усведамляе рацыю карэннага пецярбуржца Казьмы Пруткова, які вучыў, што «нельга абняць неабдымнае». Нашы нарысы складуць храналагічную прагулку па гісторыі і па вуліцах і праспектах непаўторнай прыгажосці горада над Нявой. Аўтар спадзяецца, што гэтая кніга можа стаць пачаткам далейшага ўважлівага вывучэння беларускага Пецярбурга.

# Раздзел 1.

## XVIII СТАГОДДЗЕ: СТАЛІЦА ГРОЗНАГА СУСЕДА

У год нараджэння Пецярбурга Расіі належаў толькі невялікі кавалак усходнебеларускіх земляў — на Смаленшчыне. Астатняя (на захад) прастора была часткай занялалага ў складзе Рэчы Паспалітай Вялікага Княства Літоўскага. Яго герб — коннік з паднятым над галавой мячом (Пагоня) — быў гістарычным сімвалам Беларусі. Выява Пагоні прысутнічае на гербах многіх беларускіх гарадоў, у тым ліку Полацка, Віцебска, Мсціслава. Яна ўвайшла ў расійскую геральдыку значна раней, чым узгаданыя гарады далучыліся да Расіі. У 1672 г., неўзабаве пасля таго як закончылася (у 1667 г.) вялікая вайна Масковіі з Рэччу Паспалітай, царскі баярын Артамон Мацвееў кіраваў збіраннем звестак па гісторыі маскоўскіх вялікіх князёў і цароў, а таксама інфармацыі аб замежных краінах, з якімі цары мелі дыпламатычныя адносіны. Перакладчык Мікалай Спафарый і пад'ячы Пётр Далгаво рыхтавалі па кожнай дзяржаве (датычна яе стасункаў з Расіяй) гістарычную даведку і ўдакладнялі тытулатуру гаспадароў. Іконнікі малявалі партрэты кіруючых асобаў, залатапісцы пісалі дзяржаўныя і зямельныя гербы. Хутка велізарны фаліянт быў закончаны. Кнігу, якая атрымала назву «Тытулярнік, альбо Корань Расійскай дзяржавы», пакінулі для практычнага карыстання ў Пасольскім прыказе, а на заказ цара Аляксея Міхайлавіча ў наступным годзе зрабілі яшчэ дзве копіі меншага памеру — «на верх», г. зн. для патрэбаў царскага двара і сям'і[1]. Канцэпцыя новазаказаных паасобнікаў была крыху зменевая — павялічана колькасць партрэтаў: па жаданні цара напісалі «персоны» ўсіх яго дзяцей (уключаючы маленькага Пятра) і дадалі партрэты гаспадароў Рэчы Паспалітай, пачынаючы ад Стэфана Баторыя. Гэта было навіной і падкрэсленым вылучэннем бліжэйшых суседзяў. Вялікае Княства Літоўскае ў гэтым царскім падручніку пададзена раней за Польшчу, з усіх памежных краін яму адводзілася найбольш месца: у Маскве з'явілася знакавая для гісторыі і будучыні Беларусі кніга. Упершыню ў культуры Расійскага царства выява папы рымскага апынулася побач з партрэтамі патрыярхаў — канстанцінопальскага, іерусалімскага і маскоўскіх.

Змешчаны адразу за выявай Пагоні тэкст тлумачыў правамоцнасць маскоўскіх цароў мець тытул вялікага князя літоўскага, значыць, і права на ўключэнне Беларусі ў Расійскую дзяржаву. Разам з тым выпісаны «крыўды» на Рэч Паспалітую, напрыклад, няправільнае тытуляванне пасламі караля Яна Казіміра цароў і патрыярха, праз што «всему Российскому царствию учинены злые безчестья, и укоризны, и хулы, чего не токмо великим государем християнским, помазанником Божиим, и простому человеку слышать не годитца».



*Герб Вялікага Княства Літоўскага ў маскоўскім Тытулярніку 1672 г.*

У пабудове «Тытулярніка» адбіліся палітычныя погляды Масквы, якія фарміраваліся пры ўдзеле беларуса, настаўніка царскіх дзяцей, знаўцы біблейскай прамудрасці і паэта, манаха Сімяона Сітняновіча з Полацка. Ён быў настаўнікам царэвіча Фёдара Аляксеевіча, выкладаў яму гісторыю. Успрыманне Сімяонам Полацкім сваёй радзімы як «беларускага» краю, і адначасова як часткі Вялікага Княства Літоўскага, паўплывала на пазнейшую пазіцыю царскага двара. Некалькі разоў сустракаецца на мініяцюрах «Тытулярніка» Пагоня, спачатку як ілюстрацыя царскага тытула вялікага князя літоўскага, потым як

[1] Цяпер першы паасобнік «Тытулярніка» захоўваецца ў Маскве, у Расійскім дзяржаўным архіве старажытных актаў, а два іншыя — у Пецярбургу: у бібліятэцы Дзяржаўнага Эрмітажа і ў Аддзеле рукапісаў Расійскай нацыянальнай бібліятэкі.

дзяржаўны герб Вялікага Княства, нарэшце — элементам гербаў беларускіх гарадоў. Тое, што тут выдзяляецца асобны аркуш для Пагоні як дзяржаўнага герба — падкрэслена асобна ад польскага Белага арла — недвухсэнсоўная дэманстрацыя.



*Пётр Першы. Гравюра пачатку XVIII ст.*

Да ўваходу зямель Вялікага Княства Літоўскага ў склад Расіі заставалася яшчэ амаль дзевяноста гадоў, калі ў 1703 г. малады цар Пётр І заснаваў горад, які неўзабаве стаў новай сталіцай. Пецярбург — адзін з нешматлікіх вялікіх гарадоў свету, якія дакладна могуць назваць час свайго з'яўлення на свет. Ёсць шмат па-рознаму абгрунтаваных адказаў на пытанне: навошта ён спатрэбіўся Расіі. Напэўна, Пётр хацеў «адарвацца» ад Масквы — дух старой сталіцы не адпавядаў патрэбам рэформаў, якія задумаў ажыццявіць амбітны малодшы сын цара Аляксея. Да сёння дакладна невядома, якія меркаванні і разлікі прымусілі Пятра ў першы, самы цяжкі перыяд вайны са Швецыяй, пасля разгрому рускага войска пад Нарвай (19 лістапада 1700 г.), не толькі распачаць будаўніцтва адначасова горада і порта, але і закласці на адлегласці 27 км ад яго яшчэ адзін горад-порт — Кранштат на востраве Котлін у Фінскім заліве. Няма сумнення хіба толькі ў тым, што, не зважаючы на ўсю гістарычную неабходнасць «акна ў Еўропу», Пецярбурга не было б, калі б на поўніцу не выявілася воля аднаго чалавека.

Мы можам прыгадаць некалькі вельмі супярэчлівых фактаў, якія звязвалі Пятра І з Беларуссю. Гэта аўтограф жыццяпісу брэсцкага ігумена святога Афанасія Філіповіча сярод кніг царскай бібліятэкі, гэта асабісты ўдзел расійскага манарха ў расправе над полацкімі манахамі-базыльянамі, гэта, нарэшце, любімая жонка Кацярына. Яна паходзіла з беларускай сям'і Скаўрашчукоў, ці Скаўронскіх, выхадцаў з Мінскага ваяводства, якія аселі ў Інфлянтах. Бацькі яе памерлі ў час эпідэміі, дзяўчыну ўзяў на выхаванне лютэранскі пастар Эрнст Глюк з Марыенбурга (цяпер Алуксне ў Латвіі). Пасля штурму Марыенбурга расійскім войскам у 1702 г. яна трапіла ў палон да фельдмаршала Барыса Шарамецьева, які перадаў яе губернатару акупаванай Інгерманландыі Аляксандру Меншыкаву, а той саступіў цару. Марта Скаўронская прыняла праваслаўе і атрымала імя Кацярына Аляксееўна. З 1705 г. яна фактычная жонка цара, у 1710 г. атрымала тытул гасударыні, 7 мая 1724 г. каранавана імператарскай каронай.



*Марта Скаўронская (царыца Кацярына Аляксееўна). Гравюра пачатку XVIII ст.*

У 1712 г. уся царская сям'я пераязджае на берагі Нявы, а мітрапаліт Стэфан Яворскі аддае загад аб упамінанні на екценнях «аб царствуючым градзе Пецярбургу». Новы горад у піку Маскве стаў сталіцай, і гэта таксама цалкам залежала ад Пятра. Асаблівасцю было тое, што горад знаходзіўся па-за межамі рускай этнічнай тэрыторыі, на землях фінаў-іжоры. Больш за тое, першыя колькі гадоў Пецярбург існаваў на землях, якія не належалі і да расійскай дзяржаўнай тэрыторыі — да заключэння (у 1721 г.) пераможнага міру са Швецыяй. Горад праектавалі еўрапейскія архітэктары па расійскім маштабе, пабудавалі расійскія прыгонныя і шведскія палонныя на забітых у балота па-

лях. Пры ўсёй сваёй «еўрапейскасці» горад пагражаў Захаду, а Захад — гораду.

Геаграфічныя каардынаты цэнтра Пецярбурга — 59 градусаў 57 мінут паўночнай шыраты, 30 градусаў 19 мінут усходняй даўгаты. Гэта шырата Магадана і поўначы Камчаткі, дзе сярэдняя гадавая тэмпература ніжэйшая за нуль, а месцамі даходзіць да сямі градусаў марозу. Але ў Пецярбургу яна складае +4,4°С. Амплітуда тэмператур за год можа набліжацца да 80 градусаў. Самы вялікі мароз зафіксаваны зімой 1739 г.: – 45°, а ў ХХ стагоддзі — 17 студзеня 1940 г.: –35,6°. Самая высокая летняя тэмпература (+34,6°С) была 15 чэрвеня 1998 г., начная бура тады пашкодзіла ў горадзе каля 250 дрэў. Сярэдняя колькасць атмасферных ападкаў складае 620 мм за год; сярэдняя колькасць сонечных дзён на год — усяго 31, а з дажджом — 126. Астатнія — гэта хмарнасць ды імжа. Адсюль папулярныя анекдоты пра піцерскае надвор'е: «Добрае сёлета лета было і галоўнае – на выхадныя прыйшлося». Тое ж самае пра зіму – «Добрая зіма ў Пецярбургу была ў гэтым годзе і галоўнае – на суботу прыйшлася». Часам надвор'е прыносіць нават звыклым гараджанам сюрпрызы. Прынамсі ў 1908 г. былі выдадзены нават паштоўкі, якія адлюстравалі віды Неўскага праспекта, Садовай вуліцы і Гасцінага двара падчас моцнага снегападу 6 чэрвеня. А самы ранні снегапад пасля лета зафіксаваны ў 1973 г. — снег выпаў 14 верасня.

Непрыемнай асаблівасцю Пецярбурга з'яўляюцца паводкі, якіх за сваю гісторыю горад зведаў больш як 300. Амаль заўсёды яны прыпадаюць на восень, калі цыклон з Атлантыкі перасякае Балтыку з паўднёвага захаду на паўночны ўсход і яго кірунак супадае з воссю выцягнутага Фінскага заліва. Вецер гоніць ваду, утвараючы «доўгую хвалю», якая рухаецца з хуткасцю 50 км/гадз. Яна праходзіць заліў за 7–9 гадзін, вырастаючы пры гэтым да 5 метраў. Хваля, трапляючы ў дэльту Нявы, выклікае хуткі пад'ём вады.

Першая паводка адбылася ў Пецярбургу праз тры месяцы пасля заснавання — у ноч з 19 на 20 жніўня 1703 г. Пры гэтым вада паднялася больш чым на 2 метры і знесла ў мора частку будаўнічых матэрыялаў, падрыхтаваных для пабудовы Петрапаўлаўскай крэпасці. Пра разбуральныя для расійскай сталіцы паводкі 1777 і 1788 гг. шмат пісалі нават еўрапейскія газеты. Пасля першага з гэтых няшчасцяў Кацярына ІІ спецыяльным загадам вызначыла, што для абвяшчэння паводкі з пад'ёмам вады да 5 футаў з Галоўнага Адміралцейства кожныя паўгадзіны страляе гармата, да 6 футаў — стрэлы праз чвэрць гадзіны. Пры пад'ёме вады на 7 футаў і вышэй гармата Адміралцейства страляла двойчы, а ёй адказвала стрэлам гармата Петрапаўлаўскай крэпасці. Таксама на шпілі Адміралцейства ўдзень вывешваліся белыя і чырвоныя сцягі, а ўначы — запальваліся ліхтары.

Самай грознай і разбуральнай у гісторыі горада стала паводка 7 кастрычніка 1824 г. Напярэдадні ўвесь дзень ішоў дождж, дзьмуў халодны, парывісты вецер. У 7 гадзін вечара на Адміралцействе вывесілі сігнальныя ліхтары — першы знак небяспекі. Уначы пачалася жудасная бура. Пад раніцу яна сцішылася і цікаўныя накіраваліся да берагоў Нявы. Пецярбургскі беларус Фадзей Булгарын у сваіх успамінах занатаваў убачанае так: «Калі жыхары Адміралцейскай стараны яшчэ не прадбачылі няшчасця, нізкія мясціны... былі затопленыя... Немагчыма апісаць тую жудасную з'яву, сведкамі якой былі людзі, што цудам ураталіся ад пагібелі. Неабсяжная прастора водаў здавалася кіпучым вірам. Белая пена клубілася над вадзянымі аграмадамі, якія бесперапынна павялічваліся, нарэшце, раз'юшана сягалі на бераг. Мноства драўляных пабудоў... з трэскам абрынуліся. Людзі ратаваліся, як маглі, у ацалелых дамах, на бярвеннях, плаваючых дахах, варотах і г. д. Шмат хто загінуў, як і хатняя жывёла і пажыткі... У адно імгненне вада пералілася праз краі набярэжных ракі і ўсіх каналаў, праз пад'ёмныя трубы хлынула ў выглядзе фантанаў... Шалёныя хвалі сягалі праз Дварцовую плошчу, якая з Нявой складала адно вялікае возера, што выцякала ў Неўскі праспект, як шырокая рака, да самага Анічкава моста...». Паводле ўспамінаў іншага сучасніка, «масты былі сарваныя і разнесеныя на часткі, вялізныя масы граніта былі зрушаны з месца альбо перакуленыя... Людзі, якіх захапіла вада, лезлі на вокны,



*Паводка 1903 г. на Большом праспекце Васілеўскага вострава. Паштоўка*

на ліхтары, чапляліся за карнізы і балконы дамоў, хаваліся на вершалінах дрэў, садзіліся на імперыялы карэт. Па Няве плылі тавары ў цюках...».

Падчас паводкі былі дашчэнту разбураны 462 дамы і пашкоджаны 3681. Паводле афіцыйных дадзеных, загінулі 400 чалавек, па неафіцыйных — нашмат больш. Было страчана больш чым 3600 галоў жывёлы.

Тым, хто тануў, з вялікай рызыкай для жыцця дапамагалі граф Міларадавіч і генерал-ад'ютант Бенкендорф, якія выйшлі на катэрах у Няву. Сакратар Расійскай акадэміі П. Сакалоў выратаваў 15 чалавек, падаючы ім вяроўкі з верхняга паверха свайго дома. Мічман Міллер, курсіруючы на катэры па Галернай вуліцы да Ісакіеўскага моста, выратаваў 12 чалавек.

Для дапамогі пацярпелым былі створаны часовыя прытулкі ў доме ваеннага губернатара, у бальніцах і прыватных дамах. Па вуліцах развозілі хлеб і цёплае адзенне. У першы дзень пасля няшчасця раздалі хлеба на 3500 руб. Цар Аляксандр І ахвяраваў для раздачы бедным мільён рублёў. З яго ўзялі прыклад многія прыватныя асобы.

Паводкі рэгулярна паўтараюцца і цяпер, хаця будаўніцтва дамбы ў канцы XX стагоддзя радыкальна зменшыла пагрозу значнай шкоды. Апошнія катастрафічныя падзеі былі ў 1924 і 1975 гг. У нашыя дні падчас небяспечнага пад'ёму вады ўжо не папярэджваюць насельніцтва стрэламі з гармат, як гэта было ў XVIII і XIX стагоддзях.



Рака Фантанка. Паводка ў чэрвені 2007 г.

Тэма паводак зрабілася папулярнай у «пецярбургскай» літаратуры. Вось радкі з верша «Аб надвор'і» Мікалая Някрасава:

> Слава Богу, стрелять перестали!
> Ни минуты мы нынче не спали,
> И едва ли кто в городе спал:
> Ночью пушечный гром грохотал,
> Не до сна! Вся столица молилась,
> Чтоб Нева в берега воротилась...

У савецкі час пасля адной з катастрафічных паводак на бяду адгукнуліся беларускія літаратары. 28 верасня 1924 г. агульны сход членаў Магілёўскага аддзялення Саюза рэвалюцыйных пралетарскіх пісьменнікаў разглядаў пытанне «Аб аказанні дапамогі рабочым г. Ленінграда, якія пацярпелі ад паводкі».




*У пачатку XX стагоддзя лёд Нявы зімой лёгка трымаў трамвайную лінію*

Доўгая зіма давала важную перавагу — моцны лёд на Няве садзейнічаў добрым зносінам з рознымі часткамі горада. Гэтым прыродным мостам жыхары карысталіся на працягу пяці-шасці месяцаў. У наш час цёплыя сцёкавыя воды мегаполіса доўга не даюць Няве замярзаць, а калі гэта здараецца, фарватэр прабіваюць ледаколы. Таму запіс дзяжурнага генерал-ад'ютанта ў журнале імператарскага Зімняга палаца за 1749 г. выглядае фантастычна-неверагодна: «Падчас свята Водаасвячэння каля палонкі-іярдані перад Зімнім палацам палкі войска стаялі шпалерамі на лёдзе Нявы ад Стрэлкі Васільеўскага вострава да Охты. Было выведзена дзевяць палкоў альбо 16 047 чалавек». І лёд легка трымаў такі гурт людзей! А на пачатку XX стагоддзя зімой на лёд клалі рэйкі і пускалі на супрацьлеглы бераг электрычны трамвай.

Жыхары Пецярбурга, змагаючыся са сваімі хранічнымі рэспіраторнымі захворваннямі,



*Здабыча лёду на Няве на фоне Петрапаўлаўскай крэпасці. Малюнак XVIII ст.*

наракаюць да гэтага часу на адрас Пятра: «Знайшоў для сталіцы падыходзячае балота!». Але ў тым, што горад апынуўся на балоце, заснавальнік не вінаваты. Ён, як заўважыў пецярбургскі краязнавец і пісьменнік Герман Гоппе, «старанна вастрыў сякеру для таго, каб прасекчы акно ў Еўропу ў паўднёвай сцяне расійскага дома. Менавіта для гэтага вялася доўгая і цяжкая аблога Азова, а ў Варонежы быў пабудаваны першы рускі карабель. Аднак Еўропа не хацела бачыць на поўдні замест слабеючай Атаманскай Порты моцную Расію — антытурэцкая кааліцыя не атрымалася. Карты ў гульні еўрапейскіх двароў леглі так, што не толькі насмарк, але і смяротная прастуда імператара аказаліся «запраграмаванымі» — Пётр прастудзіўся на берагах Нявы, ратуючы ахвяраў паводкі 1724 г. у Пецярбургу, і хутка памёр»[1]. З васьмі дзяцей Пятра і Кацярыны засталіся дзве дачкі — Ганна, герцагіня гальштэйнская, маці імператара Пятра III, і Лізавета, у будучым сама імператрыца.



*Эмалевая плакетка з выявай сям'і Пятра I*

Месца для горада абрана адмысловае. Нява тут упадае ў Фінскі заліў пяццю рукавамі — гэта Вялікая Нява, Малая Нява, Вялікая, Малая і Сярэдняя Неўкі. Рукавы і пратокі ўтвараюць (на сённяшні дзень) каля сарака астравоў. Гістарычна першы з іх — старадаўні Заечы востраў (па-фінску Jänissari), размешчаны па правым беразе Нявы, амаль у вяршыні яе дэльты. 16 мая 1703 г. на ім пачалі будаваць крэпасць Пецярбурга. Менавіта гэты дзень (па новым стылі 27 мая), а ў тым годзе на яго прыпала свята Тройцы, і лічыцца днём заснавання горада. Праект крэпасці склаў архітэктар Даменіка Трэзіні. Ён жа кіраваў будаўніцтвам цытадэлі і галоўнага сабора святых Пятра і Паўла з высокім (112 метраў) шпілем, на якім прыладзілі гадзіннік і фігуру анёла. Паміж Вялікай і Малой Нявой знаходзіцца Васільеўскі востраў (па-фінску Hirvisaari, Ласіны). На поўнач ад Заячага размясціўся другі па велічыні, пасля Васільеўскага, востраў — Пецярбургскі (Пецярбургская старана).

Спачатку разбудоўвалася Пецярбургская старана. На яе Траецкай плошчы ўзнёсся Траецкі сабор, у якім Пётр каранаваўся на імператара. Побач паўстаў будынак Сената. Трэзіні, які стаў галоўным архітэктарам горада, распрацаваў па распараджэнні Пятра «тыпавыя праекты» дамоў для трох катэгорый гараджан — «імянітых», «заможных», «подлых». Крыху пазней цэнтр горада перанёсся на Васільеўскі востраў, да новага будынка Дванаццаці калегіяў і палаца Меншыкава. Неўскі праспект доўгі час заставаўся прасекай у лесе — яшчэ ў першай чвэрці XIX стагоддзя на Знаменскай плошчы (каля цяперашняга Маскоўскага вакзала) на чалавека маглі напасці ваўкі. На будоўлю горада ад кожнай

[1] *Гоппе Г. Б.* «На земле была одна столица...». СПб., 2000. С. 10.

расійскай губерні пасылалі, згодна з «табелем», рамеснікаў патрэбных спецыяльнасцяў. Сярод гэтага работнага люду прыбылі ў 1710 г. і першыя беларусы — 298 смаленчукоў, пасланых у Пецярбург «на вечнае жыццё». Обер-камісар па пабудовах Уллян Сінявін адзначыў у данясенні ад 6 чэрвеня 1712 г., што з гэтых людзей адзін ганчар і адзін муляр аказаліся хворымі, дзевяць муляраў памерлі, а трое збеглі. Тым часам у студзені 1712 г. са Смаленскай губерні прыслалі яшчэ 230 рамеснікаў, пераважна цесляроў, на гэты раз для працы ў Адміралцействе[1].

На левым беразе размясціўся невялікі Летні палац цара. Пётр марыў пра фантаны ў Летнім садзе, побач з домам. Версаль, які ён бачыў на ўласныя вочы, не даваў яму спакою. Дзеля таго шукалі крыніцу вады, якая была б на больш высокім узроўні, чым Летні сад. Пракапалі канал у 21 вярсту, але якраз яго даўжыня звяла на нішто прыродны напор вады. Верагодна, гэтая няўдача паспрыяла будаўніцтву летніх рэзідэнцый навокал сталіцы — Пецяргофа, потым Араніенбаўма, Царскага Сяла, Паўлаўска, Гатчыны... З ранняга часу прыгарады сталі неад'емнай часткай прасторы Пецярбурга.

Першыя ўражанні беларуса ад Пецярбурга былі запісаны ў 1720 г., калі жыў яшчэ славуты заснавальнік горада. Іх аўтар — Міхал Пузына, пісар вялікі літоўскі, які з 5 сакавіка па 21 ліпеня знаходзіўся ў расійскай сталіцы ў складзе пасольства на чале са Станіславам Хамянтоўскім і пакінуў свае запісы[2]. «Справа вартая здзіўлення», — гаворыць Пузына, апісваючы месца, дзе з нічога (ex nihilo) «у такі кароткі час і крэпасць, і палацы, і горад, і каналы... паўсталі». Шляхціча цікавіла ў горадзе ўсё — забудова, прадукцыя прадпрыемстваў, людзі і прылады працы, склады правіянту, стайні для нялічанай колькасці коней, варштаты для вырабу палатна, будынак, дзе вырабляюць крухмал, палігон, дзе вучацца страляць з гармат. У запісах выступаюць сталяры, токары, кавалі, бляшаншчыкі, шкларобы і розныя іншыя рамеснікі. Для будаўніцтва ў Пецярбург сплаўлялі Нявой шмат дрэва. Пузына піша, што яно часта прападала, сягаючы ажно да заліва, бо на хуткай рачной вадзе плыты цяжка было затрымаць. Падарожнік апісаў зборы Кунсткамеры, дзе захоўваліся разнастайныя монстры, як людскія, так і звяроў, а таксама Марсава поле з цыркам і заапаркам: «На раўніне, якая наўмысна пакінута пасярод горада, ёсць будынак, у якім хлопцы біліся кулакамі за здароўе «осударскае». У тым жа будынку ёсць два львы, пантэра, рысь, леапард, малпы, мядзведзі». Для Пузыны, як і іншых выхадцаў з беларускіх земляў, была гістарычна зразумела апазіцыя «старая сталіца — новая сталіца». Падобнае яны мелі на радзіме: Навагрудак — Вільня...

Пра іншага наведвальніка з Беларусі мы раскажам больш падрабязна. Ён дасягнуў у Пецярбургу значных поспехаў — чыну генерал-фельдмаршала і нават, на кароткі час, пасады генерал-губернатара. Усё, што адбылося з бабруйскім старастам Янам Казімірам Сапегам, цалкам стасуецца з норавамі эпохі і зменлівасцю фартуны.

Сапега, вялікі гетман літоўскі, змагаўся ў гады Паўночнай вайны на баку Карла XII, праславіўся перамогамі над расійскімі войскамі, але з польскім каралём Аўгустам II быў у варожых адносінах. Расія не магла не заўважыць такога магутнага і славутага апазіцыянера. У 1721 г. узнікла ідэя ажаніць яго сына з дачкой Меншыкава Марыяй. Меншыкаў — багаты і ўплывовы фаварыт Пятра Вялікага — быў простага паходжання (хоць і змясціў на сваім гербе выяву «Пагоні»). Парадніцца са старажытным і магутным родам з Вялікага Княства Літоўскага яму было вельмі дарэчы. Жаніха — 19-гадовага Пятра Паўла Сапегу — ён запрасіў у Пецярбург. Пётр Павел са світай гасцяваў у палацы Меншыкава, пазнаёміўся з будучай нявестай, якой было толькі дзевяць гадоў, і неўзабаве ад'ехаў. Праз пяць гадоў, у сакавіку 1726 г., калі Меншыкаў падчас панавання Кацярыны I быў поўнаўладным кіраўніком дзяржавы, Ян Казімір з сынам прыехалі ў Пецярбург на заручыны і прабылі тут каля месяца. Пасля іх вяртання на радзіму быў надрукаваны «Дзённік падарожжа з Вільны да Пецярбурга яго высокай міласці пана Сапегі, бабруйскага старасты, а зараз першага фельдмаршала расійскіх войск, і прабывання яго ў Пецярбургу» — сведчанне таго, якой убачылі расійскую сталіцу беларускія візіцёры праз два гады пасля смерці Пятра Вялікага[3].

[1] Доклады и приговоры, состоявшиеся в Правительствующем Сенате в царствование Петра Великого. Т. 2, кн. 1. СПб., 1882. С. 81, 410.

[2] *Беспятых Ю. Н.* Петербург Петра I в иностранных описаниях: Введение. Тексты. Комментарии. Л., 1991. С. 139–161.

[3] Гл.: *Kriegseisen W.* Diariusz petersburgskiej podróży Jana i Piotra Sapiehów z 1726 r. Warszawa, 1993.




*Меншыкаўскі палац на Васільеўскім востраве ў часы візіту Сапегаў. Гравюра А. Зубава. 1716 г.*

Паводле «Дзённіка» (даты ў ім прыведзены, натуральна, па новым стылі), Сапегі прыехалі ў Пецяргоф 2 сакавіка 1726 г. Іх вельмі ўразіў убачаны там імператарскі палац і маўзалей, які будаваўся з італьянскага мармуру. У гэты ж дзень яны дабраліся да Пецярбурга, дзе спыніліся зноў у Меншыкава. 3 сакавіка госці былі запрошаныя на прыём да Кацярыны I. Аўдыенцыя прайшла выдатна. Імператрыца аддавала шмат увагі Яну Сапегу, а ў выпадку, калі бачыла з яго боку якую-небудзь праяву прыніжанасці, «брала яго за плячо», нібы прыпыняючы. Вячэрні час прабавілі ў гасцях у Меншыкава, дзе святкавалі заручыны. Госці пераходзілі з адной залы палаца ў іншую, сустрэча расцягнулася да глыбокай ночы. Толькі пасля настойлівых просьбаў Сапегаў Меншыкаў дазволіў ім пайсці адпачываць.

Увесь наступны дзень быў прысвечаны візітам да сенатараў, міністраў і замежных паслоў. Польскі пасол, жадаючы апярэдзіць Сапегаў, сам наведаўся да іх, але не застаў дома. Такія адносіны пасла паказваюць, што ў Пецярбург прыехаў не шараговы шляхціч. Урад Рэчы Паспалітай разумеў, што апазіцыя да каралеўскай улады можа атрымаць падтрымку Расіі. 7 сакавіка, на святкаванні дня нараджэння сына Меншыкава, Яну Сапегу за сталом прапанавалі трэцяе месца, адразу пасля гальштэйнскага герцага Карла Фрыдрыха (мужа цэсарэўны Ганны Пятроўны) і генерал-адмірала Фёдара Апраксіна. Такім чынам, ён апынуўся наперадзе шматлікіх саноўнікаў, якія там прысутнічалі. Урачыстасці і прыёмы ішлі без перапынку. 14 сакавіка Сапегі былі на абедзе ў імператрыцы, праз тры дні палуднавалі ў Карла Фрыдрыха, куды прыбылі «князь Меншыкаў і іншыя важныя сенатары». Падчас размоў Ян Сапега прасіў вызваліць захопленага чатыры гады таму расіянамі аршанскага земскага суддзю Ларскага і іншых палонных шляхцічаў.

Моцнае ўражанне зрабіла на Сапегаў падарожжа ў Кранштат і Краншлот для «агляду крэпасці, якая пабудавана проста ў моры, і ваенных караблёў». «Дзённік» падрабязна характарызуе мясцовасць Котліна, яго плаціны, адміральскую рэзідэнцыю, кардэгардыю, гаўптвахту. Колькасць гармат, скіраваных з

крэпасці Краншлота ў бок мора, ацэньвалася ў некалькі соцень. Гасцей суправаджаў галоўны камандзір Кранштацкага порта віцэ-адмірал Пётр Сіверс, у яго доме яны і заначавалі. Зранку Сапегі накіраваліся за дваццаць вёрст праз заліў у Дубкі, размешчаныя ля вусця ракі Сястры, аглядаць завод па апрацоўцы жалеза. «Немагчыма апісаць і пералічыць, — распавядаецца ў «Дзённіку», — усе іншыя рэчы, якія ў больш чым дзесяціаграмадных кузнях вырабляюцца. Сілай вады, і не толькі, робяць усё, што належыць да жалезных вырабаў, але таксама прыгожа гравіруюць і паліруюць латунныя часткі кавалерскіх шпаг, паляўнічых нажоў, нажніц і іншага, аздабляюць стрэльбы, апраўляюць шпагі і г. д. і вырабляюць іншыя вытанчаныя рэчы».

21 сакавіка Сапегі прысутнічалі ў Петрапаўлаўскім саборы на ўрачыстай богаслужбе ля дамавіны Пятра Вялікага, а назаўтра да іх нечакана зайшоў Меншыкаў з «добрай весткай ад найяснейшай імператрыцы, якая, ведаючы дастойнага імем і шануемага кавалера яго міласць пана бабруйскага старасту, надае яму ранг генеральнага фельдмаршальства над сваёй арміяй з штогадовым акладам у 120 тысяч маскоўскіх залатых».

Пра прычыны надання беларускаму магнату, да таго ж з такой складанай біяграфіяй, найвышэйшага расійскага ваеннага чыну дагэтуль няма адназначнага тлумачэння. Найбольш прымальная гіпотэза належыць гісторыку Сігізмунду Лібровічу[1]. Згодна з ёй Сапега стаў удзельнікам інтрыгі Кацярыны I дзеля замацавання за яе нашчадкамі — Скаўронскімі — шляхецкай годнасці. Набліжэнне да расійскага трону прадстаўніка аднаго з уплывовых родаў Вялікага княства Літоўскага, праўнука складальніка зводу законаў гэтай дзяржавы Льва Сапегі, стала ў нейкім сэнсе прапрацоўкай будучай інкарпарацыі Вялікага княства.

Імператрыца адобрыла меркаванае вяселле, больш за тое, сама вяла Марыю Меншыкаву на заручынах і сама абмяняла маладым пярсцёнкі. Праз дзень Сапегі і Меншыкавы правялі сумеснае святкаванне заручын у «мясцовага архіепіскапа» Феафана Пракаповіча. Падчас развітальнага візіту, 1 красавіка, Ян Сапега быў узнагароджаны імператрыцай вышэйшым ордэнам Расіі — святога Андрэя Першазванага.

Канец гэтай гісторыі сумны. Меншыкаў імкнуўся атрымаць у спадчыннае ўладанне Курляндскае герцагства і шукаў дапамогі ў Яна Сапегі, але яе не дачакаўся. Адносіны паміж усемагутным дыктатарам і новаспечаным фельдмаршалам пагоршыліся. А пасля смерці Кацярыны I (6 мая 1727 г.) Меншыкаў выбраў для дачкі куды больш амбітнае замужжа — юнага імператара Пятра II (на чым зламаў сабе кар'еру, а неўзабаве страціў жыццё). Маладому Сапегу далі высокі прыдворны чын камергера і хутка ажанілі з фаварыткай (і сваячкай) нябожчыцы імператрыцы — Соф'яй Скаўронскай.

У час уладарання Пятра II Сапегі захавалі і нават узмацнілі свае пазіцыі пры пецярбургскім двары. Ян Казімір Сапега сустракаўся з рознымі расійскімі палітыкамі, лёгка знайшоў агульную мову з радавітымі Галіцынымі. Менавіта тады, у 1727—1728 гг., ён быў генерал-губернатарам Пецярбурга і Інгрыі — якраз пасля сасланага Меншыкава. Супрацоўніку нядаўна створанай пецярбургскай Акадэміі навук, маладому немцу на расійскай службе Герарду Фрыдрыху Мілеру (у будучым акадэміку) было даручана скласці генеалогію роду Сапегаў. Малады навуковец, доўга не думаючы, спісаў яе ў нейкага езуіта і выдаў друкам у Франкфурце-на-Майне[2].

Тым часам Пётр II пераехаў у студзені 1728 г. у Маскву і застаўся там з усім дваром. Пецярбург пакінулі гвардзейскія палкі, выехалі калегіі і іншыя ўстановы, пачалі разбягацца прымусова сабраныя рамеснікі і купцы. Але ні за якую ласку не захацелі ехаць у Маскву Сапегі. Вясной 1728 г. старэйшы Сапега і яго сын з жонкай выехалі на Беларусь. Ян Казімір неўзабаве памёр (у 1730 г.), а Пётр Павел дажыў да 1771 г., маючы тытул смаленскага ваяводы.

Лёс пагражаў занядбанай сталіцы стаць звычайным правінцыйным горадам, калі б не воля новай імператрыцы Ганны Іаанаўны (пляменніцы Пятра Вялікага). Адразу пасля святкавання новага 1732 года яна вярнулася ў горад Пятра. Пецярбург ажыў, пачаў інтэнсіўна расці. Як ні парадаксальна, паляпшэнню забудовы горада спрыялі... пажары. У жніўні 1736 г. на рацэ Мойка загарэўся дом персідскага пасла Ахмед-хана. Іскра ад люлькі, якую курыў яго слуга, падпаліла сена. Полымя хутка пачало з'ядаць драўляныя будынкі. За восем гадзін выгарэлі ўсе дамы ад Зялёнага моста да Узнясенскай царквы. У чэрвені 1737 г. пажар знішчыў больш як тысячу дамоў уздоўж Мойкі і ад Неўскага праспекта

[1] *Либрович С. Ф.* Загадочный фельдмаршал русской армии: Исторический очерк. Пг.; М., 1915.

[2] Гл.: *Пекарский П. П.* История императорской Академии наук в Петербурге. Т. 1. СПб., 1870. С. 311–312.

да Крукава канала, г. зн. амаль усю левабярэжную частку горада. Пасля гэтага страшэннага бедства была створана Камісія аб Санкт-Пецярбургскім будаўніцтве, задачамі якой было планаванне новай забудовы з улікам пажарнай бяспекі. Камісія распрацавала генеральны план з размяшчэннем вуліц і плошчаў, жылых і грамадскіх будынкаў. Архітэктурным цэнтрам кампазіцыі левага берага Нявы стала Адміралцейства. Трыма промнямі ад яго разышліся Неўскі праспект, Гарохавая вуліца, Узнясенскі праспект. Вуліцы-промні былі злучаны дугамі пратокаў, каналаў, іншых вуліц і склалі планіровачны каркас горада. Найбольш значныя будынкі таго часу, у ліку якіх быў Зімні палац Ганны Іаанаўны (на месцы цяперашняга Інжынернага замка), не ацалелі. У Пецяргофе з’явіўся каскад фантанаў, упрыгожаных свінцовымі вызалачанымі фігурамі на міфалагічныя тэмы, у тым ліку магутны «Самсон». А ў лютым 1740 г. самай вядомай новабудоўляй стаў «ледзяны дом» пасярод Нявы, вакол якога былі ледзяныя дрэвы і кусты, на якіх сядзелі ледзяныя птушкі. У шыкоўных пакоях былі дзверы і вокны, шафы і куфры, ложкі з коўдрамі і падушкі — усё з лёду, нават карты, якія ляжалі на сталах. У ледзяным палацы згулялі вяселле блазна князя Міхайлы Галіцына з калмычкай Аўдоццяй Бужанінавай. Маладыя усю «шлюбную» ноч правялі на ледзяным ложку. Падман і падсмешка, рукатворны здзек з рэальнасці — усё гэта ўпісваецца ў культуру «кур’ёзу», якая ніколі не выходзіць з моды. Прынамсі, у студзені 1890 г. у садзе «Акварыюм» на Каменаастроўскім праспекце дэманстраваліся для публікі грандыёзныя ледзяныя пабудовы: копія Эйфелевай вежы (у адну дзесятую велічыні ад сапраўднай) і ледзяны дом у рускім стылі. Зімой 2005–2006 гг. ледзяны дом ізноў паўстаў на Дварцовай плошчы. Гэтую сумнеўную забаву абяцалі зрабіць традыцыйнай, але ўжо ў 2007 г. перамагла ідэя зладзіць вакол Александрынскага сталпа зімовы каток.

У часы панавання Ганны Іаанаўны ў Пецярбургу некаторы час жыла ўраджэнка Наваградскага павета Саламея Пільштынава (дзявочае прозвішча Русецкая). Складаны лёс і незвычайныя прыгоды выпалі гэтай жанчыне. Каля 1760 г. яна апісала іх у біяграфічнай, барочнай па стылю кнізе «Авантуры майго жыцця»[1].

Саламея пачынае аповед паведамленнем, як у чатырнаццаць гадоў яна выйшла замуж за лекара Гальперына і з Наваградскага ваяводства паехала з ім у Стамбул. Маладая жанчына навучылася турэцкай мове і лячэнню хвароб вачэй. Неўзабаве розныя акалічнасці разлучылі яе з мужам, і Саламея занялася самастойнай практыкай. Дзеля вызвалення з расійскага палону некалькіх знатных туркаў, па ўсёй верагоднасці ўдзельнікаў вайны 1735–1739 гг., яна рушыла ў Пецярбург. Пашпарт на праезд атрымала ў Наваградку, сустрэўшыся там пры дапамозе князя Радзівіла з расійскім агентам генералам Лівенам. Рэкамендацыйныя лісты таго ж Лівена далі Саламеі магчымасць спачатку трапіць у двор княгіні Марыі Чаркаскай, а потым ужо і да самой імператрыцы. Кніга Русецкай — падрабязная справаздача пра тое, як ехаў і з якімі прыгодамі сустракаўся падарожны ў той час. Тут жа падаюцца вельмі яркія малюнкі Пецярбурга, які Саламея параўноўвае з добра ёй вядомымі Стамбулам і Венай. Яна перадае характары людзей, асаблівасці іх паводзін.

Так выглядаў для Саламеі першы візіт да імператрыцы Ганны: «...Яе мосць царыца пыталася, як мяне завуць. Кажу: «Саламея». — «А бацьку?» Кажу: «Яўхім». Тады яе мосць царыца назвала мяне: «Саламаніда Яфімаўна, ідзі з маім надворным маршалкам у свой пакой, які табе прызначаны». Яе мосць царыца зноў дала мне пацалаваць руку. А сам яснавяльможны пан надворны маршалак адвёў мяне ўніз, у першы пакой пад пакоем яе мосці царыцы, і загадаў імем яе мосці царыцы тым дамам, што ў гэтым пакоі жылі (сямёра, а я восьмая), каб мяне шанавалі, на што тыя дамы з вялікай ахвотаю згадзіліся быць ласкавымі да мяне... Я нічога з сабою не мела, ні пасцелі, ні лёкаяў, але мне ложак паказваюць, засланы пад карназынавым аксамітным балдахонам, і коўдру, таксама чырвоную аксамітную, пешкамі падшытую, бо ў Пецярбургу надзвычай холадна, а гэта перад Божым Нараджэннем было...»

Аўтарка расказвае чытачу пецярбургскія «авантуры»: пра князя Галіцына і «адну даму» з Вены, пра Бірона, Кірылу Разумоўскага. Увагу прыцягваюць і мясцовыя габрэі. Расказана пра прыняцце нейкім праваслаўным маёрам іудаізму. Камізмам напоўнена гісторыя «Як два багатыя пецярбургскія габрэі жаніліся». Знайшлося ў кнізе Саламеі месца для апавядання пра раскольнікаў, пра інтрыгі князёў Даўгарукіх, пра вяселле «яго мосці пана Кейзерлінга» і прыгоды Мазепы. У пазнейшы час была дапісана гісторыя дзяржаўнага перавароту, які ўзвёў на трон у 1741 г. Лізавету Пятроўну.

[1] *Пільштынава С.* Авантуры майго жыцця: Раман. Мінск, 1993.

А вось якое апісанне Пецярбурга пакінула Саламея Русецкая: «...і там, дзе былі балоты, дрыгва, там цяпер масты каменныя і драўляныя і пяском роўна высыпаныя, на кожнай мілі пяць слупоў з дапісамі па-маскоўску, па-нямецку і па-лаціне, куды ехаць і як далёка.

Па дарозе частыя аўстэрыі з вялікімі выгодамі, і ўсё танна, нельга дорага прадаваць, бо кошт на дзвярах напісаны, а мера праверана, а бедным падарожным і дарма есці і піць даюць. Пецярбург такі прыгожы, такі велічны пабудаваў (цар Пётр Аляксеевіч) над Нявою, што лепшы і мілейшы за Стамбул і Вену ў Аўстрыі, бо Стамбул хоць і вялікі, шыкоўны бязмерна, але стары горад: тут палац за тысячу кес, а тут кузня, дзе коней куюць, а тут бакал, што агуркі і гарбузы прадае. І Вена, дзе імператар хрысціянскі рэзідэнцыю мае, тое самае: тут шыкоўны кляштар, а тут халупка якога мясніка альбо бакалара, адным словам: тут стары дом, тут новы палац. Але Пецярбург ах які прыгожы і дыхтоўны, такія доўгія вуліцы, што некалькі соцень камяніц альбо палацаў усе аднолькавыя па вышыні і адзін ля аднаго роўна стаяць, і здаецца — адна сцяна. Асобныя палацы меднай бляхай крытыя, каля кожнай камяніцы разнастайныя дрэвы, ліпы, нават у навальніцу чалавек не змочыцца, ідучы пад стрэхамі. Вуліцы такія шырокія, што шэсць калясак размінуцца могуць. Нідзе драбніцы смецця альбо бруду не відаць, бо як просты мужык з горада выязджае, дык мусіць даць дзве капейкі, а калі смецце альбо гной возьме, хоць адну жменю, ужо дзвюх капеек не дае; а як у горад мужык заязджае, дык мусіць дрэва альбо камень прывезці, а не прывязе — мусіць даць дзве капейкі. Гэта дрэва і камень — на рэпарацыю мастоў па малых вуліцах. Хлеб, мяса, рыба, сыр, масла вельмі танныя, з садавінаю крыху скупей. Вялікая вольнасць і спакой добрым людзям хадзіць, ездзіць, фарсіць паводле свайго багацця. Людзі прыемныя, ветлівыя. Наш каталіцкі касцёл велічны, у ім — францысканцы...»

Адзін з фрагментаў успамінаў — «Лекарская зайздрасць». Русецкая, кантактуючы з прыдворнымі дамамі, стварала сабе ўсё большую кліентуру, і не толькі з хворых на вочы. Бралася лячыць і іншыя хваробы. Гэта выклікала супраціўленне пецярбургскіх немцаў-дактароў. Так, аптэкарам было загадана па яе рэцэптах лекі хворым не адпускаць, бо яна — акулістка — выпісвала лекі для лячэння вачэй не прыдатныя. На той час у Пецярбургу былі дзве добрыя аптэкі — адна царская, а другая ў Акадэміі навук. Сутычка стала вядомая імператрыцы, і толькі пасля яе ўмяшання Русецкай дазволілі купляць розныя лекі ў царскай аптэцы і лячыць усіх, хто таго пажадае. «У Саламеі няма праяў нацыянальнай пыхлівасці, яна хваліць шырыню натуры рускіх і туркаў, норавы якіх у каталіцкай Рэчы Паспалітай прынята было крытыкаваць», — канстатуе сучасны пецярбургскі даследчык, адкрывальнік мемуараў Саламеі Русецкай для беларускага чытача Валянцін Грыцкевіч[1].

Пасля паспяховага выканання галоўнай задачы — вызвалення чатырох турак з расійскага палону (Саламея піша, што імператрыца іх ёй падарыла) — падарожніца рушыла ў адваротны шлях праз Рэвель і Рыгу. У Пецярбургу ёй далі для суправаджэння двух салдат, і не дарэмна. Вандроўніца апісвае, як цэлая чухон-



*Выгляд Санкт-Пецярбурга ў XVIII стагоддзі*

[1] *Грыцкевіч В. П.* Адысея наваградскай лекаркі. Саламея Русецкая. Мінск, 1989. С. 50.

ская вёска зрабіла напад на пастаялы двор, дзе невялікі абоз спыніўся начаваць. Толькі спрыянне кухаркі-ліцвінкі дазволіла падарожным перасцерагчыся ад смяротнай небяспекі...

На беларускіх землях у тыя часы пануюць казнакрадства, бездапаможнасць і бляск пераломнай эпохі Аўгуста III, які стаў — пры дапамозе Расіі — чарговым вялікім князем літоўскім. За доўгі час яго кіравання (1733—1763) толькі адзін сойм, у 1736 г., прайшоў нармальна, астатнія трынаццаць былі сарваныя. У гэты перыяд, «век Асветніцтва», культурны працэс усё больш набываў агульнаеўрапейскі характар, паказваючы тэндэнцыю да тыпалагічнага збліжэння асобных рэгіёнаў Еўропы. У 1748 г. для грамадскага карыстання адкрылася бібліятэка Залускіх у Варшаве — падзея паказная і разлічаная на знешні эфект; сучаснік пісаў, што гэта было мала каму патрэбна[1]. Аднак яе працягвалі папаўняць, у тым ліку за кошт прымусовага вывазу ў Варшаву часткі нясвіжскай бібліятэкі Радзівілаў. Праз пэўны час кнігазбор Залускіх разам з радзівілаўскімі кнігамі прымусова перавезлі ў Пецярбург. Асветніцтва ў гісторыі культуры Пецярбурга адзначылася не толькі ўласнымі дасягненнямі, але і павернутасцю «да свету», імкненнем чэрпаць духоўнае святло з самых розных крыніц і распаўсюджваць яго на магчыма большае кола людзей і народаў, што спрыяла модзе на інтэлект і вытанчанасць густу. Згладжваліся адрозненні ў культуры праваслаўнага і каталіцкага арэалаў, складвалася новая геапалітычная прастора, прасякнутая рознага кшталту сувязямі.

Наступны пасля Сапегі афіцыйны пасол нашай краіны прыбыў у горад над Нявой праз чатырнаццаць гадоў. Пецярбург двойчы (у 1740 і 1743—1744 гг.) наведаў вялікі маршалак літоўскі Ігнат Агінскі. Апісанне гэтага пасольства не захавалася, але напэўна ж на Беларусі шмат людзей слухала расказы самога пасла (шляхетнае грамадства) і яго прыслугі (людзі простыя) пра паўночнае дзіва — горад паміж балотаў. І аб цудоўным палацы імператрыцы Лізаветы ў Царскім Сяле, пра пабудову якога наступная імператрыца, Кацярына II напісала так: «Гэта была праца Пенелопы: назаўтра ламалася тое, што было зроблена сёння. Дом гэты быў шэсць



*Пецярбургскі Арсенал. Герб Радзівілаў на гармаце «Вінаград»*



*Пецярбургскі Арсенал. Рыцарскія даспехі Радзівілаў і нясвіжская гармата «Цэрбер»*

[1] Гл.: Staszewski J. August III Sas. Wrocław et al., 1989. S. 194.

разоў разбураны дашчэнту і зноў пабудаваны, перш чым даведзены быў да стану, у якім зараз знаходзіцца. Ляжаць рахункі на мільён шэсцьсот тысяч рублёў, якіх ён каштаваў, але акрамя таго імператрыца траціла на яго шмат грошай са сваёй кішэні і рахункаў на іх няма»[1]. Імя Кацярыны ІІ, узгаданае тут амаль што выпадкова, у далейшым нашым расказе адыграе значную ролю.

У канцы чэрвеня 1755 г. у Пецярбургу з'явіўся ўраджэнец Воўчына Брэсцкага павета, літоўскі стольнік Станіслаў Аўгуст Панятоўскі — як неафіцыйны сакратар англійскага пасла Чарльза Вільямса. У маладога шляхціча ўзнік раман з жонкай расійскага наследніка, якая пазней скіне з прастола свайго мужа (роднага ўнука Пятра Вялікага!) і ўвойдзе ў гісторыю як Кацярына Вялікая. На той жа час вялікая княгіня Кацярына Аляксееўна мела 27 гадоў, Станіслаў Аўгуст — 24. У студзені 1757 г. ён прыехаў у Пецярбург зноў, ужо як пасол Саксоніі (паколькі Аўгуст ІІІ быў адначасова і саксонскім курфюрстам), і пражыў тут да верасня 1758 г. Потым вярнуўся ў Рэч Паспалітую, дзе праз шэсць гадоў, пры падтрымцы расійскага пасла Мікалая Рэпніна, быў абраны каралём. Выступленне часткі шляхты супраць новага караля і імперскай Расіі — славутая «Барская канфедэрацыя» 1768 г. — не змяніла ход гісторыі, але засталася ў ёй адметнай падзеяй.

У 1772 г. адбыўся першы падзел Рэчы Паспалітай. Далучэнне Усходняй Беларусі падавалася ў Пецярбургу як кампенсацыя за страты ад прынятых сюды збеглых ад расійскіх памешчыкаў сялян і самавольнага прысваення мытнымі чынамі і шляхтай Рэчы Паспалітай «па найменшай ацэнцы» 21 мільёна рублёў. Было выканана і яшчэ адно расійскае патрабаванне — кампенсаваць страты пагвалчаных праваслаўных манастыроў, адабраныя ад якіх землі і каштоўнасці належаць ім «паводле ўсіх на свеце правоў», з дадаткам судовых затрат[2]. Перамога была поўная. Дыпламаты трыумфавалі, праваслаўная царква была задаволена. У сакавіку 1773 г. у Пецярбург з Магілёва прыехаў архіепіскап Георгій Каніскі, які ў сваёй казані ў царкве Зімняга палаца дзякаваў Кацярыне за ўзяцце праваслаўных пад дзяржаўную апеку. Але, здаецца, ні ў расійскім, ні ў беларускім грамадстве да канца не ўсведамлялі таго, што адбылося. Расійскія войскі кватаравалі ў беларускіх гарадах і мястэчках ужо даўно. Яны разрабавалі Нясвіжскі замак, вывезшы адтуль на загад «асветніцы»-імператрыцы бібліятэку (каля 22 тысяч кніг), нумізматычную калекцыю, гарматы і старажытную зброю, габелены, жывапіс і іншыя творы мастацтва. Калі вясной 1775 г. Караль Станіслаў Радзівіл прыняў у Венецыі ад расійскага пасланніка Ота Магнуса фон Штакельберга шэсць мільёнаў злотых адступнога за канфіскаваныя ў яго ўладаннях каштоўнасці, гэта сведчыла, прынамсі, што скарбы Нясвіжскага замка перасталі быць дзейным культурным асяродкам на Беларусі, а іх гаспадар з гэтым пагадзіўся. Зрэшты, частку вывезеных сямейных каштоўнасцяў (галоўным чынам посуд) Раманавы Радзівілам потым вярнулі. Бібліятэка ж ад жніўня 1772 г. ляжала запакаваная ў 94 скрынях у сутарэннях Акадэміі навук у Пецярбургу. Французскі гісторык Кастэра пісаў: «Сама імператрыца ўдзельнічала ў падзеле здабычы. Славутую бібліятэку князя Радзівіла, скарбонку літоўскай гісторыі, захапілі і адправілі ў Пецярбург; няма сумневу, што яна адтуль больш не вернецца»[3]. Прароцтва, як бачым, цалкам спраўдзілася.

Нельга не сказаць хоць некалькі слоў пра гэтыя зборы. Вялікая колькасць манет і медалёў, габелены, карціны і гадзіннікі засталіся ў Зімнім палацы. У Кунсткамеры апынуўся і захоўваецца ў адным з філіялаў (музеі Ламаносава) першы зроблены на Беларусі механічны калькулятар — лічыльная машына нясвіжскага майстра XVIII ст. Еўны Якабсона. Значная частка заходнееўрапейскіх рыцарскіх даспехаў з Рыцарскай залы сучаснага Эрмітажа паходзіць са збраёўні Нясвіжскага замка. У сховішчах пецярбургскага Ваенна-гістарычнага музея артылерыі, інжынерных войск і войск сувязі дасёння знаходзяцца дзве гарматы, адлітыя ў канцы XVI стагоддзя ў Нясвіжы. Адна з іх называецца «Цэрбер». Яе казённая частка змадэлявана як драўляная калода з абсечанымі сукамі, з цудоўна імітаванай карой (шурпатасць адчуваецца навобмацак). Кара на ствале пераходзіць у языкі полымя, скіраваныя ў бок непрыяцеля. Каб ставіць і здымаць ствол з лафета, на цэнтры цяжару гарматы зроблены прыліў у выглядзе трохгаловага ахоўніка «таго свету» — антычнага Цэрбера. Ствол другой

[1] Записки императрицы Екатерины Второй. М., 1989. С. 120–121.

[2] Анішчанка Я. К. Інкарпарацыя. Літоўская правінцыя ў падзелах Рэчы Паспалітай. Мінск, 2003. С. 178.

[3] *Castera J.* Histoire de Catherine II, impératrice de Russie. T. 2. Paris, 1799/1800. P. 223–224.

гарматы ўпрыгожваюць літыя вінаградныя гронкі і герб Радзівілаў.

Але вернемся ў XVIII стагоддзе. З першым падзелам, з пераходам стасункаў паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай у стан перманентнага крызіснага напружання змяняюцца беларускія погляды на Пецярбург, уражанні ад яго. У красавіку 1776 г. сталіцу з дыпламатычнай місіяй наведаў пісар вялікі літоўскі Ігнат Патоцкі, які даволі непрадузята адзначыў: «Горад Пецярбург можна параўнаць з чалавекам, які разбагацеў на працягу кароткага часу. Гэтае параўнанне стасуецца да палітычнай сілы маскоўскай імперыі, а гледзячы на падабенства шырэй, кожны знойдзе недахопы нуварышаў у характарах людзей, што кіруюць Расіяй». Меў ці не меў рацыю прадстаўнік старажытнага графскага роду, але яго паездка ў Пецярбург скончылася правалам. Кацярына ІІ цалкам ухваліла палітыку расійскага пасланніка і дарадцы пры варшаўскім двары Штакельберга на далейшае аслабленне Рэчы Паспалітай, не зважаючы на пратэсты апанентаў.

На Беларусі ад новых уладароў чакалі спакою — надакучылі закалоты неўтаймаванай шляхецкай Рэспублікі. Таму без супраціву ішлі пад магутную дзясніцу гаспадыні паўночнай імперыі. Тэма спакою — скразная ў панегірыках на далучэнне беларускіх земляў да Расіі:

В спокойстве Могилев воздвигнет новы стены,
И Шклов почувствует блаженство сей премены.
Двина, Днепр и Нева согласно днесь текут...[1]

Тое самае ў выглядзе звароту да імператрыцы ад імя горада Полацка:

К тебе, велика героиня,
Десницу Полотск град простер!
Благодарит сто крат, богиня,
За дар спокойствия теперь...[2]


42

БѢЛОРУССІЯ.

Сія новая страна, коей краткое описаніе здѣсь слѣдуетъ, присоединена паки къ Россіи подъ благополучнымъ и славнымъ царствованіемъ *ЕКАТЕРИНЫ II.*

Названіе *Бѣлоруссіи* или *Бѣлой Россіи* разные писатели различно производятъ; иные думаютъ, что

*Старонка з кнігі 1780 г., прысвечанай падарожжу імператрыцы Кацярыны ІІ на Беларусь*

Час ад часу венцаносная гаспадарыня падарожнічала па новапрыдбаных землях. 19 мая 1780 г. Кацярына ІІ наведала Магілёў. Праз сем гадоў, 18 студзеня 1787 г., яна на шляху ў Кіеў спынілася ў Мсціславе. Там яе віталі тры архіепіскапы — праваслаўны Георгій Каніскі, каталіцкі Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч і уніяцкі Іраклій Лісоўскі. Георгій склаў з такой нагоды прамову: «Пакінем астраномам даказваць, што Зямля кругом Сонца круціцца: наша Сонца круг нас ходзіць, і ходзіць для таго, каб мы ў дабрабыце знаходзіліся». Падрабязны разбор гэтага твора вядомы расійскі літаратар (а на дзяржаўнай службе — адмірал) Аляксандр Шышкоў зрабіў у зборніку «Сочинения и переводы, издаваемые Российскою академиею» за 1805 г. Пры тым разбор заняў у пяць разоў больш месца, чым сам тэкст. Да падарожжа імператрыцы ў друкарні пецярбургскай Акадэміі Навук была выдадзена кніга акадэміка І. Лепёхіна «Топографическія примечанiи на знатнейшія места путешествія Ея Императорскаго Величества въ Белорусскія наместничества». У ёй змешчаны невялічкія гістарычныя нарысы беларускіх мясцовасцяў і апісанне двух шляхоў з Пецярбурга на Беларусь: праз Нарву і Пскоў на Полацк і праз Ноўгарад на Смаленск і Магілёў.

Эпоха падзелаў хутка падыходзіла да фіналу. Імперыя пачула смак да ўпэўненых і амаль бяскроўных набыткаў. 27 красавіка 1792 г. у Пецярбургу — дзе ж яшчэ? — адкрылася заслона апошняй дзеі ў карціне агоніі Польшчы і Літвы: адбылося падпісанне акта канфедэрацыі каронных і літоўскіх магнатаў

[1] *Потемкин П. С.* Ее императорскому величеству [...] на приобретение Белой России 1772 года. [СПб., 1772]. С. 3.

[2] *Голеневский И. К.* Ода на день коронации ее величества государыни императрицы Екатерины Алексеевны [...]. СПб., 1774. С. 2.

супраць сейма і канстытуцыі Рэчы Паспалітай. Неўзабаве расійскія арміі перайшлі яе межы на поўдні (з Турцыі), на ўсходзе і поўначы. «Вайна, — як пісаў гісторык Сяргей Салаўёў, — заключалася ў тым, што польскія войскі бесперапынна адступалі перад рускімі». Караля Станіслава Аўгуста схіляў далучыцца да канфедэрацыі падканцлер літоўскі Іахім Храптовіч. Ён быў вядомы як добры гаспадар, які вызваліў сваіх прыгонных ад паншчыны і спрыяў развіццю прамысловасці, а таксама як збіральнік кніг, рукапісаў, карт, атласаў і эстампаў, што склалі выдатную бібліятэку ў родавым маёнтку Шчорсы на Наваградчыне. Маёнтак свой Храптовіч падзяліў паміж двума сынамі — Адамам і Ірынэем. Ірынэй абраў месцам пастаяннага жыхарства Пецярбург.

У тым жа 1792 г. Пецярбург наведаў Францішак Сапега, член кіраўніцтва канфедэрацыі, генерал артылерыі Вялікага княства Літоўскага. Ён прысягнуў Кацярыне II, атрымаў чын тайнага саветніка, быў абраны маршалкам шляхты Мінскай губерні. Яго сын Яўстафі ў маладосці служыў у расійскай кавалерыі, пазней падарожнічаў па Еўропе і натуралізаваўся ў Англіі. Пасля смерці бацькі ён атрымаў велізарныя маёнткі на Беларусі. Браў удзел у паўстанні 1830–1831 гг., служыў пры штабе галоўнакамандуючага Яна Скшынецкага. Пасля паражэння паўстання Яўстафі Сапега апынуўся ў эміграцыі ў Францыі. Радавіты магнат адхіліў прапанову імператара Мікалая I вярнуцца на радзіму з умовай прыняцця прысягі на расійскае падданства. Адным з вынікаў гэтага кроку стала абрабаванне дзяржавай маёнткаў Сапегі — музейныя зборы, бібліятэкі і архівы з сапегаўскіх палацаў у Кодэні, Дзярэчыне і Ружанах былі вывезены ў Пецярбург. Частка гэтых скарбаў цяпер знаходзіцца ў Эрмітажы, Расійскай нацыянальнай бібліятэцы і іншых сховішчах.

У сакавіку 1794 г. беларускі шляхціч з-пад Брэста Тадэвуш Касцюшка ўзняў паўстанне супраць Расіі і яе саюзнікаў-канфедэратаў. Яно пачалося ў Кракаве, збіраючы пад свае сцягі тых, хто не змірыўся з падзеламі Рэчы Паспалітай. Удзельнік вайны за незалежнасць Злучаных Штатаў Амерыкі, кіраўнік будаўніцтва цытадэлі Уэст-Пойнта, Касцюшка вярнуўся на радзіму ганаровым грамадзянінам Францыі і нацыянальным героем ЗША. Яшчэ напярэдадні паўстання ён заклікаў шляхту прывучаць беларускіх сялянаў («хлопаў рускіх») да польскай мовы. На гэтай мове павінны весціся судовыя паседжанні і адбывацца навучанне на ўсіх узроўнях. Генерал быў перакананы, што «з часам у «русінаў» увойдзе польскі дух, «за непрыяцеля будуць судзіць потым таго, хто б не ўмеў гаварыць на нацыянальнай [*ужо польскай — М. Н.*] мове».

У лістападзе 1794 г. Тадэвуш Касцюшка прайграе расійскаму генералу Івану Ферзену бітву пад Мацяёвіцамі і трапляе ў палон. Ганаровага грамадзяніна Францыі перавезлі на берагі Нявы і зняволілі ў Петрапаўлаўскай крэпасці. Пачаўся амаль двухгадовы пецярбургскі перыяд яго жыцця. У турме вязень займаўся разьбой па дрэве, спрабаваў працаваць на такарным станку. Генерал-пракурор Аляксандр Самойлаў, кіраўнік Тайнай экспедыцыі Сената, у якой дапытвалі Касцюшку, рэгулярна дакладаў Кацярыне II пра стан яго здароўя. У канцы сакавіка 1795 г. імператрыца дазволіла вязню «з прычыны слабага здароўя гуляць у садзе» паблізу дому каменданта, «з тым, каб пры ім тым часам знаходзіліся два афіцэры». Паколькі Касцюшка пакутаваў на хваробу ног, яго пачалі вывозіць на свежае паветра ў калясцы. Смерць імператрыцы (6 лістапада 1796 г.) выклікала істотныя змены. Ужо 27 лістапада сын і наступнік Кацярыны Павел I наведаў Касцюшку і абвясціў пра яго вызваленне. Пры сустрэчы прысутнічалі два царавы сыны — Канстанцін і будучы імператар Аляксандр. Нацыянальны герой трох дзяржаў быў пераведзены на жыхарства ў Мармуровы палац, які знаходзіцца на другім беразе Нявы, амаль дакладна насупраць крэпасці. Праз дзень, па просьбе Касцюшкі, Павел загадаў вызваліць з вязніцы арыштаваных Кацярынай паўстанцаў. Побач з мяцежным генералам заўсёды знаходзіўся яго нязменны сакратар, таксама брэсцкі шляхціч, Юльян Нямцэвіч. Ён паведаміў пра тое, што Павел I прапанаваў Касцюшку грошы, маёнтак з 1000 душ прыгонных і «уступіць у службу расійскую». Касцюшка грошы (60 тысяч рублёў срэбрам) узяў, ад маёнтка ж і расійскай службы адмовіўся. 18 снежня ён атрымаў развітальную аўдыенцыю ў Зімнім палацы, а наступным днём яны з Нямцэвічам пакінулі Пецярбург[1].

З Мармуровым палацам звязаны і апошнія дні апошняга караля Рэчы Паспалітай. Станіслаў Аўгуст выехаў у бок Пецярбурга з Вільні 20 лютага 1797 г., больш як праз год пасля адмовы ад кароны. Уезд (10 сакавіка)

[1] Гл.: *Юхо Я. А., Емельянчык У. П.* «Нарадзіўся я ліцьвінам...». Тадэвуш Касцюшка. Мінск, 1994. С. 52–55.

у сталіцу быў урачысты — у карэце з каралём ехаў віцэ-канцлер Аляксандр Куракін, а каля Мармуровага палаца былога каханка Кацярыны II сустракаў сам яе сын. Назаўтра імператар даваў у яго гонар абед. Потым яны наведалі Таўрычаскі палац і майстэрню французскай мастачкі Марыі Віжэ-Лебрэн (пазней яна пісала партрэт Станіслава Аўгуста). Цэлы год прайшоў у прыёмах, сустрэчах з мастакамі, артыстамі, дыпламатамі. А 12 лютага 1798 г. кароль памёр ад апаплексічнага ўдару. Расійскі двор абвясціў жалобу на чатыры тыдні. 5 сакавіка труну з целам караля перанеслі ў касцёл святой Кацярыны на Неўскім праспекце. Праз тры дні на жалобным набажэнстве ў касцёле прысутнічалі імператар і двор, усе замежныя паслы, усе чыноўнікі першых чатырох класаў. Перад уваходам у касцельны склеп, дзе стаяла труна, была пакладзена пліта з лацінскім пахвальным надпісам які, паводле падання, склаў сам імператар Павел.



*Мармуровы палац*

У касцёле на Неўскім праспекце Станіслаў Аўгуст спачыў на доўгі час, але не на вякі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі цела было перададзена Польшчы. Яго перазахавалі на Беларусі, у Воўчыне. Пазней, у 1939 г. пасля прыходу Чырвонай Арміі, магіла была разрабавана. Ці з'яўляліся косці, якія з помпай пахавалі на Замку ў Варшаве 14 лютага 1995 г., парэшткамі караля, ужо невядома[1], як невядома, дарэчы, ці прах Раманавых быў пахаваны ў часы Ельцына ў Петрапаўлаўскім саборы.

У 1800 г. з Вільні ў Пецярбург на загад Паўла I прыехаў жывапісец Францішак Смуглевіч, каб прыняць удзел у аздобе Міхайлаўскага замка — новага царскага палаца. Жыў і працаваў ён у Паўлаўску. Там мастак стварыў пяць плафонаў (малюнак на палатне, якое прымацоўваецца да столі) у «зале Лаакаона», у пакоях перад Троннай залай і ў суседніх з галерэяй Рафаэля), а таксама вялізны запрастольны абраз «Архангел Міхаіл, які скідае д'яблаў у прорву» — ён прызначаўся для замкавай царквы. Адзін з сучаснікаў пра апошнюю працу выказаўся так: «...На самым версе, у нішы, перспектыва заканчваецца вялікай карцінай (пісанай мастаком з жудасным імем Смуглевіч), якая паказвае архангела Міхаіла, патрона царквы, які павяргае д'яблаў у прорву. Сарамяжны мастак, які намаляваў гэтую групу in naturalibus, прымяніў дзіўны прыём дзеля таго, каб не парушыць прыстойнасці. Кожны д'ябал прыкрывае нібыта выпадкова, рукой ці нагой, тыя часткі цела свайго суседа, якія жывапісцу пажадана было схаваць, што, па сутнасці, атрымліваецца зусім непрыстойна...»[2]. Аднак імператар не змог прачытаць гэты водгук. Яшчэ да выхаду кнігі Кацэбу ён быў задушаны змоўшчыкамі ў сваім новым і любімым доме. Беларус Смуглевіч вярнуўся ў родную Вільню, пакінуўшы ў Пецярбургу не толькі аздобу Міхайлаўскага замка, але і алтарны абраз «Святы Станіслаў настаўляе караля Баляслава Смелага», які быў зроблены для мясцовага касцёла святога Станіслава (цяпер захоўваецца ў Эрмітажы).



*Інжынерны замак*

[1] *Мілінкевіч А.* Воўчынская гісторыя. Гродна, 2004. С. 6—76.

[2] *Коцебу А.* Краткое описание императорского Михайловского дворца 1801 года // Русский архив. 1870. № 4/5. С. 991.

Кацярынінская эпоха закончылася разам з XVIII стагоддзем. Адным з апошніх яе вяльможаў быў сенатар і паэт Гаўрыла Дзяржавін. Ён аказаўся звязаны лёсам з насельнікамі Усходняй Беларусі: імператрыца дала яму велізарныя латыфундыі на Магілёўшчыне і Віцебшчыне. У канцы стагоддзя (1799 і 1800 гг.) у падуладных Дзяржавіну маёнтках пачаўся голад. Гаспадар-сенатар паехаў агледзець нядаўна прылучаныя тэрыторыі і пакінуў пісьмовыя меркаванні пра ўпарадкаванне жыцця на навадалучаных землях, а таксама назіранні за іх насельнікамі: «Увогуле сяляне Беларусі хоць аднапляменныя рускаму народу, але прыкмячаецца ў іх здзіўляючая розніца і ў норавах, і ў ладзе жыцця»[1]. Меліся асаблівасці і ў паводзінах памешчыкаў. Прычым не толькі на навадалучаных землях, але і на тых, якія ўжо даўно ўвайшлі у склад расійскай дзяржавы — на Смаленшчыне. Ілюстрацыяй гэтага можа служыць афіцыйны ліст у Пецярбург з паведамленнем пра заканчэнне справы «Аб наездзе, што зрабіў беларускі памешчык Галынскі на дом прапаршчыка Азанчэева». У снежні 1797 г. тайны саветнік Мікалай Аксакаў дакладваў: «...азначаная справа ў Смаленскім павятовым судзе ўжо закончана, і сачыняецца да дакладу выпіска, і само рашэнне ў хуткім часе адбудзецца»[2]. Як тут не правесці паралелі з «Апошнім наездам на Літве» наваградчаніна Адама Міцкевіча. Аднак Вялікая Літва, ад Наваградка да Смаленска, існавала толькі як ідылічная краіна. Той жа Міцкевіч менш чым праз тры дзесяцігоддзі ва ўводзінах да «Конрада Валенрода» напіша:

Літва цяпер належыць адно мінуўшчыне... Яна з той катэгорыі рэчаў, пра якія Шылер сказаў «Was unsterblich im Gesang soll leben, Muss in Leben untergehen» — тое, што жыве ў песні, мусіць загінуць у жыцці.

Тым часам смаленчукі, як і іншыя выхадцы з Вялікага княства Літоўскага, будуюць сваю новую гісторыю, сваю новую сталіцу. Як выглядае горад над Нявой падчас царавання імператара Паўла? — ва ўспамінах беларуса-пецярбуржца Фадзея Булгарына, якія назва-


144

ШИРОТЫ И ДОЛГОТЫ МѢСТЪ МЕЖДУ САНКТПЕТЕРБУРГОМЪ И МОГИЛЕВЫМЪ.

| Имена мѣстъ | широта | | долгота | | разность отъ Петерб. час. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | град. | м. | град | м. | минушы | |
| НАРВА | 59. | 23$\frac{1}{2}$ | 45 | 55 | — | 8$\frac{1}{3}$ |
| ГДОВЪ | 58 | 46 | 46 | 0 | — | 8 |
| ПСКОВЪ | 57 | 45 | 46 | 20 | — | 6$\frac{2}{3}$ |
| ОСТРОВЪ | 57 | 8 | 46 | 37 | — | 5$\frac{1}{2}$ |
| ОПОЧКА | 56 | 39 | 46 | 47 | — | 5 |
| ПОЛОЦКЪ | 55 | 29 | 46 | 18 | — | 6$\frac{1}{4}$ |
| ШКЛОВЪ | 54 | 11 | 48 | 3 | ✠ | 0$\frac{1}{4}$ |

МО-

145

| Имена мѣстъ | широта | | долгота | | разность отъ Петерб. час. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| МОГИЛЕВЪ | 53 | 54 | 48 | 4$\frac{2}{3}$ | ✠ | с$\frac{2}{3}$ |
| ОРША | 54 | 29 | 47 | 56 | — | 0$\frac{1}{4}$ |
| СМОЛЕНСКЪ | 54 | 46 | 50 | 3 | ✠ | 8$\frac{1}{4}$ |
| ВЕЛ. ЛУКИ | 56 | 21 | 49 | 0 | ✠ | 4 |
| ПОРХОВЪ | 57 | 42 | 47 | 47 | — | 1 |
| СТАР. РУСА | 57 | 51 | 49 | 37 | ✠ | 6$\frac{1}{2}$ |
| НОВГОРОДЪ | 58 | 23 | 49 | 9$\frac{1}{2}$ | ✠ | 4$\frac{2}{3}$ |

Гдѣ стоитъ знакъ ✠, тамъ должно показаннымъ числомъ минутъ считать болѣе; а гдѣ —, тамъ менѣе, нежели въ Санктпетербургѣ.

*Геадэзічная інфармацыя ў кнізе 1780 г., прысвечанай падарожжу імператрыцы Кацярыны II на Беларусь*

[1] *Державин Г. Р.* Сочинения. Т. 7. СПб., 1872. С. 230–231.

[2] Аддзел рукапісаў Расійскай нацыянальнай бібліятэкі, фонд 1000, вопіс 1, № 14.




*«Топографические примечания...». Санкт-Пецярбург, 1780. Тытульны аркуш*

ны «Пецярбург за паўстагоддзя перад сім», паўстае такі краявід:

«З часу канчыны імператрыцы Кацярыны II Пецярбург зусім змяніўся і ў знешнім сваім выглядзе, і ва ўнутранай будове, і ў норавах, і ў звычаях. Толькі некаторыя помнікі дойлідства нагадваюць мінулае — усё іншае новае, альбо адноўленае. Уся веліч горада, за пяцьдзесят гадоў перад сім, сабраная на набярэжнай Нявы і ў яго цэнтры, у ваколіцах Зімняга палаца, але і ў гэтай часткі горада было досыць мала высокіх дамоў. Амаль усе мураваныя дамы былі альбо двухпавярховыя, альбо аднапавярховыя з падзямеллем, г. зн. жыллём, заглыбленым у зямлю... Часткі горада, што называюцца Маскоўскай, Раждзественскай, Каломнай, былі амаль выключна забудаваны драўлянымі дамамі, і большасць вуліц у іх не мела бруку. Казінае балота, у Каломне, было сапраўднае балота, непраходнае і смярдзючае, пакрытае зялёнай тванню. Такіх балотаў тады было шмат у месцах, якія зараз цудоўна забудаваныя, як напрыклад, па Лігаўцы, у Гразнай, на Новых Месцах і за Карэтным радам. Васільеўскі востраў толькі на набярэжнай Нявы і па Першай і Кадэцкай лініях выглядаў як сталічны горад, але далей забудаваны быў амаль выключна драўлянымі дамамі. Пяскі, Выбаргская і Пецярбургская староны, з лепшымі вуліцамі, выглядалі як кепскія павятовыя мястэчкі, а Ямская была сапраўднай вёскай. Нават праваслаўных цэркваў было няшмат мураваных, а выдатная толькі адна, менавіта Аляксандра-Неўская лаўра. Казанскі сабор быў драўляны, нізкі, з высокай драўлянай званіцай і пафарбаваны жоўтай фарбай. Ісакіеўскі сабор, дабудаваны ў царства імператара Паўла I, уяўляў нейкую цяжкую масу без усялякай архітэктуры. Адміралцейскі шпіц існаваў, але вежа не была абкружана калонамі і статуямі... Дварцовая плошча аточана была тады прыватнымі дамамі, паміж якіх вылучаўся дом Кушалева (на месцы цяперашняга Галоўнага штаба Яго імператарскай вялікасці)... Дом Кушалева для Пецярбурга быў тое ж, што Пале-Раяль для Парыжа, толькі ў мініяцюры. Тут былі і лаўкі, і тракціры, і маскарадныя залы, і тэатр... Дзе цяпер Орданансгауз і прамежак каля Пеўчаскага моста, тут былі дамы музыканта Булана і беларускага шляхціча Драўноўскага. Тратуараў зусім не было ў горадзе. Пра цяперашнюю чысціню не мелі нават паняцця. Многія вуліцы вясной і ўвосень былі зусім непраходныя, на іншых усё лета стаялі лужыны. У асобных частках горада (цяпер шыкоўных) на вуліцах пасвіліся каровы і хадзілі свінні. Уначы сабакі цэлымі зграямі блукалі каля рынкаў, і брэх іх і выццё далёка былі чуваць... Можна смела сказаць, што толькі вакол Зімняга палаца, на Неўскім праспекце да Анічкава моста, у двух Марскіх і двух Мільённых была Еўропа, далей паўсюль выглядала Азія і старая перадпятроўская Русь са сваім паўдзікунствам і паўварварствам»[1].

Як бачым, у XVIII стагоддзі выхадцы з Беларусі трапляюць у Пецярбург досыць часта і пры самых розных акалічнасцях. Аднак масавай прысутнасці іх усё ж няма — кожны з выпадкаў індывідуальны. Новая эпоха і другое стагоддзе існавання горада пачаліся з уладарання імператара Аляксандра I, і менавіта тады стварыліся ўмовы і абставіны, якія дазваляюць гаварыць пра «беларускі Пецярбург».

[1] *Булгарын Ф.В.* Выбранае. Мінск, 2003. С. 119—122.

# Раздзел 2.

## ПЕРШАЕ АБЛІЧЧА ПЕЦЯРБУРГА — ВАЙСКОВАЯ СТАЛІЦА

*За Питирам да за горадомъ*
*Жыла-была адна вдовачка.*
*Были у яе тры сыны на роду,*
*Прыказали имъ у салдатки ити...*
(Народная песня.
Запісана вучнем Маладзечанскай семінарыі
Антонам Лакоткам у Дзісненскім павеце
Віленскай губ. у 1866 г.)[1]

З канца XVIII ст. Расія ў ваенных адносінах была сярод наймагутнейшых дзяржаў свету. Галоўным военачальнікам лічыўся імператар, усе іншыя мужчыны імператарскай фаміліі па традыцыі ад нараджэння прызначаліся для вайсковай службы, самай ганаровай і пажаданай. Дзякуючы вялізнаму і добра ўзброенаму войску, вопытнаму кіраўніцтву, значнаму эканамічнаму патэнцыялу імперыя пастаянна пашырала свае межы. З 1795 г. у іх цалкам апынулася Вялікае Княства Літоўскае. Шляхта ад Драгічына і Брэст-Літоўска да Мсціслава, ад Дынабурга і Невеля да Мазыра і Гомеля, ад Тыкоціна і Супрасля да Рэчыцы і Чарнобыля мусіла ехаць па вырашэнне ўсіх важных пытанняў да царскага двара і сталічных чыноўнікаў, як ужо шмат дзесяцігоддзяў гэта рабіла смаленская шляхта. Толькі тут можна было спадзявацца на замацаванне за сабой спрэчнай маёмасці, атрымаць пасаду, дазвол выехаць за мяжу. У канцы наступнага стагоддзя херсонскі архіепіскап Ніканор (у свеце Аляксандр Бравковіч, сын святара Магілёўскай епархіі) даволі выразна і трапна запісаў уражанні ад Пецярбурга: «Многамяцежны горад. Так жыва нагадаў ён мне ранейшыя мае душэўныя пакуты сваёй мітуснёй, сваімі рэзкімі прыгаворамі аб смяротных людзях, сваімі рашэннямі датычна іх лёсу...»[2].

**Францішак Ксаверый Браніцкі** з Беласточчыны, які жыў пад уладаю Кацярыны II, а потым Паўла I і Аляксандра I, казаў, што для палякаў ён не іншаземец, паколькі нарадзіўся ў Польшчы, але і не паляк, бо Польшчы ўжо няма. Расійскага цара Браніцкі прызнаваў — атаясамляючы дзяржаву з народам — за гаспадара сваёй айчыны. Шмат хто на той час так лічыў. У новай рэчаіснасці шляхта Вялікага Княства Літоўскага пайшла на службу дому Раманавых. Пры Мікалаі I была нават спроба праз адміністратыўныя абмежаванні рэгуляваць колькасць шляхты, што накіроўвалася ў сталіцу. З 1831 г. дзейнічала забарона прызначаць ураджэнцаў Мінскай, Віленскай, Гродзенскай губерняў і Беластоцкай вобласці на службу ў Пецярбург без асабістага дазволу цара. Праўда, у 1833 г. выйшла распараджэнне «губерні Віцебскую і Магілёўскую не прымаць да ліку губерняў, што вернутыя ад Польшчы». Толькі пры цараванні Аляксандра II колькасць абмежаванняў зменшылася[3].



*Ваенная паштоўка канца XIX ст.*

На працягу XIX стагоддзя на тэрыторыі Беларусі меліся (у розныя часы) тры вайсковавучальныя ўстановы — Полацкі і Брэсцкі кадэцкія карпусы і Віленскае юнкерскае вучылішча. Навучэнцаў набіралі з дзяцей мясцовай шляхты. Выпускнікі імкнуліся працягнуць адукацыю ў сталіцы. Найбольш здольныя заставаліся ў Пецярбургу выкладчыкамі сухапутных і марскіх вучылішчаў і акадэмій, служылі ва ўстановах ваеннага ведамства. Армія была шматнацыянальнай як па складзе радавых, так і афіцэраў. Выхадзец з Беларусі

[1] Сборник памятников народного творчества в Северо-Западном крае. Вып. I. Вильна, 1866. С. 8.
[2] *Никанор (Бровкович А. И.).* Биографические матерьялы. Т. 1. Одесса, 1900. С. 300.
[3] Гл.: *Горизонтов Л. Е.* Парадоксы имперской политики. Поляки в России и русские в Польше. М., 1999.

мог зрабіць кар'еру афіцэра, нават калі не належаў да хрысціянскіх канфесій, як гэта стала ў выпадку з татарынам-мусульманінам **Канстанцінам Найманам Мірзой-Крычынскім**, які даслужыўся да генерал-лейтэнанцкага чыну. Яго сыны Лявон і Альгерд займаліся грамадскай дзейнасцю. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі яны былі ў ліку арганізатараў «Саюза татар Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны» і вайсковых мусульманскіх адзінак[1].

Справы ў сталіцы вырашаліся не адразу, таму прыязджаць сюды трэба было на нейкі час. Багатыя спыняліся ў гасцініцы Дэмута на Неўскім праспекце ці ў Англійскім гатэлі, менш заможныя наймалі таннейшае жытло далей ад цэнтра, студэнты здымалі пакойчыкі і для ўзаемадапамогі збіраліся ў зямляцтвы. Найзаможнейшыя рабіліся домаўладальнікамі, як, прыкладам, выхадцы з Магілёўшчыны і Віцебшчыны паны Гуркі-Рамейкі (патомныя вайскоўцы), якія купілі асабняк на Уваскрасенскай набярэжнай (левы бераг Нявы, вышэй Ліцейнага моста).

За тымі, хто прыязджаў, альбо толькі збіраўся прыехаць, улады сачылі. Вось агентурная запіска журналіста Фадзея Булгарына пра аднаго з беларускіх паноў:

«Вішчынскі ў маладосці быў вельмі багаты. Паколькі ў былой Рэчы Паспалітай усе пасады і ордэны прадаваліся яўна за грошы альбо даваліся па пратэкцыі, то ён выклапатаў для сябе пасаду ротмістра кавалерыі, што адпавядае генерал-маёрскай, купіў св. Станіслава, а ордэн Белага арла дастаў у апошнія часы праўлення Станіслава Аўгуста, калі нават прыдворныя раздавалі патэнты. Вішчынскі ніколі не быў на сапраўднай службе.

Чалавек ён добры, але без адукаванасці, слабага характару, пажадлівы, хлебасольны ў высокай ступені і па няшчасці быў неашчадны. Адна становучая якасць у ім — гасціннасць, адно становучае памкненне — любоў да музыкі. Неашчаднасць яго, прага да праектаў, недахоп цвёрдасці пры выкананні планаў па гаспадарцы і гандлю давялі яго да банкруцтва. У маёнтку сваім Касарычы (Мінскай губерні Бабруйскага павета) ён жыў некалі, як прынц: меў сваю музыку, цудоўнае паляванне з сабакамі і частаваў усіх без разбору...

Вішчынскі, акрамя свайго ўласнага маёнтка, пражыў вялізны маёнтак другой жонкі сваёй, народжанай Юдыцкай, якая мела неасцярожнасць падпісваць яго векселі. Ён не жыве з жонкай, і тры дачкі яго ад другога шлюбу застаюцца пры маці, якая знаходзіцца ў даволі крытычных абставінах на Беларусі... Нават самыя блізкія сваякі адмовіліся ад яго, па немагчымасці задаволіць яго патрабаванні. Што рабіць з ім — нельга вырашыць. Да працы ён нlanguageздольны і ніколі не займаўся грамадскімі справамі. Паўсюль адвергнуты, ён адважыўся на самы адчайны сродак: вандраваць. Не атрымаўшы ў Рызе чаканай дапамогі, прыбыў у Пецярбург, а што ён будзе тут рабіць і чым жыць, усё гэта загадка».




*Ваенная паштоўка канца XIX ст.*

Запіску далажылі Мікалаю I. Ён напісаў на ёй алоўкам: «Pauvre diable» (небарака)[2].

Разам з ваеннай імперыяй расла і яе сталіца. За паўстагоддзя (1800—1853) насельніцтва Пецярбурга павялічылася на 300 тысяч чалавек, і не ў выніку натуральнага прыросту, а за кошт прыезджых. Аж да сярэдзіны XIX ст. у горадзе памірала людзей больш, чым нараджалася. Мужчын было ў два разы болей, чым жанчын: у будаўніцтве, на заводах і фабрыках, у рамёствах пераважала мужчынская праца. Акрамя таго, у сталіцы пастаянна знаходзіліся 30—40 тысяч салдат (каля 10% жыхароў). Сядзібы палкоў і батальёнаў стваралі цэлыя раёны горада. Многія назвы, якія нагадваюць пра тое, — Коннагвардзейскі бульвар, Ізмайлаўскі і Новачаркаскі праспекты, Літоўская і Кавалергардская вуліцы, Сапёрны завулак, Сямёнаўскі, Грэнадзёрскі і Казачы масты — захаваліся да нашага часу.

У сярэдзіне 1830-х гг. на 500 вуліцах (на Васільеўскім востраве іх называлі лініямі), праспектах, завулках і плошчах было 2605 мураваных і 5215 драўляных дамоў. Імператары дбалі пра знешні выгляд сваёй рэзідэнцыі. Для падтрымання належнага парадку домаўладальнікі

[1] *Теляшов Р. Х.* Татарская община Санкт-Петербурга: К 300-летию города. СПб., 2003. С. 90.
[2] Видок Фиглярин. Письма и агентурные записки Ф. В. Булгарина в III Отделение. М., 1998. С. 211.

абавязаны былі трымаць чыстымі тратуары на сваім участку і вывозіць смецце. Яны наймалі аднаго альбо некалькі дворнікаў, якія ноччу па чарзе дзяжурылі каля дамоў. Многія дворнікі былі платнымі агентамі паліцыі і паведамлялі «куды трэба» пра з'яўленне сярод гармідару людзей падазроных асобаў.

Ваду гараджане бралі з рэк, каналаў, студняў (апошніх у 1839 г. было 1321) і спецыяльна ўладкаваных «вадакачак». Платныя вадавозы набіралі ваду чарпакамі альбо са шлангаў «вадапомпаў» у бочкі і развозілі па горадзе. Бочкі з неўскай вадой фарбавалі ў белы колер, а з вадой з Мойкі альбо Фантанкі — у жоўты ці зялёны. Прывоз вады каштаваў сем рублёў срэбрам у год.

У 1833 г. пачала працаваць гарадская пошта — у розных раёнах адчынілі 48 (неўзабаве іх стала 108) пунктаў прыёму лістоў, якія потым забіралі паштальёны. Праз год такія пункты адкрыліся і ў прыгарадах. Пошту дастаўлялі адрасатам тры разы на дзень — у восем гадзін раніцы, а першай пасля паўдня і ў шэсць вечара. Са студзеня 1848 г. увайшлі ва ўжытак паштовыя скрынкі, а праз дзесяць гадоў — паштовыя маркі. З 1897 г. пошта перадавала і грашовыя пераводы.

Уначы горад асвятлялі ліхтары, хоць канапляны алей і не даваў вялікага святла. Асвятленне было ў кампетэнцыі паліцыі. У 1770 г. выйшаў загад аб стварэнні спецыяльнай каманды ліхтаршчыкаў са 100 чалавек — на кожныя 25 ліхтароў па два. Колькасць ліхтароў пастаянна павялічвалася — у пачатку XIX стагоддзя іх было ўжо больш як 4000. У 1821 г. з'явіліся першыя керасінавыя ліхтары. У 1839 г. іх было 204, але пераважалі па-ранейшаму алейныя. Запальвалі святло па сігнале — чырвоны агонь на пажарных каланчах горада. Ліхтаршчыкі ў фартухах, з лесвіцай на плячы і вядром алею ў руцэ разыходзіліся па сталіцы. Ліхтары свяцілі ўначы з 1 жніўня да 1 мая.

Як асяродак эканамічнага і гандлёвага жыцця, сталіца вабіла купцоў, рамеснікаў, прадпрымальнікаў, значную колькасць рабочых і сялян, што прыходзілі на заробкі. Як цэнтр культурнага жыцця, яна збірала прадстаўнікоў інтэлігенцыі: вучоных, літаратараў, мастакоў, артыстаў, дактароў, настаўнікаў, а таксама студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў. Юрыдычна гараджанамі (месцічамі) былі толькі вольныя людзі, якія мелі дастатковыя сродкі. Яны складалі саслоўе мяшчан (за 1801–1857 гг. іх колькасць павялічылася ў чатыры разы), рамеснікаў, разначынцаў, дваровых людзей, купцоў. Каля 40% насельніцтва (галоўным чынам сяляне) знаходзілася ў горадзе толькі да заканчэння тэрміну пашпарта, а потым вярталася ў вёску для атрымання новага. «Сельскія абывацелі» (так называліся сяляне ў дакументах) не мелі права купляць у Пецярбургу нерухомасць.

Галоўным кіраўніком горада быў генерал-губернатар, якому падпарадкоўваліся грамадзянскі губернатар, паліцыя і вайсковы гар-



*Будынак Галоўнага штаба. XIX ст.*

нізон. Двойчы за стагоддзе гэтую пасаду займалі беларусы — у 1846—1847 гг. генерал ад інфантэрыі **Мацей Храпавіцкі** (з сяла Добрае Красненскага павета) і ў 1879—1880 гг. генерал ад кавалерыі **Іосіф Гурка** (пра яго гаворка пойдзе ніжэй). Загады ўрада і распараджэнні губернскіх уладаў здзяйсняліся пры дапамозе паліцыі. Сярод яе функцый — кантроль за парадкам і выкананнем павіннасцяў жыхарамі сталіцы, забрукоўка і асвятленне вуліц, пажарная справа, астрогі, санітарны кантроль і медыцынская частка. Узначальваў паліцыю оберпаліцмайстар, а пасля 1866 г. — пецярбургскі граданачальнік. Ён падпарадкоўваўся міністру ўнутраных спраў.

Яшчэ пры Кацярыне II сталіцу адміністратыўна падзялілі на два аддзяленні, мяжа паміж якімі прайшла па Няве. Пазней з'явілася трэцяе аддзяленне, у якое ўвайшла тэрыторыя горада на поўдзень ад Фантанкі. Акрамя аддзяленняў, горад дзяліўся на «часткі». Да канца XVIII стагоддзя іх было адзінаццаць: 1-я, 2-я, 3-я і 4-я Адміралцейскія, Маскоўская, Раждзественская, Ліцейная, Карэтная, Васільеўская, Пецярбургская, Выбаргская. У 1811 г. з Маскоўскай часткі была вылучана асобная Нарвская, а ў 1828 г. утворана Охцінская частка. За кожную частку адказваў «частны прыстаў». Частка аб'ядноўвала некалькі кварталаў. У кожным мелася свая паліцыя: квартальны назіральнік, пры ім — адзін ці два памочнікі, гарадавы унтэр-афіцэр і віцэ-унтэр-афіцэр. У кожнай частцы быў з'езджы дом, дзе жыў «частны прыстаў», знаходзіліся арыштанцкія камеры, канцылярыя і шпіталь, а таксама месціліся пажарная каманда і каманда ліхтаршчыкаў.

З 1870 г. усе пытанні па кіраванні і арганізацыі гаспадаркі вырашала гарадская дума. Адбылася і рэарганізацыя паліцыі — кварталы замянілі на ўчасткі, якія падзялілі на акалоткі. Перафарміравалі і пераназвалі гарадскія (паліцэйскія) часткі, якіх стала дванаццаць: Адміралцейская, Казанская, Спаская, Каломенская, Аляксандра-Неўская, Выбаргская, Маскоўская, Нарвская, Раждзественская, Ліцейная, Васільеўская, Пецярбургская. У такім стане горад дажыў да рэвалюцыі 1917 г.

Сталіца кіравала незлічонымі войскамі імперыі. У Зімнім палацы кватараваў сам «дзяржаўны галоўнакамандуючы», у «доме Лабанава-Растоўскага» на Адміралцейскім праспекце — Ваеннае міністэрства, насупраць яго, у будынку Адміралцейства — Марское.

У 1819—1829 гг. па праекце архітэктара Карла Россі на Дварцовай плошчы быў пабудаваны манументальны ансамбль Галоўнага штаба, дзе размясціліся штаб і іншыя вайсковыя ўстановы, а таксама міністэрствы фінансаў і замежных спраў. Тут жа знаходзіўся — вокнамі на плошчу — кабінет ваеннага міністра. Гаспадаром гэтага кабінета ў 1856—1861 гг. быў **Мікалай Ануфрыевіч Сухазанет** (1794—1871). Будучы міністр нарадзіўся ў маёнтку Вясея пад Слуцкам, малодшым артылерыйскім афіцэрам прайшоў усю вайну 1812—1814 гг., ад Клясціц да Парыжа. Падчас вайны з польскімі паўстанцамі ў 1831 г., ужо генералам, быў начальнікам штаба артылерыі арміі, пад Астралэнкай асабіста камандаваў батарэямі. Сярод узнагарод генерала Сухазанета: ордэн Уладзіміра IV ступені з бантам (за ўзяцце Полацка), прускі ордэн «За заслугі» (за Кульм), срэбны медаль за абарону Севастопаля... Пасля Крымскай вайны, ужо ў цараванне Аляксандра II, Мікалай Сухазанет узначаліў ваеннае ведамства. За пяць з палавінай гадоў яго знаходжання на гэтай пасадзе быў скарочаны тэрмін службы ў войску, ліквідаваны вайсковыя пасяленні і саслоўе кантаністаў, павялічаны грашовыя аклады афіцэрам.



*Міністр абароны Мікалай Сухазанет*

У тыя ж 1820-я гг. насупраць Галоўнага штаба, у імператарскім Зімнім палацы, Карл Россі падбудаваў галерэю герояў «дванаццатага года». Англійскі мастак Джон Доў выканаў 332 партрэты, з якіх восем прадстаўляюць беларусаў. Гэта генерал-маёры **Іосіф Сакалоўскі**, браты **Павел і Андрэй Турчанінавы** (з Магілёўскай губерні), **Іван Сухазанет** (брат міністра) і **Дзмітрый**

**Мардвінаў** з віцебскай шляхты, які страціў нагу пры ўзяцці Полацка 6 кастрычніка 1812 г., генерал-лейтэнанты **Ягор Мелер-Закамельскі** (са шляхты Веліжскага павета) і **Дзмітрый Пышніцкі** (са смаленскай шляхты). Да герояў вайны належаў і ўладар Уселюба, што на Навагрудчыне, генерал ад кавалерыі граф **Іосіф О'рурк**.



*Дж. Доў. Партрэт першага начальніка Ваеннай акадэміі, ураджэнца Слуцкага павета Івана Сухазанета*

У арміі служылі не толькі вайскоўцы, але і святары. Да самай вышэйшай пасады — галоўнага свяшчэнніка арміі і флоту — даслужыў беларус, сын протаіерэя з сяла Гладкова Магілёўскай губерні **Васіль Іванавіч Кутневіч** (1787—1866). Навучаўся ён у Магілёўскай семінарыі і Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі (СПБ ДА), якую скончыў у 1814 г. магістрам, і адразу быў пасланы ў Маскоўскую духоўную акадэмію выкладаць фізіка-матэматычныя навукі і нямецкую мову. У 1825 г. Васіль Кутневіч абраны благачынным крамлёўскіх цэркваў, праз год — членам духоўнай кансісторыі і правадзейным членам Маскоўскай духоўнай акадэміі. Са снежня 1832 г. протаіерэй Кутневіч пераведзены ў Пецярбург і прызначаны обер-святаром арміі і флоту. З 1848 г. выконваў абавязкі обер-святара Галоўнага штаба. У 1849 г. зацверджаны членам Сінода. У 1858 г. яго пасада была перайменавана — айцец Васіль стаў галоўным святаром арміі і флоту. Ён атрымаў усе ўзнагароды да ордэна св. Аляксандра Неўскага ўключна. Сучаснікі зазначалі, што Кутневіч меў цвёрды і ясны



*Павел Турчанінаў*



*Андрэй Турчанінаў*



*Ягор Мелер-Закамельскі*



*Іосіф Сакалоўскі*



*Дзмітрый Мардвінаў*

розум, дабрачынныя перакананні. Аднак сямейныя справы яго замужняй дачкі, якія атрымалі залішнюю агалоску, паставілі святара на даволі працяглы час у няёмкі стан у Сінодзе. Тым не менш, ён вярнуў сабе заслужаную павагу. У 1840 г. айцец Васіль Кутневіч займаўся перакладам праваслаўнага катэхізіса на нямецкую мову, а ў 1843 г. склаў «Настаўленне свяшчэннаслужыцелям вайсковых устаноў датычна навароту выхаванцаў іудзейскага веравызнання ў хрысціянскую веру». Памёр 2 красавіка 1866 г.

Большасць афіцэраў-пецярбуржцаў беларускага паходжання з'яўляліся выпускнікамі і выкладчыкамі сталічных навучальных устаноў. Нядзіўна — Пецярбург быў галоўным цэнтрам вайсковай адукацыі. У другой палове XIX ст. тут дзейнічалі Пажаскі корпус, пяхотныя Паўлаўскае, Канстанцінаўскае, Аляксандраўскае і кавалерыйскае Мікалаеўскае вучылішчы, тры кадэцкія карпусы, юнкерскае вучылішча і ваенна-фельчарская школа, а галоўнае — шэсць ваенных акадэмій.




*Будынак Акадэміі Генеральнага штаба*

Першая з іх (па значнасці) для падрыхтоўкі афіцэраў Генеральнага штаба адчынілася на Англійскай набярэжнай, у доме былой Замежнай калегіі, і першапачаткова мела назву **Імператарская Ваенная акадэмія**. 11 студзеня 1832 г. быў прызначаны яе першы дырэктар. Ім стаў згаданы вышэй **Іван Сухазанет** (1785–1861), ужо ў чыне генерала ад кавалерыі і званні генерал-ад'ютанта. Нарадзіўся ён, як і брат Мікалай, у Вясеі пад Слуцкам. Прайшоў войны з Напалеонам, асабліва вызначыўся ў бітве пад Лейпцыгам (кастрычнік 1813 г.), калі паспеў разгарнуць 100 гармат супраць вырашальнага наступу французскай кавалерыі. У 1828–1829 гг. ваяваў у Турцыі; у польскую кампанію 1831 г. страціў правую нагу (адарвала ядром). Далейшая служба Івана Сухазанета прайшла ў Пецярбургу на пасадах галоўнакамандуючага Артылерыйскім вучылішчам, галоўнага дырэктара Пажаскага, усіх сухапутных кадэцкіх карпусоў і Дваранскага палка. Урэшце, дырэктара і члена вучонага савета акадэміі.

У 1855 г. акадэмія была ператворана ў **Мікалаеўскую акадэмію Генеральнага штаба**, а ў 1904 г. яе перанеслі ў спецыяльны будынак на Сувораўскім праспекце, дом 32-34. Курс навукі працягваўся два з паловай гады. Слухачы (штогод 25 чалавек, якія праслужылі ў войску не менш чым тры гады) атрымлівалі павышаныя грашовыя аклады. Закончыць Акадэмію Генштаба, каб зрабіць кар'еру, вырвацца з руціны армейскага жыцця, імкнуліся многія афіцэры. У апавяданні А. Купрына «Куст бэзу» жонка аднаго з герояў садзіць куст на тым месцы, дзе на карце тапаграфічнай здымкі яе муж, які ўжо трэці раз здаваў уступны экзамен, паставіў кляксу, і такім чынам ратуе яго ад ганьбы...

Выкладчыкам у акадэміі доўгі час працаваў **Станіслаў Рахнеўскі** (1833–1885). Ён паходзіў з мінскай шляхты, скончыў у Мінску гімназію і ў 1854 г. Ваенна-інжынерную акадэмію ў Пецярбургу. Удасканальваў веды на аддзяленні геадэзіі Мікалаеўскай акадэміі, а ў лютым 1858 г. быў прызначаны выконваць абавязкі яе прафесара. У час навуковай камандзіроўкі ў Англію ў 1861 г. завязаў кантакты з рэвалюцыйнай эміграцыяй. З 1872 г. Рахнеўскі — генерал-маёр і член Ваенна-навуковага камітэта пры Генеральным штабе. Напісаў кнігу «Тэлеграфы і іх выкарыстанне ў вайсковай справе», уваходзіў у склад камісіі па рэформе воінскай павіннасці, за актыўны ўдзел у яе працы атрымаў падзяку ад Аляксандра II. Адным з вучняў Рахнеўскага быў яго зямляк, ураджэнец Ігуменскага павета **Эдуард Каверскі** (1837–1916). Акадэмію ён скончыў у 1866 г., служыў у Генеральным штабе. Пад кіраўніцтвам Каверскага складзены цэлы шэраг дакладных тапаграфічных карт прыбалтыйскіх і сярэднеазіяцкіх губерняў. З Беларуссю Эдуард Аўрэльянавіч ніколі не губляў сувязі: быў папячыцелем Аляксандраўскага касцёла ў Івянцы, дзе жылі яго родныя. Ён і пахаваны ў гэтым касцёле.

Гісторыю навейшага часу выкладаў у акадэміі Генеральнага штаба беларус у другім пакаленні **Іван Іванавіч Грыгаровіч** (1833–1904), сын протаіерэя Іаана Грыгаровіча, складальніка «Беларускага архіву старажытных грамат». Лекцыі прафесара Грыгаровіча прызначаліся для старэйшага класа і ахаплівалі сусветную гісторыю за 1815–1856 гг. (у 1885 былі надрукаваны асобнай кніжкай).

У 1862 годзе скончыў акадэмію **Ян Баркоўскі** (1831 — пасля 1890), выпускнік Брэст-Літоўскага кадэцкага корпуса, які пазней у чыне генерал-маёра доўгі час працаваў кіраўніком Статыстычнага камітэта Міністэрства шляхоў зносін. За вызначэнне водных шляхоў дастаўкі з Паволжжа на Поўнач вялікіх масіваў зерня пецярбургскае Вольнае Эканамічнае Таварыства ўзнагародзіла Яна Баркоўскага сваім малым залатым медалём.

Выпускнікамі Мікалаеўскай акадэміі былі члены шляхетнай сям'і Гуркаў (Гуркаў-Рамейкаў). **Іосіф Гурка** (1828–1901), сын вядомага вайскоўца, генерала ад інфантэрыі Уладзіміра Гуркі, у 1846 г. скончыў пецярбургскі Пажаскі корпус, служыў у лейб-гвардыі Гусарскім палку, потым у арміі. Генерал-лейтэнантам камандаваў перадавым атрадам, які ў ліпені 1877 г. перайшоў Балканы, заняў і ўтрымліваў Шыпкінскі перавал. Праз некалькі месяцаў на чале кавалерыі Заходняга атрада ізноў перайшоў Балканы, якія лічыліся недаступнымі зімой, заняў Сафію, разбіў туркаў пад Ташкісенам і Філіпопалем. У 1879–1880 гг. быў памочнікам галоўнакамандуючага войскамі гвардыі і Пецярбургскай вайсковай акругі, часовым генерал-губернатарам Пецярбурга — трэцім, пасля Яна Сапегі і Мацея Храпавіцкага, беларусам на гэтай пасадзе. З 1884 г. — член Дзяржаўнага савета Расійскай імперыі. Пры выхадзе ў адстаўку ў 1894 г. атрымаў вышэйшы воінскі чын генерал-фельдмаршала.

У 1892 г. скончыў акадэмію **Васіль Гурка** (1864–1937), сын Іосіфа Уладзіміравіча. З 1885 г. ён служыў у лейб-гвардыі Гродзенскім гусарскім палку, пасля 1892 г. — на штабных пасадах. Падчас англа-бурскай вайны 1899–1902 гг. быў ваенным агентам пры арміі бураў. Удзельнічаў у руска-японскай вайне 1904–1905 гг., а пазней узначаліў камісію па яе апісанні. Першую сусветную вайну вопытны афіцэр правёў на кіруючых пасадах Паўночнага, Паўднёва-Заходняга і Заходняга франтоў. З 1916 г. ён — генерал ад кавалерыі. Да лютага 1917 г. выконваў абавязкі начальніка штаба Вярхоўнага галоўнакамандуючага. За манархічныя настроі зняты Часовым урадам, да верасня 1917 г. знаходзіўся пад арыштам, потым быў высланы за мяжу. Пакінуў мемуары «Расія 1914–17 гг. Успаміны пра вайну і рэвалюцыю», апублікаваныя ў Берліне ў 1921 г., дзе, між іншым, расказаў аб сваім удзеле ў спробах вырашыць у 1915–1917 гг. так званае «польскае пытанне» [1]. Яго малодшы брат Дзмітрый Гурка (1872–1945 гг.), выпускнік 1900 г., у германскую вайну камандаваў палком і дывізіяй, у грамадзянскую — ваяваў супраць бальшавікоў у арміі генерала Мікалая Юдзеніча; з 1920 г. жыў у Францыі.



*Генерал ад кавалерыі Васіль Гурка*

У 1888 г. выйшаў з акадэміі ўраджэнец Гродзенскай губерні **Юльян Лук'янавіч Ялец** (1862–1932), аўтар «Гісторыі лейб-гвардыі Гродзенскага гусарскага палка», ваенны журналіст і вядомы ў свой час пісьменнік. Пасля адстаўкі ў 1908 г. ён пасяліўся ў Пецярбургу (Ланская шаша, дом 7 — «віла Нірвана»). Пазней таксама апынуўся ў эміграцыі, дзе працягваў займацца літаратурай. На два гады пазней «выпусціўся» з акадэміі **Мадэст Чыгір** (1863 — пасля 1918), які паходзіў з шляхты Магілёўскай губерні. З 1908 і да Першай сусветнай вайны ён быў начальнікам Полацкага кадэцкага корпуса, у 1915 годзе кіраваў яго эвакуацыяй.

Выпускнік 1896 г., выхадзец са шляхты Магілёўскай губерні, генерал-лейтэнант **Уладзімір Зянонавіч Май-Маеўскі** (1867–1920) увайшоў у гісторыю як камандуючы белай Добраахвотніцкай арміі падчас яе беспаспяховага паходу на Маскву ў маі — лістападзе 1919 г. Запіскі яго ад'ютанта Паўла Макарава, які працаваў на разведку чырвоных, леглі ў аснову сцэнарыя кінабестсэлера савецкіх часоў — серыяла «Ад'ютант яго правасхадзіцельства» (1970 г.).

Старэйшая ваенная акадэмія ў Расіі — **Ваенна-медыцынская** (ВМА). Яна заснавана ў 1798 г. Тады ж атрымала спецыяльна ўзведзены будынак на Выбаргскай старане (гэта правы бераг, ля таго месца, дзе з Нявы выцякае Вялікая Неўка). Да 1881 г. насіла назву Медыка-хірургічнай. Паколькі

[1] Гурко В. Война и революция в России. Мемуары командующего Западным фронтом. 1914–1917. М., 2007. – 399 с.

ў Пецярбургскім універсітэце, у адрозненне ад іншых старых універсітэтаў, медыцынскага факультэта не было, Медыка-хірургічная акадэмія доўгі час заставалася адзінай вышэйшай медыцынскай навучальнай установай горада. Тут рыхтавалі ўрачоў, ветэрынараў і фармацэўтаў. Вучыліся як за ўласны кошт, так і за дзяржаўны. У апошнім выпадку навучэнец павінен быў адпрацаваць па размеркаванні палкавым лекарам у адной з вайсковых часцей тры гады.

Выхадцы з Беларусі вучыліся і служылі ў акадэміі ад часу яе заснавання. Лёс іх быў шмат чым падобны: пяць гадоў навучання, потым служба ў палках, часта ў тагачасных «гарачых кропках» — на Каўказе і іншых тэатрах ваенных дзеянняў (у XIX ст. гэта — Балканы, Крым, Сярэдняя Азія, у пачатку наступнага — Далёкі Усход). Пасля было вяртанне ў Пецярбург, у акадэмію, для абароны дысертацыі, — і ізноў служба ў розных кутках неабсяжнай дзяржавы. Мала хто заставаўся ў сталіцы. Далёка не ўсе, закончыўшы службу, вярталіся на радзіму. Немагчыма пералічыць ўсіх навучэнцаў, сярод якіх шмат заслужаных людзей. Прыкладам, **Іван Міхайлавіч Амбразевіч**, які ўзначальваў шпіталь у Стрэльні, потым быў галоўным лекарам ваенных шпіталяў у Фінляндыі, у Рызе і даслужыўся да сапраўднага стацкага саветніка. **Іосіф Іосіфавіч Вілямоўскі**, які паходзіў з маёнтка Трэбухі Магілёўскага павета, пасля заканчэння ВМА атрымаў ступень доктара медыцыны, служыў дывізіённым урачом. Друкаваў артыкулы па гігіене, страўнікава-кішэчных і інфекцыйных захворваннях у «Военна-медыцынскім часопісе» і «Медыцынскім весніку». Не змог стаць лекарам слухач акадэміі **Казімір Гаўрылавіч Чарноўскі** (1791–1847), які паходзіў з вёскі Карытніца каля Бялынічаў. За антыўрадавую дзейнасць ён 7 мая 1829 г. быў пасаджаны («вязень № 29») у камеру-адзіночку Кронверкскай курціны Петрапаўлаўскай крэпасці. Вязніца не зламала таленавітага беларуса. Ён увайшоў у гісторыю як аўтар праекта падводнай лодкі, у якім, акрамя ўтапічнага рухавіка (вёслаў), былі знойдзены прынцыпова важныя канструкцыйна-тэхнічныя рашэнні: металічны корпус, тэлескапічны перыскоп. Не праславіўся як лекар, але назаўсёды застаўся ў гісторыі беларускай культуры як аўтар паэмы «Тарас на Парнасе» выпускнік Віцебскай гімназіі **Канстанцін Вераніцын**, які ў 1853–1854 гг. быў вольным слухачом, наведваў лекцыі ў акадэміі. Яшчэ адзін медык, ураджэнец Віцебскай губерні **Аляксандр Цімафеевіч Ранчэўскі** (1831–1868) не стаў вядомым літаратарам можа таму, што скончыў жыццё самагубствам. Пасля навучання ў Полацкай і Віцебскай гімназіях Аляксандр Ранчэўскі (сын праваслаўнага святара) паступіў казённакоштным выхаванцам у ВМА, служыў на Каўказе, працаваў лекарам у Цфліскім ваенным шпіталі.

Пачаў друкаваць у часопісах апавяданні, у аснове якіх — лёс маладога ўрача, якога



*Галоўны будынак Ваенна-медыцынскай акадэміі*

не разумее і не падтрымлівае начальства. Перавёўшыся з Грузіі ў Пецярбург Ранчэўскі пражыў у горадзе меньш года...

Некаторыя беларусы-лекары мелі такія прыгоды, якія на радзіме ім і не сасніць. Напрыклад, **Фларыян Гласко** (1865–1921), які нарадзіўся у Губіне, двары Лепельскага павета. У 1886 г. ён закончыў Віцебскую гімназію, пачаў навучанне па матэматычна-прыродазнаўчым кірунку ў Пецярбургскім універсітэце, дзе ў 1891 г. атрымаў ступень магістра і перайшоў у ВМА. У 1895 г. закончыў яе, сем гадоў служыў лекарам Ціхаакіянскай эскадры. У 1902 г. вярнуўся ў Пецярбург, абараніў у акадэміі дысертацыю і працягваў працу начальнікам марскога лазарэта і галоўным лекарам крэпасці Порт-Артура. Гласко быў сведкам і ўдзельнікам яе сямімесячнай аблогі, потым тры месяцы знаходзіўся ў японскім палоне, дзе з ім абыходзіліся вельмі прыстойна. Пасля вызвалення дабраўся морам да Пецярбурга. З ліпеня 1905 г. працягваў службу на Балтыйскім флоце. Быў лекарам у Кранштаце, штогод хадзіў у Атлантыку і Міжземнае мора з курсантамі на караблі «Багатыр». Падчас аднаго з рэйсаў, 28 снежня 1908 г., доктар стаў сведкам землятрусу і выбуху вулкана Этна на Сіцыліі, калі за 25 секунд загінулі 150 тысяч жыхароў. Гласко ўдзельнічаў у ратаванні параненых, няспынна рабіў аперацыі некалькі дзён. Кароль Віктар-Эмануіл III узнагародзіў яго камандорскім крыжам ордэна святых Маўрыкія і Лазара, а Італьянскае фатаграфічнае таварыства выдала альбом, прысвечаны знішчаным гарадам Месіна і Рэджа, у якім змешчаны чатыры здымкі Фларыяна Гласко. У 1918 г. лекар-беларус пераехаў з Петраграда ў Польшчу, стаў адным з заснавальнікаў ваенна-марской школы ў Тчэве.

Што датычыць выкладчыкаў ВМА, то не было кафедры, на якой у XIX ст. не праявіліся б арганізатарскія, навуковыя і практычна-лекарскія таленты беларусаў. Адзін з іх выконваў абавязкі начальніка акадэміі. Гэта тайны саветнік і ардынарны прафесар **Венцлаў Венцлававіч Пелікан** (1790–1873), які закончыў філасофскі факультэт Віленскага універсітэта. 15 гадоў ён працаваў у Вільні, у тым ліку ў 1824–1832 гг. — рэктарам універсітэта. З 1844 г. пераязджае ў Пецярбург, працуе дырэктарам Медыцынскага дэпартамента Ваеннага міністэрства, у 1851–1857 гг. — прэзідэнтам Медыка-хірургічнай акадэміі.

ВМА была створана для патрэб арміі і флоту, дзе жанчыны да рэвалюцыі ніколі не служылі. Тым не менш у акадэміі была створана і карысталася надзвычай высокім аўтарытэтам кафедра акушэрства і гінекалогіі. Начальнікам яе амаль 18 гадоў (1858–1876) быў **Антон Якаўлевіч Красоўскі** (1821–1898), якога цяпер прынята лічыць заснавальнікам расійскага навуковага акушэрства. У 1840 г. ён скончыў славутую Слуцкую гімназію, а ў 1843 г. падаў прашэнне ў Канферэнцыю пецярбургскай Медыка-хірургічнай акадэміі з просьбай залічыць яго ў лік «студэнтаў па медыцынскай галіне на казённы кошт». Пасля заканчэння акадэміі Красоўскі працаваў у Краснасельскім і Араніенбаўмскім шпіталях, а з 1849 г. — у пецярбургскім 2-м ваенна-сухапутным шпіталі, дзе яго прымацавалі да акушэрскай клінікі. Для станаўлення спецыяліста-акушэра шмат дало падарожжа ў Еўропу (1856–1857 гг.), дзе ён пазнаёміўся з дасягненнямі калег-урачоў Францыі, Германіі, Чэхіі і Польшчы. Пасля вяртання з замежнай камандзіроўкі Красоўскі пачаў чытаць у акадэміі курс акушэрства і гінекалогіі, узяўшы за ўзор аналагічны курс прафесара Скарцоні з Вюрцбургскага універсітэта. Сваю кнігу «Курс практычнага акушэрства» Красоўскі пабудаваў як практычны дапаможнік для практыкуючых урачоў. Пры гэтым сам прафесар (зацверджаны ў гэтым званні ў 1860 г.) займаецца актыўнай практыкай. Сярод яго пацыентак — асобы імператарскага дома, жанчыны з багацейшых сем'яў Пецярбурга. Высокі прафесіяналізм, далікатнасць з пацыентамі і ўменне захоўваць канфідэнцыйнасць спрыялі поспеху.




*Шыльда кафедры і клінікі акушэрства і гінекалогіі Ваенна-медыцынскай акадэміі*

Арганізацыя акушэрскай дапамогі ў Пецярбургу мела шмат недахопаў. Прынамсі, у 1868 г., паводле звестак гарадской думы, у сталіцы былі чатыры родадапаможныя ўстановы, дзе на 125 акушэрскіх ложках прымалася за год 3431 парадзіха. Пры агульнай

лічбе насельніцтва ў гэты перыяд у 650 тысяч чалавек такая колькасць ложкаў не магла задавальняць патрэбы жанчын. Як вынік, адзначалася вялікая колькасць родаў на вуліцах, у дварах дамоў, паліцэйскіх будках і да т. п. Высокай была смяротнасць дзяцей і парадзіх.

Член Санітарнай камісіі горада, Антон Красоўскі неднаразова звяртаўся ў гарадскую думу і да граданачальніка з патрабаваннямі выправіць сітуацыю. Звароты мелі вынік — да 1875 г. у розных частках горада былі адкрыты 11 радзільных прытулкаў, кожны з якіх меў тры ложкі і пакой для родаў. У 1871 г. Красоўскі пачаў працаваць дырэктарам Родадапаможнай установы, а з 1884 г. быў прызначаны папячыцелем усіх родадапаможных прытулкаў Пецярбурга. Пры жыцці Антона Якаўлевіча выйшлі чатыры выданні яго кіраўніцтва «Аператыўнае акушэрства». Ён непасрэдна ўдзельнічаў у стварэнні ў 1884 г. Маскоўска-Пецярбургскага таварыства ўрачоў і ў 1886 г. Расійскага таварыства акушэраў і гінеколагаў. Жыў прафесар Красоўскі на Надзеждзінскай вуліцы, 5. Як прызнанне яго заслугі ў арганізацыі гарадскіх радзільных прытулкаў, адзін з іх, Аляксандра-Неўскі, быў названы «у памяць прафесара А. Я. Красоўскага». Сёння ў гонар Красоўскага на сцяне клінікі акушэрства і гінекалогіі ВМА ўсталявана мемарыяльная шыльда, клініка носіць яго імя.

Кафедрай ваенна-медыцынскага забеспячэння і фармацыі кіраваў у 1844—1856 гг. ардынарны прафесар **Іосіф Фадзеевіч Алендзкі** (1809—1856). Нарадзіўся ён у Полацку ў шляхецкай сям'і. З 1822 да 1826 г. працаваў вучнем у аптэцы. У 1829 г. скончыў Полацкую гімназію і ў верасні таго ж года паступіў у Віленскі універсітэт. Вучыўся на медыцынскім факультэце, а ў 1830 г. перавёўся на медыцынскае аддзяленне Медыка-хірургічнай акадэміі, якую закончыў са срэбным медалём. Гэтую ж кафедру ўзначальваў у 1890—1912 гг. выпускнік Мінскай класічнай гімназіі і Пецярбургскага універсітэта **Станіслаў Аляксандравіч Прыбытак** (1852—1916). Як урач лейб-гвардыі Уланскага палка ён удзельнічаў у турэцкай вайне 1877—1878 гг., пазней працаваў ад'юнкт-лабарантам пры аддзяленні аналітычнай хіміі універсітэта. У 1889 г. за працу «Аб арганічных двухвокісах» атрымаў ступень магістра і быў абраны неардынарным прафесарам, выкладчыкам фармакагнозіі і фармакапеі ў ВМА. Станіслаў Прыбытак дамогся высокіх вучоных і грамадскіх званняў і пасад: акадэміка ВМА, члена Медыцынскага савета Міністэрства ўнутраных спраў, Вучонага ваенна-санітарнага камітэта, Рускага фізіка-хімічнага таварыства. Жыў на Французскай набярэжнай у доме № 30.

Бацькам расійскай таксікалогіі і эксперыментальнай фармакалогіі стаў сын прэзідэнта акадэміі **Яўген Венцлававіч Пелікан** (1824—1884), які працаваў на кафедры судовай медыцыны і кіраваў ёю ў 1852—1858 гг. Ён закончыў з пахвальным лістом 1-ю Пецярбургскую гімназію і ў 1845 г. з адзнакай медыцынскі факультэт Маскоўскага універсітэта. Падчас Каўказскай вайны суправаджаў у раёнах баявых дзеянняў Мікалая Пірагова. З 1861 г. Яўген Пелікан — дырэктар Медыцынскага дэпартамента МУС, з 1863 г. — старшыня медыцынскага і ветэрынарнага савета.

Кафедра фармакалогіі, рэцэптуры і батанікі знаходзілася пад кіраўніцтвам беларусаў з 1838 да 1875 г. Да 1851 г. яе ўзначальваў заслужаны прафесар **Павел Фёдаравіч Гаранінаў** (1796—1865). Нарадзіўся ён у Магілёве ў небагатай купецкай сям'і, вучыўся ў народным вучылішчы, пасля — у Магілёўскім езуіцкім калегіуме. У 1817 г. паступіў у Медыка-хірургічную акадэмію, якую закончыў з залатым медалём. Чатыры гады служыў урачом у гвардзейскіх палках, расквартараваных у Пецярбургу — Ізмайлаўскім, Сямёнаўскім, Праабражэнскім. У студзені 1824 г. абараніў дысертацыю на ступень доктара медыцыны на актуальную для тагачаснага вайскоўца тэму («Тэорыя сіфілісу і агульнае кіраўніцтва па яго лячэнні»). У маі 1825 г. Гаранінаў пакінуў вайсковую службу і перайшоў на выкладчыцкую працу ў акадэмію і адначасова ардынатарам у Пецярбургскі марскі шпіталь. Гэты разнабакова адораны і працавіты чалавек увасабляў сабой натуралістаў-энцыклапедыстаў першай паловы пазамінулага стагоддзя. Ён пабудаваў уласную арыгінальную сістэму расліннага свету, паклаўшы ў яе аснову асаблівасці будовы спораў і насення. З сапраўдных раслін ён выключыў грыбы і водарасці; надрукаваў асобны твор, прысвечаны грыбам і плесні, стаўшы піянерам мікалогіі. Склаў буйны праект расійскай фармакапеі. За працу «Фармакадынаміка, альбо Вучэнне аб дзеянні і ўжыванні ўрачэбных сродкаў» (1850) атрымаў Дзямідаўскую прэмію. У эпідэмію халеры 1848 г. Гаранінаў займаўся пытаннямі лячэння і прафілактыкі, выдаў «Афарызмы аб халеры». У адстаўку Павел Фёдаравіч выйшаў у 1852 г., застаўшыся членам Медыцынскай рады акадэміі. Пасля Гаранінава кафедру прыняў і кіраваў ёю 17 гадоў ардынарны

нарны прафесар **Генрых Казіміравіч Кулакоўскі** (1802—1871), сваяк паэта Ігната Кулакоўскага, аўтара «Успамінаў Петраграда». Медыцынскую адукацыю Генрых Кулакоўскі атрымаў у Вільні, у Пецярбург пераехаў у 1842 г. Лекцыі яго ўяўлялі сабою фармакапею з дадаткамі тэарэтычных указанняў пра ужыванне лекаў і кароткай рэцэптуры. Чыталіся яны на лацінскай мове, студэнты на экзамене таксама павінны былі адказваць на лаціне. Наступным начальнікам кафедры быў ураджэнец Віцебскай губерні **Іосіф Вікенцьевіч Забелін** (1834—1875). Сын святара, ён напачатку пайшоў па шляху бацькі: у 1854 г. закончыў Полацкую духоўную семінарыю. Пасля паступіў у Медыка-хірургічную акадэмію казённакоштным слухачом. Закончыў яе Забелін у 1859 г. з залатым медалём і занясеннем імя на мармуровую дошку. Пасля трохгадовай стажыроўкі за мяжой пачаў выкладаць фармакалогію ў акадэміі, а ўзначальваў кафедру з 1868 г. да сваёй заўчаснай смерці (гнойны плеўрыт і параліч гартаннага нерва).

Значны ўклад у медыцынскую навуку ўнёс фармаколаг **Іван Міхайлавіч Догель** (1830—1916), ураджэнец маёнтку Залессе Віцебскай губерні. Пасля заканчэння Медыка-хірургічнай акадэміі (1854 г.) ён быў накіраваны ў Казанскі універсітэт, дзе з 1869 г. займаў прафесарскую кафедру. Іван Догель першы звярнуў увагу на праблему алкагалізму, упершыню вызначыў магчымасць рэфлекторнага спынення дзейнасці сэрца пасля раздражнення слізістай абалонкі носа парай хлараформу; атрымалі прызнанне яго працы па параўнальнай анатоміі, фізіялогіі і фармакалогіі сэрца, крывяносных і лімфатычных сасудаў. Пецярбургская Ваенна-медыцынская акадэмія абрала былога выпускніка сваім ганаровым членам.

Гонарам кафедры афтальмалогіі стаў **Ерафей Васілевіч Касценіч** (1854—1906), сапраўдны стацкі саветнік, прафесар з 1893 г. Нарадзіўся ён у Клімавіцкім павеце. Пасля заканчэння Магілёўскай гімназіі вучыўся на прыродазнаўчым аддзяленні фізіка-матэматычнага факультэта Пецярбургскага універсітэта, затым паступіў адразу на трэці курс Медыка-хірургічнай акадэміі. У 1887 г. абараніў доктарскую дысертацыю. Чытаў гісталогію і эмбрыялогію ва універсітэце. З 1900 г. — клінічны прафесар Мікалаеўскага вайсковага шпіталя, адначасова быў прафесарам Клінічнага інстытута вялікай княгіні Алены Паўлаўны. Жыў блізка ад інстытута, на Кірачнай, 34.



*Бюст Яўстафія Багданоўскага*

Першым кіраўніком кафедры хірургіі і тапаграфічнай анатоміі быў ураджэнец вёскі Падсолтава Мсціслаўскага павета **Яўстафій Іванавіч Багданоўскі** (1834—1888). Пасля Магілёўскай духоўнай семінарыі ён паступіў у Медыка-хірургічную акадэмію, якую закончыў (у 1858 г.) з залатым медалём і імяннной прэміяй акадэміка Буша. Здольнага выпускніка пакінулі ў акадэміі на тры гады для ўдасканалення.




*Мемарыяльная шыльда на кафедры гаспітальнай хірургіі Ваенна-медыцынскай акадэміі*

У 1861 г. Багданоўскі абараніў дысертацыю на ступень доктара медыцыны і на два гады выехаў за мяжу, працаваў у клініках Францыі і Германіі. Пасля вяртання ў 1863 г. прызначаны ад'юнкт-прафесарам акадэмічнай хірургічнай клінікі, у 1867 г. — экстраардынарным, а ў 1868 г. — ардынарным прафесарам. З 1870 г. і да канца жыцця Багданоўскі ўзначальваў кафедру. У 1880 г. ён атрымаў званне акадэміка, а ў 1884 г. — заслужанага прафесара ВМА. Выдатнай рысай практычнай лекарскай дзейнасці Багданоўскага былі яго гуманныя адносіны да хворых. Будучы вельмі папулярным клініцыстам, ён лячыў Мікалая Някрасава, Сяргея Боткіна, многіх іншых вядомых людзей. У час турэцкай вайны яго разам з М. Піраговым і М. Субоцінам выклікалі да параненага генерала Міхайлы Драгамірава,



*Клініка факультэцкай і шпітальнай хірургіі Ваенна-медыцынскай акадэміі*

прычым менавіта Багданоўскі адстаяў «захаванне нагі» генерала, не пагадзіўшыся з меркаваннем Пірагова аб ампутацыі.

1 сакавіка 1881 г. Яўстафія Іванавіча выклікалі да Аляксандра II, смяротна параненага бомбай Грынявіцкага, але дапамагчы цару ён не змог. Багданоўскі меў хворае сэрца і памёр ад сардэчнага прыступу ў аўдыторыі падчас паказальнай аперацыі аднаго са сваіх ардынатараў, якой ён кіраваў. Удзячныя вучні паставілі яму ў акадэміі бронзавы бюст, а на месцы смерці ўсталявалі мармуровую шыльду з надпісам. У 1895 г. даведнік «Увесь Пецярбург» натуе Веру Яўстаф'еўну Багданоўскую, якая жыве на Фінляндскім праспекце, 8, і працуе ўрачом-выкладчыкам на Вышэйшых жаночых курсах. Магчыма, гэта была дачка славутага хірурга. Пахавалі Багданоўскага на «Літаратарскіх мастках» Волкавых могілак. Мемарыяльную шыльду ў 2005 г., падчас рамонту, знялі і перанеслі ў музей клінікі шпітальнай хірургіі.

Кафедру псіхіятрыі ўславіў віленчук, сапраўдны тайны саветнік **Іван Міхайлавіч Балінскі** (1827—1902) — першы старшыня Расійскага таварыства псіхіятраў, аўтар першага ў імперыі (1859 г.) падручніка па псіхіятрыі. Жыў Балінскі на Кірачнай, дом 16. У 1860 г. ён быў абраны ардынарным прафесарам новаўтворанай кафедры душэўных хваробаў і загадваў ёй да 1876 г. Сын яго Пётр стаў вядомым пецярбургскім архітэктарам.

На кафедры оталарынгалогіі ззяла зорка генерал-маёра, першага прафесара па атыятрыі (вушных хваробах) **Аляксандра Фёдаравіча Прусака** (1839—1897). Нарадзіўся ён у Віцебску, у 1862 г. закончыў Медыка-хірургічную акадэмію. Першым апісаў пазуху каля барабаннай поласці, якая цяпер вядомая як «карман Прусака». Пахаваны на Волкаўскіх лютэранскіх могілках.

Пакручастым быў жыццёвы шлях ва ўраджэнца Ашмянаў **Уладзіміра Георгіевіча Каранчэўскага** (1880—1959). Ён закончыў (са срэбным медалём) гімназію ў Рызе, а потым, з адзнакай, — ВМА (у 1903 г.). За год да заканчэння акадэміі за працу «Параўнальнае фармакалагічнае даследаванне ядаў на аднаклетачных жывёлах» узнагароджаны залатым медалём. У японскую вайну 1904—1905 гг. служыў армейскім лекарам, ардынатарам і загадчыкам хіміка-бактэрыялагічнай лабараторыі ў Харбінскім палявым вайсковым шпіталі, быў абраны сакратаром Харбінскага ваенна-санітарнага таварыства, удзельнічаў у ліквідацыі ачагоў чумы ў Манголіі. Пасля стажыраваўся на медыцынскім факультэце Маскоўскага універсітэта. На запрашэнне акадэміка Івана Паўлава ў 1912 г. прыехаў у Пецярбург на пасаду экстраардынарнага прафесара ВМА і загадчыка кафедры агульнай і эксперыментальнай паталогіі (паталагічнай фізіялогіі), дзе працаваў да 1919 г. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі быў у складзе гаспадарчага камітэта ВМА, удзельнічаў у арганізацыі асветніцкіх лекцый пры Навукова-медыцынскім аддзеле Наркамата асветы РСФСР. У красавіку 1919 г. яго камандзіравалі на біястанцыю ў Севастопаль. Паколькі прафесар Каранчэўскі з камандзіроўкі не вярнуўся, у лістападзе 1919 г. ён быў адлічаны з ВМА, а яго кватэру аддалі пад студэнцкі інтэрнат. Тым часам Уладзімір Каранчэўскі ў шэрагах белай арміі змагаўся на поўдні Расіі; пасля паражэння выехаў у Вялікабрытанію, прыняў англійскае грамадзянства. У 1920—1945 гг. ён — старшы навуковы супрацоўнік Лістэраўскага інстытута прывентыўнай медыцыны ў

Лондане. У 1945 г. заснаваў Оксфардскую геранталагічную лабараторыю і быў яе дырэктарам да 1952 г. Лічыцца заснавальнікам геранталогіі не толькі ў Вялікабрытаніі, але і ў ва ўсім свеце.

Як мы ўжо заўважылі, цяжка нават пералічыць усіх выхадцаў з Беларусі, якія вучыліся ў Ваенна-медыцынскай акадэміі. Прывядзём ніжэй біяграмы хоць некаторых, каб паказаць розныя лёсы.

**Данефельт Данат** (каля 1803 — не раней 1850). Нарадзіўся ў Мазырскім павеце, быў прыпісаны да Астраглядаўскай парафіі Рэчыцкага павета. Скончыў сярэднюю школу ў Мазыры. У 1838 г. атрымаў у акадэміі дыплом штаб-лекара. У 1829 г. выдаў доктарскую працу з прысвячэннем тагачаснаму галоўнаму кіраўніку Дэпартамента вайсковых пасяленняў Пятру Клейнміхелю. У 1846 г. працаваў як старшы памочнік бібліятэкара акадэміі. Пасля вайсковай службы — лекар для бедных у Пецярбургскім таварыстве дабрачыннасці.

**Гейдэнрэйх Людвіг Андрэевіч** (1808—1892). Нарадзіўся ў Пружанах, сын павятовага лекара. Вучыўся на прыродазнаўча-матэматычным факультэце Віленскага універсітэта, перавёўся ў Медыка-хірургічную акадэмію ў Пецярбург і скончыў яе ў 1831 г. Працаваў у розных вайсковых і цывільных установах. З 1837 г. — лекар імператарскіх тэатраў, на гэтай пасадзе заставаўся 45 гадоў.

**Кіякоўскі Фелікс** (1826—1871). Нарадзіўся ў маёнтку Кіякі Вілейскага павета. У 1844 г. скончыў гімназію ў Мінску, у 1849 — Медыка-хірургічную акадэмію са срэбным медалём. У 1851 г. абараніў дысертацыю «Аб туберкулёзе яічка». Падчас Крымскай вайны — ардынатар, потым начальнік хірургічнага аддзела часовага вайсковага шпіталю ў Бухарэсце. З гэтым шпіталем перайшоў у Бесарабію, потым у Мікалаеў. Падчас эпідэміі тыфу захварэў сам. Ачуняўшы, у 1857 г. перавёўся ў 2-і шпіталь у Пецярбург. З 1865 г. служыў медыцынскім інспектарам у Волагдзе і там хутка памёр з прычыны марфінізму.

**Кладніцкі Фартунат** (1826 — не раней 1880). Нарадзіўся ў Віцебскай губерні. У 1850 г. скончыў акадэмію. Служыў на Каўказе. У 1875 г., пасля выслугі 25 гадоў, звольніўся ў чыне палкоўніка. Асеў і працаваў у Віцебску вольнапрактыкуючым урачом.

**Карніцкі Фелікс Міхайлавіч** (1833—1883). З маёнтка Карніцы Маладзечанскага павета. У 1854 г. абараніў дыплом у акадэміі, у 1870 — доктарскую дысертацыю «Аб уплыве ртутнай мазі і сулемы на колькасць глікагену ў печані». Асеў у Пецярбургу, працаваў паліцэйскім урачом у Нарвскай частцы, потым у Каломенскай і Раждзественскай.

**Карніцкі Эдуард Міхайлавіч** (1837—1913). Нарадзіўся ў маёнтку Карніцы Маладзечанскага павета. Скончыў акадэмію ў 1861; працаваў лекарам у Ізмайлаўскім шпіталі. З 1865 г. — доктар 6-й пецярбургскай гімназіі. З 1867 — пазаштатны асістэнт Загараднага вайсковага шпіталя, пазней — член камісіі па аказанні дапамогі параненым у вайне 1877—1878 гг., лекар Аляксандраўскага камітэта дапамогі параненым у руска-японскай вайне. З 1906 г. — тайны саветнік.

**Янушкевіч Людвік** (1835—1872). Нарадзіўся ў Вільні, гадаваўся ў маёнтку бацькі ў Лідскім павеце. Гімназію закончыў у Свіслачы. Жонка — дачка генерала Малахоўскага, родавы маёнтак у Брэст-Літоўскім павеце. Скончыў акадэмію ў 1856 г. з залатым медалём, у 1858 г. абараніў дысертацыю. Акуліст і хірург. Працаваў асістэнтам у Максіміліянаўскай бальніцы ў Пецярбургу, у 1869—1872 гг. — урачом у Сенаце. Заўчасна памёр — патануў разам з жонкай, купаючыся ў Бугу.

**Свянціцкі Сігізмунд Карлавіч** (1836—1910). Нарадзіўся ў маёнтку Красцінава каля Драгічына. Скончыў акадэмію ў 1861 г. З 1870 — урач у Мінску, арганізаваў там бясплатную амбулаторыю для бедных (1879). Быў прэзідэнтам Мінскага таварыства ўрачоў.

**Урублеўскі (Врублеўскі) Ян** (1839—1912). Нарадзіўся ў Бранску Гродзенскай губерні, закончыў Беластоцкую гімназію. Выпускнік акадэміі з залатым медалём (1862). Да 1866 г. працаваў у хірургічнай клініцы 2-га вайсковага шпіталя ў Пецярбургу, з 1868 г. — лекарам у Варшаве.

**Нелюбовіч (Нелюбовіч-Тукальскі) Уладзіслаў** (1845—1894). Нарадзіўся ў Слоніме, выпускнік Гродзенскай гімназіі. У 1868 г. скончыў акадэмію і атрымаў дыплом лекара. Служыў у арміі, у т. л. у 28-м пяхотным Полацкім палку. У 1872 г. звольніўся са службы і пачаў працаваць земскім лекарам у Палтаўскай губерні. Памёр у Крамянчугу.

**Брадовіч Генрых** (1853 — не раней 1913). Нарадзіўся ў Мінскай губерні. Скончыў акадэмію ў 1879 г. Працаваў у гарадской Абухаўскай бальніцы, потым у вайсковым Мікалаеўскім шпіталі ў Пецярбургу. У 1887 г. абараніў дысертацыю на тэму «Адносіны вільготнасці паветра ў жылых памяшканнях да захворвання дыхальных шляхоў». У 1905—1906 гг. працаваў вольнапрактыкуючым урачом у Петрыкаве (Мазырскі павет).

**Земацкі Язэп** (1856–1925). Нарадзіўся ў Вільні, бацька паходзіў з Ашмянскага павета. Закончыў Віленскую класічную гімназію (1875). Вучыўся адзін год на прыродазнаўчым факультэце Пецярбургскага універсітэта, яшчэ год у Медыка-хірургічнай акадэміі, адкуль быў выключаны за палітычную дзейнасць. Закончыў вывучаць медыцыну ўжо ў Дэрпце (1882). У 1883–1890 працаваў у Абухаўскай жаночай бальніцы ў Пецярбургу, супрацоўнічаў у іншых бальніцах горада. З 1895 — старшы асістэнт Клінічнага інстытута вялікай княгіні Алены Паўлаўны. Рэвалюцыю перажыў на Каўказе, дзе меў хірургічную лякарню ў Есентуках. У 1918 г. выехаў у Вільню. З 1919 г. — прарэктар Віленскага універсітэта.

**Цеханавецкі Жыгмунт** (1857 — не раней 1926). У 1884 г. атрымаў дыплом урача ў ВМА, з 1894 — доктар медыцыны. У Пецярбургу жыў да 1898 г., працаваў у Медыцынскім дэпартаменце МУС.

**Карвецкі-Рамша Аляксандр** (1860–1914). Нарадзіўся ў Віцебскай губерні. У 1884 г. скончыў ВМА, акуліст. Служыў у вайсковых часцях у Пяцігорску, Елізаветпале, Кутаісі. Памёр у Тыфлісе.

У XIX ст. непараўнальна з сённяшнім часам вялікае значэнне мела ветэрынарыя. Для лячэння і выпрацоўкі рэкамендацый па доглядзе аграмаднай колькасці верхавых, запражных і племянных коней, што стаялі на ўзбраенні арміі, была арганізавана падрыхтоўка ветэрынараў у Медыка-хірургічнай акадэміі. На гэтым кірунку сярод іншых праславіўся ўраджэнец Слуцка **Язэп Іпалітавіч Равіч** (1822–1875), прафесар кафедры зоапаталогіі, які з 1872 г. узначаліў ветэрынарнае аддзяленне акадэміі. У 1857–1883 гг. ветэрынарнай клінікай ВМА загадваў ураджэнец Віцебска **Мікіта Венедыктавіч Ражноў** (1824–1902). У маі 1849 г., пасля абароны дысертацыі «Аб чуме ў сабак», ён стаў першым у Расіі магістрам ветэрынарных навук. У 1855—1883 гг. працаваў загадчыкам кафедры зоафізіялогіі, агульнай паталогіі, гігіены з дыетэтыкай і жывёлагадоўляй. З адзнакай закончыў у 1850 г. ветэрынарнае аддзяленне ўраджэнец Мінскай губерні **Адольф Восіпавіч Следзінскі** (1823–1882). Пазней год служыў ветэрынарам у драгунскім палку, абараніў магістарскую дысертацыю, выкладаў у акадэміі і ў Канавальнай школе, узначальваў экспедыцыі ў розныя рэгіёны для барацьбы з эпізаотыямі. У 1874 г. быў прызначаны прафесарам ў толькі што адчынены Ветэрынарны інстытут у Казані. У 1881 г. выйшаў у адстаўку па стане здароўя, перасяліўся ў Пецярбург, дзе неўзабаве памёр ад брайтавай хваробы.



*Будынак артылерыйскай акадэміі*

Недалёка ад ВМА, на Арсенальнай набярэжнай, 17, размяшчалася **Міхайлаўская артылерыйская акадэмія**, якая была створана ў 1855 г. на базе афіцэрскага класа Міхайлаўскага артылерыйскага вучылішча. Падрыхтоўку афіцэраў вышэйшага каманднага саставу пастаянна ўдасканальвалі. Акрамя традыцыйных дысцыплін, у акадэміі з 1873 г. уведзена выкладанне нямецкай і французскай моў, з 1885 — элементаў тэорыі верагоднасцяў, з 1887 — электратэхнікі, з 1888 — як асобная дысцыпліна чытаўся курс выбуховых рэчываў. Сярод навучэнцаў акадэміі і вучылішча пастаянна былі выпускнікі Полацкага кадэцкага корпуса, большай часткай беларусы. У 1896 г. такіх было ў акадэміі тры (з 49 афіцэраў) і ў вучылішчы 14 (з 210 юнкераў). У апошнім дзесяцігоддзі XIX і ў першай чвэрці XX ст. у акадэміі служыў **Іван Львовіч Пташыцкі**, выхадзец са шляхты Віленскай губерні. Ён закончыў гімназію ў Вільні, пасля (у 1876 г.) — Пецярбургскі універсітэт. З 1881 г. ён магістр, з 1888 г. — доктар чыстай матэматыкі і прафесар. У Міхайлаўскай акадэміі працаваў з 1890 г., чытаў лекцыі па інтэгральным вылічэнні. Яго сын — **Іван Іванавіч Пташыцкі** — быў выкладчыкам некалькіх пецярбургскіх гімназій, у тым ліку рыма-каталіцкай гімназіі Святой Кацярыны і рэальнага вучылішча Юргенсона.

У 1861 г. экстэрнам закончыў Міхайлаўскае артылерыйскае вучылішча **Аляксандр Андрэевіч Вярыга** (1837–1905), які нарадзіўся пад Віцебскам. Спецыялізаваўся ў

галіне хіміі араматычных злучэнняў. Працаваў у лабараторыі М. М. Сакалова ў Пецярбургскім універсітэце і ў Міхайлаўскай артылерыйскай акадэміі. У 1862 г. стажыраваўся ў Цюбінгене і Цюрыху, пасля выкладаў у Новарасійскім універсітэце ў Адэсе.

Яшчэ ў першай палове XIX стагоддзя ў Пецярбургу доўга жыў былы маршалак шляхты Наваградскага павета Канстанцін Рдултоўскі. Адзін з яго нашчадкаў — **Уладзімір Рдултоўскі** (1876—1939) пасля сканчэння Міхайлаўскага вучылішча (1896 г.) і акадэміі (1902 г.) працаваў канструктарам боепрыпасаў для артылерыйскіх сістэм. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі супрацоўнічаў з савецкай уладай: стварыў доследную майстэрню пры заводзе Калініна для праектавання ўзрывальнікаў, быў вучоным сакратаром Камісіі спецыяльных артылерыйскіх доследаў, чытаў лекцыі па праектаванні снарадаў і ўзрывальнікаў у Артылерыйскай і Ваенна-марской акадэміях і Ленінградскім ваенна-механічным інстытуце. Уладзімір Рдултоўскі сярод іншых распрацаваў узрывальнікі РГМ і РГМ-2 («Рдултоўскага галаўны мембранны»), якія і сёння стаяць на ўзбраенні расійскай арміі.

Начальнікам **Мікалаеўскай ваенна-інжынернай акадэміі** быў выхадзец з віцебскай шляхты, генерал **Мікалай Карлавіч Шыльдэр** (1842—1902), магчыма, больш вядомы як ваенны гісторык і, пасля выхаду з вайсковай службы, дырэктар Імператарскай Публічнай бібліятэкі. Член Марскога будаўнічага камітэта генерал-маёр **Уладзіслаў Каловіч** (1834—1892), будучы прафесарам Мікалаеўскай інжынернай акадэміі, атрымаў у 1868 г. залаты медаль за дасягненні ў ваенным будаўніцтве. Жыў Уладзіслаў Каловіч на Неўскім праспекце, 22—24. Выпускніком, а потым выкладчыкам (з 1880 г. — прафесарам) акадэміі быў віленчук **Цэзар Антонавіч Кюі** (1835—1918). Яшчэ падчас знаходжання на Беларусі ён займаўся музычнай кампазіцыяй у мінчука Станіслава Манюшкі. Першы перыяд свайго пецярбургскага жыцця Кюі жыў на Шпалернай, 6. Ён — аўтар шматлікіх навуковых прац па фартыфікацыі, стварыў курс фартыфікацыі, які чытаў у ваенных акадэміях. Захапленне маладога афіцэра музыкай было настолькі моцнае, што з 1864 і да 1877 г. ён, не пакідаючы вайсковую службу, працаваў (ананімна) штатным музычным аглядальнікам газеты «Санкт-Пецярбургскія ведамасці». Неўзабаве Кюі заслужыў мянушку «музычнага нігіліста», бо ў сваіх артыкулах агітаваў за сучасную музыку і адмаўляў вартасць сачыненняў старых класікаў, у тым ліку Моцарта, якога назваў аднойчы «пылам часу». Аднак мацней за адмаўленне старога публікацыі Кюі падтрымлівалі і мацавалі новае. Менавіта творы музыкантаў «Магутнай купкі», сярод якіх быў і яго зямляк, выхадзец са шляхты Вялікага княства Літоўскага **Мікалай Рымскі-Корсакаў**. Пасля атрымання звання заслужанага прафесара акадэміі (у 1891 г.) і да канца жыцця Цэзар Кюі стала жыў на Фантанцы, 38. У Мікалаеўскім інжынерным вучылішчы вучыўся будучы савецкі літаратар беларускага паходжання **Іван Кузьміч Жырковіч** (1888—1943, Сталінград).

**Ваенна-юрыдычная акадэмія** была заснавана ў 1867 г. для падрыхтоўкі чыноў ваенна-судовага ведамства. Пасля экзамену прымалі афіцэраў, якія праслужылі не менш як чатыры гады ў страі, але выпускнікі вышэйшых навучальных устаноў ад экзамену вызваляліся. Штогод набіраліся 15 слухачоў, якія праходзілі курс ваенна-крымінальнага судаводства, дзяржаўнага, грамадзянскага і крымінальнага права. Курс быў разлічаны на тры гады. Адным з начальнікаў акадэміі быў генерал **Павел Восіпавіч Бабpоўскі** (1832—1905). Нарадзіўся ён у сям'і уніята-святара ў маёнтку Вака каля Вільні, вучыўся ў Пружанскім дваранскім вучылішчы і Полацкім кадэцкім корпусе. У 1851 г. скончыў Канстанцінаўскае ваеннае вучылішча, а праз шэсць гадоў — Мікалаеўскую акадэмію Генеральнага штаба. У 1853—1854 гг. удзельнічаў у Крымскай вайне, у 1860—1875 гг. служыў на штабных пасадах. Ён даслужыўся да чына генерала ад інфантэрыі і на працягу 22 гадоў (1875—1897) быў начальнікам Ваенна-юрыдычнай акадэміі. Як ваенны гісторык, Бабpоўскі значную ўвагу аддаваў перыяду стварэння ў Расіі рэгулярнай арміі, вайсковым рэформам Пятра I і гісторыі асобных вайсковых адзінак. У дакладна дакументаванай «Гісторыі лейб-гвардыі Праабражэнскага палка» ён падрабязна разгледзеў ваенныя дзеянні Расіі падчас Паўночнай вайны 1700—1721 гг. у Літве, Польшчы, Беларусі, ва Украіне. Аднак гэта толькі малая частка яго росшукаў па гісторыі Беларусі.

Дыяпазон зацікаўленняў Баброўскага быў надзвычай вялікі, а плён яго працы — неабсяжны. Прысвечаныя Беларусі кнігі выходзілі ў Пецярбургу і Вільні. Тут і двухтомавік «Гродзенская губерня», які выйшаў у серыі «Матэрыялы для геаграфіі і статыстыкі Расіі, сабраныя афіцэрамі Генеральнага штаба», і даследаванні унікальнага манускрыпта XI ст. з Супрасльскага манастыра, і шэраг твораў па

найноўшай гісторыі рускай грэка-уніяцкай царквы. Шмат зрабіў Павел Баброўскі для ўшанавання памяці свайго роднага дзядзькі — Міхаіла Кірылавіча Баброўскага, славіста і арыенталіста, прафесара Віленскага універсітэта. Але найбольшую ўвагу і грамадскі водгук выклікалі працы Паўла Баброўскага па высвятленні этнаграфічнай і гістарычнай беларуска-польскай мяжы. Па сутнасці, у другой палове XIX ст. толькі ён і прафесар Міхаіл Каяловіч (пра якога пойдзе размова ў наступным нарысе) былі сапраўднымі аўтарытэтамі ў гэтай галіне. Абодва яны былі «заходнярусамі»[1], толькі Баброўскі крыху іншага кшталту. Каяловіч, напрыклад, станоўча ацэньваў славуты «Атлас правінцый, заселеных цалкам ці часткова палякамі» Эркерта (па-руску пад назвай «Взгляд на историю и этнографию западных губерний России»). Хоць ён пратэставаў супраць самой назвы атласу, выпраўляў недакладнасці і памылкі, звязаныя з межамі і лічбамі рассялення розных плямёнаў, аднак згаджаўся з падыходам Эркерта, які ў аснову нацыянальнага акрэслення насельніцтва Беларусі паклаў веравызнанне. Баброўскі быў адзіны, хто ў той час узняў голас супраць гэтай згубнай для Беларусі тэорыі.

«Адзінай адзнакай для падзелу насельніцтва Беларусі на беларусаў і палякаў можа быць мова, — зазначае Баброўскі. — Чым, як не мовай, кіраваўся Эркерт пры размежаванні беларусаў і палякаў ад украінцаў? І ў той жа час ён не хоча прыняць гэтага ж прынцыпу для размежавання беларусаў ад палякаў. Нічога не значыць, што беларусы, па словах Эркерта, не называюць сябе гэтым сваім імем. Беларусы, не ведаючы, што яны беларусы, захавалі і ў штодзённай гутарцы, і ў песнях, і ў прымаўках свае азначаныя нацыянальныя, лагічныя формы, свой азначаны характар, свае праявы, звычаі і г. д. Беларус-селянін, ці будзе ён праваслаўны, ці каталік, мае свае перакананні, сваю маральную філасофію і перадае гэта разам з мовай сваім дзецям і ўнукам». Такі погляд не адразу знайшоў прызнанне ў расійскай этнаграфіі, нават сярод яе мацнейшых прадстаўнікоў, як, скажам, будучы акадэмік Аляксандр Пыпін.

Пецярбуржац Павел Восіпавіч Баброўскі адну з апошніх сваіх кніг прысвяціў важнаму, хоць і вельмі прыватнаму пытанню гісторыі горада. Яна называлася «Дзе знаходзіўся Пётр Вялікі ў дзень закладзін крэпасці Санкт-Пецярбург» і выйшла ў 1903 г. да двухсоттадовага юбілею горада. Па гэтай кнізе чытач можа праверыць, ці праўда, што ў момант заснавання Пецярбурга цар ад'ехаў на суднаверф ў Ладзейным Полі.

Шмат «сухапутных» беларусаў прывяла ў Пецярбург рамантыка марской службы. У самым пачатку XIX ст. служыў на расійскім ваенна-марскі флоце ўраджэнец горада Дуброўна Віцебскай губерні **Аляксандр Іванавіч Казарскі** (1797—1833). У 1811 г. ён — валанцёр на Чарнаморскім флоце, у 1813 — гардэмарын, у 1819 — лейтэнант. Падчас руска-турэцкай вайны 1829 г. А. Казарскі быў камандзірам брыга «Меркурый» у чыне капітан-лейтэнанта. Аднойчы на патруляванні тры расійскія караблі сустрэлі асноўныя сілы турэцкага флоту. Два паспелі адступіць да галоўных сілаў сваёй эскадры, а брыг «Меркурый» апынуўся перад выбарам здацца альбо прыняць бой. Камандзір Аляксандр Казарскі прыняў адчайна смелае рашэнне — уступіць у бой. Узброены 18-цю гарматамі брыг пад яго камандай пасля дзвюхгадзіннай артылерыйскай дуэлі з турэцкімі лінейнымі караблямі «Селіміе» (110 гармат) і «Рэалбей» (74 гарматы) прымусіў іх адступіць. Адважны ўчынак афіцэра грунтаваўся на разліку. Казарскі паставіў «Меркурый» паміж вялізнымі турэцкімі караблямі так, што калі кананіры аднаго з іх прамахваліся, не цалялі ў расійскі брыг, то траплялі ў свой карабель, які знаходзіўся за ім. Гэта была псіхалагічна важная перамога рускага флоту над магутнай Атаманскай Портай, яна мела моцны рэзананс як у Расіі, так і ва ўсёй Еўропе. Некалькі славутых жывапісцаў — М. Красоўскі, А. Багалюбаў, І. Айвазоўскі, Бары — увасобілі «Бой брыга «Меркурый» з двума турэцкімі караблямі 14 мая 1829 года» ў адмысловых карцінах. За храбрасць Аляксандр Казарскі быў вылучаны на наданне чыну капітана 2-га рангу і прыдворнага звання флігель-ад'ютанта. Акрамя таго, яму і ўсёй камандзе прызначылі пажыццёвую пенсію ў памеры двайнога акладу. У 1830 г. Казарскі быў пасланы разам з князем Трубецкім у Лондан для віншавання караля Вільгельма IV. На наступны год атрымаў званне капітана 1-га рангу, пераехаў у Пецярбург і служыў пры

[1] Для сучаснага чытача гэтае слова мае занадта адмоўнае і нават ганебнае адценне, але будзем памятаваць, што ўсе такія асацыяцыі і рэфлексы — здабыткі думкі XX ст.; на свой час «заходнярускасць» процістаяла, канечне, не беларускаму нацыянальна-дэмакратычнаму руху, а больш польскай (паўстанцкай) ваеннай сіле і імперскаму нівеляванню ўскраін.



*Брыг «Меркурый» пад камандай Аляксандра Казарскага вядзе бой з двума турэцкімі караблямі*

імператары «для выканання высачайшых даручэнняў». Менавіта ён у 1831 г. разведаў водны шлях з Белага мора ў Ладажскае возера і далей у сталіцу — той шлях, на якім праз 100 гадоў пабудуюць Беламорска-Балтыйскі канал. Памёр Аляксандр Казарскі заўчасна, падчас інспекцыі Чарнаморскага флоту. У Севастопалі яму пастаўлены помнік, на якім выбіта: «Казарскаму. Нашчадкам у прыклад».

Для падрыхтоўкі спецыялістаў з вышэйшай ваенна-марской і вышэйшай спецыяльнай тэхнічнай адукацыяй у 1877 г. у Пецярбургу на базе Акадэмічнага курса марскіх навук Марскога кадэцкага корпуса была створана **Мікалаеўская Марская акадэмія**.

Яна мела тры аддзяленні — гідраграфічнае, караблебудаўнічае і механічнае. Слухачоў было няшмат: на гідраграфічным дзесяць чалавек, на двух астатніх — па пяць. Курс працягваўся два гады, прычым з 1 верасня да 1 мая гэта быў тэарэтычны курс, а ў астатні час — практычны. Сярод выкладчыкаў былі два беларусы — прафесар матэматыкі **Іпаліт Яўневіч** і фізік **Аляксандр Садоўскі**. Часам для слухачоў акадэміі на кватэры Садоўскага адбываліся дадатковыя лекцыі. «Чытаў ён цудоўна; што да сутнасці справы, прытрымліваўся крытычнага метаду Краевіча. Яго майстэрства эксперыментатара, бадай, недасягальнае», — успамінаў пазней адзін з вучняў Садоўскага акадэмік Аляксей Крылоў[1]. У 1916—1918 гг. Садоўскі загадваў кафедрай фізікі, пасля чаго, не прыняўшы Кастрычніцкую рэвалюцыю, з'ехаў на працу ў Прагу.

З Марской акадэміяй цесна звязаны лёс **Андрэя Іпалітавіча Вількіцкага** (1858—1913), які паходзіў з Барысаўскага павета. У 1875 г. ён пачаў службу на флоце, у 1880 г. скончыў гідраграфічнае аддзяленне акадэміі. На працягу 1885—1907 гг. працаваў у акадэміі, вёў практычныя заняткі па астраноміі, зрабіў першыя назіранні за паскарэннем сілы цяжару на Новай Зямлі. Пад яго кіраўніцтвам праводзіліся гідраграфічныя работы ад межаў Нарвегіі да вусця Енісея. З 1907 г. Вількіцкі ўзначальваў Галоўнае гідраграфічнае ўпраўленне, у 1910 г. атрымаў чын генерал-маёра. Істотнае значэнне мела яго дзейнасць па арганізацыі бяспечнага мараплавання (заснаванне асобнага корпуса гідрографаў, выданне новых марскіх карт, будаўніцтва маякоў). Рускае геаграфічнае таварыства ўзнагародзіла галоўнага гідрографа двума залатымі медалямі. Імем Вількіцкага названы востраў у Карскім моры, на паўночны ўсход ад Обскай губы. Яго сын **Барыс Андрэевіч Вількіцкі** (1885—1961) нарадзіўся ўжо ў Пецярбургу. Пасля заканчэння Марскога корпуса юнак удзельнічаў у руска-японскай вайне, дзе атрымаў баявыя ўзнагароды. У 1908 г. закончыў тое ж гідраграфічнае аддзяленне. З 1913 г. камандаваў ледакольным суднам «Таймыр». У 1914—1915 гг. быў памочнікам

[1] *Крылов А. Н.* Воспоминания и очерки. М., 1956. С. 105.

начальніка гідраграфічнай экспедыцыі па Паўночным Ледавітым акіяне, зрабіў першае ў гісторыі плаванне па Паўночным марскім шляху — з Уладзівастока ў Архангельск. У 1918–1920 гг. Барыс Вількіцкі зноў узначальваў гідраграфічную экспедыцыю ў Паўночны Ледавіты акіян. У 1920–1922 гг. працаваў у Англіі, у 1923–1924 гг. знаходзіўся на чале савецкіх Карскіх экспедыцый. У 1925 г. вярнуўся ў Англію, дзе працаваў у прыватных параходных кампаніях, а пазней пераехаў у Афрыку (Бельгійскае Конга). У 1996 г. прах Барыса Вількіцкага перавезены з Бельгіі ў Пецярбург і пахаваны побач з магілай бацькі на Смаленскіх праваслаўных могілках[1].

Усё жыццё праслужыў у галоўнай базе Балтыйскага флоту ўраджэнец Гродзенскай губерні **Юліян Бучынскі** (1840–1876). Медыка-хірургічную акадэмію ў Пецярбургу ён скончыў «сваякоштным» студэнтам, служыў у розных вайсковых частках Кранштата. У 1873 г. абараніў дысертацыю, прысвечаную галоўнаму прадукту харчавання маракоў: «Матэрыялы дыятэтыкі хлеба і сухароў» (Санкт-Пецярбург, 1873). Добра пачалася кар'ера марскога афіцэра **Генрыха Фадзеевіча (Тадэвушавіча) Цывінскага** (1855—1938), ураджэнца Вільны. Пасля заканчэння Марскога корпусу ён камандаваў крэйсерам 2-га рангу «Крэйсер», а потым браняносным крэйсерам 1-га рангу «Герцаг Эдынбургскі». З 1908 г. контр-адмірал Цывінскі — малодшы флагман Балтыйскага флоту, а з 1910 г., атрымаўшы званне віцэ-адмірала, — галоўны інспектар міннай справы Марскога тэхнічнага камітэта. Чаму малады віцэ-адмірал ужо ў наступным 1911 г. выйшаў у адстаўку — невядома.

Генерал-лейтэнант **Сцяпан Анісімавіч Бурачок** (1800–1876) паходзіў са старадаўняга роду, дзед яго быў членам Магілёўскага магістрата. У акадэміі Сцяпан Бурачок выкладаў суднабудаўнічыя дысцыпліны; быў тэарэтыкам суднабудавання, інжынерам-праекціроўшчыкам і будаўніком караблёў, а звыш таго — пісьменнікам, публіцыстам, рэдактарам і выдаўцом часопіса, практыкуючым гамеапатам. За жыццё ён пабудаваў паводле сваіх праектаў больш як трыццаць ваенных караблёў, транспартаў, плывучых маякоў і іншых спецыяльных збудаванняў. Ва ўзросце ўсяго 21 год яго накіравалі ў Астрахань «со поспешностью» будаваць караблі для Каспійскай флатыліі, якая прыйшла на той час у заняпад. З'яўляючыся адзіным карабельным інжынерам на створанай па яго ініцыятыве верфі ў Астрахані, ён гэтае даручэнне выканаў. Вярнуўшыся ў Пецярбург чалавекам заслужаным, вялікую частку сваёй неўтаймаванай энергіі ён скіраваў



*Браненосны крэйсер «Герцаг Эдынбургскі» у 1894 г.*

[1] Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Смаленскія могілкі былі занядбаныя, а ў 1970-я гг. увогуле планаваліся да паступовай ліквідацыі. Вядомыя асобы, кшталту паэта Аляксандра Блока, перазахаваны на «Літаратарскіх мастках», лепшыя помнікі былі перанесены ў музей гарадской скульптуры. Толькі эпоха перабудовы спыніла гэты працэс, і Смаленскія могілкі пачалі парадкаваць. Перазахаванне Б. Вількіцкага стала адным з першых крокаў у гэтым працэсе аднаўлення традыцыі.

на грамадскую дзейнасць. Жыў у Пецярбургу на 10-й лініі Васільеўскага вострава, 21.

Сын Сцяпана Анісімавіча, выпускнік Марской акадэміі **Яўген Бурачок** (1836—1911), пайшоў, як і бацька, на службу расійскаму флоту. У 1860 г. з роднага Пецярбурга лёс закінуў яго ў чыне лейтэнанта, старшага афіцэра кліпера «Разбойнік» на ўзбярэжжа Ціхага акіяна, дзе Расія стварала ваенныя пасты. Сярод іншых быў пост на беразе бухты Залаты Рог, які назвалі Уладзівасток. Яўген Сцяпанавіч стаў другім начальнікам паста ў бухце і камандзірам Уладзівастоцкага порта. Падначаленая яму каманда з 40 салдат складалася галоўным чынам са штрафнікоў. Працавалі ў цяжкіх умовах. Бурачок пабудаваў лазню, царкву, завёў парадак, пры якім у суботу працавалі палову дня, а ў нядзелю адпачывалі. Часта не хапала мяса, і начальнік паста сам, нярэдка на ўласныя грошы, купляў кароў у кітайцаў, якія жылі ў ваколіцах. Даслужыўся да чыну контр-адмірала, у адстаўцы жыў на Херсонскай, 23. Пахаваны ў Пецярбургу на Смаленскіх могілках, але яго прах быў перанесены ў 1987 г. ва Уладзівасток і з вялікай пашанай захаваны там на Марскіх мемарыяльных могілках. У памяць пра яго адна з сопак у горадзе названа гарой Бурачка, а вуліца каля яе падножжа — вуліцай Лейтэнанта Бурачка.

На марскую службу пайшоў і другі сын Сцяпана Бурачка Павел (1837—1916). У 1863 г., у атрадзе караблёў капітана 1-га рангу А. А. Папова, ён удзельнічаў у апісанні берагоў рускіх уладанняў у Амерыцы. Пасля выхаду ў адстаўку ў чыне віцэ-адмірала Павел Бурачок жыў на Знаменскай вуліцы, 1. Тут ён напісаў кнігу «Заметкі аб флоце» (выдадзена ў 1910 г.). Працягваў ваенна-марскую традыцыю сям'і **Павел Паўлавіч Бурачок**, лейтэнант, флаг-афіцэр адмірала Сцяпана Макарава. Загінуў разам з ім пры выбуху на браняносцы «Петрапаўлаўск». Адмірала, як вядома, не знайшлі. Цела ж Паўла Паўлавіча падабралі, адправілі ў Пецярбург і пахавалі на Смаленскіх могілках. Там знаходзяцца астанкі многіх прадстаўнікоў сямейства Бурачкоў.

Мы не выпадкова спыніліся на дынастыі Бурачкоў — расійскаму флоту з яе членаў служылі дванаццаць чалавек у чатырох пакаленнях. Пецярбургская галіна роду, нажаль, загасла. Апошні яе прадстаўнік, **Уладзімір Уладзіміравіч Бурачок** — будаўнік караблёў, галоўны канструктар першага карабля на падводных крылах — памёр безпатомным 19 кастрычніка 1996 г., паспеўшы выступіць на канферэнцыі «Санкт-Пецярбург і беларуская культура» і падрыхтаваць публікацыю пра сваіх славутых продкаў[1].

[1] Гл.: Бурачок В. В. От службы в Могилевском магистрате к служению российскому военно-морскому флоту (к генеалогии рода Бурачков) // Белорусский сборник: Статьи и материалы по истории и культуре Белоруссии. Вып. 1. СПб., 1998. С. 111—115.

# Раздзел 3.

## СТАЛІЦА ДУХОЎНАЙ УЛАДЫ І РЭЛІГІЙНАЙ ТАЛЕРАНТНАСЦІ

Пецярбург кіраваў царкоўнымі справамі імперыі і быў адным з важных цэнтраў рэлігійнага жыцця яе падданых. Калі выхадцы з Беларусі шукалі тут веравызнаўчае асяроддзе, да якога належалі на радзіме, то лёгка патрэбнае знаходзілі. Праваслаўныя і каталікі, пратэстанты розных галін, іудзеі і мусульмане — кожная з гэтых канфесій мела ў сталіцы сваіх духоўных асоб, свае храмы. З XVIII ст. траплялі ў Пецярбург і асобныя святары-беларусы. Прыкладам можа быць ураджэнец Міншчыны выпускнік Кіева-Магілянскай акадэміі Іван (у манастве Іаіль) Быкоўскі. З чэрвеня 1758 г. ён служыў дыяканам, а з 1760 да снежня 1765 г. свяшчэнікам, выкладчыкам Закона Божага ў Сухапутным шляхецкім корпусе і Акадэміі мастацтваў. Іаіля Быкоўскага — здольнага паэта — некаторыя даследчыкі схіляюцца называць аўтарам паэмы «Слова пра паход Ігара»[1]. У 1800 г. на 200 тысяч жыхароў Пецярбурга прыходзілася 520 свяшчэннаслужыцеляў, у другой палове 1850-х гг. агульная колькасць духавенства дасягнула 2500 чалавек. Гэта складала прыкладна 0,48% ад усіх жыхароў горада і не было вельмі вялікай лічбай. Царат імкнуўся, каб галоўныя канфесіі мелі ў сталіцы свае кіруючыя органы і была арганізавана падрыхтоўка святароў. Тут найхутчэй адбывалася карэкцыя поглядаў на царкоўныя догмы і пошукі новых духоўных шляхоў — прычым не толькі ў асяродку інтэлігенцыі (што асабліва характэрна для канца XIX і першай чвэрці XX ст.), але і паміж духавенства.

Яшчэ да заканчэння вайны Пятра Вялікага са шведамі духоўная рэформа 1721 г. фармальна зраўняла архірэяў Рускай праваслаўнай царквы з іншымі расійскімі чыноўнікамі. Замест кананічнага патрыяршага кіравання быў створаны калегіяльны орган — Свяцейшы Правячы Сінод. Усе яго члены прызначаліся імператарам з ліку вышэйшых іерархаў царквы. Для нагляду над Сінодам у 1722 г. была створана пасада обер-пракурора, які прысутнічаў на ўсіх яго пасяджэннях і паведамляў пра рашэнні цару — для зацвярджэння альбо адмены. Для магілёўскіх епіскапаў, якія гістарычна падпарадкоўваліся маскоўскаму патрыярху, склалася парадаксальная сітуацыя: вышэйшая духоўная асоба праваслаўных беларусаў Вялікага Княства Літоўскага зрабілася чыноўнікам замежнай дзяржавы. З уключэннем беларускіх зямель у склад імперыі з'явіўся новы чыннік — значнае уніяцкае насельніцтва, якое праваслаўная іерархія імкнулася, карыстаючыся падтрымкай дзяржавы, «вярнуць у лона» сваёй царквы. З гэтай прычыны і ўвага да вышэйшай адукацыі, і дадатковая квота для выхадцаў з заходніх епархій. Пецярбург стаў цэнтрам вывучэння гісторыі праваслаўя на Беларусі. Тут выйшлі, напрыклад, такія фундаментальныя працы, як «Нарыс гісторыі заходнерускай царквы» (1882–1884) Іларыёна Чыстовіча і асобны (дзевяты) том, прысвечаны царкоўнай гісторыі Беларусі, з дванаццацітомавай «Гісторыі рускай царквы» (1857–1883) епіскапа (пазней мітрапаліта) Макарыя (Булгакава).

На чале праваслаўнай царкоўнай навукі XIX стагоддзя стаяла Пецярбургская духоўная акадэмія. Яе гісторыя пачынаецца з урачыстага акта адкрыцця 17 лютага 1809 г. Напачатку планавалася навучаць шэсць гадоў, але па прапанове мітрапаліта Амвросія (Падабедава) у 1813 г. зрабілі скарачэнне курса — таму што студэнты «ад доўгачасовага ў навуках практыкавання і разнастайных заняткаў нарэшце стаміліся». Усе наступныя курсы вучыліся па чатыры гады з падзелам на два аддзяленні: малодшае філасофскае (першыя два гады) і старэйшае багаслоўскае (наступныя два). Першыя студэнты жылі ў памяшканнях Аляксандра-Неўскай лаўры. Ужо ў 1817–1819 гг. паводле плана Джакама Кварэнгі (фасад архітэктара Руска) пабудавалі трохпавярховы мураваны будынак — «Дом мудрасці», з царквою, кватэрамі настаўнікаў, кабінетамі для заняткаў і бібліятэкай. У гэтым будынку на набярэжнай Абводнага канала акадэмія знаходзіцца і цяпер. Побыт студэнтаў таго часу быў сціплы. Выдаваліся два сурдуты (від вопраткі) на год; абед і вячэра ў буднія дні складаліся з дзвюх страў, толькі ў нядзелю дадавалася трэцяя і да т. п. Пасля заканчэння навукі выпускнікі звычайна ехалі працаваць прыходскімі святарамі, а таксама законанастаўнікамі ў школах, падпарадкаваных Міністэрству народнай асветы.

Сярод прафесараў акадэміі два былі бе-

[1] Зимин А. Слово о полку Игореве. СПб., 2006. С. 304–310.



*Будынак Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі*

ларускага паходжання. Абодва гісторыкі — Міхаіл Каяловіч і яго вучань Платон Жуковіч.

**Міхаіл Восіпавіч Каяловіч** нарадзіўся ў Кузніцы Сакольскага павета 20 верасня 1828 г. у сям'і уніяцкага святара. У 1851 г. закончыў духоўную семінарыю ў Вільні, а ў 1855 г. — Пецярбургскую духоўную акадэмію. З 1856 г. служыў у ёй на кафедры параўнальнага багаслоўя, а з 1869 г. і да канца жыцця займаў кафедру рускай грамадзянскай гісторыі. Актыўны абаронца панславісцкай канцэпцыі гісторыі Расіі і славянскіх народаў, заслужаны прафесар Міхаіл Каяловіч быў ганаровым членам Санкт-Пецярбургскага Славянскага дабрачыннага таварыства і членам Археаграфічнай камісіі пры Міністэрстве народнай асветы. Ён супрацоўнічаў з часопісамі «Царкоўны веснік», «Хрысціянскае чытанне», «Часопіс Міністэрства народнай асветы», газетамі «Дзень», «Грамадзянін», «Новы час» і іншымі.

Як беларуса М. Каяловіча цікавіла гісторыя Беларусі, як сына уніята — праваслаўе. Яго магістарская дысертацыя «Літоўская царкоўная унія» (1859–1861) стала першым грунтоўным даследаваннем па айчыннай царкоўнай гісторыі. «Каяловіч змагаўся супраць фэдэратыўнага прынцыпу, але разам з тым вызнаваў яго рацыю; змагаўся за адзінасьць Расіі разам з «Западной Русью», але разам з тым высока цаніў гістарычную асаблівасьць Беларусі. Іншымі словамі, ён стаяў у сваіх канчатковых разважаннях на ўзьмежку таго, што мы называем этнографізмам і нацыяналізмам. Ён старанна адхрышчваўся ад небясьпекі пераходу першай стадыі ўсьведамленьня ў другую, баяўся, галоўнае, каб гэты пераход ня быў скарыстаны Польшчай»[1].

У 1863 г. прафесар Каяловіч выпрацаваў ключавое ўяўленне пра беларускую нацыю, якое да таго ж ахапіла тэрыторыю Беларусі, вызначаную згодна з этнаграфічным прынцыпам. Яго формула «Беларусь — гэта краіна, дзе народ гаворыць па-беларуску» азначала з'яўленне цвёрдай карэляцыі паміж катэгорыямі «беларуская мова», «беларусы» і «Беларусь» (якая ўяўляецца як гістарычная і этнічная радзіма беларусаў). З цягам часу гэтая парадыгма стала агульнапрынятай. Пагодзімся з філосафам Валерам Булгакавым — яе выпрацоўку можна без перабольшвання назваць адным з сілавых пунктаў беларускай гісторыі XIX ст. Пасля яго стала магчымым канцэптуальнае афармленне неадпаведнасці паміж беларускай і расійскай традыцыямі. Прылучыўся Міхаіл Восіпавіч і да практычнай этнаграфіі: з яго наказу студэнты Пецярбургскай духоўнай акадэміі Іван Катовіч і Аляксандр Будзіловіч падчас летніх канікулаў зрабілі запісы беларускага фальклору, якія ў 1866 г. былі надрукаваны ў Вільні[2].

З 1864 да 1887 г. выйшлі чатыры выданні яго «Чытанняў па гісторыі Заходняй Расіі». Галоўная думка аўтара заключалася ў тым, што, нягледзячы на аб'яднанне Польшчы і Літвы (1386 г.) і Люблінскую палітычную унію 1569 г., руская народнасць у Вялікім Княстве Літоўскім заўсёды цягнулася да праваслаўнай веры і да Расіі. Каяловіч заклікаў вывучаць славянскі свет, развіваць міжславянскія сувязі. Але, у адрозненне ад свайго земляка прафесара Антона Будзіловіча, не выступаў за палітычнае аб'яднанне славян пад эгідай Расіі, усведамляючы, што культурная інтэграцыя патрабуе сур'ёзных зменаў у жыцці і свядомасці славянскіх народаў і таму яна малаверагодная.

У 1884 г. выйшла з друку манаграфія «Гісторыя рускай самасвядомасці», якая перавыдаецца і да сёння (апошні раз у 1997 г.)

[1] *Цвікевіч А.* «Западно-руссизм». Нарысы з гісторыі грамадскай мыслі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. Мінск, 1993. С. 144.

[2] *Гильтебрандт П.* Предисловие // Сборник памятников народного творчества в Северо-Западном крае. Вып. I. Вильна, 1866. С. CIV.

і мае ў пэўнай ступені скандальны водгук. Тут Каяловіч рэзка адмаўляе ўсялякі станоўчы ўплыў заходняй цывілізацыі на Расію. «Паводле Каяловіча, — піша сучасны гісторык, — калі беларус па веравызнанні каталік, дык ён ужо не сапраўдны беларус, ён ужо не «западнорус», а як бы напалову паляк. Каталіцтва ў яго вачах было гістарычным азначэннем нацыі. Тыя беларусы, якія ходам гісторыі прынялі каталіцтва і якія нават па яго ўласным прызнанні захавалі мову і звычаі беларускія, тым самым ужо выключаліся з ліку беларускага насельніцтва і аддаваліся Польшчы. <..> У гэтым сэнсе Каяловіч аказаў кепскую паслугу расійскай экспансіі на Беларусі, і пазнейшыя эпігоны яго (як, напр., А.П. Сапуноў) ніколі не маглі яму гэта дараваць»[1].

Жыў Міхаіл Восіпавіч пры акадэміі. Жонка яго, Надзея Платонаўна Менчыц (1840–1874 гг.), рана памерла, і прафесар сам выхоўваў сына, будучага матэматыка. Памёр Каяловіч 23 жніўня 1891 г., пахаваны на «прафесарскай дарожцы» Нікольскіх могілак Аляксандра-Неўскай лаўры.



*Магіла М. Каяловіча на Нікольскіх могілках Аляксандра-Неўскай лаўры*

Пераемнікам Каяловіча на кафедры гісторыі быў **Платон Мікалаевіч Жуковіч**.



*Платон Жуковіч*

Нарадзіўся ён у сям'і саборнага протаіерэя ў Пружанах у 1857 г. Закончыў Кобрынскае духоўнае вучылішча, Літоўскую духоўную семінарыю, а ў 1881 г. — Пецярбургскую духоўную акадэмію па царкоўна-гістарычным аддзяленні. З 1891 г. заняў пасаду дацэнта па кафедры рускай грамадзянскай гісторыі. У спісе выданняў Жуковіча найбольшае месца займаюць саматужныя літаграфічныя выданні яго лекцый па рускай гісторыі. Тыражы іх невялікія: ад 50 да 100 экзэмпляраў, заказчыкі — студэнты розных курсаў акадэміі. У 1901 г. выйшла яго доктарская дысертацыя «Сеймавая барацьба праваслаўнай заходнярускай шляхты з царкоўнай уніяй (да 1609 г.)», якая дала яму тытул ардынарнага прафесара. Гэтую працу Платон Мікалаевіч працягнуў далей, давёў даследаванне да 1632 г. Даслужыўся да чыну сапраўднага стацкага саветніка. Пасля закрыцця акадэміі савецкай уладай працаваў у Публічнай бібліятэцы. 30 лістапада 1918 г. Жуковіч абраны членам-карэспандэнтам Акадэміі навук. З 1914 г. Платон Мікалаевіч займаўся вывучэннем школьнай палітыкі, адміністратыўнага кіравання і суда, а таксама стану насельніцтва і палітыкі царскага ўрада на тэрыторыі Беларусі. Працаваў над гісторыяй сялянскай рэформы на Беларусі, складаў бібліяграфію па гісторыі краіны. Жыў Платон Жуковіч у прафесарскіх кватэрах духоўнай акадэміі на Неўскім праспекце, 182.

Выкладаў у акадэміі яшчэ адзін гісторык-беларус — **Сцяпан Рыгоравіч Рункевіч.** Ён нарадзіўся ў студзені 1867 г. у сям'і протаіерэя

[1] *Кандрацюк М.* М. В. Каяловіч і яго працы аб этнаграфічнай і моўнай мяжы паміж Польшчай і Заходняй Расіяй (Беларуссю) у кантэксце даследаванняў іншых вучоных // Белорусский сборник: Статьи и материалы по истории и культуре Белоруссии. Вып. 1. СПб., 1998. С. 140, 141.

Мінскай епархіі. Выпускнік 1891 г., ён застаўся тут як выкладчык, у 1901—1908 гг. быў прыват-дацэнтам Пецярбургскага універсітэта. Акрамя гэтага Рункевіч займаўся адміністратыўнай дзейнасцю ў Сінодзе: з 1901 г. быў обер-сакратаром, з 1903 — членам Духоўна-вучэбнага камітэта, з 1917 — памочнікам кіраўніка канцылярыі. Да сёння вялікую каштоўнасць уяўляе падрыхтаванае Рункевічам фундаментальнае «Апісанне дакументаў архіва заходнярускіх уніяцкіх мітрапалітаў» (за 1470—1843 гг.). Добрае веданне архіўных крыніц дазволіла яму выдаць гістарычныя працы, прысвечаныя пераходу уніятаў у праваслаўе. Напрыклад, «Гісторыю Мінскай архіепіскапіі. 1793—1832 гг.)» (1893), дзе прасочаныя не толькі палітычныя, юрыдычныя і культурныя аспекты гэтага працэсу, але і пытанні эканамічныя, менавіта царкоўнага землеўладання літаральна па кожным прыходзе. Жыў Рункевіч у цэнтры Пецярбурга, на Кабінецкай (цяпер вуліца Праўды), 17. Памёр у сакавіку 1924 г.[1].

Студэнты-беларусы былі ўжо ў першым выпуску акадэміі. Ураджэнец Рагачова **Васіль Іванавіч Грыгаровіч** (1784—1850), у манастве Венедыкт, пасля заканчэння акадэміі стаў рэктарам Пецярбургскай духоўнай семінарыі, а ў 1831 г. — рэктарам акадэміі. У першыя гады яго рэктарства выявілася недастача ў 30 тысяч рублёў. З гэтай прычыны ў яго з акладу да 1833 г. адлічвалі грошы на пагашэнне доўгу, і ён жыў, будучы рэктарам, а потым, па звычцы, у архірэйстве, бедна. Стаў ворагам раскошы і ўсялякай далікатнасці, вёў просты лад жыцця: нават на Вялікдзень яму дастаткова было качана капусты і чорнага хлеба. У 1833 г. Венедыкт атрымаў сан епіскапа Рэвельскага, а праз дзевяць гадоў — архіепіскапа Аланецкага. «Агульная рэпутацыя яго была — законніка, канцылярыста і паслядоўнага фармаліста. Ніякая сіла, ніякая просьба не маглі прымусіць гэты ўвасоблены звод законаў і кананічных пастаноў адхіліцца ад дакладнага і непасрэднага іх сэнсу. У вышэйшай ступені просты, праўдзівы, ён ненавідзеў вакольныя шляхі, не крывіў душой ні перад кім і смела, з уласцівай яму рэзкасцю, якая блізка падыходзіла да грубасці, адмаўляў у несправядлівых патрабаваннях нават людзям знакамітым. Не было ад яго спуску нікому, нават сваім таварышам па акадэміі, калі яны дзейнічалі несправядліва і незаконна...», — такую характарыстыку давалі Венедыкту сучаснікі.

Аднакурснік Грыгаровіча **Якаў Гаўрылавіч Гладкі** адразу пасля заканчэння акадэміі паехаў працаваць у Магілёў. Быў святаром і рэктарам магілёўскіх духоўных вучылішчаў, з 1826 г. — протаіерэем кафедральнага сабора і законанастаўнікам ў пансіёне шляхетных дзяўчат. Сучаснікі ўспаміналі, што айцец Якаў быў чалавек заможны: меў у горадзе два добрыя дамы, сад і 150 душ сялянаў. Памёр, страціўшы зрок, у 1850-я гг.

У старажытным Прапойску нарадзіўся яшчэ адзін будучы акадэміст і выдатны гісторык — **Іван Іванавіч Грыгаровіч** (1790—1852), малодшы брат Васіля Грыгаровіча. Пры заканчэнні курса Магілёўскай семінарыі ён быў атэставаны як адзін з лепшых вучняў, пры гэтым так добра засвоіў грэчаскую і лацінскую мовы, што мог на іх свабодна размаўляць. У 1815 г. ён апынуўся сярод 38 чалавек трэцяга набору Пецярбургскай духоўнай акадэміі, на яго ўтрыманне дзяржаўны канцлер граф Мікалай Румянцаў штогод пералічваў 350 рублёў асігнацыямі. Даводзілася адпрацоўваць: студэнт шукаў патрэбныя для свайго мецэната звесткі ў рукапісах, перакладаў з лацінскай мовы лісты да яго ад вядомага кракаўскага бібліяфіла Ежы Самуэля Бандтке, выконваў іншыя даручэнні.



*Іаан Грыгаровіч. Гравіраваны партрэт*

Пасля заканчэння ў 1819 г. акадэміі Іван Грыгаровіч быў пасвечаны ў святары магілёўскім архіепіскапам Даніілам (Мірдамскім), а праз некалькі дзён уведзены ў протаіерэі гомельскай царквы і прызначаны рэктарам гомельскіх павятовага і прыходскага вучылішчаў. Гомельскі перыяд (1820—1829 гг.) быў надзвычай плён-

[1] *Щеглов Г. Э.* Степан Григорьевич Рункевич (1867—1924). Жизнь и служение на переломе эпох. Минск, 2008.

ным у дзейнасці айца Іаана. Ён распачаў працу над дадаткамі да «Гісторыі расійскай іерархіі» епіскапа Амвросія (Арнацкага), якія неўзабаве ператварыліся ў самастойную працу «Беларуская іерархія». Акрамя таго, выдаў у 1824 г. зборнік гістарычных дакументаў пад назвай «Беларускі архіў старажытных грамат». Задаволены першым томам «Беларускага архіва...» Румянцаў выказаў Грыгаровічу пажаданне скласці «слоўнік беларускіх слоў, для нас незразумелых». Праўда, прыступіць да здзяйснення гэтага пажадання ўдалося толькі больш як праз дваццаць гадоў. У 1829 г. протаіерэй Іаан пераведзены з правінцыйнага Гомеля ў губернскі Віцебск і прызначаны рэктарам віцебскіх павятовага і прыходскага вучылішчаў, цэнзарам казанняў, а пасля і настаўнікам (законавучыцелем) у Віцебскую гімназію.




*Паштоўка канца XIX ст. з відам дамовай царквы Анічкава палаца*

У 1830 г. Віцебск наведаў імператар Мікалай І. Яго суправаджаў духоўнік, протапрэсвітэр Мікалай Музоўскі, які тут захварэў і вымушаны быў некаторы час заставацца ў доме Грыгаровіча. На царскага духоўніка айцец Іаан зрабіў моцнае ўражанне, і Музоўскі, вярнуўшыся ў сталіцу, паспрыяў пераводу Грыгаровіча ў Пецярбург, протаіерэем у лейб-гвардыі Фінляндскі полк. Кватаравалі фінляндцы на Васільеўскім востраве, усе будынкі на беразе Нявы паміж 18-й і 20-й лініямі належалі палку.

У сталіцы Грыгаровіч працягваў выданне гістарычных помнікаў. Ён выпусціў «Перапіску пап з расійскімі гасударамі па рукапісах рымскай бібліятэкі Барберыні» (1834 г.), а ў наступным годзе выйшлі з друку падрыхтаваныя Грыгаровічам і з яго прадмовай творы бліскучага праваслаўнага прапаведніка і палеміста, беларускага архіепіскапа Георгія Каніскага (ён быў Грыгаровічу стрыечным дзядзькам па маці). Апошняе выданне было асабліва ўхвальна прынята пры двары. Імператар за паднесены яму паасобнік падараваў складальніку залаты гадзіннік.

Тут варта заўважыць, што ў невялікім (на цяперашнія меркі) Пецярбургу цесна злучаліся лёсы тых сучаснікаў, якія займаліся інтэлектуальнай дзейнасцю. Так, шляхі нашага героя перасекліся з пуцявінамі Аляксандра Пушкіна. Апісанне бібліятэкі Пушкіна паведамляе, што ў паэта была «Перапіска пап...», а для першай рэцэнзіі ў сваім новым часопісе «Сучаснік» Аляксандр Сяргеевіч абраў кнігу Георгія Каніскага, якую выдаў айцец Іаан. «І. Грыгаровіч, выдаўшы сачыненні вялікага архіепіскапа Беларусі, аказаў грамадству важную паслугу», — пісаў паэт.

Увага пануючых асоб да дзейнасці святара-гісторыка дала магчымасць здзейсніць мару пра выданне гістарычных дакументаў, датычных Беларусі. Як знаўцу старажытнасці, Грыгаровіча ў 1837 г. прынялі ў члены Археаграфічнай камісіі. Практычна гэта значыла, што ён сам мог цяпер вызначаць выдавецкую палітыку гэтай установы. Вынікам сталі чатыры тамы «Актаў Заходняй Расіі...». Айцец Іаан для выдання рыхтаваў усё сам: падбіраў і апрацоўваў дакументы, пісаў прадмовы, чытаў карэктуры. Каб дазволіць актыўнаму археографу прысвячаць болей часу навуковай працы, яго перавялі ў прыдворнае ведамства, прызначыўшы святаром царквы Анічкава палаца.

Жыў Грыгаровіч побач, за Анічкавым мостам, у доме на рагу Фантанкі і Графскага завулка. Дом гэты пабудаваў у 1822 г. архітэктар Дзілодзін спецыяльна для святара і прычта (дыяканаў і псаломшчыкаў) Анічкава палаца. Абодва сыны Грыгаровіча — Іван (1833—1904) і Мікалай (1835—1889) сталі прафесійнымі гісторыкамі. Мікалай Іванавіч доўгі час займаў пасаду загадчыка архіва Сінода, надрукаваў перапіску Івана Грыгаровіча з графам Румянцавым, а таксама біяграфічны нарыс і прадмову да збору твораў бацькі.

**Ксенафонт Антонавіч Гаворскі** (1821—1871) пасля вучобы ў акадэміі быў 25 гадоў выкладчыкам у Полацкай духоўнай семінарыі, супрацоўнічаў з газетай «Віцебскія губернскія ведамасці», у 1857—1858 гг. быў рэдактарам яе неафіцыйнай часткі. Ён правёў археалагічныя раскопкі курганоў каля Полацка, упершыню ахарактарызаваў іх структуру, вызначыў час узнікнення. Нястомны краязнаўца даследаваў курганы ў Лепельскім павеце, апісаў старажытную (так званую Альгердаву) дарогу з Полацка на Вільню і помнікі абапал яе, апублікаваў важныя для гісторыі Беларусі дакументы, арыгіналы якіх потым загінулі. Гаворскі шмат пісаў пра ўвядзенне хрысціянства ў Полацкім княстве, пакінуў

нататкі па гісторыі Беларусі, пераважна царкоўнай. Пасля выхаду ў адстаўку ў 1860 г. ён стаў рэдактарам і выдаўцом часопіса «Веснік Заходняй і Паўднёва-Заходняй Расіі».

Выпускнік Мінскай духоўнай семінарыі **Іосіф Антонавіч Гашкевіч** (1814—1875) падчас навучання ў акадэміі стаў арганізатарам першага літаграфічнага выдання старазапаветных тэкстаў на сучаснай рускай мове (пераклад рабіў для студэнтаў протаіерэй Герасім Паўскі, што і наклікала на яго ў 1839 г. абвінавачанне ў ерасі). Пасля заканчэння акадэмічнага курса Гашкевіч да 1849 г. працаваў у расійскай місіі ў Пекіне, даследаваў культуру Кітая, вывучаў кітайскую і карэйскую мовы. У 1853—1855 гг. служыў перакладчыкам пры пасольстве адмірала Яфіма Пуцяціна ў Японію. З удзелам Гашкевіча быў заключаны гандлёвы расійска-японскі дагавор 1855 г., які ўвайшоў у гісторыю пад назвай «Сімодскага трактата». Па дарозе з Японіі Гашкевіча захапілі ў палон англічане (ішла Крымская вайна). Ён быў зняволены ў Ганконгу, потым перавезены ў Портсмут. У Пецярбург святар-дыпламат вярнуўся толькі праз дзевяць месяцаў. У 1856—1858 гг. Гашкевіч — супрацоўнік Азіяцкага дэпартамента Міністэрства замежных спраў. Разам з японцам Тацібана-но Коосай, які жыў у Пецярбургу, ён выдаў у 1857 г. першы японска-рускі слоўнік (адзначаны залатым медалём пецярбургскай Акадэміі навук і Дзямідаўскай прэміяй). У 1858 г. Гашкевіч зноў едзе ў Японію, цяпер як першы расійскі дыпламатычны прадстаўнік, месцам для яго прызначаны горад-порт Хакадатэ. Захаваўся дзённік губернатара Хакадатэ, дзе паведамляецца, што на першы час, пакуль расійская місія не мела яшчэ сваёй рэзідэнцыі, яе пасялілі ў будыйскім храме Дзіцугёдзі. «У храме часова спыніліся: консул, яго жонка, маці, сакратар, ваенна-марскі афіцэр, урач, святар, жонка ўрача, чацвёра слуг мужчын і дзве жанчыны». Гашкевіч стаў адным з першых іншаземцаў, якому дазволена было наведаць «унутраную Японію», у т. л. двор сёгуна ў Эда (цяпер Токіо). У сакавіку 1867 г. дыпламат-беларус ужо ў Пецярбургу суправаджаў другое японскае пасольства Койдэ-Яматано-камі і Ісікава-Суругано-камі ў Кранштат і перакладаў, падчас перамоваў, дырэктару Азіяцкага дэпартамента Пятру Стрэмавухаву. Ёсць верагоднасць, што кіруючыя асобы не былі задаволены яго працай, бо зусім хутка, у лістападзе 1867 г., Гашкевіч ва ўзросце 53 гады выходзіць у адстаўку і выязджае з Пецярбурга на радзіму. Канец жыцця ён правёў у сваім маёнтку Малі Віленскага павета. Сабраныя падчас падарожжаў калекцыі флоры і фаўны Паўднёвай Афрыкі і Паўднёва-Усходняй Азіі, Іосіф Антонавіч перадаў Заалагічнаму музею пецярбургскай Акадэміі навук.



*Архіепіскап Ніл (Мікалай Ісаковіч)*

Вядомым усходазнаўцам стаў выпускнік Магілёўскай семінарыі **Мікалай Фёдаравіч Ісаковіч** (1799—1874), у манастве Ніл, адзін з тых, хто фармаваў місіянерскую палітыку праваслаўнай царквы на ўсходзе імперыі. У 1835 г. айцец Ніл атрымаў сан епіскапа Вяцкага, з 1838 г. ён епіскап (ад 1840 г. архіепіскап) Іркуцкі, з 1853 г. — архіепіскап Яраслаўскі. Для практычнага ўжытку праваслаўных місіянераў ён склаў граматыку мангольскай мовы, пераклаў на яе Евангелле, Апостал і Актоіх. Аўтарытэт у навуковым асяроддзі яму прынесла манаграфія «Будызм, разгледжаны ў адносінах да яго паслядоўнікаў, што жывуць у Сібіры» (1858). Ісаковіч быў абраны ганаровым членам Пецярбургскага і Казанскага універсітэтаў. У «Апісанні падарожжаў па Сібіры» ён паслядоўна натуе грунтоўныя этнаграфічныя і мінералагічныя назіранні. Да сёння вучоныя карыстаюцца яго кнігамі, дзе развагі місіянера часам займаюць менш месца, чым заўвагі геолага і этнографа, які спускаўся на лодках па Лене — адной з найвялікшых рэк Сібіры. Сабраны падчас сібірскіх падарожжаў багаты мінералагічны кабінет архіепіскап Ніл завяшчаў Пецярбургскаму універсітэту. Эпітафіяй гэтаму нястомнаму вандроўніку, даследчыку, пастыру і пісьменніку можа быць

любімы ім выраз Піндара: Sermo factis diutius vivit — слова жыве даўжэй, чым справы.

Іншыя выпускнікі пасля заканчэння акадэміі засталіся выкладчыкамі Свяшчэннага пісання і старажытных моў, настаяцелямі храмаў у розных беларускіх мясцовасцях. Так, **Іван Юркевіч** напачатку (у 1841–1844 гг.) працаваў у Магілёўскай семінарыі, а ў 1844–1870 гг. — у Літоўскай семінарыі ў Жыровічах і Вільні. У «Літоўскіх епархіяльных ведамасцях» ён надрукаваў нарыс Літоўскай епархіі, а ў пецярбургскім «Этнаграфічным зборніку» — этнаграфічную працу «Астрынскі прыход Віленскай губерні Лідскага павета», дзе сабраў звесткі пра вясельныя, радзінныя і пахавальныя абрады, забабоны і песні мясцовага люду. Ураджэнец сяла Стрыгава Кобрынскага павета **Антоній Шамяціла** працаваў у Скідалі, Гродне і Вільні. Яго брат Іаасаф таксама закончыў акадэмію, пасля працаваў у Вільні, дзе і памёр (у 1859 г.) ад сухотаў.

Цэлую дынастыю склалі тры сыны святара з Магілёўскай епархіі Фёдара Ганкевіча, два з якіх пасля заканчэння акадэміі цесна былі звязаны з Пецярбургам. Старэйшы, **Пётр Ганкевіч** (1820–1889), пасля навучання ў Пецярбургу вярнуўся ў Магілёў, працаваў у семінарыі, быў настаяцелям Мікалаеўскай царквы, потым кафедральнага сабора. **Павел Ганкевіч** (1823–1893), у манастве Паладзій, служыў інспектарам, потым рэктарам Магілёўскай семінарыі, але са жніўня 1871 г. ён зноў у Пецярбургскай епархіі — вікарны епіскап Выбаргскі, пазней Ладажскі. **Дзмітрый Ганкевіч** вучыўся ў акадэміі ў 1853–1857 гг. У маі 1861 г. ён пасвечаны ў святара царквы пры Дзіцячым прытулку прынца Ольдэнбургскага ў Пецярбургу. Выкладаў Закон Божы ў розных навучальных установах горада. З 1885 г. служыў у царкве на Волкавых могілках.

А вось ураджэнец Магілёўшчыны **Якаў Аляксандравіч Чыркевіч** меў іншы лёс. Пасля заканчэння акадэміі ён толькі адзін год быў на радзіме — выкладаў у семінарыі. Потым на працягу 36 гадоў служыў у Прыбалтыцы як настаяцель розных цэркваў у Дэрпце, Пернаве, Мітаве. Апошнія сем гадоў — у Пецярбургу, дзе і закончыў службу.

Самая вялікая колькасць акадэмістаў-беларусаў навучалася ў 1848–1851 гг. Сярод іх найбольш выдатнай асобай з'яўляецца ўжо вядомы нам **Аляксандр Іванавіч Браўковіч** (1826–1890), у манастве Ніканор, сын святара з вёскі Высокае, па ўсёй верагоднасці,



*Архіепіскап Ніканор (Аляксандр Браўковіч)*

Сенненскага павета. Васьмігадовым хлопчыкам ён паступіў у духоўнае вучылішча ў Магілёве і тут, а потым у духоўнай семінарыі, заставаўся, будучы пры гэтым пеўчым архірэйскага хору, сем гадоў. У 1842 г., калі для ўзорнай Пецярбургскай семінарыі запатрабаваныя былі лепшыя выхаванцы з правінцыйных семінарый, Аляксандр Браўковіч быў пераведзены ў Пецярбург, дзе і вучыўся да 1847 г. Шмат пазней, у 1883 г., ён звяртаўся да ўспамінаў свайго дзяцінства, апісваючы жыццёвы лад вясковага святара: «Дарагое дзяцінства, колькі яно прыносіць чыста паэтычных, высока ідылічных успамінаў! І гэтыя ўспаміны, як светлы туман пад промнямі ранішняга сонца, падымаюцца асабліва з апрацаваных палёў, лугоў, лясоў, сярод якіх нарадзіліся, жылі, працавалі і памерлі нашы бацькі. Мы самі ў дзяцінстве працавалі ўласнымі рукамі, вазілі і складалі снапы, раскідалі гной, ездзілі ў лес па дровы, вадзілі на паству коней і г. д. Мой бацька рабіў усё ў хаце ўласнымі рукамі, рамантаваў калёсы, збрую, хадзіў за вуллямі, вазіў гной, драў ляда (расчышчаў гушчар леса пад пашню), сеяў жыта, толькі не малаціў па слабасці сілаў і не хадзіў з сахой — не было такога звычаю»[1]. Пасля заканчэння семінарыі і акадэміі іераманаха Ніканора ў якасці

[1] Никанор (Бровкович А.И.). Биографические матерьялы. Т. 1. Одесса, 1900. С. 15.

бакалаўра пакінулі пры акадэміі. Пазней служба яго была звязана з выкананнем абавязкаў рэктара і выкладчыка Рыжскай і Саратаўскай семінарый, архіепіскапа Херсонскага і Адэскага. Уладыка Ніканор палюбіў сюжэты, звязаныя з літаратурай: доктарскую ступень ён атрымаў за сачыненне «Разбор рымскага вучэння пра відавочнае верхавенства папы». Галоўнай яго філасофскай працай стала трохтомавая «Пазітыўная філасофія і звышпачуццёвае быццё». Ідэі і разважанні Ніканора высока ацанілі філосафы У. Салаўёў, Э. Радлаў, Г. Флароўскі[1]. Два гады ён быў членам Сінода, кантактаваў з обер-пракурорам Сінода Канстанцінам Пабеданосцавым і меў на яго ўплыў (пазней асобным выданнем была надрукавана іх перапіска). У сваіх вусных (і друкаваных) казаннях Ніканор любіў закранаць літаратарараў — выдаў гутаркі пра Пушкіна, Дастаеўскага, гнеўна дакараў графа Льва Талстога за разбурэнне нібыта не толькі праваслаўна-хрысціянскай веры, але і ўсялякай рэлігіі. Рэзка крытыкаваў ягоныя погляды па пытаннях царквы і дзяржавы, хрысціянскага шлюбу.

Арыгінальнасць Браўковіча ў побыце вабіла і адначасова адштурхоўвала сучаснікаў. Вось заўвага з яго мемуараў: «...у Пецярбургу я адчуваў антыпатыю да абедаў. Гэта духата, гэты шум, нават ад гэтага багатага ядзення, асабліва салёных і рыбных закусак, кепска дзейнічалі на мяне, выклікаючы проста ташнату. ...На першым абедзе, які я вытрымаў у Пецярбургскай Акадэміі, у мяне проста галава закруцілася ад гэтай нудотнай, няспыннай бяседы, у якой кожны ўдзельнік уяўляў, што гаворыць геніяльныя рэчы. Каля мяне быў пасаджаны М. В. Каяловіч, які бесперапынна трашчаў мне на вуха, прыстаўляючы кончык свайго носа да самага майго носа, што заўсёды нядобра дзейнічае на мае нервы, і я заўсёды ад такога субяседніка адсоўваюся. А тут і адсунуцца не было куды, так што я, стомлены гэтым абедам, тут жа адчуў, што трэба падобнае не паўтараць...»[2]. Сімвалічна, што епіскап Ніканор карыстаўся архірэйскім посахам мітрапаліта Іосіфа Сямашкі, які атрымаў у спадчыну. У сваім жа тэстаменце з невялікай уласнай маёмасці адпісаў бібліятэцы Пецярбургскай духоўнай семінарыі жывапісныя партрэты санкт-пецярбургскіх мітрапалітаў Ніканора (Кляменцьеўскага) і Ісідара (Нікольскага) у залатых рамах, а ў бібліятэку Новарасійскага універсітэта «жывапісны ў залачонай раме партрэт паэта Пушкіна ў сталыя гады».

Больш сціплай была кар'ера сына уніяцкага святара з Бельскага павета **Антона Мікалаевіча Шумовіча** (1827—1900), які пачатковую адукацыю атрымаў у Супраслі і Жыровічах. Пасля заканчэння акадэміі ён выкладаў у духоўнай семінарыі ў Вільні нямецкую мову і багаслоўе. У 1862 г. звольніўся з духоўнага звання і перайшоў у Віленскую навучальную акругу. Працаваў у Маладзечанскай і Мінскай гімназіях, быў выкладчыкам у Гродзенскай і інспектарам у Гомельскай гімназіях. З 1875 г. Шумовіч — дырэктар віленскай прагімназіі, у 1881 г., выйшаўшы ў адстаўку, пераехаў у Гродна. Яго сакурснік і зямляк Іван Рыгоравіч Заркевіч (1827—1885), пазней епіскап Мікалай, зрабіўся пецярбуржцам. Больш за пятнаццаць гадоў (з 1869 да 1884) ён працаваў законавучыцелем у Паўлаўскім ваенным вучылішчы, да гэтага стала супрацоўнічаў у часопісе «Дух хрысціяніна». Назіраючы за развіццём грамадства, праасвяшчэнны Мікалай прыйшоў да ўсведамлення не толькі недастатковасці духоўнага развіцця сучаснікаў, але і адсутнасці ў духоўнай літаратуры багаслоўска-філасофскіх твораў, якія былі б карыснымі для кожнага чалавека. Гэта падштурхнула яго да выдавецкай працы. З 1867 да 1880 г. яго высілкамі выйшлі васемнаццаць тамоў розных вучона-багаслоўскіх твораў пад агульнай назвай «Матэрыялізм, навука і хрысціянства». Рэзананс у грамадстве мела і ўласнае сачыненне Заркевіча «Сучасны матэрыялізм перад судом розуму» (1866).

Толькі на час навучання быў пецярбуржцам **Іван Андрэевіч Пігулеўскі** (1824—1889), ураджэнец Мінскай губерні, які закончыў школу ў Слуцку і Мінскую семінарыю. Пасля выпуску ён жыў і працаваў у Мінску. Яго сакурснік **Мацей Іванавіч Красавіцкі** (памёр у 1888 г.), сын святара Смаленскай епархіі, працаваў настаўнікам у Полацкай семінарыі, міравым пасярэднікам у Лепелі, святаром Мікалаеўскага сабора ў Полацку, рэдактарам (у 1874 г.) «Полацкіх епархіяльных ведамасцяў». Іначай склаўся лёс Данілы Сямёнавіча Захарэвіча (памёр у 1888 г.), таксама сына святара, выпускніка Магілёўскай семінарыі. Скончыўшы Пецярбургскую ду-

[1] *Карасёва С.* Жыццяпіс архіепіскапа Адэскага і Херсонскага Ніканора (А. І. Браўковіча) // Праваслаўе. 1998. № 7. С. 37—51.

[2] Записки высокопреосвященного Никанора, архиепископа Херсонского и Одесского. М., 1907. С. 188.

хоўную акадэмію, ён застаўся ў сталіцы, выбраў кар'еру ваеннага чыноўніка (служыў памочнікам акружнога інтэнданта), удзельнічаў у кампаніях 1863 г. у Польшчы і 1877—1878 гг. у Турцыі, падчас якіх атрымаў чын сапраўднага стацкага саветніка і ордэн Уладзіміра III ступені.

Назаўсёды ўдзячным сваёй Alma mater застаўся **Аляксандр Андрэевіч Станкевіч** (1821—1903), сын святара Мінскай епархіі. У 1843 г. ён закончыў у Жыровічах Літоўскую духоўную семінарыю, пасля навучання ў Пецярбургу працаваў у Мінску, Полацку, Афінах. Сваю каштоўную калекцыю эфіопскіх рукапісаў Аляксандр Станкевіч падараваў бібліятэцы духоўнай акадэміі (цяпер яго збор знаходзіцца ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы).




*Паштоўка канца XIX ст.*

Сын протаіерэя Магілёўскай епархіі **Леў Іванавіч Багдановіч** навучаўся ў Пецярбургскай акадэміі ў 1851—1855 гг., потым служыў у Пецярбургу: настаўнікам пры 2-м кадэцкім корпусе, святаром Петрапаўлаўскай царквы Мікалаеўскага інжынернага вучылішча, а з 1863 г. — законавучыцелем берэйтарскай школы. З 1860 г. Багдановіч — святар і законавучыцель Камерцыйнага вучылішча. Выдаў падручнік «Урокі хрысціянскай маральнасці». У царкоўных колах мела рэзананс яго рэцэнзія ў часопісе «Дух хрысціяніна» на сачыненні Эрнэста Рэнана.

З заканчэннем курса акадэміі быў выкладчыкам Аляксандра-Неўскага духоўнага вучылішча **Іван Іванавіч Лапа** (памёр у 1898 г.). З 1861 г. ён — памочнік сакратара канцылярыі обер-пракурора Сінода, а ў 1871 г. — начальнік аддзялення гэтай жа канцылярыі. У 1885 г. Лапа атрымаў чын сапраўднага стацкага саветніка. Курсавую працу пісаў на тэму «Агляд палемікі праваслаўных з каталікамі і уніятамі ў Паўднёва-Заходняй Расіі ад 1620 да 1700 года». Жыў на Нікалаеўскай вуліцы, 37.

Толькі падчас навучання (у 1859—1863 гг.) быў пецярбуржцам **Восіп Васільевіч Шчарбіцкі**, сын псаломшчыка з Віленскай епархіі. Пазней ён настаўнік, а ў 1876—1899 гг. — інспектар Віленскай семінарыі. Да 1875 г. Шчарбіцкі — член камісіі па арганізацыі Віленскай публічнай бібліятэкі. Яго магістарская праца «Базыльянскі ордэн» надрукавана ў часопісе «Хрысціянскае чытанне» за 1864 г. Гістарычныя зацікаўленні і грунтоўная пецярбургская падрыхтоўка дапамаглі Шчарбіцкаму рыхтаваць да друку гістарычныя дакументы (у 5-м, 8-м і 10-м тамах вядомага выдання «Археаграфічны зборнік дакументаў да гісторыі Паўночна-Заходняй Русі») і напісаць кнігу «Віленскі Свята-Траецкі сабор» (1886).

Сын вясковага святара з Гродзенскай губерні **Нікадзім Пятровіч Малішэўскі** (памёр у 1888 г.) вучыўся ў акадэміі ў 1863—1867 гг. Яго выпускная праца «Стан уніяцкай царквы па «візітах» цэркваў белым уніяцкім духавенствам» прысвечана гісторыі Беларусі. Айцец Нікадзім імкнуўся вярнуцца на радзіму, але быў пасланы ў Астрахань, дзе і пражыў да смерці. Працаваў выкладчыкам, рэдактарам мясцовых «Епархіяльных ведамасцяў», друкаваў работы па гісторыі царквы ў рэгіёне. Двума курсамі ніжэй за Малішэўскага ішоў яго зямляк Іпаліт Феафілактавіч Краскоўскі (1845—1899), выпускнік гродзенскага духоўнага вучылішча, у будучым масквіч і вядомы пісьменнік.

Сын праваслаўнага святара з Себежскага павета **Нікіфар Фёдаравіч Адзінцоў** (1852—1906) стаў вядомы як гісторык царквы і педагог. Пасля сканчэння Віцебскай духоўнай семінарыі і Пецярбургскай духоўнай акадэміі ён працаваў інспектарам дырэкцыі народных вучылішчаў Віленскай губерні, з 1889 г. быў акружным інспектарам Віленскай навучальнай акругі. Адзінцоў пісаў пра стан адукацыі ў Віленскай навучальнай акрузе, вывучаў гісторыю праваслаўнага і уніяцкага набажэнстваў і богаслужбовай кнігі. На падставе аналізу зместу і прыпісак уніяцкіх службоўнікаў Вялікага княства Літоўскага XVII—XVIII стст. зрабіў выснову аб іх дваістай ролі адносна каталіцкіх уплываў на абраднасць — спрыяльнай да каталіцызму на працягу першай паловы гэтага перыяду і рэзка апазіцыйнай падчас другой. Акрамя таго, ён аўтар шэрагу дапаможнікаў для пачатковай школы: «Книга для чтения в народных училищах Северо-Западного края России» вытрымала пятнаццаць выданняў.

Значны ўклад у гістарычную навуку і ў археалагічнае вывучэнне Беларусі зрабіў **Уладзімір Зянонавіч Завітневіч** (1853–1927). Ён нарадзіўся ў вёсцы Ліцвяны недалёка ад Узды, у 1878 г. скончыў Пецярбургскую акадэмію. Асноўная яго гістарычная праца была прысвечана «Палінодыі» Захарыі Капысценскага і яе месцу ў гісторыі рэлігійнай палемікі XVI–XVII стст. Як археолаг Завітневіч даследаваў каля 700 курганоў дрыгавічоў у 82 могільніках пераважна ў Мазырскім, Рэчыцкім, Бабруйскім паветах. Акрэсліў межы рассялення дрыгавічоў, іх этнавызначальныя прадметы.

Актыўным праваслаўным публіцыстам у пачатку XX ст. быў **Фоцій Мікалаевіч Бяляўскі** (нарадзіўся ў 1873 г. у Невельскім павеце, закончыў акадэмію ў 1900 г.), які адразу ж асеў у Пецярбургу, працаваў членам Духоўна-вучэбнага камітэта пры Сінодзе. Артыкулы Бяляўскага рэгулярна з'яўляліся ў перыядычных выданнях «Царкоўны веснік», «Царкоўная газета», «Век», «Паломнік». Да пачатку Першай сусветнай вайны ён жыў на Коннагвардзейскім бульвары, 5.

Заканчваючы кароткі агляд біяграфій праваслаўных святароў-беларусаў, якіх лёс звязаў з Пецярбургам, мы не можам не ўзгадаць былога уніята, а потым ліквідатара царкоўнай уніі праваслаўнага мітрапаліта **Іосіфа Сямашку** (1799–1868). Ён паходзіў са шляхецкага роду, які ў XVII ст. валодаў вёскамі ў Аршанскім і Мсціслаўскім паветах. Нарадзіўся будучы іерарх у сям'і свяшчэнніка ў Кіеўскай губерні, пасля навучання ў Вільні дваццаць два гады пражыў у Пецярбургу. У сталіцу ён прыехаў у 1822 г., калі ў сане протаіерэя стаў членам 2-га (уніяцкага) дэпартамента Рымакаталіцкай калегіі і прабыў тут да 1844 г. Пасля смерці былі надрукаваныя яго ўспаміны пра першыя гады ў сталіцы: найбольшае ўражанне на маладога чалавека зрабілі шматлікія будоўлі, за якімі ён любіў назіраць, распытваючы масцеравых і архітэктараў. Засталіся ў памяці і трыццаць рублёў асігнацыямі, што былі заплачаны за права карыстацца кнігамі з бібліятэкі Глазунова (за першы год малады чалавек прачытаў больш як 400 кніг), цяжкасці ў вывучэнні рускай мовы, гульня ў карты, цікавасць да тэатра, на які выдаткоўвалася значная частка сціплага бюджэту[1]. У 1827 г. Іосіф Сямашка падаў дырэктару Дэпартамента духоўных спраў іншаземных спавяданняў Рыгору Карташэўскаму дакладную запіску пра становішча уніяцкай царквы ў Расіі і спосабах злучыць яе з праваслаўнай. Запіска гэта мела вялікія наступствы. З 1828 г. у Пецярбургу асэсарам грэка-уніяцкай калегіі служыў палачанін Венедыкт (Васіль) Лужынскі, у 1834 г. ён стаў уніяцкім епіскапам Аршанскім. 12 лютага 1839 г. епіскап Іосіф Сямашка і Васіль Лужынскі (на той час аршанскі епіскап і упраўляючы Беларускай епархіяй) сустрэліся на царкоўным саборы ў Полацку, дзе падпісалі саборны акт аб скасаванні уніі. А праз месяц, 25 сакавіка 1839 г. у Санкт-Пецярбургу прадстаўленне Свяшчэннага Сінода імператару аб прыняцці былых уніятаў падпісаў, сярод іншых, беларус Васіль Кутневіч.

Лёсы выпускнікоў Пецярбургскай духоўнай акадэміі склаліся па-рознаму, але кожны быў прыкметным дзеячам сваёй эпохі. А філосафаў Аляксандра Браўковіча і Івана Заркевіча, усходазнаўцаў Іосіфа Гашкевіча і Мікалая Ісаковіча, гісторыкаў Іаана Грыгаровіча, Міхаіла Каяловіча і Платона Жуковіча можна смела залічыць у шэраг класікаў у сваіх навуках. Таксама як і ўраджэнца Шумілінскага раёна **Зміцера Іванавіча Даўгялу** (1868–1942), выдатнага архівіста і гісторыка, выпускніка духоўнай акадэміі 1894 г.

* * *

Значная колькасць выхадцаў з Беларусі ў Пецярбургу належала да каталіцкага веравызнання. Гэта тлумачылася, прынамсі, перавагай каталікоў сярод беларускай шляхты. Пасля далучэння да Расіі ў 1772 г. часткі Беларусі са шматлікім каталіцкім насельніцтвам паўстала праблема суіснавання побач з афіцыйным праваслаўем не «апазіцыйнага» і таму прыгнечанага, задаўленага хрысціянскага староверства, а магутнай і ўплывовай сусветнай канфесіі — каталіцызму. У канцы 1772 г. у сталіцу былі пакліканы прадстаўнікі розных канфесій, каб даць прысягу на вернасць імператрыцы Кацярыне II. Ад уніятаў прысягнулі полацкі архіепіскап Ясон (Смагаржэўскі), ад каталікоў лацінскага абраду — рэктар Полацкай езуіцкай калегіі а. Станіслаў Чарневіч, які ездзіў у Пецярбург у суправаджэнні Гаўрыіла Лянкевіча і Язэпа Катэнбрынга. Каб кіраваць каталікамі, па волі Кацярыны II была створана Беларуская рымакаталіцкая дыяцэзія з цэнтрам у Магілёве, да яе прыпісаны каталіцкія храмы ў Пецярбургу і Маскве. Езуіты Станіслаў Чарневіч і Гаўрыіл Лянкевіч яшчэ амаль не два месяцы прабылі ў Пецярбургу ў наступным, 1773 годзе, калі

[1] Записки Иосифа митрополита Литовского. Т. 1. СПб., 1883. С. 1–46.

вырашалася прытанне пра лёс іх забароненага Рымам (у тым жа 1773 г.) ордэна. У канцы лістапада атрымалі нарэшце вердыкт імператрыцы, падрыхтаваны пры актыўным удзеле генерал-губернатара Беларусі графа Захарыя Чарнышова: папскае брэве пра забарону іезуітаў на тэрыторыі Расійскай імперыі не абвяшчаецца, ордэн працягвае дзейнічаць[1]. Гэтая пастанова моцна падняла статус Полацкай калегіі — яна стала Акадэміяй — і спрыяла актыўным адносінам Полацка са сталіцай.

У Пецярбургу меў рэзідэнцыю першы рыма-каталіцкі епіскап у Расійскай імперыі, ураджэнец Гродзеншчыны **Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч** (1731–1826). Выразную характарыстыку гэтага чалавека можна знайсці ў дзённіку, які пісаўся падчас знаходжання ў Мармуровым палацы караля Станіслава Аўгуста: «Архіепіскап Сестранцэвіч родам ліцвін, у сваёй маладосці быў афіцэрам у гусараў у прускай службе, потым пакінуў кальвінскае вызнанне, прыняў каталіцкую рэлігію і капланскае пасвячэнне... Нябожчык біскуп віленскі кс. Масальскі намінаваў яго суфраганам на Беларусі, а Кацярына ІІ дала яму архіепіскапства Магілёўскае. Дыяцэзія яго і вяршэнства над усімі каталікамі лацінскімі сягае ад Магілёва да Камчаткі. Пенсія яго складае 10 тысяч рублёў. Гэта чалавек вельмі вучоны і вельмі станоўчы»[2]. Епіскапам Сестранцэвіч стаў у 1773 г., а ў маі наступнага быў пастаўлены правячым епіскапам новаўтворанай дыяцэзіі. Гэты святар і сёння шмат каму не да спадобы — сучасны гісторык піша, што Сестранцэвіч «у сваёй дзейнасці свядома і без ніякага супраціву кіраваў да як найдалей ідучага падпарадкавання касцельнай арганізацыі дзяржаве. Не лічыўся з Рымам, выношваў планы эвентуальнага ператварэння каталіцкага касцёла ў Расіі ў патрыярхат...»[3].

Указ Кацярыны ІІ аб стварэнні Магілёўскага архіепіскапства выйшаў 17 студзеня 1782 г. Потым распачалася доўгая перапіска паміж Пецярбургам і Рымам, аж пакуль апостальская сталіца не пагадзілася і папа не выдаў булу аб стварэнні архіепіскапства, зацвердзіўшы намінацыю Сестранцэвіча. Урачыстае пастаўленне новага архіепіскапа адбылося 29 студзеня 1784 г. у касцёле св. Кацярыны. Засталася ў сталіцы і заўсёдная рэзідэнцыя —



*Архіепіскап Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч*

хаця ў тытул архіепіскапа ўлады не дазволілі паставіць найменне «Пецярбургскі», абмяжоўваючыся найменнем «Магілёўскі». У пачатку пецярбургскага перыяду Сестранцэвіч напісаў кнігу «Аб паходжанні славянаў і сарматаў», пераклаў на польскую мову акты расійскага заканадаўства — гэта не магла не ацаніць імператрыца: архіепіскап быў узнагароджаны ад маястату. У 1792 г. ён стаў членам Імператарскага Вольнага эканамічнага таварыства, а ў 1813–1823 гг. быў яго прэзідэнтам. Акрамя ўсяго Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч быў ганаровым членам Маскоўскага, Віленскага і Кракаўскага універсітэтаў і пецярбургскай Медыка-хірургічнай акадэміі.

Пахаваўшы Кацярыну, Сестранцэвіч перажыў яшчэ двух манархаў. Пры Паўле І, які спрыяў каталікам, ён атрымаў тытул мітрапаліта рыма-каталіцкай царквы ў Расіі (з 1798 г.). У чэрвені 1800 г. асвяціў будынак (на Садовай вуліцы) для патрэб Мальтыйскага ордэну з касцёлам Іаана Хрысціцеля — пасля 1810 г. тут размясціўся Пажаскі корпус. У апошнія месяцы ўладарання Паўла Сестранцэвіч трапіў у няміласць. Ва ўспамінах аднаго з сучаснікаў (Станіслава Мараўскага) ёсць апісанне выпадку, які быццам тлумачыць яе прычыну. Аднойчы цар убачыў архіепіскапа з галавой, павязанай хусткай, і прыняў яго за жанчыну, пра што праз некалькі дзён сказаў. Сестранцэвіч хутка адказаў: «Сір, вы ліслівіце перада мной». Павел, пагрозліва насупіўшы

[1] Записки о том, как было сохранено в Белоруссии Общество Иисуса // Европейский альманах. История. Традиции. Культура. М., 1991. С. 163–171.

[2] Siemieński L. Ostatni rok życia króla Stanisława Augusta czyli dziennik prywatny opisujący jego pobyt w Rosyi. Kraków, 1862. S. 170–171.

[3] Bazylow L. Polacy w Petersburgu. Wrocław et al., 1984. S. 74.

бровы, вымавіў: «Ваша Праасвяшчэнства мусілі б ведаць, што імператар ні перад кім ніколі не ліслівіць», адвярнуўся ад мітрапаліта і аж да смерці ні аднаго слова да яго не сказаў.

Праўда гэта ці не, але восенню 1800 г. Сестранцэвіч быў вымушаны пакінуць Пецярбург з прычыны «кепскага стану здароўя». Вышэйшую ўладу ў архіепіскапіі атрымаў магілёўскі каад'ютар епіскап Ян Беніслаўскі, таксама беларус па паходжанні. Брат Яна паэт Канстанцін Беніслаўскі вядомы як аўтар кнігі (на польскай мове) «Спевы дзённыя і ночныя на прыбыццё да краёў сваіх беларасійскіх Кацярыны II...» — паліграфічнага шэдэўра друкарні Віленскага універсітэта 1780 г.

Тым часам ужо ў сакавіку 1801 г. цар Павел развітаўся з гэтым светам і Сестранцэвіч вярнуўся ў Пецярбург яшчэ амаль на чвэрць стагоддзя. Найбольш значныя падзеі яго жыцця гэтага перыяду — пабудова (на ўласныя сродкі) у Каломне — паўднёва-заходнім раёне сталіцы — касцёла св. Станіслава, выданне ў 1806 г. кнігі «Гісторыя аб Таўрыі» і ахвяраванне ў 1808 г. грошай на ўтрыманне ў Выхаваўчым таварыстве чатырох дзяўчат-мяшчанак, незалежна ад веравызнання, з тым, каб потым быць ім гувернанткамі на Беларусі. Касцёл св. Станіслава (будынак захаваўся, знаходзіцца на рагу вул. Гандлёвай (Саюза Пячатнікаў, 22) і Масцерскай) будаваўся паводле праекта архітэктара Давіда Вісконці ў 1823—1825 гг., быў асвечаны 7 мая 1825 г., а ў снежні 1826 г. тут быў пахаваны 96-гадовы архіепіскап-фундатар.

Свой уласны дом на Вялікай Мяшчанскай (цяпер Казанская) вуліцы, 27, Богуш-Сестранцэвіч ахвяраваў для размяшчэння ў ім першай у горадзе шматпрофільнай гімназіі (адчынена ў 1805 г.); пазней гэта была 2-я класічная гімназія. Кватараваў магілёўскі архіепіскап у будынку на рагу Італьянскай вуліцы і Кацярыненскага каналу, а як прэзідэнт Вольнага эканамічнага таварыства меў рэзідэнцыю ў яго будынку на Неўскім, 1 (цяпер будынак Галоўнага штаба). У 1825 г. зала пасяджэнняў таварыства была ўпрыгожана яго бюстам[1].

У Пецярбургу Сестранцэвіч, апынуўшыся ў непасрэднай блізкасці да фінскай культуры, стаў ініцыятарам стварэння фінскага слоўніка, рукапіс якога захоўваецца ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы. Сярод шматлікіх дабрадзействаў Сестранцэвіча адзначым дапамогу юнаку Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу, які прыходзіўся яму далёкім сваяком. Станаўленне аднаго з першых прафесійных беларускіх пісьменнікаў адбылося ў пецярбургскім доме яго вучонага дзядзькі. У некралогу, які напісаў па Сестранцэвічу зямляк Фадзей Булгарын, было зазначана, што «хрысціянскімі дабрачынствамі, вялікай вучонасцю, нястомнай дзейнасцю ў выкананні сваіх абавязкаў і ў вучоных працах набыў ён агульную павагу і шчырую любоў»[2].



*Касцёл Святога Станіслава, дзе пахаваны Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч*

Галоўным каталіцкім храмам сталіцы быў касцёл св. Кацярыны. Праект яго зрабіў французскі архітэктар Жан-Батыст Вален-Дэламот. Закладка гэтага першага ў Пецярбургу мураванага касцёла адбылася 16 ліпеня 1763 г. Спачатку кантракт каштаваў 23 тысячы рублёў, але ўжо ў 1780 г. высветлілася, што кошт пабудовы будзе амаль удвая большы — давялося дадаць яшчэ 20 тысяч. Пастарэў і адышоў ад спраў Вален-Дэламот. Працу па заканчэнні храма выканаў ужо іншы дойлід — славуты Антоніо Рынальдзі. Пабудова атрымалася насамрэч прыгожая: знешняя архітэктура мае падабенства з італьянскім барока, інтэр'ер выкананы ў стылі класіцызму.

Асвячэнне храма св. Кацярыны адбылося 7 кастрычніка 1783 г. Першым яго настаяцелем стаў ксёндз-беларус, магілёўскі канонік Міхаіл Растоцкі. Да пасвячэння ён вучыўся ў Віленскай семінарыі і Віленскай акадэміі, адзін год быў настаяцелем у Волпе, потым атрымаў прызначэнне віленскага капітула ў Віцебск, адкуль у 1782 г. Сестранцэвіч выклікаў яго ў Пецярбург. Памочнікамі ў Растоцкага

[1] Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. бюст трапіў у Расійскую Публічную бібліятэку, адкуль перайшоў у Рускі музей.

[2] Северная пчела. 1826. № 144.

былі ксяндзы француз Жан-Батыст Масле, Вільгельм Дамнаў з Венгрыі, манах-беларус са Старога Быхава Сяргей Храчынскі і францысканец Ян Дукля, які прыбыў з Баварыі. У кастрычніку 1800 г., згодна з воляй Паўла І, касцёл св. Кацярыны перадалі ордэну езуітаў.



*Неўскі праспект. Касцёл св. Кацярыны*

Генерал езуітаў Габрыэль Грубер прызначыў настаяцелем прыходскага храма св. Кацярыны і рэктарам школы пры ім (у якой навучаліся 140 вучняў) полацкага ксяндза **Андрэя Чыжа**. Калі вясной 1805 г. Грубер заўчасна памёр (згарэў падчас пажару ў доме калегіума езуітаў на рагу Італьянскай вуліцы і Кацярынінскага канала), Чыж займаўся перавозам праху генерала ў Полацк і пахаваннем на тэрыторыі Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра. Чыж пакінуў Пецярбург 20 снежня 1815 г., калі ўсім езуітам (разам з генералам ордэна Тадэвушам Бжазоўскім) было загадана за 24 гадзіны выехаць у Полацк без права вяртання і пражывання ў Пецярбургу і Маскве. Часова храм св. Кацярыны апынуўся ў кіраванні белага духавенства. Мітрапаліту было загадана выклікаць манахаў — неезуітаў. Сестранцэвіч ізноў запрасіў іх з Беларусі. Цяпер гэта былі дамініканцы з Забелаў, якія славіліся добрым выкладаннем фізікі і стварэннем тэатра, дзе нарадзілася першая беларуская камедыя[1]. Спачатку ў Пецярбург прыбыў іх прыёр **Юстын Сакольскі**. Мітрапаліт прачытаў яму распараджэнне імператара аб сыходзе езуітаў, а на наступны дзень прадставіў яго як новага настаяцеля храма. Ужо ў студзені 1816 г. некалькі ксяндзоўбеларусаў з Забелаў прыбылі ў Пецярбург — прэфект школы **Даміян Ёдзевіч**, прэфект пансіёна **Юзаф Тамашэвіч**, настаўнікі і прапаведнікі **Піліп Шкляроўскі**, **Клеменс Майловіч**, доктар **Пётр Францкевіч**, **Дамінік Лукашэвіч** і іншыя. Ад езуітаў ім застаўся добры кнігазбор, фізічныя і хімічныя прыборы, калекцыя мінералаў, вымяральныя прыстасаванні — усё гэта дазволіла на высокім узроўні працягваць выкладанне ў школе. Беларускія дамініканцы добра вялі гаспадарку: захаваўся рапарт прыёра мітрапаліту пра тое, што ў 1823 г. даход храма склаў 86 781 фларын, а расход — 80 320 фларынаў. У банку захоўваліся 41 500 фларынаў ахвяраванняў. Пасля Сакольскага прыёрам быў Даміян Ёдзевіч, наступны тэрмін — Дамінік Лукашэвіч, які на сабраныя і ахвяраваныя грошы адкрыў у 1839 г. школу для дзяўчынак. З часам манахі абсталявалі каталіцкія могілкі (гэта адбылося ў 1856 г., калі храм атрымаў дзевяць дзесяцін зямлі на Куліковым полі (на Выбаргскай старане, на правым беразе Нявы). Праектаваў могілкі прыдворны архітэктар Мікалай Бенуа (Benoit). Могілкі на Куліковым полі праіснавалі да 1956 г.: тут знайшлі супакой каля 40 тысяч чалавек. Сярод іх некалькі славутых пецярбуржскіх беларусаў: **Віктар Арцымовіч** з Беластока (1820—1893) — сенатар, член апякунскай рады гімназіі княгіні Абаленскай, табольскі (1854—1858) і каўказскі (1858—1862) губернатар (жыў на Надзеждзінскай вуліцы, 28—34); **Ян Баркоўскі** (1831 — пасля 1890) — генералмаёр, выпускнік Брэст-Літоўскага кадэцкага корпуса; **Эдвард Урублеўскі (Врублеўскі)** (1848—1892) з Гродна, прафесар хіміі; **Віктар Кажынскі** (1812—1867) з Вільні, кампазітар; **Уладзіслаў Каловіч** (1834—1892) са Смаргоншчыны, генерал-маёр, член марскога будаўнічага камітэта; **Іпаліт Яўневіч** (1831—1903) — прафесар Тэхналагічнага інстытута; **Уладзіслаў Піятроўскі** з Мінскай губерні (памёр у 1893 г.), выпускнік ВМА, лекар у Каломне. Цяпер могілкі не існуюць, на іх месцы скрыжаванне вуліц Арсенальнай і Мінеральнай.

На замену Лукашэвічу прыёрам стаў **Панталеон Юзэфовіч**. Пасля яго смерці застаўся вопіс рэчаў, якія сведчыць пра вельмі сціплае жыццё прыёра буйнейшага каталіцкага храма Пецярбурга[2].

Не быў перагружаны каштоўнасцямі і сам касцёл, хоць яго сцены ўпрыгожвалі выдатныя абразы, у тым ліку галоўны алтарны — «Містычны шлюб святой Кацярыны». Акрамя таго, пад купалам вісеў вялізны бронзавы кандэлябр (дар герцага Максіміліяна Лейхтэнбергскага), мелася дараносніца, упры-

[1] Манастыр размяшчаўся ў фальварку Забелы, каля вёскі Валынцы, сучаснага Верхнядзвінскага раёна.
[2] *Ханковска Р.* Храм святой Екатерины в Санкт-Петербурге. СПб., 2001. С. 65—66.

гожаная дыяментамі, пярлінамі, рубінамі і сапфірамі (дар Мікалая I), два срэбныя келіхі (дар аўстрыйскага імператара Іосіфа II), іншыя каштоўныя рэчы.

Сярэдняя школа дзейнічала пры касцёле св. Кацярыны ад пачатку яго існавання. Адным з яе выкладчыкаў у канцы XIX і пачатку XX ст. стаў кіраўнік беларускага нацыянальнага руху ў Пецярбургу Браніслаў Ігнатавіч Эпімах-Шыпіла. Вучнямі гэтай школы былі, як звычай, беларусы-пецярбуржцы ў другім і трэцім пакаленнях. Некаторыя абіралі шлях духоўнай службы. Прыкладам, Язэп Белагаловы, які нарадзіўся ў Пецярбургу ў 1883 г., вучыўся ў каталіцкай гімназіі пры касцёле св. Кацярыны і ў 6-й гарадской гімназіі. Скончыў Пецярбургскую духоўную каталіцкую семінарыю і акадэмію (у 1907 г.). Пасля заканчэння працаваў настаўнікам рэлігіі ў мужчынскай гімназіі і рэальным вучылішчы ў Смаленску, потым вярнуўся ў Пецярбург, дзе выкладаў Закон Божы ў Інстытуце грамадзянскіх інжынераў імператара Мікалая I, у Мікалаеўскім кавалерыйскім і Канстанцінаўскім артылерыйскім вучылішчах. У 1918 г. айца Язэпа прызначылі пробашчам і дэканам у Магілёў. Ён актыўна выступаў за беларусізацыю рэлігійнага жыцця ў часы савецкай Беларусі, звяртаўся да вернікаў з казаннямі на беларускай мове. У 1926 г. яго арыштавалі за «контррэвалюцыйную дзейнасць і шпіянаж на карысць Ватыкана» і асудзілі на пяць гадоў лагераў. І чалавек знік. Дакладная дата смерці і месца пахавання невядомыя[1]. Больш шчаслівы лёс выпаў ксяндзу **Данату Лапошку** (1875–1955). Ён нарадзіўся ў Пецярбургу, у сям'і выхадцаў з Дрысенскага павета. Скончыў у 1907 г. каталіцкую семінарыю. Служыў капеланам у прыгарадах сталіцы — Колпіне, Пецяргофе, выкладаў Закон Божы ў рэальным вучылішчы імя Аляксандра III і ў жаночых гімназіях Пецярбурга. У маі 1917 г. айцец Данат удзельнічаў у першым з'ездзе беларускіх каталіцкіх святароў, пазней выконваў абавязкі пробашча ў парафіях Лунін, Осава, Лунінец, Марочна. Калі ўзмацнілася нацыянальна-вызваленчая барацьба беларусаў у Другой (міжваеннай) Рэчы Паспалітай, польскія касцельныя ўлады выправілі ксяндза Лапошку за межы беларускай этнічнай тэрыторыі. З 1929 г. і да канца жыцця ён выконваў свае пастырскія абавязкі ў польскай Лодзі.

У каталіцкім свеце праславіўся выпускнік пецярбургскага Інжынернага вучылішча Іосіф Каліноўскі, які застаўся працаваць тут выкладчыкам. У 1860 г. пераехаў у Брэст. За ўдзел у паўстанні 1863 г. быў асуджаны на 10-гадовую высылку ва Усолле-Сібірскае (пад Іркуцк). У 1877 г. Каліноўскі, прыняўшы імя Рафаіл, паступіў у ордэн босых кармелітаў і быў накіраваны ў манастыр у мястэчку Чарна каля Кракава. Пры пантыфікаце папы Яна Паўла II 17 лістапада 1991 г. Рафаіл Каліноўскі быў кананізаваны ў Рыме. Каталіцкая царква памінае гэтага святога 15 лістапада.

У 1846 г. рыма-каталіцкая калегія набыла тэрыторыю былой сядзібы паэта Гаўрылы Дзяржавіна — паміж набярэжнай Фантанкі і 1-й ротай Ізмайлаўскага палка (цяпер 1-я Чырвонаармейская вуліца). Да 1852 г. архітэктар Іван Гарнастаеў значна перабудаваў і пашырыў асабняк паэта для патрэб калегіі, а ў 1870–1873 гг. Васіль Сабальшчыкоў (ураджэнец Віцебска) пабудаваў на пляцы касцёл Успення Прасвятой Дзевы Марыі. У 1900 г. пецярбургскі дойлід Леў Шышко надбудаваў бакавыя флігелі, якія выходзяць на Фантанку, тады ж паводле яго праекта ўзвялі будынак каталіцкай духоўнай семінарыі (цяпер 1-я Чырвонаармейская вул., 11).

У 1842 г. з Вільні ў Пецярбург была цалкам (з бібліятэкай, выкладчыкамі і студэнтамі) пераведзена рыма-каталіцкая духоўная акадэмія. Напачатку вучэльня асталявалася на Петраградскай старане ў непрыстасаваным будынку. Крыху пазней у Акадэміі мастацтваў набылі дом на Васільеўскім востраве. Камяніца (на 1-й лініі, 52) была перабудавана, закупілі новае абсталяванне. Будучыя ксяндзы размясціліся з магчымым камфортам. 22 чэрвеня 1844 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё акадэміі ў прысутнасці міністра ўнутраных спраў графа Льва Пяроўскага. 18 снежня акадэмію наведаў Мікалай I — з гэтай нагоды былі пацверджаны і нават пашыраны яе правы. Прынамсі акадэмія мела права прысвойваць акадэмічныя ступені — кандыдата, магістра і доктара тэалогіі (у пачатку XX ст. было нададзена таксама права прысвойваць ступені кандыдата і магістра кананічнага права). Выкладаліся Свяшчэннае пісанне, біблейская археалогія, багаслоўе, кананічнае права, царкоўная гісторыя, філасофія, гамілетыка, патралогія, руская і лацінская літаратуры, расійская гісторыя, грэчаская, габрэйская, руская, французская і нямецкая мовы. Штогод на ўсіх курсах наву-

[1] *Гарбінскі Ю.* Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя. Жыццяпісы. Мартыралогія. Успаміны. Мінск; Мюнхен, 1999. С. 21–22.

чалася ад 40 да 60 чалавек. Па дамове 1847 г. паміж расійскім урадам і рымскай курыяй акадэмія была падпарадкавана магілёўскаму мітрапаліту. Калі ў 1848 г. Мікалай I сустракаўся з рыма-каталіцкім мітрапалітам і пяццю біскупамі, ён казаў адносна акадэміі: «Я задаволены гэтай установай. Спадзяюся, што з яе выйдуць прыхільнікі сапраўднай рэлігіі. Калі я пераносіў сюды акадэмію, у той час былі супроць мяне галасы, што я хачу ўвесці новую веру; я не хачу новай веры, — ведаю старую каталіцкую і жадаю сцвярджэння яе як бяспечнай для дзяржавы...»[1].

У 1900–1903 гг. архітэктар Леў Шышко дабудаваў у корпусе акадэміі яшчэ адзін паверх, выканаў унутранае аздабленне і з боку двара ўзвёў спецыяльную прыбудову для акадэмічнага касцёла св. Яна.

У 1859–1863 гг. у акадэміі навучаўся выхадзец з сям'і вольнаадпушчаных сялян з Чэрыкаўскай парафіі **Сцяпан Дзенісевіч** (1836–1913) — будучы епіскап, цэнзар і выдавец першых беларускіх падручнікаў па рэлігіі. Выкладчыкам Свяшчэннага пісання і гамілетыкі ў акадэміі з 1908 да 1914 г. працаваў будучы пінскі каталіцкі епіскап, ураджэнец Навагрудчыны (маёнтак Брацянка) **Сігізмунд Лазінскі** (1870–1932).

З 1879 г. для падрыхтоўкі святароў да навучання ў акадэміі ў Пецярбургу працавала сярэдняя каталіцкая навучальная ўстанова — Магілёўская архіепіскапальная рыма-каталіцкая духоўная семінарыя, якая размяшчалася ў комплексе будынкаў па адрасе: 1-я рота Ізмайлаўскага палка, 11. Да закрыцця (у 1916 г.) гэтую ўстанову закончылі 997 чалавек.

У Пецярбургскай рыма-каталіцкай акадэміі да 1918 г. навучалася шмат выхадцаў з Беларусі, ініцыятараў руху за беларусізацыю касцёла, у сваёй большасці сыны сялян-каталікоў. Тут яны не толькі атрымалі вышэйшую агульную і тэалагічную адукацыю, але і далучыліся да нацыянальна-адраджэнскага руху, узначаленага дзеячамі Беларускай сацыялістычнай грамады і газетай «Наша Ніва». Разам з імі ў Пецярбург–Петраград перамясціўся цэнтр беларускага каталіцкага адраджэння. Гісторык рэлігійнага руху піша: «Студэнты каталіцкай акадэміі В. Гадлеўскі, І. Жаўняровіч, П. Пякарскі, С. Шырокі заснавалі Беларускі гурток (кастрычнік 1913). Апрача іх, першымі змагарамі за Беларусь у асяроддзі каталіцтва былі ксяндзы Ф. Будзька, А. Астрамовіч, Ф. Абрантовіч, В. Шутовіч, П. Татарыновіч, А. Цікота, Я. Семашкевіч, М. Пятроўскі, Я. Рэшаць, Л. Хвецька, У. Талочка, іншыя выпускнікі каталіцкай акадэміі ў Пецярбургу. Былі іх папярэднікі, духоўныя бацькі. Сярод першых — адміністратар Магілёўскай архідыяцэзіі прэлат **Сцяпан Дзенісевіч**, які выдаў за свой кошт у 1906 годзе беларускі «Элементар для добрых дзетак католікаў» (дапоўненае перавыданне «Элементара» 1862 г.), рэдагаваў іншыя беларускія каталіцкія падручнікі («Кароткі катэхізм», «Кароткая святая гісторыя»). Духоўным кіраўніком і бацькам беларускіх студэнтаў быў прафесар акадэміі Браніслаў Эпімах-Шыпіла. Пра гэтага настаўніка будучых заснавальнікаў беларускага хрысціянскага руху Адам Станкевіч пісаў узнёсла: «Вобак з Фр. Багушэвічам — гэта першы піянер беларускага адраджэння, апостал беларускага народа, апякун беларускай нацыянальнай і рэлігійнай культуры, тварэц у беларускім адраджэнні ліры «Загляне сонца і ў наша ваконца», або пары Шыпілаўскай, якая папярэдзіла пару нашаніўскую». Сярод першых вучняў Б. Эпімаха-Шыпілы і Сцяпана Дзенісевіча былі: ксёндз Францішак Будзька (аўтар кніг «Святы Андрэй Баболя», «Святая гісторыя», «Касцельныя абрады»), Адам Лісоўскі (пісаў вершы пад псеўданімам Васіль Васілёк), ксёндз і вядомы паэт Аляксандр Астрамовіч (Андрэй Зязюля). Беларускі каталіцкі рух у Пецярбургу быў грунтоўна прадуманым, працяглым і завяршыўся стварэннем хрысціянска-дэмакратычнай партыі»[2].




*Паштоўка канца XIX ст. з выявай будынка Рыма-каталіцкай акадэміі*

[1] Цыт. паводле: *Горизонтов Л. Е.* Парадоксы имперской политики: поляки в России и русские в Польше. М., 1999. С. 238.

[2] *Гарбінскі Ю.* Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя. С. 686–687.



*Фантанка, 118. Рэзідэнцыя каталіцкіх магілёўскіх архіепіскапаў*

Зачынены акадэмія і семінарыя былі ў 1918 г. Багатая бібліятэка акадэміі перайшла ў бібліятэку Акадэміі навук, а пазней большая частка кніг вярнулася ў Вільню. Сярод прафесараў акадэміі працавалі гісторык і архівіст Станіслаў Пташыцкі (1853—1933), пазнейшы рэктар Віленскага універсітэта Аляксандр Вайцкі (1878—1950), генерал ордэна марыянаў Францішак Бучыс, будучы віленскі епіскап і ковенскі архіепіскап Юрый Матулайціс (1871—1927) і іншыя.

Імя архіепіскапа Сестранцэвіча атрымала ў 1913 г. рыма-каталіцкае чатырохкласнае павятовае вучылішча пры царкве Св. Станіслава (Малая Масцерская вуліца, 9). Загадчыкам гэтай вучэльні быў гаспадар Уселюба (што ў Навагрудскім павеце), кандыдат камерцыі граф **Эдуард Міхайлавіч О'Рурк**. Выкладалі тут пераважна выхадцы з Беларусі — законавучыцелі кандыдаты багаслоўя ксяндзы **Ян Аляксандравіч Васілеўскі** і **Францішак Будзька**, выкладчыкі **Яўстафій Юр'евіч Барэйка**, **Іпаліт Данілавіч Шэлайкоўскі**, **Вячаслаў** і **Станіслаў Казіміравічы Гедыміны**.

Калаўрот гістарычных падзей першай паловы XX ст. ператварыў лёсы многіх з апошніх выпускнікоў каталіцкай акадэміі ў пакутніцкі ахвярны шлях. Вось некалькі прыкладаў[1].

Ураджэнец Навагрудка **Фабіян Абрантовіч** (1884—1943) у 1902 г. вытрымаў экзамен на званне аптэкарскага вучня ў Пецярбургскай навучальнай акрузе, скончыў у Пецярбургу каталіцкую духоўную семінарыю, а ў 1910 г. — акадэмію, атрымаў ступень магістра тэалогіі. Пасля заканчэння выкладаў Закон Божы ў навучальных установах горада: Вучылішчы правазнаўства, Камерцыйным вучылішчы, Марыінскім інстытуце. Са снежня 1910 г. ён — законавучыцель прыватнай мужчынскай гімназіі пры касцёле Св. Кацярыны. З 1912 г. Абрантовіч працягваў навучанне ў Бельгіі, у Лювэне, дзе ў 1914 г. абараніў доктарскую працу ў галіне філасофіі. Пасля вяртання з 1914 да 1918 г. быў прафесарам духоўнай семінарыі ў Петраградзе, выкладаў філасофію, сацыялогію і спевы. Адначасова выконваў абавязкі законавучыцеля ў Канстанцінаўскай жаночай гімназіі, пазней — у 12-й гарадской гімназіі. Прымаў удзел у пашырэнні беларускага каталіцкага руху. У 1917 г. Абрантовіч быў ініцыятарам правядзення ў Мінску з'езда беларускага каталіцкага духавенства, сумесна з Лукашом Хвецькам заснаваў Беларускае хрысціянскае аб'яднанне. З 1918 да 1927 г. ён быў рэктарам Мінскай духоўнай семінарыі. Пазней прызначаны апостальскім адміністратарам усходняга абраду ў Маньчжурыі і жыў у Харбіне. Але савецкі «вызваленчы паход» 1939 г. заспеў яго ў родным Навагрудку. Абрантовіч спрабаваў уцячы з «радзімы перамогшага пралетарыяту», быў арыштаваны пры пераходзе мяжы, прысуджаны да дзесяці гадоў лагераў і памёр у маскоўскай Бутырскай турме ў 1943 г.

У Пецярбургу ў сям'і выхадцаў з Беларусі нарадзіўся **Антон Неманцэвіч** (1893—1943). Скончыў тут духоўную семінарыю і ў

[1] У галоўных рысах паводле кнігі: Няхай сведчанне іх веры не забудзецца. Лёс каталіцкага касцёла на Беларусі ў 1917—1953 гадах. Непакалянаў, 2000.

1915—1918 гг. вучыўся ў духоўнай акадэміі. З 1918 г. быў вікарыем касцёла Св. Кацярыны, працаваў святаром у Колпіне. У красавіку 1920 г. яго арыштавалі і асудзілі на год прымусовай працы. На гэтым пецярбургскі перыяд жыцця заканчваецца. У 1927 г. ксёндз Неманцэвіч скончыў навучанне ў Рыме, атрымаў ступень доктара тэалогіі. Уступіў у ордэн езуітаў, прыняў усходні абрад і быў накіраваны ў Беларусь. Працаваў у Слоніме і Сынкавічах. У верасні 1939 г. быў прызначаны экзархам для грэка-каталікоў Беларусі. У жніўні 1942 г. айца Антона Неманцэвіча арыштавала гестапа. У красавіку 1943 г. ён быў расстраляны.

Ураджэнец віцебскай губерні **Юзаф Дзям'ян** (1888—1937) скончыў духоўную семінарыю ў Пецярбургу ў 1912 г. У 1913—1914 гг. працаваў вікарыем у Оршы, у 1914—1922 гг. — у Полацку. У 1922 г. быў арыштаваны, прабыў шэсць месяцаў пад арыштам у Віцебску. У 1925 г. працаваў у парафіях Сянно і Чарэя, пасля быў пераведзены ў Мінск і прызначаны генеральным вікарыем епіскапа Б. Слосканса. З 1929 г. айцец Юзаф выконваў святарскія абавязкі ў касцёле Св. Кацярыны на Неўскім праспекце. Чарговы раз яго арыштавалі 17 чэрвеня 1930 г., і ленінградская калегія Дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення вынесла прысуд — дзесяць гадоў турмы. Святар адбываў пакаранне ў Яраслаўлі, а 7 сакавіка 1932 г. быў пераведзены на Салаўкі. Калі мінула палова тэрміну зняволення, справу айца Юзафа перагледзелі і рашэннем «тройкі» НКУС па Ленінградскай вобласці ад 9 кастрычніка 1937 г. зняволены атрымаў смяротны вырак. Расстралялі Юзафа Дзям'яна 3 лістапада 1937 г. у мясцовасці Сандармаха каля карэльскага Мядзвежагорска.

У парафіі Дуброва на тэрыторыі Гродзенскай губерні нарадзіўся будучы пецярбуржацленінградзец **Ян Тройга** (1881—1932). Маладым чалавекам ён вырашыў прысвяціць сябе святарскаму служэнню, скончыў духоўную семінарыю ў Пецярбургу. У 1906 г. тут жа скончыў духоўную акадэмію. У 1908—1910 гг. працаваў прэфектам сярэдніх школ у Магілёве, потым быў пераведзены ў Пецярбург, дзе чатыры наступныя гады выкладаў у семінарыі. У 1914 г. прызначаны канцлерам Магілёўскай архідыяцэзіі. Быў таксама членам Адміністрацыйнага савета і біскупскага суда, рэдактарам выданняў архідыяцэзіі. Савецкія карныя органы арыштавалі яго ў сакавіку 1923 г. і асудзілі на тры гады турмы. На пачатку 1927 г. святар вярнуўся ў Ленінград, але праз некалькі дзён (1 лютага) яго зноў арыштавалі і асудзілі на пяць гадоў лагераў. Сасланы на Салавецкія астравы, трапіў у самае, як цяпер вядома, пекла сумнавядомага канцлагера — на востраў Анзэр. Ад пакутаў зняволення захварэў псіхічна. Памёр Ян Тройга 11 верасня 1932 г. «ад кровазліцця ў мозг» на Анзэры.

**Лук'ян (Люцыян) Хвецька** (1889—1944), родам з вёскі Малычэва Гродзенскай губерні, выкладаў літургіку ў духоўнай семінарыі. У 1918 г., пасля яе ліквідацыі, быў прызначаны вікарыем парафіі ў Петраградзе. Сумесна з ксяндзом Фабіянам Абрантовічам айцец Люцыян заснаваў Беларускае хрысціянскадэмакратычнае згуртаванне. Арыштавалі яго 10 сакавіка 1923 г. Прысуд быў стандартны — дзесяць гадоў турмы. 1 лютага 1925 г. у сувязі з абменам палітычнымі вязнямі трапіў у Польшчу. У 1926—1931 гг. Люцыян Хвецька быў рэктарам Місійнага інстытута ў Любліне, у 1932 г. прызначаны пробашчам парафіі Шчытнікі (Брэсцкі дэканат Пінскай дыяцэзіі). Адначасова выкладаў пастаральную тэалогію і беларускую мову ў Пінскай духоўнай семінарыі, займаў розныя адміністратыўныя пасады ў пінскай курыі. Быў папскім прэлатам і канонікам Пінскай капітулы. У час вайны працаваў пробашчам парафіі Хотава (Стаўбцоўскі дэканат). У 1944 г. айцец Люцыян, моцна збіты партызанамі, памёр у нямецкім шпіталі ў Стоўбцах[1].

Ксёндз **Антон Ляшчэвіч** (1890—1943) нарадзіўся ў вёсцы Абрамаўшчына недалёка ад Вілейкі. Скончыў Пецярбургскую духоўную семінарыю ў 1914 г. На працягу 25 гадоў працаваў на Далёкім Усходзе — выконваў функцыі вікарыя ў Іркуцку, Чыце, Харбіне. Напрыканцы 1937 г. выехаў у Японію, а на пачатку 1939 г. знаходзіўся ў Рыме. У 1939 г. уступіў у ордэн марыянаў, навіцыят праходзіў у Друі над Дзвіной. У 1941 г. быў прызначаны пробашчам парафіі Росіца (Дрыса-Себежскі дэканат). Айца Антона спалілі фашысты ў часе карнай акцыі 17 лютага 1943 г. у драўляным свірне ў Росіцы разам з іншымі жыхарамі вёскі. Айцец Антон беатыфікаваны папам Янам Паўлам II 13 чэрвеня 1999 г. сярод 108 іншых пакутнікаў.

З 1908 вучыўся ў Пецярбургскай духоўнай семінарыі, а ў 1915 г. у Петраградзе быў высвячаны на ксянза **Канстанцін Стаповіч** (1890—1926), родам з вёскі Барані (зараз Астравецкі

[1] Адзін Госпад, адна Вера, адзін Хрост. Царкоўная гісторыя вачыма эміграцыі. Мінск, 2007. С. 25—26.

раён Гродзенскай вобл.). У Пецярбургу ён стаў пісаць вершы, падпісваючыся псеўданімам Казімір Сваяк. Прага да шчасця ў адным з ягоных твораў выдаецца як агульны настрой вучняў-беларусаў, сучаснікаў (і ахвяраў) Першай сусветнай вайны:

Птушцы да шчасьця — вольнасьці трэба,
Да шчасьця краскі — яснага неба,
Дзіця шчасліва — на руках маткі,
Бяздольны рвецца — да цёплай хаткі.

Мудрага шчасьце — веры шуканьне,
Шчасьце паэта — шчыра каханьне,
Струджанным думкам — трэба спачынку,
Сэрцу збалеламу — вясны ўспамінку.

Для ўсіх жа людцаў, дзе ёсць іх колькі,
Аднаго трэба на сьвеце толькі —
Без чаго сьвет наш — блудна дарога:
Усім да шчасьця патрэбна Бога.



* * *

Сярод пецярбуржцаў — выхадцаў з Беларусі — значнае месца займаюць габрэі. Жыдыіудзеі шмат стагоддзяў жылі ў беларускіх гарадах і мястэчках. Хоць традыцыйна яны замыкаліся ў сваіх рэлігійных і абшчынных межах, але пераважная большасць была як найменш двухмоўная і ў згодзе суіснавала з беларускім насельніцтвам. З канца 70-х гадоў XVIII стагоддзя ў доме генерал-паліцмайстара Чычэрына на Неўскім праспекце жыў багаты прадпрымальнік Абрам Перац (яго маці паходзіла са Шклова), круг якога гуртавалася першая габрэйская абшчына Пецярбурга. Яна складалася пераважна з выхадцаў са Шклова, якіх называлі шклоўскімі маскіламі. Яны былі запрошаны ў Пецярбург як прадстаўнікі габрэйскага насельніцтва для ўдзелу ў працы створанага ў 1802 годзе Габрэйскага камітэта. «Дэпутатам габрэйскага народа» з 1818 да 1825 г. быў ураджэнец Шклова Міхл Эйзенштадт, увесь гэты тэрмін ён жыў у Пецярбургу выконваючы свае абавязкі. Разам з дэпутатамі-габрэямі ў сталіцу тады прыехалі члены іх сем'яў, служкі, дамашняя прыслуга. Пасля пераезду значнай колькасці жыдоў у сталіцу, яны сталі адной з частак пецярбургскай габрэйскай грамады (найменне «жыд» набыло ў Расіі зняважлівае адценне, чаго не было на Беларусі) і прынеслі сінагозе ў Пецярбургу вялікую славу. Як і любы іншы выхадзец з беларускіх месцаў, габрэй шукаў у далёкім паўночным горадзе суайчыннікаў-землякоў, на падтрымку якіх можна было спадзявацца. «Вось нарэшце і гаспадар... Здавалася, ён толькі па недарэчнасці ўбраўся па-еўрапейску. Тыповы габрэй... Можа ён нарадзіўся недалёка ад майго мястэчка...», — так апісвае сустрэчу ў 1908 г. у Пецярбургу з вядомым тэатральным мастаком ураджэнцам Гродны **Львом Самойлавічам Бакстам (Розэнбергам)** выхадзец з Лёзна мастак **Марк Шагал**[1]. Сярод габрэяў былі добрыя знаўцы розных беларускіх спраў. Напрыклад, пераклады старадаўніх жыдоўскіх навуковых трактатаў на старабеларускую мову ў часы Вялікага княства Літоўскага вывучаў пецярбургскі прафесар **Давід Хвальсон**. Шмат куточкаў Пецярбурга і інтэр'ераў яго палацаў упрыгожаны творамі славутых скульптараў **Марка Антакольскага** (1843—1902) з Вільны і **Іллі Гінцбурга** (1859—1939) з Гродны.

З Нясвіжа паходзіў рабін пецярбургскай габрэйскай абшчыны (з 1912 г.) **Моўша Гіршавіч Айзенштат**. Нарадзіўся ён у 1870 г., вучыўся ў Валожынскай ешыве (вышэйшай рэлігійнай школе ў іудзеяў), пазней у Пецярбургу атрымаў ступень доктара філасофіі. «Вучоным габрэем» пры Дэпартаменце духоўных спраў іншаземных спавяданняў (была такая пасада) служыў **Майсей Іосіфавіч Берлін** (1821—1888), які нарадзіўся ў Шклове. Многія гады, да скону, членам праўлення пецярбургскай абшчыны, членам гаспадарчага камітэта, габаем (тым,

[1] *Шагал М.* Моя жизнь. СПб., 2000. С. 195.

хто вырашае арганізацыйныя і гаспадарчыя пытанні) і старастам сінагогі ў Пецярбургу быў ураджэнец Наваградка **Абрам Якаўлевіч Гаркавы**.

Памалу пранікала ў сталічны Пецярбург народная габрэйская літаратура, звязваючы сваімі сюжэтамі гарадскі фальклор паўночнай сталіцы з беларускімі гарадамі і мястэчкамі. Вось два прыклады:

**Берл і пан.**

Прыехаў пан з Мінска ў Пецярбург і паклікаў знаёмага жыда-гандляра:

— Берл! Пані загадала купіць ёй фокса. Ты можаш гэта хутка залатвіць?

— Канечне. А колькі пан думае заплаціць за добрага фокса для пані?

— Пяцьдзесят рублёў.

— О не, гэта немагчыма. Ніхто не аддасць добрага фокса за такую цану.

— А колькі гэта будзе каштаваць?

— Сто рублёў, — сказаў, падумаўшы, Берл.

— Згода. Давай, зараз жа ідзі па фокса.

Берл стаіць, праступае з нагі на нагу.

— Чаго ж ты стаіш, Берл? Я ж згодны на сто рублёў.

Берл кашлянуў:

— Перапрашаю пане, але што такое — фокс?

**Ці варта параўноўваць?**

Шадхан (сват) прапанаваў шаноўнаму пецярбургскаму жыду нявесту для сына з Віцебска. Паслухаўшы ўзнёслую пахвальбу шадхана, бацька жаніха вырашыў сам з'ездзіць у Віцебск, каб на месцы пераканацца ў перавагах нявесты. Прыехаў. Распытаў аднаго паважанага чалавека. Яшчэ аднаго. Усе кажуць:

— Што Вы! Яна ж гуляе з усімі дактарамі і ўсімі чыноўнікамі нашага гораду!

Вярнуўшыся ў Пецярбург, бацька жаніха накінуўся на шадхана з папрокамі:

— Якое нахабства — прапаноўваць такую нявесту майму сыну!

Шадхан паволі вынуў табакерку, панюхаў раз, другі і сказаў, каб замірыцца:

— Што Вы, рэб Айзік, параўноўваеце Віцебск з Пецярбургам? Колькі ў тым Віцебску, прасці Госпадзі, чыноўнікаў і дактароў?

Да габрэйскіх літаратурных дзеячаў належыць і выхадзец з Беларусі **Якаў Аляксандравіч Брафман**. Нарадзіўся ён каля 1825 г. у Клецку, у 34 гады перайшоў з іудзейства ў праваслаўе, стаў выкладаць у Мінскай семінарыі. «Цяжэй за ўсё плысці супраць цячэння ўласнай крыві», — сказаў Станіслаў Ежы Лец. Але Брафман здолеў гэта зрабіць. У 1869 г. ён выдаў «Кнігу кагала» — пераклад пратакольных запісаў і пастаноў кіраўніцтва Мінскага кагала (у 1875—1882 гг. выйшла другое, пашыранае выданне ў двух тамах). Гэтую працу пачалі шырока выкарыстоўваць як антысеміцкія аўтары, так і акадэмічныя гісторыкі для вывучэння габрэйскага пытання. Яна была перакладзена на французскую, нямецкую і польскую мовы. Жаданне адаптавацца да расійскай імперскай культуры збылося: Брафман пераехаў у Пецярбург, працаваў тут цэнзарам выданняў на мовах ідыш і іўрыт. Памёр у 1879 г. і пахаваны ў Пецярбургу.

# Раздзел 4.

## ГОРАД ЧЫНОЎНІКАЎ І РЭВАЛЮЦЫЯНЕРАЎ

Пецярбургскія чыноўнікі служылі ў розных дэпартаментах, калегіях і міністэрствах. На працягу XIX ст. колькасць дзяржаўных служачых значна ўзрасла. Калі ў 1804 г. чыноўнікаў было каля 5400 чалавек, то да 1832-га — іх стала больш як 13 500. У 1843 г. служачых і ў адстаўцы чыноўнікаў, разам з сем'ямі, у горадзе налічвалася 39 550. Шматлікая бюракратыя зацягвала любую справу, а асабліва маёмасную, робячы яе крыніцай даходу. Класічным прыкладам стала справа маршалка шляхты Навагрудскага павета Канстанціна Рдултоўскага, які з канца 1840-х гг. доўгі час жыў у Пецярбургу. Ён нават меў свой салон, дзе гасцінна прымаў сяброў-землякоў, сярод якіх павятовы маршалак слуцкай шляхты Антон Вайніловіч і старшыня віленскай археалагічнай камісіі археолаг Яўстах Тышкевіч. Рдултоўскі вёў складаную судовую справу за маёнтак аднаго са сваякоў сваёй жонкі. Урэшце справу ён выйграў, але судовыя выдаткі былі такія вялікія, што каб іх пакрыць, ён мусіў прадаць частку свайго ўласнага маёнтка. У канцы жыцця Канстанцін Рдултоўскі жыў на Навагрудчыне ў пазасталай частцы маёнтка Сноў (зараз — Мінская вобл.) і займаўся вывучэннем твораў Сведэнборга. Пра яго нашчадка, канструктара зброі Уладзіміра Рдултоўскага мы ўспаміналі ў раздзеле, прысвечаным вайсковаму Пецярбургу.

Да 1900 г. колькасць дзяржаўных служачых у расійскай сталіцы павялічылася да 20 тыс. чалавек, з сем'ямі іх было больш за 50 тысяч. Большасць з іх — дробныя чыноўнікі (калежскія рэгістратары, пісары і іншыя), грашовы даход якіх не перавышаў заробак кваліфікаваных рабочых. Пражыць у сталіцы такі чыноўнік мог толькі пры ўмове падтрымкі яго з дому альбо наяўнасці «прыработку». Характэрны прыклад — пісьменнік украінскага паходжання Мікалай Гогаль, які служыў пісарам у Дэпартаменце дзяржаўнай маёмасці і публічных будынкаў з акладам 33 рублі на месяц (400 руб. на год). У снежні 1829 г. ён падрабязна пісаў у лісце да маці пра свае выдаткі за месяц, якія склалі 113 руб. 20 кап.: 25 руб. — кватэра, 25 руб. — «стол», 7 руб. — дровы, 3 руб. — свечы, 5 руб. — прачка, 1 руб. 50 кап. — цырульнік, 3 руб. 70 кап. — лекі, 5 руб. — бібліятэка, на боты — 5 руб., на ўтрыманне «чалавека» — 10 руб., вадавозу — 2 руб., і г. д. Пісарская праца давала толькі чацвёртую частку ад гэтай сумы.

Не дзіва, што выхадцы з сем'яў дробнай шляхты, якія прыязджалі з надзеяй зрабіць кар'еру, часцяком маглі знайсці беднасць, сухоты і заўчасную смерць. Такі лёс напаткаў выпускніка Віленскай гімназіі Іосіфа Корсака, які быў прыняты на дзяржаўную службу 1 верасня 1875 г. У 1877 г. ён памёр ад сухотаў, не пакінуўшы пасля сябе, як сведчыў яго непасрэдны начальнік у прашэнні пра выдзяленне дапамогі на пахаванне, «нічога, акрамя насільнага адзення і бялізны, і тое ў самай абмежаванай колькасці». Сярод служылага чынавенства не ўсе, аднак, былі такія нябогі. Выпускнік Слуцкай гімназіі Юльян Бохвіц, які прыехаў у 1885 г. вучыцца на юрыста, пазней так успамінаў першае ўражанне ад апранутага па форме чыноўнага Пецярбурга: «Ні ў якім іншым горадзе не было такога мноства чыноўнікаў, а паколькі на іх былі свае асаблівыя мундзіры, якія яны ахвотна насілі ў штодзённым жыцці, то на вуліцах літаральна-такі раілася ад разнастайнай уніформы. А пры гэтым у горадзе былі расквартараваныя ўсе гвардзейскія конныя і пешыя палкі, была нялічаная колькасць апранутых у мундзіры паліцэйскіх... на кожным кроку кідаліся ў вочы элеганцкія дварцовыя карэты са слугамі ў адмысловых ліўрэях...»[1].

У Расійскай імперыі дзяржаўную службу праходзілі і вайсковыя, і грамадзянскія, і духоўныя асобы. На самых розных узроўнях службовай лесвіцы — ад пісарчука, калежскага рэгістратара да міністра, тайнага саветніка, — можна знайсці ў асяроддзі пецярбургскага чынавенства і беларусаў. Прадстаўнікі старых шляхетных родаў часам служылі ў самым «сэрцы» феадальнага арганізма. Прыкладам, граф **Яўстах Тышкевіч** з Лагойска 9 снежня 1833 г. пачаў службу ў ордэнскім капітуле, які падпарадкоўваўся толькі цару і сенату (стаміўшыся за два гады ад Пецярбурга, будучы археолаг перавёўся ў Вільню).

Як мы ўжо адзначалі, па «царкоўнай лініі» да высокай пасады члена Свяшчэннага Сінода даслужыўся сын протаіерэя з сяла Гладкова Магілёўскай губерні **Васіль Іванавіч Кутневіч** (1787–1866), галоўны святар

[1] *Bochwic L.* Wspomnienia uniwersyteckie. Warszawa 1882–1885, Petersburg 1885–1887. Z dawnych wspomnień sądowych. Wilno, 1938. S. 35.




арміі і флоту. Сучаснік успамінаў, што прысутнасць Васіля Кутневіча ў Сінодзе асвечана самым жывым удзелам ва ўсіх пытаннях, і наўрад ці хто з яго калег быў так добра знаёмы з сінадальнымі справамі, як ён. Яму Сінод даручыў балючую для дзяржаўнага праваслаўя справу — перамовы з княгіняй Валконскай, якая перайшла ў каталіцызм, а таксама зносіны з віцэ-прэзідэнтам калегіі св. Марыі Магдаліны Оксфардскага універсітэта архідыяканам Вільямам Пальмерам, які выявіў зацікаўленасць праваслаўем.

Калі ў пачатку 1818 г. у Санкт-Пецярбург прыехаў выпускнік Полацкай акадэміі **Канстанцін Сцяпанавіч Сербіновіч** (1797—1874) і паступіў на службу ў Міністэрства замежных спраў актуарыюсам (без жалавання!), адразу можна было меркаваць, што ён зробіць кар'еру. Дзяцінства Канстанціна Сцяпанавіча прайшло ў сталічнай Вільні, а пасля выхаду бацькі ў адстаўку (1809) — у родным Полацку. Выдатныя веды моваў (лацінская, старажытна-грэчаская, польская, руская, французская і нямецкая), свабодная арыентацыя ў сусветнай літаратуры па гісторыі, філалогіі і філасофіі спрыялі дасягненню поспехаў у Пецярбургу. Дадаліся і асаблівасці характару, уменне трымаць сябе з людзьмі: «знешняе аблічча Сербіновіча і ўвогуле адносіны мелі адзнаку полацкага іезуіцкага выхавання, якое і дапамагала яму трымацца пры ўсіх начальніках, самых супрацьлеглых. Памяркоўнасць і асцярожнасць, спраўнасць і розум — яго дадатныя ўласцівасці... Рэзкіх мяркаванняў, ганьбы ні асобам, а ні рэчам ад яго нельга было пачуць».

Акрамя службы малады беларус прымаў удзел у перакладзе афіцыйнай «Гісторыі Расійскай дзяржавы» М. Карамзіна на французскую мову і ў 1818 г. быў прадстаўлены аўтару. З 1820 г. ён пастаянна дапамагаў Карамзіну ў працы над яго шматтамовай «Гісторыяй...» — рабіў выпісы з гістарычных дакументаў, перакладаў беларускія летапісы, гістарычныя творы А. Нарушэвіча, «Гісторыю Жыгімонта III» Ю. Нямцэвіча і інш. Князь П. Вяземскі пазней вызначыў ролю Сербіновіча як «чыноўніка... па асобых гістарычных даручэннях». Робіцца зразумелым, адкуль такая грунтоўная распрацоўка ў Карамзіна абставінаў і акалічнасцяў мінуўшчыны Вялікага Княства Літоўскага. З часу супрацоўніцтва пры напісанні «Гісторыі Расійскай дзяржавы» Канстанцін Сцяпанавіч часта бываў у доме Карамзіных, выконваў розныя іх просьбы, звязаныя з хатнімі справамі. У маі 1820 г. па пратэкцыі Карамзіна Сербіновіч паступіў на працу ў Дэпартамент духоўных спраў, дзе як уніят быў прылічаны да 2-га аддзелу (па рыма-каталіцкіх справах), пасля пераўтварэння гэтай установы ў 1824 г. быў чыноўнікам для асобых даручэнняў пры міністры народнай асветы А. Шышкове, з якім пасябраваў настолькі, што перад смерцю Шышкоў прызначыў яго адным са сваіх душапрыказчыкаў.

На расійскай дзяржаўнай службе Сербіновіч зрабіў бліскучую кар'еру, прадстаўляючы з сябе той тып пецярбургскага чыноўніка Мікалаеўскага часу, якога адрознівалі сумленнасць, педантызм, павага да закона, выхаванасць і «адукаваная працавітасць». У 1826 годзе ён уведзены ў склад Сакрэтнай следчай камісіі па справе дзекабрыстаў, удзельнічаў у сакрэтнай следчай справе над польскімі рэвалюцыянерамі, якая праводзілася летам 1827 г. у Пецярбургскай (Петрапаўлаўскай) крэпасці, а ў 1828 г. удзельнічаў у распрацоўцы статута універсітэта ў Хельсінкі. У жніўні 1826 г. прызначаны цэнзарам Галоўнага цэнзурнага камітэта — на гэтай пасадзе Сербіновіч цэнзураваў творы Ф. Булгарына, В. Сянкоўскага, А. Пушкіна і іншых літаратараў тае эпохі, будучы (па словах Булгарына) «...памяркоўным у дробязях і ветлівым пры адмовах у справах сур'ёзных. Ён карыстаўся даверам і любоўю ўсіх літаратараў». У 1836 г. Сербіновіч вярнуўся на службу ў духоўнае ведамства, займаў пасты дырэктара канцылярыі обер-пракурора Свяцейшага Сіноду (1836—1853), гаспадарчага ўпраўлення (1853—1856) і духоўна-вучылішчнага ўпраўлення пры Сінодзе (1856—1859). Спрыяў уз'яднанню уніятаў з праваслаўнай царквой у 1839 годзе. У 1839 г. па пратэкцыі адмірала Шышкова ён стаў членам Расійскай акадэміі, а з 1841 г. — ганаровым членам Імператарскай Акадэміі Навук.

Больш як 20 гадоў (у 1833—1856) Канстанцін Сербіновіч быў рэдактарам «Часопіса міністэрства народнай асветы». Па сведчанні сучасніка, як рэдактар ён «быў толькі

афіцыйная асоба», на ім быў абавязак чытання трэцяй карэктуры, нагляд за выкананнем цэнзурнага статута, выяўленне разыходжанняў з «духам праваслаўнай царквы і з поглядамі міністра» (на той час міністрам народнай асветы быў граф С. Увараў); пры гэтым яму было прадстаўлена права «набіраць супрацоўнікаў для крытыкі, агляду газет і часопісаў». Значная колькасць датычных Беларусі матэрыялаў у «Часопісе міністэрства народнай асветы» з'яўляецца, такім чынам, вынікам палітыкі яго галоўнага рэдактара-беларуса.

З моманту прыезду ў Пецярбург і да апошніх гадоў жыцця Сербіновіч вёў дзённік. У пачатку 1870-х гадоў па прозьбе свайго земляка-палачаніна, рэдактара часопіса «Руская даўніна» М. Сямеўскага ён сістэматызаваў і апрацаваў свае запісы за 1818—1826 гг. Запісы Сербіновіча дакладныя ў фактах, падзеях і датах, у іх шмат пабытовых звестак. Дзённік, як і перапіска Канстанціна Сцяпанавіча, яшчэ дадуць шмат каштоўнага матэрыялу для вывучэння беларускага Пецярбурга[1]. Пахаваны Канстанцін Сербіновіч на Смаленскіх праваслаўных могілках.

Найбольш высокіх пасад на расійскай дзяржаўнай службе ў XIX ст. дасягнулі выхадцы з Беларусі Хведар Уронченка і Эмерык Гутэн-Чапскі.



*Хведар Урончанка*

Доўгі час міністрам фінансаў аднае з найвялікшых у свеце імперый быў сын святара (протаіерэя) з Копысі **Хведар Паўлавіч Урончанка (Врончанка)** (1779—1852). Жыў ён на Дварцовай набярэжнай.

Пасля заканчэння Маскоўскага універсітэта Хведар Урончанка паступіў на службу ў канцылярыю М. Навасільцава, дзе працаваў да 1805 г. З пачаткам у 1805 г. ваенных дзеянняў супраць французаў, Урончанка быў прызначаны ў світу цара для выканання пісьмовых спраў і, галоўным чынам, для рэдагавання вайсковых рэляцый. За выданне журнала ваенных дзеянняў расійскай арміі ў 1807 г. узнагароджаны брыльянтавым пярсцёнкам. З 1810 г. ён служыць у Камісіі па складанні законаў, адначасова начальнікам 1-га аддзялення Канцылярыі міністра фінансаў. Падчас вайны 1812 г. Хведар Урончанка знаходзіўся пры графе В. Качубеі. У 1812—1818 гг. служыў у Камісіі па складанні законаў і ўдзельнічаў у якасці члена ад урада ў Камітэце для складання праекта Камерцыйнай палаты ў Пецярбургу. З 1824 г. быў дырэктарам Асаблівай канцылярыі міністэрства фінансаў. Бліжэйшы памочнік міністра фінансаў Е. Канкрына, Хведар Урончанка заўсёды карыстаўся яго падтрымкай. Быў членам Сакрэтнага камітэта аб знешняй пазыцы (1818), Камітэта аб зніжэнні банкаўскага працэнта (1829) і іншых важных устаноў. З 1840 г. працаваў таварышам (намеснікам) міністра фінансаў і галоўнаўпраўляючым Корпусам горных інжынераў.

Пасля смерці свайго шэфа (у студзені 1844 г.) Урончанка выконваў абавязкі кіраўніка Міністэрства фінансаў, а ў сакавіку 1845 г. імператар прызначыў яго міністрам. Пры ўтварэнні Міністэрства фінансаў у законе было сказана: «Пад імем Міністэрства фінансаў знаходзяцца ўсе крыніцы дзяржаўных прыбыткаў, менавіта: дзяржаўная маёмасць, справы горныя, саляныя, падаткі, зборы і падаткі ўсякага кшталту, а таксама справы знешняй камерцыі і кіравання мытнямі». У жніўні 1810 г. у фінансавае ведамства было перададзена кіраванне знешнім гандлем, а з 1819 г. — загадванне ўнутраным гандлем і прамысловасцю, што дазваляла Хведару Урончанку кантраляваць знешнегандлёвы баланс краіны, уключаючы міжнародныя разлікі. На вышэйшай дзяржаўнай пасадзе выхадзец з Копысі працягваў палітыку свайго папярэдніка. Так сталася, што менавіта Урончанка ажыццявіў на практыцы грашовую рэформу Канкрына 1839—1843 гг. «...Стары халасцяк, без лоску і сувязяў, Урончанка сярод прыдворных

[1] *Хитров Д.И.* Сербинович Константин Степанович // Русские писатели. 1800—1917: биографический словарь. Т. 5. М., 2007. С. 587—589.

адчуваў сябе нялоўка. Стаўшы міністрам аднойчы, па-першасці, уваходзіць ён у кабінет імператара з дакладам і не знаходзіць там імператара Мікалая Паўлавіча, які на хвілінку адыйшоў. У кабінеце быў другі міністр, князь ***. У чаканні імператара кажа ён Врончанку: У Вас, Фёдар Паўлавіч, кажуць добры тытунь; дазвольце-ка пакаштаваць. Урончанка дастаў табакерку, і ў тую хвіліну, як адкрываў яе, уваходзіць Гаспадар. Рукі Урончанкі задрыжэлі, тытунь рассыпаўся, а князь *** засмяяўся. Мікалай Паўлавіч прыняў урачысты від і сказаў: «Брыдка князь, брыдка! Брыдка смяяцца над пачуццём вернападданага да свайго Гаспадара!» — сам Врончанка расказваў аб гэтым свайму прыяцелю»[1]. У сваёй дзейнасці Хведар Урончанка сканцэнтраваў увагу на фабрычнай прамысловасці і асабліва сачыў за дынамічным развіццём тэкстыльнай галіны. Разам з тым пры выпадку ён падкрэсліваў, што «горны промысел утварае галоўную галіну», хаця і «неабгрунтавана было б ставіць горны промысел вышэй за земляробства». Фінансы Расійскай імперыі заўсёды знаходзіліся не ў найлепшым стане, а неўраджайныя 1844, 1845 і 1847 гг. пагоршылі сітуацыю. Галоўны дакумент, які паказваў стан фінансаў, — бюджэт — доўгі час лічыўся сакрэтным. Урончанка адным з першых заўважыў, што ў выніку такой сакрэтнасці грамадская думка пра бюджэт значна горшая, чым ён сапраўды таго заслугоўвае, і сакрэтнасць была паслаблена.

Падчас кіравання Хведара Урончанкі Міністэрствам фінансаў сума дзяржаўнага доўгу ўзрасла з 299 мільёнаў рублёў (у 1844 г.) да 400 мільёнаў (1852 г.). З іншых асаблівасцяў яго дзейнасці можна адзначыць канчатковую адмену асігнацый (1847—1849 гг.). Яшчэ чакае даследавання пытанне «Што дало Беларусі знішчэнне памежнай лініі паміж Расіяй і Польшчай», якое ініцыяваў міністр-беларус. У 1850 г. на прапанову Урончанкі ў імперыі ўведзены новы мытны тарыф, які знізіў тарыфныя стаўкі[2].

Біёграфы адзначалі, што «ў прыватным жыцці Урончанка быў чалавек просты і даступны, але меў сярод сучаснікаў рэпутацыю цыніка». Адну з праяў характару міністра занатаваў яго біёграф акадэмік літаратуры А. Нікіценка: «Хведар Паўлавіч Урончанка меў нейкую дзіўную нядобразычлівасць увогуле да ўсякае жаніцьбы. Калі, будучы міністрам, яму, па прынятым парадку, дакладалі прашэнне якога-небудзь чыноўніка аб дазволе ўзяць законны шлюб, ён ніколі не прапускаў, каб спачатку не зрабіць суровую і неспрыяльную заўвагу на просьбу, а потым ужо даваў згоду»[3]. Сам ён ніколі не меў сям'і.

Пунктуаліст і педант Урончанка стаў героем анекдота, прысвечанага аднаму з «бацькоў» Казьмы Пруткова. Рэч у тым, што кожную раніцу а дзевятай, накіроўваючыся на службу, міністр фінансаў прагульваўся па Дварцовай набярэжнай, міма шыкоўнага дома княгіні Радзівіл. Дом гэты (пабудаваны архітэктарам М. Яфімавым у стылі псеўдарэнесанс) стаяў з левага боку ад Нова-Міхайлаўскага палаца[4]. Паэт Аляксандр Жамчужнікаў, незнаёмы з міністрам, пачаў кожную раніцу сустракаць яго ў гэтым месцы і, мінаючыся, уздымаў капялюш і вітаў Урончанку словамі: «Міністр фінансаў — спружына дзейнасці». Нейкі час Хведар Паўлавіч цярпеў, але нарэшце паскардзіўся пецярбургскаму обер-паліцмайстару Галахаву. Той загадаў Жамчужнікаву — пад карай высылкі са сталіцы — больш міністра не турбаваць[5].

Памёр Хведар Паўлавіч на 74 годзе жыцця і 51 годзе службы. Паповіча з маленькага беларускага мястэчка пахавалі ў Духаўскай царкве Аляксандра-Неўскай лаўры з тытулам графа (атрымаў у 1849 г.), сапраўднага тайнага саветніка, статс-сакратара і сенатара (з 1840 г.), кавалера Найвышэйшай расійскай дзяржаўнай узнагароды — ордэна Андрэя Першазванага і вышэйшай грэчаскай — ордэна Спаса I ступені. Ягоным імем быў названы адзін з параходаў расійскага флоту. Велізарны ўласны капітал у 300 тысяч рублёў Хведар Урончанка пакінуў свайму роднаму брату Міхаілу, вайсковаму геадэзісту і перакладчыку паэзіі.

Уладальнік вёскі Станькава Мінскага павета **Эмерык Карлавіч Гутэн-Чапскі** (1828—1896) пасля заканчэння Маскоўскага універсітэта працаваў у Міністэрстве унутраных спраў, з 1865 г. ён быў пецярбургскім віцэ-губернатарам. Пазней Гутэн-Чапскі стаў дырэктарам Ляснога дэпартамента Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў. У 1879 г. ён выйшаў у адстаўку, пакінў Пецярбург і асеў у Станькаве. Гэты высокі чыноўнік увайшоў у гісторыю як захоплены калекцыянер манет, медалёў і гравюр. З 1851 г. ён член Рускага археалагічнага

[1] Анекдот про Врончeнко // Русский архив, 1888, № 12. С. 616.
[2] Министерство финансов 1802—1902. Ч. I. СПб., 1902.
[3] *Никитенко А.* Михаил Павлович Врончeнко. (Биографический очерк). СПб., 1867. С. 9.
[4] *Пунин А. Л.* Архитектура Петербурга середины XIX века. Л., 1990. С. 209, 295.
[5] *Козьма Прутков.* Полное собрание сочинений. М.-Л., 1965. С. 8.

таварыства. Зацікаўленасць калекцыянера, які прагне пакінуць нашчадкам тое, што любіў і шанаваў, менавіта сваю калекцыю, спалучалася ў графа Эмерыка Гутэн-Чапскага з вялікай увагай да каталагізацыі сваіх збораў, значыць з адкрыццём іх для шырокага ўжытку. У выніку ён выдаў некалькі кніг з апісаннем частак свайго збору, настолькі добрых як гістарычная крыніца, што і сам аўтар (чыноўнік, які меў прыродазнаўчую адукацыю) успрымаецца як прафесійны гісторык. Першым грунтоўным друкаваным каталогам стаў: «Catalogue de la Collection des Monnaies et Medailles Polonaises du Comte Emeric Hutten-Czapski». SPb.-Kraków, 1871–1996. Т 1–4. Пазней выйшлі «Удзельныя, вялікакняскія і царскія грошы Старажытнай Русі» (СПб., 1875). Калекцыя гравюр, якая складалася з больш як чатырох тысяч адзінак, поўнага апісання так і не знайшла. Складаны лёс калекцый Чапскага. За год да смерці заўзяты збіральнік расчараваўся ў тым, што сабраныя ім гравюры і манеты спатрэбяцца дзецям ці яшчэ каму-небудзь на Беларусі. Тады ён падзяліў свае зямельныя маёнткі паміж сынамі, а сам з любімай калекцыяй пераехаў у Аўстра-Венгрыю, купіў невялічкі палац у цэнтры ўніверсітэцкага Кракава і загадаў выбіць на франтоне гэтага палаца фразу «Monumentis patriae naufrago ereptis», што значыць — «айчынным помнікам, якія ацалелі ў бурах гісторыі». Займаючыся апрацоўкай сваіх збораў, граф Гутэн-Чапскі памёр у 1896 г. Ужо пасля смерці калекцыянера, у 1901 г., на сродкі яго ўдавы, Эльжбеты Гутэн-Чапскай з дома Меендорфаў, быў выдадзены каталог медзярытных партрэтаў славутай калекцыі, які ахапіў значную яе частку — 2383 асобнікі.

Бліскучую службовую кар'еру ў Пецярбургу зрабіў яшчэ адзін паповіч-беларус — **Іван Пятровіч Тарнава-Барычэўскі**. Нарадзіўся ён у 1810 г. у сям'і уніяцкага святара Мінскай епархіі. Адукацыю атрымаў у Мінскай духоўнай семінарыі і Кіеўскай акадэміі. Пасля двух гадоў працы настаўнікам славеснасці ў Арлоўскай семінарыі, Тарнава-Барычэўскі служыў у Дэпартаменце шляхоў зносін і публічных будынкаў, у Дэпартаменце дзяржаўных маёмасцяў і ў інспектарскім дэпартаменце ваеннага міністэрства. У 1841 г. ён зноў паступіў у галоўнае ўпраўленне шляхоў зносін і займаў там пасады чыноўніка для асобых даручэнняў, дырэктара канцылярыі Міністэрства шляхоў зносін і ў 1870-я — члена савета таго ж міністэрства. Памёр у 1887 г. у Выбаргу. Акрамя кар'ерна-службовай дзейнасці, Тарнава-Барычэўскі заўсёды актыўна выступаў як літаратар і гісторык, найперш беларускіх і славянскіх земляў. Яшчэ ў 1838 г. ён напісаў для «Часопіса Міністэрства народнай асветы» артыкул «Аб рускім летапісе ў Літве, што называецца Хроніка Быхаўца», выдаў зборнік «Народныя славянскія апаведанні» (СПб., 1844), куды былі ўключаны і беларускія матэрыялы. Зборнік быў станоўча прыняты крытыкай. Затым Іван Тарнава-Барычэўскі выдаў дзве кнігі, у якіх паказаў гісторыю сваіх родных літоўска-беларускіх земляў: «Даследаванне аб паходжанні, назве і мове літоўскага народа» (СПб., 1847) і «Праваслаўе і руская народнасць у Літве» (СПб., 1851). Пасля смерці айца Іаана Грыгаровіча ён рэдагаваў незакончаны пяты том «Актаў Заходняй Русі». Супрацоўнічаў Іван Пятровіч з часопісам «Маяк» свайго земляка генерал-лейтэнанта Сцяпана Бурачка.

Да высокай пасады віцэ-дырэктара Дэпартамента акладных збораў даслужыў сапраўдны стацкі саветнік **Мікалай Карнілавіч Бжэскі**, які паходзіў са шляхты Мінскай губерні. У 1879–1883 гг. ён навучаўся ў Пецярбургскім універсітэце, атрымаў у 1888 г. ступень магістра фінансавага права. У 1889 г. перайшоў у Міністэрства фінансаў, быў прызначаны членам Савета міністра гандлю і прамысловасці. Жыў на Махавой, 6.

Міністрам шляхоў зносін стаў ураджэнец горада Шклова **Апалон Канстанцінавіч Крывашэін** (памёр у 1902 г.). Ён скончыў у Пецярбургу Міхайлаўскае артылерыйскае вучылішча, пакінуў службу, вучыўся ў Еўропе. У 1886 г. вярнуўся ў Пецярбург. Працаваў у Міністэрстве ўнутраных спраў, пры яго ўдзеле адбылася рэформа статыстыкі страхавой і харчовай галін. У 1881–1894 гг. Апалон Крывашэін быў членам Дзяржаўнага савета, у 1892–1894 гг. – міністрам шляхоў зносін. На яго прапанову створаны суднаходная інспекцыя пры начальніку дыстанцыі на рацэ Заходняя Дзвіна, упраўленне па будаўніцтве Сібірскай чыгункі. Пасля шумнай справы пра яго ўдзел у крымінальным продажы лесу па завышаных цэнах выйшаў у адстаўку, пераехаў з Пецярбурга ў Шклоў, дзе і жыў да смерці.

На беларускіх землях, якія ўвайшлі ў склад Расіі, аж да 1845 г. дзейнічала мясцовае права, замацаванае Статутам Вялікага Княства Літоўскага. Аднак выданняў Статута на рускай мове не было, а расійскія чыноўнікі не асабліва ведалі польскую мову, на якой былі зроблены пазнейшыя перавыданні. Створаная ў Санкт-Пецярбургу Камісія па

заканадаўстве разгледзела сітуацыю і прыняла рашэнне лічыць за ўзорны беларускамоўны тэкст Статута, які выдала друкарня Мамонічаў у Вільні ў 1588 г. У працы Камісіі дзейна працаваў гісторык і правазнаўца сын уніяцкага святара **Ігнат Мікалаевіч Даніловіч** (1787—1843). Нарадзіўся ён у вёсцы Грынявічы Бельскага павета, у 1812 г. скончыў Віленскі універсітэт і выкладаў у ім права. У 1830 г. быў выкліканы ў Пецярбург для працы ў Камісіі М. Спяранскага па падрыхтоўцы збору мясцовых законаў для заходніх губерняў. За час працы ў Камісіі Даніловіч падрыхтаваў «Гістарычны агляд літоўскага заканадаўства», у якім даў характарыстыку развіцця права ў Беларусі і Літве. У Пецярбургу Ігнат Даніловіч прабыў да 1835 г., пасля чаго выкладаў у Кіеўскім і Маскоўскім універсітэтах. Дзейнасць Даніловіча па вывучэнні і публікацыі юрыдычных дакументаў пазней працягнуў у Пецярбургу беларус Іасафат Агрызка, перавыдаўшы ў 1859—1860 гг. восем тамоў «Volumina legum» — збору старажытных законаў Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага.

Генеральскі чын сапраўднага стацкага саветніка выслужыў па Міністэрстве народнай асветы беларус **Міхаіл Васільевіч Радзевіч** (1838—1917). Нарадзіўся ён у Мазыры ў сям'і святара, гадаваўся ў Тураве. У 1859 г. Міхаіл Радзевіч скончыў Пецярбургскую духоўную семінарыю і паступіў у духоўную акадэмію, але ў 1861 г. па прашэнні быў пераведзены ва універсітэт, а ў 1862 г., з выпадку універсітэцкіх смут, атрымаў пасведчанне настаўніка рускай мовы і славеснасці ў жаночых гімназіях. Малады чалавек з галавой акунуўся у пецярбургскае літаратурнае і грамадска-палітычнае жыццё. Ён супрацоўнічае ў часопісе братоў Дастаеўскіх «Час», піша крытычныя артыкулы ў «Бібліятэку для чытання», тэатральныя агляды і нарысы пецярбургскага жыцця для часопісаў «Іскра» і «Руская сцэна», прычым належыць да журналістаў радыкальнага кірунку. Дзеля заробку Міхаіл Радзевіч згадзіўся быць выхавацелем пасынка пісьменніка Фёдара Дастаеўскага, але вясной 1864 г. адносіны пісьменніка з Радзевічам былі разарваныя. Расчараваны Дастаеўскі пісаў да недавукі-педагога: «Я чытаў Вашы артыкулы пра розныя гуманітарныя прадметы і вінаваты толькі ў тым, што паверыў у справу, тады як гэта ўсё былі толькі словы ў гуманным мундзіры навейшых часоў... Даўно ўжо хацелася ці Вам, ці іншаму так званаму прагрэсісту давесці, што прагрэс заключаецца не ў фразе і што недастаткова моднай фразы для супакаення ўласнага сумлення...». Пасля разладу з Дастаеўскім у маі 1864 г. Міхаіл Радзевіч пераязджае ў Вільню. Працуе выкладчыкам рускай мовы ў віленскіх мужчынскай і жаночай гімназіях, равінскім вучылішчы і прагімназіі, часам выкладае лацінскую мову і харавыя спевы. У маі 1873 г. яму даюць званне надворнага саветніка, выклікаюць у Пецярбург і прызначаюць справаводам Дэпартамента народнай асветы. Дарога для кар'еры была адкрытая. У Пецярбургу Радзевіч друкуе ў часопісе «Рускі свет» два этнаграфічныя нарысы пад рубрыкай «З беларускага жыцця» — аб сродках, якімі карыстаюцца беларусы Віленскай губерніі супраць халеры, і пра народнае павер'е, звязанае з «хохлікам» — своеасаблівым духам стайні, які аберагае, а часам і губіць коней. У нарысах ён зрабіў даволі каларытныя замалёўкі беларускага мястэчка. Абодва гэтыя нарысы названы акадэмікам Яўхімам Карскім у пераліку крыніц па беларускай мове («...для мовы сёе-тое ёсць, але мала»)[1]. У Пецярбургу Радзевіч стаў уплывовым чыноўнікам Міністэрства народнай асветы: курыраваў жаночыя навучальныя ўстановы ў Расіі, з'яўляўся членам асобага аддзела вучонага камітэта міністэрства для разгляду кніг, што выдаюцца для народнага чытання. Жыў у цэнтры, на Гагарынскай, 25. Разбагацелы чыноўнік у 1886 г. набыў на сваёй радзіме, у Мазырскім павеце, маёнтак Міцькі (939 дзесяцін). Грамадская актыўнасць яго не змяншаецца: у ліпені 1909 г. Міхаіл Васільевіч паслаў пісьмо і вершы Льву Талстому ў Ясную Паляну — дзеля падтрымкі ў сувязі з адлучэннем пісьменніка ад царквы. Той ветліва падзякаваў яму за добрыя пачуцці.

Міхаіл Радзевіч пражыў доўгае жыццё, выгадаваў сына. **Усевалад Міхайлавіч Радзевіч** у 1901 г. закончыў пецярбургскі Інстытут інжынераў шляхоў зносін і пазней стаў знакамітым савецкім інжынерам-гідролагам і гідратэхнікам. У даведніку «Увесь Пецярбург» за 1913 г. названа 30 жыхароў, якія мелі прозвішча Радзевіч: з іх толькі два нашы героі (бацька і сын Радзевічы) пісалі сваё прозвішча *Родевич*, астатнія 28 — *Родзевич*. У 1917 г. Радзевіч-старэйшы яшчэ раз узгаданы ў ліку сталічных жыхароў (пасля пачатку Першай сусветнай вайны пераехаў бліжэй да сына, на Фурштацкую, 17). Было яму тады

[1] *Карский Е.* Белорусы. Варшава, 1903. Т. 1. С. 251.

амаль восемдзесят гадоў[1]. Увогуле, дзеці чыноўнікаў часта «ўрасталі» ў Пецярбург, рабіліся яго абывателямі як, прыкладам, папулярны ў 1890-я гады літаратар-песіміст **Казімір Станіслававіч Баранцэвіч** (1851–1927), які быў сынам выхадца з Беларусі, чыноўніка Дзяржаўнай камісіі пагашэння пазык **Станіслава Марцінавіча Баранцэвіча** (1818–1870).

* * *

Самаўладнае кіраванне вялізнай Расійскай імперыяй не магло спрыяць паступоваму прагрэсіўнаму развіццю краіны; таксама не садзейнічала нацыянальнаму самавызначэнню забарона 18 ліпеня 1840 г. Сенатам называць заходнія губерні беларускімі альбо літоўскімі. Тым часам бяздзейныя беларусы маглі назіраць паспяховыя пецярбургскія крокі ўкраінскай культуры. У 1841 г. у Пецярбургу выдадзены «Гайдамакі» Тараса Шаўчэнкі, а годам раней — зборнік «Ластаўка», які аб'яднаў творы Грабёнкі, Квіткі-Аснаўяненкі, Катляроўскага, а таксама народныя песні, казкі. Рэпрэсіі самага таленавітага ўкраінскага грамадскага дзеяча мастака і паэта Тараса Шаўчэнкі недвухсэнсоўна сведчылі пра адносіны царызму да развіцця нацыянальных усходнеславянскіх культур на ўскраінах імперыі. Эканамічныя і нацыянальныя праблемы вялізнай краіны нараджалі грамадскае супрацьстаянне, якое назапашвала энергію для крывавых катаклізмаў. Некаторыя лібералізацыя і дэмакратызацыя палітычнага жыцця пры Аляксандры II нарадзілі ў грамадстве занадта вялікія і няспраўджаныя надзеі, рост рэвалюцыйных настрояў. Не дзе-небудзь, а ў стольным Пецярбургу канчаткова сфарміраваліся погляды правадыра паўстання 1863 г. Кастуся Каліноўскага, выпускніка юрыдычнага факультэта тутэйшага універсітэта. А пасля падаўлення паўстання менавіта ў пецярбургскі Арсенал былі аддадзены «баявыя» трафеі царскага войска — звычайныя косы, якія мірных сялян ператварылі ў салдатаў-касінераў. У Пецярбургу працягваў (у 1844 г.) адукацыю пасля заканчэння Свіслацкай гімназіі яшчэ адзін з правадыроў паўстання 1863 г. — ураджэнец Брэсцкага павета **Рамуальд Траўгут**. У 1859–1861 гг., ужо будучы падпалкоўнікам, ён служыў у дыслакаванай у сталіцы «тэхнічнай гальванічнай установе».

Напрацягу ўсяго XIX ст. з легальнымі мерамі кіравання грамадствам ў Пецярбургу амаль заўсёды перамяжоўваліся розныга кшталту рэвалюцыйныя рухі. Часцей за ўсё рэвалюцыянеры знаходзілі водгук і асяроддзе для працы ў студэнцкіх колах. Адсюль цягнуліся нітачкі ў вёску і на заводы і фабрыкі. Сучаснік (студэнт з Беларусі) успамінаў: «...пасля замаху 4 красавіка (1866) Каракозава на жыццё цара Аляксандра II бывалі ў студэнтаў вобыскі, арышты, разгон так званых у нас сходак (студэнцкія мітынгі), на якіх звычайна выступалі палымяныя, крайніх поглядаў прамоўцы. Прапаведвалі яны тэорыю, якая не давала магчымасці пагадзіцца з традыцыямі, што былі вынесены з бацькоўскага дому, але мела гэта і добры бок, што з тым новым кірункам пачаў я асвойваць, у некаторых выпадках прызнаваць іх слушнасць, і ва ўсякім разе навучыўся я ўсіх людзей лічыць за роўных сабе»[2]. Сярод «палымяных, крайніх поглядаў прамоўцаў» былі і студэнты-беларусы, якія, далучыўшыся да расійскага народніцкага руху, першыя зрабілі спробу сфармуляваць беларускую нацыянальную ідэю.

У 1873–1874 гг. некалькі соцень маладых рэвалюцыянераў-прапагандыстаў пачалі «шлях у народ». Большасць з іх арыштавала паліцыя. У 1877 г. адбыліся працэсы «50-і» і «193-х». У ліку асуджаных быў студэнт-беларус **Сяргей Піліпавіч Кавалік** (1846–1926), які да суда адседзеў 3 гады ў казематах Петрапаўлаўскай крэпасці, а потым пайшоў на 10 гадоў катаргі і высылку ў Якуцк. У 1878 г. народнікі стварылі ў Пецярбургу арганізацыю «Зямля і воля», з якой у наступным годзе вылучылася партыя «Народная воля». Яна абрала асноўным сродкам змагання з уладай рэвалюцыйны тэрор. Адной з першых акцый народавольцаў быў замах на жыццё старшыні Вярхоўнай распарадчай камісіі па барацьбе супраць рэвалюцыйнага руху графа М. Т. Ларыс-Мелікава. Калі апошні вяртаўся (20 лютага 1880 г.) пасля даклада ад Аляксандра II, у яго з рэвальвера стрэліў выпускнік Слуцкай гімназіі **Іпаліт Младзецкі**. Шэф жандараў застаўся жывы, а І. І. Младзецкаму суд вынес смяротны вырак. Праз два дні пасля замаху былога слуцкага гімназіста павесілі на Сямёнаўскім плацы (цяпер — плошча перад Тэатрам юнага гледача) у Пецярбургу.

Нарадавольцы прыгаварылі да смерці не толькі вышэйшых чыноўнікаў краіны, але і самога цара. Некалькі замахаў прайшлі

[1] *Кісялёў Г.* Героі і музы. Гісторыка-літаратурныя нарысы. Мн., 1982. С. 188–212.
[2] Woiniłłowicz E. Wspomnienia. Wilno, 1930. S. 78.

беспаспяхова, аднак кідальшчыкі бомбаў рэгулярна выходзілі на дзяжурствы па маршрутах звычайных паездак імператара. Рэалізаваць крывавую задуму змог беларус Ігнат Грынявіцкі.

Будучы тэрарыст **Ігнат Яўхімавіч Грынявіцкі** (1856—1881) нарадзіўся ў маёнтку Басін Бабруйскага павета (цяпер вёска Калінаўка Клічаўскага раёна), дзе бацька працаваў эканомам. Калі хлопчык меў восем гадоў, сям'я пераехала ў спадчынны маёнтак бацькі, вёску Вялікія Грынявічы Гродзенскага павета (цяпер Беластоцкае ваяводства). Пасля выдатнага заканчэння Беластоцкай гімназіі Ігнат вучыўся ў пецярбургскім Тэхналагічным інстытуце, там далучыўся да тэрарыстычнай «Народнай волі». На кватэры Грынявіцкага (сучасная вул. Камсамола, 49) 26 лютага 1881 г. адбыўся сход арганізатараў антыманархічнага замаху. Доўгае паляванне на цара (агульным лікам сем замахаў) закончылася на набярэжнай Кацярынінскага канала 1 сакавіка 1881 г. Ігнат Грынявіцкі кінуў бомбу, якая цяжка параніла Аляксандра II. Сам Грынявіцкі памёр праз некалькі гадзін у Канюшаным шпіталі[1]. Да смяротна параненага цара паклікалі найлепшага ў сталіцы ваенна-палявога хірурга. Гэта быў беларус генерал Яўстафі Багданоўскі. Аднак выратаваць імператара не ўдалося.

Дэталёвае апісанне забойства з планам месца здарэння надрукавала газета «Санкт-Пецярбургскія ведамасці». Нумар выйшаў у жалобнай рамцы. «Цяжка падымаецца пяро! Што яно можа сказаць аб нашым нязмерным жалі і горы...», — пісаў у перадавым артыкуле галоўны рэдактар беларускі шляхціч Вісарыён Камароў, не забываючыся прыгадаць і братоў-славян: «Не для адных толькі рускіх білася шчодралюбнае сэрца забітага Цара-Вызваліцеля!.. У ім знаходзіла месца ўсё наша славянскае брацтва». У нумары ад 10 сакавіка В. Камароў, які па-вайсковаму канкрэтна разумеў глыбінныя прычыны забойства, рэзка выступіў супраць расійскага чынавенства, якое, «высмоктваючы сотні мільёнаў з рускага народа для запаўнення сваіх ненажэрных кішэняў... не змагло арганізаваць нават навучанне такім чынам, каб пазбавіць моладзь з ніжэйшых грамадскіх слаёў ад неабходнасці клапаціцца пра кавалак хлеба і прытулак...», а ў выніку «асяроддзе нажы-



*Ахвяра тэрора. Фота Карла Буллы*

вы, распусты і мяшчанскага цынізму» дало краіне нігілістаў і самазабойцаў, з ліку якіх «ворагі Расіі вывуджваюць царазабойцаў». Уладам такія выказванні спадабацца не маглі. За кансерватыўную смеласць свайго рэдактара (між іншым адстаўнога палкоўніка Генеральнага штаба) па прадстаўленні міністра Унутраных спраў графа М. Лорыс-Мелікава газета з 17 сакавіка была зачынена на месяц і панесла значныя страты[2].

Пасля забойства цара ўрад абрынуў на «Народную волю» жорсткія рэпрэсіі. Большая частка выканаўчага камітэта была арыштавана, а ўдзельнікі замаху пакараныя смерцю. Цяжарнай **Гесі Гельфман** — ураджэнцы Мазыра — смяротная кара была заменена на пажыццёвую катаргу. Пасля больш як 12 месяцаў зняволення ў скляпеннях Петрапаўлаўскай крэпасці пайшоў на катаргу таварыш Грынявіцкага па Беластоцкай гімназіі **Антон Барэйша** (родам з-пад Пінска), які працаваў у нелегальнай друкарні нарадавольцаў у Траецкім завулку, 27 (цяпер дом 25 па вул. Рубінштэйна). Быў арыштаваны і магіляўчанін, вольнаслухач Ваенна-медыцынскай акадэміі **Рыгор Пракопавіч Ісаеў** (1857—1886). Выхадзец з простых мяшчан (ён быў сын паштальёна), Рыгор Ісаеў пасля заканчэння Магілёўскай гімназіі ў 1877 г. паступіў у Пецярбургскі універсітэт, потым перавёўся ў Ваенна-медыцынскую акадэмію і актыўна ўключыўся ў рэвалюцыйную дзейнасць. Малады чалавек удзельнічаў у падрыхтоўцы замахаў на цара пад Масквой, у Адэсе і Пецярбургу, разам з Мікалаем Кібальчычам рыхтаваў выбуховыя рэчывы. У 1881 г. яго арыштавалі, асудзілі і прыгаварылі да пакарання смерцю, якое было заменена пажыццёвай катаргай. Памёр Ісаеў ад

[1] *Арлоў У. А.* Прысуд выканаў невядомы. Ігнат Грынявіцкі. Мн., 1992.

[2] *Шерих Д. Ю.* Голос родного города. Очерк истории газеты «Санкт-Петербургские ведомости». СПб., 2001. С. 146—150.

сухотаў у Шлісельбургскай крэпасці[1]. Аднак усіх пасадзіць у крэпасць было немагчыма. У снежні 1882 г. паміж студэнтамі універсітэта распаўсюджваюцца гектаграфіраваныя ліберальна-народніцкія «Пісьмы пра Беларусь». Праз год (студзень 1884 г.), з'явілася «Пасланне да землякоў-беларусаў», у якім невядомы аўтар пад псеўданімам «Шчыры беларус» выказваў думку, што нельга дамагчыся вызвалення Беларусі без звяржэння самаўладдзя, без саюзу з усімі народамі Расіі. Ён заклікаў да яднання рэвалюцыйных сіл на платформе «Народнай волі», як адзінай у імперыі рэвалюцыйнай арганізацыі.



Гербы Беларускіх губерній у дэкоры храма Спаса-на-Крыві

«Падпа́льшчыкі часта перакананыя, што іх факелы асвятляюць народу шлях», аднак забойства цара не выклікала ніякага народнага выступлення, на што спадзяваліся нарадавольцы. Наадварот, яно надало цару, які вызваліў сялян ад прыгону, арэол пакутніка. Памяць пра Аляксандра вырашылі ўвекавечыць пабудовай на месцы забойства мемарыяльнага храма. Неўзабаве ўлады абвясцілі конкурс на лепшы праект. Каб далучыць больш архітэктараў, аб'яву далі ў дваццаць адной газеце. Тэрмін быў вызначаны вельмі кароткі — да 31 снежня 1881 г. Сярод дэвізаў, пад якімі да рашэння камісіі хаваліся імёны аўтараў, былі адпаведныя трагічнай прычыне спаборніцтва: «Памяці цара-пакутніка», «Бацьку Айчыны», «Госпадзі, благаславі», «Богу і Цару», «На вечны ўспамін». Аднак, як ні дзіўна, трапляліся і дэвізы іншага кшталту: «Што пасееў, тое пажнёш», «Кесару Кесарава», «Скончыў дзела — гуляй смела». Перамог праект, які грунтаваўся на выкарыстанні традыцыяў суздальска-яраслаўскай царкоўнай архітэктуры XVII ст. Аўтарам быў пецярбуржац шведскага паходжання архітэктар Альфрэд Парланд.



Царква Спаса-на-Крыві

Будаўніцтва храма Уваскрэсення Хрыстова спадзяваліся закончыць за шэсць гадоў, але тэрмін расцягнуўся на чвэрць стагоддзя. Па горадзе хадзіла чутка, што адной з прычын было тое, што сын забітага імператара вялікі князь Уладзімір Аляксандравіч прайграў значную частку сабраных на пабудову грошай у казіно Монтэ-Карла. Толькі ў жніўні 1907 г. пры апошнім Раманаве — Мікалаі ІІ — адбылося ўрачыстае адкрыццё сабора. Нягледзячы на тое, што царква была новая і будавалася з асабліва трывалых матэрыялаў, яна моцна пацярпела ад паслярэвалюцыйных нягодаў. Зачынілі сабор («з перадачай пад культурна-асветныя патрэбы») пастановай прэзідыума ЦВК у лістападзе 1930 г. Пасля гэтага тут быў морг, сховішча для гародніны, склад тэатральных дэкарацый, ювелірная майстэрня. Прычым каштоўныя матэрыялы браліся на месцы: з іканастаса, са сценаў храма. Пазней, паводле рашэння Ленсавета, царкву рыхтавалі да падрыву. Аднак, ацалела. Па іроніі лёсу на месцы трагічнай падзеі паўстаў і захаваўся адзін з самых прыгожых па архітэктуры і радасных храмаў у Пецярбургу. Стаў помнікам на месцы гібелі расейца Аляксандра Раманава і беларуса Ігната Грынявіцкага.

У пачатку 1880-х гг. у Пецярбургу з'явіліся ўлёткі на рускай мове, якія былі прысвечаны праблемам Беларусі і беларусаў[2]. Гэта — кароткі заклік «Да беларускай моладзі» і брашура «Пісьмы пра Беларусь. Пісьмо першае». Яны былі падпісаныя (псеўданімам?) Даніла Баравік. Палемічным адказам на брашуру

[1] *Якимова А.В.* Г.П. Исаев: Биографический очерк. М., 1930.

[2] Публицистика белорусских народников. Нелегальные издания белорусских народников (1881–1884). Мн., 1983.

стала «Пасланне да землякоў-беларусаў», падпісанае Шчыры беларус. У канцы 1883 г. распаўсюджвалася «Адозва да беларускай інтэлігенцыі», якая пазней была ўключана ў першы нумар гектаграфічнага часопіса беларускіх народнікаў «Гоман»[1]. Захаваліся два нумары «Гомана»: першы (выдадзены 23 сакавіка 1884 г.) зберагаецца ў бібліятэцы АН у Пецярбургу, другі (ад 15 лістапада 1884 г.) — у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. На старонках гэтага выдання ўпершыню ў гісторыі беларускага руху была зроблена спроба тэарэтычна абгрунтаваць ідэю аб праве беларускага народа «на аўтаномную федэратыўную самастойнасць у сям'і іншых народнасцяў Расіі», прапагандавалася ідэя саюзу беларускага і расійскага нацыянальна-вызваленчага руху, сцвярджалася самабытнасць беларускай мовы, неабходнасць развіцця беларускай культуры і літаратуры[2].

Беларускія народнікі-пецярбуржцы характарызавалі асаблівасці Беларусі праз клімат, геаграфічнае становішча, гаспадарку, этнаграфію насельнікаў, іх менталітэт і паходжанне, адрозненне нацыянальных інтарэсаў, а таксама праз мову, якую яны залічвалі да найбольш чыстых славянскіх гаворак. «Беларуская мова, — пішуць аўтары «Гомана», — з часам можа атрымаць такое ж права грамадзянства, як і мова маларасійская. Развіццё мовы, канечне, — справа будучыні, калі сама Беларусь колькі-небудзь падымецца духам, а гэта галоўным чынам будзе залежыць ад яе эканамічнага паляпшэння. Клопат пра яе пакідаем аматарам-беларусам»[3]. Пры гэтым у публікацыях народнікаў няма вызначэння тэрытарыяльных межаў Беларусі.

Гоманаўцы зразумелі і агучылі адну з асноўных складанасцяў лёсу Беларусі: «З усіх народнасцяў, якія ўваходзяць у склад сучаснай Расіі, лёс беларусаў, як вядома, вылучаецца тым, што на іх ужо з даўніх часоў прывыклі глядзець, як на нейкі матэрыял для разнастайных эксперыментаў, а не як на жывую народнасць, якая здольна самастойна кіраваць сабою. Зыходзячы з гэтага пункту гледжання, бліжэйшыя суседзі беларусаў, карыстаючыся правам мацнейшага, рабілі над імі свае вопыты і бесцырымонна накладалі жорсткія рукі на жывы арганізм беларускай народнасці, вырашыўшы, што яна павінна пакорліва падпарадкавацца мацнейшым і асімілявацца з імі, растварыўшыся ў вялікарускім ці польскім моры» («Гоман», № 1).

У нелегальным пецярбургскім друку ідэя нацыі і ідэя сацыяльна-палітычнай волі тлумачацца аднолькава, нацыянальнае адраджэнне беларусаў часам падаецца як рэалізацыя лозунгаў грамадска-палітычнай свабоды. Нягледзячы на частыя спасылкі на «Народную волю», у «Гомане» адсутнічае вострая рэвалюцыйная рыторыка, заклік да сілавога рашэння. Класавы падыход відавочны, але параўнальна мяккі[4].

Сэнс, які ўкладалі народнікі-пецярбуржцы ў паняцце беларускай нацыянальнай ідэі, цалкам адрозніваўся ад таго, што прысутнічаў у шляхецкіх заснавальнікаў беларускай літаратуры XIX ст., і быў блізкі таму яго бачанню, якое азначылася ў «нашаніўскі» перыяд (як адна з яго плыняў) і стаў дамінавальным у савецкай Беларусі. Гэта імкненне да саюза з Расіяй, пісанне пра беларускія справы па-руску, цесная сувязь нацыянальнай ідэі з ідэяй сацыяльнага вызвалення, дыстанцыяванне ад каталіцызму і «пальшчызны».

Яшчэ ў 1930-я гг. Антон Луцкевіч пісаў, што менавіта ў «Гомане» «ўпершыню абсалютна выразна і пэўна быў сфармуляваны пастулат дзяржаўнай самастойнасці Беларусі ў складзе расійскага федэратыўнага саюза». Некалькі дзесяцігоддзяў пазней Рыгор Семашкевіч паказваў на «Гоман» як на выданне, у якім упершыню ў XIX ст. грунтоўна разглядаліся беларускія грамадскія праблемы, перш за ўсё дзяржаўнасці і мовы[5].

Хто ж былі аўтары публікацый «Гомана»? Атрымаць поўны адказ на гэтае пытанне няма магчымасці. Мяркуючы па матэрыялах суда і паліцыі, на чале пецярбургскай групы беларускіх народнікаў стаялі студэнты універсітэта Хаім Ратнер і Аляксандр Марчанка[6]. Бацькам **Хаіма Ратнера** (нарадзіўся ў 1861 г. у Шклове) быў габрэйскі купец. Вучыўся Ратнер у Гомелі і Магілёве.

[1] *Радзик Р.* Петербургские народники — творцы современной белорусской национальной идеи // Белорусский сборник. Вып. 3. СПб., 2005. С. 75.

[2] *Александровіч С.Х.* Пуцявіны роднага слова. Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX — пачатку XX стагоддзя. Мн., 1971. С. 63–73.

[3] Публицистика белорусских народников. С. 111–112.

[4] *Радзик Р.* Петербургские народники... С. 80.

[5] *Семашкевіч Р.М.* Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе (канец XIX – прачатак XX ст.), Мн.: 1971. С. 27.

[6] *Александровіч С.Х.* Кнігі і людзі. С. 67 і наступн.

Нелегальнай дзейнасцю пачаў займацца ў Магілёўскай гімназіі. У 1882 г. паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Пецярбургскага універсітэта. 23 сакавіка 1884 г. падчас вобыску ў яго кватэры паліцыя знайшла нелегальную друкарню, гектограф і друкаваныя выданні (у тым ліку 32 асобнікі першага нумара «Гомана»), тры рукапісы, з якіх два напісаныя рукой Ратнера. Магчыма, гэта былі матэрыялы, падрыхтаваныя для выдання другога нумара «Гомана». Напэўна, сам Ратнер і быў арганізатарам нелегальнай друкарні, з якой выйшаў першы нумар «Гомана», а, магчыма, і іншыя публікацыі беларускай групы народнікаў. **Аляксандр Марчанка** нарадзіўся ў 1860 г. у Мсціслаўскім павеце. Яго бацькі спачатку былі прыгоннымі сялянамі, пазней перасяліліся ў горад. Пасля заканчэння Віцебскай гімназіі Марчанка ў 1880 г. паступіў у Кіеўскі універсітэт, пасля пераверўся на юрыдычны факультэт Маскоўскага універсітэта, а праз год — на гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага. 20 сакавіка 1884 г. быў арыштаваны і абвінавачаны ў прыналежнасці да нелегальнай групы беларускіх народнікаў. Ён не прызнаў выстаўленыя абвінавачванні і быў аддадзены пад нагляд паліцыі на пяць гадоў. Пераход Марчанкі ў Пецярбургскі універсітэт супаў з пачаткам актыўнай дзейнасці беларускай фракцыі «Народнай волі»[1]. Дакладна невядома, хто выдаў другі нумар «Гомана», але, магчыма, што гэта мог быць менавіта Марчанка. У матэрыялах паліцыі гаворыцца пра супрацоўніцтва з Ратнерам актыўнага дзеяча «Народнай волі» Міхаіла Аўчыннікава і паэта-нарадавольца Пятра Якубовіча, якія мелі непасрэдны ўплыў на змест матэрыялаў, што друкаваліся ў «Гомане».

Асноўная частка народнікаў, якія непасрэдна кіравалі выданнем часопіса і друкаваліся ў ім, паходзіла з Усходняй Беларусі. У гэтым варта шукаць прычыны адрознення зместу іх творчасці ў параўнанні з беларускамоўнай літаратурай выхадцаў з цэнтральнай і заходняй Беларусі. Аднак не ўсё так проста. Дзеяч сацыялістычнага руху Вітольд Ёдка-Наркевіч (нарадзіўся ў 1864 г. у Слуцку, вучыўся ў васьмідзесятых гадах у Дэрпце) у 1903 г. надрукаваў у лонданскай газеце «Przedświt» нататку «З нагоды беларускай пракламацыі». У ёй чытаем: «Мы баімся, каб дзейнасць групы БРП (Беларускай рэвалюцыйнай партыі) не спасцігла лёс яе папярэднікаў — рэдактараў «Гомана». Пад такім назовам у 1882 годзе выдаваўся журнальчык на рускай мове, друкаваны на гектографе, які паставіў перад сабой мэту стварыць беларускую культуру і інтэлігенцыю. Яго рэдактарамі былі маладыя палякі, якія знаходзіліся ў навучальных установах Пецярбурга і падчас вучобы адчулі сябе беларусамі. Рэчаіснасць, якая не давала ніякіх авансаў іх амбіцыям, адсутнасць рэальнай рэвалюцыйнай праграмы вельмі хутка зрабілі з іх звычайных літоўскіх філістэраў, выключэннем была маленькая група, якая абмаскалілася (się zmoskalila)»[2]. З гэтых слоў вынікае, што аўтар быў знаёмы з рэдактарамі «Гомана» або прынамсі ведаў, кім яны былі. Прыняўшы да ўвагі біяграфію Ёдкі-Наркевіча, гэта падаецца цалкам магчымым.



*Сходка студэнтаў палітэхнічнага інстытута*

Выдаўцы «Гомана» часцей сутыкаліся з рускай культурай, чым з польскай, і таму, што ў большасці былі праваслаўныя, і з-за ўдзелу ў рускім рэвалюцыйным руху, і проста паколькі жылі і вучыліся ў расійскай сталіцы. Цікавае меркаванне выказаў на гэтую тэму ксёндз-беларус Адам Станкевіч. Ён адзначыў, што «Мужыцкую праўду» пісалі і выдавалі беларусы-каталікі з польскай культурай, а сярод нарадавольцаў-гоманаўцаў ужо з'явілася беларуская праваслаўная інтэлігенцыя. Калі першыя яшчэ азіраліся на Польшчу і на традыцыі Вялікага Княства Літоўскага, то другія злучалі лёс Беларусі з Расіяй і пра традыцыі Вялікага Княства, калі не лічыць Грынявіцкага, зусім не памяталі. Гэтыя інтэлігенты не называлі сябе літоўцамі (як гэта рабіў Каліноўскі і нават яшчэ Грынявіцкі), а менавіта беларусамі. Можна меркаваць,

[1] *Александровіч С.Х.* Кнігі і людзі. С. 68–70.

[2] [*Jodko-Narkiewicz W.*] Z powodu odezwy białoruskiej // Przedświt. 1903. № 2. S. 56–57. — Праз Рышарда Радзіка гэтая цытата, як і гіпотэза пра знаёмства Ёдкі-Наркевіча з рэдактарамі «Гомана», вядомая дзякуючы Юрку Туронку.

што для станаўлення беларускай нацыянальнай ідэі мела значэнне і атмасфера, у якой дзейнічалі пецярбургскія народнікі, — рускага інтэлігенцкага ідэалізму і утапізму, культу класавасці, любові да народа і комплексаў на гэтай глебе, службы яму і ахвярнасці ў імя яго сацыяльнага і эканамічнага вызвалення.

З Пецярбурга народнікам няцяжка было бачыць у беларускім народзе класава прыгнечаную супольнасць, якая адрозніваецца і ад палякаў, і ад рускіх. Мела значэнне тое, што інтэлектуальнай базай нарадавольцаў стаў Пецярбургскі універсітэт, які быў цэнтрам антыканфармісцкай думкі. Сімвалічна: праз дваццаць гадоў пасля паўстання 1863 г., падчас якога выпускнік гэтага універсітэта Кастусь Каліноўскі стварыў першую беларускамоўную газету «Мужыцкая праўда», якая бачыла літоўска-беларускія землі ў палітычным саюзе з Польшчай, супраць Расіі і праваслаўя, у Пецярбургу з'яўляецца група нарадавольцаў, якія дыстанцыяваліся ад Польшчы і каталіцтва і якія бачылі Беларусь у федэратыўным саюзе з Расіяй як паўнапраўнага члена будучай федэрацыі[1]. Хаця выданні народнікаў паліцыя знаходзіла і ў Пецярбургу, і ва ўсходняй частцы Беларусі, тыражы іх былі мізэрныя, а самі народнікі-беларусы не пакінулі выразных слядоў у свядомасці творцаў новай беларускай культуры пачатку XX ст.

Працягнуў традыцыі беларускага рэвалюцыйнага руху над Нявой пасля «Гомана» паэт **Адам Гурыновіч** (1869–1894). Ён у 1887 г. стаў студэнтам пецярбургскага Тэхналагічнага інстытута, з 1899 г. прымаў удзел у рэвалюцыйнай дзейнасці арганізацыі «Koło polskie», іншая назва якой «Гурток моладзі польскай, літоўскай, беларускай і маларускай». Арганізацыя працавала ў асноўным сярод студэнтаў і пецярбургскіх рабочых — выхадцаў з Польшчы, Беларусі, Літвы. На пятым годзе яе дзейнасці пецярбургскі граданачальнік пісаў у дэпартамент паліцыі: «...Гурток гэты, па агентурных звестках, зусім не меў да гэтага часу (г. зн. да пачатку 90-х гг.) рэвалюцыйных мэтаў і творы, якія распаўсюджваліся ім, дазволены да звароту ў грамадстве... Старшынствавалі на сходах члены гуртка па выбару, прычым з ліку прадстаўнікоў вядомыя: К. Дабкевіч, І. Вілейшыс, студэнты С.-Пецярбургскага універсітэта, зубны ўрач М. Дамашэвіч, касірамі былі студэнт С.-Пецярбургскага універсітэта А. Янчэўскі, Горнага інстытута



Пецярбургскі гарадавы

Л. Цяслінскі, Тэхналагічнага інстытута Ф. Малкоўскі, Б. Урбановіч, А. Гурыновіч, Інстытута грамадзянскіх інжынераў У. Шавярноўскі, М. Касоўскі і А. Генрых. У склад гуртка ўваходзілі пераважна навучэнцы вышэйшых навучальных устаноў Пецярбурга, з якіх некаторыя прыцягваліся ўжо да дазнання палітычнага характару».

Арышты прайшлі вясной, летам і восенню 1893 г. У справу было ўцягнута больш як дваццаць чалавек. 16 чэрвеня ў Вільні арыштавалі Адама Гурыновіча, які прывёз туды з Пецярбурга нелегальную літаратуру. Маладога чалавека этапавалі ў сталіцу і змясцілі ў дом папярэдняга зняволення, а пасля ў Петрапаўлаўскую крэпасць. Следчыя цягнулі час: першы допыт адбыўся толькі ў кастрычніку, праз пяць месяцаў пасля арышту. У паказаннях Гурыновіч заявіў: «Да справы распаўсюджвання злачынных выданняў я спрычыніўся пры наступных абставінах: яшчэ ў 1889 г. я прачытаў некаторыя забароненыя кнігі тады першы раз»[2]. Многае ўтойваў або даваў наўмысна няправільныя звесткі. Напрыклад, ён гаворыць: «Мэта гуртка — распаўсюджванне сярод рабочых і сялян кніжак легальнай літаратуры з мэтай падняць агульны ўзровень народнай адукацыі». Але ў

[1] *Семашкевіч Р.М.* Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе... С. 17.

[2] Матэрыялы допыту А. Гурыновіча цытуюцца паводле публікацыі Р. Гульман: «Беларуская літаратура. Даследаванні і публікацыі». Вып. I. Мінск, 1958. С. 246.

лісце (які быў перахоплены паліцыяй яшчэ восенню 1892 г.) да С. Пяткевіч, Гурыновіч просіць прысылаць нелегальную літаратуру. Тут жа ён раіць сваёй сяброўцы атрымаць некаторыя рускія кнігі непасрэдна ад Пляханава, а ўкраінскія ў Львове ў Івана Франка.

У канцы лістапада ці на пачатку снежня 1893 г. (пасля шасці месяцаў зняволення) малады чалавек быў высланы пад нагляд паліцыі на радзіму, у маёнтак бацькі, дзе заўчасна памёр ад чорнай воспы. Ён быў ужо мёртвы, а ў Мінскім жандарскім упраўленні перакладалі на рускую мову сшыткі з яго запісамі, каб выставіць іх як абвінаваўчы дакумент. Судовая справа закончылася ў 1895 г.: «Koło polskie» было разгромлена, але засталося ў гісторыі як факт існавання аднаго з першынцаў рэвалюцыйнага руху, засведчыла еднасць рускіх, палякаў, беларусаў і літоўцаў.

Адам Гурыновіч паставіў жорсткую ацэнку ранейшым (панству і шляхце) і цяперашнім (расейскім чыноўнікам) прыгнятальнікам. Гэта катэгарычны вершаваны прысуд:

Перш душылі паны,
Што шляхтай зваліся.
Цяпер сукіны сыны
За нас узяліся...
Ды навучыць рабят
Лаіцца па-руску;
«Сукин сын, я тебя
Засажу в кутузку».
«Сукін сын» ці «psia mać» —
Абое рабое.
Ці ж не маюць нам даць
Што кольвек другое?

Між тым не сунімаліся і радыкалы-тэрарысты. Баевікі партыі «Народная воля» пачалі рыхтаваць новы замах — цяпер на цара Аляксандра III. У 1887 г. здзейсніць забойства не ўдалося — паліцыя арыштавала актывістаў-нарадавольцаў, а суд прыгаварыў арганізатараў замаху да смяротнай кары. Сярод іншых такі вырак атрымаў адзін беларус: студэнт-геолаг Пецярбургскага універсітэта **Іосіф Дзяменцьевіч Лукашэвіч** (1863–1928). Аднак на шыбеніцу разам з братам Уладзіміра Леніна — Аляксандрам Ульянавым — Лукашэвіч не пайшоў. Смяротны прысуд быў заменены пажыццёвым зняволеннем у Шлісельбургскай крэпасці. Адбываючы пакаранне, Іосіф Лукашэвіч не паддаўся самоце, а напружана працаваў над пытаннямі геалагічнай гісторыі Зямлі. Рэвалюцыйная сітуацыя 1905 г. паспрыяла адмене прыгавору: Лукашэвіч выйшаў з царскай вязніцы пасля 18 гадоў зняволення. У хуткім часе ў Пецярбургу выйшлі тры тамы яго кнігі «Неарганічнае жыццё Зямлі» (1908–1911 гг.). У 1913 г. Лукашэвіч быў прафесарам геалогіі ў Пецярбургу, а з 1921 г. выкладаў геалогію ў Вільні, ва універсітэце імя Стэфана Баторыя.

У пачатку XX ст. у рускім рэвалюцыйным друку пачалі з'яўляцца матэрыялы, падпісаныя псеўданімам «Беларусаў», што сведчыла пра пэўны ўзровень нацыянальнай свядомасці іх аўтара. За гэтым псеўданімам хаваўся шляхціч **Аляксей Станіслававіч (Сцяпанавіч) Бялеўскі** (нар. у 1859 г.), ураджэнец маёнтка Шэды Горацкага павета Магілёўскай губерні (цяпер вёска Шэды Горацкага раёна). З 1869 да 1874 г. ён вучыўся ў Магілёўскай гімназіі, адкуль быў пераведзены ў Полацкі кадэцкі корпус. Скончыў яго і ў 1876 г. паступіў у Пятроўскую земляробчую акадэмію ў Маскве. У 1887 г. Бялеўскі ўваходзіў у групу сацыялістаў-федэралістаў, як прадстаўнік ад Пятроўскай акадэміі. Быў рэдактарам першых двух нумароў ліберальна-народніцкай газеты «Самоуправление», якая друкавалася ў Жэневе ў 1887–1889 гг., змясціў там некалькі сваіх артыкулаў. У маі 1896 г. ён разам з рэвалюцыянеркай Кацярынай Прайс зняў у пасёлку Лахта пад Пецярбургам дачу. На дачы была размешчана партыйная друкарня, якая дзейнічала да аблавы паліцыі 24 чэрвеня 1896 г. Бялеўскага заключылі ў Петрапаўлаўскую крэпасць, дзе ён прабыў паўтара годы, а затым саслалі на 8 гадоў ва Усходнюю Сібір[1]. Яшчэ адзін рэвалюцыянер-выпускнік Магілёўскай гімназіі быў доўгі час пецярбуржцам. Гэта ўраджэнец вёскі Студзянец Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці **Панцеляймон Мікалаевіч Лепяшынскі** (1868–1944). У 1886 г. ён паступіў ў Пецярбургскі універсітэт (у 1890 г. выключаны за рэвалюцыйную дзейнасць і высланы са сталіцы). Пазней неаднойчы прыязджаў у Пецярбург нелегальна, вёў тут партыйную працу, супрацоўнічаў у бальшавіцкіх газетах.

Удзел у рэвалюцыі 1905 г. пецярбургскія беларусы прымалі з розных бакоў барыкад. Прынамсі прафесар-матэматык з Горнага інстытута ўраджэнец Пінска **Іван Доўбня** выступіў 17 кастрычніка 1905 г. з прамовай на агульным сходзе былога Акадэмічнага саюза наконт адносінаў да рэформаў. Ён быў настроены супраць сацыялізму і сацыялістаў,

[1] *Баркоўскі А.* Пад псеўданімам Беларусаў // Голас Радзімы. 22 красавіка 2004 г. №№ 14–17. С. 24.

бо лічыў, што дамогшыся дабрабыту шляхам падзелу маёмасці заможных, мільёны беднаты не змаглі б захаваць расцягнутае па кавалках нацыянальнае багацце. «Вуліца ніколі дзяржавай не кіравала», — прамаўляў Іван Пятровіч[1].

А незадоўга перад гэтым сваёй галоўнай справай зрабіў нацыянальна-палітычную працу студэнт Пецярбургскага універсітэта **Іван Луцкевіч** (1881–1919). У 1903 г. ён стварыў першую беларускую палітычную арганізацыю Беларускую Рэвалюцыйную Грамаду, якая адыграла велізарную ролю ў нацыянальным абуджэнні шырокіх мас у часе рэвалюцыі 1905 г. Паліцыя высачыла яго. Пасля арышту Іван Луцкевіч апынуўся ў камеры разам з хворымі на сухоты і заразіўся гэтай невылечнай хваробай. Пазней ён пераедзе ў Вільню, заснуе першую беларускую газету «Наша Доля», наладзіць выданне беларускіх кніжак і брашур, арганізуе беларускія настаўніцкія курсы, будзе выступаць на сходах і мітынгах, працаваць настаўнікам, чытаць рэфераты, прапагандаваць турыстыку, друкаваць працы аб Беларусі ў замежных часопісах, збіраць гістарычныя помнікі... Іван Луцкевіч вынесе беларускае пытанне на міжнародную арэну, выступаючы як прадстаўнік беларускага народу на розных з'ездах і канферэнцыях. У сваёй дзейнасці ён будзе грунтавацца на канцэпцыях узнаўлення і адбудовы старой беларускалітоўскай дзяржаўнасці. Як сябра Віленскай Беларускай Рады ён прыняў актыўны ўдзел у гістарычнай сесіі Рады БНР 25 сакавіка 1918 г. у Мінску і стаў адным з ініцыятараў абвяшчэння незалежнасці Беларусі. Вывезены сябрамі ў безнадзейным ужо стане ў Закапанэ, пасля кароткага побыту ў санаторыі Іван Луцкевіч памёр там 20 жніўня 1919 г. Сярод адрасоў пецярбургскіх рэвалюцыянераў можна вылучыць і дом № 70 на 15-й лініі Васільеўскага вострава: тут жыла студэнтка Тэхналагічнага інстытута ўраджэнка Мінска **Берта Браніславаўна Слуцкая** (Вера Слуцкая). Прафесійная рэвалюцыянерка, яна пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. была членам Петраградскага гарадскога камітэта, а пазней сакратаром Васілеўвостраўскага райкама РСДРП(б). Загінула Берта Слуцкая 12 лістапада 1917 г., пахавана на габрэйскіх могілках у Царскім Сяле.

На тэму рэвалюцыі шмат пісаў выхадзец з Магілёўскай губерні **Леў Іванавіч Касуновіч** (1864 – пасля 1920). Яшчэ ў гады навучання ў Магілёўскай гімназіі (якую не скончыць не ўдалася), малады чалавек пачаў пісаць вершы. Жыццё прымусіла яго да дзяржаўнай службы: Касуновіч служыў паліцэйскім надзірацелем, а пасля станавым приставам у Гомельскім, Мсціслаўскім, Серпухаўскім паветах. Але дзяржаўная служба была толькі сродкам пастаяннага заробку, галоўнам захапленнем Льва Касуновіча была літаратура. Яшчэ ў 1886 г. ён выдаў (у Магілёве) зборнік паэзіі «Стихотворения», перыядычна друкаваўся ў «Адэскім лістку» і пецярбургскіх «Біржэвых ведамасцях». У кастрычніку 1906 г. Л. Касуновіч трапіў пад суд па абвінавачанню ў растраце казённых грошай. Нечакана для сябе апынуўшыся ў Пецярбургу, ён некалькі гадоў чакаў тут рашэння суда. Пры гэтым не мог займаць якой-небудзь дзяржаўнай пасады і адзінай крыніцай заробку стала для яго літаратурная праца. Супрацоўнічаў у газетах, змяшчаючы пераважна лірычныя вершы і — зрэдку — прозу. Найбольш прыкметнае апавяданне «У цемры асенняй ночы» — аб пагроме панскага дому сялянамі падчас рэвалюцыі 1905 года. Галоўны герой — станавы прыстаў — геройскі гіне, ратуючы ад раз'юшанай сілы памешчыка і яго сям'ю. У сваіх публіцыстычных артыкулах ў газеце «Руская дзяржава» Касуновіч заклікае да саюза ўраду і грамадства на глебе моцнай дзяржаўнай улады і канстытуцыі. Ён выступае супраць «забойчай казёншчыны», старога цэнзурнага статута, «ненавіснага парадку» і адначасова — рэвалюцыйнага вызваленчага руху. «Для сацыяльнай рэвалюцыі, — піша Касуновіч у адным з артыкулаў, – няма глебы пад рускімі нагамі. Бо 9/10 рускага насельніцтва ўдзячныя Маніфесту 17 кастрычніка і не дадуць яго запэцкаць ні чорным правым, ні чырвоным левым лапам». Што казаць – прарокам ён не стаў.

* * *

У выкананні Пецярбургам сталічных функцый з красавіка 1906 г. і да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. значную ролю адыгрывала прадстаўнічая заканадаўчая ўстанова — Дзяржаўная Дума. Паседжанні расійскага парламента праходзілі ў Таўрыдскім палацы, дэпутатаў абіралі па ўсёй імперыі згодна з тэрытарыяльна-саслоўным крытэрыем. У кожнай Думе, такім чынам, былі прадстаўнікі беларускіх губерняў. Яны ніколі не выступалі

[1] Первое высшее техническое учебное заведение России. История создания и развития Санкт-Петербургского Государственного Горного института. Т. 1. СПб., 1998. С. 124.



*Паседжанне Дзяржаўнай Думы ў Таўрыдскім палацы*

як адзіная палітычная сіла. Землеўладальнікі-каталікі часта далучаліся да польскіх партый, праваслаўныя святары, чыноўнікі і сяляне — пераважна да правых расійскіх. Прыкладам першых можа быць абраны ад Мінскай губерні «найлепшы прамоўца Думы» адвакат А. Ляднiцкi, а другіх — кадэт Аляксей Валковіч[1]. Аднак менавіта ў Думе пачалі вылучацца палітыкі, дзейнасць якіх была накіравана на абарону беларускіх інтарэсаў. Вось як характарызаваў сваю дзейнасць ў першай Думе дэпутат-беларус памешчык Раман Скірмунт:

«Я сам ураджэнец Беларускага Палесся, нашчадак старажытнай літоўскай сям'і з даўніх часоў, спрадвеку аселай у гэтым краі, і мае продкі да 17 стагоддзя карысталіся беларускай мовай, як дамашняй. Я заўсёды быў і буду горача адданы сваёй радзіме і свайму народу. У І-й Дзяржаўнай Думе — магу сказаць — дзякуючы маім намаганням вылучылася краёвая група дэпутатаў Літвы і Беларусі, зусім незалежная ад Польскага Кола. У фракцыі аўтанамістаў-федэралістаў І-й Дзяржаўнай Думы я адстойваў інтарэсы Беларускага народа»[2]. Сярод беларусаў-памешчыкаў, якія ўвайшлі ў Дзяржаўны савет — Эдвард Вайніловіч (1847—1928) ад Мінскай і Іпаліт Корвін-Мілеўскі (1848—1932) ад Віленскай губерняў.

З восені 1905 г. асабіста вёў передвыбарную кампанію на роднай Гродзеншчыне выпускнік юрыдычнага факультэта Пецярбургскага універсітэта Майсей Астрагорскі, а ў сакавіку 1906 г. яго абралі дэпутатам І Дзяржаўнай Думы ад Гродзенскай губерні. Пра маштабы заваяванай ім папулярнасці сведчыць той факт, што падчас перамоваў пра ўзгоднены спіс кандыдатаў прадстаўнікі беларускіх сялян прасілі лідэраў габрэйскай абшчыны аба-

[1] *Zaprudnik J.* Russo-Polish clashes in the State Dumas (1906—1917) over schools in the Russian empire's «North-Western region» (Belarus) // Беларусь і беларусы ў прасторы і часе. Зборнік да 75-годдзя прафесара Адама Мальдзіса. Мн., 2007. С. 354—364.

[2] Цытата з ліста Рамана Скірмунта да Яўсевія Канчара, надрукаванага ў часопісе «Чырвоны шлях», 1918 г. № 1—2. С. 12—13.

вязкова ўключаць у гэты спіс Астрагорскага[1]. «Сяляне свядома і свабодна далі мне свае галасы, — успамінаў Майсей Якаўлевіч, — не падымаючы ніякіх пытанняў пра розніцу веры і народнасці, што нас падзяляюць; насупраць, яны выказвалі... сваё поўнае спачуванне, паказвалі на салідарнасць нашых інтарэсаў: «вы абяздоленыя і мы абяздоленыя, таму мы павінны ісці разам».

Журналісты падлічылі, што Майсей Астрагорскі стаў сёмым сярод усіх дэпутатаў Думы і першым сярод беларускіх дэпутатаў па колькасці выступленняў на пленарных пасяджэннях. Дэпутаты ад Гродзенскай губерні, шмат у чым дзякуючы Астрагорскому, занялі па гэтым «паказчыку актыўнасці» шостае месца сярод усіх губернскіх дэлегацый і першае месца сярод губернскіх дэлегацый Беларусі. Актыўна працаваў Астрагорскі ў камісіях Думы. Яго абралі дакладчыкам «Камісіі 19-ці», якая распрацоўвала першыя раздзелы Наказу (рэгламенту) Думы[2]. Астрагорскі зрабіў значную падрыхтоўчую працу па арганізацыі візіту групы дэпутатаў на міжпарламенцкую канферэнцыю па праблемах мірнага рэгулявання міжнародных спраў, якая адбылася ў Лондане ў ліпені 1906 г. Улучэнне Думы ў сістэму міжнародных парламенцкіх сувязяў узбройвала малады расійскі парламент вопытам іншых аўтарытэтных заканадаўчых устаноў, забяспечвала яму міжнародную падтрымку ў супрацьстаянні з царызмам і спрыяла стварэнню наднацыянальных структур, якія дапамагалі нармальнай жыццядзейнасці ў сусветнай супольнасці.

Часам узнікалі калізіі, пры якіх думскія дэпутаты-беларусы вымушаны былі ўспамінаць аб сваім паходжанні і нават тлумачыць усяму Парламенту (як гэта зрабіў у III Думе дэпутат ад Віцебскай губерні Аляксей Сапуноў) беларускае паходжанне паэта Адама Міцкевіча. Пра сваю дзейнасць Аляксей Сапуноў пісаў пазней: «Чатыры гады працаваў я ў Дзяржаўнай Думе. Два пытанні асабліва цікавілі мяне: чыншавае, або арэнднае пытанне, і ўвядзенне земства ў Заходнім краі. Я — не прамоўца, аднак давялося гаварыць разоў 6. Да вялікага майго і маіх выбаршчыкаў задавальнення, Дзяржаўная Дума абодва вышэйзгаданыя законы правяла паспяхова да канца, і менавіта так, як жадалі мае выбаршчыкі і я. Праўда, Дзяржаўны Савет значна змяніў гэтыя законапраекты, змяніў, з нашага пункту гледжання, не да лепшага; аднак і ў цяперашнім іх выглядзе яны, бясспрэчна, карысныя». Тэксты выступленняў Сапунова друкаваліся ў стэнаграмах пасяджэнняў Думы і ў «Віцебскіх губернскіх ведамасцях».

«Сумна прызнавацца, але да чарнасоценнаабрусіцельнага кірунку належаць блізка ўсе прадстаўнікі беларусаў у Гасударственнай Думе — пісаў у 1911 г. у пецярбургскім часопісе «Маладая Беларусь» Антон Луцкевіч. — ...Гасударственная Дума і рускае грамадзянства... не могуць ніяк акуратна прадставіць сабе таго, што папраўдзе робіцца на Беларусі, якія патрэбы мае наш народ, чаго ён дабіваецца». У артыкуле гаварылася пра фактычнае непаўнамоцтва і неправамернасць выбарчых законаў, якія дзейнічалі ў беларускіх губернях. Царскія ўлады адказвалі часам рэпрэсіямі, часам арыгінальна, вуснамі беларусаў «з народу». Прынамсі, у Санкт-Пецярбургу ў 1910 г., з друкарні гр. Скачкова на Італьянскай, 16, выйшла арыгінальная кніга. Яна называлася «Речи на Монархическихъ собраніяхъ, произнесенныя Крестьяниномъ Минской губ. Новогрудскаго уезда Николаемъ Федоровичемъ Морозикомъ въ 1910 году». У версэце «Речь о Собраніи Народныхъ Русскихъ Союзов» аўтар піша:

*Народное Монархическое Русское Собрание*
*Есть голосъ Божій и Божіе избраніе.*
...
*И, действительно, Г. Пуришкевичъ много*
*потрудился,*
*Пока сей Русский Союз явился,*
*Потому что как только враги Отечества*
*проявились,*
*Такъ сейчасъ и поборники явились.*
*А эти поборники и есть*
*ревнители Православия и Самодержавия*
*Имъ-то мы и должны желать многихъ лет*
*и всегдашнего здравия...*

У чацвёртай (1912–1917 гг.) Думе была створана Беларуска-літоўская група з шасці дэпутатаў. Гэта былі прадстаўнікі памяркоўнага цэнтра. Сярод іх вылучаўся пецярбуржац Генрых Свянціцкі.

Час ад часу на пасяджэннях Дзяржаўнай Думы абмяркоўваліся праблемы «іншародцаў» — польскай, габрэйскай і татарскай меншасцяў. Аднак прапановы зраўняць

[1] *Санцевич А.* Как состоялись выборы в Государственную Думу. Рассказ выборщика от крестьян Волковысского уезда. Гродно. 1906. С. 24.

[2] *Андреев И.В.* М.Я. Острогорский — депутат I Государственной думы от Гродненской губернии // Белорусский сборник. Статьи и материалы по истории и культуре Белоруссии. Вып. 2. СПб., 2002. С. 111.

у правах усе нацыі, што жылі ў Расійскай імперыі, ніколі не знаходзіла там прынцыповага ўхвалення. Правыя дэпутаты звычайна сустракалі яе крыкамі, шумам, смехам, а Сталыпін на адным з пасяджэнняў сказаў, што трэба «каб іншародцы палюбілі Расію, прызналі яе сваёй айчынай, а тады ім будуць дадзены правы, роўныя з рускімі». Першая беларуская газета — віленская «Наша Ніва» — уважліва сачыла за падзеямі, што адбываліся ў Думе ўвогуле, а ў сферы нацыянальнага пытання — асабліва. Пасля аднаго з чарговых абмеркаванняў пытання пра патрэбы «іншародцаў» на пачатку лета 1908 г. яна з’едліва і з роспаччу пісала: «Нашы беларускія дэпутаты, як адзін, маўчалі: ніхто і слова не сказаў пра беларускую нацыянальную справу. Ды ў гэтым няма ніякага дзіва: трэба ведаць, што нядаўна запанавала небывалая згода між «истинно-русскими» і «истинно-польскими» людзьмі. Яны зыйшліся ў думках сваіх на адным: ня трэба даваць беларусам прабудзіцца і паказаць, што яны — беларусы, асобная нацыя, роўная другім, каторая мае свае ўласныя культурна-нацыянальныя патрэбы і жаданні...». А 30 мая 1909 г. з думскай трыбуны прагучалі палымяныя словы дэпутата Аляксея Сапунова: «Усе, нават самыя нязначныя народнасці, імкнуцца да «самавызначэння»; за імі ўсе прызнаюць права на гэта. Толькі адна народнасць, народнасць беларуская, баіцца і думаць пра гэта»[1].

Акрамя легальных агульнарасійскіх партый, да якіх далучаліся выхадцы з Беларусі, у Пецярбургу з 1903 г. нелегальна дзейнічала група палітыкаў народніцкага кірунку **Беларуская рэвалюцыйная грамада** (БРГ), стваральнікамі якой былі Алаіза Пашкевіч (Цётка) і Вацлаў Іваноўскі. На першым з’ездзе ў 1903 г. БРГ вызначыла сябе як сацыяльна-палітычная арганізацыя «беларускага працавітага народу», мэты бачыла ў знішчэнні капіталістычнага ладу і звяржэнні самаўладдзя ў Расіі. У нацыянальным пытанні БРГ выступала за тое, «каб усе народы мелі як найбольшую свабоду», а самай пажаданай формай забеспячэння нацыянальнай свабоды ў часы капіталізму прызнала незалежную дэмакратычную рэспубліку. На другім з’ездзе (студзень 1906 г., Мінск) партыя прыняла новую праграму і новую назву — **Беларуская сацыялістычная грамада** (БСГ). У праграме падкрэслівалася, што БСГ арганізуе «працавітую беднату Беларускага краю без адрознення нацыянальнасцяў» з канчатковай мэтай замены капіталістычнага ладу сацыялістычным. Адбылася эвалюцыя поглядаў заснавальнікаў партыі ад рэвалюцыйных да ліберальна-народніцкіх пазіцый, што выявілася ў закліку «Зямлю трэба здабываць не сілаю, не грабяжом, а законам». Прапановы байкоту Думы (у адносінах да выбараў у І Думу) замяніліся на заклікі ўдзельнічаць у выбарах. Да 1917 г. Петраградская арганізацыя БСГ была адной з найбольшых (1 тыс. чалавек, у т. л. каля 300 рабочых). Чарговая канферэнцыя БСГ, якую правялі ў Петраградзе ў чэрвені 1917 г., вітала Усерасійскі з’езд рабочых і сялянскіх дэпутатаў, разглядаючы яго як першы крок да склікання Устаноўчага сходу; падтрымала ўваходжанне меншавікоў, эсэраў і народных сацыялістаў у Часовы ўрад; пацвердзіла прыхільнасць да палітыкі «рэвалюцыйнага абарончніцтва». Канферэнцыя разгледзела і ўхваліла праект новай праграмы БСГ: сваёй канчатковай мэтай партыя абвясціла «ўвядзенне сацыялістычнага парадку цераз развіццё класавай барацьбы і сацыяльную рэвалюцыю», але пры гэтым не акцэнтавала ўвагі на адрозненнях паміж рабочым класам і сялянствам, не падкрэслівала асаблівай ролі пралетарыяту ў рэвалюцыі, характарызавала абодва гэтыя класы агульным паняццем «працоўная бедната». Праграма паўтарыла ранейшыя ўстаноўкі на нацыянальна-тэрытарыяльную аўтаномію Беларусі ў складзе федэратыўнай Расійскай рэспублікі. Канферэнцыя абрала часовы ЦК БСГ, у які ўвайшлі ад Петраградскай арганізацыі Палута Бадунова, Зміцер Жылуновіч, Язэп Варонка, Клаўдзіюш Душэўскі, Э. Будзька, А. Барысёнак, В. Лузгін. Ад правінцыі (Мінск, Яраслаўль, Масква, Перм, Слуцк, Віцебск) — яшчэ 7 чалавек. У прэзідыум ЦК былі абраныя Жылуновіч (старшыня), Бадунова, Душэўскі, Барысёнак, Лузгін. Зміцер Хведаравіч Жылуновіч стаў дэлегатам Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў ад Беларускай сацыялістычнай грамады. У пачатку 1918 г. адбыўся раскол БСГ. Петраградская арганізацыя (за выключэннем Вацлава Іваноўскага) стала на шлях стварэння беларускай дзяржаўнасці на савецкай аснове. Большая частка беларускіх (мінскіх і віленскіх) дзеячаў выступілі з ініцыятывай арганізацыі ўрада — Народнага сакратарыята Беларусі, а затым ужо ва ўмовах германскай акупацыі прынялі ўдзел у абвяшчэнні Беларускай Народнай Рэспублікі.

[1] *Хмяльніцкая Л.* Гісторык з Віцебска (жыццяпіс Аляксея Сапунова). Мінск, 2001.

# Раздзел 5.

## ГОРАД ЛІТАРАТАРАЎ, МАСТАКОЎ, НАВУКОЎЦАЎ

Пецярбург — фарпост і сцяг еўрапейскай арыентацыі культуры Расіі. Тут усё будавалася адразу нанова, патрыярхальная традыцыя саступала тут новым звычаям. Таму ёсць прынцыповая розніца паміж этнакультурнымі абрысамі Санкт-Пецярбурга і іншых буйных гарадоў імперыі. Менавіта ў Пецярбург прывозілі, тут прадавалі і раскуплівалі большасць кніг з Еўропы (у 1846 г., напрыклад, іх было прывезена 532 595 тамоў)[1]. Пецярбуржскія беларусы з асаблівай увагай прыглядаліся да аблічча «свайго» горада. Адзін з іх занатаваў у сярэдзіне XIX ст.: «У той час, калі Масква ёсць горад істотна рускі, Пецярбург, насупраць, адрозніваецца ад яе і ад большасці еўрапейскіх сталіц касмапалітычным складам свайго насельніцтва. Відавочную прыкмету гэтага прадстаўляе галоўная вуліца, Неўскі праспект. Яе некаторыя называюць «вуліцай верацярплівасці», і сапраўды, на ёй толькі дзве царквы пануючай рэлігіі, а чатыры іншаверскія: кальвінская (галандская), лютэранская, рыма-каталіцкая і армяна-грыгарыянская. У Маскве замежны элемент праглынаецца туземным; у Пецярбургу кожная з іншаземных народнасцяў вылучаецца ў асобныя групы, якія датыкаюцца да суседніх замкнёнымі акрэсамі сваіх кругоў, але тыя, у рэдкіх выпадках і то не глыбока, заходзяць адны ў другія. Такая пярэстасць натуральна разнастаіць карціну, што прадстаўляе назіральнік». Назіральнікам у дадзеным выпадку з'яўляецца ўраджэнец Слонімскага павета пецярбуржац Восіп Пшэцлаўскі[2]. У фармаванні ментальнасці і культуры Масквы, Яраслаўля ці Ніжняга Ноўгарада прадстаўнікі розных народаў адыгрывалі вялікую ролю. Але ўсё ж генеральная накіраванасць культуры гэтых гарадоў заставалася велікарускай, у якую паспяхова інтэграваліся любыя дасягненні. Іншаэтнічнае ўрастала ва ўжо існуючую маскоўскую традыцыю, якая даўно сфармавалася і ўпарта падтрымлівалася. Зусім іншая рэч — культура Санкт-Пецярбурга, якая ад пачатку складалася прыезджымі з Захаду хіба не ў большай ступені, чым прыехаўшымі з Усходу.

Прынамсі выхадцы з Беларусі звычайна мелі добрую адукацыю, атрыманую ў Мінскай, Магілёўскай, Віцебскай гімназіях, а часам і ў Віленскім універсітэце. З прычынаў гістарычных адукацыя гэтая мела польскую арыентацыю. Падчас свайго юбілею, на таварыскім абедзе 31 мая 1891 г., вядомы пецярбургскі юрыст **Уладзімір Данілавіч Спасовіч** (1829—1907) так падаў гэты працэс сваім калегам: «...У парыве рэлігійнага пачуцця я быў на нябёсах, але акунуўся ў дзяцінстве і ў другое асяроддзе, нібыта ў глыбокае возера, у хвалях якога я атрымаў здароўе і моц.

Гэтым возерам была мая радзіма, мая Літва, альбо Белая альбо Чорная Русь — розныя па-рознаму яе называлі. Гэта радзіма дадзена была для мяне ў гатовай форме, культурнай, гістарычнай, у форме польскай культуры...

Нашы настаўнікі, большай часткай выхаванцы Віленскага універсітэта, вучылі абавязкова па-руску, але давалі нам польскія тлумачэнні па прадметах выкладання; чыталася руская літаратура, мы добра былі знаёмыя з Пушкіным, Гогалем і Лермантавым. Закончыўшы навукі, я ўладкаваўся і аседліўся ў Пецярбургу»[3]. Прыкладна тое ж успамінаў выпускнік Мінскай гімназіі 1879 г., а пазней студэнт Пецярбургскага універсітэта Марыян Здзіхоўскі: «Пачынаў у гімназіі з прынесенай з дому непрыязнасці, амаль непрыняцця рускай мовы і літаратуры; заканчваючы, быў да тае літаратуры ў замілаванні. Ні адзін з паэтаў не зачараваў мяне так, як Лермантаў...»[4]. Альбо Адам Кіркор: «Я ліцвін і ніколі гэтае маё ўнутранае адчуванне не будзе выцеснена чымсці іншым. Я люблю сваю радзіму з захапленнем хлопчыка і ахвярнасцю дарослага мужчыны. Маё сэрца адкрытае Польшчы, і я адчуваю да яе сімпатыю ў той меры, у якой яе лёс звязаны з нашым»[5]. Якога сантыменту — польскага ці расейскага — заставалася больш у свядомасці такога «ліцвіна-беларуса» — залежала ад абставін.

---

[1] *Гринченко Н. А.* Комитет цензуры иностранной в 1828—1857 годах // Книга: Исслед. и материалы. М., 2004. Сб. 82. С. 261.

[2] *Пржецлавский О. А.* Беглые очерки // Русская старина, 1883. Т. 29. Август. С. 379.

[3] *Спасович В. Д.* Избранные труды и речи. Тула, 2000. С. 364—365.

[4] *Opacki Z.* W kręgu Polski, Rosji i słowiańszczyzny. Mysl i działalność spoleczno-polityczna Mariana Zdziehowskiego do 1914 roku. Gdańsk, 1996. S. 32.

[5] *Карев Д.* Белорусская историография конца XVIII — нач. XX веков. С. 308.

Мог быць і іншы лёс — калі прысланы ў Беларусь расійскі чыноўнік ажаніўся з мясцовай шляхцянкай, і дзеці ўжо належалі адразу двум народам і культурам. Прыкладам **Вікенці Васільевіч Макушаў**, які нарадзіўся ў 1837 г. у Брэст-Літоўску. Бацька быў рускі чыноўнік, маці — з мясцовага шляхетнага роду Міхайлоўскіх. Пасля заканчэння 4-й (Ларынскай) пецярбургскай гімназіі і гісторыка-філалагічнага факультэта Пецярбургскага універсітэта Макушаў стаў вядомым славістам (памёр у 1883 г. у Варшаве, будучы прафесарам універсітэта). У гэтым выпадку расійскі складнік стаў відавочнай дамінантай.

З усяго абшару імперыі сталіца прыцягвала да сябе таленавітых людзей — літаратараў, мастакоў, навукоўцаў. Не была выключэннем Беларусь — адсюль таксама найбольш здольныя і энергічныя перамяшчаліся ў сталіцу. Некаторыя з іх дзякуючы сваім здольнасцям і працавітасці дасягнулі вялікай вядомасці і зарабілі значны капітал, зрабілі заўважны ўнёсак у расійскую імперскую (значыць і беларускую) культуру.

Адной з такіх асобаў быў Восіп Сянкоўскі — прафесар універсітэта і бліскучы лектар, знаўца ўсходняй літаратуры і Усходу ўвогуле, вучоны, які выдатна валодаў больш як 15-цю мовамі, і разам з тым таленавіты публіцыст, крытык, аўтар безлічы аповесцяў, адзіны рэдактар і амаль адзіны супрацоўнік самага распаўсюджанага ў 1830-я гг. часопіса. Добрая памяць, бліскучы розум і не менш бліскучая фантазія, неверагодная працавітасць, рознабаковы талент і энцыклапедычная адукацыя рабілі гэтага чалавека адным з самых заўважных і ўплывовых сярод пецярбургскіх літаратараў 1830–1840-х гг. **Восіп-Юльян Сянкоўскі** нарадзіўся ў сям'і маршалка шляхты Ваўкавыскага павета Івана Сянкоўскага ў 1800 г. Восіп з маленства чуў сямейныя паданні пра далёкі і дзівосны паўночны Пецярбург — расказы, як ягоны дзед, ваўкавыскі стараста, суправаджаў караля Станіслава Панятоўскага ў сталіцу імператрыцы Кацярыны II.

Вучыўся Восіп у Мінску, потым у Віленскім універсітэце. У Вільні стаў літаратарам: далучыўся да студэнцкага «Таварыства абадранцаў» і пісаў для саркастычна-гумарыстычнага часопіса «Навіны з бруку». Ягоныя поспехі ў вывучэнні ўсходніх моваў універсітэт вырашыў у 1819 г. замацаваць падарожжам па Усходзе. Па падпісцы сабралі грошы. Восіп-Юльян накіраваўся ў Турцыю, падарожнічаў па Егіпце, Нубіі, Верхняй Эфіопіі, пабыў у Сірыі.



*Восіп Сянкоўскі*

У пачатку 1820 г. Сянкоўскі прыехаў у Канстанцінопаль, дзе яго цёпла сустрэў пасол Расійскай імперыі ў Атаманскай Порце барон Строганаў. Восіпа Іванавіча прынялі на расійскую дыпламатычную службу, залічылі драгаманам (перакладчыкам) у штат Канстанцінопальскай місіі з наданнем поўнай свабоды займацца навукамі і аднаразовай выплатай 600 рублёў. Пасля заканчэння вандровак малады драгаман паехаў у Пецярбург. Напрыканцы 1821 г. ён прывёз у паўночную сталіцу не толькі ўражанні ад далёкіх краінаў, але і грунтоўныя веды арабскай, турэцкай і персідскай моў. Пасля іспыту ў акадэміка Фрэна 22-гадовага юнака прызначаюць першым прафесарам усходніх моў нядаўна створанага Санкт-Пецярбургскага універсітэта: ён заняў гэтую пасаду на 25 гадоў (1822–1847).

У першы перыяд жыцця ў Пецярбургу Восіпа Сянкоўскага захапляла выкладчыцкая і навуковая праца. Ад пачатку XIX стагоддзя ўсходазнавец для Расійскай імперыі — асоба стратэгічная. Ён працуе на дзяржаўныя інтарэсы і перш за ўсё на патрэбы арміі. Для войска, якое ўдзельнічала ў баявых дзеяннях супраць Атаманскай Порты, Сянкоўскі напісаў падручнік «Карманная книжка для русских воинов в турецких походах (грамматика, словарь и разговоры турецкие)». Кнігу неадкладна надрукавалі за кошт III Аддзялення Уласнай Яго Імператарскай Вялікасці Канцылярыі, а ўвесь

тыраж быў адпраўлены ў галоўную кватэру дзеючай арміі. Аўтар быў узнагароджаны брыльянтавым пярсцёнкам, Восіпа Сянкоўскага абралі членам-карэспандэнтам Акадэміі навук (1828). Руска-турэцкі размоўнік стаў надзвычай запатрабаваным і быў перавыдадзены друкарняй Штаба Асобнага корпуса ўнутранай аховы ў 1854 г. — напярэдадні новай руска-турэцкай вайны.



КАРМАННАЯ КНИГА

ДЛЯ

РУССКИХЪ ВОИНОВЪ

ВЪ

ТУРЕЦКИХЪ ПОХОДАХЪ.

ЧАСТЬ ПЕРВАЯ.

САНКТПЕТЕРБУРГЪ.

ВЪ ТИПОГРАФІИ ДЕПАРТАМЕНТА НАРОДНАГО ПРОСВѢЩЕНІЯ.

1828.

*За падрыхтоўку гэтай кнігі Восіп Сянкоўскі атрымаў дыяментавы пярсцёнак і званне члена-карэспандэнта Акадэміі навук*

Пра тое, як уладкавалася прыватнае жыццё ўсходазнаўцы, яго нядобразычлівы сучаснік апавядае наступныя: «У Пецярбургу ўжо ён развёўся з жонкай, з якой узяў шлюб яшчэ ў Вільні, калі быў студэнтам. Для гэтага ён меў паважныя прычыны. Паданне гаворыць, што жонка часам біла мужа, і былі відавочцы, якія сцвярджалі, што аднойчы, публічна, на Неўскім праспекце, яна выканала адну з такіх аперацый з дапамогай парасона.

Неўзабаве пасля разводу Сянкоўскі ажаніўся другі раз з адной з дачок некалі слаўнага багаццем, але збяднелага пецярбургскага банкіра барона Раля Адэлаідзе. Старэйшая яе сястра была ўжо замужам за генерал-кватармайстрам Шубертам; малодшая пазней выйшла за архітэктара Брулова, брата вядомага жывапісца. Гэты шлюб увёў Сянкоўскага ў катэрыю Пецярбургскіх Немцаў вышэйшага разраду, і ён пастаянна ўжо належыў да гэтай катэрыі»[1]. Літаратарам Сянкоўскі стаў пад уплывам свайго земляка Фадзея Булгарына. Яшчэ ў 1822 г. ён пісаў у Вільню: «...Булгарын добры хлапец, які, што найбольш дзіўна — сам іншаземец, выдае тут самы лепшы ў Расіі часопіс...». Фадзей Булгарын свайго земляка характарызаваў у «Сакрэтнай газеце» ў 1828 г. наступным чынам: «Чалавек досыць вострага розуму, вучоны, ведае ўсходнія мовы і амаль усе еўрапейскія. Ён нораву неспакойнага і з жадання выслужыцца ішоў памылковым шляхам, будучы дэканам універсітэта, і праз тое зарабіў ад многіх неспрыяльнасць. Ён... зусім не мае польскага патрыятызму, што ставяць яму ў грэх яго суайчыннікі...»[2]. Пасля такой характарыстыкі малады арыенталіст атрымаў месца цэнзара. Сярод іншых выданняў ён ў 1829–1830 гг. цэнзураваў газету Булгарына «Паўночны архіў», а таксама яго кнігі «Дзімітры Самазванец» (1830), «Карціна вайны Расіі з Турцыяй...» (1831), «Пётр Іванавіч Выжыгін» (1831) і інш. У 1822–1833 гг. Восіп Сянкоўскі сам выступіў як белетрыст — змясціў некалькі дробных апавяданняў у булгарынскіх «самых лепшых у Расіі часопісах» «Паўночная пчала» і ў «Паўночным архіве». У 1833 г. першым выданнем і ў 1835 г. другім выйшлі яго «Фантастычныя падарожжы»; у зборніку А. Смірдзіна «Наваселле» за 1833 і 1834 гады Восіп Сянкоўскі змясціў «Вялікі выхад у Сатаны» і пяць іншых аповесцяў. Большасць літаратурных твораў акадэміка-ўсходазнаўцы друкаваліся пад псеўданімам «Барон Брамбеус». Талент, эрудыцыя і лёгкае пяро Сянкоўскага знайшлі прызнанне вопытнага літаратурнага менеджэра Аляксандра Смірдзіна, які запрасіў Восіпа Іванавіча рэдагаваць другі том «Наваселля».

Імя «Барона Брамбеуса», які трымаўся канцэпцыі чыстага мастацтва, адмоўна ставіўся да рэалістычнага кірунку ў

---

[1] [*Пржецлавский О. А.*] Калейдоскоп воспоминаний Ципринуса (псевдоним). Вып. I. М., 1874. С. 68 друг. паг.

[2] *Рейтблат А. И.* Видок Фиглярин. Письма и агентурные записки Ф. В. Булгарина в III Отделение. М., 1998. С. 301.

літаратуры, карысталася ў 1830-я гг. на прасторы цэлай імперыі такой славай, што магла параўнацца з ёй толькі слава Пушкіна. Пад уплывам «усходніх» аповесцяў Сянкоўскага ў Пецярбургу ўзнікла новая мода: з'явіліся інтэр'еры пакояў, а потым і цэлыя пабудовы ў «маўрытанскім» і «турэцкім» стылях. У пецярбургскіх кватэрах, услед за кватэрай барона Брамбеуса, у гэты час усё часцей сталі сустракацца ўсходнія тыпы мэблі і дываны.

Узяўшыся рабіць свой часопіс, Сянкоўскі стаў канкурэнтам Булгарыну. «Былы сябра стаў ворагам і на працягу доўгіх гадоў ужываў дармовыя намаганні, якія, кідаючы цень на яго самога, яшчэ ярчэй паказвалі ўсю перавагу Сянкоўскага», — дыпламатычна зазначана ва ўспамінах жонкі Сянкоўскага[1]. У супрацьстаянні з Булгарыным яшчэ меў месца парытэт, а вось іншым канкурэнтам прыйшлося горш. Каб друкаваць тэксты і кнігі на ўсходніх мовах, Сянкоўскі атрымаў ад дзяржавы грашовую пазыку і дазвол адкрыць літаграфію. Паколькі пазней пазыка была скасавана, выдавецкая дзейнасць Восіпа Сянкоўскага дае падставы некаторым даследчыкам сцвярджаць, што ён не толькі адыграў «сумную ролю» у справе банкруцтва А. Смірдзіна, але «на яго сумленні» таксама крушэнне выдавецкіх фірмаў Плюшара і Глазуновых[2].

Лёгкаму пяру Сянкоўскага належыць «Роздум пра цяперашнюю польскую рэвалюцыю» — твор надзвычай важны для фарміравання беларускай нацыянальнай ідэалогіі. «Роздум...» быў адной з дзвюх частак кнігі, якая выйшла вясной 1831 г. з друкарні Аляксандра Смірдзіна пад назвай «Некалькі заўваг на апошнюю польскую рэвалюцыю». Аўтар не толькі робіць бліскучыя параўнанні паўстання 1830 г. з падзеямі ў іншых еўрапейскіх краінах і глыбокія экскурсы ў гісторыю Вялікага Княства Літоўскага, але і з пазіцый ліцвіна фармулюе падставы разыходжання з Польшчай — асновы будучага беларускага сепаратызму: «Мы, ліцвіны, замест таго, каб братацца з гэтымі рухавікамі бяздумства і каварства, павінны бласлаўляць боскую сілу, што яна паклала нарэшце паміж намі і палякамі двайную мяжу — палітычную і маральную. Мы можам цяпер глядзець з жалем на сутаргавыя рухі іхняй краіны: але, па крайняй меры, упэўненыя, што не будзем іхняй ахвярай, як гэта здарылася б за сорак альбо пяцьдзесят гадоў перад тым.

Трэба сказаць праўду: якую карысць прынесла нам ранейшае злучэнне наша з Польшчай? Чатыры стагоддзі ішлі мы па адным з ёй палітычным шляху, і ніколі саюз двух народаў не быў такім плённым на няшчасці, хаця ён заключаны быў добраахвотна і добрасумленна. Мы, літвіны, і наша айчына былі ў гэтым шлюбе прыгнечаным бокам і заўсёднай ахвярай абставін»[3]. Такой пазіцыяй вучань і сябра прафесара Лялевеля сфармуляваў тое, на што Лялевеля не хапіла: Вялікае Княства Літоўскае — гэта не Польшча, а самастойная гістарычная субстанцыя з правам на асобную ад Польшчы гісторыю. Восіп Сянкоўскі аргументаваў сваё палажэнне: «Пакуль нашчадкі нашых Вялікіх Князёў займалі трон Польшчы, мы былі яшчэ задаволеныя і шчаслівыя, таму што яны кіравалі па нашых нацыянальных правілах... Дынастыя Ягелонаў згасла ў другой палове XVI ст. і польскія разумнікі, якія былі больш вучоныя за нас і чыталі Цыцэрона, вынайшлі тады <..> сістэму Рэспублікі з выбарным тронам, якую выхваляў філосаф, яшчэ не ведаючы яе небяспекі. Мы падпарадкаваліся іх славутым ідэям, лічачы сябе занадта недасведчанымі для таго, каб спрачацца з Лялевелямі таго часу. Што ж з гэтага выйшла? Палякі абіралі каралёй і скідвалі іх з прастолу, уступалі ў сувязі з іншаземнымі дварамі, прадавалі свае галасы, бесперапынна сварыліся са сваімі і нашымі суседзямі, а мы вымушаныя былі ўсхваляць усе іх глупоты і за іх расплачвацца. Саюз наш зрабіўся яшчэ больш неадпаведным і, значыць, яшчэ больш турботным. ...Новаму палітычнаму злучэнню Літвы з Польшчай, калі б яно нават было б магчымым, не спрыяў бы, у думках нашага народа і кожнага разважлівага чалавека, успамін пра мінулае такое злучэнне. Думка пра гэта можа ўвайсці ў галаву хіба толькі якім-небудзь вар'ятам, што не ўмеюць разважаць і не ведаюць справы. Яно зрабілася б для Літвы крыніцай велізарных няшчасцяў. Спачуванне польскім дэмагогам было б для ўсякага чэснага ліцвіна забыццём найкаштоўнейшых сваіх выгод...»[4].

У 1826 г. Пецярбургскі універсітэт паслаў Сянкоўскага рэвізорам у беларускія губерні.

[1] О. И. Сенковский (Барон Брамбеус). Биографические заметки его жены. СПб., 1859. С. 82.

[2] *Мохначева М. П.* Журналистика в контексте наукотворчества в России XVIII—XIX вв. М., 1998. С. 160–161.

[3] Несколько замечаний на последнюю польскую революцию. СПб., 1831. С. 58.

[4] Несколько замечаний... СПб., 1831. С. 63–70.

Пасля вяртання Восіп Іванавіч падаў данясенне, у якім звярнуў увагу на апалячванне Беларусі панамі і рымскім духавенствам, за што польскія патрыёты яго зненавідзелі. Былыя сябры Адам Міцкевіч і Еахім Лялевель адвярнуліся ад яго — яны іначай бачылі будучыню радзімы і, адпаведна, іначай трактавалі яе мінулае [хоць гэта не перашкодзіла Сянкоўскаму зрабіць для Міцкевіча падрадкоўнік арабскага верша, з якога выйшаў дасканалы твор «Шанфар» (Szanfary)]. Адносіны Сянкоўскага да супольнага з каронай Польшчай мінулага пры гэтым не былі зняважлівыя — наадварот, ён замацаваў сваё імя як гісторыка Рэчы Паспалітай выданнем фундаментальнай, актуальнай і цяпер, двухтомавай працы «Выбарка з турэцкіх летапісаў рэчаў, якія служаць да гісторыі Польшчы»[1]. У 1835 г. расійскі акадэмік і папулярны пецярбургскі літаратар яшчэ раз праявіў сябе як беларус: насуперак польскай прапагандзе падкрэсліў значнасць Вялікага Княства Літоўскага як дзяржавы, хоць і саюзнай для Кароны Польскай, але якая заўсёды мела працяг сваёй гісторыі[2].

Вымотваючая праца пагоршыла стан здароўя Восіпа Іванавіча. У 1844 г. ён па парадзе дактароў паехаў на лячэнне за мяжу, у 1846-м зноў правёў чатыры месяцы на водах. Кіраванне часопісам было аддадзена Альберту Старчэўскаму, хаця імя Сянкоўскага і значылася на тытульным аркушы да 1856 г. У 1848 г. наш літаратар захварэў на халеру, якая падарвала яго і так не моцнае здароўе. Тым не менш напрыканцы жыцця Восіп Іванавіч перажываў новы творчы ўздым. Да самага пачатку 1858 г. (Сянкоўскі памёр 4 сакавіка) у раздзеле фельетонаў часопіса «Сын Айчыны» пад рубрыкай *Лісткі Барона Брамбеуса* друкаваліся яго бліскучыя мініяцюры. Ішлі перамовы з рэдактарам часопіса «Айчынныя запісы» Андрэем Краеўскім пра сумеснае выданне грамадска-палітычнай газеты...

Восіп Сянкоўскі пажыў на радзіме вельмі мала — дзяцінства на вёсцы, некалькі гадоў у Мінскім калегіуме і студэнцкія гады ў Вільні, ды пазней кароткі час у камандзіроўках ў Віцебску ды Магілёве. Аднак ён быў адным з першых, хто навуковымі аргументамі падкрэсліваў адасобленасць Вялікага Княства Літоўскага ад польскай гісторыі, што было актуальна — у Расіі шмат хто не бачыў (а з польскага боку не хацеў бачыць) розніцы. Ды і сёння жыве стэрэатып пра «польскіх паноў» у Беларусі! Хаця пад уплывам Еахіма Лялевеля і Сянкоўскі пэўны час звяртаўся да думкі, што шляхта і простыя людзі — нашчадкі розных народаў. Лепшыя гады жыцця гэтага выдатнага чалавека прайшлі ў Пецярбургу. У 1821–1829 гг. — ва універсітэцкім будынку дванаццаці калегіяў. У 1830–1840-я гг. — на Англійскай набярэжнай, на Паштампцкай, 21, пазней — на 1-й лініі Васільеўскага вострава, на Міхайлаўскай плошчы, на Вялікай Канюшанай вуліцы. «Арыенталіст» — гэта быў не толькі адзін з псеўданімаў Восіпа Сянкоўскага, гэта была яго прафесія.



*Фадзей Булгарын*

На працягу ўсёй першай паловы XIX ст. бясспрэчнае першынства сярод журналістаў Пецярбурга займаў пісьменнік і выдавец беларускага паходжання **Фадзей Булгарын**. Тадэвуш Венедыктавіч Булгарын нарадзіўся 5 ліпеня 1789 г. недалёка ад Ушачаў (маёнтак Перашава) у старажытнай шляхецкай сям'і. Булгарыны лічылі сябе нашчадкамі славутага героя Шкандэрбека (Скандэрберга), якія прыйшлі ў Вялікае Княства Літоўскае з Балканаў, «з Булгарыі», адсюль этымалогія прозвішча Булгарын. Дзевяцігадовым хлопчыкам Тадэвуша аддалі ў Пецярбургскі кадэцкі корпус. Акрамя навукі ён захапляўся спевамі, удзельнічаў у царкоўным хоры кадэтаў пад рэгенствам вядомага кампазітара Бартнянскага. У 1806 г. выйшаў з корпуса

[1] Collectanea z dziejopisow Tureckich rzeczy do historyi Polskiey sluzących. T. 1–2. Warszawa, 1824–1825.

[2] Рэцэнзія на кнігу Кацэбу пра Свідрыгайлу. *Сенковский О.* Собрание сочинений. Т. VI. С. 45.

карнетам і паступіў на службу ў кавалерыйскі полк. Малады карнет быў паранены ў баі з французамі пад Фрыдландам (чэрвень 1807 г.) і нейкі час праляжаў у шпіталі ў Кёнігсбергу. У 1808 г. Тадэвуш удзельнічаў у шведскай кампаніі, ваяваў у Фінляндыі. Звольніўся з арміі ў 1811 г. і апынуўся праз год у Іспаніі, дзе ваяваў пад сцягамі аднаго з герояў таго часу — імператара Напалеона Банапарта. Пачынаў як радавы, а ў 1814 г. быў ужо ў чыне капітана. Ваяваў у Прусіі пад камандай маршала Удзіно, трапіў у палон, па абмене палоннымі быў вызвалены і паехаў на радзіму. Але спакойнае жыццё ў Вільні было не для Булгарына. У 1819 г. ён ізноў у Пецярбургу, дзе заняўся журналістыкай (у яго часопісе «Сын Айчыны» пачаў супрацоўнічаць В. Сянкоўскі)[1], а з 1822 г. пачаў выдаваць «прысвечаны гісторыі, статыстыцы і падарожжам» часопіс «Паўночны архіў». Разнастайнасць і займальнасць матэрыялаў у новым часопісе зрабіла выданне вельмі папулярным. Часопіс быў тоўсты (кожны нумар да ста старонак) і выходзіў раз на два тыдні. Праз год з'явіўся дадатак — «Літаратурныя Лісткі». З 1825 г. Фадзей Булгарын распачаў новае выданне — тры разы на тыдзень выходзіла газета «Паўночная пчала», якую ён рэдагаваў разам з Мікалаем Грэчам. Яна была першай ў Пецярбургу неафіцыйнай газетай навін і свабоднай крытыкі. Гэтае прадпрыемства было настолькі паспяховае, што з 1831 г. да 1859 г. «Паўночная пчала» выходзіла штодзённа. «Паўночны архіў» у 1828 г. спыніў існаванне, але былі яшчэ булгарынскія часопіс «Сын айчыны» (1825–1839), з 1826 г. — часопіс для дзяцей «Дзіцячы суразмоўца», а ў 1841–1845 гг. — часопіс «Эканом».

Акрамя выданняў для шырокай публікі, Булгарын супрацоўнічаў у так званай «Сакрэтнай газеце» — рукапісным зборніку агентурнай інфармацыі, які ІІІ Аддзяленне Уласнай Яго Імператарскай Вялікасці Канцылярыі рыхтавалі для цара. Супрацоўніцтва гэтае шмат у чым засноўвалася на сяброўскіх адносінах Булгарына з упраўляючым ІІІ Аддзяленнем у 1826–1831 гг. Максімам Фокам — у выніку, перапісаныя рукой Фока, булгарынскія тэксты клаліся на стол імператару. Часта хітры літаратар выкарыстоўваў гэта. Вось прыклад запіскі ад 8 студзеня 1827 г. пад назвай «Чуткі аб сумнеўных вершах у Полацкай школе»:

«У Полацкай школе знойдзеныя былі нейкія сумнеўныя вершы, і пасля расследавання, як кажуць, справа была прадстаўлена Гаспадару Імператару. Многія сем'і чакалі вялікага для сябе ўдару, як раптам справа была спынена і зусім сціхла. Прайшла чутка, што Гаспадар Імператар закрыў справу і следства і загадаў надалей такімі дробязямі сябе не турбаваць. У цэлай Літве ўзрушанне і радасць! Лепшыя фаміліі маюць намер перасяліцца ў Пецярбург, некаторыя ў рускую Украйну. Справы зусім спыніліся, кантракты аб'яўляюць адны банкруцтвы — цана на маёнткі спала»[2].

Журналісцкай энергіі Тадэвуша (у Пецярбургу ён стаў Фадзеем) можна было пазайздросціць. Булгарын выступіў як пісьменнік, і поспех яго літаратурных твораў быў незвычайны — асаблівай папулярнасцю карысталіся раманы «Іван Выжыгін» (1829) і «Пётр Іванавіч Выжыгін» (1831). Адам Міцкевіч пісаў пецярбуржцу Францішку Малеўскаму ў лютым 1830 г.: «...пану Тадэвушу кланяйся. ...Скажы пану Тадэвушу, што яго «Выжыгін» у рускіх дам у вялікай пашане»[3]. Добра была вядомая сучаснікам і кніга «Расія ў гістарычных, статыстычных, геаграфічных і літаратурных адносінах. Ручная кніжка для рускіх усіх саслоўяў Фадзея Булгарына». Нядобразычліўцы за гэтае выданне папракалі яго ў плагіяце, але абвінавачанні выглядаюць прыцягнутымі: Булгарын зазначыў у прадмове, што для напісання кнігі выкарыстаны праца і веды Мікалая Іванова, кандыдата Казанскага універсітэта. Як літаратурны крытык Фадзей Булгарын выступаў супраць Пушкіна, Гогаля, Бялінскага і рэалістычнага кірунку, які назваў у адным з артыкулаў «натуральнай школай». Супраціўнікі адплачвалі з'едлівымі падсмешкамі. Вось адзін з выпадкаў: падчас абеду на наваселлі (уваходзінах) кнігарні і бібліятэкі Аляксандра Смірдзіна на Неўскім, 22, прысутнічалі Пушкін, Крылоў, Гогаль, Жукоўскі і іншыя літаратары і мастакі. За сталом былі і выдаўцы «Паўночнай пчалы» Грэч і Булгарын, паміж якімі сядзеў цэнзар Сямёнаў. «Ты, Сямёнаў, — звярнуўся да яго Пушкін, — сягоння нібы Хрыстос на

[1] *Рейтблат А.* Булгарин и Сенковский: ранний период взаимоотношений // Беларусь і беларусы ў прасторы і часе. Зборнік да 75-годдзя прафесара Адама Мальдзіса. Мінск, 2007. С. 206.

[2] *Рейтблат А. И.* Видок Фиглярин. Письма и агентурные записки Ф. В. Булгарина в III Отделение. М., 1998. С. 122.

[3] *Мицкевич А.* Собрание сочинений. М., 1954. Т. 5. № 101. С. 434.

Галгофе!» Усе засмяяліся: Хрыста на Галгофе распялі паміж двума злачынцамі...

Булгарын быў не лепшы. У змаганні з супрацоўнікамі наш літаратар не грэбаваў ніякімі сродкамі, часта парушаючы прынятыя этычныя нормы. Напрыклад, пра аднаго са сваіх канкурэнтаў, выдаўца (з 1839 г.) часопіса «Айчынныя запісы» Андрэя Краеўскага (1810—1889), ён піша: «Гэты чалавек нарадзіўся... ад няправільнага шлюбу паміж былой гаспадыняй жаночага пансіёна... і нейкім незнаёмым. Прозвішча дзіцяці згадзіўся даць за 300 рублёў асігнацыямі бедны і распусны беларускі шляхціч, Краеўскі»[1].

Беларусы-дэмакраты адплацілі земляку з'едлівай насмешкай. Гэта зрабіў меркаваны аўтар паэмы «Тарас на Парнасе» слухач ваеннай Медыка-хірургічнай акадэміі Канстанцін Вераніцын:

...«Памалу, братцы, не душыце
Мой фельетон вы і «Пчалу»,
Мяне ж самога прапусціце
І не дзяржыце за палу!
А не, дык дадушы, у газеце
Я вас аблаю на ўвесь свет,
Як Гогаля у прошлым леце, —
Я ж сам рэдактар ўсіх газет!»
Гляджу сабе — аж гэта сівы,
Кароткі, тоўсты як чурбан,
Плюгавы, дужа некрасівы,
Крычыць, як ашалелы, пан.[2]

Беларусы-дзяржаўнікі глядзелі на Булгарына з захапленнем. У 1845 г. Пецярбург наведаў ураджэнец Магілёўскай губерні археолаг і літаратар, выдавец і вандроўнік, палітычны дзеяч і журналіст **Адам Ганоры Кіркор** (1818—1886). Ён пражыў у горадзе месяц і свае непасрэдныя ўражанні пісаў у Вільню, у часопіс «Атэнэум», у форме лістоў да рэдактара. Уражанні былі — адно слова — захапленне! Напрыклад, ад знаёмства з земляком Фадзеем Булгарыным: «славуты рускі пісьменнік, творца некалькіх соцень тамоў (меў на ўвазе, канечне, камплекты газет і часопісаў. — ***М.Н.***)... Імя яго належыць цяпер цэлай Еўропе... меркаванні яго прымаюцца як бы аракул для грамадства... чалавек, імя якога вядомае ад Нявы да Аракса, ад Віслы да Іртыша...». А вось партрэт Булгарына таксама яго сучасніцы, пецярбуржанкі М. Каменскай, зусім далёкай ад захаплення асобай славутага журналіста: «Булгарын ... быў кругленькі, на кароткіх ножках, з добрым жывоцікам, галава плотна падстрыжаная, як більярдны шар, твар змяты, вочы выпучаныя, як у прусака, тоўстыя губы яго пляваліся... З твару яго не знікала задзірыстая ўсмешка, і вечна ён спрачаўся і смяяўся; апрануты быў у светла-шэранькае з ног да галавы».

Часта літаратурна-крытычныя артыкулы Фадзея Булгарына выглядалі як даносы на непрыяцеляў. Сучаснікі верылі, што пісаў ён у Трэцяе (цэнзурнае) аддзяленне і таемныя даносы на пісьменнікаў, за гэта папулярны газетчык і літаратар быў адораны шэрагам бязлітасных эпіграм пакрыўджаных калег, прынамсі, Міхаіл Лермантаў напісаў:

Расію прадае Фадзей
Не першы раз, бо свет жа цесны!
Бадай, прадасць жану, дзяцей,
І свет зямны і рай нябесны.
Сумленне б ён прадаў за добрую цану —
Шкада — закладзена ў казну.

Як бы ні было, кнігі Булгарына сталі значнай з'явай у літаратурным жыцці Расіі, сучасныя літаратуразнаўцы гавораць пра ўплыў яго раманаў на «Барадзіно» таго ж Лермантава[3]. Акрамя ворагаў-літаратараў, меў ён у Пецярбургу і сяброў-літаратараў — з Аляксандрам Грыбаедавым, напрыклад, падтрымліваў добрыя адносіны да смерці апошняга.

Спрэчкі Тадэвуша Булгарына з ідэалагічнымі супрацоўнікамі вельмі яскрава выявілі хіба не найважнейшую ўнутраную супярэчнасць як большасці пецярбургскіх беларусаў, так і большасці беларусаў у Расіі. Галоўны крытык някрасаўскага часопіса «*Айчынныя запісы*» «неўтаймаваны Вісарыён»[4] папракаў яго за тое, што Булгарын з гонарам называе сябе баярынам (нейкі паляк!), душыў Бялінскага гнеў і за другое: як мог спяваць каталік у праваслаўным

[1] *Лемке М.* Николаевские жандармы... С. 303.

[2] Тарас на Парнасе. Народная паэма. Мінск, 1993. С. 15. Гэты фрагмент дазволіў удакладніць дату напісання паэмы — антыгогалеўскі фельетон Булгарына з разборам кнігі П. Куліша «Спроба біяграфіі Гогаля» надрукаваны ў «Паўночнай пчале» у 1854 г. (Букчын С. У. Час нацыянальнага пошуку // Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей. Кніга І. Мінск, 1993. С. 402).

[3] *Матяш С. А.* О европейском и русском источниках «Бородина» Лермонтова // РЛ. 1992. № 3. С. 112—121.

[4] Вісарыён Бялінскі, якога Булгарын называў не іначай, як недавучаным студэнтам Маскоўскага універсітэта.

хоры?! Вялікарус-разначынец В. Бялінскі не здолеў зірнуць на уніяцтва як на кампраміс паміж каталіцызмам і грэка-візантыйскім праваслаўем і бачыць у талерантнасці Булгарына праяву гэтага кампрамісу. Адкуль было ведаць Бялінскаму, што каталікі ў Беларусі часам ішлі на богаслужэнне ва уніяцкія храмы, каб задаволіць свае эстэтычныя патрабаванні традыцыйнымі візантыйскімі царкоўнымі спевамі, і гэта не лічылася чымсьці незвычайным! Тое самае і з літоўска-рускім баярствам: не ведаўшы Статута Вялікага Княства Літоўскага, Бялінскі злабліва папракаў і кпіў з Булгарына… за нішто. Для нас найбольш цікава, як «апраўдваўся» Булгарын: ён сцвярджаў сваю рускасць, называў сябе рускім! Пры гэтым ён меў дастаткова аргументаў, каб даказваць, што ён не паляк, але даказаць, што рускі — не мог. Ворагі гэта адчувалі, напэўна, адчуваў гэта ў душы і літаратар Тадэвуш Булгарын. Назвацца беларусам ён не жадаў. Для Булгарына беларускі шляхціч — гэта найменне зняважлівае, — успомнім беднага шляхціча Краеўскага, якога ён аблаяў беларусам! Як тут не прыгадаць дзіцячую казанку: «Хто абзываецца, той сам так называецца».

Пасля смерці Фадзей Булгарын паўстае ва ўспамінах пецярбуржскага адваката А. Коні, у апісанні Неўскага праспекта: «…На балконе аднаго з мураваных флігеляў, што выходзіць на Неўскі, сядзіць у халаце, з доўгай люлькай ў руках і п'е чай тоўсты чалавек з грубымі рысамі азызлага твару. Гэта папулярны Фадзей Венедыктавіч Булгарын, выдавец і рэдактар «Паўночнай пчалы» — адзінай на той час газеты, акрамя «Рускага інваліда» і «Паліцэйскіх ведамасцяў»…Газета яго дзякуючы выключнаму становішчу добра распаўсюджваецца, змяшчае калі-нікалі, у лёгкаважкіх фельетонах бойкага рэдактара, рэкамендацыі розных дагадзіўшых яму магазінаў і прадпрыемстваў»[1]. Да гэтага можна дадаць, што чай піць вядомы журналіст мог пры гутарцы з земляком выпускніком Віленскага універсітэта Мікалаем Маліноўскім, які пэўны час жыў у доме Булгарына, займаючы там асобны пакой.

Тадэвуш Булгарын уважліва назіраў за жыццём горада, ён сам пісаў у «Паўночнай пчале» значную частку гарадской хронікі, напрыклад, у 1844 г. паведаміў пра першае выкарыстанне асфальта — для пакрыцця Паліцэйскага моста праз Мойку. Урэшце ён сваёй працай і адданай службай расійскаму імператару зарабіў маёнтак, а ў 1846 г. атрымаў генеральскі чын сапраўднага стацкага саветніка. Пецярбург застаўся для Булгарына не чужым горадам. І ўжо тут (з ваўкамі жыць – па-воўчы выць), у атачэнні чыноўнікаў і жандараў, учора яшчэ цывілізаваны юнак, затым бравы капітан французскага войска, а цяпер расійскі літаратар і журналіст, ён падхапіў усе грамадскія хваробы, уласцівыя для тае эпохі. У тым ліку і антысемітызм, зазначае сучасны беларускі даследчык[2].

Жыў Тадэвуш Булгарын на Неўскім, 93. Ужо пасля таго як у 1839–1844 гг. у Пецярбургу выйшаў поўны збор твораў у сямі тамах, пісьменнік пераехаў у свой «благоприобретенный» маёнтак Карлава паблізу Дэрпта. Там і памёр 13 верасня 1859 г. Газета «Паўночная пчала» перажыла свайго рэдактара-сузаснавальніка на пяць гадоў.

## Дзяржаўныя служачыя на служэнні музам

Яшчэ адным цікавым пецярбургскім літаратарам беларускага паходжання ў першай палове XIX ст. быў ваенны тапограф **Міхаіл Паўлавіч Урончанка (Врончанка)**[3]. Ён нарадзіўся ў 1801 г. у Копысі ў сям'і протаіерэя адзінай на ўсё мястэчка царквы. Вучыўся ў гімназіі ў Магілёве, яшчэ ў гімназічныя гады пачаў пісаць вершы. У яго архіве захоўваўся верш на смерць дырэктара Магілёўскай гімназіі Грыневіча, якога любілі выхаванцы. Верш гэты быў прачытаны на пахаванні настаўніка. Пасля заканчэння гімназіі Урончанка вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, потым паступіў у вайсковую школу калонаважатых (пазней ператорана ў Вайсковую акадэмію). З калонаважатых 22 студзеня 1822 г. пераведзены ў афіцэры світы. У лютым 1823 г. прапаршчык Урончанка адпраўлены на трыангуляцыйныя працы ў Віленскай губерні. Праз 4 месяцы яму даверылі для самастойнага выканання такую важную справу, як устанаўленне трыганаметрычнай сувязі паміж Віленскай трыангуляцыяй і г. Дзвінскам (Дынабургам), што ён паспяхова выканаў. У гэты перыяд саслужыўцам Урончанкі стаў малады геадэзіст, паручнік Іосіф Ходзька родам з Крывічоў (цяпер Мядзельскі раён).

Незадаволены ўзроўнем сваёй падрыхтоўкі, Міхаіл Урончанка па ўласнай прось-

[1] *Кони А. Ф.* Петербург. Воспоминания старожила. М., 2003. С. 24.

[2] *Фядута А.* Перамога і параза здаровага сэнсу, або вяртанне Булгарына // Булгарын Ф. Выбранае. Мінск, 2003. С. 27–28.

[3] *Никитенко А.* Михаил Павлович Вронченко. (Биографический очерк). СПб., 1867; *Шостьин Н. А.* Михаил Павлович Вронченко, военный геодезист и географ. М., 1956.

бе быў камандзіраваны для навучання ў Дэрптцкі універсітэт. За гады навучання ў Дэрпце (1824—1827) ён грунтоўна авалодаў некалькімі замежнымі мовамі (нямецкай, англійскай, італьянскай) і прафесійна ўдасканаліўся пад кіраўніцтвам астранома В. Струвэ, будучага заснавальніка і дырэктара Пулкаўскай абсерваторыі. У 1827 г. ён вярнуўся ў Пецярбург, хаця жыў тут нядоўга — у сувязі з расійска-турэцкай вайной 1828—1829 гг. ад'ехаў на Балканскі тэатр ваенных дзеянняў. Тут Міхаіл Паўлавіч праводзіў астранамічныя вызначэнні геаграфічных каардынатаў розных пунктаў, а таксама бараметрычныя вызначэнні вышыняў. Тым часам у Пецярбургу выйшаў асобнай кніжкай першы плён яго літаратурнай дзейнасці: пераклад на рускую мову «Гамлета» Шэкспіра з прадмовай перакладчыка, а таксама пераклад другой часткі «Дзядоў» Міцкевіча (Неўскі Альманах на 1829 год. СПб., 1828 г.). Малады перакладчык стаў адразу шырока вядомы ў літаратурных колах Пецярбурга. Пасля заканчэння вайны Уронченка заставаўся на Балканах, а ў 1834—1836 гг. па заданні Генеральнага Штаба здзейсніў падарожжа ў Турцыю. Упершыню былі зроблены дакументаваныя тапаграфічныя назіранні за паўвостравам, удакладнены геаграфічныя каардынаты мноства населеных пунктаў. Літаратурны талент ваеннага тапографа выявіўся ў некалькіх маляўнічых замалёўках побытавага характару, апісаннях асаблівасцяў падарожжа і ўспрымання новай краіны. Вынікі падарожжа маёр Уронченка прывёз у Пецярбург 24 сакавіка 1836 г. Імператар Мікалай Паўлавіч (Мікалай I) меў з ім асабістую аўдыенцыю і ўзнагародзіў пажыццёвай пенсіяй і званнем палкоўніка. Пазней выйшла кніга «Агляд Малой Азіі ў яе цяперашнім стане», якая разам з журналам астранамічных назіранняў доўгі час была самай важнай крыніцай ведаў пра рэгіён. Калі ў 1837 г. быў надрукаваны яго пераклад «Макбета» Шэкспіра, Уронченка быў ужо на Каўказе — да 1841 г. працаваў у камісіі па кіраванні Закаўказскім краем. Тут ізноў сустрэўся з тапографам-земляком Іосіфам Ходзькам, ужо падпалкоўнікам. Вярнуўшыся з Тбілісі ў Пецярбург у верасні 1841 г., Міхаіл Паўлавіч атрымаў за вынікі працы ордэн Св. Уладзіміра, 5 тысяч рублёў і 1500 дзесяцінаў зямлі. Ён быў прылічаны да Генеральнага Штаба, а ў 1843 г. перайшоў на службу ў Міністэрства народнай асветы, спадзеючыся з часам заняць месца папячыцеля якой-небудзь навучальнай акругі. Тым часам у 1845 г. было заснавана Рускае геаграфічнае таварыства, палкоўнік Уронченка стаў адным з 17 членаў-заснавальнікаў. Праца ў Міністэрстве народнай асветы заключалася для яго ў кіраванні камісіяй па арганізацыі асветы жыдоўскага насельніцтва. У вольны ад службы час пераклаў першую частку «Фауста» Гётэ і выдаў (у 1844 г.) разам з выкладам другой часкі (якую Міхаіл Паўлавіч цаніў значна ніжэй, чым першую). Асобныя пераклады надрукавалі часопісы «Сучаснік» і «Айчынныя запіскі». Не дачакаўшыся службовых рухаў па Міністэрстве народнай асветы, Уронченка перайшоў у 1848 г. у склад камісіі Генеральнага Штаба і працаваў над тапаграфічнымі здымкамі ў паўднёвай і цэнтральнай Расіі да скону ад сухотаў у 1855 г. у Харкаве. Практычна ўсё жыццё Міхаіл Уронченка не меў сям'і: першая яго каханая (у Дэрпце) нечакана звар'яцела, ажаніўся ён толькі ў 53 гады на 20-гадовай дзяўчыне, дачцэ дырэктара 1-й Пецярбургскай гімназіі. Уронченка быў на той час казачна багаты: акрамя маёнткаў і капіталу, яму засталіся 300 тысяч рублёў спадчыны ад старэйшага брата — міністра фінансаў. Засталася незакончаная вялізная яго праца па перакладзе «Адысеі» Гамера, для чаго Уронченка вывучыў старажытнагрэчаскую мову, і па перакладзе «Дзядоў» Міцкевіча — засталіся толькі чарнавікі 1-й часткі.

Тым часам **Іосіф Іванавіч Ходзька** (1800—1881) пецярбуржцам пабыў толькі чатыры гады, калі з 1844 да 1847 г. служыў пры Пулкаўскай абсерваторыі. Нарадзіўся Ходзька ў Крывічах Віленскай губерні (цяпер Мядзельскі раён), скончыў фізіка-матэматычны фа-



*Іосіф Ходзька*

культэт Віленскага універсітэта. У студзені 1821 г. па рэкамендацыі рэктара універсітэта, вядомага астранома Івана Снядэцкага, Іосіф Ходзька быў залічаны калонаважатым у світу імператара, а ў 1822 г. атрымаў першае вайсковае званне: прапаршчык Гвардзейскага Генеральнага Штаба.

Рэальная ж служба складалася з геадэзічнага вымярэння — трыангуляцыі — Віленскай, а пасля Гродзенскай, Мінскай і Курляндскай губерняў. Як і Міхаіл Урончанка, Іосіф Ходзька меў брата, але той не мог быць апорай: Аляксандр Ходзька пасля нядоўгай дыпламатычнай службы ў Персіі з'ехаў у Еўропу. Старэйшага брата — Іосіфа Ходзьку — лёс закіне ў Грузію і Дагестан, дзе той стане кіраўніком суцэльнай трыангуляцыі Паўночнага Каўказа і даслужыць да звання генерал-лейтэнанта, атрымае вышэйшую ўзнагароду Рускага Геаграфічнага таварыства — вялікі Канстанцінаўскі медаль і званне Ганаровага члена, зробіць узыходжанне з навуковымі мэтамі на гару Вялікі Арарат і пакіне апісанне гэтага ўзыходжання[1].

Музе гісторыі Кліо аддана служыў іншы дзяржаўны чыноўнік, таксама вайсковы тапограф па адукацыі, ураджэнец Магілёва **Міхаіл Восіпавіч Без-Карніловіч** (1796—1862). Ён скончыў пецярбургскі Першы кадэцкі корпус, удзельнічаў у руска-турэцкай вайне 1828—1829 гг. Пазней, у 1831—1847 гг., кіраваў тапаграфічнай экспедыцыяй у Мінскай, Наўгародскай, Валынскай, Віцебскай, Магілёўскай губернях і Беластоцкай вобласці. Даслужыў да чыну генерал-маёра, застаўся ў памяці нашчадкаў як гісторык. Гэтаму пецярбуржскаму беларусу належыць такое азначэнне бацькаўшчыны: «Беларусь без перабольшання можна назваць разлеглымі могілкамі незлічоных ахвяраў, якія загінулі за сваю веру, за правы іх гаспадароў альбо за свой уласны гонар». У 1852 г. Міхаіл Восіпавіч выйшаў у адстаўку і ў гэтым жа годзе выдаў у Пецярбургу краязнаўчую кнігу «Віцебская губерня». Архіўныя звесткі і назапашаныя палявыя ўражанні дазволілі Міхаілу Без-Карніловічу зрабіць яшчэ адну грунтоўную працу: «Гістарычныя сведчанні пра найбольш прыкметныя месцы на Беларусі з дадаткам іншых звестак, да яе ж датычных» (СПб., 1855). Абшар Беларусі Без-Карніловіч абмяжоўваў Віцебскай і Магілёўскай губернямі, астатняе было для яго Літвой. Станоўчую рэцэнзію на гэтую працу надрукаваў у першай кніжцы часопіса «Сучаснік» за 1856 г. пецярбургскі крытык Мікалай Чарнышэўскі, пры гэтым зазначыўшы, што ў «гісторыі Беларусі ёсць яшчэ недастаткова высветленыя пытанні», а кніга Без-Карніловічаяўляе з сябе толькі «гістарычныя нататкі пра Віцебск, Дынабург, Магілёў і інш.».

Як будучы вучоны шмат надзей падаваў брат Міхаіла Восіпавіча **Аляксандр Восіпавіч Карніловіч** (1800—1834). Аднак прыналежнасць маладога чалавека да руху дзекабрыстаў змяніла яго лёс. Аляксандр Карніловіч быў арыштаваны ў ноч на 15 снежня ў будынку Галоўнага штаба, асуджаны на 12 гадоў катаргі ў Чыцінскім астрозе. Дзякуючы пратэжэ Фадзея Булгарына быў пераведзены ў Петрапаўлаўскую крэпасць, а ў 1832 г. вызвалены і радавым пасланы на Каўказ, дзе і памёр. Родны брат, як бачым, адмежаваўся ад рэпрэсаванага прыстаўкай «Без» у прозвішчы. Трэба зазначыць, што ў аблягчэнні лёсу Аляксандра Карніловіча шмат зрабіў смаленскі шляхціч, аўтар апісання старажытнага гораду крывічоў **Андрэй Андрэевіч Іваноўскі** (1791—1848), які быў сакратаром «Следчай камісіі аб зламысліўцах» 14 снежня 1825 г.

Адзін з пецярбургскіх беларусаў-літаратараў праславіўся як містыфікатар. Ураджэнец маёнтка Барысаўшчына з-пад Хойнікаў **Мікалай Феліксавіч Ястрэмбскі** (1808—1874) атрымаў бліскучую адукацыю. Ён выдатна закончыў Віленскі універсітэт і, каб зрабіць кар'еру на дзяржаўнай службе, паехаў паступаць у Пецярбургскі інстытут інжынераў шляхоў зносін. У архіве Пушкінскага Дома да сёння захаваліся мемуары Ястрэмбскага, дзе ён апісвае прыбыццё ў Пецярбург і пачатак навукі: «7 лістапада 1829 года ў 7 гадзін раніцы я прыехаў у Пецярбург. На вуліцах было яшчэ цёмна і пуста, толькі на Сеннай плошчы пачынаўся рух. Распытаўшы, я знайшоў кватэру былых маіх таварышаў па універсітэце ў Спаскім завулку і заехаў да іх. Я заспеў іх за ранішняй гарбатай. Яны былі ўжо афіцэрамі (прапаршчыкамі) і працягвалі курс навучання ў інстытуце, куды я хацеў паступіць. Адпачыўшы з дарогі, я ўзяўся за падрыхтоўку да экзамену, які мусіў здаваць, нягледзячы на мой кандыдацкі дыплом». У студзені 1830 г. Ястрэмбскі паспяхова здаў экзамен па французскай мове (на якой выкладаліся ўсе прадметы ў інстытуце) і быў залічаны. «Адначасова са мною экзаменаваўся і паступіў у інстытут кандыдат Маскоўскага універсітэта Пасек,

[1] *Стебницкий И. И.* Генерал-лейтенант Иосиф Иванович Ходзько (Род. 6 дек. 1800 г., ум. 21 февр. 1881 г.). Тифлис, 1881.

той самы, які пасля зрабіў хуткую кар'еру і ў чыне генерала, камандуючы Апшэронскім палком, загінуў у бітве з горцамі. Пасека і мяне залічылі ў першую роту (іх было дзве) і аддалі пад каманду ротнага камандзіра палкоўніка Я-ва. Я-аў не любіў універсітэцкіх студэнтаў. Павялі нас у лазарэт, рараспранавалі, аглядалі, як аглядаюць рэкрутаў... Я-аў загадаў мне падстрыгчыся, хоць я быў яшчэ ў фраку і меў прыстойную прычоску». Ястрэмбскі разам з ротным камандзірам накіраваўся да цырульніка, якому ротны сказаў: «Покороче». — «Не пастрыглі, а агалілі мяне — і які ж я быў у фраку і з голай галавою!... Другой знявагай было выдадзенае мне казённае адзенне. Я-аў загадаў выдаць мне стары, увесь у лапінах мундзір, вузкія і кароткія панталоны, цвёрды гальштук і паношаную шапку. Шыняля мне зусім не далі і на святы, пры водпуску са двара, мне даводзілася пазычаць шынель у таварышаў»[1]. Нягледзячы на цяжкія ўмовы і знявагі, Мікалай Ястрэмбскі закончыў інстытут першым па паспяховасці і яго прозвішча было ўпісана на ганаровую дошку. Перспектыўнаму інжынеру прапанавалі застацца выкладчыкам у alma mater. У Пецярбургу ён праслужыў да 1847 г. За працу «Курс практычнай механікі» ў двух тамах, апублікаваны ў 1837—1838 гг., Мікалай Ястрэмбскі ў 31 год атрымаў Дзямідаўскую прэмію, стаўшы самым маладым вучонымлаўрэатам. Ён першы пачаў даследаваць трываласць жалеза і сталі, упершыню ў Расіі зрабіў даследаванні па дынаміцы машын, выдаў першы на рускай мове дапаможнік па супраціўленні матэрыялаў. Напісаў першыя ў Расіі нарысы па гісторыі механікі... Але гэта былі не ўсе яго здольнасці.

Мікалай Ястрэмбскі ўвайшоў у гісторыю рускай літаратуры як таленавіты стылістпадробшчык. Пасля смерці яго любімага пісьменніка Мікалая Гогаля Ястрэмбскі ўзнавіў першыя (спаленыя аўтарам у 1845 г.) тры раздзелы другога тома «Мёртвых душаў», ды так добра, што вядомыя ў той час літаратуразнаўцы, спецыялісты па творчасці Мікалая Гогаля, не знайшлі ніякіх стылістычных і моўных адрозненняў ад гогалеўскага тэксту. А ў спрэчных фрагментах 2-га тома «Мёртвых душаў» выяўна паўставалі факты добра вядомай ў тагачаснай Беларусі «Мазырскай справы». Сутнасць гэтай справы была ў тым, што пры складанні статыстычных апісанняў маёнткаў Баравое, Буйнавічы, Лельчыцы, Карма і Скароднае мясцовыя чыноўнікі падраблялі старыя планы, фальшавалі дакументы, прыдумвалі назвы міфічным зямельным дзялкам, якія адпаведна са сваімі міфічнымі вартасцямі ацэньваліся вельмі высока... Каморнікі падпісвалі фальшывыя планы, павятовыя ўлады іх зацвярджалі (хаця выдатна ведалі стан маёнткаў), а потым паперы замацоўвалі сваімі подпісамі губернскія чыноўнікі на чале з мінскім губернатарам Допельмаерам. Праўда, у апошняга ўзнік сумнеў, у выніку чаго ў Мазырскі павет накіравалі жандарскага капітана Хітраво. Неўзабаве капітан рапартаваў, што ён «сам праехаў... па гэтых землях у розных напрамках больш чым на сто вёрстаў» і што «землі прыдатныя для аддавання ў заклад». Капітан і іншыя кантралёры былі падкупленыя. У пададзеных дакументах значылася ў чатыры разы болей зямлі, чым было на самай справе. Міфічныя сто пяцьдзесят тысяч дзесяцін пайшлі ў заклад па 7 рублёў 50 капеек за дзесяціну, а паны паклалі ў кішэню з банка мільён рублёў. З гэтых грошай атрымалі ўзнагароду тыя, хто старанна дапамагаў ажыццявіць аферу. Паводле рашэння ваеннага суда, арганізатары махлярства былі пазбаўлены шляхецкай годнасці і «пераведзены ў шараговыя», розныя пакаранні атрымалі вайсковыя і грамадзянскія чыны: разжалаванне, адпраўка ў салдаты, зняволенне ў Бабруйскай крэпасці. Страціў пасаду мінскі губернатар Допельмаер, пакараны мінскі страпчы па крымінальных справах надворны саветнік Семянковіч, калежскі рэгістратар Мікалай Чыж, мазырскія паны Артур і Аляксандр Фурсы, Караль і Лявон Красінскія, Язэп Казарын, Іван і Язэп Радзіеўскія, рэчыцкі павятовы каморнік Матушэвіч, мазырскі павятовы каморнік Задольскі...

А ў 1873 г. у Пецярбургу стаўся літаратурны скандал. Адказваючы на пытанні «Санкт-Пецярбургскіх ведамасцяў» і «Голасу» адносна свайго ўдзелу ў падробцы «Мёртвых душаў», Мікалай Ястрэмбскі пісаў: «Я ўжо заявіў у друку, што не надаю ніякага сур'ёзнага значэння маім варыянтам. «Веснік Еўропы» не верыць «прытворнай сціпласці» і забыўся пра празмерную пахвальбу, якую нядаўна шчодра даваў гэтым варыянтам, лічачы іх гогалеўскімі. Цяпер мне раяць не памыляцца і не зачароўвацца значэннем зробленых мной уставак... Я не зачароўваюся значэннем зробленых мной уставак і дапаўненняў, бо мяркую, што іх мог бы зрабіць пісьменны школьнік. Але тое, што не мог бы зрабіць школьнік, што, на мой погляд, можа мець некаторае значэнне

[1] Пушкінскі Дом. № 822. Ф. 265. Воп. 2. спр. 3233. Арк. 1—3.

і што амаль зусім не заўважылі мае крытыкі, заключаецца не ва ўстаўках і дапаўненнях, а ў выключэнні з 2-й часткі «Мёртвых душаў» таго, што там адгукалася «Перапіскай з сябрамі». Гэтыя выключэнні зроблены пад уплывам Бялінскага. І калі я зразумеў думку Бялінскага, калі паводле ягонай думкі паспрабаваў перарабіць 2-ю частку «Мёртвых душаў», за гэтую спробу, якой бы няўдалай яна ні была, можна прабачыць безразважны намер падрабіць Гогаля. Тым больш, што я рабіў гэта для сябе, ніколі не прызначаў мае варыянты да друку, і калі яны былі надрукаваныя без майго ведама, доўга не адважваўся заявіць, што яны напісаныя мной»[1]. Рэшту жыцця (1847—1874 гг.) Мікалай Ястрэмбскі пражыў у Магілёве. Акрамя навуковых прац і літаратурных практыкаванняў, ён пакінуў пасля сябе і вельмі карысныя матэрыяльныя помнікі — дарогі ў Магілёўскай губерні, будаўніцтвам якіх ён кіраваў, а таксама пабудаваныя паводле яго праектаў масты цераз Дняпро ў Магілёве і цераз Дзвіну ў Віцебску.

## Не ўсе схацелі і змаглі зжыцца з гэтым горадам

Калі мы гаворым «беларусы ў Пецярбургу», дык маем на ўвазе перш за ўсё людзей — выхадцаў з беларускіх земляў Вялікага Княства Літоўскага, якія альбо стала, альбо досыць доўга жылі ў паўночнай сталіцы. Але ёсць выключэнні. Напрыклад, заснавальнік тапанімікі як навукі наваградчанін **Адам Чарноцкі**, які пад псеўданімам **Зарыян Даленга-Хадакоўскі** ў 1819 г. з'явіўся ў Пецярбургу. Ён надрукаваў у часопісе «Вестник Европы» артыкул «Разыскания касательно русской истории», у якім былі крытычныя выказванні на адрас М. Карамзіна. У 1820—1822 гг. на сродкі Расійскай акадэміі навук Даленга-Хадакоўскі выехаў у падарожжа па поўначы Расіі, каб сабраць матэрыялы для карты славянскіх гарадзішчаў і «Слоўніка назваў гарадзішчаў і ўрочышчаў» (застаўся ў рукапісе). Справаздачу яго Акадэмія станоўча не прыняла, і фінансаванне працы было спынена. Даследчык-энтузіяст пераехаў у сяло Пятроўскае Цвярской губерні, дзе памёр у лістападзе 1825 г.

Тройчы быў у Пецярбургу паэт **Адам Міцкевіч**, прычым першы раз прымусова, і ўсе разы досыць кароткі час. Аднак знаходжанне Адама Міцкевіча ў сталіцы Расійскай імперыі мела настолькі вялікі рэзанас, што мы не можам не спыніцца на тутэйшым побыце таленавітага навагрудца.

7 лістапада 1824 г., на наступны дзень пасля самай вялікай у папярэдняй і будучай гісторыі горада паводкі, Міцкевіч прыбыў у Пецярбург. Малады чалавек ехаў па вырашэнне свайго лёсу, яшчэ памятаючы вязніцу ў Вільні і, адпаведна, наўрад ці меў шмат рамантычнага аптымізму. І тут яго сустракае такое! Нагадаем пра больш чым 400 тапельцаў-людзей і тысячы галоў загінулай свойскай жывёлы, змытыя стрэхі і вынесеныя на вуліцу горада разам з брудам караблі і баржы... «На другі ж дзень пасля яго прыезду мы выправіліся аглядаць мясцовасці, якія найбольш пацярпелі. Гэта відовішча сапраўды жудаснае і невыразна-сумнае глыбока кранула паэтычную душу майго спадарожніка. На ўсіх вуліцах у самім горадзе, заключаных паміж Нявой і далей Кацярыненскага каналу, Вялікай Садовай, напярэдадні нашага агляду ніжнія паверхі былі залітыя, а цяпер стаялі пустыя. Тое ж самае на ўсім Васільеўскім востраве, Пецярбургскай і Выбаргскай старанах. А паколькі на другі дзень пасля паводкі быў даволі моцны мароз, а потым усталявалася зіма, то паверхі гэтыя засталіся неабітаемыя на ўсю зіму 1824—1825 года»[2]. Малюнкі страшэннай катастрофы моцна ўзрушылі паэта; праз некаторы час ён апісаў свае ўражанні ў «Аляшкевічы»:

*Парыж — стварэнне чалавечых рук ад веку,*
*Венецыя стваралась боскаю рукой,*
*Але, напэўна, кожны пагадзіцца,*
*Што Пецярбург пабудаваны сатаной.*

І цяпер многія дамы ў старой частцы горада маюць адзнаку аб узроўні вады падчас той паводкі, прыкладам, фуршток на Ісакіеўскай плошчы ці дом з двума метамі (па-руску і панямецку) у завулку Грыўцова.



*Казанская вул., 39. Дом Іахіма*

[1] *Гусак А. А.* Практычная механіка і «Мёртвыя душы». Мікалай Ястрэбскі. Мінск, 1992. С. 44—53.

[2] [*Пржецлавский О.А.*] Калейдоскоп воспоминаний Ципринуса (псевдоним). Вып. І. М., 1874. С. 8 друг. паг.




*Мемарыяльная шыльда Міцкевічу на доме Іахіма*

Некаторы час Адам жыў у доме № 7 на Кадэцкай (цяпер З'ездаўская) лініі. Тут яго наведваў Пушкін разам са сваім сардэчным прыяцелем рэктарам універсітэта Плятнёвым. Праз некалькі гадоў былыя сябры стануць па розныя бакі барыкад грамадскай барацьбы — Пушкін напіша ў звароце «Клеветникам России», што «...волнения Литвы» супраць Расіі, якія так падтрымаў Міцкевіч, гэта «домашний, старый спор славян между собою», а адносна настаўніка і сябра Міцкевіча віленскага прафесара Еахіма Лялевеля (пра якога даведаўся, хутчэй за ўсё, ад Адама) пісаў: «...Лобзание Лелевеля представляется горше ссылки в Сибирь».

Новы, 1825 г., Міцкевіч і яго сябры Малеўскі і Яжоўскі сустракалі ў доме Бястужава на Васільеўскім востраве (7-я лінія, 18). Падчас гэтага візіту Адам сышоўся са сваім віленскім аднакурснікам выхадцам са Слонімскага павета **Восіпам Антонавічам Пшэцлаўскім** (1799—1879), які пасяліўся ў Пецярбургу на пачатку 1820-х гадоў. Пасля пераезду ў сталіцу Пшэцлаўскі зрабіў кар'еру ў Міністэрстве ўнутраных спраў, а таксама ў Галоўным упраўленні цэнзуры. З 1830 г. ён выдаваў афіцыйны ўрадавы часопіс «Tygodnik Petersburgski», які быў разлічаны на польскамоўных расійскіх падданых. Парадніўся з міністрам асветы (у 1824—1828 гг.) адміралам Аляксандрам Шышковым — ужо згаданым каментатарам прамовы Георгія Каніскага перад Кацярынай II[1]: «Я ўвёў Адама ў дом тагачаснага міністра асветы Аляксандра Сямёнавіча Шышкова, які быў жанаты з Юліяй Восіпаўнай Нарбут, удавой с.с.с. Лабаржэўскага, што быў некалі ў свіце Станіслава Аўгуста, калі кароль гэты прыбыў у Пецярбург. Г-жа Шышкова была мая сваячка і прыходзілася мне бабуляй, але я называў яе ma tante, з прычыны прэтэнзіяў, якія яна, між іншым справядліва, як Ninon de l'Enelos, магла яшчэ мець на прыгажосць, нягледзячы на свае 50 гадоў»[2]. Восіп Пшэцлаўскі застаўся ў гісторыі як аўтар цікавых успамінаў, надрукаваных у часопісах «Рускі архіў» і «Руская даўніна», а таксама кніжкі «Разоблачение великой тайны франмасонов», якую ў 1909 г. выдаў яго сын Антон Восіпавіч Пшэцлаўскі. Памёр Восіп Антонавіч у Цвяры ва ўзросце 80 гадоў у чыне тайнага саветніка і кавалера ордэна Белага Арла. Жменьку зямлі з Радзімы, якую ён меў пры сабе ўсё жыццё, ён завяшчаў пакласці з сабой у труну. Гэта была адзіная яго перадсмяротная просьба.

На пачатку 1825 г. Міцкевіч і яго сябры Будрэвіч і Малеўскі выехалі на службу ў Маларосію. Адам быў прыпісаны да Рышыльеўскага ліцэя ў Адэсе, але «за адсутнасцю там працы» выкладаннем не займаўся. 15 жніўня 1825 г. ён паехаў у Крым разам з генералам Вітам, Каралінай Жавускай, яе братам, будучым пісьменнікам Генрыхам Жавускім. Пабылі ў Бахчысараі, Еўпаторыі, Балаклаве, Алушце, Алупцы. У лістападзе 1825 г. Міцкевічу былі выдадзены прагонныя і падарожная, і ён выправіўся ў новы шлях — на Маскву, куды быў пераведзены загадам міністра народнай асветы адмірала Шышкова. Тут ён пазнаёміўся з рэдактарам газеты «Маскоўскі тэлеграф» Мікалаем Палявым, што зрабіла істотны ўплыў на яго кар'еру і светапогляд. Летам 1826 г. Міцкевіч другі раз наведаў Пецярбург, часта бываў у купецкім доме ўдавы Пенцэшавай (1-я Італьянская вуліца, 15), дзе жыла піяністка Марыя Шыманоўская. Тут ён пазнаёміўся з будучай жонкай Цэлінай. Дзеля адпачынку выязджаў у Прыюціна (каля 15 кіламетраў ад Пецярбурга), у загарадны дом дырэктара Імператарскай Публічнай бібліятэкі Мікалая Аленіна. Для гаспадара і гасцей выконваў свае імправізацыі. Імправізацыі былі на французскай мове і ўражвалі слухачоў сілай, багаццем і паэтычнасцю думак і вобразаў. Сярод параўнанняў былі, паводле ўспамінаў паэта

[1] Міністр народнай асветы і прэзідэнт Расійскай Акадэміі Аляксандр Шышкоў (1754—1841) быў жанаты з Ю. Лабаржэўскай, якая паходзіла з ліцвінскага роду Нарбутаў. Праз свайго мужа шмат дапамагала землякам, якія апынуліся ў Пецярбургу. (Гл.: Видок Фиглярин. Письма и агентурные записки Ф. В. Булгарина в III Отделение. / Изд. подг. А.И. Рейтблат. – М., 1998. С. 148—149).

[2] [*Пржецлавский О. А.*] Калейдоскоп воспоминаний Цыпринуса (псевдоним). Вып. I. М., 1874. С. 24 друг. паг.

Вяземскага, параўнанні з неўмаўлём, якое памерла ў чрэве маці, з вогненнай масай, якая палала пад зямлёй і не мела вулкана для выйсця... Сам паэт падчас імправізацыі быў вельмі ўзбуджаны, прысутныя слухалі з хваляваннем і слязамі...

6 снежня 1827 г. Міцкевіч ізноў (трэці раз) прыехаў з Масквы ў Пецярбург у адпачынак на 28 дзён «па ўласных яго справах». Аднак прабыў у сталіцы нашмат больш: гасцяваў у Прыюціне, сышоўся з землякомлітаратарам Фадзеем Булгарыным. Пра побыт паэта ў сталіцы В. Пшэцлаўскі запісаў у сваіх мемуарах наступнае: «Міцкевіч і Малеўскі ўладкаваліся так, каб жыць разам; яны нанялі кватэру на Вялікай Мяшчанскай у доме Іахіма і завялі сваю маленькую гаспадарку. Ёй, канечне, загадваў Малеўскі, а не Міцкевіч, які не меў аніякага паняцця аб практычным жыцці»[1]. Апошні пецярбургскі адрас: дом карэтнага майстра Іахіма на Вялікай Мяшчанскай вуліцы, 78 (цяпер Казанская вуліца, 39) часта ўспамінаецца ў перапісцы Міцкевіча. Цяпер на гэтым доме — мемарыяльная шыльда ў яго гонар. 4 ліпеня 1828 г. на стол расійскаму імператару трапіў рукапісны нумар «Сакрэтнай газеты», у якім рукой упраўляючага III Аддзялення Максімільяна фон Фока было перапісана абвяржэнне на данос Навасільцава аб шкоднасці паэмы Міцкевіча «Конрад Валенрод». Заканчваўся тэкст такой фразай: «При сем должно повторить однажды уже сказанное, что Мицкевич человек тихий, скромный, чуждый всех политических мечтаний, занимающийся единственно поэзией, как единственным ремеслом своим к пропитанию. Он ведёт себя отлично хорошо и возбудил к себе уважение...»[2]. Тое, што менавіта Фадзей Венедыктавіч дапамог земляку пазбегнуць вялікіх непрыемнасцяў, Міцкевіч заўсёды памятаў і як мог аддзячваў Булгарыну.

Напярэдадні ад'езду за мяжу вечарам 13 мая 1829 г. Міцкевіч быў у тэатры[3]. У 9 гадзін раніцы наступнага дня адзін з чатырох параходаў кампаніі Чарльза Бэрда (яны называліся «піраскафы»), якія рабілі рэгулярныя рэйсы двойчы ў суткі, завёз Міцкевіча ў Кранштат. Ехаць трэба было 3,5 гадзіны. Рэгулярныя параходныя рэйсы з Пецярбурга ў Германію (Штэцін) на параходзе «Іжора» і ў Любек (на прыватным англійскім параходзе «Георг IV») пачаліся ў канцы 1820-х гг. Булгарынская «Паўночная пчала» рэгулярна друкавала расклад руху і цэны на білеты. Білет ад Кранштата да Травемюндэ ў каюце першага класа каштаваў 250 руб., у другім класе — 175 рублёў. За кармой піраскафа заставаўся горад, які навагрудчанін Міцкевіч не змог палюбіць. Нават цудоўнай архітэктуры забудова паўночнай сталіцы выклікала ў яго асацыяцыю са звярынцам:

Różnych porządków, różnych kształtów domy,
Jako zwierzęta z różnych konców ziemi,
Za parkanami stoją żelaznemi,
W osobnych klatkach...[4]

Вяршыняй творчасці Міцкевіча «расійскага» перыяду стала патрыятычная паэма «Конрад Валенрод», прысвечаная змаганню Вялікага Княства Літоўскага з крыжакамі. Паэма была надрукавана ў 1827 г. у Пецярбургу і атрымала высокую ацэнку рускіх літаратараў. Ксенафонт Палявы пісаў: «Многочисленный круг русских почитателей поэта знал эту поэму, не зная польского языка, то есть знал её содержание, изучал подробности и красоты её. Это едва не единственный в своём роде пример».

Сябра і зямляк Міцкевіча **Францішак (Франц Сямёнавіч) Малеўскі** (1800–1870), які стаў яго сваяком (яны былі жанатыя на сёстрах) з 1827 г. асеў у Пецярбургу і зрабіў тут кар'еру. Пад кіраўніцтвам М. Сперанскага ён удзельнічаў у кадыфікацыі заканадаўства Расіі (у т. л. прыстасаваннем Статута ВКЛ да расійскіх законаў), удзельнічаў у газеце «Tygodnik Petersburgski» (1830), быў дырэктарам вывезенага ў Пецярбург нацыянальнага архіва Вялікага Княства — Літоўскай Метрыкі, даслужыўся да генеральскага звання тайнага дарадчыка. Малеўскі меў трох сыноў, якія пайшлі на расійскую дзяржаўную службу, а дачка яго Марыя ў 1860-я гады выйшла ў Парыжы замуж за свайго стрыечнага брата сына Адама Міцкевіча Уладзіслава (французскага падданага).

«Францішак Малеўскі, як і ўсе філаматы і філарэты, з вялікай пашанай ставіўся да фаль-

[1] [*Пржецлавский О. А.*] Калейдоскоп воспоминаний Цыпринуса (псевдоним). Вып. I. М., 1874. С. 5–6 друг. паг.

[2] *Рейтблат А. И.* Видок Фиглярин. Письма и агентурные записки Ф.В. Булгарина в III Отделение. М., 1998. С. 316.

[3] *Беккер И.* Мицкевич в Петербурге. Л., 1955.

[4] Розных формаў, рознага выгляду дамы/Як зьвяры з розных канцоў зямлі/За жалезнымі стаяць агароджамі/ У асобных клетках...

клору, — гаворыць літаратар Кастусь Цвірка ў зборніку «Філаматы і філарэты», — да мовы свайго беларускага народа, што таксама праявілася ў «Tygodniku Petersburskim». Гартаючы... нумары газеты.., я нечакана натрапіў на даволі цікавую ў гэтых адносінах публікацыю ў нумары 95 за 1835 г. Гэта агляд кнігі, якая выйшла ў той час на беларускай мове і называлася «Кароткі зборнік хрысціянскай навукі для сялян, якія размаўляюць на руска-польскай мове». Безыменны аўтар агляду гэтай кнігі, выказваючы сваё задавальненне з прычыны яе выхаду, зазначаў: «Першы раз здараецца нам бачыць кнігу, напісаную на гаворцы, на якой размаўляе просты люд у Літве і Беларусі. Гэта — малавядомая частка роднай нашай мовы, якая распаўсюджана на шырокай прасторы зямлі і якая сведчыць пра рускае паходжанне яе жыхароў. Гаворку гэтую правільна называць не польска-рускай, а беларускай...».




*Бюст Міцкевічу*

У Графскім завулку Цэнтральнага раёна Санкт-Пецярбурга, побач са школай № 216, з 1995 г. стаіць помнік (бюст) Адаму Міцкевічу; на пастаменце надпіс: «Адаму Міцкевічу — земляку». Аднак ніхто з наваградцаў да гэтай справы не спрычыніўся... Большасць сённяшніх пецярбуржцаў лічаць землякамі паэта жыхароў Польшчы: краіны, у якой Міцкевіч ніколі не быў, хоць і пісаў вершы на польскай мове.

## Музычныя сувязі Пецярбурга з беларускім краем

У арганізацыі ў Пецярбургу еўрапейскай оперы, камерна-інструментальнай і сімфанічнай музыкі выдатную ролю адыгралі выхадцы з Беларусі. Зразумець своеасаблівыя абрысы музычнай культуры тагачасных музыкантаў — важная задача музычнай культуралогіі, беларусазнаўства і пецярбургазнаўства. Метадалогію і фактаграфію гэтага пытання плённа распрацоўваюць пецярбуржскі музыказнавец Ігар Мацыеўскі і мінчук Віктар Скарабагатаў[1].

З 1832 г. жыў у Пецярбургу беларускі кампазітар і педагог **Антон Абрамовіч**, які першым у XIX ст. стаў уводзіць беларускі фальклор у прафесійныя музычныя кампазіцыі, у прыватнасці, у праграмную 8-часткавую фартэпіянную сюіту «Беларускае вяселле»; яму ж належаць першыя створаныя ў XIX ст. рамансы і песні на беларускія вершы. Неаднойчы прыязджаў у сталіцу Расійскай імперыі **Антон Генрых Радзівіл** — 12 нясвіжскі ардынат, выдатны кампазітар. Адзін з першых паказаў яго оперы «Фауст» адбыўся ў 1837 г. у Пецярбургу. Намеснік дырэктара Публічнай бібліятэкі пісьменнік і крытык Уладзімір Адоеўскі адгукнуўся на пастаноўку такімі словамі:

«Князь Антон Радзівіл належыць да ліку тых нешматлікіх кампазітараў, творы якіх не павінны і не могуць сысці ў нябыт. Ён палымяна любіў мастацтва, вывучаў яго з самай глыбокай руплівасцю і праз тое не толькі набыў грунтоўныя і шырокія веды ў кампазіцыі, але быў таксама выдатным віртуозам на віяланчэлі.

Радзівіл палка любіў Гётэвага «Фауста»; паэтычная душа ягоная знаходзіла для сябе поўнае выяўленне ў гэтым высокім творы: у ёй загаварыла патрэба перанесці гэтую «боскую драму» (divina commedia) у паэтычны свет гукаў, — праспяваць тую палымяную любоў і тую дзівосную барацьбу неба і пекла, якая так захапляла яго ў каласальным творы Гётэ... Музыкант не заказваў тэмы для свайго натхнення, не ішоў за руцінай аўтара слоў: ён знайшоў поўнае, дасканалае тварэнне, зразумеў, засвоіў, пачуў яго цалкам і потым

[1] *Скарабагатаў В.* Гэтага вартыя і горад, і беларусы // Мастацтва № 8, 2003. С. 8–10; Мацыеўскі І. У. Беларуская мастацкая плынь у фармаванні еўрапейскага абрысу музычнай культуры Санкт-Пецярбурга // Белорусский сборник. Статьи и материалы по истории и культуре Белоруссии. Вып. 1. Санкт-Петербург, 1998. С. 32–40.

пераліў у гукі. Стварыць «Фауста» музычнага — думка смелая і высокая — была пастаяннаю думкаю ўсяго сталага ўзросту Радзівілавага жыцця».

У Беларусі сярэдзіны XVIII ст. доўга трымаў славу гродзенскі прыгонны аркестр графа Тызенгаўза, якім паспяхова кіраваў (спачатку як канцэртмайстар, а пазней як саліст-скрыпач і дырыжор) выдатны музыкант **Лявон Сітаньскі** з Гродна (1743–1800). Варта згадаць таксама і прыгонны аркестр палкоўніка Бжазоўскага (вёска Матэвушы на Магілёўшчыне), музычныя капэлы і тэатры ў радзівілаўскім Нясвіжы і сапегаўскім Слоніме, славуты шклоўскі прыгонны сімфанічны аркестр графа Зорыча ў канцы XVIII ст. Адным з падобных аркестраў быў і вядомы прыгонны сімфанічны аркестр з вёскі Шмакава — маёнтка А. Глінкі, дзядзькі славутага кампазітара. **Міхаіл Іванавіч Глінка** (1804–1857) атрымаў у гэтым аркестры першыя музычныя ўяўленні і навыкі, слухаў у яго інтэрпрэтацыі апрацоўкі мясцовых народных песень і шляхецкіх танцаў, сам іграў з аркестрам на флейце і скрыпцы і з гэтага часу на ўсё жыццё звязаў сябе з народнай музыкай сваёй бацькаўшчыны — Смаленшчыны. У архіве кампазітара захаваліся малюнкі: тыпажы землякоў, смаленскіх шляхцічаў, работы мастака Арлоўскага.




*Помнік Міхаілу Глінку побач з кансерваторыяй*

Нарадзіўся Міхаіл Глінка ў сяле Новаспаскае, паходзіў са старажытнага шляхецкага роду герба «Тшаска». Прыналежнасць да гербавай шляхты Вялікага Княства Літоўскага спалучалася ў Міхаіла Глінкі з расійскім патрыятызмам. «Я шчыра не мог быць іншаземцам», — пісаў кампазітар. У 1820-я гады ён ужо стаў вядомы як піяніст і вакаліст. Да гэтага ж часу адносяцца і яго спробы сачынення музыкі. У 1830–1834 гг. ён удасканальваў майстэрства ў Італіі і Германіі, вывучаў майстэрства бельканта. Сталы перыяд творчасці Глінкі пачаўся операй «Жыццё за цара». Прэм'ера адбылася ў Пецярбургу 27 лістапада 1836 г. Поспех быў бліскучы. Два крытычныя артыкулы Фадзея Булгарына ў «Паўночнай пчале» не маглі пашкодзіць агульнаму ўражанню. Опера была прысвечана цару і спадабалася Мікалаю І. Аўтара ўзнагародзілі і прызначылі капельмайстрам Прыдворнай пеўчай капэлы. А вось вакальны цыкл з 12 рамансаў «Развітанне з Пецярбургам» на словы Кукальніка быў тады ж напісаны не з прычыны ад'езду Глінкі са сталіцы, а з прычыны ад'езду яго каханай — Кацярыны Керн.

У 1844–1847 гг. кампазітар жыў у Парыжы і ў Іспаніі. У сакавіку 1848 г. ён паехаў у Варшаву, дзе напісаў знакамітую «Камарынскую»–«Лявоніху»: газета «St.-Petersburgische Zeitung» пісала 12 снежня 1848 г.: «...Славуты рускі кампазітар М. І. Глінка, пасля пяцігадовага знаходжання за мяжой, нядаўна вярнуўся ў С.-Пецярбург; кажуць, з багатым запасам мелодый і музычных твораў. Рускія часопісы выказваюць пры гэтым надзею, што, як у свой час вяртанне на Радзіму Брулова спрыяла ажыўленню цікавасці да жывапісу, з'яўленне Глінкі можа надаць новы імпульс айчыннай музыцы. Суперніцтва двух такіх здольных кампазітараў, як Глінка і Львоў, у любым выпадку адкрывае для рускай нацыянальнай оперы добрую перспектыву». Першае выкананне «Камарынскай» у Пецярбургу адбылося ў 1850 г. У студзені 1857 г. здзейснілася важная для Міхаіла Іванавіча падзея — у Берліне на парадным канцэрце ў каралеўскім палацы выконвалі яго трыо з оперы «Жыццё за цара». Усхваляваны аўтар пасля канцэрта прастудзіўся. Захварэў і неўзабаве — у ноч з 2 на 3 лютага — сканаў. Кампазітар не мог і падумаць, што раманс «Не говори, что сердцу больно», які напісаў незадоўга да чарговага ад'езду ў Еўропу, стане апошнім.

Глінку пахавалі ў Берліне, але на наступны год яго цела было перавезена на параходзе ў Пецярбург, і 24 мая кампазітар знайшоў свой вечны спакой на могілках Аляксандра-Неў-

скай лаўры[1]. Праект помніка Міхаілу Глінку рабіў зямляк кампазітара, мастак Мікешын: адна з трох фігур, якія падымалі бюст славутага музыканта, належала сімвалічнаму беларусу, дзве іншыя ўвасаблялі малароса і вялікароса.

На пасяджэнні Пецярбургскай Гарадской думы 20 лістапада 1892 г. адзначана, што «было б дарэчы назваць імем Глінкі Нікольскую вуліцу, якая вядзе да Марыінскага тэатра, дзе ўзнаўляюць і слухаюць творы Глінкі, і да будынка кансерваторыі, які цяпер будуецца. Што і зрабілі, адзначыўшы, такім чынам, 50-годдзе оперы «Руслан і Людміла». Гэта было першае ў доўгім шэрагу перайменаванняў «у гонар», якія так змянілі (і не заўсёды да лепшага) тапанімічнае аблічча горада.

Са Смаленшчынай звязаны першыя гады жыцця яшчэ аднаго пецярбургскага кампазітара **Аляксандра Даргамыжскага** (1813—1869). Як і Міхаіл Глінка, ён шмат што ўзяў у вясковых музыкантаў. Сябрам Аляксандра Даргамыжскага быў мінчук Станіслаў Манюшка, які прысвяціў яму сімфанічную паэму «Байка»[2]. Пад уплывам першых расійскіх музычных класікаў музыка Смаленшчыны стала сімвалам народнай музыкі ўвогуле: у вядомым зборы народных песень Мікалая Рымскага-Корсакава пераважаюць смаленскія песні. Гэтаму садзейнічалі не толькі шмакаўскі, але і іншыя прыгонныя аркестры Смаленшчыны. Найперш гэта аркестр І. Забароўскага з вёскі Сінцова, якім кіраваў прыгонны дырыжор і кампазітар І. Вераб'ёў, і аркестр В. Багдановіча ў вёсцы Карачарава (у 1820—1830-я гг. ён налічваў 70 музыкантаў). У гэтым жа кантэксце аркестр Салагуба з маёнтку Грыгорац на Магілёўшчыне і вядомы яшчэ ў 1731 г. старадубскі аркестр М. Корсака, а таксама аркестры Г. Радзівіла ў Слуцку, М. Радзівіла ў Нясвіжы... Культура прыгонных аркестраў, музыканты якіх адначасова былі народнымі, вясельнымі артыстамі, была носьбітам еўрапейскай культуры ў Беларусі, Літве, Украіне, Польшчы, а пазней — і Расіі, крышталізавала ў сабе зародак новай нацыянальнай музычнай культуры. Невыпадкова пецярбургская музычная класіка пачынаецца з сімфанічнай «Камарынскай» Глінкі, дзе мелодыка, рытміка і музычная форма не проста маюць фальклорную аснову, але аснову менавіта беларускай народнай інструментальнай музыкі. Танец «Камарынская» пад рознымі назвамі (у т. л. «Лявоніха») распаўсюджаны па ўсёй Беларусі. Сталася гэта ў Пецярбургу не толькі таму, што Міхаіл Глінка трапіў у гэтую сталіцу і што менавіта тут стваралася новая расійская музыка на еўрапейскай аснове. Але таму, што Глінка знайшоў тут адпаведны грунт, у фармаванні якога велізарную ролю адыгралі музыканты еўрапейскай музычнай традыцыі.

Мастацтвазнаўца Ігар Мацieўскі трапна заўважыў, што пачынаючы з часоў Феафана Пракаповіча, які прынёс у Пецярбург ідэю Пятра Магілы — развіццё праз спалучэнне Захаду і Усходу, Захаду і славянскага свету,— пабудова пецярбургскай культуры робіцца не толькі за кошт уплываў музычных традыцый Вільні і Варшавы, але і дзякуючы моцным, колькасна і якасна, людскім уліваннем[3].

У 1785 г. на гастролі ў Пецярбург прыехаў гродзенскі аркестр Л. Сітаньскага, застаўся тут на доўгія дзесяцігоддзі і зрабіў істотны ўплыў на фармаванне аркестравай культуры паўночнай сталіцы. Шмат музыкантаў аркестра Бжазоўскага (з Матэвушаў), сярод іх і славуты «саліст Іосіф», зрабіліся артыстамі імператарскіх аркестраў і тэатраў горада. Сваіх прыгонных — сыноў выдатнага саліста шклоўскага аркестра К. Падабедава — пасля смерці Зорыча новы гаспадар А. Чэрваевіч адпусціў на волю, і яны сталі вядучымі артыстамі Пецярбурга. Скрыпач **Міхайла Падабедаў** — артыст імператарскага аркестра — быў у такой ступені папулярны і патрэбны, што нават калі пачаў траціць зрок, не атрымаў адпачынку і на пенсію пайшоў, толькі калі канчаткова аслеп... Іван Падабедаў — віяланчэліст, адпрацаваў у імператарскіх тэатрах 33 гады, быў вядомым настаўнікам у пецярбургскіх тэатральнай школе і кадэцкім корпусе. Адзін з вядучых віяланчэлістаў, ён істотна ўплываў на віяланчэльную культуру Пецярбурга.

У Шклове ў С. Зорыча ў 1780-я гады працаваў музыкант чэшскага паходжання кампазітар і піяніст Эрнст Ванжура (1750—1802), які напісаў там балет «Арлекін-вязень» (да нашых дзён захавалася уверцюра). Сапраўднае прызнанне гэты музыкант атрымаў у Пецярбургу, дзе заняў адказную

[1] *Марцiновіч А.* «Музыка — душа мая» // Мастацтва № 8, 2003. С. 23—28.

[2] Манюшка тройчы гастраляваў з аўтарскімі канцэртамі ў Пецярбургу. Канцэрты прайшлі паспяхова, але галоўнай сваёй мэты — атрымаць пасаду дырыжора Марыінскага тэатру — кампазітар не дасягнуў.

[3] *Мацieўскі І.У.* Беларуская мастацкая плынь у фармаванні еўрапейскага абрысу музычнай культуры Санкт-Пецярбурга // Белорусский сборник. Статьи и материалы по истории и культуре Белоруссии. Вып. 1. Санкт-Петербург, 1998. С. 32—40.

пасаду пры двары і дзе стварыў першыя рускія сімфоніі — «Тры нацыянальныя сімфоніі для вялікага аркестра, заснаваныя на многіх рускіх, украінскіх і польскіх песнях» (выдадзены ў 1785–1790-я гг.). Гэтыя творы — адны з першых узораў рускай сімфанічнай музыкі, у якіх спалучыліся традыцыі заходнееўрапейскага сімфанізму і народнага славянскага меладызму. Цікава, што ў адной са Славянскіх сімфоній (Рускай) выкарыстоўваецца тэма «Камарынскай», здаўна вядомая на Беларусі як «Лявоніха па-даўнейшаму». У Пецярбургу Ванжура кантактаваў з Міхалам Клеафасам Агінскім, а таксама з яго настаўнікам Восіпам Казлоўскім, чые першыя публікацыі з'явіліся менавіта ў часопісах, выдадзеных Ванжурай. Сімвалічна таксама тое, што на пасадзе кіраўніка прыдворнага музычнага жыцця Ванжуру змяняе якраз Казлоўскі[1].

Выдатную ролю ў стварэнні пецярбургскай харавой культуры адыгралі беларускія пеўчыя, рэгенты, настаўнікі спеваў. Яшчэ ў першай палове XVIII ст. велізарным аўтарытэтам карысталіся ў Пецярбургу **Парфеній Радкевіч** (іераманах Пімен) з Оршы, **Товій Данскі** з-пад Смаленска, «старадубскі казацкі сын» **Лявонцій Ліснеўскі** (іераманах Варнава Архірэйскі), ягоны зямляк **Іаан (Іпацій) Пячэрскі**, смалянін **Іаан Мажайскі** (іераманах Іаанікій). Істотны ўплыў на фармаванне пецярбургскай кампазітарскай школы мела дзейнасць выдатных музыкантаў XVIII ст. Мацея Радзівіла і Міхала Казіміра Агінскага. Можна прыгадаць тут і Міхала Клеафаса Агінскага. Настаўнікам Міхала Клеафаса і творцам самога жанру гераічнага паланэзу быў былы прыдворны кампазітар Радзівілаў **Восіп (Юзаф) Антонавіч Казлоўскі** (1757–1831). Нарадзіўся ён у маёнтку каля Прапойска (цяпер Слаўгарад). Гэта дакументальна пацвярджаецца запісам у метрычнай кнізе, знойдзенай беларускім пісьменнікам і гісторыкам А. Бабровічам у вёсцы Сакалова Слаўгарадскага раёна. Беларускае паходжанне кампазітара адзначыў П. Бяссонаў: «...белорус Козловский... старший соперник Огинского в полонезах...». І яшчэ, раней: «...музыканты того времени, от Сарти до белоруса Козловского (в особенности) — все были обязаны ему [Пацёмкіну] своею карьерой». Нарэшце ў некралогу ў газеце «Маскоўскія ведамасці» 21 сакавіка 1831 г.: «...Осип Антонович Козловский... происходил из белорусских дворян...». Музычную адукацыю Восіп Казлоўскі атрымаў у капэле св. Яна ў Варшаве. У 1770–1780-я гг. ён разам са сваім вучнем, будучым кампазітарам Міхалам Клеафасам Агінскім наведваў Слонім, рэзідэнцыю Міхала Казіміра Агінскага. Тамтэйшы вялікі тэатр не мог не ўразіць маладога музыканта. Слонімскія оперныя пастаноўкі, а таксама бліскучыя канцэрты капэлы паўплывалі на фармаванне кампазітара, цікавасці яго да музычна-сцэнічнай і сімфанічнай творчасці, якая выявілася ў больш позні, пецярбургскі, перыяд яго дзейнасці. Пасля шматгадовай працы ў Нясвіжы Казлоўскі пераехаў у Пецярбург. Тут ён дваццаць гадоў (1799–1819) працуе ў Дырэкцыі імператарскіх тэатраў (з 1803 г. — дырэктар музыкі). Восіп Казлоўскі заклаў асновы шэрагу тыповых жанравых сфер расійскай музыкі, найперш паланеза і раманса. Папулярнасцю карыстаўся яго зборнік «Расійскія песні» (30 твораў на словы рускіх паэтаў), манументальны «Рэквіем». Казлоўскі — аўтар славутага канта, сімвала кацярынінскай Расіі «Гром победы раздавайся» на словы Гаўрылы Дзяржавіна, яго «Requiem es-moll, Missa pro defunctis» выконвалі ў касцёле Св. Кацярыны на Неўскім пры пахаванні Станіслава Аўгуста.

У пецярбургскі перыяд жыцця Казлоўскі не спыніў кантактаў з прадстаўнікамі культуры Беларусі. Яшчэ да ўсеагульнага захаплення творчасцю кампазітара на яе звярнуў увагу Эрнст Ванжура, які апублікаваў у 1790-я гг. камерныя творы Казлоўскага ў сваім дамскім часопісе, чым паспрыяў папулярызацыі творчасці калегі. Часопіс Ванжуры — увогуле першае выданне, у якім сустракаецца імя Восіпа Казлоўскага як кампазітара. У 1800 г. склаў і апублікаваў на ўласныя сродкі два зборнікі паланэзаў і рамансаў Казлоўскага яго вучань Міхал Агінскі. Асабістае і творчае сяброўства з Міхалам Клеафасам Агінскім працягвалася і ў Залессі — маёнтку Агінскага, дзе Казлоўскі наведваў свайго былога вучня.

Кампазітар развіваў жанр паланэза, і тым самым працягваў традыцыі, закладзеныя ў творчасці іншых музыкантаў Беларусі — Мацея Радзівіла, Яна Голанда, Міхала Казіміра і Міхала Клеафаса Агінскіх, якія заўсёды імкнуліся ператварыць гэты танец у эмацыйна насычаную і напоўненую глыбокім зместам п'есу.

У Пецярбургу Казлоўскі стварыў і іншыя кампазіцыі, звязаныя з заходнімі музычнымі плынямі. Апрача «Рэквіему» ён напісаў кан-

[1] *Дадзіёмава В.* Музычная культура Беларусі XVIII стагоддзя: гісторыка-тэарэтычнае даследаванне. Мінск, 2002.

тату «Te Deum Laudamus» — у гонар пераможнага завяршэння вайны з Напалеонам і ўзяцця рускімі Парыжа ў 1813 г. Зварот да жанру літургічнай музыкі лацінскай традыцыі быў натуральны для кампазітара (хоць ён плённа працаваў і ў сферы праваслаўнай музыкі). Зрэшты, «Te Deum Laudamus» адышоў ад літургічных канонаў: як зместам, так і музычнай лексікай ён набліжаецца да свецкай панегірычнай кантаты — нездарма ён выконваўся падчас каранацыі Мікалая I. У 1819 г., пасля выхаду ў адстаўку, Казлоўскі кіраваў аркестрам графа Мурамцава на сваёй радзіме ў Прапойску[1].

Прадстаўнік старажытнага беларускага магнацкага роду **Міхал Клеафас Агінскі** (1765—1833) упершыню наведаў Пецярбург у часы панавання Кацярыны II — ён прыбыў у сталіцу Расіі 22 снежня 1792 г. Быў ласкава з групай замежных гасцей прыняты пры двары, паступіў на расійскую службу і атрымаў канфіскаваныя перад гэтым маёнткі. Нязгода з барскімі канфедэратамі прывяла Міхала Клеафаса ў шэрагі апазіцыі, а паўстанне Касцюшкі захапіла Агінскага, ён абвясціў, што аддае гэтай справе «маёнтак, працу і жыццё». Пасля падаўлення паўстання выехаў у Аўстрыю. Жыў у Вене, Венецыі, Парыжы. Маёнткі яго былі зноў канфіскаваныя. У лістападзе 1798 г. Міхал Клеафас апынуўся ў Берліне, думаючы пра вяртанне ў Расію. Прускі кароль Фрыдэрык Вільгельм III прапанаваў яму выкарыстаць пасярэдніцтва прускага пасла ў Пецярбургу, але гэта моцна зачапіла ўражлівага імператара Паўла I: які ж гэта «расійскі падданы», калі просіць замежны двор аб пасярэдніцтве!

Для таленавітага дыпламата і кампазітара сітуацыя змянілася толькі тады, калі Паўла не стала. Імператар Аляксандр I 5 лютага 1802 г. цёпла прыняў выгнанца. У гэтым жа годзе ў Пецярбургу два зборнікі твораў Агінскага апублікаваў яго настаўнік Восіп Казлоўскі: у адзін з іх увайшлі паланэзы, у другі — рамансы на італьянскія і французскія тэксты. Ёсць і іншыя сведчанні творчых кантактаў: у архіве Агінскага захавалася руская народная песня, запісаная Казлоўскім. Рукою апошняга перапісаны і некаторыя іншыя творы, якія знайшоў І. Бэлза ў маскоўскім архіве Агінскага. Захаваўся таксама альбом Казлоўскага з перапісанымі ім творамі Агінскага.

У 1810 г. Міхал Клеафас стаў расійскім сенатарам, атрымаў чын тайнага саветніка (адпаведна вайсковаму чыну генерал-лейтэнанта), ордэны св. Уладзіміра і св. Аляксандра Неўскага. Жыў у сваім маёнтку Залессе каля Смаргоні, наязджаючы ў Пецярбург і таксама ў Парыж[2]. З імператарам сустракаўся часта, у т. л. у Вільні, Магілёве і Віцебску. Галоўнай тэмай абмеркавання з Аляксандрам быў план аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага ў складзе Расійскай імперыі. Згодна з праектам, стваралася асобнае літоўскае войска, дзейнічаў Статут ВКЛ. Дзеля рэалізацыі расійскай палітыкі ў Заходніх губернях Агінскі пісаў шматлікія праекты адозваў і рэскрыптаў. Вайна 1812 г. з Напалеонам змяніла планы расійскага кіраўніцтва. Праект аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага застаўся ў гісторыі як «План Агінскага», але не быў здзейснены. Бессэнсоўнае засяданне ў расійскім Сенаце перастала задавальняць Міхала Клеафаса. У студзені 1823 г. Агінскі развітаўся з Пецярбургам. Апошнія дзесяць гадоў правёў у Фларэнцыі. Помнікам ягоных пачуццяў засталіся музычныя творы, у ліку якіх славуты паланэз ля-мінор «Развітанне з Радзімай» (паланэз Агінскага).

Пецярбург быў горадам тэатраў. Першы прафесійны тэатр пачаў дзейнічаць у 1757 г. Гэта славутая Александрынка, якая з 31 верасня 1832 г. знаходзіцца ў спецыяльным будынку (архітэктар К. Россі). Дзве тысячы месцаў меў Вялікі тэатр, адбудаваны пасля пажару 1836 г. У 1845 г., пасля наведання Вялікага тэатра, дзе ў спектаклі «Сявільскі цырульнік» Расіні ўдзельнічалі дзве зоркі эпохі — італьянскі барытон Антоніо Тамбурыні і іспанская спявачка Паўліна Віярдо-Гарсія, падарожнік-беларус Адам Ганоры Кіркор пісаў, звяртаючыся да сваіх землякоў: «Пачцівыя мяшканцы Вільны!... што б вы сказалі, калі б тут былі сёння са мной на прадстаўленні гэтай оперы? Якая дасканаласць!»[3]. У гэтым самым 1845 г. у Пецярбургу на рускай і польскай мове выйшлі асобнай кніжкай падарожныя запісы выпускніка Віленскага універсітэта **Віктара Кажыньскага** (1812—1867), які разам з дырэктарам Прыдворнай капелы А. Львовым падарожнічаў па Германіі[4]. Віктар Кажыньскі застаўся ў сталіцы працаваць капельмейстэрам Александрынскага тэатра, актыўна ўдзельнічаў у музычным жыцці горада. Як

[1] *Дадзіёмава В.* Восіп Казлоўскі. Мінск, 1995.

[2] *Верамейчык С.* Міхал Клеафас Агінскі, 1765—1833: Продкі, жыццё ў Залессі, нашчадкі (спроба храналогіі). Мінск, 2003.

[3] Wrazenia Petersburga // "Athenaeum". Wilno, 1846. T. IV. S. 204—227.

[4] *Kazyński W.* Notatki z podróży muzykalnej po Niemczech odbyłej w roku 1844. Petersburg, 1845.

кампазітар ён вядомы операй «Муж і жонка» («Mari et femme», пастаўлена ў 1848 г.), аперэтай «Казачка, альбо Вяртанне з паходу» (пастаўлена ў Александрынцы ў 1851 г.), а таксама «Спеўнікам» (СПб., 1854), з якога найбольш папулярнай песенькай стала «Улез каток на платок» на словы У. Сыракомлі. Акрамя таго, ён напісаў па-руску «Гісторыю італьянскай оперы» (1851).

## Беларусы ў выдавецкай справе і журналістыцы Пецярбурга

Выдавецкая дзейнасць пачалася ў Санкт-Пецярбургу пры Пятры Вялікім — заснавальнік горада стварыў у 1713 г. друкарню, а з 1721 г. Акадэмія навук рэгулярна выдавала на нямецкай мове газету «St.-Petersburgische Zeitung», якая адразу ж перакладалася і на наступны дзень выходзіла па-руску пад назвай «Санкт-Пецярбургскія ведамасці». Друкарня АН хутка пераўзышла маскоўскія па колькасці выдадзеных кніг. Перыёдыка разнастаілася часопісамі, аднак напачатку гэта быў занятак невялікага кола прыдворных энтузіястаў, нават самой імператрыцы Кацярыны. Значныя змены адбыліся ў эпоху Мікалая І. Прынамсі ўзніклі масавыя няўрадавыя газеты і часопісы.

Пачатак новай журналістыкі можна ўбачыць у 1822 г., калі Фадзей Булгарын пачаў выдаваць свой першы, «прысвечаны гісторыі, статыстыцы і падарожжам», часопіс **«Паўночны архіў»**. Разнастайныя і цікавыя матэрыялы ў новым часопісе зрабілі выданне вельмі папулярным. Часопіс быў тоўсты (кожны нумар да ста старонак) і выходзіў раз на два тыдні. Выданне дажыло да 1828 г. Як дадатак да яго з 1823 г. выходзілі «Літаратурныя лісткі».

Натхнёны першым поспехам Фадзей Булгарын пачаў з 1825 г. тры разы на тыдзень выдаваць газету **«Паўночная пчала»,** якую ён рэдагаваў разам з Мікалаем Грэчам. На той час у Пецярбургу выходзілі два разы на тыдзень (з 1728 г.) газета «Санкт-Пецярбургскія ведамасці» і газета «Рускі інвалід», якая не мела ніякага дачынення да інвалідаў-калекаў — гэта было выданне ваеннага міністэрства (з 1813 г., з 1816 г. выходзіла штодзённа). «Паўночная Пчала» стала трэцяй сталічнай газетай і праіснавала больш як сорак гадоў (1825—1864).

Першае неафіцыйнае выданне навінаў і свабоднай крытыкі было настолькі паспяховае, што з 1831 да 1859 г. «Паўночная пчала» выходзіла штодзённа. Газета зрабілася летапісцам тагачаснага жыцця, гарадскім хранікёрам, які адгукаўся на ўсе вартыя ўвагі падзеі. «Паўночную пчалу» чыталі і ў сталіцы, і ў правінцыі. Акрамя таго Булгарын выдаваў у 1825—1839 гг. часопіс «Сын айчыны». Ён некаторы час называўся «Сын айчыны і Паўночны архіў» і перажыў свайго заснавальніка.

Неаднойчы «Сын айчыны» друкаваў матэрыялы пра вайну 1812 г., у тым ліку і пра падзеі на Беларусі: «Пісьмо віцебскага інтэнданта да віленскага 14/26 кастрычніка 1812 г.», «Пісьмо з Віцебска» І. Манькоўскага і «Урывак з запісак віцебскага жыхара» Г. Дабрыніна (1813), «Нешта пра бітву каля Ваўкавыска» (1824). Матэрыялы пра Беларусь прайшлі ў публікацыях «Пінск і яго ваколіцы» Ю. Крашэўскага (1837), «Штодзённыя запіскі рускай падарожніцы ў 1827 і 1828 г.» А. Целяпнёвай (1831). У 1839 г. друкаваліся нататкі пра жыццё гісторыка, археолага і падарожніка Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага. Сярод шматлікіх выдавецкіх праектаў Тадэвуша Булгарына былі таксама часопіс для дзяцей «Дзіцячы суразмоўца» (з 1826 г.), а ў 1841—1845 гг. часопіс «Эканом».

Не менш значнай з'явай пецярбургскай журналістыкі, чым выданні Фадзея Булгарына, стаў часопіс беларуса Восіпа Сянкоўскага «Бібліятэка для чытання».

У 1834—1847 (намінальна да 1856 г.) акадэмік Восіп Сянкоўскі выступаў як літаратурны крытык і галоўны рухавік першага ў Расіі папулярнага энцыклапедычнага часопіса. Тут паважаны вучоны пад рознымі псеўданімамі друкаваў свае аповесці — «усходнія», свецкія, побытавыя, сатырычныя, навукова-філасофскія, таксама крытычныя артыкулы і рэцэнзіі. У велізарнай колькасці Сянкоўскі выдумляў сабе літаратурныя псеўданімы: барон Брамбеус, Іван Іванавіч сын Гагаценка, Рупліўцаў-Драбязноўскі, Восіп Марозаў, Вавёркін, Снегін, Цюцюнжду-Оглу etc. etc. І ў Пецярбургу, і ў правінцыі «Бібліятэка для чытання» рабіла фурор. План часопіса выдатна адпавядаў патрэбам расійскай публікі, якая яшчэ недастаткова была падрыхтаваная для спецыяльных часопісаў і сур'ёзных твораў, але прагнула чытання, навінаў і лёгка атрыманых ведаў. Рэдактар выконваў вялікую і ўдзячную працу — прымушаў чытача думаць, не паказваючы, аднак, што ставіцца такая высокая мэта, павышаў адукацыю чытача, забаўляючы яго анекдотамі, байкамі і ўласнымі літаратурнымі творамі. Адразу ж велізарны поспех у «Бібліятэцы для чытання» за 1834 і 1835 гг. атрымалі аповесці Сянкоўскага «Усё жаночае жыццё ў некалькіх гадзінах» і шэсць іншых. Восіп Іванавіч выконваў задачу бліскуча:

у рэдактара-энцыклапедыста часопіс быў энцыклапедычны: аддзелы навук, іншаземнай славеснасці, «рознага». Ён любіў англійскую літаратуру з яе спакойным аналізам чалавечага сэрца: амаль усе лепшыя англійскія аўтары з'явіліся ў «Бібліятэцы» — Чарльз Дзікенс, Самуэль Колрыдж, Уільям Тэкерэй, Вальтэр Скот, Уільям Вордсворт і іншыя. Больш як дзесяць разоў друкаваўся ў «Бібліятэцы... » зямляк Фадзей Булгарын, якога Сянкоўскі то празмерна хваліў, то зласліва крытыкаваў. У аддзеле навук — асабліва цікавым і разнастайным — Сянкоўскі знаёміў публіку з усімі адкрыццямі і навінкамі. Ён імкнуўся да папулярызацыі ведаў і дамогся таго, што артыкулы з яго часопіса, зразумелыя і агульнадаступныя, самі па сабе заставаліся ў галовах чытачоў. У Пецярбургу выпрацавалася мадэль навукова-папулярнага часопіса, які злучыў традыцыі віленскай гумарыстычнай і саркастычнай студэнцкай газеты «Навіны з бруку» і акадэмічна-разнастайнага «Віленскага дзённіка». У нашы дні гэтая справа жыве ў выданнях кшталтам «Знание — сила», «Наука и жизнь», «Здоровье», «Компьютерра», «Химия и жизнь». Сянкоўскі распачаў у Расіі той працэс, які і сёння яшчэ не адбыўся на Беларусі — тут і цяпер карыстаюцца расійскімі часопісамі, не могучы стварыць свайго; у Вільні ж даўно і трывала папулярны «Мокслас ір гівянімас» («Навука і жыццё»).

Аддзел крытыкі ў «Бібліятэцы для чытання» называўся «Літаратурны летапіс» — нечуваны поспех кароткіх і бліскучых рэцэнзій прымушаў займацца раздзелам асабіста галоўнага рэдактара. Той і не прагнуў ператварыць сваю крытыку ў якую-небудзь тэорыю — «Літаратурны летапіс» проста прапанаваў чытачу паход супраць кепскіх паэтаў, смешачкі і кпіны супраць шэрапапяровых выданняў і раздрайнай літаратуры. Чытач патрабаваў «прыколаў» і жартаў, чытач сустракаў кожную рэцэнзію Сянкоўскага ўзрушанай падтрымкай — і Сянкоўскі жартаваў з чытачом, часам нават пасмейваючыся з яго. У адной з рэцэнзій — на кнігу «Умозрительнные и опытные основания словестности» ён папракнуў аўтара — А. Глаголева — за давер да «Слова пра паход Ігара» як старажытнага помніка і крыніцы рускай мовы. Пры гэтым Восіп Іванавіч назваў «Слова...» «містыфікацыяй не старэйшай за нас з вамі», што пазней знайшло (і знаходзіць да нашага часу) падтрымку шматлікіх гісторыкаў[1].

У 1833—1840 гг. Восіп Сянкоўскі быў на вяршыні журналісцкай славы. Дасціпны барон Брамбеус смяшыў Пецярбург, смяшыў правінцыю. За гэта яго хвалілі, перад ім ліслівілі, яму плацілі вялізныя грошы. Ён займаў выдатны дом, меў шмат прыслугі, цудоўных коней, даваў лукулаўскія абеды. Гэтыя абеды яшчэ доўга заставаліся ў памяці сучаснікаў. Ганарлівы і фанабэрысты, Сянкоўскі кідаў грошы направа і налева, часам збіраў вакол сябе натоўп літаратараў, часам без цырымоніі гнаў іх, калі яны яму надакучвалі.

Бібліяграфія прац Сянкоўскага, якая змешчана ў першым томе яго збору твораў у 1858 г., налічвае 440 нумароў. Сто тамоў часопіса «Бібліятэка для чытання» сталі з'явай у гісторыі расійскай журналістыкі.

Аднак далёка не ўсе чытачы «Бібліятэкі для чытання» былі згодныя з поглядамі рэдактара. Акрамя канкурэнта-Булгарына, адным з найбольш заўзятых і перакананых яго сапернікаў стаў другі зямляк — пецярбуржскі беларус выдавец часопіса «Маяк» генерал-лейтэнант Сцяпан Бурачок. Да Бурачка непасрэдна скіраваныя словы гісторыка літаратуры: «Тыповымі прадстаўнікамі расійска-беларускай літаратуры з'яўляліся тыя нашы аўтары, што гадаваліся на расійскай культуры, з свае беларускае творчасці рабілі як бы частку расійскае літаратуры і па ідэалогіі былі расійцамі»[2]. Пачаткі беларускай дзейнасці Бурачка можна адшукаць у 1843 г., калі часопіс «Маяк» надрукаваў артыкул «Два словы пра мову і пісьменнасць Белай Русі». Аўтарства тэксту не было пазначана, літаратуразнаўцы лічаць, што гэта быў выкладчык Полацкага духоўнага вучылішча І. Цытовіч. Тут гаварылася пра самастойнасць беларускай мовы, на якой «значная частка народа рускага доўга яшчэ гаварыць будзе», падкрэсліваліся яе мастацкія якасці[3]. У «Маяку» Цытовіч надрукаваў па-беларуску імянінны верш, тут жа змясціў беларускія творы Эгілеўскі (1844 г.) і іншыя аўтары. Нашчадак магілёўскіх бюргераў, знакаміты будаўнік караблёў на Каспійскім моры і выкладчык ваенна-марскіх вучэльняў Пецярбурга, Сцяпан Бурачок быў чалавекам актыўнай грамадскай пазіцыі. Погляды меў кансерватыўныя, змагаўся за іх з энтузіязмам і энергічна. Для прапаганды сваіх поглядаў ён у другой палове 1850-х гг. склаў запіску

[1] *Зимин А.* Слово о полку Игореве. СПб., 2006. С. 398.
[2] *Гарэцкі М.* Гісторыя беларускае літаратуры. Мінск, 1992. С. 198.
[3] Маяк. 1843. Т. 9. кн. XVIII. С. 33—38. Перадрукавана ў кн.: Пачынальнікі. З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. Мінск, 1977. С. 8—12.

«Аб неабходнасці выдання часопіса ў духу праваслаўя і рускай народнасці». Погляды гэтага афіцэра выкладзены ў Праграме новага часопіса, дзе ўжо пачатак лексікай і фармулёўкамі паказвае кірунак:

«Усе, каму дарагое наша Святое праваслаўе і заснаваная на ім руская народнасць, даўно спасцігаюць небяспеку, якая пагражае нам ад сучаснага кірунку літаратуры, што ў імя цывілізацыі і прагрэсу распаўсюджвае ідэі пагібельныя і для праваслаўя, і для народнасці. І таму неаднойчы ўзнікала думка пра патрэбу такога літаратурнага выдання, якое б выкрывала падман і шкоднасць гэтых ідэй і распаўсюджвала б, са свайго боку, думкі здаровыя, погляды праўдзівыя, перакананні прасякнутыя св. верай, супрацьдзеяла б колькі-небудзь непераадольнаму ўплыву на наша грамадзянскае і сямейнае жыццё тых разбуральных пачаткаў еўрапейскай цывілізацыі, якія вытварылі на Захадзе столькі жудасных з'яў, пахіснуўшы ля самых падставаў хрысціянскую рэлігію...». Спыніўшыся на тым, што ў большасці твораў сучаснай рускай літаратуры (асабліва ў Тургенева, Грыгаровіча, Панаева, Пісемскага і іншых) «пануюць, як вядома, ідэі Жорж Санда, якая з такім здзіўляючым мастацтвам умее ідэалізаваць пачуцці і ўвасабляць распусту ў чароўныя мастацкія формы...», Сцяпан Анісімавіч пераходзіць да абгрунтавання палітэканамічнай часткі. Гарачая палеміка, якая існавала ў грамадстве і ўжо год не сыходзіла са старонак часопісаў і газет, датычыла пратэкцыянізму ў прамысловасці і свабоды гандлю. Бурачок лічыць, што новыя эканамічныя тэндэнцыі рыхтуюць «аграмадныя рэвалюцыйныя ўзрушэнні ў цэлай Еўропе» і далей: «Здавалася б адно гэта павінна было засцерагчы цэнзуру і не дапусціць да распаўсюджвання ў нас небяспечнага сацыяльнага вучэння. Але яна першая так была падманута гучнымі фразамі агульналюдскага дабра і прагрэсу навукі, у імя якіх прапаведавалася новая палітыка-эканамічная тэорыя як вялікае адкрыццё еўрапейскага генія, так спакусілася крывадушна-патрыятычнымі галасамі ў абарону масы спажыўцоў, якія быццам бы пакутуюць пад цяжарам мытнага падатку, што дапусціла свабодна выказваць бяздумную утопію ў часопісах і газетах. І гэтая прапаганда даведзена была «Сынам Айчыны» да такой крайнасці, што пан Сянкоўскі пачаў, нарэшце, станоўча даказваць, што айчынная фабрычная прамысловасць — плён доўгатэрміновых намаганняў нашага ўрада — гэта цяжар для ўсёй дзяржавы, што дзеля яе мы ўсе пакутуем ад цяжкага і несправядлівага мытнага падатку, што ад яго паходзіць не толькі ўсеагульная дарагоўля, але нават хабарства чыноўнікаў.

Гэты ганебны падман так хітра выказваўся ў напаўсмяшлівым тоне, так удала прыхоўваўся жартамі і «остротами», што цэнзура не падазравала ў ім нічога небяспечнага і вельмі верагодна, што сама прымала яе за чыстую праўду. На працягу 3-х месяцаў штотыдзень узводзіліся ў «Сыне Айчыны» гэтыя страшэнныя паклёпы на існуючую дзяржаўную сістэму, распаўсюджваючы незадавальненне і «негодование» супраць існуючага парадку рэчаў у самым шматлікім асяроддзі сярэдняга саслоўя, у якім гэты часопіс, з-за таннасці сваёй, надзвычай распаўсюдзіўся і атрымаў моцны ўплыў на думкі»[1]. Шмат архіўных матэрыялаў Сцяпана Бурачка захаваліся да сёння і знаходзяцца ў ягоных асабістых фондах у Пушкінскім доме і Аддзеле рукапісаў РНБ.

Пісаў Сянкоўскі мудра і дасціпна, але адначасова востра і халодна, нават вельмі халодна, смяяўся ён без сэрца, і гэта не магло ўсім і заўсёды падабацца. Аднак — калі памёр — яго шкадавалі, а паэт Уладзімір Бенядыктаў нават напісаў патэтычную элегію з 44 вершаў. Вось першая стафа:

И он угас. Он блеском парадокса
Нас поражал, страдая и шутя.
И кто порой невольно не увлёкся
Его пером, как лакомством дитя?

У XIX—XX стст. у Санкт-Пецярбургу пастаянна выдаваліся творы ўраджэнцаў Беларусі на замежных мовах — ад польскамоўнага «Конрада Валенрода» наваградчаніна Адама Міцкевіча (1827 г.) да мемуараў ураджэнца Воўчына (цяпер Камянецкі раён Брэсцкай вобласці) Станіслава Аўгуста Панятоўскага на французскай (Memoires. T. 1—2. St.-Petersburg; Leningrad, 1914—1924). Шмат хто з пецярбуржцаў — выхадцаў з беларускай шляхты на расійскай службе — стаў правадніком дасягненняў рускай культуры ў польскамоўнае асяроддзе. Як адзін з удалых прэцэдэнтаў можна ўспомніць выдадзеную ў 1830 г. у Санкт-Пецярбургу альбомным фарматам кнігу «Imionnik». Тут змясціліся пераклады з Пушкіна, «Прадмова» некалькі паэтычных празаічных твораў на польскай

[1] ИРЛИ. Ф. 34 Бурачек № 395. С. 5—6.

і рускай мовах. Аналіз Прадмовы паказвае, што аўтарам быў віцебскі шляхціч **Дэспат Зяновіч** — прадстаўнік аселага ў Вялікім Княстве Літоўскім старажытнага сербскага роду. Першая частка «Imionnika» прысвечана «Пятру Сяляве, прэзідэнту лепельскага суда, на памяць пра дні, што правялі разам, з верасня 1829 па люты 1830 г.», а другая частка, якая называецца па-руску — «Альбомъ» — мае прысвячэнне «Ея высокородію Анне Фёдоровне Селявиной, урождённой Кашталинской». Сярод твораў другой часткі рамантычны «Двуспеў», кожны з дзевяці куплетаў якога сканчваецца радком:

> «O luba/luby! śpiewajmy razem,
> Śpiewy uczuć są wyrazem.»


IMIONNIK.

S^t. PETERSBURG.
W DRUKARNI WOIENNEI.
1830.

*Кніга «Імённік». Тытульны аркуш*

Знаёмства з паўночнай сталіцай часам рабіла на чалавека такое ўражанне, што ён прысвячаў гэтай тэме настальгічныя ўспаміны. Так зрабіў ураджэнец маёнтка Янаўшчына Пружанскага павета выпускнік Свіслацкай школы **Ігнат Кулакоўскі**. Летам 1836 г. ён наведаў Пецярбург і напісаў чатыры вершаваныя «Успаміны Петраграду»[1]. Першы успамін датаваны «*над берагам Нявы 29 чэрвеня 1836 г.*», апошні — «Ад'езд» — 5 верасня таго ж года. Захопленасць прыгажосцю горада, веліччу яго помнікаў і навакольнай прыроды Ігнат Кулакоўскі злучыў з захапленнем кіроўным расійскім манархам: «Успамін І. Калона Аляксандра». Панегірыкам заснавальніку горада стала апісанне «падарожжа ў Каронград» на параходзе «Вольга» у дзень святых апосталаў Пятра і Паўла і назіранне за ўрачыстасцю ладдзі Пятра I (Успамін II). Тут патрэбны невялікі каментарый: яшчэ ў 1723 г. боцік Пятра I урачыста перавезлі з Масквы ў Пецярбург і паставілі на Гаспадаравым бастыёне Петрапаўлаўскай крэпасці. Згодна з царскім загадам штогод трэба было «для торжествования» вывадзіць боцік на ваду. Пры жыцці Пятра боцік вазілі па Няве на спецыяльным судне, якое буксіравала галера. Пасля смерці Пятра рытуал паўтарылі толькі двойчы. У 1761 г. боцік перанесены ў Ботны дамок[2]. Урачыстасць 3 ліпеня 1836 г., калі «цар са сваім людам... чэсць аддае ладдзі Пятра», і якую назіраў і апісаў вершам Ігнат Кулакоўскі, была, відавочна, працягам даўняй традыцыі. Трэці ўспамін «Від Петра-Граду з вежы Адміралцейства» датаваны 18 ліпенем — гэта ўзнёслы панегірык гораду, яго палацам, Аляксандраўскаму сталпу, цару-заснавальніку і яго кіроўнаму прапраўнуку. Вельмі аператыўна (27 кастрычніка) кніга атрымала цэнзурны дазвол і была надрукавана ў вайсковай друкарні. Пра аўтара вядома, што пасля вяртання на Беларусь ён атрымаў пасаду дырэктара гімназіі ў Беластоку[3].

Значная частка пецярбургскіх беларусаў гуртавалася вакол польскамоўнай газеты «Tygodnik Petersburgski», якую заснавалі ў 1830 г. ужо згаданыя **Восіп Пшэцлаўскі** са Слоніма і вілянчук **Францішак Малеўскі**. Выданне гэта зрабілася з 1832 г. «афіцыйнай газетай Каралеўства Польскага» і дажыло дзякуючы ўрадавым датацыям да 1858 г. З «Тыгоднікам» супрацоўнічаў шэраг таленавітых аўтараў, сярод якіх вылучаўся пісьменнік з Валыні Генрых Жавускі (1791—1866). Асаблівую славу Жавускі набыў пасля таго, як выдаў у 1839 г. у Парыжы кніжку «Мемуары Сапліцы» — выдатны літаратурны твор, у якім каларытна выпісаны звычаі і нравы апошніх гадоў Рэчы Паспалітай. Пры гэтым значная частка персанажаў — рэальныя асобы; большасць герояў жывуць на Беларусі: у Навагрудскім, Віцебскім і Полацкім, Мінскім і Мсціслаўскім ваяводствах. У мастацкім апавяданні навагрудскага адваката і гаспадара Дактаровічаў Сапліцы (асобы прыдуманай) Генрых Жавускі партрэтызаваў рэальных (і прыдуманых) шляхцічаў Вялікага Княства Літоўскага як шчырых палякаў, іх норавы — як польскія норавы, іх густы — як густы польскія, іх законы (Статут ВКЛ) — як старадаўнія польскія законы і г. д. Пры гэтым у сучасным жыцці Жавускі прытрымліваўся праўрадавай арыентацыі і часам нават меў магчымасць выступаць як яе рупар. Сіла гэ-

[1] *Kułakowski I.* Wspomnienia Piotrogrodu. SPB., 1836.
[2] *Шерих Д.* Петербург. 300 лет день за днём. СПб., 2003. С. 254.
[3] За інфармацыю пра Ігната Кулакоўскага аўтар удзячны сп. Алегу Латышонку.

тага літаратурнага прыёму была настолькі моцнай, што большасць чытачоў Жавускага (адукаванай беларускай шляхты-каталікоў, даўніх ліцвінаў) пачынала пазіцыянаваць сябе як палякаў.

Яшчэ адзін польскамоўны перыёдык, альманах «Літаратурны штотыднёвік» («Tygodnik literacki») выдаваў у Пецярбургу на працягу 1843–1849 гг. выпускнік Віленскай гімназіі і Маскоўскага універсітэта **Рамуальд Падбярэзкі (Друцкі-Падбярэзкі)** (1812–1856 гг.). На старонках «Тыгодніка» друкаваліся даследаванні аб родным краі, прынамсі праца Яна Баршчэўскага «Нарыс паўночнай Беларусі», якую адразу ж паруску перадрукаваў пецярбургскі часопіс «Ілюстрацыя» (1846, № 10). У «Ілюстрацыі» Падбярэзкі змясціў свае артыкулы на рускай мове: «Беларускае вяселле» (1848, № 1) і «Горад Барысаў. Эпізод Бярэзінскай бітвы» (1848, № 22). Пісаў Друцкі-Падбярэзскі і для газеты Пшэцлаўскага (у №№ 79, 81, 82 «Tygodnika Petersburgskiego» за 1844 г. ён друкуе «Лісты з Беларусі»).

Сярод польскамоўнай прадукцыі беларускіх літаратараў звяртаюць увагу тры тамы вершаў братоў Грымалоўскіх (Гжымалоўкіх) — Валяр'яна і Юльяна. Першы том «Вершаў» мае падзагаловак *Забаўкі Валяр'яна Грымалоўскага* і ўключае творы рознага кшталту. Пачынаецца з алегарычнага верша, які называецца «*Дыялог паміж славай і часам*» (с. 1–2), пасля змешчаны розныя песні: сентыментальная без назвы, песня пастушка да пастушкі. Падобная па духу «*Думка над Дзвіной*», пра пачуцці паэта да пастушкі, якая пасвіць жывёлу на другім баку ракі. Настальгічны верш «*Бяда*» апавядае пра лёсы людзей, пра іх смутнае, тужлівае існаванне. Іншы верш «*На прыбыццё буслоў*» гаворыць пра тое, што гэтыя птушкі прыносяць шчасце, прывязвае да народных паданняў. Паэт дзівіцца дамавітасці буслоў і марыць, каб яны прынеслі яму верных сяброў. Верш без назвы мае сцвярджэнне: «Мілыя песні беларусак», а на канцы прызнанне: «Як жа я люблю вашы песні, беларусачкі».

У вершы «*Мая думка*» паэт сцвярджае, што лепш знаходзіцца сярод вясковых краявідаў, чым жыць у горадзе, а вясковыя дзяўчаты «лепшыя за гарадскіх спявачак». У вершы, што названы «*Да ўбогіх*», паэт апелюе да багатых: даваць міласціну бедным, каб у гадзіну смерці спаткацца з удзячнай малітвай абдараванага жабрака. Іншы верш, названы «*Ліст да Р.З.*», паказвае перавагу жыцця на вёсцы над жыццём у горадзе. Грымалоўскі звяртаецца да таго, хто едзе караблём у Пецяргоф на тэатральнае прадстаўленне, заклікаючы: «хоць там забаваў і відовішчаў маеш штодня тысячы, але штосьці паслухай аб нашай пяцёнцы».

Паэт пытае, што значыць пяцёнка? — і сам адказвае: гэта кірмаш у Асвеі перад Пятром і Паўлам, які прыпадае на пятніцу. Звяртаючыся да жыхара Пецярбурга, піша: «А з Неўскага праспекта, з гмахаў павярховых, спрабуй сысці да асвейскіх халупак». На тэму пяцёнкі піша: «Вось і маеш пяцёнку, Асвея — не сталіца, але прыгажосць як ў Асвеі, так і там захапляе. Менш тут знешняй аздобы для цела прыгажосці, але ў ёй відаць больш цноты і сціпласці»:

Otóż ci masz pacionkę, Oświej nie stolica
lecz piękność tak w Oświeju jak i tam zachwyca.
Mniej tu zwierzchniej ozdoby dla ciała piękności
lecz w niem więcej widać cnoty i skromności.

Напрыканцы Валяр'ян Грымалоўскі абвяшчае, што хутка вярнуўся (са сталіцы) на вёску, чытае тут, піша, грае мазуркі на фартэпіяна і зусім не зайздросціць тым, хто бавіцца ў Пецяргофе.

Трэці том мае падтытул «Паэтычныя прэлюды Юльяна Грымалоўскага», і на 138 старонках змяшчае вершы, што напісаны ў 1834–1836 гг. Тут можна знайсці рознага віду элегіі, прыкладам: «*Першае каханне*», «*Жаль каханай*», «*Да фартэп'яна*», «*Аб сяброўстве*». Апрача элегій, ёсць оды, думы, санеты і песні. Адна з іх, «*На сірочым вяселлі*», паказвае смутак сіраты:

Устань, устань Тацянка з дубовай лавы
На сваёй бяседзе займіся забавай.
Твая галоўка прыбраная ў квецце,
А тваёй мамкі няма на свеце.

Ураджэнец Віцебшчыны і выпускнік полацкай езуіцкай калегіі **Ян Баршчэўскі** (1794–1851) пераехаў у Пецярбург у 1817 г. Працаваў у Марскім міністэрстве, пазней — як настаўнік лацінскай і грэчаскай моў. Вялікім захапленнем Яна Баршчэўскага была літаратура. Заняўшы больш-менш трывалае становішча ў грамадстве, ён пачаў выдаваць альманах «Незабудка» (1840–1844); сярод падпісчыкаў «Незабудкі» адным з першых быў патрыярх беларускай літаратуры Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. У 1844–1846 гг. выйшаў чатырохтамовы твор Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, альбо Беларусь у фантастычных апавяданнях». Першыя тры тамы «Шляхціца Завальні» выдаў Ян Энерлінг, які


SZLACHCIC
ZAWALNIA
CZYLI
BIAŁORUŚ
W FANTASTYCZNYCH OPOWIADANIACH
PRZEZ
JANA BARSZCZEWSKIEGO.
Poprzedzone krytycznym rzutem oka na Literaturę Białoruską
PRZEZ
ROMUALDA PODBERESKIEGO.

Z ryciną Rud. Żukowskiego, przedstawującą główne sceny opowiadań.

PETERSBURG.
W DRUKARNI KAROLA KRAJA.
1844.



*Шляхціц Завальня. Тытул і шмуцтытул першага пецярбургскага выдання 1844 г. Малюнкі Руд. Жукоўскага*

надрукаваў у пачатку другога тома «дапіскі выдаўца», пад загалоўкам «Успаміны пасля наведвання роднага краю. Полацк». Да кожнага тома дадавалася гравіраваная Руд. Жукоўскім табліца, «якая падае галоўныя сцэны апавяданняў» — так зазначана на тытульным аркушы. У ніжняй частцы табліцы была пададзена панарама Полацка, від з левага берагу Дзвіны. У «дапісцы выдаўца» Ян Энерлінг называў Полацк сталіцай Беларусі. «Шляхціц Завальня, альбо Беларусь у фантастычных апавяданнях» заслугоўвае ўвагі і крытычным артыкулам Рамуальда Падбярэзкага пад назвай «*Беларусь і Ян Баршчэўскі*», і цікавымі апавяданнямі з тыпова беларускімі маральнымі высновамі, якія цудоўна сведчаць пра даўні дух насельнікаў Беларусі, і уключэннем, паміж мясцовымі паданнямі, сюжэтаў, вядомых Баршчэўскаму-лаціністу з баек Эзопа, напрыклад, пра яйка, якое знёс певень.

Уступ Рамуальда Падбярэзкага пачынаецца з разваг наконт культурнага абуджэння Беларусі. Пецярбургскі аўтар сцвярджае: «Літаратура ў Беларусі пачынае рабіцца для мужчын і жанчын мілай забавай. Гэта ўжо немалы крок... Дастаткова пабыць у дамах заможных інфлянцкіх абывацеляў у (даўніх ваяводствах) Полацкім і Віцебскім, каб у гэтым пераканацца»[1]. Падбярэзкі крытычна ставіцца да даўняй інтэлектуальнай эліты Беларусі, якая аддаючы перавагу ўзорам заходняга класіцызму, не развіла ўласнага народнага духу. На гэтым фоне ён досыць пазітыўна ўспамінае «*Незабудку*», выдадзеную Янам Баршчэўскім. З сучасных сабе пісьменнікаў высока ацэньвае Яна Анoшку, які, на яго думку, у сваіх творах быў блізкі да нованароджанага беларускага духу. Потым успамінае розных беларускіх літаратараў, высока ацэньваючы Тадэвуша Ладу-Заблоцкага, якога назваў паэтам сэрца. Ігнат Храпавіцкі першы надрукаваў у «*Рубоне*» філасофскі погляд на паэзію беларускага люду. Гэты паэт рабіў заходы па складанні збору беларускіх песень, што на думку Падбярэзкага было вельмі важ-

[1] Białoruś i Jan Barszczewski w: Szlachcic Zawalnia czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach przez Jana Barszczewskiego poprzedzona krytycznym rzutem na literaturę białoruską przez Romualda Podberskiego. T. 1. Petersburg, 1844. S. II.



*Ян Баршчэўскі*

на для культуры. У сферы вывучэння гісторыі беларускага народа вылучана асоба Язэпа Жабы з Шша (Шэша), які займаўся збіраннем рукапісаў і старадрукаў для напісання беларускай гісторыі.

Р. Падбярэзкі высока ацэньвае творчасць Яна Баршчэўскага, заўважыўшы ў выдадзеным ім часопісе «Незабудка» не толькі эстэтычныя вартасці, але і вартасці грамадскія. Дзякуючы гэтаму часопісу пачаліся ў беларускіх дамах, у якіх раней ніякіх кніжак, акрамя календароў, ніколі не было, дыскусіі на тэмы літаратуры. Падсумоўваючы яго творчасць, аўтар кажа: «Тое, што піша Баршчэўскі прозай, не датычыць непасрэдна ані гісторыі літаратуры, ані літаратуры, ані мовы Беларусі, але рэчы больш важнай, бо духу і паэзіі народнай, адкуль і выплыла (з'явіліся) і гісторыя, і літаратура, і мова».

Пасля ўступу Падбярэзкага да «*Шляхціца Завальні*» змешчана прадмова Баршчэўскага, у якой ён насуперак чужаземшчыне заяўляе, што не мае намеру паўтараць стыль англійскіх ці французскіх (папулярных на той час) пісьменнікаў, бо «ў чужаземнай адзежы не да твару хадзіць жыхарам Беларусі». Ментальнасць сваіх суайчыннікаў аўтар імкнецца перадаць у апавяданні пад назвай «*Нарыс паўночнай Беларусі*», падаючы народныя песні і забабоны, зважаючы, што песні нашага люду змяшчаюць у сабе вялізную дозу меланхоліі і смутку. Датычыць гэта нават вясельных песень. У нарысе, названым «*Успаміны з наведання роднай старонкі*», знаходзіцца інфармацыя пра Полацк, яго гістарычныя месцы і звычаі жыхароў. Апавяданне «*Радзімка на вуснах*» заключае сюжэт пра тое, як купец выкупае з прыгону былую жонку, нарыс «*Арганіст з Расонаў*» апавядае пра вучня езуіцкага калегіума, які не толькі ведаў Альвара (лацінская граматыка) і мог тлумачыць Цыцэрона і Гарацыя, але і стаў арганістам. Спазнаўшы, што ўсё гэта марнасць, пераканаўся, што паглыбляцца ў прамудрасці выпадае толькі філосафам; звычайны — як ён — чалавек павінен жыць простым жыццём і кіравацца сэрцам. Гэтая выснова знаходзіць працяг у творы *Арганіст Андрэй*. Згубіўшы дарогу падчас зімовай завеі, арганіст Андрэй знайшоў часовы прытулак у Завальні, як знак удзячнасці ахвяруе яму кніжку больш карысную, чым усе аповесці. Гэта выдадзены ў Вільні каляндар на 1817 год.

Твор, які пачынае трэці том, «*Думкі самотніка*», змяшчае філасофскае пасланне пра беззваротна страчанае даўняе шчасце. Перад з'яўленнем цывілізацыі быў залаты век, калі шчаслівыя людзі жылі па праўдзе, а цывілізацыя і навука гэты стан знішчылі. Цяпер праўдзівую веру — скарб бацькоў — хочуць засланіць туманы фальшывай мудрасці, пыхі і падману. Людзі пабралі ва ўласнасць зямлю і лясы, кожны з іх хацеў мець больш багацця і ўлады, пачалі ўціскаць бедных. Парушэнне натуральнага парадку прывяло да таго, што Бог перастаў даваць людзям сваю ласку.

Да міфа, у якім дзейнічае кароль катоў Варгін, кароль пеўняў Будзьмір і кароль мышэй Падмор, адносіць чытача апавяданне «*Чараўнік і кот Варгін*». А вось у апавяданні «*Дзіўны кій*» баецца пра беднага чалавека, які аддае жабраку апошні грош. Той, каб аддзячыць, аддае яму свой жабрачы кій, які захоўвае гаспадара ад усялякіх няшчасцяў. Жабрак пры дапамозе кія вызваляе ад няшчасця цэлую краіну. Мараль гэтага апавядання падаў сам Завальня: за ахвяраваныя бедным тры талеры можна зрабіць вялікую справу, зрабіць сябе і іншых шчаслівымі. У кніжцы Баршчэўскага шмат іншых фантастычных апавяданняў: «Пра чарнакніжніка», «Аповесць вужакі», «Ваўкалак», «Агністыя душы».

Ян Баршчэўскі максімальна звужае тэрытарыяльныя межы Беларусі — у гэтым аспекце ён абсалютны рэкардсмен сярод пецярбуржскіх пісьменнікаў XIX ст. Яго Беларусь (1844) у некалькі разоў меншая за Беларусь Фадзея Булгарына, якая ў 1835 г. прасціралася «паміж Курляндыяй, Ліфляндыяй, губернямі Пскоўскай, Смаленскай, Арлоўскай, Чарнігаўскай і Мінскай», яна набліжаецца да Беларусі Рамуальда Падбярэскага, які ў апублікаваным у «Шляхціцу...» нарысе

«Беларусь і Ян Баршчэўскі» заўважыў, што Магілёўская і Віцебская губерні «ўласна складаюць Беларусь».

У Баршчэўскага Беларусь — аб'ект расплывіста сфармуляванага наканавання і смутных перажыванняў. Па ўсёй верагоднасці, гэтыя перажыванні маюць нейкім чынам уплываць на кансалідацыю мясцовай эліты і канструяваць уласны вобраз беларускай прасторы.

Трэба асобна спыніцца на кантэксце з'яўлення кнігі — у 1836 г. у беларускіх Віцебскай і Магілёўскай губернях было забаронена выкладанне на польскай мове. Калі частка беларускага Пецярбурга (у асобе В. Сянкоўскага) ухваліла гэтае рашэнне (і нават спрыяла яго прыняццю!), то Ян Баршчэўскі прадстаўляў апазіцыю.

Праўда, ён падкрэслена апалітычны, за чым можа хавацца глыбокая заклапочанасць. У «Шляхціцу...» адсутнічае непасрэднае рэха палітычных і культурных выклікаў яго часу, што зусім не выключае іх сімвалічнага ці алегарычнага адлюстравання. Ян Баршчэўскі — адзін з першых пісьменнікаў, хто свядома канструяваў рамантычны/міфалагічны вобраз Беларусі. Людзі ў яго жывуць традыцыйным штодзённым жыццём, паміж панамі і сялянамі пануе гармонія, але ў падтэксце прысутнічае пачуццё экзістэнцыйнай небяспекі гэтаму ладу і туга па нейкім ідэальным парадку, які пакуль застаецца недасягальным[1].

Пра мінулае Беларусі нешта цьмяна гавораць фальклор і анімістычныя вераванні. Стаўленне пісьменніка да простага люду падкрэслена пазітыўнае: яго можна назваць гуманным. Просты люд не проста выведзены на літаратурную сцэну. З сваім культурным асяроддзем — фальклорам, індывідуальнай мовай, патрыярхальным ладам жыцця — ён становіцца аб'ектам інтарэсу і мастацкага адлюстравання. Просты люд сімвалізуе маральнае здароўе, а значыць, дае надзею на адраджэнне нацыі. Пытанне пра яго ідэнтычнасць не ставіцца. Як адзначыў В. Булгакаў, паняцці «беларуская нацыя» або «ўяўленне пра Беларусь як пра бацькаўшчыну беларусаў» адсутнічаюць у дыскурсе Баршчэўскага, як і любыя згадкі пра беларускую дзяржаўнасць у мінулым.

У канцы кожнага тома «Шляхціца Завальні» быў анонс, што ў кнігарні на Неўскім праспекце, у доме лютэранскай кірхі св. Пятра, уваход ад цукерні Дамініка, будзе прадавацца новы твор: Białoruś w fantastycznych opowiadaniach Jana Barszczewskiego. Невядомыя прычыны, па якіх апошні, чацвёрты, том выдаў ужо не Ян Энерлінг: на адвароце тытульнага аркуша набрана: «Выдаў і выправіў карэктуру сам Аўтар». Цэнзураваў «Шляхціца Завальню, альбо Беларусь» (да першага тома быў дададзены другі тытул менавіта з такой назвай) пецярбургскі цэнзар Ігнат Іваноўскі[2].



*Дзмітрый Вінаходаў каля помніка Яну Баршчэўскаму, Расонскі раён*

У пачатку XXI ст. творчасцю Яна Баршчэўскага зацікавіўся пецярбуржац **Дзмітрый Алегавіч Вінаходаў** (нар. у 1968 г. у Пушкіне). Штуршок далі дзве падзеі: знаёмства з артыкулам Генадзя Каханоўскага пра Баршчэўскага ў кнізе «Памяць. Расонскі раён» і наведванне месца, дзе некалі стаяла родная вёска бабулі Дзмітрыя Вінаходава — Малюцічы, што па-суседству з роднай вёскай Я. Баршчэўскага Мурагі (абедзве вёскі цяпер не існуюць). Выпускнік Санкт-Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута (скончыў у 1993 г.), доктар біялагічных навук (2007), Дзмітрый Вінаходаў звярнуў увагу на незвычайнасць назвы альманаха Яна Баршчэўскага «Niezabudka» — бо кветка незабудка па-польску называецца niezapomnianka. Пазнаёміўшыся з працай Р. Трусмана «Этымалогія

[1] *Булгакаў В.* Гісторыя беларускага нацыяналізму. Менск, 2006.

[2] Józefowicz-Wisińska E. Książki wydawnictw petersburgskich w lubelskiej księgarni S. Arcta // Белорусский сборник. Вып. 3. С. 167–169.

мясцовых назваў Віцебскай губерні» (Рэвель, 1897), заўважыў, што назва роднай вёскі Баршчэўскага Мурагі мае дакладную сугучнасць з балтызмам muragas, што па-латышску значыць «незабудка». Гіпотэза пра тое, што ў назве вядомага альманаха зашыфравана назва роднай вёскі складальніка, захапіла даследчыка. Ён пачаў глыбей вывучаць дзейнасць і біяграфію Яна Баршчэўскага, пераклаў «Шляхціца завальню» на рускую мову, заснаваў у інтэрнэце сайт, прысвечаны земляку-беларусу: http://www.barszczewski.spb.ru.

Шмат беларускай польскамоўнай шляхты гуртавалася вакол пецярбургскага грамадска-палітычнага тыднёвіка «Край» (“Kraj”), які выходзіў з 1882 да 1909 г. Кароткай, але этапнай з'явай польскамоўнай журналістыкі Пецярбурга была газета «Слова» (“Słowo”), якую ў 1859 г. пачаў выдаваць ураджэнец Лепельшчыны **Іасафат Агрызка**. Ён меў сваю друкарню, дзе ўжо друкаваліся часопісы «Народная бяседа», «Салдацкі часопіс», «Архітэктурны веснік», «Часопіс Міністэрства народнай асветы», «Горны часопіс». Падчас паўстання 1863 г. за ўдзел у сепаратысцкім руху Агрызку арыштавалі, газета была забаронена. У 1864 г. Агрызка асуджаны і сасланы ў Іркуцк, друкарня была прададзена.

Дзейнасць польскамоўных газет і часопісаў прывяла да стварэння асобнай супольнасці — «пецярбургскай палоніі», да якой належала шмат выхадцаў з Беларусі. Але агульная палітычная накіраванасць прывяла да крызісу гэтай супольнасці. У 1917—1921 гг. многія з пецярбургскай «беларускай палоніі», асабліва з ліку інтэлігенцыі, выехалі з галоднага і халоднага Петраграда ў Польшчу. З тых, хто застаўся, большасць была рэпрэсаваная ў 1936—1938 гг. як «польскія шпіёны».

У другой палове XIX ст. журналістыка зрабілася (паводле А. Франса) рэлігіяй сучаснага грамадства, і гэта быў прагрэс. Асобныя выдаўцы і журналісты ўжо не так былі заўважныя на фоне прэсы горада, як у часы Булгарына і Сянкоўскага, хай сабе і мелі не меншы талент і былі рухавікамі прагрэса. Пастыры не абавязаны былі верыць, паства — таксама. Прыйшлі новыя людзі, колькасць выданняў рознага кірунку значна павялічылася. У Пецярбургу з'явіліся ліберальны «Голас» (1863—1884) і салідны «Новы час» (1868—1917), афіцыйны «Урадавы веснік» (1869—1917) і, з 1880 г., «Біржавыя навіны» — першыя пяць гадоў як штодзённая газета, а потым — два выпускі на дзень, да самай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Партыя канстытуцыйных дэмакратаў («кадэтаў») кантралявала газеты «Речь» (1906—1917) і «Сучаснае слова» (1907—1918). З 1910 г. легальна выходзіла прабальшавіцкая газета «Звязда», а з 1912 г. ёй на змену — «Праўда». Газеты прывучаюць чытача думаць пра тое, чаго ён не ведае, і ведаць тое, чаго не разумее — заўважыў член-карэспандэнт Пецярбургскай Акадэміі навук, гісторык Васіль Ключэўскі.

Сярод часопісаў асаблівым поспехам карысталіся «Огонёк» (1899—1918), багата ілюстраваная «Ніва» (1870—1918), «Прырода і людзі» (1889—1918). Найбольш уплывовымі часопісамі былі «Веснік Еўропы» (1866—1918), «Рускае багацце» (1866—1918), «Свет Божы» (1897—1906, далей да 1918 г. выходзіў пад назвай «Сучасны свет»). Апошні быў найбольш ліберальны і друкаваў эканамічныя артыкулы марксістаў. Шмат было часопісаў па мастацтве і гісторыі: «Апалон» (1909—1917), «Свет Мастацтва», «Рускі архіў» (1863—1917), «Руская даўніна» (1870—1918), «Гістарычны веснік» (1880—1917), «Жывая даўніна» (1890—1916), «Старыя гады» (1907—1916). У трэцяй чвэрці XIX стагоддзя вялікай папулярнасцю чытачоў (і падтрымкай вайсковых уладаў) карысталіся часопісы «Салдацкая бяседа», «Народная бяседа» і «Адпачынак і справа» (для салдат і матросаў), якія выдаваў ураджэнец Полацка **Аляксандр Фаміч Пагоскі** (1816—1874). Чытачам падабаліся найперш шматлікія апавяданні самога выдаўца, з ілюстрацыямі земляка і сябры, мастака М. Мікешына. Пасля смерці Аляксандра Пагоскага, у памяць аб ім Вольнае эканамічнае таварыства нават заснавала залаты медаль «За лепшы твор у галіне народнай літаратуры».

Журналісцкай дзейнасці прысвяціў сябе выхадзец з віцебскай шляхты **Вісарыён Вісарыёнавіч Камароў** (1838—1907). Кар'еру ён пачынаў як вайсковец: закончыў 2-і кадэцкі корпус і ў 1861 г. Мікалаеўскую акадэмію Генеральнага штаба. Тады ж служыў афіцэрам па асобых даручэннях пры М. Мураўёве і К. Каўфмане ў Вільні, у 1869—1870 гг. быў начальнікам штаба 37-й пяхотнай дывізіі. Падчас службы Вісарыён Камароў супрацоўнічаў у «Голасе», «Рускім інвалідзе», «Маскоўскіх ведамасцях». У 1871 г. ён заснаваў кансерватыўна-апазіцыйную газету «Рускі свет». У 1876 г. палкоўнік расійскага Генштаба Камароў адправіўся ў Сербію, дзе заняў пасаду начальніка штаба Цімока-мараўскай арміі М. Чарняева і атрымаў чын генерала сербскай арміі. Падчас руска-турэцкай вайны 1877—1878 гг. Вісарыён Камароў апынуўся на Балканах, але ўжо ў якасці журналіста. Пасылаў у Пецярбург па-

драбязныя і прафесійныя рэпартажы з тэатра вайсковых дзеянняў. Гэтыя рэпартажы друкавала галоўная газета краіны — «Санкт-Пецярбургскія ведамасці», дзе Вісарыён Вісарыёнавіч з 1877 г. стаў рэдактарам. Будучы перакананым кансерватарам, В. Камароў у газеце пісаў (пасля заканчэння вайны) пра неабходнасць скарачаць выдаткі на армію, зазначаючы пры гэтым, што «змяншэнне вайсковага бюджэту патрабуе агульнай рэфармацыі цяперашняй вайсковай сістэмы і сучасных вайсковых парадкаў, а не скарачэння кадраў». У студзені 1881 г. «Санкт-Пецярбургскія ведамасці» паведамлялі пра стан здароўя пісьменніка Фёдара Дастаеўскага, пра яго скон і пахаванне, а Вісарыён Камароў шмат высілкаў паклаў на тое, каб пісьменнік быў пахаваны ў Аляксандра-Неўскай лаўры, і прытым бясплатна — выпадак выключны па тых часах! Газета пры Камарове страціла ліберальнага чытача, мела відавочна слабы раздзел мастацкай крытыкі, у якім аглядальнік мог, прыкладам, вобраз Хрыста ў карціне Крамскога ўбачыць як «абадранца... які сядзіць на камені і сумуе аб тым, што раней ці пазней, а за кантрабанду давядзецца трапіць у рукі правасуддзя». Журналіст Міхневіч зрабіў з'едлівую выснову, сказаўшы, што пры Камарове газета не мела «ні таленту, ні сваёй думкі, ні фізіяноміі, ні зместу, ні чытачоў» і ад гэтага яе называлі «ведамасці для бабулек»[1].

У 1883 г., пасля заканчэння кантракта з «Санкт-Пецярбургскімі ведамасцямі», В. Камароў усе сілы накіраваў на працу ў заснаванай ім новай таннай штодзённай газеце «Свет», дзе сам часта пісаў перадавыя артыкулы ваяўнічага характару. Акрамя газет, Вісарыён Камароў у 1886—1891 гг. выдаваў часопіс «Звязда», а ў 1889—1891 «Славянскіе Известія».

Яшчэ адзін беларус-вайсковец у гэты ж час займаўся журналістыкай. У 1873 г. газету «Рускі свет», што заснаваў В. Камароў, набыў яго зямляк **Міхаіл Рыгоравіч Чарняеў** (1828—1898). Газета выходзіла штодзень, з усіх вялікіх палітычных газет яна была самай таннай — дзякуючы сродкам князя А. Лабанава-Растоўскага, які адчуваў сябе ахвярай ваенна-канцылярскага рэжыму і быў салідарны са славянафіламі. Новы выдавец таксама быў апазіцыянерам ваеннай бюракратыі і шукаў выйсце ў яднанні і ўзаемадапамозе славянскіх народаў. А новы выдавец — Міхаіл Чарняеў — быў постаццю легендарнай. Нарадзіўся ён у маёнтку Тубышкі Магілёўскага павета ў сям'і памешчыка-беларуса і францужанкі Эсфір Лекюе, з якой бацька пазнаёміўся падчас французскага паходу расійскай арміі ў 1814 годзе. Сямігадовым хлопчыкам Міхаіла з Тубышак і берагоў рэчкі Вабіч перавезлі на берагі Нявы. Выхоўваўся ў Кадэцкім корпусе на Васільеўскім востраве, пазней вучыўся ў акадэміі Генеральнага штаба, у генерала Івана Сухазанета. Падчас Крымскай вайны Чарняеў быў у Севастопалі, удзельнічаў ва ўсіх бітвах севастопальскай кампаніі: ад бітвы пад Інкерманам 24 кастрычніка 1854 г. да Малахава кургана. Пазней служыў на Каўказе і ў Арэнбургскім краі. У 1864 г. невялікі атрад Чарняева дзейнічаў у Сярэдняй Азіі: заняў крэпасць Аўліе-Ата і ў чэрвені 1864 г. узяў штурмам Чымкент, які лічыўся непрыступным: войскі пранiклі ў крэпасць па водаправодзе, праз адтуліну ў сцяне крэпасці, і гарнізон быў так уражаны з'яўленнем няпрыяцеля ў горадзе, што не даў ніякага адпору. Дзейнічаючы на свой страх, Чарняеў у ноч з 14 на 15 чэрвеня 1865 г. узяў штурмам Ташкент. Пад яго камандай на той час было каля 2 тыс. чалавек пры 12 гарматах, а 100-тысячны Ташкент абараняла 30 тыс. чалавек войска. Сярод трафеяў былі 63 гарматы. Дыпламатычны ціск Англіі прывёў да адстаўкі Міхаіла Чарняева ад камандавання. Лічачы сябе пакрыўджаным, Чарняеў у газеце праявіў сябе ненавіснікам пецярбургскага ваенна-канцылярскага рэжыму і зблізіўся з колам маскоўскіх патрыётаў-славянафілаў, якія групаваліся вакол І. Аксакава. У 1876 г. Чарняеў — галоўнакамандуючы сербскай арміяй, ваяваў з туркамі ў Югаславіі. У 1878 г. ён вярнуўся ў Пецярбург, дзе перадаў правы на выданне «Рускага свету» іншым асобам. Кола сяброў, знаёмых і аднадумцаў Міхаіла Чарняева ў значнай ступені беларускае — гэта славянафілы-прафесары А. Будзіловіч і М. Каяловіч, пісьменнік Ф. Дастаеўскі, журналісты М. Сямеўскі і В. Камароў, мастак М. Мікешын, вайскоўцы Д. Наглоўскі і І. Гурка.

Беларускія сюжэты прысутнічалі амаль ва ўсіх згаданых выданнях, аднак яны губляліся ў масе агульнарасійскай інфармацыі. Тым не менш вызначэнне «беларускі» набыло дастатковую акрэсленасць і не патрабавала спецыяльнага тлумачэння, напрыклад:

[1] *Шерих Д. Ю.* Голос родного города. Очерк истории газеты «Санкт-Петербургские ведомости». СПб., 2001. С. 140—150.

«Конегадоўля ў беларускіх сялян» (артыкулы В. Хлюдзінскага ў «Земляробчай газеце» за 1874 г.), «Некалькі слоў пра беларускую народную паэзію і беларускіх паэтаў» (серыя ананімных артыкулаў «Ілюстраванай газеты» у 1866 г.) і да т. п. Шматлікія пецярбургскія журналісты ў асвятленні беларускага пытання арыентаваліся на думку крытыка Мікалая Дабралюбава, які ў 1860 г. пісаў пра беларусаў у часопісе «Сучаснік»: «Адносна беларускага селяніна справа даўно вырашаная: затурканы канчаткова так, што нават пазбаўлены магчымасці карыстацца чалавечымі здольнасцямі. Не ведаем, у якой ступені памылковае гэтае меркаванне, таму што не вывучалі спецыяльна беларускага краю; аднак паверыць яму, зразумела, не можам. Цэлы край так вось узялі і затуркалі, — як бы не так!.. Ва ўсялякім выпадку пытанне пра характарыстыку беларусаў павінна хутка быць растлумачана працай мясцовых пісьменнікаў. Паглядзім, што скажуць самі беларусы».

У 1853 г. у Пецярбургу пад крыптанімам «Е. П.» выйшаў зборнік «Народныя беларускія песні». Больш як праз 100 гадоў літаратуразнаўцы высветлілі, што пад крыптанімам «Е. П.» схавалася шляхцянка **Лізавета Паўлоўская** (1830–1915), дачка армейскага афіцэра І. Паўлоўскага[1]. Адукаваная жанчына адчула важнасць захавання фальклору і запісала ў Быхаўскім і Рагачоўскім паветах больш як 100 народных песень. Аднак няведанне навуковых правілаў запісу і «панская» пагарда да сялян нашмат абясцэнілі выданне. «Я ні ў чым не змяніла песень, пісала так, як чула, аднак не захавала асаблівасцяў беларускай вымовы і прыняла рускі алфавіт», — паведамляла збіральніца ў кароткай прадмове. У тым жа 1853 г. на гэтае выданне далі пазітыўны водгук пецярбургскія часопісы «Сучаснік» (Т. 42) і «Айчынныя запіскі» (Т. 90), прычым ананімны рэцэнзент з «Айчынных запісак» (гэта мог быць іх новы супрацоўнік Мікалай Чарнышэўскі) заўважыў: «Гэтае “незахаванне асаблівасцяў беларускай вымовы”, канечне, карысная справа для велікарускіх чытачоў, бо яны лягчэй зразумеюць народныя песні беларусаў, аднак, шмат каго можа заблытаць. Шмат хто падумае, што верш беларускі вельмі блізкі да вялікарускага...». Свае літаратурныя здольнасці Лізавета Паўлоўская выкарыстала каб апісаць (у 1875 г. у часопісе «Семейные вечера») дзяцінства сына Уладзіміра, які стаў літаратарам[2].

Ён падпісваўся псеўданімам «Дзядлоў», што значыла назву роднай вёскі ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губерні: Дзядлова (іншая назва Фёдараўка). Сапраўднае імя яго было **Уладзімір Людвігавіч Кігн** (1856–1908). Бацька пісьменніка быў патомны дваранін нямецкага паходжання, лютэранін. Пасля заканчэння юрыдычнага факультэта Пецярбургскага універсітэта Уладзімір Кігн служыў у камісіі для састаўлення праектаў мясцовага самакіравання Міністэрства унутраных спраў — гэта была праца па рэалізацыі ідэі неабходнасці максімальна поўнага нацыянальнага самавызначэння — адзінага спосабу пазбавіцца расколу і смуты ў сучаснай Расіі. «Літаратура, творы мастацтва і вандроўкі па беламу свету былі тры яго асноўныя захапленні», — пісаў пра Уладзіміра Кігна сучаснік. Яго мастацкую прозу друкавалі часопісы «Неделя», «Рускае багацце», «Назіральнік», «Ніва» і інш. Асноўны герой — малады неўрасценік, які пакутуе ад несупадзення жыцця з «ідэалам». Сюжэт, як звычай, — гісторыя расчаравання, афарбаваная песімістычнай рэфлексіяй, у бытавых дэталях і дыялогах ёсць гумар і жывыя назіранні. Дзядлоў пакінуў кнігі з апісаннем падарожжаў па Італіі, Егіпце, Турцыі і Францыі, шмат пісаў назіранняў аб засваенні Сібіры, мастацтвазнаўцы і зараз высока цэняць яго кнігу «Кіеўскі Уладзімірскі сабор і яго творцы мастакі». У сваёй творчасці часам звяртаўся да беларускіх сюжэтаў[3]. У 1904 г. Дзядлоў ездзіў у Маньчжурыю як карэспандэнт газеты «Слова», у якой надрукаваў серыю нарысаў «Штацкія на вайне». Пасля вяртання, у 1906 г., уступіў у члены манархічнага «Рускага сходу». Быў забіты на абедзе ў грамадзянскім клубе акцызным кантралёрам Кляцэцкім, прычым страляць Дзядлоў пачаў першы. Следчыя высветлілі, што ў яго «падчас ап'янення з'яўляліся галюцынацыі, прымаў навакольных за злодзеяў і забойцаў».

Ужо згаданы журналіст, пісьменнік і грамадскі дзеяч беларускага паходжання Адам Ганоры Кіркор у 1867 г. перавёз у Пецярбург уласную віленскую друкарню. На яго заказ гаспадар віленскай словалітні Ліпман Мац атрымаў дазвол на пасылку ў сталіцу, для друкарні Кіркора, 1,5 пуда рускіх

[1] *Букчин С. В.* Народ издревле нам родной. Русские писатели и Белоруссия. Минск, 2003. С. 173.
[2] Семейные вечера. Отдел для детей. 1875. № 10–12.
[3] *Дедлов.* «Облава. Белорусские силуэты» // Пчела. 1877. № 23–25.

шрыфтоў, а праз кароткі час — яшчэ 12 пудоў living рознага шрыфту[1]. Друкарня размясцілася на Фантанцы, за Анічкавым мостам, у доме Руадзэ. Выданнем, якое злучыла віленскую традыцыю з новым пецярбургскім прадпрыемствам, стаў зборнік «Законоположения и правительственные распоряжения до римско-католической церкви в России, относящиеся со времени царствования царей Петра и Иоанна Алексеевичей с 1669 по 1867 год», які пачалі друкаваць у Вільні, а скончылі ў горадзе над Нявой. З 1 студзеня 1868 г. на Фантанцы пачалі друкаваць газету А. Кіркора «Новы час» (заяўлены другі рэдактар, М. Юматаў, справамі газеты практычна не займаўся). 27 лістапада гэтага ж года за «рэзкую» перадавіцу ў № 210 рэдактар атрымаў першае цэнзурнае папярэджанне, а за фельетон у № 46 за 1869 г. яму аб'явілі другое цэнзурнае папярэджанне, пасля якога было забаронена распаўсюджванне газеты ў розніцу. Кіркор не здаваўся. У 1871 г. ён змяніў фармат выдання і пашырыў змест, уключыўшы бібліяграфічны аддзел, а таксама зрабіў газету штодзённай (да гэтага было 5 нумароў на тыдзень). Аднак за перадавыя артыкулы ў №№ 18, 22, 23 і 25 за 1871 г. газета атрымала трэцяе цэнзурнае папярэджанне са спыненнем выдання на шэсць месяцаў. Укладзеныя сродкі не акупаліся, Кіркор аб'явіў сябе «несостоятельным должником» і спыніў выданне. Такім чынам, пасля трох гадоў змагання з фінансавымі цяжкасцямі, за падпісчыкаў і супраць рэакцыйных калег-публіцыстаў, прадпрыемства правалілася. Адам Кіркор у 1872 г. з'ехаў у Кракаў і заняўся навукай — гісторыяй і археалогіяй. «Новы час» ён прадаў Мікалаю Устралаву, ад якога ў 1876 г. газета перайшла ў сямейны клан выдаўцоў Суворыных, стала адной з самых тыражных і аўтарытэтных расійскіх газет і выходзіла да кастрычніцкага перавароту 1917 г.[2].

Вядучымі супрацоўнікамі папулярнага пецярбургскага часопіса «Свет Божы» былі Уладзімір Краніхфельд і Ангел Багдановіч. Ураджэнец Гарадка (Віцебская губерня) **Ангел Іванавіч Багдановіч** (1860–1907). Ён закончыў Ніжагародскую гімназію, два гады (1880–1882) навучаўся на медыцынскім факультэце Кіеўскага універсітэта. За сувязь з кіеўскай групай рэвалюцыйнай арганізацыі «Народная воля» Ангела Багдановіча саслалі пад нагляд паліцыі ў Казанскую губерню, потым у Ніжні Ноўгарад. У 1893 г. ён пераехаў у Пецярбург і стаў супрацоўнікам часопіса «Рускае багацце». Пісаў агляды правінцыйнага друку. Праз год перайшоў у філасофскі часопіс «Свет Божы», дзе неўзабаве стаў членам рэдакцыі, вядучым публіцыстам і крытыкам, адным з найбольш папулярных у дэмакратычным асяроддзі. Ангел Багдановіч вёў актыўную палеміку з народнікамі і далучаўся да «легальнага марксізму» — гэтая пазіцыя вызначае сэнс артыкулаў Багдановіча пра А. Чэхава, Г. Успенскага, М. Горкага, В. Верасаева і многіх іншых пісьменнікаў. Жыў на Надзеждзінскай, 19. Пахаваны на «Літаратарскіх мастках» Волкавых могілак. Ураджэнец Бельска Падляскага **Уладзімір Паўлавіч Краніхфельд** (1865–1918) пасля смерці бацькі, з 14 гадоў жыў самастойна: зарабляў урокамі, вучыўся ў Пінскім рэальным вучылішчы, далучыўся да расійскага рэвалюцыйнага руху. З 1904 г. ён стаў членам рэдакцыі часопіса «Свет Божы», вёў у ім раздзел «Журнальныя водгукі». Тут была надрукавана серыя праграмных для часопіса публіцыстычных артыкулаў У.Краніхфельда, у якіх ён падкрэсліваў «ідэйную і маральную сувязь з рускай сацыял-дэмакратыяй, не вырашаючы пытання аб арганізаваным зліцці з ёй». Неаднойчы выступаў супраць бальшавізму, крытыкуючы Уладзіміра Леніна, Льва Троцкага, Анатоля Луначарскага за «утапічныя настроі» і «безапеляцыйную катэгарычнасць». Пасля закрыцця ў верасні 1906 г. часопіса і аднаўлення яго пад назвай «Сучасны свет» Краніхфельд стаў загадчыкам аддзела крытыкі часопіса, шмат паспрыяўшы выпрацоўцы марксісцкай крытычнай думкі. Па абвінавачванню ў парнаграфіі ў 1913 г. адседзеў некалькі месяцаў у Петрапаўлаўскай крэпасці, а ў 1914 г. пераехаў з Пецярбурга ў Кіеў.

Знакамітым дзеячам пецярбургскай газетнай журналістыкі быў **Ілля Уладзіміравіч Вальфсон** (нар. 15 снежня 1882 г. у Віцебску). Вяршыня яго службовай кар'еры — упраўляючы (з 1907 г.) галоўнай канторай газеты «Речь». Шырокую вядомасць Ілля Вальфсон атрымаў як складальнік і выдавец даведніка «Газетны свет» (выйшаў у Пецярбургу двума выданнямі, у 1910 і 1912 гг.), а таксама кнігай «Практыка газетнага выдаўніцтва»

[1] *Brensztejn M.* Adam-Honory Kirkor wydawca, redaktor i wlasciciel drukarni w Wilnie od roku 1834 do 1867. Wilno, 1930.

[2] Как возникла газета «Новое время» (страничка из истории публицистики) // Вестник всемирной истории. 1899. Декабрь. № 1. С. 156–159.

(Петраград, 1919). **Еўдакім Раманаў**, які выпускаў свой вядомы «Беларускі зборнік», быў карэспандэнтам сталічнай газеты «Бераг», куды дасылаў матэрыялы пра жыццё вясковай інтэлігенцыі і сялян Магілёўшчыны і Віцебшчыны. Адным з «каралёў» пецярбургскай прэсы стаў ураджэнец Мазыра, сын мазырскага равіна **Аляксандр (Аўрам) Рафаілавіч Кугель** (1864—1928), які ў 1897—1918 гг. выдаваў часопіс «Тэатр і Мастацтва» і быў у ім адным з вядучых аўтараў. Шырока вядомым паэтам, драматургам і публіцыстам стаў у Пецярбургу **Мікалай Максімавіч Мінскі** (1856—1937). Ён нарадзіўся ў беднай габрэйскай сям'і ў Глыбокім, сапраўднае прозвішча яго было Віленкін. Пасля заканчэння з залатым медалём Мінскай гімназіі і юрыдычнага факультэта Пецярбургскага універсітэта, Мікалай Мінскі працуе прысяжным павераным у Пецярбургскай судовай палаце, але адвакацкай практыкай амаль не займаўся, зарабляючы на жыццё літаратурнай працай, а таксама ў якасці выхавацеля дзяцей барона Гарацыя Гінзбурга. Як журналіст і белетрыст працаваў у Пецярбургу сын каваля-габрэя з мястэчка Малеч Пружанскага павету Гродзенскай губерні **Мікалай Восіпавіч Пружанскі** (1846 — пасля 1918), карыстаючыся папулярнасцю чытаючай публікі.

Значных поспехаў дасягнуў у журналістыцы **Уладзімір Баскін** з Вільні — ён быў загадчыкам музычнага аддзела «Пецярбургскай газеты», аўтарам манаграфічных нарысаў пра А. Рубінштэйна, А. Сярова, П. Чайкоўскага, М. Мусаргскага, вострым палемістам і паслядоўным апанентам Уладзіміра Стасава, ідэалагічна скіраваным на еўрапейскія шляхі развіцця расійскай музыкі. У розных пецярбургскіх выданнях літаратар Апалон Апалонавіч Карынфскі ў 1913—1914 гг. надрукаваў шэраг лірычных вершаў Янкі Купалы ў сваіх перакладах[1] — прызнанне сталічнай прэсы рабіла ўплыў на непрыхільнікаў беларускага слова як на Беларусі, так і ў самой сталіцы.

У Пецярбургскім часопісе «Адукацыя» доўгі час супрацоўнічаў ураджэнец Капыля **Леў Навумавіч Клейнбарт** (1875—1950). Ён закончыў гімназію ў Слуцку і ў 1896 г. паступіў у Пецярбургскі універсітэт — спачатку на прыродазнаўчы, а потым перавёўся на юрыдычны факультэт. З 1897 г. Леў Клейнбарт удзельнічаў у студэнцкім руху, універсітэт так і не скончыў. Супрацоўнічаў у многіх дарэвалюцыйных пецярбургскіх часопісах, найбольш цесна кантактаваў з выдаўцом часопіса «Адукацыя» Астрагорскім (рэдакцыя часопіса мясцілася на вул. Махавой, 33). Часта ў лістах Астрагорскі паведамляе, што часопіс атрымаў цэнзурныя кары менавіта з-за матэрыялаў Клейнбарта. Ды й сам аўтар неаднойчы дасылаў лісты ў часопіс ці да Астрагорскага з пецярбургскіх турмаў, куды трапляў за рэвалюцыйную дзейнасць. Праз рэдакцыю часопіса Леў Клейнбарт пазнаёміўся з будучым савецкім наркамам асветы Анатолем Луначарскім. Да 1917 г. і пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі Леў Клейнбарт падтрымліваў маладую беларускую літаратуру — садзейнічаў выданню вершаў Янкі Купалы, пісаў крытычныя артыкулы пра асобных пісьменнікаў, урэшце, выдаў кнігу «Маладая Беларусь», якая стала першай грунтоўнай савецкай працай па беларускім літаратуразнаўстве. Жыў Леў Навумавіч на Малым праспекце Васільеўскага вострава, 19, потым на 11-й лініі Васільеўскага вострава, 28.

Беларуская тэматыка гучала ў горадзе і дзякуючы аўтару папулярнага рамана «Пецярбургскія трушчобы» Усеваладу Крастоўскаму. У свой час ён служыў у 14-м уланскім Ямбургскім палку, які кватараваў у Свіслачы і Гродне. Пад ураджаннем беларускага жыцця Крастоўскі стварыў дылогію «Крывавы пуф», куды ўвайшлі два раманы: «Панургавы статак» (1869) і «Дзве сілы» (1874). У гэтых раманах — літаратурная рэфлексія на выніхі паўстання 1863 г.; былі ў Крастоўскага лірычныя і побытавыя апавяданні з апісаннямі прыроды і беларускіх звычаяў: «На траве», «Белавежская пушча», «Базарны дзень у Свіслачы». Збор твораў Усевалада Крастоўскага выйшаў у Пецярбургу ў 1899—1900 гады і складаўся з 8 тамоў.

Вялікай папулярнасцю ў другой палове XIX стагоддзя карыстаўся пецярбургскі часопіс «Руская даўніна». Заснаваў яго ў 1870 г. ліберальны гісторык **Міхаіл Іванавіч Сямеўскі** (1837—1892), ураджэнец Полацка і выпускнік Полацкага кадэцкага корпуса. Навучанне ў сценах былой Полацкай акадэміі (менавіта ў яе будынку размяшчаўся Полацкі кадэцкі корпус), карыстанне кнігамі са старой езуіцкай бібліятэкі, старажытныя партрэты і фізічныя прылады — усё гэта зрабіла кадэта Міхаіла Сямеўскага гісторыкам. Біяграфія заснавальніка, а таксама наступ-

[1] Напрыклад, верш «Гарэлка», надрукаваны ў снежні 1913 г. у газеце «Трезвая жизнь», вершы «Каб я князем быў», «Песня сонцу», «Мой дом» — у студзені 1914 г. у «Педагогическом листке» і інш.

нага пасля Міхаіла Сямеўскага рэдактара, выхадца з віцебскай шляхты, вайсковага інжынера, пазней дырэктара Імператарскай Публічнай бібліятэкі Мікалая Шыльдэра тлумачаць вялікую кольскасць датычных Беларусі гістарычных матэрыялаў на старонках часопіса. Сацыяльна-палітычнае, эканамічнае і культурнае жыццё Беларусі «Руская даўніна» адлюстравала ў публікацыях М. Дубровіна «Рускае жыццё ў пачатку 19 стаг.» (1902–1903), мемуарах Г. Дабрыніна (1871), І. Жыркевіча (1890), М. Ляскоўскага і В. Марчанкі (1896), К. фон Мартэнса (1902), М. Палявога (1910), А. Полаўцава (1913), нататках К. Арнольдзі (1873) і А. Рманоўскага (1877) пра вайну 1812 г. на Беларусі. Значнае месца займалі матэрыялы пра паўстанне 1863–1864 гг.: праца М. Берга «Польскае паўстанне ў 1863–1864 гг.» (1879), мемуары ўдзельнікаў і сведак паўстання А. Гейнрыха (1883) і У. Баратынскага (1886), запіскі М. Мураўёва (1882–1884) і чыноўнікаў яго адміністрацыі А. Масолава (1883–1884), В. Куліна (1893), І. Нікоціна (1902–1904). У 1886 г. П. В. Шэйн у артыкуле «Прыгоннае права ў народных песнях (№ 2-3) надрукаваў тэксты беларускіх народных песень і балэнду «Гутарка Данілы са Сцяпанам».

Знайшлося месца для беларускай тэмы і на старонках часопіса «Сын айчыны», які выдаваў і рэдагаваў ў 1856–1861 гг. А. Старчэўскі. У артыкуле «Беларуская літаратура» (1856, № 32) разглядаліся асаблівасці беларускай мовы, сцвярджалася магчымасць існавання беларускай літаратуры, станоўча ацэньвалася творчасць Вінцука Дуніна-Марцінкевіча. Што і казаць — такое і не марылася на Беларусі, дзе змагаліся польскі і расійскі ўплывы. Пецярбург стаўся вышэй таго змагання. У 1862 г. часопіс «Сын айчыны» быў рэарганізаваны ў танную штодзённую палітычную, літаратурную і навуковую газету для масавага чытача і ў такім выглядзе выданне праіснавала да 1901 г. Беларускія сюжэты працягвалі з'яўляцца на старонках, прынамсі 28 красавіка 1900 г. газета адгукнулася на смерць Францішка Багушэвіча нататкай «Позняя слава». Невядомы аўтар адзначыў, што паэт кароткі час быў звязаны з Санкт-Пецярбургам — у 1861 г. Францішак Багушэвіч прыехаў і паступіў тут на фізіка-матэматычнае аддзяленне універсітэта (паўстанне 1863–1864 гг. прымусіла яго змяніць намер і пакінуць Пецярбург).

Пастаянным супрацоўнікам часопіса «Сын айчыны» быў з 1857 г. **Павел Міхайлавіч Шпілеўскі** (1827–1861), які надрукаваў тут цыкл фельетонаў (часам скандальных) «Дзённік знаёмага чалавека». У рэцэнзіі на п'есу Шпілеўскага «Дажынкі» (1857, № 8) часопіс адзначаў маляўнічы паказ у творы беларускага народнага абраду. Павел Шпілеўскі паходзіў з сям'і святара, нарадзіўся ён у вёсцы Шыпілавічы Бабруйскага павета. У 1843 г. закончыў Мінскую духоўную семінарыю, у 1847-м — Санкт-Пецярбургскую духоўную акадэмію. Пасля яе заканчэння Шпілеўскі шэсць гадоў выкладаў славеснасць у Варшаўскім павятовым духоўным вучылішчы, потым выйшаў з духоўнага ведамства і перабраўся ў Пецярбург. У 1853–1855 гг. ён чытаў лекцыі ў Пецярбургскім галоўным педагагічным інстытуце, нарэшце пайшоў «на вольны хлеб» — працаваў як журналіст у часопісах «Музычны і тэатральны веснік», «Ілюстрацыя», «Рускі свет», «Мастацтва» і іншых. Друкаваўся былы семінарыст пад псеўданімамі Драўлянскі і Барон Ікс. Дзякуючы Паўлу Шпілеўскаму беларуская тэма шырока загучала ў пецярбургскай перыёдыцы. Яшчэ ў 1846 годзе ён надрукаваў у «Часопісе Міністэрства народнай асветы» артыкул «Беларускія народныя павер'і», пазней у гэтым жа аўтарытэтным выданні ён працягваў артыкул пра беларускія павер'і. Нарысы і артыкулы Шпілеўскага «Апісанне пасольства Льва Сапегі ў Маскву ў 1600 годзе» (1850), «Народныя прыказкі, з тлумачэннем паходжання і тлумачэння іх» (1852), «Даследаванні пра ваўкалакаў» (1853), «Мазыршчына (з падарожжа па заходнярускаму краю)» (1859), «Паездка ў заходнія губерні» (1860), «Беларускія прыказкі», «Падарожжа па Палессі і Беларускім краі» («Сучаснік», 1853–1855) і «Беларусь у характарыстычных апісаннях і фантастычных яе казках» і інш. — былі першымі буйнымі публікацыямі ў рускім перыядычным друку, прысвечаныя Беларусі. Іх з цікавасцю сустрэлі чытачы і крытыка. Прынамсі на гістарычныя і фальклорныя цыклы артыкулаў Шпілеўскага адгукнуўся рэцэнзіямі Мікалай Чарнышэўскі, што спрыяла павелічэнню грамадскага рэзанансу беларускай тэматыкі. Абавязковым момантам працы расійскага крытыка было параўнанне беларускіх абрадаў і забабонаў з рускімі і вылучэнне іх адрозненняў.

У творчасці П. Шпілеўскага можна гаварыць пра кампраміс паміж расійскім і польскім кірункамі, а таксама пра бясспрэчны культурны ўплыў Яна Баршчэўскага. У «Даследаванні пра ваўкалакаў» Шпілеўскі пераказаў, калі не сказаць пераклаў, апавяданне са «Шляхціца Завальні» «Ваўкалак»,

змяніўшы імёны герояў ды пазначыўшы, што яго дзеянне адбываецца «ў Аршанскім павеце Магілёўскай губерні». У 1853 г. П. Шпілеўскі публікуе, таксама ў Пецярбургу, сваю версію «Беларусі ў фантастычных апавяданнях» пад назвай «Беларусь у характарыстычных апісаннях і фантастычных яе казках» («Пантэон», 1853–1854, 1856). Артыкул узнік пад уплывам «Шляхціца Завальні», пра што сведчаць і назва, і спасылкі на вобразы гэтага твора (напрыклад, князя Боя і яго сабак Стаўры і Гаўры). Але поле інспірацый Шпілеўскага было значна больш шырокае, хоць рамантызм усё-такі пераважае ў яго апісаннях. Сучасны беларускі філосаф Валер Булгакаў характарызуе тэзісы Шпілеўскага пра усеагульную адсталасць Беларусі, якой імперыя нясе прагрэс і асвету, як «жыўцом узятыя з дыскурсу расейскага каляніялізму».

Паўлу Шпілеўскаму належыць адна з першых у гісторыі спроба стварэння слоўніка і граматыкі беларускай мовы: «Слоўнік і каранясловў беларускай гаворкі» (1845, рукапіс). Акрамя альбарутэнікі, яго цікавілі фальклор і мова іншых насельнікаў Вялікага Княства Літоўскага («Нарысы Жмудзі», 1855). У 1853 г. ён выдаў асобнай кніжкай «Беларускія народныя прымаўкі», а ў 1858 г. — «Падарожжа па Палессі і Беларускім краі»[1]. Брат яго, Сяргей Міхайлавіч Шпілеўскі (1833–1907) быў вядомым гісторыкам і працаваў спачатку выкладчыкам Дзямідаўскага ліцэя ў Яраслаўлі, а потым прафесарам Казанскага універсітэта.

Сярод пецярбургскіх літаратараў канца XIX стагоддзя нельга не ўспомніць **Матвея Лявонцевіча Пяскоўскага** (1843–1903). Сын святара з Віцебскага павета, пасля заканчэння Віцебскага духоўнага вучылішча і Полацкай духоўнай семінарыі Матвей Пяскоўскі працаваў выкладчыкам у Дзісненскім прыходскім вучылішчы, справаводцам і бухгалтарам дырэкцыі народных вучылішчаў у Вільні. Здольны юнак не спыніўся, аднак, на гэтых пасадах. Пасля сканчэння ў 1870 г. прыродазнаўчага аддзялення Пецярбургскага універсітэта ён некаторы час працуе ў Вільні, потым у Вятцы, а ў 1874 годзе пераязджае ў Пецярбург, дзе да 1977 г. працуе выхавацелем малалетніх зняволеных у Літоўскім замку. Пабачыўшы злоўжыванні турэмнай адміністрацыі, Матвей Пяскоўскі раскрыў іх у нататках для газеты «Голас». Узнік канфлікт з начальствам турмы і суды, пасля якіх Пяскоўскі вымушаны быў выплаціць грашовы штраф за «агалашэнне ў друку вывадаў камісіі» і звольніцца з працы. Перайшоўшы на літаратурную працу, Пяскоўскі стаў у 1876–1878 гг. фактычным сурэдактарам часопіса «Рускі агляд», а пасля — сакратаром буйнейшага пецярбургскага кнігавыдаўца Маўрыкія Восіпавіча Вольфа і адначасова супрацоўнікам выдаваных Вольфам часопісаў «Новь», «Задушэўнае слова». Прапагандаваў неабходнасць рэформы народнай адукацыі, падрыхтаваў двутамовае публіцыстычнае даследаванне аб жыдоўскім пытанні ў Расіі, сцвярджаючы неабходнасць «поўнага грамадзянскага раўнапраўя» габрэйскага насельніцтва. Застаўшыся пасля смерці жонкі з пяццю малымі дзецьмі, Матвей Лявонцевіч ажаніўся другі раз на сваячніцы Уладзіміра Ульянава (Леніна) Кацярыне Вераценнікавай. З-за цяжкага матэрыяльнага становішча пісьменнік неаднойчы звяртаўся за дапамогай ў прафсаюз літаратараў і Касу ўзаемадапамогі літаратараў і вучоных. Жыццё скончыў у прытулку для душэўнахворых.

Калі зірнуць на пецярбургскую перыёдыку любога часу, можна знайсці дастаткова многа выданняў, якія выхадцы з Беларусі альбо заснавалі, альбо ў іх супрацоўнічалі. У кожны гістарычны перыяд любыя праблемы Беларусі лёгка рабіліся прадметам жывога абмеркавання ў сталічнай прэсе. А значыць, можна было праз гэтую прэсу уплываць на беларускія справы.

«...З 1863 г. узбудзілася ў жыцці вялікага арганізма Расійскай дзяржавы пытанне пра так званыя нацыянальнасці, г. зн. пытанне аб тым, каб зраўняць па магчымасці пярэстасць, якая заўважаецца на ўскраінах Расіі, і ўсталяваць аднастайнасць ў гэтай пярэстасці ва ўсіх магчымых адносінах: ва ўстановах, у мове, у звычаях, у прамовах, нават у касцюмах, — пісаў Уладзімір Спасовіч. — Змаганне гэтае, амаль не заўважнае ў цэнтры дзяржавы, праяўляецца ў прамовах, артыкулах, агульных распараджэннях, на месцы выбухае нашмат больш рэзка з-за сутыкнення матэрыяльных інтарэсаў»[2]. Гэтую думку цалкам пацвярджае супастаўленне артыкулаў беларускай тэматыкі ў сталічных і мясцовых беларускіх выданнях. Супрацівам такой тэндэнцыі было навуковае вывучэнне культуры ўскраін, у тым ліку і беларускай. На працягу 1860–1880-х гг.

[1] *Кузняева С. А.* Русская дореволюционная печать и советское литературоведение о Павле Шпилевском // Книга в Белоруссии. Минск, 1981.

[2] *Спасович В. Д.* Избранные труды и речи. Тула, 2000. С. 198–199.

у Пецярбургу выйшлі зборнікі беларускай народнай творчасці, якія падрыхтавалі Пётр Гільтэбрант і Павел Шэйн. Дванаццаць беларускіх народных песень у перакладах А. Майкава і М. Гербеля былі ўключаны ў зборнік «Паэзія славян» (СПб., 1871), характарыстыка беларускай народнай творчасці заняла значнае месца ў «Гісторыі славянскіх літаратур» А. Пыпіна і У. Спасовіча (СПб., 1879) — мы ўзгадалі толькі частку выданняў гэтай тэматыкі.

Зборнік П. Шэйна «Белорусские народные песни» (1874), гісторыка-этнаграфічныя працы М. Нікіфароўскага «Старцы», «Дудар і музыка» пра побыт Віцебшчыны ў часопісе «Этнографическое обозрение», «Смоленский этнографический сборник», ч. I, СПб. (1891) У. Дабравольскага і каля трох дзесяткаў яго фальклорных публікацый і навуковых прац у перыёдыцы — гэта далёка не ўсё, што публікавалася ў Пецярбургу па беларускім фальклоры.

Найбольшага ўздыму беларуская фалькларыстыка дасягнула ў 1880–1890-я гг. Разам з тым пачынаецца навуковае асэнсаванне беларускага фальклору. У гэтай галіне асабліва выявіў сябе Яўхім Карскі, які прысвяціў фальклору трэці том свайго фундаментальнага даследавання «Белорусы». Цікавымі высновамі і назіраннямі вызначаюцца працы М. Янчука і М. Доўнара-Запольскага.

Пачынаючы са зборніка «Беларускія песні, сабраныя І. І. Насовічам» (1873), у Пецярбургу досыць часта з'яўляюцца выданні фальклору. Акрамя ўжо згаданых выданняў, варта вылучыць «Беларускія песні» (1904) — запісы з Радашковіцкай воласці дацэнта Пецярбургскага універсітэта А. Разенфельда або «Зборнік народных песень, запісаных у пасёлку Калюга-Камарна Рагазянскай воласці Кобрынскага павета Гродзенскай губерні І. Е. Бычко-Машко» (1911) і інш. Выданні беларускага фальклору, якія падрыхтавалі энтузіясты, выходзілі і пазней. Прыкладам, у 1911 г. у Пецярбургу выйшаў зборнік народных песень (з нотамі), сабраных у Дзятлавіцкай воласці Гомельскага павета **Зінаідай Радчанка**[1]. Фалькларыстыка XIX — пачатку XX ст. стала, па сутнасці, асобнай галіной этнаграфічнай навукі, якая вывучала адлюстраванне побыту, матэрыяльнай і духоўнай культуры народа, яскрава засведчыла духоўнае багацце беларусаў. Гэта вельмі станоўча ўплывала на развіццё найноўшай літаратуры, прадстаўнікі якой звяртаюцца да фальклорнага багацця па гістарычныя прыклады або для стварэння тых ці іншых навуковых канцэпцый.

Каштоўнасці беларускага фальклору ў апрацоўцы пецярбургскіх літаратараў праз кнігі і пецярбургскія часопісы рабіліся агульнарасійскім здабыткам. Адным з наступстваў гэтага працэсу было тое, што выхадзец з Беларусі лягчэй знаходзіў сябе ў расійскай сталіцы, будаваў сваё жыццё ў Пецярбургу. Веравызнаўчая і моўная рознасці, якія ў Вільні ці Мінску маглі б гэтаму замінаць, ва ўмовах пецярбургскай талерантнасці асаблівымі перашкодамі не з'яўляліся. Выходзіла на тое, пра што напісаў яшчэ ў XVIII ст. пад уплывам Дзяржавіна паэт-беларус Сакольскі:

Хоть люди верой отдалены,
Народ хоть здесь разноплеменный,
Доволен счастьем всяк своим[2].

[1] *Радченко З.* Сборник малорусских и белорусских народных песен Могилевской губ. (Гомельского уезда, Дятловичской волости): (180 песен) / Записаны для голоса Зинаидой Радченко. – Б. м., 1911 (СПб.: Тип. Главного управления уделов). – VII, 3 45, 80 с.: нот. – Ноты (С. 3 45 2 й паг.) надрукаваны ў: Нотопечатня В. Бессель и К°.

[2] *Мальдзіс А.* Таямніцы старажытных сховішчаў. Мн., 1974. С. 144.

# Раздзел 6.

## РАЗБУДОВА, АРХІТЭКТУРА, АСАБЛІВАСЦІ ПОБЫТУ ПЕЦЯРБУРГА Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XIX СТАГОДДЗЯ

Другая палова XIX ст. — гэта перыяд імклівага росту Пецярбурга, яго насельніцтва, яго палітычнага і культурнага значэння; эканамічнае развіццё працягваецца вельмі высокімі тэмпамі. За параўнальна кароткі гістарычны перыяд насельніцтва горада павялічылася ў чатыры разы: пасля скасавання прыгоннага права на заробкі прыбывала шмат сялян. «Пскоўскі ды Віцебскі народ самы Піцерскі» — нарадзілася ў той час народнае выслоўе. Часта пераязджалі ў сталіцу і прадстаўнікі пануючых класаў. Толькі за чатыры гады, з 1841 да 1845 г., 505 чалавек шляхты Заходняга краю аформілі пашпарты ў Пецярбург для службы і навучання[1]. Калі ў 1858 г. у горадзе было 497 тысяч жыхароў, то ўжо ў сярэдзіне 1890-х гг. яго насельніцтва перавысіла мільён (паводле перапісу 1897 г. — 1267 тыс. чалавек), а да пачатку Першай сусветнай вайны дасягала двух мільёнаў чалавек. Пецярбург па колькасці жыхароў заняў трэцяе месца сярод гарадоў Еўропы пасля Лондана і Парыжа. У горадзе быў наладжаны строгі ўлік жыхароў у Адрасным стале, пра які ў 1848 г. газета «St.-Petersburgische Zeitung» расказвала так: «...мы не можам не згадаць адну кнігу, якая не толькі належыць да ліку самых выдатных, што выйшлі ў Санкт-Пецярбургу і, напэўна, з'яўляецца адзінай кнігай такога кшталту ў свеце. Гэтая кніга налічвае мільён старонак, яе лісты змацаваны жалезнымі стрыжнямі, а яе пераплётам з'яўляецца цэлы паверх аднаго вялікага будынка. Гэтая гіганцкая кніга займае верхні паверх Управы (што знаходзіцца на Вялікай Садовай вуліцы насупраць Юсупаўскага саду) і ўяўляе сабой так званы Адрасны стол, які, нягледзячы на тое, што існуе ўжо пяць гадоў, толькі цяпер стаў дастаткова поўны. Ён яшчэ не да такой ступені добра вядомы, як таго заслугоўвае, дзякуючы той карысці, якую ён можа прынесці, і рацыянальнасці сваёй структуры.

Варта каму-небудзь пераехаць на іншую кватэру, а згодна з афіцыйнымі дадзенымі, кожны дзень у Санкт-Пецярбургу адбываецца 2000 такіх пераездаў, як гаспадар дома запаўняе разасланы ўсім домаўладальнікам афіцыйны бланк, у якім паказвае імя і званне новага наймальніка, і ў сваю чаргу адсылае бланк ва ўпраўленне квартальнага паліцэйскага чыноўніка, які без затрымкі перадае гэты дакумент у Адрасны стол. У Адрасным жа стале дастаткова невялікай колькасці служачых для таго, каб класіфікаваць атрыманыя бланкі па сацыяльным становішчы пазначаных у іх асоб і па алфавіце. Такі бланк — ён мае дзве вялікія круглыя дзіркі — лёгка надзець на два круглыя металічныя стрыжні, якія можна расшпіліць пасярэдзіне, дзякуючы гэтаму з іх у любы момант можна лёгка зняць любы лісток альбо ж надзець новы. Доўгія рады такіх стрыжняў з нанізанымі на іх лістамі ў ідэальным парадку літаральна запаўняюць сабой вялікія памяшканні. Таму патрабуецца ўсяго некалькі хвілін, каб вызначыць месца жыхарства таго альбо іншага нікому невядомага пецярбуржца, які да ўсяго пераехаў учора на новую кватэру»[2].




*Паштоўка з відам Неўскага праспекта*

Ішлі дзесяцігоддзі, змяняліся пакаленні пецярбуржцаў, з'яўляліся новыя грамадскія патрэбы, распачыналася новае будаўніцтва, зносілі і перабудоўвалі старыя пабудовы. Калі ў 1805 г. у горадзе налічвалася 7280 дамоў, то ў 1811 г. было ўжо 22 224 дамы (у тым ліку 11 280 мураваных), а ў 1895 г. — 29 000 дамоў (больш за палову — мураваныя). За патрэбамі часу змянялася архітэктура будынкаў. Узнікалі новыя кварталы, складаліся архітэктурныя ансамблі — шмат з іх сталі

[1] *Горизонтов Л. Е.* Парадоксы имперской политики: поляки в России и русские в Польше. М., 1999. С. 44.

[2] *Гринченко Н. А.* Хранитель Императорской Публичной библиотеки Рудольф Минцлов. Жизнь и труды. Рукапіс — з ласкавай згоды аўтара.

сапраўднымі шэдэўрамі горадабудаўніцтва, увайшлі ў скарбніцу сусветнага дойлідства. У пачатку XIX ст. дамінаваў класіцызм — выдатнымі ўзорамі гэтага стылю сталі Казанскі сабор, Біржа, Аляксандрынскі тэатр і шматлікія іншыя. Імклівая забудова стала прычынай эвалюцыі і змены (на мяжы 30-х і 40-х гг. XIX ст.) архітэктурных стыляў. Ад класіцызму рушыла да эклектыкі. Яна да другой траціны XIX ст. развілася ў так званыя неастылі (неабарока, неаракако, неаготыка і інш.), якія ў сукупнасці вызначаюцца паняццем «гістарызм». Творчы геній знакамітых архітэктараў, памножаны на працу тысячаў «работных людзей», ператварылі Пецярбург у адзін з прыгажэйшых гарадоў свету. Да сёння ў горадзе захавалася шмат помнікаў кожнага з гэтых стыляў, і мы маем магчымасць, за парадай Фёдара Дастаеўскага, «угледзецца ў Пецярбург больш уважліва, вывучыць яго фізіяномію і прачытаць гісторыю горада і ўсёй нашай эпохі ў гэтай масе камянёў, у гэтых шыкоўных будынках, палацах, манументах»[1] і разглядаць беларускі Пецярбург на іх фоне. У 1887 г. епіскап-беларус Ніканор (Браўковіч), які апынуўся ў Пецярбургу праз дваццаць гадоў пасля апошняга яго наведвання, адзначыў змены такім запісам у дзённіку: «...адправіўся я ў Аляксандра-Неўскую лаўру. У гэтым канцы Неўскі праспект моцна змяніўся да лепшага. Набудаваны цэлыя палацы, і паміж імі кранулі пачуцці прысадзістыя, убогія, аблупленыя будыначкі, да якіх маё вока прызвычаілася з дзяцінства. Няшмат іх засталося, але сям-там засталіся»[2]. Не забудзем і на тое, што «спажыўцамі» архітэктурных і інжынерных дасягненняў рабіліся ўсе гараджане, хаця доля кожнага была рознай і істотна залежала ад сацыяльнага і маёмаснага становішча чалавека:

> Столица наша чудная,
> Богата через край.
> Житьё в ней нищим трудное,
> Миллионерам — рай.

Вялізны горад нарадзіў адрозны ад правінцыйных губернскіх (не кажучы пра павятовыя) рытм жыцця. Гэта адразу адчуў Адам Кіркор, які ў 1846 г. першы раз прыехаў у паўночную сталіцу. Ён з захапленнем піша рэдактару віленскага часопіса «Атэнэум» пра Неўскі праспект, параўноўваючы гэтую магістраль з магутным і небяспечным для караблёў цячэннем ў Нарвежскім моры:

«Прыпомні сабе, шаноўны пане рэдактар, віруючы, шумны і гучны Мальстрым з вечна разяўленай пашчай, з вечнай ненасытнай прагай новых ахвяр, з беспярапынным гукам і шумам — такім выдаецца Неўскі праспект. Не кажучы ўжо пра надзвычайную шырыню гэтай вуліцы, пасярэдзіне якой свабодна маглі б стаць вялікія пабудовы, а пазасталыя два бакі заўсёды фармавалі б досыць шырокія вуліцы, не кажу пра цудоўныя гмахі, пра тысячы шыльдаў разнастайнай велічыні і фасону. У гэтую хвіліну хачу толькі сказаць пра той надзвычайны рух, які адужвае і як бы забірае чалавека ў свой вір. Ідэя жыцця, руху, — гэта Неўскі Праспект! Як хочаш ва ўяўленні ўвасобіць поспех, трэба яго бачыць з тысячма людзей, што запоўнілі тратуары і тысячма вазкоў, што як бліскавіца ляцяць вуліцай. Трэба дадаць яшчэ, што тут усе спяшаюцца, да чагосьці імкнуцца, усе зацікаўленыя, занятыя сабой, нічога не бачаць, нічога не чуюць, толькі дарогу перад сабой»[3]. Дысанансам выглядаюць першыя ўражанні іншага беларуса, юрыста Люцыяна Бохвіца: «...Горад са сваімі простымі вуліцамі, палацамі, закутай у граніт велізарнай ракой і цэлай сеткай меншых рэк і каналаў, рабіў вялікае ўражанне сваёй велічынёй і знешняй пыхай, але адразу адчуваўся дзіўны холад і адчужанасць гэтага вялізнага горада. Адчувалі гэта нават прыродныя расіяне, якія прыязджалі ў сталіцу з цэнтральнай Расіі»[4].

Галоўным відам транспарту ў Пецярбургу заставаліся рамізнікі, на якіх ездзілі прадстаўнікі ўсіх саслоўяў. Значная колькасць прыехаўшых на заробкі рамізнікаў-беларусаў канцэнтравалася ў сяле Смаленскім (пазней раён Палеўскага праспекта, там дзе цяпер станцыя метро «Елізараўская»). У 1847 г. з'явіўся першы грамадскі транспарт — омнібус. Двухконная (альбо чатырохконная) запражка цягнула адкрыты вагончык, у салоне якога былі ўпоперак размешчаны сядзенні для 10–16 пасажыраў. Пры кепскім надвор'і бакавыя сцены вагончыка зацягвалі тканінай. Праезд каштаваў 10 кап. у адзін канец; гэта было нядорага, і пасажыраў набівалася шмат. Гараджане

[1] *Достоевский Ф. М.* ПСС., Л., 1978. Т. 18. С. 24.

[2] Записки высокопреосвященного Никанора, архиепископа Херсонского и Одесского. М., 1907. С. 45.

[3] Wrazenia Petersburga // "Athenaeum". Wilno, 1846. T. IV. S. 204–227.

[4] *Bochwic L.* Wspomnienia uniwersyteckie. Warszawa 1882–1885, Petersburg 1885–1887. Z dawnych wspomnień sądowych. Wilno, 1938. S. 35.

хутка празвалі омнібусы «Абнімусь» альбо «Сорак мучанікаў». Омнібусы праіснавалі да 1914 г., было некалькі (да 10) маршрутаў, на якіх хадзілі вагончыкі рознага колеру. У 1862 г. было дазволена будаўніцтва ў горадзе чыгункі з коннай цягай (конкі), а ў 1863 г. ужо пачаўся рух конак па Неўскім праспекце, а потым па маршрутах Дварцовая плошча — 6-я лінія Васільеўскага вострава і Гасціны двор — Нікольскі рынак (па вул. Садовай). Булгарынская «Паўночная пчала» (№ 193 за 1863 г.) прысвяціла гэтай падзеі вялікую публікацыю, дзе, між іншым, паведамлялася наступнае: «У нядзелю, 1 верасня, пасля малебствія, у 3 гадзіны, рушыў ад царквы Дабравешчання (каля Мікалаеўскага моста) першы пасажырскі цягнік, які складаўся з двух вагонаў. За ім пачаўся ўжо правільны рух праз кожныя паўгадзіны ад вакзала Мікалаеўскай чыгункі да Дварцовага моста і назад. Вагоны вельмі добрыя і прасторныя; ехаць спакойна, цэны памяркоўныя... Прыслуга і кучар апранутыя чыста і акуратна. Коні дужыя і здаровыя. Праезд у адзін бок адбываецца за чвэрць гадзіны з усімі прыпынкамі, для прыёму пасажыраў — разоў восем». Металічныя вагоны конкі былі пафарбаваныя ў цёмна-сіні колер і мелі даўжыню 8 метраў. У салоне ўздоўж бакавых сцен стаялі дзве лаўкі (у першых вагонах былі мяккія сядзенні). Вінтавая лесвіца вяла з задняй пляцоўкі на дах — імперыял. Пасярэдзіне даху таксама былі дзве лаўкі, пасажыры сядзелі на іх спінай адзін да аднаго. Калі цямнела, у вагоне запальвалі керасінавыя ліхтары. Праезд у салоне каштаваў 5 кап., на імперыяле — 3 кап. Каб падняць вагон конкі на мост, падпрагалі дадатковых коней, якія дзяжурылі з абодвух бакоў моста.

Да 1877 г. у сталіцы дзейнічала 26 маршрутаў конкі агульнай працягласцю 84 вярсты. Напачатку конка была прадпрыемствам стратным, але з 1885 г. яна стала прыносіць прыбытак. У апошняй чвэрці XX стагоддзя з'явілася паравая конка. Гэта быў маленькі паравоз з прычэпленымі да яго вагонамі. Вагоны былі двух тыпаў: звычайныя, «коначныя», некаторыя з імперыяламі, і адкрытыя, летнія. Уздоўж усіх вагонаў праходзілі падножкі. Былі пракладзены дзве лініі паравога трамвая — Аляксандра-Неўская і Лясная. У 1847 г., адначасова са з'яўленнем омнібусаў на сушы, пачаліся рэгулярныя пасажырскія перавозкі па Няве. У 1850 г. здадзены ў эксплуатацыю першы сталы мост на Няве, паміж яе левым берагам і Васільеўскім востравам (Дабравешчанскі, пазней названы Мікалаеўскім, цяпер — лейтэнанта Шміта). Да гэтага часу масты былі наплаўныя летам і лядовыя — зімой.

У 1858 г. змянілася нумарацыя дамоў на гарадскіх вуліцах. Левы бок вуліцы стаў цотны, правы — няцотны. Гэты парадак захаваўся і цяпер. Выключэнне — вуліцы Ціпанава, Сызранская і Свеаборгская, Трамвайны праспект і Паўднёвая шаша. Па набярэжных і паралельных ім вуліцах нумары ўзрастаюць уніз па цячэнні рэк і каналаў. Выключэнне — набярэжныя Волкаўкі і Чорнай рэчкі. У 1865 г. для патрэбы жыхароў горада (і праверкі гадзіннікаў) пачалася захаваная да сёння традыцыя паўдзённага стрэлу з гарматы. Сігнал дакладнага часу паступаў з Пулкаўскай абсерваторыі па тэлеграфе. Напачатку стралялі з Адміралцейства, пазней гармата была перанесена на Нарышкін бастыён Петрапаўлаўскай крэпасці, адкуль страляе і сёння (сігнал дакладнага часу артылерысты прымаюць па радыё).

Вада ў рэках і каналах з часам рабілася ўсё менш і менш прыдатнай для ўжытку, але сапраўднага водаправода гараджане чакалі досыць доўга. Яго збудавалі ў 1859—1863 гг. і тое толькі для раёна паміж Нявой, Абводным каналам і ракой Пражкай (даўжыня сеткі — 108 вёрст). Галоўная воданапорная вежа была пабудавана на Шпалернай вуліцы, насупраць Таўрычаскага палаца. Ваду з Нявы



*Галоўная ваданапорная вежа Пецярбурга*

пампавалі паравыя помпы. Яна падымалася ў рэзервуар на вышыню 47 метраў і самацёкам разыходзілася па чыгунных трубах. У 1891—1893 гг. гарадскія ўлады аддалі ўсе водаправодныя работы «Гарадской выканаўчай камісіі па водазабеспячэнні ў С.-Пецярбургу». Камісія праводзіла работы па рамонце старых і будаўніцтву новых помпавых станцый, па ўстаноўцы фільтраў ачысткі вады. Актыўны ўдзел у гэтай працы прымаў беларус, галоўны механік санкт-пецярбургскіх водаправодаў **Цярэнці Мартынавіч Турчыновіч.** Акрамя практычнай працы, ён стаў вядомы і як аўтар кніжак пра механічныя водапад'ёмныя сродкі пецярбургскіх водаправодаў (1893) і праекта аптымальнага водазабеспячэння незарэчных частак Санкт-Пецярбурга (1911). У канцы XIX ст. сетка водаправода ў горадзе мела ў даўжыню ўжо 451 кіламетр.

Працы па добраўпарадкаванні не адпавядалі, аднак, патрэбам, і як вынік, санітарны стан Пецярбурга спрыяў росту эпідэмій, даючы шмат працы і санітарным урачам, і дактарам агульнага профілю. Сярод грамадзянскіх медыкаў, як і сярод вайсковых, мы сустракаем некалькі суайчыннікаў. Добрую памяць сярод пецярбуржцаў пакінуў пасля сябе доктар **Уладзімір Пятровіч Барэйша** (1838—1874). Нарадзіўся ён у Магілёўскай губерні, у 1861 г. закончыў курс Медыка-хірургічнай акадэміі са званнем лекара. Пасля выпуску служыў як урач ў выхаваўчым доме, Крыжаўзвіжанскай бальніцы сёстраў міласэрнасці і ў радзільным доме, пазней загадваў радзільным прытулкам Каломенскай часткі і быў звышштатным акушэрам пецярбургскай паліцыі. Барэйша пастаянна жыў у пецярбургскім раёне Каломна, побач з царквой Пакрова. Ён карыстаўся рэпутацыяй выдатнага доктара-практыка; галоўнай сваёй задачай лічыў дапамогу бедным хворым, якіх прымаў і ўдзень і ўначы ў вялікай колькасці. У апошнія гады жыцця ён прысвяціў сябе амаль выключна працы з дзецьмі і на працягу года прымаў дома да 4000 хворых. У 1866 г. Уладзімір Барэйша захварэў на сухоты, памёр у 1874 г. Шмат якія пецярбургскія газеты змясцілі пасля яго смерці спачувальныя некралогі, адзначаючы, што смуткавалі па памерлым не толькі члены сям'і, але і шматлікія пацыенты, галоўным чынам бедныя жыхары Каломны, якія страцілі добразычлівага і ўважлівага лекара.

Урач-беларус **Кандрат Іванавіч Грум-Гржымайла** (1794—1874) прыбыў у Пяцярбург з роднага Магілёва, дзе ён — выпускнік Віленскага універсітэта — у 1821—1828 гг. працаваў лекарам у ваенным шпіталі. У сталіцы Грум-Гржымайла прысвяціў сябе выданню штотыднёвай газеты «Друг здравія». Газета, якую Кандрат Іванавіч рэдагаваў больш трыццаці гадоў (з 1833 да 1868 г.), адыграла вялікую ролю ў медыцынскай навуцы і папулярызацыі медыцынскіх ведаў. Ён выдаў кнігі аб прафілактыцы воспы, аб мінеральных водах і гразях, аб лячэнні і выхаванні дзяцей; адкрыў і ўзначаліў у Пецярбургу «Оспопрививальное учреждение», займаўся дыетэтыкай. Адна з кніг гэтага таленавітага чалавека называлася «Фізіялогія паэзіі і шчасця» (СПб., 1865).

Яшчэ адзін доктар, ураджэнец Магілёўшчыны, стаў вядомым псіхіятрам. **Атон Чачот** (1842—1924) нарадзіўся ў маёнтку Днесін Магілёўскай губерні. Закончыў Віцебскую гімназію. Медыцынскую адукацыю пачаў ў Маскве, дзеля заняткаў псіхіятрыяй перавёўся ў 1863 г. на 4-ы курс Ваенна-медыцынскай акадэміі ў Пецярбург. Займаўся пад кіраўніцтвам свайго земляка прафесара Івана Балінскага. Скончыўшы акадэмію са срэбным медалём і грашовай узнагародай, Антон Чачот працаваў у бальніцы Пуцілаўскага завода як адзіны лекар, а таксама ў шпіталі Св. Мікалая Цудатворцы. Выступаў кансультантам камісіі па разглядзе праектаў псіхіятрычных бальніц, якія было вырашана пабудаваць ва ўсіх губернскіх гарадах Расіі. Пасля рэарганізацыі ў 1866 г. судаводства (паўсталі акруговыя суды, якія замянілі акруговых лекараў) быў судовым урачом у Пецярбургскім акруговым судзе. У 1874—1880 гг. працаваў кансультантам па нервовых хваробах Чалавекалюбівага Таварыства. З 1886 г. Антон Чачот — сапраўдны стацкі саветнік (генеральскі чын), правадзейны член Імператарскага геаграфічнага таварыства. Ён перанёс псіхіятрычны шпіталь Св. Мікалая Цудатворцы ў даўнюю магнацкую рэзідэнцыю з паркам — Новазнаменскае. Шмат гадоў запар летам практыкаваў у Пяцігорску, хадзіў разам з сынамі ў горы — на Бермамут, ледавікі Дэўдорак і Цэй. Так, дарогу на вяршыню Бештаў у групе гораў Пяцігорск—Кіславодск Атон праклаў разам з сынамі — да сёння яна называецца «сцежка Чачота». Яго сын Генрых стаў вядомым горным інжынерам.

З 1903 да 1919 г. у аптэках Пецярбурга працаваў **Станіслаў Лявонавіч Станкевіч** (1886—1964). Але для гэтага ўраджэнца Смаргоншчыны справай жыцця стала не фармацэўтыка, а выдавецкая справа, якой ён, пераехаўшы з рэвалюцыйнага Петраграда ў Вільню, займаўся рэшту жыцця. З 1901 г. на кафедры анатоміі ў Пецярбургскім жано-

чым медыцынскім інстытуце працаваў ураджэнец Навагрока **Якаў Зяльдовіч** (1869–1949). У перыяд Першай сусветнай вайны, не пакідаючы педагагічнай дзейнасці, ён кіраваў адным з лазарэтаў для параненых.

Медыцынскай працы з грамадзянскім насельніцтвам горада прысвяціў сябе **Міхаіл Георгіевіч Данілевіч** (1882–1956), які нарадзіўся непадалёк ад мястэчка Ула Лепельскага павета (цяпер Бешанковіцкі раён). У 1910 г. ён скончыў Ваенна-медыцынскую акадэмію, у 1912 г. прайшоў інтэрнатуру ў Выбаргскай дзіцячай бальніцы. Працаваў у Мікалаеўскай дзіцячай бальніцы, потым старшым урачом інфекцыйнага аддзялення бальніцы імя Філатава. Адначасова быў асістэнтам на кафедрах дзіцячых і інфекцыйных хвароб у Петраградскім медыцынскім інстытуце. Да рэвалюцыі ён жыў у доме № 30 на Вялікай Пад'ячаскай вуліцы. З 1925 г. Міхаіл Данілевіч загадваў Васілеастроўскай дзіцячай бальніцай. Працаваў у Ленінградскім педыятрычным медыцынскім інстытуце, Навукова-даследчым інстытуце дзіцячых інфекцый. Прафесар Данілевіч апублікаваў каля 150 навуковых прац, у тым ліку 5 манаграфій, прысвечаных пераважна такім хваробам, як шкарлятына, дыфтэрыя, дызентэрыя. Ён першы ў навуцы сфармуляваў паняцце «перакрыжаваных інфекцый», выявіў эфектыўнасць серапрафілактыкі адзёру. Быў членам праўлення Ленінградскага таварыства дзіцячых урачоў і Таварыства мікрабіёлагаў, эпідэміёлагаў і інфекцыяністаў, арганізатарам у Ленінградзе Камітэта па дзіцячых кропельных інфекцыях.

У 1835 г. было створана «Таварыства асвятлення Санкт-Пецярбурга газай». Акцыянеры Таварыства пабудавалі на Абводным канале газавы завод. У 1839 г. у горадзе запаліліся першыя газавыя ліхтары (іх было 204). Яны асвятлялі Дварцовую плошчу, Неўскі праспект ад Адміралцейства да Ліцейнага праспекта, Вялікую і Малую Марскія вуліцы, Мільённую вуліцу і інш. Газавыя ліхтары былі шмат ярчэйшыя за алейныя, але і каштавалі ў пяць разоў даражэй, таму распаўсюджваліся марудна. У 1849 г. з'явіліся ліхтары на спіртова-шкіпінарнай сумесі. Яны асвятлялі Ліцейны і Загарадны праспекты, Ісакіеўскую плошчу. Спіртавыя ліхтары былі даражэйшыя чым алейныя, але нашмат танней за газавыя. У 1858 г. у Пецярбургу было 8494 ліхтары, у тым ліку 936 газавых, 3132 алейныя і 4426 спіртавых. У сярэдзіне XIX ст. Гарадская дума вырашыла замяніць спіртавыя і алейныя ліхтары на керасінавыя (керасін называлі тады «мінеральнае масла»). Амерыканскі прадпрымальнік Шандар узяўся паставіць 7200 керасінавых ліхтароў. Адначасова павялічылася колькасць газавых ліхтароў — іх паставілі на Пецярбургскай і Выбаргскай старанах.



*Старыя ліхтары да сёння ўпрыгожваюць горад*

Першыя электрычныя ліхтары ў горадзе (па спосабе Яблачкава) з'явіліся ў 1879 годзе. Справу электрычнага асвятлення ўзяло ў свае рукі таварыства «Электратэхнік». У 1883 г. усю электрычную сетку горада скупіла таварыства «Рускія заводы Сіменс і Гальске». Адна за адной у горадзе з'яўляюцца электрастанцыі. Першая электрастанцыя была пабудавана паводле праекта А. Троіцкага і А. Папова (у будучым вынаходнік радыё) на левым беразе Мойкі, ніжэй Паліцэйскага моста. Яна пачала працаваць 30 снежня 1883 г. На Неўскім праспекце і часткы Марской вуліцы ўсталявалі 32 электрычныя ліхтары сілай святла 1200 свечаў кожны. Другая электрастанцыя была пабудавана на Казанскай плошчы (Неўскі, 27, у двары), трэцяя пастаўлена на баржы пры правым беразе Фантанкі вышэй Анічкава палаца, чацвёртая — каля цырка Чынізелі. У канцы XIX ст. было ўжо 15 электрастанцый. Яны асвятлялі не толькі вуліцы, але і палацы, асабнякі, тэатры, заводы. У 1887 г. за работу лямпачкі ў 10 свечаў на працягу гадзіны плацілі 2,5 кап., у 16 свечаў — 3,5 кап., у 25 свечаў — 5 кап. Пазней былі створаны электрычныя лічыльнікі.

Паралельна з ростам навуковага і культурнага патэнцыялу горада працягвалася фармаванне ягонага архітэктурнага аблічча. У

1839–1844 гг. архітэктар А. Штакеншнэйдэр пабудаваў манументальны Марыінскі палац, які закончыў з поўдня прастору Ісакіеўскай плошчы. Пры гэтым былі адкупленыя ў казну і знесеныя асабнякі XVIII стагоддзя. Марыінскі палац быў адсунуты ўглыб ад старой лініі забудовы, і перад ім апынулася дадатковая адкрытая прастора. Праз гэта і сам палац выглядаў больш імпазантна, і палепшыўся агляд Ісакіеўскага сабора, а павялічаныя памеры Ісакіеўскай плошчы сталі лепш суадносіцца з маштабам гэтага грандыёзнага будынка. Ісакіеўскі сабор, які спраектаваў француз Агюст Манферан, мае вышыню 101,5 метра, вагу — каля 300 тысяч тон, займае агульную плошчу больш як гектар. Будавалі сабор на працягу 40 гадоў — з 1818 да 1858 г. (праца над знешняй аздобай закончана ў часы граданачальніка Мацея Храпавіцкага, каля 1847 г.), будаўніцтва каштавала 23 256 тыс. рублёў срэбрам. З беларусаў на гэтай будоўлі найбольш вылучыліся інжынер **Клімент Ляшэвіч**, які спраектаваў сістэму вентыляцыі і ацяплення велізарнага будынка, і акадэмік жывапісу **Нікадзім Сільвановіч**, сааўтар цудоўных мазаік, якія ўпрыгожваюць алтар (Тайная вячэра) і інтэр'еры сабору (евангелісты). «У перспектыве Нявы стаіць волат Ісакіеўскі сабор, які супернічае ростам з адным з сямі цудаў старажытнага свету, з егіпецкімі пірамідамі, а прыгажосцю выканання – з рымскім калосам, храмам Святога Пятра. За Ісакіеўскім саборам ізноў новая плошча, яна ўтварылася ад злому дома Гранопула і аркамі праз Мойку, што прыбудаваныя да Сіняга моста. Супраціў гэтай плошчы красуецца новы палац цудоўнай архітэктуры. Такім чынам, уся гэтая частка горада... прыняла зусім новы выгляд і новыя памеры. Гэта новы горад.

Пойдзем далей — і вось заканчваецца пабудова Эрмітажа, альбо Музея прыгожых мастацтваў, а на рагу Неўскага праспекта зламаны стары дом імператарскага Вольнага эканамічнага таварыства і ўзвышаецца новы будынак, які ўваходзіць у склад фасаду Галоўнага штаба, і ўсё гэта ў добрым гусце, у каласальных памерах», — так апісваў горад у 1844 г. Фадзей Булгарын[1].

Час ад часу дзякуючы рэстаўратарам, якія адмываюць сцены ад сажы, сабор набывае першапачатковы выгляд, а змешчаны там у сацыялістычную эпоху маятнік Фуко спыніў сваё гушканне разам з сацыялізмам. З аглядна́й пляцоўкі купала сабора (для турыста з добрай фізічнай падрыхтоўкай) адкрываецца незвычайны від на горад. Купал Ісакіеўскага сабора відаць здалёк. У гады вайны, афарбаваны ў шэры маскіровачны колер, ён быў арыенцірам для нямецкіх бамбардзіровак, а вакол сабора стаяла мноства зенітных гармат.



*Ісаакіеўскі сабор*

З сярэдзіны XX ст. у цэнтры Пецярбурга пачалася хваля перабудоў першых паверхаў дамоў, асабліва на такіх ажыўленых гандлёвых вуліцах, як Неўскі праспект, Малая і Вялікая Марская, Гарохавая і інш. Замест не вельмі зручных кватэр у першых паверхах сталі размяшчаць памяшканні для гандлю, рознага кшталту атэлье і да т. п. Традыцыйных невялікіх вокнаў у сценах першых паверхаў было недастаткова для асвятлення гандлёвых памяшканняў і рэкламы тавараў, іх сталі пашыраць, ператвараючы ў шырокія вокны-вітрыны, пралёты якіх звычайна перакрывалі жалезнымі бэлькамі.

Мы не сустрэнем беларусаў сярод самых знакамітых архітэктараў Пецярбурга, аднак яны ў вялікай колькасці вызначацца сярод дойлідаў менш славутых і шматлікіх пецярбургскіх інжынераў-будаўнікоў. У 1842 г. імператар Мікалай I заснаваў Будаўнічае вучылішча, якое пазней называлася Будаўнічы інстытут альбо Інстытут грамадзянскіх інжынераў.

Сярод выпускнікоў гэтай вучэльні было шмат выхадцаў з Беларусі. Пасля заканчэння большасць з іх атрымалі накіраванне на пра-

[1] Северная пчела, 1844. № 210.

цу інжынерамі і архітэктарамі ў дзяржаўныя (губернскія) установы ўсёй неабсяжнай імперыі. Так, напрыклад, мінскі гімназіст Дамінік Каятанавіч Вайцэхоўскі (нар. у 1856 г.) пасля навучання ў Пецярбургу ўсё жыццё будаваў чыгункі на Усходзе Расіі, выкладаў у Саратаўскім тэхнічным вучылішчы, а мінчук Юстын Мікалаевіч Галяневіч (нар. у 1829 г.) працаваў у Пскове, Таўрыдскай губерні, ковенскім губернскім архітэктарам. У Коўне (Каўнасе) захаваліся некалькі дыхтоўных дамоў яго пабудовы, а ў наваколлі — некалькі мураваных цэркваў і 7 касцёлаў.

Некалькі чалавек аселі ў Пецярбургу – як на дзяржаўных пасадах, так і займаючыся прыватнай архітэктурнай і будаўнічай практыкай. Першы сістэматычны выклад новай творчай канцэпцыі гарадской «рацыянальнай архітэктуры» даў пецярбургскі архітэктар-педагог беларускага паходжання інжынер **Апалінар Каятанавіч Красоўскі** (1816–1875). Сын выкладчыка фізікі Віленскага універсітэта, ён закончыў у 1836 г. Інстытут Корпуса шляхоў зносін (цяпер Інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту) і застаўся выкладаць у інстытуце, а імя яго, як лепшага студэнта выпуска, было занесена на мармуровую дошку. У 1845 г. Красоўскі (меўшы 29 гадоў!) зацверджаны прафесарам архітэктуры ў Пуцейным інстытуце і адначасова пачаў выкладаць архітэктуру ў Горным інстытуце. Усё далейшае жыццё Апалінара Красоўскага было прысвечана напружанай педагагічнай дзейнасці. З 1850 да 1860 г. ён займаў пасаду інспектара Будаўнічага інстытута, зрабіў вялікую працу па паляпшэнні навучальнага працэсу (у прыватнасці, па ініцыятыве Красоўскага ў вучылішчы быў уведзены вучэбны праект па прамысловым будаўніцтве).

Разнастайнасць зацікаўленняў Апалінара Красоўскага і сёння выклікае захапленне: напачатку 1850-х гадоў ён адначасова выкладаў у вышэйшых навучальных установах практычную механіку, аналітычную геаметрыю, грамадзянскую архітэктуру і тэорыю прыгожых мастацтваў, а таксама напісаў шэраг артыкулаў па самых розных пытаннях будаўнічай і транспартнай тэхнікі. Яго кніга «Грамадзянская архітэктура» была выдадзена ў 1851 г. як падручнік па будаўніцтве і канструкцыях грамадзянскіх будынкаў і прызначалася для студэнтаў вышэйшых тэхнічных навучальных устаноў. Яна адразу ж прыцягнула ўвагу сучаснікаў навуковай глыбінёй, добрай методыкай выкладання архітэктуры і будаўнічага ўмельства. Неўзабаве яе аўтар быў абраны ганаровым абшчыннікам Акадэміі мастацтваў (вялікі гонар для інжынера) і ўзнагароджаны ордэнам Святой Ганны 2-й ступені. У сваім падручніку Апалінар Красоўскі даў выразны адказ на цэнтральнае пытанне тэорыі архітэктуры: «Лозунг наш — ператварэнне карыснага ў прыгожае». Абагульняючы галоўныя палажэнні сваёй канцэпцыі «рацыянальнай архітэктуры», ён прыйшоў да вельмі важнай высновы пра тое, што прагрэс будаўнічай тэхнікі, з'яўленне новых будаўнічых матэрыялаў і канструкцый павінны вызначыць развіццё новых архітэктурных формаў, і, урэшце, фарміраваць новы архітэктурны стыль. Прадаўжальнікамі ідэалагічных пабудоў і практычных распрацовак Апалінара Красоўскага ў пецярбургскай архітэктуры канца XIX – пачатку XX ст. будуць знакамітыя дойліды беларускага паходжання Мар'ян Лялевіч і Леў Шышко.

Вялікую ролю ў будаўніцтве Пецярбурга з 1885 г. адыгрывала таварыства «Лукашэвіч і К°». Арганізатарамі яго сталі віленчукі **Сільвіюш Баляслававіч Лукашэвіч** і **Георгій Георгіевіч Рабцэвіч**, а таксама віцяблянін **Канстанцін Іванавіч Ціхаміраў** — усе выпускнікі Інстытута грамадзянскіх інжынераў. Лукашэвіч і Ціхаміраў сталі прафесарамі ў сваёй alma mater: першы чытаў курс ацяплення і вентыляцыі будынкаў, другі выкладаў складанне архітэктурных праектаў. Георгій Рабцэвіч служыў архітэктарам пры будынках дзяржаўнага кантролю і тэхнікам пры санкт-пецярбургскай гарадской управе для агляду гандлёвых, прамысловых і да т. п. устаноў. Галоўнай спецыялізацыяй таварыства «Лукашэвіч і К°» сталі ацяпляльныя прыборы і печы для гарадскіх дамоў. Супольнікі паставілі печы і ацяпляльныя каларыферы ў Анічкавым палацы, на кватэры міністра фінансаў, у Міхайлаўскай артылерыйскай акадэміі, у Аляксандра-марыінскім вучылішчы сляпых, у двух дамах купца Елісеева, зрабілі сістэму пнеўматычнага ацяплення з вентыляцыяй у храме Уваскрэсення Хрыстова, у стайнях пры палацы вялікіх князёў Аляксея і Уладзіміра Аляксандравічаў у Царскім Сяле, у малой сінагозе, у кладавых і ашчаднай касе Дзяржаўнага банка, у Смольным саборы. Акрамя таго, таварыства займалася праектаваннем і мантажом хлебапякарных печаў, сістэм ацяплення пральняў і паравадзяного ацяплення ў вучылішчы барона Штыгліца, Міхайлаўскай артылерыйскай акадэміі, многіх бальніцах, заводах і дамах Пецярбурга. Працы было так шмат, што бракавала часу на архітэктурныя праекты — хіба толькі Канстанцін Ціхаміраў часам

за іх браўся. Ён пабудаваў гімназію на набярэжнай Крукава канала, барскі дом у маёнтку барона Корфа ў Бялай, дачы лейб-акуліста М. Ціхамірава і тайнага саветніка Тукмачова ў Азярках, механічную майстэрню Балтыйскага суднабудаўнічага завода[1]. Жыў Сільвіюш Лукашэвіч на 10-й лініі Васільеўскага Вострава у доме № 23, Канстанцін Ціхаміраў — на Траецкай, 83, Георгій Рабцэвіч — на Англійскім праспекце, 34.

Акрамя таварыства «Лукашэвіч і К°» прыватнай практыкай па арганізацыі ацяплення і вентыляцыяй будынкаў у Пецярбургу займаўся беларус **Клімент Адамавіч Ляшэвіч** (нар. у 1849 г.). Дыплом архітэктара ён атрымаў у 1872 г. за праект ацяплення і вентыляцыі Ісакіеўскага сабора. Клімент Ляшэвіч увёў у будаўнічую практыку шмат тэхнічных навінак: печкі з пустацелай цэглы, што ўпершыню былі ўжытыя ў доме Ададурава ў Свячным завулку, цагляныя духавыя цыліндрычныя калярыферы ў чахлах з бляхі (дом № 70 па Мойцы), вадзяное ацяпленне нізкага ціску ад кухоннай печы, электрычныя тэрмометры ў 5 бараках Аляксандраўскай бальніцы, паветраныя фільтры і інш. Займаўся К. Ляшэвіч таксама пытаннямі санітарна-гігіенічнага будаўніцтва: праектаваў і будаваў прыстасаванні для вываду з дамоў нечыстот, спальвання адкідаў. Пабудаваў некалькі дач у Азярках.

Ураджэнец Дынабурга **Баляслаў Антонавіч Бжастоўскі** (нар. у 1854 г.) пабудаваў альбо адрамантаваў з перабудовай шэраг будынкаў у цэнтры сталіцы: дом Санкт-Пецярбургскага страхавога таварыства на Неўскім, дом Любіенса на рагу Фантанкі і Вазнясенскага праспекта, гарадскія вучылішчы на 22-й лініі Васільеўскага Вострава і Малаохцінскім праспекце і інш., пад яго кіраўніцтвам адбываўся капітальны рамонт Александрынскага тэатра. Старшым архітэктарам дэпартаменту мытных збораў працаваў выпускнік Мінскай гімназіі **Уладзімір Аляксандравіч Лучынскі** (нар. у 1857 г.). Ён будаваў і перабудоўваў казармы брыгады памежнай варты, стайні і шпіталь той жа каманды, заводскія будынкі на Неўскім лесапільным заводзе, некалькі дамоў у Пецярбургу.

Іншыя беларусы — выпускнікі Інстытута грамадзянскіх інжынераў пасля навучання ў Пецярбургу раз'язджаліся па ўсіх кутках дзяржавы, паўсюль неслі высокую культуру будаўніцтва, самыя новыя тэхналогіі і прыстасаванні. Усіх іх успомніць немагчыма, вось звесткі пра некалькіх найбольш выдатных.

Выпускнік 1875 г. **Канстанцін Аляксандравіч Увядзенскі** служыў галоўным архітэктарам Брэста, падольскім, архангельскім, мінскім губернскім інжынерам. Сярод яго пабудоў на Беларусі — мураваныя цэрквы ў Моталі і Рыбалах, драўляны мост праз Буг, рэальнае вучылішча ў Мінску, там жа мураваны тэатр (паводле гатовага праекта), перабудова мінскай турмы.

Дзеяч беларускага нацыянальнага руху, паэт, архітэктар і будаўнік **Лявон Янавіч Вітан-Дубейкаўскі** (1869—1940) належыць да наступнага пакалення беларусаў-дойлідаў. Нарадзіўся ён у вёсцы Дубейкава Мсціслаўскага павета Магілёўскай губерні ў шляхецкай сям'і гербу «Вітан». Скончыў пецярбургскі Інстытут грамадзянскіх інжынераў (1903) і Французскую акадэмію архітэктуры (1909). У Смаленску малады інжынер заснаваў інжынерна-будаўнічае «Таварыства Л. Дубейкаўскі і К°» і фабрыку жалезабетонных вырабаў (1898). Аднавіў будынак Смаленскай губернскай пошты, скарбніцу ў Вязьме, будаваў і аднаўляў цэрквы і касцёлы ў Смаленску, Магілёве, Оршы, Крычаве, Мсціславе. У 1916 г. Лявон Вітан-Дубейкаўскі жыў у Петраградзе, тут ён выканаў паводле замовы ксяндза Будзькі праект касцёла для Янатруды Полацкага павета ў «беларускім» стылі. Аднак рэалізацыя гэтага — ужо зацверджанага — праекта не адбылася з прычыны рэвалюцыйных закалотаў. Ужо шмат пазней, у 1927 г., ён увасобіў ранейшую ідэю для праекта касцёла ў «беларускім» стылі ў Дрысвятах Браслаўскага павета. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Вітан-Дубейкаўскі нядоўга жыў у Варшаве, потым у Вільні, шмат будаваў, збіраў беларускі фальклор[2].

Яшчэ адзін вядомы будаўнік выхадзец са шляхты Віцебскай губерні **Уладзімір Аляксандравіч Сакалоўскі** (1874—1959) пасля заканчэння Інстытута грамадзянскіх інжынераў у 1901 г. ад'ехаў у Краснаярск на пасаду малодшага архітэктара Енісейскага губернскага ўпраўлення і застаўся ў Сібіры да канца сваіх дзён. З 1909 года ён — енісейскі губернскі архітэктар, за час працы стаў аўтарам больш як 197 архітэктурных праектаў. Будаваў

[1] *Барановский Г. В.* Юбилейный сборник сведений о деятельности бывших воспитанников Института гражданских инженеров (Строительного Училища) 1842—1892. Ч. 1—2. СПб., 1892—1893. С. 344.

[2] *Харэўскі С.* Беларускі стыль у будаўніцтве 1921—1939 гг. (Лявон Вітан-Дубейкаўскі) // Беларускі гістарычны зборнік. Вып. 18. Беласток, 2002. С. 206—213.

не толькі ў Краснаярску, але і ў Мінусінску, Енісейску, Ачынску, Канску. Будаваў у розных стылях: рыма-каталіцкі касцёл у Краснаярску ў псеўдагатычным, сінагогу ў Ачынску — у раманскім. Акрамя шматпавярховых даходных дамоў і асабнякоў, гасцініц, навучальных установ, цэркваў і грамадскіх будынкаў, ён будаваў масты, вакзалы і воданапорныя вежы ўздоўж Сібірскай чыгункі. У 1944–1946 гг. выконваў абавязкі начальніка Краснаярскага краявога аддзела па справах архітэктуры, пазней выкладаў у Сібірскім лесатэхнічным інстытуце.

Выпускнік віцебскай гімназіі **Іван Піліпавіч Дварэцкі** (нар. у 1834 г.) пасля навучання ў Пецярбургу працаваў інжынерам-архітэктарам у Вяцкай, Архангельскай і Курскай губернях, дзе пабудаваў 25 мураваных і 20 драўляных цэркваў, 6 вадзяных і 3 паравыя млыны, баракі для тыфозных хворых, гімназіі і шмат жылых дамоў.

За падрыхтоўку губернатарскага дома (капітальны рамонт з абсталяваннем пакояў імператара і драўлянага павільёна для світы) для цара Аляксандра II, які прыязджаў у Гродна паляваць на зуброў, атрымаў званне архітэктара **Піліп Кіпрыянавіч Ягалкоўскі** (нар. у 1831 г.). Ён закончыў Слонімскае шляхецкае павятовае вучылішча, вучыўся ў Пецярбургу ў Інстытуце грамадзянскіх інжынераў. У 1860-я гг. Піліп Ягалкоўскі ў Гродне перабудаваў са зменамі дом купца Салавейчыка, дом князёў Друцкіх-Любецкіх, паводле гатовых праектаў выканаў гарадскі тэатр і раскоснай сістэмы мост праз роў ракі Гараднічанкі[1].

Хіба больш, чым іншыя беларусы-будаўнікі, зрабіў для Пецярбурга – Ленінграда выпускнік Інстытута грамадзянскіх інжынераў 1896 г. **Леў Пятровіч Шышко (Шышка)** (1872–1943). Нарадзіўся ён у Царскім Сяле ў сям'і супрацоўніка Петраград-Варшаўскай чыгункі выхадца з Паўднёвай Беларусі Пятра Шышко. Бацька рана памёр, і сына ў складаных матэрыяльных умовах гадавала маці. З 1899 г. Леў Шышко працаваў як архітэктар Рыма-каталіцкай духоўнай калегіі і Аляксандра-Неўскай лаўры. У будынку рыма-каталіцкай Духоўнай акадэміі на 1-й лініі Васільеўскага Вострава, 52 з боку двара Леў Шышко пабудаваў касцёл Св. Іаана, у 1900—1901 г. паводле яго праекта ўзведзены будынак каталіцкай Духоўнай семінарыі (1-я Чырвонаармейская вуліца, 11). Яшчэ больш значная праца зроблена Шышко на тэрыторыі Аляксандра-Неўскай лаўры. Акрамя рэстаўрацыі старых будынкаў, гэта цэлы комплекс новых збудаванняў, якія ўпісаны ў старажытны ансамбль з такім густам і бездакорным разуменнем самога духу архітэктуры барока, што шмат хто з гараджанаў і нават спецыялісты прымаюць іх за творы XVIII стагоддзя. Найперш гэта трохарачныя вароты, якія сустракаюць наведвальнікаў лаўры адразу ж за гранітным мостам праз раку Манастырку. Ажурная чыгунная агароджа на высокім каменным падмурку прамалявана так упэўнена і выразна, што гаварыць пра стылізацыю альбо імітацыю не выпадае — гэта твор добрага майстра. Чыгунныя краты спалучаюцца з высокімі каменнымі пілонамі, быццам перанесеныя сюды з пецяргофскіх паркаў. Адзіную кампазіцыю з агароджай ствараюць двухколерныя барочныя вароты з цэнтральным вялікім і двума бакавымі арачнымі ўваходамі. Адразу ж за варотамі яшчэ дзве пабудовы, якія Леў Шышко ўдала спалучыў з астатнім ансамблем — гэта прычтавы дом (пабудаваны ў 1904–1910 гг.), дзе размяшчаліся багаты манастырскі архіў, рызніца і бібліятэка (пасля рэвалюцыі — Станцыя пералівання крыві) і невялікі двухпавярховы будынак канторы могілак.



*Леў Шышко. Будынак бібліятэкі і архіву праваслаўнай Духоўнай акадэміі*

На тым адрэзку Неўскага праспекта, які гараджане называюць Старанеўскім, лаўра здаўна валодала кавалкамі зямлі, на адным з якіх у пачатку XX стагоддзя было вырашана пабудаваць жылы дом. Праект Шышко атрымаў першую прэмію на конкурсе і быў рэалізаваны ў 1901–1903 гг. Па

[1] *Барановский Г. В.* Юбилейный сборник сведений о деятельности бывших воспитанников Института гражданских инженеров (Строительного Училища) 1842–1892. Ч. 1–2. СПб., 1892–1893. С. 394.



*Леў Шышко. Будынак гімназіі ў Саляным завулку*

сваёй цэльнасці і закончанасці, па лагічным абгрунтаванні вырашэння будынак на Неўскім праспекце, 153 з'яўляецца ці не адным з лепшых. Архітэктару ўдалося стварыць узорны вобраз якаснага жылога дому пачатку 1900-х гадоў. Манастырскае кіраўніцтва было задаволена не толькі архітэктурным вырашэннем, удалай планіроўкай, але і высокай якасцю працы, эканамічнасцю і хуткасцю выканання. Шышко ледзь не кожны дзень бываў на будоўлі, зважаючы на ўсе дэталі; адным з першых у Пецярбургу ён прымяніў тут порыстыя цэментава-вапнавыя растворы, больш моцныя ва ўмовах Поўначы, якія забяспечваюць хуткую прасушку і вентыляцыю сценаў. Паралельна з домам на Неўскім паводле праекта Льва Шышко будаваўся адзін з лепшых яго твораў і ўвогуле пецярбургскага мадэрну, вялікі дом № 44/2 на рагу Загараднага праспекта і Звянігарадскай вуліцы (1902—1903). Тут у поўнай меры выявілася майстэрства дойліда — дом на Загарадным з яго плаўна скругленым вуглом і эркерам з вежай з'яўляецца важным горадаўтваральным элементам, яго сілуэт і ўвесь масіў адпавядаюць іншым вялікім дамам праспекта і прылеглых вуліц. Сярод іншых жылых дамоў, пабудаваных Львом Шышко, вылучаюцца пяціпавярховы на Серпухаўскай вуліцы, 32 — у раёне, які называюць Семенцамі (тут раней размяшчаліся салдаты і афіцэры Сямёнаўскага палка), а таксама на Васільеўскім востраве, у вузкім Дняпроўскім завулку — дом № 14, пабудаваны паводле праекта Шышко ў 1912 г.

Каштоўным унёскам у архітэктуру Пецярбурга сталі пабудаваныя Львом Шышко школьныя будынкі. Гэта манументальны вельмі прадстаўнічы будынак гарадскога пачатковага вучылішча ў Рыбацкім (Рыбацкі праспект, 18; 1908—1909). Шышко трактаваў яго як галоўнае грамадскае збудаванне тагачаснага Рыбацкага пасёлка. Вялікі рэзананс мела перабудова і пашырэнне ампірнага будынка 2-й (Аляксандраўскай мужчынскай) гімназіі на рагу Казанскай вуліцы і Дзямідава (зараз Грыўцова) завулка (1909—1913). Шышко стварыў правобраз сучаснага вучэбнага будынка ў адным аб'ёме з жылым домам. Ён разглядаў вучэбны будынак як храм



*Аляксандраўская гімназія пабудавана архітэктарам Львом Шышкам на зямлі, ахвяраванай гораду епіскапам-беларусам Станіславам Богушам-Сестранцэвічам*

культуры, у праектах імкнуўся пераадолець казённы дух і афіцыйнасць: рабіў шырокія вокны, прасторныя калідоры і класы. Яго школы ўрачыстыя, яны ствараюць прыўзняты настрой. Міністэрства адукацыі і сёння эксплуатуе будынкі Шышко 3-й гімназіі (Саляны завулак, 12; пабудаваны ў 1912—1913 гг.), 11-й гімназіі (Выбаргская вуліца, 3; 1914). Дойлід спраектаваў таксама першы ў горадзе (і ў Расіі) крыты басейн на Кабінецкай (цяпер Праўды) вуліцы, 11, які пызначаўся для 1-й мужчынскай гімназіі. Комплекс з басейна і гімнастычнай залы быў пабудаваны ў 1914—1916 гг. Удзельнічаў Леў Шышко ў праектаванні будынка Бібліятэкі Акадэміі навук (аўтар Р. Р. Марфельд) на Біржавой лініі, 1. Будаўніцтва пачалося ў 1913—1914 гг. і было спынена вайной і рэвалюцыяй.

## Шляхі з Беларусі ў Санкт-Пецярбург. Чыгункі і вакзалы.

Сёння, калі сувязі горада і Беларусі забяспечваюць чыгунка і добрыя аўтамабільныя дарогі, а тысячы людзей карыстаюцца і фірменнымі цягнікамі (брэсцкім «Буг» і мінскім «Звязда»), а таксама «праходзячымі» калінінградскімі, смаленскімі, украінскімі, цяжка ўявіць, што шляху, які здаецца цяпер такім звычайным: з Віцебска праз Невель — Лугу — Гатчыну, некалі не было. Ехалі альбо з Полацка на Пскоў — Нарву — Ямбург (зараз Кінгісеп) — Краснае Сяло, альбо са Смаленска на Вялія Лукі — Порхаў — Ноўгарад — Чудава — Любань — Тосна — Іжора, нарэшце ў Пецярбург. Падарожнікаў чакалі многія нязручнасці: кепскі стан дарог, рабаўнікі, малая прапускная здольнасць паштовых запрэжак і пастаялых двароў.

Будаўніцтва чыгунак, асабліва інтэнсіўнае ў сярэдзіне XIX ст., радыкальна змяніла транспартную сітуацыю. Адбылося тое, што дазволіла Генрыху Гейнэ сказаць: «Чыгункі забіваюць прастору». Дабрацца да сталіцы стала магчымым не толькі спецыяльна пасланаму пасольству ці багатаму магнату са світай ахоўнікаў і прыслугі, але і сярэдняй рукі, ці беднаму шляхцічу, селяніну, якія едуць служыць, вучыцца, шукаць заробку на прамысловых прадпрыемствах. Згодна з гіпотэзай М. Кандрацьева пра хвалепадобны характар інавацыйных цыклаў развіцця прамысловых краін, 2-я хваля, якая пачалася ў Расіі ў 1847 г., вызначалася будаўніцтвам і эксплуатацыяй чыгунак. На будаўніцтве і эксплуатацыі чыгункі мелі працу шматлікія абходчыкі, кандуктары, чыноўнікі, інжынеры. Акрамя гэтага металургічныя і металаапрацоўчыя заводы атрымоўвалі заказы на рэйкі, машыны, вагоны і рыштунак, гэтаксама, як шматлікія лесапілкі і смалярні на выраб шпалаў. Для выканання земляных работ на будаўніцтве чыгунак у катаржных умовах працавалі дзесяткі тысяч прыгонных і «казённых» сялян. Паэт Някрасаў стварыў трагічны вобраз беларуса-будаўніка:

> ...Волосом рус,
> Видишь, стоит, изможден лихорадкою,
> Высокорослый, больной белорус:
> Губы бескровные, веки упавшие,
> Язвы на тощих руках,
> Вечно в воде по колено стоявшие
> Ноги опухли; колтун в волосах;
> Ямою грудь, что на заступ старательно
> Изо дня в день налегала весь век...
> .................................................
> Трудно свой хлеб добывал человек!

Вобраз беларуса-землякопа не выпадкова з'явіўся ў някрасаўскім вершы. Блізкі сябра Някрасава інжынер Панаеў успамінаў пра становішча рабочых на гэтай будоўлі так: «Землякопы пераважна наймаліся ў Віцебскай і Віленскай губернях з ліцвінаў. Гэта самы няшчасны народ на ўсёй рускай зямлі, які падобны хутчэй не да людзей, а да рабочай жывёлы, ад якой патрабавалі ў працы нечалавечых высілкаў без усялякай, можна сказаць, узнагароды».

## Царскасельская чыгунка. Віцебскі вакзал.

Першая Расійская чыгунка была пракладзена ў паўднёвым ад Пецярбурга кірунку на Царскае Сяло — Паўлаўск. У 1837 г. пачалася яе эксплуатацыя, але толькі ў 1849—1852 гг. быў пабудаваны (паводле праекта архітэктара К. Торна) двухпавярховы мураваны будынак вакзала. З 1900 г. Царскасельская чыгунка перайшла ва ўласнасць Таварыства Маскоўска-




*Царскасельскі вакзал. Паштоўка*



*Віцебскі вакзал*



*Старажытны герб «Пагоня» на фасадзе Віцебскага вакзала*

Віндава-Рыбінскай чыгункі. Пачалося будаўніцтва вялікай магістралі — да Віцебска і далей да Жлобіна. Стары Царскасельскі вакзал вырашылі перабудаваць з улікам таго, што пад'язныя пуці былі падняты на шырокі насып вышынёй каля пяці метраў і на скрыжаванні з Абводным каналам зроблены транспартныя развязкі на двух узроўнях. Стварэннем новага комплексу Віцебскага вакзала кіравалі акадэмік архітэктуры С. Бжазоўскі, інжынеры шляхоў зносін М. Астроўскі і Ф. Кнорынг. У 1900—1901 гг. на набярэжнай Увядзенскага канала паводле праекта Бжазоўскага была пабудавана станцыя імператарскіх цягнікоў (цяпер станцыя прыгарадных электрычак). Да 1901 г. былі закладзены падмуркі галоўнага будынку новага вакзала. Невялікі па даўжыні пляц уздоўж Загараднага праспекта патрабаваў павелічэння памяшканняў у глыбіню з актыўным выкарыстаннем верхняга прыроднага асвятлення. Будаўніцтва вялося з 1902 да 1904 г. 1 жніўня 1904 года ў 5 гадзін дня з новага вакзала ўпершыню ад'ехаў цягнік па маршруце Пецярбург — Віцебск.

Віцебскі вакзал да сёння з'яўляецца адным з прыгажэйшых помнікаў архітэктуры мадэрну. На яго знадворным фасадзе з боку Загараднага праспекта ўмацаваны старажытны герб Беларусі «Пагоня», вестыбюль упрыгожаны вітражамі, на сценках — раслінны арнамент, жаночыя маскі, выявы Меркурыя — бога гандлю і апекуна падарожнікаў. У вестыбюлі знаходзяцца маляўнічыя пано з выявамі Петрапаўлаўскай крэпасці і Адэскага порта (створаны мастакамі У. Быстрэніным і С. Дудзіным). Шырокая мармуровая лесвіца вядзе да залаў чакання на другім паверсе, куды падыходзяць паднятыя насыпам платформы. Залу пасажыраў 1-га і 2-га класаў упрыгожваюць пано на сюжэты з гісторыі Царскасельскай чыгункі. Напісаны яны мастакамі М. Самокішам і А. Самокіш-Судкоўскай. У 1950-я гг. XX ст. гэтую галерэю дапоўнілі яшчэ дзве карціны (аўтар Л. Астрова) з выявай Віцебскага вакзала і новага вакзала ў г. Пушкіне.

Над платформамі і пуцямі зроблена трохпралётнае перакрыцце на двухшарнірных арках і металічныя навесы (інжынер В. Пэрсон). Перакрыцці, перагародкі і часткі сценаў выканаты з жалезабетону. Для механізаванай падачы багажу і пошты зроблены тунелі і ліфт[1].

### Маскоўская (Мікалаеўская) чыгунка.

У лютым 1842 г. быў прыняты праект будаўніцтва чыгункі ад Пецярбурга да Масквы. Будаўніцтва пачалося ў 1843 г. і было закончана ў жніўні 1851 г. (яшчэ каля года выпраўлялі недапрацоўкі). Рух на асобных кавалках дарогі адчыняўся пасля іх дабудовы. У маі 1847 г. газета «Санкт-Пецярбургскія ведамасці» пісала: «Магутны паравоз у 70 конскіх сілаў на 8 колах... пераадольвае адлегласць з поездам ад Санкт-Пецярбурга да

[1] *Фролов А. И.* Вокзалы Санкт-Петербурга. СПб., 2003. С. 36—42.

Колпіна за 45 хвілін». На гэтым участку білет у адкрыты вагон каштаваў 25 кап., закрыты — 30 кап., білет у першы клас з мяккімі крэсламі — 75 капеек срэбрам. Пабудова чыгункі даўжынёй 656 км каштавала казне 100 мільёнаў рублёў. Падчас работы было пабудавана 250 аб'ектаў, у тым ліку 184 масты. 28 драўляных і 14 жалезных мастоў спраектаваў і пабудаваў на Мікалаеўскай чыгунцы інжынер **Уладзімір Хведаравіч Прусак** (1846—1917), ураджэнец Віцебска. Ён закончыў Віцебскую гімназію і Інстытут грамадзянскіх інжынераў (1863—1868 гг.). Плён яго працы — каля 50 вёрстаў пад'язных пуцей на розных станцыях і шэраг дамоў у Пецярбургу ў стылі позняй эклектыкі. Былі сярод гэтых пабудоў дамы на цэнтральных вуліцах, дарагія, з разпрацаванымі дэталямі аздобы, былі зусім простыя, так званыя «даходныя», пабудаваныя на ўскраінах гораду. Вось адрасы некаторых з ацалелых: Суевораўскі, 7, Таўрыдская, 29, Тверская, 27, Маладзецкасельскі праспект, 15, Варонежская, 12, 14, Чарняхоўскага 29-31, 35, 67. Гласны Пецярбургскай гарадской думы Уладзімір Прусак жыў на Лапухінскай, 7. Брат яго **Яўген Хведаравіч Прусак** (1852—1877) пасля навучання ў ІГІ размеркаваўся ў 1875 г. на пасаду памочніка архітэктара ў губернскі горад Гродна. На наступны год, прыехаўшы ў адпачынак у Пецярбург, прастудзіўся і раптоўна памёр[1]. Уладзімір Прусак меў двух сыноў: Яўгена (інжынер, кампазітар), Уладзіміра (1895—1918) — таленавіты паэт, грамадскі дзеяч (памёр ад перэтаніту ў выніку няўдалай аперацыі) і дачку Ганну (у замуж. Бяляева, 1888—1956), якая стала філолагам-лінгвістам.

З Мікалаеўскай чыгункай было звязана амаль не ўсё жыццё ўраджэнца Мінскай губерні **Генрыха Іпалітавіча Свянціцкага** (нар. у 1852 г.). Працаваць сюды ён прыйшоў пасля заканчэння Мінскай гімназіі і Санкт-Пецярбургскага інстытута інжынераў шляхоў зносін. Вырас ад тэхніка да дырэктара магістралі. Генрых Свянціцкі займаў актыўную грамадскую пазіцыю: быў дэпутатам 3-й і 4-й Дзяржаўнай Думы, разам яшчэ з пяццю дэпутатамі стварыў у ёй Беларуска-літоўскую групу. Магчыма, што беларускія сімпатыі Свянціцкага ўзніклі пасля знаёмства з супрацоўнікам Галоўнага таварыства расійскіх чыгунак **Канстанцінам Васільевічам Вераніцыным** (былы слухач Медыка-хірургічнай акадэміі кватараваў у Паварскім завулку, 12), які лічыцца верагодным аўтарам паэмы «Тарас на Парнасе».

На Пецярбургска-Віндаўскай чыгунцы доўгі час праслужыў **Антоні Пачобут** — прадстаўнік старажытнага беларускага роду Пачобутаў-Адляніцкіх. Вось як успамінае пра яго мемуарыст: «Самы старэйшы з гэтага пакалення Пачобутаў — дзядзька Антоні, паўстанец 63 году — скончыў юрыдычны факультэт у Дэрпце. За ўдзел у паўстанні ён быў зняволены. Пасля турмы вымушаны быў пайсці працаваць, таму што ягоныя бацькі збяднелі. «Служыў» ён амаль усё жыццё ў праўленнях розных чыгунак Расіі (у апошні час — Пецярбургска-Віндаўскай) і дасягнуў у гэтай працы ў Пецярбургу высокага рангу і поўнай матэрыяльнай незалежнасці. Ён быў старым кавалерам і амаль усё жыццё правёў у Пецярбургу. Жыў ён вельмі прыстойна, ціха — зручна, аднак сціпла. Таварыскія адносіны абмяжоўваў да мінімуму, у грамадскім жыцці не ўдзельнічаў, зводзіў гэты ўдзел да грашовых сум, якія ахвяраваў на розныя дабрачынныя мэты»[2]. Дзевяць гадоў працаваў начальнікам тэхнічнага аддзела Пецярбургска-Маскоўскай чыгункі віляўчук **Фелікс Станіслававіч Ясінскі** (1856—1899). Перад гэтым ён будаваў ў Вільні: быў аўтарам праектаў сістэмы водазабеспячэння, набярэжных, бойні і двух мастоў. У Пецярбургу ён распрацаваў праекты рэканструкцыі калейкі, мастоў і чыгуначных станцый. Прапанаваў новыя канструкцыі і метады будоўлі перакрыццяў. Выкладаў Фелікс Станіслававіч у Інстытуце інжынераў шляхоў зносін, выдаў некалькі навучальных дапаможнікаў. Ясінскі — выдатны і рознабаковы інжынер-будаўнік, аўтар праекта электраасвятлення і металічнага перакрыцця над пуцямі ў Гатчыне. Захаваліся ўзоры яго дасягненняў у прамысловай архітэктуры: паравозазборная і вагонная майстэрні вагонарамонтнага завода (вуліца Сядова, 45) і воданапорная вежа Аляксандраўскага (Пралетарскага) завода (праспект Абухаўскай абароны, 125).

Рэгулярныя пасажырскія перавозкі на Маскву пачаліся ў лістападзе 1851 г. Праезд да Масквы ў 1-м класе каштаваў 19 рублёў, у 2-м — 13 руб., у 3-м — 7 руб. Каб атрымаць права на праезд, трэба было падаць у паліцыю прашэнне і паказаць свой пашпарт. Обер-кандуктар вяртаў пашпарт толькі пасля прыбыцця цягніка на канцавую станцыю.

[1] *Барановский Г. В.* Юбилейный сборник... С. 277.

[2] *Лядніцкі В.* Мемуары // Віцебскі сшытак, 2000. № 4. С. 141.

## Пецярбургска-Варшаўская чыгунка. Варшаўскі вакзал.

Большасць выхадцаў з Заходняй Беларусі траплялі ў сталіцу праз вакзал Пецярбургска-Варшаўскай чыгункі, які называўся Варшаўскім вакзалам. Будаўніцтва чыгункі з Пецярбурга на Варшаву пачалося ў 1851 г. Ужо праз два гады быў адкрыты рух на першым адрэзку — да Гатчыны. Вакзал размясціўся на набярэжнай Абводнага канала, 118, насупраць Ізмайлаўскага праспекта. У 1852–1853 гг. паводле праекта К. Скажынскага з абодвух бакоў паралельна каляіне пабудавалі два карпусы, прастора паміж якімі была перакрыта дахам, утварыўшы «пуцявы двор». Трэці, галоўны, корпус Варшаўскага вакзала развернуты фасадам да Абводнага канала. Архітэктурныя дэталі фасада былі трактаваныя ў «стылі рэнесанс».



*Варшаўскі вакзал. Старая паштоўка*

Напачатку будаўніцтва Пецярбургска-Варшаўскай чыгункі вялося за грошы казны, але з 1857 г. яно было перададзена Галоўнаму таварыству расійскіх чыгунак. З-за Крымскай вайны будаўніцтва прыпынілася, у 1859 г. дарога дасягала толькі Пскова. Наступныя тры гады будоўля праходзіла на беларускіх землях (Дзвінск – Вільна – Гродна– Беласток), злучыўшы іх са сталіцай.

Аднак з павелічэннем працягласці чыгункі, якая дасягнула канцавога пункту — Варшавы — у 1862 г., значна ўзрос паток пасажыраў і грузаў. Узнікла неабходнасць пашырэння вакзала і яго перабудовы. Перабудову зрабілі ў 1858–1860 гг. паводле праекта архітэктара П. Сальмановіча. Частку інжынернай працы і кіраўніцтва будоўляй выканалі інжынеры Ю. Фляша і А. Мірэцкі. Новы будынак Варшаўскага вакзала ў параўнанні з першапачатковым быў павялічаны і атрымаў іншае архітэктурнае аблічча. Уваходы на вакзал перанеслі на бакавыя фасады: гэтым быў зроблены падзел на «зону адпраўлення» і «зону прыбыцця». Фасад з боку Абводнага канала быў прарэзаны вельмі вялікімі арачнымі вокнамі, праз якія асвятляўся крыты «пуцявы двор», і завершаны невялікай вежай з гадзіннікам. Асабліва эфектна выглядаў фасад вакзала з боку чыгуначных пуцей. Тут на ўсю моц загучалі наватарскія для свайго часу канструкцыі з металу і шкла, дэманструючы першыя крокі новага «жалезнага стылю» прамысловай архітэктуры[1]. З нязначнымі перабудовамі Варшаўскі вакзал захаваўся да нашых дзён, праўда, цяпер ён перастаў выконваць функцыі чыгуначнага вакзала і з'яўляецца музеем чыгуначнага транспарту.

Усіх падарожных з Беларусі ў Пецярбург і ў адваротным кірунку агульны пасажырскі тарыф дзяліў на першы, другі і трэці класы. Калі пасажыр знаходзіўся ў цягніку пасля 9 вечара і да 9 раніцы, трэба было купляць спальнае месца. Яно каштавала для 1-га класа 2 р. 50 кап., для другога — 2 р., для трэцяга — 1,50 кап. Для падарожных 1-га і 2-га класаў выдавалася пасцельная бялізна, коўдра і падушка, для 3-га класа — толькі падушка. Каб карыстацца купэ, пасажыры павінны былі плаціць дадаткова 1 капейку з вярсты. На Пецярбургска-Варшаўскай чыгунцы здымалася павышаная плата на цягнікі высокай хуткасці.

Асноўны тарыф залежаў ад аддегласці і класу вагона. Кошт праезду па чыгунцы да асноўных беларускіх гарадоў на 1899 г. складаў:

| Гарады | Адлегласць ад Санкт-Пецярбурга (вёрсты) | Тарыф 1-га класа | Тарыф 2-га класа | Тарыф 3-га класа | Аплата за 10 фунтаў багажу |
|---|---|---|---|---|---|
| Брэст | 1017 | 21,00 | 12,60 | 8,40 | 51,75 |
| Беласток | 887 | 19,50 | 11,70 | 7,80 | 47,25 |
| Вільня | 662 | 16,00 | 9,60 | 6,40 | 36,75 |
| Віцебск | 743 | 17,00 | 10,20 | 6,80 | 39,75 |
| Гродна | 809 | 18,00 | 10,80 | 7,20 | 42,75 |
| Дзвінск | 498 | 13,00 | 7,80 | 5,20 | 27,75 |
| Мінск | 827 | 18,50 | 11,10 | 7,40 | 44,25 |
| Смаленск | 818 | 18,50 | 11,10 | 7,40 | 44,25 |

[1] *Пунин А. Л.* Архитектура Петербурга середины XIX века. Ленинград, 1990. С. 196–198.

У канцы XIX ст. паралельна з шырокакалейнай чыгункай пачалося імклівае развіццё пад'язных чыгунак з меншай каляёй, так званых вузкакалеек. У 1892 г. у Пецярбургу ўзнікла «Першае тварыства пад'язных пуцей», якое заснаваў ураджэнец фальварку Смілгуцішкі, што паміж Свянцянамі і Лынтупамі (на Пастаўшчыне) **Баляслаў Антонавіч Ялавецкі** (нар. у 1846 г.). Выпускнік Віленскай гімназіі Баляслаў Ялавецкі вучыўся ў пецярбургскай Мікалаеўскай інжынернай школе, а пазней у Мікалаеўскай інжынернай акадэміі (якую на выдатна скончыў у 1870 г.). У 1873 г. яму было даручана кіраваць будаўніцтвам Адміралцейскай набярэжнай. Пасля паспяховага заканчэння гэтых работ (што атрымала адзнаку імператара) маладога інжынера накіравалі на пасаду дырэктара Аляксандраўскага завода. Тут пад кіраўніцтвам і па асабістым праекце Б. Ялавецкага быў пабудаваны спецыяльны цягнік для царскай сям'і. У гэты ж час была напісана кніга «Вада, паліва і паравозныя катлы», якая стала падручнікам для многіх пакаленняў інжынераў-чыгуначнікаў. Першую вузкакалейку Баляслаў Ялавецкі пабудаваў на радзіме: паміж станцыяй Свянцяны Пецярбургска-Варшаўскай чыгункі і Беразвечам (зараз у рысе горада Глыбокае Віцебскай вобласці), а ў 1913 г. заснаванае ім таварыства валодала 1149 вёрстамі чыгуначных шляхоў у Прыбалтыйскіх губернях і на Украіне. Да 1896 г. інжынер Ялавецкі жыў з сям'ёй на Загарадным праспекце, 17. У 1898 г. ён успамінаецца як арганізатар «Неўскага таварыства для арганізацыі народных забаваў», але гэта было толькі часовае захапленне. У тым жа 1898 г. сям'я Ялавецкага пераехала на Надзеждзінскую (зараз Маякоўскага) вуліцу, 3 — другі дом ад Неўскага праспекта. Сын, Мечыслаў Баляслававіч, чыноўнік для асобых даручэнняў пры Міністэрстве земляробства, пазней жыў у Польшчы, аўтар мемуараў. Зусім недалёка, на Неўскім, 11, знаходзілася праўленне Руска-Бельгійскага металургічнага таварыства, якому належалі Пятроўскі чыгуна-плавільны завод і вугальныя шахты ў Екацярынаслаўскай губерні. Баляслаў Антонавіч да 1916 г. быў старшынёй праўлення гэтага таварыства. Круг высокапастаўленага чыноўніка і інжынера ў Пецярбургу склаўся гурток землякоў (часам нават кажуць пра «Лынтупскае зямляцтва ў Пецярбургу»): чыгуначнікі Іван Шапель, Іван Клімашэўскі, Клеафас Марцінкевіч, рабочыя Пуцілаўскага завода Эдвард і Ян Іванковічы, Аляксандраўскага завода Антон Шапель і Яўген Орда, будаўнік Ягор Гарбуль. Большасці з іх атрымаць тэхнічную адукацыю, падшукаць добрую работу дапамагаў Баляслаў Ялавецкі[1].

[1] *Гіль М.* Ён быў нястомным рэфарматарам // Голас Радзімы. № 35 (3061). 26 верасня 2007 г.

# Раздзел 7.

## ПЕЦЯРБУРГ — ГОРАД НАВУКІ, МУЗЕЯЎ І БІБЛІЯТЭК

Культурная прастора Пецярбурга мае шмат праяў у матэрыяльных помніках (артэфактах), якія вывезены на берагі Нявы з беларускіх земляў. Да такіх помнікаў належаць архіўныя дакументы, кнігі, ноты і карты з прыватных і манастырскіх кнігазбораў, манеты і медалі, гарматы і рыцарскія даспехі, трафейныя косы касінераў — паўстанцаў 1831 і 1863 гг., батанічныя, геалагічныя і іншыя прыродазнаўчыя калекцыі, мэбля, мастацкія творы і старажытныя абразы. Значная частка гэтых каштоўнасцяў паходзіць з канфіскатаў царскага ўрада, але яны таксама вывозіліся прыватнымі гандлярамі ці з'яўляліся ўласнасцю пецярбургскіх беларусаў. У сталіцы гэтымі рэчамі карысталіся, гістарычныя помнікі вывучалі і ўключалі ў музейныя экспазіцыі, беларускія летапісы друкавалі як асобныя тамы «Поўнага збору рускіх летапісаў», беларускія архіваліі — як асобныя тамы шматтомавай «Рускай гістарычнай бібліятэкі». Акадэмік Аляксей Шахматаў быў першым, хто прачытаў у Пецярбургскім універсітэце курс «Беларуская мова ў яе сучасных помніках» (у 1914–1915 навучальным годзе).

Акадэмія навук дзейнічала ў Пецярбургу з часоў Пятра Вялікага. З цягам часу яна разрасталася, складаючы сістэму інстытутаў і музеяў, займалася выданнем галоўнай газеты краіны («Санкт-Пецярбургскіх ведамасцяў») і сваіх навуковых прац. У XVIII ст. члены Акадэміі — акадэмікі — жылі ў сталіцы, а за межамі Пецярбурга — члены-карэспандэнты. Пазней гэта правіла парушылася: акадэмік мог жыць і працаваць у іншым горадзе (прыкладам, гісторык С. Салаўёў у Маскве), а член-карэспандэнт — жыць у Пецярбургу.

Пецярбургская Акадэмія навук цікавілася Беларуссю. Адным з першых, хто пазнаёміў расіян з Беларуссю, быў акадэмік Васіль Севяргін, які выдаў у 1809 г. кніжку пра сваё падарожжа з сапегаўскай вёскі Сямятычы праз Навагрудак – Мінск – Магілёў (ён суправаджаў вываз прыродазнаўчай калекцыі Ганны Ябланоўскай) у сталіцу Расіі.

Акадэмікаў беларускага паходжання доўга не было — першым стаў ураджэнец маёнтка Шусцяны Дынабургскага павета Віцебскай губерні **Аляксандр Ануфрыевіч Кавалеўскі** (1840–1901) — біёлаг, адзін з заснавальнікаў параўнальнай эмбрыялогіі і фізіялогіі беспазваночных жывёл, эксперыментальнай гісталогіі. У 1890 г. Пецярбургская АН абрала яго сваім праўдзейным членам. Кавалеўскі выкладаў у сталічным універсітэце. Другім акадэмікам стаў філолаг Яўхім Фёдаравіч Карскі ў 1916 г.




*Стрэлка Васільеўскага вострава ў XIX ст.*

А вось члены-карэспандэнты Пецярбургскай АН з Беларусі з'явіліся яшчэ ў першай палове XIX ст. Астраном **Пётр Славінскі** (1795–1881), ураджэнец вёскі Кена Віленскага павета, быў абраны пасля выдання яго падручніка па тэарэтычнай і практычнай астраноміі ў 1826 г. Затым членамі-карэспандэнтамі сталі згаданы ўжо ўсходазнавец Восіп Сянкоўскі (у 1828 г.) і заснавальнік манголазнаўства ураджэнец Гродна **Восіп Кавалеўскі** (1801–1878) у 1847 годзе. Пазней, у 1882 г., членам-карэспандэнтам АН абраны ўраджэнец вёскі Коматава (каля Гродна) гісторык і філолаг **Антон Сямёнавіч Будзіловіч** (1846–1908), а ў 1884 г. — ураджэнец вёскі Церуха (25 км ад Гомеля) матэматык **Васіль Ермакоў**, за ўстанаўленне агульных заканамернасцяў матэматычных функцый, якія апісваюць фізічныя велічыні (хуткасць, сілу ўзаемадзеяння, напружанасць поля і інш.), працы па вектарнай алгебры, тэорыі шэрагаў, тэорыі лікаў. Ураджэнец Слуцка астраном і педагог член-карэспандэнт Пецярбургскай Акадэміі навук **В. Цэраскі** (1849–1925) першы ўстанавіў ніжнюю мяжу тэмпературы сонца, роўную 35 000 °С. Да роду беларускіх шляхцічаў Корвін-Крукоўскіх належала першая ў гісторыі Пецярбургскай акадэміі навук жанчына член-карэспандэнт **Соф'я Кавалеўская** (1850–1891). Асноўныя яе працы прысвечаны матэматычнаму аналізу (дыферэнцыяльныя ўраўненні і аналітычныя функцыі), механіцы (даследаванні кручэння цвёрдага цела вакол нерухомага пункта) і

астраноміі (кольцы Сатурна). Расійскія вучоныя прыклалі шмат намаганняў па вывучэнні беларускіх земляў. Прыкладамі могуць быць дзейнасць члена камітэта па даследаванні вады і водаправода ў Зімнім палацы Густава Б'ёрклунда (1824—1885), які шмат зрабіў для вывучэння мінеральных водаў Гродзенскай губерні, картаграфічныя працы Генеральнага штаба на тэрыторыі Беларусі і шмат інш.

Акадэмія навук плённа супрацоўнічала з беларускімі вучонымі-энтузіястамі, да прыкладу, з лексікографам, фалькларыстам і этнографам **Іванам Іванавічам Насовічам** (1788—1877). Пасля заканчэння гімназіі і Духоўнай семінарыі ў Магілёве Іван Насовіч не пайшоў у духоўнае званне, а працаваў на ніве народнай адукацыі ў Аршанскім, Маладзечанскім і Свянцянскім вучылішчах, Дынабургскай гімназіі. Ва ўсіх гэтых месцах ён запісваў народную мову. Вандроўкі па Беларусі далі магчымасць сабраць багаты лексічны, фразеалагічны і фальклорны матэрыял. Насовіч распачаў перапіску з пецярбургскімі навуковымі ўстановамі: з аддзяленнем рускай мовы і славеснасці Акадэміі навук, Археаграфічнай камісіяй, аддзяленнем этнаграфіі Рускага геаграфічнага таварыства. Вынікі яго першай вялікай працы па зборы прыказак і прымавак выдадзены ў «Дадатках да Весцяў Другога аддзялення Акадэміі навук» за 1852 г., а таксама асобным выданнем. Асаблівасць апошняга — памылка ў абодвух ініцыялах Насовіча на тытуле. Гэтая памылка да сёння вылучае ў бібліятэчных каталогах гэту кнігу знакамітага аўтара ад іншых прац[1].

Па даручэнні Імператарскай Акадэміі навук Іван Насовіч распачаў падрыхтоўку гістарычнага слоўніка беларускай мовы на аснове выдадзенага а. Іаанам Грыгаровічам 5-томавага збору Актаў і грамат Заходняй Расіі XIV—XVIII стст. Рукапіс слоўніка памерам у 1110 старонак вялікага фармату ў 1867 г. быў прадстаўлены 2-му аддзяленню Акадэміі навук пад назвай «Алфавітны паказальнік старых беларускіх слоў, выбраных з Актаў, што адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі». У працы атрымалі тлумачэнне і лексіграфічную інтэрпрэтацыю 13 тысяч слоў. Спецыяльная камісія ў складзе акадэмікаў А. Х. Вастокава, І. І. Сразнеўскага і М. А. Каркунова высока ацаніла рукапіс «Алфавітнага паказальніка...» і рэкамендавала яго да друку. На гэтай падставе 2-е аддзяленне Акадэміі навук прысудзіла аўтару поўную Увараўскую прэмію ў суме 1500 рублёў срэбрам. На жаль, «Алфавітны паказальнік старых беларускіх слоў» застаўся ненадрукаваны.

Яшчэ раней, у 1863 г., Іван Насовіч перадаў у аддзяленне рускай мовы і славеснасці АН «Словарь белорусскаго наречія», які ахопліваў больш як 30 тысяч слоў. Конкурсная камісія Акадэміі высока ацаніла слоўнік як «працу надзвычай важную» і ўзнагародзіла аўтара палавіннай Дзямідаўскай прэміяй (714 рублёў), а аддзяленне вырашыла ўзяць друкаванне на свой кошт і даручыла акадэміку Ізмаілу Сразнеўскаму рэдагаванне рукапісу. Аднак рэдактарская праца вялася марудна і зацягнулася на 7 гадоў. Ізмаіл Сразнеўскі адрэдагаваў толькі 5 першых аркушаў і паехаў у доўгатэрміновую замежную камандзіроўку. Працу па рэдагаванні ўзяўся давесці акадэмік Афанасій Бычкоў — магчыма, пад уплывам свайго калегі і сябра беларуса Каятана Касовіча. Нарэшце, у 1870 г. «Словарь белорусскаго наречія» выйшаў са славутай друкарні Імператарскай АН, што на Васільеўскім Востраве, 9-я лінія, № 12[2].

У архіве А. Бычкова захавалася цікавае ліставанне з І. Насовічам адносна гэтага выдання. З ліставання відаць, як традыцыя пецярбургскага беларусазнаўства ўплывала на рэдактарскую працу Бычкова, а заўвага Яна Станкевіча пра тое, што Насовіч складаў крыўскі слоўнік, а пад уплывам пецярбургскіх вучоных атрымаўся беларускі, безумоўна, мае пад сабой грунт[3]. Фундаментальная беларусістычная праца, падрыхтаваная ў сталіцы імперыі, зрабіла моцны ўплыў, прынамсі, на віленчукоў. Гэта можна бачыць з ліста Пятра Гільдэбранта А. Бычкову:

«...Беларускі слоўнік, без сумневу, рэч манументальная і важная... Рыхтуючы справаздачу аб гэтай шаноўнай працы для «Вил. Вестника», я, між іншым, паказваю, акрамя яго навуковага значэння, і на палітычнае: палякам ён вельмі не да спадобы. Калі цэнзура будзе літасцівая, то спадзяюся абавязкова даказаць гэта... Вільня, 25 лістапада 1870 г. Пётр Гільдэбрант»[4].

Помнікі народнага фальклору, якія запісаны з захаваннем асаблівасцяў беларускай мовы, надалей былі прадметам публікацый акадэмічнага «Сборника Отделения русского

[1] Белорусские пословицы и поговорки. Сборник Н. Н. Носовича. – СПб.: Тип. Имп. акад. наук, 1852. – [2], 72 с.

[2] *Носович И.И.* Словарь белорусскаго наречія. СПб., 1870.

[3] Насовіч праз назоў «Крывічы» // *Станкевіч Я.* Збор твораў: У 2-х т. Т. 2. С. 63.

[4] АР РНБ. Ф. 120 Бычковы. № 546. Арк. 1–2.

языка и словесности Академии наук». У 46-м томе за 1889 г., напрыклад, быў змешчаны артыкул Мікалая Авенарыюса «Образцы белорусского наречия разных местностей, доставленные Н. П. Авенариусом: [Песни, сказка, басня]», а на наступны год гэтая праца выдадзена як асобны адбітак.

Са сталічнымі акадэмічнымі асяродкамі супрацоўнічалі не толькі даследчыкі-гуманітарыі. У 1892 г. членам-супрацоўнікам Пецярбургскага інстытута эксперыментальнай медыцыны быў прызначаны доктар Якуб Наркевіч-Ёдка, які ў сваім маёнтку Наднямонь арганізаваў лабараторыю па вывучэнні ўздзеяння электрычнасці на чалавека (электраграфіі). Электраграфічныя здымкі Якуба Наркевіча-Ёдкі экспанаваліся на 5-й фатаграфічнай выстаўцы ў Пецярбургу. У сенсацыйным рэпартажы з гэтай выстаўкі часопіс «Фатограф-аматар» за 1898 г. паведамляў: «...У канцы аддзела змешчаны малавядомы, але вельмі цікавы экспанат сп. Наркевіча-Ёдкі, які ўяўляе сабою здымкі розных разрадаў электрычнасці, выкананых на фатаграфічных пласцінках. Рукі здаровага чалавека і рукі паралізаванага суб'екта робяць на пласцінцы зусім розныя адбіткі. Наогул гэты экспанат новы, надзвычай цікавы ў фатаграфіі, ён пакладзе, магчыма, пачатак мноству даследаванняў і гіпотэз»[1]. Сваяк Якуба Вітольд Наркевіч-Ёдка меў сувязі з беларускім рэвалюцыйным рухам, на што паказвае падарунак, які ён зрабіў вядомаму (пазней) філолагу Бадуэну дэ Куртэне. Гэта была танюсенькая (11 аркушаў) брашура на беларускай мове, лацінкай: «Крыўда і праўда. Беларуская гутарка». Тытульны аркуш і тэкст напісаны ад рукі, а потым размножаны літаграфскім спосабам. Месца выдання не пазначана, але стаіць год — 1863. Будучы філолаг-паланіст адзначыў гэта выданне двума маргіналіямі на тытуле і апошняй старонцы. Першая на польскай мове: *«(Od Witolda Jodki Narkiewicza) Głupstwo kapitalne!»*. На апошняй старонцы, у канцы тэксту, запіс па-руску: *«Ерунда, белиберда, сапоги в смятку!»*. Што тут паробіш! — у гісторыі засёды былі людзі, гатовыя сказаць пра беларускую культуру tercium non datur (трэцяга не дадзена), маючы на ўвазе, што паміж рускай і польскай трэцяга яны не бачаць і не хочуць бачыць.

Акумуляванне навуковых сілаў у Пецярбургу да пачатку XX ст. і іх разнастайная творчасць прыводзілі да абмеркавання ў гарадзе беларускіх праблем, у якім прымалі ўдзел пераважна навукоўцы-беларусы. У галіне рэлігіі можна прыгадаць палеміку Міхаіла Каяловіча і Паўла Баброўскага, ва ўсходазнаўстве — выхадцаў з аднаго горада (Наваградка) Барыса Тураева і Абрама Гаркавага, у 1900 г. у часопісе Акадэміі навук «Известия ОРЯС» Павел Шэйн надрукаваў біяграфічны нарыс Насовіча[2] — такія прыклады можна доўжыць і доўжыць.

### Бібліятэка Акадэміі навук

У даўніх сувязях беларускай культуры з Санкт-Пецярбургам важнае месца займае бібліятэка Акадэміі навук. Пачатак ёй далі ў 1725 г. асабістыя кнігазборы Пятра I і яго сына царэвіча Аляксея. БАН традыцыйна мясцілася на Васільеўскім востраве — спачатку ў Кунсткамеры, пазней, напярэдадні Першай сусветнай вайны, для яе быў пабудаваны спецыяльны будынак. У яе фондах захоўваецца пераважна навуковая літаратура, назбірана шмат рэдкіх старадрукаў і рукапісаў, картаграфічных выданняў. Сярод беларускіх матэрыялаў у зборах БАН вылучаюцца выдатна захаваныя унікаты магілёўскіх друкаваных кніг XVIII ст., што былі ў бібліятэцы сына Пятра I царэвіча Аляксея. Што ж датычыць бібліятэкі самога заснавальніка Пецярбурга, то каталог яе рукапіснай часткі, які з'явіўся толькі ў 2003 г., паведаміў сенсацыйныя рэчы — наяўнасць сярод кнігаў Пятра спісу жыцця св. Афанасія Філіповіча на беларускай мове і цікавага беларускага календара[3].

У аддзеле рукапісаў БАН захоўваюцца два (Нікіфараўскі і Акадэмічны) спісы Беларуска-літоўскага летапісу 1446 г., рукапіснае Евангелле XVI ст. з прыгожай аздобай і прыпіскай аб прыналежнасці кнігі пінскаму Ляшчынскаму манастыру і іншыя помнікі беларускай рукапіснай кніжнасці. Шэдэўрам сярод іх — звод біблійных кніг «Дзесятаглаў», які спісаў ў Супрасльскім манастыры ў 1507 г. выдатны каліграф Мацей Дзесяты, і Радзівілаўскі летапіс XV ст. са шматлікімі мініяцюрамі, якія Дз. Ліхачоў вобразна назваў «вокнамі ў свет сярэднявечча». Са старадрукаў вылучаюцца калекцыя беларускіх кірылічных кніг часоў Вялікага Княства Літоўскага (у тым ліку 18 асобнікаў выданняў Скарыны), унікальныя паасобнікі палемічнай літаратуры, зборнік малітваў, друкаваны беларускай мовай лацінскім алфавітам у сярэдзіне XVIII ст.

[1] *Грыбкоўскі В.П., Гапоненка В.А., Кісялёў У.М.* Прафесар электраграфіі і магнетызму. Якуб Наркевіч-Ёдка. Мінск, 1988. С. 29.

[2] *Шейн П.* И.И. Носович: (Краткий биогр. Очерк) // Известия ОРЯС 1900, Т. 5. Кн. 3.

[3] *Лебедева И.Н.* Библиотека Петра I. Описание рукописных книг. СПб., 2003. С. 110–111.



*Самы старажытны беларускі звод біблійных кніг. Вільня-Супрасль, 1502—1507 гг. Перапісчык-каліграф Мацей Дзясяты. Пачатак Псалтыра. Бібліятэка Расійскай Акадэміі навук*

Месцам канцэнтрацыі новай беларускай літаратуры стаў Славянскі фонд — гэта асобны збор выданняў на славянскіх мовах (акрамя рускай) з XVII да першай трэці XX ст. Фонд фармаваўся ў 1882—1930 гг. у перыяд існавання ў бібліятэцы Славянскага аддзела[1]. Перад аддзелам стаяла задача поўнага адлюстравання навуковага і культурнага жыцця славян. Таму Славянскі фонд універсальны па змесце, хоць пераважае ўласна славяназнаўчая літаратура.

У 1930-я гг. Славянскае аддзяленне было зачынена. Доступ чытачоў да алфавітнага каталога быў спынены, а ў сістэматычны каталог БАН інфармацыя пра Славянскі фонд практычна не ўвайшла. Так гэтая калекцыя апынулася ў інфармацыйным вакууме. Своеасаблівым апафеозам гэтага працэсу стала выключэнне БАН у 1960—1980-я гг. з ліку бібліятэк-удзельніц разнастайных праектаў у галіне рэтраспектыўнай бібліяграфіі славянскіх выданняў. У прыватнасці, Славянскі фонд БАН не быў улічаны пры складанні зводнага каталога «Кніга Беларусі 1517—1917» (Мн., 1986). Толькі ў 1994 г. пры фондзе адчынілася чытальная зала; пазней аднавілася бібліяграфічнае вывучэнне гэтай калекцыі[2].

У беларускім раздзеле Славянскага фонду захоўваецца 1918 назваў кніг і брашур у 1962 пераплётах і 83 камплекты часопісаў (рознай паўнаты). З іх: кніг і брашур, выдадзеных да 1900 г., — 18 назваў (21 пераплёт); кніг і брашур 1900—1917 гг. — 185 назваў (188 пераплётаў; сярод іх такія рэдкасці, як поўны камплект выдадзеных падпольна ў 1906 г. паэтычных зборнікаў Цёткі «Скрыпка беларуская» і «Хрэст на свабоду», кірыліцай і лацінкай); часопісаў 1900—1917 гг. — тры назвы («Лучынка», «Раніца» і «Саха»). Яшчэ адна адзінка захавання беларускага раздзела выданнем не з'яўляецца — гэта тры старонкі машынапіснага тэксту рэзалюцыі З'езду беларускіх дзеячаў у Мінску 25—26 сакавіка 1917 г., адрасаваныя Часоваму ўраду Расіі. Рэдкасцямі папоўнілі Славянскі фонд БАН дары жыхароў Петраграда-Ленінграда В. Ф. Бацяноўскага (падарыў у 1922 г. 12 беларускіх выданняў 1918—1921 гг.) і К. А. Пушкарэвіча (у 1927 г. ён падарыў 22 беларускія выданні).

[1] *Комиссарова Е. В.* Редкие белорусские издания XIX в. в Славянском фонде БАН // Белоруский сборник Вып. 2. СПб., 2002. С. 223—228.

[2] Важнай падзеяй у вывучэнні кніжнай культуры Беларусі стала выстава, якая мела друкаваны каталог: «Литваника» XVI—XX вв. в собрании Библиотеки Российской Академии наук: Кат. выст. СПб., 1997.



*Дзевяціразрадная лічыльная машына, зробленая ў XVIII ст. у Нясвіжы. Музей М. Ламаносава (Кунсткамера)*

**Бібліятэка Радзівілаў**. З 1772 г. у бібліятэцы Акадэміі навук знаходзіцца таксама адна з найвялікшых каштоўнасцяў беларускай культуры — бібліятэка нясвіжскага замка Радзівілаў. Іх радавы герб прысутнічае і на экслібрысах і на суперэкслібрысах: тры трубы (альбо тры паляўнічыя рогі).

Пачатак гэтага кнігазбору ўзыходзіць да Мікалая Радзівіла Сіроткі (1549–1616), які не толькі збіраў бібліятэку, але і пабібліяфільску аздабляў яе, прынамсі, меў уласны суперэкслібрыс. Замкавую бібліятэку ўпрыгожвалі кнігі Мікалая Радзівіла Чорнага (бацька Мікалая Сіроткі), які карыстаўся павагай сярод інтэлектуалаў свайго часу. Вылучаецца базельскае 1556 г. выданне папулярнага ў тагачаснай Еўропе твора В. Бальдзані і Дж. П'ерыё «Іерагліфіка». Кожная частка гэтай велізарнай кнігі прысвечана аднаму са славутых людзей Еўропы, у тым ліку 42-я — Мікалаю Радзівілу Чорнаму (у прысвячэнні называецца таксама «імператар Жыгімонт, які кіруе Сармацкім каралеўствам»). У завяшчанні Сіротка пакідаў бібліятэку сыну Яну Юрыю Радзівілу (1583–1625) і яго спадчыннікам з умовай, каб кнігі не былі расцярушаны. Найбольшую колькасць гэтай бібліятэкі складалі кнігі рэлігійнага зместу, якія ўваходзілі ў тэматычныя раздзелы «Святая Біблія», «Святыя айцы», «Інтэрпрэтацыя св. Пісання», «Службоўнікі», «Дагматыкі», «Палемікі», «Царкоўная гісторыя», «Схаластыка». Свецкая літаратура знаходзілася ў раздзелах «Правы і законы», «Палітыка», хоць і сюды трапілі часткова кнігі рэлігійнай тэматыкі. У асобны раздзел былі вылучаны «італьянскія манускрыпты». Зацікаўленасць Радзівілаў ваеннай справай і архітэктурай выявілася і ў




*У пачатку XX стагоддзя паўднёвай мяжой Пецярбурга быў Аббодны канал. Карта 1911 г.*

складзе кніг у раздзелах «Вайсковасць», «Кнігі вайсковыя», «Карты і планы крэпасцяў і іншых твораў». Побач з класічнымі трактатамі Вітрувія і Альберці знаходзіліся шматлікія італьянскія, нямецкія, французскія выданні гэтай тэматыкі, некаторыя з іх багата аздобленыя малюнкамі і чарцяжамі. У раздзеле «Матэматыка» былі «Геаграфія» Пталямея, працы Мажыні, Піталі, Тартаглі і іншых, кнігі па астраноміі і астралогіі. Шмат у бібліятэцы кніг па гісторыі — як мясцовай (Марцін Кромер, Рэйнольд Гейдэнштэйн, Гвагніні), так і ўсеагульнай класічнай (Лівій, Плутарх, Фукідзід, Тацыт, Дзіянісій з Галікарнаса, Святоній, Герадот, Пліній, Ксенафонт) і новай (Геснэр, Сігоніус, Бонсінус, Іёвіус, Барлетус). Кнігі Платона, Арыстоцеля, Сенекі знаходзіліся ў раздзеле «Філасофія». Папаўняўся гэты раздзел і новымі выданнямі — творамі Раймонда Люлія, Піка дэла Мірандолы. Свецкая мастацкая літаратура пададзена, акрамя выданняў Тасо, Арыёста, Авідзія і Каханоўскага, у раздзеле «Poetae», галоўным чынам, панегірыкамі і «меморыямі» членаў роду Радзівілаў, а таксама знакамітых асоб Вялікага Княства Літоўскага і Кароны Польскай.

Для саміх гаспадароў асаблівае значэнне мелі выданні, звязаныя з родам Радзівілаў. Прысвячэнні Мікалаю Радзівілу Чорнаму змешчаны ў кнігах, якія выпушчаны прафесарам грэцкай мовы і вядомым базельскім выдаўцом І. Апорыным, друкарняй базельскага выдаўца Пятра Перны; Радзівілам прысвяціў кнігі паслядоўнік П. Перны К. Вальдкірх. Некаторыя з нясвіжскіх Радзівілаў выступалі як аўтары кніг, і аўтары досыць папулярныя. Так, Мікалай Сіротка апісаў сваё падарожжа ў Святую Зямлю — кніга гэтая была выдадзена на лацінскай мове першы раз у Брунсбергу і потым некалькі разоў перавыдавалася рознымі еўрапейскімі друкарнямі, часта перапісвалася ў Расіі. Альбрэхт Станіслаў Радзівіл выдаў у 1639–1655 гг., таксама на лацінскай мове, тры кнігі. У XVIII ст. гаспадары Нясвіжа працягвалі выдаткоўваць на папаўненне бібліятэкі вельмі значныя сродкі. У лісце да вядомага бібліяфіла Іосіфа Андрэя Залускага Ульрых Радзівіл пісаў: «Я сёння паслаў у Галандыю вэксаль на дзве тысячы флорынаў на кнігі для маёй бібліятэкі». Значныя папаўненні зрабіў для бібліятэкі Караль Станіслаў Радзівіл.

Апошні з нясвіжскіх ардынатаў — сын Міхала Казіміра Рыбанькі Караль Станіслаў (1734–1790), празваны Пане Каханку, — застаўся адной з самых папулярных асоб свайго часу, героем анекдотаў і рамантычных паданняў. У яго руках было сабранае за стагоддзі багацце ўсёй сям'і — буйнейшая маёмасць у Беларусі. На набыццё новых кніг для бібліятэкі ён штогод выдаткоўваў вялізную суму — 200 злотых. Караль Станіслаў прыняў актыўны ўдзел у палітычнай барацьбе; яго імя звязана з загадкавай князеўнай Тараканавай, праз шлюб з якой Пане Каханку сур'ёзна разлічваў стаць расійскім манархам. У 1772 г. яго маёмасць была секвестравана. Бібліятэка, сярод іншых каштоўнасцяў, вывезена з Нясвіжскага замка і перададзена Акадэміі навук у Пецярбургу, у той час калі сам уладальнік знаходзіўся ў вымушанай эміграцыі.

Нясвіжская бібліятэка на момант вывазу ў Пецярбург налічвала каля 22 тысяч кніг. Па распараджэнні Акадэміі навук у цэнтральнай частцы будынка Кунсткамеры, пад вежай, былі зроблены 34 шафы, у якія расклалі нясвіжскія кнігі[1]. У 1801 і 1841 гг. на гэты збор былі складзены картачныя каталогі.

У выглядзе асобнага комплексу Нясвіжская бібліятэка не захавалася. Некаторая частка кнігазбору пакінула Акадэмію: у 1813 г. адпраўлена было 1697 назваў (2545 тамоў) дублетаў у Маскоўскі універсітэт для аднаўлення згарэлай там бібліятэкі, а ў 1829 г. частка выданняў тэалагічнага і юрыдычнага зместу была падараваная універсітэту ў Хельсінкі (знаходзіцца там і зараз). У 1882 г. усе выданні на польскай мове, якія былі ў бібліятэцы, у тым ліку і са збору Радзівілаў, увайшлі ў склад Славянскага фонду[2]. У 1914 г. (што супала з падрыхтоўкай да пераезду бібліятэкі ў новы будынак на Васільеўскім востраве) супрацоўнікі Славянскага аддзела пачалі працу па выяўленні асабліва каштоўных збораў. Важнейшай задачай лічылася рэканструкцыя Нясвіжскай бібліятэкі. Менавіта ў той час на некаторых картках алфавітнага каталога Славянскага фонду з'явілася метка «BR». Паводле падлікаў загадчыка Славянскага аддзела Э. Вальтэра, на пачатку XX ст. ва ўсіх фондах Бібліятэкі Акадэміі навук захоўваліся 9673 кнігі з Нясвіжа[3]. Пазней у асобныя фон-

[1] История Библиотеки Академии наук СССР. 1714–1964. М.; Л., 1964. С. 138.

[2] Собрание польских старопечатных книг в славянском фонде БАН. Несвижская ординатская библиотека Радзивиллов. Вып. 1–2. СПб., 2005. Гэты ж каталог з дадаткамі ў інтэрнэце: http://miecznet.pl/~mikolaj/pismiennictwo/index.php/75/

[3] Доклады и отчеты Русского библиологического общества 1915–1916 гг. Пг., 1917. С. 47.

ды адбіралі радзівілаўскія інкунабулы[1], рэдкія кнігі, карты.

Папаўненне БАН кнігамі радзівілаўскай бібліятэкі адбывалася і ў 1950-я гг., калі ў Ленінград забралі з бібліятэкі мінскага Дому ўраду (цяпер Прэзідэнцкая бібліятэка) перавезеныя туды з Нясвіжа «De origine et rebus gestis Polonorum libri XXX» Марціна Кромера, базельскае выданне 1555 г. з цудоўным гравіраваным партрэтам вялікага князя Жыгімонта Аўгуста. На форзацы гэтай кнігі экслібрыс «Бібліятэка Нясвіжскай ардынацыі» («Bibliotheca Ordynacij Niesvieskiey»), а на тытульным аркушы штамп: «Дублетны фонд Урадавай бібліятэкі № 33358». І яшчэ адно — кёльнскае 1578 г. выданне Кромера з экслібрысам на форзацы: Biblioteka Ordynacji Nieswieskiej; даравальны запіс Я. Бернатовіча Каралю Радзівілу, датаваны 1772 г.; вензель: «FSFRG» і штамп: «Дублетны фонд Урадавай бібліятэкі № 29917». Гэтыя штампы пра «дублетнасць» сведчаць хутчэй пра наўмысны падлог, зроблены дзеля вывазу антыкварных каштоўнасцяў — рэдкая кніга не мае паняцця дублетнасці!




*Экслібрыс Нясвіжскай бібліятэкі*

Ардынацкая бібліятэка мела не менш як шэсць розных экслібрысаў, аднак на шмат якія кнігі экслібрысы не былі наклеены. Вызначыць прыналежнасць кніг без экслібрысаў да Нясвіжскай бібліятэкі — задача, якую ў 1920-я гг. (рыхтуючы Рыжскую мірную дамову Расіі з Польшчай, без удзелу Беларусі) не змаглі вырашыць ні кнігазнаўцы, ні палітыкі ад культуры. Кнігазбор не быў вывезены ў Польшчу. Пазбаўленыя «рэвіндыкацыі» радзівілаўскія кнігі ўратаваліся, воляй лёсу, ад пажару Варшавы падчас Другой сусветнай вайны, у якім згарэла значная частка атрыманых Польшчай паводле Рыжскай дамовы старажытных рукапісаў і кніг (пры гэтым шмат — беларускіх). Аднак радзівілаўскую бібліятэку, разам з Бібліятэкай Акадэміі навук, чакаў страшны пажар у лютым 1988 г. Вызначыць страты ад гэтага бедства адразу было проста немагчыма. Прыкладна праз месяц дырэктар бібліятэкі назваў лічбы: згарэла каля 400 тысяч кніг, каля 3,5 мільёна пацярпелі ад вады пры тушэнні. Пра тое, што сярод згарэлых былі кнігі «з найбуйнейшай для свайго часу прыватнай бібліятэкі Радзівілаў, якая складалася на працягу каля двух стагоддзяў», першым напісаў акадэмік Дз. Ліхачоў. Потым гэта пацвердзіла газета «Советская культура», змясціўшы фотаздымак з экскаватарам, які разбірае гару попелу ад згарэлых кніг вышынёй з двухпавярховы дом[2].

Яшчэ адна калекцыя ў фондах БАН амаль цалкам складаецца з беларускіх старажытнасцяў. Гэта кнігі і архіўныя дакументы з Жыровіцкага манастыра, якія вывез былы выкладчык Літоўскай духоўнай семінарыі (што мясцілася ў Жыровічах), пазней аланецкі епіскап **Павел Дабрахотаў** (1814–1900). Павел (у міры Пракопій Нілавіч Дабрахотаў) прыехаў на Беларусь з Тамбова, ажаніўся ў Жыровічах на дачцэ мясцовага прратаіерэя, а пасля заўчаснай смерці жонкі пастрыгся ў манахі і працаваў як выкладчык у розных духоўных семінарыях (полацкай, рыжскай), пазней атрымаў епіскапскі сан. Усё жыццё вазіў ён з сабой скрыні з кнігамі і архівамі, «набранымі» ў Жыровічах, а калі адышоў ад спраў, ахвяраваў сваю калекцыю ў Пецярбург. Калекцыя Дабрахотава праляжала ў БАН да 1934 г., а потым архіўныя дакументы былі адлучаны і перададзены ў архіў ленінградскага аддзялення Інстытута гісторыі, а кнігі падзелены паміж Аддзелам рукапісаў, Аддзелам рэдкай кнігі і замежным (Бэраўскім) фондам БАН. У Аддзеле рэдкай кнігі апынуліся дзве інкунабулы (адна з іх — Трыёдзь посная, якую надрукаваў у Кракаве

[1] Прынамсі сярод апісанняў інкунабулаў БАН прысутнічаюць 11 кніг з Нясвіжа: *Боброва Е. И.* Каталог инкунабулов [библиотеки Академии наук СССР]. М.-Л., 1963. С. 42. №№ 30, 146, 157, 221, 234, 310, 387, 689, 701, 794, 802.

[2] *Потемкин В., Шварц В.* До пожара, после пожара... // Советская культура. 1988. 28 апреля. С. 6.

ў 1491 г. Швайпольт Ф'ёль). У Аддзеле рукапісаў была сфармаваная асобная калекцыя (Дабрахотава). Сярод шэдэўраў гэтай калекцыі ёсць рукапісы беларускіх і чэшскіх пратэстантаў, рэдкі спіс гісторыі Жыровіцкага манастыра і інш. Тая частка, якая перайшла ў архіў Інстытута гісторыі, таксама мае асобны вопіс[1].

У сталічным Пецярбургу, акрамя Акадэміі навук, навуковыя задачы вырашала і Міністэрства народнай асветы, у складзе якога з 1834 г. знаходзілася Археаграфічная камісія. Яе стварылі як часовую, але ў 1837 г. пераўтварылі ў пастаянную ўстанову, якая прызначана была збіраць, апісваць і выдаваць гістарычныя дакументы. Першым галоўным рэдактарам Археаграфічнай камісіі стаў беларус Іван Грыгаровіч, а першым шматтамовым выданнем — плён яго працы – зборнік гістарычных дакументаў пад назвай «Акты Заходняй Расіі», які фактычна з'яўляўся працягам першага, выдадзенага яшчэ Мікалаем Румянцавым, зборніка «Беларускі архіў». Ад самага пачатку актыўны ўдзел у працы Археаграфічнай камісіі прымаў **Ігнат Анацэвіч** (1780–1845). Ён нарадзіўся ў Малой Бераставіцы Гродзенскага павета, з'явіўся ў Пецярбургу ў 1834 г. (да гэтага часу вучыўся ў Кёнігсбергскім і Віленскім універсітэтах, працаваў выкладчыкам Беластоцкай гімназіі, ад'юнктам і прафесарам у Віленскім універсітэце). Пад кіраўніцтвам Івана Грыгаровіча Анацэвіч збіраў і апрацоўваў матэрыялы для «Актаў Заходняй Расіі», друкаваў артыкулы ў часопісах «Паўночны архіў», «Паўночная пчала», «Веснік Еўропы». Анацэвіч і Грыгаровіч здолелі сваёй працай дамагчыся таго, што значная частка выдавецкай дзейнасці Археаграфічнай камісіі ў 1840-я гг. мела беларускі кірунак. Прынамсі былі падрыхтаваныя чатыры тамы гістарычных дакументаў. Апошні, пасля смерці Івана Грыгаровіча, рэдагаваў Тарнава-Барычэўскі.

У 1868 г. Археаграфічная камісія выдала падрыхтаваны К. Нап'ерскім і А. Кунікам зборнік гістарычных дакументаў «Руска-Лівонскія акты», які стаў значнай крыніцай беларусаведы. У ім змешчаны 402 дакументы з XII да пачатку XVII ст. з архіваў Рыгі. Значная частка надрукаваных актаў (больш за 150) датычыць Беларусі і Вялікага Княства Літоўскага, пры гэтым 10 — да Смаленска, 7 — Віцебска, 66 — Полацка.

Санкт-Пецярбург стаў месцам падрыхтоўкі пераважнай большасці друкаваных крыніц па гісторыі Беларусі. Гісторыі Вялікага Княства Літоўскага былі прысвечаны два асобныя тамы «Поўнага збору рускіх летапісаў».

У гэты самы час цэнтральная Археаграфічная камісія ў Санкт-Пецярбургу пачала выдаваць «Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографической комиссиею». Гаворка ідзе пра зборнікі з нерэгулярнай перыядычнасцю, прысвечаныя палітычнай, сацыяльнай і духоўнай гісторыі «паўднёвай і заходняй Расіі» перыяду з XIV да XVII ст. Выдаўцоў — М. Л. Кастамарава і Г. Ф. Карпава — што праўда, больш цікавіла гісторыя Украіны. Тым не менш у першых трох тамах, а таксама ў чатырнаццатым, былі надрукаваныя дакументы, прысвечаныя пераважна сацыяльнай гісторыі беларускіх земляў. Да іх належалі саслоўныя прывілеі і гандлёвыя рэгістры, гэтаксама як паведамленні пра акцыі сацыяльнага пратэсту з боку сялян і казацтва. У іншых крыніцах паведамлялася пра асветніцкую дзейнасць езуітаў, пра дзеянні праваслаўнай і уніяцкай цэркваў. Значнае месца займалі сведчанні пра вайсковыя сутыкненні, што мелі месца на гістарычнай тэрыторыі Беларусі. У чатырнаццатым томе пад прэтэнцыёзным лозунгам «Уз'яднанне Беларусі (1654–1655 г.)» задакументаваныя ваенныя аперацыі пад Магілёвам, Старым Быхавам, а таксама дзеянні К. Паклонскага і гетмана Івана Залатарэнкі. Да іншых дакументаў па Вялікім Княстве Літоўскім, выдадзеных у XIX і на пачатку XX ст. у Санкт-Пецярбургу, належаць: Дакументы, якія тлумачаць гісторыю Заходне-Рускага краю і яго адносіны да Расіі і Польшчы (пад рэд. М. В. Каяловіча, 1869); Дзённік Люблінскага сойма (пад рэд. М. В. Каяловіча, 1869); Дакументы Літоўскай Метрыкі: кнігі публічных спраў, кнігі запісаў, кнігі судных спраў (Руская гістарычная бібліятэка. Тт. 20, 27, 30, 33); Помнікі палемічнай літаратуры ў Заходняй Русі (тамсама, тт. 4, 7, 19, пад рэд. П. А. Гільдэбранта); Граматы, датычныя адносін паўночна-заходняй Расіі з Рыгай і Ганзейскімі гарадамі ў XII, XIII і XIV ст. (пад рэд. К. Нап'ерскага, 1857)[2].

Пецярбургскія навуковыя ўстановы належалі не толькі да Акадэміі навук ці Міністэрства народнай асветы, але і да такога, здавалася б, «няпрофільнага» для навукі ве-

[1] *Ульяновський В. І.* Колекція та архів епископа Павла Доброхотова. Київ, 1992.

[2] *Лінднэр Р.* Гісторыкі і ўлада. Нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX–XX ст. Мінск, 2005. С. 60–61.

дамства, як Міністэрства ўнутраных спраў. У яго склад уваходзіла Імператарскае Расійскае геаграфічнае таварыства, якое было заснавана ў жніўні 1845 г. з мэтай збору і пашырэння геаграфічных, статыстычных і этнаграфічных звестак пра ўнутраныя рэгіёны імперыі і замежныя краіны. Намінальным старшынёй таварыства абіраўся адзін з Вялікіх князёў, рэальна ж кіраваў віцэ-старшыня. У свой час старшынямі былі выдатныя вучоныя Ф. Літке, М. Мураўёў, П. Сямёнаў Цянь-Шаньскі, Ю. Шаскальскі. Як мы ўжо зазначалі, адным з 17 членаў-заснавальнікаў Геаграфічнага таварыства стаў палкоўнік-геадэзіст ураджэнец Беларусі Міхаіл Паўлавіч Урончанка (Врончанка).

Таварыства разгарнула актыўную навукова-даследчую, збіральніцкую і выдавецкую дзейнасць. У рэгіёны рассылаліся статыстычныя, этнаграфічныя, моўныя анкеты, энтузіясты і члены-карэспандэнты на месцах збіралі, кіруючыся імі, інфармацыю. Распрацоўкі Таварыства друкаваліся ў часопісе «Запісы Імператарскага Расійскага геаграфічнага таварыства», за самыя лепшыя працы кожны год прысуджаліся малы і вялікі залатыя медалі. З моманту заснавання з Геаграфічным таварыствам супрацоўнічалі даследчыкі-беларусы. Удзел іх быў такі значны, што ў 1867 г. быў утвораны Паўночна-заходні аддзел РГТ у Вільні, які ўзяў на сябе значную частку беларускай тэматыкі. У Паўночна-заходнім аддзеле РГТ актыўна працаваў гродзенскі гісторык выпускнік Пецярбургскага гісторыка-філалагічнага інстытута **Яўстафі Філарэтавіч Арлоўскі** (1862–1913).

У «Запісах РГТ» друкавалася шмат інфармацыі пра Беларусь — гэта былі прачытаныя на пасяджэннях Геаграфічнага таварыства даклады, а таксама карэспандэнцыя, што дасылалася з розных куткоў Беларусі. Так ажыццяўлялася сувязь сталічнага горада з беларускай этнічнай тэрыторыяй. Адной з першых публікацый быў артыкул настаўніка Навагрудскай гімназіі (выпускніка пецярбургскага Педагагічнага інстытута) М. Дзмітрыева — «Некалькі слоў гістарычнага нарыса Навагрудка» (друкаваўся з працягам у наступным нумары). Шмат рукапісных карэспандэнцый у Геаграфічнае таварыства з Беларусі не былі надрукаваныя і да сёння захоўваюцца ў яго архіве. Гэта «Апісанне Полацкага намесніцтва» Афанасьева, «Статыстычны нарыс Навагрудскага павета» і «Этнаграфічныя звесткі пра жыхароў Навагрудскага павета» К. Радзівіла, «Назіранні над мовай і забабонамі простага люду Дзісненскага павета» А. Люблінскага, «Вопіс старажытных актаў, што захоўваюцца ў архівах Навагрудскага магістрата» М. Дзмітрыева і яго ж «Этнаграфічныя звесткі пра Навагрудскі павет», «Зборнік беларускіх народных песень» П. Альхімовіча, «Беларускія казкі» А. Станкевіча і інш. Студэнт пецярбургскага універсітэта, ураджэнец вёскі Чэрнін (сучасны Светлагорскі раён) **Аляксандр Нічыпаравіч Шыманоўскі** (1850–1918) перадаў у архіў РГТ сваю працу «Мінская губерня і яе народная творчасць у сувязі з апісаннем народных свят і абрадаў» (1898).

Малым залатым медалём РГТ адзначыла «Зборнік беларускіх прыказак», які Іван Насовіч выдаў у Пецярбургу ў 1866 г. (да сёння ў БАН Санкт-Пецярбурга захоўваецца асобнік гэтай кнігі з аўтографам аўтара свайму навуковаму рэдактару: *«Его Превосходительству Измаилу Ивановичу Срезневскому от преданнейшего Ивана Носовича»*. Беларуская пісьменніца Марыя Косіч атрымала ўзнагароду Геаграфічнага таварыства за працы «Ліцвіны-беларусы Чарнігаўскай губерні, іх побыт і песні» (1901) і «Аб пабудовах беларускага селяніна Чарнігаўскай губерні» (1906). Усе матэрыялы для назіранняў Марыя Косіч брала на сваёй радзіме, у ваколіцах хутара Расуха Мглінскага павета (цяпер Бранская вобласць, Расія). Шмат працы з беларускімі матэрыяламі зрабіў сакратар (з 1883 г.) этнаграфічнага аддзела геаграфічнага таварыства Фёдар Істомін. Ён выдаў «Беларускі зборнік» Е. Раманава (1886), «Материалы для изучения Северо-Западного края» П. Шэйна (1888). У кніжным фондзе РНБ захоўваецца адна з кніг яго бібліятэкі: *Булгаковский Д.Г.* Пинчуки. Этнографический сборник. СПб., 1890. Экзэмпляр у шыкоўным з залатым абрэзам пераплёце, на якім выцеснена «удостоено золотой медали». На ўплеценым перад тытулам чыстым аркушы аўтограф аўтара:

*«В выражение моей глубочайшей признательности Вам за умелый и добросовестный труд при редактировании Вами, Фёдор Михайлович, сего Сборника, примите моих коханых Пинчуков на память от меня. Д.Г. Булгаковский. 1890 г.».*

Некалькі беларусаў сталі вядомымі ў навуцы дзякуючы супрацоўніцтву з Геаграфічным таварыствам, адзін з іх — **Мікалай Міхайлавіч Пржэвальскі** (1839–1888).

Ён нарадзіўся 12 красавіка 1839 г. у вёсцы Кімбарава Смаленскага павета ў сям'і шляхціча Міхаіла Прывальскага (уладальніка маёнтка Прывалы), які лацінкай пісаў

сваё прозвішча Przewalski (Пшэвальскі). Прозвішча у рускім прачытанні літаральна скалькавана з польскага напісання — пераход да рускай мовы ў беларускай шляхты не быў падмацаваны філалагічнай рэгламентацыяй, замена лацінкі кірыліцай зрабіла гэтае прозвішча цяжкім для вымаўлення і крыху фанабэрыстым (як і ў прозвішчах Ржэвускі, Пржэцлаўскі). Бацька і дзед, выпускнік Полацкага езуіцкага калегіума, скіравалі хлопца рабіць кар'еру вайскоўца. Не маючы ні асабістага багацця, ні ўплывовых знаёмстваў і сувязяў, Мікалай Міхайлавіч прайшоў службу ад правінцыйных палкоў да паспяховага заканчэння ў 1863 г. геадэзічнага факультэта Акадэміі Генеральнага штаба.

Служба патрабавала ад афіцэра-геадэзіста выконваць палявыя даследаванні ў самых аддаленых і нявывучаных кутках велізарнай краіны. Карта Зямлі была яшчэ поўная белых плямаў, у тым ліку на памежных з Расіяй паўднёвых і далёкаўсходніх рэгіёнах. Першае падарожжа Пржэвальскага было ў нядаўна далучаны да імперыі Усурыйскі край. Ён у 1867—1869 гг. звярынымі сцежкамі прайшоў зусім недаследаваныя раёны краю, нанёс на карту дакладныя абрысы азёраў, перайшоў горны хрыбет Сіхотэ-Алінь.

Школа самаадукацыі дапамагла Мікалаю Міхайлавічу стаць выдатным батанікам і заолагам. Калі Пржэвальскі чытаў у Пецярбургу лекцыю пра даследаванне прыроды Усурыйскага краю, ён пачаў імітаваць спевы розных птушак, аб якіх расказваў. Рабіў гэта з такім майстэрствам, што адзін са слухачоў, якому давялося пабыць на Амуры праз некалькі гадоў, пазнаваў галасы птушак, успамінаючы імітацыю Мікалая Міхайлавіча. Пржэвальскі навучыўся віртуозна вырабляць чучалы звяроў і птушак, у цяжкіх палявых умовах складаў выдатныя гербарыі рэдкіх раслін, што нават спецыялістаў здзіўлялі захаванасцю колераў. Нават у дні самых жорсткіх стыхійных выпрабаванняў не адмяняў ён навуковыя працы, з захапленнем вучонага вызначаў шыроты важнейшых пунктаў, вільготнасць паветра, характар вятроў, вышыню месца над узроўнем мора.

Вандроўкі па дзікіх бязлюдных прасторах Усурыйскага краю прынеслі Мікалаю Міхайлавічу вядомасць, і не толькі ў колах Геаграфічнага таварыства. Пасля вяртання ў Пецярбург вучоны адразу пачаў пісаць кнігу пра сваё першае падарожжа. І тут раскрыўся яшчэ адзін талент яго шматграннай натуры — талент літаратара. Пры ўсёй глыбіні і паўнаце навуковых звестак, кніга чыталася як захапляльны вострасюжэтны аповед. І кожная наступная кніга даследчыка рабілася падарункам для самага шырокага чытача: «*Манголія і краіна тангутаў. Трохгадовае падарожжа ва Усходняй нагорнай Азіі*», «*Ад Кульджы за Цянь-Шань і на Лоб-Нор*», «*Ад Кяхты на выток Жоўтай ракі. Даследаванне паўночнай ускраіны Тыбета і шлях праз Лоб-Нор па басейне Тарыму*».

Пасля таго як у 1870—1885 гг. ён здзейсніў чатыры экспедыцыі ў глыб Цэнтральнай Азіі, можна было казаць, што як Восіп Сянкоўскі ў гісторыі пісьмовага, так і Мікалай Пржэвальскі ў гісторыі геаграфічнага вывучэння Азіі паклаў пачатак новай эры.

У Пецярбург ён прывёз са сваіх экспедыцый багацейшыя і выдатна зробленыя батанічную і заалагічную калекцыі, што складалі больш як 35 000 экземпляраў. Яго імем названы некалькі відаў раслін і жывёлаў, у тым ліку дзікі конь, дзікі вярблюд, тыбецкі мядзведзь. Ён стаў генералам, шматлікія акадэміі ў знак пашаны абралі яго ганаровым членам. Жыў Мікалай Пржэвальскі ў 1881—1887 гг. у Сталярным завулку, 6. 20 сакавіка 1886 г. у зале Гарадской думы ён выступіў з публічным паведамленнем пра свае падарожжы. Збор ад выступлення (587 руб. 61 кап.)



*Помнік Мікалаю Пржэвальскаму ў Аляксандраўскім садзіку*

вучоны перадаў на арганізацыю ў Пецярбургу першай бясплатнай гарадской чытальні.

Накіраваўшыся ў чарговую экспедыцыю і прыбыўшы ў маленькі кіргізскі горадок Карапол, Мікалай Міхайлавіч нечакана захварэў на брушны тыф. Тут, каля падножжа Нябесных гор, падарожнік і закончыў свой жыццёвы шлях — на сорак дзевятым годзе жыцця. Дзеля ўшанавання заслуг вучонага і маральнай падтрымкі маладых географаў у 1891 г. Імператарскае Расійскае геаграфічнае таварыства заснавала медаль Пржэвальскага, а Акадэмія навук СССР у 1949 г. — залаты медаль яго імя.

У 1892 г. у цэнтры Пецярбурга, у скверы перад Адміралцействам, быў адкрыты помнік Пржэвальскаму: на пастаменце (архітэктар А. Більдэрлінг) бюст работы скульптараў І. Шрэдэра і Р. Рунэберга, ля падножжа — бронзавы вярблюд. Шмат пазней, пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, многія заўважылі, што да славутага падарожніка вельмі падобны аблічам кіраўнік камуністычнай партыі СССР Іосіф Сталін. Склалася нават народная легенда, быццам падчас вандроўкі на Каўказ Мікалай Пржэвальскі наведаў сяленне Горы, дзе ўжо пасля яго ад'езду нарадзіўся маленькі хлопчык...

Сярод удзельнікаў экспедыцый Пржэвальскага — яго зямляк, ураджэнец горада Духаўшчына Смаленскай губерніі **Пётр Кузьміч Казлоў** (1863–1935), у будучым сам выдатны падарожнік, даследчык Цэнтральнай Азіі. Пасля заканчэння гарадскога вучылішча Казлоў стаў працаваць у канторы піўзавода ў мястэчку Слабада. Сумна, аднастайна. Выйсця, здавалася, не было. Але летнім вечарам 1882 г. юнак сустрэўся з Мікалаем Пржэвальскім, які прыехаў на радзіму пашукаць утульны закутак, дзе б паміж падарожжамі пісаць кнігі. Гэтая сустрэча вырашыла лёс. Даведаўшыся, што юнак марыць пра падарожжы ў Цэнтральную Азію, Пржэвальскі яго падтрымаў. Ужо восенню 1882 г. Казлоў перабраўся да Мікалая Міхайлавіча ў Пецярбург, а ў студзені наступнага года быў залічаны ў экспедыцыю Пржэвальскага. З таго часу і да 1935 г. ён — даследчык невядомых земляў. Напачатку Пётр Казлоў — вучань і супрацоўнік знакамітага Пржэвальскага, якога Чэхаў назваў чалавекам «подзвігу, веры і выразна ўсвядомленай мэты». Потым — сам зрабіў шэраг выдатных адкрыццяў у Азіі. Сярод іх — руіны мёртвага горада Хара-Хото і мноства тангуцкіх кніг у ім. Горада, які загінуў пад націскам войска Чынгісхана, а ў свой час быў адным з буйнейшых адміністратыўных цэнтраў тангуцкай дзяржавы. Пётр Казлоў падарожнічаў у верхнім цячэнні рэкаў Меконг, Янцзы і Хуанхэ, адкрыў курганныя могільнікі гунаў. Жыў палкоўнік Пётр Казлоў на Смольным завулку, 6.

Яшчэ адным супрацоўнікам Імператарскага Геаграфічнага таварыства быў **Павел Восіпавіч Шэйн** (1826–1900), ураджэнец Магілёва, які прыехаў на пастаяннае жыхарства ў Пецярбург у 1881 г., выйшаўшы ў адстаўку са службы ў Міністэрстве народнай асветы ўжо будучы вядомым вучоным. Прынамсі яшчэ ў 1874 г. пецярбургская друкарня Майкава надрукавала яго аб'ёмны (566 старонак) зборнік «Беларускія народныя песні», за які ён праз год атрымаў Уваравўскую прэмію. Наперадзе была яшчэ вялікая праца па падрыхтоўцы «Матэрыялаў для вывучэння мовы і побыту насельніцтва Паўночна-Заходняга краю». Першая частка першага тома гэтай фундаментальнай кнігі была прысвечана побыту і сямейнаму жыццю беларусаў. Яна выйшла ў Пецярбургу ў 1887 г. У тым жа годзе Шэйн, якому ішоў 62 год, ажаніўся з маладой пецярбургскай белашвейкай Праскоўяй Вінаградавай, а праз год у іх нарадзілася дзіця. 28 чэрвеня 1891 г. Міністэрства народнай асветы паведаміла Шэйну, што за працы па збіранні помнікаў народнай творчасці яму прызначана пенсія ў 750 рублёў на год у дадатак да пенсіі ў 750 руб. за ранейшую настаўніцкую службу. У 1893 г. выйшаў другі том «Матэрыялаў». 26 лютага 1897 г. пасля цяжкай хваробы памерла жонка. Вясной таго ж года ён дамогся прыняцця сваёй адзінай дачкі Лізаветы на выхаванне ў аддзяленне для непаўналетніх Санкт-Пецярбургскага Елізавецінскага інстытута. Летам 1900 г. Шэйн паехаў на латышскі курорт Дуббельн (Дубулты), дзе нечакана захварэў. Памёр 14 жніўня 1900 г. у рыжскай гарадской бальніцы. Некралог па ім для «Рускага філалагічнага весніка» напісаў зямляк, на той час прафесар Варшаўскага універсітэта, Яўхім Карскі. Аб грамадскай ініцыятыве пабудаваць помнік на магіле П. Шэйна пісала 23 жніўня 1901 г. газета «Новое время». Апошні том «беларускай трылогіі», з апісаннем жытла, адзення, ежы, заняткаў, гульняў, вераванняў, чарадзейства, знахарства, лячэння, забабонаў і да т. п., з партрэтам і добрым прадметным паказальнікам выйшаў ужо пасля смерці аўтара.

Імператарскае Геаграфічнае таварыства з ініцыятывы Пятра Пятровіча Сямёнава Цянь-Шаньскага, пад яго непасрэдным кіраўніцтвам і пры яго ўдзеле здзейсніла два грунтоўныя выдавецкія праекты па рознаба-

ковым геаграфічным апісанні ўсёй велізарнай імперыі. Першая такая 9-томавая праца называлася «Маляўнічая Расія. Наша айчына ў яе зямельным, племянным, эканамічным і побытавым значэнні». Выдаўцом гэтай працы быў Маўрыкій Вольф, фірма якога мела аддзяленні ў Пецярбургу і Маскве. Выдавец пастараўся, каб кніга атрымалася не проста прыгожай, але і шыкоўнай: мастакам былі замоўлены карціны з найбольш характэрнымі відамі апісваных мясцовасцяў і помнікамі старажытнасці і архітэктуры. Кнігі былі выдадзены ў вялікім фармаце і атрымалі багаты пераплёт. Беларусі прысвечаны трэці том (выйшаў у 1882 г.), які складаўся з двух частак. У першай — «Літоўскае Палессе» – апісаны Гродзенская, Віленская і Ковенская губерні, у другой — «Беларускае Палессе» — Мінская, Магілёўская, Віцебская і Смаленская губерні. Большасць тэкстаў па гісторыі, этнаграфіі, міфалогіі Беларусі для гэтага выдання напісаў Адам Кіркор, невялікія артыкулы належалі С. В. Максімаву і П. П. Сямёнаву Цянь-Шаньскаму. У томе былі змешчаны 193 малюнкі ў тэксце і 26 асобных гравіраваных карцін.

Праз дваццаць гадоў у Пецярбургу было арганізавана яшчэ адно падобнае выданне. Галоўным кіраўніком быў, як і ў першым, П. П. Сямёнаў. Кніга называлася «Расія. Поўнае геаграфічнае апісанне нашай айчыны». Шматтомавік выйшаў у выдавецтве А. Ф. Дзеўрыена. Апісанню беларускіх Віцебскай, Мінскай, Смаленскай і Магілёўскай губерняў быў прысвечаны дзевяты том. Ён выйшаў у 1905 г. пад рэдакцыяй старшыні аддзялення этнаграфіі Геаграфічнага таварыства акадэміка Ламанскага. Галоўнымі аўтарамі былі М. В. Доўнар-Запольскі, Д. З. Шэндрык, А. К. Кабанаў, А. П. Сапуноў і П. П. Сямёнаў Цянь-Шанькі. Кнігу ўзбагачалі цудоўныя фатаграфіі. У выданні змешчана шмат эканамічнай і сацыялагічнай інфармацыі: карты глебаў, шчыльнасць насельніцтва, колькасць коней на 100 жыхароў, а таксама графікі цэн на жыта і авёс, іншая эканамічная інфармацыя. Этнаграфічныя карты паказвалі ўсходнюю мяжу рассялення беларусаў Смаленскай губерні па лініі Белы – Духаўшчына – Дарагабуж – Ельня. Прысутнічалі спісы літаратуры. Выданне гэта было не такое шыкоўнае, як «Маляўнічая Расія», але навукова лепш арганізаванае. Вучоны камітэт Міністэрства народнай асветы рэкамендаваў яго для бібліятэк навучальных устаноў і для раздачы выхаванцам як узнагароды. Вучоны камітэт Міністэрства фінансаў рэкамендаваў гэтую кнігу вучням старэйшых класаў камерцыйных вучылішчаў, падпарадкаваных гэтаму ведамству, а Галоўнае ўпраўленне ваенна-навучальных устаноў — для фундаментальных бібліятэк кадэцкіх карпусоў. Менавіта выданні Геаграфічнага таварыства сфармавалі ў перадрэвалюцыйнай Расіі той вобраз беларускага краю, на які пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі арыентаваліся будаўнікі беларускай дзяржаўнасці.

У цэнтры Пецярбурга перспектыву невялікай Міхайлаўскай вуліцы, якая адыходзіць ад Неўскага праспекта насупраць Гасцінага Двара, завяршае будынак Рускага музея (былы Міхайлаўскі палац), пабудаваны архітэктарам Карлам Росі ў 1819–1825 гг. Сярод іншых экспанатаў тут можна ўбачыць разную (па дрэве) іконку XV ст., якая належала пінскаму князю Яраславічу, з сюжэтам «Прамудрасць будуе сабе дом» і цудатворны абраз Багародзіцы, які полацкая князёўна вывезла ў Таропец, а таксама жывапісныя творы мастакоў-беларусаў XIX ст. Гараўскага, Хруцкага, Заранкі і іншых. Адным з аддзелаў Рускага музея быў этнаграфічны, які з 1902 г. пачаў збіранне этнаграфічных матэрыялаў на тэрыторыі Беларусі. Першай беларускай калекцыяй сталі вырабы сялян Ковенскай, Мінскай і Віцебскай губерняў з Усерасійскай кустарнай выставы 1902 г. У гэты ж час музей арганізаваў экспедыцыю ў Віцебскую і Магілёўскую губерні. Сярод сабраных рэчаў — музычныя інструменты і калекцыя ручнікоў з дадаткам апісанняў мясцовай тэрміналогіі і ўзораў арнаменту. Асаблівае месца займаюць калекцыі (больш чым 1300 экспанатаў), якія сабраў рэдактар «Магілёўскіх губернскіх ведамасцяў» Еўдакім Раманаў (1855–1922). Яшчэ адзін актыўны збіральнік — студэнт Пецярбургскага універсітэта В. К. Костка — прывёз музею ў 1905 г. з Ігуменскага і Слуцкага паветаў Мінскай губерні больш як 300 прадметаў. Асаблівую цікавасць у зборах музея ўяўляюць камплекты мужчынскага і жаночага адзення, дрэваапрацоўчыя інструменты, комплекс рыштунку бортнікаў, а таксама больш як 200 негатываў. У выніку збіральніцкай дзейнасці беларускія зборы ў 1909 г. складаліся з 53 калекцый і налічвалі больш за 3000 прадметаў. Сярод іх былі сапраўдныя шэдэўры-унікаты, напрыклад, адзіная захаваная з XIX ст. батлейка і 25 лялек да яе.

З Рускім музеем звязаны лёс некалькіх беларусаў-этнографаў, якія жылі і працавалі ў Пецярбургу ў канцы XIX – першай палове XX ст.



*Рускі музей. Фота пачатку XX ст.*

У 1905 г. у сталіцу прыехаў з Якуцка вядомы ўжо фальkларыст і этнолаг **Эдуард Карлавіч Пякарскі** (1858—1934). Нарадзіўся ён 25 кастрычніка 1858 г. на хутары Пятровічы Ігуменскага павета (зараз Чэрвенскі раён) Мінскай губерні ў шляхецкай сям'і, вучыўся ў Мінскай і Мазырскай гімназіях, а потым у Харкаўскім універсітэце. За рэвалюцыйную дзейнасць быў выключаны з універсітэта. У 1881 г. быў высланы ў Якуцкі край, дзе знаходзіўся да жніўня 1905 г. У Якуціі (жыў у Ігідацкім наслегу Ботурускага улуса, пазней — у Якуцку) Эдуард Пякарскі склаў слоўнік якуцкай мовы, напісаў некалькі навуковых прац па этнаграфіі якутаў і рускіх, удзельнічаў у экспедыцыях Геаграфічнага таварыства. Прыехаўшы ў Пецярбург, Эдуард Пякарскі быў да 1911 г. рэгістратарам этнаграфічных калекцый этнаграфічнага аддзела Рускага музея. З 1911 г. ён працуе ў Музеі антрапалогіі і этнаграфіі, жыве на вуліцы Царкоўнай, 3; апошнія гады жыцця Пякарскі супрацоўнічаў з Інстытутам усходазнаўства АН СССР. З 1927 г. ён — член-карэспандэнт Акадэміі навук СССР, з 1931 — ганаровы акадэмік[1].

Неацэнны ўклад у беларусазнаўства зрабіў супрацоўнік этнаграфічнага аддзела Рускага музея, літаратар і грамадскі дзеяч **Аляксандр Казіміравіч Сержпутоўскі** (1864—1940). Нарадзіўся ён ў Слуцкім павеце, закончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю (1884) і Пецярбургскі археалагічны інстытут (1904). У 1896—1906 гг. Аляксандр Сержпутоўскі працаваў на пецярбургскім паштамце, з 1906 да 1930 г. — у этнаграфічным аддзеле Рускага музея. У 1900 годзе сціплага служачага яшчэ няма ў даведніку «Весь Петербург», а ў 1908 г. ужо значыцца: «літаратар-этнограф. Жыве на Уладзімірскім праспекце, 13». Пазней (магчыма, з 1913 г.) пераехаў у дом № 1 на 5-й роце Ізмайлаўскага палка (цяпер 5-я Чырвонаармейская). Жыў там і ў рэвалюцыйны 1917 г., у гарадскім даведніку прадстаўляўся: «літаратар-этнограф, таварыш старшыні Таварыства распаўсюджвання навуковых ведаў». У 1906—1907 гг. ён арганізаваў экспедыцыі ў Палескія паветы Мінскай і Гродзенскай губерняў, падчас якіх было сабрана больш як 1800 прадметаў традыцыйнага адзення, землеробчых прыладаў, прадметаў рыбалоўства і пчалярства, зроблена каля 200 фотаздымкаў. Музей пасылаў свайго супрацоўніка Аляксандра Сержпутоўскага ў збіральніцкія этнаграфічныя экспедыцыі яшчэ некалькі разоў на працягу 1912—1925 гг.

[1] *Грыцкевіч В.* Эдуард Пякарскі. Біяграфічны нарыс. Мінск, 1989.

Пасля палявых даследаванняў доўгімі зімовымі вечарамі Аляксандр Казіміравіч рабіў камеральную апрацоўку прывезеных матэрыялаў, сістэматызаваў запісы, апісваў рэчы, перачытваў дзённікі. У выніку з'явілася фундаментальная публікацыя «Сказки и рассказы белорусов-полешуков. (Материалы к изучению творчества белорусов и их говора)», СПб., 1911 і іншыя кнігі. Бурлівыя палітычныя падзеі ў гады Першай сусветнай вайны не пакінулі беларускага этнографа абыякавым. Ён браў актыўны ўдзел у працы Таварыства распаўсюджвання навуковых ведаў, старшынёй (і арганізатарам) якога быў Анатоль Крамлёў, адначасова арганізатар некалькіх іншых грамадскіх таварыстваў. Таварыства збіралася ў доме на 5-й Раждзественскай вуліцы, 16. Акрамя Сержпутоўскага, яго членамі былі Маркоўскі, Сланімскі, Дарашкевіч, Тур, Пякарскі... — беларускія прозвішчы. Ці не стала гэтая суполка пачаткам будучага беларускага Вольна-эканамічнага таварыства, яшчэ трэба даследаваць. Пісаў Аляксандр Сержпутоўскі пад псеўданімам Навум Смага.




*Паштоўка XIX ст., прысвечаная этнаграфіі беларусаў*

Традыцыі А. К. Сержпутоўскага ў Расійскім этнаграфічным музеі працягвае беларус **Алег Віктаравіч Лысенка** (нарадзіўся 18.12.1955 г. у Полацку). Пасля сканчэння (у 1973 г.) СШ № 7 г. Полацка Алег Лысенка працаваў у мясцовым краязнаўчым музеі, удзельнічаў у археалагічных экспедыцыях па раскопках старажытнага Полацка, сам арганізоўваў экспедыцыі па зборы этнаграфічных і краязнаўчых матэрыялаў Паўночнай Віцебшчыны. Ён падрыхтаваў першыя экспазіцыі Полацкай карцiннай галерэі, рээкспазіцыю краязнаўчага музея, праводзіў першыя даследаванні старажытных графіці Спаса-Праабражэнскага сабора. У 1981 г. Алег закончыў гістарычны факультэт БДУ і пераехаў у Ленінград, дзе ад снежня 1981 г. працуе навуковым супрацоўнікам аддзела этнаграфіі народаў Беларусі, Украіны і Малдовы Расійскага этнаграфічнага музея. Яго апісанне беларускіх калекцый гэтага вялікага збору — заўсёды запатрабаваны даведнік[1]. Алег Віктаравіч на кафедры этнаграфіі і антрапалогіі гістарычнага факультэта Пецярбургскага Дзяржаўнага універсітэта напісаў дысертацыйную працу, прысвечаную рытуалам аграрнага цыкла ў беларускай этнакультурнай традыцыі XIX—XX стст. і паспяхова абараніў яе ў 2002 г., атрымаўшы ступень кандыдата навук.

У 1982—1987 гг. Алег Лысенка праводзіў экспедыцыйныя даследаванні памежных зон Беларусі і міжэтнічных камунікацыяў. Асабліва цікавымі былі Палескія экспедыцыі: сабрана больш як 300 этнаграфічных прадметаў і зроблена больш чым 500 фотаздымкаў і слайдаў. У 1990-я гг. працаваў у экспедыцыях на беларускай Смаленшчыне, рускай Поўначы, пазней — у Заходняй Сібіры па даследаванні славянскага (у тым ліку беларусаў) насельніцтва ў рамках комплекснай праграмы даследавання старажыльскага насельніцтва (у адрозненне ад новапрыбылых нафтавікоў) Сібіры, тэрыторыі ад Табольска да Салехарда. Кола навуковых зацікаўленняў Алега Віктаравіча надзвычай шырокае — гэта і ўсходнеславянская этнаграфія, і семіётыка культуры, праблемы класіфікацыі і тыпалогіі прадметаў у этнакультурным і музеязнаўчым кантэкстах, методыка выкладання ў галіне музеязнаўства, этнаграфіі, этналогіі і гісторыі культуры. Ён — аўтар шматлікіх публікацый, прысвечаных базавым паняццям і з'явам народнай культуры беларусаў: амулетам, тканінам, хлебу, жытлу, а таксама абрадавым дзеяням. Найбольш значныя з падрыхтаваных ім выстаў з беларускім матэрыялам: «Славяне Усходняй Еўропы. Чалавек у этнакультурнай прасторы» (1992—2002); «Арнамент: міф і структура» — Міжнародны фестываль «Белыя ночы» (1996); «Музей і збіральнік» — юбілейная выстава да 100-годдзя Расійскага этнаграфічнага музея (2002).

Алег Лысенка — нястомны арганізатар навуковых кантактаў з музеямі і вучонымі Беларусі. Першая падрыхтаваная ім этнаграфічная вы-

[1] Материалы по этнографии белорусов в собрании Российского этнографического музея. Предметно-тематический каталог-указатель коллекций. СПб., 1993. 108 с.

става «Беларускія калекцыі ў зборах Расійскага этнаграфічнага музея» адбылася ў 1983 г. у г. п. Раўбічы, філіяле Дзяржаўнага мастацкага музея Беларусі. Ён — куратар экспазіцыі «Беларусы. Канец XIX — пачатак XX ст.» у Расійскім этнаграфічным музеі, дзе ў 2005 г. правёў рээкспазіцыю. Адна з апошніх распрацовак — выстава «Архаічныя зоны славянскай культуры – традыцыйная культура Палесся» (1991). На пачатку XXI ст. Алег Лысенка рыхтуе асобны том «Матэрыялаў па этнаграфіі Расіі», у якім будзе апублікаваны рукапіс А. К. Сержпутоўскага «Палешукі-беларусы».

На стрэлцы Васільеўскага вострава, у памяшканні былога пакгауза, знаходзіцца Заалагічны музей Акадэміі навук. Тут знаходзяцца цікавыя прыродазнаўчыя калекцыі, у тым ліку сабраныя беларусамі М. Пржэвальскім, І. Гашкевічам, І. Чэрскім. **Іван Дзяменцьевіч Чэрскі** (1845–1892 гг.) прыехаў у Пецярбург у 1885 г. ужо знакамітым і аўтарытэтным даследчыкам возера Байкал і Калымскага краю. Сасланы 18-гадовым юнаком у салдаты ў Сібір, беларускі шляхціч з маёнтка Свална Дрысенскага павета Віцебскай губерні Іван Чэрскі зацікавіўся геалагічным мінулым гэтага краю. Пад уплывам кніг Дарвіна «Аб паходжанні відаў» і Сцяпана Кутаргі «Натуральная гісторыя зямной кары» ён пачаў будаваць сваю канцэпцыю засялення Сібіры, абапіраючыся на ўласную калекцыю выкапнёвых ракавін і костак дагістарычных жывёл, якія ён збіраў на берагах Іртыша. Юнаку пашанцавала — улетку 1868 г. у Омску працаваў акадэмік Аляксандр Мідэндорф. Агледзеўшы калекцыю Чэрскага, Мідэндорф пагадзіўся з высновай маладога даследчыка пра існаванне на Омскай раўніне вялікага прэснаводнага басейну. Гэта супярэчыла прынятаму погляду аб марскім характары дагістарычнага вадаёму. Аднак усе выкапнёвыя ракавіны, што сабраў Іван Чэрскі на берагах Іртыша, належалі прэснаводным малюскам! Па пратэкцыі Мідэндорфа Івана Чэрскага прымаюць на сталую працу ў Сібірскі цэнтр Геаграфічнага таварыства ў Іркуцку, адкуль ён і пераехаў з жонкай і сынам на 14-ю лінію Васільеўскага вострава, паблізу Смаленскіх могілак.

У сталіцы Іван Дзяменцьевіч працаваў у Заалагічным музеі Акадэміі навук: апрацоўваў палеанталагічныя калекцыі. Шэсць расійскіх і замежных навуковых таварыстваў абралі яго сваім членам. Адзін з сяброў пазней успамінаў: «Памятаю, як Іван Дзяменцьевіч прастадушна запэўніваў мяне, што ў Пецярбургу яму жыць лепш, што ён тут мае задавальненне ад прагулак і адпачывае «гуляючы па Смаленскіх могілках»; <...> ён быў заняты сваёй любімай справай, быў спакойны, не бачыў інтрыг, а беднасць, сціплае матэрыяльнае становішча, душнае для слабога чалавека паветра — гэта што, драбяза!». Акадэмія навук дапамагла яму арганізаваць новую экспедыцыю ў Сібір, падчас якой ён ў 1892 г. памёр. Яго дасягненні да сёння застаюцца фактамі навукі: першая геалагічная карта ўзбярэжжа возера Байкал, ідэя эвалюцыйнага развіцця рэльефу; яго тэктоніка-палеаграфічную схему унутраных раёнаў Сібіры пазней выкарыстаў і развіў аўстрыйскі геолаг Э. Зюс у працы «Аблічча Зямлі». Сын Івана Чэрскага закончыў Пецярбургскі універсітэт, стаў заолагам і загінуў у экспедыцыі на Далёкім Усходзе ў 1921 годзе[1].

У Заалагічным музеі працаваў яшчэ адзін знакаміты выхадзец з Беларусі **Аляксей Андрэевіч Бялыніцкі-Біруля.** Ён нарадзіўся ў 1864 г. у вёсцы Бабкова Аршанскага павета. Бацька — Андрэй Сімпліцыянавіч — арганізаваў у сваім маёнтку першую на Беларусі метэаралагічную абсерваторыю. Сын з маленства прыахвоціўся да назірання за прыродай. Пасля заканчэння Пецярбургскага універсітэта Аляксей Бялыніцкі-Біруля вывучаў флору і фаўну Шпіцбергена, удзельнічаў у першай палярнай экспедыцыі Акадэміі навук на шхуне «Зара» (1900), напісаў «Нарысы з жыцця птушак палярнага ўзбярэжжа Сібіры» (СПб., 1907). Большасць яго навуковых прац (звыш 100) прысвечана сістэматызацыі і біягеаграфіі розных груп беспазваночных, птушак і млекакормячых. Яго імя носяць заліў і гара на Таймыры. У савецкі час, будучы дырэктарам Заалагічнага музея і прафесарам Ленінградскага універсітэта, Аляксей Бялыніцкі-Біруля стварыў камісію па вывучэнні малярыйных камароў, арганізаваў экспедыцыю ў Сярэднюю Азію (1928) для паразіталагічных даследаванняў. Памёр вучоны ў 1938 г.

[1] *Грицкевич В. П.* Путешествия наших земляков. Из истории страноведения Белоруссии. Минск, 1968. С. 187–203; *Ярмоленка В. А.* За даляглядам айкумены. Мінск, 1995.

## Расійская Нацыянальная бібліятэка

У самым цэнтры Санкт-Пецярбурга, на рагу Неўскага праспекта і Садовай вуліцы з пачатку XIX ст. і да нашых дзён у спецыяльна пабудаваным архітэктарам Сакаловым будынку месціцца *Расійская Нацыянальная бібліятэка*.

Афіцыйную назву бібліятэка на працягу двух стагоддзяў неаднойчы мяняла: Імператарская публічная (1810–1917), Расійская публічная (1917–1925), Дзяржаўная публічная бібліятэка ў Ленінградзе (1925–1992, з 1932 — імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына), нарэшце, Расійская Нацыянальная (РНБ, з 1992). Заснавальніца бібліятэкі — імператрыца Кацярына II — паставіла перад гэтай установай тры галоўныя задачы:

— *збіраць кнігі і рукапісы, «найкаштоўнейшы разумовы капітал»;*

— *захоўваць, апісваць і вывучаць сабранае;*

— *даваць сабранае багацце ў бясплатнае карыстанне тым, хто мае ў ім патрэбу.*

Вядомая ва ўсім свеце як скарбніца помнікаў пісьменства агульначалавечага значэння, РНБ займае адметнае месца і ў беларускай культуры. Сярод матэрыялаў гэтага багацейшага расійскага кнігасховішча здаўна былі каштоўныя помнікі альбарутэнікі, а сярод супрацоўнікаў — беларусы, якія служылі і расійскай, і сусветнай, і сваёй культуры.



*Расійская Нацыянальная бібліятэка*

Мяжу XX і XXI стст. РНБ перайшла з больш чым 32 мільёнамі адзінак захавання. Яны сабраныя ў асноўныя фонды (рускі і замежны кніжныя, рускіх і замежных часопісаў) і шэраг спецыяльных (па відах матэрыялаў, які захоўваецца): нот, картаграфіі, газет, эстампаў, рэдкіх кніг, рукапісаў. З пачатку XIX ст. Рускі фонд атрымоўваў абавязковы экзэмпляр усіх кніг, якія выдаваліся ў імперыі. Добра прадстаўлены беларусазнаўчыя працы, а таксама кнігі, што надрукаваныя на Беларусі ад Францыска Скарыны і да сучаснасці.

Друкаваны каталог калекцыі "Rossica" (СПб., 1873, перавыданне М., 2004) змяшчае шмат выданняў на лацінскай, польскай, нямецкай і іншых мовах, якія мы можам называць альбарутэнікай. У РНБ можна знайсці кнігі не толькі цікавыя па змесце, але і паасобнікі з цікавым лёсам. Перш чым трапіць у пецярбургскае кнігасховішча, многія з іх належалі выдатным людзям альбо ўваходзілі ў знакамітыя беларускія кнігазборы. На паліцах замежнага фонду РНБ сустрэліся экзэмпляры з аўтографамі Віктара Каліноўскага і кнігі з бібліятэкі вялікага князя Жыгімонта Аўгуста, шматлікія выданні беларускіх друкарняў ВКЛ — брэсцкія, магілёўскія, слуцкія, віленскія, любчанскія (ад XVI да XIX ст.). Пераплёты і абклады многіх з гэтых кніг — шэдэўры дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, ілюстрацыі — помнікі мастацтва графічнага. Упрыгажэннем беларускай часткі Рускага фонду з'яўляюцца кнігі з аўтографамі, напрыклад, кніга Я. Карскага «Беларусы», якую члены Гродзенскага гуртка беларускай моладзі падарылі пры ад'ездзе ў Пецярбург свайму члену Адаму Бычкоўскаму.

Захоўваюцца ў Расійскай Нацыянальнай бібліятэцы і цэлыя комплексы кніг-канфіскатаў, якія вывезены з Беларусі яшчэ ў XIX ст. царскім урадам. Імператарская Публічная бібліятэка атрымала тады кнігі, якія паходзілі з зачыненых у Беларусі піярскіх і езуіцкіх школ, у тым ліку з Полацкага езуіцкага калегіума, а таксама з бібліятэк скасаваных манастыроў разнастайных каталіцкіх ордэнаў, прыкладам, кармелітаў босых у Глыбокім. У канцы 1840-х гг. паступленні былі настолькі значныя, што па даручэнні дырэктара бібліятэкі барона Мадэста Корфа праверкай дублетнасці і накіраваннем кніг у розныя аддзяленні займаўся спецыяльны бібліятэкар. Іншай вялікай крыніцай паступленняў былі бібліятэкі і архівы базыльянскіх манастыроў: Жыровіцкага, Мінскага, Быценьскага, Супрасльскага.

У той час як пецярбургская бібліятэка Акадэміі навук утрымлівае кнігі з нясвіжскай бібліятэкі Радзівілаў, кнігазбор другога па велічыні беларускага магнацкага роду — Сапегаў — апынуўся на Неўскім, у замежным кніжным фондзе РНБ. Аснову яго заклаў у XV ст. пісар вялікага князя Івашка Сапега. У другой палове XVI — першай чвэрці XVII ст. вялікую калекцыю кніг сабраў дзяржаўны канцлер Леў Сапега. Новае папаўненне збору Сапегаў звязана з імем канцлера Вялікага Княства Літоўскага Яна Фрыдэрыка Сапегі (пам. у 1751 г.). Яго кнігі лёгка пазнаюцца

па адмысловых экслібрысах. Ян Фрыдэрык пакінуў свой кнігазбор нашчадкам, хоць, як і яго папярэднікі, ахвяраваў частку кніг грамадству — прынамсі Брэсцкай езуіцкай калегіі[1].

Галоўныя зборы Сапегаў знаходзіліся ў маёнтках Дзярэчын (каля Слоніма) і Кодэнь (побач з Брэстам). Значнасць культуратворчай дзейнасці прадстаўнікоў роду Сапегаў у сярэдзіне XVIII ст., у прыватнасці віленскага епіскапа Іосіфа Станіслава, падканцлера ВКЛ Яна Фрыдэрыка, можна супаставіць хіба што з дзейнасцю братоў Залускіх у суседняй Польшчы. Захаваная велізарная перапіска Сапегаў яшчэ ўтойвае мноства самай разнастайнай інфармацыі, у тым ліку аб прадстаўніках гэтага роду як аўтарах, заказчыках і збіральніках кніг.

Апошнім уладальнікам Кодэньскай бібліятэкі быў Аляксандр Сапега. Ён нарадзіўся ў верасні 1773 г., ранняе дзяцінства правёў у Страсбургу, куды бацькі пераехалі пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай. У пачатку 1777 г. Аляксандр вярнуўся ў Беларусь, жыў у маёнтку Сямяцічы пад Брэстам у цёткі Ганны Ябланоўскай, карыстаўся яе вялікім кнігазборам і мінералагічным музеем. Вучыўся ў Вене, падарожнічаў па Альпах, Апенінскім паўвостраве і Францыі. У 1800 г. ён стаў членам Таварыства аматараў навук у Варшаве і заняўся стандартызацыяй мер і вагі ў Польшчы і Вялікім Княстве Літоўскім паводле ўзору метрычнай сістэмы Заходняй Еўропы. Асобнымі выданнямі для масавага карыстання былі надрукаваны яго табліцы пераводу старых мер і вагі ў метрычныя, прыкладам: «Параўнальная табліца новых французскіх і літоўскіх (польскіх) мер і вагі». Адначасова ён друкуе шэраг артыкулаў па геалогіі, геаграфіі і этнаграфіі, выдае падручнік па неарганічнай хіміі. Свой сямейны кнігазбор у 1811 г. Аляксандр Сапега перадаў у карыстанне варшаўскаму Таварыству аматараў навук і выдзяліў сродкі для ўпарадкавання і падтрымання гэтага збору. Восенню 1812 г. у сутычцы з дзіком на паляванні ў Белавежскай пушчы Аляксандр атрымаў сур'ёзную траўму і 8 верасня памёр у Дзярэчыне. Бібліятэка заставалася ў Варшаве, пакуль палітычныя залоты не змянілі яе лёс. У 1831 г. расійскі ўрад скасаваў Таварыства аматараў навук, а яго кнігазбор перавезлі ў Санкт-Пецярбург і перадалі Імператарскай Публічнай бібліятэцы. Асобныя кнігі Сапегаў можна таксама знайсці ў бібліятэцы Эрмітажа.

Звычайна ў бібліятэках да рэдкай кнігі залічваюць выданні эпохі ручнога варштату (да першай чвэрці XIX ст.). Аднак у РНБ такіх выданняў столькі, што трэба было б «рэдкай кнігай» назваць значную частку асноўных фондаў. Таму рэдкай кнігай тут лічацца толькі інкунабулы і калекцыі: альды, эльзевіры, кірылічная кніга XVI—XVIII стст. Сярод інкунабулаў РНБ беларускае паходжанне мае экзэмпляр ульмскага 1482 г. выдання Касмаграфіі Пталемея, які (згодна з захаванай прыпіскай) у 1592 годзе брэсцкі падкаморы Мікалай Пац падарыў брэсцкаму ваяводзе, чачэрскаму і прапойскаму старасце Крыштафу Зяновічу. Беларускія старадрукі фонду рэдкіх кніг апісаны ў каталогах Веры Лук'яненкі і Тамары Афанасьевай[2]. Сапраўднай скарбніцай для даследчыкаў беларускай музыкі XVIII—XIX стагоддзя стаў нотны аддзел РНБ. Менавіта тут супрацоўнікі «Беларускай капэлы» Генадзь Паплаўскі і Віктар Скарабагатаў знайшлі ноты і лібрэта опер Радзівіла, якія паставілі ў Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі, тут знаходзіцца нотны матэрыял Восіпа Казлоўскага і іншых беларускіх музычных дзеячаў.

Калекцыі аддзела эстампаў РНБ складаюцца з гравіраваных партрэтаў і відавых гравюр, тут збіраюць рэкламныя плакаты, наглядную агітацыю, дробныя матэрыялы — паштоўкі, календары, этыкеткі, а таксама фотаздымкі.

На старонках аднаго з першых фотачасопісаў у 1864 г. фатаграфію акрэслілі як цудоўны сплаў «хіміі і сэрца, оптыкі і пачуцця, апарата і думкі». Беларусіка ў зборы старых фатаграфій РНБ вельмі разнастайная — захаваны лепшыя ўзоры партрэтных, этнаграфічных (альбомы па Магілёўскай губерні), відавых, жанравых (гродзенскія пажарнікі) здымкаў. Добра пададзены жанр «індустрыяльнай» фатаграфіі. Да яго, у прыватнасці, належаць расфарбаваныя здымкі Палескай чыгункі, фотаальбом, прысвечаны будаўніцтву Арлоўска-Віцебскай чыгункі. У іх уключаны здымкі падрыхтоўчых работ, узвядзенне насыпаў і мастоў, знешні выгляд паравозаў,

[1] Кніга «Ars Metrica» Авідзія са збораў РНБ (шыфр 6.4.7.1.63) мае на адвароце верхняй крышкі вокладкі надпіс: «Collegii Brestensis Societatis Jesu. Ex dono Ill[ustrissi]mi Ioannis Friderici Sapieha cancellarii MDLitt.»

[2] *Лукъяненко В. И.* Каталог белорусских изданий кирилловского шрифта XVI—XVII вв. Вып. 1 (1523—1600). Л., 1973; *Лукъяненко В. И.* Каталог белорусских изданий кирилловского шрифта XVI—XVII вв. Вып. 2 (1601—1654). Л., 1975. *Афанасьева Т. А.* Каталог белорусских кириллических изданий XVII—XVIII вв. Вып. 3 (1693—1800). СПб., 1993.

вагонаў, дрызін, чыгуначных станцый і дэпо. Вылучаецца альбом варшаўскага фатографа К. С. Брандэля, які расфарбаваў кадры будаўніцтва Віленска-Ровенскай чыгункі — такім спосабам фатограф імкнуўся дасягнуць эфекту каляровай фатаграфіі. Яшчэ адзін майстар увекапомніў будаўніцтва Палескай чыгункі. Гэта быў А. Дзямчынскі, які ў сваёй вялікай (77 фотаздымкаў) серыі выразна падкрэсліў перавагі чорна-белай фатаграфіі. Ягоныя здымкі, дастаткова утылітарныя па змесце, поўныя паэзіі, яскрава ўвасабляюць тэхналогію аб'ёмных ракурсных здымкаў, у якіх тэхнічныя аб'екты цалкам зліваюцца з прыродай і выглядаюць як яе неад'емная частка. У пачатку ХХ ст. майстэрствам фатографа авалодвалі вучоныя, члены розных экспедыцый, вайскоўцы, нават літаратары. У аддзеле эстампаў захоўваюцца матэрыялы этнаграфічнай экспедыцыі на Беларусь у 1898 г. пісьменніка і этнографа М. А. Крукоўскага. Сюды ж трапілі два альбомы студэнта Пецярбургскага ўніверсітэта В. К. Косткі, створаныя на заданне Геаграфічнага таварыства — гэта фоталетапіс яго паездкі ў 1903 і 1904 гг. у Магілёўскую губерню. У зборах аддзела эстампаў РНБ можна знайсці таксама раннія кінаплакаты «Беларусьфільма», віцебскія «Окна РОСТА» і шмат іншых твораў мастацтва.

Найлепшы ў свеце збор кірылічных газет РНБ уключае і беларускія выданні. Гэта абавязковыя экзэмпляры губернскіх ведамасцяў з іх дзвюма (афіцыйнай і неафіцыйнай) часткамі — Мінскія, Віленскія, Магілёўскія, Віцебскія, Гродзенскія, Беластоцкія. Некаторыя першыя нумары падпісаны асабіста губернатарамі — пасылаліся ж у Пецярбург, сталіцу! У пачатку ХХ ст., акрамя гэтых афіцыйных выданняў, распаўсюдзілася багата іншых газет, а колькасць гарадоў, у якіх яны выходзілі, значна ўзрасла. Дакастрычніцкая калекцыя налічвае больш за 180 назваў газет, якія выходзілі ў 30 населеных пунктах Беларусі. Дарэвалюцыйная калекцыя мае добры друкаваны і электронны каталог[1].




*РНБ. Першы том манаграфіі Я. Карскага "Беларусы"*

Толькі павярхоўны агляд матэрыялаў беларускага паходжання ў РНБ мог бы заняць аб'ём цэлай кнігі — вельмі ж шырокі храналагічны і тэматычны дыяпазон пісьмовых помнікаў. Адна з найбольш каштоўных частак фонду — рукапісныя матэрыялы. Яшчэ ў 1809 г. імператар Аляксандр I купіў калекцыю рукапісаў былога пасла Расіі ў Парыжы П. Дуброўскага з прызначэннем яго пажыццёвым захавальнікам. Да калекцыі Дуброўскага ў Пецярбургу далучылі невялікую, але вельмі важную частку архіва Нясвіжскага замка, менавіта пераплёты з дакументамі знешнепалітычнай дзейнасці Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Больш як 50 беларускіх рукапісных кніг захоўваюцца ў фондах аддзела рукапісаў. Іх можна знайсці ў калекцыях М. Пагодзіна, Наўгародскага Сафійскага сабора, Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі, Агульным зборы рускай рукапіснай кнігі, Разнамоўных аўтографаў. Сюды ж трэба далучыць некалькі соцень архіўных дакументаў, рукапісных картаў, малюнкаў.

Рукапісная кніга — заўсёды рарытэт, большасць з іх мае ўласнае імя: Евангелле полацкага епіскапа Нафанаіла, Евангелле Пратасовіча, Слуцкі зборнік Чалюсткіна, Псалтыр палачаніна Івана, Глыбоцкае Евангелле, Службоўнік з Невеля, Службоўнік 1514 г. з Супрасля, Лемяшэвіцкае Евангелле, Лемяшэвіцкі Апостал, Евангелле Жабы.

Самы старажытны беларускі кніжны помнік у РНБ — Полацкае Евангелле XII ст. Кніга трапіла ў Пецярбург разам з кнігазборам маскоўскага прафесара гісторыка М. Пагодзіна, а створана яно ў адным са старадаўных полацкіх храмаў — Святатраецкай царкве і мае некалькі запісаў пра ахвяраванні палачан на гэты храм. У аддзеле рукапісаў захоўваюцца яшчэ некалькі

[1] Газеты дореволюционной России. 1703—1917. Каталог. СПб., 2007.



*Памятны запіс членаў Гродзенская гуртка беларускай моладзі на форзацы кнігі Я. Карскага «Беларусы» Адаму Бычкоўскаму перад яго ад'ездам у Пецярбург. Май 1911 г.*

пергаменных рукапісных кніг з Полацка і Смаленска: Полацкае Евангелле апракас XIV ст. з манастыра Яна Прадцечы на востраве (цяпер няма ўжо і следу таго вострава на Дзвіне), Евангелле XIV ст. з прыпіскамі, якія былі зроблены сучаснікамі полацкага купца Лукі Скарыны і яго сына Францыска, будучага беларускага першадрукара[1]. Выдатным узорам старабеларускага мастацтва кнігі з'яўляецца Псалтыр Улляны і Глеба Смаленскіх XIV ст., які мае шматколерныя застаўкі і ініцыялы звярынага стылю. Да шэдэўраў кніжнай культуры належаць Друйскае Евангелле і «Псалтыр з тлумачэннямі» (Сапегаўскі псалтыр) XVI ст. віленскай работы, упрыгожаныя мініяцюрамі высокай мастацкай якасці.

Часам прыпіскі ў кнізе паведамляюць нейкія фрагменты яе гісторыі. Напрыклад, спіс «Гутаркі Іаана Златавуснага на евангелістаў Мацея і Іаана» ў 1636 г. купіў нейкі Война на маскоўскім Канстанцінаўскім кірмашы ў манахаў Куцеінскага Аршанскага манастыра, а «Зборнік» выбраных тэкстаў быў, згодна з запісам, перапісаны ў 1529 г. віленскім месцічам Фёдарам Сазановічам «сидя в нятстве, у пойманьи великого князя Василья Ивановича в Твери». Запіс перапісчыка на Трыёдзі паведамляе, што гэтую кнігу ў 1466 г. зрабіў дыякан Яўстафій у Гродне, на заказ пана Фёдара Валовіча. Цяжка сёння вызначыць шляхі, якімі гэтыя кнігі трапілі ў Пецярбург, таксама як і Евангелле-апракас з Мінскага Свята-Духава манастыра альбо Слуцкі спіс 1-га (1529) і Віцебскі спіс 2-га (1566) Статутаў Вялікага Княства Літоўскага, перапісаны беларускім скорапісам.

Шмат якія рукапісы Імператарскай публічнай бібліятэкі вучоныя даўно выкарыстоўваюць у даследаваннях. Гэта датычыць, напрыклад, «Зборніка» XV ст. з літаратурнымі творамі, які падрабязна апісаў яшчэ Яўхім Карскі[2]. Аднак большасць матэрыялаў яшчэ чакае свайго даследчыка.

Шматлікія разнамоўныя рукапісы XVII–XVIII стст. паходзяць з каталіцкіх (найбольш езуіцкіх) бібліятэк Оршы, Віцебска, Полацка, а таксама Быценскіх і Жыровіцкіх базыльянаў. Прынамсі 7 базыльянскіх рукапісных кніг — з асабістага збору прафесара Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі гісторыка царквы Міхаіла Каяловіча — бібліятэка купіла у яго сваякоў у 1892 г.[3]. Найбольшая ж колькасць — са збору Полацкай іезуіцкай калегіі (маюць штамп: «Coll:Pol:S.J.»), якая паступіла ў 1831 г. Даследчык знойдзе ў іх самыя розныя творы: прамовы, п'есы, гісторыю царкоўных ордэнаў і інш., асобныя кнігі для навучання (рыторыкі, слоўнікі, гістарычныя тэксты).

У архіўных фондах аддзела рукапісаў знаходзіцца багаты збор грамат з канцылярыі Вялікага Княства Літоўскага XV–XVIII стст. Акты гэтыя напісаны большай часткай на старабеларускай мове, яны раскрываюць абставіны розных гістарычных спраў. Яшчэ адна калекцыя грамат — жыдоўскія, на беларускай, габрэйскай і польскай мовах, са збораў Абрама Фірковіча. Шмат датычных Беларусі матэрыялаў у прыватных архівах папячыцеляў Віленскай навучальнай акругі Пампея Бацюшкава і Івана Карнілава. Каштоўныя матэрыялы па гісторыі паўстання 1863 г. знаходзяцца ў архіўным фондзе гістарыёграфа гэтага паўстання артылерыйскага генерала Васіля Ратча[4]. Ад савецкіх часоў захоўваецца перададзены з НКУС дзённік рэпрэсаванага беларускага вучонага-жывёлавода Мікалая Баяровіча. З апошніх паступленняў — машынапісныя арыгіналы раманаў Івана Шамякіна і Івана Навуменкі. Сярод экзатычных помнікаў

[1] *Гранстрем Е. Э.* Описание русских и славянских пергаментных рукописей. Л., 1953. С. 39–45.
[2] *Карский Е. Ф.* Западнорусский сборник XV-го века ИПБ. СПб., 1897.
[3] Отчёт Императорской Публичной библиотеки за 1892 год. СПб., 1895. С. 323–327.
[4] *Кісялёў Г.* Героі і музы. Гісторыка-літаратурныя нарысы. Мінск, 1982. С. 86–117.




*Карта беларускіх земляў, далучанных да Расійскай імперыі ў 1772 годзе. Са збораў РНБ*

беларусістыкі ў аддзеле рукапісаў — спіс твораў арабскага падарожніка і вучонага XII ст. Аль-Ідрысі. Гэты спіс датуецца XIV ст. і акрамя арабскага тэксту мае карты, на адной з якіх паказаны палескія балоты і горад Муніска — вучоныя атасамліваюць яго са старажытным Менскам.

Аддзел картаграфіі РНБ мае самы лепшы збор сярэднявечных атласаў, частка з іх паходзіць з былой Полацкай езуіцкай акадэміі. Планы і віды беларускіх гарадоў, карты ад самых старажытных, прыкладам, рэдкай копіі карты Фра Маўро XIV ст., на якой паказана Беларусь, да апошняга шэдэўра картаграфіі Расійскай імперыі — двухвярстовай карты, на якую нанесены ўсе населеныя пункты. Значная частка з іх ужо не існуе, і гэтая карта — апошні і дакладны (назва і лакалізацыя) пра іх успамін. Цікавую расфарбоўку мае паасобнік Радзівілаўскай карты 1613 г. — самая дакладная еўрапейская карта свайго часу.

Штат Імператарскай публічнай бібліятэкі падчас заснавання складаўся з чатырох бібліятэкараў і некалькіх памочнікаў. Паступова штат рос, і ў нашы дні ён складае больш за 1200 адзінак. Як у XIX, так і ў XX і XXI стст. у штаце заўсёды знаходзіліся выхадцы з Беларусі, часта гэта былі знакамітыя вучоныя і дзеячы культуры. Сувязі з Беларуссю былі і ў двух дырэктараў Імператарскай бібліятэкі: Мікалай Карлавіч Шыльдэр (дырэктар у 1899—1902 гг.) паходзіў са шляхты Віцебскай губерні, а Дзмітрый Фаміч Кабека (дырэктар у 1902—1918 гг.) — са старажытнага беларускага шляхецкага роду і меў маёнтак на Мсціслаўшчыне. Беларуса можна было сустрэць у асобе дзяжурнага па чытальнай зале — гэтую пасаду займаў інвалід **Міхаіл Анісімавіч Хлябцэвіч**, сын дыякана са Слуцкага павета і выпускнік Слуцкай гімназіі, які ваяваў з генералам Чарняевым супраць турак у Сербіі. Міхаіл Хлябцэвіч быў афіцэрам у сербскай арміі, пасля ранення вярнуўся ў Пецярбург, атрымоўваў тут аднаразовыя дапаможныя выплаты ад Славянскага дабрачыннага таварыства. У чэрвені 1879 г. ён звярнуўся з прашэннем у дырэкцыю ІПБ, паведамляючы, што застаўся без усялякіх сродкаў. Быў прыняты і фактычна працаваў два гады, пасля чаго захварэў і ў 1884 г. памёр.

У 1841—1844 гг. у бібліятэцы працаваў ураджэнец Мсціслаўля **Міхаіл Сямёнавіч Кутарга**. Паколькі ён ужо быў экстраардынарным прафесарам (з 1839 г.) па кафедры ўсеагульнай гісторыі універсітэта, для працы ў бібліятэцы трэба было атрымаць спецыяльны дазвол міністра народнай асветы. Выкладчыцкая праца прымусіла Міхаіла Кутаргу неўзабаве пакінуць працу ў бібліятэцы, а вось **Антон Дамінікавіч Іваноўскі** (1823—1873) працаваў тут больш як 15 гадоў: з чэрвеня 1851 да 8 снежня 1869 г. Будучы пецярбуржац нарадзіўся ў Гродне. Напачатку Антон Іваноўскі — вольнанаёмны, а потым малодшы бібліятэкар ІПБ. У маі 1860 г. яго камандзіравалі на 4 месяцы ў Аўстрыю і Прусію для агляду тамтэйшых бібліятэк і набыцця неабходных выданняў. Неўзабаве пасля вяртання Іваноўскі стаў біблітэкарам. Гэта была пасада загадчыка аддзялення, але Іваноўскаму ніякае аддзяленне не было даручана і ён выконваў розныя спецыяльныя распараджэнні дырэктара. Пад яго кіраўніцтвам працавалі два вольнанаёмныя супрацоўнікі. Шмат займаўся дублетамі, у тым ліку ў 1864 г. адвёз значную колькасць дублетаў ІПБ у Румянцаўскі музей у Маскву. У лістападзе 1860 г. вахцёр спыніў на выхадзе аднаго з супрацоўнікаў Іваноўскага з рэдкімі польскімі кнігамі, якія той хацеў непрыкметна вынесці. Дырэктар бібліятэкі барон Мадэст Андрэевіч Корф, які высока цаніў стараннасць Антона Іваноўскага, ходу справе не даў, і ўсё скончылася звальненнем двух яго супрацоўнікаў. Крыху пазней была высветлена прапажа польскіх кніг у тых аддзяленнях, дзе працаваў Іваноўскі. 8 снежня 1869 г. ён звольнены з бібліятэкі па прашэнні[1]. Антон Іваноўскі шмат пісаў і друкаваў — праз два гады пасля звальнення была надрукавана нават яго персанальная бібліяграфія над назвай «Каталог сачыненняў» (СПб., 1871 г.). Кароткі час перад паўстаннем 1863 г. у ІПБ працавалі браты Каліноўскія — спачатку Віктар, а пазней, па яго пратэкцыі, — Кастусь. У 1863 г. у Пецярбург, каб заняць кафедру гісторыі ва універсітэце, прыбыў з Харкава вядомы гісторык Мікалай Кастамараў. Ён часта наведваў Імператарскую публічную бібліятэку і пакінуў такі ўспамін пра Віктара Каліноўскага: «Мне не здаралася ў жыцці бачыць чалавека, які б так аддана захапляўся археаграфіяй і гісторыяй. Яго веды не ішлі далей Літвы і Польшчы, але затое яго можна было назваць хадзячым каталогам самых дробязных звестак пра мінулы побыт гэтых краёў... Родны брат яго папаўся пасля ў польскім мяцяжы як адзін з важнейшых дзеячаў у Літоўскім краі і быў павешаны; мой жа прыяцель быў чалавек іншага гарту: ён увесь жыў мінулымі вякамі і амаль не цікавіўся сучаснымі падзеямі. Будучы знаё-

[1] Императорская Публичная Библиотека за 100 лет: 1814—1914. СПб., с. 304.

мы з гісторыяй сваёй бацькаўшчыны значна глыбей тых верхаглядных патрыётаў, якія, не вывучаючы грунтоўна мінулага, складалі сабе пра яго летуценныя вобразы, Каліноўскі ў асяроддзі сваіх суайчыннікаў выклікаў нават незадавальненне за тое, што смела гаварыў рэчы, якія тагачасным польскім патрыётам былі не да спадобы...»[1].

Адначасова з Іваноўскім у бібліятэцы працаваў **Іосіф Казіміравіч Зімніцкі** (1804–1873). Іосіф Зімніцкі дваццацігадовым юнаком уладкаваўся (у 1824 г.) канцылярскім служачым у мінскі Галоўны суд, а ў 1838 г. пераехаў у Пецярбург «чыноўнікам для пісьма пры Румянцаўскім музеуме». Пасля пераводу Румянцаўскага музея ў Маскву Зімніцкага пакінулі ў штаце ІПБ, ён за выдатную службу атрымаў урадавыя ўзнагароды і даслужыў да тытула тытулярнага саветніка[2].

22 чэрвеня 1850 г. на новаадкрытую пасаду «рэдактара навуковых прац Імператарскай Публічнай бібліятэкі» быў прыняты на сталую працу малады супрацоўнік, які напэўна і не меркаваў, што застанецца служыць тут на 33 гады: гэта быў **Каятан Андрэевіч Касовіч** (1814–1883).

У пачатку 1990-х гг. у Мінску і Ленінградзе, незалежна адна ад адной, з'явіліся дзве прысвечаныя яму публікацыі. Папулярны гістарычны пісьменнік Валянцін Пікуль назваў свой нарыс (у часопісе «Аўрора») адпаведна генеральскаму чыну героя: «Тайны дарадчык», а аўтар мінскай брашуры дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта Генадзь Даўгяла паведаміў на тытуле імя: «К. А. Касовіч вядомы і незнаёмы». Абедзве публікацыі напісаныя на падставе кароткага артыкула з энцыклапедыі Бракгаўза і Эфрона і мемуараў рэвалюцыянера Маўрыкія Маркса ў часопісе «Руская даўніна» (дасланыя ў 1885 г. з Енісейска, дзе Маркс з 1866 г. сядзеў «за палітыку»). Пікуль перапісаў канву публікацыі «Рускай даўніны», аднак сапсаваў інтэлігентны стыль Маркса спрошчанасцю і наіўнай катэгарычнасцю, а таксама дадумкамі фактаў, якіх бракавала ў біяграфіі. Мінскі аўтар Генадзь Даўгяла, акрамя Маркса, грунтоўна вывучыў іншыя нешматлікія друкаваныя ўспаміны пра Касовіча[3]. Знойдзеная намі ў аддзеле рукапісаў Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі перапіска дае новыя сведчанні пра асобу Каятана Касовіча — асобу, якая была асветлена святлом з Усходу.

Хто ж быў чалавек, якога хавалі на Смаленскіх могілках, побач з царквой Ксеніі Пецярбуржскай, у студзені 1883 г.? За труной ішла маладая ўдава, акадэмікі, прафесары універсітэта, супрацоўнікі Акадэміі навук і Імператарскай публічнай бібліятэкі. Неслі ўзнагароды нябожчыка — ордэны Станіслава I і II ступеняў, Уладзіміра III ступені, Ганны I ступені, персідскага ордэна Льва і Сонца I ступені. Жалобай сустрэлі паведамленні пра смерць свайго ганаровага сябра Парыжскае і Лонданскае азіяцкія і Германскае ўсходняе таварыствы. З'явіўся спачувальны некралог у «Часопісе Міністэрства народнай асветы». Пазней — шматлікія ўспаміны ў мемуарах. Высветлілася, што гэта гонар — быць яго знаёмым, сябрам, урэшце, проста сучаснікам.

Малодшы сын беднага святара Андрэя Касовіча Каятан нарадзіўся ў Полацку 2 мая 1814 г. У 1824 г. пайшоў вучыцца ў мясцовае піярскае вучылішча. Пасля закрыцця гэтай установы разам з іншымі вучнямі перайшоў у Віцебскую базыльянскую гімназію. Не маючы сродкаў, каб заплаціць за «канвікт» (інтэрнат пры манастыры), яго сям'я зняла для сына маленькі пакойчык у жыдоўскай хаце, над карчмой. Тут быў старэнькі шкапік з не менш старымі кнігамі на старажытнай габрэйскай мове. Некаторыя з іх мелі грэцкія і лацінскія пераклады. Як сведчыць Маўрыкій Маркс, гэтыя кнігі выклікалі вялікую цікавасць у маладога лінгвіста-самавука. Яго поспехі ў галіне гебраістыкі першымі ацанілі адукаваныя віцебскія жыды[4]. Правучыўшыся год у Віцебску, Касовіч атрымаў (у кастрычніку 1831 г.) накіраванне ў Маскоўскі універсітэт казённакоштным студэнтам. Пратэкцыю зрабіў папячыцель Беларускай навучальнай акругі Р. Карташэўскі — з яго дзецьмі Каятан займаўся лацінай. Бацька Каятана, Андрэй Якаўлевіч Касовіч, на той час святар у мястэчку Малыя Дольцы Барысаўскага павета, даў згоду на выхад сына з духоўнага звання.

Навучанне ва універсітэце стала перыядам фарміравання маладога чалавека як аматара вывучаць замежныя мовы. Мовазнаўства давала і заробак — урокі грэцкай і лаціны патрэбныя многім гімназістам. Аднойчы

[1] *Костомаров Н.* Литературное наследие. СПб., 1890. С. 111.

[2] *Зверева И. С.* Румянцевский музей — филиал Императорской Публичной библиотеки (1845–1861 гг.) // Публичная библиотека и культура: три века истории. Вып. 1. СПб., 2006. С. 131. Заўвага 18.

[3] На жаль, кніжка Г. Даўгялы выйшла без удзелу рэдактара і карэктара, са шматлікімі моўнымі памылкамі; па злой іроніі лёсу выдаўцом было мінскае «Таварыства беларускай мовы».

[4] *Маркс М. О.* Каетан Андреевич Косович // Русская старина. 1886. Декабрь. С. 612.

зямляк-віцяблянін Маркс купіў для сябра на кніжным развале кнігу на санскрыце — Касовіч самастойна адужаў незнаёмую мову з такой выразнай і экзатычнай графікай. За санскрытам стаяла багатая літаратура далёкай і таямнічай Індыі — маскоўскае грамадства зразумела і ацаніла, што Каятан Касовіч адзіны, хто здольны знаёміць расіян з гэтай літаратурай. Грамадская ацэнка неўзабаве выявілася і ў канфлікце, які мог каштаваць маладому беларусу замены студэнцкага шыняля на салдацкі. З-за рэферата па літаратуры ён зацята пасварыўся са студэнтам Ландоўскім, пляменнікам дэкана. Касовіча пасадзілі ў карцэр, а дэкан Давыдаў пастараўся надаць справе палітычны кірунак. Адразу ж, і па-юнацку катэгарычна, заступіліся студэнты: чацвёра з іх збілі Ландоўскага, прыціснуўшы ў куце факультэцкага калідора, і пагражалі паўтараць экзекуцыю пакуль церпіць бязвінна пакараны. Гэтыя чацвёра былі граф Талстой, князі Абаленскі, Галіцын і Лабанаў-Растоўскі. Спалоханы дэкан вызваліў Касовіча, і справу замялі.

Будучы студэнтам 4-га курса, Каятан Касовіч выступіў з разважаннямі наконт роднай беларускай мовы. У часопіс «Молва» ён падаў да друку словы песні, якую запісаў на Віцебшчыне (ці, можа, ведаў з маленства). У славянафільскіх выданнях на той час модна было «адкрываць» славянскі фальклор, прынамсі ўкраінскі. Друкуючы беларускую песню, Касовіч анансаваў яе ў назве і дадаў такі філалагічны пасаж: «Заўважу... што беларускі дыялект зусім не літоўскі, як многія памылкова сцвярджаюць, і не той, які быў у пісьмовым ужытку ў XVI стагоддзі. Таму што беларуская мова ёсць нешта іншае, як польская з рускімі формамі. Сапраўдная беларуская мова ёсць, як можна бачыць з гэтай песні, зусім не польская. Роўным чынам яе нельга лічыць і рускай, як яе заве спадар Грэч у сваім «Опыте»[1].

У 1836 г. Каятан Касовіч закончыў Маскоўскі універсітэт, у 1845—1847 гг. працаваў выкладчыкам у Лазараўскім вучылішчы ўсходніх моў. Вынікам працы ў Маскве сталася выданне элементарнай граматыкі грэцкай мовы і грэцка-рускага слоўніка, а таксама тры кнігі перакладаў з санскрыту: «Сказание о Видъягаре Джимутавагане: Повесть Семадэвы Бгатты» (М., 1847), «Сказания о Дгруве: Древ.-религ. инд. легенда: Пер. из Багават-Пураны» (М., 1848) і «Повесть Семадэвы Бгатты» (М., 1849).

У верасні 1849 г. малады санскрытолаг пераехаў у Санкт-Пецярбург. Па пратэкцыі прафесараў М. Пагодзіна і С. Шавырова Касовіч атрымаў пасаду хатняга настаўніка ў доме Кацярыны Дашкавай, удавы міністра юстыцыі. Аднак месца хатняга настаўніка не дазваляла грунтоўна займацца навукай, і сябры прапанавалі ўладкавацца ў Імператарскую бібліятэку. Спецыяльна для яго тут была створана пасада «рэдактара навуковых работ». Калі Каятан Касовіч прыйшоў у бібліятэку, тут ужо з 1844 г. працаваў як загадчык дэпо манускрыптаў (аддзела рукапісаў) Апанас Хведаравіч Бычкоў. Яны сталі сябрамі, і сяброўства гэтае працягвалася ўсё астатняе жыццё.

У Публічнай бібліятэцы Каятан Касовіч працаваў трыццаць тры гады: з 1850 да 1883 г. Акрамя працы з кнігамі і рукапісамі на ўсходніх мовах, Касовіч адкрыў і апісаў Евангелле на арабскай мове, якое было надрукавана ў 1708 г. на сродкі гетмана Мазепы ў Алепа. Ён жа пераклаў твор Мацея Мяхоўскага «De duabus Sarmatiis». Будучы чалавекам сумленным і адказным, ён карыстаўся даверам дырэктараў: Мадэста Корфа, а потым Івана Дзялянава; з 1868 г. выконваў абавязкі старшыні гаспадарчага камітэта бібліятэкі.

У 1859 г. М. Корф, прагнучы павысіць папулярнасць бібліятэкі сярод пецярбуржцаў, загадаў загадчыкам аддзяленняў праводзіць экскурсіі па фондах, а потым падаваць яму пісьмовыя справаздачы. Захаваліся гэтыя маленькія справаздачы Касовіча, якія ён іранічна-змяншальна называў «Отчётцы». У іх мы знойдзем не толькі выразную характарыстыку пецярбургскай публікі сярэдзіны стагоддзя, але і праявы асобы аўтара:

«Калі наведвальнікі ў гэты дзень былі, відавочна, усе назіральнікамі, то не схавалася ад майго назірання адна асоба. Гэта бабулька старэчых гадоў, са змораным і хваравітым тварам. Вёў яе чыноўнік-сын, малады чалавек гадоў 25-ці з медалём на Уладзімірскай стужцы, з чаго раблю выснову, што яны прыезджыя. З размовы паміж імі відаць, што яны з беларускіх губерняў. Зірнуўшы на гэтую няшчасную разваліну, можна падумаць: «навошта гэта ж яна прыцягнулася сюды?». Але не. Гэтыя сын і маці, што наведалі ўчора Бібліятэку, хіба не лепшае склалі ёй упрыгажэнне ў гэты дзень, калі Бібліятэка красуецца перад Грамадствам: сын прывёў сюды маці, якой дні ўжо палічаны на зямлі, для таго, каб не даць ёй памерці, не пабачыўшы лепшай установы на карысць грамадства ў Расіі. Не ведаю, каму больш прыпісаць трэба гонару: сыну ці маці. Не сілай

[1] Белорусская песня // Молва. 1835. № 1. С. 341.

жа ён прыцягнуў яе, хворую, — якая не адставала ўвесь абход; а між тым, ці шмат у нас, ды й на свеце такіх маці?»[1]

На экскурсіі прыходзілі не толькі са шчырай зацікаўленасцю. Здараліся шпіёны і даносчыкі: «Вообще, при объяснениях, касающихся России, проглядывало какое-то особенное либеральное направление, переходящее пределы, предписанные начальством, так что толпа иногородних не могла отдать себе отчёта — в Петербурге ли она?» – гэта цытата з агентурнага данясення аднаго з наведвальнікаў экскурсіі К. Касовіча па бібліятэцы[2].

Расійскае грамадства вельмі па-рознаму абмяркоўвала свае адносіны да Польшчы. Асабліва думкі падзяліліся пасля паўстання 1863 г. Каятан Касовіч пастаянна ўдзельнічаў у такіх абмеркаваннях, тым больш, што меў «сваю» інфармацыю пра стан рэчаў — яго родны брат выкладаў у Варшаўскім універсітэце грэцкую мову.

Захаваўся недатаваны ліст, які дырэктар Публічнай бібліятэкі І. Дзялянаў пераслаў А. Бычкову з заўвагай, зробленай алоўкам: «Вось Вам маленькая дысертацыя нашага агульнага сябра». Ліст, у якім Каятан Касовіч выказваецца адносна ацэнак паўстання 1863 г. рознымі аўтарамі, пачынаўся так: «Учора Ігнат Андрэевіч прынёс мне кнігу Фероці, з якой, з вялікім для сябе задавальненнем я бачу, што ён зусім не здрадзіў сваёй айчыне і што нават у асноўных прынцыпах ён супадае з Катковым: абодва яны бачаць ў былым Польскім закалоце і ў магчымых будучых зло як для Расіі, так і для Польшчы, і абодва раяць спосабы, якія б надалей падобнае зло зрабілі немагчымым. Уся розніца ў спосабах: Фероці вышуквае <u>прычыны</u>, якія выклікалі і выклікаюць сумныя з'явы ў Польшчы; Каткоў жа — трэба сказаць праўду — нічога не бачыць, акрамя абураючага факта. Факт узрушыў да глыбіні ўсю яго шляхетную душу, і праз гэта ён не ў стане ўсведаміць сабе прычыны, з якіх ён вынікаў, і магчымую жывучасць падобных прычын: ён жадае аднаго — знішчэння як бы там ні было ўсялякай магчымасці факта. Факт паўтарыўся: значыць сродкі прынятыя супраць яго раней, былі <u>слабыя</u>; значыць, трэба ўдзесяцярыць, умільёніць гэтыя сродкі, каб яны падзейнічалі з канчатковым поспехам. Каткоў не заўважае, што менавіта сродкі, якімі перш карысталіся, давялі хворае цела да крайняй экзастэрацыі: бачачы хваробу ў арганізме, ён прапануе забіць яе разам з арганізмам, знайшоўшы, што ў гэтым будзе карысць для хворага і выратаванне Расіі...»[3].

У снежні 1870 — красавіку 1871 г. гаспадар адной з пецярбургскіх друкарняў калежскі саветнік Галаўнін пазычыў у Касовіча на выдавецкія справы 60 тыс. рублёў срэбрам. Адкуль у беднага бібліятэкара такія грошы?.. Касовіч пазычыў іх, як паказаў у заяве ў Акруговы суд, у надворнага саветніка Кірылы Чарбышэвіча, камісіянера ІПБ А. Сегала, памочніка дырэктара ІПБ тайнага саветніка А. Бычкова (Вялікая Садовая, 14, у доме бібліятэкі), турэцкага падданага Ахмеда Аязавіча Тантаві (на Пецярбургскай старане, па Малым праспекце, ва ўласным доме). Усе чацвёра — не проста добрыя знаёмыя Касовіча, але і блізкія сябры. Апошні з іх — сын шэйха Тантаві, якім апекаваўся Касовіч. У Пецярбургу Каятан Андрэевіч жыў адзін, здымаючы пакой для сябе і адзін пакой для сваіх птушак, якіх ён вельмі любіў. Але жыццё прымусіла яго апекаваць хлопца, які застаўся сіратой; хлопец гэты быў сынам прафесара арабскай мовы і літаратуры пры эльзгарскай мячэці ў Каіры Мухамеда Аяда Тантаві. Расійскія дыпламаты ў 1839 г. сагітавалі яго пераехаць у Пецярбург для выкладання арабскай мовы пры Міністэрстве замежных спраў. З 1848 г. Мухамед Тантаві быў экстраардынарным прафесарам арабскай філалогіі Санкт-Пецярбургскага універсітэта. Памёр у 1858 г., пакінуўшы сыну ўласны дом на Пецярбургскай старане на Малым праспекце.

Пагроза зыходзіла не ад сяброў — ад уласнай нядбайнасці. Акрамя выдаткавання 60 тыс. наяўных грошай, Касовіч падпісаў і перадаў Галаўніну яшчэ некалькі вэксаляў — «дзеля лепшых камерцыйных абаротаў друкарні» — растлумачылі яму гаспадар друкарні і яго абаяльная жонка. Пры гэтым яны прынялі да друку яго кнігу «Inscriptiones Paleo-Persiae». Тым часам друкарня збанкрутавала, Галаўнін аддаў вэксалі Касовіча сваім даўжнікам і справа прыняла характар не проста непрыемны, але небяспечны: Касовічу пагражала канфіскацыя маёмасці і зняволенне. За свайго прафесара вымушаны быў уступіцца універсітэт, адкуль у красавіку 1872 г. у суд была накіравана папера такога зместу:

---

[1] АР РНБ. Ф. 380 Корф № 42. Письма-отчёты... Арк. 7 адв. 8.

[2] *Грин Ц. И., Третьяк А. М.* Публичная библиотека глазами современников (1795–1917). Хрестоматия. СПб., 1998. С. 435.

[3] АР РНБ. Ф. 120 Бычковы № 825. Арк. 19.

*«Сапраўдны Стацкі Саветнік Каятан Касовіч, які меў няшчасце выдаць гаспадару друкарні Галаўніну мноства вэксаляў, у колькасці, дагэтуль яму самому невядомай, звярнуўся 4-га сакавіка ў Акруговы суд з прашэннем пра давядзенне да ведама сумы доўгу, што на ім ляжыць і пра прыпыненне паліцэйскіх з яго зыскаў.*

*Між тым у прамежак гэтага часу, па адным з вэксаляў Касовіча, які Галавін выдаў Людвігу Мюллеру... ужо зроблена, праз Судовага Прыстава, распараджэнне аб выліку, на карысць Мюллера, з Касовіча паловы жалавання. Па другім жа, у выніку іску нейкага Отта, Управай Благачыныя апісана ўся наяўная ў яго маёмасць, ацэнена і мае быць хуткім часам прададзена з публічнага торгу...»*, — далей ідзе просьба універсітэта прыпыніць выкананне пастановаў да канчатковага вырашэння судом справы.

Мы не ведаем, чым закончылася справа, якая цягнулася два гады. Напэўна, не татальным банкруцтвам, бо Касовіч па-ранейшаму працягвае працаваць ва універсітэце і бібліятэцы і збірае ў сябе на кватэры невялічкае кола сяброў, сярод якіх Станіслаў Корсак, Іван Дзялянаў (дырэктар ІПБ), Іван Карнілаў (былы папячыцель Віленскай навучальнай акругі), Я. К. Грот, М. П. Сямёнаў, В. В. Грыгор'еў (прафесар універсітэта, усходазнавец), І. Філіпаў, кн. Міхаіл Сяргеевіч...

Стары халасцяк Касовіч ажаніўся на 60-м годзе жыцця. Ліст, ад 23 ліпеня 1874 г., якім ён паведаміў свайму блізкаму сябру і непасрэднаму начальніку (намесніку дырэктара бібліятэкі) апошнія навіны, варты таго, каб працытаваць яго цалкам:

*«Сардэчны, непараўнальны, мілы сябра мой Апанас Хведаравіч. У тваю адсутнасць сёе-тое я зрабіў па бібліятэцы, пра што Табе верагодна ўжо вядома, напр. камандзіраваў Гаркавага*[1] *і Страка ў Чуфут-Кале для агляду фірковічаўскіх рукапісаў*[2] *і падараваў Бібліятэцы новага камісіянера — Л. А. Кнапа (Франца Маркса), хаця і не кранаючы Сегаля. Бібліятэка ж мае права не абмяжоўвацца адным камісіянерам, а за Кнапа — я ў гэтым глыбока перакананы — Ты мне будзеш шчыра ўдзячны. Але вось што Табе яшчэ зусім невядома і што, па ўсёй верагоднасці, падасца Табе нечаканым. Учора прыняў я законны шлюб з адной добрай дзяўчынай, нораў якой я спазнаў дастаткова ў гэтыя два гады маіх няшчасцяў. Я зусім шчаслівы і гляджу на гэты шлюб як на адну з адплатаў, што паслаў мне Лёс. Усё гэта абставіў я за тры дні. Вяселле было самае сціплае. Вянчаў мяне протаіерэй Андрэеўскай царквы Аляксандр Цімафеевіч Камчатаў. Шаферамі былі адзін з сыноў Камчатава і мой пляменнік. Прысутнічалі на вяселлі: выпадкова прыбыўшы да гэтага дня мой брат Ігнат Андрэевіч, Папоў Апалон Андрэевіч (варшаўскі), які таксама трапіў да мяне ў гэты дзень выпадкова, двое сыноў Камчатава, Корсак і дзве дамы, знаёмыя маёй жонкі. Вось і ўсе госці. Дзень правялі вельмі ціха, весела і сціпла. Цяпер і паміраць будзе лягчэй, адчуваю ж сябе — хай бы гэта сказаць на дабро — здаравей.*

*Абдымаю Цябе і любых дзетак Тваіх усім маім сэрцам. Ганне Мікалаеўне ручкі цалую.*

*Усёй маёй душой нязменна Табе адданы К. Касовіч»*[3].

Мяркуючы па тым, што ў пазнейшых лістах Касовіч запрашае да сябе ў госці і ад імя жонкі і перадае ад яе прывітанні, жылі яны дружна, і сябры мужа карысталіся павагай Лізаветы Мікалаеўны.

У пецярбургскі перыяд дзейнасці спіс апублікаваных К. Касовічам прац павялічыўся. Сярод іх: Санскритско-русский словарь. Вып. 1—3. (СПб., 1854—1856), Легенда об охотнике и паре голубей: извлеч. из Махабхараты (СПб., 1859), Saratustricae Gatae posteriores (Paris, 1871), Inscriptiones Paleo-Persicae Achaemenidarum quot hucusique repertae sunt (SPb., 1872), Еврейская грамматика В. Гезениуса (СПб., 1874), Еврейская хрестоматия (СПб., 1875).

У кастрычніку 1869 г. Касовіч выйшаў на пенсію, але працягваў працу як няштатны супрацоўнік бібліятэкі. Дзеля адпачынку даводзілася ўцякаць на дачу, у Шувалава. Вось пачатак ліста да намесніка дырэктара бібліятэкі ад 25 мая 1875 г.

*«Найкаштоўнейшы сябра мой, Афанасі Хведаравіч.*

*Са мной так было кепска, што я, прачакаўшы два дні Боткіна, які абяцаў да мяне прыехаць і не прыехаў, уцёк без аглядкі на дачу, дзе з першага ж дня адчуў сябе лепш...»*.

Вядома некалькі пецярбургскіх адрасоў Касовіча. Асаблівасцю яго жытла заўсёды былі птушкі, для якіх часам адводзіўся ў ягонай

[1] Гаркавы (Гаркаві) Абрам Якаўлевіч, выхадзец з Беларусі, сын навагрудскага рабіна. Працаваў у Аддзеле рукапісаў ІПБ. Складальнік каталога самарыцянскіх рукапісаў.

[2] Калекцыя габрэйскіх рукапісаў Абрама Фірковіча зараз знаходзіцца ў бібліятэцы і з'яўляецца буйнейшым зборам габрэйскіх старажытнасцяў у Расіі.

[3] АР РНБ. Ф. 120 Бычковы № 826. Арк. 13—14.

кватэры асобны пакой. Пасля прыезду ён жыў у доме Дашкавай, потым пераехаў на Вялікую Садовую вуліцу, дзе жыў каля Юсупаўскага саду ў доме Анічкава, кв. 25. Пазней жыў на Вялікай Пад'ячаскай у доме Колемана, а таксама ў Хлебным завулку блізка Уладзімірскай, у доме Сямёнава. Апошні яго адрас: Васільеўскі востраў, Волхаўскі завулак, дом Красільнікава № 6. Менавіта адсюль ён пісаў у жніўні 1879 г.: «*... У мяне на працягу месяца гасцяваў жанаты пляменнік, лейб-гвардыі палкоўнік Аляксандр Касовіч. Сцены маёй зацішнай кватэры былі цэлы час ажыўленыя ...*». А вось камандзір крэйсера «Разбойникъ» Іосіф Васільевіч Касовіч, які жыў на 14-й лініі Васільеўскага вострава № 47, — толькі цёзка па прозвішчу.

У 1834 г. спачатку пісцом, а пазней старшым бібліятэкарам і архітэктарам пачаў працаваць у Публічнай бібліятэцы ўраджэнец Віцебска **Васіль Іванавіч Сабальшчыкоў**. Паходзіў ён са збяднелай купецкай сям'і. Скончыў Акадэмію мастацтваў (1839). У бібліятэцы арганізаваў аддзяленне мастацтваў і тэхталогіі, сістэматызаваў фонд эстампаў. У 1862 г. пабудаваў паводле свайго праекта новую чытальную залу. Васіль Сабальшчыкоў зрабіў вялікі ўплыў на развіццё бібліятэчнай справы. Ён з'яўляецца аўтарам прац «Пра ўладкаванне грамадскіх бібліятэк і складанне іх каталогаў» (1859), «Агляд вялікіх бібліятэк Еўропы на пачатку 1859 г. » (1860). Напісаў «Успаміны старога бібліятэкара», якія былі надрукаваныя ў часопісе «Гістарычны веснік» (1889). У 1857 г. Васіль Сабальшчыкоў разам з архітэктарам Гарнастаевым спраектавалі і пабудавалі для аддзялення інкунабулаў ІПБ спецыяльны кабінет, падобны да сярэдневечнай бібліятэкі — «Кабінет Фауста».

Не ўсе беларусы зарабілі славу, гонар і маёнтак. Выпускнік Віленскай гімназіі **Іосіф Канстанцінавіч Корсак** быў прыняты ў бібліятэку 1 верасня 1875 г., у 1876 г. пераведзены на працу з часопісамі з павышэннем акладу. Памёр у 1877 г. ад сухотаў, не пакінуўшы пасля сябе, як сведчыў загадчык чытальнай залы Уладзімір Юз у сваім прашэнні пра выдзяленне дапамогі на пахаванне, «нічога, акрамя насільнай адзежы і бялізны і тое ў самай абмежаванай колькасці».

Значны ўнёсак у развіццё Публічнай бібліятэкі і пецярбургскага ўсходазнаўства зрабіў **Абрам Якаўлевіч Гаркавы**. Нарадзіўся ён ў сям'і гандляра ў Наваградку 15 лістапада 1835 г., у 1863 г. паступіў на факультэт усходніх моў Пецярбургскага універсітэта, які закончыў са ступенню кандыдата ў 1867 г. Падчас навучання быў ўзнагароджаны залатым медалём за працу «Пра мову габрэяў, што жылі ў старыжытныя часы на Русі, і аб славянскіх словах, якія сустракаюцца ў габрэйскіх пісьменнікаў» (выдадзена ў 1865 г. на рускай мове, у 1867 — на іўрыце).

У 1868 г. Абрам Гаркавы атрымаў замежную камандзіроўку з вучонымі мэтамі на два гады. Займаўся ва універсітэтах Берліна і Парыжа егіпталогіяй і асіралогіяй. Вярнуўшыся ў Пецярбург, абараніў у 1872 г. дысертацыю на ступень доктара па гісторыі Усходу «Пра першапачатковае абіталішча семітаў, індаеўрапейцаў і хамітаў». Пасля абароны дысертацыі і да канца жыцця працаваў у ІПБ: загадам міністра народнай асветы з 1 ліпеня 1872 г. Абрам Гаркавы быў прылічаны да міністэрства з адкамандзіраваннем для заняткаў у Публічную бібліятэку са спецыяльнай мэтай разбору і вывучэння набытых у Абрама Фірковіча калекцый габрэйскіх і самарыцянскіх рукапісаў, з аплатай за кошт міністэрства з сабраных сродкаў, прызначаных на адукацыю габрэяў. У снежні 1875 г. дырэктар бібліятэкі А. Бычкоў звярнуўся ў міністэрства па дазвол залічыць Гаркавага няштатным бібліятэкарам, да адкрыцця першай вакансіі, і атрымаў на гэта згоду. На новага супрацоўніка былі ўскладзены абавязкі загадваць Аддзяленнем кніг на габрэйскай мове. З 1877 г. ён пераведзены на штатную пасаду бібліятэкара, на якой служыў да 1919 г. За гады працы ў ІПБ Гаркавы надрукаваў некалькі соцень прац па гісторыі габрэйскага народа і габрэйскай літаратуры, у тым ліку па гісторыі габрэяў на Беларусі, аб узаемадачыненнях габрэйскай і славянскай культур. Пад рэдакцыяй і з прадмовамі Гаркавага выйшаў шэраг прац па гісторыі: «Гісторыя габрэяў» Г. Грэтца, «Гісторыя габрэйскай літаратуры» Г. Карнелеса. Абрам Гаркавы супрацоўнічаў у «Габрэйскай энцыклапедыі», быў рэдактарам некалькіх яе тамоў, раздзелаў, вялікіх артыкулаў. Актыўны ўдзел браў Гаркавы ў дзейнасці Таварыства для распаўсюджвання асветы паміж габрэямі ў Расіі, быў рэдактарам выданняў Таварыства («Руска-габрэйскі архіў» і інш.). Заслугі Абрама Якаўлевіча былі высока ацэнены і навуковай грамадскасцю, і царскім урадам: у 1901 г. Сенат зацвердзіў яго пераход у патомнае шляхецтва. Незадоўга да смерці, у лістападзе 1918 г., яго збіла машына на Садовай вуліцы: 83-гадовы стары атрымаў цяжкія пашкоджанні.

Паперы архіва РНБ захавалі прадстаўленні аб тым, што Публічная бібліятэка была не

толькі крыніцай ведаў для сваіх чытачоў, але і ўстановай, падтрымліваць якую лічылася справай гонару адукаванага чалавека. Чулае стаўленне да асветы і навукі з абодвух бакоў — бібліятэкі і яе дабрачыннікаў — спрыяла ўзбагачэнню фондаў. Адным з першых, чые шчодрыя дары бібліятэцы былі адзначаны ў 1852 г. званнем «Ганаровага карэспандэнта», быў магістр багаслоўя з Гродзенскай губерні **Іосіф Мікалаевіч Малышэвіч**[1]. 385 кніг і 42 рукапісы, дасланыя ім на той час бібліятэцы, былі толькі пачаткам трывалай карэспандэнцыі пробашча Верхавіцкага касцёла ў Берасцейскім павеце і кіраўніцтва ІПБ.

Заслугі Іосіфа Малышэвіча былі адзначаны ў 1852 г. дыяментавым пярсцёнкам. У адказ І. Малышэвіч папрасіў у дырэктара бібліятэкі на выдаткі «у раз'ездах і інш.» 200 рублёў срэбрам, абяцаўшы «ў некаторых старанах тутэйшага краю адшукаць шчодрыя скарбы». У 1854 г. «па ўласным жаданні дзеля спакою … які павінен лічыцца мэтай кнігалюба» І. Малышэвіч перабраўся ў Невадніцу, за 9 вёрстаў ад Беластока. «Яго плябанія — цудоўная, маляўнічая пустэльня, цішыню якой два разы на дзень парушае грукат цягніка, што прабягае перад вокнамі хаты з Вільны ў Варшаву», — паведамляў А. Карнілаву А. Рачынскі, які наведаў І. Малышэвіча ў 1867 г. Энергічны і амбітны ксёнз не шукаў спакою дзеля спакою. Яшчэ ў Верхавіцах яго абіралі духоўным дэпутатам па Берасцейскім павеце, ён быў ганаровы член Слуцкага камітэта апекі над беднымі.

З 1852 да 1860 г. Іосіф Малышэвіч адправіў у ІПБ яшчэ 1165 кніг і 45 рукапісаў. Па хадайніцтве М. Корфа ў 1860 г. ён быў узнагароджаны ордэнам св. Станіслава 3-й ступені. Значная частка дароў уяўляла прадукцыю друкарняў Вялікага Княства Літоўскага. Віленскія кнігадрукі паходзілі з афіцынаў М. Х. Радзівіла, акадэмічнай, францысканаў, базыльянаў і раскрывалі розныя аспекты палітычнага, рэлігійнага і культурнага жыцця дзяржавы. Нясвіжскія друкі XVIII ст., значная колькасць супрасльскіх і полацкіх выданняў, пазнейшыя асобнікі гродзенскай, беластоцкай друкарняў трапілі ў ІПБ праз рукі І. Малышэвіча. Іх аўтары належалі да розных веравызнанняў, але рыма-каталіцкі святар не лічыў ганебным іх збіраць і чытаць. У яго калекцыі была «заслаўская» Біблія Сымона Буднага, некаторыя пратэстанцкія выданні з польскага Ракава, кнігі і газеты на яўрэйскай мове, якую «яны называюць свяшчэннай (lingua sacra)». Што датычыць моў, то апрача названых, былі адзінкавыя экзэмпляры на армянскай, літоўскай, латышскай, чэшскай, рускай мовах. Свой збор І. Малышэвіч прапанаваў за 600 рублёў або, павініўшыся за сваю славалюбнасць, за ўзнагароду ордэнам св. Станіслава ці св. Ганны 2-й ступені. У размове з А. Рачынскім ён адзначыў, што пасля падзеяў 1863 г. ён не займаўся пошукамі кніг і лічыць многае знішчаным. Апошнія дары І. Малышэвіч даслаў у 1874 г., за што яму выказаў падзяку дырэктар А. Ф. Бычкоў.

Агульная колькасць дароў І. Малышэвіча ІПБ склала прыкладна каля 2000 старадрукаў і 113 рукапісаў.

Акрамя дарыцеляў-беларусаў, матэрыялы архіва Імператарскай бібліятэкі адлюстравалі і беларусаў-просьбітаў. У лік апошніх мы залічым настаўніка Наваградскай гімназіі Эдварда Паўловіча.

**Эдвард Баніфацый Паўловіч** нарадзіўся ў 1825 г. ў Тургялях (цяпер прыгарад Вільні). Пачатковую адукацыю атрымаў у Жыровіцкай манастырскай школе, гімназію закончыў у 1836 г. у Слуцку. У 1849 годзе прага да мастацтва прывяла таленавітага юнака ў сталіцу імперыі — ён паступіў у Пецярбургскую акадэмію мастацтваў. Пасля заканчэння курса падарожнічаў па Францыі, Італіі, Іспаніі, вярнуўшыся ў Пецярбург у 1859 г., ён атрымаў дыплом Акадэміі і адразу паехаў да першага месца працы — настаўнікам у Наваградскую гімназію.

У Наваградку апроч выканання сваіх абавязкаў настаўніка, Эдвард Паўловіч займаўся разнастайнай грамадскай дзейнасцю, прынамсі ладзіў разам з мясцовымі аматарамі тэатральныя пастаноўкі. Адным з кірункаў дзейнасці была праца па стварэнні ў Наваградку на грамадскіх пачатках гарадской публічнай бібліятэкі. Павятовыя ўлады ведалі і падтрымлівалі гэтую ініцыятыву, а маршалак наваградскай шляхты Уладзіслаў Брахоцкі накіраваў 9 сакавіка 1861 г. дырэктару Імператарскай бібліятэкі барону Корфу ліст з просьбай прысляць каталог дублетаў і падзякаваў за згоду падзяліцца кнігамі з новай правінцыйнай бібліятэкай. Да ліста быў прыкладзены спіс найбольш пажаданых для Наваградка аўтараў на французскай, польскай і рускай мовах, а таксама грэцкіх і лацінскіх.

Далей справа набыла дэтэктыўны кірунак. Барон Корф не змог прыгадаць, што ён даваў

[1] *Ткачэнка М. І.* Дарыцель Імператарскай Публічнай бібліятэкі — Іосіф Малышэвіч // Белорусский сборник Вып. 2. СПб., 2002. С. 174–179.

згоду падзяліцца дублетамі з Наваградскай бібліятэкай. Малодшы бібліятэкар ІПБ А. Іваноўскі напісаў пра гэта ў Наваградак і папрасіў даслаць копію ліста барона. 5 мая таго ж 1861 г. Уладзіслаў Брахоцкі адпісвае ў Пецярбург, што не можа прыслаць арыгінал ліста з прычыны адсутнасці Паўловіча ў Наваградку. Нарэшце, 28 мая Брахоцкі перасылае «Подлинный отзывъ Императорской Публичной библиотеки отъ 28 февраля 1861 г. на имя Г-на Эдуарда Павловича» ў Пецярбург. Адказ прыйшоў хутка і меў для Паўловіча трагічныя наступствы. Ліст статс-сакратара імперыі пачынаўся так: «Г. Новогрудскому Уездному предводителю Дворянства. Получив доставленное при отношении Вашем от 28-го минувшего мая № 611 будто бы мое письмо къ г. Эдуарду Павловичу, я, при первом взгляде на эту бумагу, независимо от языка и содержания ея, убедился в ея подложности, ибо 1) бланк, на котором писано мнимое мое отношение, сделан от руки, и нисколько не походит на те, которые употребляются в И.П.Б-ке; подпись на бумаге не только не моя, но даже не имеет никакого сходства с моею; 3) внизу бумаги имеется скрепа какого-то учёного секретаря «Довбенко», тогда как ни такого звания, ни чиновника этой фамилии в библиотеке нет...»[1]. Далей дырэктар Імператарскай бібліятэкі выказваў надзею, што павятовы маршалак шляхты правядзе адпаведнае расследаванне справы пра падробны ліст і паведаміць пра вынікі ў Пецярбург.

З біяграфіі Эдварда Паўловіча вядома, што падчас антырасійскага паўстання 1861–1863 гг. ён не прымаў удзел у баявых дзеяннях. Аднак быў асуджаны да высылкі, некалькі гадоў ён правёў у Петразаводску, Аланцы і Екацярынаславе. Пасля вызвалення ў 1867 г., Паўловіч спрабаваў асесці ў Пецярбургу, але не атрымаў ад уладаў згоды. Ён вярнуўся ў Наваградак, потым выехаў у Варшаву, дзе два гады працаваў у прыватнай мастацкай школе. У 1869 годзе пакінуў межы Расійскай імперыі; пасяліўся ў Львове (Аўстра-Венгрыя), дзе і памёр.

Пасля заканчэння прэстыжнага Аляксандраўскага ліцэя і двухгадовай стажыроўкі ў Заходняй Еўропе ў ІПБ у маі 1910 г. прыйшоў на працу ўраджэнец Мінскай губерні **Валер'ян Адольфавіч Чудоўскі** (1882–1938). У 1913 г. ён заняў пасаду загадчыка юрыдычнага аддзялення, а з 1916 г. — аддзялення мастацтваў і тэхналогіі. Адначасова з 1910 да 1917 г. В. Чудоўскі быў пастаянным супрацоўнікам часопіса «Апалон»: змяшчаў там вершы, прысвечаныя паэтам-сімвалістам і акмеістам, тэатральную і літаратурную хроніку, працы па тэорыі вершаскладання. У 1925 г. Чудоўскага (на той час загадчыка аддзялення «Rossica») арыштавалі па справе ліцэістаў. Загінуў у лагеры ў Уфе.



*Анатоль Разумаў*

Так сталася, што пасля перамогі дэмакратыі ў Расіі і адкрыцця архіваў НКУС-КДБ менавіта супрацоўніку Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі дзеячу беларускай дыяспары ў Санкт-Пецярбургу Анатолю Разумаву было наканавана рыхтаваць да друку дакументы пра масавыя рэпрэсіі супраць грамадзян, якія арганізавала камуністычная партыя, а выканаўцам быў Народны камісарыят унутраных спраў (НКВД). **Анатоль Якаўлевіч Разумаў**, гісторык і бібліятэкар, нарадзіўся 18.11.1954 у Слуцку, скончыў СШ № 9 у Гродне, потым Ленінградскі універсітэт па спецыяльнасці гісторыя і археалогія. Працаваць прыйшоў у Расійскую Нацыянальную бібліятэку: напачатку ў інфармацыйна-бібліяграфічны аддзел, а потым стварыў асобную групу па выданні Мартыралогу. Пад яго кіраўніцтвам і рэдакцыяй выйшлі 6 тамоў «Ленинградского мартиролога» — кожная з гэтых тоўстых кніг змяшчала кароткія біяграмы ахвяраў аднаго месяца «вялікага тэрору» 1937–1938 гг. Клопатам Анатоля Разумава на былым месцы расстрэлаў (у прыгарадным Левашове) узнік мемарыяльны музей.

У замежным кніжным фондзе Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі прайшло працоўнае жыццё выпускніцы Полацкага педагагічнага вучылішча і Мінскага інстытута

[1] Архіў РНБ. Ф. 1. Воп. 1. 1861. Справа 51: «О подложном письме Директора Библиотеки к библиотекарю Новогрудской библиотеки». Арк. 9–10.



*Марыя Ткачэнка*

замежных моваў **Марыі Іванаўны Ткачэнкі (Кузьміной)**, якая паходзіць з вёскі Селішча Глыбоцкага раёна. На курсах павышэння кваліфікацыі супрацоўнікаў яна авалодала французскай і лацінскай мовамі, якія дадаліся да вывучаных у Мінску рускай, англійскай, нямецкай і польскай. Пры тым галоўнай мовай Марыі Іванаўны заўсёды заставалася родная — большасць дакладаў на канферэнцыях і навуковых публікацый Марыя Ткачэнка зрабіла па-беларуску. Для навуковай працы яна абрала гісторыю мастацтва і шмат зрабіла ў гэтым кірунку. Яе публікацыі ўзбагацілі мастацтвазнаўства ведай пра графічныя ілюстрацыі старадрукаў, яна ўвяла ў навуковы ўжытак партрэты Радзівілаў, якія ў XVI ст. былі выкананы для Амбразскага альбома, а таксама вывучала партрэты Радзівілаў-дзяцей у кнігах XVI—XVII стст., прысвяціла спецыяльны артыкул ксяндзу-бібліяфілу ганароваму карэспандэнту Імператарскай публічнай бібліятэкі Іосіфу Малышэвічу, аналізавала партрэты розных гістарычных асобаў у кніжнай графіцы часоў Вялікага Княства Літоўскага. На працягу ўсёй сваёй службы ў РНБ Марыя Ткачэнка пераглядала тысячы кніг замежнага фонду, выяўляючы і апісваючы асобнікі з бібліятэкі апошняга Ягелона, вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста: кнігі ў адмысловых скураных пераплётах з цісненым золатам суперэкслібрысам. Цяпер кнігазбор Жыгімонта Аўгуста расцярушаны: частка, ахвяраваная віленскаму храму Св. Ганны, трапіла ў Віленскі універсітэт, частка разышлася па сховішчах Украіны, Швецыі і Польшчы. У 1988 г. прафесар Алодзія Кавецка-Грычова з Варшавы зрабіла спробу рэканструкцыі гэтай рэнесансавай бібліятэкі. Яна склала каталог захаваных кніг, які налічваў 958 асобнікаў. У выніку працы Марыі Іванаўны было дададена больш як 100 не вядомых дагэтуль помнікаў.

Заканчваючы кароткі нарыс пра Расійскую Нацыянальную бібліятэку, нагадаем чытачу, што мы не закранулі сваім апавяданнем шмат якія цікавыя для беларусістыкі фонды і асобныя выданні, што ў ёй захоўваюцца, а таксама пэўную катэгорыю людзей, якія з'яўляюцца наведвальнікамі бібліятэкі. Узгадаем толькі адзін нядаўні выпадак сустрэчы з чытачом — пецярбургскім беларусам — які аўтар занатаваў у сваім дзённіку:

*11 жніўня 2006 г. рана-раніцай іду па калідоры РНБ і радуюся, што народу няма: на вуліцы — гарачыня, супрацоўнікі ў адпачынку, чытачы на пляжах. Раптам сустракаю Пятра Амбрасовіча — інжынера-пецярбуржца, родам з-пад Глыбокага. Ён, як заўсёды, засяроджаны, няголены, у зашпіленым джынсавым касцюме і з кніжкай у руках. Кніжка нямецкая, ляйпцыгскае выданне 1883 г., называецца «Нектар і амброзія». «Вы што, Пятро, ад беларусістыкі перайшлі да іншых матэрыяў?» — пытаюся. «Не, — крыху шапялява адказвае Пятро (ён з нядаўняга часу свядома карыстаецца тарашкевіцай і старой вымовай). — Проста праз аналёгію шукаю этымалёгію нашага прозьвішча. Калі нэктар — гэта напой багоў, то амброзія — гэта слабіцельнае багоў. А не ўсе гэта ведаюць!»*

# ВЫШЭЙШЫЯ ШКОЛЫ:
# СТАЛІЧНЫ УНІВЕРСІТЭТ



# Раздзел 8.

## ВЫШЭЙШЫЯ ШКОЛЫ: СТАЛІЧНЫ УНІВЕРСІТЭТ

Пасля таго, як царат закрыў зпаланізаваны Віленскі універсітэт, на Беларусі засталася толькі адна вышэйшая школа — Горы-Горацкі сельскагаспадарчы інстытут. Шмат хто з Беларусі адпраўляўся па веды ў сталіцу — у Пецярбургу ж здаўна існавала значная колькасць вышэйшых навучальных устаноў, якія задавальнялі патрэбы дзяржавы і грамадства ў людзях адукаваных. Духоўныя акадэміі пасылалі ў епархіі адукаваных служак алтара; кадэцкія карпусы, сухапутны і марскі, падрыхтоўвалі шляхту для службы ў арміі і на флоце; царскасельскі Ліцэй даваў маладых людзей «для важных частей государственной службы», як запісана ў яго статуце; настаўнікаў і прафесараў рыхтаваў Педагагічны інстытут; лекараў рознага кшталту адукоўвала Медыкахірургічная акадэмія; веды, неабходныя для службы па горным ведамстве набывалі ў Горным корпусе (Горны інстытут), а па будаўніцтве і дарогах — у Інстытуце шляхоў зносін. Для прыродазнаўчых навук увогуле мелася Акадэмія навук з асобным пры ёй педагагічным аддзяленнем. Нарэшце, з прычыны недахопу кадраў быў адчынены універсітэт, а ў сярэдзіне XIX ст. — некалькі тэхнічных ВНУ. У сярэдзіне XIX ст. у Пецярбургу дзейнічалі дзевятнаццаць спецыяльных навучальных устаноў, з якіх дзевяць мелі статус вышэйшых навучальных і шэсць фактычна былі вышэйшымі ў сваёй галіне (Горны, Лясны, Тэхналагічны і Будаўнічы інстытуты, Пажаскі корпус і Тэатральная школа)[1]. Пецярбург быў і цэнтрам жаночай адукацыі. Да прывілеяваных — Кацярынінскага і Смольнага — інстытутаў у 1878 г. дадаліся так званыя Вышэйшыя жаночыя (Бястужаўскія) курсы. Бястужаўскія курсы мелі тры факультэты: літаратуры і гісторыі, фізіка-матэматычны і прыродазнаўчы; колькасць наведвальніц у першы год складала 254 асобы, а ў 1914 г. дасягала ўжо сямі тысяч. З найбольш вядомых дзяячак-бестужавак-беларусак **Ізабэла Аркадзеўна Грынеўская** (1864–1942), якая нарадзілася ў Гродзенскай губерніі. У гісторыю яна ўвайшла як паэтэса, драматург, празаік, перакладчыца, аўтар пецярбургскіх часопісаў «Сусветная ілюстрацыя», «Веснік Еўропы», «Ніва», «Тэатр і мастацтва» і інш. Драматычная паэма Ізабэлы Грынеўскай «Баб» (1903, 1916) прыцягнула ўвагу пецярбургскай публікі да Сейіда Алі Магамеда, якога шахскія ўлады Ірана расстралялі ў 1850 г. у Таўрызе і прапагандавала яго рэлігійна-сацыяльнае вучэнне аб роўнасці ўсіх людзей. Сярод выпускніц бястужаўскіх курсаў 1917 г. была **Палута (Пелагея Аляксандраўна) Бадунова** (1885–1938). Нарадзілася яна ў Новабеліцы (цяпер раён Гомеля), у час Кастрычніцкіх падзей 1917 г. стала рэвалюцыянеркай, была дэпутатам Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. З 1918 г. Палута Бадунова — член Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Восенню 1919 г. яна пераехала ў Мінск, дзе ўвайшла ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі. Лёс гэтай жанчыны трагічны: яе растралялі па абвінавачванні «Аб аб'яднаным антысавецкім падполлі»[2]. Сярод выпускніц Смольнага інстытута вылучаецца пісьменніца **Лізавета Мікалаеўна Цэўлоўская** (у замужжы Вадавозава, другі раз Сямеўская). Яна нарадзілася ў сям'і дробнага шляхціца ў маёнтку Парэчча Смаленскай губерні ў 1844 г., у Смольным захапілася лекцыямі знакамітага педагога Канстанціна Ушынскага, у 1862 г. выйшла замуж за свайго настаўніка Уладзіміра Вадавозава і пад яго кіраўніцтвам працягвала вывучаць тэорыю і практыку педагогікі. Яе кніга «Разумовае развіццё дзяцей ад першай праявы свядомасці да васьмігадовага ўзросту» (СПБ., 1871) вытрымала да 1913 г. аж сем перавыданняў. Акрамя таго Лізавета Вадавозава выступіла як папулярызатар геаграфіі, напісаўшы трохтомавую працу «Жыццё еўрапейскіх народаў» — гэтая папулярная кніга вытрымала пяць перавыданняў. Лізавета Мікалаеўна перажыла Кастрычніцкую рэвалюцыю, памерла ва ўзросце 79 гадоў у Петраградзе.

Шмат людзей прыязджалі вучыцца ў пецярбургскія вышэйшыя навучальныя ўстановы з беларуска-літоўскіх губерняў. Для мноства гэтых дробных шляхцічаў, паповічаў, купецкіх і панскіх дзяцей адукацыя была хіба не адзіным шляхам «выбіцца ў людзі», адукацыя рабілася галоўнай зброяй барацьбы за роўнасць.

[1] *Даринский А. В.* Высшие учебные заведения старого Петербурга. СПб., 2002.
[2] *Лебедзева В.* Пуцявінамі змагання і пакутаў: Палута Бадунова. Мінск, 2004.

Для навучання выбіралі альбо любімую спецыяльнасць, альбо тую, якую танней было атрымаць, жывучы ў дарагім сталічным горадзе. Навучанне каштавала па-рознаму. Жаночыя педагагічныя курсы (Гарохавая, 20) і Вышэйшыя жаночыя (Бестужаўскія) курсы (Васільеўскі востраў, 10-я лінія, 33) каштавалі 100 рублёў за год навучання, Горны інстытут і Ваенна-медыцынская акадэмія патрабавалі за год па 60 рублёў, Тэхналагічны і Лясны інстытуты — па 50 рублёў, а Электратэхнічны інстытут (Новаісакіеўская, 18) не толькі не браў плату, але яшчэ і прапаноўваў 30 казённых стыпендыяў па 300 рублёў і 3 прыватныя па 420 рублёў на год. Праўда, тыя, хто карыстаўся стыпендыямі, павінны былі адпрацаваць тэлеграфнымі тэхнікамі ў сістэме Міністэрства ўнутраных спраў: 1,5 года за кожны год карыстання стыпендыяй. Калі ж фінансавыя праблемы былі — хаця б часткова — вырашаны, пачыналася студэнцкае жыццё. Пецярбург даваў студэнту магчымасць не толькі навучыцца спецыяльнасці, але і вымушаў акрэсліць сваю грамадскую пазіцыю, а дабрачынныя студэнцкія арганізацыі дапамагалі выжыць у сталіцы. Вось фрагмент студэнцкага жыцця з успамінаў Паўліны Мядзёлкі:

«Восень 1912 года. Глыбоцкі аптэкар Аўгустоўскі сам прапанаваў мне пазыку, каб я магла паехаць далей вучыцца. І вось я ў Пецярбургу на Вышэйшых камерчаскіх курсах.

Яшчэ ў Вільні чула я, што там ёсць студэнцкія арганізацыі, якія дапамагаюць бяднейшым студэнтам знайсці заробак, а ў цяжкую хвіліну могуць і грашовую пазыку даць. Шукаць гэтыя арганізацыі трэба ў студэнцкай сталовай на Забалканскім праспекце, 20. Да часу спыніўшыся ў знаёмых, я пайшла шукаць гэтую сталоўку.

З раздзявальні трапіла ў вялікую залу, сцены якой былі пабелены вапнай. Уздоўж сцен расстаўлены простыя сталы, кожны на 10–12 асоб. На пярэднім плане пакрыты сукном доўгі стол з газетамі і часопісамі на рускай, польскай, літоўскай і беларускай мовах. Направа ад гэтага стала — буфет і кухня, дзе выдаюць абеды па талонах, купленых у касе. Тут можна паабедаць і за 5 капеек, а хто мае грошы, можа дазволіць сабе абед не горшы, як у добрым рэстаране.

Сталоўка была арганізавана студэнцкай касай узаемадапамогі, членамі якой былі ў большасці палякі, меншасць складалі беларусы і літоўцы. Па палітычных поглядах уся студэнцкая моладзь была вельмі разнамасная: тут былі і прадстаўнікі залатой моладзі,




*Набярэжная Нявы. Паштоўка XIX ст.*

белападкладачнікі — польскія эндэкі, і хрысціянскія дэмакраты, і сацыялісты. Калі адбываліся выбары праўлення касы і сталовай камісіі, то на другі дзень студэнты, нікога не пытаючыся, а толькі глянуўшы пры ўваходзе на супрацьлеглую сцяну, ведалі, якая палітычная групоўка ўзяла верх: калі там вісіць вялікі крыж — значыцца, кіраўніцтва захапілі эндэкі і хрысціянскія дэмакраты, няма крыжа — значыцца, на чале стаяць сацыялістычныя групоўкі. Аднак, якая б групоўка ні стаяла на чале, адзін член праўлення быў нязменны. Гэта быў вечны студэнт Кміта.

Ужо немалады, невялічкага росту, худзенькі, крывабокі — адно плячо вышэй другога — Кміта быў вядомым сярод студэнтаў дзеячам па дапамозе бедным студэнтам. Калі б ні прыйшоў у сталоўку, яго заўсёды пабачыш на адным і тым жа месцы. То ён запісвае нешта ў сваю кніжачку, вядзе рахункі, то бегае дробнымі крокамі паміж сталамі і гаворыць то з адным, то з другім. Усе яго паважалі за чулае сэрца, за лагодны, спакойны тон, за нястомную дзейнасць. Не было ніводнага сярод студэнтаў, якому б ён не знайшоў працы ці не аказаў грашовай дапамогі. Праз некалькі дзён ён і мне знайшоў урок у багатай удавы купчыхі Елісеевай за пакой, ранішнюю і вячэрнюю гарбату з булачкай.

У першыя дні я са сваей міскай садзілася за стол, за якім бачыла сваіх сяброў з нелегальнага гуртка ў Вільні ці студэнтаў-беларусаў. Але аднаго разу, не пабачыўшы нікога з іх, я села на першае вольнае месца, якое трапілася на вока. Праз хвіліну падыходзіць да мяне нейкі хлопец і кажа:

— Чаму вы селі за гэты стол?

— Як гэта — чаму? — здзіўлена адказваю.— Вольнае месца, я і села.

— Вы, наколькі я заўважыў, — не належыце да нарадовай дэмакратыі?

— Не. А чаму вас гэта цікавіць? — падазрона пытаю.

— Бо я вас бачыў перш за сталом сацыялістаў, пасля сярод хрысціянскіх дэмакратаў, а цяпер за сталом эндэкаў. Ці вы так часта мяняеце свае погляды, ці наогул беспрынцыповы чалавек?

— Я мяняю не свае погляды, а стол, за якім ёсць вольнае месца, — адказваю ўжо злосна, думаючы, што шпік мяне выпытвае. — І наогул, якая вам справа да таго, дзе я саджуся?

— Вы не гневайцеся. Бачу, што вы яшчэ не ведаеце нашых тут звычаяў. Кожная палітычная групоўка мае свой стол, і ніхто не садзіцца за чужы стол. Белападкладачнікі могуць вас прыняць, а могуць і пакрыўдзіць, ды і свае могуць глянуць на вас коса, думаючы, што вы перакінуліся да другіх. Я проста хацеў вас папярэдзіць, і прабачце, калі няўдала гэта зрабіў.

— Дзякую вам! І вы прабачце за мой тон. Сапраўды, я не ведала гэтага.

Я даела суп, стоячы каля свайго стала. Гэта сталовая была своеасаблівым студэнцкім клубам, дзе вяліся цікавыя гутаркі, гарачыя спрэчкі на палітычныя, навуковыя тэмы, пра мастацтва. Тут пачуеш навіны з грамадска-палітычнага жыцця, тут апавяшчалася пра месца і час сходаў, лекцый. Тут паўставала ініцыятыва стварэння новых арганізацый, суполак; тут час ад часу адбываліся вечары танцаў, дзе юнакі спаборнічалі паміж сабой у розных замысловатых фігурах мазуркі, а дзяўчаты ў наладжванні арыгінальных значкоў для катыльёна»[1].

* * *

Санкт-Пецярбургскі універсітэт заснаваны ў лютым 1819 г. на базе Галоўнага педагагічнага інстытута. Першым рэктарам быў прызначаны юрыст прафесар М. Балуг'янскі, славак па нацыянальнасці. У першай палове XIX ст. універсітэт меў тры факультэты. На філасофска-юрыдычным факультэце вывучалі заканазнаўства і гісторыю, законы грамадзянскія, крымінальныя, народнае правазнаўства, філасофію. Для падрыхтоўкі да службы ў Царстве Польскім па судовым ведамстве на юрыдычным факультэце ў 1841 г. увялі выкладанне польскага заканадаўства. На фізіка-механічным (з фізіка-матэматычным і прыродазнаўчым аддзяленнямі) вывучалі «чыстую» і прыкладную матэматыку, фізіку, астраномію, хімію, фізічную геаграфію, мінералогію і геалогію, батаніку, заалогію, тэхналогію, сельскую гаспадарку і лесаводства, архітэктуру. У 1839—1843 і 1849—1851 гг. на сродкі Міністэрства фінансаў працавала часовае «рэальнае аддзяленне» для падрыхтоўкі выкладчыкаў тэхнічных навук.



*Будынак 12-ці калегій*

На гісторыка-філалагічным (з аддзяленнямі гісторыі, філалогіі і ўсходняй славеснасці) факультэце вывучалі філасофію, грэцкую і рымскую славеснасць і «старажытнасці», рускую славеснасць і гісторыю рускай літаратуры, гісторыю і літаратуру славян, усеагульную і рускую гісторыю, палітычную эканомію і статыстыку, усходнія мовы (арабскую, турэцкую, персідскую). У 1839—1858 гг. для навучання чыноўнікаў, якія павінны ведаць малдаўскую мову, на сродкі Міністэрства замежных спраў была адчынена кафедра малдаўскай мовы. Патрэба ў перакладчыках прывяла да заснавання ў 1845 г. кафедраў армянскай, грузінскай і татарскай моваў, а ў 1854 г. з аддзялення ўсходніх моваў філалагічнага факультэта ўтвораны асобны факультэт усходніх моваў.

Акрамя факультэцкіх прадметаў, ва універсітэце былі абавязковыя для ўсіх багаслоўе, царкоўная гісторыя і царкоўнае заканазнаўства, замежныя мовы (англійская, французская, нямецкая), а таксама маляванне. Пасля закрыцця ў 1832 г. Віленскага універсітэта, сталічны універсітэт рыхтаваў настаўнікаў для беларускіх губерняў на стыпендыі, прызначаныя Мікалаем І у 1838 г. для ўраджэнцаў заходніх губерняў (па 142 і 85,5 руб. на год). У наступныя цараванні практыка гэтая працягвалася, а памер стыпендыі быў павялічаны. Прынамсі на спецыяльных педагагічных курсах пры Пецярбургскім універсітэце ў 1860 г. вучыліся ўрадавыя стыпендыяты для Віленскай навучальнай акругі, якія пасля заканчэння курсаў абавязаны былі адпрацаваць выкладчыкамі рускай мовы і гісторыі па тры гады за кожны год карыстання стыпендыяй (памерам у 350 руб.).

[1] *Мядзёлка П.* Сцежкамі жыцця. Мінск, 1974. С. 51—53.

Атрымаць веды студэнтам дапамагалі не толькі выдатныя выкладчыкі, абсталяваныя лабараторыі, але і багатая, добра скамплектаваная бібліятэка. У 1827 г. у ёй было 4217 назваў кніг у 10 815 тамах. У 1830 г. Пецярбургскаму універсітэту была перададзена вывезеная з Беларусі бібліятэка Полацкай акадэміі — больш за 5000 назваў, «паміж якімі знайшліся рэдкія сачыненні па багаслоўі, славеснасці, філасофіі, гісторыі і матэматыцы»[1]. Сярод кніг, якія пазначаны экслібрысам Полацкай акадэміі з абрэвіятурай «Col. Pol.S.J.» — сапраўдныя шэдэўры кнігавыдання і велізарныя рарытэты: «Гісторыя франкаў» Паўла Эмілія (Парыж, 1539), базельскае двутомавае выданне твораў Арыстоцеля, творы Кірылы Александрыйскага, творы французскага гуманіста Гіёма Бюдэ, выданні шэрагу антычных аўтараў — усяго 17 палеатыпаў, а таксама 10 інкунабулаў: нямецкая біблія Эгештэйна (Страсбург, 1470), творы Ісідора Севільскага (Нюрнберг, 1470 і Страсбург, 1473), маральна-багаслоўскі трактат Іаана Нідэра (Кёльн, 1480), каментарыі да Бібліі (Пасціла) Мікалая дэ Ліра (Кёльн, 1485), «Кніга хронік» Гартмана Шэдэля ў Аўсзбургскім выданні 1497 г., лацінскі пераклад «Карабля дурняў» Себасцяна Бранта (Базель, 1497), апісанне падарожжа ў святую зямлю Брэйдэнбаха (Майнц, 1486), пасланне папы Грыгорыя I (Аўсбург, 1474/76), а таксама «Speculum historiale» Вінцэнта з Бовэ (Нюрнберг, 1483)[2].

У 1899 г. бібліятэка налічвала ўжо 127 842 назвы ў 276 095 тамах. У ліку іншых пропаведзі Р. Крачолы ў ліёнскім 1500 г. выданні і Пасціла невядомага аўтара, таксама ліёнскага выдання 1525 г., на кожным асобніку запіс: «З кніг Юльяна Фаміча Крачкоўскага, падарыў сын яго прыват-дацэнт Ігнат Юльянавіч Крачкоўскі 17 студзеня 1911 года». Сярод іншых беларускіх рэдкасцяў бібліятэкі заслугоўвае ўвагі пераклад на беларускую мову кнігі Тарквата Таса «Вызвалены Іерусалім» і рукапісныя, арабскай графікай, кітабы беларускіх татар.

З 1891 г. памочнікам бібліятэкара універсітэта працаваў дзеяч беларускага адраджэння Бранілаў Ігнатавіч Эпімах-Шыпіла. Выразны яго партрэт намаляваў у сваіх мемуарах адзін са студэнтаў-усходнікаў, будучы акадэмік Ігнат Крачкоўскі: «*Эпімах-Шыпіла прадстаўляў фігуру, не менш значную і, насуперак іншым* [бібліятэкарам універсітэцкай бібліятэкі. — М. Н.], *па-свойму рознабаковую. Маленькі, тоўсценькі, увесь нейкі кругленькі, акуратна падстрыжаны бобрыкам, не ў прыклад іншым ён заўсёды быў чыста апрануты, нават з некаторай прэтэнзіяй на далікатнасць, што часам уласціва для старых халасцякоў. Пра яго я чуў яшчэ гімназістам, бо ён зрэдку прыязджаў працаваць у Вільню ў Публічную бібліятэку і Архіў, галоўным чынам па гісторыі Заходняга краю. Першую частку яго прозвішча «Эпімах» я прымаў тады за імя і вельмі дзівіўся з гэтага дзіўнага спалучэння. Усе студэнты, якія жадалі займацца ва універсітэцкай бібліятэцы, перш за ўсё траплялі да яго: ён сядзеў за сталом каля самага ўвахода і яго абавязкам было выпісваць імянныя карткі на атрыманне кніг. Мы заўсёды пачыналі дзірвянець ад маруднасці і акуратнасці, з якой ён гэта ўсё рабіў, праўда, з непаўтаральным майстэрствам, асабліва ў мудрагелістым росчырку подпісу яго незвычайнага прозвішча. Будучы па адукацыі вельмі грунтоўным філолагам-класікам, ён выкладаў па-лацінску грэцкую мову ў Рыма-каталіцкай духоўнай акадэміі, якая размяшчалася ў той час на першай лініі Васільеўскага вострава. Потым я даведаўся, што ён лічыцца знаўцам і іншых, часам зусім незвычайных галінаў, вёўшы занятткі, між іншым, ледзь не па гісторыі царкоўных убранняў. З адным бокам яго дзейнасці я пазнаёміўся даволі блізка, хоць ён стараўся па магчымасці не распаўсюджваць пра тое звестак, па зусім зразумелых для таго часу меркаваннях: ён быў знакамітым дзеячам беларускага літаратурнага адраджэння. Выдатна ведаючы беларускую мову, і ў жывой гутарцы, і ў старадаўніх помніках, сам ён мала выступаў у друку, але ўсяляк падтрымліваў беларускае выдавецтва і тых беларусаў, якія траплялі ў Пецярбург. Славуты пазней паэт Янка Купала ў гады вучэння часта праводзіў ночы на скрыні ў прыхожай яго маленькай кватэры. Не адзін Янка Купала быў шмат чым абавязаны мала каму вядомаму бібліятэкару універсітэта. Такім жа энтузіястам беларускага руху быў яго брат, ці то акцызны, ці то кантрольны чыноўнік; разам яны ставілі аматарскія спектаклі на беларускай мове, што для пачатку XX стагоддзя было вялікай і смелай навіной. Лёс не ўзнагародзіў яго за ўсю гэтую бескарыслівую, самаахвярную дзейнасць.*

[1] *Григорьев В. В.* Санкт-Петербургский университет в течение первых пятидесяти лет его существования. СПб., 1870. С. 78.

[2] *Горфункель А. Х.* Каталог инкунабулов. Л., 1967.

*Адзін час ён быў запрошаны ў Мінск для працы над беларускім слоўнікам, аднак хутка быў вымушаны пакінуць сталіцу Беларусі. Вярнуўшыся ў Ленінград зусім старым, ён тут памёр, прагараваўшы некалькі месяцаў, нягледзячы на пасільную дапамогу тых нешматлікіх бібліятэчных саслужыўцаў і сяброў, якія яго памяталі*»[1].

Б. І. Эпімах-Шыпіла быў у Пецярбургу тым чалавекам, вакол якога гуртаваліся найбольш актыўныя сілы беларускага руху. «Любімым спосабам ягонай у гэтым кірунку працы, апрача жывога слова і ўласнага прыкладу, была кніжка. «А вось прачытайце, дужа цікавая рэч», — казаў ён студэнту, падносячы яму навуковую кніжку аб Беларусі. Сапраўды, Шыпілу без кніжак трудна й прадставіць. Як жывы, стаіць ён мне ўваччу на калідорах і ў салях Духоўнай акадэміі даслоўна з бярэмям кніжак, якія прыносіў нам сам паводле сваёй уласнай волі і на нашу просьбу», — гэта ўжо з успамінаў студэнта рыма-каталіцкай духоўнай акадэміі ксяндза Адама Станкевіча[2].

Ліст паэтэсы Алаізы Пашкевіч да Эпімаха-Шыпілы выразна паказвае на ролю старшынства Браніслава Ігнатавіча сярод беларускай інтэлігенцыі свайго часу: «*Выбачайце, што незнаёмая і пішу да Вас я, Пашкевічанка... бо то калісь прабавала вершы пісаць і іх Вам чыталі. Во то ж цяпер жыву ў Львове, з украінцамі-русінамі і уніятамі заводжу знакомства. Шмат нам спрыяюць, памогуць у чым сіла. Цяпер покі што будуць друкаваць па-беларуску. Калі маеце што, то прышліце. Я хачу даведацца ад Вас, што чутно з букварам, ці ўжо гатоў, ці ў нас будзе фанетыка наша беларуская. Гэта вельмі важна, бо буду цяпер выдаваць папулярныя рэчы для народу, ды не ведаю, як чаго трымацца*»[3].

**Браніслаў Ігнатавіч Эпімах-Шыпіла** нарадзіўся 4 верасня 1859 г. у фальварку Будзькаўшчына на Лепельшчыне, а дзяцінства правёў у фальварку Залессе (цяперашні Полацкі раён), куды неўзабаве пераехалі бацькі. Бацька яго быў дробным шляхцічам (меў дваццаць дзесяцін ворнай зямлі і дзесяць дзесяцін лесу). Пасля смерці бацькі сям'я збяднела, але абодва браты — Браніслаў і Уладзіслаў — усё ж змаглі атрымаць адукацыю. Скончыўшы ў 1880 г. з залатым медалём рыжскую Аляксандраўскую гімназію, Эпімах-Шыпіла паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта. Маці яго давялося браць пасведчанне аб тым, што сям'я засталася амаль без сродкаў для існавання. У студэнцкай асабовай справе Эпімаха-Шыпілы ёсць каля дзесятка прашэнняў з розных студэнцкіх гадоў пра вызваленне ад аплаты за слуханне лекцый, пра прызначэнне стыпендыі[4]. Пасля заканчэння універсітэта яго накіроўваюць на працу ў бібліятэку універсітэта, дзе ён пастаянна працаваў ажно да 1925 г.



*Браніслаў Эпімах-Шыпіла*

У дыпломе Б. Эпімаха-Шыпілы паведамляецца, што ён «...выслухаў поўны курс навук па гісторыка-філалагічным факультэце і паказаў на экзаменах наступныя пазнанні: па грэцкай мове, лацінскай мове, рускай славеснасці, рускай гісторыі, славянскай філалогіі, агульным мовазнаўстве, тэорыі і гісторыі мастацтваў, нямецкай мове — выдатныя, па філасофіі і багаслоўі — добрыя, пасля прадастаўлення дысертацыі прызнаны вартым вучонай ступені кандыдата і... зацверджаны ў гэтай ступені Саветам Імператарскага С.-Пецярбургскага універсітэта 30 мая 1887 г.». Ужо ў савецкі час, у 1925 г., Браніслаў Ігнатавіч пісаў: «Займаемая пасада — бібліятэкар, загадчык філолага-

[1] *Крачковский И. Ю.* Над арабскими рукописями. Листки воспоминаний о книгах и людях. М.-Л., 1948. С. 106–107.

[2] *Станкевіч А.* Прафесар Бранiслаў Эпімах-Шыпіла. Вільня, 1935. С. 7.

[3] *Бібіла Ю.* Матэрыялы да біяграфіі Цёткі. Запіскі аддзела гуманітарных навук Інстытута Беларускай Культуры. Кн. 2. Т. I. Мінск, 1928. С. 296.

[4] Асабовая справа Б. Эпімаха-Шыпілы. Дзяржаўны архіў Ленінградскай вобласці. Ф. 14. Воп. 3. № 3212. Арк. 26–32.

лінгвістычнага аддзела бібліятэкі. Адукацыйны цэнз — кандыдат гісторыка-філалагічных навук Ленінградскага універсітэта»[1].

Эпімах-Шыпіла паходзіў са шляхты, якая жыла ў даўняй традыцыі. З гадоў маладосці ён вынес любоў да беларускай моўнай стыхіі, першую народную прыпеўку ён запісаў яшчэ юнаком, каля Ушачаў у 1877 г.:

Не хачу я гарэліцы,
Ні жаднага трунку,
Гвалту крычу,
Замуж хачу,
Дайце мне ратунку!

У паперах Эпімаха-Шыпілы ёсць ананімны верш «Вясна, голад, перапала» пад загалоўкам «Вісна», спісаны «з вуснаў Гелены Мярэцкай», ураджэнкі Віцебшчыны, у Пецярбургу ў чэрвені 1887 г. На жаль, невядома, кім была пецярбуржанка Гелена Мярэцкая — ці сваячніца, ці проста зямлячка, у якой кватараваў малады выпускнік універсітэта. Гэты верш быў упершыню апублікаваны ў 1896 г. у «Віцебскіх губернскіх ведамасцях» — на дзевяць гадоў пазней запісу Эпімаха-Шыпілы.

У 1894 г., папрацаваўшы тры гады ва універсітэцкай бібліятэцы, Эпімах-Шыпіла ў просьбе на імя рэктара пісаў, што займаецца гісторыяй Полацкай зямлі і што яму неабходна атрымаць на часовае карыстанне з ваенна-вучонага архіва Галоўнага штаба арыгінал «Рэвізіі Ваяводства Полацкага 1586 г.». У прашэнні звяртае на сябе ўвагу такая фраза: «Азначаная рэвізія Ваяводства Полацкага 1586 г., напісаная на беларускай мове рускімі літарамі, выдадзена была...» і г. д. Невядома, у якім кірунку меўся вывучаць «Рэвізію...» Эпімах-Шыпіла: як гістарычную крыніцу ці як помнік мовы, таксама не ведаем вынікаў яго штудый беларускага сярэднявечча. Уся навуковая дзейнасць яго звязана з жывой мовай і новай літаратурай. Шыпіла прыйшоў да разумення таго, што традыцыя — гэта не паўтарэнне аднаго і таго ж. Гэта развіццё прынцыпу. Калі ў галаву яго любімых землякоў не ўводзіць чужыя беларускай гісторыі і менталітэту прынцыпы, то не разбурыцца фундамент, на якім стаіць народ. І ён заняўся распрацоўкай свайго.

Пачаткам дзейнасці Эпімаха-Шыпілы стала складанне беларускай хрэстаматыі. Для гэтага прыдаліся ўласныя запісы розных гадоў, з розных месцаў Беларусі. Прыкладам, маргіналія рукой Браніслава Ігнатавіча на старонках камедыі «Залёты»: «Гэта копія «Залётаў» выканана мной у канцы жніўня 1893 года з яшчэ ненадрукаванага рукапісу аўтара В. Дуніна-Марцінкевіча. Гэты рукапіс захоўваецца ў зборах п. Аляксандра Ельскага ў Замосці пад Мінскам Літоўскім і быў мне ласкава надасланы ім для капіравання. С.-Пецярбург. 1893.IX.3». «Хрэстаматыя» — адна з галоўных спраў жыцця Эпімаха-Шыпілы. Гэты аб'ёмісты рукапісны зборнік ў цвёрдай вокладцы, спісаны акуратным почыркам складальніка. На тытульным лісце надпіс, выкананы гаспадаром ў Пецярбургу, у перадапошні год XIX стагоддзя, лацінскімі літарамі: «Bielaruskaja chrestomatyja. Sabraū i ūłażyū Bronisłaū Epimach-Szypiło. Piciarborak. 1899 h.» «Хрэстаматыя» складалася сорак два гады. На Васільеўскім востраве паўстала кніга, якая як люстэрка адбіла літаратурнае і грамадскае жыццё Беларусі. Адкрывалася яна старым беларускім царкоўным гімнам «О мой божа, веру табе, і ўсё веру я для цябе», які спісаны ад нейкага В. Мяніцкага.

У кнізе побач знаходзяцца старэйшы шэдэўр аб прыгодах Тараса на Парнасе і шуканні рэвалюцыйнага ідэалу ў вершах У. Сыракомлі, факт прыходу ў літаратуру новага паэта (верш «Вясновай парой» Я. Лучыны) і першыя пераклады з рускай мовы («Ямшчык» У. Сыракомлі ў перакладзе Я. Лучыны), а таксама ананімная «Гутарка старога дзеда», якая з'явілася напярэдадні паўстання 1863 г., — усё з незвычайнай яркасцю паказвае складаны кірунак думак і пакручастыя шляхі развіцця беларускага грамадства XIX ст. Асабліва цікавыя землякі Эпімаха-Шыпілы паэты Віцебшчыны — Ф. Тапчэўскі і І. Тамашэвіч. Заўвагі складальніка раскрываюць абставіны і адлюстроўваюць каларыт эпохі. Пры вершы «Езусу Цвяцінскаму скарга на Даўмантаў» рукой Шыпілы напісана: «Спісана ад пана В. Мяніцкага ў Сялігорах. Верш гэты ёсць як бы твор Іяхіма Тамашэвіча. Перапісаў у Астрове 9 жніўня 1890 г.». А пад вершам «Саўсім не тое, што было» занатавана: «Перапісаў з аўтографа аўтара, п. Фелікса Тапчэўскага, які кіруе ва Ухвішчах, маёнтку пані Селявіны, аўтографа, пісанага рускімі літарамі. Атрымаў гэты рукапіс ад Аскеркаў у Леваноўшчыне. Перапісаў у Астрове». На некаторых старонках «Хрэстаматыі» наклеены лістоўкі з рэвалюцыйнымі вершамі Цёткі «Мора» і «Хрэст на свабоду» — пецярбургскія выданні Беларускай Сацыялістычнай Грамады 1906 г. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Эпімах-

[1] Асабовая справа Б. Эпімаха-Шыпілы. Дзяржаўны архіў Ленінградскай вобласці. Ф. 14. Воп. 3. № 3212.

Шыпіла зрабіў у «Хрэстаматыі» ўсяго некалькі запісаў, сярод якіх пераклад «Вячэрняй песні» У. Сыракомлі.

Санкт-Пецярбургскі універсітэт размясціўся ў прадстаўнічым месцы — на набярэжнай Вялікай Нявы на Васільеўскім востраве (пазней набярэжная атрымала назву Універсітэцкай). Напачатку вучыліся ў чатырох з 12 будынкаў Дванаццаці калегій (пабудаваныя ў першай палове XVIII ст. архітэктарамі Д. і Дж. Трэзіні ў стылі барока). У 1834–1838 гг. паводле праекта архітэктара А. Ф. Шчадрына збудавалі так званы рэктарскі флігель і прыстасавалі пад патрэбы універсітэта астатнія будынкі 12-ці калегій. Была перабудавана адкрытая аркада галоўнага фасада, уздоўж яго распланаваны сквер, які адгарадзілі ад вуліцы каванымі чыгуннымі кратамі. З боку двара прайшла двух'ярусная аркада. Яе зашклёны другі паверх — гэта славуты універсітэцкі калідор даўжынёй амаль паўкіламетра. Праз некаторы час у комплекс будынкаў універсітэта ўвайшоў трохпавярховы корпус «для гульні ў мяч» архітэктара А. Какорынава, а таксама суседні будынак — палац цара Пятра II (пабудаваны архітэктарам А. Шлютэрам у 1714 г.): там размясціліся філалагічны і ўсходні факультэты.

Сярод студэнтаў Санкт-Пецярбургскага універсітэта найбольшую колькасць складалі выхаванцы Санкт-Пецярбургскай навучальнай акругі (іх было каля паловы), пасля іх традыцыйнае другое месца займалі выхадцы з беларускіх земляў — выхаванцы Віленскай навучальнай акругі (штогод каля 10%). Большасць студэнтаў былі выпускнікамі гімназій — 98%, толькі 1% — выпускнікі духоўных семінарый і 1% — з іншых устаноў. Вучыцца трэба было 4 гады, аплата складала 25 руб. на карысць універсітэта і асобная плата на карысць выкладчыкаў (уносілася штопаўгода). У сярэдзіне XIX ст. выпускнікі класічных гімназій мелі права паступаць ва універсітэт без экзаменаў, але ў 1869 г. выйшла «Высачайшае павяленне» праводзіць для іх «праверачныя іспыты». Узровень выкладання быў вельмі высокі, сведчанне гэтаму знойдзем ва ўспамінах выпускніка Слуцкай класічнай гімназіі Люцыяна Бохвіца, які мог параўноўваць — адвучыўшыся два гады ў Варшаўскім універсітэце, ён прыехаў у 1885 г. працягваць адукацыю ў сталіцу: «Лекцыі, у адрозненне ад варшаўскіх, — смелыя, ясныя, без аніякіх недагаворак і пры гэтым вабяць сваёй глыбінёй і формай»[1].

У 1912–1914 гг. ва універсітэце працаваў Беларускі навукова-літаратурны гурток студэнтаў. Ён аформіўся дзякуючы ініцыятыве студэнта фізіка-матэматычнага факультэта Яўгена Хлябцэвіча. У арганізацыйную групу ўваходзілі 16 чалавек: Пушкарэвіч, Я. Хлябцэвіч, Б. Тарашкевіч, Л. Адамовіч, А. Каспяровіч, С. Курылёнак, Я. Сушынскі, Дзядовіч, Т. Лось, К. Душэўскі, Кавалевіч, А. Бычкоўскі, Цыбульскі, Л. Давідовіч, П. Аляксюк і Вярбіцкі. Статут гуртка быў зацверджаны саветам прафесараў універсітэта 30 снежня 1912 г. Але студэнты звярталіся з просьбай у рэктарат з праектам статута яшчэ ў 1906 г. Шэсць гадоў кіраўніцтва універсітэта адцягвала канкрэтнае вырашэнне гэтага пытання. Аднак і пасля 1906 г. студэнты-беларусы вялі не толькі грамадскую працу, але і прымалі ўсе меры да арганізацыйнага аб'яднання, наладжвалі кантакты з іншымі студэнцкімі арганізацыямі[2]. Мэта гуртка — «навуковае азнаямленне з духоўным (мова, літаратура, народная славеснасць) і грамадскім (этнаграфія, статыстыка, народная гаспадарка) жыццём Беларусі». Кіраўніком гуртка быў прызначаны дацэнт Аляксандр Розэнфельд, вядомы збіральнік і выдавец беларускіх народных песень[3], старастам — студэнт гісторыка-філалагічнага факультэта Браніслаў Тарашкевіч. Паўліна Мядзёлка, успамінаючы свае студэнцкія гады ў Пецярбургу, піша: «...у гэты час ужо існаваў пры Пецярбургскім універсітэце Беларускі навукова-літаратурны гурток пад кіраўніцтвам прафесара Розэнфельда. У гэты гурток апрача студэнтаў універсітэта ўваходзілі студэнты Політэхнічнага, Горнага інстытутаў і іншых вышэйшых навуковых устаноў. Мэтай гуртка было — «навуковае пазнанне духоўнага грама-

[1] Bochwic L. Wspomnienia uniwersyteckie. Warszawa 1882–1885, Petersburg 1885–1887. Z dawnych wspomnień sądowych. Wilno, 1938. S. 38.

[2] У «Отчете о состоянии и деятельности императорского «Санкт-Петербургского университета за 1912 год» (раздз. VI. СПб., 1913; С. 65) чытаем: «Гурток узнік у вясновым семестры 1912 г. З-за новых правілаў для навуковых гурткоў, менавіта — абавязковай прысутнасцю кіраўніка гуртка на сходах — былі зроблены адпаведныя змены ў статуце. Першапачатковы праект статута, створаны ў 1905 і 1906 гг., які даваў студэнцтву некаторую акадэмічную аўтаномію, быў вернуты канцылярыяй прарэктара для выпраўлення ў сэнсе названых абмежаванняў».

[3] *Розенфельд А. А.* Белорусские народные песни / Записаны А. Розенфельдом. – СПб.: Тип. Имп. Акад. наук, 1904. – 92 с. – Отт. из «Сборн. ОРЯС», т. 77, № 3.




*Актавая зала Санкт-Пецярбургскага універсітэта*

дзянскага жыцця беларускага народа, яго мовы, літаратуры, народнай творчасці, этнаграфіі, статыстыкі, народнай гаспадаркі...».

Вялікае пачынаецца з малога! Працы ўдзельнікаў студэнцкага навуковага гуртка сталі пачаткам акадэмічнага беларусазнаўства. Распрацоўваліся тэмы «Фанетычная транскрыпцыя беларускіх твораў», «Развіццё беларускай нацыянальнай ідэі», «Рукапісны альбом Вярыгі-Дарэўскага» (Браніслаў Тарашкевіч), «Беларуская народная музыка» (Антон Грыневіч), «Адраджэнне беларускай народніцкай літаратуры» (Яўген Хлябцэвіч), «Вывучэнне старажытных гістарычных помнікаў і ахова даўніны» (Клаўдзіюш Душэўскі), «Беларуская бібліяграфія» (Рамуальд Зямкевіч) і інш. Гурткоўцы выпусцілі нумар часопіса «Раніца» (1914), рыхтавалі часопіс «Сябра», разам з суполкай «Загляне сонца і ў наша ваконца» ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы альманаха «Маладая Беларусь» (1912—1913).

Беларускі літаратурна-навуковы гурток студэнтаў Санкт-Пецярбургскага універсітэта быў створаны па прыкладзе гурткоў студэнтаў іншых нацыянальнасцяў (гурток украіназнаўства, «Маладыя латышы», гурток літоўскіх студэнтаў). У статуце ёсць заўвага: «Прысутнасць на сходах кіраўніка абавязковая, аб чым апошні дае распіску, каб атрымаць памяшканне аўдыторыі для сходу». Значэнне гуртка найперш у тым, што была магчымасць слухаць вучоных, якія рыхтавалі лекцыі спецыяльна для пасяджэнняў гуртка. Акадэмік А. Шахматаў яшчэ ў 1908 г. пісаў рэдактару «Нашай Нівы» А. Уласаву: «Я безумоўны прыхільнік беларускага нацыянальнага руху»[1], з радасцю згадзіўся чытаць у гуртку цыкл лекцый пра паходжанне і склад беларускай мовы. Прафесар А. Пагодзін, які займаўся пытаннямі славянскага адраджэння і даў у часопісе «Веснік Еўропы» (1911) высокую ацэнку творчасці Я. Купалы, у палымяным прывітанні гуртку пісаў: «Як спробу далучыць да вышэйшага ідэйнага і культурнага жыцця новых прыхільнікаў, як працу, карысную для ўмацавання і ўзбагачэння і ўсякага ўздыму дзяржавы, я вітаю працу беларускай моладзі, накіраваную на нацыянальную асвету народных мас. Гэтай ідэяй варта жыць»[2]. Прафесар Варшаўскага універсітэта Яўхім Карскі даў гуртку практычныя парады: «Неабходна: 1. Збіраць матэрыял да беларускага слоўніка. 2. Згрупаваць па сюжэтах беларускія народныя песні і казкі. 3. Самастойнае вылучыць ад запазычанага»[3]. Этнограф Еўдакім Раманаў раіў студэнтам-гурткоўцам: а) збіраць на-

[1] Рукапісны аддзел Цэнтральнай бібліятэкі АН Літвы. VBF-21. Спр. 2178.

[2] Отчет... за 1912 год, раздз. VI. С. 69.

[3] Тамсама.

родныя мелодыі; б) збіраць матэрыял да беларускага тапаграфічнага слоўніка; в) вывучаць арнаменты. Ён жа даваў параду не абмяжоўвацца акадэмічнай працай, а, будучы летам у Беларусі, арганізоўваць асветныя таварыствы, музеі, кааператывы.

Акрамя культурных задач, заснавання бібліятэк, школ, чытання лекцый, распаўсюджвання кніг, гурток ставіў сабе эканамічныя патрабаванні: 1) развіваць у народзе звычку задавальняць свае патрэбы сваімі сіламі — супольнай кааператыўнай працай; 2) клапаціцца аб паляпшэнні ўмоў працы; 3) дапамагчы ўрэгуляванню спраў эміграцыі; старацца замест эміграцыі ў Амерыку арганізаваць эміграцыю на сезонныя работы ў бліжэйшыя старонкі і краіны (на лета).

У 1913 г. Браніслаў Тарашкевіч (які жыў у той час на 9-й лініі Васільеўскага вострава № 58, кв. 34), палемізаваў на старонках віленскай «Нашай Нівы» з польскамоўнай пецярбургскай газетай «Dziennik Petersburgski» і маладзёжным да яе дадаткам «Głos Młodych»[1]. І хаця гэта былі першыя спробы маладых навукоўцаў і, можа, іх працам не заўсёды хапала грунтоўнасці, але само жаданне і падбор тэматыкі сведчаць пра пачатак вялікай зацікаўленасці ў вырашэнні лёсу сваёй бацькаўшчыны.

У працы гуртка ўдзельнічаў Браніслаў Эпімах-Шыпіла, пры гэтым ён карыстаўся вялікай павагай студэнтаў. Гурткоўцы пісалі пра яго: «Бран. Ігн. Эпімах-Шыпіла, сардэчна садзейнічаючы навуковаму вывучэнню беларускага народа, дае даведкі студэнтам, якія цікавяцца па пытаннях беларускай літаратуры і мовы, аказаў садзейнічанне арганізацыі беларускай бібліятэкі гуртка, за што і за пастаянную яго душэўную ўважлівасць да беларусаў бюро выказвае яму, «як сэрцу Беларусі», сваю ўдзячнасць». У рукапісным аддзеле бібліятэкі Акадэміі навук Літвы Рыгор Семашкевіч знайшоў цікавы дакумент: «Пратаколы засяданняў у справе абраду статута арганізацыі «Пецярбургскае таварыства студэнтаў-беларусаў» і выбары ўраду той жа арганізацыі»[2]. На думку даследчыка фактычна гэта была тая ж самая арганізацыя з той толькі розніцай, што акрамя студэнтаў Пецярбургскага універсітэта, членамі яе былі студэнты іншых навучальных устаноў, а таксама людзі сталых прафесій, якія не мелі права наведваць пасяджэнні ва універсітэце.

Некаторую яснасць у гэта пытанне ўносяць успаміны Марыі Галубянкі, якая так пісала да сваёй сяброўкі: «Збіраюцца беларусы ў сыботу да п. прафесара Эпімаха-Шыпілы (вельмі сімпатычны). Калі прыходзім, п. Шыпіла нам штокольвек чытае (ён добра чытае); часам чытае свой яшчэ не друкаваны раман «Цішка Гартны, паэт беларускі»... «...Гурток наш пачаў цяпер збірацца часта, штотыдзень, ужо тры разы збіраліся, вельмі сімпатычна бывае. Прэзэс (старшыня) гэтага гуртка Тарашкевіч (чым больш яго пазнаю, тым больш выдае мне інтэлігентным і разумным) вядзе яго вельмі сімпатычна... На другі дзень быў рэферат Б. Тарашкевіча. Меўся казаць свае ўражанні аб вершах Буйлянкі «Курганная кветка» Лявіцкі. Рэферат Тарашкевіча «Беларускі народ і яго мова» быў вельмі добры, апрацаваны... Рэферат усім надта спадабаўся. Пасля дыскусіі, вельмі кароткай, гаварыў Тарашкевіч (аб рэфераце вельмі добра) і Душэўскі, адзін з двух віленскіх беларусаў... гаварыў, што беларусам трэба тварыць інтэлігенцыю, трэба яе ўсведамляць»[3].

Дзейнасць студэнтаў не прайшла бясследна для беларускай навукі. У Пецярбургу студэнт Браніслаў Тарашкевіч, у будучым прафесар і акадэмік, рыхтаваў матэрыял для свайго падручніка «Беларуская граматыка», значэнне якой цяжка пераацаніць, бо многія пакаленні людзей вучыліся па ёй у школах. Грунтоўную працу падрыхтаваў студэнт Яўген Хлябцэвіч. «Адраджэнне беларускай народніцкай літаратуры» — гэта быў крытычны разгляд беларускай літаратуры на 1914 год. Некаторыя палажэнні яе здзіўляюць прадбачлівасцю маладога даследчыка, які тады напісаў: «Не менш слаўнае месца займае Янка Купала. Месца гэтае не другое, і не першае, а своеасаблівае, можна сказаць, поплеч ідуць Я. Колас і Я. Купала — кожны сваім шляхам...». Некаторыя звесткі пра Я. Хлябцэвіча ёсць у матэрыялах студэнцкай асабовай справы[4]. Ён нарадзіўся ў 1884 г. у в. Клёнікі Бельскага павета Гродзенскай губерні ў сям'і праваслаўнага святара. Бацька выкладаў у Жыровіцкім духоўным вучылішчы, якое і скончыў Яўген у 1900 г., пазней шэсць гадоў вучыўся ў Віленскай

[1] *Тарашкевіч Б.* Выбранае: Крытыка, публіцыстыка, пераклады. Мн., 1991. С. 53—54.

[2] Рукапісны аддзел БАН Літвы, VBF-21. Спр. 2219. У пратаколах пішацца: «1) Мэта: таварыства памагае грашмі аддзельным сябрам найбольш небагатым, апроч гэтага стараецца злучыць у адно ўчашчуюся моладзь беларускую ў Пецярбурзе. 2) Дарога да мэты: каб дайсці да гэтай мэты, таварыства збірае штомесячныя складкі, ладзіць прадстаўлення, вечары, рэфераты, ладзіць дыскусійныя сходы, мае бібліятэку».

[3] *Семашкевіч Р.* Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе. Мінск, 1971.

[4] Дзяржаўны гістарычны архіў Ленінградскай вобласці Ф. 14. Воп. 3. № 48187.

духоўнай семінарыі. Месца свяшчэнніка на прыходзе не вабіла юнака, і ён у жніўні 1906 г. паступае на фізіка-матэматычны факультэт Юр'еўскага універсітэта. У лютым 1907 г. перавёўся ў Пецярбургскі універсітэт, які скончыў толькі ў 1913 г. Вучыўся Яўген Хлябцэвіч кепска — і ў духоўнай семінарыі, і ва універсітэце. Значна больш, чым навукамі, ён займаўся палітыкай і грамадскімі справамі. Некалькі разоў спрабаваў перавесціся ў Маскоўскі, а потым у Варшаўскі універсітэт. Ёсць тэлеграма Хлябцэвіча з Бельска да Янкі Купалы ў Пецярбург, у якой ён просіць, каб Купала напісаў за яго заяву ў канцылярыю універсітэта. Ёсць і заява, напісаная рукою Купалы. Хлябцэвіч быў дзейным чалавекам, валодаў немалымі літаратурнымі, а яшчэ больш арганізатарскімі здольнасцямі. Друкаваў свае карэспандэнцыі ў «Нашай Ніве» пад псеўданімам Халімон з-пад пушчы. Вядомыя артыкулы Хлябцэвіча пазнейшага часу, змешчаныя пасля Кастрычнікай рэвалюцыі ў часопісе «Жыццё нацыянальнасцяў»: «Беларусь і польскія паны», «Францішак Багушэвіч і беларуская сацыялістычная грамада», «Алаіза Пашкевіч (Цётка) — натхняльніца беларускага рэвалюцыйнага руху» і шэраг іншых. У 1920-я гг., а таксама і ў пасляваенны час на старонках перыёдыкі ён надрукаваў шэраг артыкулаў па гісторыі дакастрычніцкага літаратурна-грамадскага руху. Памёр Яўген Хлябцэвіч у 1950-я гг. у Маскве.

Студэнт Рамуальд Зямкевіч склаў «Беларускую бібліяграфію», якая ахапіла сабой назвы беларускіх кніг ад старажытных часоў і прынесла карысць тым даследчыкам, якія ў пачатку стагоддзя зацікавіліся Беларуссю. Бібліяграфія была творам палемічным, бо афіцыйная навука часта далучала культурныя здабыткі беларусаў да іншых культур. Цікавы таксама артыкул Р. Зямкевіча «Тарас Шаўчэнка і беларусы», дзе разглядаюцца заканамернасці і ўмовы развіцця таленту ўкраінскага паэта.

Пачаўшы з невялікіх дакладаў і публікацый, многія студэнты пасля шмат зрабілі для развіцця беларускай навукі і культуры. Якуб Колас пісаў гуртку студэнтаў-пецярбуржцаў у 1911 г.: «Я не ведаю, як вітаць вас, дарагія сябры беларускага народа! Скажу толькі, што ніякая «рэформа» ўрада, хай бы самая свабоднейшая і самая шырокая, не можа зрабіць для беларускага народа таго, што можа зрабіць вашая праца на тым грунце, на які вы яе паставілі. Гэта будзе праўдзівая, жывая праца. Ваш гурток — гэта сонца Беларусі, адкуль будзе разлівацца святло ва ўсе куткі яе. Хай жа неба ваша будзе светлае і прыветнае»[1]. Многае з гэтых спадзяванняў Коласа спраўдзілася. Цішка Гартны быў першым старшынёй Часовага рабоча-сялянскага ўрада БССР, Браніслаў Тарашкевіч працаваў як навуковец, а таксама ўзначальваў дзейнасць Беларускай сялянска-работніцкай грамады ў Заходняй Беларусі. Можна прыгадаць і яшчэ шмат прыкладаў. Сам факт працы гуртка беларускіх студэнтаў у Пецярбургу сведчыў пра духоўную сілу маладой беларускай інтэлігенцыі. Аднак у студэнцкім асяроддзі былі і іншыя плыні. Частка выхадцаў з Беларусі сталі членамі «Усерасійскага рускага манархічнага саюза студэнтаў», які быў створаны 10 студзеня 1912 г., і паставіў сваёй галоўнай мэтай «садзейнічаць развіццю сярод рускага студэнцтва гарачай любові да самадзяржаўнага цара і радзімы».

Сістэма навучання ва універсітэце дазваляла (і нават спрыяла, пры пераводах з аднаго універсітэта ў іншы) стварэнню такой катэгорыі навучэнцаў, як «вечныя студэнты». Да гэтай праслойкі, акрамя Яўгена Хлябцэвіча, досыць доўга належалі выдатныя дзеячы беларускага нацыянальнага руху браты Іван і Антон Луцкевічы.

Паходзілі яны з шляхецкай каталіцкай сям'і. **Антон Луцкевіч** нарадзіўся ў 1884 г. у мясцовасці Шаўлі Ковенскай губерні, **Іван Луцкевіч** — тамсама ў 1881 г. У 1902 г. браты скончылі Мінскую гімназію і паступілі вучыцца: Антон на фізічна-матэматычны факультэт Пецярбургскага універсітэта (на спецыяльнасць «хімія»), Іван — на юрыдычны. Зацікаўленасць Івана гісторыяй прымусіла яго сістэматычна вучыцца і ў Археалагічным інстытуце, у якім выкладалі такія славутыя знаўцы старажытнасці, як акадэмікі Мікалай Ліхачоў і Пакроўскі. Скончыў Археалагічны інстытут Іван Луцкевіч у 1904 г. У Пецярбургу браты далучыліся да беларускага нацыянальнага руху. У 1903 г. яны прынялі актыўны ўдзел у заснаванні Беларускай рэвалюцыйнай грамады, якая некалькі гадоў пазней змяніла сваю назву на Беларускую сацыялістычную грамаду. Сродкаў на жыццё ў сталіцы ў Луцкевічаў было небагата. Ужо на наступны пасля паступлення год (1903) Антон Луцкевіч прасіў універсітэцкія ўлады, каб аплату яго навучання ў суме 38 рублёў залічыць з сумы, сабранай на дабрачынным вечары ў Мінску на карысць пецярбургскіх студэнтаў-мінчан.

[1] Отчет... за 1912 год, раздз. VI. С. 68.

Дапамогу атрымліваў і брат. Аднак, калі ў час рэвалюцыі 1905 г. Івана арыштавала паліцыя, пры ім знайшлі каласальную, як для студэнта, суму грошай — 284 рублі 82 капейкі. Магчыма, гэта была каса БСГ[1]. Апынуўшыся ў Вільні, Іван і Антон прынялі дзейсны ўдзел у заснаванні першых масавых газет: «Наша Доля» (1906) і «Наша Ніва» (1906–1915). Антон Луцкевіч быў членам рэдакцыйных калегій гэтых двух тыднёвікаў і меў вырашальны голас у праграмных справах. А вось Пецярбургскі універсітэт ні адзін з братоў так і не патрапіў скончыць. Іван Луцкевіч быў звольнены з ліку студэнтаў у 1910 г., Антон таксама не атрымаў дыплома.

Практычна немагчыма пералічыць нават заўважную частку студэнтаў — выхадцаў з Беларусі. Паспрабуем успомніць выкладчыкаў беларускага паходжання, дапускаючы пры гэтым, што не толькі іх праца, але і сама іх прысутнасць ва універсітэце спрыяла стварэнню атмасферы для дзейнасці навуковага беларускага студэнцкага руху[2].




*Батанічная аўдыторыя універсітэта*

## Фізіка-матэматычны (прыродазнаўчы) факультэт

Пецярбургскі універсітэт, нягледзячы на сваю маладосць, ужо ў канцы 1830-х гг. змог пераўзысці іншыя вышэйшыя навучальныя ўстановы імперыі ў галіне фізікі, хіміі і матэматыкі, дзякуючы свайму сталічнаму месцазнаходжанню і пастаянным клопатам улад. У 1835 г. міністр народнай асветы граф Увараў перавёў у сталіцу з Дэрпцкага універсітэта бліскучага вучонага Генрыха Ленца, зрабіў яго членам Акадэміі і прафесарам Пецярбургскага універсітэта, дзе той заснаваў фізічную школу. У якасці дэкана, а пазней і рэктара, Ленц стварыў лабараторыю, пашырыў чытанне публічных лекцый, заахвочваў навуковыя таварыствы, натхняў студэнтаў на заняткі прыродазнаўчымі навукамі, перш за ўсё электрычнасцю і геафізікай. На аддзяленні матэматыкі працавалі вучоныя сусветнай велічыні: Віктар Буяноўскі стварыў вылічальныя інструменты і працаваў у галіне тэорыі верагоднасці, ужыўшы яе да дэмаграфіі, страхавой і банкаўскай статыстыкі; да разліку нормаў рэкруцкага набору і страхавых тарыфаў тэорыю верагоднасці прымяняў Пафнуцій Чэбышаў, ён таксама дамогся важных вынікаў у вывучэнні простых лікаў і працаваў над прыборамі пераўтварэння руху. П. Чэбышаў падтрымаў маладога беларускага матэматыка Васіля Ермакова, які прыехаў з Кіева і выдаў у Пецярбургу ў 1873 г. кнігу «Агульная тэорыя інтэграваных лінейных дыферэнцаваных ураўненняў вышэйшых парадкаў з прыватнымі вытворнымі і з пастаяннымі каэфіцыентамі», і быў апанентам пры абароне дысертацыі на гэтую ж тэму. У вывучэнні і выкладанні прыродазнаўчых і тэхнічных навук Пецярбургскі універсітэт меў перавагу, бо мог карыстацца дапамогай мноства сталічных навучальных устаноў, такіх, як Акадэмія навук, Медыка-хірургічная акадэмія, Горны інстытут, Інстытут інжынераў транспарту, Тэхналагічны інстытут і вышэйшыя ваенныя навучальныя установы. Прыродазнаўчае аддзяленне факультэта мела выдатны мінералагічны музей, аснову якога складала калекцыя мінералаў Мікалая Ісаковіча (архіепіскапа Ніла). Выхадцы з Беларусі працавалі на фізіка-матэматычным факультэце выкладчыкамі самых розных прыродазнаўчых дысцыплін:

**Сцяпан Сямёнавіч Кутарга** (1805–1861) нарадзіўся ў Мсціславе Магілёўскай губерні. Дзяцінства яго прайшло на Беларусі, у Пецярбург сям'я пераехала ў 1813 г. Хлопчыкам Сцяпан рана страціў (у 1818 г.) бацьку, які быў яго першым хатнім настаўнікам. Вучыўся ў гімназіі, у 1827 г. паступіў у Пецярбургскі універсітэт, адкуль у наступным годзе быў накіраваны ў Дэрпт для падрыхтоўкі да прафесарскай пасады. Закончыўшы Дэрпцкі універсітэт, Сцяпан Кутарга з 1833 г. працуе на кафедры заалогіі Пецярбургскага універсітэта выкладчыкам, з 1835 — экстраардынарным, з 1837 — ардынарным, з 1858 — заслужаным прафесарам, загадчыкам кафедры. Тут жа працаваў яго брат Міхаіл Кутарга — прафесар гістарычнага факультэта. Ва універсітэце Сцяпан Кутарга ў розныя гады чытаў

[1] Паводле даклада М. С. Пяровай на канферэнцыі «Санкт-Пецярбург і беларуская культура» у 2006 г.

[2] Биографический словарь профессоров и преподавателей СПБ университета. 1869–1894. Т. 1–2. СПб., 1896.

заатомію (уключаючы анатомію чалавека), заалогію, палеанталогію, сістэму жывёльнага свету, параўнальную анатомію, арніталогію і інш.; быў бліскучым лектарам і адным з самых любімых прафесараў. На ўласныя сродкі сабраў арніталагічную калекцыю, рыхтаваў са студэнтамі анатамічныя прэпараты, зрабіў пачатак калекцыі палеанталагічных экспанатаў; прывёў у парадак заалагічны кабінет. Прафесар Кутарга быў першым, хто пазнаёміў студэнтаў з вучэннем Чарльза Дарвіна. Акрамя гэтага, з 1848 г. ён выкладаў мінералогію і геагнозію ў пецярбургскім Галоўным педагагічным інстытуце, быў інспектарам прыватных пансіёнаў і школ. Пасля падарожжа з Пецярбурга да вадаспада Іматра ў Фінляндыі (шмат пазней такое падарожжа натхніла Янку Купалу на напісанне вядомага верша), Сцяпан Сямёнавіч напісаў кнігу «Геалагічны нарыс дарогі да вадаспада Іматры» (СПб., 1849). Яшчэ адзін абавязак Сцяпана Кутаргі — цэнзар кніг Пецярбургскага цэнзурнага камітэта ў 1835—1848 гг. У 1834 г. ён стаў членам Санкт-Пецярбургскага Мінералагічнага таварыства, а з 1842 г. і да канца свайго жыцця быў прэзідэнтам гэтай установы. Самай значнай працай Сцяпана Кутаргі з'яўляецца выдадзеная ў 1852 г. 10-вярставая геалагічная карта Пецярбургскай губерні — вынік шматгадовых даследаванняў. Гэтая праца была адзначана Дзямідаўскай прэміяй Пецярбургскай акадэміі навук. Як заолаг ён вывучаў інфузорый («налівачных жывёл»). Шмат навукова-папулярных артыкулаў С. Кутаргі надрукаваў Восіп Сянкоўскі ў «Бібліятэцы для чытання» у 1845—1860 гг.

**Яўген Аляксандравіч Рагоўскі** (1855—1923) — сын шляхціча з Гродзенскай губерні. Бацька яго быў урачом у Кобрыне. У 1874 г. Яўген Рагоўскі закончыў Беластоцкае рэальнае вучылішча. У 1876 г. паступіў у Пецярбургскі тэхналагічны інстытут, але ў 1877 г. перайшоў на матэматычнае аддзяленне фізіка-матэматычнага факультэта універсітэта. Пасля заканчэння курса ў 1882 г. са ступенню кандыдата, яго пакінулі для падрыхтоўкі прафесарскага звання пры універсітэце. Адначасова Яўген Рагоўскі паступіў на службу выкладчыкам матэматыкі і фізікі ў Пакроўскую жаночую гімназію ў Санкт-Пецярбургу, выкладаў фізіку і матэматычную геаграфію ва Увядзенскай мужчынскай гімназіі, з 1885 да 1904 г. быў памочнікам рэдактара фізічнага часопіса «Журнал Русского физико-химического общества», на працягу некалькіх гадоў кіраваў практычнымі занняткамі студэнтаў фізічнай лабараторыі універсітэта... За працы «Аб складзе атмасферы сонца і планет і іх тэмпературы» і «Яшчэ пра тэмпературу і склад сонца і планет» Яўген Рагоўскі быў узнагароджаны Рускім астранамічным таварыствам прэміяй і медалём імя імператара Мікалая Аляксандравіча.

У 1903 г. ён абараніў дысертацыю «Аб знешняй цеплаправоднасці срэбраных дратоў у вадзе» на ступень магістра фізікі. На працягу 1903—1904 гг. чытаў лекцыі па кінетычнай тэорыі газу ў Пецярбургскім універсітэце ў якасці прыват-дацэнта, адначасова працуючы ў гімназіях. Чытаў публічныя лекцыі пра тэрмаэлектрычнасць, пра Сонца, а таксама публічны курс гідрастатыкі. Пажыццёвы сябра Рускага астранамічнага таварыства ў Санкт-Пецярбургу, калежскі саветнік (што адпавядала армейскаму палкоўніку) Рагоўскі жыў на 14-й лініі Васільеўскага вострава, 23.

**Аляксандр Львовіч Гершун** (1868—1915), сын урача, нарадзіўся ў Саколцы Гродзенскай губерні. Закончыў 1-ю віленскую гімназію, а ў 1886—1900 гг. — фізіка-матэматычны факультэт Пецярбургскага універсітэта. Яшчэ студэнтам 3-га курса атрымаў залаты медаль за працу «Крытычнае даследаванне пытання пра найбольшую шчыльнасць вады і вадзяных раствораў». У 1894—1902 г. Аляксандр Гершун — лабарант пры фізічным кабінеце універсітэта, выкладаў фізіку ў адной з гімназій, працаваў як сакратар рэдакцыі старэйшага навукова-тэхнічнага часопіса «Электрычнасць» і быў адным з яго сталых аўтараў. З 1901 г. малады вучоны загадваў кафедрай агульнай фізікі Артылерыйскага афіцэрскага класа ў Кранштаце. З 1906 г. ён супрацоўнічаў з аптычным аддзелам Абухаўскага сталеліцейнага завода, спачатку як кансультант, а з 1909 г. кіраваў аддзелам. Супрацоўніцтва з вайскоўцамі прывяло Аляксандра Гершуна на пасаду навуковага кіраўніка Расійскага таварыства аптычнай і механічнай вытворчасці (1912), якое ў 1913 г. пачало будаўніцтва аптычнага завода на Чыгуннай вуліцы ў Пецярбургу (пазней — ЛОМО). 4 лютага 1914 г. завод пачаў працаваць, а Гершун стаў яго першым дырэктарам, актыўна ўдзельнічаў ў станаўленні аптычнай прамысловасці Расіі. Распрацаваў шэраг новых прыбораў для флота. Жыў сапраўдны стацкі дарадчык Аляксандр Гершун па адрасе: Аляксандраўскі участак, вул. Александровская, 1.

У вёсцы Капцёва Смаленскіх павета і губерні нарадзіўся **Канстанцін Дзмітравіч Глінка** (1867—19?). У 1885 г. ён закончыў Смаленскую

гімназію, у 1885—1889 гг. навучаўся на фізіка-матэматычным факультэце ўніверсітэта, працаваў кансерватарам Мінералагічнага кабінета, быў прафесарам Вышэйшых жаночых курсаў. У даведніку «Увесь Пецярбург» за 1913 год мы знаходзім, што Канстанцін Глінка жыве на С'езжынскай лініі Васільеўскага вострава, 24, мае падпалкоўніцкі чын стацкага саветніка.

**Уладзімір Іванавіч Дубяга**. Закончыў з залатым медалём Магілёўскую гімназію. У 1868—1872 гг. навучаўся на фізіка-матэматычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта. Пасля заканчэння працаваў як астраном у Пулкаўскай абсерваторыі да 1884 г. Перайшоў працаваць у Казанскі ўніверсітэт.

Ужо згадваўся як выкладчык Міхайлаўскай артылерыйскай акадэміі **Іван Львовіч Пташыцкі**, які паходзіў з шляхты Віленскай губерні. Ён закончыў у 1872—1876 гг. універсітэт і застаўся тут выкладаць: з 1881 г. як магістр, а з 1888 г. як доктар чыстай матэматыкі і прафесар.

Перш чым стаць заснавальнікам фітафізіялагічнай школы ў Кіеве, ардынарны прафесар і доктар батанікі **Восіп Васільевіч Баранецкі** (1843—1905) больш як сем гадоў вучыўся і працаваў у Пецярбургу. Нарадзіўся ён у Гродзенскай губерні. У 1860 г. са срэбным медалём закончыў Беластоцкую гімназію. У 1861—1866 гг. Восіп Баранецкі навучаўся ў Пецярбургскім універсітэце, які закончыў са ступенню кандыдата прыродазнаўчых навук. У 1867—1869 гг. працаваў кансерватарам батанічнага кабінета пры ўніверсітэце, а з 1869 да 1870 г. быў стыпендыятам для падрыхтоўкі да прафесуры. У 1870—1872 гг. стажыраваўся ў Германіі (Гале, Вюрцбург, Ляйпцыг). Вывучаў методыку пастаноўкі доследаў з воднымі культурамі і даследаваў засваенне свабоднага азоту. У 1873 г. ад'ехаў на прафесарскую пасаду ў Кіеў, але бываў у Пецярбургу (з 1897 г. ён — член-карэспандэнт Пецярбургскай АН).

**Аўгуст Мікалаевіч Бараноўскі** — ураджэнец Палесся. Выхоўваўся ў Мінскай гімназіі, Кіеўскім універсітэце. Кліматолаг. У 1878—1883 гг. ён ад'юнкт галоўнай фізічнай абсерваторыіі, дзе вылічыў «Гіпсаметрычныя табліцы для вызначэння вышыняў з дапамогай барометра» (Выд. АН у 1881 г.). У студзені 1886 г. Аўгуст Бараноўскі зацверджаны захавальнікам кабінета фізічнай геаграфіі ў Пецярбургскім універсітэце. У 1897 г. знаходзім яго ў чыне надворнага саветніка (роўны армейскаму падпалкоўніку) з адрасам пражывання Універсітэцкая набярэжная, 7—9 (г. зн. — адрас універсітэта).

Значны ўклад у прыродазнаўства зрабілі выпускнікі фізіка-матэматычнага факультэта па разрадзе прыродазнаўчых навук браты Кавалеўскія, якія паходзілі з маёнтка Воркава Дынабургскага павета Віцебскай губерні. **Уладзімір Ануфрыевіч Кавалеўскі** (1848—18.?) вучыўся ў англійскім пансіёне Мартэнса ў Пецярбургу. Ён быў таленавітым палеантолагам, які з-за заўчаснай смерці не рэалізаваў свой навуковы патэнцыял. Яго старэйшы брат Аляксандр Ануфрыевіч Кавалеўскі (1840—1901) першапачатковую адукацыю атрымаў дома, у 1856—1859 гг. вучыўся ў пецярбургскім Інстытуце шляхоў зносін, пасля на прыродазнаўчым аддзяленні фізіка-матэматычнага факультэта. У 1865 г. абараніў магістэрскую дысертацыю, а ў 1867 — дысертацыю на ступень доктара заалогіі. Працы Аляксандра Кавалеўскага, разам з працамі І. Мечнікава і Э. Гекеля, леглі ў аснову фітагенетычнага кірунку ў эмбрыялогіі. Ён стаў пачынальнікам эксперыментальнай і эвалюцыйнай гісталогіі. Выкладаў у Казанскім, Кіеўскім, Новарасійскім універсітэтах. У 1891—1894 гг. займаў пасаду ардынарнага прафесара на кафедры заалогіі Пецярбургскага ўніверсітэта.

Чытаў ва ўніверсітэце гісталогію і эмбрыялогію знакаміты біёлаг родам з Магілёўшчыны **Ерафей Васільевіч Касценіч** — аб ім мы ўспаміналі вышэй, апавядаючы пра Ваенна-медыцынскую акадэмію.

Яшчэ адзін вучоны, які звязаў свой лёс адразу з універсітэтам і Ваенна-медыцынскай акадэміяй, — **Станіслаў Аляксандравіч Прыбытак** (1852—1927), які нарадзіўся ў Мінску ў сям'і адваката. Пасля заканчэння ў 1869 г. Мінскай класічнай гімназіі паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта. Скончыў яго ў 1874 г. са ступенню кандыдата. У тым жа годзе быў прыняты на 3-і курс Ваенна-медыцынскай акадэміі. Як палкавы лекар лейб-гвардыі Уланскага палка Станіслаў Прыбытак удзельнічаў у турэцкай вайне 1877—1878 гг. На вайсковай службе — урачом у вайсковым шпіталі — ён заставаўся да абароны ў 1881 г. дысертацыі на тэму «Некаторыя прадукты акіслення шмататамных спіртоў». Пазней працаваў на кафедры агульнай хіміі ўніверсітэта — лабарантам і ад'юнкт-лабарантам. У 1889 г. Станіслаў Прыбытак атрымаў ступень магістра хіміі за працу «Аб арганічных двухвокісах» (СПб., 1887) і быў абраны прафесарам фармакагнозіі і фармакапеі (з 1908 г. — ганаровы прафесар, з 1911 г. — акадэмік Ваенна-медыцынскай акадэміі). Узнагароджаны ордэнамі св. Станіслава І ступені, св. Ганны І

і II ступеняў, св. Уладзіміра II і III ступеняў. Член Рады ўрачоў Міністэрства унутраных спраў і Вучонага вайскова-санітарнага камітэта (да моманту іх закрыцця ў 1918 годзе). У 1920 г. выехаў у Польшчу. Быў членам Вайсковай санітарнай рады ў Варшаве, з 1922 г. — прафесар, з 1923 г. — ганаровы прафесар Варшаўскага універсітэта.

**Аляксандр Андрэевіч Вярыга** (1837–1905) нарадзіўся ў родавым маёнтку каля Віцебска. Сярэднюю адукацыю атрымаў ў Пецярбургскім камерцыйным вучылішчы (1855), пасля вольным слухачом закончыў Пецярбургскі універсітэт (1860). Навучанне ва універсітэце сумяшчаў з працай у Гаспадарчым дэпартаменце МУС (1855–1860): у чыне калежскага рэгістратара ў адным з падраздзяленняў прыводзіў у парадак статыстычныя матэрыялы. У 1861 г. паступіў у Міхайлаўскую артылерыйскую акадэмію, служыў феерверкерам у конна-артылерыйскай батарэі. Як спецыяліст у галіне хіміі араматычных злучэнняў Аляксандр Вярыга працаваў у лабараторыі М. М. Сакалова ў Пецярбургскім універсітэце, вёў практычныя семінары ў Міхайлаўскай артылерыйскай акадэміі. У 1862 г. ён стажыраваўся ў Цюбінгене і Цюрыху, пасля выкладаў у Новарасійскім універсітэце ў Адэсе (1865–1896), з 1871 года заняўшы там кафедру прафесара хіміі. Гучнае імя і як вучоны, і як грамадскі дзеяч зарабіў яго стрыечны пляменнік **Браніслаў Фартунатавіч Вярыга** (нар. у маёнтку Ужвальд Дынабургскага павета Віцебскай губ. у 1860 г., памёр у 1925 г. у Пермі). Пасля заканчэння з залатым медалём Віцебскай гімназіі Браніслаў Вярыга паступіў у Пецярбургскі універсітэт (у 1877 г.), вучыўся тут у Дз. Мендзялеева, А. Бутлерава, А. Бекетава, І. Сечанава, а пасля заканчэння універсітэта прайшоў курс у Ваеннамедыцынскай акадэміі. Усяго ў Пецярбургу Браніслаў Вярыга вучыўся і працаваў 17 гадоў, пакуль не атрымаў (у 1894 г.) пасаду прафесара па кафедры фізіялогіі ў Новарасійскім універсітэце. Браніслаў Вярыга цікавіўся і філасофскімі праблемамі прыродазнаўства: у пецярбургскім часопісе «Свет Божы» ён надрукаваў у 1904 г. філасофскі трактат «Фізіялогія і жыццёвая сіла». У Пецярбургу—Петраградзе выходзілі яго кнігі, тут ён бываў як дэпутат 1-й і 2-й Дзяржаўнай Думы.

З 1913 г. у Пецярбургскім універсітэце праблемамі радыяцыі займаўся В**асіль Андрэевіч Барадоўскі** (нар. 20 лютага 1878 г. у вёсцы Бяражняны Смаленскай губерні), да гэтага ён працаваў як хімік і навуковы супрацоўнік у Галоўнай палаце мер і вагі ў Пецярбургу.

Выпускнік фізіка-матэматычнага факультэта Пецярбургскага універсітэта (скончыў у 1895 г.) мінчук **Уладзімір Хведаравіч Міткевіч** (1872–1951) стаў выкладчыкам ў Пецярбургскім політэхнічным інстытуце, пазней удзельнічаў у распрацоўцы плана ГОЭЛРО, быў акадэмікам АН СССР, займаўся даследаваннем гісторыі навукі і тэхнікі.

З 1877 да 1881 г. на фізіка-матэматычным факультэце вывучаўся ўраджэнец Віцебска **Аляксандр Садоўскі** (1859–1923). Пасля заканчэння ён некаторы час працаваў ва універсітэце, выкладаў фізіку ў гімназіі Мая, Інстытуце грамадзянскіх інжынераў, Ваеннамарской акадэміі, Вышэйшых жаночых курсах. У 1894 г. Аляксандр Садоўскі заняў кафедру фізікі ў Дэрпцкім універсітэце. За тэарэтычнае абгрунтаванне таго, што з дапамогай промня святла можна атрымаць механічную работу (эфект Садоўскага), вучоная рада Пецярбургскага універсітэта ў выглядзе выключэння надала яму доктарскую ступень без абароны дысертацыі[1].

Прыродазнаўчае аддзяленне універсітэта закончыў вядомы філосаф-інтуітывіст **Мікалай Ануфрыевіч Лоскі** (1874–1965). Паходзіў ён з Краслаўкі Дынабургскага павета Віцебскай губерні, вучыўся ў Віцебскай гімназіі. Самавызначаўся Мікалай Лоскі, як і многія беларусы, вагаючыся паміж Польшчай і Расіяй, але ў бок Расіі: «Нягледзячы на перавагу ў нас польскай крыві, мой бацька і ўсе мы дзеці ўсведамлялі сябе рускімі... Дзед мой Іван быў уніяцкім святаром у мястэчку Усвят. Кажуць, што ён быў закатаваны польскімі паўстанцамі ў 1863 г. за тое, што добра тлумачыў сялянам значэнне маніфеста аб знішчэнні прыгоннага права; яны распялі яго на крыжы... Верагодна, мне быў дзевяты год, калі я прачытаў артыкул Карамзіна «Аб любові да айчыны і народным гонары». Артыкул трапіў на падрыхтаваную глебу. Перад гэтым у часы руска-турэцкай вайны 1877–1878 гг. я нярэдка чытаў сваёй бабулі паведамленні з тэатра вайны ў «Правительственном вестнике». Мая любоў да Расіі, гонар за яе, вера ў яе вялікія перавагі трывала склаліся ў маёй душы ўжо ў той час... Ніякіх нязручнасцяў і спакус ад таго, што маці была каталічка, а бацька і ўсе дзеці — праваслаўныя, не было»[2].

---

[1] *Працька Т.* Даследчык таямніцаў святла. Аляксандр Садоўскі. Мінск, 1994.
[2] *Лосский Н. О.* Воспоминания. Жизнь и философский путь. СПб., 1994. С. 12, 18.

Пазней Лоскі атрымаў другую, філасофскую, адукацыю, выкладаў філасофію ў якасці прыват-дацэнта Пецярбургскага універсітэта, таксама на Вышэйшых жаночых курсах, у інстытуце Лесгафта, у жаночай гімназіі Стаюнінай. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі Мікалай Ануфрыевіч жыў на Кабінецкай, 20; пасля рэвалюцыі падаўся на эміграцыю.

У эміграцыі, у Нью-Йорку, скончыў жыццё яшчэ адзін універсант-беларус **Вадзім Аляксандравіч Юрэвіч** (1872–1963). Нарадзіўся ён у Асіповічах, сярэднюю адукацыю атрымаў у 6-й варшаўскай гімназіі. У 1895 г. з дыпломам І ступені скончыў прыродазнаўчае аддзяленне Пецярбургскага універсітэта, а праз чатыры гады — Ваенна-медыцынскую акадэмію з адзнакай, са ступенню лекара і з занясеннем імя на мармуровую дошку. Пасля навучання на 3 гады быў прымацаваны да Клінічнага вайсковага шпіталя для ўдасканалення па спецыяльнасці «бактэрыялогія і заразныя хваробы». Са снежня 1905 г. і да 1917 г. Вадзім Юрэвіч выкладаў у ВМА, у 1910–1918 гг. — загадваў кафедрай агульнага вучэння аб заразных хваробах з агульным курсам бактэрыялогіі. Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. Юрэвіч выконваў абавязкі петраградскага грамадскага граданачальніка (з сакавіка да ліпеня), з мая да кастрычніка 1917 г. быў начальнікам ваенна-санітарнага ўпраўлення і галоўным ваенна-санітарным інспектарам. Пасля Кастрычнікай рэвалюцыі эміграваў; спачатку жыў у Празе, у канцы 1920 г. пераехаў у Парыж, пасля Другой сусветнай вайны выехаў у ЗША.




*Кафедра хімічнай аўдыторыі*

## Гісторыка-філалагічны факультэт

Падрыхтоўку па гісторыка-філалагічных дысцыплінах ва універсітэце пачалі згодна з патрабаваннем Статута 1835 г. Вядучым гісторыкам з самага пачатку стаў М. Устралаў, пасля таго як у 1836 г. выдаў сваю дысертацыю «Аб сістэме прагматычнай рускай гісторыі». У гэтай працы была пастаўлена задача растлумачыць узаемаўплыў гістарычных падзей, іх прычыны і наступствы з сучаснага пункта гледжання і растлумачыць, чаму Расія прыйшла да свайго цяперашняга стану. Думкі Устралава адпавядалі афіцыйнай ідэалогіі, «бацькам» якой быў міністр адукацыі граф Увараў: на яго погляд, Расія развівалася на зусім іншых падставах, чым Еўропа, і ўздымам сваім яна была абавязана праваслаўю і самаўладдзю. Увараў прапанаваў Устралаву напісаць падручнік па гісторыі для універсітэтаў, той выканаў даручэнне і стаў афіцыйным гісторыкам Расійскай імперыі. Усім прафесарам рускай гісторыі было прапанавана выкладаць паводле Устралава.

Гісторыка-філалагічны факультэт выконваў функцыі кантролю за святарамі з вышэйшай адукацыяй, якія маглі працаваць выкладчыкамі гуманітарных прадметаў у гімназіях (у якіх не хапала выкладчыкаў), на падставе «Часовых правілаў для кандыдатаў і магістраў духоўных акадэмій, якія шукаюць вакансіі ў гімназіях і прагімназіях» ад 1 красавіка 1867 г. Выпускнікі духоўных акадэмій, якія жылі ў беларускіх губернях, павінны былі падаваць прашэнні папячыцелю Пецярбургскай навучальнай акругі. Па яго распараджэнні на гісторыка-філалагічным факультэце Санкт-Пецярбургскага універсітэта складалі пытанні для пісьмовага экзамену, якія па пошце пасылалі ў гімназію прэтэндэнта. У выпадку паспяховай здачы пісьмовага экзамену, кандыдат павінен быў ехаць у Пецярбург для здачы вусных іспытаў на азначаным факультэце універсітэта.

Паводле Статута 1863 г., у Пецярбургскім універсітэце гісторыка-філалагічны факультэт складаўся з 11 кафедраў. Сярод выкладчыкаў зоркай першай велічыні лічыўся Ізмаіл Сразнеўскі, загадчык кафедры славяназнаўства, адзін з заснавальнікаў пецярбургскай школы славістаў. Адным з найбольш знакамітых выпускнікоў факультэта (скончыў у 1873 г.) віцебскі гісторык **Аляксей Парфёнавіч Сапуноў** (1851–1924), які пра гады навучання пазней успамінаў: «Ва універсітэце разумовы кругагляд наш значна пашырыўся. Мы чыталі ўжо і газеты, і часопісы, нават розныя забароненыя выданні чыталі. На гісторыка-філалагічным факультэце, на які я паступіў, выдатных прафесараў — за выключэннем В. Р. Васільеўскага, К. М. Бястужава-Руміна, У. І. Ламанскага — не было. Вядомы славіст І. І. Сразнеўскі быў ужо стары і на лекцыі прыходзіў толькі хвілін на дзесяць. Пра класікаў... філосафаў лепш не казаць...

У наш час можна было зусім вольна паслухаць лекцыі прафесараў і іншых факультэтаў. Карыстаючыся гэтым цудоўным звычаем, мы ахвотна наведвалі лекцыі праф. Градоўскага, Рэдкіна, Таганцава, Андрэеўскага, заходзілі нават у матэматычную аўдыторыю паслухаць знакамітага матэматыка П. Л. Чэбышава, заходзілі і да прыродазнаўцаў паслухаць Д. І. Мендзялеева. Лекцыі гэтых свяцiл аказвалі на нас чароўнае ўражанне»[1].

Аляксею Сапунову не давялося сустрэцца з выдатнымі прафесарамі-беларусамі: антычнік Міхаіл Кутарга ў год яго паступлення (1869) перавёўся ў Маскоўскі універсітэт, а Ягор Замыслоўскі пасаду дацэнта заняў толькі ў 1871 г. **Ягор Ягоравіч Замыслоўскі** нарадзіўся ў 1841 г. у Гродне. У 1862 г. ён закончыў Пецярбургскі універсітэт са ступенню кандыдата гісторыка-філалагічнага факультэта. Працаваў настаўнікам геаграфіі і гісторыі ў Паўлаўскім жаночым інстытуце, Аляксандраўскім ліцэі і іншых навучальных установах горада. У 1871 г. пасля абароны дысертацыі «Царства Хведара Аляксеевіча» ён быў зацверджаны экстраардынарным прафесарам пры Гісторыка-філалагічным інстытуце і штатным дацэнтам па рускай гісторыі пры Імператарскім універсітэце. У 1878 г., у новазаснаваным Археалагічным інстытуце, запрошаны на кафедру гістарычнай геаграфіі. У 1884 г., пасля публічнай абароны дысертацыі «Герберштэйн і яго гісторыка-геаграфічныя звесткі пра Расію», Ягор Замыслоўскі атрымаў ступень доктара расійскай гісторыі і зацверджаны экстраардынарным, а праз некалькі месяцаў ардынарным прафесарам Пецярбургскага універсітэта. З 1880 да 1889 г. малады прафесар выкладаў усеагульную і расійскую гісторыю вялікім князям Мікалаю Аляксандравічу (будучаму цару Мікалаю II) і Георгію Аляксандравічу. Напісаў «Гісторыю расійскіх ордэнаў», за якую ў 1892 г. узнагароджаны ордэнам св. Ганны 1-й ступені. Акадэмія навук абрала Замыслоўскага ў 1888 г. сваім членам-карэспандэнтам. Сярод шматлікіх прац Ягора Замыслоўскага ёсць і беларусазнаўчыя: «Апісанне Літвы, Самагіціі, Русіі і Масковіі Себасцьяна Мюнстэра (XVI ст.)» (выйшла ў 1880 г.), «Адносіны Расіі з Польшчай у цараванне Феадора Аляксеевіча». Ён таксама быў складальнікам вучэбнага атласа па рускай гісторыі, тройчы (1865—1887) перавыдадзенага. Жыў па адрасе Васільеўскі востраў, 14-я лінія, 31—33. Памёр у 1896 г.

Адным з найбольш славутых у свой час прафесараў-гісторыкаў старажытных Грэцыі і Рыма быў **Міхаіл Сямёнавіч Кутарга,** які нарадзіўся ў 1809 г. у шляхецкай сям'і ў Магілёўскай губерні. Ён даводзіўся малодшым братам вядомаму прыродазнаўцу прафесару Санкт-Пецярбургскага універсітэта Сцяпану Сямёнавічу Кутарга. У 1827 г. ён закончыў 3-ю пецярбургскую гімназію і паступіў на славеснае аддзяленне гісторыка-філалагічнага факультэта Пецярбургскага універсітэта. У ліку шасці лепшых студэнтаў яго праз год накіравалі ў Дэрпцкі універсітэт, дзе малады чалавек атрымаў ступень магістра філасофіі, а потым паехаў працягваць адукацыю ў Еўропу: слухаў лекцыі ў Парыжы, Гейдэльбергу, Мюнхене і Берліне. Пасля вяртання ў Расію яго зацвердзілі ў якасці выкладчыка старажытнай, сярэднявечнай і новай гісторыі Пецярбургскага універсітэта (1835). Адначасова выкладаў гісторыю і статыстыку ў 2-м Кадэцкім корпусе. У друкаваным гадавым раскладзе была пра яго такая інфармацыя: Кутарга (ад'юнкт) у 1836—1837 навучальным годзе чытаў «Гісторыю Старажытную і Сярэдніх Вякоў, кіруючыся лепшымі германскімі аўтарамі аб прадмеце». Акрамя гэтага, Міхал Кутарга чытаў першакурснікам, якія яго вельмі любілі за лібералізм, сусветную гісторыю. Прафесар гісторыі Шульгін паспрабаваў замяніць Кутаргу сваім пратэжэ Шакеевым. Тады на першую лекцыю Шакеева прыйшоў вялізны натоўп студэнтаў з усіх факультэтаў, пачалося свістанне і тупат нагамі, не зважаючы, што і тое, і другое забаранялася. Рэктар спрабаваў улагодзіць бунтаўнікоў, а міністр Увараў пагражаў усіх аддаць у салдаты, калі яны не суцішацца. Тады пачаўся пасіўны супраціў: на лекцыях Шакеева з'яўляліся два-тры студэнты, і нарэшце ён здаўся. Калі вярнуўся Кутарга, яго сустрэлі апладысментамі (хаця апладзіраваць таксама забаранялася) і вынеслі з аўдыторыі на руках.

У 1838 г. М. Кутарга абараніў доктарскую дысертацыю «Антычныя калены і саслоўі», а з 1839 г. стаў экстраардынарным прафесарам па кафедры ўсеагульнай гісторыі. З 1844 г. ён ардынарны прафесар, пазней — заслужаны прафесар. З канца 1840-х гг. ён пачаў ладзіць у сябе дома «Вячэрнія гутаркі» — правобраз пазнейшых семінараў. У іх прымалі ўдзел вучні Міхаіла Сямёнавіча, якія пазней зрабіліся вядомымі спецыялістамі — М. Стасюлевіч, В. Бауэр, В. Васільеўскі і інш.

[1] *Хмяльніцкая Л.* Гісторык з Віцебска (жыццяпіс Аляксея Сапунова). Мінск, 2001.

Шмат падзей прынёс 1848 год: Кутарга быў абраны членам-карэспандэнтам Акадэміі навук, а за працу «Гісторыя Афінскай рэспублікі ад забойства Іпарха да смерці Міхціяда» атрымаў Дзямідаўскую прэмію. Усяго ў Пецярбургскім універсітэце Міхаіл Кутарга выкладаў 35 гадоў. Адначасова некаторы час чытаў лекцыі ў Галоўным педагагічным інстытуце і ў рыма-каталіцкай духоўнай акадэміі. У 1841—1844 гг. з дазволу міністра народнай асветы ён служыў бібліятэкарам Імператарскай Публічнай бібліятэкі. Для вывучэння антычных помнікаў Міхаіл Сямёнавіч выязджаў у 1859, 1861 і 1870 гг. у Грэцыю, Малую Азію і Егіпет. Па сваіх навуковых поглядах М. Кутарга далучаўся да так званай Нібураўскай школы, паслядоўнікі якой вывучалі гісторыю Грэцыі і Рыма на падставе крытычнага аналізу твораў класічных аўтараў. Палавінную Дзямідаўскую ўзнагароду ён атрымаў у 1859 г. за працу «Персідскія войны, крытычнае даследаванне аб падзеях гэтай эпохі старажытнай грэцкай гісторыі» (адразу была перакладзена на французскую мову). У 1869 г. Кутарга пераехаў у Маскву, дзе выкладаў у мясцовым універсітэце да 1874 г., а потым выйшаў у адстаўку і пасяліўся ў сваім маёнтку Боркі Мсціслаўскага павета Магілёўскай губерні. Там ён і памёр у 1886 г. Да нашага часу гонарам бібліятэкі Санкт-Пецярбургскага універсітэта з'яўляюцца кнігі, якія ён падараваў сюды ў 1865 г. Гэта адна інкунабула (Хроніка Гартмана Шэдэля 1493 г. на нямецкай мове з расфарбаванымі ўручную гравюрамі; (на кнізе запіс: «Михаил Куторга. 1837 октября 30. С.-Петербург») і тры палеатыпы, сярод якіх вельмі рэдкае прыжыццёвае выданне «Утопіі» Томаса Мора (Базель, 1518) з гравюрамі Ганса Гальбейна, зборнік куцюнаў (помнікаў звычайнага права) Нармандыі (Руан, 1539) і падрыхтаванае Ульрыхам фон Гуттэнам выданне трактатаў, скіраваных супраць так званага Канстанцінавага дару (Базель, 1519/1520). На руанскім выданні ёсць запіс рукой Кутаргі пра набыццё кнігі ў Руане ў Нармандыі 29 жніўня 1838 г. за 30 франкаў[1]. Прызнаннем вялікага аўтарытэту гісторыка стала пасмяротнае выданне ягонага «Збору твораў» (Казань, 1895). Толькі праз 20 гадоў пасля смерці Міхаіла Кутаргі вызначыўся лёс яго багатай асабістай бібліятэкі — яна была прададзена на аўкцыёне ў 1906 г., друкаваны каталог дае магчымасць скласці ўражанне пра гэты інструмент вучонага[2].

Са старажытным Мсціславам быў звязаны лёс яшчэ аднаго знаўцы антычнасці — пецярбургскага прафесара **Адрыяна Віктаравіча Прахава** (1846—1916). Нарадзіўся ён 16 сакавіка 1846 г. у Мсціславе, дзе яго бацька працаваў дырэктарам дваранскага вучылішча. Неўзабаве бацькі Адрыяна Віктар Прахаў (родам з Волагды) і мсціслаўская шляхцянка Еўдакія Васільеўна Прахава (з Палубінскіх), пераехалі ў Пецярбург. Адрыян скончыў тут гімназію, а ў 1863—1867 гг. — гісторыка-філалагічны факультэт універсітэта. Для працягу адукацыі і падрыхтоўкі да прафесарскага звання малады чалавек у 1869—1873, быў камандзіраваны за мяжу. У Мюнхене і Парыжы ён працягваў вывучаць антычнае мастацтва, падрыхтаваў магістэрскую дысертацыю, прысвечаную рэстаўрацыі франтона Эгінскага храма ў Афінах. У канцы 1873 г. Адрыян Прахаў стаў дацэнтам Санкт-Пецярбургскага універсітэта па кафедры гісторыі і тэорыі мастацтва, а з 1875 г. стаў выкладаць гісторыю мастацтва Імператарскай Акадэміі мастацтваў. У гэты самы час рэдагаваў ілюстраваны часопіс «Пчала» (1875—1878), падрыхтаваў і абараніў доктарскую дысертацыю на тэму «Дойлідства Старажытнага Егіпта» (1879), вывучаў помнікі мастацтва і раннехрысціянскай культуры ў Расіі і ва Украіне, падарожнічаў па Грэцыі, Турцыі, Сірыі, Егіпце, Італіі. У 1887—1897 гг. Адрыян Прахаў працаваў у Кіеве: быў прафесарам Кіеўскага унівесітэта на кафедры гісторыі прыгожых мастацтваў. У 1897 г. ён вярнуўся ў Пецярбург і далейшы лёс гэтага нястомнага чалавека быў звязаны з alma mater.

На гісторыка-філалагічным факультэце Санкт-Пецярбургскага універсітэта вучыўся ў 1863—1867 гг. ураджэнец вёскі Коматава Гродзенскай губерні **Антон Сямёнавіч Будзіловіч** (1846—1908). Сын уніяцкага святара, ён атрымаў сярэднюю адукацыю ў Віленскай духоўнай семінарыі. Ва універсітэце за магістэрскую працу «Аб літаратурнай дзейнасці М. В. Ламаносава» быў узнагароджаны залатым медалём і пакінуты для атрымання прафесарскага звання па кафедры славянскай філалогіі, дзе працаваў пад кіраўніцтвам прафесараў Ізмаіла Сразнеўскага і Уладзіміра Ламанскага. Пасля заканчэння курса падарожнічаў па славянскіх землях Аўстра-Венгрыі, займаў прафесарскія пасады ў Нежыне, Варшаве і Юр'еве (Дэрпце), у 1892—1901 гг. быў рэктарам Юр'еўскага

[1] *Горфункель А. Х.* Каталог инкунабулов. Л., 1967. Ён жа. Каталог палеотипов. Л. 1977.

[2] Аукцион библиотеки профессора М. С. Куторги. СПб., 1906.

універсітэта. Уся навуковая і публіцыстычная дзейнасць Будзіловіча вызначалася яго прыхільнасцю да панславісцкай ідэалогіі. Для вырашэння «славянскага пытання» ён лічыў неабходным стварыць нейкую агульнаславянскую дзяржаўнасць, дзе паноўную ролю адыгралі б праваслаўная рэлігія і руская мова. Горача выступаў супраць якіх бы ні было ўплываў Захаду, асабліва шкоднай лічыў для Расіі парламенцкую сістэму, выступаў супраць усеагульнага тайнага і роўнага выбарчага права. Адмоўна глядзеў на самавызначэнне і самастойнае развіццё ўсіх народаў Расіі, акрамя рускага, выступаў супраць выкладання школьных дысцыплін на мовах народнасцяў і аддзялення школы ад царквы. Артыкулы Будзіловіча друкавалі «Часопіс Міністэрства народнай асветы», «Веснік Еўропы», «Маскоўскія ведамасці», «Ускраіны Расіі», «Рускі агляд» і інш. Шматлікія яго артыкулы былі сабраны ў асобную кнігу «Навука і палітыка» (СПб., 1908). Навуковыя даследаванні Будзіловіча прысвечаны пераважна пытанням мовазнаўства, славянскіх старажытнасцяў, этнаграфіі. Ён быў членам Сербскай каралеўскай акадэміі і членам-карэспандэнтам Чэшскай акадэміі навук і мастацтваў, ганаровым членам Пецярбургскай духоўнай акадэміі і Юр'еўскага вучона-літаратурнага таварыства, правадзейным членам Імператарскага геаграфічнага таварыства, старшынёй Санкт-Пецярбургскага славянскага дабрачыннага таварыства і шматлікіх іншых грамадскіх і навуковых арганізацый. У апошнія гады жыцця вярнуўся ў Пецярбург, жыў на Васільеўскім востраве (7-я лінія, 40), з 1901 г. быў членам савета Міністэрства народнай асветы. Памёр у 1908 годзе — годзе падзення на Сібір Тунгускага метэарыта і эпідэміі халеры ў Пецярбургу. Некралог па ім для «Рускага філалагічнага весніка» напісаў зямляк, на той час прафесар Варшаўскага універсітэта, Яўхім Карскі.

У 1894 г. закончыў Пецярбургскі універсітэт і застаўся тут для падрыхтоўкі да звання прафесара славянскай філалогіі ўраджэнец Віцебска **Аляксандр Львовіч Пагодзін** (1872–1947). У Пецярбургу ён жыў да 1902 г., пасля выкладаў у Варшаўскім універсітэце, у 1908–1910 гг. вярнуўся ў Пецярбург, пасяліўся на Вялікай Маскоўскай, 7. Працаваў прафесарам Вышэйшых жаночых курсаў, прыват-дацэнтам Пецярбургскага універсітэта, быў старшынёй бацькоўскага камітэта 1-й гімназіі, выкладаў на Вышэйшых курсах Раева, у Імператарскім камерцыйным вучылішчы. На лекцыях і ў публікацыях Пагодзін крытыкаваў прыхільнікаў славянафільства, лічачы, што яны «аджылі свой век». Аб сувязях прафесара А. Пагодзіна з Беларуссю ў першую чаргу сведчыць санет Максіма Багдановіча «Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі». У аснову гэтага шэдэўра пакладзена выказванне А. Пагодзіна (дарэчы, яму і прысвечаны санет). 25 верасня 1908 г. у «Нашай Ніве» адзначалася: «У Егіпце ў магілах знайшлі калісьці жменю пшанічных зярнят. Праляжалі яны там некалькі тысяч гадоў і ўсё ж такі, як іх пасеялі, зярняты ўзышлі і далі ўраджай. Усё, у чым толькі ёсць пачатак жыцця, можа ажыць, калі зложацца патрэбныя варункі, гэтак бывае і з народамі. Як вучыць гісторыя, не адзін ужо народ, каторы зваявалі насільствам, заціснулі бясправўем і каторы, здавалася, зусім, памёр — разам адрадзіўся і дух народу, прачнуўшыся ад доўгага сну, уставаў да новага жыцця...». Гэтак піша рускі вучоны прафесар А. Пагодзін, і яго словы маюць вялікую цану для нас, беларусаў». Санет М. Багдановіча быў апублікаваны ў газеце ў 1911 г., на тры гады пазней гэтага выказвання. Змест і накіраванасць санета наводзяць на думку, што вобразнае выказванне прафесара паэтычна трансфармавана М. Багдановічам. У 1910-я гг. Аляксандр Пагодзін пераехаў ва Украіну, займаў пасаду ардынарнага прафесара кафедры славянскай філалогіі Харкаўскага універсітэта. З 1919 г. да канца жыцця ён жыў на эміграцыі ў Бялградзе.

На гісторыка-філалагічным факультэце вучыліся **Яўген** і **Уладзімір Хлябцэвічы**. Яўген Хлябцэвіч (1884–1953) нарадзіўся ў Жыровічах, з 1900 г. вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі. У 1907–1913 гг. ён вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце, стаў адным з арганізатараў Беларускага навукова-літаратурнага гуртка ў Пецярбургу. Яўгена Хлябцэвіча захапляла праца бібліёграфа, ён актыўна ўдзельнічаў у стварэнні бясплатных паўленкаўскіх бібліятэк, у т. л. у Клёніках Бельскага павета, дзе яго бацька служыў як прыходскі святар. З пачаткам Першай сусветнай вайны бацька быў у бежанстве ў Сызрані. Там пахавалі Уладзіміра, малодшага брата Яўгена, студэнта гісторыка-філалагічнага факультэта універсітэта. Бацька выдаў кнігу «Вянок бацькі на магілу сына. Ахвяра вялікай рэвалюцыі. Кароткі біяграфічны нарыс студэнта У. І. Хлябцэвіча» (Сызрань, 1917).

У 1877 годзе з адзнакай закончыў універсітэт выпускнік Віленскай гімназіі **Станіслаў Львовіч Пташыцкі**. Пазней працаваў асістэнтам на кафедры славянскай філалогіі. Адначасова Пташыцкі працаваў пе-

ракладчыкам з польскай мовы ў 3-м дэпартаменце Сената, выкладаў рускую і лацінскую мовы ў розных гімназіях горада. Добрая гістарычная і філалагічная падрыхтоўка далі яму магчымасць удзельнічаць (у 1884–1887 гг.) у працы з дзяржаўным архівам Вялікага Княства Літоўскага — Літоўскай метрыкай. У 1887 г. ён надрукаваў «Вопіс кніг і актаў Літоўскай метрыкі», які і цяпер не страціў навуковага значэння. З 1896 г. Пташыцкі — прыват-дацэнт універсітэта (выкладчык польскай мовы і літаратуры), адначасова прафесар Імператарскай рыма-каталіцкай акадэміі, намеснік старшыні Таварыства бібліятэказнаўства. Ён удзельнічае ў падрыхтоўцы 17-га тома «Поўнага збору рускіх летапісаў», дзе былі надрукаваныя беларуска-літоўскія летапісы, друкуе апісанне рукапісных матэрыялаў Шчарсоўскай бібліятэкі Храбтовічаў, артыкулы пра Дэспатаў-Зяновічаў і князёў Пузынаў, даследаванні пра выданні Статута ВКЛ і гісторыі права ВКЛ пасля надрукавання трэцяга Статута. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі з'ехаў у Польшчу. У 1921 г. прымаў удзел у падрыхтоўцы Рыжскага мірнага дагавора Расіі з Польшчай як эксперт па справах архіваў і бібліятэк з польскага боку. Жыў ён на вуліцы Жукоўскага, 38.

Ураджэнец Ігуменскага павета Мінскай губерні **Вітольд Уладзіслававіч Навадворскі** закончыў Пецярбургскі універсітэт ў 1885 г. Застаўся ў горадзе, выкладаў гісторыю ў 1-м кадэцкім корпусе (з 1885 г.), у 1904–1906 гг. быў прыват-дацэнтам Пецярбургскага універсітэта, пасля абароны ў 1906 г. дысертацыі на тэму «Барацьба за Лівонію паміж Масквой і Рэччу Паспалітай (1570–1582)» быў запрошаны экстраардынарным прафесарам ў Нежынскі гісторыка-філалагічны інстытут князя Безбародкі. Жыццёвы шлях Вітольд Навадворскі закончыў у 1923 г., будучы прафесарам Віленскага універсітэта імя Стэфана Баторыя.

У 1914 г. скончыў універсітэт **Сяргей Антонавіч Дубінскі** (нар. 1884 г. у в. Наройкі Бельскага павета — расстраляны 27.08.1937). Пасля заканчэння працаваў настаўнікам, а з 1925 г. быў членам гістарычна-археалагічнай камісіі Інбелкульта. З 1928 г. Сяргей Дубінскі — навуковы супрацоўнік Інстытута беларускай культуры ў Мінску, з 1929 г. — супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР. У 1933 г. ён пераехаў у Ленінград і працаваў у Акадэміі матэрыяльнай культуры. Склаў першую «Бібліяграфію па археалогіі Беларусі і сумежных краін» (1933).

У 1872 годзе скончыў універсітэт **Васіль Іванавіч Сямеўскі** (1848–1916), ураджэнец горада Полацка. У 1882–1886 гг. ён працуе як прыват-дацэнт Пецярбургскага універсітэта і прафесар Аляксандраўскага ліцэя, чытаў лекцыі на Бястужаўскіх курсах (адхілены ад пасады за «шкодны кірунак»). У 1889 г. Васіль Сямеўскі стаў доктарам рускай гісторыі. Пасля расстрэлу рабочай дэманстрацыі ў Пецярбургу 9 студзеня 1905 г. (пачатак рэвалюцыі 1905–1907 гг.) ён увайшоў у склад дэпутацыі да членаў урада, быў арыштаваны. У 1905 г. стаў старшынёй камітэта дапамогі вызваленым вязням Шлісельбурга. З 1906 г. Сямеўскі далучыўся да партыі сацыялістаў, стаў членам яе ЦК. Як грамадскі дзеяч ён супрацоўнічаў у часопісах «Айчынныя запісы», «Рускае багацце» і інш. У 1913–1916 гг. — адзін са стваральнікаў і рэдактараў гісторыка-літаратурнага часопіса «Голас мінулага». Прафесар Сямеўскі даследаваў з дэмакратычных пазіцый гісторыю сялянства і рабочага класа, вызваленчы рух дзекабрыстаў і петрашэўцаў. Быў членам Таварыства рускай славеснасці (з 1880 г.), Вольнага эканамічнага таварыства (з 1895 г.).

Значным унёскам у беларускую філалогію ў першай чвэрці XX ст. стала падрыхтаваная выкладчыкам Петраградскага універсітэта Браніславам Тарашкевічам «Беларуская граматыка для школ». **Браніслаў Тарашкевіч** (1892–1937), у будучым знакаміты навуковец і палітычны дзеяч, нарадзіўся ў засценку Мацюлішкі каля Вільні, скончыў 2-ю віленскую гімназію і ў 1911 г. паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта. Падчас навучання ён прымаў актыўны ўдзел у працы Беларускага навуковага гуртка студэнтаў універсітэта пад кіраўніцтвам дацэнта Аляксандра Розэнфельда, друкаваўся ў альманаху «Маладая Беларусь», удзельнічаў у беларускім грамадскім жыцці. Дзеля заробкаў выхадзец з беднай сям'і Тарашкевіч працаваў рэпетытарам з дзецьмі ў беларускай сям'і Зенбіцкіх, выязджаў з імі на дачу ў Фінляндыю. У 1916 г. Тарашкевіч паспяхова скончыў універсітэт і быў пакінуты выкладчыкам пры кафедры рускай мовы. Па парадзе акадэмікаў Шахматава і Карскага ён заняўся складаннем граматыкі беларускай мовы. Граматыка Тарашкевіча выйшла ў Вільні, у друкарні Марціна Кухты ў 1918 г. Пазней з'ехаў у Вільню[1].

[1] *Ліс А.* Браніслаў Тарашкевіч. Мінск, 1966.

## Юрыдычны факультэт

Добра дзейная сістэма кіравання дзяржавай магла быць заснаваная толькі на панаванні законаў і, адпаведна, патрабавала адукаваных людзей, якія разумелі б і былі гатовыя прымяняць гэтыя законы. Адной з галоўных мэтаў універсітэта была падрыхтоўка чыноўнікаў — патрэбу ў іх востра адчувалі шматлікія сталічныя і асабліва правінцыйныя ўстановы. З 1836 г., нягледзячы на агульную незадаволенасць, выпускнікі універсітэта павінны былі тры гады адслужыць у правінцыі, перш чым іх маглі дапусціць да больш прывабных пасад у сталіцы. Праграма юрыдычнага факультэта была скіравана на практычнае вывучэнне асноў расійскага грамадзянскага, фінансавага, крымінальнага, паліцэйскага і адміністрацыйнага права. Кругагляд выпускнікоў значна пашыралі кафедры рымскага і міжнароднага права: студэнты праходзілі гэтыя дысцыпліны ў першы год навучання. Асаблівасцю юрыдычнага факультэта была значная колькасць студэнтаў, якія захапляліся мастацтвам. Тры гады (1893—1896) студэнтам юрыдычнага факультэта быў сын віленскага свяшчэніка Васіль Шверубовіч (1875—1945), які пасля ўдалага дэбюту ў спектаклях студэнцкага тэатральнага гуртка перайшоў на прафесійную сцэну, узяўшы псеўданім Васіль Качалаў.




*Набярэжная Фантанкі. Імператарскае вучылішча Правазнаўства*

Царат адчуваў небяспеку абстрактных канцэпцый права, бо яны маглі несці з сабой новыя тэорыі дзяржаўнага ладу і кіравання. Таму прафесар А. Іваноўскі ex catedra прамаўляў: «Пачатак у рэформах належыць толькі ўраду; прыватным жа асобам трэба толькі з усіх сіл і з магчымым стараннем спрыяць дабрачынным яго намерам»[1]. Словы прафесараў не заўсёды, аднак, рабіліся перакананнямі студэнтаў. Некаторыя станавіліся на шлях рэвалюцыйнай барацьбы з існуючым ладам, як гэта зрабіў выпускнік юрыдычнага факультэта 1860 г. Вікенцій (Кастусь) Каліноўскі. Выхадцы з Беларусі былі не толькі сярод студэнтаў, але і паміж вядучых прафесараў юрыдычнага факультэта.

Будучы прафесар **Ігнат Іакінфавіч Іваноўскі** (1807—1886) з залатым медалём скончыў Мінскую гімназію. Пасля выдатнага заканчэння (у 1826 г.) Віленскага універсітэта (абараніў дзве дыпломныя працы, адну — на польскай, адну — на лацінскай мове) яго адправілі ў Маскву для ўдасканалення рускай мовы. Пасля Маскоўскага універсітэта займаўся ў Дэрпцкім, дзе ў 1832 г. абараніў дысертацыю «De libera mercatura» на ступень доктара права. Пасля тры гады жыў у Берліне, слухаў лекцыі славутых тагачасных прафесараў Берлінскага універсітэта Савіньі, Ганса, Мішэле, Рыттэра. Вярнуўшыся ў Санкт-Пецярбург вясной 1835 г., Ігнат Іваноўскі быў, пасля пробнай лекцыі «Сцiслы погляд на навуку Дыпламатыю ўвогуле», залічаны ў штат універсітэта. У 1836 г. ён, маючы 29 гадоў, заняў кафедру Агульнанароднага права (так тады называлі міжнароднае права) і дыпламатыі. З 1836 г. — Іваноўскі экстраардынарны, з 1837 г. — ардынарны прафесар Санкт-Пецярбургскага універсітэта. У 1857 г. выдаў кнігу «Кіраўніцтва па статыстыцы еўрапейскіх дзяржаў, для выкладання ў ваенна-навучальных установах», пасля чаго атрымаў званне заслужанага прафесара. Спыніў чытанне лекцый у 1870 годзе, пасля чаго кафедра міжнароднага права перайшла да яго вучня, прафесара Мартэнса. Ва ўспамінах пра Ігната Іакінфавіча вучні падкрэсліваюць, што самая прыкметная рыса яго выкладання — бліскучы дар слова, якім ён валодаў. Гэты прыродны дар быў выхаваны ў несумненна высока пастаўленай класічнай школай у Вільні. Іваноўскі валодаў лацінскай мовай як роднай, студэнты любілі збірацца ў яго аўдыторыю, каб паслухаць бліскучага аратара. У 1873 г. ён абраны ганаровым членам універсітэта.

Правазнавец **Іван Якаўлевіч Файніцкі** нарадзіўся ў 1847 г. у Гомельскім павеце Мінскай губерні. У 1864 г. ён закончыў з залатым медалём Магілёўскую гімназію, у 1868 г. — з залатым медалём — юрыдычны факультэт Санкт-Пецярбургскага універсітэта. У 1871 г. Іван Файніцкі абараніў магістэрскую

[1] *Ивановский А. В.* О началах постепенного усовершенствования нашего государства // ЖМНП. 1837. № 1. С. 12.

дысертацыю «Ашуканства паводле рускага права». У дзень абароны дысертацыі (3 мая 1871 г.) ён быў абраны універсітэтам і зацверджаны міністэрствам на пасадзе штатнага дацэнта па крымінальным праве. Пасля вяртання з-за мяжы ў верасні 1873 г. пачаў у Пецярбургскім універсітэце два курсы: агульны, крымінальнага права, і спецыяльны, па арганізацыі турмаў (астрогаў) — астрогазнаўстве, а на наступны год яшчэ адзін спецыяльны курс па крымінальным працэсе — аб пераглядзе крымінальных прыгавораў. З 1873 г. чытаў лекцыі па агульным судаводстве таксама ў Імператарскім вучылішчы правазнаўства і курс энцыклапедыі права ў Імператарскім Аляксандраўскім ліцэі, аднак пакінў гэтыя ўстановы пасля прызначэння яго на пасаду таварыша (намесніка) обер-пракурора Крымінальнага касацыйнага дэпартамента Сената. У 1881 г. Іван Файніцкі абараніў дысертацыю «Ссылка на Захадзе», за якую атрымаў ступень доктара крымінальнага права, а ў 1882 г. ён абраны і зацверджаны ардынарным прафесарам. Падрыхтаваў курс крымінальнага права (вытшаў двума выданнямі) і два выданні курса крымінальнага судаводства, таксама «Вучэнне пра пакаранне ў сувязі з астрогазнаўствам». З 1889 г. Іван Файніцкі член міжнароднага саюза крымінальнага права, прымаў удзел у яго з'ездах у Бруселі, Берне, Парыжы і Лінцы. Яго нарыс рускага крымінальнага права выдадзены на французскай і нямецкай мовах, у Германіі выдадзена яго кніга «Крымінальна-прававая дактрына аб саўдзеле», у Францыі — «Аб ссылцы рымскай, англійскай і рускай». З мая 1896 г., у гадавіну абароны сваёй магістэрскай дысертацыі, зацверджаны заслужаным ардынарным прафесарам Пецярбургскага універсітэта, а з 1897 г. — на пасадзе дэкана юрыдычнага факультэта. У 1913 г. І. Файніцкі мае чын тайнага саветніка, што адпавядае армейскаму генерал-лейтэнанту, жыве па адрасе Кабінетная вуліца, 2.

На юрыдычным факультэце чытаў лекцыі па судовай псіхалогіі **Уладзімір Хведаравіч Чыж** (нар. у 1855 г.), шляхціч са Смаленскай губерні. У 1878 г. ён закончыў ВМА, да 1880 г. служыў на флоце. Спецыялізацыя У. Чыжа — нервовыя і псіхічныя хваробы. З 1883 г. ён — доктар медыцыны. З 1888 г. — прыват-дацэнт Санкт-Пецярбургскага універсітэта.

Выпускнік Віцебскай гімназіі **Леў Іосіфавіч Петражыцкі** (1867—1931) пасля заканчэння універсітэта актыўна займаўся грамадска-палітычнай дзейнасцю. Вядомае яго выступленне ў Дзяржаўнай Думе 16 чэрвеня 1906 г. «Пра роўнасць правоў жанчын», якое было надрукавана асобнай брашурай. У наступным, 1907 г., Леў Петражыцкі выдаў двухтомавую працу «Універсітэт і навука. Вопыт тэорыі і тэхнікі універсітэцкай справы і навуковай самаадукацыі». Пазней ён больш увагі аддаваў эканамічным працэсам у грамадстве: «Акцыі, біржавая гульня і тэорыя эканамічных крызісаў» (СПб., 1911) і да т. п.

Сярод выпускнікоў юрыдычнага факультэта трагічным лёсам вылучаецца **Іасафат Пятровіч Агрызка** (1826—1890), які нарадзіўся ў Лепельскім павеце Віцебскай губерні. У 1841 г. скончыў Лепельскае павятовае вучылішча, а ў 1844 г. з выдатнымі адзнакамі — Мінскую гімназію. У 1845 г. І. Агрызка паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта, скончыў яго са ступенню кандыдата права. З 1850 г. — на службе ў камісіі па рэвізіі і складанні законаў для Царства Польскага. Іасафат Агрызка зрабіў у сталіцы бліскучую кар'еру. З 1861 г. ён працаваў у Дэпартаменце падаткаў і збораў Міністэрства фінансаў, а ў лютым 1863 г. быў прызначаны віцэ-дырэктарам гэтага дэпартамента. Акрамя дзяржаўнай службы, займаўся выдавецкай дзейнасцю, пры тым так паспяхова, што набыў друкарню. Агрызка выдаў першы збор твораў М. Дабралюбава (т. 1—4, 1862), некаторыя тамы «Матэрыялаў для геаграфіі і статыстыкі Расіі, сабраных афіцэрамі Генеральнага штаба» (па Віленскай, Гродзенскай губернях, 1861—1863 гг.), з 1859 г. выдаваў у Пецярбургу на польскай мове газету «Слова» («Słowo»), якая пазней была забаронена ўрадам. У друкарні І. Агрызкі друкаваліся часопісы «Народная бяседа», «Салдацкі журнал», «Архітэктурны веснік», «Часопіс Міністэрства народнай асветы», «Горны журнал». Са студэнцкіх гадоў Агрызка ўдзельнічаў у рэвалюцыйным руху. Падтрымліваў цесныя сувязі з М. Чарнышэўскім, з рэвалюцыйным таварыствам «Зямля і воля», быў членам польскай рэвалюцыйнай арганізацыі ў Пецярбургу. У лютым 1863 г. Агрызку прызначылі галоўным прадстаўніком варшаўскага паўстанцкага ўрада ў Пецярбургу. 14 лістапада 1864 г. яго арыштавалі і перавезлі для следства ў Вільню, дзе асудзілі на 20 гадоў катаргі. Памёр у Іркуцку[1].

Якія прадметы вывучалі на юрыдычным факультэце ў 1860-я гг., бачна з пасведчання, якое было выдадзена аднаму з выпускнікоў,

[1] *Баренбаум И. Е.* Иосафат Огрызко. (1826—1890). Очерк лит.-изд. деятельности. М., 1964.

правадыру паўстанцаў 1863 г. Кастусю Каліноўскаму: «Прад'яўнік гэтага студэнт IV курса юрыдычнага факультэта разраду камеральных навук стыпендыят С.-Пецярбургскага універсітэта Вікенцій Каліноўскі скончыў сёлета курс навук па камеральным разрадзе са ступенню кандыдата і атрымаў наступныя адзнакі па асноўных прадметах: з дзяржаўнага права Расійскай імперыі, дзяржаўнага права еўрапейскіх дзяржаў, законаў дзяржаўнага добраўпарадкавання і добрапрыстойнасці, законаў аб фінансах, палітычнай эканоміі, статыстыкі, тэхналогіі сельскай гаспадаркі — выдатныя...»[1].

У адрозненне ад Іасафата Агрызкі кар'ера ураджэнца Віленскай губерні і выпускніка юрфака 1854 г. **Леаніда Аляксандравіча Палонскага** (1833—1913) не мела крутых пікаў. Усё сваё жыццё ён прысвяціў журналістыцы, працаваўшы аглядальнікам у часопісах «Паўночны веснік», «Руская думка», газетах «Краіна» і «Kraj».

**Майсей Якаўлевіч Астрагорскі** (1854—1921) нарадзіўся ў 1854 г. у Бельскім павеце Гродзенскай губерні ў сям'і школьнага настаўніка[2]. Пазней сям'я Астрагорскіх перабралася ў Гродна, дзе Майсей закончыў гімназію, славутую ў тыя гады выдатнай пастаноўкай навучальнага працэса, а ў 1871 г. паступіў на юрыдычны факультэт Санкт-Пецярбургскага універсітэта. У 1875 г. Астрагорскі скончыў універсітэт з вучонай ступенню кандыдата права. На працягу сямі гадоў ён служыў у дэпартаменце Міністэрства юстыцыі, дзе зрабіў кар'еру ад малодшага памочніка столаначальніка да рэдактара заканадаўчага аддзялення.

Дзейнасць гэтага выдатнага палітыка, аднаго з заснавальнікаў сацыялогіі палітычных партый, стала заўважнай з'явай у грамадскім жыцці мяжы XIX і XX стст. Яго навуковыя дасягненні высока ацэненыя класікамі сусветнай сацыялогіі і паліталогіі. М. Вебер выкарыстоўваў высновы Астрагорскага ў сваім аналізе праблематыкі палітычнага лідэрства. П. А. Сарокін адносіў Астрагорскага да ліку «лепшых і самых кампетэнтных даследчыкаў» палітычнай стратыфікацыі. М. Дзювержэ адзначаў прыярытэт Астрагорскага ў параўнальным аналізе структуры палітычных партый. Хоць пасля 1871 г. Астрагорскі ніколі пастаянна не жыў у Гродне, сувязі з радзімай ён не страціў: праяўляў цікавасць да дзейнасці Гродзенскага педагагічнага таварыства, дапамагаў яму матэрыяльна, а ў 1913 г. быў абраны яго ганаровым членам. Быў выдатным педагогам-метадыстам, аўтарам шэрагу папулярных, дзесяткі разоў перавыдадзеных падручнікаў гісторыі.

У лістападзе 1882 г. Астрагорскі выехаў з Пецярбурга і жыў пераважна ў Францыі і Англіі. У сакавіку 1906 г., калі быў абраны дэпутатам І Дзяржаўнай думы ад Гродзенскай губерні, М. Я. Астрагорскі вярнуўся ў Пецярбург. Даведнік «Увесь Пецярбург» за 1907 г. вызначае Майсея Астрагорскага як «літаратара» і паведамляе, што жыве ён на Васільеўскім востраве, 5-я лінія, 10.

У 1883—1887 гг. на юрыдычным факультэце Пецярбургскага універсітэта вучыўся **Канстанцін Скірмунт**, уладальнік маёнтка Моталь каля Пінска. У мемуарах ён пісаў, што падчас яго навучання ў Пецярбургу стварылася група студэнтаў універсітэта — выхадцаў з Літвы-Беларусі: яго стрыечны брат Міхал Вайніловіч, Караль Незабытоўскі, Аляксандр Любаньскі і Геранім Любецкі. Пасля заканчэння універсітэта Канстанцін Скірмунт быў абраны старшынёй сельскагаспадарчага таварыства Гродзенскай губерні, быў блізка знаёмы з гродзенскім губернатарам, пазней прэм'ер-міністрам Расіі Сталыпіным. З 1909 г. ён працуе ў Дзяржаўным Савеце Расійскай імперыі, часта наведвае Пецярбург. Аднойчы яго папрасіла маці нейкага Свірскага, які быў асуджаны на смяротную кару за тэрарыстычны напад на інкасатара, хадайнічаць пра замену смяротнага пакарання. Скірмунт ведаў, што да Пятра Сталыпіна па гэтай справе без папярэдняга запісу трапіць на прыём немагчыма. Аднак, каб дапамагчы няшчаснай пані Свірскай, дзейнічаць трэба было пільна. Канстанцін пазваніў жонцы Сталыпіна, яна абяцала паспрыяць, і справа была вырашана. «Шмат гадоў пазней, калі мне, — успамінае Скірмунт, — давялося першы раз ісці на прыём да начальніка краю Пілсудскага, праводзіў ардынарац — гэта быў той самы Свірскі»[3].

На юрыдычным факультэце ў 1910—1912 гг. вучыўся адзін з аўтараў альманаха «Маладая Беларусь» **Лявон Адамовіч**, сын валожынскага ўраджэнца пісьменніка Вячаслава Антонавіча Адамовіча. Гэты факультэт закончылі ураджэнец Магілёва публіцыст

[1] *Кісялёў Г.* Героі і музы. Гісторыка-літаратурныя нарысы. Мінск, 1982. С. 133.

[2] *Андреев И. В.* М. Я. Острогорский — депутат I Государственной думы от Гродненской губернии // Белорусский сборник. Вып. 2. СПб., 2002. С. 106—116.

[3] *Skirmunt K.* Moje wspomnienia 1866—1945. Rzeszow, 1997.

**Сямён Абрамавіч Бяляцкін**, аўтар кніг па аўтарскім праве, прысяжны паверааны пецярбургскай акругі, таксама прысяжны паверааны **Леў Маісеевіч Берлін** (нар. 1854 г. у Віцебску), беларускі палітычны дзеяч, гісторык, філосаф, публіцыст родам з Брэста **Аляксандр Іванавіч Цвікевіч** (1883–1937), прысяжны паверааны Аляксандр Юльевіч Блох (нар. у 1878 г. у Бабруйску) і шмат хто іншыя.

У 2004 г. Пецярбург наведаў супрацоўнік Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве Генрых Уладзіслававіч Булгак. 75-гадовы стары прывёз з сабой фотаздымак бацькі **Уладзіслава Булгака**, гаспадара маёнтка ў Ігуменскім павеце, выпускніка юрыдычнага факультэта Пецярбургскага універсітэта. Здымак зроблены ў Петраградзе ў 1915 г., у фотаатэльe насупраць Публічнай бібліятэкі. Статны малады чалавек з новенькім універсітэцкім знакам на мундзіры. Найбольш кранальны момант быў, калі стары дастаў і сам гэты знак: былы наваградскі ваяводскі суддзя Уладзіслаў Булгак захаваў гэты знак, нягледзячы на ліхалецце, і перадаў сыну!

Адным з найбольш выдатных вупускнікоў-беларусаў быў **Уладзімір Мікалаевіч Беняшэвіч** (1874–1938), які нарадзіўся ў сям'і судовага прыстава ў мястэчку Друя Дзісненскага павета Віленскай губерні. Беняшэвіч закончыў з залатым медалём 1-ю віленскую гімназію, а ў 1893–1897 гг. — юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта. У 1897–1900 гг. ён быў камандзіраваны ў Германію (Гейдэльберг, Ляйпцыг) для падрыхтоўкі навуковай працы. У 1914 г. абараніў доктарскую дысертацыю «Сінагога ў 50 тытулах у творах Іаана Схаластыка». Тады ж, у 1914 г., быў абраны членам-карэспандэнтам Страсбургскай акадэміі навук. У 1905–1922 гг. Уладзімір Беняшэвіч выкладаў на юрыдычным факультэце Пецярбургскага універсітэта, паслядоўна прайшоўшы ўсе ступені службовага і навуковага росту: прыват-дацэнт, экстраардынарны, ардынарны прафесар. Адначасова ён выкладаў гісторыю кананічнага права ў Аляксандраўскім ліцэі, Духоўнай акадэміі (1906–1909), Ваенна-юрыдычнай акадэміі (1909–1912). Быў бібліятэкарам Рускага Археалагічнага таварыства. Захапляўся фатаграфіяй і быў адным з лепшых знаўцаў навінак у гэтай галіне. У 1925 г. запрошаны ў Публічную бібліятэку, апрацоўваў калекцыю грэцкіх рукапісаў. У 1925 г. абраны членам-карэспандэнтам АН СССР, з 1927 г. — Баварскай АН у Мюнхене, з 1929 г. — Прускай АН у Берліне. У 1928 г. арыштаваны. У 1933 г. вызвалены. Узнавіў дзейнасць у Публічнай бібліятэцы і Ленінградскім універсітэце. У 1938 г. — арыштаваны паўторна і расстраляны, таксама як і брат-геолаг і двое сыноў. Жыў Уладзімір Беняшэвіч на Васільеўскім востраве, 19-я лінія, 14.

Сярод выпускнікоў юрыдычнага факультэта апошніх перад Першай сусветнай вайной гадоў было багата актыўных у будучым дзеячаў нацыянальнага будаўніцтва незалежнай Беларусі. Сярод іх член Вялікай Беларускай Рады **Павел Паўлавіч Аляксюк**. Нарадзіўся ён у 1892 г. у Гродне, закончыў у 1911 г. Гродзенскую гімназію, быў актыўным удзельнікам Гродзенскага гуртка беларускай моладзі. У 1915 г. скончыў юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта, стаў актывістам Беларускай сацыялістычнай грамады, удзельнічаў у абвяшчэнні Беларускай Народнай Рэспублікі (1918). У 1920-я гг. працаваў адвакатам у Наваградку.

**Дзмітрый (Зміцер) Міхайлавіч Сабалеўскі** (1886–1961) нарадзіўся ў мястэчку Грозава Слуцкага павета, сын настаўніка. Скончыў Слуцкую гімназію (1907) і, у 1915 г., юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта. З 1917 г. працаваў у Петраградзе, выкладаў у беларускіх школах, напісаў «Схему аўтаномнай Беларусі ў складзе агульнарасійскай федэрацыі». У 1920-я гг. — дырэктар Слуцкага сельскагаспадарчага тэхнікума, супрацоўнік Слуцкага павятовага аддзела народнай асветы.

Юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта скончыў у 1915 г. лідэр Беларускай партыі сацыялістаў-федэралістаў, Прэзідэнт БНР, а пасля міністр (у 1918–1920 гг.) беларускіх спраў у літоўскай Тарыбе **Язэп (Іосіф Якаўлевіч) Варонка** (1891–1952), які нарадзіўся ў Дзятлаве. З 1923 г. ён жыве ў ЗША, выдае газету «Беларуская трыбуна». Характарыстыку Варонкі-студэнта знаходзім у мемуарным нарысе В. Ункоўскага «Прэзідэнт Беларускай Рэспублікі», які быў надрукаваны ў 1956 годзе ў Парыжы. Гэта ўспаміны з часоў супрацоўніцтва абодвух ў пецярбургскай газеце «Сталічныя весткі»: «Сакратаром рэдакцыі быў сымпатычны студэнт-юрыст Пецярбурскага ўнівэрсытэту Язэп Якаўлевіч Варонка — беларус зь Беластоку. Высокі прыгожы брунэт, ён хадзіў ня ў сьціплай тужурцы, а ў адмыслова сшытым студэнцкім сурдуце, зашпіленым на ўсе гузікі. Падкрэсьлена запаволены, заўсёды чыста паголены, валасы на прабор і нязьменная памада. Ужываў дарагую «мужчынскую» парфуму й добра знаўся на ёй.

Жыў ён у памяшканні рэдакцыі (Неўскі праспэкт, 3, насупраць Галоўнага Штабу), спаў на стосах непрададзеных газэтаў (а іх тут былі

горы). Зробленае прагульваў за лічаныя дні, а пасьля любіў насьпеўваць нешта пра кішэню зь дзюркай.

У Пецярбургу выходзіў невялічкі часапіс «Тэатральны агляд» (Театральное обозрение), які каштаваў 5 капеек, дзе друкаваліся падрабязныя афішы ўсіх спэктакляў і канцэртаў, а таксама тэатральная хроніка. Варонка даваў інфармацыйныя зацемкі, а таму быў сталым наведнікам тэатральных грымёрных і, зразумела, заляцаўся да артыстак.

Пазнаёміўся я з Варонкам у 1913 годзе, а эпісталярна мы былі знаёмыя з 1911 году. Тады я быў рэдактарам другога «Всероссийского Студенческого Сборника». Першы зьявіўся за колькі год перад тым пад рэдакцыяй І. Буніна і М. Целяшова. Варонка даслаў мне для зборніка падпісаную ягоным прозьвішчам празаічную мініятуру «Осеннее» й два вершы пад псэўданімам Юры Вегаў. Усё гэта я надрукаваў. Чысты прыбытак ад продажу зборніка прызначаўся пяцігорскаму студэнцкаму санаторыю. Першае выданьне разышлося, а калі зімою, у 1913 годзе, я пазнаёміўся з Варонкам, мы задумалі выпусьціць «Всероссийский Студенческий Сборник» другім выданьнем. Так і сталася: увесну 1914 году другое выданьне выйшла, дзякуючы незвычайнай энэргіі Я. Я. Варонкі, — кніга зьявілася ў вітрынах кнігарняў Пецярбургу, Масквы, Харкава, Кіева ды іншых гарадоў.

Мы з Варонкам сустракаліся не радзей як дватры разы на тыдзень у рэдакцыі «Воскресной Вечерней Газеты» і ў мяне. Ён быў ня дурань кульнуць чарку, і, памятаю, мы добра гульнулі на маскарадзе «Ярылава ноч», дзе… самы танны білет бязь месца каштаваў 25 рублёў, што па тых часох было страшэнна дорага. Я заплаціў за свой «уваходны», а Варонка, як заўсёды, «злаўчыўся». Мы весела прабавілі час, скакалі з маскамі, пілі каньяк, цешылі дурня да самага ранку.

Вайна 1914 году. Мяне мабілізавалі як малодшага доктара ва ўласны санітарны цягнік Імпэратрыцы Аляксандры Фёдараўны, і з Варонкам мы больш не сустракаліся. Але ён часта пісаў мне і на адрас цягніка, і на маю харкаўскую кватэру. <..> Ён працягваў супрацоўнічаць з «Обозрением театров». Арганізоўваў штотыднёвыя часапісы — «Вереск», «Колосья», але яны спыняліся пасьля выхаду першага нумару. Яму фатальна не шанцавала. Сябраваў зь ведамым таленавітым паэтам Мікалаем Агніўцавым. Той хваліў вершы Варонкі, падпісаныя псэўданімам Юры Вегаў»[1].

## Усходні факультэт

Калі гаварыць пра развіццё беларускага ўсходазнаўства, то за межамі Пецярбурга можна ўбачыць толькі адну выдатную асобу — гэта аднакурснік Восіпа Сянкоўскага па Віленскім універсітэце **Максіміліян Рыла** (1802—1848), родам з Ваўкавыскага павета. Ён вучыўся ў Віленскім універсітэце з 1820 г., авалодаў вавілонскім клінапісам, у 1841 г. адкрыў у Бейруце Collegium Asiaticum, — каталіцкую акадэмію, якая ў 1875 г.ператворана ў Бейруцкі універсітэт, а з 1846 г. быў апостальскім вікарыем Цэнтральнай Афрыкі ў Хартуме. Двух бліскучых усходазнаўцаў выхавала Пецярбургская духоўная акадэмія (кітаіст і японіст **Іосіф Гашкевіч**, манголазнаўца і будолаг **Мікалай Ісаковіч** — пра іх мы пісалі вышэй). Каля чатырох гадоў пражыў у Кітаі ў якасці жывапісца пры расійскай місіі ўраджэнец Слуцка **Кандрат Карсалін** (1809—1871). Сярод яго прац ёсць карціна «Від Вана Шэу-шаня, загараднага палаца кітайскага імператара ў васьмі вёрстах ад Пекіна на шляху ў горад Хойдэнь» (1860 г.), якая цяпер знаходзіцца ў Рускім музеі. Большая частка беларусаў, якія захапляліся Усходам, была так ці іначай звязана з усходнім факультэтам Санкт-Пецярбургскага універсітэта (да адкрыцця факультэта гэта было аддзяленне жывых моў пры Азіяцкім дэпартаменце Міністэрства замежных спраў).

Выкладанне ўсходніх моў у Пецярбургскім універсітэце пачалося з арабскай і персідскай ў сакавіку 1818 г., а 22 кастрычніка 1854 г. быў утвораны Факультэт усходніх моў (ліквідаваны ў 1919 г. і адноўлены ў 1944 г.).

Ураджэнец маёнтка Крывічы, што на Мядзельшчыне, **Аляксандр Ходзька** (1804—1891) яшчэ падчас навучання на аддзяленні жывых моў пры Азіяцкім дэпартаменце Міністэрства замежных спраў захапляўся Персіяй (Іранам). Персідскія матывы пераважаюць у зборніку яго ўласных вершаваных твораў «Паэзія», які быў выдадзены ў Пецярбургу ў 1829 годзе. 1 студзеня 1830 г. Аляксандр Ходзька быў прызначаны перакладчыкам расійскай місіі ў Іране. Ехаў (праз Астрахань і Баку) туды, дзе яшчэ свежыя былі ўспаміны пра разарванага натоўпам расійскага дыпламата (паэта, сябра Ф. Булгарына) А. Грыбаедава. Ён апісваў уражанні ў карэспандэнцыях для польскамоўнага часопіса «Tygodnik Petersburgski» і рускамоўнай пецярбургскай «Літаратурнай газеты»[2].

---

[1] *Юрэвіч Л.* Беларускія мемуары за мяжой. Мінск, 2005.
[2] *Грыцкевіч В. П.* Аляксандр Ходзька (1804—1891) // Славутыя імёны бацькаўшчыны. Мінск, 2000. С. 209.



*Універсітэцкая набярэжная. На пярэднім плане будынак усходняга і філалагічнага факультэтаў Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага універсітэта*

Працаваў малады Ходзька спачатку перакладчыкам, потым сакратаром генеральнага консула ў Тэбрызе, з 1834 г. атрымаў павышэнне — пасаду расійскага консула ў Рэшце (правінцыя Гілян). Працягваў пасылаць адсюль нататкі ў пецярбургскія выданні. А ў 1839 годзе атрымаў прыемны падарунак — вайсковая друкарня ў Пецярбургу выдала асобнай кнігай пераклад яго ўсходняй аповесці «Дэрар» на рускую мову, дадаўшы цікавыя літаграфічныя ілюстрацыі. Дакладна невядома чаму, але пасля 10 гадоў дыпламатычнай службы Аляксандр Ходзька звольніўся (у 1841 г.) і пераехаў у Еўропу. Жыў у Лондане, дзе выдаў «Speciments of the popular poetry of Persia» («Узоры народнай персідскай паэзіі»), пазней напісаў і выдаў граматыку персідскай мовы, падручнік турэцкай...

Крыху пазней за А. Ходзьку консулам Расійскай імперыі ў Эрзеруме быў беларус **Аўгусцін Жаба** (1800–1894). Пасля заканчэння службы Аўгусцін Жаба перадаў (у 1868 г.) у пецярбургскую Імператарскую Публічную бібліятэку сваю калекцыю ўсходніх рукапісаў, сярод якіх былі 44 на курдскай мове, 4 на персідскай, 3 французскія і 3 турэцкія. Асаблівую каштоўнасць уяўляла курдская калекцыя, якую ён пачаў збіраць у 1856 г. і якой прысвяціў асобную кнігу, надрукаваную ў Пецярбургу ў 1860 г. на французскай мове[1].

Значная колькасць выкладчыкаў усходняга факультэта былі выхадцамі з Беларусі і першы сярод іх — **Восіп (Юльян) Сянкоўскі**. Як мы ўжо ўспаміналі вышэй, пасля заканчэння вандровак па Усходзе малады драгаман Сянкоўскі, мінуўшы Вільню, адразу паехаў да месца службы — у Пецярбург. У канцы 1821 г. ён прывёз у паўночную сталіцу не толькі ўражанні ад далёкіх краінаў, але і грунтоўныя веды арабскай, турэцкай і персідскай моў. Усходазнавец акадэмік Фрэн экзаменаваў Сянкоўскага і застаўся вельмі задаволены яго падрыхтоўкай. Пасля іспыту ў Фрэна 22-гадовага юнака прызначаюць першым прафесарам усходніх моў нядаўна створанага Санкт-Пецярбургскага

[1] *Руденко М. Б.* Коллекция А. Д. Жаба (курдские рукописи) // Труды ГПБ. Т. II (V). Л., 1957. С. 165–184.

універсітэта: ён заняў гэту пасаду на 25 гадоў (1822–1847)[1].

Аб'ява пра лекцыі ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце на 1824 г. была выдадзена асобнай кніжачкай з дадаткам, як гэта звычайна рабілася ў германскіх універсітэтах, вучонай працы аднаго з прафесараў. Праца належала Юльяну Сянкоўскаму: гэта было яго «Supplément à l'histoire générale des Huns, des Turcs et des Mongols», дзякуючы якой на маладога арыенталіста з Пецярбурга звярнулі ўвагу карыфеі арыенталізму ў Еўропе — як з прычыны зусім невядомага прадмету – гутарка была аб уладарніцтве узбекаў у Бухарыі і Харэзме, — так і з-за глыбіні ведаў Усходу, якія паказаў аўтар. Акрамя таго, Сянкоўскі надрукаваў: «Collectanea z dziejopisow Tureckich rzeczy do historyi Polskiey sluzących» (Warszawa, 1824–1825, Т. 1–2), «Путешествие дервиша Мухаммедъ-Эфендія в Россию в 1755 году. Перевод с турецкаго» (Северный Архив, 1826), «Exemplum papyri Aegyptici, etc.» (Cracoviae, 1827), «Карманная книжка для русских воинов в турецких походах (грамматика, словарь и разговоры турецкие)» (СПб., 1828–1829) і яшчэ 7 усходазнаўчых прац, якія выйшлі ў розных еўрапейскіх выданнях. Не пакідае Восіп Іванавіч без увагі творы калегаў-усходазнаўцаў. Ён зрабіў разбор працы Фрэна «Пра манеты ханаў улуса Джучыева», кніг айца Іакінфа (Бічурына) «Гісторыя Тыбета і Хухунора» і «Гісторыя Айтараў». У часопісе «Бібліятэка для чытання» надрукаваў сваё «Успаміны пра Сірыю».

Ворагі абвінавачвалі Восіпа Іванавіча ў непавазе да навукі, але абаронцы яго сцвярджалі, што «нідзе ў сачыненнях Сянкоўскага не знойдзеш непавагі да навукі: не асабліва паважаў ён прадстаўнікоў навукі — гэта праўда; але навука і прадстаўнікі яе — дзве рэчы такія ж розныя, як розныя паміж сабой, у іншых сферах, рэлігія і яе жрацы, закон і яго выканаўцы. Чалавек, які не паважае навуку, не правёў бы цэлае жыццё ў пастаянных даследаваннях... Ні адна чэсная, добрасумленная праца з тых, якія з'явіліся ў расійскай літаратуры ў перыяд яго крытычнай дзейнасці, не была ім наўмысна прыніжана; але немагчыма ж было, каб перавага крытыка, які часта стаяў на вышыні недаступнай для аўтара, не выказвалася часам, пры невычарпальнай вясёласці Сянкоўскага і сатырычным згібе яго розуму, якой-небудзь гумарыстычнай выхадкай»[2].

Ва універсітэце недалюблівалі Сянкоўскага. За гады свайго прафесарства ён не атрымаў ніводнай узнагароды, а да чыну стацкага саветніка дажыў, атрымліваючы ўсе папярэднія за выслугу гадоў. Але Сянкоўскі быў не той чалавек, які цярпліва прымае знявагі. Той дзень, калі ён пакінуў службу, атрымаўшы прафесарскую пенсію, ён выкарыстаў, каб пасмяяцца з вучонай карпарацыі. Вось як расказвае пра гэта сучаснік і зямляк Сянкоўскага, Восіп Пшэцлаўскі:

«...прызначаны быў ва універсітэце ўрачысты акт для закрыцця навучальнага года перад канікуламі. На такіх актах, акрамя справаздачы, чытаюцца прафесарамі якія-небудзь вучоныя працы. На гэты раз аб'яўлена была развітальная дысертацыя прафесара Сянкоўскага: «Пра старажытнасць Рускага імя». Сабралася шмат паважаных асобаў, у тым ліку міністр народнай асветы князь Шырынскі-Шыхматаў, адзін з архірэяў, папячыцель навучальнай акругі, члены Акадэміі навук і два альбо тры сенатары; вядомыя ў той час пісьменнікі і вучоныя былі таксама ў поўным камплекце. Рэктар і ўсе прафесары ў парадных мундзірах. Сход адбываўся ў вялікай універсітэцкай зале, сама гэтая зала і нават хоры былі поўныя.

Пасля прачытання справаздачы, каля пюпітра, перад радамі крэслаў, стаў нейкі пан, немец, і абвясціў, што ён ад'юнкт прафесара Сянкоўскага, што прафесар нездаровы і даручыў яму прачытаць сваю дысертацыю. Усе слухалі з напружанай увагай, бо Сянкоўскі быў у той час яшчэ ў поўным бляску сваёй пісьменніцкай славы.

З першых старонак стала відаць, што палажэнні свае аўтар засноўвае на этымалогіі ўласных імёнаў, назваў краін, гарадоў, рэк і саміх народаў. Аднак этымалогіі гэтыя былі да крайнасці нацягнутыя і эксцэнтрычныя. Усе здзівіліся гэтаму, бо памяталі, як часта Сянкоўскі ў сваёй «Бібліятэцы для чытання» здзекваўся з няўдалых слоўных вопытаў і нават з этымалогіі ўвогуле.

Усё гэта, толькі як прэлюдыя, вяло да таго заключэння, што Славянская нацыя, а на чале яе рускае племя, ёсць першыя паміж народамі, як самыя старажытныя; што ўся Еўропа і большая частка Азіі, у аддаленай старажытнасці,

[1] *Творы*: Собр. соч. Т. 1–9. СПб., 1858–1859. *Літ.: Крачковский И. Ю.* Сенковский и его ученики. Избр. соч. Т. 5. М.-Л., 1958; *Каверин В. А.* Барон Брамбеус. История Осипа Сенковского. 1929 (перавыд. М., 1966).

[2] *Григорьев В.В.* Императорский С.Петербургский университет в течение первых пятидесяти лет его существования. СПб., 1870. С. 96–97.



*Петрапаўлаўская крэпасць*

былі Скіфскія, галоўным жа са Скіфскіх плямёнаў ёсць Славяне, у старажытных празваныя Скіфамі-хвалькамі таму, што з даўніх часоў прывыклі самі сябе хваліць і ўзносіць. Што датычыць уласнага імя Рускага, то, па словах аўтара, рукапісы, якія змяшчаюць у сабе самыя пераканаўчыя доказы старажытнасці гэтага імя, знаходзяцца ў адной вежы вядомага Маўрытанскага палаца, Алямбры, куды аўтар і пасылае жадаючых праверыць яго выказванні.

Не менш дзіўныя высновы рабіў аўтар з аналогій слова «Скальд» (скандынаўскі бард). Ён аднёс яго да кораня «Скіольд», з якога нямецкае «Шыльд», значыць шчыт, а як шчыт ёсць амаль скіт, то ад апошняга да назвы «Скіф», альбо «Славянін» ужо адлегласць усяго ў адну літару. Адсюль вынікае, што і Скандынавы былі Славянамі, а сагі (песні іх Скальдаў) былі паэмамі, непасрэдна ці ўскосна прыналежнымі да гісторыі Славян і варта толькі ўмець угледзець у абедзвюх мовах натуральную роднасць і вызначыць законы двубаковых адступленняў і змены гукаў, каб з дапамогай Славянскай мовы разумець і нават каментаваць Скандынаўскія сагі і наадварот…

Аднак жа да гэтае пары ўсе слухалі цярпліва, здзіўляючыся толькі дзіўным і надзвычай смелым высновам. Толькі для некаторых, хто бліжэй ведаў Сянкоўскага, ад самага пачатку чытання адчувалася ўжо горкая іронія і рабілася зразумела, што ён, трывіяльна кажучы, дурыць шаноўны сход. Мы з К. М. Малкоўскім (цяпер сенатар) стаялі каля адной калоны залы і ў галоўных месцах высноваў аўтара давалі сабе знакі, на сілу стрымліваючы смех.

Але калі ад'юнкт з непарушнай германскай флегмай перайшоў да таго месца, дзе аўтар сцвярджае, што ўся старажытная гісторыя ёсць не што іншае, як Хроніка Славянскага племені, і што летапісцы пераблыталі толькі геаграфічныя дадзеныя і назвы мясцовасцяў; калі сказаў, што кампаніі Кіра праходзілі ў Беларусі і галоўную бітву ён выйграў каля Оршы, што пацвярджаецца гэта, акрамя іншых этымалагічных доказаў, тым, што Напалеон у 1812 г. прызнаў Оршу за важны стратэгічны пункт. Калі гэта было прачытана, то ўжо стрымліваць далей смех стала немагчыма. Першы прыступам гамерычнага рогату азваўся прафесар і дэкан Ігнат Іакінф. Іваноўскі, які важна сядзеў за сталом універсітэцкага савета, а за ім засмяяліся ў зале ўсе, ад чаго зазвінелі нават вокны.

Першым падняўся з месца міністр народнай асветы, за ім паспяшаліся адысці архірэй і іншыя ганаровыя асобы, між тым як немец, сумленна выконваючы свой абавязак, дачытваў да канца свой сшытак, хаця ўжо ніхто не змог пачуць ні слова. Паміж прысутнымі распачаліся спрэчкі і меркаванні: адны казалі, што за такую кроўную крыўду, зробленую цэлай вучонай карпарацыі, трэба аўтара ўзорна пакараць; іншыя, насупраць, сцвярджалі, што гэта немагчыма, бо немагчыма давесці наўмысную містыфікацыю аўтара ў тым, у чым ён і сам не перакананы, — што Кір змагаўся пад Оршай. Скончылася тым, што «дысертацыя» пра старажытнасць Рускага імені не была надрукавана (як гэта рабілася заўсёды) у «Справаздачы аб універсітэцкім акце». Аўтар хацеў змясціць яе ў сваёй «Бібліятэцы для чытання», але цэнзура не дапусціла. Так Восіп Іванавіч Сянкоўскі развітаўся назаўсёды з Пецярбургскім універсітэтам, у якім праслужыў 30 гадоў»[1].

Заснавальнікам навукі туркалогіі стаў на ўсходнім факультэце Пецярбургскага універсітэта прафесар **Антон Восіпавіч Мухлінскі** (1808–1877). Нарадзіўся ён недалёка ад возера Свіцязь, у маёнтку Валеўка Наваградскага павета; сярэднюю адукацыю атрымаў у Маладзечне. Вучыўся (з 1822 г.) у Віленскім універсітэце на факультэце маральна-палітычных навук, у 1827 г. атрымаў тут ступень кандыдата. З 1828 г. Антон Мухлінскі займаўся на ўсходнім фа-

[1] [*Пржецлавский О. А.*] Калейдоскоп воспоминаний Ципринуса (псевдоним). Вып. I. М., 1874. С. 72–77 друг. паг.

культэце Санкт-Пецярбургскага універсітэта. Не забываўся пра радзіму: у часопісе «Веснік Еўропы» быў надрукаваны ў 1830 г. яго артыкул «Святы, забавы, прымхі і забабонныя абрады простага народа ў Навагрудскім павеце Літоўска-Гродзенскай губерні». У 1832 г. на казённую стыпендыю для паглыблення моўных ведаў быў накіраваны на Усход: спачатку ў Стамбул, у 1834 г. — у Егіпет, дзе браў урокі ў вядомых пісьменнікаў, капіяваў (і потым апублікаваў) некалькі важных рукапісаў. Застаўся на ўсходнім факультэце Пецярбургскага універсітэта як звышштатны прафесар і выкладчык арабскай (у 1835—1839 гг.) мовы. Прынамсі ў 1836—1837 навучальным годзе ён практыкаваў слухачоў у перакладзе этымалагічнай часткі «Граматыкі» Ібн-Ферхата, Карана з каментарыям Бейдаві і паэмы «Бурдэ». У 1845 г. Антон Мухлінскі падаў у адстаўку і пераехаў у Варшаву. Чатыры гады працаваў тут у Галоўнай універсітэцкай бібліятэцы. У 1849 г. ён вярнуўся ў Пецярбург на кафедру турэцкай філалогіі. У 1853 г. стаў штатным прафесарам, выкладаў турэцкую мову (да 1863 г.) і (з 1855 г.) гісторыю Турцыі. Сем гадоў (у 1859—1866 гг.) прафесара Мухлінскага выбіралі дэканам усходняга факультэта. Ягоныя публікацыі рэгулярна з'яўляліся ў часопісе Восіпа Сянкоўскага «Бібліятэка для чытання». Але Пецярбург не быў любімым горадам Антона Мухлінскага. Выйшаўшы на пенсію, ён падарожнічаў па Еўропе і Блізкім Усходзе, а стала жыў у Варшаве, дзе і памёр 25 кастрычніка 1877 года[1]. З найбольш вядомых яго твораў — «Асманская хрэстаматыя для універсітэцкага выкладання» (1858—1859), «Слоўнік выказванняў, якія прыйшлі ў нашу мову з усходніх моў» (1858), «Даследаванні літоўскіх татараў» (1857) і інш. Шмат прац засталося ў рукапісах, у тым ліку «Турэцка-рускі слоўнік», «Граматыка турэцкай мовы», «Нарысы па гісторыі Турцыі». Фрагменты гэтых рукапісаў захоўваюцца цяпер у бібліятэцы Віленскага універсітэта.

У раздзеле, які прысвечаны Расійскай Нацыянальнай бібліятэцы, шмат ужо сказана пра санскрытолага Каятана Андрэевіча Касовіча (1814—1883). Яго запрасілі ў 1858 г. выкладаць у Пецярбургскім універсітэце санскрыт, а ў 1859 г. залічылі ў штат універсітэта. У кастрычніку 1869 г. ён выйшаў на пенсію па бібліятэцы, але заставаўся няштатным супрацоўнікам універсітэта і вёў заняткі са студэнтамі.

У мемуарах акадэміка-арабіста Ігната Крачкоўскага цэлы раздзел прысвечаны земляку-беларусу Уладзіміру Гіргасу: «І ў часы майго студэнцтва ў пачатку стагоддзя, і цяпер... выхаванцы універсітэта з пачатку да канца карыстаюцца яго дапаможнікамі. На першым курсе ў нашых руках раней за ўсё аказвалася «Хрэстаматыя для першага курса», якую склалі Гіргас і Розен. На другім курсе з'яўлялася вялікая хрэстаматыя тых жа асоб, далучаўся вялікі слоўнік, што склаў асабіста Гіргас, і яны заставаліся неразлучнымі спадарожнікамі да канца універсітэцкага курса, а для многіх і надалей[2]. На трэцім курсе да звычайных дапаможнікаў далучалася гісторыя IX стагоддзя Абу Ханіфы ад-Дзінаверы, якую выдаў Гіргас, і падручнік мусульманскага права, які ён жа пераклаў з галандскай мовы. Гісторыю арабскай літаратуры да дзяржаўных экзаменаў рыхтавалі мы па яго ж літаграфаваным падручніку». **Уладзімір Хведаравіч Гіргас** нарадзіўся 1 снежня 1835 г. у Гродне. Закончыў 4-ю пецярбургскую гімназію. У 1854—1858 гг. Уладзімір Гіргас вывучаў на ўсходнім факультэце арабскую і турэцкую філалогію. Пасля заканчэння курса ён са ступенню кандыдата вучыўся ў Парыжы (да 1861 г.), а потым да 1864 г. жыў у Сірыі і Егіпце. Пасля вяртання ў 1865 г. атрымаў ступень магістра арабскай славеснасці, абараніўшы дысертацыю «Правы хрысціян на Усходзе па мусульманскіх законах», і зацверджаны штатным дацэнтам па кафедры арабскай славеснасці. З 1873 г. ён — доктар арабскай славеснасці за паспяхова абароненую дысертацыю «Нарыс граматычнай сістэмы арабаў», з 1874 г. — экстраардынарны, з 1878 г. — ардынарны прафесар. Калега Уладзіміра Гіргаса па факультэце барон Розен так успамінаў пра яго: «Ціхі быў чалавек, не любіў і сам пра сябе гаварыць, не любіў і каб іншыя пра яго расказвалі. «Lathe biosas», — вучыў ён мяне словамі Эпікура, «жыві скрытна»... Хворы быў чалавек, шмат хварэў, ведаў, што доўга не працягне, і працаваў ціха, сістэматычна, незаўважна. Так, ціхі быў Уладзімір Хведаравіч, мяккі, саступлівы, аднак толькі да пэўнай мяжы, а далей ніхто яго зрушыць не мог. Усё жыццё працаваў, а як адчуў, што канец падыходзіць, адышоў у бок, ды так жа ціха, далёка ад усіх, памёр. Некаторыя і да гэтай пары дакладнай даты не ведаюць...»[3]. Жыў Уладзімір Гіргас адзін, толькі апошнія гады — разам са сва-

[1] *Крачковский И.Ю.* Очерки по истории русской арабистики. М.-Л., 1950.
[2] Слоўнік Гіргаса перавыдала ў 2006 г. выдавецтва «Динас».
[3] *Крачковский И.Ю.* Над арабскими рукописями. С. 172.

ёй сястрой. Акрамя складання навучальных дапаможнікаў па арабістыцы, важным кавалкам працы Уладзіміра Хведаравіча быў удзел у міжнародным праекце па складанні паказальніка да вялікай арабскай анталогіі пад кіраўніцтвам рымскага прафесара І. Гвідзі.

«Старанна сабраў я ўсё, што мог, — піша І. Крачкоўскі, — для гісторыі мала прадстаўнічай працы яго вучонага жыцця, і толькі праз гэтую працу можна было адчуць яго асобу. Матэрыялаў для абрысоўкі апошняй нехапала: прынцып lathe biosas быў вытрыманы строга. Адна старая фатаграфія выпадкова захавала хваравіты твар беларускага тыпу, са спакойна ўдумлівымі вачамі і невялікай акруглай бародкай. Доўгія валасы гаварылі, што гэта не звычайны прадстаўнік адміністрацыйна-чыноўных прафесій эпохі аляксандраўскіх рэформ»[1]. Уладзімір Гіргас быў звольнены з універсітэта па прашэнні ў 1886 г., у наступным годзе памёр у Кіеве.

Калі ў Пецярбург прыехаў вучыцца на ўсходнім факультэце **Барыс Аляксандравіч Тураеў** (1868 г., Наваградак — 1920 г., Петраград), у горадзе і ваколіцах было шмат архітэктурных помнікаў з матывамі Старажытнага Егіпта. Найбольш уражлівым такім ансамблем была манументальная прыстань каля Акадэміі мастацтваў, пабудаваная ў 1834 г. паводле праекта архітэктара К. Тона. Яе ўпрыгожвалі пастаўленыя на гранітных пастаментах два сапраўдныя егіпецкія сфінксы. Магчыма, сутыкненне з гэтымі старажытнасцямі паўплывала на далейшыя навуковыя зацікаўленні Барыса Тураева. Ён рана страціў бацьку; сярэднюю адукацыю атрымаў у 1-й віленскай гімназіі. Закончыў у 1891 г. усходні факультэт Пецярбургскага універсітэта. Маці з Наваградка пераехала да сына ў Пецярбург. Жылі небагата, але дазвалялі сабе праводзіць лета на дачы ў Мартышкіне. Для падзаробку студэнт Тураеў даваў урокі лацінскай і грэцкай моў, прынамсі ў 1890 г. ён быў рэпетытарам у Мікалая Лоскага, будучага вядомага філосафа, які рыхтаваўся да паступлення ва універсітэт. З 1896 г. Барыс Тураеў пачынае працаваць у якасці прыватдацэнта на ўсходнім факультэце. У 1898 г. ён абараніў магістэрскую дысертацыю па ўсеагульнай гісторыі «Бог Тот. Спробы даследавання ў галіне старажытнаегіпецкай культуры». У Пецярбургу падрыхтаваў і абараніў доктарскую дысертацыю па эфіяпістыцы «Даследаванні ў галіне агіялагічных крыніц гісторыі Эфіопіі». З 1904 г. прызначаны экстраардынарным, а з 1911 г. ардынарным прафесарам.

Галоўная яго праца «Гісторыя Старажытнага Усходу» выйшла ў двух тамах у 1911—1913 гг. у Пецярбургу (другое выданне ў 1936 г.). Найважнейшым для гістарычнага развіцця фактарам Барыс Тураеў лічыў рэлігію і духоўную культуру; сацыяльна-эканамічным адносінам ён пакідаў другое месца. Гісторыя ў яго інтэрпрэтацыі, галоўным чынам, зводзілася да палітычнай, пры гэтым падкрэслівалася значэнне геаграфічных умоў. Надзвычай вялікая роля Тураева ў вывучэнні і публікацыі помнікаў (галоўным чынам, старажытнаегіпецкіх) з расійскіх збораў і калекцый, прынамсі маскоўскіх (у 1912 г. Барыса Тураева прызначаюць захавальнікам багатай егіпецкай калекцыі Музея прыгожых мастацтваў у Маскве). Акадэмік з 1918 г. (член-карэспандэнт АН з 1913 г.), Барыс Тураеў — вучоны вельмі шырокага дыяпазону. Ён аўтар мноства работ па гісторыі Эфіопіі і эфіопскай царквы, займаўся таксама семіталогіяй, асіралогіяй, шумералогіяй, копталогіяй, хеталогіяй, урартазнаўствам і інш.[2]. Меў чын стацкага саветніка, што адпавядала армейскаму падпалкоўніку. Жыў Барыс Аляксандравіч на 2-й лініі Васільеўскага вострава, 3.

Усходазнавец **Абрам Якаўлевіч Гаркавы** нарадзіўся ў сям'і гандляра ў Наваградку 15 лістапада 1835 г. З 1858 г. ён вучыўся ў Віленскім равінскім вучылішчы, пасля заканчэння, у 1863 г., паступіў на факультэт усходніх моў Пецярбургскага універсітэта, закончыў яго са ступенню кандыдата ў 1867 г. Падчас навучання студэнта Гаркавага ўзнагародзілі залатым медалём за сачыненне «Пра мову габрэяў, што жылі ў старыжытныя часы на Русі, і аб славянскіх словах, якія сустракаюцца ў габрэйскіх пісьменнікаў» (выдадзена ў 1865 г. на рускай мове, у 1867 — на іўрыце).

У 1868 г. Абрам Гаркавы абараніў ва універсітэце магістэрскую дысертацыю «Паведамленні мусульманскіх пісьменнікаў пра славянаў і рускіх, з паловы VII да канца X ст.» і ў тым жа годзе атрымаў замежную камандзіроўку з вучонымі мэтамі на два гады. У Берліне і Парыжы займаўся егіпталогіяй і асіралогіяй. Пасля вяртання ў Пецярбург абараніў у 1872 г. дысертацыю на ступень доктара па гісторыі Усходу «Пра першапачатковае абіталішча семітаў, індаеўрапейцаў і хамітаў». Тады ж у якасці прыват-дацэнта яго запрасілі чытаць лекцыі ва універсітэце, але на штатнай пасадзе ён не быў зацверджаны і

[1] *Крачковский И. Ю.* Над арабскими рукописями. С. 177.

[2] Спіс прац Тураева да 1918 г.: "Известия Российской Академии наук", сер. 6, 1918, № 16. С. 1707—1712.

з гэтага часу стаяў у баку ад акадэмічнай кафедры. Толькі пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі ў 1918 г. атрымаў прапанову ад усходняга факультэта заняць кафедру семіталогіі. У 1913 г. патомны дваранін Абрам Гаркавы быў, як і Тураеў, у чыне стацкага саветніка (падпалкоўніка), жыў на Вялікай Пушкарскай вуліцы, 47.

Факультэт усходніх моў Санкт-Пецярбургскага універсітэта скончыў у 1905 г. **Ігнат Юльянавіч Крачкоўскі** (1883–1951). Ён нарадзіўся ў Вільні ў сям'і вядомага гісторыка і віленскага краязнаўцы Юльяна Крачкоўскага, аўтара гістарычных і этнаграфічных працаў, выдаўца гістарычных дакументаў. **Юльян Фаміч Крачкоўскі**, ураджэнец вёскі Азяты Жабінкаўскага раёна, сам нейкі час быў пецярбуржцам — тут ён скончыў у 1861 г. праваслаўную духоўную акадэмію, але сану не прыняў і працаваў у сістэме народнай адукацыі. Маці будучага вучонага паходзіла з сям'і віленскага протаіерэя Антона Пчолкі. Гадаваўся Ігнат Крачкоўскі ў маёнтку Чаркасы Ашмянскага павета: тут да 1915 г. сям'я праводзіла лета. Таленавіты і працавіты юнак застаўся ў Пецярбургу і з 1918 г. быў ужо прафесарам Петраградскага, пазней Ленінградскага, універсітэта[1].

9 лістапада 1921 г. Ігнат Крачкоўскі быў абраны акадэмікам РАН па аддзяленні гістарычных навук і філалогіі (літаратура і гісторыя азіяцкіх народаў), а праз паўгода давялося перасячыся з ведамствам, якое ўзначальваў зямляк Фелікс Дзяржынскі. Вучоны быў арыштаваны ў Петраградзе ў ноч на 20 ліпеня 1922 г. непасрэдна пасля таго, як ён і яго жонка Вера Аляксандраўна (таксама арабіст) адзначылі вечарам дзесяцігоддзе свайго вяселля. Пад раніцу накіраваны ў ГПУ (Гарохавая, 2). Адтуль пераведзены ў ДПЗ (дом папярэдняга зняволення, Шпалерная, 25), сядзеў там спачатку ў адзіночнай камеры, потым у двайніку. Крачкоўскага абвінавацілі ў шпіянажы на карысць Фінляндыі (як галава шпіёнскай арганізацыі). Асобы, якіх прыцягнулі разам з ім, былі расстраляныя. Абвінавачанне пабудавана было на факце знаёмства Крачкоўскіх з адной фінскай сям'ёй у Юкках, у якой яго жонка купляла прадукты і дзе Крачкоўскія меркавалі правесці зімовыя канікулы 1921 г. (хоць гэтыя планы не рэалізавалі). У перыяд следства Ігнату Юльянавічу былі дазволены перапіска і (два разы на тыдзень) перадача хатняй ежы. У камеры дазволена было карыстацца кнігамі.



*Помнік на магіле Ігната Крачкоўскага на Літаратарскіх мастках Волкавых могілак*

Крачкоўскі чытаў матэрыялы па гісторыі ісламу, мусульманскай культуры, вывучаў арабскую філалогію, граматыку егіпецкага дыялекту, напісаў некалькі нататак. Пасля пераводу ў менш строгае аддзяленне ДПЗ яму дазволілі прагулкі і спатканні з жонкай. На працягу ўсяго арышту за яго хадайнічала Расійская АН. Была пастанова аб высылцы Крачкоўскага за мяжу альбо ў Вяцкую губерню: пасля заявы Ігната Юльянавіча і яго жонкі вызначыліся з высылкай у Вятку. Адзін з усходазнаўцаў, гебраіст М. Н. Сакалоў, у лістападзе 1922 г. паехаў у Маскву, пранік, паводле яго слоў, у самае пекла (з кім з высокапастаўленых асобаў меў размову — невядома), і 6 студзеня 1923 г. адбыўся перагляд справы Крачкоўскага. 12 студзеня 1923 г. Крачкоўскі апынуўся на волі.

Галоўны кірунак навуковай дзейнасці Ігната Крачкоўскага — гісторыя арабскай культуры. Яго манаграфія «Арабская геаграфічная літаратура» застаецца лепшай кнігай па гісторыі геаграфічных ведаў у сусветнай арабістыцы. Шмат займаўся прафесар Крачкоўскі і гісторыяй навукі, за кожным даследчыкам бачыў не толькі вырашаныя ці нявырашаныя праблемы навукі, але і асобу: пра кожнага мог сказаць добрае слова, вылучыўшы дасягненні. Найбольшыя

[1] *Долинина А. А.* Невольник долга. СПб., 1994.

здольнасці пісьменніка-біяграфіста Ігната Крачкоўскага выявіліся ў кнігах «Нарысы па гісторыі рускай арабістыкі» і «Над арабскімі рукапісамі». Эпіграфам да апошняй кнігі была ўзята лацінская сентэнцыя «Habent sua fata libelli» — «Кнігі маюць свой лёс». Лёс гэтай працы быў фенаменальна паспяховы. Адно за адным у 1945—1954 гг. выйшлі чатыры перавыданні ў Савецкім Саюзе, таксама нямецкае (1949), польскае (1952), англійскае (1953) і французскае (1954). Тыраж толькі апошняга прыжыццёвага выдання (1948 г.) быў 10 000 экзэмпляраў! Акрамя арабістыкі Ігната Юльянавіча цікавіла Эфіопія. Ён напісаў «Уводзіны ў эфіопскую філалогію» і прадмову да кнігі свайго земляка наваградчаніна Барыса Тураева «Абісінскія хронікі XIV–XVI стст.» (М.-Л., 1936). Быў членам шматлікіх замежных акадэмій: правадзейны член Арабскай АН у Дамаску, Польскай АН, ганаровы член Іранскай акадэміі і Каралеўскага азіяцкага таварыства Вялікабрытаніі і Ірландыі і інш.

На працягу свайго доўгага пецярбургскага — ленінградскага жыцця прафесар Крачкоўскі спачатку кватараваў на Англійскім праспекце, 21, потым на Дзекабрыстаў, 60, пасля на Блахіна, 3 (1911–1912), затым на 7-й лініі Васільеўскага вострава, у «доме акадэмікаў» (да смерці 24.01.1951). З 1929 г. разам з Ігнатам жыла сястра Юлія са сваім мужам, інжынерам-пуцейцам С. К. Снітко. На Беларусі, у бацькавым маёнтку Чаркасы, жыў старэйшы брат Мікалай Юльянавіч: да рэвалюцыі працаваў земскім урачом у Смаргонскім павеце Віленскай губерні, а «пры Польшчы» загадваў бальніцай у Крэве. Памёр ён у 1927 г., так што перад пачаткам жорсткіх рэпрэсій у Леінградзе 1936–1938 гг. у Ігната Крачкоўскага блізкіх сваякоў за мяжой ужо не было. Багаты ўласны кнігазбор Ігната Юльянавіча перайшоў у Расійскую Нацыянальную бібліятэку і да нашага часу захоўваецца тут як асобны комплекс.

З вучняў І. Крачкоўскага вялікіх поспехаў дасягнуў арабіст **Уладзімір Паўлавіч Дзямідчык** (нар. у 1930 г. у Барысаве Мінскай вобласці, скончыў усходні факультэт Ленінградскага універсітэта, памёр у 1977 г. у Душанбе). Уладзімір Дзямідчык напісаў падручнік арабскай мовы і нарыс сучаснай арабскай літаратуры, выкладаў у Багдадскім, Дамаскім, Аманскім (у Іарданіі) і Душанбінскім (Сталінабадскім) універсітэтах. Галоўная яго кніга «Свет цудаў у арабскай літаратуры XIII–XIV стст.: Закарыйа аль-Казвіні і жанр мірабіляў» выйшла ў Маскве ў 2004 г., ужо пасля смерці аўтара.

У 1872 г. у маёнтку Осава Лідскага павета нарадзіўся яшчэ адзін усходазнавец, у будучым прыват-дацэнт (з 1900 г.) універсітэта, **Уладзіслаў Людвігавіч Котвіч**. Ён закончыў 2-ю віленскую гімназію, потым усходні факультэт Санкт-Пецярбургскага універсітэта. З 1896 г. Уладзіслаў Котвіч служыў у агульнай канцылярыі міністра фінансаў па ўсходнім аддзяленні. Асобнымі выданнямі ў Пецярбургу выйшлі яго кнігі «Лекцыі па граматыцы мангольскай мовы» (1902), «Калмыцкія загадкі і прымаўкі» (1905), «Кароткі агляд гісторыі і сучаснага становішча Манголіі» (1914).

Традыцыі ўсходазнаўцаў — выхадцаў з Беларусі працягваліся ў Ленінградзе і пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. У 1925 г. этнолага-лінгвістычнае аддзяленне Ленінградскага універсітэта закончыў ураджэнец Хоцімска (Клімавіцкі павет Магілёўскай губерні) **Ісак Натанавіч Віннікаў** (1897–1973). З 1929 г. ён працаваў у Інстытуце этнаграфіі АН СССР, узначальваў яго у 1941–1942 гг. У 1945–1949 гг. Ісак Віннікаў быў загадчыкам кафедры асірыялогіі і гебраістыкі ў Ленінградскім універсітэце, працаваў у Ленінградскім аддзяленні Інстытута ўсходазнаўства АН СССР. Склаў слоўнік арамейскіх надпісаў з IX ст. да н.э., слоўнік-канкарданцыю палесцінска-арамейскай мовы. Жыў і працаваў у Ленінградзе **Іосіф Давыдавіч Амусін** (1910–1984), адзін з заснавальнікаў кумраназнаўства, даследчык біблійных рукапісаў. Іосіф Амусін стаў адным з першых у СССР прафесійных гісторыкаў, хто зыходзіў з гістарычнасці Ісуса Хрыста. Нарадзіўся гэты знакаміты ўсходазнавец у Віцебску. У канцы 2007 г. на ўсходнім факультэце Санкт-Пецярбургскага універсітэта абараніў кандыдацкую дысертацыю па егіпталогіі **Андрэй Мікалаевіч Нікалаеў** (нарадзіўся ў Ленінградзе ў 1981 г.) — пецярбургскі беларус у другім пакаленні, продкі якога паходзяць з Наваградчыны.

Далёка не ўсе выпускнікі ўсходняга факультэта прысвяцілі сябе заняткам па абранай спецыяльнасці. Як прыклад можна прывесці Ніну Міхайлаўну Барадзіну (Сакалову), якая скончыла універсітэт у 1949 г. па кафедры цюркалогіі. Працавала настаўніцай, пасяліўшыся ў Мінску, яна стала не толькі ўдзельнікам (пазней і адміністратарам) хору «Спадчына» пры Палацы прафсаюзаў, але і кампазітарам. У 2005 г., калі Ніну Міхайлаўну віталі з 80-годдзем, хор «Спадчына» і салісты ансамбля «Неруш» выканалі праграму з напісаных ёю песень.

# Раздзел 9.

## СТАЛІЧНАЯ ШКОЛА: ВУЧНІ І НАСТАЎНІКІ

У шэрагу беларусаў, якія прыехалі ў сталіцу рабіць кар'еру, было дастаткова добрых педагогаў-выкладчыкаў. Сярод іх аўтар арыгінальнага спосабу запамінання гістарычных дат і слоў замежных моваў **Аляксандр Язвінскі** (1789—1870). Пачатковую адукацыю ён атрымаў у Полацку, вышэйшую — у Вільні. У Пецярбургу ён жыў у 1837—1845 гг., меў тут шмат вучняў і паслядоўнікаў свайго мнематэхнічнага метаду. Сутнасць метаду заключалася ў прымяненні табліц — квадратаў на сто палёў, як у табліцы множання. Кожная клетка азначала год, асобныя стагоддзі мелі такія назвы, як «век Атылы», «век Саладзіна», «век Тамерлана». У паасобных квадрацiках былі размешчаны выявы. Свае працы Язвінскі выдаваў на польскай і французскай мовах, шмат займаўся выкладаннем, арганізуючы курсы вывучэння гісторыі пры дапамозе сваёй методыкі[1].

У Кранштаце з 1867 г. працаваў настаўнікам геаграфіі і выхавацелем у пансіёне мясцовай гімназіі **Авіт Факундзевіч Барздынскі** (1838—1872), які паходзіў са шляхты Барысаўскага павета Мінскай губерні. Адукацыю ён атрымаў у Мінскай гімназіі і універсітэце Св. Уладзіміра ў Кіеве, пасля працы ў гімназіях Петразаводска і Кранштата вярнуўся на Беларусь. Цікавай асобай у Пецярбургу 1860-х гг. быў мінскі шляхціч **Юліян Рахнеўскі** (1824—1887). Пасля заканчэння гімназіі ў Мінску (1843) і юрыдычнага факультэта Маскоўскага універсітэта (1848) ён выкладаў расійскае права ў Гродзенскай гімназіі. У 1853 г. пераехаў у Пецярбург, працаваў выкладчыкам права, статыстыкі і геаграфіі ў Будаўнічай школе. З 1862 г. загадваў рэдакцыяй лістоў у «Часопісе Міністэрства народнай асветы», даследаваў тэорыю і гісторыю педагагічнай думкі. У 1866 г. Юліян Рахнеўскі падаў у адстаўку, каб заняцца больш прыбытковай працай у гандлёвым судзе Пецярбурга, аднак праз шэсць гадоў спыніў сваю юрыдычную практыку. Сярод разнастайных друкаваных прац Юльяна Рахнеўскага — «Навучальныя ўстановы Літвы да яе далучэння да Расіі» (СПб., 1880), «Імператарская Публічная бібліятэка ў перыяд пераходу да Міністэрства народнай асветы» (СПб., 1863), а таксама даследаванне пра прыходна-расходныя кнігі XVII—XVIII стст. з Драгічына і Харошчы (Известия РГО: 1859, N 1).

Як аўтар азбукі («Брацкае слова»), па якой вучыліся чытаць некалькі пакаленняў дзяцей, а таксама шматлікіх падручнікаў для пачатковай і сярэдняй школы і папулярных кніг праславіўся пецярбургскі беларус **Феафіл Феафілавіч Пуцыковіч** (1846—1899), ураджэнец маёнтка Мiраніма Слонімскага павету Гродзенскай губерні. Пасля заканчэння духоўнай семінарыі ў Вільні ён два гады правучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага універсіта, але не маючы грошай плаціць за навуку, пайшоў на выкладчыцкую працу ў Санкт-Пецярбургскае Раждзественскае вучылішча. З напісаных ім дапаможнікаў для дзяцей найбольшы поспех мела кніга «Кругом нас. Элементарныя звесткі пра светабудову», якая вытрымала 13 выданняў. Старэйшы брат Феафіла, **Віктар Феафілавіч Пуцыковіч** (1843—1920) стаў на нейкі час папулярным пецярбургскім журналістам і выдаўцом, супрацоўнічаў з Ф. Дастаеўскім у газеце «Грамадзянін», потым (з 1872 да 1897 г.) быў выдаўцом і рэдактарам гэтай газеты. Пасля закрыцця газеты за даўгі, ён уцёк у Берлін і ў Пецярбургу больш не з'явіўся.

На педагагічнай ніве ў Пецярбургу праславіўся ураджэнец Аршанскага павета (вёска Асінаўка) **Зміцер Змітравіч Сямёнаў** (1835—1902). Ён закончыў Віцебскую двухгадовую ланкастэрскую школу, а потым — Віцебскую гімназію (1844—1852). Пасля заканчэння гімназіі паспяхова вытрымаў экзамен на званне настаўніка павятовых вучылішчаў і стаў працаваць спачатку ў яўрэйскім чатырохкласным вучылішчы, пазней выкладчыкам у віцебскім яўрэйскім гандлёва-прамысловым вучылішчы. У 1857 г. Зміцер Сямёнаў быў запрошаны настаўнікам геаграфіі і гісторыі ў 1-ю пецярбургскую гімназію, у 1859 г. пачаў выкладаць у першым у Расіі вучылішчы для жанчын — Марыінскім (з 1862 г. — гімназія). Адначасова працаваў у Таўрычаскай школе, якая рыхтавала настаўнікаў для народных школ, а з 1860 г. — у Смольным інстытуце. У 1865 г. Вышэйшыя педагагічныя курсы пры ваеннай гімназіі камандзіравалі яго ў Германію і Швейцарыю для вывучэння сістэмы выкладання школьных прадметаў у навучальных установах розных тыпаў. Пасля вяртання Сямёнаў працаваў дырэктарам Кубанскай і Закаўказскай настаўніцкіх семінарый. З 1883 г. ён зноў у Пецярбургу, працаваў экспертам гарадскіх школ.

[1] Русский биографический словарь. Т. 25. Петербург, 1913. С. 31—32.

Знакамітым пецярбургскім педагогам стаў ураджэнец сядзібы Ізабэлін Наваградскага павета **Аляксандр Адольфавіч Турчыновіч** (1870 – пасля 1929). Пасля сканчэння Гродзенскай гімназіі (1889) і Пецярбургскага гісторыка-філалагічнага інстытута (1893) ён выкладаў старажытныя мовы і ўсеагульную гісторыю ў навучальных установах Магілёва, Вільні, Гродна. Быў ініцыятарам вучнёўскіх адукацыйных экскурсій па краіне, напісаў два дапаможнікі па арганізацыі экскурсій. У 1912 годзе пераехаў у Пецярбург. Працаваў настаўнікам 6-й гарадской гімназіі наследніка цэсарэвіча Аляксея Мікалаевіча. Тут выйшлі яго падручнік «Паладыум» па рымскіх старажытнасцях і літаратуры (3-е выданне: СПб., 1913) і граматыцы лацінскай мовы (Пг., 1917). Апошняя друкаваная праца Аляксандра Турчыновіча выйшла ў Ленінградзе ў 1929 г. — гэта паказальнік артыкулаў, надрукаваных ў часопісе «Поверочное дело» за 1916–1928 гг. Магчыма, што заказ на працу зрабіў зямляк-гродзенец Аляксандр Мікалаевіч Дабрахотаў, які быў у гэты час (1922–1929) дырэктарам ленінградскага Праверачнага інстытута.

## Горны інстытут

Горнае вучылішча, якое было заснавана ў Пецярбургу для падрыхтоўкі горных інжынераў і металургаў у 1804 г., было пераўтворана ў Горны кадэцкі корпус, у якім узмацнілі агульнаадукацыйную падрыхтоўку, давёўшы яе да універсітэцкага ўзроўню. У 1806–1811 г. спецыяльна для Корпуса паводле праекта архітэктара А. Вараніхіна быў узведзены будынак на Васільеўскім востраве, на рагу набярэжнай Нявы і 21-й лініі. Абапал лесвіцы, якая вядзе да порціка, былі пастаўлены скульптурныя групы «Геркулес, які душыць Антэя» і «Выкраданне Празерпіны Плутонам» — работа каменячоса Суханава паводле мадэляў скульптараў Дэмут-Маліноўскага і Піменава.




*Горны інстытут. Паштоўка XIX ст.*

У 1817 г. пры Горным корпусе было арганізавана першае ў Расіі навукова-тэхнічнае таварыства — мінералагічнае, якое ўзначаліў акадэмік В. Севергін, аўтар падарожных запісак пра Беларусь. У 1833 г. Горны кадэцкі корпус быў перайменаваны ў Горны інстытут, а потым у Інстытут корпуса горных інжынераў. Пры інстытуце дзейнічаў музей, дзе можна было пабачыць макет рудніка, калекцыю мінералаў, рэдкіх залатых самародкаў, акамянеласцяў. Плата за курс навучання складала 60 рублёў за год. У бібліятэцы Горнага інстытута ў 1837–1841 гг. працаваў **Тамаш Зан** (1796–1855), які нарадзіўся ў маёнтку Мясота Вілейскага павета Мінскай губерні. Зан скончыў фізіка-матэматычны факультэт Віленскага універсітэта (1820), падчас навучання быў адным з кіраўнікоў тайных студэнцкіх арганізацый філаматаў і філарэтаў, за што быў сасланы ў 1824 г. у Арэнбург; амніставаны ў 1837 г. У 1841 г. ён з'ехаў са сталіцы і пасяліўся ў маёнтку Кахачын каля Оршы, дзе і памёр.

Сярод дырэктараў (так называўся тут рэктар) Горнага інстытута быў адзін беларус — **Іван Пятровіч Доўбня** (1853–1912). Ён нарадзіўся ў сям'і беднага унтэр-афіцэра ў Пінску, у 14 гадоў скончыў Пінскую гімназію, некалькі гадоў працаваў валасным пісарам. У 1870 г. бліскуча здаў экзамены ў Горны інстытут, атрымаўшы адзіную для прэтэндэнтаў-выдатнікаў стыпендыю. Закончыўшы (у 1875 г.) інстытут, Іван Доўбня працаваў на педагагічных курсах пры 2-й санкт-пецярбургскай ваеннай гімназіі, выкладаў матэматыку ў Арэнбургу і Ніжнім Ноўгарадзе. Яго навуковыя працы ўжо з 1888 г. друкавалі рускія і французскія часопісы. Пасля скону збор яго твораў быў выдадзены ў Парыжы. Абарона дысертацыі на тэму «Доследы па тэорыі абелевых інтэгралаў» дала званне экстраардынарнага прафесара і магчымасць заняць кафедру вышэйшай матэматыкі Горнага інстытута. Вучоны імкнуўся распрацоўваць метады на вялікай колькасці прыкладаў, кожны з якіх прадстаўляе каштоўны навуковы факт. Акрамя вялікай колькасці прац у галіне матэматычнага аналізу і алгебры, Доўбні належаць каля 30 артыкулаў па элементарнай матэматыцы, якія зрабілі яго вядомым як у Расіі, так і за мяжой, а ў 1898 г. сталі падставай для прызначэння ардынарным прафесарам. Акрамя таго, ён быў сакратаром расійскага Таварыства садзеяння фізічнаму развіццю, супрацоўнікам Біялагічнай лабараторыі Санкт-Пецярбурга. У 1910 г. саветам Горнага інстытута Іван Пятровіч Доўбня прызначаны

выконваць абавязкі дырэктара, а ў наступным годзе зацверджаны дырэктарам. Гэтага чалавека вызначалі, як сведчаць сучаснікі, шырыня поглядаў, цікавасць да іншых навук, расійскай і замежнай літаратуры. Жыў ён на Мікалаеўскай набярэжнай, 45—2.

У геалагічных і гідратэхнічных работах на Каўказе, у Калмыкіі і Кіргізіі ўдзельнічаў выпускнік санкт-пецярбургскага Горнага інстытута **Ігнат Харашэўскі** (1845—1901). Ураджэнец Віленскай губерні і выпускнік Віленскай гімназіі, ён урэшце асеў на Беларусі.

У Гайлянцах на Віленшчыне нарадзіўся славуты ў будучым геолаг **Стэфан Чарноцкі** (1878—1947). Пецярбургскі Горны інстытут ён скончыў ў 1906 г. Шмат працы прысвяціў геалогіі нафты ў ваколіцах Баку, на захадзе Туркменіі. Выконваў інжынерна-геалагічныя работы для будаўніцтва чыгункі Туапсэ — Сухумі ўздоўж узбярэжжа Чорнага мора. Кніга Чарноцкага «Будаўнічыя матэрыялы Каўказа» выйшла ў Петраградзе ў 1924 г. ужо пасля таго, як ён выехаў (у 1922 г.) у Польшчу і заняў пасаду віцэ-дырэктара Геалагічнага інстытута ў Кракаве. З 1938 г. Стэфан Чарноцкі загадваў кафедрай практычнай геалогіі Кракаўскай горнай акадэміі. Падчас гітлераўскай акупацыі быў зняволены ў лагеры Заксенхаўзэн. Пасля вайны акрамя навуковых прац ён напісаў успаміны пра свайго земляка і калегу-геолага Карла Багдановіча. Да скону быў прэзідэнтам Польскага геаграфічнага таварыства. Пахаваны ў Кракаве.

Да карэнных пецярбуржцаў належыць знакаміты геолаг **Генрых Отавіч Чачот** (1875—1928). Нарадзіўся ён у сям'і выхадцаў з Беларусі, у Пецярбургу закончыў гімназію, а ў 1900 г. — Горны інстытут. Зрабіў шэраг падарожжаў па краінах Еўропы і Паўночнай Амерыкі для вывучэння горніцтва ў навучальных установах і на рудніках. У 1909—1912 гг. адкрыў залатаносныя радовішчы ў гарах Алтая, раёнах Сяміпалацінска і Ферганы. З 1910 г. Генрых Чачот загадваў кафедрай абагачэння карысных выкапняў Горнага інстытута. У 1914 г. разам з жонкай Ганнай ён падарожнічаў па Паўночнай Амерыцы. Наведаў руднікі Пенсільваніі, Мантаны, Каліфорніі і Аляскі, старыя гарняцкія пасёлкі Кландайка ў Канадзе. Першая сусветная вайна прымусіла вярнуцца ў Пецярбург. Адным з істотных вынікаў экспедыцыі стала багатая калекцыя арктычнай флоры, якую сабрала батанік Ганна Чачот. Самыя цяжкія дні рэвалюцыі і разрухі ў Петраградзе працаваў дэканам горнага факультэта (1917—1922). У 1918 г. Чачот стварыў кааператыў «Тэхнічная дапамога», які ў наступным годзе быў нацыяналізаваны і паводле яго прапановы ператвораны ў Інстытут механічнай апрацоўкі карысных выкапняў — «Механобр». Захапляўся Генрых Отавіч музыкай і маляваннем. У 1922 г. ён пераехаў у Польшчу, дзе шмат зрабіў для развіцця Горнай акадэміі ў Кракаве. Падарожнічаў у Малой Азіі, дзе цікавіўся старымі руднікамі часоў Рымскай імперыі[1]. Пахаваны Генрых Чачот у Варшаве.

Пасля заканчэння (у 1876 г.) Горнага інстытута 5 гадоў працаваў у Горным дэпартаменце беларус **Станіслаў Канткевіч** (1849—1924). Быў правадзейным членам Пецярбургскага мінералагічнага таварыства. Праводзіў геалагічныя доследы на Паўднёвым Урале, у ваколіцах Анежскага возера і ў Крыварожскім басейне. Па даручэнні Горнага дэпартамента Канткевіч вывучыў радовішча шунгіта ў Карэліі.

Выдатны геолаг і географ вандроўнік **Карл Іванавіч Багдановіч** (1864—1947) нарадзіўся ў маёнтку Люцын Віцебскай губерні. У 1881—1886 гг. вучыўся ў Горным інстытуце, пасля заканчэння да 1901 г. працаваў у Горным дэпартаменце. Пасля 1902 г. перайшоў на працу у Геалагічны камітэт Расіі і стаў прафесарам геалогіі Горнага інстытута (да 1919 г.). Для будучага будаўніцтва Закаспійскай чыгункі Карл Багдановіч у 1886—1888 гг. правёў экспедыцыйныя доследы Закаспійскага краю і склаў тапаграфічныя карты гэтай мясцовасці. Пазней у складзе Тыбецкай экспедыцыі РГТ наведаў Цянь-Шань і горы Паміра — мясцовасць, дзе да яго быў толькі Мікалай Пржэвальскі. У 1892 г. ён узначаліў экспедыцыю Геалагічнага камітэта Расіі ва Усходнюю Сібір для пошукаў месца будучай Транссібірскай чыгункі. Важнае значэнне і вялікія практычныя вынікі былі ад экспедыцый Багдановіча на Далёкі Усход (Камчатка, Чукотка, узбярэжжа Ахоцкага і Японскага мораў) у 1895—1900 гг. Ён знайшоў у рэгіёне значныя радовішчы золата, склаў геалагічную карту рэгіёна. Жыў Карл Іванавіч на Васільеўскім востраве, 21-я лінія, 2. У 1920 г. выехаў у Польшчу. Быў дырэктарам Горнай акадэміі ў Кракаве, заснаваў Польскае геаграфічнае таварыства, акупацыю перажыў у Варшаве[2].

---

[1] *Ермоленко В. А.* Горные инженеры Беларуси питомцы Санкт-Петербургского Горного института. Минск, 1998. С. 27—28.

[2] *Ермоленко В. А.* Горные инженеры Беларуси... С. 7—14.

З Горным інстытутам быў звязаны лёс рэвалюцыянера **Андрэя Радзішэўскага** (1886–1934). Ён нарадзіўся ў Гродне, у сям'і ляснічага і хатняй настаўніцы, закончыў Гродзенскую гімназію. Вучыўся ў Горным інстытуце, але быў у 1910 г. выключаны за ўдзел у акцыях пратэсту студэнтаў. У 1911–1914 гг. вучыўся ў Горным інстытуце ў Фрайбургу (Германія). Закончыўшы яго, вярнуўся ў Пецярбург (1914), працаваў інжынерам. Радзішэўскі актыўна ўдзельнічаў у Кастрычніцкай рэвалюцыі, у 1918–1921 гг. працаваў у Маскве рэдактарам часопіса «Экономическая жизнь», загадчыкам эканамічнага аддзела газеты «Известия». Як эксперт удзельнічаў у Рыжскай канферэнцыі 1921 г. З 1921 г. у Ленінградзе. У 1925–1928 гг. узначальваў Інстытут эканамічных даследаванняў, рэдагаваў газету «Ленінградская праўда». У 1928–1931 гг. Андрэй Радзішэўскі — прафесар Ленінградскага горнага інстытута. У 1933 г. яго накіравалі ў Якуцію на пасады старшыні Навукова-тэхнічнай рады пры СНК і намесніка старшыні Дзяржплана Якуцкай АССР. Камуніст Радзішэўскі ўвайшоў у склад Якуцкага абкама ВКП(б). Гэты неардынарны чалавек з'яўляецца аўтарам каля 100 навуковых, навукова-папулярных, грамадска-палітычных і мастацкіх прац на рускай і польскай мовах. Сярод іх кнігі «Польшча і яе эканамічныя рэсурсы» (П., 1920, на рускай), «Кастрычніцкая рэвалюцыя і каталіцкі касцёл» (Л., 1924, на польскай), «Белы тэрор у Польшчы» (Л., 1925, на рускай).

Нават не цяжкая доля — трагічны лёс. Так можна характарызаваць біяграфію беларуса ўраджэнца Беластока **Уладзіміра Кляменцьевіча Катульскага** (1879–1951). Горны інстытут ён закончыў у 1903 г. З 1907 да 1915 г. тут жа выкладаў, загадваў кафедрай карысных выкапняў. Адначасова быў памочнікам начальніка Ленскай геалагічнай партыі. Жыў у Пецярбургу на Аляксандраўскім праспекце, 21. У 1921 г. мы знаходзім яго на пасадзе віцэ-дырэктара Геалагічнага камітэта, а ў 1929 г. — дырэктара Інстытута каляровых металаў і золата. Уладзімір Катульскі праводзіў разведкі на розныя рудныя выкапні на Урале і Каўказе, надрукаваў навуковыя працы па праблемах геалогіі і залатаноснасці Прыбайкалля, металагеніі Алтая, Цэнтральнага Казахстана, Нарыльскага раёна і Манчагорскай тундры. Спрыяў укараненню геафізічных метадаў у працы па пошуку рудных карысных выкапняў. Арганізаваў на Іжорскім заводзе вытворчасць буравых станкоў. Паколькі ў перыяд грамадзянскай вайны ў Расіі Уладзімір Катульскі знаходзіўся ў Томску, дзе быў дырэктарам Сібірскага геалагічнага камітэта, які фінансаваўся калчакаўскім урадам, яго ў 1930 г. арыштавалі і асудзілі на 10 гадоў пазбаўлення волі. Таленавітага геолага саслалі на Кольскі паўвостраў, дзе ён працаваў начальнікам Асобнага геалагічнага бюро, кансультантам трэстаў «Апатыт» і «Североникель». У 1935 г. Катульскі адкрыў на Кольскім паўвостраве буйное радовішча медна-нікелевых рудаў — Манчагорскае. Вызвалены без права пражывання ў вялікіх гарадах. У гады Другой сусветнай вайны Уладзімір Кляменцьевіч працаваў начальнікам навукова-даследчыцкага сектара геалагічнага аддзела пры Нарыльскім горна-металургічным камбінаце. Пры гэтым зрабіў вялікі ўклад у стварэнне цэха электролізa нікеля на металургічным заводзе (1943) і арганізацыі яго працы ў мэтах абароны. Пасля вяртання ў Ленінград (1944 г.) Катульскі атрымаў вучоную ступень доктара геолага-мінералагічных навук і званне прафесара, працаваў у інстытуце «Гіпранікель». Праз пяць гадоў У. Катульскага ізноў арыштавалі — на гэты раз па так званай Краснаярскай справе (1949) і асудзілі ў 1950 г. на 25 гадоў лагераў. Прафесару быў 71 год. У маі 1954 г. Уладзімір Катульскі быў рэабілітаваны[1].

Сярод дарэвалюцыйных выпускнікоў Горнага інстытута вылучаецца постаць **Мікалая Фёдаравіча Бліадухі** (1878–1935). Нарадзіўся ён у Ігумене (цяпер Чэрвень), закончыў Дзвінскае рэальнае вучылішча і ў 1903 г. — Горны інстытут. У 1903–1907 гг. Мікалай Бліадуха праводзіў экспедыцыі ў раёне Хінгана, потым займаўся апрацоўкай матэрыялаў у Геалагічным камітэце ў Пецярбургу. У 1911 г. пераехаў у Томск, а пасля 1922 г. працаваў у Мінску: з 1923 г. узначальваў кафедру геалогіі БДУ. У 1927 г. ён стаў заснавальнікам і першым дырэктарам (да сваёй смерці) Інстытута геалогіі і гідрагеалогіі АН БССР.

Горны інстытут закончыў выдатны чалавек і адданы беларускай справе палітык **Клаўдзій Дуж-Душэўскі** (1891–1959), родам з Глыбокага. У 1925 г. у кнігарнях Лондана з'явілася кніга Аляксандра Скота «Beyond the Baltic», што стала сапраўдным бестселерам таго часу. У дваццаць восьмым раздзеле аўтар

[1] *Нехорошев В. П.* Владимир Клементьевич Котульский // Выдающиеся отечественные геологи: Очерк по истории геологических знаний. Вып. 19. Л., 1978.

расказвае пра сустрэчу і знаёмства з Клаўдзіем Дуж-Душэўскім. Значная частка раздзелу прысвечана аповеду К. Дуж-Душэўскага пра метады нацыянальна-культурнай працы, якія ён сфармаваў у Пецярбургу: «Спадар Дуж-Душэўскі — горны інжынэр, ён быў выкладчыкам у Горнай Школе Петраграду. У сучасны момант ён аддае сябе прапагандзе Беларусі. Ён не прымае рэвалюцыйных мэтадаў. Ён верыць у тое, што калі яны будуць настойліва працягваць культурнае разьвіцьцё, ствараць сваю інтэлігенцыю й пашыраць выкарыстаньне нацыянальнай мовы ва ўсіх сфэрах ужытку, новая нацыя паступова знойдзе сродак стымуляцыі самапазнаньня. Ён надрукаваў свой падручнік па батаніцы. Ён таксама падрыхтаваў апісаньне й манумэнтальную гісторыю Беларусі, якую яшчэ пакуль ня змог выдаць. Ён паказаў мне манускрыпт, які таксама насычаны зьвесткамі па этналёгіі...»[1].

## Тэхналагічны інстытут



*Тэхналагічны інстытут*

У 1828 г., па ініцыятыве міністра фінансаў Я. Канкрына, было вырашана заснаваць у Пецярбургу тэхнічную навучальную ўстанову — Тэхналагічны інстытут, першапачаткова названы «практычным», што павінна было сведчыць пра яго скіраванасць на падрыхтоўку неабходных для вытворчасці майстроў-тэхнолагаў і механікаў, якія былі б арыентаваныя на практычную працу. У 1831 г. закончылі пабудову галоўнага будынка для інстытута (архітэктары А. Поснікаў і Э. Анерт) і, акрамя таго, на Маскоўскім праспекце, 26, паставілі шэраг будынкаў для майстэрняў і падсобных памяшканняў. У кастрычніку 1831 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё. Арганізатарам сістэмы выкладання ў інстытуце стаў хімік-тэхнолаг акадэмік Герман Гес. У вучэбны план былі ўключаны як прадметы агульнатэхнічныя (матэматыка, фізіка, хімія, начартальная геаметрыя, механіка і іншыя), так і спецыяльныя прадметы (хімічная тэхналогія, тэхналогія валакністых рэчываў, мукамольства і інш.). Курс навучання ў інстытуце працягваўся 5 гадоў, аплата складала 50 рублёў на год (па паўгоддзях). Пасля чатырох гадоў навучання выпускнік атрымліваў дыплом «тэхнолага 1-га разраду», пасля гэтага можна было застацца яшчэ на адзін год для падрыхтоўкі дысертацыі «па якім-небудзь тэхнічным пытанні, якое мае важнае значэнне ў прамысловасці». Асноўныя палажэнні гэтай дысертацыі абараняліся перад Вучоным саветам (у тэхналожцы ён называўся «Навучальны камітэт інстытута»), пасля чаго спаборніку надавалася кваліфікацыя «інжынер-тэхнолаг» альбо «інжынер-механік». Інжынеры-выпускнікі выходзілі ў свет разнастайна адукаванымі не толькі тэхнічна. Інстытут не забіваў грамадска-палітычную актыўнасць студэнта, наадварот, акадэмічнае асяроддзе вучыла выяўляць сваю пазіцыю і адстойваць яе. Пра характар студэнцкага жыцця ў інстытуце ўспамінаў Э. Вайніловіч: «...паступіў у Тэхналагічны інстытут у Пецярбургу. Тут сабралася моладзь, якая разрывала з усімі прывілеямі, настроеная дэмакратычна, а нават і сацыялістычна. Гэта таксама было прычынай, што любыя тагачасныя выпадкі і палітычныя падзеі знаходзілі водгук ва ўстанове ці нават і паходзілі адтуль... Прапаведавалі... тэорыю, якая не давала магчымасці пагадзіцца з традыцыямі, што былі вынесены з бацькоўскага дому, але мела гэта і добры бок, што з тым новым кірункам пачаў я засвойваць, у некаторых выпадках прызнаваць іх слушнасць, і ва ўсякім разе навучыўся я ўсіх людзей лічыць за роўных сабе»[2]. У Тэхналагічным інстытуце з 1841 г. выкладаў статыстыку ўраджэнец Рэчыцкага павета Мінскай губерні **Іван (Ян Фердынанд) Ястржэмбскі** (1814 — пасля 1883). З восені 1848 г. ён стаў членам рэвалюцыйнага гуртка М. Петрашэўскага, у гэтым жа годзе быў арыштаваны і зняволены ў Петрапаўлаўскую крэпасць. 3 студзеня 1850 г. яго прыгаварылі да смяротнай кары, але ў той жа дзень на Сямёнаўскім пляцы (зараз Піянерская плошча) гэтае пакаранне было заменена на 6 гадоў катаргі[3].

Значным укладам у беларускую культуру стала дзейнасць студэнта-тэхнолага паэ-

[1] *Юрэвіч Л.* «Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі». Мінск, 2005.
[2] *Woiniłłowicz E.* Wspomnienia. Wilno, 1930. S. 78.
[3] *Ястржембский И.* Мемуар Петрашевца // Минувшие годы. 1908. № 1.

та **Адама Гурыновіча** (1869–1894). Сын заможнага землеўладальніка з Мінскай губерні, А. Гурыновіч у 1887 г. стаў студэнтам Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута. Яго жыццёвы і творчы шлях быў надзвычай кароткі і трагічны. Пра дзейнасць Адама Гурыновіча сведчыць толькі частка пасмяротна апублікаваных вершаў (большасць з іх напісана па-беларуску ў студэнцкія часы), сабраныя ім фальклорныя матэрыялы ды жандарская перапіска пра яго арышт і пратаколы допытаў. Рыгор Семашкевіч меў рацыю, калі сцвярджаў, што для непасрэднага абуджэння самасвядомасці беларускага народа пасля Вільні вялікія ідэйныя ўрокі даў Пецярбург з яго свядомай студэнцкай атмасферай, з пачаткам удзелу Гурыновіча ў падпольнай дзейнасці. Менавіта ў Пецярбургу пасля знаёмства з кніжкай вершаў Францішка Багушэвіча студэнт-тэхнолаг Адам Гурыновіч напісаў:

Дзякуй табе, браце, Бурачок Мацею,
За тое, што ў сэрцы збудзіў ты надзею.
Што між братоў нашых знаходзяцца людзі
З кахаючым сэрцам і баляшчай грудзяй.

Дзякуй табе, браце, і за тыя словы,
Што ўспомнілі звукі нашай роднай мовы.

16 чэрвеня 1893 г. Адам Гурыновіч быў арыштаваны, спачатку змешчаны ў дом папярэдняга зняволення, а пасля ў Петрапаўлаўскую крэпасць. На абвінавачванні ў распаўсюджванні сацыялістычных выданняў ён адказваў: «Падставай для такога роду дзеянняў было жаданне падрыхтаваць народ да змены ў будучым эканамічнага і сацыяльнага ладу, якая павінна ажыццявіцца гістарычным шляхам»[1]. Пасля допытаў, недзе ў канцы 1893 г. (пасля шасці месяцаў зняволення), малады чалавек быў высланы пад нагляд паліцыі на радзіму, у маёнтак бацькі, дзе заўчасна памёр ад чорнай воспы.

Адным з выдатных прафесараў Тэхналагічнага інстытута быў беларус **Іпаліт Антонавіч Яўневіч** (1831–1903). Ён нарадзіўся ў Сенненскім павеце ў шляхецкай сям'і, якая выйшла з-пад Рэчыцы. Вучыўся ў Аршанскім павятовым вучылішчы, Магілёўскай гімназіі. У 1856 г. скончыў фізіка-матэматычны факультэт Пецярбургскага універсітэта. У тым жа годзе запрошаны ў Пецярбургскі тэхналагічны інстытут для выкладання матэматыкі і механікі. У 1868 г. ён атрымаў ступень магістра прыкладной матэматыкі і быў зацверджаны ў званні прафесара. Навуковыя даследаванні І. Яўневіча прысвечаны пытанням супраціўлення матэрыялаў, тэорыі пругкасці, гідраўлікі, прыкладной механікі, матэматыкі. Ён вывучаў пытанні тэорыі набліжэння функцый, правёў даследаванні ў галіне механікі вадкасцяў. Заклаў асновы набліжанай тэорыі згібу крывалінейнага стрыжня і вывеў формулу падоўжанага нармальнага напружання бруса вялікай крывізны. Зрабіў уклад у распрацоўку прынцыпу найменшай работы ўнутраных сіл і разгледзеў яго некаторыя прыватныя выпадкі, у тым ліку для вызначэння статыстыкі магчымых рэакцый апор. У 1868 г. выйшаў яго падручнік па сапрамату: «Дапаможнік для вывучэння законаў супраціўлення будаўнічых матэрыялаў з дадаткам агульных пачаткаў тэорыі пругкасці цел». У тым жа годзе Іпаліт Яўневіч быў абраны дэканам і займаў гэтую пасаду 19 гадоў — да 1887 г. Выкладаў прыкладную матэматыку, гідраўліку, тэорыю пругкасці, тэорыю верагоднасцяў, асновы вышэйшай матэматыкі і адначасова — прыкладную механіку, тэорыю пругкасці і гідраўліку ў іншых ВНУ Пецярбурга: Мікалаеўскай Марской акадэміі, Інстытуце грамадзянскіх інжынераў імператара Мікалая І, Электратэхнічным інстытуце. Ажно трыма выданнямі выйшаў яго «Курс прыкладной матэматыкі» (СПб., 1897–1902), сярод галоўных прац Іпаліта Яўневіча «Курс гідраўлікі» (СПб., 2-е выд. 1891 г.). Яго грамадская праца — сакратар Таварыства дапамогі навучэнцам Тэхналагічнага інстытута. Жыў сапраўдны стацкі саветнік і прафесар Іпаліт Яўневіч на Кабінецкай вуліцы, 1, кв. 11.

Сярод вучняў прафесара Яўневіча быў таленавіты беларус ураджэнец Асвеі **Іван Восіпавіч Яркоўскі** (1844–1902). Жыццёвыя цяжкасці (ранняя смерць бацькі, кепскі матэрыяльны стан сям'і) прымусілі яго закончыць інстытут у два этапы. Дыплом тэхнолага 1-га разраду ён атрымаў за два гады (1868–1870), здаўшы датэрмінова ўсе патрэбныя іспыты. Потым працаваў, дзеля заробкаў, памочнікам машыніста цягніка, начальнікам дэпо, ездзіў па даручэнні прыватнай фірмы ў Берлін знаёміцца з машынабудаўнічымі заводамі. У 1872 г. Іван Яркоўскі вярнуўся ў Пецярбург і паспяхова абараніў дысертацыю («Праект машыны для водазабеспячэння і тэарэтычнае даследаванне механізма») на званне інжынера-тэхнолага. Працаваў на Маскоўска-Брэсцкай чыгунцы ў Мінску, Смаленску,

[1] Беларуская літаратура. Даследаванні і публікацыі. Вып. 1. Мінск, 1958. С. 247.




*Электрычная станцыя. XIX ст.*

Маскве. У 1894 г. ён пераязджае з сям'ёй у Пецярбург і працуе ўпраўляючым Неўскага механічнага і суднабудаўнічага завода (цяпер Неўскі завод імя Леніна). Здавалася б, яго жыццё — звычайная біяграфія кваліфікаванага інжынера. Калі б не адна дэталь! Гартаючы бібліяграфічныя выданні мінулага стагоддзя і перабіраючы каталогі бібліятэк, можна знайсці, што Іван Яркоўскі быў таксама аўтарам кніг і артыкулаў па атамнай і малекулярнай фізіцы, тэорыі гравітацыі, метэаралогіі і тэорыі паветраплавання![1] Па шляху бацькі пайшлі абодва сыны І. Яркоўскага: яны скончылі Тэхналагічны інстытут. Вітаўт пазней стаў выкладчыкам Тэхналагічнага інстытута і афіцэрскай паветраплавальнай школы, быў абраны (у 1915 г.) сакратаром паветраплавальнага аддзела Імператарскага Расійскага тэхнічнага таварыства, сябрам рэдакцыі часопіса «Тэхніка паветраплавання», а таксама членам навукова-тэхнічнага і спартыўнага камітэта Імператарскага Усерасійскага аэраклуба. Выкладчыкам Тэхналагічнага інстытута стаў і другі сын Івана Восіпавіча – Уладзіслаў.

З 1878 г. да выхаду ў адстаўку ў 1891 г. у Тэхналагічным інстытуце выкладаў выпускнік Магілёўскай гімназіі **Міхаіл Іванавіч Рыло** (1839–19.?).

Да канца жыцця працаваў у Тэхналагічным інстытуце ўраджэнец Гродна **Эдуард Антонавіч Урублеўскі (Врублеўскі)** (1848–1892). Ён прыехаў вучыцца з-над Нёмана ў Пецярбург у 1863 г., закончыў Тэхналагічны інстытут тэхнолагам 1-га разраду. Пасля ўдасканальваў веды ў Гётынгенскім універсітэце, дзе атрымаў ступень доктара філасофіі (1871). З 1872 г. да канца жыцця Эдуард Урублеўскі працаваў у Тэхналагічным інстытуце: спачатку лабарантам хімічнай лабараторыі, а з 1875 г. — прафесарам хіміі. Сярод навуковых дасягненняў Урублеўскага — даследаванне сінтэзу бромвытворных талуолу, вынікі якога ён абараніў як доктарскую дысертацыю ў 1876 г., а таксама апісанне (1878 г.) складу і ўласцівасцяў каўказскіх мінеральных водаў. Калі ў 1868 г. было заснавана Рускае хімічнае таварыства, Эдуард Антонавіч стаяў ля яго вытокаў, а пазней быў актыўным членам-супрацоўнікам.

У Тэхналагічным інстытуце ў 1875–1880 гг. вучыўся выхадзец з Беларусі (маёнтак Басін Бабруйскага павета, цяпер вёска Калінаўка Клічаўскага раёна) **Ігнат Яўхімавіч Грынявіцкі** (1856–1881), адзін з заснавальнікаў беларускай фракцыі партыі тэрарыстаў «Народная воля» і выканаўца прысуду нарадавольцаў над царом Аляксандрам II. Крыху пазней — у 1877 г. — інстытут закончыў мінчук **Іван Люцыянавіч Неслухоўскі** (1851–1897), вядомы як паэт Янка Лучына. Беларускія вершы Янкі Лучыны былі пасмяротна сабраныя ў зборніку «Вязанка», выдадзеным у 1903 г. у Пецярбургу пад выглядам балгарскіх народных песень.

З вёскі Дудзічы Ігуменскага павета Мінскай губерні паходзіў студэнт-палітэхнік **Хведар Вернікоўскі** (1861–1935). Сын простага псаломшчыка, ён вучыўся ў духоўным вучылішчы і праваслаўнай семінарыі ў Мінску, пасля чаго паехаў працягваць адукацыю ў Пецярбургскі тэхналагічны інстытут. Пасля закачэння працаваў у Сялянскім пазямельным банку, Заходняй экспедыцыі па асушцы палескіх балот і арашэнні паўднёвых зямель, Міністэрстве земляробства і дзяржаўнай маёмасці Расійскай імперыі. У 1906 г. Хведар Вернікоўскі — кансультант-дарадчык камісіі па паляпшэнні зямельнай гаспадаркі ў 1-й Дзяржаўнай Думе. Пасля выхаду ў адстаўку пераехаў у Мінск. На правах сябра быў абраны ў Мінскую гарадскую думу. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. далучыўся да беларускага нацыянальна-адраджэнцкага руху. У першым урадзе Беларускай Народнай Рэспублікі пад кіраўніцтвам Рамана Скірмунта Хведар Вернікоўскі займаў пасаду дзяржаўнага скарбніка. Пазней быў прызначаны народным сакратаром гандлю і прамысловасці. З 1921 г. жыве ў Вільні, працуе ў заходнебеларускіх грамадска-культурных, рэлігійных і палітычных арганізацыях. У 1928–1929 гг. рэдагаваў газету «Грамадзянін». Быў ініцыятарам і першым рэдактарам беларускага праваслаўнага часопіса «Сьветач Беларусі». У 1930 г. у Вільні на канферэнцыі прадстаўнікоў беларускіх праваслаўных арганізацый абраны старшынёй

[1] *Гапоненка В. А.* У пошуках гармоніі сусвету. Іван Яркоўскі. Мінск, 1993.

Беларускага праваслаўнага камітэта па беларусізацыі царквы[1]. Дзеячам віленскага беларускага асяродка стаў яшчэ адзін палітэхнік, **Антон Станіслававіч Трэпка (Неканда-Трэпка)** (1877—1942). Мінчук па паходжанні і выпускнік Мінскай гімназіі, ён у 1903 г. скончыў Тэхналагічны інстытут, а на наступны год — электратэхнічныя курсы ў горадзе Льеж (Бельгія). Да Кастрычніцкай рэвалюцыі Антон Трэпка працаваў інжынерам-электрыкам, стаў адным са стваральнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады; з 1909 г. супрацоўнічаў з пецярбургскім беларускім выдавецтвам «Загляне сонца і ў наша ваконца». У 1917 г. ён пераязджае ў Мінск, а ў 1920 г. — у Вільню, дзе да 1939 г. працаваў дырэктарам беларускай гімназіі, напісаў для сваіх вучняў і выдаў падручнікі па прыродазнаўчых дысцыплінах.

Тэхналагічны інстытут скончыў (пасля навучання ў Слуцкай гімназіі) і адзін з найбагацейшых абшарнікаў Беларусі **Эдвард Вайніловіч** (1847—1928). Пасля ён стажыраваўся ў Германіі, Бельгіі, Галандыі. Сваю працоўную біяграфію арыстакрат Вайніловіч пачаў у Берліне простым работнікам на заводзе паравозаў, дзе працаваў да 1870 г. Затым вярнуўся ў Пецярбург, быў інжынерам-механікам на Пуцілаўскім заводзе. Але родная зямелька цягнула яго да сябе. Вярнуўшыся на Беларусь, Эдвард Вайніловіч заняўся сельскай гаспадаркай, у 1876 г. стаў старшынёй беларускага Сельскагаспадарчага таварыства, шмат сродкаў ахвяраваў на пабудову храмаў, прычым не толькі каталіцкіх касцёлаў (самы вядомы — Чырвоны касцёл на плошчы Незалежнасці ў Мінску), але і таксама праваслаўных цэркваў і сінагог. Яго слушна назваць першым беларускім экуменістам. Ягоная зычлівасць да чалавека, незалежна ад веравызнання, дзівіла сучаснікаў: прыкладам, Эдвард Вайніловіч стварыў камітэт абароны правоў жыдоў і татараў-мусульманаў у Клецку. Вялікі беларускі абшарнік, ён дапамагаў працавітым, але бедным сялянам, бараніў іх інтарэсы ў Дзяржаўнай Думе, куды яго абіралі тройчы. Вайніловіч, як мага, падтрымліваў беларушчыну: даваў грошы на выдавецкае таварыства «Загляне сонца і ў наша ваконца», на часопісы «Лучынка» і «Саха», газету «Наша Ніва», каталіцкі штотыднёвік «Bielarus».

Паспяхова скончыў у 1899 г. Санкт-Пецярбургскі тэхналагічны інстытут **Барыс Рыгоравіч Галёркін**. Нарадзіўся ён у беднай сялянскай сям'і ў вёсцы Прудок Лепельскага павета 4 сакавіка (20 лютага) 1871 г. Пачатковую адукацыю атрымаў у двухгадовым вучылішчы ў Полацку. Самастойна прайшоў навукі і ў 1893 г. вытрымаў экзамен па курсе рэальнага вучылішча ў Мінску. У 1906 г. за ўдзел у рэвалюцыйным руху Барыс Галёркін паўтара года адседзеў у турме. З 1909 г. выкладаў у Політэхнічным інстытуце. Паводле яго праекта ў 1913—1915 гг. быў пабудаваны будынак кацельні электрычнай станцыі ў Пецярбургу, які стаў першым у горадзе буйным металічным прамысловым аб'ектам з вялікімі нагрузкамі.

З 1899 г. асістэнтам кафедры арганічнай хіміі працаваў **Юлій Жыгімонтавіч Залькінд** (1875—1948), ураджэнец Вільні і выхаванец 2-й віленскай гімназіі і Пецярбургскага універсітэта. Перад рэвалюцыяй меў чын надворнага саветніка, працаваў у Тэхналагічным інстытуце і на Вышэйшых курсах Лесгафта. Жыў Юрый Жыгімонтавіч на Загарадным праспекце, 70. Пазней ён быў приват-дацэнтам, апошняя пасада — прафесар арганічнай хіміі Ленінградскага тэхналагічнага інстытута. Вучыўся ў Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце адзін з арганізатараў гуртка вучнёўскай моладзі і фабрычных рабочых «Таварыства сяброў» (1876—1878) **Сігізмунд Войцэхавіч Дэ Мезер**. Нарадзіўся ён у Магілёўскай губерні ў 1853 г., сярэднюю адукацыю атрымаў у Магілёўскай і Беластоцкай гімназіях. У верасні 1878 г. яго арыштавалі ў Пецярбургу і прыцягнулі да дазнання па «працэсе 137-мі». Паводле рашэння суда быў высланы ў Енісейскую губерню, жыў у Мінусінску.

З Тэхналагічным інстытутам звязаў свой лёс і **Вацлаў Іваноўскі** (1880—1943), які нарадзіўся ў фальварку Лябёдка, што на Лідчыне, у шляхецкай сям'і. На яго нацыянальнае ўсведамленне зрабіла ўплыў хатняе выхаванне ў духу традыцыі Вялікага Княства Літоўскага. Дзеля працы бацькі (ураднік сельскагаспадарчага ведамства) сям'я часта пераязджала — Вацлаў жыў у Лябёдцы, у Красным Варонежскай губерні і ў Варшаве, г. зн. сярод беларускага, рускага і польскага люду. Прыклад развіцця нацыянальнага руху бліжэйшых суседзяў, палякаў і літоўцаў, быў у яго навідавоку.

Пасля заканчэння гімназіі ў Варшаве Іваноўскі ў 1899 г. пераехаў у Пецярбург, дзе разам з бацькам жыў у доме № 10 6-й роты Ізмайлаўскага палка. У гэты ж год паступіў на хімічны факультэт Тэхналагічнага інстытута,

[1] *Гарбінскі Ю.* Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя... Мінск — Мюнхен, 1999. С. 37.

які закончыў у 1904 г., пасля чаго да лета 1913 г. ён быў навуковым супрацоўнікам гэтага ж інстытута. Званне доктара тэхнічных навук атрымаў у 1909 г. у Політэхнічным інстытуце Мюнхена[1].

Ужо ў першыя гады навучання Вацлаў Іваноўскі арганізаваў у Пецярбургу беларускі гурток, на аснове якога ў 1902 г. была створана нелегальная сацыялістычная арганізацыя — Беларуская рэвалюцыйная партыя (БРП), якая мела намер займацца і выдавецкай дзейнасцю. Неставала дасведчаных публіцыстаў, а для ахвотных не было нават элементарных граматычных і правапісных правілаў беларускай мовы. Апрача таго, ніводзін з маладых пачынальнікаў руху не быў знаёмы з тэхнікай нелегальнай працы. Але гэтыя цяжкасці не палохалі маладога Іваноўскага. Ён пачаў з самай неабходнай рэчы — купіў гектограф.

Першай публікацыяй БРП стала адозва «Да інтэлігенцыі», якая заклікала выхаваную ў польскай культуры маладую інтэлігенцыю Беларусі да ўдзелу ў адраджэнцкай працы: прапаноўвала арганізоўваць гурткі па вывучэнні роднай мовы, краязнаўства, гісторыі, аказваць матэрыяльную падтрымку для літаратараў, збіраць сродкі на выдавецкую дзейнасць.

Наступнай ініцыятывай Іваноўскага была спроба нелегальна выдаць часопіс «Свабода», які быў задуманы як орган БРП. Ажыццяўленню гэтай задумы спрыяла павелічэнне кола беларускай моладзі ў Пецярбургу. У 1902 г. сюды прыбылі браты Іван і Антон Луцкевічы, Алаіза Пашкевіч. Адным з самых блізкіх супрацоўнікаў Іваноўскага быў таксама пецярбургскі гімназіст Вінцэнт Валейка родам з фальварка Галавічполь, што знаходзіўся побач з Лябёдкаю. У снежні 1902 г. «Свабода» была адбіта на гектографе (200 асобнікаў), але канец задумы быў няўдалы: яна не дайшла да чытача. Аб поглядах стваральнікаў можам меркаваць на падставе захаванага фрагмента — верша Сыракомлі «Добрыя весці». Антырасійскія акцэнты арыгінальнага тэксту Сыракомлі выдаўцы «Свабоды» замянілі на антыцарскія, ідэя класавай згоды паміж сялянствам і шляхтай, якую прапагандаваў Сыракомля, саступіла месца рабоча-сялянскай салідарнасці.

Іваноўскі, як і іншыя пецярбургскія дзеячы Беларускай рэвалюцыйнай партыі (БРП), не падтрымліваў сепаратысцкіх тэндэнцый Польскай партыі сацыялістычнай (ППС). Больш блізкія і зразумелыя былі для яго пастулаты расійскіх рэвалюцыйных колаў, якія падтрымлівалі ідэі не толькі разбурэння царызму, але і грунтоўнай перабудовы ўсяго грамадскага ладу. Гэта значыла, што Беларуская рэвалюцыйная партыя бачыла магчымасць ажыццяўлення сваіх планаў не ў адрыве ад Расіі, але ў працэсе рэвалюцыі і дэмакратызацыі грамадскага жыцця гэтай дзяржавы.

Такая пазіцыя БРП выклікала вострую рэакцыю ППС і публічную крытыку беларускай партыі, што на пачатку 1903 г. давяло да расколу. У пэўнай меры паўплывалі асабістыя амбіцыі пецярбургскіх дзеячаў. Вясною 1903 г. Іван Луцкевіч распачаў стварэнне больш радыкальнай Беларускай рэвалюцыйнай грамады (БРГ), якая аформілася ў канцы 1903 г.

Пасля сутыкнення з Луцкевічам Іваноўскі пачаў ажыццяўляць сваю выдавецкую праграму пад новай фірмай «Круга беларускай народнай асветы». «Круг» выдаў дзве нелегальныя публікацыі — «Калядную пісанку» і «Велікодную пісанку». Першая з іх выйшла перад святам Божага Нараджэння 1903 г., другая — перад Вялікаднем 1904 г. Распаўсюджваць іх меліся студэнты, якія раз'язджаліся на канікулы да сябе на радзіму. Яшчэ большае значэнне для папулярызацыі беларускай літаратуры мела выданне ў Пецярбургу дзвюх кніжак: зборніка вершаў Янкі Лучыны «Вязанка» і народных «Казак» тыражом па 5000 асобнікаў кожная. Абедзве кнігі выйшлі легальна, хаця не абышлося без маны: «Вязанку» падалі ў цэнзуру як кнігу на балгарскай мове, а з «Казкамі», як выданнем фальклорным, клопату не было.

Падрыхтоўка і друкаванне ў Пецярбургу кніжак выявілі ў 1903–1904 гг. цяжкасці ад адсутнасці адзіных для беларускай мовы лексічных і правапісных нормаў. Кожны аўтар або перакладчык кіраваўся ў гэтай галіне ўласнай думкай. Прывесці іх у аднастайную сістэму стала справай надзвычай важнай і пільнай. Невыпадкова галоўным з пастулатаў адозвы «Да інтэлігенцыі» стаяла выданне граматыкі беларускай мовы, для стварэння якой меркавалася прыцягнуць спецыялістаў. Невядома, ці звяртаўся да каго з гэтай справай Іваноўскі, аднак застаецца фактам, што на той час за напісанне граматыкі не ўзяўся аніводзін спецыяліст. Аніводзін з будзіцеляў XIX ст. не ўзяўся за стварэнне беларускага бук-

[1] *Туронак Ю.* Вацлаў Іваноўскі ў Пецярбургу (1899–1913) // Белорусский сборник. Вып. I. СПб., 1998. С. 142–147.

вара (лемантара), — гэтага найпрасцейшага зыходнага пункта развіцця нацыянальнай культуры. Гэта зрабіў пецярбургскі тэхнолаг Вацлаў Івановскі. Ён не абмежаваўся фармуляваннем прыгожых ідэй аб стварэнні беларускай нацыі і будаўніцтве маладой Беларусі, але першы пачаў гэтыя ідэі ператвараць у рэчаіснасць.

Усвядоміўшы праблему, Івановскі вырашыў заняцца распрацоўкай беларускага буквара, які ў нейкай ступені мог бы змякчыць адсутнасць граматыкі і стаць своеасаблівым лінгвістычным даведнікам для аўтараў і выдаўцоў. Працуючы над букваром, ён мусіў заняцца распрацоўкай беларускай мовазнаўчай тэрміналогіі. З цягам часу гэтыя базавыя тэрміны ўдасканальваліся, але большасць засталася трывалым здабыткам беларускага мовазнаўства і была прынята або ў тым самым гучанні, або з невялікімі фанетычнымі і марфалагічнымі зменамі. Замест ранейшых cz, sz, ż у лацінскім варыянце буквара ўводзіліся новыя знакі č, š, ž, напэўна, дзеля таго, каб адрозніць беларускую лацінку ад польскага алфавіту. Гэтую працу Івановскі завяршыў у 1905 г. і перадаў яе Кастравіцкаму, каб той падрыхтаваў варыянт гражданкай.

Пасля стварэння ў Пецярбургу выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» Івановскі актыўна ўдзельнічаў у кіраванні гэтым прадпрыемствам да ліпеня 1913 г., да выезду ў Вільню, дзе ён яшчэ з большай інтэнсіўнасцю працягваў выдавецкую дзейнасць.

Варта зазначыць, што ў 1910 г. закончыў Санкт-Пецярбургскі універсітэт Тадэвуш Івановскі, родны брат Вацлава. Пасля заканчэння ён заснаваў Лабараторыю прыродазнаўчых навук у Пецярбургу, працаваў тут да 1915 г. Удзельнічаў у навуковых экспедыцыях каля берагоў Баранцава мора, дзе збіраў матэрыялы для заалагічных музеяў. У 1919 г. Т. Івановскі адкрыў у Коўне прыродазнаўчую доследную станцыю з заалагічным музеем. У 1922 г. ён стаў прафесарам адзінага ў міжваеннай Літве Ковенскага універсітэта, арганізаваў навуковую экспедыцыю на Істрыйскі паўвостраў (Адрыятычнае мора), у 1927 г. — на Вілсандскі востраў (Эстонія), у 1931 г. — у Бразілію. З пераходам Вільні пад юрысдыкцыю Літвы ў 1940 г. і да 1964 г. быў загадчыкам кафедры заалогіі Віленскага універсітэта. Вывучаў міграцыю птушак, шмат зрабіў для вывядзення новых гатункаў пладовых дрэў. Галоўная яго праца — «Птушкі Літвы» (Т. 1–3, 1938–1955). Выдаў кнігі «Нашы птушкі і школа», «Падручнік па зборы насякомых», «Міграцыя птушак» (1928), «Развядзенне пушных звяроў і яго перспектывы на Літве», «Тры месяцы ў Бразіліі» (1932), «Запіскі прыродазнаўцы», «Эвалюцыя жыцця» і інш. У гісторыі навукі Літвы ён вядомы як Тадас Іванаўскас.

Пераемнасць традыцый Тэхналагічнага інстытута пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі забяспечана была рэктарам **Львом Пятровічам Шышко** (1872–1943). Як інжынер-будаўнік і тэхнолаг Шышко працаваў над перабудовай карпусоў інстытута на рагу Загараднага і цяперашняга Маскоўскага праспектаў. Спачатку ён займаўся пашырэннем і перабудовай галоўнага будынку, будаўніцтвам хімічнай лабараторыі (1897–1899), а ў пачатку стагоддзя пабудаваў карпусы кацельнай і кузні, інжынернай лабараторыі, пасля хіміка-тэхнічнай і інжынерна-механічнай лабараторый. У канцы 1890-х гг. ён стаў выкладчыкам інстытута, з 1913 г. — прафесарам, а з 1915 да 1920 г. — яго дырэктарам і рэктарам. Пазней, да 1928 г., Леў Пятровіч чытаў у інстытуце дысцыпліны архітэктурна-будаўнічага цыкла і кіраваў будаўнічай часткай дыпломных праектаў.

## Політэхнічны інстытут

Гісторыя Санкт-Пецярбургскага політэхнічнага інстытута (цяпер Санкт-Пецярбургскі дзяржаўны тэхнічны універсітэт) пачынаецца з 19 лютага 1899 года. У гэты дзень імператар Мікалай II падпісаў Загад аб заснаванні гэтай вышэйшай тэхнічнай школы. Арганізацыя інстытута была даручана Уладзіміру Іванавічу Кавалеўскаму. Уладзімір Кавалеўскі (1848–1934) атрымаў вышэйшую адукацыю ў былым пецярбургскім Землятробчым інстытуце; служыў у Міністэрстве дзяржаўных маёмасцяў; перайшоў у Міністэрства фінансаў, прызначаны дырэктарам дэпартамента мануфактур і




*Механічныя майстэрні Політэхнічнага інстытута*

гандлю, а з 1900 да 1902 г. — таварышам міністра фінансаў, загадчыкам справамі гандлю і прамысловасці. Быў старшынёй Імператарскага рускага тэхнічнага таварыства ў Петраградзе. Пад яго рэдакцыяй выдадзены зборнікі «Вытворчыя сілы Расіі» (1896) і «Расія ў канцы XIX ст. » (1900). Адначасова з адкрыццём Політэхнічнага інстытута пачала працаваць Фундаментальная бібліятэка, на сёння яна з'яўляецца адной з буйнейшых у горадзе. Фонды бібліятэкі перавышаюць 2,6 млн. адзінак захавання. Дастатковае фінансаванне бібліятэкі пры яе заснаванні дазволіла стварыць добры фонд літаратуры, які папоўнілі калекцыі кніг С. Ю. Віттэ, таксама прафесараў інстытута П. Б. Струве, Ю. С. Гамбарава, А. П. Фан-дэр-Фліта, Б. Э. Нольдэ, К. П. Баклеўскага і інш. Першыя сто кніг ахвяраваў Уладзімір Кавалеўскі.

На працягу 96 гадоў свайго развіцця Політэхнічны інстытут некалькі разоў змяняў сваю назву:

1899 — Санкт-Пецярбургскі політэхнічны інстытут;

1910 — Санкт-Пецярбургскі політэхнічны інстытут Імператара Пятра I;

1923 — Петраградскі політэхнічны інстытут імя М. І. Калініна.



Політэхнічны інстытут

Адным з першых выпускнікоў Політэхнічнага інстытута быў беларус **Мікалай Мікалаевіч Цыклінскі** (1884—1938). Нарадзіўся ён у Вільні, сярэднюю адукацыю атрымаў у Магілёўскім рэальным вучылішчы.




Гідраўлічная лабараторыя Політэхнічнага інстытута

Пасля навучання ў Санкт-Пецярбургу (1902—1907) стажыраваўся ў Вышэйшай тэхнічнай школе ў Дармштаце (Германія). Напрацягу 30 гадоў (1908—1938) Мікалай Цыклінскі выкладаў у сваёй alma mater — спачатку Петраградскім, потым Ленінградскім політэхнічным. Адначасова працаваў начальнікам майстэрні радыётэлеграфнага завода Марскога ведамства (1914—1918).

З 1902 г. працаваў у Пецярбургскім політэхнічным інстытуце **Уладзімір Хведаравіч Міткевіч** (1872—1951). Нарадзіўся ён 3 жніўня 1872 г. у Мінску, закончыў у 1891 г. Мінскую гімназію. Пасля фізіка-матэматычнага факультэта Санкт-Пецярбургскага універсітэта (скончыў у 1895 г.) выкладаў электратэхніку ў Пецярбургскім электратэхнічным інстытуце (1895—1901), Горным інстытуце (1896—1905), на Вышэйшых жаночых курсах (1906—1913).

Міткевіч выканаў эксперыментальныя даследаванні прыроды электрычнай дугі і ў 1906 г., пасля абароны дысертацыі «Аб вольтавай дузе», быў абраны ардынарным прафесарам, а ў 1912 г. дэканам электрамеханічнага аддзялення Пецярбургскага політэхнічнага інстытута імя Пятра Вялікага. У 1913 г. знаходзім яго ў палкоўніцкім чыне калежскага саветніка; жыў прафесар Міткевіч у будынку інстытута. Ён таксама працаваў кансультантам заводаў «Сіменс-Гальске» (1914—1919), «Рэкс» (1911—1919). Прымаў удзел у стварэнні ў Расіі акумулятарнай прамысловасці, актыўна працаваў у галіне тэлефаніі і радыё. Каб дапамагчы землякам-бежанцам, прафесар Міткевіч у студзені 1916 г. стаў адным з заснавальнікаў (разам з Браніславам Эпімах-Шыпілам, Чэславам Радзевічам і Аляксандрам Ярэмічам) «Беларускага Таварыства па аказанню дапамогі пацярпелым ад вайны». Жыў па адрасу Лясны ўчастак, дарога на Сасноўку, 1—3.

З пачаткам Першай сусветнай вайны пры петраградскім Політэхнічным інстытуце чытаўся тэарэтычны курс авіяцыі. Сярод наведвальнікаў гэтых лекцый быў студэнт электрамеханічнага аддзялення выхадзец са шляхты Магілёўскай губерні **Уладзімір Стрыжэўскі**. Праслухаўшы курс, ён закончыў і Школу авіяцыі, а потым доблесна ваяваў у званні унтэр-афіцэра на Аўстрыйскім фронце. У жніўні 1915 – лютым 1916 гг. зрабіў 47 баявых палётаў агульнай працягласцю 72 гадзіны 5 хвілін. Неаднойчы падаў разам з самалётам, але выжываў, залечваў раны і вяртаўся ў авіяцыю. Стаў поўным георгіеўскім кавалерам.

### Электратэхнічны інстытут

Развіццё тэхнікі і патрабаванне да арганізацыі тэлеграфна-тэлефоннай сувязі ў Расіі паспрыялі стварэнню ў Пецярбургу яшчэ адной спецыяльнай школы: у верасні 1886 г. на загад імператара Аляксандра III урачыста было адкрыта Тэхнічнае вучылішча Паштова-тэлеграфнага ведамства — першая грамадзянская спецыялізаваная электратэхнічная навучальная ўстанова, якая была заклікана забяспечыць тэлеграфную службу «навукова-падрыхтаванымі спецыялістамі».

У чэрвені 1891 г. найвысачайшым загадам Тэхнічнае вучылішча было пераўтворана ў Электратэхнічны інстытут (ЭТІ). Першым дырэктарам стаў **Мікалай Пісарэўскі**, былы выпускнік Полацкага кадэцкага корпуса. Для чытання лекцый былі запрошаны вядомыя вучоныя Пецярбурга, паміж іншых прафесар Тэхналагічнага інстытута беларус Іпаліт Яўневіч.

На Петраградскай старане для Электратэхнічнага інстытута пабудавалі комплекс спецыяльных будынкаў: лабараторыі, навучальныя карпусы, а з 1899 г. Электратэхнічнаму інстытуту было дадзена найменне Імператарскі электратэхнічны інстытут Аляксандра III і павышаны статус выпускнікоў: на мяжы XIX–XX стст. шмат хто з расійскіх электратэхнікаў меў званне ганаровага інжынера-электрыка, якое прысвойвалася вучоным саветам электратэхнічнага інстытута. Меў такое званне і **Людвік Талочка** (1870–1957), які паходзіў з маёнтка Ракавіца, што недалёка ад Брэста. Выпускнік Бяла-падляскай гімназіі і Электратэхнічнага інстытута, Людвіг Талочка пасля дзесяці гадоў працы ў тэхнічных аддзелах дырэкцый пошт і тэлеграфаў Харкава і Палтавы вярнуўся ў Пецярбург. Тут ён у 1901 г. атрымаў адказную пасаду галоўнага інжынера будаўніцтва тэлефоннай сеткі горада, а таксама адзіную на той час выпрабавальную электрычную станцыю ў сваім інстытуце. Першыя гады пасля вяртання ў сталіцу Людвік Талочка жыў на Мойцы, 7. У Пецярбургу ён пазнаёміўся з маладой французжанкай-настаўніцай Магдалінай Саукс, якая стала яго жонкай. Нарадзіліся дзве дачкі: Казіміра (1905) і Баляслава (1909). Сям'я пераехала ў больш выгодную кватэру на набярэжнай Екацярыненскага канала, 68. Напярэдадні Першай сусветнай вайны Людвік Талочка мае чын надворнага саветніка, выконвае абавязкі Таварыша старшыні тэлеграфна-тэлефоннага тэхнічнага таварыства, рэдагуе часопіс «Известия общества инженеров-электриков». Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Талочка з'ехаў у Варшаву і быў віцэ-міністрам, а потым і міністрам (ва ўрадзе Юзафа Пілсудскага) поштаў і тэлеграфаў Польшчы[1]. У 1912 г. Электратэхнічны інстытут скончыў ураджэнец вёскі Дуляўцы Ваўкавыскага павета **Фабіян Рабцэвіч** (1891–1958). Пазней, у 1928 і 1930 гг. ён быў беларускім паслом у польскі сейм, у гады фашысцкай акупацыі — бургамістрам г. Барысава.

У першай палове XX ст. у ЭТІ былі створаны прызнаныя навуковыя школы: электратэхніка, электрасувязь і радыётэхніка, электраэнергетыка і электрахімія, электравакуумная тэхніка, электрапрывад, ультрагукавая дэфектаскапія і высокачастотная электратэрмія і іншыя. У дваццатыя гады Электратэхнічны інстытут стаў асноўным распрацоўшчыкам плана электрыфікацыі СССР — плана ГОЭЛРО. З 1907 да 1949 г. тут працаваў прафесар беларускага паходжання **Генрых Восіпавіч Графціо** (1869–1949): загадчык кафедрай электрыфікацыі чыгункі, будаўнік першых гідраэлектрастанцый, акадэмік АН СССР. У 1924–1925 гг. Генрых Графціо выконваў абавязкі дырэктара інстытута.

У пасляваенныя гады ў ЛЭТІ сталі інтэнсіўна развівацца новыя навуковыя кірункі ў галіне радыёэлектронікі і кібернетыкі, электрыфікацыі і аўтаматызацыі прамысловасці, аўтаматыкі і тэлемеханікі, вылічальнай тэхнікі, оптаэлектронікі і іншых. У 1992 г. інстытут атрымаў статус тэхнічнага універсітэта.

---

1 *Гладышчук А.* Людвік Талочка ў прызме «машыны часу» // Звязда. 2003. (24865) № 181 3 ліп.



*Лесатэхнічная акадэмія. Галоўны будынак*

## Лесатэхнічная акадэмія

У 1826 г. у Расійскай імперыі ўвялі пасады ляснічых, абавязкам якіх было ахоўваць і вырошчваць лясы. Лясы на той час мелі важнае прамысловае значэнне, бо давалі драўніну для суднабудавання. Таму лясная гаспадарка падпарадкоўвалася Марскому ведамству. Ляснічыя лічыліся ваеннаслужачымі, насілі вайсковую форму, мелі вайсковыя званні.

Для падрыхтоўкі ляснічых у 1800 г. пры Марскім шляхецкім корпусе быў арганізаваны фармайстарскі клас. З 1813 г. ён размяшчаўся за тры вярсты ад межаў горада, на Выбаргскай старане. У 1829 г. паводле новага Статута навучальная ўстанова атрымала назву Лясного інстытута. У 1826—1833 гг. для інстытута былі пабудаваны новыя карпусы (архітэктар А. Нелінгер) — Інстытуцкі завулак, 5. У 1837 г. профіль інстытута змянілі, увёўшы падрыхтоўку спецыялістаў для зямельнага межавання. У сувязі з гэтым навучальную ўстанову перайменавалі ў Межавы і лясны інстытут. Пазней — Земляробчы інстытут, з 1881 г. — Лясны інстытут. Вучыліся ў інстытуце 4 гады, плата за навучанне складала 50 руб. на год (па паўгоддзях). За інтэрнат з ацяпленнем і асвятленнем трэба было плаціць яшчэ 40 руб. на год.

Сярод выпускнікоў беларускага паходжання найбольш, бадай, знакамітым з'яўляецца ўраджэнец мястэчка Жалудок Лідскага павета **Валерый Урублеўскі (Врублеўскі)** (1836—1908), які закончыў Лясны інстытут ў 1857 г. і ў тым жа годзе пачаў працаваць памочнікам загадчыка, а потым загадчыкам лясной школы ў Саколцы (Гродзенская губерня і павет). Падчас паўстання 1863—1864 гг. Урублеўскі сышоўся з Кастусём Каліноўскім і дапамагаў яму выпускаць беларускую газету «Мужыцкая праўда», быў цяжка паранены і эміграваў у Францыю. У 1871 г. у званні генерала камандаваў паўднёвым фронтам Парыжскай камуны, пасля яе паражэння завочна прысуджаны да смерці. Эміграваў у Лондан, дзе сышоўся з К. Марксам і Ф. Энгельсам, стаў членам Генеральнага савета 1-га Інтэрнацыянала. Пасля амністыі камунараў (1880 г.) вярнуўся ў Францыю і жыў у Парыжы. Пахаваны каля сцяны камунараў на могілках Пер-Лашэз[1]. На год раней за Валерыя Урублеўскага, у 1856-м, Межавы і лясны інстытут закончыў ураджэнец вёскі Крывахіжанец Магілёўскага павета **Пётр Мікалаевіч Вярэха** (1837—1917). Пасля асноўнага курса Пётр Вярэха застаўся у інстытуце для вывучэння практычнага

[1] *Кісялёў Г. В.* Паплечнік Каліноўскага. Мінск, 1976.

курса ў афіцэрскім класе, у 1862–1864 гг. стажыраваўся за мяжой, у 1864–1867 гг. займаўся парадкаваннем гомельскіх лясоў князя Паскевіча-Эрыванскага. У снежні 1867 г. Пётр Мікалаевіч яшчэ раз, ужо настала, пераехаў у Пецярбург, каб заняць пасаду начальніка аддзялення Ляснога дэпартаменту, а з 1878 г. — выкладчыка лесаўпарадкавання ў Лясным інстытуце. Пётр Вярэха быў рэдактарам інстытуцкіх часопісаў «Ежегодник» і «Известия», сакратаром Пецярбургскага ляснога таварыства, займаўся бібліяграфіяй па лесаўпарадкаванні і надрукаваў некалькі паказальнікаў літаратуры гэтага кірунку. Жыў ён у Гатчыне, на Мікалаеўскай вуліцы, 6.



*Дзмітрый Кайгародаў*

Славутай асобай ў Пецярбургу–Петраградзе быў прафесар Ляснога інстытута ўраджэнец старажытнага Полацка **Дзмітрый Нікіфаравіч Кайгародаў** (1846–1924), сын настаўніка матэматыкі з Полацкага кадэцкага корпуса. Кар'еру ён пачынаў як вайсковец вольнапрыходзячым у Полацкім кадэцкім корпусе (1856–1863), потым скончыў Канстанцінаўскае ваеннае вучылішча ў Пецярбургу, служыў у 3-й конна-артылерыйскай брыгадзе ў Люблінскай губерні (гэтаму перыяду прысвяціў артыкул «З часоў польскага паўстання 1863 г. (Успаміны старога палачаніна)». Са снежня 1867 да 1873 г. служыў тэхнічным афіцэрам на Охцінскім парахавым заводзе пад Пецярбургам. У 1868 г. Кайгародаў, не пакідаючы службы, паступіў вольным слухачом у Пецярбургскі земляробчы (пазней Лясны) інстытут і ў 1871 г. скончыў курс ляснога факультэта. У чэрвені 1873 г. у чыне штабс-капітана артылерыі пакінуў вайсковую службу і перайшоў у Корпус ляснічых. У тым жа годзе быў камандзіраваны за мяжу «для ўдасканалення ў лясных навуках увогуле і асабліва ў лясной тэхналогіі». Кайгародаў слухаў лекцыі ў Трандскай лясной акадэміі ў Саксоніі і ў Цюрыхскай лясной школе. Пазнаёміўся з лясамі Германіі, Аўстрыі, Швейцарыі, Францыі і Швецыі. Вярнуўшыся ў 1875 г. у Пецярбург, ён быў выкладчыкам кафедры лясной тэхналогіі і лясной інжынерыі Пецярбургскага ляснога інстытута, а з 1882 г. быў прафесарам па гэтай кафедры. У 1889–1891 гг. выкладаў прыродазнаўства вялікаму князю Міхаілу Аляксандравічу. Дзмітрый Кайгародаў склаў серыю феналагічных карт вясновага прылёту птушак, ён таксама сістэматычна назіраў і апісваў пецярбургскае надвор'е. Назіраў не толькі сам — ён змог заахвоціць шматлікіх энтузіястаў рознага ўзросту і сацыяльнага становішча ў розных кутках краіны. Кожны год, вясной, Дзмітрый Нікіфаравіч атрымліваў лісты ад сваіх карэспандэнтаў, колькасць якіх даходзіла да 700 чалавек, а колькасць лістоў — да 2000. Напрацягу 29 гадоў Кайгародаў асабіста вёў ўсю гэтую карэспандэнцыю, адказваў на ўсе пытанні, даваў тлумачэнні, выпраўляў памылкі, ніколі не стамляючыся вучыць усіх тых, хто прыходзіў да яго па веды і парады. Сістэматызацыя сабранага матэрыялу дазволіла высветліць шэраг сярэдніх чыслаў: ускрыцця рэк, прылёту птушак, зацвітання раслін і інш., якія мелі важнае значэнне для сельскай гаспадаркі. Такім чынам, сваёй працай Дзмітрый Нікіфаравіч паклаў пачаткі новай навукі — феналогіі. Пачынаючы з 1887 г. Дз. Кайгародаў рэгулярна чытаў лекцыі ў народнай аўдыторыі Педагагічнага музея ваенна-навучальных установ у Саляным гарадку, некаторыя з іх выдадзены асобнымі кнігамі. Патрыёт горада, у 1899 г. ён выдаў «Дзённік пецярбургскай вясновай і асенняй прыроды за дзесяцігоддзе 1888–1897 гг.», на шмуцтытуле якога надпіс «старога палачаніна»: «Прысвячаецца суграмадзянам-пецярбуржцам». У прадмове ёсць такія словы: «Схіляюся да думкі, што гэтая кніга можа знайсці сабе чытачоў і сярод аматараў прыроды з «элітнай» публікі, бо яна (г. зн. кніга) можа спрыяць з'яўленню настрою». Як аўтар навукова-папулярных кніг прафесар Кайгародаў не меў сабе роўных. За права выдаць яго працы пра птушак, дрэвы і расліны змагаліся лепшыя выдавецкія дамы сталіцы. Кніга «З зялёнага царства» ў выдавецтве Суворына мела сем перавыданняў, «З царства пярнатых» — шэсць. Пяць выданняў

вытрымала ў выдавецтве Сыціна кніга «Дрэва і яго жыццё», а дзевяць разоў на працягу 1882–1910 гг. выдадзена кніжка «Аб нашых пералётных птушках». Шырыня дыяпазону Кайгародава выяўляецца пры чытанні яго біяграфічнага эцюда «П. І. Чайкоўскі і прырода» (СПб., 1907), дзе разглядаецца роля прыроды ў жыцці і творчасці славутага кампазітара. Памёр стары палачанін-пецярбуржац 11 лютага 1924 г., пахаваны ў парку Лесатэхнічнай акадэміі. Калегі і шматлікія вучні арганізавалі збор сродкаў на помнік, скульптар Л. Шэрвуд зрабіў праект, але і дасёння на магіле стаіць сціплы гранітны камень. На доме, у якім у 1905–1924 гг. жыў вучоны (Інстытуцкі праспект, 21), у яго гонар замацавана памятная шыльда.



*Дом, дзе жыў і працаваў прафесар Кайгародаў*

У 1894 годзе на пасаду прафесара кафедры глебазнаўства быў запрошаны беларус **Пётр Самсонавіч Касовіч.** Нарадзіўся Пётр Касовіч (16.09.1862) у Горках Магілёўскай губерні ў сям'і выкладчыка Горы-Горацкага сельскагаспадарчага інстытута Самсона Сямёнавіча Касовіча. Адукацыю атрымаў у Маскве: на прыродазнаўчым аддзяленні фізіка-матэматычнага факультэта універсітэта, а пазней — у Пятроўскай сельскагаспадарчай акадэміі. У 1894 г. малады прафесар вярнуўся ў Пецярбург з двухгадовай стажыроўкі ў еўрапейскіх навуковых цэнтрах (найбольш у лабараторыі Альфрэда Коха ў Гётынгене), абараніў дысертацыю па засваенні азота раслінамі і энергічна ўзяўся за справу па пераўтварэнні кафедры глебазнаўства з асновамі сельскай гаспадаркі не толькі ў навучальны інструмент, але і ў доследную станцыю. Развіццю навукі паспрыяла і тое, што прафесар Касовіч змог арганізаваць паралельную кафедры структуру: сельскагаспадарчую лабараторыю, якая фармальна існавала пры Вучоным Камітэце Галоўнага ўпраўлення землеўпарадкавання і земляробства, а рэальна знаходзілася на тэрыторыі інстытута і падпарадкоўвалася таму ж Касовічу. У 1900 г. Пётр Самсонавіч заснаваў «Журнал опытной агрономии» і дзесяць год бясплатна рэдагаваў яго, зрабіўшы трыбунай агранамічнай навукі (з 1910 г. часопіс стаў атрымліваць субсідыю). У Пецярбургу выйшлі кнігі Пятра Касовіча «Асновы вучэння пра глебу» (1911) і «Кароткі курс агульнага глебазнаўства» (1912) — шмат матэрыялаў аўтар атрымаў пры даследаванні падзолістай глебы ў сваім невялікім маёнтку ў Смаленскай губерні. Праявіў сябе Пётр Самсонавіч Касовіч і як адміністратар, двойчы выконваючы абавязкі абранага дырэктара Імператарскага ляснога інстытута: з 1905 да 1907 г., падчас першай рускай рэвалюцыі, і ў 1909–1911 гг., калі яму давялося пераадольваць крызіс, звязаны з закрыццём інстытута і звальненнем усіх студэнтаў. Жыў Пётр Касовіч у будынку інстытута, па адрасе Лясны інстытут, кватэра прафесара Касовіча — па збераждлівасці лёсу ў тым самым доме, дзе жыў яго бацька, будучы пасля заканчэння Горы-Горыцкай акадэміі на два гады камандзіраваны ў Пецярбург. Галоўным яго навуковым дасягненнем з'яўляецца доказ таго, што бабовыя расліны засвойваюць свабодны азот толькі праз карані.

Памёр Пётр Самсонавіч Касовіч 13 жніўня 1915 г. у чыне сапраўднага стацкага саветніка, будучы ардынарным прафесарам і старшынёй Таварыства дапамогі бедным вучням Імператарскага ляснога інстытута[1]. «Журнал опытной агрономии» пасля яго смерці ўзначаліў глебазнавец, **Канстанцін Каятанавіч Гедройц** (1872–1932), распрацоўшчык асновы калоіднай хіміі глебаў, які працаваў у часопісе ад пачатку яго выдання.

Адным з таленавітых вучняў прафесараў Дз. Кайгародава і П. Касовіча быў выхадзец з беларускага Беластока **Якаў Ісідаравіч Перэльман** (1882–1942). У Імператарскі лясны інстытут ён паступіў у 1901 г., а ў 1908 г. абараніў тут магістэрскую працу на тэму «Старарускі казённы лесапільны завод. Яго абсталяванне і праца». Яшчэ падчас навучання Якаў Перэльман пачаў супрацоўніцтва з выдавецтвам П. Сойкіна, для якога напісаў шэдэўр займальнай навукова-папулярнай кнігі «Займальная фізіка» (першае выд. у 1913 г.), часта друкаваў навукова-папулярныя арты-

[1] *Прянишников Д.* Памяти Петра Самсоновича Коссовича // Журнал опытной агрономии. Т. 16. Книга 5. СПб., 1915. С. I–VIII.

кулы ў часопісе «Прырода і людзі». Менавіта Якаў Перэльман, калі працаваў у 1916 г. у Асобай нарадзе па паліве, для паляпшэння спраў па ацяпленні першым прапанаваў перавесці ў Петраградзе стрэлку гадзінніка на гадзіну наперад для эканоміі паліва, што і было рэалізавана. Пазней Я. Перэльман быў членам праўлення ленінградскага выдавецтва «Час» (у праўленне ўваходзілі акадэмікі А. Ферсман, С. Ольдэнбург і іншыя), працаваў у Доме займальных навук, які пачаў працаваць у горадзе ў 1935 г. Памёр ад голаду ў час блакады Ленінграда. Кнігі яго карысталіся неверагоднай папулярнасцю: толькі ў СССР яны выдадзены агульным тыражом у 15 мільёнаў экзэмпляраў.

## Акадэмія мастацтваў

Акадэмія мастацтваў у Пецярбургу была заснавана загадам імператрыцы Елізаветы Пятроўны ў 1757 г. Прапанову Сената па арганізацыі гэтай установы зрабіў дзяржаўны дзеяч і мецэнат І. І. Шувалаў, заснавальнік і першы куратар Маскоўскага універсітэта. Ён запрасіў выкладаць у Акадэміі члена парыжскай Акадэміі жывапісца Л. Ж. Ледарэна, выкладаць малюнак — Ж. М. Маро, архітэктара Ж.-Б. Вален-Дэламота, скульптара Н. Ф. Жыле, берлінскага гравёра Е. Ф. Шмідта. З рускіх ён узяў у штат акадэмічных выкладчыкаў толькі архітэктара С. Чэкавінскага (і тое спачатку толькі як выкладчыка чарчэння). Шувалаў падарыў Акадэміі не толькі выдатную бібліятэку, але і калекцыю са 104 карцін геніяльных мастакоў: Рэмбранда, Ван-Дэйка, Перуджына, Веранэзе, Пусэна, Остэндэ і іншых. Пазней гэтая калекцыя стала асновай сусветна вядомага збору Эрмітажа[1]. На загад Кацярыны II Іван Бяцкой склаў новы Статут Акадэміі, які быў зацверджаны 4 лістапада 1764 г. Гэтую дату сталі лічыць афіцыйным днём заснавання Акадэміі мастацтваў. Набор у акадэмію, згодна са Статутам, адбываўся адзін раз на тры гады. Навучанне ў мастацкіх класах было разлічана на шэсць гадоў. Класы падзяляліся на жывапісны, гравёрны, скульптурны і архітэктурны. Усе вучні класа выконвалі работу на адну тэму, што давала магчымасць параўноўваць іх поспехі і ацэньваць не па балах, а па парадкавых нумарах. Лепшыя працы сваіх вучняў Акадэмія адзначала ўзнагародамі — залатымі і срэбнымі медалямі чатырох ступеняў. Выпускнікам Акадэміі прысвойвалася званне мастака (жывапісу, альбо скульптуры, альбо архітэктуры). Тыя, хто закончыў навуку з вялікім залатым медалём, атрымлівалі права на творчую паездку за кошт Акадэміі за мяжу для ўдасканалення. У далейшым выпускнікам Акадэміі за пасляховае выкананне прац па яе заданнях магло прысвойвацца званне акадэміка, якое дазваляла выкладаць у Акадэміі. Акадэмія мастацтваў была галоўнай мастацкай навучальнай установай Пецярбурга, асяродкам прыцягнення ўсяго таленавітага, яскравага з усіх куткоў вялізнай імперыі. З гэтай вучэльні выходзілі найбольш прафесійныя і па-еўрапейску адукаваныя мастакі.




*Акадэмія мастацтваў. Паштоўка XIX ст.*

Першапачаткова Акадэмія мастацтваў размяшчалася ў памяшканнях палаца Шувалава на рагу Італьянскай і Малой Садовай вуліц, а ў 1765 г. у прысутнасці Кацярыны II адбылася ўрачыстая закладка адмысловага будынка на набярэжнай Нявы. Яго будавалі паводле праекта архітэктараў Ж.-Б. Вален-Дэламота і А. Ф. Какорынава ў стылі ранняга класіцызму. Будоўля закончылася ў 1788 г. У 1832 г. перад будынкам на спецыяльных гранітных пастаментах былі ўсталяваны прывезеныя з Егіпта сфінксы (выявы фараона Аменхатэпа III, які жыў у 1419—1383 гг. да н. э.).

Першым вучнем-акадэмістам з беларускіх зямель лічыцца **Міхал Падалінскі** (1783—1856), які быў родам з-пад Оршы. У 1802—1808 гг. ён прайшоў клас гістарычнай кампазіцыі, потым партрэта. За кампазіцыю «Скульптар за працай» у 1809 г. Падалінскі атрымаў малы залаты медаль і малы срэбны медаль за малюнак з натуры. Пасля заканчэння Акадэміі малады мастак пераехаў у Вільню і працягваў навучэнне на кафедры прыгожых мастацтваў у гравёра Ёзафа Саўндэрса — Віленская мастацкая школа на той час была значна мацнейшай за Пецярбургскую. У 1811—1817 гг. пасля смерці графа А. Строганава і да прызначэння прэзы-

[1] *Левинсон-Лессинг В. Ф.* История картинной галереи Эрмитажа (1764—1917). Л., 1986. С. 46—47.

дэнтам А. Аленіна ў Акадэміі мастацтваў «панавала рэдкае запусценне: класы, падобныя да кураня, раскрадзеная маёмасць, разрабаваны музей, выкладчыкі, якія не хадзілі на працу, хворыя, п'яныя ці лянівыя вучні, карацей кажучы, — развал усёй справы»[1].

У тыя ж гады (1809) па стыпендыі І. Плятэр ў скульптурнай майстэрні І. П. Мартаса тры месяцы вучыўся Казімір Ельскі (1782–1867). У больш спрыяльныя 1820-я гг. у Пецярбургу навучаюцца І. Невіль, В. Ваньковіч (1825–1829), В. Смакоўскі (1825–1829), які стаў у далейшым выкладчыкам Віленскага універсітэта. У 1814–1816 гг. акадэмічную стажыроўку прайшоў яшчэ адзін выкладчык віленскай кафедры, архітэктар Карл Падчашынскі. У 1824 г. у Пецярбург пасля заканчэння Віленскага універсітэта прыязджае **Юліян Карчэўскі** (1806–1833) родам з Ашмян, які браў урокі жывапісу ў знакамітага ўжо А. Арлоўскага, яшчэ раней, з 1810 г. тут жыве яго зямляк **Іосіф Іванавіч Аляшкевіч** (1777–1830) з Радашковічаў. Пасля навучання жывапісу і малюнку ў майстэрні Францішка Смуглевіча ў Віленскім універсітэце Іосіф Аляшкевіч доўгі час жыў і вучыўся ў Дрэздэне, а потым апынуўся ў Парыжы сярод вучняў славутага Давіда. Пасля вяртання на Радзіму яму не ўдалося заняць віленскую кафедру свайго першага настаўніка (Смуглевіч памёр у 1807 г.) і мастак у 1809 г. настала пераязджае ў Пецярбург. Яшчэ падчас навучання ў Парыжы Іосіф Аляшкевіч праславіўся ўменнем пісаць такія жывапісныя творы, якія вельмі падабаліся заказчыкам. Таксама і пецярбуржцы, асабліва прадстаўніцы прыгожай паловы чалавецтва, з замілаваннем і захапленнем глядзелі на свае партрэты ягонай работы. У 1812 г. мастак закончыў карціну «Самарыцянскі клопат і апека імператрыцы Марыі Фёдараўны над беднымі» — высокая апякунка і яе падапечныя паказаныя на фоне егіпецкай піраміды (што паказвала, на думку мастацтвазнаўцаў, на масонскую сімволіку). Пасля гэтай працы Аляшкевіч не толькі атрымаў званне акадэміка, але і знайшоў шматлікіх прыхільнікаў пры двары. Сучаснік успамінаў пра значныя змены у яго духоўным жыцці і рэлігійных поглядах: «Апынуўшыся ў Францыі ў самы кульмінацыйны момант душэўнай раўнавагі і агульнага заняпаду духоўнасці з-за празмернага шанавання цела і матэрыі, малады, нявопытны Аляшкевіч паддаўся быў спакусам, якія цягне за сабой салодкая атрута вялікай змяі, якая з'яўляецца ў вобразе гатовай на ўсё жанчыны. Ён спазнаў і зла і дабра! Аднак... Гасподзь ахінуў яго сваёй літасцю... Аляшкевіч стаў членам розных аб'яднанняў, якія былі напалоханы распаўсюджаным бязбожжам і сваявольніцтвам. Найвышэйшыя рангі вольных муляроў, Rose-Croix (розэнкрэйцараў), ілюмінатаў, марыністаў, міхаэлітаў, месмерыстаў, падымаючы частку заслоны, якая хавала ад язычніцкага на той час погляду французаў спрадвечныя маральныя ісціны, моцна паўплывалі на розум Аляшкевіча, ад прыроды схільны да містыцызму»[2]. Азначаныя схільнасці яшчэ падчас навучання ў Францыі прывялі Іосіфа Аляшкевіча да захаплення Бібліяй і вучэннем масонаў; у Пецярбургу ён стаў вялікім магістрам ложы Белага арла.



*Галоўны будынак Акадэміі мастацтваў*

[1] *Эфрос А.* Два века русского искусства. М., 1969. С. 158.
[2] *Пржецлавский О. И.* Воспоминания // Русская старина. 1876. Т. 16. № 7. С. 564.

Бескарыслівая шчодрасць, мастацкія таленты і залішняя балбатлівасць зрабілі мастака з Радашковічаў адной з выдатных пецярбургскіх асоб эпохі царавання Мікалая І. Развядзенне шматлікіх катоў было толькі адным з захапленняў гэтага неардынарнага чалавека.

Для ўдасканалення ў жывапісе ў Пецярбургскую акадэмію мастацтваў быў накіраваны студэнт Віленскага універсітэта **Валянцін Ванькові**ч (1799–1842). Нарадзіўся ён у маёнтку Калужыцы Ігуменскага павета Мінскай губерні ў сям'і павятовага суддзі. Пасля заканчэння Полацкай гімназіі паступіў у Віленскі універсітэт на факультэт жывапісу, скульптуры і графікі, дзе вучыўся ў славутага прафесара Рустэма. У лістападзе 1824 г. Валянцін Ванькові падаў у Вільні прашэнне выдаць 200 рублёў на дарогу на трох коней. Новы год і Раство правёў з роднымі ў Мінску, а падарожную прасіў у мінскага губернатара ўжо 12 студзеня 1825 г. У Пецярбургу Ванькові спыніўся на Галёрнай вуліцы ў доме Камерцыйнага таварыства ў пана Орды (яго маці была сваячкай Ордам), пазней наймаў кватэру на Васільеўскім востраве, летам жыў на дачы ў Паргалаве. У Пецярбургу мастак замацаваў сваю рэпутацыю партрэтыста: «Шмат аматараў звярталіся да яго з просьбай зрабіць партрэт. Ванькові быў заможны, акрамя таго, меў добрую падтрымку ад універсітэта... ён шукаў натуру, рады быў з яе пісаць, і партрэты ад яго атрымлівалі амаль задарма», — пісаў сучаснік. Пасля першага году навукі Валянцін Ванькові паехаў дамоў, ажаніўся з Анэляй Растоцкай і вярнуўся ў Пецярбург ужо з маладой жонкай (а 7 лютага 1826 г. атрымаў афіцыйную вымову ад Віленскага універсітэта за тое, што, будучы на казённым утрыманні, без згоды начальства адлучаўся з Пецярбурга). У Пецярбургскі перыяд Ванькові зрабіў «Партрэт Адама Міцкевіча на Аюдагу». Партрэт гэты ўпершыню дэманстраваўся ў маі 1828 г. на выставе ў Акадэміі разам з партрэтамі герояў вайны 1812 г. работы Дж. Доу і атрымаў станоўчыя водгукі прэсы (булгарынскай «Паўночнай пчалы»); падабаўся тым, хто ведаў Міцкевіча і, што важна, самому паэту. Пісаў Ванькові і Аляксандра Пушкіна, з якім быў блізка знаёмы — партрэт гэты цяпер лічыцца страчаным. Акадэмію Валянцін Ванькові закончыў з малым залатым медалём, аднак сродкаў для падарожжа ў Італію дзеля далейшага ўдасканалення Віленскі універсітэт для свайго стыпендыята не меў — жывапісец Ванькові вярнуўся ў свой маёнтак Сляпянка пад Мінскам[1].

З 1999 г. у Пецярбургу складаюць «Адзіны рэйтынг мастакоў Расійскай імперыі, СССР, «рускага замежжа», Расійскай Федэрацыі і рэспублік былога Савецкага Саюза». Кожнаму з мастакоў прысвойваецца адна з 14 катэгорый. Валянцін Ванькові атрымаў у гэтым рэйтынгу 9-ю пазіцыю з вызначэннем «сталы прафесійны мастак»[2].

У 1839 г. на акадэмічнай выстаўцы ў Пецярбургу з поспехам экспанавалася карціна Януарыя Сухадольскага «Штурм крэпасці Ахалцык». Гэта было толькі адно з палотнаў вялікай серыі, прысвечанай паходам рускай арміі пад камандаваннем фельдмаршала Паскевіча ў час руска-персідскай (1826–1828) і руска-турэцкай (1828–1829) войнаў. Большасць прац гэтага цыклу граф Паскевіч купіў для свайго палаца ў Гомелі. Ураджэнец Гродна, жывапісец **Януарый Сухадольскі** (1797–1875) на запрашэнне цара Мікалая І некалькі гадоў жыў у Пецярбургу і выканаў шэраг батальных кампазіцый пра вайну 1812 г. У 1853 г. ён стварыў карціну «Узяцце Ачакава», якая была набыта Акадэміяй мастацтваў[3].

Шырокі мастацкі рынак у Пецярбургу прываблівай вялікімі магчымасцямі самых розных творцаў. У сталіцы «рабілі імёны», атрымоўвалі званні і чыны, пікам кар'еры было выкананне імператарскіх заказаў. Зорным і паказальным у гэтым сэнсе можна назваць лёс сыноў прыгоннага селяніна князёў Любамірскіх Сяргея і Мікалая Заранкаў з сяла Лядава, што на Магілёўшчыне. У сярэдзіне 1820-х гг. сям'я Заранкаў атрымала «вольную» і пераехала ў Пецярбург, дзе бацька ўладкаваў хлопцаў на службу да князёў Галіцыных. Там маладога **Сяргея Канстанцінавіча Заранку** (1818–1871) заўважыў і пачаў вучыць жывапісец А. Венецыянаў, які дапамог яму ўладкавацца ў акадэмічную майстэрню пейзажыста М. Вараб'ёва. Пазней гэтым жа шляхам пайшоў другі брат — Мікалай Канстанцінавіч Заранка. Ужо ў сярэдіне 1850-х гг. Сяргей Заранка робіцца адным з самых модных і папулярных мастакоў-партрэтыстаў у Пецярбургу.

[1] *Свирида И. И.* Между Петербургом, Варшавой и Вильно: Художник в культурном пространстве XVIII – середина XIX вв. Очерки. М., 1999. С. 171–197.

[2] Единый художественный рейтинг. Вып. 10 (2005). Справочник (27046 живописцев и графиков, 3402 скульптора). СПб., 2005.

[3] *Дробаў Л. М.* Беларускія мастакі XIX стагоддзя. Мінск, 1971. С. 25–32.

Сярод ягоных прац партрэты пецярбуржцаў: мастака А. Венецыянава (2-я пал. 1830-х гг.), спевака В. Пятрова (1840), скульптара-медальера Ф. Талстога (1850), групавы партрэт «Выгляд залы Вучылішча правазнаўства з групамі настаўнікаў і выхаванцаў» (1841) і інш. З 1856 г. Сяргей Заранка — выкладчык Маскоўскага вучылішча жывапісу, скульптуры і дойлідства, ён распрацаваў сістэму выкладання, пабудаваную пераважна на вывучэнні натуры, дакладнасці ў перадачы бачнага свету[1]. З Масквы мастак час ад часу прыязджае ў Пецярбург, каб намаляваць, напрыклад, партрэт вялікага князя цэсарэвіча Аляксандра Аляксандравіча ў мундзіры лейб-гвардыі Атаманскага палка (1867 г.). Партрэт быў так запатрабаваны, што мастак некалькі разоў паўтарыў кампазіцыю, мяняючы форму мундзіра і ордэны. Згодна з «Адзіным рэйтынгам мастакоў...» 2005 г., Сяргей Канстанцінавіч Заранка заняў 5-ю (з 14) пазіцыю з вызначэннем «мастак-прафесіянал высокага класа, запатрабаваны мастацкім рынкам і публікай».

Мы ўжо адзначалі, што Санкт-Пецярбургская акадэмія мастацтваў зрабіла вялікі ўплыў на фармаванне мастацкага асяроддзя на Беларусі. Пасля Вільні гэта быў другі па значнасці асяродак мастацкай адукацыі і моды. У 1827—1836 гг. у Акадэміі як вольны слухач вучыўся **Іван Фаміч Хруцкі** (1810—1885). Ён дасягнуў значных поспехаў, у 1837 г. узнагароджаны ад цара гадзіннікам з залатым ланцужком, у 1838 г. за карціны «Кветкі і плады» і «Партрэт старой» («Старая, якая вяжа панчоху») Акадэмія прысудзіла яму малы залаты медаль. У пецярбургскі перыяд, акрамя папулярных нацюрмортаў з садавінай і кветкамі, Іван Хруцкі напіша партрэты камер-юнкера Рыгора Тарноўскага, тайных саветнікаў Нагінскага і Жмакіна, уніяцкіх мітрапалітаў Іасафата Булгака і Іосіфа Сямашкі. У 1843 г. ён напісаў адзін з лепшых сваіх партрэтаў — Іллі Іванавіча Глазунова — старшыні купецкай управы, патомнага і ганаровага грамадзяніна Пецярбурга, вядомага кнігавыдаўца. У гэты ж год ён напісаў «дванаццаць партрэтаў розных асобаў, вобраз святога Аляксандра, карціны кветак і пладоў і від Паргалава, па прыватных заказах»[2]. На наступны год Іван Фаміч Хруцкі пераехаў на Беларусь і больш у Пецярбург не вяртаўся. Скончыўшы Акадэмію па ландшафтным жывапісе ў 1842 г., застаўся жыць у Пецярбургу яго брат Яўстафі. Малодшы брат — Андрэй — вучыўся ў Акадэміі з 1845 да 1848 г. у прафесара М. Вараб'ёва, пасля пераехаў на Беларусь.

«Адзіны рэйтынг мастакоў...» 2005 г. ставіць Івана Хруцкага на 3-ю (з 14) пазіцыю з вызначэннем «мастак-прафесіянал высокага класа з выдатнымі арганізацыйнымі здольнасцямі, які карыстаецца безумоўным попытам і папулярнасцю».

Традыцыю сямейнага навучання ў Акадэміі мастацтваў у 1850—1870 гг. працягнулі браты Гараўскія — Іпаліт і Апалінар. Асаблівых поспехаў дасягнуў **Апалінар Гіляравіч Гараўскі** (1833—1900), які стаў акадэмікам жывапісу. Нарадзіўся ён у вёсцы Уборкі Ігуменскага павета Мінскай губерні (цяпер Асіповіцкі раён), дзесяцігадовым хлапчуком быў залічаны ў Брэст-Літоўскі кадэцкі корпус. Тут здольнага юнака заўважыў вядомы мастак і архітэктар М. Бенуа, які часта наведваў брата-палкоўніка начальніка Брэст-Літоўскага кадэцкага корпуса — ён дапамог паступіць у Пецярбургскую акадэмію мастацтваў. Апалінар Гараўскі вучыўся ў класах прафесараў М. Вараб'ёва і Ф. Бруні. Напісаны на летніх канікулах беларускі пейзаж «Балота» быў куплены падчас дэманстрацыі на Акадэмічнай выставе 1852 г. Паэт і мастацкі крытык Апалон Майкаў у аглядзе выстаўкі ў часопісе «Айчынныя запіскі» назваў гэтую працу Гараўскага выдатнай і адзначыў у ліку найлепшых. У 1866 г. у пецярбургскім касцёле Святога Станіслава з'явіўся абраз Святой Філамены работы Апалінара Гараўскага. Два рамантычныя пейзажы А. Гараўскага «Від маёнтка графа Кушалева-Безбародкі Краснасельцы Пскоўскай губерні» (1854, цяпер у Гатчынскім палацы) і «Від дубровы на беразе ракі Свіслач каля Бабруйска» (1855, цяпер у ДзРМ) набыў вялікі князь Аляксандр Аляксандравіч, будучы імператар Аляксандр III.

У 1830—1840-я гг. у Акадэміі навучаліся выдатны акварэліст Казімір Ясевіч (1812—1888) і пейзажыст Альберт Жамет (1821—1877) з Вільні, Канстанцін Кукевіч (1818—1840) з-пад Вільні і Кандрат Карсалін (1809—1872) са Слуцка.

Мала хто з іх вяртаўся працаваць і стала жыць у Беларусь — Іван Хруцкі, які апошнія 30 гадоў свайго жыцця пражыў у сваім маёнтку Захарнічы ля Полацка, хутчэй, выключэнне з правілаў. Некаторы час пасля Пецярбурга жыў у Віцебскай губерні Тадэвуш Гарэцкі, але апошнія гады ён правёў у Парыжы. Больш распаўсюджаныя прыклады — часовае

[1] *Смирнов Г.* С. К. Зарянко. 1818—1870. М., 1951.

[2] *Паньшына І. М., Рэсіна А. К.* Іван Хруцкі. 1810—1885. Мінск, 1990. С. 6—10.

наведванне Радзімы пасля заканчэння АМ — вандроўка з мэтай атрымаць заказ ці часовую працу. Так, Іпаліт Гараўскі некалькі гадоў працуе настаўнікам малявання дзяцей генерала Дружыніна ў Мінску, Нікадзім Сіліsavanovіч распісвае праваслаўныя храмы і піша партрэты царкоўных дзеячаў у Лідскім павеце.

Цяжкай складаўся лёс тых мастакоў, хто ставаў у апазіцыю да палітыкі царату. Прыкладам можа быць Эдвард Паўловіч. **Эдвард Баніфацый Паўловіч** нарадзіўся ў чэрвені 1825 г. у Тургялях (цяпер прыгарад Вільні) у сям'і былога каморніка Вялікага Княства Літоўскага (а з 1804 г. — геометра) Францыска Паўловіча і Кунегунды Пагарэльскай. Пачатковую адукацыю ён атрымаў у Жыровіцкай манастырскай школе, гімназію закончыў у 1836 г. у Слуцку. Пасля гэтага Эдвард Паўловіч два гады як вольны слухач наведваў лекцыі віленскіх Медыка-Хірургічнай і Духоўнай акадэмій, адначасова браў урокі малюнку ў мастакоў Кнута Русецкага і Карла Рыпінскага. У 1849 г. прага да мастацтва прывяла таленавітага юнака ў сталіцу імперыі — ён паступіў у Пецярбургскую акадэмію мастацтваў, у клас жывапісу прафесара М. Вараб'ёва. Пасля заканчэння курса падарожнічаў па Францыі, Італіі, Іспаніі, дзе шмат капіяваў абразы старых майстроў. Вярнуўшыся ў Пецярбург у 1859 г., ён атрымаў дыплом Акадэміі і адразу паехаў да першага месца працы — настаўнікам у Навагрудскую гімназію.

У Навагрудку, апроч выканання сваіх абавязкаў настаўніка, Эдвард Паўловіч займаўся разнастайнай грамадскай дзейнасцю. Шмат працаваў і як мастак. Ён рабіў алоўкам замалёўкі навагрудскіх краявідаў (шмат якія пазней былі надрукаваны ў львоўскіх выданнях, прысвечаных Адаму Міцкевічу), напісаў алейныя абразы: св. Дамініка (паводле Тыцыяна) для фарнага касцёла і св. Станіслава Косткі для капліцы Навагрудскай гімназіі. Верагодна, што ён пісаў на заказ партрэты навагрудскай шляхты — вывучэнне мастацкай спадчыны Э. Паўловіча павінна даць яшчэ шмат інфармацыі для гістарычнага краязнаўства.

Падчас антырасійскага паўстання 1863 г. Э. Паўловіч не прымаў удзелу ў баявых дзеяннях, аднак быў асуджаны да высылкі. Некалькі гадоў ён правёў у Петразаводску, Аланцы і Екацярынаславе. Пасля вызвалення ў 1867 годзе Паўловіч спрабаваў асесці ў Пецярбургу, але не атрымаў ад уладаў згоды. Ён вярнуўся ў Навагрудак, потым выехаў у Варшаву, дзе два гады працаваў выкладчыкам у прыватнай мастацкай школе. У 1869 г. мастак пакінуў межы Расійскай імперыі і пасяліўся ў Львове (Аўстра-Венгрыя). Жывучы у Львове, Эдвард Паўловіч шмат пісаў успамінаў, у тым ліку і пра перабыванне ў Навагрудку — ён выдаў асобную кнігу «Наваргадак у XIX стагоддзі»[1], а таксама мемуары, якія выйшлі ў Львове трыма выданнямі[2], прымаў удзел у складанні двухтомавіка, прысвечанага стагоддзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча. У 1900 г., маючы ўжо 75 гадоў, Эдвард Паўловіч апошні раз наведаў Наваградчыну, зрабіў ахвяры на школку ў Туганавічах і на курган памяці Міцкевіча. Памер ён 10 лютага 1909 г. будучы, па словах сучасніка, «найбольш маляўнічай постаццю ў цэлым Львове».

У 1841 г. у Пецярбург прыехаў з маёнтка Біскупцы Лідскага павета **Тадэвуш (Фадзей Антонавіч) Гарэцкі** (1825–1868). Ён паступіў у Акадэмію мастацтваў да жывапісца Карла Брулава і хутка стаў адным з лепшых яго вучняў. У 1845 г. за карціну «Споведзь маладой жанчыны ў каталіцкага святара» Гарэцкі атрымаў малы залаты медаль. У творчай манеры Тадэвуша Гарэцкага заўважна выявіўся ўплыў акадэмічнага класіцызму Брулава, хаця гэты акадэмізм у Гарэцкага мае больш інтымны і сентыментальны характар. Гэта выразна бачна ў карціне «Хрыстосаванне», якую майстар скончыў у 1850 г. і якая была набыта для Мармуровага палаца[3].

З 1852 па 1858 г. у Акадэміі мастацтваў вучыўся **Міхаіл Восіпавіч Мікешын** (1835–1896), ураджэнец вёскі Максімаўка, што недалёка ад маленькага старажытнага Рослаўля. Пасля заканчэння ён застаўся ў Пецярбургу, займаўся ілюстраваннем кніг, у тым ліку класічных пісьменнікаў. На кватэры віцэ-прэзідэнта Акадэміі мастацтваў Фёдара Талстога Міхаіл Мікешын пазнаёміўся з мастаком і паэтам Тарасам Шаўчэнкам. Выдатны ўкраінскі дзеяч зрабіў моцнае ўражанне на маладога чалавека: «Той доляй прыязні, якую ён праяўляў да мяне, я ўнутрана ганарыўся», — гаварыў пазней Міхаіл Восіпавіч. Украінскі патрыятызм Тараса Шаўчэнкі стаў прычынай роздуму над сваёй існасцю смаленчука Мікешына — і Міхаіл Восіпавіч прызнаў сябе

[1] *Pawłowicz E.* Nowogródek w XIX w. Lwów, 1902.
[2] *Pawłowicz E.* Wspomnienia z nad Wilii i Niemna. Lwów, 1882, 1883, 1901.
[3] *Дробов Л. Н.* Живопись Белоруссии XIX – начала XX в. Минск, 1974. С. 114–115.

за беларуса. Беларуса, гатовага служыць магутнай Расійскай імперыі. Мікешын стараўся ўвасобіць пафас гэтай магутнасці ў сваіх працах. Закончыў ён жывапісны клас, але найбольш праславіўся скульптурнымі працамі. Тры выдатныя помнікі канца XX ст. належаць Мікешыну: тысячагоддзю Расіі ў Ноўгарадзе, Багдану Хмяльніцкаму ў Кіеве і Кацярыне II у Пецярбургу. За манумент у Ноўгарадзе, які быў адкрыты 8 верасня 1862 г., 26-гадовы скульптар атрымаў ордэн і пажыццёвую пенсію.




*Помнік Кацярыне II на плошчы Астроўскага, насупраць Александрынскага тэатра*

Пецярбургскі помнік распачалі будаваць у скверы перад Александрынскім тэатрам у 1862 г. У гэтага манумента ёсць свая адметнасць. Звычайна, і як правіла, цары на помніках адзінокія. Бронза і граніт сцвярджаюць: толькі ім, памазанікам Божым, належаць усе здзяйсненні царства. А падножжа статуі імператрыцы Кацярыны II атачаюць выдатныя людзі кацярынінскай эпохі — генералісімус Сувораў, адміралы А. Арлоў і Чычагаў, дыпламат Безбародка і прэзідэнт Акадэміі мастацтваў Бяцкой, паэт Дзяржавін і прэзідэнт Расійскай Акадэміі Дашкова[1]. Скульптар увасабляў новую для імперыі ідэалогію — саборнасці ўлады. Імператар ёсць primes inter pares — першы сярод роўных.

Каб увасобіць ідэю, Мікешын наняў добрых скульптараў: выкананне фігуры імператрыцы ён даручыў М. Чыжову, а фігуры славутых дзеячаў кацярынінскай эпохі выканаў А. Апекушын. Складаны па малюнку п'едэстал стварылі архітэктары Грым і Шрэтэр. Шмат пазней, калі Апекушын адзначаў свой дзевяностагадовы юбілей, ён так успамінаў сумесную працу з Мікешыным:

«*У маладосці, памятаю, мы працавалі з Чыжовым на пабудове помніка Кацярыне II для Пецярбурга па малюнку Мікешына. Малюнак — гэта адна справа, а ляпіць такую аграмадзіну з гліны — іншая. Мікешын сам у лепцы ні «а» ні «бэ» не разумеў. Ну, мы з Чыжовым і пацелі... Аднойчы Мікешын прыходзіць у майстэрню, дае нам грошы і кажа: «Зараз жа ляціце і купляйце фракі: чакаецца прыезд у майстэрню імператара, прадставіцца яму трэба абавязкова ў фраках». Мы ўзялі грошы і пайшлі. Прыходзім і даведваемся, што ў нашу адсутнасць цар быў у майстэрні. Мікешын, запэцкаўшы ў гліне рукі, прымаў яго як сапраўдны стваральнік помніка. А потым спрабаваў яшчэ пасміхацца з нас, — маўляў, «апраніцеся, рабяты, сёння ў фракі, не прыехаў бы імператар». Мы раззлаваліся і хацелі абодва сысці, аднак ён даў слова, што пра фракі больш не ўспомніць, нават дабавіць аплату, і толькі пасля гэтага мы засталіся і дакончылі для яго помнік*».

Помнік Кацярыне быў адкрыты ў лістападзе 1873 г. і адразу ўвайшоў у аблічча Пецярбурга як адзін з апошніх вялікіх і самабытных помнікаў дарэвалюцыйнай эпохі. Горад ушанаваў Міхаіла Мікешына ўвядзеннем у 1905 г. стыпендыі яго імя для студэнтаў скульптурнага аддзялення Акадэміі мастацтваў.

У 1870 г. Мікешын задумаў вялікую кампазіцыю «Апафеоз Глінкі»: над магілай славутага музыканта ўзвышаецца скала, і, стоячы на ёй, трое сялян — рускі, украінец і беларус высока трымаюць бюст кампазітара, а да магілы ідуць гараджане і сяляне, горцы Каўказа і беларусы — землякі М. Глінкі і М. Мікешына (сам мастак стаіць, задумаўшыся, на першым плане, рука яго на агароджы); фон кампазіцыі паказвае эпізоды «Камарынскай», «Руслана і Людмілы»[2].

[1] *Микешин М. О.* Описание проекта памятника императрице Екатерине II. Составил автор проекта. СПб., 1896.

[2] *Савинов А. Н.* М. Микешин. М., 1971. С. 10.



*Надмагільны помнік М. Мікешыну ў Аляксандра-Неўскай лаўры*

Увасаблення ў матэрыяле гэты праект не атрымаў. Выпускнік майстэрні батальнага жывапісу, Мікешын стаў першым мастаком, які атрымаў званне акадэміка скульптуры не непасрэдна за скульптурныя працы (ён аддаваў гэта прафесіяналам), але за ідэі і праекты помнікаў. Шмат зрабіў Міхаіл Восіпавіч і як ілюстратар кніг, прынамсі любімых «Вія» Гогаля і «Кабзара» Шаўчэнкі. Сярод яго прац і нечаканыя, прыкладам, кармавое ўпрыгожанне вінтавога браняноснага фрэгата «Князь Пажарскі» (другая палова XIX ст.). Спадчына гэтага таленавітага чалавека яшчэ чакае свайго даследчыка; першая задача — знайсці сляды яго архіва. Дачка Міхаіла Мікешына Ганна Міхайлаўна Баўмгартэн-Мікешына (1866–1926) перадала архіў бацькі ў аддзел рукапісаў Публічнай бібліятэкі, але, доўга праляжаўшы неапрацаваным, гэты фонд у 1980-я гг. быў перададзены ў нейкі іншы архіў. Матэрыялы Мікешына можна знайсці сярод папераў асабістага архіва Ганны Міхайлаўны, што захоўваецца ў Пушкінскім доме, у іншых архівах Пецярбурга і Масквы. Зяць — архітэктар Баўмгартэн — стаў аўтарам помніка Міхаілу Мікешыну на Нікольскіх могілках Аляксандра-Неўскай лаўры.

У 1850–1860-я гг. у Санкт-Пецярбургскай акадэміі мастацтваў навучаюцца таксама Марк Антакольскі з Вільні, Іван Шрэдэр з Віцебскай губерні, Леў Пігулеўскі з Мінска, Нікадзім Сілівановіч з-пад Маладзечна. Скульптар **Іван Мікалаевіч Шрэдэр** (1835–1909) пасля паспяховага супрацоўніцтва са сваім земляком Міхаілам Мікешыным у працы над помнікам Тысячагоддзя Расіі ў Ноўгарадзе паехаў працаваць на 4 гады ў Паўднёвую Амерыку, потым вярнуўся ў Пецярбург і да канца жыцця жыў на 8-й лініі Васільеўскага вострава, 33. Сярод яго манументальных твораў — вытанчаны па сілуэце помнік капітану І. Крузэнштэрну на Мікалаеўскай набярэжнай (пастаўлены ў 1870–1873 гг.).

**Нікадзім Юр'евіч Сілівановіч** (1834–1919) нарадзіўся ў вёсцы Цынцавічы Вілейскага павета ў сялянскай сям'і. У Акадэмію мастацтваў ён паступіў у 1859 г., а ў 1870 г. скончыў тут жа мазаічны клас і застаўся ў ім выкладаць. Адначасова, разам з І. Лаварэцкім, стварыў мазаічную кампазіцыю «Тайная вячэра» для галоўнага іканастаса Ісаакіеўскага сабора, таксама мазаікі «Евангеліст Мацвей», «Евангеліст Лука», «Евангеліст Марка», «Пацалунак Юды». Працаваў таксама і як жывапісец, у яго карцінах «Дзеці ў двары», «Салдат і хлопчык», «Мужчынскі партрэт» раскрыўся пераход ад класіцызму да рэалізму. У 1876 г. Нікадзіма Сілівановіча абралі акадэмікам.

Калі ў 1866 г. у культурнай сталіцы Беларусі — Вільні — адчынілася Віленская школа рамяства і клас жывапісу (пазней Віленская народная школа малявання), Пецярбургская акадэмія мастацтваў аказвала гэтай установе метадычную дапамогу: прысылала гіпсы, мадэлі арнаментаў і ордэраў, як прыклады — акварэлі, малюнкі і карціны былых яе выхаванцаў, праводзіла конкурсы сярод навучэнцаў. Два выхаванцы школы Трутнева сталі выкладчыкамі Акадэміі мастацтваў — Ілля Гольдман і Іван Уладзіміраў.

Другая хваля мастакоў, якія нарадзіліся на Беларусі і скончылі АМ на мяжы XX ст., прынесла з сабой больш значны вынік[1]. У 1870–1880-я гг. у Пецярбургскай акадэміі мастацтваў вучыліся Антон Васюцінскі (1858–1935) з Магілёва, Аляксандр Лукашэвіч (1865–?) з мястэчка Сянно Магілёўскай губерні, віленец Іосіф Бальзукевіч (1867–1915), Антон Каменскі (1860–1933), сын пінскага паўстанца Тадэвуш Дмахоўскі (1852–1930), былы вучань віленскай школы І. Трутнева Людамір Яноўскі (1862–1939),

[1] *Усава Н. М.* Пецярбургская Акадэмія мастацтваў і фарміраванне мастацкага асяроддзя на Беларусі ў другой палове XIX і пачатку XX ст. // Белорусский сборник Вып. 2. СПб., 2002. С. 73–80.

Зыгмунт Пятровіч (1862–1956), Зянон Ленскі (1864–1927), Генрых Вейсенгоф (1874–1922) і Ж. А. Пашкевіч з-пад Мінска.

Асаблівым прэстыжам сярод мастакоў-беларусаў карысталася батальная майстэрня. На гэта ўплывала прынамсі тое, што батальны жывапіс стаў вядучай галіною гістарычнага жанру. Пачынае традыцыю яшчэ ў 1835–1839 гадах віленчук Канстанцін Кукевіч (1810–1842), які у пецярбургскі перыяд стварае 32 батальныя кампазіцыі і шмат малюнкаў фігур уланаў. Поспех жывапісных баталій А. Арлоўскага і Я. Сухадольскага (1797–1875) з Гродна таксама спрыяў выбару мастацкай моладдзю менавіта гэтай майстэрні. Папулярнасць баталістаў пацвярджалі персанальная ўвага да яе імператара (які часта бываў у майстэрні і ведаў усіх вучняў) і якасці характару яе кіраўніка Багдана Вілевальдэ, які ніколі не адмаўляў у матэрыяльнай дапамозе сваім небагатым вучням.

У 1890-я гг. у АМ паступаюць Фердынанд Рушчыц (1870–1936), Лэйба Альпяровіч (1874–1913), Янкель Кругер (1869–1940)[1], Баляслаў Тамашэвіч, Майсей Слепян (1872–1940) і іншыя. Усе яны вярнуліся на Беларусь і працавалі на карысць сваёй радзімы. Побыт студэнта Акадэміі мастацтваў у Пецярбургу можна ўявіць па дзённіку Фердынанда Рушчыца. Лёс гэтага чалавека – яскравы прыклад таго, як лёгка Беларусь аддавала свайго гадаванца ў суседнюю культуру. Напачатку Радзіму малады Рушчыц успрымаў як Літву: «Бывай бацькаўшчына — Літва, праз якую сёння праехаў. Бывай ненадоўга», — пісаў мастак, выязджаючы за мяжу ў 1897 г.[2]. Радзімай быў Мінск, дзе будучы мастак на выдатна закончыў гімназію, і бацькаў маёнтак – вёска Багданаў на Браслаўшчыне. Разам са сваім сябрам, студэнтам з Латвіі Пурвітам, Рушчыц рэгулярна ў 1898–1904 гг. удзельнічаў у веснавых выставах Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, выстаўляўся таксама разам з мастакамі групоўкі «Мир искусства», дзе заўважнае месца займаў ураджэнец Гродна Леў Бакст. Такая плюралістычнасць не падабалася ні акадэміку Куінджы, ні лідэру «мірыскуснікаў» Дзягілеву. Абодва асяродкі прымалі Рушчыца як пасынка, ён гэта адчуваў, глыбока перажываў і ўрэшце прыйшоў да ўсведамлення сябе як крэсова-польскага мастака. Падтрымка ў Кракаве і Варшаве замацавала гэты выбар. Хаця маскоўскі калекцыянер і мецэнат Сава Марозаў набыў яго карціну «Млын зімой» (1898), з часам Рушчыц аддаліўся ад пецярбургскага мастацкага кола. Ён заснаваў ў Вільні мастацкі часопіс «Tygodnik Wileński». Гэты часопіс асвятляў падзеі мастацкага жыцця краю, прапагандаваў мясцовых мастакоў для беларускай, літоўскай і польскай грамадскасці. У 1930-я гг. Фердынанд Рушчыц вучыў жывапісу ўраджэнца Пецярбурга, гаспадара маёнтка Лоша на Астравеччыне, таленавітага Льва Дабжынскага (1907–1938).

Калі ў гарадах Беларусі адчыніліся першыя прыватныя школы малявання: Юдаля Пэна ў Віцебску ў 1897 г., і ў 1904–1906 гг. адначасова тры ў Мінску — Я. Кацэнбогена, Я. Кругера і І. Яроменкі. Праграмы гэтых школ былі пабудаваны па схеме акадэмічных, адной з мэт іх існавання была падрыхтоўка самых здольных вучняў да паступлення ў Пецярбургскую акадэмію мастацтваў.

Мастацкі вобраз Беларусі, які стварылі расійскія мастакі з акадэмічнай адукацыяй — гэта яшчэ адзін, іншы аспект шматграннай тэмы суадносінаў Пецярбурга і Беларусі. Краявіды і тыпы пісалі шмат рускіх мастакоў, якія ў розныя часы падарожнічалі па Беларусі: А. Строкаў, Н. Атрыганьеў, А. Мяшчэрскі, П. Сухадольскі, І. Шышкін, М. Энгель, П. Сейтгоф, Н. Неўраў, К. Савіцкі, Ю. Клевер, Г. Семірадскі, І. Рэпін. Традыцыя вандроўкі мастака, наогул, была распаўсюджана з цэхавых часоў, калі такія падарожжы з дарожнымі накідамі і замалёўкамі лічылі найлепшай школай. Але польскія і рускія мастакі па-рознаму ўспрымалі Беларусь. Польская мастацкая традыцыя бачыла ў беларускім краявідзе «смутную Аркадыю», страчаны рай. Рускія мастакі стварылі іншы стэрэатып успрымання заходніх губерняў: дзікі, прыгожы, але бядацкі край. Гэты «мастацкі міф» падтрымлівалі і мастакі-беларусы: «Вастру сваю зброю – аловак – і зноў хачу ўславіць сваю «Эльвіру», сваю нязграбную радзіму — Беларусь», — пісаў Міхаіл Мікешын, рыхтуючыся да чарговай вандроўкі па Беларусі[3]. Балоты, непралазныя пушчы, шынкі, сяляне-жабракі – асноўныя матывы ў рускіх мастакоў. Можа, таму так падкрэсліваецца беларускімі мастацтвазнаўцамі выключная роля Іллі Рэпіна, які ўбачыў іншы вобраз краіны і яе народа – годны, вольналюбівы і прыгожы. Пасля таго як у 1893 г. Рэпін купіў сабе маёнтак на Беларусі (Здраўнёва ў Віцебскім павеце), у

[1] *Черняк М.* Я. М. Кругер // Искусство. 1969. № 6.

[2] *Рушчыц Ф.* Дзённік. Да Вільні 1894–1904. Мінск, 2002. С. 78.

[3] *Мелишкевич В. У.* Русско-белорусские культурные связи второй половины XIX века. Минск, 1984. С. 77.

творчасці мастака з'явілася шмат беларускіх сюжэтаў. Гэта і партрэты беларускіх сялян, і жанравыя карціны («Паненка ў вёсцы», 1898), і праца над гістарычнымі сюжэтамі («Казанне Язафата Кунцэвіча», 1893)[1].

Да мастакоў, якія не былі звязаныя з Акадэміяй мастацтваў, але пакінулі значны след у гісторыі мастацтва Пецярбурга, належыць выхадзец з Гродна **Леў Самойлавіч Бакст (Розенберг)** (1866–1924). Жыў ён да 1910 г. на Маякоўскага, 52. Майстэрню меў на Салтыкова-Шчадрына, 24. Вялікі поспех мела яго карціна «Карнавал у Парыжы ў гонар прыбыцця рускіх маракоў 5 кастрычніка 1893 г.». Палатно было напісана ў 1900 годзе ў памяць пра візіт у Францыю рускай эскадры пад камандай контр-адмірала Авелана і стала помнікам стварэння Антанты. Да таго ж і славутыя Пецярбургскія сезоны Дзягілева ў Парыжы мелі вялікі рэзананс шмат, дзякуючы тэатральным работам Льва Бакста.

У сценах Акадэміі мастацтваў паўстала і выдатная школа пецярбургскіх арітэктараў, якія сваімі працамі ўпрыгожылі горад. Ды й зараблялі яны няблага — дамы заказвалі багатыя людзі. З архітэктараў беларускага паходжання найбольш вядомым стаў **Іван Уладзіслававіч Жалтоўскі** (1867–1959). Нарадзіўся ён у Пінску, у дваццаць гадоў паступіў у Акадэмію на архітэктурнае аддзяленне. Жыў у Пецярбургу і вучыўся тут адзінаццаць гадоў. Такі працяглы тэрмін абумоўлены тым, што бедны правінцыял мусіў зарабляць на жыццё працай у розных архітэктурных майстэрнях. Пасля атрымання звання архітэктара-мастака амбітны малады чалавек вырашыў пакінуць сталічны Пецярбург і стаць першым у правінцыйным Іркуцку, куды яго запрасілі на працу. Па дарозе ў Сібір спыніўся ў Маскве і застаўся там назаўсёды. Выкладаў у Строганаўскім вучылішчы, рабіў праекты грамадзянскіх і прамысловых пабудоў. Пасля рэвалюцыі Іван Жалтоўскі пазнаёміўся з кіраўніком савецкай дзяржавы Уладзімірам Леніным, працаваў над праектамі самых знакавых будынкаў савецкай сталіцы, уключаючы перапланіроўку Масквы і непабудаваны Палац Саветаў. Паводле рэйтынга архітэктараў «Адзінага мастацкага рэйтынгу...» Іван Жалтоўскі заняў самую высокую, першую пазіцыю з вызначэннем: «Архітэктар сусветнага значэння правераны часам».

З Бельска-Падляскага Гродзенскай губерні паходзіў архітэктар **Іосіф Рыгоравіч Лангбард** (1882–1951). Акадэмію мастацтваў Лангбард скончыў у 1914 годзе. Вайна і рэвалюцыя, а потым перанясенне сталіцы ў Маскву не спрыялі развіццю будаўніцтва ў горадзе над Нявой. Для Ленінграда Іосіф Лангбард будаваў мала: увасоблены толькі жылыя дамы і стадыён імя У. Леніна (1934). А вось для Беларусі гэта адзін са знакавых архітэктараў. Паводле яго праектаў пабудаваны ў Мінску Дом Урада, Дзяржаўны тэатр оперы і балета БССР, галоўны корпус Акадэміі навук Беларусі, Дом Саветаў у Магілёве. Ён адін з аўтараў схемы генплана Гомеля і «Эскіза планіроўкі Мінска» (абодва 1944 г.) З 1935 г. да 1951 г. дойлід выкладаў у ленінградскай Акадэміі мастацтваў[2]. Паводле рэйтынга архітэктараў «Адзінага мастацкага рэйтынгу...» Іосіф Лангбард заняў чацвёртую (з 14-і) пазіцыю з вызначэннем: «Архітэктар-прафесіянал высокага ўзроўню з індывідуальнай творчай манерай».

* * *

Для музыкантаў XIX і XX стст. — прынцыпова новая эпоха. Пецярбург цяпер — не толькі месца творчых і кар'ерных рэалізацый, што абумоўлена патрэбамі культурнага развіцця сталіцы. Сюды едуць з Беларусі не толькі як раней — каб вучыць, але і каб вучыцца: паступова яго перавага над колішнімі цэнтрамі беларускай еўрапейскай культурнай арыентацыі — Вільняй і Варшавай — робіцца ўсё больш відавочнай, а шляхі ў сталіцу — усё лепш пратаптанымі. На гэта ўплывала і закрыццё Віленскага ўніверсітэта, і перавод каталіцкай духоўнай акадэміі з Вільні ў Пецярбург, і стварэнне тут першай расійскай кансерваторыі, і поспехі ў музычным свеце пецярбургскіх мастацкіх школ.

У Пецярбургу вучылася і працавала як канцэртантка выдатная скрыпачка XIX ст. **Тэафіля Юзэфовіч** з Гродна. «Паганіні ў жаночай сукенцы» — казалі пра яе сучаснікі. Партыю фартэпіяна ў яе першым сталічным канцэрце — ёй тады было толькі 13 гадоў — выканаў піяніст і кампазітар **Антон Абрамовіч** (1811–1854). Хоць большая частка жыцця Абрамовіча прайшла ў паўночнай сталіцы (перабраўся сюды з Віцебшчыны ў 1832 г.), Антон заставаўся свядомым беларусам. Ён зрабіў першыя спробы ствараць нацыянальную беларускую прафесійную музыку на аснове мелодый беларускіх народных танцаў і песень. Сярод яго дасягненняў фартэпіянныя

[1] *Шышанаў В.* Невядомае Здраўнёва // Віцебскі сшытак. 2000. № 4. С. 90–115.
[2] *Воинов А. А.* И. Г. Лангбард. Минск, 1976.

п'есы «Беларускія мелодыі», «Зачараваная дуда», праграмная цыклічная кампазіцыя «Беларускае вяселле» (у 8 частках), рамансы на вершы яшчэ аднаго выдатнага пецярбургскага беларуса Яна Баршчэўскага «Дзеванька» і «Гарэліца» — ці не першыя кампазітарскія творы на вершы, напісаныя жывой беларускай мовай. Маці і сястра кампазітара, будучы віцяблянкамі, час ад часу падавалі пісьмовае прашэнне на дазвол жыць у Пецярбургу. Ад гэтай бюракратычнай працэдуры захавалася некалькі архіўных дакументаў, з якіх мы ведаем два пецярбургскія адрасы кампазітара: у 3-й Адміралцейскай частцы 3-га квартала ў доме пана Адама № 220 і доме генерал-лейтэнанта Крывашэйна[1].

Станаўленне нацыянальнага беларускага музыканта ў Пецярбургу — з'ява невыпадковая. Першая палова XIX ст. — бурны росквіт рамантызму. Мастакі паўночнай сталіцы актыўна звяртаюцца да нацыянальных, народных крыніц. Цікавасць да Беларусі, да разбураных, некалі магутных Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, да Польшчы і Украіны аб'ядноўваюць выхадцаў з гэтых краёў у пошуках і творчых здзяйсненнях, а таксама ў асабістых кантактах — Яна Баршчэўскага, Іосіфа Аляшкевіча, Адама Міцкевіча, Тараса Шаўчэнкі. Яны часта сустракаюцца і ў салоне М. Віельгорскага, слухаюць ігру М. Шыманоўскай, выкананне М. Глінкам раманса М. Шыманоўскай на вершы А. Міцкевіча, захапляюцца артыстычным талентам Віельгорскага, якога Міхал Клеафас Агінскі ставіў вышэй за найвыдатнейшых віяланчэлістаў тагачаснай Еўропы, разважаюць, захапляюцца, перажываюць, дыскутуюць...[2]. Аднагодак Антона Абрамовіча віленчук **Віктар Кажынскі** (1812–1867) быў вядомы ў Пецярбургу як дырыжор аркестра Александрынскага тэатра, піяніст (ён адзін з першых выканаў у Расіі творы Фрыдэрыка Шапэна), крытык і музыказнаўца (аўтар манаграфіі пра гісторыю італьянскай оперы), афіцыйны музычны сакратар вандроўнай місіі князя А. Львова ў Германіі. Пасля навучання ў Дж. Фільда застаўся ў Пецярбургу гарадзенец **Аляксандр Бернард** (1816–1901), тут і пакінуў свой талент педагога фартэпіяна і гісторыі музыкі, кампазітара, музычнага пісьменніка, рэдактара часопіса «Нувеліст».

## Кансерваторыя

Атрымаць вышэйшую музычную адукацыю ў Пецярбургу сярэдзіны XIX ст. можна было ў класах Рускага музычнага таварыства, якія мясціліся з 1857 г. у будынку Міхайлаўскага палаца (пазней будынак адышоў пад Рускі музей). У 1862 г. з ініцыятывы члена Рускага музычнага таварыства Антона Рубінштэйна была заснавана Кансерваторыя (напачатку яна называлася Музычным вучылішчам), было адчынена 30 класаў, у якіх адбываліся заняткі па тэорыі музыкі, фартэпіяна, срыпцы, іншых музычных інструментах і спевах. Выпускала кансерваторыя прафесійных музыкантаў з дыпломам «вольны мастак». Першы выпуск адбыўся ў 1865 г. Сярод выпускнікоў (102



*Санкт-Пецярбургская кансерваторыя*

1 *Кісялёў Г.* Героі і музы. Гісторыка-літаратурныя нарысы. Мінск, 1982. С. 84–85.

2 *Маціеўскі І. У.* Беларуская мастацкая плынь у фармаванні еўрапейскага абрысу музычнай культуры Санкт-Пецярбурга // Белорусский сборник. Статьи и материалы по истории и культуре Белоруссии. Вып. 1. Санкт-Петербург, 1998. С. 37.

мужчыны і 71 жанчына) быў кампазітар Пётр Чайкоўскі. На пачатку свайго існавання кансерваторыя размяшчалася ў некалькіх пакоях дома на рагу набярэжнай Мойкі і Дзямідава завулка. У 1865 годзе яе перанеслі ў дом на Загарадным праспекце, 24, а ў 1868 г. у будынак, які да гэтага займаў дэпартамент унутраных спраў, на Тэатральнай вуліцы (цяпер вуліца Дойліда Росі). Менавіта тут вучыўся (1883–1887, у класе Антона Рубінштэйна) кампазітар і паэт Генрых Скірмунт з Моталя Пінскага павета[1]. Толькі ў 1887 г. Музычнаму таварыству перадалі стары (XVIII ст.) будынак Вялікага (Мураванага) тэатра на Тэатральнай плошчы. У лістападзе 1891 г. адбылося адкрыццё кансерваторыі ў гэтым (капітальна перабудаваным па праекту архітэктара В. Ніколя) будынку з двюма выдатнымі па сваіх акустычных уласцівасцях заламі — Вялікай і Малой.

Першым дырэктарам кансерваторыі быў яе заснавальнік Антон Рубінштэйн. Другім дырэктарам быў беларус **Мікалай Зарэмба** (1821–1879). Ён нарадзіўся на Віцебшчыне, вучыўся ў Пецярбургу і Берліне, у сярэдзіне XIX ст. быў адным з найбольшых музычных аўтарытэтаў расійскай сталіцы. Кампазітар, тэарэтык музыкі, арганізатар і педагог, Зарэмба ўпершыню ў Расіі распачаў выкладанне тэорыі музыкі на рускай мове, сфармаваў навучальны працэс і структуру Пецярбургскай кансерваторыі (па ягонай «Інструкцыі» кансерваторыя працавала шмат дзесяцігоддзяў), быў яе прафесарам (сярод яго вучняў П. Чайкоўскі і музычны крытык Г. Ларош).

Актыўным удзельнікам «магутнай купкі» рускіх музыкантаў быў прафесар Военнаінжынернай акадэміі віленчук **Цэзар Антонавіч Кюі** (1835–1918). Ён займаўся музычнай кампазіцыяй (у С. Манюшкі) яшчэ падчас свайго побыту на Беларусі. Першы перыяд свайго пецярбургскага жыцця ён жыў на Шпалернай, 6, кв. 15. Як кампазітар найбольш вызначыўся ў жанры раманса (напісаўшы іх больш за 300), таксама аўтар 14 опер, у тым ліку «Вільям Раткліф» паводле Г. Гейнэ (пастаўлена ў 1869 г.) і «Анджэла» паводле Віктора Гюго (пастаўлена ў 1876 г.). Закончыў оперы «Каменны госць» Даргамыжскага і «Сарочынскі кірмаш» М. Мусаргскага. Да канца жыцця ён стала жыў на Фантанцы, 38. Выдатным тэарэтыкам, гісторыкам музыкі, крытыкам і музычным пісьменнікам Пецярбурга і Расіі другой паловы XIX і пачатку XX ст. быў таксама **Віктар Чачот** з Магілёва — вучань А. Сярова, кампазітар, аўтар сімфоній і опер, «Урачыстага маршу да стагоддзя А. Міцкевіча». Добрую кар'еру ў Пецярбургу ў канцы XIX і ў першай палове XX ст. зрабілі мінскія скрыпачы Міхайла Сербулаў і Раман Фідэльман.



*Фёдар Стравінскі*

Дваццаць гадоў (1881–1902) жыў на рагу набярэжнай Крукава канала, 6/8 і вуліцы Дзекабрыстаў, 27[2] выдатны спявак, саліст рускай оперы Марыінскага тэатра, родам з маёнтка Новы Двор Рэчыцкага павета Мінскай губерні — **Фёдар Ігнатавіч Стравінскі** (1843–1902 гг.). Гадаваўся хлапчук у Брагіне, потым вывучаў юрыспрудэнцыю ў Кіеве і Нежыне. Музычныя здольнасці прывялі маладога чалавека ў Пецярбургскую кансерваторыю (рэктарам тады быў М. Зарэмба). У 1873 г. ён скончыў навучанне, два сезоны спяваў у Кіеўскай оперы, а пасля быў запрошаны ў Марыінскі тэатр, дзе да 1901 г. выканаў больш за 60 рознахарактарных партый. Сярод лепшых яго роляў Фарлаф у «Руслан і Людміла» М. Глінкі, Млынар у «Русалцы» А. Даргамыжскага, Мефістофель у «Фаусце» Ш. Гуно і іншыя. Бас-кантата, «пявучы бас», Фёдар Стравінскі валодаў яскравым сцэнічным талентам, майстэрствам пераўвасаблення, сам ствараў эскізы грыму

[1] З Пецярбурга Генрых пераехаў у Парыж, у 1902 г. яго опера «Пан Валадыеўскі» была пастаўлена ў Львоўскай оперы. Пасля 1920 г. жыў у сваім маёнтку Моладава. Расстраляны НКВД у 1939 г.

[2] У 1885 г. гэты адрас пісалі так: Пецярбург, Плошча Вялікага Тэатра; дом Тупікова, кватэра 65.

да роляў. У 1884 г. Фёдар Ігнатавіч пачаў збіраць бібліятэку мастацкай, гістарычнай і філалагічнай літаратуры, а таксама краявідаў гарадоў, жанравых гравюр і партрэтаў. Збіральніцтва хутка захапіла яго, і на кнігі выдаткоўваліся вялізныя сумы — да тысячы рублёў у год. Усе набытыя кнігі запісваліся ў спецыяльныя сшыткі, з датай і месцам пакупкі. З запісаў вынікае, што «па кнігі» спявак адпраўляўся два, а то і тры разы на тыдзень, шукаў патрэбныя выданні і рабіў закупы ў больш як 90 крамах, лаўках, магазінах, кніжных складах і нават у разносчыкаў на вуліцах сталіцы. Збіраў Фёдар Ігнатавіч і аўтографы вядомых людзей — цяпер яго багатая калекцыя захоўваецца ў рукапісным аддзеле Пушкінскага дома, а частка яе — больш як 1400 партрэтаў кампазітараў, музычных выканаўцаў і акцёраў XIX стагоддзя — знаходзіцца ў Аддзеле эстампаў Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі. Прах славутага спевака пахаваны на некропалі дзеячаў мастацтваў Аляксандра-Неўскай лаўры. Сын Фёдара Ігнатавіча — **Ігар Стравінскі** — стаў адным з буйнейшых кампазітараў XX стагоддзя.



*Від на былы будынак пецярбургскай марской мытні (зараз Інстытут рускай літаратуры (Пушкінскі Дом) у белую ноч*

# ПЕЦЯРБУРГ–ПЕТРАГРАД У КАНЦЫ XIX І ПЕРШЫЯ ДЗЕСЯЦІГОДДЗІ XX СТАГОДДЗЯ



# Раздзел 10.

## ПЕЦЯРБУРГ-ПЕТРАГРАД У КАНЦЫ XIX І Ў ПЕРШЫЯ ДЗЕСЯЦІГОДДЗІ XX СТАГОДДЗЯ

Не люблю я места (па-расейску — горад).
Надта там цяснота, і вялікі сморад
*Францішак Багушэвіч*

На пачатку XX ст. Пецярбург заняў трэцяе месца па колькасці насельніцтва сярод гарадоў Еўропы пасля Лондана і Парыжа, а па сваім эканамічным і культурным патэнцыяле не саступаў ім. Непаўторны партрэт сталіцы гэтага часу застаўся ў працах мастака Мсціслава Дабужынскага, унука выхадца з Вялікага Княства Літоўскага: масты, заводы, тэатральныя афішы, пяцішасці-сяміпавярховыя дамы... У гэты час у горадзе бурна развівалася прамысловасць, прычым большасць новых заводаў належала акцыянерным кампаніям са значным удзелам нямецкага, англійскага і французскага капіталу, яны мелі самае сучаснае на свой час абсталяванне. Колькасць рабочых дасягнула 230 тыс. чалавек, на долю Пецярбурга прыходзілася трэцяя частка ўсёй прадукцыі расійскага машынабудавання і амаль 40% хімічнай прамысловасці. Пасля прайгранай руска-японскай вайны эканоміка перажыла крызіс — толькі ў 1907–1913 гг. ён замяніўся на новы ўздым. У гэты час пецярбургскія капіталы актыўна ўдзельнічалі ў развіцці прамысловых прадпрыемстваў не толькі горада, але, між іншым, і Беларусі. Пецярбургскаму Таварыству водазабеспячэння належаў вадаправод у Гродне, у сталіцы былі праўленні таварыстваў, якім належалі прадпрыемствы на Беларусі: акцыянернае таварыства косцеапрацоўчых заводаў, акцыянернае таварыства «Лесапрамысловасць і домабудаўнічыя аперацыі Лер'е і Берлін» і інш.

Сярод новабудоўляў цэнтра горада канца XIX — пачатку XX ст. заслугоўваюць увагі палац вялікага князя Уладзіміра Аляксандравіча на Мойцы і невялікі асабняк балерыны Мацільды Кшэсінскай на Кронверскім праспекце, а таксама будынкі гасцініц: «Еўрапейскай» на Неўскім і «Асторыі» на рагу Вялікай Марской вуліцы і Ісакіеўскай плошчы. Дзякуючы таленту архітэктара Фёдара Лідваля, «Асторыя» стала ўзорам архітэктуры паўночнага мадэрну. Самыя багатыя банкі імперыі паспяшаліся аднавіць (пабудаваць) у цэнтры Санкт-Пецярбурга свае рэзідэнцыі, не шкадуючы на гэта сродкаў: Рускі прамыслова-гандлёвы банк і Азоўска-Данскі банк на Вялікай Марской, Сібірскі банк і яшчэ 20 іншых — на Неўскім праспекце. Інжынер Сцяпан Крычынскі, выхадзец з сям'і беларускіх татараў, удзельнічаў у праектаванні і пабудове на Петраградскай старане саборнай мячэці — яшчэ аднаго выразнага архітэктурнага акцэнта Пецярбурга (закладзена ў 1910 г., адкрыта ў 1913 г., канчаткова скончана ў 1920 г.).




*Мар'ян Лялевіч. «Дом Мертэнса» на Неўскім праспекце*

Насельнікаў, паводле перапісу 1897 г., у Пецярбургу было 1267 тыс. чалавек, сярод іх мужчын на 10% больш, чым жанчын (у іншых еўрапейскіх гарадах суадносіны былі адваротныя) — гэта тлумачылася значнай колькасцю рабочых-сялян, сем'і якіх заставаліся на вёсцы. Беларуская дыяспара паступова расла: ад 3 тыс. чалавек у 1869 г. да 7 тыс. у 1881 г., затым адзначаны імклівы рост — да 42 тыс. у 1900 г. і 70 тыс. — у 1910 г.[1]. У працэнтных адносінах

[1] *Юхнева Н. В.* Этнический состав и этносоциальная структура населения Петербурга. Вторая половина XIX – начало XX в.: Статистический анализ. Л., 1984. С. 24, 39.



*Мар'ян Лялевіч. «Дом Мертэнса». Дзверы*

гэта адпавядае 0,4 % усяго насельніцтва горада ў 1869 г., 2,9 % — у 1900 г., 3,7 % — у 1910 г. У канцы XIX ст. павялічылася эміграцыя з Беларусі ў ЗША[1], Канаду, краіны Лацінскай Амерыкі, аднак гэты паток быў непараўнальна меншы адносна выезду ў Пецярбург: у пачатку XX ст. беларусы былі другой па колькасці (пасля рускіх) нацыянальнасцю і самай вялікай нацыянальнай дыяспарай горада. 70 тыс. беларусаў у Пецярбургу ў 1910 г. — гэта больш, чым у той час было ўсіх жыхароў у Віцебску (65 тыс.), Гродне (52 тыс.) ці Магілёве (50 тыс.). Значыць, па абсалютнай велічыні беларусаў-гараджан Санкт-Пецярбург з'яўляўся адным з самых вялікіх беларускіх гарадоў. А прымаючы пад увагу вялікі працэнт інтэлігенцыі, працаўнікоў высокай кваліфікацыі і шляхты, займаў пазіцыі вышэй Вільні і Мінска. Гэткая роля для Пецярбурга не выключная — ён таксама быў другім (па колькасці фінаў) фінляндскім, другім (па колькасці эстонцаў) эстонскім горадам, як Вена ў тыя ж часы — другім у свеце чэшскім горадам[2]. Выхадцаў з Беларусі ў Пецярбургу часта стараліся зрабіць зручным інструментам палітыкі царату, накіраванай калі не на асіміляцыю Польшчы, то на адаптацыю яе да знаходжання ў імперыі. Шмат больш памяркоўныя па сваіх поглядах, чым выхадцы з этнічна польскіх земляў, выхаваныя ў польскамоўным асяроддзі беларусы рабіліся актыўнымі членамі пецярбургскіх грамадскіх таварыстваў: «Саюз польскіх урачоў і прыродазнаўцаў», «Таварыства польскіх юрыстаў і эканамістаў», «Агніско», «Кола Варшаўскага таварыства аховы гістарычных помнікаў у Пецярбургу». Праўда, ад гэтага трацiла беларуская культура, застаючыся сферай дзейнасці асоб пераважна рабочага і сялянскага паходжання. Але заставаліся актывісты і для беларускай працы. А колькасць беларусаў у горадзе (у адпаведнасці з філасофскім законам пераходу колькасці ў якасць) паступова ператваралася ў новыя беларускія культурніцкія праекты, палітычныя партыі, грамадскія арганізацыі.

Пастаянна пашыралася плошча Санкт-Пецярбурга. Шэраг навакольных вёсак і пасёлкаў увайшлі ў гарадскія межы: Палюстрава, сяло Смаленскае (раён Палеўскага праспекта, цяпер праспект Елізарава), Мурына, «Старая Деревня». Шмат новай забудовы з'явілася ў цэнтры. Гэта не толькі шыкоўныя будынкі для банкаў на Неўскім праспекце, Вялікай і Малой Марской. На Пецярбургскай старане за пяць-сем гадоў на месцы разламаных драўляных і малапавярховых цагляных дамкоў узнік новы раён, з мураванымі на 6—7 паверхаў дамамі ў стылі мадэрн з ліфтамі ў парадных пад'ездах, з ваннамі і гарачай вадой, з газавымі плітамі на кухнях і туалетамі прамыўнога тыпу. Кошты пецярбургскіх кватэр былі самыя дарагія ў Еўропе. Адным з модных і папулярных будаўнікоў Пецярбурга ў гэты час стаў ураджэнец Ваўкавыска **Мар'ян Станіслававіч Лялевіч** (1876—1944) — архітэктар-прафесіянал высокага ўзроўню з індывідуальнай творчай манерай. Яго пабудовы да сёння ўпрыгожваюць Неўскі праспект: гэта фасад і інтэр'ер глядзельнай залы




*Мар'ян Лялевіч. Будынак банка*
*на Неўскім праспекце*

[1] *Кіпель В.* Беларусы ў ЗША. Мінск, 1993.
[2] *Энгман М.* Финляндцы в Петербурге. СПб., 2005. С. 144.




*Мар'ян Лялевіч. Кінатэатр «Parisiana» на Неўскім праспекце*

кінатэатра «Парызіяна» (1913), гандлёвы дом футравай фірмы Мертэнса, фасады будынка Сібірскага банка насупраць Гасцінага двара (цяпер фірма «Норд»). На Петраградскай старане паводле яго праектаў пастаўлены дом на рагу Мічурынскай і Малой Пасадскай (1912) і на Бронніцкай, 26 (1913); даходны дом Д. Быхоўскага — Каменаастроўскі праспект, 9; Малая Пасадская вуліца, 11. Лялевіч таксама будуе даходныя дамы на 10-й Савецкай № 17, у Карпаўскім завулку, 2а, даходны дом Пакацілавай, даходны дом М. Салавейчыка на Панцеляймонаўскай (Пестэля, 7). Усяго ў горадзе — больш за 60 рэалізаваных пабудоў і праектаў Мар'яна Лялевіча, яго ўзоры капіявалі сучаснікі і паслядоўнікі. Былі і нерэалізаваныя праекты: архітэктар Лялевіч удзельнічаў у конкурсах на праект новага будынка Дзяржаўнай Думы, якую меліся пабудаваць у скверы насупраць Рускага музея (атрымаў трэцюю прэмію), а таксама Дварцовага моста цераз Няву (спачатку нават зацверджаны, але пазней адхілены). Шматлікія яго пабудовы засталіся неад'емнымі акцэнтамі аблічча Пецярбурга.

З вулічнай сеткі вадасцёкаў паступова склалася так званая агульнасплаўная сістэма ачысткі. Па ёй адводзіліся пабытовыя, прамысловыя і паверхневыя сцёкавыя воды. Да 1917 г. у горадзе было 486 км каналізацыйных магістраляў. Вуліцы ў цэнтральных раёнах горада былі брукаваныя, асфальтаваныя альбо замошчаныя прасмоленымі драўлянымі шасціграннымі тарцамі, тратуары выкладзены плітамі з бутавага каменя. На ўскраінах частка вуліц не мела пакрыцця, а тратуары былі выкладзены дошкамі. Большасць працоўных жылі ў раёнах, дзе ацяпленне ў кватэрах было пячное, а з выгодаў меліся толькі водаправод, электрычнасць і каналізацыя. Хваробы і няшчасныя выпадкі на вытворчасці прыносілі рабочым велізарныя шкоды. Так, паводле дадзеных загадчыка бальніцы Неўскага суднабудаўнічага завода ўрача Восіпа Чыжа, у сярэднім за 1911 г. кожны рабочы Неўскага завода хварэў 6 разоў. За адзін толькі гэты год ад хвароб і няшчасных выпадкаў памерла 3% усіх рабочых Неўскага завода![1]

У канцы XIX — пач. XX ст. працягвалася развіццё гарадскога транспарту: павялічылася колькасць ліній паравога трамвая, 16 верасня 1907 г. адбыўся ўрачысты пуск электрычнага трамвая. Падчас адкрыцця першы вагон вёў кіраўнік праекта пабудовы ўраджэнец Віцебскай губерні **Генрых Восіпавіч Графцío** (1869—1949) — у будучым акадэмік АН СССР, кіраўнік пабудовы гідраэлектрастанцый на рэках Волхаў і Свір. У 1906 г. у Пецярбургу з'явіліся першыя таксаматоры, на 1914 г. іх было ўжо каля 400. У чэрвені 1912 г. дзеля папулярызацыі аўтамабіля арганізаваны аўтапрабег: 40 легкавых машын са сталіцы праз Пскоў, Вільню, Коўну, Мінск, Маскву з вяртаннем у Пецярбург. Аднак найбольш пасажыраў перавозілі рамізнікі (іх было каля 10 тыс.) і рамізнікі-ламавікі (больш як 25 тыс.). Прыкладна палова рамізнікаў была этнічнымі фінамі — гарадскія ўлады, зыходзячы з гэтага, у 1884 г. нават выпусцілі друкаваны загад пра паводзіны на вуліцах падчас калядаў паралельна на рускай і фінскай мовах. З забавы багатых ператвараўся ў транспартны сродак ровар, або веласіпед. Пра карыстанне роварам застаўся гумарыстычна-іранічны ўспамін пецярбургскага прафесара, ураджэнца Віцебшчыны, філосафа Мікалая Лоскага: «Неаднойчы вяртаўся я да думкі, што нават існаванне знешняга Свету не можа быць строга лагічна даказана. У сувязі з гэтым ад'быўся са мной такі кур'ёз. Восенню 1898 г. прафесар Лесгафт запрасіў мяне на свае Курсы чытаць лекцыі па гісторыі філасофіі. Я ездзіў на Курсы з Фантанкі на Гандлёвую вуліцу на веласіпедзе. Аднойчы, едучы на веласіпедзе, я глыбока абдумваў скандальнае становішча філасофіі, якая няздольная даказаць існаванне знешняга свету, і наскочыў на вялізныя калёсы ламавога рамізніка. Ровар быў сур'ёзна пашкоджа-

[1] История рабочих Ленинграда. Т. 1. 1703 — февраль 1917. Л., 1972. С. 408.

ны, мне абышлося лёгкімі гузакамі, рамізнік, грубы, як большасць ламавікоў, меў асалоду смачна вылаяцца, а існаванне знешняга свету засталося недаказанае»[1].



*Мар'ян Лялевіч. Даходны дом на Петраградскай старане*

Як бы ні было, 35 тысяч рамізнікаў транспартную праблему пасажыраў у сталіцы вырашыць не маглі. У 1901 г. міністр унутраных спраў і Гарадская дума разгледзелі першы ў гісторыі горада праект метрапалітэна. Аўтарам быў пецярбуржац **Пётр Балінскі** (1861–1925) — сын выхадца з Беларусі, славутага псіхіятра Івана Балінскага. Праект прадугледжваў злучэнне аддаленых паміж сабой частак горада шасцю лініямі — чатырма кальцавымі і дзвюма радыяльнымі — на Парахавыя і ў Порт. Архітэктурную частку (праект аздобы станцый метро) выканаў Мар'ян Лялевіч. Аднак прапанова Балінскага была адхілена. Да працы па праектаванні метрапалітэна вярнуліся толькі ў 1912 г. Гарадская дума нават зацвердзіла першую лінію, якая павінна была злучыць раён Нарвскіх варот з Мікалаеўскім вакзалам, але Першая сусветная вайна і Кастрычніцкая рэвалюцыя адцягнулі справу да 1955 г. Пётр Балінскі тым часам шмат працаваў як архітэктар-будаўнік, яго праекты з пазнавальнай творчай манерай арганічна ўвайшлі ў структуру горада. Гэта найперш будынак клінікі нервовых хвароб пры ВМА на Лясным пр., 2, прамысловы будынак на Фантанцы, 170, жылыя дамы на Някрасава, 7, Рубінштэйна, 6, Лігаўскім, 114, Фурштацкай, 17, Ліцейным, 33, і іншыя.

Горад радаваў сваіх жыхароў і бавіў гасцей цудоўнай — як застылая музыка — архітэктурай. І не толькі. Прастора Пецярбурга была таксама прасторай гучання добрай музыкі. У эпоху адсутнасці гуказапісу (а потым яго першых крокаў) прэрагатывай сталіцы была магчымасць пачуць жывое выкананне разнастайных музычных твораў на многіх тэатральных і канцэртных пляцоўках.

Значных поспехаў на музычнай ніве Пецярбурга дасягнулі віленчук — загадчык кафедры кампазіцыі кансерваторыі, настаўнік шэрагу таленавітых кампазітараў, у т. л. Дз. Шастаковіча, Максіміліян Штэйнберг (1883–1946) і славуты канцэртмайстар Яўген Вільбушэвіч (1874–1933) з Дзвінска. Ураджэнец Магілёва **Васіль Васільевіч Ястрабцоў** (1866–1934), пахаваны на Смаленскіх могілках) скончыў пецярбургскі Тэхналагічны інстытут, але прыезджага беларуса захапіла музыка. Ён паступае ў кансерваторыю і пасля заканчэння (у 1891 г.) зрабіў музыку галоўным заняткам свайго жыцця. Васіль Ястрабцоў сачыніў некалькі ўласных твораў, але застаўся ў гісторыі найперш як біёграф М. Рымскага-Корсакава (ён ліставаўся і сябраваў з выдатным кампазітарам) і як загадчык музеяў М. Глінкі і А. Рубінштэйна ў Петраградскай кансерваторыі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Выхадцы з Беларусі, атрымаўшы высокую адукацыю і паспяхова папрацаваўшы ў Пецярбургу-Ленінградзе, зрабілі немалы ўклад у станаўленне музычнай культуры Масквы, узмацніўшы ў ёй еўрапейскую арыентацыю. Сярод іх салістка Марыінскага, а потым маскоўскага Вялікага тэатраў Валянціна Біянкі (1839–1884) з Вільні, Аляксандр Батурын (нарадзіўся ў 1904 г. у Ашмянах) — выхаванец Ленінградскай кансерваторыі і рымскай акадэміі «Санта Чэчылія», выдатны майстар смычковых інструментаў **Даніла Тамашоў** (1875–1926), які нарадзіўся ў вёсцы Палашкова пад Клімавічамі на Магілёўшчыне, працаваў у Пецярбургу, у Кіеве, апошнія дваццаць гадоў — у маскоўскім Вялікім тэатры.

Музыканты, якія нарадзіліся на Беларусі, а выхоўваліся ў Пецярбургу, неслі пецярбургскія музычныя традыцыі ў іншыя гарады і краіны. Выдатны віяланчэліст **Зыгмунд Буткевіч** (1872–1921), родам з Ліды, саліст італьянскай оперы, пасля рэвалюцыі працаваў у Познані. У той жа час у Познань пераехаў і яго зямляк-лідчанін, вучань Л. Аўэра і М. Рымскага-Корсакава **Канстанцін Горскі** (1859–1924). Скрыпач і кампазітар, Канстанцін Горскі закончыў кансерваторыю з сярэбраным медалём, канцэртаваў па ўсёй Еўропе, выкладаў у Пензе, Саратаве, Тбілісі, Харкаве. Па матывах паэмы Уладзіслава Сыракомлі ён напісаў оперу «Маргер», у якой праз музыку зробле-

[1] *Лосский Н. О.* Воспоминания. Жизнь и философский путь. СПб., 1994. С. 110.

на інтэрпрытацыя прыходу каталіцызму на беларуска-літоўскія землі ў 1386 г. З гэтай жа плеяды **Канстанцін Галкоўскі** (1875–1963), ураджэнец Вільні, выпускнік Пецярбургскай кансерваторыі 1908 г., і **Ян Тарасевіч** (1889–1961), ураджэнец Саколкі (Гродзенскі павет), выпускнік Полацкага кадэцкага корпуса (1903) і Пецярбургскай кансерваторыі (1912).

У 1915 г. скончыў Пецярбургскую кансерваторыю **Вячаслаў Антонавіч Селях** (Селях-Качанскі; 1885–1976). Нарадзіўся ён у Лагойску, вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, але прага да музычнага мастацтва перамагла і вызначыла лёс гэтага таленавітага чалавека. Падчас навучання выступаў з канцэртамі, падзеяй стаў яго ўдзел у «Музычна-мастацкай раніцы памяці мастака-кампазітара М. К. Чурлёніса» 15 красавіка 1912 г. у Малой зале кансерваторыі. Пасля заканчэння навукі Селях трапіў у трупу Марыінскага тэатра: у конкурсе галасоў ён стаў адным з двух пераможцаў сярод 365 кандыдатаў, паспяховы дэбют адбыўся ў галоўнай партыі оперы «Князь Ігар». Усяго на сцэне Марыінкі Вячаслаў Селях выканаў больш як 20 роляў. Быў дублёрам Фёдара Шаляпіна ў ролі Барыса Гадунова, спяваў Шалкавітага ў «Хаваншчыне» Мусаргскага, Шанары ў «Багеме» Пучыні, ганца ў «Казцы пра Цара Салтана» Рымскага-Корсакава і інш. Але так здарылася, што кар'ера Селяха як спевака спынілася: ён любіў фарсіраваць голас, што прывяло да заўчаснай страты яго моцы. У цяжкія рэвалюцыйныя 1916–1918 гг. ён працуе ў Александрынскім тэатры, з 1923 г. Вячаслаў Селях выкладае ў петраградскім музычным драматычным інстытуце, а ў 1924 г. па запрашэнні Інбелкульта пераехаў на Беларусь. Працаваў выкладчыкам у оперным і харавым класах Мінскага музычнага тэхнікума. У 1927 г. ён паставіў у Мінску першую на беларускай мове оперу — «Русалку» Даргамыжскага[1].

Сярод артыстаў, якія, засвоіўшы пецярбургскія дасягненні і зрабіўшы ў іх свой уклад, вярнуліся на Беларусь, быў выдатны скрыпач, адзін з лепшых віртуозаў пачатку XX ст. **Карл Грыгаровіч** (1868–1921). Кіраўнік славутага «Мекленбургскага квартэта» ў Пецярбургу, маэстра Грыгаровіч апошнія гады жыцця працуе ў якасці прафесара Віцебскай кансерваторыі. Пасля навучання ў Варшаве, заканчэння Пецярбургскай кансерваторыі і працы ў Елізавецінскім інстытуце ў Пецярбургу, кампазітар і грамадскі дзеяч **Міхайла Анцаў** (1865–1945) жыве ў Віцебску, выкладае харавыя спевы і дырыжыраванне, рэдагуе газету «Віцебскія губернскія ведамасці». У пецярбургскім тэатры Літаратурна-мастацкага таварыства А. Суворына ў 1896 г. пачала ўзыходзіць зорка акцёра-беларуса віленчука **Васіля Іванавіча Шверубовіча** (1875–1948). Пік яго папулярнасці прыпадзе ўжо на савецкую эпоху і маскоўскі Мастацкі тэатр, дзе ён выступаў пад псеўданімам Васіль Качалаў.



*Мар'ян Лялевіч. Загарадны асабняк на Каменаастроўскім праспекце*

[1] *Чэрнік-Рымашэўская А. М.* Збор дакументаў Вячаслава Антонавіча Селяха — спевака, музычнага і тэатральнага дзеяча // Архіўныя чытанні I–III. Матэрыялы навук. канф. Мінск, 2003–2005. Вып. 1. Мінск, 2006. С. 102–104.

У дарэвалюцыйным Пецярбургу, дзякуючы зацікаўленням студэнцкай моладзі, у вышэйшых навучальных установах горада з'явіўся беларускі нацыяльны тэатр. У № 45 «Нашай Нівы» за 1909 г. была змешчана наступная нататка: «Пецярбург. Тутэйшыя беларусы хочуць зрабіць беларускі тэатр. Думаюць паставіць п'есу Крапіўніцкага «Па рэвізіі». Патроху пачынае станавіцца на ногі справа беларускага тэатра, што можа сыграць вялізную ролю ў справе нацыянальнага адраджэння беларускага народа. Бяда, што няма друкаваных беларускіх п'ес». Суполка неўзабаве ўзяла на сябе гэты абавязак і ўжо ў 1910 г. выдала перакладныя драматычныя творы — «Пашыліся ў дурні» М. Крапіўніцкага, «У зімовы вечар» Э. Ажэшкі, «Сватанне» А. Чэхава, а таксама арыгінальны беларускі твор — вадэвіль К. Каганца «Модны шляхцюк». У наступныя гады былі выдадзены п'есы «Па рэвізіі» М. Крапіўніцкага (1911), «Міхалка» М. Далецкіх (1911), «Паўлінка» Янкі Купалы (1912), «Хам» Э. Ажэшкі (1912), «Як яны жаніліся» А. Валодзьскага (1913), «Мядзведзь» А. Чэхава (1913).

19 лютага 1910 г. студэнты арганізавалі вечарыну з праграмай, якая ўключала спектакль «Па рэвізіі» паводле п'есы М. Крапіўніцкага, хор, дэкламацыю вершаў, танцы. Такія вечарыны сталі ладзіцца рэгулярна. На адну з іх (15 лютага 1911 г.) была запрошана прафесійная трупа Ігната Буйніцкага. Пазней у газеце «Наша Ніва» з'явілася карэспандэнцыя Янкі Купалы пра гэты вечар: «Зал «Пальма» прадстаўляў сабой маленькую часціну Беларусі: беларуская гутарка, беларускія танцы, беларускія нацыянальныя вопраткі. І папраўдзе, не аднаму беларусу гэты вечар перанёс думкі яго ў далёкую старонку... Весела і радасна чулася на сэрцы, гледзячы на гэту грамаду, каторая ў гэтай залі жыла як бы аднэй думкай нечагось святога, братняга...» Да вечарын выпускалі асобныя афішы. Адна з захаваных (надрукавана ў Санкт-Пецярбургскай друкарні імператарскіх тэатраў) паведамляла пра «Беларускія ігрышчы» 19 лістапада ў тэатральнай зале «Пальма» (Максімільянаўскі завулак, 18). У праграме: беларускі хор (кіраўнік С. Шымкус); «У зімовы вечар» Э. Ажэшкі; «Міхалка» М. Далецкіх; беларуская дэкламацыя і песні сола[1]. З'ява беларуска-літоўскай гісторыі — працяг гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ў Пецярбургу: беларускім хорам кіруе літовец, студэнт кансерваторыі Стасіс Шымкус, а ў той самы час студэнт гэтай жа кансерваторыі, беларус Вячаслаў Селях спявае ў мемарыяльным канцэрце памяці Мікалая Чурлёніса. Магчыма, сярод публікі, якая запаўняла залу «Пальма», быў і 30-гадовы пецярбуржац **Еўсцігней Афінагенавіч Мiровіч** (Дунаеў). Ён нарадзіўся ў 1878 г. у сям'і чыгуначніка, выхадца з Беларусі, пазней скончыў Самсонаўскае рэальнае вучылішча, школу малявання пры Акадэміі мастацтваў і курсы Пецярбургскага гуртка аматараў драматычнага мастацтва імя Волкава. З 1900 г. працаваў у пецярбургскіх тэатрах акцёрам, пазней рэжысёрам. Пасля 1919 г. Еўсцігней Міровіч пераехаў на радзіму бацькоў і стаў знакамітым тэатральным дзеячам. Працаваў у тэатрах Беларусі, атрымаў ганаровае званне народнага артыста БССР, напісаў сем беларускіх п'ес.

Якраз у той час захапіўся тэатрам студэнт Пецярбургскага універсітэта (родам з Вілейкі) **Мікалай Фаміч Красінскі** (1891–1938), які пазней працаваў настаўнікам Беларускай гімназіі ў Вільні, быў адным з арганізатараў і кіраўнікоў Беларускай драматычнай майстроўні, дырэктарам віцебскага БДТ-2 і Беларускага рабочага тэатра імя ЦСПСБ.

У суполкі былі намеры яшчэ больш шырока разгарнуць выданне драматычных твораў. З гэтай мэтай 7 чэрвеня 1913 г. у «Нашай Ніве» быў аб'яўлены конкурс сцэнічных твораў з грашовымі ўзнагародамі. Звяртае на сябе ўвагу характар умовы конкурсу: «Пры надзеле наградай прысланага сцэнічнага твора будзе звяртацца ўвага на такія асаблівасці: а) твор не павінен мець недахватаў са стараны літаратурнай, а так жа ідэёвай; б) павінен быць напісаны добрай, г. зн. чыстай беларускай мовай; в) быць прыгодным для пастаноўкі на сцэне, асабліва — на аматарскай у вёсцы; г) тэма можа быць якая хочучы — бытавая, гістарычная і т. п.; д) форма можа быць жарту, камедыі, драмы і т. д., без увагі на тое, у сколькі актах і ці прозай ці вершам будзе напісаны». Пачатак Першай сусветнай вайны перашкодзіў здзейсніць гэтыя намеры.

Значнай падзеяй тэатральнага жыцця стала пастаноўка драматычным гуртком студэнтаў-беларусаў у Пецярбургу 9 лютага 1913 г. п'есы Янкі Купалы «Паўлінка». Уладзіслаў Эпімах-Шыпіла выконваў ролю С. Крыніцкага. Ролю Паўлінкі выконвала студэнтка П. Мядзёлка, а Якіма — студэнт Л. Заяц. Пастаноўка прайшла з поспехам, пры поўнай зале, пасля спектакля паклоннікі падаравалі аўтару кішэнны гадзіннік.

[1] Афішы беларускіх вечарын і спектакляў (1910–1917 гг.). Музейны каталог. Мінск, 2000. С. 16.

Былы член пецярбургскіх гурткоў студэнтаў-беларусаў Язэп Сушынскі ўспамінаў пра тыя пецярбургскія дні: «Як для таго, каб распрадаць білеты на свой самадзейны спектакль і аддаць выручку ці то выдавецтву «Загляне сонца і ў нашаваконца!», ці на дапамогу бяднейшым сябрам, бралі студэнты адрасную кнігу «Весь Петербург», шукалі там прозвішча на -віч або -скі, што абазначала выхадца з беларускіх краёў, і беглі на гэты адрас»[1].

Не толькі высокае мастацтва квітнела ў дарэвалюцыйным Пецярбургу. Простых людзей вабіў цырк. У цыркавым Пецярбургу ўзышла зорка беларускага атлета і барца **Якуба Аўрамавіча Чахоўскага** (1879–1941). Ён служыў у Гродзенскім гусарскім палку, выступаў у чэмпіянатах па французскай барацьбе. У 1913 г. Якуба Чахоўскі атрымаў міжнародны прыз — ганаровы залаты пояс — за рэкордны атлетычны нумар — перанос на адной руцэ 6 чалавек. Чахоўскі трымаў на сабе памост з аркестрам у 30 чалавек, у стойцы «барцоўскі мост» трымаў на сабе 10 чалавек, прапускаў цераз сябе грузавы аўтамабіль з 20 пасажырамі, выконваў іншыя атлетычныя нумары[2]. Дастойным канкурэнтам Чахоўскаму быў яго зямляк, ураджэнец Беластока **Эдуард Валянко** (нар. у 1876). Сын вядомага беластоцкага фабрыканта, Эдуард Валянко з малых гадоў займаўся гірамі і спартыўнай барацьбой, у 1904 г. ён адкрыў у Вільні школу атлетыкі, адначасова выкладаў атлетыку, барацьбу і плаванне ў віленскім гарнізоне.



*Барэц-атлет Эдуард Валянко*

У 1903 г. Санкт-Пецярбург урачыста адзначыў 200-ю гадавіну з дня заснавання. Прайшлі ўрачыстыя прыёмы для шляхецтва і мяшчанства, карнавалы, малебны, адбылася закладка новых камяніц, прыёмы дэпутацый з віншаваннямі. З нагоды юбілея ў друкарні князя Мяшчэрскага ў чэрвені былі надрукаваны вершы ў стылі старадаўніх сілабічных «віршаў», якія, як пазначана было ў брашуры, «сачыніў 1903 г. лютага 6 дня селянін Мінскай губерні, Наваградскага павету, Нягневіцкай воласці вёскі Лаўрышава Мікалай Хведараў Марозік»:

Что я увижу, святая Православная Русь,
Если я с тобою за двести лет назад
оглянусь.
С одной стороны мы увидим
непроходимые болота и дикую пустыню,
А с другой стороны мы увидим славу
России и чудную святыню.
Так как в основании Петербурга была
в помощь Всевышнего Десница,
Поэтому и заложена Петром новая
столица.
Ибо где врагов низложил,
Там и город заложил.
Кто мог подумать и угадать,
Что Петру удастся такой город создать...

Вядома, што Марозік пісаў і беларускія вершы. Шэдэўрамі высокай паэзіі іх назваць цяжка, але гэты паэтычны прымітывізм — рэч характэрная для мастацтва сваёй эпохі.

Выхадцам з сялянскай Беларусі, якія прыязджалі на заробкі, нялёгка было прыстасоўвацца да жыцця і працы мегаполіса. Але атмасфера палітычнага і літаратурнага жыцця Пецярбурга спрыяла таму, што здольныя эмігранты станавіліся не толькі кваліфікаванымі рабочымі, але часам літаратарамі і грамадскімі дзеячамі. Просты слесар Пуцілаўскага завода А. І. Шыбека, прыбыўшы ў 1905 г. у родную вёску Курэй Сенненскага павета Магілёўскай губерні, арганізаваў пяць буйных выступленняў супраць памешчыкаў, у якіх прымала ўдзел 12 вёсак трох валасцей[3]. Вядомы ў 20–30-я гг. літаратар, ураджэнец Капыля **Алесь (Аляксандр Кандратавіч) Гурло** (1892–1938) прыехаў у Пецярбург у 1911 г.: «Не лагодна сустрэў мяне гэты горад-гігант. Знаёмства не было ніякага, працу дастаць

[1] *Семашкевіч Р.* Беларускі грамадска-культурны рух у Пецярбурзе.
[2] *Мядзведзеў М. Н., Чэхаўской Д. Я.* Асілак Якуба. Мінск, 1991.
[3] Гісторыя Беларускай ССР. Т. 2. Беларусь у перыяд капіталізму (1861–1917). Мінск, 1972. С. 378.

было цяжка. Нарэшце паступіў на завод «Вулкан». Жыццё матэрыяльна наладзілася, адкрыліся культурныя далягляды. Горад-гігант, які я спачатку зненавідзеў, стаў потым мне блізкі, дарагі. Наведваю прафесійныя сходы, дзе чытаюць лекцыі, хаджу на вячэрнія курсы, бываю на літаратурных сходках на кватэры А. П. Чапыгіна, карэспандзірую, нарэшце, у «Праўду». Бываю на вечарынах прафесара Б. І. Эпімах-Шыпілы, дзе збіраюцца беларускія «адраджэнцы», супрацоўнічаю ў беларускім пецярбургскім часопісе «Маладая Беларусь»[1].

У маі 1913 г. да Алеся Гурло прыехаў зямляк-капылянін **Зміцер Хведаравіч Жылуновіч** (1887–1937). Уладкаваўся на працу на механічны і ліцейны завод «Вулкан». Друкаваўся ў бальшавіцкай газеце «Правда». У 1914 г. ён перайшоў працаваць на машынабудаўнічы завод Айвазава (пазней імя Энгельса) на Выбаргскай старане. Вёў прапагандысцкую працу сярод рабочых, пісаў мастацкія творы пад псеўданімам Цішка Гартны — першая яго кніга выйшла ў Пецярбургу ў 1913 г. па-беларуску лацінскім шрыфтам: Hartny, Ciška. Pieśni Ciški Hartnaho. – Pieciarburh, 1913. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Зміцер Жылуновіч стаў сакратаром Белнацкама пры ўрадзе РСФСР, рэдактарам газеты «Дзянніца». З Петраграда ён выехаў разам з урадам у Маскву і больш у горад над Нявой не вяртаўся.

У 1914 г. з вёскі Замосце з-пад Узды ў пошуках працы прыехаў у Петраград **Ілля Данілавіч Гурскі** (1899–1972). Напачатку батрачыў у маёнтку на станцыі Любань, потым працаваў качагарам на Абухаўскім заводзе. Удзельнічаў у Кастрычніцкай рэвалюцыі, пасля пераезду на Беларусь стаў вядомым пісьменнікам.

Яшчэ адзін гастарбайтар-беларус, які пазней стаў пісьменнікам, **Сілан (Сіла Нічыпаравіч) Гусеў** (1897–1986). Нарадзіўся ён у вёсцы Калясянка Чавускага раёна. З 1913 г. працаваў на суконнай фабрыцы ў Пецярбургу. За распаўсюджванне рэвалюцыйных пракламацый у 1914 г. быў высланы на радзіму. У 1917 г. ён служыў на Балтыйскім флоце, прыкамандзіраваны да крэйсера «Аўрора». Прымаў удзел у штурме Зімняга палаца. Пазней вярнуўся на Беларусь.

На небасхіле беларускага Пецярбурга нядоўга, але ярка свяціла зорка паэта Янкі Купалы. Ёсць свая гісторыя пераезду Купалы ў Пецярбург — пачалася яна ў Вільні.

З восені 1908 г. **Іван Дамінікавіч Луцэвіч** (1882–1942) жыў у Вільні, працаваў у бібліятэцы і ў рэдакцыі газеты «Наша Ніва», пісаў вершы пад псеўданімам Янук Купала. Пры нагодзе пазнаёміўся з пецярбургскім госцем Браніславам Эпімахам-Шыпілам. Апошні так успамінае пра гэта ў лісце да Л. Клейнборта: «Будучы... у Вільні я асабіста пазнаёміўся з маладзенькім паэтам... вітаў яго як беларускага песняра, выказаў аб ім сваю думку і заахвочваў не закопваць таленту ў зямлю. Ён паведаміў мне, што носіцца з тэмай драматычнай паэмы «Сон на кургане», якую ўжо пачаў пісаць. Я сказаў, што трэба толькі яму прыехаць калі-небудзь у Піцер і калі ён гэта зробіць, то дзверы маёй кватэры, як і яна сама, заўсёды для яго адчынены»[2].



*Галоўным адрасам дарэвалюцыйнага Пецярбурга быў дом на 4-й лініі Васільеўскага вострава*

Сустрэча гэтая мела наступствы. Ужо восенню 1909 г. Купала пераехаў у Пецярбург і застаўся тут на тры гады. Вось як пазней успамінаў пра гэта Язэп Сушынскі: «У пачатку 1910 года разышлася пагалоска сярод студэнцтва, што прыязджае ў Пецярбург Я. Купала. Уся беларуская студэнцкая моладзь... з вялікай нецярплівасцю чакала моманту спаткання з паэтам. Дзе ж магло адбыцца гэтае спатканне? Толькі ў двух месцах: на суботніках на кватэры Браніслава Ігнатавіча Эпімаха-Шыпілы, дзе пасяліўся пясняр, ці на нядзельных рэпетыцыях хору і драматычнага гуртка. Якраз у студзені месяцы 1910 года, калі рэпетыцыя ішла поўным ходам, адчыняюцца дзверы і ўваходзіць у перадпакой малады чалавек вышэй сярэдняга росту, белакуры, з невялічкімі светла-русымі вусікамі, блакітнымі вачыма.

[1] *Клейнборт Л.* Молодая Белоруссия. Очерк современной белорусской литературы. 1905–1928 гг. Мінск, 1928. С. 294–295.

[2] Архіў ІРЛІ (Пушкінскі Дом). Ф. 586. Спр. 229. Арк. 1–3.

Пабачыўшы Купалу, усе кінуліся да яго — хлопцы і дзяўчаты. Хлопцы хутка схапілі на рукі Купалу і пачалі падкідваць угару, пакуль не насыцілі сваю радасць і захапленне»[1].

Атмасферу беларускіх вечарын у Шыпілы перадаюць успаміны Паўліны Мядзёлкі:

«А па суботах вечарамі беларуская моладзь збіралася на кватэры прафесара Браніслава Эпімаха-Шыпілы на 4-й лініі Васільеўскага вострава. Нас прыветна вітаў сам прафесар — сівенькі, невялічкага росту, тоўсценькі, кругленькі, з выпуклымі сінімі вачыма на румяным твары.

Прафесар займаў даволі вялікую кватэру ў шэсць пакояў. З пярэдняй мы ўваходзілі ў прасторную залу з мяккай мэбляй, абітай чырвоным плюшам. Справа ад круглага стала — піяніна, на сценах карціны з беларускімі краявідамі. Далей быў кабінет, сцены якога з нізу да верху застаўлены стэлажамі, поўнымі кніг. За кабінетам доўгі пакой сталовай, пасярод якой стаяў вялізны стол. Са сталовай дзверы вялі ў другую частку кватэры, дзе размяшчаліся кухня і яшчэ тры пакоі — спальня прафесара, гаспадыні Пясецкай, а ў трэцім жылі Янка Купала і пляменнік прафесара Гагалімскі.

Па суботах на кватэры Браніслава Эпімаха-Шыпілы можна было спаткаць і людзей старэйшага пакалення — дзеячаў беларускай культуры: рухавага, са светлай бародкай мастака Язэпа Драздовіча, высокага, з шапкай сівых валасоў, па-дзіцячы наіўнага, збіральніка беларускіх народных песень Антона Грыневіча, кампазітара Станіслава Казуру, Змітрака Жылуновіча. Тут слухалі Браніслава Тарашкевіча, які рабіў даклад: «Асновы беларускай граматыкі», іншым разам хто чытаў лекцыю па гісторыі ці эканоміцы Беларусі; Антон Грыневіч знаёміў з новымі запісамі беларускіх народных песень; Драздовіч расказваў пра беларускі стыль старадаўніх помнікаў архітэктуры, паказваў свае замалёўкі; Жылуновіч прыносіў падпольную рэвалюцыйную літаратуру, гаварыў пра рабочы рух на заводах... Колькі тут было цікавага, колькі жывых думак выказана! Якія гарачыя спрэчкі кіпелі!

...Калі ўжо ўдосталь нагаворымся, наспрачаемся, прафесар Шыпіла запрашаў нас да стала. Мы праходзілі ў сталовую, і тут вочы нашы разбягаліся. І чаго тут толькі не было! Ікра чорная і чырвоная, асятрына і балык, шынка вараная і вяндліна вясковая, грыбкі марынаваныя і рыжыкі салёныя — ды ці пералічыш усё, што вабіла нашы вочы і дражніла галодны страўнік!

З кухні далятаў гоман: прытворна-сярдзітая жаночая лаянка і гарэзлівы смех хлапцоў. Праз хвіліну выбягаюць з кухні Купала і пляменнік прафесара Гагалімскі з талеркамі, відэльцамі і нажамі ў руках, а за імі ўздагон Пясецкая, гаспадыня прафесара, сцёбаючы іх ручніком, скручаным у круцель. Хлопцы ўцякаюць, яна ганяецца за імі вакол стала. Гледзячы на гэту сцэну, мы паспешна расступаемся, каб часам і нам не ўляпіла па шыі ручніком, і ўсе смяёмся. Стаміўшыся, спыняецца Пясецкая і пачынае нам скардзіцца на сваіх дуронікаў-памочнікаў.

Нарэшце садзімся за стол і, выпіўшы па чарачцы віна, бяромся за смачныя закускі, з цяжкасцю стрымліваючы свой воўчы апетыт. Пакуль падсілкоўваемся, Пясецкая забаўляе нас цікавымі апавяданнямі з жыцця беларускай вёскі, аздабляючы сваю гутарку прыказкамі, прымаўкамі, а часам і прыпеўкамі. З вялікай прыемнасцю мы слухаем гэту пажылую, сімпатычную жанчыну, якая пакінула аб сабе светлую памяць»[2].

Адносна стану Купалы на час пераезду ў Пецярбург літаратурны крытык Лукаш Бэндэ




*Мемарыяльная шыльда Янку Купалу на доме, дзе была кватэра Браніслава Эпімаха-Шыпілы*

[1] *Сушынскі Я.* Купала ў Пецярбурзе. «Полымя», 1967, № 3. С. 189.
[2] *Мядзёлка П.* Сцежкамі жыцця. Мінск, 1974. С. 54—57.

ў 1930 г. пісаў: «Уплыў нашаніўскае ідэалогіі на паэта дасягнуў такое ступені, што паэт сам абярнуўся ў ідэолага, баяна нашаніўства з усімі ўласцівымі нашаніўцу якасцямі», і тут жа зазначыў, што Купалу на той час уласцівыя «нацыянальна-вясковая абмежаванасць, ідэалізацыя патрыярхальна-феадальнай мінуўшчыны, Беларуска-Літоўскай Русі, абарона «самабытнасці» беларускага народа, а адсюль затушоўванне класаў і класавай барацьбы, скажонае мастацкае адлюстроўванне беларускай рэчаіснасці...»[1]

Пецярбург стаў істотным чыннікам выхавання і адукацыі Івана Луцэвіча. Супрацоўніцтва ў віленскай «Нашай Ніве» патрабавала не толькі вялікага энтузіязму, але яшчэ і штодзённай настойлівай працы. Мінчук Уладзімір Самойла ў рэкамендацыйным пісьме да Эпімаха-Шыпілы пісаў пра Купалу: «...Часта ў іх з рэдакцыяй было не зусім ладна і складна. Ён, здаецца, паленьваўся, яго недаацэньвалі»[2]. Тым часам паэт прагнуў «пажыць дзе-небудзь у культурным мейсцы, каб сябе загартавать і адшліфаваць на службу беларушчыне і беларускаму грамадзянству». Самойла ў гэты ж час пісаў да Браніслава Ігнатавіча: «Канешне, прасіць Вас прыняць удзел у яго лёсе няма чаго. Вы былі хрышчоным бацькам яго твораў, яго літаратурным апекуном, такім Вы застанецеся для яго і асабіста. Мне ён вельмі дарагі як адзіны і недастаткова ацэнены паэт сучаснай Беларусі. Толькі Вы і цэніце яго правільна. Памажыце яму Вашай цудоўнай, выпрабаванай працай, але захаваўшы ўсю свежасць юнацкай чысціні і веры ў чалавека сэрцам. У Ваш уплыў я глыбока веру».

Сувязь з Пецярбургам у Купалы пачалася тады, калі ён паслаў у сталіцу віншавальны верш «Беларускай выдаўніцкай суполцы «Загляне сонца і ў наша ваконца!» («Прывет вам, прывет з найцямнейшай старонкі...»), які заканчваецца словамі:

> Гэй, дзівы над дзівы, мкне гоман грамлівы!
> Глядзіце, ўстае беларускі народ;
> Айчызну будуе на борах, на нівах.
> Што гэта? — то йдэі, то праўды прыход.

Гэтае прывітанне знайшло ажыўлены водгук на Васільеўскім востраве. Эпімах-Шыпіла ўспамінаў: «Заўважыўшы незвычайны талент у прысланым віншавальным вершы, які мы чыталі сабраўшыся вечарам, з вялікім задавальненнем, суполка папрасіла Самойлу прыслаць ёй вершы Купалы, што той і зрабіў, прыслаўшы масу вершаў»[3].

Адным з першых «сталічных» вершаў маладога паэта стала пажаданне «Прафесару Б. Эпімах-Шыпілу з новым 1910 годам» — знак павагі да свайго апекуна і літаратурнага рэдактара:

> З гэтым «Новым» шчырым словам
> Я віншую ў добры час:
> Жычу вам я не сканання
> Год без ліку жыць між нас!
> Між сваімі ці чужымі
> Жыць ды шчасця нажываць;
> Далей знанне, прасвітайне,
> Як дагэтуль, засяваць!

Напэўна, не без спрыяння Эпімаха-Шыпілы Купала паступіў на агульнаадукацыйныя курсы А. Чарняева, якія размяшчаліся ў Татарскім завулку на Петраградскай старане. Курсы Чарняева былі адной з папулярных навучальных устаноў Пецярбурга і давалі веды ў розных галінах навукі. Тут чыталі лекцыі вучоныя з Пецярбургскага універсітэта: прафесар А. К. Бараздзін (гісторыя літаратуры), магістр П. Л. Жакаў (логіка, граматыка), Эпімах-Шыпіла выкладаў на гэтых курсах лацінскую мову. З землякоў тут працаваў выкладчыкам усеагульнай і рускай літаратуры **Юрый Нікановіч Вярхоўскі** (1878—1956), ураджэнец вёскі Грышнёва Смаленскай губерні. Сам паэт, Юрый Вярхоўскі быў цесна звязаны з сімвалістамі — у 1910 г. выйшла кніга яго вершаў «Ідыліі і элегіі» (СПб., 1910). Курсы Чарняева «сістэматызавалі мае хаатычныя веды», — пісаў пазней Купала. Вярнуўшыся на радзіму, паэт вольна і дасведчана гаворыць пра гістарычныя помнікі, навуковыя працы — «Статут Вялікага Княства Літоўскага», «Нарысы славянскай міфалогіі» і інш. Усё гэта ішло ад ведаў, набытых у Пецярбургу. Купала пісаў пра свае пецярбургскія заняткі: «Я прачытаў амаль усе этнаграфічныя зборнікі, захапляўся народнай міфалогіяй і што траплялася пад рукі, напісанае аб гэтым, усё чытаў». Тут складаўся светапогляд маладога чалавека. Магчыма, менавіта таму ў Пецярбургу ўзніклі шэдэўры — напісаная ў фальклорным стылі паэмы «Курган» і «Сон на кургане», а таксама п'еса «Паўлінка».

[1] *Бэндэ Л.* Шлях поэта. «Полымя». 1930. Кн. 5—6. С. 228.

[2] Ліст У. Самойлы да Б. Эпімаха-Шыпілы ад 21.XI.1909 г. Архіў ІРЛІ (Пушкінскі Дом). Ф. 586. Спр. 247.

[3] Ліст Б. І. Эпімаха-Шыпілы да Л. Клейнбарта ад 23.X.1928 г. Архіў ІРЛІ. Ф. 586. Спр. 229. Арк. 1—3.

Акрамя ўсякай іншай падтрымкі, Эпімах-Шыпіла аказваў Янку Купалу матэрыяльную дапамогу. Паводле ўспамінаў сучаснікаў, Браніслаў Ігнатавіч «аддаў у яго распараджэнне пакой, забяспечыў на правах члена сям'і поўным харчаваннем і ўносіў плату за вучэнне на Чарняеўскіх курсах, нават ахвяроўваў суму грошай на так званыя кішэнныя выдаткі: кіно, тэатр, фурманкі, конкі, параходы»[1]. Захаваны пашпарт Купалы паказвае месцы яго рэгістрацыі: прыехаўшы з Вільні, ён напачатку здымаў жыллё ў доме № 1 на 6-й лініі Васільеўскага вострава, з красавіка 1910 г. працаваў як практыкант на казённым вінным заводзе № 3 і быў прыпісаны да 3-га ўчастка Нарвскай часткі. У чэрвені 1910 г. прыпісаўся на кватэру Эпімаха-Шыпілы (4-я лінія Васільеўскага вострава, 45)[2].

Відавочная залежнасць ад Шыпілы непазбежна прывяла да канфлікту: Іван Луцэвіч ужо ў верасні з'ехаў з прафесарскай кватэры на Васільеўскім востраве і ўладкаваўся жыць на Петраградскай у доме № 15 па Малой Дваранскай. Аднак канфлікт быў пераадолены — Купала вярнуўся праз тры месяцы і ад 13 студзеня 1911 г. да свайго ад'езду жыве ў Эпімаха-Шыпілы, якому аддзячваў творчасцю, сваім удзелам у беларускіх справах, у суботніх сустрэчах на яго кватэры. Вось як успамінае аб адной з такіх вечарын Паўліна Мядзёлка: «Заўсёды з нецярплівасцю чакалі прыходу Янкі Купалы. Ён у гэты час вучыўся на вячэрніх курсах Чарняева. Заняткі там канчаліся позна, і ён часамі з'яўляўся а гадзіне 10—11 вечара. Не вельмі гаваркі ў часе шумных спрэчак, заўсёды сур'ёзны, Янка Купала ўважліва прыслухоўваўся да выказаных думак, час ад часу падаючы кароткія і трапныя заўвагі. У часе застольнай бяседы станавіўся вясёлы і гарэзлівы. Сапраўдным святам і асалодай для нас быў момант, калі ён чытаў нам новыя вершы, якія пазней увайшлі ў зборнік «Шляхам жыцця». Роўным, спакойным голасам — хоць і не надта важны быў з яго дэкламатар — чытае Купала паэму «Курган». Гневам супраць паноў і князёў палаюць нашы вочы і адначасова гордасцю поўніцца душа за свайго гусляра-званара, «песня-дума» якога «хапала за сэрца». А калі чытаў «Прарока», дык мне здавалася, бачу нейкі арэол вакол яго галавы. Кожнае слова глыбока западала ў душу. Сам аўтар вырастаў у нашым уяўленні ў волата-прарока, які сваім палымяным словам, звонам гусляў зваў за сабой:

> К яснаму сонцу з цьмы, з беспрасвецця,
> К славе з бясслаўя ўсім нашым людзям...»[3]

Сярод пецярбургскіх вершаў Янкі Купалы непасрэдна з імем Эпімаха-Шыпілы звязана гісторыя яшчэ аднаго: «Прафесару п. Б. Эпімаху-Шыпілу». Тут ёсць такія радкі:

> Не смуціся, панок, што няшчасце прыйшло:
> Як прыйшло, так і пойдзе ад Вас...
> Што ж рабіць, калі гэтак пляцецца жыццё,
> Несучы нам цярпенне падчас.

Верш напісаны непасрэдна пад уражаннем бяды: вясной 1910 г. згарэў дом Эпімаха-Шыпілы ў фальварку Залессе, непадалёку ад Полацка, што выклікала ў Браніслава Ігнатавіча вялікае засмучэнне. Паэт, суцяшаючы прафесара («прафесар» — гэта знак павагі, афіцыйна зацверджаным прафесарам Эпімах-Шыпіла не быў), зноў падкрэслівае яго заслугі і значэнне для Беларусі. Эпімах-Шыпіла ўспамінае: «Гэта мяне так засмуціла і прывяло ў роспач, што я не мог ні есці ні спаць і ледзь было не захварэў. Толькі Янка Купала вершам сваім, у якім ён выліў сваё спачуванне мне і стараўся суцешыць у маім горы, дасягнуў таго, што я супакоіўся і прыйшоў да сябе. Верш гэты.... быццам жыватворчы бальзам вылечыў пачынаўшую балець смутную душу»[4].

У Пецярбургу Янка Купала, які, хутчэй за ўсё, не ведаў пра Каятана Касовіча, сустракаецца з плёнам працы свайго земляка. Паэт вывучае легенду «Паляўнічы і пара галубкоў», сюжэт якой узяты з індыйскага эпасу Махабгараты і піша яе вершаваны пераказ. У заўвагах да твора Купала адзначае: «Кнігі Магабгарыты — гэта адна з найстарэйшых і найвялікшых паэм свету. Створаны яны індыянамі болей трох тысяч год таму назад і змяшчаюць у сабе 22 000 радкоў... Легенда ж аб паляўнічым і галубках не ёсць пераклад з індыйскай мовы; я ўзяў толькі аснову гэтай аповесці і болей-меней захаваў форму санскрыцкага верша-«шлёкі...»[5]. Так з'явілася ў беларускай літаратуры цудоўная, трохі наіўная гісторыя пра каханне галубкоў і долю жорсткага паляўнічага. Магчыма, паходжан-

[1] *Сушынскі Я.* Купала ў Пецярбурзе. «Полымя», 1967, № 3. С. 190.
[2] Пуцявінамі Янкі Купалы: Дакументы і матэрыялы / Укл. Г. В. Кісялёў. Мінск, 1981. С. 48—49.
[3] *Мядзёлка П.* Сцежкамі жыцця. Мінск, 1974. С. 56—57.
[4] Ліст Б. І. Эпімаха-Шыпілы да Л. Клейнбарта ад 23.X.1928 г. Архіў ІРЛІ. Ф. 586. Спр. 229. Арк. 1—3.
[5] *Купала Я.* Збор твораў: У 6 т. Т. 2. С. 420.

не гэтага твора звязана з акалічнасцямі прыватнага характару: «На кватэру Б. І. Эпімаха-Шыпілы часта прыходзіў індус, які выкладаў англійскую мову ва універсітэце. Янка Купала вельмі цікавіўся апавяданнямі гэтага чалавека аб жыцці і звычаях індыйскага народа»[1].

Атмасфера Пецярбурга вельмі дадатна паўплывала на творчасць маладога паэта. Знаходжанне ў кватэры Эпімаха-Шыпілы, дзе збіралася інтэлігенцыя, дзе была вялікая бібліятэка, давала магчымасць глыбока падрыхтаваць сябе ў сэнсе ўспрыняцця гісторыі, культуры, фальклору, літаратуры не толькі беларускай, але і сусветнай. Пры гэтым Купала-паэт не заўважыў белыя ночы Пецярбурга, не з'явіўся ў яго творчасці ні горад-монстр з процьмай заводаў, ні горад-сталіца з канцэнтрацыяй цудаў архітэктуры. Адзіная рэфлексія на наваколле — пасля паездкі ў Фінляндыю, да вадаспаду Іматра. Пакуль падарожнічалі з Эіпімахам-Шыпілам і Антонам Грыневічам — мелі час прагаварыць... У вершы «Над Іматрай» ёсць такія радкі — апісанне вадаспаду:

> Зірнуць, ззіхануцца, сыпнуцца на скалы,
> Усім Дантаўскім процьмам наўздзіў
> І люнуць на волю, забыўшыся шалаў,
> Плывуць паміж пустак і ніў.

«Дантаўскія процьмы» — цені пекла з «Боскай камедыі» Дантэ — гэта ўжо новае ў Купалы: раней яго вобразнасць замыкалася ў свеце паняццяў, набытых ад сялянскай стыхіі. Вадаспад Іматра быў, між іншым, вельмі папулярным месцам для пецярбургскіх самагубцаў, і тыя асобы, якія ехалі да яго адны і куплялі білет толькі ў адзін бок, аказваліся пад асаблівым наглядам паліцыі, якая падазравала іх у намеры пакончыць з жыццём.

Жывучы ў сталіцы, былы практыкант казённага віннага завода № 3 быў непасрэдным сведкам розных грамадскіх падзей. Паэт прысутнічае на судовай справе суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца», якая была абвінавачана за выданне твораў Францішка Багушэвіча. Янка Купала пасябраваў з Браніславам Тарашкевічам і пазней, у 30-я гг., пасылаў яму за краты пілсудскай турмы вершаванае прывітанне. У лісце да капыляніна Льва Клейнбарта, які жыў у Пецярбургу і меў сувязі ў розных сферах, Купала пісаў 25 студзеня 1911 г.: «Буду вельмі і вельмі Вам удзячны, калі дадзіце мне якую-небудзь магчымасць бліжэй пазнаёміцца з рускім літаратурным светам, які мяне ўвесь час цікавіў і цікавіць»[2]. І знаёмства адбывалася. Прынамсі, папулярнаму пісьменніку і змагару супраць смяротных пакаранняў у Расіі Уладзіміру Караленку малады паэт падарыў свой зборнік «Жалейка» з аўтографам, які паведамляе дату іх сустрэчы: «Вельмі паважанаму пану У.Г. Караленку ў знак шчырай пашаны да яго прац на полі грамадзянскім. СПб. 7/1-1911 г.».

Першым перакладчыкам Купалы на рускую мову стаў Максім Горкі. У лютаўскім нумары пецярбургскага часопіса «Сучасны свет» за 1911 г. ён змясціў вялікі артыкул «Аб пісьменніках самавуках», дзе даў высокую ацэнку творчасці Купалы і прылучыў уласны пераклад верша «А хто там ідзе?». Горкі напіша (як высветлілася — памылкова), што гэты верш з цягам часу можа стаць беларускім народным гімнам. Пазней перакладчыкам Купалы на рускую мову быў Апалон Карынфскі, які ў 1912–1913 гг. жыў у Пецярбургу і ў розных выданнях надрукаваў шэраг лірычных вершаў[3]. Тое, што выхад Купалы да расійскага чытача адбыўся ў сталічным Пецярбургу, адразу надавала, у вачах правінцыйных беларусаў, вагу ўсяму беларускаму літаратурна-грамадскаму руху. Асаблівасцяў самой сталіцы альбо жыццё тут беларусаў паэт не апяваў.

У 1911 г. прафесар А. Пагодзін (родам з Віцебска) змясціў у пецярбургскім часопісе «Веснік Еўропы» вялікі артыкул «Беларускія паэты», у якім пісаў: «На першае месца патрэбна паставіць трох паэтаў: Янку Купалу («Жалейка», 1908), Якуба Коласа («Песні жальбы», 1910) і ўсё больш выдатнага Максіма Багдановіча»[4]. Пагодзін слушна вызначыў лейтматыў паэзіі Купалы — «нешта новае: вера ў будучыню Беларусі». Пецярбургскі крытык дасканала акрэсліў і кола характэрных тэм: «Скарга на пана, які гоніць арандатара з хаты, паэтычны вокліч: «Не праклінайце лапцяў ліпавых, не пагарджайце лапцяў лазовых», апяванне сахі і беднай хаткі, стыхійная радасць прыходу вясны і сум з наступленнем восені і зімы, бесперапынны стогн над народнай беднатой, цемрай і бяспраўем — вось змест вершаў Янкі Купалы. Такім з'яўляецца і самы характэрны з іх «А хто там ідзе?»[5].

[1] *Хлябцэвіч Я.* Янка Купала і Пецярбургскі універсітэт // Янка Купала. Мінск, 1952. С. 62.

[2] *Купала Я.* Збор твораў: У 6 т. Т. 6. С. 620.

[3] Напрыклад, верш «Гарэлка» надрукаваны ў снежні 1913 г. у газеце «Трезвая жизнь», «Каб я князем быў», «Песня сонцу», «Мой дом» — у студзені 1914 г. у «Педагогическом листке» і інш.

[4] «Вестник Европы». 1911. № 1. С. 96.

[5] Тамсама. С. 97.

Пагодзін гаворыць пра Купалу, Коласа і Багдановіча з глыбокім адчуваннем нацыянальнай спецыфікі іх творчасці, іх месца і ролі ў літаратуры, для аргументацыі сваіх доказаў ён шырока выкарыстоўвае беларускія вершы ва ўласным перакладзе.

Літаратурным і досыць суровым крытыкам часцей за ўсё быў Эпімах-Шыпіла: «Яму ж заўсёды чытаў нованапісаныя вершы, на якія ён часам мне даваў тыя ці іншыя заўвагі, але з імі я не заўсёды згаджаўся». У 1912 г., будучы на канікулах і атрымаўшы першы сшытак «Маладой Беларусі», дзе была надрукавана драматычная паэма «Сон на кургане», малады паэт пісаў у Пецярбург: «...Дужа мне прыкра, што пан старшына не лічыўся з маёй просьбай і па-свойму папраўляў лірніка, дзе ён рыфмуецца з другім словам»[1]. Аднак пазней, рыхтуючы збор твораў, Купала пакінуў праўку. «Жалейка», «Гусляр», «Курган», «Паўлінка», «Сон на кургане» — гэтыя цудоўныя рэчы напісаныя ў Пецярбургу. Завяршальным акордам стаў зборнік вершаў «Шляхам жыцця» (1913) — адзін з найлепшых у творчасці Я. Купалы.

Уласна «пецярбургскім» уплывам на Купалу можна лічыць знаёмства з багатай і жывой тэатральнай традыцыяй. Калі ён напісаў «Паўлінку», адразу ж узяліся за пастаноўку, якой спрыяў Уладзіслаў Эпімах-Шыпіла, чалавек таленавіты, які кіраваў драматычным гуртком. Увосень 1913 г. Купала закончыў навучанне на курсах А. Чарняева і вярнуўся ў Вільню. Пра пецярбургскую атмасферу, у прыватнасці, пра Эпімаха-Шыпілу, пазней паэт напіша з удзячнасцю і любоўю: «Наяўнасць такога добрага апекуна, якім для мяне з'яўляўся Браніслаў Ігнатавіч Эпімах-Шыпіла, не магла аказацца для майго разумовага развіцця адмоўнай. Сумеснае жыццё маё з гэтым чалавекам назаўсёды пакінула ў мяне самыя лепшыя ўспаміны»[2].

## Беларускае кнігавыданне ў Пецярбургу

Першая кніга на беларускай мове была надрукавана ў Пецярбургу лацінкай у 1863 г. — гэта была «Kryŭda i Praŭda. Hutarka Biłaruskaja» Ф. Пчыцкага. Цяпер гэта рарытэт з рарытэтаў: захаваўся толькі адзін экзэмпляр у славянскім фондзе бібліятэкі Акадэміі навук. Тытульны аркуш і тэкст у гэтай невялічкай (11 старонак) кніжачцы напісаны ад рукі і літаграфаваны. Асобнік бібліятэкі АН належаў вядомаму філолагу, прафесару Пецярбургскага універсітэта Бадуэну дэ Куртэнэ і мае яго экслібрыс. Прафесар — спецыяліст па польскай і рускай філалогіі — пакінуў два ўладальніцкія запісы, на польскай і рускай мовах, абодва сведчаць пра шчырае непрыняцце беларушчыны. Першы — надпіс на тытульным аркушы, па-польску: «Głupstwo kapitalne!» Другі запіс, па-руску, у канцы тэкста: «Ерунда, белиберда, сапоги в смятку!» Відавочнае і рэзкае непрыняцце беларускай мовы адным з паважаных славістаў! У сярэдзіне XIX ст., калі абвострана супрацьстаўляліся польскія амбіцыі і рускія інтарэсы, непрыняцце беларушчыны прыхільнікамі кожнай з партый было адной з прычын доўгага перапынку паміж гэтым і наступнымі кніжнымі выданнямі.

Наступныя беларускія кніжкі выйшлі ў Пецярбургу ў 1895–1900 гг. Гэта былі тры творы жыхара Міншчыны пісьменніка і гісторыка-краязнаўцы **Аляксандра Карлавіча Ельскага** (1834–1916). Кніжачкі прысвечаны актуальным праблемам тагачаснага жыцця: змаганню за цвярозасць люду («Слова аб праклятай гарэлцы и аб жыцьци и смерци пьяницы». – Спб., 1900. – 10 старонак), агітацыі за высяленне з перанаселенай Беларусі ў Сібір: «Выбираймася у прочки!


„СЫНОКЪ!“
РАЗКАЗЪ ЗЪ ПРАЎДЗИВАГО ЗДАРЕНЬЯ.
УСИМЪ ВАЦЬКАМЪ И ДЗЕЦЯМЪ ДЛЯ ПЯРАСТРОГИ
Падаў
А. Я.
С.-ПЕТЕРБУРГЪ.
Типографія Е. А. Евдокимова. Троицкая ул., № 18.
1895 року.
зала 18
шкафъ 277.
полка 4.
№ 433.

*Першае пецярбургскае выданне Аляксандра Ельскага*

[1] *Купала Я.* Збор твораў: У 6 т. Т. 6. С. 460.

[2] «Любімы паэт... ». С. 75.

Скарэй у Томск‼ Аб тоя добра разведаў и разтлумачыў народу А. І.» і дыдактычнага апавядання «Сынок!: Разказ з праўдзиваго здарення: Усим бацькам и дзецям для пярастроги»; друкаваныя яны кірыліцай. Паколькі ўнармаванага правапісу беларуская мова яшчэ не мела, пісалася як чулася. Гэта відаць нават у апісаннях гэтых рарытэтаў. Друкаваліся кнігі ў друкарні Я. Еўдакімава (Траецкая, 18, цяпер Рубінштэйна). Абавязковы экзэмпляр адразу везлі ў Імператарскую Публічную бібліятэку і бібліятэку Акадэміі навук (пра гэта паведамляюць штампы бібліятэк з датай паступлення). Тыраж большай часткай накіроўваўся на Беларусь, аб чым сведчыць успамінанне ў выхадных звестках кніжнага складу Б. Адамовіча ў Мінску.

Яшчэ праз тры гады ў канцы 1903-га, у Пецярбургу з'явіліся два зборнікі беларускай паэзіі: «Песні» і «Вязанка» Янкі Лучыны (Івана Неслухоўскага), прычым «Вязанка» выйшла камерцыйным тыражом у пяць тысяч экзэмпляраў. У наступным, 1904 г., такім жа тыражом былі надрукаваны беларускія казкі. Выдаўцом быў «Круг беларускай народнай прасветы і культуры» (Вацлаў Іваноўскі, Браніслаў і Уладзіслаў Эпімах-Шыпілы, Антон Грыневіч). Члены гэтай суполкі пазней


зала 20
шкафъ 58.
полка 6.
№ 250.

СЛОВА АБЪ ПРАКЛЯТАЙ ЃАРЭЛЦЫ
и
АБЪ ЖЫЦЬЦИ И СМѢРЦИ ПЬЯНИЦЫ.

*Добраму Бѣларускаму народу, на пакрапленьня яго душы и розуму, разказаў прыяцяль яго*

попячицяль трэзвасьци

А. І.

Друкавана у Пицярбурху 1900 року.

Складъ ѓлаўны у книжницы Яна Дубовика, у Мѣнску-Литоўскамъ.

*Аляксандр Ельскі. «Слова аб праклятай гарэлцы». Пецярбург, 1900 г.*

стануць заснавальнікамі першага легальнага беларускага выдавецтва. «Казкі» друкаваліся ў друкарні-літаграфіі Казіміра Пянткоўскага — супрацоўніцтва з гэтай друкарняй таксама будзе працягвацца вельмі доўга. Размяшчалася прадпрыемства Казіміра Леапольдавіча Пянткоўскага на Вялікай Пад'ячаскай, 22[1].

Друкаванню кніжак спрыяла тая акалічнасць, што ў гады першай рускай рэвалюцыі 1905—1907 гг. у Пецярбургу актывізаваўся беларускі палітычны рух. Нелегальная група Беларускай рэвалюцыйнай грамады, якая дзейнічала ў горадзе яшчэ з 1903 г., ператварылася ў «Партыю беларускага працавітага народа». Новастворaная партыя [ідэолагамі тут былі Вацлаў Іваноўскі і Алаіза Пашкевіч (Цётка)] мела на мэце знішчэнне капіталістычнага ладу і выступала за тое, «каб усе народы мелі як найбольшую свабоду». У студзені 1906 г. партыя прыняла новую праграму і новую назву: «Беларуская сацыялістычная грамада» (БСГ). Яшчэ ў сакавіку 1905 г. БСГ выдала ў сталіцы тыражом 3000 асобнікаў улётку «Што такое канстытуція»: тэкст набраны ў два слупкі на абодвух баках аркуша, у канцы подпіс: «Беларуска соцыалистычна громада». У наступным, 1906 г. грамадоўцы выдалі, па меншай меры тры кніжачкі-пракламацыі: «Jak mużyku palepszyć swajo życcio» (перад загалоўкам бальшавіцкі дэвіз: Pracowita biednota usich krajow złučajsa!), «Чы будзе для усих зямли? На беларускую мову перэвернуто з расейской. Выданне Грамады» і «Што такое свабода?: Праложэно з украинской мовы / Напісаў Сигов». Апошняя брашура існавала і ў рускім варыянце; пераклад з украінскай сведчыць пра сувязі рэвалюцыянераў (член ЦК БСГ Алаіза Пашкевіч хавалася ў гэты час ад царскай паліцыі ў Аўстра-Венгрыі, у Львове). Між тым, уздым рэвалюцыі ў Пецярбургу прывёў да фактычнага ігнаравання выдаўцамі Цэнзурнага статута — электрадрукарня таварыства «Дело», якая друкавала апошнюю кніжку, не баючыся паставіла сваё імя ў беларускамоўным выданні.

Беларусы-каталікі, якія адчувалі сваю дыскрымінацыю ў параўнанні з праваслаўнымі, выкарысталі свабоду ад цэнзуры, каб перавыдаць (лацінкай) стары буквар 1862 г.: Elementarz dla dobrych dzietok katolikou. — Pieciarburh: Druk. K. Piantkoŭskaha, 1906. Калі ж у 1907 г., у друкарні «Работнік» друкавалася кніжка Напалеона Чарноцкага «Як будзе з зямлёю», беларускамоўныя выданні

[1] Пянткоўскі Казімір Леапольдавіч — інжынер па прафесіі; яго друкарня існавала з 1892 г. да Кастрычніцкай рэвалюцыі.

ўжо былі дазволены. Некаторыя выданні БСГ выходзілі нелегальна. З іх можам прыгадаць брашуру на 8 старонках, друкаваную лацінкай: «Zabastoŭka. Piecierburh, 1907». На кніжачцы пазначана: Wydannie «Hramady»; № 4.

### Выдавецтва «Zahlanie sonce i ŭ naše wakonce»

Рэвалюцыя прывяла да палягчэння цэнзуры і магчымасці легальнага кнігавыдання на роднай мове. На пачатку 1906 г. была створана выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца»[1] і зарэгістраваны яе Статут. Працавала выдавецтва да Першай сусветнай вайны і стала буйнейшым выдаўцом беларускіх кніг па-за межамі Беларусі. Агулам суполка выдала амаль 40 кніг тыражом каля 100 тысяч экзэмпляраў. Большасць гэтай прадукцыі была накіравана ў Беларусь, хоць выдаўцы імкнуліся таксама пашыраць яе сярод беларускай эміграцыі, якая знаходзілася ў розных рэгіёнах Расійскай імперыі.

Сярод актыўных членаў суполкі былі людзі розных заняткаў і палітычных поглядаў. Інтэлігенты-пецярбуржцы добрасумленна служылі ў дзяржаўных установах дзеля развіцця і ўмацавання расійскай дзяржавы, і ў той жа час яны былі арганізатарамі духоўнага развіцця адносна невялікай грамады беларускага народа.

Дзейнасць суполкі пачалася з выдання ліста з заклікам прыняць удзел у беларускай выдавецкай дзейнасці. Ліст быў набраны лацінкай, якая выкарыстоўвае спецыяльныя знакі для перадачы фанетычных асаблівасцяў беларускай мовы (магчыма, што быў і кірылічны варыянт, але ён не захаваўся). З гэтым лістом-зваротам да розных асоб высылалі экзэмпляр Статута (прывядзём яго цалкам, захаваўшы асаблівасці напісання):

*Pieciarburh, 1906 hoda ... miesiaca ... dnia*

Šanoŭny panie! Ŭsim, chto choć kryšku znaječ biełaruski narod (a jaho blizka wašmi s palawinaj milijonaŭ), wiadoma, jak patrebna dla jago drukawanaje slowa ŭ jaho rodnaj movi.

Žmienia ludziej dobraj achwoty choč učy pomahčy hetamu pawedłuh sił swajich i moznašci, zrabili tawarystwa, katoraha ustaŭ wysyłajem pry hetym.

My ŭ Peciarburhu, biez pamocy z kraju, nia mnoha caho možem zrabić.

Dziela hetaha ŭdajomsia da Was, Šanoŭny Panie, ci nia bylib Wy łaskawy pamohčy nam, ci pracaj swajoj, ci hrašmi, zapisaŭšysia ŭ nas supolnikam.



Суполка „Загляне сонцэ и ў нашэ ваконцэ“ выдала пакуль што и прадае:

Bielaruski lementar abo pierszaja nawuka czytańnia, cana 6 kapiejek.
Pierszaje czytannie dla dzietak biełarusoŭ. Napisała Ciotka, cana 6 kap.
Беларуски лемэнтар, або першая навука чытаньня, цана 6 кап.
Першае чытаньне для дзетак беларусаў. Написала Цётка, цана 6 кап.

ЎЗЯЛА НА СКЛАДЪ И ПРАДАЕ:

Вязанка Янки Лучыны (Ивана Неслухоўскаго), цана 4 кап.
Казки. Выдаў А. К., цана 6 кап.

Беларуские пачтовые писульки:

Шчорсуны ў летко; Шчорсуны ў зимку; Працишэк Богушэвич (Мацей Бурачок) песьняр беларуски; Вінцук Марцинкевич; песьняр беларуски; Мужыки спад Пухавич; Торжышчэ ў Пухавичах; Дзеўчата спад Слуцка; Парабкава дворная хата; Дудар беларуски; Янка Лучына (Иван Неслухоўски) песьняр беларуски; Вясковая баба с Трыбужкоў; Дом Тадэуша Косцюшки у Мэрэчоўшчыни. Цана кожнай 5 кап.
Ўсё гэта можна купляць ў глаўным складзи ў Пецербургу Васильёў востроў, 4-та линiя, № 45, кв. 16.
Хто купляе ў глаўным складзи ня менш як за поўрубель, той ня плациць за пасланне почтаю. Малые грошы можна высылаць пачтовыми марками. Яшэ можна ўсё гэта купляць:

ў Гомли у книгарни Я. Г. Сыркина.
Гродни „ Б. Козлоўскаго.
Магилёви „ Я. Г. Сыркина.
Менску „ В. Макоўскаго.
Варшави „ Г. Цэнтнэршвэра на Маршалкоўской вулицы.
Пецербургу „ Польскай книгарни на Екатерынинскай вулицы.
Вильни „ В. Макоўскаго; I. Завадзкаго; М Пясецкас-Шляпэлис.
Витебску „ М. Залшупина.

*Рэкламны спіс першых выданняў супалкі «Загляне сонца і ў наша ваконца»*

Majem nadzieju, što pryklad Pieciarburha nie astaniecca biaz adzywu. Ciaper možna lehalna sklikać i złažyć razam šmat paraskidanych sił. Niehaj že hety siły nia zhinuć dla našaha kraju.

Biełaruskaja wydaniŭckaja supołka «Zahlanie sonce i ŭ naše wakonce».

*Adres: Pieciarburh, Wasilou Wostrau,*
*4-aja linija d. 45, kw. № 16.*

Указаны ўнізе адрас — гэта кватэра Браніслава Эпімаха-Шыпілы. Акрамя яго ініцыятарамі і стваральнікамі суполкі былі Вацлаў Іваноўскі, Уладзіслаў Эпімах-Шыпіла, Антон Грыневіч. Крыху пазней далучыліся да яе дзейнасці браты Іван і Антон Луцкевічы, Браніслаў Тарашкевіч, Цішка Гартны і Эдвард Будзька. Вершаванае віншаванне маладой арганізацыі, якое паслаў з Вільні Янук Купала, сведчыла пра моцную падтрымку (прынамсі, маральную) супольнікаў у Беларусі.

Першай кніжкай суполкі быў буквар (лемантар), які напісаў Казімір Карлавіч Кастравіцкі (Карусь Каганец). Кнігі выдавалі адной мовай, але двума рознымі алфавітамі: кірыліцай і лацінкай і нумаравалі ў паслядоўнасці падрыхтоўкі да друку. Пры гэтым выданні лацінкай мелі першыя нумары ў параўнанні з кірылічнымі кніжкамі.

[1] Напісанне назвы было ад пачатку існавання суполкі іншае, чым звычайна пішацца цяпер: «Загляне сонцэ і ў наша ваконцэ» — як у кірылічным напісанні, так і ў варыянце лацінскага шрыфту.

Вось як выглядаюць апісанні першых выданняў:

Biełarúski lementár ábo Piérszaja nawúka czytańnia. — Piciarburh: «Zahlánie sónce i ŭ násze wakónce! » [№ 1], 1906 (Drukarnia K. Piantkóûskaha).

Белару́ски лемэнта́р а́бо Пе́ршая наву́ка чыта́ння. – Пецярбу́рг: «Загляне сонцэ и ў нашэ ваконца!» № 3, 1906 (Друка́рня К. Пянтко́ўскага).

У дадатак да буквара надрукавана кніжка для чытання, якую напісала Алаіза Пашкевіч:

Ciotka. Pierszaje czytannie dla dzietak biełarusoŭ / Zlażyła Ciotka. – Pieciarburh: «Zahlanie sonce i ŭ nasze wakonce!» № 2, 1906 (Drukarnia K. Piantkoŭskaha).

Першае чытанне для дзетак беларусаў / Написала Цйотка. – Пецярбург: «Загляне сонцэ и ў нашэ ваконца!» № 4, 1906 (Друкарня К. Пянткоўскага).

Хоць сам змест буквара адрасаваны дзецям, выдаўцы мелі і іншыя мэты — навучыць чытаць непісьменных сялян, а таксама прывучыць пісьменных у рускай ці польскай мове да беларускага друкаванага слова. Прычыны выхаду лемантара двума паралельнымі выданнямі — аднаго кірыліцай, другога лацінкай, выдаўцы растлумачылі ў прадмове: «*Ведаем мы ўсе, што меж нами, палешуками, беларусами, ци як мы сябе яшчэ называем — тутэйшыми, йосць каталики и праваслаўные, каталики больш да лацинских литэр — што йих несправядлива «польскими» называюць, прывыкли, праваслаўные — да славянских — ци як кажуць да «руских» прывыкли*». «*Ци раз у нас сварка бывае: зыдуцца каталик с праваслаўным и сваруцца «ах ты, кажэ, поляк, — а ты маскаль»... Вось и знарок выдаем лемэнтар дваякими знаками, выбирай, што спанараўна, каб усяки пазнаў, што ци такие, ци сякие знаки, а зыки, склады и словы тые ж, мова — тая ж и людзи, што мовай адной гаворацць — браты родные*».

Гэтыя словы сталі праграмнымі. На працягу ўсёй дзейнасці суполка выдавала кнігі як кірыліцай («Жалейка», «Шляхам жыцця» Янкі Купалы, «На дарозі да новага жыцця» А. Навіны, усе драматычныя творы і інш.), так і лацінкай (усе творы В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, «Пан Тадэвуш» А. Міцкевіча і інш.), некаторыя паралельнымі выданнямі («Беларускі лемантар», «Першае чытанне» Цёткі), былі таксама кнігі са змешаным шрыфтам (тры альманахі «Маладая Беларусь»). Пачаўшы ў 1912 г. літаратурна-грамадскі альманах «Маладая Беларусь», суполка пісала: «*А крыніца трывогі вечна тая самая: калі толькі няма сіл выдаваць якой-кольвек беларускай кнігі дваякімі літарамі зразу — гэта значыць друкаваць тую самую кніжку два разы, — заўсёды з'яўляецца страх, што гэту кніжку прачытае толькі часць беларусаў. Ці доўга будзе вісець над намі двойчылітарнае пракляцце — ніхто не ведае цяпер*». Двайное выданне адной кніжкі патрабавала заўсёды двайнога памеру сродкаў, за якія можна было б выпусціць яшчэ столькі ж іншай друкаванай прадукцыі. Але дваістасць формы не засланіла адной сутнасці справы, аднаго прызначэння. Мяркуем, што і сёння, пакуль значная частка беларусаў жыве ў краінах панавання лацінкі (Польшча, Літва, іншыя краіны), пецярбургскі досвед пачатку XX ст. застаецца актуальным.




*Янка Купала. Жалейка. Выданне суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца»*

Факт існавання дваякай графікі для адной мовы — становішча ненармальнае і яго трэба было пераадолець. Але ў 1906 г. важным быў і сам факт: з'явіўся **Буквар** для дзяцей беларусаў у той час, калі не існавала ніводнай беларускай школы. Арыентацыя суполкі ўжо выразна відаць з гэтага выдання — нязгода з урадавай праграмай адукацыі, жаданне даць дзецям падручнік на іх роднай мове.

У буквары Каганца сістэма навучання грамаце абапіраецца на літарна-складовы метад. Такая методыка характэрная для многіх буквароў, у тым ліку для рускай «Азбукі» Льва Талстога: у свядомасці дзіцяці знак пэўнай графічнай формы павінен атаясаміцца з пэўным гукам. «Лемантар» прапануе спачатку пяць галосных (а, э, и, о, ы), якія дзеці павінны запомніць. Гэта не вельмі лёгкі метад навучання (успомнім маленькія хітрыкі, якія выдумляюць дзеці, каб палегчыць навуку — колца ў іх разуменні гэта знак гука «о», а знак гука «ж» падобны на жука). У «Лемантары» асобна выдзелены ётавыя галосныя (я, е, ю, ё), асобна выдзяляецца спецыфічна беларускі гук «ў». Пасля ўсёй азбукі змешчаны невялікія тэксты для чытання: «Два мужыкі», «Дзед і баба», «Не смейся з чужое бяды» — апавяданні просценькія па змесце і па-народнаму дасціпныя. Увесь вучэбны матэрыял (малюнкі, словы, тлумачэнне гукаў) узяты, часцей за ўсё, з жыцця вёскі. Вось, напрыклад, некаторыя тлумачэнні: «Му — карова мыкае, мэ, бэ — бляе авечка, ам — сабака ляскае зубамі на мухі, бу! — крычыць птуха бугала». Не ўсё ў «Лемантары» было дасканала. Літара «ё» тут перадаецца праз «йо», аўтар не лічыць гук «ф» беларускім і замяняе яго гукам «п».

У першых сваіх выданнях пецярбургскія дзеячы, як і члены рэдакцый віленскіх газет «Наша Ніва» і «Наша доля», сустракаліся са значнымі цяжкасцямі пры мадыфікацыі беларускага алфавіта. Але паступова ў тэкстах замест літары «яць» (ужывалася ў зб. «Песні», напрыклад) пішацца «е», замест «щ» — «шч». З 1909 г. «и» (васьмірычнае) замяняецца на «і» (дзесяцірычнае). Быў уведзены і раздзяляльны знак зусім іншага характару, чым у рускай мове (апостраф замест ъ). У лексіцы твораў выдаўцы больш і больш асцерагаюцца дыялектызмаў. Усё гэта паспрыяла уніфікацыі літаратурных нормаў, выпрацоўцы адзіных правіл мовы.

У аснове вучэбнага матэрыялу наступнага падручніка «Першага чытання...», альбо «Чытанкі», таксама жыццё вёскі — невялікія жывыя апавяданні, вершы, казкі. Побыт вёскі, малюнкі роднай прыроды — усё пададзена ў «Чытанцы» ў прыўзнятым, святочным асвятленні, што адпавядае дзіцячаму светаўспрыманню. Для ўзросту, які мела на ўвазе аўтар «Чытанкі» Алаіза Пашкевіч, самае плённае навучанне магло быць толькі на роднай мове. Калі свет паказаны не на роднай мове, то гэта ўжо іншы свет, тады «wierzba» і «ива», напрыклад, пазначаюць зусім нешта іншае, чым «вярба». Выдаючы «Лемантар» і «Чытанку», пецярбургскія беларусы кіраваліся запаветам Багушэвіча: «Яно добра, а нават і трэба знаць суседскую мову, але наперш трэба знаць сваю». Калі ў «Чытанцы» простымі словамі расказваецца пра такі знаёмы свет, то значыць, гэты свет мае сваю вартасць, з ім можна размаўляць, як з бацькам і маці.

Пасля «Лемантара» і «Чытанкі» выдавецтва не спыніла падрыхтоўкі дзіцячых падручнікаў. У канцы 1909 — пачатку 1910 г. (на тытульнай старонцы стаіць дата 1909, а на вокладцы — 1910) з'явілася «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» Якуба Коласа. Суполка выдавала гэтую чытанку разам з віленскім выдавецтвам «Наша хата» тыражом 6000 экзэмпляраў. Аб'яднанне дзеля друкавання адной кнігі дапамагло сканцэнтраваць сродкі і выйсці на максімальны для беларускай кнігі тыраж. Некаторыя перыпетыі ў выданні чытанкі былі абумоўлены і арганізацыйнымі справамі. 1 студзеня 1909 г. скончылася першая выдавецкая ўмова. З прычыны канфіскацыі зборнікаў Багушэвіча «Дудка беларуская» і «Смык беларускі» суполка ў гэты час не магла падрахаваць вынікі працы, было невядома, ці ўклаўся расход у даход. Усё ж 30 красавіка 1909 г. адбылася перааргенізацыя таварыства, пачатая праца развіваецца больш інтэнсіўна.




*Пакуль Якуб Колас сядзеў на Беларусі ў турме, у Пецярбургу выйшла яго кніга*

«Другое чытанне...» Якуба Коласа выходзіла ўжо пасля рэарганізацыі выдавецтва — з часу выдання «Лемантара» і першай «Чытанкі» прайшло больш за тры гады. Якубу Коласу гэта справа была даручана ў 1906 г. Пісьменнік закончыў працу ў 1908 г., а ў 1910 г., калі ён сядзеў у турме, дзеці атрымалі «Другое чытанне...». «Другое чытанне...» — гэта хрэстаматыя для вучняў пачатковай школы. У прадмове (яе напісаў Л. Сеўрук) проста і даходліва гаворыцца аб хараства роднай зямлі, аб карысці кніжкі, а заканчваецца прадмова словамі Тараса Шаўчэнкі:

Учыцеся, браты мае, учыцеся, чытайце,
І чужое пазнавайце і свайго не цурайцеся!

Чытанка мае немалы спазнавальны характар. Невялічкія нарысы — «Якую карысць прыносяць нам птушкі», «Мурашкі і іх будова» і іншыя напісаны жыва і проста, з ужываннем дыялогаў — талент Якуба Коласа і праца ў свой час у палескай школе дапамаглі пісьменніку напісаць хрэстаматыю з глыбокім веданнем псіхалогіі дзяцей. Менавіта большай часткай напісаць, а не скласці з гатовых тэкстаў, як гэта звычайна робіцца ў хрэстаматыях. Выдаўшы «Лемантар», «Першае чытанне...» і «Другое чытанне...», суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца» зрабіла надзвычай патрэбную і важную справу для развіцця беларускай педагогікі, для асветы тагачаснага маладога пакалення.

У 1907 г. выдавецтва пачало серыю «Беларускія песняры». Былі надрукаваны «Гапон» Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, «Дудка беларуская Мацея Бурачка» Францішка Багушэвіча, «Пан Тадэвуш» Адама Міцкевіча. Кожную кніжку друкавалі накладам 4300 экзэмпляраў — тыраж даволі вялікі, разлічаны на рэалізацыю на працягу некалькіх гадоў. У 1908–1909 гг. у гэтай жа серыі такімі ж тыражамі выйшла другое выданне кніжкі вершаў «Смык беларускі Сымона Рэўкі з-пад Барысава» Францішка Багушэвіча, «Вечарніцы» Вінцука Дуніна-Марцінкевіча і «Жалейка» Янкі Купалы, творы Каруся Каганца.

Выданне «Дудкі беларускай» і «Смыка беларускага» прынеслі выдавецтву шмат клопатаў. Спачатку зборнікі заўважыла віленская цэнзура, якая больш востра, чым у Пецярбургу, рэагавала на новыя з'явы мясцовага грамадскага жыцця. Восенню 1908 г. Часовы камітэт па справах друку ў Вільні адправіў Пецярбургскаму камітэту па справах друку кнігі Багушэвіча, выдадзеныя суполкай. На пасяджэннях 24 і 28 кастрычніка 1908 г. Пецярбургскі камітэт пастанавіў накласці на абедзве кнігі арышт і прыцягнуць да адказнасці выдаўцоў. Цікава, што ў абодвух выпадках патрабуецца ўзбуджэнне судовага пераследвання супраць аўтара — Францішка Багушэвіча (таго, што апошні памёр яшчэ ў 1900 г., цэнзары маглі не ведаць). Аб «Дудцы беларускай» у абвінавачванні пісалася: «Брашура гэта ёсць зборнік вершаў, напісаных на тэмы з жыцця беларускага селяніна, і ставіць сваёй галоўнай мэтай паказаць беларуса, які пакутуе ад здзекаў улады і прыгнёту паноў»[1]. Для ілюстрацыі сваіх сцвярджэнняў камітэт узяў чатыры вершы — «Хрэсьбіны Мацюка», «Бог не роўна дзеле», «У астрозе», «Быў у чысцы», а ў зборніку «Смык беларускі» тры — «Панская ласка», «Ахвяра», «Не ўсім адна смерць». Пераказаўшы змест гэтых вершаў — мабыць, першы дзяржаўны пераклад (хай і не вершаваны) з беларускай на рускую! — і зрабіўшы адпаведныя высновы, камітэт запатрабаваў ад пракурора Пецярбургскай судовай палаты судовага працэсу, які і адбыўся ў лістападзе 1908 г.

Дзеячы суполкі на судзе разам з абаронцам Гальдштэйнам нямала папрацавалі для таго, каб адхіліць абвінавачванні. Вось як успамінае пра гэта Яўген Хлябцэвіч: «Адвакат, дастаўшы ад беларусаў кнігу протапрэсвіцера вайсковага і марскога духавенства, царскага духаўніка Шавельскага пад назваю «Аб уз'яднанні уніятаў з праваслаўнай царквою», прадэманстраваў гэту кнігу суддзям у камергерскіх мундзірах і прачытаў услых якраз тое месца, дзе Шавельскі пісаў, што нетактычнасць князя Хаванскага [ён і ўспамінаецца якраз у вершы «Хрэсьбіны Мацюка»] пашкодзіла справе праваслаўя. Карыстаючыся гэтаю думкаю Шавельскага, абаронца зазначыў, што протапрэсвіцер і царскі духаўнік дае гістарычную даведку аб князю Хаванскім, якая апраўдвае прыведзеныя ў вершы факты»[2]. Хоць у часе суда па гэтай справе ўдалося адхіліць шмат якія абвінавачванні пракурора, «Дудка беларуская» і «Смык беларускі» былі арыштаваны, і толькі ў выніку доўгіх намаганняў выдаўцоў зборнікі паступілі ў продаж у 1911 г. (арышт быў зняты 23 лістапада 1910 г.).

Як ні балюча адбіваліся судовыя працэсы на працы маладога выдавецтва, се-

[1] ЦДГА. Ф. 776. Воп. 9. Спр. 1607. Арк. 2. (Інфармацыя Р. Семашкевіча).
[2] Царскі суд над творамі Багушэвіча / Узвышша. 1927. № 3. С. 148–149.

рыя «Беларускія песняры» ішла да чытача. Выдавецкая дзейнасць пашыралася. Рахункі сведчаць, што калі капітал членаў і арганізатараў на 1 студзеня 1908 г. складаў 700 рублёў, то на 1 студзеня 1909 г. было выпушчана кніг на 1074 рублі, а на 1 чэрвеня 1910 г. — ужо на 3315 рублёў. Сваімі выданнямі і асабліва серыяльнымі, суполка заваёўвала ў вачах грамадскасці славу вельмі паважанай арганізацыі. Не жадаючы (пры ўсёй нешматлікасці беларускіх літаратараў) выпускаць у свет творы, недасканалыя ў мастацкіх адносінах, «Загляне сонца і ў наша ваконца» выстаўляла маладым пісьменнікам высокія мастацкія патрабаванні. У кастрычніку 1906 г. выдавецтва не прыняло, напрыклад, да друку зборнік вершаў «Плач» Міхаіла Сарокі з Вільні — гэта былі першыя спробы пяра з неахайна рыфмаванымі радкамі і расцягнутымі сюжэтамі.

Яшчэ адным кірункам выдавецкай дзейнасці сталі навукова-папулярныя брашуры, якія маглі пашырыць светапогляд селяніна («Гутаркі аб небе і зямлі» (1907), або ўзброіць яго элементарнымі навуковымі ведамі для практычнага жыцця («Як ратаваць уздутую жывёлу» К. Дулембы (1909). Фінансавая справаздача выдавецтва на перыяд з 1 чэрвеня 1910 г. па 15 верасня 1911 г. дакументальна пацвярджае шырокае разгортванне выдавецкай справы[1]. Тут гаворыцца і пра чужыя выданні, узятыя на склад, і пра свае, высланыя на камісію. Капітал суполкі дасягнуў даволі значнай сумы — 5595 рублёў. Найбольшыя прыбыткі прыносілі шматтыражныя выданні, разлічаныя на масавы попыт, кшталтам: Biarozka Henryk. Pčalina – żywiołka małaja, a karyści daje mnoho. — Piecierburh, 1911, якая мела тыраж 4000 асобнікаў.

Значнай падзеяй у дзейнасці выдавецтва ў 1908 г. стала праца над зборнікам паэзіі «Жалейка». Сапраўднай школай стала гэта кніжка для маладога аўтара Янука Купалы і яго рэдактара Браніслава Эпімаха-Шыпілы. Шыпіла вельмі сур’ёзна паставіўся да выдання: «Прагледзеўшы ўсе вершы [што прыслаў Самойла] і зрабіўшы з іх выбарку, я падрыхтаваў да друку зборнік, які аўтар пажадаў назваць «Жалейка». Зборнік «Жалейка», адрэдагаваны Эпімахам-Шыпілам, уключае 98 вершаў і перакладаў, прыкладна палавіну з напісанага Купалам у 1905–1907 гг. Зборнік адкрываў праграмны верш Янкі Купалы «Я не паэта», былі ўключаны і такія выразныя сацыяльна скіраваныя вершы, як «А хто там ідзе?», «Касцу», «Гэта крык, што жыве Беларусь». Паэт выступіў у «Жалейцы» не як пачатковы вершаскладальнік, а як сапраўдны мастак. Боль з-за адвечнай крыўды гэтай зямлі, разам з тым адчуванне яе прыгажосці («Да дзяўчатак», «Зіма», «Любімось, мае суседзі»), жаданне шчырага і шчаслівага жыцця — усё гэта вылілася ў высокапаэтычныя творы. Рэдактар зборніка знайшоў месца падаць на беларускай мове Канапніцкую, Лермантава, Някрасава, паказаўшы тым самым Купалу як перакладчыка.

Выхад зборніка заўважыла грамадскасць. Уладзімір Самойла пісаў у газеце «Мінскі кур’ер»: «Сонца жывой сапраўднай паэзіі заглянула ў аконца цёмнай, беднай, але вялікай хаты беларускага народу. Гукі роднай «Жалейкі», прасякнутыя сапраўднай чалавечнасцю, жывой любоўю і жалем да роднага беларускага свету, вырваліся з народнага сэрца — з вуснаў нацыянальнага паэта». Адзначыла прыхільнай рэцэнзіяй з’яўленне «Жалейкі» і віленская «Наша Ніва».

У Пецярбургу, на «Васілёвым востраве» быў адрэдагаваны і псеўданім будучага народнага песняра. Пры выданні «Жалейкі» адбылася гісторыя, якую пазней, у лісце да Клейнбарта, Эпімах-Шыпіла ўспамінаў так: «Перапісваючыся спачатку з Самойлам, я не ведаў сапраўднага імя паэта. Толькі калі ў працэсе друкавання трэба было зносіцца з самім аўтарам ці то з прычыны франтыспісу да гэтага зборніка, зробленага па майму ўказанню калегам маім мастаком Якубоўскім, ці іншых пытаннях, было мне паведамлена сапраўднае імя і месца жыхарства паэта. У франтыспісе да загалоўнага ліста я міжволі зрабіў памылку, напісаўшы замест «Жалейка Янука Купалы», як аўтар заўсёды і ўсюды называў сябе і падпісваўся, — «Жалейка Янкі Купалы». Такім чынам, ненаўмысна пераіменаваў Янука ў Янку, якую форму імя прыняў пасля і сам паэт і якая так і засталася за ім да гэтага часу, не Янук, а Янка Купала».

Выданне «Жалейкі» выклікала адмоўную рэакцыю ўрадавых камітэтаў па справах друку ў Вільні і Пецярбургу. Тыраж кнігі быў арыштаваны. Цэнзурны камітэт у данясенні пракурору на прыкладзе вершаў «Песня вольнага чалавека» і «Ах, ці доўга?», ставіць да ведама, што «Купала рэзка нападае на сучасны несправядлівы, з яго пункту гледжання, грамадскі лад». Тут жа цэнзурны камітэт па-

[1] «Маладая Беларусь». Сер. 1. Сш. І. Пецярбург, 1912. С. 153–155.

[2] Казімір Пянткоўскі быў аштрафаваны на 50 рублёў за тое, што не прадставіў у Санкт-Пецярбургскі камітэт па справах друку экзэмпляр «Жалейкі» Янкі Купалы, надрукаваны ў яго друкарні.

трабуе «прыцягнуць да законнай адказнасці... вінаватых у надрукаванні брашуры «Жалейкі»[2]. Але ўсё-такі Пецярбургская Судовая палата адмяніла 10 лістапада 1908 г. арышт. Затое яна ўзбудзіла судовы працэс супраць нябожчыка Францішка Багушэвіча.



*Мсціслаў Дабужынскі. Від Пецярбурга*

Асаблівасцю працы ў 1910–1914 гг. было павелічэнне колькасці малатыражных выданняў — часцей за ўсё гэта тэатральны рэпертуар. Дзеля зніжэння выдаткаў тэксты набіралі не ў друкарні, а друкавалі на машынцы і літаграфавалі. Звычайны тыраж такіх кніжак — 200–400 асобнікаў. Сярод іх «Модны шляхцюк» Каруся Каганца, «Сватанне» Антона Чэхава (у перакладзе Н. Чарнецкага), «У зімовы вечар» і «Хам» Элізы Ажэшкі (у перакладзе В. Ластоўскага), «Пашыліся ў дурні» і «Па рэвізіі» Марка Крапіўніцкага, «Міхалка» (у перакладзе з польскай Далецкіх), «Мядзьведзь» Антона Чэхава, «Паўлінка» Янкі Купалы і інш. Працягвалі выдаваць і шматтыражныя кнігі.

«Загляне сонца і ў наша ваконца» першым з усіх беларускіх выдавецтваў паспрабавала заснаваць беларускі часопіс. Ідэя выдання часопіса ўзнікла ў членаў суполкі ў 1911 г., а ўжо ў 1912 г. выйшаў першы сшытак першай серыі. У прадмове да чытачоў азначана мэта выдання: «Сучасная беларуская мысль выліваецца на паперы ў «Нашай Ніве», календары і беларускіх кніжках... Аднак усё больш і больш знаходзіцца між прабудзіўшыміся беларусамі такіх думак і твораў, каторым для рожных прычын німа мейсца ў сучасных выданнях беларускіх, і шмат знаходзіцца такіх людзей, каторых сучасныя выданні беларускія не здаволіваюць зусім. Вось дзеля таго та чуецца патрэба такога выдання, дзе магла б падзяліцца думкамі ўся «Маладая Беларусь».

Выдаўцы паведамілі, што «Маладая Беларусь» будзе выходзіць кнігамі ў 160 старонак, кніжкі будуць выходзіць адна за адной, як толькі набярэцца матэр'ял. Ідучы да сваёй мэты «Маладая Беларусь» будзе мець аддзелы: 1) грамадзянскі, дзе будзем разьбіраць неадкладныя для беларускага грамадзянства справы; 2) навуковы, з асаблівай увагай на навуковае пазнаньне Беларусі; 3) прыгожага пісьменства і мастацтва».

У тых кніжках «Маладой Беларусі», якія выйшлі з друку (два ў 1912 г. і адзін у 1913 г.), намеры рэдакцыі пачалі ўвасабляцца: надрукаваны вершы А. Гурло, Ц. Гартнага, К. Буйлы, апавяданні Цёткі, драматычная паэма Янкі Купалы «Сон на кургане», вершаваныя апавяданні Якуба Коласа, а таксама артыкулы аб формах нацыянальных адносін у Беларусі і Літве, аб неадкладных задачах, якія стаяць перад беларускай інтэлігенцыяй. Хоць рэалізацыя і не была, відаць, паспяховай, бо тыраж зменшылі з 1500 экзэмпляраў для першага да 1000 экзэмпляраў для трэцяга сшыткаў.

У першым выпуску альманаха надрукаваны вялікі артыкул Антона Луцкевіча (пад псеўданімам Антон Навіна) пад назвай «На дарозе да новага жыцьця». Праца гэта стала найбольш глыбокай публікацыяй, прысвечанай беларускаму нацыянальнаму адраджэнню. Напачатку Луцкевіч апелюе да «мінуўшчыны»: «Калі беларусы пагублялі свае інтэлігентныя станы, «простаму» народу — сялянству, каторае адно толькі захавала ў чыстаце сваю нацыянальную душу беларускую, жылося дужа цяжка. Беларускае сялянства стала далёкім і




*Маладая Беларусь. Вокладка*

чужым для інтэлігенцыі...» У далейшых разважаннях аўтар адзначае, што XIX стагоддзе прынесла шмат доказаў абуджэння беларускай свядомасці сярод дэнацыяналізаванай шляхты і арыстакратыі, і што многія асобы з гэтых слаёў прынялі актыўны ўдзел у нацыянальным адраджэнні.

Антон Навіна звяртае ўвагу на тое, што з прычыны ўсенароднай цемры аб патрэбах і памкненнях беларусаў раней гаварылі прадстаўнікі суседніх народаў, або рэдкія беларусы, якім удалося вырвацца з сялянскай нядолі і атрымаць адукацыю — як правіла, на расейскай альбо польскай мовах. Аднак першы этап нацыянальнага адраджэння заканчваецца, і ўсё больш людзей звяртаюцца да беларускай нацыі на яе роднай мове.

Шукаючы не толькі прыхільнікаў, але і ворагаў нацыянальнага адраджэння, Антон Луцкевіч звярнуў увагу на рэнегатаў, якія цалкам запрадаліся чужым мовам і чужым нацыянальным інтарэсам. Ён назваў каля дзесяці расійскіх і польскіх часопісаў, якія актыўна імкнуліся да кампраментацыі беларускага нацыянальнага адраджэння ды поўнай дэнацыяналізацыі беларусаў: «...у гэтых варожых выданнях працуе і дзейнічае многа беларусаў, якія рашуча супрацьстаўляюцца беларускай нацыянальнай свядомасці ды ідэі нацыянальнага адраджэння». Была сфармулявана наяўнасць двух полюсаў, да якіх прыцягваюцца адмоўныя сілы: з аднаго боку, яны «гуртуюцца каля дзвюх газет: чарнасоценнага лістка «Крестьянин», каторы ў краёвых справах заўсягды выступае ад імені беларускіх сялян і народных вучыцялёў, і штодзённага органа рускіх нацыяналістаў «Белорусская жизнь», перахрысціўшагася нядаўна ў «Северо-западную жизнь». Другая сіла — «большая частка тутэйшых палякаў з той розніцай, што палякі замест «абрусення» дабіваюцца «апалячэння» беларусаў, выдаючы розныя «Przyjaciele», «Jutrzeńki», «Dwa grosze» — і г.д.».

Паводле Антона Навіны, высокую місію адраджэння павінна ўзяць на сябе свядомая інтэлігенцыя, якая, кіруючыся гістарычнай місіяй і валодаючы адпаведнымі ведамі і аргументамі, у стане пераканаць беларуса, што ягоная рэлігія не акрэслівае яго нацыянальнасці ды што, будучы праваслаўным ці каталікам, не становіцца ён ні расейцам, ні палякам, але застаецца карэнным беларусам. Аналіз становішча, тактыкі, суадносін розных палітычных сіл агаляе ўвесь эгаізм пануючых класаў мацнейшай нацыі.

У другім нумары «Маладой Беларусі» быў змешчаны артыкул «К пытанню аб нацыянальных адносінах у Беларусі і Літве» — аб узаемаадносінах беларусаў, палякаў, літоўцаў, рускіх і яўрэяў. У артыкуле праводзілася думка, што ў нацыянальным шавінізме, культурным і эканамічным прыгнёце вінаваты маёмасныя класы.

Няма сумнення, што ідэі, якія ішлі з Пецярбурга праз «Маладую Беларусь», у значнай ступені паспрыялі азбуджэнню жыхароў Беларусі. У гэты ж самы час у Пецярбургу выгадавалася плеяда ксяндзоў-патрыётаў: Казімір Сваяк (Канстанцін Стэповіч), Андрэй Зязюля (Астрамовіч), Янка Быліна (Семашкевіч), Адам Станкевіч, Язэп Германовіч, Леў Гарошка, Часлаў Сіповіч, якія сталі беларускімі паэтамі, празаікамі і публіцыстамі, даследчыкамі і выдаўцамі, выдатнымі арганізатарамі нацыянальнага жыцця. Сучасны гісторык літаратуры адзначае, што «з цэласці публікацыі «На дарозі да новаго жыцьця» адназначна вынікае, што яе аўтар Антон Луцкевіч (Антон Навіна) быў бадай што найвыдатнейшым знаўцам беларускай грамадзкай і нацыянальнай беларускай рэчаіснасьці пачатку XX ст. і што фармуляваныя ім аналізы, погляды й прапановы ня страцілі свайго глыбокага сэнсу й актуальнасьці таксама ў сёньняшні час»[1]. Застаецца дадаць толькі, што сярод аўтараў, якіх друкавала «Загляне сонца і ў наша ваконца», былі і дзеячы бальшавіцкай партыі (прыкладам Зміцер Хведаравіч Жылуновіч, 1887–1937; зборнік яго вершаў выйшаў у 1913 г.)[2].

Пачынаючы з часу заснавання, суполка «Zahlanie sonce i ŭ naše wakonce» выдала больш як два дзесяткі паштовак з беларускімі пейзажамі («Шчарсуны ўлетку», «Шчарсуны ўзімку», «Белавежская пушча»), гістарычнымі малюнкамі («Двор Т. Касцюшкі ў Марачоўшчыне», «Апостал Скарыны») і інш.

У чэрвені 1914 г. у Пецярбургу выйшаў з друку адзіны нумар часопіса «Раніца»[3]. На тытульным аркушы — падзагаловак: «Думкі беларускай студэнцкай моладзі». Увесь змест часопіса, за выключэннем апавядання «Казкі

[1] *Барычэўскі А.* Беларуская эміграцыйная пісьмовасць. Ч. І. Варшава, 2004.

[2] Hartny C. Pieśni Ciški Hartnaho. – Pieciarburh: [«Zahlanie sonce i ŭ naše wakonce»]: Drukarnia K. Pientkoŭskaho, 1913. – [2], 49, [1] с.

[3] У канцы выдання ёсць такая прыпіска: «Просім усіх таварышоў прыслаць матэрыялу ў новы выпуск «Раніцы» па адрасу: СПб. 4 лінія, 45-16 для «Раніцы». Гэта адрас кватэры Б.І. Эпімаха-Шыпілы.

аб крыллях» Лаўрэна Будзіловіча, складаюць публіцыстычныя матэрыялы. «Раніца» імкнулася згрупаваць у розных гарадах, дзе вучыліся студэнты-беларусы, цэласныя студэнцкія арганізацыі. Аўтары невялікіх артыкулаў шукаюць адказы на надзённыя пытанні, даюць свой погляд на патрэбы і задачы народнай інтэлігенцыі. У артыкуле «Нашы шляхі» закранута спрадвечнае пытанне пра няўважлівыя адносіны інтэлігенцыі да жыцця народа. З палемічным запалам аўтар піша: «Беларуская інтэлігенцыя і народ ідуць рознымі дарогамі».

Праблему духоўнага аблічча новага пакалення інтэлігенцыі закрануў у алегарычнай замалёўцы «Азірнемся» Л. Будзіловіч. «Халодная гразь жыццёвага цынізму» — так называе аўтар цёмную сілу, якая засталася ў спадчыну ад ранейшых часоў і стаіць перашкодай на шляху рэальнага збліжэння інтэлігенцыі з народам. Сэнс у раўнадушшы і абыякавасці да патрэбаў часу. «Сваёй навукаю згнаілі яны ўласнае жыццё. Мы ўжо ведаем цану іхніх словаў. Нашае жыццё пакоціцца іншымі сцежкамі. Мы, што павырасталі шмат вышэй за сваякоў сваіх, што паскідалі путы з розуму, што маем змогу даць свядомую ацэнку кожнай з'яве, кожнай ідэі». Аўтар бачыць вялікае прызначэнне і адказнасць: «Шчасна ўсміхнулася доля нашаму пакаленню. Вывела нас яна на шырокі, прывольны свет, пад простыя промені сонейка, паклала ў нашыя істоты карані веры і праўды. Ці ж ні шчаслівейшыя мы ад усіх тых пакаленняў дзядоў і бацькоў нашых, што гнілі ў цемры і бросні?» Алегарычнымі вобразамі дазору на старых вежах і ўсходу сонца вылучана думка пра пераемнасць лепшых традыцый, надыход новай эпохі ў жыцці ўсяго грамадства.

Новыя маральныя крытэрыі адносін інтэлігенцыі і народа — так можна вызначыць сэнс памкненняў згуртаваны вакол «Раніцы» публіцыстаў. Гэтыя новыя маральныя крытэрыі выклікалі пастаноўку канкрэтных задач, сэнс якіх можна зразумець з артыкула «Праца і навука» (артыкул мае падзагаловак «Што нам рабіць на Беларусі?»). Як агульная ўстаноўка для студэнцкай моладзі, у артыкуле высоўваецца лозунг: «трэба зблізіцца з народам, трэба з ім зліцца». Далей ідзе пералік задач, якія павінна выканаць маладая інтэлігенцыя: «нам патрэбны калекцыі народных беларускіх арнаментаў», «нам патрэбны слоўнік», «нам патрэбны песні». Выкананне гэтых задач, на думку аўтара, дазволіць арганізаваць збор матэрыялаў, якія раскрыюць вялікае духоўнае багацце прыгнечанага народа.



*Вярэйская, 37. На пятым паверсе гэтага дома жыў Вацлаў Іваноўскі*

Суполцы «Загляне сонца і ў наша ваконца» належыць пачэснае месца і ў папулярызацыі беларускага слова. У такіх буйных гарадах, як Варшава, Вільня, Мінск, Віцебск, Гродна, Гомель, былі адчынены контрагенцтвы выдавецтва, у якія беларускія кнігі перасылаліся з Пецярбурга і на месцах ішлі да чытача. Акрамя таго, суполка займалася перасылкай кніг кожнаму ахвотнаму, даючы аб'явы ў «Нашай Ніве». Гэта ўсё дазваляла распаўсюджваць немалыя тыражы выданняў. Напрыклад, большасць кніг з серыі «Беларускія песняры» выходзілі колькасцю 4300 экзэмпляраў.

1914 год быў апошнім годам актыўнай дзейнасці суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца». Грашовыя цяжкасці прымусілі шукаць ахвярадаўцаў, якія знаходзіліся вельмі рэдка. Толькі пры дапамозе доктара **Аляксандра Парфіравіча Ярэміча** (1876—1920) быў выдадзены зборнік Янкі Купалы «Шляхам жыцця». У 1914 г. суполка выдала зборнік паэзіі Самуіла Плаўніка (1886—1941), які пісаў пад псеўданімам Змітрок Бядуля: Biadula, Zmitrok. Abrazki: — Piecierburh: «Zahlanie sonca i ŭ naša akonca», druk. K. Piantkoŭskaha, 1913 (на вокладцы 1914), паўтарыла чацвёртым выданнем «Дудку беларускую» і больш кніг не выпускала. Пра тое, што фінансы суполкі ў пачатку Першай сусветнай вайны сталі прадметам махінацый, сведчыць ліст рэдактара «Нашай Нівы» А. Уласава да А. Луцкевіча ад 10 снежня 1914 г., у якім гаворыцца пра грашовыя ахвяры, што паступалі ад княгіні Магдалены Радзівіл: «Антон Іванавіч! Мятлін

цяпер павераны Магдалены. Ён гаворыць, што трэба, каб Шыпіла выдаў распіску, што 4250 рублёў паступілі ў распараджэнне «Загляне сонца...». Тады ўсю справу можна ліквідаваць, і магчымы яшчэ новыя датацыі. Каб вы зрабілі гэта як найскарэй, то было бы для ўсіх лепей. Калі яна ўспакоіцца, яна сказала, што грошы аддадуць суполцы»[1].

Цяжкую сітуацыю найярчэй адлюстроўвае запіс рукой Браніслава Эпімаха-Шыпілы на захаваным у бібліятэцы Акадэміі навук гандлёва-выдавецкім каталогу Віленскай друкарні Марціна Кухты 1914 г. «Спісак беларускіх кніжэк і часопісоў». На тытульным аркушы ён напісаў: «heta nie życio, a wycio». Брак грошай і закалоты Першай сусветнай вайны спынілі працу выдавецтва.

### Выдавецтва Антона Грыневіча

У Пецярбургу акрамя калектыўнага выдавецтва «Загляне сонца і ў нашаваконца» існавала яшчэ адно прыватнае беларускае выдавецтва, дзейнасць якога звязана з імем Антона Грыневіча[2]. Цяга да народнай культуры і актыўная дзейнасць на гэтай ніве прабудзіліся ў Грыневіча на грунце прыроджаных музычных здольнасцяў і зацікаўленняў — ён з ранніх гадоў запісваў народныя песні. Прыехаўшы ў Пецярбург, ён становіцца актыўным дзеячам суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца», але ў 1910 г. нечакана вырашае стварыць уласнае выдавецтва. Прычыны гэтага кроку да канца не зразумелыя. Калежскі сакратар **Антон Антонавіч Грыневіч** жыў на 14-й лініі Васільеўскага вострава, 19, працаваў канцылярскім чыноўнікам у аддзеле прамысловасці Міністэрства транспарту і прамысловасці на Дварцовай плошчы, 8. Вольны ад дзяржаўнай службы час гэты дробны пецярбургскі клерк аддаваў беларускай дзейнасці і любімай справе — збіранню фальклору. Вынікам збіральніцкай і выдавецкай дзейнасці Антона Грыневіча стаў двухтомавы зборнік «Беларускія песні з нотамі»: першы том выйшаў у 1910 г., другі (падрыхтаваны разам з Андрэям Зязюлем) — у 1912 г. У звароце да тых, каму трапіць у рукі кніжка, Грыневіч заклікае да сістэматычнага збірання песень: «Выдавец... просіць, спагадаючы яго мыслі, памагчы яму ў гэтым сабіранні і выданні, прысылаючы патрэбны матэрыял». Тут жа заўвага: народную песню можна не толькі спяваць — яна вельмі прыдатная да чытання вершам і «як у люстры адбівае жыццё, долю і думкі беларуса». Змест двух невялічкіх томікаў склалі сямейна-бытавыя, жніўныя і жартоўныя песні, падбор вызначаецца веданнем народнай музычнай культуры і густам. З дзейнасцю Антона Грыневіча звязаны актыўны ўдзел у пецярбургскім беларускім руху ў 1911—1913 гг. студэнта кансерваторыі Стасіса Шымкуса (1887—1943), які збіраў і апрацоўваў літоўскія народныя песні.

У XIX ст. выйшла нямала запісаў беларускіх песень. І ўсё ж на іх фоне (часта больш салідным) сціплыя зборнікі Грыневіча вылучаюцца як істотнае дасягненне жывой беларускай культуры. Тоўстыя акадэмічныя тамы фальклору знайшлі сваё месца ў бібліятэках, сталі навуковай фіксацыяй, сведчаннем духоўнага багацця беларусаў. Выданні Грыневіча вызначаюцца іншай асаблівасцю — яны зроблены з мэтай гэтае багацце ажывіць. Нездарма Грыневіч паставіў эпіграфам да сваіх запісаў словы Янкі Купалы:

> Гэй жа, песня, гэй жа наша,
> У свет кацiся, ў кожны кут!
> Хоць там нехта гоне, страша,
> Вызваляйся з трудных пут!

Пасля прац Е. Раманава, П. Шэйна, А. Сержпутоўскага і іншых «акадэмічных» збіральнікаў фалькларыстыка прыйшла да тае мяжы, дзе патрэбна было не толькі абвяшчаць пра важкасць, разнастайнасць і велічыню матэрыялу, але і рабіць уплыў на сучаснае жыццё айчыннай культуры. Гэтаму якраз і служылі «Беларускія песні з нотамі» Антона Грыневіча.

Некаторыя надрукаваныя ў Пецярбургу ў 1910—1913 гг. беларускія кнігі не называюць выдаўца і таму цяжка вызначыць, якое з двух існаваўшых выдавецтваў пусціла іх у свет — А. Грыневіч ці «Загляне сонца і ў наша ваконца». Грыневіч першы стаў карыстацца паслугамі друкарні А. Э. Колінс (былой Ю. Н. Эрліх) — прадпрыемства размяшчалася ў доме Ч. Гофмана на Малой Дваранскай вуліцы, 19, Петраградскай стараны. Выбар гэтай друкарні, магчыма, звязаны з тым, што Грыневіч аддаваў туды службовыя матэрыялы са свайго міністэрства. Час ад часу, аднак, ён размяшчаў свае заказы ў друкарні К. Пянткоўскага. У тым жа 1910 г., азнаменаваным для Грыневіча пачаткам самастойнай выдавецкай дзейнасці, у яго выдавецтве выходзяць дзве кнігі Янкі Купалы — драматычная паэма «Адвечная песня» (напісана ў 1908 г.) і зборнік вершаў «Гусляр».

---

[1] Рукапісны аддзел БАН Літвы. VBF-21. Спр. 557. Арк. 15. (Інфармацыя Р. Семашкевіча).

[2] *Ліс А.* Песня прасілася ў свет // «Полымя». 1966. № 2. С. 151—164.




*Кніга выдавецтва А. Грыневіча*

Выдавецкая дзейнасць Антона Грыневіча набыла найбольшы размах у 1913 г. Ён выдае кнігі Якуба Коласа — апавяданні «Тоўстае палена», «Нёманаў дар», «Прапаў чалавек», а таксама «Апавяданні» Ул. Галубка, «Пракленашы» Л. Гвазда, «Аб чым шапацелі лісця» Таўруса. Друкаваў Грыневіч і лацінкай, і кірыліцай, тыражы ў яго былі 2500–3000 асобнікаў. Пачатак вайны і мабілізацыя Грыневіча ў армію перарвалі яго выдавецкую дзейнасць, якой ён прысвяціў нямала энергіі і якую не збіраўся спыняць[1].

Пасля Грыневіча дзейнічалі яшчэ некалькі беларускіх выдаўцоў, сярод іх таварыства «Акцыйная суполка друкарскай штукі». Вядомая толькі адна кніжка гэтай суполкі — «Кароткая свяшчэная гісторыя» ксяндза І. Шустэра, якая была надрукавана ў 1914 г. з ілюстрацыямі тыражом 3000 экз. Перакладчык схаваўся за крыптанімам Х[2].

Беларускае кнігавыданне не спынілася ў Петраградзе і пасля 1915 года, калі ўжо не дзейнічалі «Загляне сонца і ў наша ваконца» і выдавецтва Антона Грыневіча. Вядомыя дзве кніжкі выдавецтва «Л. Хвецька і суполка», якія выйшлі лацінскім шрыфтам у 1917 годзе: Kaściolnyja pieśni / Sabraŭ Wincenty Gorzelniaski. – Pietrahrad: Wyd. L. Chwiecko i Sp-ka, 1917 (30 старонак з нотамі). Аўтарам другой быў ксёндз Аляксандр Астрамовіч, які пісаў вершы пад псеўданімам Андрэй Зязюля: Ziaziula, A. Słowa praudy ab mowi i doli Biełarusa. (Paświačaju biłaruskaj moładzi): [Wierš] / A. Ziaziula. — Pïetrahrad, 1917 (16 старонак).

Алесь Барскі слушна заўважыў, што выдавецкія суполкі не карысталіся якімі-колечы датацыямі і фінансавай дапамогай з боку дзяржавы, утрымліваліся з ахвяраванняў галоўным чынам саміх ініцыятараў і арганізатараў, а таксама рэдкіх сымпатыкаў беларускай справы: «дык мусім сказаць, што іх дасягненьні й выдавецкі плён мелі характар беларускага нацыянальнага подзьвігу, які можна параўнаць хіба што толькі з выдавецкім подзьвігам Францішка Скарыны». Варта адзначыць і тое, што адносна доўгае існаванне ў горадзе беларускіх выдавецтваў паўплывала на ўзнікненне такіх беларускіх пецярбургскіх газет, як «Светач» (1916–1918) і «Дзянніца» (1918–1919)[3].

І ўсё ж кніг не хапала. Толькі ў Пецярбургу колькасць выхадцаў з беларускіх губерняў была такая, што адна, хай сабе самая шматтыражная кніжка выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца» прыходзілася на 12–13 чалавек — па перапісу 1890 г. у горадзе жылі 51 796 чалавек — выхадцаў з беларускіх губерняў. Колькасны іх склад прадстаўлены наступным чынам:

| Губерня | Сяляне | | Мяшчане | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| | Мужчыны | Жанчыны | Мужчыны | Жанчыны | |
| Віленская | 2651 | 1140 | 1327 | 1347 | 6465 |
| Віцебская | 7728 | 5141 | 2004 | 2122 | 16955 |
| Гродзенская | 612 | 392 | 355 | 383 | 1742 |
| Магілёўская | 592 | 512 | 582 | 562 | 2248 |
| Мінская | 1317 | 368 | 485 | 392 | 2562 |
| Смаленская | 11641 | 8171 | 950 | 1062 | 21824 |
| | | | | | 51796 |

[1] Грыневіч праз сем гадоў зрабіў спробу ўзнавіць выдавецкую дзейнасць. У 1920 г. ужо ў Вільні выходзіць яго папулярная брашура пад назвай «Як трымацца змалку». На тытульным аркушы пазначана: «выданне аўтара». Тэкст брашуры напісаны ў 1918 г.

[2] Невядома, ці быў беларускі пераклад зроблены з нямецкага арыгіналу ці з польскага выдання.

[3] Паводле Сцяпана Александровіча [*Александровіч С.Х.* Пуцявіны роднага слова. Мінск, 1971. С. 164], на пачатку XX ст. з 245 кніг на беларускай мове 54 прыходзіцца на долю пецярбургскіх выдавецтваў: 38 выдала суполка «Загляне сонца і ў наша аконца», 10 — выдавецва А. Грыневіча, 6 — выдавецтва «Грамада». У гэтым падліку не ўлічана прадукцыя выдавецтваў «Л. Хвецька і суполка» і «Акцыйная суполка друкарскай штукі».



Teatralnaja Sala „PALMA“
(Maksimiljanowski pier. 18).
U Subotu, 19 Listopada (Nowembra) 1911 roku,
Z HULAJEM
BIEŁARUSKAJE IHRYŠČE
Ładženaje artystam K. A. BIEKINYM-DROZDOWYM
NA IHRYŠČY BUDZIE PEJAĆ
BIEŁARUSKI CHOR
wiedzieny S. ŠIMKUSOM.
PREDSTAULENA BUDZIE PA BIEŁARUSKU
U ZIMOWY WIEĆER
Scena s sielanskaho žyccia E. Orzeško.
„MICHAŁKA"
ŽARCIK, "*"
BIELARUSKAJA DEKLAMACYJA I SOLOWYJE PIESNI.
abiecalisia łaskawa nam pamahčy wiadomyje siły
NA SCENI ORYGINALNYJE BIEŁARUSKIJE OPRATKI.
Pośla predstaŭlennia TANCY
do 3-ch hadz. u nočy.
POČTA! KIOSKI! KONFETTI!
Tancy na sali pad arkiestr.
Pačatak a hadzinie 8¹|₄.
Za adzienie płacić šwejcaru 10 kop.
Bilety at 5 r. 10 kop. da 50 kop., a tolki na tancy pa 1 rubli pradajuca u swejcara Sali „Palma" u W. Iwanouskaho. Wierejskaja 37, kw. 13 u 8. l. Epimach-Šypllo, W. O. 5-aja linija 45, kw. 16, a u dzień ihryšča u kasi Sali „Palma".
Печ. разр. 7-го Ноября 1911 г., И. д. СПБ. Градоначальника Камергеръ Лысогорскій. Т. Имп. СПб. театровъ, Моховая, 40.

*«Беларускае ігрышча» — рэкламны плакат вечара адпачынку 19 лістапада 1911 г. у тэатральнай зале «Пальма»*

# Раздзел 11.

## КАНЕЦ ІМПЕРЫІ. БЕЛАРУСКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ ПЕТРАГРАДА Ў САЦЫЯЛІСТЫЧНЫМ БУДАЎНІЦТВЕ

У жніўні 1914 г. пачалася вайна Расіі супраць кааліцыі, у якую ўваходзілі дзве буйнейшыя нямецкія дзяржавы — Германія і Аўстра-Венгрыя. У Пецярбургу прайшлі антынямецкія маніфестацыі, натоўп разрабаваў нямецкія магазіны і паскідаў каменныя скульптуры коней з будынка Германскага пасольства на Ісаакіеўскай плошчы. Алею ў агонь падліў галоўнакамандуючы, імператар Мікалай II. Напрадвесні цяжкіх для ўсёй шматнацыянальнай краіны выпрабаванняў ён паддаўся на экзальтаваныя антынямецкія праявы і пачаў вайну з... перайменавання сталіцы. 31 жніўня 1914 г. загадам імператара Санкт-Пецярбург быў перайменаваны ў Петраград. Воля заснавальніка горада, Пятра Вялікага, была парушана.

Ізноў нечакана праявіўся паэт-самавук з вёскі Лаўрышава Нягневіцкай воласці Наваградскага павета Мінскай губерні — у 1915 г. у петраградскай друкарні П. Вашчынскай асобнымі брашурамі былі надрукаваны два вершы Мікалая Марозіка: «О бранях и войнах» і «Мысли сельскаго Белоруса о Царской власти и самодержавии», апошні пачынаўся такімі радкамі:

> Душа радуется у народнаго поэта,
> Когда Царю поютъ Многая Лета.
> Ибо так вообще говорит человеческая
> природа,
> Что здравие Царево, — счастие народа.

Тым часам пачалася мабілізацыя ў дзеючую армію. Вядомы ўжо нам паэт Алесь Гурло трапіў служыць у Кранштат матросам на крэйсер «Багатыр». У 1915 г. ён павышаны ў званні да унтэр-афіцэра і адкамандзіраваны на эскадраны мінаносец «Забіяка». У 1917 г. Алесь Гурло стаў бальшавіком, ваяваў супраць войск генерала Карнілава, прымаў удзел у штурме Зімняга палаца. У тым векапомным штурме Зімняга ўдзельнічаў таксама марак Захар Станкевіч з пасёлка Крывічы, што на Мядзельшчыне. Пазней, у складзе атрада 1-га Балтыйскага флоцкага экіпажу Станкевіч ваяваў супраць мяцяжу Керанскага-Краснова ў 1917 г., толькі ў 1918 г. вярнуўся ў родную вёску, якая неўзабаве апынулася ў межах Другой Рэчы Паспалітай.



*Алесь Гурло*

На Беларускім тэатры ваенных дзеянняў у 1914—1915 гг. расійская армія адступала пад ціскам нямецкага войска. Каб вораг на акупаванай тэрыторыі сустрэў цяжкасці з правізіяй і фуражом, расійскае камандаванне прымусова адпраўляла цывільнае насельніцтва ў эвакуацыю, частка людзей, паслухаўшы ўрадавую агітацыю, выязджала ў глыб Расіі добраахвотна. Рух гэты адразу названы быў бежанствам, набыў важнае значэнне і меў вельмі істотныя наступствы. Шмат бежанцаў з Беларусі апынуліся і ў Петраградзе, большасць без працы, жылля і сродкаў для існавання. Са студзеня 1916 да 1918 г. існавала дабрачынная арганізацыя, якую прадстаўнікі мясцовых беларусаў і бежанцаў арганізавалі для дапамогі суайчыннікам. Заснавальнікамі сталі Браніслаў Эпімах-Шыпіла, Чэслаў Радзевіч, Аляксандр Ярэміч, Уладзімір Міткевіч. На ўстаноўчым сходзе 31 студзеня 1916 г. было ўтворана **«Беларускае таварыства па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны»**. Першым старшынёй Камітэта таварыства абралі Л. Сеўрука, пазней старшынёй стаў пецярбургскі журналіст Язэп Варонка, член

партыі Беларуская сацыялістычная грамада. Членамі Камітэта былі А. Ярэміч, М. Мігай, Э. Будзька, А. Беніцэвіч, М. Дзевялтоўская-Гінтаўт, Фабіян Абрантовіч, Л. Хвецька. Некаторы час у Таварыстве працавала Паўліна Мядзёлка. У сакавіку 1916 г. спецыяльны Камітэт Яе імператарскай вялікасці Вялікай княгіні Таццяны Мікалаеўны (Раманавай), прызнаў «Камітэт беларускага таварыства ў Петраградзе па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны» як афіцыйную арганізацыю, якая аказвае практычную дапамогу бежанцам, і паведаміў аб асігнаванні ў рапараджэнне беларускага Камітэта грошай на арганізацыю працы з бежанцамі: прытулкаў, школ і да т. п. Камітэту было выдзелена памяшканне на Знаменскай вуліцы, № 36, кв. 54.

Атрымаўшы грашовыя сродкі, Таварыства разгарнула працу: аказвала дапамогу грашыма і рэчамі, адкрыла інтэрнаты для беларускіх студэнтаў і вучняў, дзіцячы прытулак, кравецкую майстэрню. У Мінскіх і Пецярбургскіх архівах захаваўся цікавы комплекс дакументаў дзейнасці Таварыства: рахункі за аплату бежанцам жылля і навучання, купленыя для іх касцюмы, швейныя машыны, прадукты харчавання. Тут жа поўныя надзеі заявы знядоленых людзей, побач захоўваюцца пратаколы сходаў таварыства, тэлеграмы і ліставанне з беларускімі арганізацыямі ў Мінску Вільні і Смаленску[1].



№ 5 №сч. 22408 802

КОМПАНІЯ ЗИНГЕРЪ

СЧЕТЪ

ШВЕЙНАЯ МАШИНА
КОМПАНІИ ЗИНГЕРЪ
16к-33
F 4934606 — 140
F 4909399 — 140
280

ДЕНЬГИ ПОЛУЧЕНЫ СПОЛНА

*Рахунак кампаніі «Зінгер» у Беларускае таварыства за прадстаўленыя швейныя машыны. Нацыянальны архіў Беларусі*

Таварыства выдавала лістоўкі з заклікам ахвяраваць грошы для бежанцаў. Адна з такіх улётак пачыналася словамі «Пагалелым ад вайны беларусам памажыця!», а заканчвалася фразай «За шчырую дапамогу будзіць шчыры дзякуй». Відавочна, што беларускія ўлёткі былі разлічаны на людзей, якія разумеюць беларускую мову. Такіх у Петраградзе было багата, але не выключана, што лістоўкі друкавалі для збору сродкаў і ў тых раёнах Беларусі, якія не былі пад нямецкай акупацыяй. Акрамя вырашэння эканамічных пытанняў, Петраградскае Беларускае таварыства наладжвала «Беларускія вечарыны», падтрымлівала сувязі з Мінскім аддзелам Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, клапацілася пра адукацыю дзяцей. У кастрычніку 1916 г. быў зацверджаны план заняткаў у прыватнай навучальнай установе для хлопчыкаў і дзяўчынак (сродкі на навучанне даваў Камітэт Беларускага таварыства ў Петраградзе), а таксама прыняты зварот да дырэктара народных вучылішчаў г. Петраграда з просьбай даць магчымасць дзецям бежанцаў атрымаць пачатковую адукацыю.

Бежанцы туліліся дзе давядзецца, згаджаліся на любую працу. Гэтыя людзі чакалі заканчэння вайны і вяртання дадому. Хоць рэальна атрымалася так, што шмат хто з бежанцаў застаўся настала ў Петраградзе — асабліва гэта датычыць спецыялістаў, якія знайшлі працу на прадпрыемствах горада, таксама русафільскай інтэлігенцыі (настаўнікаў, святароў), якая не схацела вяртацца на радзіму, дзе будавалася новая польская дзяржава — Другая Рэч Паспалітая. З цягам часу прозвішчы гэтых грамадзянаў трансфармаваліся з беларускіх формаў у больш звыклыя рускія: Андрэй Шабаха, напрыклад, стаў пісацца Шабахов, а яго сын быў запісаны як Шабоев, Янка Міхей ператварыўся ў Івана Міхеева і да т. п. З разлікам на бежанцаў-католікоў у Петраградзе пачала выдавацца (ад 1 (14) лістапада 1916 г.) лацінкай беларуская газета «Светач», якая мела выразны рэлігійны характар. Аўтары публікацый і асабліва галоўны рэдактар Эдвард Будзька прапанавалі ідэю адраджэння Беларусі на грунце хрысціянскіх ідэалаў, прынцыпаў і каштоўнасцяў. Газета экспанавала розныя праявы беларускага нацыянальнага жыцця ў Пецярбургу, з асаблівай увагай адносілася да дзейнасці выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў нашаваконца». Да 31 студзеня 1917 г. выйшлі 7 нумароў, пасля чаго выданне спынілася.

[1] Белорусское общество в Петрограде по оказанию помощи пострадавшим от войны. 1916–1918. Межархивный справочник. Минск, 2008.

Удзельнікі навуковага гуртка студэнтаў універсітэта меліся выдаць студэнцкі часопіс «Сябра». Браніслаў Тарашкевіч напісаў да яго такі ўступ: «Вось выпускаем на свет першы нумар «Сябры». Мо з першага разу не зусім будзе ясна, аб чым у гэтым месячніку мае ісці гутарка, якія сабе мэты паставіла рэдакцыя. Дык просім крыху ўвагі.

Цяпер ідзець вялікая барацьба народаў, а пасля вайны наступіць вялікі пералом у жыцці. На гэта ўсе гатуюцца. Не можна ж і нам сядзець завязаўшы вочы, трэба кратацца і думаць, каб сёння не быць сляпым — і на заўтра мець гатовую думку. Вось на старонках «Сябры» і хацелася б бачыць усё тое, што звязана з жыццём Беларусі — ці з сучасным яе палажэннем, ці з мінуўшчынай»[1].

Адначасова са «Светачам» 1 (14) лістапада 1916 г. у горадзе пачала выдавацца бальшавіцкага кірунку беларуская газета «Дзянніца». Яна друкавалася кірыліцай, галоўным рэдактарам быў Зміцер Жылуновіч (літаратурны і партыйны псеўданім — Цішка Гартны). Публіцысты газеты адводзілі прыярытэтнае месца асветніцка-культурным пытанням. Інфармавалі чытачоў аб шматлікіх беларускіх ініцыятывах не толькі ў Пецярбургу, але і ў іншых гарадах Расіі. На старонках «Дзянніцы» з'яўляліся таксама літаратурныя творы Ц. Гартнага, А. Паўловіча, Ф. Шантыра ды іншых беларускіх паэтаў і празаікаў. «Дзянніца», як і «Светач», спыніла сваё існаванне пасля выхаду ў свет 7-га нумара (гэта здарылася 13 студзеня 1917 г.). 14 нумароў петраградскіх беларускіх газет не згубіліся ў гісторыі: яны засведчылі пэўную сталасць беларускага грамадства, а «Дзянніца» стала рэпетыцыяй будучай бальшавісцкай газетнай справы.

Шматлікія ўстановы ў горадзе зарыентаваліся на ваенныя патрэбы, шмат прадпрыемстваў зачынілася альбо працавала з малой загрузкай. У горадзе не хапала прадуктаў харчавання, паліва. Адной з прычын былі бежанцы, з-за якіх насельніцтва сталіцы рэзка павялічылася — да 2,3 млн чалавек у 1917 г. Голад і нястачы, незадаволенасць усіх слаёў грамадства прывялі ў пачатку 1917 г. да 500-тысячнай дэманстрацыі на Дварцовай плошчы, а потым да звяржэння манархіі. Рэвалюцыя 27 лютага стала часам разлому — пасыпалася крохкае цела вялізнай Расійскай імперыі. Уладу ў Петраградзе трымаў Часовы ўрад, у які ўваходзілі прадстаўнікі розных палітычных партый і груповак. Сярод палітыкаў-беларусаў гэтага перыяду можна ўспомніць дэпутатаў Петраградскага Савета рабочых і сялянскіх дэпутатаў вайскоўца Уладзіміра Шухарда з Зэльвы, эсэрку Палуту Бадунову з Навабеліцы, арганізатара Беларускай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі Аляксандра Чарвякова з Дукоры Ігуменскага павета. Вярнуўся да палітычнай дзейнасці Майсей Астрагорскі з Гродна, заходзіла зорка манархіста Уладзіміра Гуркі, і да піку дайшла палітычная кар'ера эсэраўскага міністра віцябляніна **Паўла Малянтовіча**. Малянтовіч як міністр унутраных спраў Часовага ўрада ў ліпені 1917 г. даў загад на арышт абвінавачаных у дзяржаўнай здрадзе. Паліцыі ўдалося арыштаваць члена Петраградскага камітэта РСДРП(б) віленчука **Мечыслава Юльевіча Казлоўскага** (1876–1927), а вось палітычна небяспечны Уладзімір Ульянаў-Ленін — вопытны канспіратар — надзейна схаваўся ў Разліве каля Сестрарэцка.

Першая сусветная вайна стала катастрофай для беларускага народа. Пры гэтым яна дала моцны штуршок для абуджэння народнай свядомасці — для тысяч беларусаў гэта адбылося ў бежанстве. «Падзеі тых часоў у Петраградзе нагадваюць сённяшнія каляровыя рэвалюцыі», — скажа ў 2007 г. у адным з інтэрв'ю (для тэлевізійнага фільма «Савецкая Беларусь») Пётр Петрыкаў, член-карэспандэнт НАН Беларусі. Тэзіс даволі спрэчны, аднак застаецца фактам, што бежанства як факт гісторыі Беларусі яшчэ далёка не вывучана. І гэта нягледзячы на тое, што першая кніга па гэтым пытанні з'явілася ў той час, калі бежанцы яшчэ знаходзіліся ў Петраградзе: прафесійны архівіст і літаратар Фядот Кубрынскі выдаў кнігу «Людские волны. Беженцы» (Петроград, 1917)[2].

Рэвалюцыйны 1917 год векапомны не толькі як бедная, галодная ваенная пара, але і як час пошуку шматлікімі народамі імперыі свайго нацыянальнага самавызначэння. У Петраградзе рэвалюцыя палітычная — разбуральная — суіснавала з рэвалюцыяй духоўнай — стваральнай. Тыя беларусы, хто глыбока ўрос у старую (манархічную) пабудову грамадства, не змаглі падтрымаць новыя плыні. Кіраўнік земскага аддзела Міністэрства ўнутраных спраў, таварыш міністра

[1] *Тарашкевіч Б.* Выбранае: Крытыка, публіцыстыка, пераклады. Мінск, 1991. С. 52.

[2] *Скалабан В. В.* Белорусские беженцы Первой мировой войны: перспективы изучения // Архіўныя чытанні I–III. Матэрыялы навук. канф. Мінск, 2003–2005. Вып. 1. Мінск, 2006. С. 142–143.

ўнутраных спраў **Уладзімір Іосіфавіч Гурка** (1863–1931) разглядаў рэвалюцыянераў як ворагаў. Сапраўдны стацкі саветнік і камергер, ён у 54 гады страціў пасаду, страціў сямейны дом на Уваскрэсенскай набярэжнай, 30, страціў усё. Пасля 1917 г. Уладзімір Гурка ўдзельнічаў у белым руху на поўдні Расіі, потым жыў у эміграцыі. Побач нараджалася новае жыццё, прыкладам, у лістападзе 1914 г. у Петтраградзе, у сям'і дэзінфектара бальніцы Марыі Магдалены, беларуса Мікалая Лукіча Амелькі нарадзіўся сын **Мікалай Мікалаевіч Амелька** — у будучым адмірал, камандуючы Ціхаакеанскім флотам СССР.

На палітычную сцэну Петраграда выходзілі новыя дзеячы, сярод якіх вылучаўся **Яўсевій Сцяпанавіч Канчар** (1882–1979). Ён нарадзіўся ў вёсцы Сяўкі Рэчыцкага павету (зараз Лоеўскі раён Гомельскай вобласці), закончыў Мар'інагорскае землякробчае вучылішча. У 1910–1914 гг. Яўсевій Канчар вучыцца на Пецярбургскіх сельскагаспадарчых курсах і сур'ёзна цікавіцца праблемамі кааператыўнага руху. У сакавіку 1917 г. ён стаў ініцыятарам стварэння і старшынёй Беларускага абласнога камітэта пры Усерасійскім Савеце сялянскіх дэпутатаў, як прадстаўнік Мазырскага сялянскага з'езда. У склад гэтага камітэту сярод іншых ўвайшлі Філіп Караткевіч, Уладзімір Карпаў, Міхаіл Гольман, Лука Калядка, Васіль Селіванаў і Дзімітрый Сабалеўскі. Група вырашыла заняць нейтральную пазіцыю адносна правых і левых сацыялістычных і сацыялдэмакратычных партый зыходзячы з таго, што «лёс Беларусі знаходзіўся ў паласе вялікай небяспекі і патрабаваў ад беларусаў вытрымкі, асцярожнасці і адзінага дэмакратычнага фронту»[1]. Крыху пазней, у 1919 г. Я. Канчар апрацаваў статыстыку рэгістрацыі беларускіх бежанцаў у Петраградзе і зрабіў падрабязны палітычны аналіз атрыманых вынікаў[2].

Выразны малюнак рэвалюцыйнага Петраграда ў лютым 1917 г. зрабіў праз дваццаць гадоў вядомы эмігрант-манархіст беларус **Іван Лук'янавіч Саланевіч** (1891–1953), на той час студэнт юрыдычнага факультэта універсітэта і па сумяшчальніцтве супрацоўнік газеты «Новое время»: «Абрынулася — зусім па дробязнаму поваду. Ашалелы натоўп на Неўскім. Зусім ашалелыя генералы ў міністэрствах і штабах. Панічна настроеная салдатня, для разгону якой дастаткова было б аднаго кавалерыйскага палка. І аднаго моцнага




*Санкт-Пецярбург. Неўскі праспект. Паштоўка*

чалавека, які павёў бы гэты полк. Не аказалася ні аднаго чалавека і ні аднаго палка. Кабацкі тлум у Таўрыдскім палацы. Урачысты і ў той жа час да смерці напалоханы Мілюкоў. Чэсная сваха Керанскі, які сватае пралетарскага жаніха да буржуазнай нявесты. Вялікія князі з чырвонымі бантамі. Зусім разгубленае грамадства. Ніводнай моцнай апорнай кропкі. Нічога. Нават размаўляць — і тое няма з кім. Адны бальшавікі ясна і дакладна ведаюць, чаго хочуць і да чаго ідуць. Таямнічыя агітатары, што выплылі невядома адкуль. Безсэнсоўная стральба на вуліцах. Безсэнсоўныя, выпадковыя ахвяры. У контррэвалюцыянераў ніякіх кулямётаў не было, і ўсе "ахвяры", якія крыху пазней былі так урачыста пахаваны на Марсавым полі, — гэта ўсе ахвяры выпадковай стралянiны, разрабаваных аружэйных магазінаў, дзіцячай гульні са зброяй».

Студэнты, сярод якіх быў і І. Л. Саланевіч, для падтрымання парадку арганізавалі студэнцкую міліцыю. Саланевіч быў начальнікам Васілеастроўскага аддзела гэтай міліцыі. Падчас карнілаўскага мяцяжу 1917 г. ён знаходзіўся пры атамане Дутаве як прадстаўнік ад спартыўнага студэнцтва. Дутаў са сваімі казакамі павінен быў падтрымаць мяцеж у Петраградзе. Прадстаўляючы

[1] *Скалабан В.* «Будаваць сваю хату» // Нёман. 1993. № 1. С. 138.
[2] *Канчер Е.* Белорусский вопрос. Петроград, 1919.

арганізаваных (каля 700 чалавек) і выдатна трэніраваных спартсменаў-студэнтаў, Саланевіч прасіў у Дутава зброю. Атаман патрабаваў не ўмешваць цывільных у ваенныя справы... Мяцеж, як вядома, не ўдаўся; сілы студэнтаў не былі выкарыстаны. З прыходам да ўлады бальшавікоў і пачаткам грамадзянскай вайны браты Іван і Барыс Саланевічы сышлі з чырвонага Петраграда да белых.

Шмат пазней, у 1939 г., калі Іван Саланевіч ужо быў аўтарам вядомага рамана «Расія ў канцлагеры», былы ўдзельнік беларускага гуртка студэнтаў Пецярбургскага ўніверсітэта Рамуальд Зямкевіч, які ў ідэалагічных спрэчках са сваімі апанентамі не асабліва стараўся выбіраць выразы, пісаў у часопісе «Калоссе»: «Безумоўна, — гэты вырадак не прачытаў аніводнага верша Купалы і не мае мінімальнага паняцця аб сучасным беларускім адраджэнскім руху. [...] Наагул, вырадкаў маем нямала, стагоддзі нацыянальнага заняпаду даюцца ў знакі, тым не менш такіх тыпаў, як Саланевіч, афішуючыхся стопрацэнтавай беларускасцю, трэба біць, прынамсі, па брудных лапах. Няхай не думаюць, што калі яны знаходзяцца далёка ад беларускіх цэнтраў, дык маюць магчымасць бяскарна ізрыгаць свае ісціна-рускія блявоціны на беларускі народ»[1]. Чытачы эмацыянальных пассажаў спадара Рамуальда ў пераважнай большасці не ведалі, што аўтар гэтых радкоў даўно з'яўляецца агентам польскай дэфензівы. Не лёгка і сённяшняму чытачу, які гэта ведае: рэбус ускладніўся. Чытаючы палеміку-сварку, мы спрабуем зразумець, ці свае думкі шчыра выказвае патрыёт і сын айчыны, ці агент рэалізуе распрацаваны ў нетрах выведкі нейкі невядомы нам план[2].

Часовы ўрад не здолеў утрымаць кантроль над сітуацыяй у краіне, і Кастрычніцкая рэвалюцыя 7 лістапада 1917 г. яго выштурхнула. Да ўлады прыйшлі бальшавікі, якія тое, што хацелі знішчыць, аб'явілі аджылым. Адна з «непрычасаных думак» Станіслава Ежы Леца выдатна паказвае сутнасць пералому: «Мала хто ў 19-м стагоддзі мог прадбачыць надыход 20-га». Адным з асноўных ценявых фінансістаў кастрычніцкага перавароту быў банкір і маклер родам з Мінска **Аляксандр Парвус**, які сабраў капітал дзякуючы разнастайнай прадпрымальніцкай дзейнасці. Некаторыя сцвярджаюць, што менавіта ён быў зачыншчыкам сусветнай рэвалюцыі, а Ленін стаў толькі інструментам ажыццяўлення яго мары. Тым часам савецкай уладзе пад кіраўніцтвам жвавых маладых палітыкаў удалося замацавацца спачатку ў Петраградзе, а потым распачаць падтрымку сваіх прыхільнікаў на іншых абшарах. На найбольш важным — заходнім напрамку — знаходзілася Беларусь з яе франтамі Першай сусветнай вайны. У снежні 1917 г. у Петраградзе з рабочых дзесяці гарадскіх раёнаў быў створаны Першы Петраградскі батальён (500 чалавек) — яго накіравалі на Беларусь з мэтай дапамагчы ўсталяваць савецкую ўладу. Перад адпраўкай адбылося ўрачыстае пастраенне каля фасада Дзяржаўнай Публічнай бібліятэкі. Стары фотаздымак захаваў ад шэрагаў добра апранутых вайскоўцаў і харугву з надпісам: «За власть Советовъ въ Белоруссіи». Камандаваў батальёнам слесар завода «Новы Леснер» П.А. Ольгін. Да студзеня 1918 г. былі сфарміраваныя яшчэ два такія батальёны[3].



*Збор Беларускага батальёну ў Петраградзе, каля Публічнай бібліятэкі, перад адпраўкай на Радзіму*

У Петраградзе ў час Кастрычніцкай рэвалюцыі беларускае грамадства ўдзельнічала ў вырашэнні праблемы бежанцаў і праблемы пабудовы новага грамадства з улікам нацыянальных патрэб. У другой плыні найбольш моцныя сілы былі ў левых партый, уключаючы бальшавікоў, з бежанцамі ўмела працавалі хрысціянскія дэмакраты (пераважна выкладчыкі і вучні каталіцкай акадэміі і блізкі да іх прафесар Браніслаў Эпімах-Шыпіла).

[1] *Бужанскі А.* [*Рамуальд Зямкевіч*]. Іван Саланевіч // Скарыніч: Літаратурна-навуковы гадавік. Вып. 5. Мінск, 2002. С. 118.

[2] *Чарнякевіч А., Пашкевіч А.* Псіхалогія здрады: беларускі нацыянальны рух вачыма канфідэнта II аддзела польскага Генеральнага штаба // Arche. 2005. № 6.

[3] *Нордова В.А.* Помощь трудящихся Петрограда в установлении Советской власти на местах // Октябрьское вооруженное восстание. Кн. 2. Л., 1967. С. 565–568.

У гэты ж самы час петраградскі Беларускі абласны камітэт пры Усерасійскім савеце сялянскіх дэпутатаў у 1917 г. выдаў «Этнаграфічную карту беларускага племені» акадэміка Я. Карскага, арыентуючыся на якую пазней абмяркоўваліся ўсе беларускія пытанні, у тым ліку дзяржаўныя межы.

Пасля лютаўскай рэвалюцыі перастала паступаць грашовая падтрымка Беларускаму таварыству ў Петраградзе па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны. 27 чэрвеня 1917 г. таварыства звярнулася ў канцылярыю камісара Часовага ўрада г. Петраграда з просьбай аб дазволе атрымаць кружкі для збору ахвяраванняў. Рашэнне было на карысць беларусаў, і 12 кастрычніка Зміцер Жылуновіч ужо даваў распіску аб атрыманні грошай на бягучы рахунак.


Российская Федеративная Совѣтская Республика.
Н. К. по Д. Н.
Петроградское отдѣление Бѣлорусскаго Комиссаріата
Столъ
191 г.
№
Петрогр. дъ.
Басковъ пер. д. 22, кв. 16.
Телефонъ № 256-47.

Пасьвядчэнне.

Усім, каму ведаць трэба, лістом гэтым з падпісамі сваімі і пячацею пасьвядчаім, што Янка Дабук сын Францыск запраўды есьць беларус... грамадзя. Гродненскай зямлі /губэрні/ ... павету ... волосьці ... вескі, местечка ...

Камісар

Пісар

*Даведка, выдадзеная Петраградскім аддзяленнем Белнацкаму. Нацыянальны архіў Беларусі*

У снежні 1917 г. Камітэт таварыства пераабралі: сацыяліста Язэпа Варонку замяніў член Беларускай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі Аляксандр Чарвякоў, у Камітэт быў кааптаваны яго аднапартыец Аляксандр Усціловіч. Кірунак дзейнасці змяніўся: кіраўнікі-бальшавікі акрамя дапамогі бежанцам заклікалі да палітычнай актыўнасці. Прынамсі, у пратаколе агульнага сходу бежанцаў у снежні 1918 г. было запісана: «работа прадстаўнікоў буржуазіі, якія ўваходзілі ў Камітэт... мела характар барскай забавы, а не сур'ёзнай працы... а таксама самы спосаб аказваць дапамогу, абмяжоўваючыся выдачай грашовых пасобій без шырокай культурна-асветнай працы сярод бежанцаў, яскрава падкрэслівае непрыгоднасць Камітэту».

Петраградскія беларускія арганізацыі змаглі адаптавацца да паслякастрычніцкіх умоваў. На міжпартыйнай нарадзе беларускіх партый 8–12 студзеня 1918 г. было прынята рашэнне, а 15 лютага быў створаны Беларускі аддзел Нацыянальнага Камітэта Паўночных Камун (Белнацкам). Узначальваў яго камісар Аляксандр Чарвякоў. Белнацкам меў свой друкаваны орган — газету «Дзянніца», якая выдавалася ў Петраградзе, потым у Маскве (1918–1919).

Белнацкам структурна меў тры пададдзелы: культурна-асветны, выдавецкі і бежанскі. Загадчыкам культурна-асветнага аддзела Петраградскага аддзялення Белнацкама ў маі 1918 г. стаў выкладчык Пецярбургскага універсітэта філолаг Браніслаў Тарашкевіч, аўтар толькі што выдадзенай у Вільні «Беларускай граматыкі».

Бальшавізацыя нацыянальнага беларускага руху адбылася дастаткова лёгка — вядома, што ў Петраградскай арганізацыі РКП(б) у верасні 1918 г. было шмат — 3,7% беларусаў. Бліжэй за ўсіх да цэнтра руху (Уладзіміра Леніна, Іосіфа Сталіна, Льва Троцкага) стаяў дробны шляхціч з маёнтка Дзяржынава (блізу старажытнага Койданава пад Мінскам) **Фелікс Эдмундавіч Дзяржынскі** (1877–1926). У 1895 г. Дзяржынскі, які вызнаваў сябе за паляка-інтэрнацыяналіста, уступіў у Віленскую арганізацыю РСДРП, а з 1896 г. стаў прафесійным рэвалюцыянерам, дзеячам Сацыял-дэмакратычнай партыі Польшчы і Літвы. На IV з'ездзе РСДРП (1906) у Стакгольме яго ўвялі ў склад ЦК РСДРП, і ўжо ў жніўні-кастрычніку 1906 г. Фелікс актыўна працаваў у Пецярбургу. Выехаў са сталіцы ў сувязі з кампаніяй па выбарах у Думу і зноў вярнуўся толькі пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. У кастрычніку 1917 г. Фелікс Дзяржынскі ўвайшоў у склад партыйнага бальшавіцкага цэнтра па падрыхтоўцы ўзброенага паўстання ў Петраградзе. Петраградскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў абраў яго ў склад Ваенна-Рэвалюцыйнага камітэта. 7 снежня 1917 г. для абароны Савецкай улады была створана Усерасійская надзвычайная камісія па барацьбе з контррэвалюцыяй і сабатажам (ВЧК). Дзяржынскі яе ўзначаліў. Сядзіба ВЧК на Гарохавай, 2 стала сімвалам жорсткага здушэння ўсялякага супраціву новай уладзе. Аднак некалькі гісторый сведчаць, што бязлітасны Фелікс часам «прыкрываў» землякоў. Адна з іх апавядае пра тое, як выпускніка юрыдычнага факультэта Петраградскага універсітэта Станіслава

Булгака (родам з Ігуменшчыны), які быў справаводам маёнткаў графа Строганава, арыштавала петраградскае ЧК, а праз тыдзень выпусціла, не растлумачыўшы ні за што арыштавала, ні чаму выпусціла. Сямейнае паданне прыпісвала чароўнае вратаванне заступніцтву Дзяржынскага, у якога жонка была з сям'і Булгакаў.

Пасля смерці Фелікса Эдмундавіча ў Ленінградзе яго імем быў названы праспект, які праходзіў ад цяперашняй вуліцы Народнага Апалчэння да Пецяргофскай шашы. Аднак назва гэта да 1969 г. фактычна знікла разам з праспектам, а 12 снежня 1983 г. была афіцыйна скасавана. Памяць Фелікса Дзяржынскага ўшанавана ў некалькіх месцах горада. На будынку былой ВЧК умацавана мемарыяльная шыльда з яго профілем, на вуліцы Воінава (цяпер Шпалерная) у 1981 г. быў пастаўлены помнік. З прычыны пастаноўкі помніка быў мітынг, гучалі дзяжурныя словы. Але, згодна з легендай, у адпрацаваным за гады «застою» рытуале адбыўся збой. Калі ўпала белае покрыва, усе здранцвелі, убачыўшы на бронзавай шыі непадкупнага ленінца зацягнуты пятлёй кавалак металічнага троса, які забыліся мантажнікі. Над плошчай навісла суровая ціша...[1]

Супрацоўнікам Петраградскай ВЧК стаў у 1919 г. **Віталь Фрыдрыхавіч Зэйдэль** (**Віталь Вольскі**) (1901–1988). Нарадзіўся ён у сям'і выхадцаў з Беларусі ў Пецярбургу, з 1918 г. працаваў на Трубачным заводзе, потым у Камісарыяце гарадской гаспадаркі Петраграда. Большую частку жыцця чэкіст Віталь Вольскі пражыў на Беларусі: зрабіўся вядомым пісьменнікам, гісторыкам беларускай літаратуры, перакладчыкам на беларускую мову. Класічнымі сталі яго п'есы «Несцерка», «Дзед і жораў», «Цудоўная дудка». Веданне Пецярбурга, памяць пра горад дазволілі яму ў літаратуразнаўчым артыкуле, аналізуючы станаўленне маладога Янкі Купалы, паставіць пецярбургскі беларускі асяродак вышэй за віленскі: «Сярод беларускіх літаратараў, якія жылі ў Вільні і працавалі ў «Нашай Ніве», не было такіх людзей, якія маглі б уплываць станоўча на маладога паэта, у якіх ён мог бы вучыцца правільна разумець жыццё, пашыраць свой кругагляд. У рэдакцыі працавалі людзі нацыяналістычна абмежаваныя, абывацельскага складу, з багемнымі навыкамі. Ён меў з імі мала агульнага. Гэта было правінцыйнае асяроддзе»[2].




*Мемарыяльная шыльда на будынку Усерасійскай Надзвычайнай Камісіі (Гарохавая, 2)*

Позна вечарам 10 сакавіка 1918 г. савецкі ўрад на чале з Уладзімірам Леніным пакінуў Петраград. Спецыяльны цягнік адышоў ад платформы «Пляцоўка кветак», што была за Маскоўскімі варотамі. Сталіца Расіі «часова» пераехала ў Маскву. На працягу 7–18 сакавіка 1918 г. разам з урадам у Маскву эвакуяваўся Белнацкам. 8 сакавіка 1918 г. Аляксандр Чарвякоў звярнуўся да наркама па справах нацыянальнасцяў Іосіфа Сталіна з лістом, у якім абгрунтаваў неабходнасць пакінуць у Петраградзе аддзяленне Белнацкаму. Просьба Чарвякова была задаволена: камісарам па справах беларусаў у Петраградзе 16 сакавіка 1918 г. быў прызначаны Іосіф Лагун. А праз два дні (18 красавіка) Беларускае таварыства ў Петраградзе па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны склала з сябе ўсе паўнамоцтвы і перадала справы бежанскаму аддзелу Белнацкому. **Іосіф Васільевіч Лагун** (нар. у 1894 г. у сялянскай сям'і ў вёсцы Нікіценкі Дзісненскага павета Віленскай губерні) працаваў рабочым-металістам у Петраградзе. Увосень 1917 г. ён стаў членам выканкама Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, якая вылучылася

[1] *Синдаловский Н. А.* Хроника Санкт-Петербурга. Годы. События. Легенды. СПб., 2003. С. 295.

[2] *Вольскі В.* Матэрыялы да біяграфіі Янкі Купалы // Любімы паэт беларускага народа. Мінск, 1960, С. 72.

з Беларускай сацыялістычнай грамады. У Петраградзе Лагун заставаўся нядоўга — праз паўгода, 12 кастрычніка 1918 г., ён як упраўляючы справамі Белнацкама вяртае ў штаб Чырвонай Арміі 1-га Арбацкага раёна вінтоўкі і патроны, што былі атрыманы ў Петраградзе для аховы маёмасці пры пераездзе Белнацкама ў Маскву. Паводле ўспамінаў Янкі Нёманскага, Іосіф Лагун загінуў у грамадзянскую вайну.

Старшынёй Белнацкама ў Петраградзе замест Лагуна быў прызначаны падпаручнік, камандзір паветраплавальнай роты Рыгор Каўшыла. Петраградскае аддзяленне было размешчана ў Басковым завулку, д. 22, кв. 16. Няўдзячны гэта быў час. У запоўненым бежанцамі Петраградзе вельмі негатыўна трактавалі Брэсцкі мір, які пад ціскам Уладзіміра Леніна бальшавікі заключылі з немцамі. 13 жніўня адбыўся сход беларусаў-маракоў Балтыйскага флоту. На гэтым сходзе, які арганізавалі актывісты-маракі Васіль Муха і Павел Вярбіцкі, прагучалі прапановы ануляваць ці пераглядзець Брэсцкую мірную дамову — дамову, якая закрывала шлях на радзіму тысячам бежанцаў. Урад, аднак жа, знаходзіўся ў Маскве, мітынгі і сходы петраградскай апазіцыі заставаліся безвынікoвымі.

Галоўная ў горадзе пасля закрыцця бальшавікамі «контррэвалюцыйнай» свабоднай прэсы газета «Петраградская праўда» 10 мая 1918 г. змясціла артыкул «Беларукія сепаратысты». Аўтар М. Пракапцоў паведамляў: «той, хто меў нагоду быць у нядзелю 14 красавіка ў цырку «Мадэрн» на сходзе беларусаў назіраў, як ... свядомыя і несвядомыя агенты капіталу... намагаліся пад сцягам незалежнасці зрабіць цёплы закуток для айчыннай буржуазіі, накіроўваюць свае дзеянні на бежанцаў беларусаў і, пачаўшы сваю звычайную песню пра грамадзянскі мір і нацыянальную згоду, заклікаюць да з’яднання, арганізацыі і ставарэнні незалежнай беларускай дзяржавы». Стварэнне незалежнай беларускай дзяржавы аўтар артыкула бачыў як найгоршае зло: «...І якую б каласальную паслугу зрабілі беларусы сусветнаму імперыялізму, калі б яны заснавалі паміж юнкерскай Германіяй і сацыялістычнай Расіяй самастойную буржуазную дзяржаву, незалежна ад таго, якой бы рэспублікай яна ні называлася!»

З гуманітарных праблем беларускія палітыкі найбольш клапаціліся пра адукацыю, прычым не толькі пачатковую, але і вышэйшую. Двойчы, 7 і 19 чэрвеня 1918 г., культурна-асветны аддзел петраградскага Белнацкама выходзіў на Беларускі нацыянальны камісарыят у Маскву з прапановамі і абгрунтаваннем неабходнасці пераводу на Беларусь Юр’еўскага (Тартускага) універсітэта. Для яго размяшчэння прапаноўвалі кандыдатуры двух не акупаваных немцамі вялікіх беларускіх гарадоў — Віцебска і Смаленска.

Намаганнямі культурна-асветнага аддзела ў пачатку кастрычніка 1918 г. у Петраградзе на Неўскім, 68, кв. 7–9 была адкрыта беларуская школа І і ІІ ступені (гімназія), а 21–22 кастрычніка Калегія адказных служачых Беларускага аддзела камісарыята па справах нацыянальнасцяў Саюза камун Паўночнай вобласці прыняла рашэнне аб арганізацыі ў г. Петраградзе пры Беларускай школе сярэдняй ступені (гімназіі) курсаў беларусаведы.

3 снежня 1918 г. адкрыўся Беларускі політэхнікум у Петраградзе, а 11 снежня Аляксандр Усціловіч тэлеграфаваў у Белнацкам з просьбай камандзіраваць прадстаўніка на адкрыццё Беларускай рабочай школы, якую размясцілі ў доме № 26 па Пецяргофскай шашы (цяпер праспект Стачак). На жаль, сёння мы нічога не ведаем ні пра настаўнікаў, ні пра вучняў гэтай навучальнай установы.

Адной з формаў працы Петраградскага аддзялення Белнацкама было забеспячэнне беларусаў-бежанцаў беларускай літаратурай, літаратурай па беларусазнаўстве і партыйнай літаратурай, з аднясеннем усіх выдаткаў на свой кошт. Такой літаратуры выдавецкі пададдзел на канец 1918 г. меў тры назвы: 1) А. Вазіла «Прамова на 1-м Усебеларускім З’ездзе» з прадмовай Яўсевія Канчара, 2) біяграфія Леніна з партрэтам Леніна, аўтара пад псеўданімам Белорусс і 3) зборнік артыкулаў Я. Канчара «Белорусский вопрос».

У лістападзе 1918 г. выдавецкі аддзел звяртаўся з лістамі да прафесара Браніслава Эпімаха-Шыпілы з просьбай падрыхтаваць матэрыял для «Зборніка прыгожага пісьменства беларускіх народных паэтаў», а таксама да суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» з просьбай выслаць беларускія кнігі; на імя акадэміка А. Шахматава быў накіраваны запыт на кнігі беларусазнаўчай тэматыкі з акадэмічнага складу і на дазвол зняць копіі з рукапісаў Марыі Косіч.

Пецярбургскія камуністы-беларусы далі пачатак з’яве, якую пазней прывезлі і ў Мінск — яны сталі пачынальнікамі нацыянальнага бальшавізму (як назваў яе вуснамі аднаго са сваіх герояў Максім Гарэцкі)[1]. Вытокі гэтай

[1] *Гарэцкі М.* Творы. Мінск, 1990. С. 69.

з'явы адбіліся ў піцерскіх перыядычных выданнях: газеце «Дзянніца» і часопісах «Чырвоны шлях» і «Беларуская крыніца». 1 сакавіка 1918 г. у Петраградзе ўзнавіла (пасля 1916 г.) выхад газета «Дзянніца» як орган Беларускага нацыянальнага камісарыята, а ў красавіку газета разам з урадам пераехала ў Маскву і са снежня выходзіла як веснік Белнацкама і беларускіх секцый РКП(б). Рэдактарам, як і ў 1916 г., быў Зміцер Жылуновіч (пісьменнік Цішка Гартны). Супрацоўнічаў з газетай і пісьменнік **Максім Гарэцкі**, які ў 1916 г. жыў у казармах Паўлаўскага палка на Марсавым полі: гэтыя будынкі сёння займае Ленэнерга. Адзін з элітных ў царскай арміі, Паўлаўскі полк праславіў сябе ў час вайны 1812 г. і зняславіў у час Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г., калі здрадзіў прысязе і перайшоў на бок рэвалюцыйных сілаў.


ЧЫРВОНЫ ШЛЯХ

№ 9–10.
Вторник, 31 декабря 1918 г.
ПЕТРОГРАД.
Цена №
2 руб.
на стан. ж. д. и в пров. 2 р. 30 к.

Адрес редакции и конторы: Петроград, Театральная, 1–3

Журнал посвящен политической, общественной и литературной жизни белоруссов
Выходит не менее 2-х раз в месяц

СОДЕРЖАНИЕ: ... ИЗВЕЩЕНИЯ.

Отдел общественной и политической жизни.

ГРЯДУЩЕЕ.

*Петраградскі часопіс «Чырвоны Шлях» № 9/10 за 31 снежня 1918 г.*

Публікацыі «Дзянніцы» звяртаюць на сябе ўвагу ў першую чаргу лаянкай, з якой аўтары накінуліся на сваіх былых сяброў — дзеячаў Беларускай Народнай Рэспублікі (была абвешчана ў Мінску ў сакавіку 1918 г.). Тым не менш газета друкавала дакументы, прысвечаныя палітычнай і культурна-асветніцкай дзейнасці БНР, у тым ліку Устаўную грамату ад 25 сакавіка, якая абвясціла незалежнасць Беларусі ад Расіі. Значную вартасць маюць інфармацыйныя публікацыі аб дзейнасці Белнацкама і беларускіх секцый РКП(б), іншых беларускіх арганізацый у Расіі. Больш складанай і разнастайнай была публіцыстыка «Дзянніцы» пасля ўзнаўлення. Газета змяшчала матэрыялы з тыповай беларускай літаратурнай і культурнай праблематыкай, а таксама шырока займалася палітычнымі падзеямі ў рэвалюцыйнай Расіі, у акупаванай немцамі, а пасля і палякамі Беларусі. «Дзянніца» рашуча падтрымлівала ідэю стварэння Беларускай Сацыялістычнай Рэспублікі, арганічна спалучанай у адной дзяржаве з рэвалюцыйнай Расіяй. Пры гэтым яна досыць шырока асвятляла спрэчкі, што вяліся паміж маскоўскім рэвалюцыйным цэнтрам, які падтрымліваў ідэю стварэння БССР, і прадстаўнікамі Заходняга фронта — В. Кнорыным (Кнорыньшам) і А. Мясніковым (Мяснік'янцам) — заўзятымі супрацыўнікамі беларускай савецкай дзяржаўнасці. Паводле іх, Беларусь павінна была стаць арганічнай часткай рэвалюцыйнай Расіі[1]. Варта зазначыць, што «Дзянніца» адводзіла месца для мастацкіх твораў і літаратуразнаўчых артыкулаў такіх аўтараў, як Ц. Гартны, Я. Колас, М. Гарэцкі, А. Гурло, Ф. Шантыр, Я. Нёманскі, Я. Дыла, Я. Канчар і іншых. Усяго выйшла 49 нумароў савецкай «Дзянніцы», якая стойка змагалася за камуністычныя ідэалы, не прадбачачы, што бальшавікі давядуць да заўчаснай прымусовай смерці тысячы ні ў чым нявінных, у тым ліку і галоўнага рэдактара і ідэолага «Дзянніцы» — Цішку Гартнага. Апошні нумар «Дзянніцы» выйшаў 2 лютага 1919 г. У ім паведамлялася:

«*Стварэнне Беларускай Савецкай Рэспублікі на мяжы паміж сацыялістычным Усходам і буржуазным Захадам патрабуе ад нас канцэнтрацыі ўсіх нашых сілаў для камуністычнай працы ў нашай роднай Беларусі. Таму наша газета спыняецца, і гэты нумар з'яўляецца развітальным. Замест яе будзе арганізавана камуністычная газета на беларускай мове ў адным з цэнтраў Беларускай Савецкай Рэспублікі: у Мінску альбо ў Вільні*».

24 лістапада 1918 г. Беларускі аддзел Камісарыята па справах нацыянальнасцяў у Петраградзе выдаў першы здвоены нумар часопіса «Беларуская крыніца», які быў прысвечаны эканамічна-гаспадарчым пытанням. Рэдакцыя размяшчалася ў будынку царскага Міністэрства народнай адукацыі, на Тэатральнай плошчы, 1—3, адказным рэдактарам прызначаны **Іван Баранкевіч** (1888, Быхаўскі павет — 1942, Карлаг). У першым рэдакцыйным артыкуле Баранкевіч зазначыў:

[1] Публіцыстыка Цішкі Гартнага / Прадмова В. Скалабана // Маладосць. 1998. № 10.

«Разабраная сілай неспрыяльных абставін на некалькі частак, якія з’яўляюцца сёння, быццам бы, самастойнымі дзяржаўнымі адзінкамі, маючы тэндэнцыю пры наяўнасці грамадзянскай вайны ўнутры, да шэрагу новых расчляненняў, у цяперашні час Расія фактычна знаходзіцца ва ўсім яе тэрытарыяльным аб’ёме ў гарніле эканамічнага і дзяржаўнага пераўтварэння». Рэдакцыя «Беларускай крыніцы» спрабавала вызначыць месца Беларусі менавіта як часткі будучай федэратыўнай Расіі.


БЕЛОРУССКАЯ КРИНИЦА

№ 1–2

Воскресенье 24 ноябр. 1918 г.

ПЕТРОГРАД

ЦЕНА № 1 руб.

Журнал посвященный экономическо-хозяйственным вопросам Белоруссии.

Адрес Редакции и Конторы: Петроград, Театральная, 1–3.

От редакции

*Першы нумар петраградскага часопіса «Беларуская Крыніца» за 1918 г.*

З аб’яў у часопісе «Беларуская крыніца» вынікала, што культурна-асветны пададдзел Беларускага аддзела камісарыята па справах нацыянальнасцяў рыхтаваў яшчэ адно выданне з больш шырокай праграмай — вялікі навуковы і літаратурны часопіс «Белоруссия». Непасрэднымі супрацоўнікамі былі заяўлены: «акадэмікі: Карскі, Сабалеўскі, Лапа-Данілеўскі, Шахматаў, Альдэнбург; прафесары: Лоскі, Любаўскі, Лаппо, Дзьяканаў, Катлярэўскі, Браўн, Пагодзін, Беняшэвіч, Жуковіч, Валасовіч, Брайцаў, Пічэта; літаратары: Славінскі, Канчар, Вазіла, Сержпутоўскі, Дз. М. Сабалеўскі, Жылуновіч, Янка Купала, Баранкевіч, Аўсяны і мн. інш.». Рэдакцыя і кантора размяшчалася на Неўскім, 68, кв. 9. Кошт аднаго нумара (першы павінен быў выйсці 1 студзеня 1919 г.) меўся быць 10 рублёў, гадавая падпіска — 100 рублёў.

Калі меркаваны часопіс «Белоруссия» так і не выйшаў, то ў Петраградзе выйшлі 10 здвоеных нумароў (фактычна 5) часопіса «Чырвоны шлях» (орган мясцовага аддзялення Белнацкама). Ён друкаваў грамадска-палітычныя матэрыялы і меў аддзел мастацкай літаратуры.

Рэдактарам №№ 1–2 і 3 быў Аляксандр Вазіла. Наступныя нумары (5–6, 7–8, 9–10) падпісвала рэдакцыйная калегія, фактычным рэдактарам быў Іван Баранкевіч. Адзін з найбольш актыўных аўтараў — **Яўсей Канчар** (1882, Рэчыцкі павет — 1979, Ленінград), былы старшыня Беларускага абласнога камітэта, які ўвайшоў у гісторыю як канкурэнт і партнёр Вялікай Беларускай Рады па скліканні Усебеларускага з’езда 1917 г. У палітычных матэрыялах гэтых аўтараў (іх тэксты напісаны на рускай мове) дэкларуецца непрыняцце бальшавіцкай ідэалогіі і практыкі, у тым ліку разгону Усебеларускага з’езда, клопат аб будучыні Беларусі, крытыка дзеячаў БНР, погляд на Беларусь як на неад’емную частку расійскай дэмакратычнай рэспублікі. У гэтым выявілася партыйная прыналежнасць А. Вазілы (сацыял-дэмакрат-інтэрнацыяналіст) і І. Баранкевіча (меншавік). Звяртаюць увагу навуковыя публікацыі Яўхіма Карскага, Аляксандра Сержпутоўскага, Івана Пятровіча (таксама вядомы як пісьменнік Янка Нёманскі), Паўла Каравайчыка, Дзмітрыя і Міхаіла Сабалеўскіх. Літаратурныя і літаратурна-крытычныя творы «Чырвоны шлях» публікаваў пабеларуску.

З 1918 г. насельніцтва Петраграда пачынае змяншацца перш за ўсё ў выніку ад’езду іншаземцаў, адпраўкі эшалонаў бежанцаў і ваеннапалонных на радзіму, фармавання вайсковых падраздзяленняў для грамадзянскай вайны. Падпісанне Брэсцкага міру выклікала яшчэ адну бежанска-іміграцкую хвалю ў Петраград, і насельніцтва горада ізноў вырасла да 2 мільёнаў. На ўстаноўчым сходзе Беларускага вольнага эканамічнага таварыства (кастрычнік 1918 г.) адзін з дакладчыкаў, юрыст Д. М. Сабалеўскі, вызначыў колькасць беларусаў у Петраградзе ў 300 тысяч, а ва ўсёй Паўночнай вобласці — да 500 тысяч[1]. Велічыню гэтай лічбы, па ўсёй верагоднасці, вызначала колькасць бежанцаў. У наступныя гады колькасць насельнікаў горада няўхільна падае: на канец 1918 г. у Петраградзе агу-

[1] Чырвоны шлях. 1918. № 7/8. С. 30.

лам пражывала 1 мільён 469 тысяч чалавек, 1919 г. — 800 тысяч, 1920 г. — 722 тысячы. З-за голаду і нястачы, палітычнай няпэўнасці, закрыцця кантор і прадпрыемстваў з горада ўцякалі не толькі прыбыўшыя бежанцы, але і аседлыя гараджане. «З Пеклаграду», — падпісваў у 1918 г. свае лісты да гісторыка Мітрафана Доўнара-Запольскага Браніслаў Эпімах-Шыпіла, і гэта не была проста забава сугучнасцю слоў. Для бежанцаў Белнацкам выдаваў пасведчанні (на беларускай мове) аб тым, што гэта сапраўды беларус вяртаецца на радзіму пасля бежанства з Петраграда. У ліку падобных бежанцаў быў тэлеграфіст з Шувалава Уладзімір Кіта. Ён вяртаўся ў родную вёску Агароднікі (каля Карэлічаў) з маленькім сынам Барысам — будучым сусветна вядомым вучоным, адным з кіраўнікоў савецка-амерыканскага касмічнага праекта «Саюз-Апалон».

### «Грамадзянін свету»

У 2005 г., да 95-годдзя і ў гонар славутага ва ўсім свеце беларуса, аднаго са стваральнікаў амерыканскай астранаўтыкі, прафесара, доктара філасофіі, акадэміка, ганаровага доктара навук Гродзенскага універсітэта, ганаровага грамадзяніна Навагрудка Барыса Кіта быў выдадзены альбом «Грамадзянін свету». У гэтым фаліянце расказы самога Барыса Кіта, якія запісаў Васіль Быкаў, аповесць Вольгі Іпатавай «Сведка стагоддзя», успаміны вучняў, сяброў і супрацоўнікаў, вытрымкі з лістоў, гісторыя прэміі Б. Кіта, хроніка жыцця, дакументы, фотаздымкі і шмат іншага. Ва ўступным артыкуле ўкладальніца — гісторык беларускай дыяспары Лідзія Савік — слушна сказала: «Грамадзянін свету» — не проста назва кнігі, а сутнасць жыцця чалавека, сведкі і ўдзельніка гістарычных падзей, якія вызначалі лёс чалавецтва на працягу амаль усяго XX ст.».

**Барыс Уладзіміравіч Кіт** (Кіта) нарадзіўся ў 1910 г. у сям'і тэлеграфіста станцыі Шувалава Уладзіміра Кіты, ураджэнца вёскі Агароднікі Навагрудскага павета (цяпер Карэліцкі раён). У Шувалаве пражыў першыя дзевяць гадоў жыцця, бачыў падзеі лютаўскай рэвалюцыі, бальшавіцкага кастрычніцкага перавароту, а ўжо дома, у найпрыгажэйшых мясцінах Бацькаўшчыны — Мір, Карэлічы, Навагрудак, зведаў разруху і голад Першай сусветнай вайны, кайзераўскай і белапольскай акупацыі, падзяляў радасць бацькоў з нагоды абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі і расчараванні з пачаткам белапольскай акупацыі. З моманту, калі бацька з родных Агароднікаў на кані адвёз Барыса ў Навагрудскую гімназію і сказаў: «Болей, сын, я табе нічым дапамагчы не змагу, далей дамагайся ўсяго сам», і пачаў будучы славуты дзеяч астранаўтыкі тварыць сваё жыццё, рана пазначанае высокай нацыянальнай свядомасцю, многімі талентамі і сілай волі.

Сялянскі хлопец — студэнт Віленскага універсітэта імя Стэфана Баторыя, актыўны ўдзельнік Сялянска-работніцкай грамады, выкладчык матэматыкі, дырэктар Віленскай, затым Навагрудскай беларускіх гімназій, паслядоўны, непахісны змагар за беларускую справу супраць апалячвання і русіфікацыі, за беларускае школьніцтва. За гэта «пры паляках» сядзеў у віленскай турме Лукішкі. Маючы прыроджаны талент настаўніка, ён у гады Другой сусветнай вайны, падчас нямецкай акупацыі вучыў дзяцей, аберагаў моладзь ад вывазу ў Германію, заснаваўшы ў Маладзечне Адміністрацыйна-гандлёвы інстытут. За гэтую сваю дзейнасць быў зняволены немцамі ў Глыбоцкай турме.

Вымушаны пакінуць Беларусь ў 1944 г., каб пазбегнуць яшчэ і сталінскіх лагераў, а то і расстрэлу, Барыс Кіт зведаў пасляваенныя дарогі Еўропы. Ён адным з першых выгнанцаў-беларусаў апынуўся ў ЗША, стаў заснавальнікам беларускай калоніі ў Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрсі), адшукваў расцярушаных па Еўропе суайчыннікаў, апекаваўся імі на першых кроках, імкнучыся іх аб'яднаць у нязнаных умовах новай краіны.

Нью-Йорк, Саўт-Рывер, Лос-Анджэлес, Вашынгтон — ад звычайнага супрацоўніка розных фірмаў да высокага ўзлёту навукоўца, аднаго з першапраходцаў амерыканскай астранаўтыкі — так складаўся жыццёвы лёс Барыса Кіта. Ён удзельнічаў у распрацоўцы амерыканскіх крылатых ракет (праект «Наваха»), распрацаваў вадароднае паліва, што дазволіла амерыканцам абагнаць у касмічным спаборніцтве СССР і пасланць экспедыцыю з высадкай людзей на Месяц. Пасля гэтага Барыс Кіт быў адным з кіраўнікоў (з амерыканскага боку) праекта па стыкоўцы амерыканскага і савецкага касмічнага караблёў. Праект называўся «Саюз-Апалон», пра яго дасёння нагадваюць створаныя ў той час папулярныя цыгарэты. Беларускі вучоны быў абраны сябрам многіх навуковых таварыстваў і акадэмій свету, узнагароджаны «Залатым медалём Германа Оберта», стаў прафесарам Вашынгтонскага Мэрылэндскага універсітэта. Выйшаўшы на пенсію пасля 75 гадоў, чытаў лекцыі ў еўрапейскай філіі гэтага універсітэта, дзеля чаго пераехаў у Франкфуртна-Майне. Тут, у Франкфурце сустрэўся з

палітычным эмігрантам з Беларусі — вядомым пісьменнікам Васілём Быкавым. Быкаў запісаў апавяданні Барыса Уладзіміравіча — праз гэтыя запісы Беларусь больш даведалася пра свайго героя. У ліпені 1993 г. Барыс Кіт наведаў Пецярбург — месца свайго нараджэння. Спыніўся ў гасцініцы «Пулкаўская». Спаткаўся з земляком-навагрaдцам Міколам Нікалаевым, паразважаў з ім аб неабходнасці адкрыцця ў Навагрaдку універсітэта, пракаціўся на маторцы ўздоўж фронту ваенных караблёў на Няве (акурат быў Дзень Ваенна-Марскога Флоту), наведаў парк у Пецяргофе і развітаўся да наступнай, ужо навагрaдскай сустрэчы. Праблема адкрыцця ў Навагрaдку універсітэта абмяркоўвалася і ў тым месцы Маскоўскага праспекта, дзе на Маскоўскай плошчы стаіць, узняўшы руку, бронзавы У. І. Ленін і «рэгулюе» паток транспарту, накіроўваючы яго на праспект свайго імя. За спіной у Леніна — велічны будынак канцэрна «Ленінец» на Маскоўскім праспекце, 212, які перад вайной будаваўся (з удзелам архітэктара-беларуса Мікалая Назар'іна) як Дом Саветаў для новага адміністратыўнага цэнтра горада. Барыс Кіт, не звяртаючы ўвагі на гэтыя помнікі, горача дэкляраваў магчымасць адкрыцця ў Навагрaдку універсітэта: «Гэта магчыма — зрабіць універсітэт у Навагрaдку!», — гаварыў ён, адначасова эмацыйна выкідваючы ўперад і ўгару правую руку. «Глядзі, Мікалай, ён выглядае таксама, як Ленін», — заўважыла жонка славутага беларуса Бецін Хайнц, паказваючы на помнік.

Аднак жа вернемся ў паслярэвалюцыйны Петраград. Горад у 1918 г. яшчэ выконваў функцыі сталічнага, у адносінах да Беларусі, цэнтра з інтэнсіўным грамадска-палітычным жыццём. У лютым 1918 г. тут адбыўся агульны сход Ахвотнікаў беларускага народнага штукарства, на якім было створана «**Таварыства ахвотнікаў беларускага народнага штукарства**». Ад таварыства захаваўся вялікі архіў з перапіскай, заявамі, пасведчаннямі, каштарысамі, спісамі членаў таварыства. Гэты архіў яшчэ чакае свайго даследчыка. Крыху пазней, у красавіку 1918 г., у Петраградзе на аснове Беларускай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі стварылася Беларуская секцыя РКП(б). У снежні яна налічвала ўжо больш як 90 членаў і 120 спачувальнікаў. Партыйная арганізацыя накіроўвала дзейнасць Петраградскага аддзялення Беларускага нацыянальнага камісарыята, яе прадстаўнікі




*Петраградскі часопіс «Беларуская крыніца» за 1919 г.*

ўдзельнічалі ў працы Усерасійскага з'езда бежанцаў з Беларусі (ліпень 1918 г., Масква) і Першай канферэнцыі беларускіх савецкіх партый і арганізацый (жнівень 1918 г., Петраград). Секцыя стварыла беларускі камуністычны атрад, накіраваны ў студзені 1919 г. у Мінск.

Для спрыяння развіццю навукі, культуры і народнай гаспадаркі ў 1918 г. у Петраградзе было таксама створана **Беларускае Вольнае Эканамічнае таварыства**. Галоўныя задачы таварыства былі акрэслены наступным чынам: 1) усебаковае вывучэнне Беларусі ў яе мінулым і сённяшнім, 2) паднясце ўзроўню агульнай культуры і дабрабыту беларускага народа, 3) спрыянне вырашэнню чарговых пытанняў асветніцтва, 4) заснаванне прамысловых прадпрыемстваў, фабрык, беларускіх кааператываў і да т. п. Пасяджэнні арганізацыйнага бюро па стварэнні таварыства адбыліся 14 чэрвеня і 14 ліпеня. Былі распрацаваны статут таварыства і зварот «Да вывучэння Беларусі»[1].

Першае ўрачыстае пасяджэнне таварыства адбылося 13 кастрычніка 1918 г., прысутнічалі 27 чалавек. Даклад «Задачы і мэты таварыства» зрабіў старшыня Белнацкама экс-авіятар Рыгор Каўшыла. У сваім выступленні Каўшыла зазначыў: «Нам неабходна ствараць, адраджаць Беларусь. Пры гэтым стварэнні мы не пойдзем па шля-

[1] Статут таварыства надрукаваны ў № 5–6 часопіса «Чырвоны шлях» за 1918 г. С. 30–31.

ху Польшчы, урад якой штурхаўся ўчора каля германскага канцлера, а сёння стукаецца ў Парыжы. Мы нідзе не тапталіся і не пойдзем да нікога з заляцаннямі і просьбамі, звязваючы свой лёс з палітычнай кан'юнктурай. У сваім будаўніцтве мы падыдзем да пытання з навукова-эканамічнага боку». Моўная пазіцыя кіраўніка Белнацкама была агучана так: «У мінулым Беларусі мы бачым знамянальныя ўзоры, бачым штучныя культурныя пасадкі. Так з беларускай простанароднай мовы зрабілі невядома што такое, зкаверкаўшы яе ў так званую беларускую літаратурную мову. Нам неабходна свая ўласная культура, якая мае цвёрдыя прыродныя падставы». Потым «Аб прафесіянальнай адукацыі ў краі» расказаў М. Аўсяны, з паведамленнем «Да пытання пра стварэнне ўпраўлення меліярацыйных і агракультурных работ на Беларусі» выступіў Яўсей Канчар, а «Пра стан народнай гаспадаркі Беларусі» гаварыў Андрэй Вазіла. Апошнім быў даклад Дзмітрыя Сабалеўскага «Пра сучасны стан школы на Беларусі». У праўленне таварыства ўвайшлі прафесар Я. Карскі, прафесар П. Жуковіч (ганаровыя сябры, абраныя завочна), Я. Канчар (аграном, старшыня праўлення), А. Вазіла, М. Аўсяны (інжынер), Дз. Сабалеўскі (юрыст), М. Сабалеўскі (загадчык Культурна-асветнага аддзела Белнацкама), П. Бывалькевіч (члены праўлення), А. Сержпутоўскі, Ф. Баліцкі, У. Півавараў, І. Пятровіч (Янка Нёманскі), П. Савініч, І. Хвядчэня, З. Баранчык. Слабым бокам таварыства была малая колькасць тэхнічнай інтэлігенцыі, што можна патлумачыць адсутнасцю ў перадрэвалюцыйны час сістэматычнай працы па з'яднанні ў Пецярбургу беларускіх сілаў.

Вось кароткія біяграфіі трох з прысутных:

**Янка Нёманскі (Іван Андрэевіч Пятровіч)** (1890–1937) — нарадзіўся ў Шчорсах. Вучыўся ў Петрагарадскім універсітэце на гісторыка-філагічным факультэце (1914–1916, 1918). У 1916 г. прызваны ў армію, пасля заканчэння школы прапаршчыкаў удзельнічаў у баях на германскім фронце. У 1918 г. працягваў навучанне ва універсітэце, разам з Цішкам Гартным выдаваў газету «Дзянніца». Пазней — літаратар, акадэмік АН БССР. Расстраляны пад час сталінскіх рэпрэсіяў.

**Дзмітрый (Зміцер) Міхайлавіч Сабалеўскі** (1886–1961) — нарадзіўся ў мястэчку Грозава Слуцкага павета, сын настаўніка. Скончыў Слуцкую гімназію (1907) і юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта. У 1914 г. прызваны ў армію, служыў у Туркестане. У 1917 г. у Петраградзе выкладаў у беларускіх школах, напісаў «Схему аўтаномнай Беларусі ў складзе агульнарасійскай федэрацыі». У 20-я гады — дырэктар Слуцкага сельскагаспадарчага тэхнікума, супрацоўнік Слуцкага павятовага аддзела народнай асветы.

**Аляксандр Цімафеевіч Вазіла** (1888–1937) — нарадзіўся ў Прапойску Магілёўскай губерні. Вучыўся на Вышэйшых курсах Лесгафта ў Пецярбургу, адкуль быў выключаны ў 1908 г. за рэвалюцыйную дзейнасць. У 1917–1918 гг. быў членам партыі сацыял-дэмакратаў — інтэрнацыяналістаў, старшынёй Быхаўскай павятовай земскай управы. З 1918 г. у Петраградзе, супрацоўнік Беларускага аддзела Камісарыята па справах нацыянальнасцяў Саюза камун Паўночнай вобласці. Загінуў у 1937 г., ва Уладзімірскім паліт'ізалятары.

Петраградскі Статут Беларускага Вольнага Эканамічнага таварыства стаў узорным для іншых, прынамсі Смаленскае аддзяленне Белнацкама ў кастрычніку 1918 г. звярталася ў Петраград з просьбай выслаць яго тэкст. 22 лістапада 1918 г. праўленне вольна-эканамічнага таварыства абмеркавала пытанні выдання навуковага часопіса «Белоруссия» (ён так і не быў створаны), зборніка беларускіх прыказак Сержпутоўскага, стварэнне ў Петраградзе Беларускага пачатковага палітэхнікума, арганізацыю ўпраўлення меліярацыйных і агракультурных работ, стварэнне бібліятэкі (кнігі з пячаткай бібліятэкі таварыства захоўваюцца цяпер у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі). Захаваўся дакумент, накіраваны 2 лістапада 1920 г. у Секцыю Навуковых бібліятэк Камісарыята Народнай Асветы РСФСР з просьбай абараніць бібліятэку Беларускага Вольнага Эканамічнага таварыства, якая размяшчаецца па адрасе: Неўскі праспект, 182, кв. 1 (цяпер у гэтым доме папулярны італьянскі рэстаран Il Patio), «ад прэтэнзій з боку прыватных асоб, у тым ліку нейкага грамадзяніна Іванова, які спасылаецца на сваё нібыта афіцыйнае службовае становішча ў Смольным, на бібліятэчныя памяшканні». Бібліятэкар Сабалеўскі і сакратар Шуковіч пішуць, што не толькі немагчыма саступіць каму-небудзь плошчу, але наадварот – яе трэба пашырыць, бо ў бліжэйшы час чакаецца папаўненне бібліятэкі шляхам пакупкі кніг на суму больш за 1 мільён

[1] Архіў РНБ. Ф. 8. ЦКГБ. Воп. 1. Спр. 76. 1920 г. За ўказанне на гэты дакумент дзякуем Я. Галербаху.

рублёў[1]. А пад жыллё памяшканне беларускай бібліятэкі праз нейкі час выкарыстаў сам Дзімітрый Сабалеўскі. У лісце ад 16 сакавіка 1921 г. у Петраградскі пададзел Вучоных і вышэйшых навучальных устаноў Наркамасветы РСФСР ён паведамляе, што вечарам 10 сакавіка снарадамі, выпушчанымі з Кранштата, быў разбураны дом побач з Араніенбаўмам (былая дача Зубава), у якім ён жыў з цяжарнай жонкай і гадавалай дачкой. Кінуўшы ўсе рэчы, яны ўцякалі амаль 9 вёрстаў да Вялікага Араніенбаўмскага палаца і занялі адзін з яго пакояў, але і тут даставала артылерыя — адзін са снарадаў разарваўся побач з вакном. З першым цягнікомСабалеўскія прыехалі ў Петраград і прытуліліся ў памяшканні бібліятэкі Беларускага Вольнага Эканамічнага Таварыства, але не меўшы аніякае вопраткі і бялізны хадайнічаюць пра дапамогу. І яшчэ Дзімітрый Сабалеўскі просіць дровы: у бібліятэцы тэмпература не вышэй за плюс два градусы, а дровы для ацяплення не выдзяляліся ні ў снежні, ні ў студзені, ні ў лютым... Рэзалюцыя загадчыка ЦКГБ М. Крысці на гэтым лісце: «Высветліць каму падпарадкоўваецца гэта бібліятэка і даць прапановы, чым можна дапамагчы пацярпеламу»[1].

Рэвалюцыйныя падзеі па-новаму падзялілі насельнікаў беларускіх земляў. Шляхта, якая ў часы феадалізму ўсведамляла сябе сармацкім народам, цяпер была аб'яўлена бальшавікамі «класам», і класам варожым. Не абцяжараныя веданнем гісторыі сяляне і пралетарыі разглядалі шляхту яшчэ і як «замежнікаў», палякаў. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі шляхце нічога не заставалася, як паехаць на «радзіму»... у Польшчу, дзе яе веды і патэнцыял выкарысталі найлепшым чынам. Бліскучая прафесура са сталічнага універсітэта, Горнага інстытута, Ваенна-медыцынскай акадэміі, інжынеры, вайскоўцы, архітэктары, будаўнікі... каго з пецярбуржцаў толькі не было ў пасляваеннай Польшчы. Гэтыя ж людзі былі страчаныя для Беларусі і для Пецярбурга.

Жыццё Петраграда пасля рэвалюцыі — суцэльныя перабудовы і пераразмеркаванні. Асабнякі і палацы па некалькі разоў змянілі карыстальнікаў, губляючы сабраны і не вывезены гаспадарамі набытак — мэблю, карціны, бібліятэкі. У багатыя дамы ўлады пасялілі беднату, з апартаментаў парабілі камунальныя кватэры. Ва ўмовах голаду і нястач шмат хто з'ехаў з горада, шмат пацярпела ад рэпрэсіяў рэвалюцыйных улад. Мсціслаў Дабужынскі ў сувязі з гэтым пісаў: «Пецярбург перастаў існаваць разам з рэвалюцыяй 1917 года. Ён ператварыўся ў Ленінград, дзе ўжо жылі зусім іншыя людзі, і які жыў зусім іншым жыццём».

Улада Саветаў дбала пра ахову здароўя працоўных і шмат рабіла для падтрымання яе на належным узроўні. Дактары менш чым іншыя катэгорыі грамадзян цярпелі ад рэпрэсій. Будаваліся новыя і трымаліся ў добрым стане старыя бальніцы. У будаўнічай канторы Петраградскага (пазней Ленінградскага) гарадскога аддзела аховы здароўя «производителем работ» працаваў з 1918 да 1932 г. архітэктар **Іосіф Лангбард** родам з Бельска-Падляскага — кіраваў працай па аднаўленні і рэканструкцыі медыцынскіх устаноў. Адначасова малады архітэктар удзельнічае ў творчых конкурсах: выконвае праекты помніка-маяка ў петраградскім порце (1920), помніка Леніну каля Фінляндскага вакзала (1924), помніка-маяка Хрыстафору Калумбу ў Санта-Дамінга (1929). Варта адзначыць конкурсы сярод архтэктараў на праект Петраградскага крэматорыя: у 1919 і 1927 гг. Лангбард удзельнічаў у абодвух конкурсах, на першым нават атрымаў 3-ю прэмію. Што да крэматорыя, то ён быў пабудаваны толькі пасля Другой сусветнай вайны.

Плённа працаваў пасля рэвалюцыі архітэктар **Леў Пятровіч Шышко**. Толькі цяпер яго праекты адпавядалі патрэбам новых заказчыкаў: у 1920-я гг. ён дабудоўваў бібліятэку Акадэміі навук, быў адным з аўтараў «Вялікага дома» (будынак НКВД на Ліцейным, 4), карпусоў «Электрасілы», «Чырвонага пуцілаўца», фабрыкі «Чырвоны сцяг». Ён — галоўны аўтар Неўскага хімкамбіната на Охце, рабочага пасёлка ў раёне Уткінай завадзі, праекта Ладажскага водаправода.



*Будынак «Вялікага Дома» на Ліцейным, 4. Архітэктар Леў Шышко*

[1] Архіў РНБ. Ф. 8 (ЦКГБ), № 95. Арк. 3–3 адв.

Змены ў нацыянальным складзе насельніцтва горада падрабязна прадстаўляе перапіс 1920 г. У Петраградзе ў гэты час жыло ўсяго 3 766 беларусаў, г.зн. у 18,6 разы менш, чым у 1910 г. Па колькасці беларусы саступалі, акрамя рускіх, яўрэям, палякам, эстонцам, латышам, немцам, фінам і складалі 0,5% усяго насельніцтва. Цікава, як размеркаваліся беларусы па раёнах горада: больш за ўсё жылі ў Нарвска-Пецяргофскім раёне (812), за ім ішлі два цэнтральныя раёны — 1-ы і 2-і гарадскія (565 і 563), Маскоўска-Застаўскі (515), Васілеастроўскі (312), Выбаргскі (310), Пецярбургскі (275), Смольнінскі (188), Неўскі (179) і Парахаўскі (45). У цягніках і на караблях былі зарэгістраваны яшчэ 2 беларусы[1]. Крыху пазней у літаратуры з'явілася адносная лічба беларусаў у Петраградскай губерні (без Петраграда) у 1920 г. — 0,1% усяго насельніцтва. Перапіс 15 сакавіка 1923 г. зафіксаваў сярод 1 071 103 жыхароў горада 3482 беларусы, што склала 0,3% усяго насельніцтва.

За лічбамі статыстыкі і за шэрагамі людзей стаялі асобныя лёсы. Петраградскія беларусісты займалі вядучае месца ў гуманітарнай галіне маладой беларускай навукі. Вялікім аўтарытэтам карыстаўся прафесар **Яўхім Карскі**. Ён прыехаў у Петраград з Растова-на-Доне (дзе быў у эвакуацыі разам з Варшаўскім універсітэтам) у канцы 1916 г. пасля абрання ардынарным акадэмікам Расійскай акадэміі навук па Аддзяленні рускай мовы і славеснасці. Пасяліўся ў «доме акадэмікаў» 7-й лініі Васільеўскага вострава. Насупраць, праз дарогу, быў дом, у якім да 1915 г. размяшчаўся кніжны склад выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца». Важнай арганізацыйнай справай для Карскага была падтрымка маладога філолага Браніслава Тарашкевіча, якога пакінулі на кафедры рускай мовы для падрыхтоўкі да прафесарскага звання і напісання беларускай граматыкі.

У 1919 г. Яўхім Карскі пераязджае ў Мінск, каб узначаліць камісію па стварэнні Беларускага універсітэта. На Беларусі ён займаецца навуковай і выкладчыцкай працай. Найбольш пільнай і патрэбнай была падрыхтоўка этнаграфічнай карты рассялення беларусаў. У Карскага мелася ўжо добрая напрацоўка — артыкул «Да пытання аб этнаграфічнай карце беларускага племені», надрукаваны ў «Зборніку Аддзялення рускай мовы і славеснасці Імператарскай АН» у 1902 г. Гэтая праца стала асновай для кнігі «Этнаграфічная карта беларускага племені», якую выдаў петраградскі Беларускі абласны камітэт пры Усерасійскім савеце сялянскіх дэпутатаў у 1917 г. На падставе гэтага даследавання пазней абмяркоўваліся ўсе беларускія пытанні, у тым ліку дзяржаўныя межы. Кніга была аргументам (часам аргументам ігнараваным) падчас пасляваенных перакройванняў Беларусі. На заказ таго ж Беларускага абласнога камітэта ў наступным, 1918 г. акадэмік Карскі падрыхтаваў кнігу «Беларуская гутарка. Нарыс народнай мовы з гістарычным асвятленнем». У 1920 г. ён напісаў нататку «Беларускі народ і яго мова» для мінскай газеты «Беларусь». Мінскія інтрыгі (пасаду рэктара БДУ, на якую прэтэндаваў Яўхім Карскі, заняў маскоўскі гісторык Уладзімір Пічэта) прывялі да таго, што ў 1921 г. вучоны назаўсёды пакідае Мінск і пераязджае ў Петраград выконваць абавязкі дырэктара Музея антрапалогіі і этнаграфіі (Кунсткамеры) і прафесара універсітэта. Яўхім Карскі адразу ўзяўся за вырашэнне шматлікіх навуковых і арганізацыйных праблем — шмат з іх датычылі беларускіх спраў. Каб увесці ў грамадскі ўжытак навуковы даробак славутага акадэміка, старшыня саўнаркама Беларусі звярнуўся 4 верасня 1921 г. у Петраградскае дзяржаўнае выдавецтва з хадайніцтвам «у паскораным парадку» выдаць трэці том працы



*Магіла акадэміка Я.Карскага на Смаленскіх могілках*

[1] *Смирнова Т. М.* Динамика белорусского населения Петербурга и Ленинградской области в XX в. // Белорусский сборник. Вып. 2. СПб., 2002. С. 184—189.

Яўхіма Карскага «Беларусы». Спроба вярнуць Карскага з Петраграда ў Мінск не ўдалася: лістом ад 16 студзеня 1922 г. ён адхіліў прапанову працы ў Беларусі. Пасля вяртання вучонага з падарожжа ў славянскія землі, якое ён зрабіў па даручэнні Акадэміі навук з 15 мая да 1 верасня 1926 г., пачалося яго цкаванне ў прэсе, прычым тон задавалі землякі-беларусы. Спачатку шаноўнага прафесара абвінавацілa ў шавінізме, чарнасоценстве, растраце народных грошай — мінская «Звязда», а на закрытым пасяджэнні Бюро ЦК КП(б)Б слухалася справа «Аб акадэміку Карскім» і было даручана паставіць пытанне перад партыйнымі і савецкімі органамі «аб із'яцці Карскага са складу членаў Акадэміі навук». Пазней тыя ж абвінавачанні паўтарыў у цэнтральнай (маскоўскай) партыйнай газеце «Праўда» журналіст і паэт М. Кальцоў. Адказваючы на апошнюю публікацыю, Карскі пісаў, прынамсі, пра сваю пазіцыю адносна беларусізацыі: «Ясно также, что белорусизация должна идти естественно, без принуждения и притеснения лиц, воспитанных на русской культуре»[1]. Адказ не быў надрукаваны, хмары збіраліся над вучоным. Калі б ён не памёр (у 1931 г., пахаваны на Смаленскіх могілках), невядома, як склаўся б яго далейшы лёс.

Удзел у будаванні беларускай сацыялістычнай дзяржавы прымалі іншыя жыхары Петраграда. Прынамсі 9 лютага 1920 г. акадэмік А. А. Шахматаў накіраваў Беларускаму пададдзелу Аддзела асветы нацыянальных меншасцяў Наркамасветы РСФСР ліст з інфармацыяй аб тым, што экзэмпляраў лекцый па гісторыі беларускай мовы ў яго не захавалася. У 1921 г. паўнамоцны прадстаўнік БССР у РСФСР М. Мароз афіцыйна прасіў Народны камісарыят замежных спраў РСФСР дазволіць вывезці з Петраграда ў Мінск маёмасць грамадзян І. Ф. Сушынскага і Б. І. Эпімаха-Шыпілы. Галоўнай вартасцю была бібліятэка Б. Эпімаха-Шыпілы, якая цяпер складае аснову бібліятэкі Акадэміі навук Беларусі. Але сам Эпімах-Шыпіла ў Мінск не паехаў.

У Мінску сачылі за петраградскімі беларусістамі: 16 снежня 1924 г. намеснік наркама асветы рэспублікі пісаў у СНК БССР пра цяжкі матэрыяльны стан грамадскага і культурнага дзеяча Б. І. Эпімаха-Шыпілы, які пражывае ў Ленінградзе і хадайнічаў аб прызначэнні яму персанальнай пажыццёвай пенсіі. 17 ліпеня 1925 г. з Наркамата асветы паведамілі ў СНК БССР дадатковыя звесткі пра пенсіянера Браніслава Ігнатавіча Эпімаха-Шыпілу. У выніку перамоваў Эпімах-Шыпіла ўсё ж пераехаў у сталіцу Беларусі — пераехаў, каб ажывіць сваёй прысутнасцю працу Інбелкульта, а потым выгнанцам вярнуцца паміраць у «свой» Пецярбург.

У студзені 1924 г. памёр Уладзімір Ленін. Па ініцыятыве бальшавікоў у памяць пра лідэра сусветнага камуністычнага руху Петраград перайменавалі ў Ленінград.

Ленінградскую дэмаграфічную статыстыку 1920-х гг. падсумаваў першы ўсесаюзны перапіс насельніцтва 17 снежня 1926 г. У горадзе пражывала каля 1 мільёна 600 тысяч чалавек, з іх беларусаў 14,6 тысячы, што складала 0,9% ўсяго насельніцтва. Такім чынам, за тры гады колькасць ленінградскіх беларусаў вырасла больш чым у чатыры разы. Беларускае насельніцтва па колькасці саступала яўрэйскаму, польскаму, нямецкаму і эстонскаму, але апярэджвала латышскае, украінскае, татарскае, фінскае і літоўскае.

У Ленінградскай губерні ў сярэдзіне дваццатых гадоў пражывала каля паўтары тысячы беларусаў, што складала 0,18% усяго насельніцтва (каля 791 тысячы). 1 жніўня 1927 г. з былых Ленінградскай, Мурманскай, Наўгародскай, Пскоўскай і Чарапавецкай губерняў была ўтворана Ленінградская вобласць. У вобласці налічвалася 52 тысячы беларусаў (0,8% усяго насельніцтва, 8,6% нярускага). Абсалютная большасць беларускага насельніцтва (33,6 тысячы чалавек, або 64,6%) пражывала ў Вялікалукскай акрузе, якая ў 1929 г. адышла да Заходняй вобласці. Такім чынам, у Ленінградскай вобласці па-за Ленінградам на пачатак 1930-х гг. налічвалася ўсяго 3,8 тысячы беларусаў.

Сацыяльны склад беларускага насельніцтва Ленінграда ў пачатку 1930-х гг. вядомы толькі часткова. Па вобласці, уключаючы Ленінград, колькасць рабочага класа складала каля 1 118 тысяч. Беларусаў сярод рабочых вобласці было 6 253 чалавекі (у тым ліку 933 жанчыны), г. зн. 0,56% ад агульнай лічбы рабочага класа.

У 1932 г. колькасць беларусаў па асобных ленінградскіх заводах і прадпрыемствах складала: на «Чырвоным пуцілаўцы» — 450, у гандлёвым порце — 1500, на «Чырвоным трохвугольніку» — 720. Годам раней (у 1931 г.) у саюзе агульнага машынабудавання беларусаў налічвалася 109 чалавек, у саюзе друкароў — толькі 16. На 1 студзеня 1933 г. гэтыя лічбы склалі адпаведна 7915 і 50 чалавек. Такім чынам, рост назіраецца ў абодвух

[1] *Рублевская Л., Скалабан В.* Околонаучный спор // Советская Белоруссия. 2006. 20 янв. С. 6–7.




*Каляндар на 1930 год*
*(з фондаў Публічнай бібліятэкі)*

прафсаюзах, але ў машынабудаўнікоў ён проста велізарны — больш чым у 72 разы! Такі бурны прырост беларускага насельніцтва Ленінграда быў выклiканы працэсамі індустрыялізацыі, якія спрыялі прытоку рабочай сілы ў індустрыяльныя цэнтры[1].

Новая ўлада вабіла новае насельніцтва і «чысціла» старых гараджан. У лютым 1935 г. упраўленне НКВД па Ленінградскай вобласці выдала цыркуляр «Аб высяленні контррэвалюцыйнага элемента з Ленінграда і з прыгарадных раёнаў». Згодна з гэтай пастановай, на працягу месяца падлягалі высылцы 10—12 тысяч чалавек, якія належалі да найбольш забяспечаных слаёў пецярбургскага грамадства.

Вельмі рознымі былі праявы супрацоўніцтва Беларусі і Ленінграда. Прыкладам, 24 лютага 1925 г. мастак Г. Змудзінскі быў пасланы з Мінска ў Ленінград, каб надрукаваць 500 бланкаў згодна з зацверджанай формай грамат аб узнагародзе ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга ЦВК БССР. На гэтую справу меў 500 рублёў. У 1934 г. Народны камісарыят асветы БССР накіраваў у Ленінградскую вобласць групу настаўнікаў-географаў для навуковай экскурсіі ў Мурманск, Хібінагорск і Ленінград. Кіраўніком экскурсіі быў прызначаны загадчык кафедры геаграфіі Вышэйшага педагагічнага інстытута ў Мінску Міхась Фёдаравіч Лойка (1892—1937). Для Міхася Лойкі — ураджэнца мястэчка Ярэмічы каля Карэлічаў — гэта быў апошні візіт у горад, дзе ён у маладосці (1912—1915) атрымаў адукацыю на агульнаадукацыйных курсах А. Чарняева.

З моманту заснавання ў 1770 г. пецярбургскага Англійскага клуба і да першай чвэрці XX ст. адным з папулярных месцаў адпачынку ў горадзе былі клубы. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. яны сталі самай распаўсюджанай формай арганізацыі культурна-асветніцкай працы: менавіта яны цяпер прызначаны былі стаць асяродкамі спажывання і ўзнаўлення культуры. Пры клубах чыталі лекцыі, тут працавалі літаратурныя, музычныя, драматычныя, харавыя і іншыя творчыя гурткі, праводзілі адукацыйную працу курсы лікбезу (ліквідацыі непісьменнасці). Кіруючая партыя сачыла, каб асноўнай у працы клубаў была палітыка-выхаваўчая дзейнасць (мітынгі, даклады на палітычныя тэмы, палітасветгурткі, вечары пытанняў і адказаў «па бягучым становішчы» і інш.).

Першы ў Петраградзе беларускі культурна-асветніцкі клуб **«Беларуская хатка»** адкрыўся 10 кастрычніка 1918 г. — яго арганізаваў Беларускі аддзел Камісарыята па справах нацыянальнасцяў Саюза камун Паўночнай вобласці. Новая ўстанова напачатку размяшчалася ў памяшканні аддзела — на Тэатральнай плошчы, дом 1/3, пазней атрымала памяшканні на Садовай, 7—9. «Беларуская хатка» называлася таксама «Беларускім Пралеткультам» і «Беларускім народным домам». Клуб «як цэнтр нацыянальнага аб'яднання ўсіх сапраўды рэвалюцыйных беларусаў» меў на мэце падрыхтоўку кадраў спецыялістаў (культпрацаўнікоў, урачоў, аграномаў, будаўнікоў, лесаводаў і інш.), якія стаяць на платформе Савецкай улады, для будучай працы на Беларусі «па адраджэнні эканоміка-гаспадарчага і культурна-прававога жыцця».

Як мы ўжо адзначылі, працэнт камуністаў-беларусаў у Петраградскай арганізацыі РКП(б) у верасні 1918 г. дасягаў 3,7%. Яны пад кіраўніцтвам упаўнаважанага па справах нацыянальнасцяў Іосіфа Сталіна істотна ўплывалі на грамадскае жыццё. На сход прадстаўнікоў беларускай дыяспары горада з нагоды адкрыцця «Беларускай хаткі» 19 кастрычніка 1918 г. прыехаў з Масквы та-

[1] *Смирнова Т. М.* Динамика белорусского населения Петербурга и Ленинградской области в XX в. // Белорусский сборник Вып. 2. СПб., 2002. С. 184—189.

варыш Усціловіч. Ён рэкамендаваў «запісваць у члены клуба пераважна людзей, якія вядомыя сваімі палітычнымі поглядамі і якія могуць працаваць на карысць беларускага працоўнага народа, якімі з'яўляюцца члены Камуністычнай партыі». Астатнія маглі быць «спаборнікамі» (кандыдатамі), а паказаўшы сябе па-сапраўднаму адданымі справе пралетарыяту, пераходзілі ў правадзейныя члены. Палітычным камісарам клуба быў абраны Рыгор Каўшыла[1]. У снежні 1918 г. пачалася арганізацыя беларускага палітычнага клуба ў Кранштаце.

У 1918—1920 гг. усе клубы нацыянальных меншасцяў былі на дзяржаўным фінансаванні, аднак з пераходам да новай эканамічнай палітыкі (НЭП) яно спынілася. Да 1920 г. у горадзе ліквідавалі беларускія партыйна-савецкія ўстановы — Беларускі аддзел Камісарыята па справах нацыянальнасцяў і секцыю пры Аддзеле нацменшасцяў губкама РКП(б). Спыненне дзейнасці гэтых арганізацый прывяло да закрыцця ў 1923 г. «Беларускай хаткі».

У сярэдзіне дваццатых гадоў сітуацыя зноў змяняецца. У тыя часы ў РСФСР праводзілася палітыка «карэнізацыі» нацыянальных культур, што ў першую чаргу праяўлялася ў асветніцкай дзейнасці на роднай мове. У Ленінградзе набірае сілу асаблівы від клубаў для нацыянальных меншасцяў — нацыянальныя дамы асветы (домасветы). Партыйныя і савецкія органы прызналі іх за апорныя базавыя палітасветустановы для рабочых і іншых працоўных нацыянальных меншасцяў горада і вобласці. У саміх памяшканнях дамоў асветы патрэбна было практыкаваць падрыхтоўку кадраў і арганізаваць сістэму завочнай адукацыі. Нацыянальныя домасветы таксама сталі базай мастацкай самадзейнасці на роднай мове, для чаго павінны былі ствараць «сталыя мастацкія арганізмы» — тэатры, ансамблі, калектывы, гурткі і да т. п. Усімі відамі сваёй дзейнасці нацыянальныя дамы асветы павінны былі праследваць адну мэту — выхаванне новага чалавека, які мае класава арыентаваныя маральныя якасці, які засвоіў галоўныя ідэалагічныя пастулаты і дзейнічае ў адпаведнасці з імі[2].

**Беларускі дом асветы** адкрыўся ў Ленінградзе восенню 1928 г., размяшчаўся ён у адным памяшканні з Літоўскім — на набярэжнай Фантанкі, 27. У снежні 1928 г. абралі праўленне і арганізавалі некалькі камісій — масавую, каапэратыўную, бібліятэчную, маладзёжную. Пры доме асветы адразу пачалі працаваць фота-, кіна- і драматычны гурткі. У будынку мелася тэатральна-канцэртная зала на 400 месцаў, беларусы і літоўцы карысталіся ёй разам. Адным з актывістаў дома асветы быў слесар завода «Чырвоны Пуцілавец» Апанас Лісіенка, выхадзец з сялян вёскі Батаева Хоцімскага раёна Магілёўскай вобласці. Калі ў 1928 г. у Ленінград прыехалі Якуб Колас, Янка Купала і Цішка Гартны, Апанас Лісіенка ўдзельнічаў у прыёме беларускай дэлегацыі на Фантанцы, 27, а пасля суправаджаў яе на Пуцілаўскі завод, дзе гасцям паказалі зборку трактароў «Фардзон-пуцілавец».




*Якуб Колас, Янка Купала і Цішка Гартны на сустрэчы ў беларуска-літоўскім доме асветы на Фантанцы, 27. Снежань 1928 г.*

У тым жа 1928 г. у Мінску выйшла кніга ленінградскага публіцыста Льва Клейнбарта «Маладая Беларусь». У ёй аналізавалася сучасная беларуская літаратура, былі змешчаныя біяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Матэрыялы для кнігі дала перапіска з пісьменнікамі, некаторых аўтар ведаў асабіста (з Янкам Купалам быў знаёмы яшчэ з 1911 г.). Характэрная назва кнігі Клейнбарта каралюе з назвай альманаха «Маладая Беларусь», што выдала суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца» ў 1912—1913 гг. і паказвае на працяг традыцыі Пецярбурга ў Ленінградзе.

**Леў Навумавіч Клейнбарт** (1875—1950) нарадзіўся 15 кастрычніка 1875 г. у мястэчку Капыль Мінскай губерні. Закончыў гімназію ў Слуцку і ў 1896 г. паступіў у Пецярбургскі універсітэт — спачатку на прыродазнаўчы, а потым перавёўся на юрыдычны факультэт. З 1897 г. ён удзельнічаў у студэнцкім

[1] Пра адкрыццё «Беларускай хаткі» пісала галоўная гарадская газета «Петраградская праўда» (1918. 6 кастр.) і пецярбургскі беларускі часопіс «Чырвоны шлях» (1918. № 7/8. С. 33—34).

[2] *Смирнова Т. М.* Белорусский дом просвещения в Ленинграде // Белорусский сборник. Вып. 2. С. 117—124.

руху, універсітэт так і не закончыў. Супрацоўнічаў у многіх пецярбургскіх часопісах, прынамсі, цесна кантактаваў з выдаўцом часопіса «Адукацыя» гродзенцам Майсеем Астрагорскім (рэдакцыя часопіса месцілася на вуліцы Махавой, 33). Часта ў лістах Астрагорскі паведамляе, што часопіс атрымаў цэнзурныя спагнанні менавіта з-за матэрыялаў Клейнбарта. Жыў Леў Навумавіч на Малым праспекце Васільеўскага вострава, 19, таксама на 11-й лініі Васільеўскага вострава, 28. Быў знаёмы з Анатолем Луначарскім. Часта сядзеў у вязніцы — у яго асабістым архіве ёсць канверты лістоў, якія яму пасылаў Астрагорскі на адрас: «СПБ. Выбаргская старана. СПБ адзіночная турма, 2-і корпус к. 876. Л. Н. Клейнбарту, зняволенаму»[1]. Часам хаваўся ад паліцыі — той жа Астрагорскі піша да яго 8 мая 1907 г. на адрас: «ст. Мустамякі Фінл. чыг. Пансіён Ланго. Марыі Канстанцінаўне Станюковіч для Васі».

Сабраўшы, яшчэ з дарэвалюцыйных часоў, біяграфіі беларускіх літаратараў, Клейнбарт заклаў магутны фундамент для вывучэння вельмі своеасаблівай літаратуры, шмат у чым «перадлітаратуры». Феномен «пралетарскай культуры» так дасёння і не ўсвядомлены ў якасці асноўнага складніка культуры савецкай, якая па сутнасці значна адрозніваецца ад пралетарскай, хіба што з пралетарскага боку прыйшоў асноўны «чалавечы матэрыял». Леў Клейнбарт разумеў важнасць не столькі падзей або тэкстаў, але і самаго гэтага асяроддзя, працэсу назапашвання ў ім неабходных для будучага выбуху якасцяў. Гэтае маргіналізаванае, віруючае асяроддзе і было той магмай, якая падступала да зрэзу кратэра культуры... Каля кратэра стаялі ўсе — бальшавікі і вехаўцы, меншавікі і зіноўеўцы, Горкі, Блок, Гіпіус, Меражкоўскі... Адны жахаліся, другія выракаліся, трэція клікалі буру... Недзе ў задніх шэрагах гэтага шчыльнага культурнага кола стаяў і капылянін Леў Клейнбарт... Для яго ўсё, пачынаючы з 1880-х гг. і заканчваючы 1923 г., — «народная культура», Клейнбарт увогуле не вылучаў розныя сацыяльныя пароды. Падобная даследчыцкая блізарукасць мела сваю неацэнную перавагу: Клейнбарт не тыпізаваў...[2]

Акрамя дома асветы, у канцы 1920-х гг. у Ленінградскай вобласці працавалі пяць беларускіх чырвоных куткоў і дзевяць хатчытальняў. У 1932 г. Беларускі дом асветы перавялі на вуліцу Рубінштэйна, 13 (пазней, у 1970-я гг., у гэтым будынку быў славуты Ленінградскі рок-клуб, адкуль пачалася кар'ера Віктара Цоя, Барыса Грабеншчыкова і іншых музыкантаў, цяпер — Дом народнай творчасці). З 1935 г. Беларускі дом асветы пераехаў на вуліцу Някрасава, 10. У выдатным па архітэктуры будынку ў стылі мадэрн размяшчаліся таксама ўкраінскі, фінскі, габрэйскі, латышскі, літоўскі, венгерскі і польскі дамы асветы; для кожнага былі адведзены адзін-два пакойчыкі. Зала на 370 месцаў была да патрэбаў масавай працы ўсіх васьмі ўстаноў.

У бібліятэцы Беларускага дома асветы ў 1936 г. налічвалася 4682 кнігі, з іх на роднай мове 2250 (48%), на рускай 2432 (52%). Пастаянных чытачоў у гэты час было 519, з іх беларусаў 358, пераважна студэнтаў (230). Каля 60% кнігавыдачы (большай часткай мастацкая літаратура) складалі кнігі на роднай мове. З сярэдзіны 30-х гадоў узмацніўся ідэалагічны кантроль, асабліва ўважліва правяралі кніжныя фонды. У 1935—1936 гг. цэнзура правярала бібліятэку чатыры разы, пры гэтым было выключана 100 «палітычна шкодных» кніг.

У сярэдзіне 1930-х гг. у доме асветы працавалі чатыры гурткі мастацкай самадзейнасці — харавы (кіраўнік І. А. Смолін, супрацоўнік Тэатра юнага гледача), драматычны (кіраўнік А. М. Дашкоўскі, студэнт тэатральнага тэхнікума), музычны струнны (народных інструментаў) і ансамбль цымбалістаў, якімі кіраваў Ф. А. Меркушкін. Лектарамі, дакладчыкамі і бяседчыкамі ў 1936 г. лічыліся: члены камуністычнай партыі Лукаш Бендэ (пісьменнік, навуковы работнік Пушкінскага Дома), І. М. Брашко (пісьменнік, служачы фабрыкі «Белдзяржкіно»), А. В. Бліндэраў (студэнт Педагагічнага інстытута палітасветпрацы імя Крупскай); студэнты-камсамольцы З. І. Бандарына (Акадэмія мастацтваў), І. І. Пракопчык (Горны інстытут), П. М. Ярац (Індустрыяльны інстытут), А. Г. Залманаў (тарфяны тэхнікум), І. М. Хромчанка і В. Ф. Касякоў (ЛІФЛІ), Я. А. Бабчонак (падінстытут імя Бубнава). Вечарыны і даклады Беларускага дома асветы рэгулярна праводзіліся таксама ў гарадскіх дамах культуры — Выбаргскім, Кіраўскім і Васілеастроўскім. У справа-

[1] Пушкінскі Дом, АР., Ф. 586 Клейнборт Л. Н. № 158. С. 74, 75.

[2] *Добренко Е.* Формовка советского писателя. Социальные и эстетические истоки советской литературной культуры. СПб., 1999.

здачах дома асветы яго загадчык — Сёмкін падае шмат лічбаў. Так, за 1935 г. было праведзена 73 розныя вечарыны і два дзіцячыя ранішнікі, прачытана 213 лекцый і дакладаў, арганізавана 19 экскурсій і 13 культпаходаў, а таксама 29 іншых мерапрыемстваў. Усімі гэтымі формамі працы былі ахоплены 85 164 чалавекі. У 1936 г. з'явіліся новыя формы — канферэнцыі чытачоў бібліятэкі і нарады актыву. Удзельнікаў усіх мерапрыемстваў у гэты перыяд налічвалася да 10 300 чалавек. Паралельна разгортваліся агульнасаюзныя мерапрыемствы, якія былі накіраваны на з'яднанне рабочых розных частак СССР. Афіцыйная прапаганда часта падавала такія «рабочыя пачыны», як ініцыятыву мас. Так, у жніўні 1934 г. рабочыя Магілёўскай фабрыкі штучнага валакна імя Куйбышава выступілі з прапановай пачаць спаборніцтва фабрык і заводаў і вытворчы паход у гонар VII Усесаюзнага і XI Усебеларускага з'ездаў Саветаў. Яны выклікалі на спаборніцтва ленінградскіх рабочых: калектывы Сясьскага камбіната і фабрыкі «Красное знамя». Гэты пачын шырока асвятлялі ленінградскія і мінскія газеты.

Культурна-асветніцкая праца сярод ленінградскіх рабочых-беларусаў вялася не толькі на стацыянары, але і на «кропках» — прадпрыемствах са значнай колькасцю працоўных. Вясной 1936 г. такіх «кропак» было шэсць: чатыры рабочыя жылгарадкі «Экспартлеса», Кірбуд (будаўніцтва ГРЭС імя Кірава ў Неўдубстроі) і вагонарамонтны завод. Тут працавалі палітшколы і школы малапісьменных, а таксама рэгулярна чыталіся лекцыі і даклады. У Беларускага дома асветы была сувязь больш чым з 20 прадпрыемствамі, сярод якіх Кіраўскі завод, «Рускі дызель», Оптыка-механічны завод (ГОМЗ), заводы імя Марці, імя Сталіна, імя Варашылава і інш. Праз год на гэтых прадпрыемствах прайшлі арышты, некалькі актывістаў за свае беларускія зацікаўленні заплацілі жыццём:

*на заводзе «Рускі дызель»:*

памочнік начальніка цэха **Аляксандр Вікенцевіч Каласун-Пышынскі** (1894 г. нар.), ураджэнец Пецярбурга; беспартыйны. Пражываў на пр. Дабралюбава, д. 1/79, кв. 3. Арыштаваны 09.07.37. Асуджаны 06.09.37 Выязной сесіяй Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР. Расстраляны 06.09.37;




*Каляндар «безперапыннага 5-дзённага тыдня», для малапісьменных сялян, работнікаў і чырвонаармейцаў*

слесар **Іван Якімавіч Чыж** (1902 г. нар.), ураджэнец в. В. Сліва Слуцкага раёна БССР; беспартыйны. Расстраляны 15.09.37;

ст. канструктар **Аляксандр Мартынавіч Шпаркоўскі** (1880 г. нар.), ураджэнец Беластока; беспартыйны. Пражываў на праспекце Максіма Горкага, д. 65-а, кв. 4. Расстраляны 30.10.37;

*на заводзе імя Сталіна:*

канструктар **Іосіф Вікенцьевіч Цімашук** (1905 г. нар.), ураджэнец в. Буды Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні; член ВКП(б) з 1930 г. Пражываў на Васільеўскім востраве, 10-я лінія, д. 39, кв. 9. Расстраляны 27.11.37;

выкладчык завода ВТУЗа ім. Сталіна **Хведар Андрэевіч Хацкевіч** (1898 г. нар.), ураджэнец г. Пінска. Пражываў на Лясным пр., д. 13/8, кв. 64. Расстраляны 15.10.37;

*на Неўдубстрoі:*

дзяжурны па прыборах цеплавога кантроля 8-й ГЭС ім. Кірава **Аляксей Сяргеевіч Скрабатун** (1913 г. нар.), ураджэнец в. Кублічы Ушацкага раёна Полацкай акругі; беспартыйны. Пражываў у п. Неўдубстрой Ленінградскай вобласці. Расстраляны 08.12.37;

*на Кіраўскім заводзе:*

намеснік начальніка транспартнага аддзела **Міхаіл Фролавіч Калашынскі** (1882 г. нар.), ураджэнец Пінска, член ВКП(б) з 1925 г. Пражываў побач з заводам на Транспартным завулку, д. 1, кв. 18. Расстраляны 06.10.37;

бухгалтар **Іван Андрэевіч Бельскі** (1875 г. нар.), ураджэнец г. Быхава; беспартыйны. Пражываў у горадзе Урыцку Лен. вобл. (зараз Лігава). Расстраляны 27.11.37;

цясляр **Пётр Максімавіч Некрашэвіч** (1912 г. нар.), ураджэнец в. Грабяні Лельчыцкага раёна БССР; беспартыйны. Пражываў разам з маці Марыяй Дзімітраўнай Некрашэвіч (Івашкевіч) (1882 г. нар.), работніцай азбеставага завода на Бронніцкай вуліцы, д. 5, кв. 3. Расстраляны 30.10.37., а праз месяц, 24.11.37, расстралялі і маці;

юрысконсульт заводакіраўніцтва **Эдуард Іосіфавіч Камыно** (1899 г. нар.), ураджэнец Пецярбурга, беларус; беспартыйны. Пражываў на Трактарнай вуліцы, д. 13, кв. 5. Расстраляны 18.10.37;

тэхнолаг 4-га механічнага цэха **Пётр Гілярaвіч Навіцкі** (1895 г. нар.), ураджэнец Пецярбурга, беларус; беспартыйны. Пражываў на Трактарнай вуліцы, д. 13. Расстраляны 27.11.37;

слесар турбіннага цэха **Павел Міхеевіч Ясенок** (1912 г. нар.), ураджэнец Пецярбурга, беларус; беспартыйны. Пражываў на Георгіеўскім завулку, д. 17/14, кв. 98. Расстраляны 27.11.37;

загадчык бюро агульнага машынабудавання **Станіслаў Ксавер'евіч Корсак** (1883 г. нар.), ураджэнец в. Колатава Мсціслаўскага павета Магілёўскай губерні; беспартыйны. Жыў на праспекце 25 Кастрычніка[1], д. 148, кв. 79. Расстраляны 27.11.37.

У 1936 г., пасля некалькіх, адна за другой, праверак гаркама партыі, было выказана меркаванне аб адсутнасці патрэбы далейшага існавання ў Ленінградзе Беларускага дома асветы (а таксама венгерскага, літоўскага, яўрэйскага), бо яны «не адпавядаюць сваймy прызначэнню як масавыя культурна-асветніцкія арганізацыі». Гэтая фармулёўка з праекта рашэння сакратарыята гаркама з'яўляецца яшчэ досыць стрыманай у параўнанні з высновамі дакладной запіскі Аддзела масавай культпалітасветпрацы Ленсавета: «Працоўныя-беларусы не цікавяцца сваёй нацыянальнай мовай і ўвогуле домасветам, бо ў Ленінградзе маюцца культурныя ўстановы больш высокай якасці працы, таму яны лічаць непатрэбным існаванне гэтага домасвета, тым больш, што пад выглядам нацыянальнай па форме працы, у беларускім Домасвеце ствараецца магчымасць групавання нацыянальна-шавіністычных элементаў як беларусаў, так і ўкраінцаў»[2]. Адразу ж пагоршылася матэрыяльнае становішча: было зніжана фінансаванне.

3 жніўня 1936 г. аддзел культасветпрацы гаркама ВКП(б) накіраваў сакратарам абкама і гаркама А. Жданаву і А. Угараву дакладную запіску «Аб нацыянальных дамах асветы», дзе гаварылася, што яны «па сутнасці з'яўляюцца зборышчам варожых нам груп і прадстаўляюць зручныя ўмовы для працы нацыяналістычных элементаў», а кіраўніцтва домасветаў названа «варожымі нам людзьмі», часткова ўжо «выкрытымі» (былі ўжо асуджаныя за «контррэвалюцыйную дзейнасць» дзевяць чалавек з нямецкага, фінскага, літоўскага і беларускага домасветаў).

Тым часам, 29 мая 1936 г. была прынята пастанова бюро ЦК Камуністычнай партыі Беларусі аб «немэтазгодным, нічым не выкліканым існаванні белклубаў і зямляцтваў у Маскве і Ленінградзе». Пастанова была прынятая на падставе дакладной запіскі інструктара ЦК КПБ Гурчанкі і выканаўцы абавязкаў дырэктара Інстытута літаратуры і мовы Беларускай акадэміі навук Красноўскага сакратарам ЦК КПБ Гікалу і Ваўковічу і загадчыку культасветаддзела ЦК КПБ Дз'якаву.

[1] «Проспект 25 Октября» — так называлі Неўскі праспект да 1944 г.

[2] На гэты час украінскі дом асветы быў ужо (у 1935 г.) зачынены.

Мінскія «таварышы» пісалі, што на працягу шэрагу гадоў у зямляцтвах Масквы і Ленінграда працавалі «нацыяналістычныя элементы, выгнаныя ў свой час з межаў Беларусі». Пастанова называе іх «асклепкамі разгромленага беларускага нацыянал-дэмакратызму», што было палітычным прыгаворам. Перад адпаведнымі гаркамамі паўстала пытанне аб ліквідацыі беларускіх арганізацый.



*У гэтым будынку на вуліцы Някрасава Беларускі дом асветы размяшчаўся ў апошнія гады свайго існавання*

У верасні 1936 г. Наркамасветы РСФСР паведаміў у Ленсавет, што ў кантрольных лічбах на 1937 г. «нацдамы не прадугледжаны». Гэта азначала, што на дзяржаўным узроўні рашэнне ўжо прынята, патрабавалася толькі аформіць такі крок на месцы. 13 лістапада 1936 г. сакратарыят Ленінградскага гаркама партыі заслухаў пытанне аб нацыянальных дамах асветы, пры гэтым аддзелу культасветпрацы было даручана падаць на бюро канкрэтныя прапановы «аб мэтазгоднасці далейшага існавання некаторых нацыянальных дамоў асветы і іх працы». У канцы 1936 г. Беларускі дом асветы ў Ленінградзе быў ліквідаваны.

Петраградскія ВНУ працягвалі вабіць студэнтаў з Беларусі і пасля рэвалюцыі. Сярод іншых у 1923 г. скончыў універсітэт выпускнік мінскага камерцыйнага вучылішча, ураджэнец маёнтка Блонь Ігуменскага павета **Глеб Анатольевіч Бонч-Асмалоўскі** (1890—1943), які застаўся працаваць на кафедры антрапалогіі, а з 1930 г. быў навуковым супрацоўнікам Геалагічнага інстытута АН і Дзяржаўнай акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры. Ён упершыню ў СССР выявіў рэшткі неандэртальскага чалавека (пячора Кіік-Каба, Крым), у 30-я гады ўдзельнічаў у экспедыцыях беларускіх археолагаў на Гомельшчыне і Смаленшчыне.

Вясной 1923 г. пры Петраградскім сельскагаспадарчым інстытуце было створана таварыства **Беларуская Асацыяцыя студэнтаў** на ўзор нацыянальных зямляцтваў еўрапейскіх універсітэтаў. Пра тое, што зямляцтва наладзіла супрацоўніцтва з Цэнтральным бюро пралетарскага студэнцтва Беларусі і з Петраградскім гарадскім саветам пралетарскага студэнцтва пісалі 16 сакавіка 1923 г. у Мінск у лісце на імя народнага камісара асветы Беларусі У. Ігнатоўскага старшыня Асацыяцыі В. Казловіч і сакратар Красоўскі. У маі 1923 г. петраградскія студэнты яшчэ раз звярнуліся да наркома асветы, паведамiўшы, што іх асацыяцыя аб'ядноўвае студэнтаў-беларусаў і навуковых супрацоўнікаў ВНУ г. Петраграда, даслалі Статут свайго зямляцтва. Паводле Статута, асноўнымі мэтамі зямляцтва з'яўляліся нацыянальна-культурная праца, навуковая дзейнасць, аказанне матэрыяльнай дапамогі сябрам. З Беларусі, аднак, не спяшаліся дапамагчы землякам, якія паехалі ў Петраград па навуку. Студэнты 1923 г. ужо скончылі свае інстытуты, калі новыя студэнты, на гэты раз слухачы-беларусы Ленінградскага тэхнікума кустарнай прамысловасці, звярнуліся 28 студзеня 1927 г. ў Цэнтральнае бюро Усебеларускага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў «Маладняк» з просьбай дапамагчы ў арганізацыі беларускіх зямляцтваў у Ленінградзе. З лютага 1927 г. сакратар Цэнтральнага бюро «Маладняка» В. Сташэўскі хадайнічаў перад ЦВК БССР аб вырашэнні гэтага пытання.

У Мінску нарэшце падтрымалі Беларускую асацыяцыю студэнтаў. З 1927 г. яна атрымлівала фінансавую дапамогу ад Наркамасветы БССР на арганізацыю культурна-асветных мерапрыемстваў. Сябры зямляцтва правялі літаратурна-музычныя вечарыны беларускіх пісьменнікаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Ц. Гартнага, З. Півавара, Б. Пятроўскага, Р. Сапуна (Р. Папараця), Я. Шарахоўскага. Арганізацыя падтрымлівала трывалыя сувязі з беларускімі вучонымі і дзеячамі нацыянальна-культурнага руху, якія жылі ў Ленінградзе — А. Сержпутоўскім, К. Пушкарэвічам, Я. Канчарам, Л. Сеўруком. Менавіта на гэты час прыйшліся гады навучання ў Ленінградскім універсітэце будучага выдатнага этнографа і фалькларыста **Майсея Якаўлевіча Грынблата** (1905—1983). Ён працаваў у на-

вуковым таварystве па вывучэнні Беларусі. У межах Беларускай асацыяцыі студэнтаў гэтае таварыства было створана ў студзені 1929 г. і налічвала каля 30 сяброў (старшыня праўлення — А. Дрозд, навуковы сакратар — Пратасевіч). Сябры таварыства ўдзельнічалі ў экспедыцыях па Беларусі, арганізаваных супрацоўнікамі Беларускай акадэміі навук. Ленінградскае беларускае студэнцкае зямляцтва ў 1930-я гады пачало згортваць дзейнасць, а ў перыяд вялікіх рэпрэсій канчаткова спыніла сваё існаванне.

На заканчэнне варта сказаць, што беларускія арганізацыі ў Пецярбургу пачатку XX ст. пакуль не сталі прадметым спецыяльнага вывучэння, хоць асобныя артыкулы пра іх можна знайсці як у беларускіх выданнях, так і ў пецярбургскім друку[1].



*Ва ўсе сезоны і поры года застаецца прыгажосць скульптуры Летняга саду*

[1] *Романова Н. М., Михайленко В. В.* Национальные общества Санкт-Петербурга XVIII—XXI вв. С. 46—48.

# Раздзел 12.

## ПЕРАДВАЕННЫ ЛЕНІНГРАД: УЯЎНАЕ КІНО І САПРАЎДНАЕ ЖЫЦЦЁ

У 1920-я гады маладое беларускае кіно не мела сваёй вытворчай базы, таму старшыня Саўнаркама БССР Язэп Адамовіч звярнуўся па дапамогу да кіраўніцтва Ленінграда. Першы сакратар гарадскога абкама камуністычнай партыі Сяргей Міронавіч Кіраў станоўча адгукнуўся на просьбу беларускага ўрада: дамовіліся пра часовае сумеснае выкарыстанне магчымасцяў Ленінградскай кінафабрыкі. Галоўны трэст «Белджяржкіно» (Упраўленне па справах кінематаграфіі і фатаграфіі) быў створаны ў снежні 1924 г., каб забяспечыць працоўных Беларусі адносна для іх новым і ўжо відавочна самым масавым відам мастацтва, і размяшчаўся ў Менску. Першым дырэктарам стаў кіраўнік відовішчных устаноў Віцебска Абрам Галкін, намеснікам быў прызначаны Язэп Дыла. Вядомы этнограф і фалькларыст, Дыла прыносіў у фільмы «Белдзяржкіно» патрэбную для гледача беларускасць (пазней ён перайшоў на працу асістэнта-кансультанта пры рэжысуры).

У лютым 1927 г. СНК БССР пастанавіў стварыць фабрыку «Белдзяржкіно» у Ленінградзе ў памяшканні былога тэатра «Крывое люстэрка»: канал Грыбаедава (былы Кацярынінскі), 90/2. Адзін з ветэранаў студыі ўспамінаў: будынак былога дваранскага сходу пабудаваны хітра: знадворку відаць усяго два паверхі, на самай жа справе іх чатыры. «...Прыпамінаю, калі падпісвалі дагавор, саўкінаўцы... з'едліва пасміхаліся: а ці можна ў такім будынку абсталяваць кінафабрыку? Але беларусы не сумавалі. Загрукаталі малаткі, працяжна завылі пілы, і на першае жніўня 1929 г. «Белджяржкіно» распараджаецца трыма цудоўнымі атэлье, узорнай асвятляльнай апаратурай, абсталяванымі па апошнім слове тэхнікі лабараторыямі»[1]. Беларуская кінастудыя (пазней яна называлася «Савецкая Беларусь») працавала тут да 1939 г. Першы зняты фільм быў «Грышка свінапас» — нямое кіно рэжысёра (ён жа і сцэнарыст) В. Кубліцкага. Ля вытокаў ленінградска-беларускай кінавытворчасці стаялі яшчэ два вопытныя рэжысёры, выхаванцы старой расійскай тэатральнай школы: Юрый Тарыч і Уладзімір Гардзін. Пры кінастудыі была адкрыта сцэнарная майстэрня, дзе беларускія пісьменнікі, атрымліваючы стыпендыю, маглі авалодваць важнай кінематаграфічнай прафесіяй. «Белджяржкіно» пасылала моладзь на рэжысёрскае і аператарскае аддзяленні кінатэхнікума. Да 1939 г. з кінастудыяй «Савецкая Беларусь» супрацоўнічалі больш як 45 расійскіх рэжысёраў, выгадаваліся і некалькі сваіх, адзін з каторых, Уладзімір Корш-Саблін, стаў безумоўным лідэрам.

Наяўнасць у Ленінградзе беларускай кінастудыі спрыяла таму, што ў горадзе жылі і працавалі шмат звязаных з кіно прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі. Адным з іх быў літаратар Рыгор Кобец. Яшчэ ў 1927 г. у Мінску быў надрукаваны ўрывак са сцэнарыя Рыгора Кобеца і Анатоля Вольнага «Паўстанне гневу — памяці беларускага партызана Алеся Салаўя». Нядаўнія архіўныя знаходкі паказалі, што працяг працы над сцэнарыем стаў немагчымым пасля разгромнай рэцэнзіі Алеся Александровіча. Тым не менш на лёс Рыгора Кобеца гэтая акалічнасць непасрэдна не паўплывала — у 1931–1937 гг. ён працаваў кансультантам і загадчыкам сцэнарнага аддзела студыі «Савецкая Беларусь». Некаторы час жыў у Ленінградзе і працаваў сцэнарыстам на кінафабрыцы драматург **Васіль Шашалевіч** (1897–1941), ураджэнец вёскі Мхінічы Краснапольскага раёна Магілёўскай вобласці, у 1938 г. ён быў беспадстаўна рэпрэсаваны.



*У гэтым будынку на набярэжнай Кацярынінскага канала ў 1927—1939 гг. размяшчалася кінастудыя «Савецкая Беларусь»*

[1] *Красінскі А. В.* Гісторыя кінамастацтва Беларусі. Т. 1. 1924–1959 гг. Мінск, 2001. С. 8–9.

Рэдактарам студыі ў 1932—1936 гг. быў **Ілары (Іларыён Мацвеевіч) Барашка** (1905—1968). Сын рабочага з Мінска, Іларыён прыехаў у Ленінград ужо як вядомы аўтар аповесцяў, п'ес, казак, а таксама кнігі «Буржуазныя плыні ў сучаснай літаратуры» (Мінск, 1930). Рэдактарам кінастудыі «Белдзяржкіно» працаваў беларускі паэт **Янка Бобрык** (1905—1942). Нарадзіўся Янка ў мястэчку Глуск Магілёўскай вобласці ў сям'і каваля. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт і ў 1931 г. паступіў у аспірантуру Акадэміі мастацтваў у Ленінградзе. Пасля заканчэння навучання (1934) ён быў навуковым супрацоўнікам акадэміі, працаваў на кінастудыі, а пасля яе пераезду ў Мінск застаўся рэдактарам Упраўлення па справах мастацтваў Ленінградскага гарвыканкама. Памёр Янка Бобрык у блакадным Ленінградзе. Яго жонка — беларуская паэтэса **Наталля Вішнеўская** — выжыла. Пасля вайны працавала бібліятэкарам, выгадавала дваіх дзяддомаўскіх хлопчыкаў — абодва сталі капітанамі дальняга плавання[1].

Сцэнарыстам у 1931—1932 гг. на кінафабрыцы «Савецкая Беларусь» працаваў мінчук **Сямён Іосіфавіч Дорскі** (1911—1964). Пасля вайны ён вярнуўся на Беларусь, у тэатр Якуба Коласа ў Віцебску, потым у Мінск, на «Беларусьфільм».

Ураджэнец вёскі Шакоцк Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці і выпускнік Камуністычнага універсітэта Беларусі імя У. Леніна (1926) **Лукаш Апанасавіч Бэндэ** (1903—1961) працаваў у Акадэміі навук у Мінску, адначасова ў часопісе «Напагатове». Дзякуючы «Белдзяржкіно» ў 1934 г. ён стаў ленінградцам — крытыка адкамандзіравалі на студыю, хоць доўга ён там і не затрымаўся. З 1935 г. Лукаш Бэндэ пераходзіць на працу ў ІРЛІ, адначасова працуе рэдактарам у Дзяржаўным выдавецтве ў Ленінградзе, потым загадчыкам кафедры рускай літаратуры Ленінградскага абласнога настаўніцкага інстытута.

Рэжысёр **Уладзімір Гардзін** пачаў працаваць у кінематографе яшчэ да Першай сусветнай вайны. Пасля рэвалюцыі ён у Маскве здымаў Леніна (з якім пазнаёміўся яшчэ ў швейцарскай эміграцыі), зрабіў мастацкі фільм пра Свердлава, потым расчараваўся ў Маскве і накіраваўся ў Петраград, дзе зрабіў два тагачасныя бестсэлеры: «Паэт і цар» (пра Аляксандра Пушкіна і Мікалая І) і баявік «Крыж і маўзер».

Для «Белдзяржкіно» Уладзімір Гардзін зрабіў за два гады (з сакавіка 1927 г. да красавіка 1929 г.) тры сцэнарыі і тры рэжысёрскія працы. Паглядзець гэтыя нямыя фільмы цяпер немагчыма. Пра іхнія мастацкія якасці неаднойчы спрабавалі пісаць савецкія гісторыкі кіно. Хоць па-за ўвагай гісторыкаў-партыйцаў аказаліся рэчы ідэалагічна чужыя савецкаму кінематографу: раман рэжысёра з актрысай, пачатак крытыканства, якое межавала з даносам, асаблівасці працы над беларускімі сюжэтамі людзей, для якіх Беларусь была чымсьці далёкім і малазразумелым.

«Белдзяржкіно» паўставала ў час адпрацоўкі механізмаў ідэалагічнага кіравання мастацтвам. Якім чынам адзін з вопытных спецыялістаў, акцёр і рэжысёр яшчэ дарэвалюцыйнага кінематографа Уладзімір Гардзін змог перамагчы наступ зайздроснікаў і зласліўцаў, апавядаюць матэрыялы яго асабістага архіва. Тут не толькі афіцыйныя паперы, але і чарнавікі лістоў у газеты, дакладных начальству і прыватная перапіска.

8 сакавіка 1927 г. з Гардзіным заключылі дагавор на напісанне сцэнарыя да фільма «Кастусь Каліноўскі». Напісаў — вярнулі на дапрацоўку, дапрацаваў паводле матэрыялаў Н. Віткоўскага і А. Гольдмана. Урэшце зняў фільм-бестсэлер. Нямы фільм з беларускімі тытрамі меў 7 частак, агулам 1978 метраў плёнкі. Праўдзівы, наколькі было можна, паказ беларускай гісторыі забяспечылі кансультацыі Язэпа Дылы. Прэм'ера адбылася ў жніўні 1928 г. у Мінску, публіка вітала акцёраў, у будучым зорак савецкага кінематографа: М. Сіманава, В. Плотнікава, Б. Платонава, У. Уладамірскага.

Абставіны працы над першым беларускім бестсэлерам раскрывае захаваны ў архіве канспект выступлення рэжысёра тав. Гардзіна пад час «чысткі» членаў «ЛенРРКа» ў 1929 г: «У... 1927 годзе мне была даручана пастаноўка «Кастуся Каліноўскага»... ні адзін савецкі рэжысёр не працаваў у такіх пачварных арганізацыйных умовах, якія былі створаны для «Кастуся Каліноўскага». Дастаткова паказаць на 19 чалавек майго звышкалектыву, якія блыталі і скажалі ўсе мае распараджэнні. У выніку я ледзь не пазбавіўся зроку, захварэўшы пры мантажы на вострае запаленне вока, быў пазбаўлены двухмесячнага заробку, спазніўшыся да тэрміну здаць карціну, і аддаў 53% аўтарскага ганарару аўтарам, якія ніякіх адносін да маёй працы не мелі...»

[1] *Рублевская Л.* Обеднеет море без капли // Советская Белоруссия. Собеседник. 18.08.2007. С. 11.




*Рэкламны плакат кінафільма «Кастусь Каліноўскі»*

Ідэалагічнае кіраўніцтва партыі выявілася ва ўважлівым разглядзе сцэнарыя і канкрэтных рэкамендацыях па яго дапрацоўцы. Пратакол нарады, якая 3 чэрвеня 1927 г. абмяркоўвала ліст Галоўнага рэпертуарнага камітэта (Галоўрэперткама), адносна сцэнарыя фільма «Кастусь Каліноўскі» зафіксаваў:

*Слухалі*

...

Ліст Галоўрэперткама ад 27.05.1927 за № 2752. «Па-ранейшаму нідзе няма думкі, што толькі ў саюзе з рускімі працоўнымі магчымае вызваленне».

«Не выяўлена, што рускія салдаты таксама гінуць за інтарэсы сваіх паноў»...

*Пастанавілі*

Прапанаваць т. Гардзіну напісаць новы эпізод: братанне беларускага селяніна-паўстанца з параненым рускім салдатам, выявіўшы, што і рускія салдаты гінуць за інтарэсы сваіх паноў, і ўсведамленне абодвух, што толькі ў цесным саюзе працоўных магчыма вызваленне ад прыгнёту пана, якой бы нацыі той ні быў.

Савецкі рэжысёр не мог не ўлічыць пажаданні кіруючых органаў, і рэкамендаваны эпізод увайшоў у канчатковы варыянт сцэнарыя. Здымкі фільма адбываліся пад Ленінградам, у прыгарадных палацах (сцэны жыцця паноў), і ў ваколіцах Мінска, дзе здымалі батальныя сцэны і эпізоды, звязаныя з беларускай вёскай часоў паўстання 1863 г. (якая да 1927 г. знешне амаль не змянілася). У Мінску ж пачаўся раман рэжысёра з актрысай Таццянай Булах, які пазней закончыўся іх шлюбам. А пакуль закаханы Уладзімір Гардзін паведамляў у лістах усе бягучыя навіны (эпізоды з Таццянай Булах адзнялі ў пачатку працы, і яна вярнулася ў Ленінград).

Інфармацыя ў лістах завуалявана паказвае на канфлікты ў творчым калектыве, якія вырашалі нават і пры дапамозе дзяржаўных структур:

*04.08.1927. Менск, гатэль «Еўропа», пакой № 13.*

*Сёння сумна. Вяртаючыся з лагераў я дакладна вылічыў, што немагчыма ўбачыць на вузенькай палічцы пад № 13 Вашага ліста, а заходзячы ў гатэль, яшчэ на ўваходзе, шукаў яго вачыма...*

*...Замест абяцанага Дылам ушанавання і банкета — перада мной ляжыць паперка «Позва»: «...съследчы Менскай акругі, запрашае Вас зьявіцца ў кашару маю на 5 жніўня да 10 г. раніцы» — гэта па справе Папова. А паколькі заўтра ў мяне здымкі, то значыць давядзецца заставацца на суботу для прыемных размоў са «съледчым» — вось звычайны фінал няладу з «рудымі».*

*Як сумна з людзьмі — які неспакойны народ»*[1].

Канфлікты на кінастудыі часта вырашаліся шляхам публічнага абмеркавання ў насценгазеце студыі «Савецкая Беларусь»: нататкі туды пісалі сур'ёзныя. Таксама сур'ёзна і горача іх абмяркоўвалі. Пасля заканчэння працы над «Кастусём Каліноўскім» У. Гардзін напісаў такую заметку:

*Сем разоў правер — тады крытыкуй.*

*«... Калі чытаем нашу насценгазету, можна падумаць, што калектыў займаецца выдзіраннем сучкоў з вачэй адзін у другога, не заўважаючы тых бярвенняў, якія напэўна тырчаць у кожнага.*

*Адзін з самых недобрасумленнейшых крытыкаў нейкі М.Б. (Блейман) у рэцэнзіі аб «Кастусю Каліноўскім» вельмі рэзка папракаў мяне ў новым «эканамічным адкрыцці», што я быццам бы адпраўляў за мяжу на баржы, замест мукі — печаны хлеб. Аднак згодна з матэрыялам, што дастаўлены мне з архіваў 1863 г. кансультантам-прафесарам Я.Л.Дыла (намдырэктара «Белдзяржкіно») — буханкі печанага хлеба раздавалі галодным паўстанцам, — як выкуп за праезд баржы гружанай, канечне, кулямі мукі. Крытык М.Б. жадаючы мяне папракнуць сучком — лодкай з печаным хлебам — не заўважыў вялізнага бервяна — баржы, якая плыла па рацэ (першым планам) гружанай мукой, і падпісаўся ва ўласнай недобрасумленнасці і непісьменнасці.*

*Сем разоў правер — а потым крытыкуй.*

*В. Гардзін»*[2]

Наступнай працай Гардзіна на студыі «Савецкая Беларусь» быў фільм паводле аповесці Якуба Коласа «На прасторах жыцця». Фільм называўся «Песня вясны», прэм'ера адбылася ў Мінску ў красавіку 1929 г. Хто будзе галоўнай гераіняй гэтага фільма, вырашылі ў Мінску ў высокіх кабінетах на вуліцы Рэвалюцыйнай, 4. Намеснік загадчыка «Белдзяржкіно» Кацнэльсон пісаў рэжысёру Гардзіну на кінафабрыку «Белдзяржкіно»

[1] АР РНБ. Ф. 173 Гардзін. Воп. 2. № 206. С. 3–4.

[2] АР РНБ. Ф. 173 Гардзін. Воп. І. № 11. С. 16.

(Ленінград, канал Грыбаедава, 90/2): *«Знаходзім, па фатаграфіях, якія мы маем, што Пятрова не падыходзіць для ролі Алёнкі. Трактоўка ролі Алёнкі патрабуе дынамічнасці, выразнасці, рухомасці і асаблівай жыццярадаснасці, што на нашу думку Пятрова даць не можа...»*[1] Якім чынам намеснік загадчыка вызначыў па фатаграфіях дынамічнасць і рухомасць прэтэндэнткі, у афіцыйным лісце не патлумачана.

У сярэдзіне 1920-х гг. увесь свет сачыў за падзеямі ў Кітаі. Пасля першых перамог працоўнага руху ў Кантоне і Шанхаі Наркамзнешсправаў СССР даручыў кінастудыі «Савецкая Беларусь» паказаць класавую барацьбу ў гэтай далёкаўсходняй краіне.

*З фільмаграфіі прац Гардзіна на студыі «Савецкая Беларусь»:*

«Чатырыста мільёнаў» (іншыя назвы: «Джоў Да-шэнь», «Пуцяводныя агні», «Агні Кітая»). Фільм з 7 частак, агулам 1800 м, быў выпушчаны 16.IV.1929 г.

Сцэнарый: Я. Бабушкін і У. Гардзін, рэжысёр У. Гардзін, аператар Д. Шлюглейт, 2-гі аператар Н. Навумаў-Страж, мастакі А. Арапаў і В. Ягораў, асістэнт рэж. Л. Анцы-Паўлоўскі.

У галоўных ролях: Т. Булах; У. Вікулін; М. Рэйд; Г. Даленга-Ягорава; С. Шышко; Л. Дабравольскі; Чу Шэ-ван; Сін Шу-цін; Лян Дзін-дуй.

Кінакрытык больш як праз 70 гадоў напіша пра гэтую працу: «Акрамя карціны Ю. Тарыча «Нянавісць», студыя «Савецкая Беларусь» у перыяд дагукавога кіно стварыла шэраг іншых фільмаў, якія прысвечаны рэвалюцыйнай барацьбе пралетарыяту ў капіталістычных краінах. Падзеі, якія звязаныя з паўстаннем кітайскіх рабочых у Кантоне, спрабаваў паказаць У. Гардзін у карціне «Чатырыста мільёнаў». Аднак гэтая кінастужка не вызначалася асаблівымі мастацкімі вартасцямі. Яна мае істотныя недахопы: збеднены ідэйны змест, прымітыўную драматургію і слабую рэжысуру[2]. Няўдачу адчувалі і ў 1929 г., адразу пасля заканчэння фільма. Начальства вінавація рэжысёра, зласліўцы пісалі ў насценгазету нататкі аб «рэжыме найбольшага спрыяння» для жонкі рэжысёра. У. Гардзін «адбіўся», паказаўшы на шкоду цэнзуры і няўмелага аператара-вылучэнца. У тлумачальнай запісцы дырэктару кінафабрыкі «Савецкая Беларусь» у Ленінградзе ён пісаў:

*«Атрымаўшы месячны адпачынак, пасля гадавой працы над двума закончанымі фільмамі «Чатырыста мільёнаў» і «Песня вясны», я прымушаны быў яго спыніць праз 10 дзён, для даздымак у карціне «Чатырыста мільёнаў» па ўказанням «Востоккино» з прычыны 150-метровай выразкі па патрабаванню Наркаміндзела.*

*Не маючы фізічнай магчымасці асабіста займацца арганізацыйнымі справамі па даздымках, якія крайне ўскладніліся з прычыны неабходнасці выкарыстоўваць ізноў, ужо дэзарганізаваную кітайскую масу, і тым больш — паўднёвых кітайцаў, якія ніколі не здымаліся, я звярнуўся да Вас з хадайніцтвам, каб уся арганізацыйная частка была перададзена майму былому асістэнту В. А. Астроўскаму, а мне быў прадастаўлены кітаец-кансультант.*

*Гэта хадайніцтва было Вамі задаволена і фактычна арганізатарам даздымак быў В. А. Астроўскі, з якім я ўзгадняў усе свае рэжысёрскія дзеянні, усе рэпетыцыйныя і здымачныя працы.*

*За некалькі дзён да здымкаў, у якіх павінна была ўдзельнічаць артыстка Т. З. Булах, я прадставіў намдырэктару М. Л. Крэсіну сведчанне доктара аб хваробе Т. З. Булах (вострая форма грыпа), што не дапускала магчымасці выхаду на вуліцу, тым больш, што ў Т. З. Булах туберкулёз правага лёгкага. Я пераканальна прасіў М. Л. Крэсіна прыслаць за артысткай закрыты аўтамабіль.*

*Даведка: 7.II.29 г. у Ленінградзе была самая нізкая за ўвесь час існавання горада тэмпература —32° (дадзеныя Гал. геафізічнай абсерваторыі)».*

У атмасферы «чыстак», якія праходзілі на розных прадпрыемствах і ўстановах горада, у рэжысёра існавала рэальная небяспека страціць працу. Уладзімір Гардзін перайшоў у наступленне: апелюючы да грамадскай арганізацыі (камісіі кінасекцыі Ленінградскага аддзела УСЕРАБІСА), ён 1 ліпеня 1929 г. звярнуўся па абарону ад прыціску дырэктара і старшыні фабрычнага камітэта (фабкама) студыі з такой заявай:

*«Звяртаю ўвагу членаў камісіі, што мая заява з просьбай расследавання выключнай у гісторыі Усерабіса, расправы Старшыні Фабкама, у згодзе з Дырэктарам фабрыкі, з няўгодным ім рэжысёрам, засноўвалася на наступных абставінах: ва ўзгадненні Старшыні Фабкама гр. Навумава з аўтарамі-ананімамі, якія наўмысна-тэндэнцыйна перакручвалі*

[1] АР РНБ. Ф. 173 Гардзін. Воп. I. № 70.

[2] Беларускае кіно: Кароткі нарыс. Мінск, 1962.

*мае вытворчыя дзеянні, шляхам артыкулаў у Насценгазеце і газеце «Кіно», для падрыхтоўкі глебы да рэзалюцыі Фабкама...*

*Грамадзянін Навумаў, член партыі ВКП(б), старшыня Фабкама, кіруючыся сваімі асабістымі рахункамі з рэжысёрам, які вымушаны быў, захоўваючы ўсе моманты поўнай бесстароннасці, забракаваць некалькі тысяч метраў негатыўна-пазітыўнай плёнкі, вызначыць працу Навумава, як зусім нездавальняючую ні ў тэхнічным, ні ў мастацкім афармленні.*

*Далей, верагодна, у выніку прызначэння спецыяльнай камісіі па расследаванні дзеянняў Фабкама, была распаўсюджана чутка, што разрыў дагавору адбыўся не ад сагласаваных дзеянняў гр. Навумава і гр. Кацнэльсона, а ў выніку прадпісання ОГПУ зняць мяне з працы...*

*Не ведаючы, як размяркоўваліся каштарысныя асігнаванні, я магу пакуль канстатаваць толькі яўны для мяне перарасход, які адбыўся выключна з-за няўмелай працы выдвіжэнца-аператара гр. Навумава: ён расходаваў агульным лікам не менш як 12000 негатыўнай і пазітыўнай плёнкі, якая аказалася пры мантажы бракаванай. Паказваючы шмат разоў пры праглядах членам рэжысёрскага калектыву на адмоўныя вынікі працы гр. Навумава, я звяртаў увагу і дырэктара фабрыкі гр. Кацнэльсона на немагчымасць рабіць паздымкі «400 мільёнаў» з няўмелым аператарам, аднак я, на жаль, ні разу не фіксаваў пісьмова маіх меркаванняў, каб не быць справакаваным па лініі быццам бы пераследавання спецом партыйнага выдвіжэнца...»*

«Беларусьфільм» у Ленінградзе жыў сваім жыццём, кіравалі ім з Мінска, прэм'еры арганізоўвалі ў ленінградскіх кінатэатрах «Барыкада», «Парызіяна» на Неўскім, у перабудаванай з царквы трохзальнай «Маскве» і інш. Для ленінградскіх паказаў спецыяльна рабіліся тытры на рускай мове.

Ячэйка КП(б)Б «Белдзяржкіно» ў 1930—1932 гг. некалькі разоў разглядала канфліктныя сітуацыі паміж кіраўніцтвам «Белдзяржкіно» і ленінградскай фабрыкай «Савецкая Беларусь». Гэтыя канфлікты адлюстраваліся ў рэзалюцыях 1-й Усебеларускай нарады сцэнарыстаў у сакавіку 1931 г. у Мінску, дзе, у прыватнасці, гаварылася: «У гісторыі развіцця беларускага нацыянальнага кіно за ўсе гады яго дзейнасці мелі месца праявы ідэалогіі беларускага нацыянал-дэмакратызму (карціна «Кастусь Каліноўскі», некаторыя сцэны ў карціне «Да заўтра»), замазванне кіруючай ролі пралетарыяту і партыі КП(б)Б у грамадзянскай вайне на Беларусі (карціны «Лясная быль», «Хвоі гамоняць» і інш.), яўрэйскага шавінізму (карціна «Яго правасхадзіцельства»), вялікадзяржаўнага расійскага шавінізму, канкрэтнымі праявамі якога з'яўляецца ігнараванне беларускай тэматыкі некаторымі сцэнарыстамі і рэжысёрамі... адсутнасць актыўнай палітыкі па беларусізацыі апарату трэста і кінафабрыкі»[1].

Пасля забойства Сяргея Кірава цяжка будаваліся адносіны беларускай кінастудыі з ленінградскімі гарадскімі ўладамі. 16 мая 1935 г. у Мінск было накіравана «Письмо Ленсовета об освобождении помещения, занимаемого в Ленинграде кинофабрикой «Савецкая Беларусь», а 29 мая 1935 г. была прынята пастанова Ленсавета аб высяленні кінафабрыкі з памяшкання, якое яна займае. У гэты ж дзень (29.05.1935) на Бюро ЦК КП(б)Б прынята рашэнне будаваць памяшканне для сваёй кінафабрыкі ў Мінску. А ў кастрычніку таго ж 1935 г. адбылося пасяджэнне Бюро ЦК КП(б)Б, на якім была прынята пастанова паставіць беларускі фільм, які праславіў бы перад грамадзянамі БССР і ўсяго свету беларускага Чапаева — мінскім ідэолагам не давала спакою папулярнасць знятага братамі Васільевымі ў 1934 г. паводле сцэнарыя Д. Фурманава фільма «Чапаеў». Пачалі шукаць прататып. Разгледзеўшы восем кандыдатур, Бюро ЦК спынілася на беларускім партызане Салаўі, але першы сакратар ЦК КП(б) Беларусі і старшыня Саўнаркама БССР, адпаведна, Мікалай Гікала і Мікалай Галадзед, падстрахаваліся — яны накіравалі ліст у Крэмль Іосіфу Сталіну «з просьбай прыняць нас па гэтым пытанні і дапамагчы нам падсказаць (назваць) «Беларускага Чапаева», як гэта Вы дапамаглі ўкраінцам, назваўшы прозвішча т. Шчорса»[2].

Іосіф Вісарыёнавіч не дапамог. Над кіраўнікамі рэспублікі ўжо збіраліся хмары рэпрэсій, а на адрас студыі прагучала крытыка: «Хоць гэтая кінастудыя і называецца «Савецкая Беларусь», у ёй вельмі мала таго, што адрознівае яе як нацыянальную студыю. За многія гады яе існавання не зроблена ўсур'ёз нічога, каб сабраць вакол беларускай кінавытворчасці свае нацыянальныя кадры рэжысёраў, акцёраў, аператараў, драматур-

[1] *Красінскі А. В.* Гісторыя кінамастацтва Беларусі. Т. 1. 1924—1959 гг. Мінск, 2001. С. 128.

[2] *Селеменев В., Селицкая Л.* О Соловье // Советская Белоруссия. 13.01.2006. С. 7.




гаў... Фабрыка працуе ў Ленінградзе, будучы зусім адарваная ад беларускай грамадскасці, ад палітычных, мастацкіх і літаратурных сілаў Беларусі...» Гэта разважанні не з якога-небудзь нацыяналістычнага заходнебеларускага выдання — гэта цытата з цэнтральнага органа ЦК ВКП(б) маскоўскай газеты «Правда» ад 2 ліпеня 1936 г. Публікацыя называлася «Беспрытульная кіна-студыя». Тым не менш будаўніцтва памяшканняў у Мінску ішло марудна — напярэдадні кастрычніцкіх святаў 1937 г. дырэктар кінастудыі «Савецкая Беларусь» Габрыльянц дакладной запіскай прасіў ЦК КП(б)Б і СНК БССР фарсіраваць будаўніцтва. У студзені 1939 г. адбылося пасяджэнне ўрадавай камісіі па пытанні пераводу кінастудыі «Савецкая Беларусь» з горада Ленінграда ў горад Мінск, а канчаткова ў сталіцы Беларусі студыя асталявалася ў сакавіку 1939 г.

Сувязі з ленінградцамі — былымі супрацоўнікамі «Беларусьфільма» — не спыняліся і пасля вайны. Прынамсі, рэжысёр Уладзімір Гардзін у 1949 г. вёў перамовы з дырэкцыяй Мастацкага музея Беларусі аб продажы ў Мінск алейных прац і малюнкаў І. Рэпіна са сваёй калекцыі[1].

## Перадваенны Ленінград

6 студзеня 1937 г. быў праведзены чарговы ўсесаюзны перапіс насельніцтва, аднак яго вынікі былі прызнаны дэфектнымі і шкодніцкімі і не былі абнародаваны. Прычынай стаў відавочны дэфіцыт насельніцтва ў параўнанні з разлічаным па выніках перапісу 1926 г. прагнозам, што бясспрэчна было звязана з дэмаграфічнымі наступствамі індустрыялізацыі, калектывізацыі і масавага тэрору. У зводных выніках перапісу паказана, што ў Ленінградзе пражывала ўсяго 2762,5 тысячы чалавек, з якіх рускія складалі 2379,5 тысячы, а беларусы 25,5 тысячы. Па вобласці (без Ленінграда) беларускае насельніцтва асобна не паказана, а аднесена ў графу «іншыя»[2].

У студзені 1939 г. быў праведзены апошні перадваенны перапіс насельніцтва, які паказаў, што за 11 гадоў, з 1930 да 1940 г., колькасць насельніцтва горада павялічылася прыкладна на 1,8 мільёна, з іх больш як 500 тысяч чалавек былі прыезджыя. Доля мужчынаў знізілася з 48% да 45%[3]. У Ленінградзе пражывала 3191,3 тысячы чалавек, з іх беларусаў каля 32,4 тысячы (1% усяго насельніцтва). Беларусы складалі трэцюю па колькасці нярускую нацыянальную групу — пасля яўрэяў і ўкраінцаў. У вобласці, насельніцтва якой дасягала амаль 3241 тысячы, беларусаў было 13,2 тысячы. На тэрыторыі вобласці больш шматлікія, чым беларусы, былі фіны-інгерманландцы, эстонцы, украінцы, яўрэі і вепсы. У цэлым па вобласці, уключаючы Ленінград, пражывала напярэдадні вайны 45,6 тысячы беларусаў[4].

Перадваенны Ленінград шмат вучыўся і шмат працаваў. Сталінскі курс камуністычнай партыі на мілітарызацыю эканомікі СССР павысіў ролю горада як навукова-тэхнічнага цэнтра ваенна-прамысловага комплексу, значная частка прамысловых прадпрыемстваў стала вытворцамі прадукцыі вайсковага прызначэння. Былі створаны шматлікія праектна-канструктарскія ўстановы, якія абслугоўвалі ваенныя патрэбы ўсяго СССР. Выхадцы з Беларусі былі і сярод супрацоўнікаў гэтых установаў. Напрыклад, канструктарам зброі стаў у канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў ураджэнец Шчучына **Мірон Глобус** (1895–1937). У 1921 г. ён паступіў у Ленінградскую Артылерыйскую акадэмію як ад’юнкт, а ў 1935 г. ужо быў дацэнтам кафедры ўнутранай балістыкі. Плён яго працы

[1] АР РНБ. Ф. 173 Гардзін. Воп. 2. № 278.

[2] Всесоюзная перепись населения 1937 г.: Крат. итоги. М., 1991. С. 89.

[3] Даринский А. В., Старцев В. И. История Санкт-Петербурга. СПб., 2003. С. 214.

[4] Смирнова Т. М. Динамика белорусского населения Петербурга и Ленинградской области в XX веке // Белорусский сборник. Вып. 2. С. 187.

ў акадэміі — 25 патэнтаў на вынаходніцтвы, у тым ліку на аўтаматычную гармату для самалётаў. Молах сталінскіх рэпрэсій змалоў таленавітага канструктара — 2 кастрычніка 1937 г. ён быў расстраляны. Такі ж трагічны лёс напаткаў і ўраджэнца Мінска, выкладчыка Ленінградскага ваенна-палітычнага вучылішча імя Энгельса, батальённага камісара **Мікалая Антонавіча Якубовіча** (1899–1937).



*Індустрыяльны Ленінград. Перадваенная паштоўка*

Сістэма кіравання вытворчасцю рабілася ўсё больш жорстка цэнтралізаванай. Да 1931 г. у горадзе былі зачынены ўсе прыватныя прадпрыемствы — засталіся толькі дзяржаўныя і ў некаторых галінах — прадпрыемствы прамысловай каапераціі. Прамысловая прадукцыя Ленінграда ўвесь час павялічвалася і ў 1940 г. перавысіла ўзровень 1928 г. на 40%. Доля горада ў агульнай прамысловай прадукцыі СССР складала 10% (пры істотна меншай — менш за 3%) удзельнай колькасці насельніцтва. Апераджальнымі тэмпамі развіваліся машынабудаванне і хімічная прамысловасць. Сярод беларусаў, якія працавалі ў хімічнай галіне, можна ўспомніць начальніка навукова-экперыментальнай станцыі Ленінградскага завода пластмас **Дарафея Лукіча Бохана** (1905–1937), ураджэнца вёскі Прынта Вілейскага павета. Памочнікам галоўнага механіка завода «Чырвоны трохвугольнік» працаваў ураджэнец вёскі Кулькі Пінскага павета **Пётр Васільевіч Чарняк** (1904–1937). Выхадцы з Беларусі працавалі ў самых розных галінах. Напрыклад, начальнікам адміністратыўна-гаспадарчага аддзела на заводзе «Пралетарый» быў **Аляксандр Сямёнавіч Хаванскі** (1898–1937), ураджэнец вёскі Галавачы Гродзенскага павета.

Народная гаспадарка СССР патрабавала адукаваных спецыялістаў, і ў горадзе ў перадваенны час значна павялічылася колькасць студэнтаў. Перад Другой сусветнай вайной у Ленінградзе налічвалася 60 вышэйшых навучальных устаноў, у тым ліку 24 тэхнічныя, 4 эканамічныя, 7 медыцынскіх. Сярод новых ВНУ, якія былі заснаваны ў 30-я гады: Тэхналагічны інстытут харчовай прамысловасці, Электратэхнічны інстытут сувязі, Інстытут дакладнай механікі і оптыкі, Тэкстыльны інстытут, Інстытут воднага транспарту, Інстытут кінаінжынераў, Інжынерна-эканамічны і Фінансавы інстытуты, Педагагічны інстытут. У гэтых установах можна знайсці беларусаў новай генерацыі, якія прыйшлі ў навуку пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Так, напрыклад, намеснікам дырэктара Завочнага металургічнага інстытута працаваў ураджэнец вёскі Хвалава Пружанскага павета Гродзенскай губерні, член ВКП(б) у 1925–1937 гг. **Васіль Кліменцьевіч Харук** (1903–1937), дацэнтам Аўтадарожнага інстытута быў беспартыйны беларус **Павел Восіпавіч Бусловіч** (1895–1937), дырэктарам ленінградскага Інстытута па вывучэнні Поўначы (цяпер навукова-даследчы Арктычны і Антарктычны інстытут Расійскай АН) у 1930–1932 гг. працаваў ураджэнец Магілёва **Ота Юльевіч Шміт** (1891–1956).

Дзе-нідзе працавалі яшчэ старыя, пецярбургскія, прафесары-беларусы. Прынамсі, курс тэарэтычных асноў электратэхнікі ў Політэхнічным інстытуце чытаў загадчык кафедры прафесар **Уладзімір Хведаравіч Міткевіч** (1872–1951), які ўпершыню прапанаваў новую канструкцыю ліній высакавольтных перадач з расшчэпленымі правадамі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ён удзельнічаў у распрацоўцы плана электрыфікацыі СССР (план ГОЭЛРО). Як аўтара шэрагу вынаходніцтваў у галіне праваднай і бесправаднай сувязі Уладзіміра Міткевіча ў 1929 г. абралі акадэмікам АН СССР. Тэарэтычныя разыходжанні з фізікамі А. Іофэ, С. Вавілавым, Я. Фрэнкелем і Тамам прывялі Уладзіміра Міткевіча да ідэі распачаць у Акадэміі навук у 1929 г. першую філасофскую дыскусію па фізіцы. У гады вайны ён займаў пасаду старшыні Секцыі электрасувязі АН СССР. Меў вышэйшыя ў

савецкі час грашовыя ўзнагароды: прэмію імя Леніна (у 1928 г.) і Сталінскую прэмію (у 1943 г.). Зрабіў Уладзімір Міткевіч уклад у даследаванне гісторыі навукі і тэхнікі. Пад яго рэдакцыяй былі выдадзены манаграфіі «Дынамамашына ў яе гістарычным развіцці», «Электрарухавік у яго гістарычным развіцці». Жыў з дарэвалюцыйных часоў у будынку Тэхналагічнага інстытута: Лясны участак, дарога на Сасноўку, 1–3.

Працягваў выкладчыцкую працу ў Петраградскім, потым Ленінградскім політэхнічным інстытуце выпускнік Магілёўскай гімназіі **Мікалай Мікалаевіч Цыклінскі** (1884–1938). Адначасова ён працаваў інжынерам, галоўным інжынерам, тэхнічным дырэктарам радыётэлеграфнага завода імя Камінтэрна (1921–1924), выкладаў у іншых ВНУ Ленінграда. З 1929 да 1938 г. Мікалай Цыклінскі рэдагаваў часопіс «Электрасувязь». Да пачатку сталінскіх рэпрэсіяў на кіруючых пасадах у горадзе працавалі сувязісты-беларусы. Начальнікам упраўлення сувязі Ленінградскай вобласці быў ураджэнец вёскі Аўгустова Бельскага павета Гродзенскай губерні, член ВКП(б) у 1918–1937 гг. **Архіп Рыгоравіч Верамяюк** (1891–1937), а дырэктарам Цэнтральнага тэлеграфа ўраджэнец Пінска, член ВКП(б) у 1919–1937 гг. **Мікалай Хведаравіч Наваковіч** (1893–1937).

Шлях **Генрыха Восіпавіча Графціо** (1869–1949) у Пецярбург з беларускага Дзвінска, дзе ён нарадзіўся, пралягаў праз Адэсу — там будучы акадэмік скончыў Наварасійскі універсітэт. Потым вучыўся ў Інстытуце інжынераў шляхоў зносін, прымаў удзел у праектаванні і пабудове трамвая ў Санкт-Пецярбургу. З 1907 года Генрых Графціо выкладаў у Пецярбургскім электратэхнічным інстытуце. Ён падтрымаў савецкую ўладу і быў прызначаны членам камісіі па распрацоўцы плана ГОЭЛРО: кіраваў секцыяй электрыфікацыі Каўказскага раёна і секцыяй транспарту. У 1918–1920 гг. працаваў памочнікам галоўнага інжынера, а ў 1921–1927 гг. — інжынерам будаўніцтва Волхаўскай ГЭС. З 1932 г. Генрых Графціо — акадэмік, у 1938–1945 гг. — галоўны інспектар па будаўніцтве гідраэлектрастанцый Міністэрства электрастанцый СССР. Быў узнагароджаны ордэнамі Леніна і Чырвонага Працоўнага Сцяга. Пахавалі знакамітага вучонага на Большаохцінскіх могілках, для помніка акадэміку Графціо была выкарыстана каплічка з белага мармура, знятая з нейкай купецкай дарэвалюцыйнай магілы. Выкарысталі нават невялікія (для абразоў) нішы ў камяні: цяпер яны змясцілі фатаграфіі электрастанцый, якія пабудаваў вучоны. Колькі камянёў было перацягнута для плацін тых электрастанцый, а вось для самога Графціо свабоднага каменя не знайшлося![1]

Сярод студэнтаў ленінградскіх ВНУ былі сотні тых, хто прыехаў па веды ў Ленінград з Беларусі, а потым вярнуўся працаваць на радзіму — напрыклад, **Іван Сідаравіч Кавалёў** (1913–1987), у будучым першы рэктар Мінскага радыётэхнічнага інстытута (у 1941 г. ён скончыў Ленінградскі электратэхнічны інстытут), або ўраджэнец Оршы **Нічыпар Якімавіч Наталевіч** (1900–1964), які ў 1934 г. скончыў Ваенна-палітычную акадэмію імя Талмачова; у 1938–1947 гг. ён быў Старшынёй Вярхоўнага Савета БССР.

Аднак прыехаўшы па веды, можна было лёгка знайсці сабе згубу, асабліва ўраджэнцу Заходняй Беларусі, як сталася з **Аляксандрам Вікенцьевічам Пазняком** (нар. 1903 г.), ураджэнцам вёскі Круты Бераг Нясвіжскага павета. Беспартыйны студэнт Інстытута оптыкі і дакладнай механікі быў арыштаваны 31 ліпеня 1937 г., прасядзеў у вязніцы да кастрычніка, асуджаны 01.10.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР і праз пяць дзён расстраляны. Больш лагодны лёс **Антона Казіміравіча Супінскага**, які ў 1923–1925 гг. працаваў настаўнікам на Віцебшчыне, падчас экскурсій з дзецьмі даследваў археалагічныя помнікі, напісаў артыкул для першага тома краязнаўчага зборніка «Віцебшчына» (Віцебск, 1925 г.). Па накіраванню Беларускай Акадэміі навук у 1928–1930 гг. ён вучыўся ў аспірантуры Інстытута гісторыі матэрыяльнай культуры ў Ленінградзе, застаўся працаваць у Інстытуце народаў СССР і, адначасова, у этнаграфічным аддзеле Рускага музея. У 1933 годзе рэпрэсаваны, сядзеў у лагерах, потым працаваў у музеі ў Чэрэпаўцы і ў Комі (лабарантам, малодшым навуковым супрацоўнікам інстытута). У 1956 г. поўнасцю рэабілітаваны, вярнуўся ў Ленінград. Пахаваны ў Пецярбургу на габрэйскіх могілках, побач са сваёй першай жонкай.

Простым рабочым завода «Рухавік» працаваў у Ленінградзе ўраджэнец вёскі Паўлавічы з-пад Віцебска **Рыгор Логінавіч Шакулаў** (1910–1987). Пасля вучыўся ў Лесатэхнічнай акадэміі, адначасова займаўся ў

[1] *Гоппе Г.* На земле была одна столица... СПб., 2000.

літаратурным аб'яднанні пры рэдакцыі газеты «Лясная праўда», у літаратурным універсітэце пры Доме пісьменнікаў. Гэтыя «універсітэты» навучылі прафесійна абыходзіцца з рускай мовай, але «забілі» беларускія вершы, якія ён пачынаў пісаць у 1930-я гг. У 1941 г. Рыгор Шакулаў добраахвотнікам пайшоў на фронт, быў цяжка паранены. Пасля вайны працаваў таксатарам у лесанарыхтоўчых экспедыцыях у Ленінградскай вобласці, апошнія 26 гадоў жыў у Віцебску. Усяго выйшла восем кніжак Рыгора Шакулава з казкамі для дзяцей. Пад канец жыцця пісьменнік вырашыў вярнуцца ў беларускую моўную стыхію і рыхтаваў пераказ сваіх казак па-беларуску. Адным з многіх студэнтаў, якія пасля заканчэння адукацыі засталіся ў Ленінградзе, стаў ураджэнец Гродна **Сільвестр Іларыёнавіч Ляўко** (1897—1964). У 1930 г. ён закончыў Тэхналагічны інстытут, уладкаваўся на працу ў Цэнтральны навукова-даследчы дызельны інстытут — супрацоўнікам (1931) і старшым навуковым супрацоўнікам (1947). Зрабіўся тут адным з вядучых спецыялістаў у галіне дызелебудавання: узначальваў распрацоўку і пастаноўку ў вытворчасць дызеляў сярэдняй магутнасці для карабельных (галоўных і дапаможных), транспартных і стацыянарных установак. Сільвестр Ляўко стаў аўтарам канструкцыі прагрэсіўнага тыпу камеры згарання для дызеляў, працаваў над стварэннем двухтактавых дызеляў з поршнямі сустрэчнага руху. За дасягненні ў навуцы быў адзначаны Сталінскай (у 1945 г.) і Дзяржаўнай (1960) прэміямі.

Багатае музычнае жыццё ў перадваенным Ленінградзе шмат у чым вызначала дзейнасць выдатнага музычнага, літаратурнага і тэатральнага крытыка-энцыклапедыста **Івана Іванавіча Салярцінскага** (1902—1944). Іван Салярцінскі нарадзіўся ў Віцебску ў сям'і старшыні гарадскога суда Івана Салярцінскага. У 1906 г. сям'я пераехала ў Пецярбург. Хлопец рана страціў бацьку — тайнага саветніка і сенатара, жыў з маці, Кацярынай Іосіфаўнай Салярцінскай (Бабашынскай) на Сергіеўскай вуліцы, 81. У 1919 г. Іван Салярцінскі скончыў Пецярбургскую 3-ю класічную гімназію і вярнуўся ў Віцебск да цётак (сясцёр маці). Пачаў займацца педагагічнай працай, праводзіў заняткі ў Віцебскай драматычнай студыі, сябраваў з многімі дзеячамі мастацтва. У Віцебскай кансерваторыі ў гэты час (1918—1921) быў прафесарам выдатны скрыпач і педагог, кіраўнік славутага пецярбургскага Мекленбургскага квартэта Карл Карлавіч Грыгаровіч (1868—1921) — знаёмства з маэстра шмат дало для станаўлення будучага музыказнаўцы. У 1921 г. Салярцінскі пераехаў у Петраград, працаваў настаўнікам у 15-й працоўнай школе. У 1924 г. ён паступіў на рамана-германскае аддзяленне факультэта грамадскіх навук Петраградскага ўніверсітэта. Адначасова навучаўся ў Інстытуце гісторыі мастацтва, дзе потым прайшоў і курс аспірантуры па тэатразнаўстве. Добрая адукацыя дапамагла лепш выкарыстаць рэсурс фенаменальнай памяці Івана Салярцінскага: ён свабодна гаварыў і чытаў на 20 замежных мовах, ведаў на памяць усе (!) сімфоніі Брукнера і Малера.



*Індустрыяльны Ленінград.*
*Перадваенная паштоўка*

Усё жыццё (пасля вяртання ў Петраград жыў на Крэстоўскім востраве) Іван Салярцінскі вылучаўся незвычайнай зацікаўленасцю мастацтвам, імкненнем захапіць гэтай зацікаўленасцю іншых. Гэта абумовіла шырокі спектр яго інтарэсаў і дзейнасці. Ён чытаў лекцыі па пытаннях мастацтва, эстэтыкі, псіхалогіі ў Ленінградскім універсітэце, Інстытуце гісторыі мастацтваў, Педінстытуце імя Пакроўскага, Ленінградскай кансерваторыі. З 1924 г. супрацоўнічаў з перыядычнымі выданнямі («Известия», «Смена», «Советское искусство» і інш.), пісаў пра музыку, тэатр, балет. У сваіх працах даследаваў праблемы класічнай музычнай спадчыны, сімфанізму, харэаграфіі, опернай і балетнай драматургіі, сучаснай музычнай культуры. Іван Салярцінскі напісаў рэцэнзіі і водгукі на 45 опер і аперэт і на 23 балеты. Ён загадваў рэпертуарнай часткай Тэатра оперы і балета імя Кірава (былога Марыінскага), быў старшынёй музыказнаўчай секцыі Ленінградскага аддзялення Саюза савецкіх кампазітараў, 15 гадоў працаваў у Ленінградскай філармоніі, паслядоўна займаючы пасады лектара, кансультанта, галоўнага рэдактара і, нарэшце, мастацкага кіраўніка. Пад уздзеяннем



*Будынак Дома Саветаў на Маскоўскім праспекце*

І. Салярцінскага Ленінградская філармонія стала асяродкам асветніцкай працы, аўтарытэтнай музычнай установай. Як мастацкі кіраўнік філармоніі І. Салярцінскі эвакуяваўся разам з ёй ў Новасібірск, дзе акрамя працы ў філармоніі кіраваў кафедрай мастацтвазнаўства Ленінградскага тэатральнага інстытута. Там і памёр ад хваробы сэрца ў 1944 г.[1]. Ягоным паслядоўнікам на пасадзе лектара Ленінградскай філармоніі стаў таксама ўраджэнец Віцебска, таленавіты музычны крытык і папулярызатар **Юліян Вайнкоп**.

Расла колькасць насельніцтва, пашыралася тэрыторыя горада, змяняліся да лепшага ўмовы жыцця. У 20-я гады працягвалася забудова Выбаргскай стараны і Неўскай заставы, значныя жылыя масівы былі створыны на Кандрацьеўскім і Лясным праспектах. У 1924 г. пачалося цэнтралізаванае забеспячэнне домоў гарачай вадой: у 1928 г. да гарачага водазабеспячэння былі падключаны ўжо 32 будынкі, у 1940 г. — 420. У лістападзе 1931 г. на вуліцы Марата быў адкрыты першы ў СССР медыцынскі выцвярэзнік. На пачатку 20-х гадоў паравы трамвай быў канчаткова заменены на электрычны. Аднак у гады Другой сусветнай вайны, калі трамвайная сетка Ленінграда аказалася разбуранай, паравыя трамваі ізноў на некаторы час знайшлі сабе прымяненне. У 1926 г. быў рэалізаваны першы вялікі архітэктурны праект выхадца з Бельска-Падляскага Іосіфа Лангбарда: на пляцы паміж праспектам Юнака—Пралетарыя (так з 1922 да 1933 г. называўся Стара-Пецяргофскі праспект) і Курляндскай вуліцай пабудаваны 300-кватэрны жылы дом для рабочых завода «Чырвоны трохвугольнік» («Красный треугольник»). У доме былі запраектаваны двух-, трохпакаёвыя кватэры з прыхожай, убудаванымі гаспадарчымі шафамі-кладоўкамі, але без ванных. У сярэдзіне 30-х гг. быў распрацаваны Генеральны план Ленінграда, згодна з якім меркавалася двухразовае павелічэнне гарадской тэрыторыі, галоўным чынам у паўднёвым напрамку (да Пулкаўскіх вышыняў і Стрэльны). Новыя кварталы былі закладзены каля завода «Электрасіла» і ў Аўтава (планіроўку Аўтава рабіў беларус, тапограф, а пазней архітэктар **Аляксандр Аляксеевіч Афончанка** (1907—1975). З мэтай добраўпарадкавання была заасфальтаваная трэцяя частка вуліц (да рэвалюцыі толькі 7% гарадскіх вуліц мела цвёрдае, пераважна «тарцавое» пакрыццё). Магутнасць водаправоду пасля рэканструкцыі ў 1932 г. галоўнай водаправоднай станцыі павялічылася ў тры разы, а да 1940 г. водаправодная сетка ў параўнанні з 1913 г. падвоілася.

[1] Памяти И. И. Соллертинского. Воспоминания, материалы, исследования. Л., 1978.

У гэтыя гады ў горадзе адчынілася шмат дзяржаўных устаноў у галіне абслугоўвання: лазні і пральні, фабрыкі-кухні, сталоўкі.

Аблічча перадваеннага Ленінграда вызначалі і праекты выпускніка Ленінградскага інстытута камунальнага будаўніцтва (былы Інстытут грамадзянскіх інжынераў) беларуса **Мікалая Міхайлавіча Назар'іна** (1909—1993). Паходжання ён быў непралетарскага: бацька — інспектар народных вучылішчаў у Магілёве, маці — настаўніца. У 1923—1927 гг. ён жыў у Гомелі, там жа скончыў школу. Працоўную дзейнасць пачаў як рабочы-будаўнік. Закончыўшы інстытут, праектаваў будоўлі для Яраслаўля, Ніжняга Ноўгарада, Урала, Далёкага Усходу... У 1936 г. пасля заканчэння архітэктурнага факультэта Акадэміі мастацтваў (майстэрня Ноя Троцкага) малады архітэктар супрацоўнічаў з вядучымі дойлідамі Ленінграду. Па праекце Назар'іна выкананы бакавыя фасады Дома Саветаў на Маскоўскім праспекце, 212, — буйнейшай грамадскай пабудовы тых гадоў, праграмным творы Троцкага і ўсёй ленінградскай архітэктурнай школы (1938—1940). У перадваенныя гады Мікалай Назар'ін ажыццявіў рэканструкцыю аднаго з карпусоў бальніцы імя Мечнікава на Піскароўскім праспекце, 47.

У 30-я гг. узмацнілася барацьба з рэлігіяй, якая пачалася з забароны (16 снежня 1929 г.) выканкама Ленсавета «прадаваць калядныя ёлкі і траецкія бярозкі». У 1932 г. знялі званы з Ісакіеўскага сабора, а ў 1933 г. гарадскія ўлады забаранілі званіць да службы ва ўсіх храмах. Антырэлігійная кампанія прывяла да з'яўлення ў цэнтры горада новага беларускага тапоніма: Уведзенскі канал, які існаваў з 1803 г. і сваёй назвай быў звязаны з Уведзенскай царквой, перайменавалі ў 1935 г. у Віцебскі канал, а храм Уве́дзення Багародзіцы лейб-гвардыі Егерскага палка знеслі. У 1940 г. у Ленінградзе засталіся толькі 13 дзейчых цэркваў з 420, якія былі да рэвалюцыі. На месцы цэркваў, якія звычайна стаялі на знакавых месцах і былі дамінантамі гарадской забудовы, узнікалі новыя ідэалагічныя ўстановы, напрыклад, кінатэатры. Так, Аненкірхе на Кірачнай вуліцы ператварылася ў кінатэатр «Спартак», а на месцы знесенай царквы св. Кацярыны, на Стара-Пецяргофскім праспекце, 6, быў пабудаваны першы ў СССР трохзальны кінатэатр «Масква». Праект апошняга выканаў ураджэнец Віцебска архітэктар Лазар Хідэкель. Царкву св. Кацярыны пабудаваў у 1820-я гг. архітэктар К. Торн. Яна была першым помнікам «руска-візантыйскага» стылю ў горадзе; архітэктурным шэдэўрам пры гэтым не была. Аднак будынак кінатэатра «Масква» не змяніў справу ў лепшы бок. «Істотнае адрозненне кінатэатра ў тым, што ён значна меншы за разбураны храм і з суседніх вуліц не бачны, аднак гэта наўрад ці можна лічыць яго перавагай — бо разам з царквой нудлівы раён Каломны, Калінкінай вёскі і Екацерынгофа страціў малавыразную, але ўсё ж неабходную тут дамінанту»[1]. Каб пазбавіць насельніцтва шкоды ад папоўшчыны, камуністы паставілі задачу знішчыць усё царкоўнае і каляцаркоўнае, уключаючы саміх папоў. Дзеля гэтага пайшлі на злачынствы. Цяжка ацаніць страты ад гэтага працэсу; адным з вынікаў стала занядбанне тых спраў, якімі традыцыйна займалася царква, — катастрафічна пагоршыўся стан гарадскіх могілак, з выхаваўчага працэсу вынішчалася хрысціянская маральнасць, заўсёды і паўсюль яна замянялася новай, камуністычнай...

Незайздросны быў і лёс святароў: арышт, суд «тройкі», высылка ў лагеры або расстрэл. Вось некалькі прозвішчаў расстраляных праваслаўных святароў-беларусаў, якія захаваў «Ленінградскі мартыралог»:

**Стэфан Міхайлавіч Ражкоўскі** (1864 г. нар.), ураджэнец в. Вузлы Вілейскага павета Віленскай губерні, беларус; беспартыйны. Настаяцель Афонскай царквы ў Ленінградзе. Жыў на 7-й Чырвонаармейскай вуліцы, д. 30, кв. 71. Арыштаваны 02.10.37. Асуджаны 03.11.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 10.11.37;

**Іван Іванавіч Азевіч** (1876 г. нар.), ураджэнец в. Слабодка Ушацкага раёна Віцебскай вобласці, беларус; беспартыйны. Свяшчэннік. Пражываў у в. Кабякова Горка Капшынскага раёна Ленінградскай вобласці. Арыштаваны 21.09.37. Асуджаны 25.11.37 Асобай Тройкай УНКВД. Расстраляны 03.12.37;

**Якаў Львовіч Жураўскі** (1879 г. нар.), ураджэнец в. Глабой Невельскага павета Віцебскай губерні, беларус; беспартыйны. Свяшчэннік Серафімаўскіх могілак. Арыштаваны 05.10.37. Асуджаны 28.10.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 01.11.37;

**Павел Пятровіч Чуліцкі** (1870 г. нар.), ураджэнец в. Кулікова Мсціслаўскага павета Магілёўскай губерні, рускі; беспартыйны. Святар Спаса-Успенскага сабора. Пражываў у г. Пушкін Ленінградскай вобласці, Школьны завулак, д. 6, кв. 2. Арыштаваны 17.11.37. Расстраляны 08.12.37.

* * *

1 *Саблин И. Д.* Лазарь Хидекель // Зодчие Петербурга. XX век. СПб., 2000. С. 112.




*Сацыялізм змагаўся за чысціню.
Паштоўка, выдадзеная ў Маскве ў 1938 г.*

Пафас сацыялістычнага будаўніцтва захапіў многіх. Людзі шчыра цікавіліся навінамі, выстройваючыся ў чэргі па газеты, якія пісалі пра сацыялістычнае спаборніцтва і мясцовыя навіны — поўня жыцця. Святочную атмасферу на вуліцах горада стваралі не толькі помнікі архітэктуры, пабудаваныя ў дарэвалюцыйныя часы, але і адмысловая архітэктура пачатку 40-х гг. ХХ ст. Уначы горад асвятлялі 30 500 электралямпаў агульнай магутнасцю 6060 кВт. Настальгія па даваенным Ленінградзе адбілася ў лісце, які напісаў былы студэнт Ленінградскага архітэктурнага тэхнікума пяхотны лейтэнант-разведчык Леанід Гарэцкі ў халодным і гразкім акопе цёмнай восенню 1942 г. Сын рэпрэсаванага беларускага пісьменніка і гісторыка літаратуры Максіма Гарэцкага настальгічна маляваў вобраз любімага горада:

*Перадваенны Ленінград.*

*Які файны Ленінград увосень! У гэты час вечарам яшчэ цёпла. Агромністымі грудзямі дыхае заліты святлом, шматгалосы вячэрні Ленінград. На вышыні грувасяцца асеннія хмары, церушыць дожджык, цёпла. Мокры асфальт, як ціхая рака — адлюстроўвае агні ліхтароў, вітрын, рэкламы. З шапаценнем праносяцца і крычаць гудкамі машыны М-1. Яны знікаюць там, дзе прамізна вуліцы прападае ў месцы зліцця мноства агнёў, над якім, цёмна-сіняе, вісіць ленінградскае асеннія неба. А па баках праспекта, уздоўж бясконцых аграмадзін жылых дамоў, дзе ўверсе таямніча свецяцца завешаныя фіранкамі вокны, а ўнізе ярка асветленыя вялікія вокны магазінаў крычаць пра дастатак кілбас, масла, самых розных булак і цукерак, він і папірос, міма мноства ларкоў з півам, водамі, марожаным-эскімо, папіросамі і часопісамі, міма доўгіх чэргаў па газеты, — ліецца шумная, бясконцая стужка добра ўбраных, вясёлых людзей. Людзі паўсюль: у праязджаючых са звонам і рыпеннем асветленых трамваях, за вітрынамі каля кас і прылаўкаў, людзі ўліваюцца і збіраюцца ў натоўп каля дзвярэй фае кіно і тэатраў, паркаў, на прыпынках тралейбусаў і трамваяў...*[1]

Перш чым фашысцкая куля спыніла яго жыццё, Леанід Гарэцкі паспеў дайсці з Чырвонай Арміяй да вёскі Костава Шымскага раёна Ленінградскай вобласці, дажыць да 18 лютага 1944 г.

## Ахвяры палітычных рэпрэсій

Неад'емнай часткай савецкага перыяду гісторыі Петраграда-Ленінграда, як і ўсёй краіны (РСФСР-СССР), з'яўляюцца рэпрэсіі — пазбаўленне грамадзянскіх правоў, а часта і жыцця за выказанае ці як-небудзь выяўленае незадавальненне ўладай. Ад самага пачатку станаўлення новая дзяржава і кіруючая бальшавіцкая партыя жорстка рэпрэсавалі ўсіх у гэтым вінаватых, а дзеля запалохвання і невінаватых. У адрозненне ад папярэдніх, царскіх, часоў пад рэпрэсіі траплялі не адзінкі (кіраўнікі супраціўлення, праваднікі апазіцыі), а масы людзей, сацыяльныя пласты, асобныя нацыянальнасці. Запал рэпрэсіям далі Уладзімір Ленін і палітбюро КП(б), якія санкцыянавалі фізічнае знішчэнне апазіцыянераў ці гэта былі жонка і дочкі расійскага цара Мікалая II (разам з самім манархам), ці 19 тысяч удзельнікаў Кранштацкага паўстання 1921 г., ці сотні тысяч сялян і духавенства. Беларусы Петраграда—Ленінграда пакутавалі разам з іншымі жыхарамі «калыскі Кастрычніцкай рэвалюцыі». Пасля заканчэння Грамадзянскай вайны рэпрэсіі не зменшыліся, а некалькі разоў успыхвалі з неверагоднай сілай. У людажэрскім калаўроце аказаліся мільёны асоб[2].

Карным органам (выканаўцам рэпрэсій) стаў Народны камісарыят унутраных спраў (НКВД). Урад даў яму паўнамоцтвы выкарыстоўваць «расстрэльны» Артыкул 58 Крымінальнага кодэкса са шматлікімі падартыкуламі: 2–16. Методыкай следчых НКВД часта была беспадстаўная правакацыя, пра што сведчыць апавяданне следчага раённага аддзела НКВД Куйбышаўскага раёна Ленінграда ў 1937–1939 гг., ураджэнца Васілевічаў (Гомельшчына)

[1] *Горецкий Л.* Письма с фронта // Юность, 1975. № 4. С. 7–8.
[2] Жертвы политических репрессий в СССР. CD.

**Міхаіла Генухавіча Безуеўскага**[1]. Судзілі тры чалавекі (тройка). Абвінавачанне выстаўлялася напярэдадні пасяджэння, абаронца ў працэсе не ўдзельнічаў нават фармальна. Прысуд выконваўся адразу ж пасля прыгавору. У большасці выпадкаў прысудам было пазбаўленне грамадзянскіх правоў, высылка ў лагер або расстрэл. Месцам расстрэлу ў Ленінградзе стала пустэльная мясцовасць за прыгараднай вёскай Левашова.

Пасля 11 жніўня 1937 г. над усімі выхадцамі з беларускіх земляў незалежна ад нацыянальнасці, адукацыі, веравызнання і партыйнасці навіс «дамоклаў меч» — загад камісара ўнутраных спраў СССР Яжова № 00485 «Аб польскіх шпіёнах». Найбольш небяспечна было вайскоўцам, працаўнікам транспарту, абароннай прамысловасці і беларусам — служачым НКВД. Загад быў сакрэтны, даведзены толькі да кіраўніцтва НКВД, таму яго выкананне адбывалася як бы «з нічога», і гэта шакавала, не давала людзям магчымасці зразумець і ацаніць сітуацыю, арганізаваць калі не супраціўленне, дык хоць самаабарону.

Цяпер загад гэты абнародаваны — адразу стала на месца матывацыя шматлікіх злачынстваў, якія пазней былі названы «памылкамі». Вось яго змест:

*«Аператыўны загад народнага камісара ўнутраных спраў Саюза ССР.*
*11 жніўня 37 г. № 00485, г. Масква*

Разасланы разам з гэтым загадам закрыты ліст аб фашысцка-паўстанцкай, шпіёнскай, дыверсійнай, паражэнчай і тэрарыстычнай дзейнасці польскай выведкі ў СССР, а таксама матэрыялы следства па справе «POW»[2] раскрываюць карціну шматгадовай і адносна беспакаранай дыверсійна-шпіёнскай працы польскай выведкі на тэрыторыі Саюза...

У адпаведнасці з гэтым асноўнай задачай органаў ГУДзБ у цяперашні час з'яўляецца разгром антысавецкай работы польскай выведкі і поўная ліквідацыя незакранутай да гэтага часу шырокай дыверсійна-паўстанцкай нізоўкі «POW» і асноўных людскіх кантынгентаў польскай выведкі ў СССР.

ЗАГАДВАЮ:

1. З 20 жніўня 1937 г. пачаць шырокую аперацыю, накіраваную на поўную ліквідацыю мясцовых арганізацый «POW» і перш за ўсё яе дыверсійна-шпіёнскіх і паўстанцкіх кадраў у прамысловасці, на транспарце, саўгасах і калгасах.

2. Уся аперацыя павінна быць закончана ў трохмесячны тэрмін.

3. Арышту падлягаюць:

а) выяўленыя ў працэсе следства і да гэтага часу неадшуканыя актыўныя члены «POW» па спісе, які прыкладаецца;

б) усе ваенна-палонныя польскай арміі, якія засталіся ў СССР;

в) перабежчыкі з Польшчы незалежна ад часу пераходу іх у СССР;

г) палітэмігранты і палітабменныя з Польшчы;

д) былыя члены ППС і іншых польскіх антысавецкіх палітычных партый;

е) найбольш актыўная частка мясцовых антысавецкіх нацыяналістычных элементаў польскіх раёнаў.

4. Адначасова з разгортваннем аперацыі па арыштах пачаць следчую працу. Галоўны ўпор следства засяродзіць на поўным выкрыцці арганізатараў і кіраўнікоў дыверсійных груп з мэтай вычарпальнага выяўлення дыверсійнай сеткі.

Усіх, хто праходзіць па паказаннях як шпіёны, шкоднікі і дыверсанты, НЕАДКЛАДНА АРЫШТОЎВАЦЬ.

Для вядзення следства вылучыць спецыяльную групу аператыўных работнікаў.

5. Усе арыштаваныя па меры выяўлення іх вінаватасці ў працэсе следства падлягаюць падзелу на дзве катэгорыі:

а) першая катэгорыя, якая падлягае расстрэлу. Да яе належаць усе шпіёнскія, дыверсійныя, шкодніцкія і паўстанцкія кадры польскай выведкі;

б) другая катэгорыя, менш актыўная. Арыштаваныя падлягаюць заключэнню ў турмы і лагеры тэрмінам ад 5 да 10 гадоў.

6. На прылічаных у працэсе следства да першай і другой катэгорыі кожныя 10 дзён складаюцца спісы з кароткім выкладам следчых матэрыялаў, якія характарызуюць ступень вінаватасці арыштаванага і накіроўваюцца на канчатковае зацвярджэнне ў НКВД СССР...

7. Спыніць вызваленне з турмаў і лагераў асуджаных па прыкметах польскага шпіянажу, якія заканчваюць тэрмін зняволення. Пра кожнага з іх прадставіць матэрыял для разгляду на Асобую нараду НКВД СССР...

*п.п. Народны Камісар унутраных спраў*
*генеральны камісар дзяржаўнай бяспекі —*
*Яжоў»*

Тое, што матэрыялы пра зоны, за якія адказваў НКВД, аказаліся ў распараджэнні

[1] *Головко В.* Жизнь была интересной. Кн. 1. СПб., 2002. С. 189–192.
[2] POW (Polska Organizacja Wojskowa) — Польская вайсковая арганізацыя.

польскіх спецслужбаў (Страж аховы граніцы, Дэфінзіва і інш.), безумоўна, злавала маскоўскіх чэкістаў. Прынамсі польская выведка мела дакладныя планы Салавецкіх лагераў і ведала ўсё, што там рабілася. Адказ НКВД у выглядзе вышэй прыведзенага загаду быў сфармуляваны сапраўды з расійскім размахам. Відавочна і тое, што пры шырокім трактаванні (а ад выканаўцаў патрабавалі шырокага трактавання!) пад дзеянне загада Яжова падпадалі ўсе жыхары Ленінграда, хто нарадзіўся або меў сваякоў на захадзе Беларусі: у раёнах Беластока, Вільні, Брэста, Наваградка, Гродна, Пінска, Нясвіжа. Асаблівасцю выхадцаў з гэтага рэгіёна было тое, што дзеці адных бацькоў маглі прылічваць сябе да розных нацыянальнасцяў, што не магло не выклікаць у чэкістаў дадатковых падазрэнняў.

Партрэт рэпрэсаванага (расстралянага) у Ленінградзе беларуса можна ўзнавіць карыстаючыся біяграфіямі з выдадзенай Расійскай Нацыянальнай бібліятэкай шматтамовай кнігі ахвяр «Ленинградский мартиролог»[1].

Сярод расстраляных усяго толькі некалькі чалавек, якіх можна вылучыць як партыйную эліту, кіруючыя кадры і палітэмігрантаў. Сярод іх:

**Міхаіл Уладзіміравіч Чыж** (1895 г. нар.), ураджэнец в. В. Сліва Слуцкага р-на БССР; член ВКП(б) з 1919 г., выключаны ў 1937 г. у сувязі з арыштам. Адказны парткантралёр Упаўнаважанага Камісіі партыйнага кантролю пры ЦК ВКП(б) па Ленінградскай вобл. Да арышту пражываў у г. Ленінградзе. Арыштаваны 09.04.37. Асуджаны 31.08.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. На тыдзень раней быў арыштаваны яго зямляк (магчыма, сваяк) **Іван Якімавіч Чыж** (1902 г. нар.), ураджэнец в. В. Сліва Слуцкага р-на БССР; беспартыйны. Слесар завода «Рускі дызель». Да арышту жыў у г. Ленінградзе. Арыштаваны 04.04.37. Асуджаны Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Абвінавачаны: 58-8-11 КК РСФСР. Абодва Чыжы расстраляны ў адзін дзень — 15.09.37.

Параўнальна невялікі працэнт людзей, якія былі арыштаваныя раней і якіх прывезлі ў Ленінград для перагляду і выканання прыгавору:

**Іосіф Емельянавіч Гаўрылік** (1893 г. нар.), ураджэнец в. Калодчына Вілейскага пав. Віленскай губ.; былы член КП Заходняй Беларусі. Загадчык сектара выканання Наркамасветы БССР. Пражываў у г. Мінску. Адбываў пакаранне ў Салавецкай турме. Асуджаны 25.11.37 Тройкай УНКВД. Расстраляны 08.12.37.

**Іван Антонавіч Грыгарук** (1900 г. нар.), ураджэнец в. Трасцяніца Паўлаўскай воласці Бельскага пав. Гродзенскай губ.; член ВКП(б) у 1924—1937 гг. Старшыня Чырвонагвардзейскага райвыканкама Ленінградскай вобл. Пражываў у г. Ленінградзе, Гулярная вул., д. 25, кв. 55. Арыштаваны 20.06.37. Асуджаны 29.11.37 Выязной сесіяй Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР у г. Ленінградзе. Расстраляны ў той жа дзень — 29.11.37.

**Васіль Іванавіч Раткевіч** (1902 г. нар.), ураджэнец в. Міхайлавічы Чашніцкага р-на БССР; член ВКП(б) з 1927 г., выключаны ў 1937 г. у сувязі з арыштам. Палітрук авіямайстэрняў 100-й авіябрыгады. Пражываў у г. Пушкіне Ленінградскай вобл. Арыштаваны 09.08.37. Асуджаны 14.09.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 20.09.37.

**Іосіф Антонавіч Курчэўскі** (1885 г. нар.), ураджэнец в. Заблоцце Свянцянскага павета Віленскай губ.; член ВКП(б) з 1927 да 1937 г. Дырэктар торфараспрацовак «Назія». Да арышту пражываў у г. Ленінградзе. Арыштаваны 14.09.37. Асуджаны 22.09.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 29.09.37. Праз месяц арыштаваны яго зямляк (магчыма, сваяк) **Франц Вікенцьевіч Курчэўскі** (1897 г. нар.), ураджэнец в. Заблоцце Свянцянскага пав. Віленскай губ.; беспартыйны. Інжынер «Дзіпралесхіма». Пражываў: Заячы завулак, д. 7, кв. 20. Арыштаваны 23.10.37. Асуджаны Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Абвінавачаны паводле арт. 58-1а-9 КК РСФСР. Расстраляны 24.11.37.

**Міхаіл Якаўлевіч Кулёнак** (1899 г. нар.), ураджэнец в. Пукені Вілейскага пав. Віленскай губ.; член ВКП(б) у 1926—1937 гг. Парторг цэха № 21 завода № 209 імя Кулакова. Пражываў на Марскім праспекце, Жылмасіў, корп. 5, кв. 67. Арыштаваны 23.11.37. Асуджаны 15.12.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 20.12.37.

Працэнт расстраляных жанчын параўнальна невялікі, аднак і яны пайшлі на смерць, як напрыклад, 61-гадовая жанчына-ўрач, якая прыехала ў Пецярбург яшчэ да рэвалюцыі:

**Феафіла Іванаўна Ражановіч** (1876 г. нар.), ураджэнка в. Востраў Навагрудскага пав. Мінскай губ.; беспартыйная. Зубны ўрач прыватнай практыкі. Пражывала ў г. Пушкіне Ленінградскай

[1] Ленинградский мартиролог. 1937—1938. Т. 1—8. СПб., 1994—2008. Карыстаючыся выпадкам, дзякуем за дапамогу галоўнаму рэдактару гэтага выдання члену беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Санкт-Пецярбургу Анатолю Разумаву.

вобл., вул. 1 Мая, д. 6, кв. 2. Арыштавана 06.09.37. Асуджана Асобай Тройкай УНКВД ЛА. Расстраляна 04.10.37.

Дзвюм самым маладым жанчынам-ахвярам споўнілася па 24 гады:

**Любоў Ісакаўна Ашэрава** (1913 г. нар.), ураджэнка г. Гомель (БССР), яўрэйка; беспартыйная. Начальнік узвода Упраўлення дэгазацыйных атрадаў «Осоавиахима» Ленінградскай вобл. Пражывала на вул. Чайкоўскага, д. 57/11, кв. 18. Арыштавана 08.08.37. Абвінавачанне паводле арт. 58-6-9-11 КК РСФСР. Расстраляна 05.11.37.

**Вікторыя Францаўна Уцан** (1913 г. нар.), ураджэнка г. Дзвінска, беспартыйная. Рахункавод ваенбуда пры 53-й авіябрыгадзе. Пражывала ў г. Чырвонагвардзейску, вул. Юнага Пралетарыя, д. 9, кв. 1. Арыштавана 08.09.37. Абвінавачанне паводле арт. 58-6 КК РСФСР. Расстраляна 24.10.37.

**Хвядора Піліпаўна Балашка-Кулак** (1898 г. нар.), ураджэнка в. Келевічы Ашмянскага пав. Віленскай губ.; беспартыйная. Кандуктар трамвайнага парка імя Скараходава. Жыла на вул. Целаева, д. 4, кв. 14. Арыштавана 20.10.37. Абвінавачанне паводле арт. 58-6-9 УК РСФСР. Расстраляна 15.11.37.

**Таццяна Раманаўна Бядзінская** (1897 г. нар.), ураджэнка в. Дайпоўка Ашмянскага пав. Віленскай губ.; беспартыйная. Швачка фабрыкі імя Валадарскага. Жыла на набярэнай р. Фантанкі, д. 25, кв. 25. Арыштавана 22.08.37. Абвінавачанне паводле арт. 58-6-11 КК РСФСР. Расстраляна 24.11.37.

**Фаіна Іосіфаўна Гурэвіч** (1897 г. нар.), ураджэнка г. Полацка, яўрэйка; член ВКП(б) у 1918—1936 гг., урач-неўролаг паліклінікі № 1 Свярдлоўскага раёна, былы мал. урач Навукова-выпрабавальнага артылерыйскага палігона. Пражывала: Васільеўскі востраў, 17-я лінія, д. 18, кв. 72. Арыштавана 04.06.37. Асуджана 22.08.37 Ваенным трыбуналам ЛВА. Абвінавачанне паводле арт. 58-7-8-9-11 КК РСФСР. Расстраляна 22.08.37.

**Марыя Іосіфаўна Дашкевіч** (1895 г. нар.), ураджэнка в. Козікі Полацкай акругі БССР; беспартыйная. Швачка фабрыкі «Бальшавічка». Жыла на В. Маскоўскай вул., д. 4, кв. 6. Арыштавана 28.07.37. Абвінавачанне паводле арт. 58-6-11 КК РСФСР. Расстраляна 06.10.37.

**Марфа Іванаўна Драневіч** (1891 г. нар.), ураджэнка в. М. Радванічы Брэст-Літоўскага пав. Гродзенскай губ.; член ВКП(б) у 1932—1937 гг., пенсіянерка. Пражывала на Днепрапятроўскай вул., д. 9, кв. 11. Арыштавана 20.10.37. Абвінавачанне паводле арт. 58-6. Расстраляна 20.12.37.

**Лідзія Андрэеўна Жылко** (1906 г. нар.), ураджэнка г. Сувалкі; беспартыйная. Бібліятэкар завода «Электраапарат». Пражывала: Васільеўскі востраў, 21-я лінія, д. 16, кв. 117. Арыштавана 21.09.37. Абвінавачанне паводле арт. 58-1а КК РСФСР. Расстраляна 20.12.37.



*Від на турму «Кресты». На пярэднім плане — помнік ахвярам палітычных рэпрэсій*

**Юлія Францаўна Іермак** (1888 г. нар.), ураджэнка в. Маркуны Віленскага пав. і губ.; беспартыйная. Арыштавана 21.08.37. Абвінавачанне паводле арт. 58-10 КК РСФСР. Расстраляна 24.10.37. у адзін дзень з мужам: **Адам Пятровіч Іермак** (1881 г. нар.), ураджэнец в. Маркуны Віленскага пав. і губ.; беспартыйны, устаноўшчык завода імя Кірава. Арыштаваны 24.08.37. Расстраляны 24.10.37.

**Надзея Мітрафанаўна Неўмяржыцкая (Рудніцкая Ганна Юзэфаўна)** (1910 г. нар.), ураджэнка в. Грабяні Лельчыцкага р-на БССР; беспартыйная. Прыбіральшчыца ў Краснагвардзейскім райсавеце. Жыла на вул. Камсамола, д. 12, кв. 11. Арыштавана 08.07.37. Расстраляна 24.11.37.

**Лідзія Парфёнаўна Харэўка** (1903 г. нар.), ураджэнка ст. Вілейка; беспартыйная. Бухгалтар аддзела капітальнага будаўніцтва фабрыкі «Чырвоны сцяг». Жыла на Сердабольскай вул., д. 25, кв. 3. Арыштавана 20.11.37. Абвінавачанне паводле арт. 58-1а КК РСФСР. Расстраляна 20.12.37.

**Рэйзла Саламонаўна Эйшышская** (1905 г. нар.), ураджэнка м. Воранава, яўрэйка; член КП Заходняй Беларусі, у 1927–1932 гг. студэнтка ЛДУ. Арыштавана 21.11.37. Абвінавачанне паводле арт. 58-6 КК РСФСР. Расстраляна 20.12.37.

Мы ўжо адзначалі, што каталікі — выхадцы з Беларусі ў Пецярбургу часта запісваліся палякамі. Асабліва гэта распаўсюджана было сярод насельнікаў былых Інфлянтаў (сучаснага Даўгаўпілса, Рэзэкнэ і блізкіх мясцовасцяў) — у былым сумеснага валодання Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага. На патрабаванне наркамаў Унутраных спраў аб выкрыцці і знішчэнні «шпіёнскіх сетак» старанныя службісты мусілі знаходзіць ворагаў усюды, іначай іх праца ацэньвалася адмоўна і яны самі падлягалі рэпрэсіям. Дзеля выканання загадаў з Крамля як ворагаў і шпіёнаў сталі трактаваць не толькі ўсіх асоб названых у загадах нацыянальнасцяў (палякаў, немцаў, эстонцаў), але, на згубу беларусам, і выхадцаў з тых земляў, некалі расейскіх, а пасля Першай сусветнай вайны і перадзелу мяжы, адданых Другой Рэчы Паспалітай. Горкая доля чакала ўсіх выхадцаў з беларускіх земляў Расійскай імперыі — гартаючы старонкі «Ленінградскага мартыралога», можна знайсці 2106 іх прозвішчаў. Шукаючы сваёй долі, яны аселі ў вялізнай на той час (ад Мурманска да Пскова) Ленінградскай вобласці. Часта гэта выхадцы з адной (суседніх) вёсак, якія дапамагалі адно аднаму замацавацца ў чужым асяроддзі, часам — сямейныя кланы. У плане нацыянальнай ідэнтыфікацыі тут нярэдка сустракаецца звычайная для Беларусі сітуацыя: адзін брат па дакументах — паляк, другі — беларус.

З расстраляных у жніўні-снежні 1937 г. беларусамі назвалі сябе 449 чалавек, сярод якіх ёсць і ўраджэнцы Пецярбурга. Гэта былі людзі з сем'яў, дзе памяталі дарэвалюцыйную беларускую культурна-асветніцкую дзейнасць, а магчыма і ўдзельнічалі ў ёй. Напрыклад, кампазітар Антон Грыневіч, якому лёсам было наканавана паміраць там, дзе пачынаў сваю выдавецкую і педагагічную музычную дзейнасць:

**Антон Антонавіч Грыневіч** (1877 г. нар.), ураджэнец хутара Іванаўшчына Лепельскага пав. Віцебскай губ.; беспартыйны. Кампазітар, у 1925–1928 гг. навуковы супрацоўнік Інстытута беларускай культуры ў Мінску. Адбываў пакаранне ў Салавецкай турме. Асуджаны 25.11.37 Асобай Тройкай УНКВД. Расстраляны 08.12.37.

Рэпрэсаваныя былі члены пецярбургскай галіны роду Бурачкоў:

**Уладзімір Яўгенавіч Бурачок** (1887–1943), марскі афіцэр. Камандаваў у 1919 г. атрадам савецкіх караблёў, якія забяспечвалі высадку дэсанта на Ладажскім возеры пры Відліцы, супраць белафінаў. За гэты бой быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. На пасадзе намесніка начальніка штаба пагранічных войск арганізаваў марскую пагранахову СССР. Пасля дэмабілізацыі ўзначаліў суднабудаўнічае прадпрыемства, на якім будаваліся караблі для пагранічнай службы. У 1938 г. арыштаваны і прыгавораны да сямі гадоў лагераў, дзе і памёр ад цынгі (рэабілітаваны ў 1956 г.).

Яго стрыечны брат **Мікалай Паўлавіч Бурачок** (1893–1938), капітан 1-га рангу, апошняя пасада — выкладчык Ваеннамарской акадэміі; таксама загінуў у ГУЛАГу.

**Мікалай Мацвеевіч Гайчук** (1902 г. нар.), ураджэнец Пецярбурга; беспартыйны. Прыёмшчык завода «Пнеўматыка». Жыў на Вялікай Пасадскай вул., д. 10, кв. 1. Арыштаваны 27.10.37. Асуджаны 09.11.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 15.11.37.

**Барыс Уладзіміравіч Радзько** (1909 г. нар.), ураджэнец Пецярбурга; беспартыйны. Шліфавальшчык 1-га грамафоннага завода. Жыў у Рыбацкім, праспект Валадарскага, д. 71, кв. 1. Арыштаваны 15.10.37. Асуджаны 03.11.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 10.11.37.

**Іосіф Іванавіч Сухалёт** (1902 г. нар.), ураджэнец Пецярбурга; беспартыйны. Механік НДІ № 10 Наркамата абароннай прамысловасці. Пражываў у г. Ленінградзе, Лігаўская вул., д. 44, кв. 720.

Арыштаваны 17.09.37. Асуджаны 22.11.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 27.11.37.

**Андрэй Аляксеевіч Чыжаўка** (1901 г. нар.), ураджэнец Пецярбурга; беспартыйны. Слесар зварачна-зборнага цэха вагонабудаўнічага завода імя Ягорава. Пражываў у г. Ленінградзе на пр. 25-га Кастрычніка (цяпер Неўскі праспект), д. 22/24, кв. 124. Арыштаваны 20.10.37. Асуджаны 03.11.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 10.11.37.

**Аляксей Лаўрэнавіч Шэвераў** (1916 г. нар.), ураджэнец Пецярбурга, беспартыйны. Студэнт Энергетычнага тэхнікума. Жыў з бацькамі: Васільеўскі востраў, 14-я лінія, д. 25. Арыштаваны 01.05.37. Асуджаны 15.08.37 Асобай Тройкай УНКВД ЛА. Расстраляны 17.08.37.

**Іван Сільвестравіч Шчарбіцкі** (1900 г. нар.), ураджэнец Пецярбурга, член ВКП(б) у 1927—1935 гг. Нарміроўшчык завода імя К. Маркса. Жыў на вуліцы Камсамола, д. 13, кв. 49. Арыштаваны 20.10.37. Асуджаны 03.11.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 10.11.37.

Большасць рэпрэсаваных беларусаў паходзяць з гарадоў і, пераважна, вёсак заходніх губерній Расійскай імперыі. Часткова гэта тыя, хто яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі выехаў на заробкі ў Пецярбург, і тыя, хто прыехаў вучыцца і працаваць ў прамысловы Ленінград ужо пасля 1917 г.

Значны працэнт выхадцаў з самых заходніх раёнаў рассялення беларусаў — з Бельскага і іншых заходніх паветаў Гродзенскай губерні і з Беластока:

**Аляксандр Іванавіч Валяшкевіч** (1897 г. нар.), ураджэнец г. Бельск-Падляска; беспартыйны. Загадчык лабараторыі фабрыкі «Пяцігодка». Жыў на праспекце Карла Лібкнехта, д. 19/21, кв. 35. Арыштаваны 05.09.37. Асуджаны 12.10.37. Расстраляны 17.10.37.

**Васіль Міхайлавіч Кандрацюк** (1906 г. нар.), ураджэнец в. Пухлава Бельскага павета Гродзенскай губ.; беспартыйны. Майстар цэха слабых токаў 5-й ГЭС. Жыў у Ленінградзе. Арыштаваны 31.08.37. Асуджаны 22.09.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 29.09.37.

**Канстанцін Піліпавіч Назарук** (1905 г. нар.), ураджэнец в. Крывая Бельскага пав. Гродзенскай губ.; беспартыйны. Інжынер канторы Лентранспраект. Пражываў на 7-й Чырвонаармейскай вул., д. 12, кв. 8. Арыштаваны 21.09.37. Асуджаны 14.12.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 20.12.37.

**Рыгор Андрэевіч Календа** (1898 г. нар.), ураджэнец в. Заліхані Бельскага павета, беспартыйны. Рэгуліроўшчык табачных машын фабрыкі ім. Клары Цэткін. Арыштаваны 29.08.37. Асуджаны 09.09.37. Абвінавачаны паводле арт. 58-6 КК РСФСР. Расстраляны 28.09.37.

**Васіль Міхайлавіч Нікалаюк** (1889 г. нар.), ураджэнец в. Лапухоўка Бельскага павета; член ВКП(б) у 1928—1929 гг. Прадавец папірос у кіёску. Пражываў на Васільеўскім востраве, Малый пр., д. 39, кв. 32. Арыштаваны 13.09.37. Асуджаны 15.12.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Абвінавачанне паводле арт. 58-10 КК РСФСР. Расстраляны 20.12.37.

**Уладзімір Міхайлавіч Фірасевіч** (1880 г. нар.), ураджэнец в. Самагруд Сакольскага пав. Гродзенскай губ.; беспартыйны. Загадчык бюро рэгулявання Цэнтральнай гарадской пасажырскай станцыі Акцябрскай чыгункі. Арыштаваны 29.09.37. Асуджаны 28.10.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 01.11.37.

**Якаў Васільевіч Грыбок** (1885 г. нар.), ураджэнец в. Паўночнае-Астрава Сакольскага павета; беспартыйны. Старшы тэхнік кроса Цэнтральнага тэлеграфа. Пражываў у г. Ленінградзе, Сярэдняя Пад'ячаская вул., д. 7, кв. 10. Арыштаваны 10.11.37. Асуджаны 15.12.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Абвінавачаны паводле арт. 58-6-11 КК РСФСР. Расстраляны 20.12.37.



*Сфінкс на набярэжнай Нявы — помнік ахвярам палітычных рэпрэсій*

Загад Яжова патрабаваў у першую чаргу рэпрэсаваць тых, хто працаваў у органах НКВД, Чырвонай Арміі, на ваенных заводах, у абаронных цэхах усіх іншых заводаў, на

чыгуначным, водным і паветраным транспарце, у электрасілавой гаспадарцы ўсіх прамысловых прадпрыемстваў, на газавых і нафтаперапрацоўчых заводах. У маскоўскім кабінеце былі вырашаны лёсы людзей, якія працавалі на шматлікіх нумарных заводах горада Леніна і ваколiных, напрыклад, на заводзе па вырабу пораху ў пасёлку Марозаўка ці Сестрарэцкім заводзе. Не ўсе вайскоўцы, транспартнікі адразу пайшлі пад расстрэл — ураджэнец Шчучына, дацэнт кафедры ўнутранай балістыкі Ленінградскай Артылерыйскай акадэміі Мірон Глобус, напрыклад, быў сасланы ў Томск, потым у Верхнеуральск Чэлябінскай вобласці і толькі там расстраляны. Ягоныя 25 вынаходніцтваў, сярод якіх аўтаматычная гармата для самалётаў, як і ягоныя 20 тэарэтычных прац, для НКВД не былі аргументам для захавання жыцця выхадцу з Заходняй Беларусі. Іншых далёка не высылалі, а судзілі на месцы і везлі на згубу ў Левашова:

**Міхаіл Канстанцінавіч Акінчыц** (1905 г. нар.), ураджэнец г. Старына Слуцкага раёна Мінскай вобл.; беспартыйны. Ваенурач 3 рангу, старшы ўрач 25-й эскадрыллі 100-й авіябрыгады ЛВА. Да арышту пражываў у г. Пушкін Ленінградскай вобл. Арыштаваны 08.09.37. Асуджаны 14.09.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 20.09.37.

**Іосіф Людвігавіч Бабіцкі** (1888 г. нар.), ураджэнец г. Барысава БССР; беспартыйны. Галоўны бухгалтар Балтыйскага марскога параходства. Арыштаваны 28.08.37. Асуджаны 22.09.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 26.09.37.

**Бранiслаў Канстанцінавіч Валькоўскі** (1890 г. нар.), ураджэнец хутара Дварэц Полацкага павета; беспартыйны. Брыгадзір электраманцёраў будупраўлення Гарздраўаддзела. Пражываў на Загарадным праспекце, д. 6, кв. 7. Арыштаваны 20.10.37. Асуджаны 15.11.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 21.11.37.

**Восіп Восіпавіч Вяржбіцкі** (1888 г. нар.), ураджэнец в. Агароднікі Гродзенскага пав. і губерні; беспартыйны. Інструктар газеты Пралетарскага паравозарамонтнага завода, былы супрацоўнік газеты «Балтыец» завода № 189 імя Арджанікідзе. Пражываў на Васільеўскім востраве, 2-я лінія, д. 61, кв. 56. Арыштаваны 01.11.37. Асуджаны 19.11.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 24.11.37.

**Ігнат Іванавіч Грышанаў** (1880 г. нар.), ураджэнец в. Навaселле Магілёўскага пав. і губерні; член ВКП(б) у 1917–1937 гг. Начальнік спецаддзела Ціхарэцкай лесаэкспартнай біржы ў Кірышскім раёне Ленінградскай вобл. Пражываў на вул. Воінава, д. 3, кв. 32. Арыштаваны 10.07.37. Асуджаны 16.12.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 20.12.37.

**Аляксей Восіпавіч Гузоўскі** (1903 г. нар.), ураджэнец мяст. Ціхінічы Рагачоўскага р-на БССР; член ВКП(б), выключаны ў 1937 г. Начальнік лабараторыі завода «Электраапарат». Пражываў на Петрапаўлаўскай вуліцы, д. 6, кв. 23. Арыштаваны 30.08.37. Асуджаны 01.10.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 06.10.37.

**Усцін Казіміравіч Жыткевіч** (1880 г. нар.), член ВКП(б) з 1925 г., выключаны ў 1937 г. у сувязі з арыштам. Прыёмшчык бюро кантролю матэрыялаў завода ўзрывальнікаў № 4. Арыштаваны 02.09.37. Асуджаны 09.09.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 15.09.37.

**Канстанцін Пятровіч Ігнатчык** (1892 г. нар.), ураджэнец в. Варошычы Наваградскага павета; беспартыйны. Арудыйны наводчык Марскога аддзела Навукова-выпрабавальнага артылерыйскага палігона. Пражываў у г. Ленінградзе. Арыштаваны 01.08.37. Асуджаны 31.08.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 15.09.37.

**Франц Вікенцьевіч Кляро** (1895 г. нар.), ураджэнец г. Віцебска; беспартыйны. Начальнік баявой падрыхтоўкі Петраградскага райсавета Асавіяхіма. Пражываў у г. Ленінградзе. Арыштаваны 28.10.37. Асуджаны 22.11.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 27.11.37.

**Аляксандр Андрэевіч Корбут** (1907 г. нар.), ураджэнец в. Засмужжа Любанскага р-на БССР; член ВКП(б) выключаны ў 1937 г. у сувязі з арыштам. Слухач Артылерыйскай акадэміі РККА. Арыштаваны 03.09.37. Асуджаны 09.09.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 28.09.37.

**Юлій Міхайлавіч Плюто** (1900 г. нар.), ураджэнец в. Курдзікі Віленскага пав. і губерні; беспартыйны. Інжынер-мантажнік завода «Электрык». Пражываў на Васільеўскім востраве, 6-я лінія,



*Помнік ахвярам палітычных рэпрэсій у Левашове*

д. 51, кв. 20. Арыштаваны 27.07.37. Асуджаны 02.12.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 10.12.37.

**Міхаіл Міхайлавіч Ракевіч** (1904 г. нар.), ураджэнец в. Клепачы Гродзенскай губ.; член ВКП(б), у 1930—1937 гг. слухач Ваенна-медыцынскай акадэміі. Арыштаваны 28.09.37. Асуджаны 02.12.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 08.12.37.

**Пётр Пятровіч Рогач** (1883 г. нар.), ураджэнец в. Каралеўцы Свянцянскага пав. Віленскай губ.; член ВКП(б), у 1924—1937 гг. начальнік рамонтнага поезда ст. Ленінград Варшаўскай лініі Акцябрскай чыгункі. Пражываў на 12-й Чырвонаармейскай вуліцы, д. 14, кв. 15. Арыштаваны 24.09.37. Асуджаны 15.11.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 21.11.37.

**Уладзімір Васільевіч Савіцкі** (1903 г. нар.), ураджэнец пас. Любуша Невельскага пав. Віцебскай губ.; беспартыйны. Памочнік пракурора Балтыйскага марскога і Паўночна-Заходняга рачнога басейнаў. Пражываў на 2-й Савецкай вуліцы, д. 27, кв. 18. Арыштаваны 22.10.37. Асуджаны 16.12.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 20.12.37.

**Мікалай Ільіч Страковіч** (1910 г. нар.), ураджэнец в. Манцюты Слонімскага пав. Гродзенскай губ.; беспартыйны. Канструктар аддзела галоўнага энергетыка завода № 6 імя Марозава Ленінградскай вобл. Пражываў у пас. імя Марозава Усевалажскага р-на Ленінградскай вобл. Арыштаваны 27.07.37. Асуджаны 03.11.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 10.11.37.

**Уладзімір Аляксеевіч Стальмашук** (1892 г. нар.), ураджэнец в. Непаражнеўцы Гродзенскага пав. і губ.; беспартыйны. Начальнік планава-вытворчага аддзела завода «Эталон». Пражываў на Васільеўскім востраве, 3-я лінія, д. 20, кв. 55. Арыштаваны 23.09.37. Асуджаны 18.10.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 24.10.37.

**Міхаіл Іванавіч Цімашкоў** (1906 г. нар.), ураджэнец в. Барань Аршанскага р-на БССР. Старшы памочнік камандзіра лінкора «Октябрьская революция», капітан-лейтэнант. Пражываў у г. Кранштаце. Арыштаваны 16.09.37. Асуджаны 10.12.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 16.12.37.

**Канстанцін Васільевіч Цяляк** (1887 г. нар.), ураджэнец в. Целякі Дзісненскага пав. Віленскай губ.; беспартыйны. Памочнік начальніка ст. Ленінград Фінляндскай лініі Акцябрскай чыгункі. Пражываў на ст. Занеўскі Пост. Арыштаваны 12.09.37. Асуджаны 28.09.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 06.10.37.

**Пётр Рыгоравіч Штыцко** (1902 г. нар.), ураджэнец г. Ліды; член ВКП(б). Начальнік санітарнай службы 100-й авіябрыгады. Арыштаваны 27.10.37. Асуджаны 02.12.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 08.12.37.

**Нікіфар Якаўлевіч Шубадзееў** (1899 г. нар.), ураджэнец в. Машок Чавускага р-на Магілёўскай акругі; член ВКП(б) у 1920—1937 гг. Шыфрработнік Наркамзнешгандлю. Арыштаваны 07.05.37. Асуджаны 02.12.37 Выязной сесіяй Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР у г. Ленінградзе. Расстраляны 02.12.37.

**Міхаіл Васільевіч Якаўлеў** (1899 г. нар.), ураджэнец г. Коўна; беспартыйны. Паравозны машыніст дэпо ст. Ладзейнае Поле Кіраўскай чыгункі. Пражываў па месцы працы. Арыштаваны 26.10.37. Асуджаны 15.11.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 21.11.37.

**Вікенцій Міхайлавіч Яновіч** (1884 г. нар.), ураджэнец в. Дамуці Свянцянскага пав. Віленскай губ.; беспартыйны. Памочнік машыніста дэпо ст. Луга Акцябрскай чыгункі. Пражываў у г. Луга, Кіеўская вул., д. 18. Арыштаваны 05.10.37. Асуджаны 12.10.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 17.10.37.

**Антон Пятровіч Яноўскі** (1911 г. нар.), ураджэнец г. Мінска; беспартыйны. Старшы авіятэхнік 2-й разведвальнай эскадрыллі 3-й авіябрыгады. Арыштаваны 28.06.37. Асуджаны 02.12.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 08.12.37.

**Хведар Цярэнцьевіч Грыбаў** (1905 г. нар.), ураджэнец в. Грыбы Гарадоцкага р-на БССР; беспартыйны. Брыгадзір цэха № 4 завода імя Марозава. Пражываў у пас. імя Марозава Усевалажскага р-на Ленінградскай вобл., вул. Хесіна, д. 9, кв. 13. Арыштаваны 30.10.37. Асуджаны 22.11.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Абвінавачаны паводле арт. 58-9 КК РСФСР. Расстраляны 27.11.37.

**Мікалай Парфёнавіч Руселo** (1892 г. нар.), ураджэнец Мінскай губ.; беспартыйны. Качагар завода № 6 імя Марозава. Пражываў у пас. імя Марозава Усевалажскага р-на Ленінградскай вобл., вул. 1 Мая, д. 5, кв, 46. Арыштаваны 29.11.37. Асуджаны 15.12.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Абвінавачаны паводле арт. 58-7-9-11 КК РСФСР. Расстраляны 20.12.37.

**Трафім Хведаравіч Шашлакоў** (1889 г. нар.), ураджэнец в. Шэцькі Гарадоцкага пав. Віцебскай губ.; беспартыйны. Слесар завода № 6 імя Марозава. Арыштаваны 01.11.37. Асуджаны 22.11.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Абвінавачаны паводле арт. 17-58-8-9, 58-11 КК РСФСР. Расстраляны 27.11.37.

**Ігнат Кліменцьевіч Грыгарук** (1882 г. нар.), ураджэнец в. Гацькі Бельскага пав. Гродзенскай губ.; беспартыйны. Слесар завода № 189. Пражываў: на Васільеўскім востраве, 12-я лінія, д. 9, кв. 1. Арыштаваны 21.09.37. Асуджаны

10.10.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Абвінавачаны паводле арт. 58-6 КК РСФСР. Расстраляны 15.10.37.

**Станіслаў Іванавіч Грахольскі** (1892 г. нар.), ураджэнец в. Кіўзлі Люцынскага павета Віцебскай губ.; беспартыйны. Слесар завода № 189 імя Арджанікідзе. Арыштаваны 02.09.37. Асуджаны 23.09.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Абвінавачаны паводле арт. 58-9-11 КК РСФСР. Расстраляны 28.09.37.

**Якаў Сямёнавіч Градоўскі** (1895 г. нар.), ураджэнец в. Дварышча Віцебскага пав. і губ.; член ВКП(б) у 1925—1937 гг. Майстар завода № 7. Пражываў у пас. Вольгіна Ленінградскай вобл., пр. Калініна, д. 35, кв. 4. Арыштаваны 06.11.37. Асуджаны 15.11.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Абвінавачаны паводле арт. 58-6-9-11 КК РСФСР. Расстраляны 21.11.37.

**Павел Паўлавіч Дземідовіч** (1912 г. нар.), ураджэнец г. Дзвінска; беспартыйны. Чырвонаармеец 113-га асобнага будаўнічага батальёна. Арыштаваны 06.10.37. Асуджаны 22.11.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Абвінавачаны паводле арт. 19-58-9, 58-10-11 КК РСФСР. Расстраляны 27.11.37.

**Леанід Міхайлавіч Дзік** (1907 г. нар.), ураджэнец в. Хаценгенцы Віленскага пав. і губ.; беспартыйны. Агент па назіранні за разгрузкай вагонаў ст. Ленінград—Ганддёвы порт. Пражываў на Падольскай вуліцы, д. 14, кв. 12. Арыштаваны 21.08.37. Асуджаны 12.10.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Абвінавачаны паводле арт. 58-6 КК РСФСР. Расстраляны 17.10.37.

**Васіль Георгіевіч Каўганкін** (1895 г. нар.), ураджэнец в. Лосвіда Віцебскага пав. і губ.; беспартыйны. Інжынер цэха № 3 завода № 103. Пражываў на плошчы Астроўскага, д. 9, кв. 39. Арыштаваны 25.08.37. Асуджаны 15.11.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Абвінавачаны паводле арт. 58-1а-9 КК РСФСР. Расстраляны 21.11.37.

**Міхаіл Арцем'евіч Казлоў** (1893 г. нар.), ураджэнец в. Перавоз Расонскага р-на БССР; беспартыйны. Плотнік завода № 7. Пражываў у Новым Пецергофе, вул. Валадарскага, д. 8, кв. 13. Арыштаваны 29.08.37. Асуджаны 20.09.37 Асобай Тройкай УНКВД ЛА. Абвінавачаны паводле арт. 58-10 КК РСФСР. Расстраляны 24.09.37.

**Міхаіл Міхайлавіч Казлоўскі** (1902 г. нар.), ураджэнец в. Пераброддзе Віленскай губ.; член ВКП(б) у 1925—1937 гг. Начальнік спецчасткі Ленінградскага інстытута інжынераў прамысловага будаўніцтва, былы упаўнаважаны Гдоўскага пагранатрада НКВД. Пражываў на канале Грыбаедава, д. 89, кв. 3. Арыштаваны 25.08.37. Асуджаны 14.12.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Абвінавачаны паводле арт. 58-6-10 КК РСФСР. Расстраляны 20.12.37.

**Віктар Мікалаевіч Савіцкі** (1890 г. нар.), ураджэнец в. Малажань Барысаўскага пав. Мінскай губ.; член ВКП(б) у 1925—1937 гг. Старшы прыёмшчык спецзаказаў фабрыкі «Пралетарская перамога» № 1. Пражываў на Агародным завулку, д. 64, кв. 7. Арыштаваны 15.10.37. Асуджаны 28.10.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 01.11.37.

**Міхаіл Антонавіч Сак** (1902 г. нар.), ураджэнец г. Беластока; беспартыйны. Токар 5-га цэха завода № 181. Пражываў у г. Ленінградзе, ст. Удзельная. Арыштаваны 16.09.37. Асуджаны 22.09.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 29.09.37.

**Сцяпан Пятровіч Севярынаў** (1906 г. нар.), ураджэнец в. Выдрыца Аршанскай акругі БССР; член ВКП(б) у 1927—1937 гг. Інжынер электрасеткі Ленэнерга. Пражываў на Вялікай Пушкарскай вуліцы, д. 1, кв. 8. Арыштаваны 27.10.37. Асуджаны 10.12.37 Асобай Тройкай УНКВД ЛА. Абвінавачаны паводле арт. 19-58-8-10 КК РСФСР. Расстраляны 14.12.37.

**Іван Маркавіч Сідаркевіч** (1909 г. нар.), ураджэнец в. Туркаўшчына Маладзечанскага р-на БССР; беспартыйны. Піраметрыст Пралетарскага завода. Пражываў на пр. 25-га Кастрычніка, д. 93, кв. 7. Арыштаваны 20.09.37. Асуджаны 10.10.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Абвінавачаны паводле арт. 58-6 КК РСФСР. Расстраляны 14.10.37.

**Мікалай Іванавіч Станкевіч** (1903 г. нар.), ураджэнец г. Мінска; беспартыйны. Начальнік электрацэха завода № 7. Да арышту пражываў у г. Ленінградзе. Арыштаваны 21.08.37. Асуджаны 14.09.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Абвінавачаны паводле арт. 58-6-10-11 КК РСФСР. Расстраляны 20.09.37.

Сярод закатаваных ленінградцаў беларускага паходжання ёсць людзі, якія атрымалі прафесійную (часам вышэйшую) адукацыю і прасунуліся па службовай лесвіцы. Аднак большаць былі простыя работнікі самых розных спецыяльнасцяў: слесары і маляры, шафёры, прадаўцы піва, лазеншчыкі, прадаўцы магазінаў, кандуктары на чыгунцы і вагонаважатыя трамваяў, ветэрынары і пратэзісты, пекары і домакіраўнікі, механікі і электраманцёры, бухгалтары, касіры і інкасатары.

**Касьма Данілавіч Барсукоў** (1903 г. нар.), ураджэнец в. Макраны Бешанковіцкага р-на БССР; член ВКП(б) у 1925—1937 гг. Начальнік планава-фінансавага аддзела Ленаблзу. Пражываў на 7-й Чырвонаармейскай вуліцы, д. 1, кв. 16. Арыштаваны 30.06.37. Асуджаны 30.11.37

Выязной сесіяй Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР у г. Ленінградзе. Расстраляны 30.11.37.

**Хведар Сямёнавіч Буйко** (1897 г. нар.), ураджэнец в. Казакі Дзісненскага павета Віленскай губ.; беспартыйны. Камендант 1-га Ленінградскага медыцынскага інстытута. Пражываў у г. Ленінградзе. Арыштаваны 02.09.37. Асуджаны 22.09.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 29.09.37.

**Адам Віктаравіч Галынскі** (1883 г. нар.), ураджэнец в. Старыцы Слуцкага павета Мінскай губ.; член ВКП(б) да 1937 г. Майстар завода «Красный треугольник». Арыштаваны 29.05.37. Асуджаны 03.09.37 Асобай Тройкай УНКВД ЛА. Расстраляны 06.09.37.

**Міхаіл Лук'янавіч Грышэль** (1904 г. нар.), ураджэнец в. Крывіца Мінскага пав. і губерні; беспартыйны. Начальнік забяспячэння трэста сталовых Васілеастроўскага р-на. Арыштаваны 19.10.37. Асуджаны 02.12.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 10.12.37.

**Канстанцін Пятровіч Залескі** (1902 г. нар.), ураджэнец г. Слуцка; беспартыйны. Ветэрынарны ўрач. Да арышту пражываў у г. Ленінградзе. Арыштаваны 03.09.37. Асуджаны 22.09.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 29.09.37.

**Павел Рыгоравіч Сташкевіч** (1904 г. нар.), ураджэнец г. Быхава; беспартыйны. Старшыня райплана Араніенбаўмскага райвыканкама. Пражываў у г. Араніенбаўм, Параходная вул., д. 5. Арыштаваны 03.08.37. Асуджаны 10.12.37 Асобай Тройкай УНКВД. Расстраляны 14.12.37.

**Сямён Данілавіч Стэфановіч** (1898 г. нар.), ураджэнец в. Рускае Сяло Свянцянскага павета Віленскай губ.; беспартыйны. Слухач Прамакадэміі. Арыштаваны 31.07.37. Асуджаны 22.09.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 29.09.37.

**Адам Сідаравіч Тарасенка** (1905 г. нар.), ураджэнец в. Стапурэва Аршанскага р-на; член ВКП(б) у 1928—1937 гг. Слухач Інстытута чырвонай прафесуры, былы загадчык планавага аддзела «Леноблзу». Пражываў на вуліцы Маякоўскага, д. 15, кв. 14. Арыштаваны 05.07.37. Асуджаны 08.09.37 Выязной сесіяй Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР у г. Ленінградзе і ў гэты ж дзень расстраляны.

Няшчасны клан Трафімовічаў з вёскі Бандары (землякі, а магчыма, і сваякі). Гэтых людзей сабралі з розных месцаў (Ленінград, Ленінградская вобласць, Віцебск) у адзін дзень (31 жніўня 1937 г.) судзіла Камісія НКВД і Пракуратуры СССР і ў адзін дзень (15 верасня) былі расстраляны:

**Васіль Паўлавіч Трафімовіч** (1911 г. нар.), ураджэнец в. Бандары Слуцкага р-на БССР; беспартыйны. Настаўнік сярэдняй школы Фрунзенскага р-на г. Ленінграда. Да арышту пражываў у г. Ленінградзе. Арыштаваны 17.02.37.

**Максім Пракопавіч Трафімовіч** (1904 г. нар.), ураджэнец в. Бандары Слуцкага р-на БССР; беспартыйны. Па адукацыі ветэрынарны ўрач, часова не працаваў. Да арышту пражываў у г. Ленінградзе. Арыштаваны 18.03.37.

**Пётр Іванавіч Трафімовіч** (1905 г. нар.), ураджэнец в. Бандары Слуцкага р-на БССР; беспартыйны. Брыгадзір вапнавага завода ў г. Віцебску. Да арышту пражываў тамсама. Арыштаваны 22.02.37.

**Пракопій Мацвеевіч Трафімовіч** (1917 г. нар.), ураджэнец в. Бандары Слуцкага р-на БССР; беспартыйны. Студэнт Ленінградскага дзяржаўнага універсітэта. Да арышту пражываў у г. Ленінградзе. Арыштаваны 13.02.37.

**Сямён Паўлавіч Трафімовіч** (1913 г. нар.), ураджэнец в. Бандары Слуцкага р-на БССР; беспартыйны. Настаўнік сярэдняй школы ў пас. Орэдзеж Ленінградскай вобл. Да арышту пражываў тамсама. Арыштаваны 04.04.37.

**Вітольд Адамавіч Філіповіч** (1903 г. нар.), ураджэнец в. Старава Слуцкага павета Мінскай губ.; беспартыйны. Старшы інжынер Дзіпралестрансу. Да арышту пражываў у г. Ленінградзе. Арыштаваны 01.09.37. Асуджаны 14.09.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 20.09.37.

**Нестар Маркавіч Чопчыц** (1896 г. нар.), ураджэнец в. Ковічы Мозырскага пав. Мінскай губ.; беспартыйны. Старшы эканаміст трэста Цеплабуд. Пражываў на Свячным завулку, д. 27, кв. 51. Арыштаваны 20.10.37. Асуджаны 19.11.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 24.11.37.

**Канстанцін Мікалаевіч Шчапаноўскі** (1879 г. нар.), ураджэнец г. Рэчыца Мінскай губ.; беспартыйны. Рэвізор аддзела фінансаў па даходах Кіраўскай чыгункі. Пражываў у г. Ленінградзе. Арыштаваны 22.08.37. Асуджаны 22.09.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 26.09.37.

**Вадзім Мітрафанавіч Юзвюк** (1904 г. нар.), ураджэнец в. Сувораўскі Штаб Беластоцкага пав. Гродзенскай губ.; беспартыйны. Урач Тархоўскага санаторыя ЛВА. Пражываў у г. Ленінградзе, вул. Пестэля, д. 11, кв. 85. Арыштаваны 03.10.37. Асуджаны 02.12.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 08.12.37.

**Канстанцін Пятровіч Юрчык** (1890 г. нар.), ураджэнец в. Ваўковічы Наваградскага пав. Мінскай губ.; беспартыйны. Старшы кандуктар пасажырскіх паяздоў ст. Ленінград—Варшаўскай лініі Акцябрскай чыг. Пражываў у г. Ленінградзе, 11-я Чырвонаармейская вул., д. 16, кв. 17. Арыштаваны 26.08.37. Асуджаны 10.10.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 14.10.37.[1]

[1] У 1943 г. фашысты растралялі Юрчыка ў Ваўковічах. — Ці не сваяк?

У прамысловым прыгарадзе Ленінграда Колпіне за жнівень-снежань 1937 г. расстраляна 30 беларусаў. З іх 27 працавалі на Іжорскім заводзе: малатабоец і маляр, лістапракатчык і вальцоўшчыкі, тэхнік-планіроўшчык і бухгалтар, стругальшчык і рабочы трубнага цэха, начальнік службы пуцей транспартнага цэха і слесар. Беспартыйнага цесляра **Андрэя Клімука** (1878 г. нар.), ураджэнца в. Крынкі Брэст-Літоўскага пав. Гродзенскай губ., арыштавалі 06.11.1937 г. як былога псаломшчыка Троіцкага сабора і царквы на колпінскіх могілках (пражываў у г. Колпіна, Красная вул., д. 40, кв. 1.), праз месяц ён быў асуджаны, расстраляны 14.12.1937.

Другога верасня 1937 г. забралі беспартыйнага сталявара Іжорскага завода **Івана Сямёнавіча Пятроўскага** (1882 г. нар., ураджэнец вёскі Кавалеўшчына Дзісненскага павета), 10 верасня схапілі двух яго сыноў: малодшага Андрэя — слесара і старэйшага Івана — майстра механічнага цэха № 7 (абодва нарадзіліся ў Дзісне, у 1908 і 1905 г. адпаведна). Праз тры дні ўсіх іх судзілі, а яшчэ праз тыдзень расстралялі.

Расстраляныя ў Колпіне беларусы паходзяць пераважна з вёсак Мінскага, Вілейскага, Хойніцкага, Круглянскага, Дзісненскага, Свянцянскага, Наваградскага, Расонскага, Віленскага паветаў і толькі трое гараджан — ураджэнец Вільні **Фама Антонавіч Барэйка** (было 49 гадоў), ураджэнец Гомеля **Уладзімір Пятровіч Васілеўскі** (было 56 гадоў) і 25-гадовы **Яўстах Сцяпанавіч Протас**, які нарадзіўся ў Рызе.

Толькі чацвёра колпінцаў былі партыйныя: пасадчык цэха № 12 **Юліян Сямёнавіч Бондал**, ураджэнец в. Кісялёва Лепельскага павета; вальцоўшчык сталепракатнага цэха **Адольф Адамавіч Пілюшын**, ураджэнец в. Родзікі з Асвейшчыны; каваль цэха № 17 **Хвядос Сцяпанавіч Слабейка**, ураджэнец в. Галавенчыца Стаўпецкага павета і вальцоўшчык сталепракатнага цэха **Уладзімір Хведаравіч Трубач**, ураджэнец в. Слабада Віленскага павета. Партыйным дасталося гнеўнае асуджэнне і абструкцыя былых аднапартыйцаў. Іх кляймілі на партыйных сходах, потым цырыманіяльна выключалі як нявартых з партыі і толькі потым кідалі ў агульны для ўсіх д'ябальскі млын. Маральныя пакуты гэтых людзей былі большымі чым у астатніх, беспартыйных.

**Павел Антонавіч Янчылін** (1912 г. нар.), ураджэнец в. Грыбы Багушэўскага р-на БССР; беспартыйны. Начальнік мантажнай групы Ваенэнергабуду. Пражываў на ст. Іжоры Кіраўскай чыгункі, Сац. гарадок, д. 4, кв. 4. Арыштаваны 05.10.37. Асуджаны 02.11.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Абвінавачаны паводле арт. 58-6 КК РСФСР. Расстраляны 10.11.37.

**Аляксей Антонавіч Янчылін** (1917 г. нар.), ураджэнец в. Грыбы Багушэўскага р-на БССР; беспартыйны. Культработнік заўкама завода Металургбуд. Пражываў на ст. Іжоры Кіраўскай чыгункі, Сац. гарадок, д. 4, кв. 4. Арыштаваны 23.10.37. Асуджаны 12.11.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Расстраляны 18.11.37.

**Рыгор Купрыянавіч Янчылін** (1887 г. нар.), ураджэнец в. Грыбы Сенненскага р-на БССР; беспартыйны. Слесар-інструментальшчык вагонарамонтнага пункта ст. Хвойная Кіраўскай чыгункі. Пражываў па месцы працы. Арыштаваны 02.07.37. Асуджаны 28.10.37 Камісіяй НКВД і Пракуратуры СССР. Абвінавачаны паводле арт. 58-7-9-11 КК РСФСР. Расстраляны 05.11.37.



*Члены беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Пецярбургу каля помніка ахвярам палітычных рэпрэсій у Левашове*

Сярод гуманітарыяў з пачатку 1930-х гадоў асабліва цяжка было тым, хто не мог ці не хацеў паслядоўна «вагацца разам з лініяй» пануючай бальшавіскай партыі. Напрыклад — літаратар **Павел Прўднікаў.** Нарадзіўся ён (14.07.1911) у вёсцы Стары Дзедзін Клімавіцкага раёна. Працоўны шлях Павел пачаў у 1930 г. на Магілёўскай шаўковай фабрыцы, працаваў на рэспубліканскай кніжнай базе ў Мінску грузчыкам на станцыі Мінск–Тварная. У 1932 г. выйшаў яго першы паэтычны зборнік «Песні грузчыкаў», тады ж маладога паэта накіравалі вучыцца ў Ленінград. У 1937 г. Павел Пруднікаў скончыў Ленінградскі педагагічны інстытут імя Бубнава (Пакроўскага), а 11.08.1937 г. быў арыштаваны, 4 месяцы праседзеў у «Крестах»

(старая, яшчэ царская турма на Арсенальнай набярэжнай, пабудаваная з карпусоў у форме крыжоў) каб атрымаць прысуд: 10 гадоў лагераў. Былы ленінградскі студэнт паехаў у Бурацію, потым па этапу ў Нарыльск і Енісейск.

У пачатку 1934 г. НКВД арганізавала «справу славістаў», па якой толькі ў Ленінградзе 35 чалавек былі асуджаны на лагеры і ссылку. Прынамсі, В. Н. Караблёву дзесяць гадоў лагераў замянілі на ссылку ў Казахстан. Супрацоўнік Інстытута славяназнаўства, літаратуразнавец **Мікалай Краўцоў** (1906–1980)[1] быў асуджаны на 5 гадоў.

Адзін з лідэраў Сусветнага Камуністычнага інтэрнацыянала балгарын Г. М. Дзмітраў у жніўні 1935 г. на 7-м кангрэсе Камінтэрна зрабіў безапеляцыйную заяву аб тым, што славянская філалогія знаходзіцца на шляху фашызацыі. Гэтая фармулёўка стала падставай для рэпрэсій, у савецкай навуцы перамаглі негатыўныя для славістыкі тэндэнцыі. Ленінградскі Інстытут славяназнаўства Акадэміі навук у 1934 г. быў пераведзены ў Маскву, а ў 1936 г. зачынены Кабінет славяназнаўства БАН, кніжным фондам якога загадваў беларус **Канстанцін Аляксеевіч Пушкарэвіч** (1890–1942), старшы навуковы супрацоўнік зачыненага Інслава.



*Пляменніца Івана і Антона Луцкевічаў Марыя Аляксандраўна Чапялёва перажыла рэпрэсіі і ў 2006 годзе сустракала сваё 95-годдзе на паседжанні Беларускага грамадска-культурнага таварыства*

Пад рэпрэсіі трапіў у маладосці і ўраджэнец Чавусаў Магілёўскай губерні **Павел Піліпавіч Губчэўскі** (1909–1989). У маладога чалавека рана памёр бацька, прыйшлося з маладзецтва працаваць чарнарабочым і малатабойцам у чавускіх механічных майстэрнях, пазней разам з маці пераехалі ў Горкі, дзе Павел Губчэўскі працаваў на будоўлі карпусоў сельгасакадэміі. Вучыўся ў Мінскім фізкультурным тэхнікуме, працаваў загадчыкам шахматна-шашачнай секцыі ў навукова-метадычным камітэце Вышэйшага савета фізічнай культуры БССР, завочна вучыўся на літаратурным аддзяленні Мінскага педагагічнага інстытута. Пасля заканчэння стаў супрацоўнікам аддзела камплектавання Дзяржаўнай бібліятэкі БССР. У 1935 г. быў асуджаны на 4 гады за службовы праступак, пакаранне адбываў на рудніку Райчыха Бурэннскага раёна ДВК. Вызваліўшыся ў 1937 г., Павел Губчэўскі прыехаў у Ленінград, скончыў курсы экскурсаводаў у Дзяржаўным Эрмітажы і ўжо да смерці лёс яго быў звязаны з гэтым музеем. Працаваў экскурсаводам, малодшым навуковым супрацоўнікам. У гады вайны займаўся эвакуацыяй калекцый. Застаўся ў блакадным горадзе, як адзін з супрацоўнікаў-ахоўнікаў музея. Пасля вайны працаваў (1958–1960 гг.) загадчыкам навукова-асветнага аддзела Эрмітажа, быў аўтарам больш за 30 пуцевадзіцеляў і навуковых артыкулаў, выдаў два тамы альбома заходнееўрапейскага жывапісу. З 1971 да выхаду на пенсію ў 1977 г. узначальваў сацыялагічны сектар, які займаўся вывучэннем наведвальнікаў буйнейшага ў горадзе музея.

Адным з рэпрэсаваных (сасланых) у 1934 г. быў студэнт-гісторык **Мікалай Мікалевіч Улашчык**. Вярнуўся ў Ленінград у 1939 г., працаваў настаўнікам у школе, здаў экзамены ў аспірантуру. У 1941 г. ізноў арыштаваны, высланы ў г. Златавуст. Выйшаў у 1943 г. Пазней гэты даследчык напісаў некалькі цудоўных манаграфій і падрыхтаваў навуковае выданне ўсіх беларускіх летапісаў. Выданне гэтае магло б быць адмысловым двутамовікам, але савецкія гісторыкі непахісна прывязалі беларускую гісторыю да маскоўскай: кніжкі з

[1] У 1939–1959 гг. М. І. Краўцоў працаваў у Тамбоўскім педагагічным інстытуце, пазней стаў прафесарам Маскоўскага універсітэта, старшынёй навуковага савета па фальклоры пры Аддзяленні мовы і літаратуры АН СССР.

беларускімі летапісамі і хронікамі выйшлі як 32 і 37 тамы серыі «Поўны збор рускіх летапісаў».

Вакол рэпрэсаваных асоб улады стваралі атмасферу сакрэтнасці, практыкавалася высылка без права перапіскі, часта расстраляных запісвалі як памёрлых ад якой-небудзь хваробы, індывідуальна месца пахавання чалавека звычайна не фіксавалася; іх сем'і цярпелі афіцыйны недавер і асуджэнне. Ужо ў эпоху галоснасці (якая пачалася кінафільмам «Пакаянне») і перабудовы жаданне людзей ведаць, дзе знаходзіцца магіла рэпрэсаванага сваяка, прывяло да ўзнікнення мемарыяльных могілак на месцы масавых пахаванняў расстраляных ахвяраў рэпрэсій. Паколькі індывідуальных магіл у Левашове няма, былі пастаўлены калектыўныя помнікі па нацыянальнасцях: нямецкі, фінскі, украінскі, польскі, рускі, эстонскі, яўрэйскі... Паставілі і беларусы, разам з літоўцамі, адны з першых. Месца на Левашоўскіх могілках выбраў Анатоль Разумаў, эскіз помніка распрацаваў Іван Чэрнякевіч. Меліся паставіць помнік у кастрычніку, але прыціснулі маразы і вялізны дубовы крыж з цярновым вяночкам з калючага дроту ўсю зіму прастаяў у сховішчы Газетнага аддзела РНБ на Фантанцы, 36. Крыж паставілі 8 мая: было цёпла і ясна, сабралася шмат людзей. Пакуль крыж ляжаў на зямлі, жалобную малітву праспяваў кантар Пецярбургскай харальнай сінагогі, а калі яго паставілі, пачалася сумесная богаслужба каталіцкага і праваслаўнага свяшчэннікаў. З таго часу гэты помнік рэгулярна наведваюць члены беларускага грамадска-культурнага таварыства — штогод, на Дзяды. Але ўзніклі і іншыя віды пахавання. Вось як апісвае магілу сваіх бацькоў палкоўнік, палітработнік-камуніст Аркадзь Пінчук, ураджэнец Василевічаў Гомельскай вобласці:

«Ёй (*гутарка пра маці А. Пінчука, падзеі адбываюцца ў 1999 г. — М.Н.*) было дзевяноста сем гадоў, калі яна прыехала цягніком у Пецярбург на маё сямідзесяцігоддзе. Увесь вечар праседзела у кавярні за сталом, выпіла пару чарак гарэлкі, добра прыкусвала, спявала разам з усімі песні, здзіўляючы маіх гасцей. Памерла, не дажыўшы да ста гадоў дзесяць месяцаў. Пахавалі мы яе на Сестрарэцкіх могілках пад Пецярбургам. Там ужо ляжаць бабуля Ева, брат Іван, там жа магіла бацькі. Побач з ім, пад адным помнікам, супакоілася і маці — Марыя Раманаўна.

...Скажу некалькі слоў пра бацьку. Арыштавалі яго ў 1937 годзе, у 1955 годзе на мае запыты адказалі, што ён памёр ад рака страўніка. Рэабілітавалі пасмяротна. А потым я атрымаў новы дакумент аб яго смерці: Фёдар Пінчук быў расстраляны ў 1938 годзе і пахаваны ў брацкай магіле на Пяцелінскіх могілках горада Кірава. У Кіраве жыве мой сябра, Валянцін Чвікаў. Я папрасіў яго ўзяць з гэтай магілы зямелькі і прысласць мне. Ён хутка выканаў маю просьбу. Мой старэйшы брат Васіль «прайшоўся» па начальству, атрымаў дазвол на кавалак зямлі для бацькі на Сестрарэцкіх могілках. Атрыманую з Кірава зямлю я запакаваў у снарадную гільзу, уклаў туды копіі ўсіх дакументаў, фатаграфіі, развітальную запіску. Заліў гарлавіну гільзы воскам, упакаваў яе ў пластмасавую скрынку і з поўным усведамленнем у рэальнасці ўсяго, што адбываецца, пахаваў бацьку. Наведваючы яго магілу, я ні разу не падумаў, што тут захаваны толькі шэры пясочак. Я прыходжу на сустрэчу з бацькам»[1].

[1] *Пинчук А.* Белый аист летит. СПб., 2004. С. 342–343.

# ДРУГАЯ СУСВЕТНАЯ ВАЙНА. БЛАКАДА



# Раздзел 13.

## ДРУГАЯ СУСВЕТНАЯ ВАЙНА. БЛАКАДА

Для Ленінграда Другая сусветная вайна пачалася ў 8 гадзін раніцы 30 лістапада 1939 г., калі Чырвоная Армія перайшла мяжу з Фінляндыяй. Пачаліся часы выпрабаванняў для фактычна прыфрантавога горада. Была ўведзена светамаскіроўка. З-за моцных маразоў і ваенных перавозак у горадзе значна ўскладнілася праца транспарту, з'явіліся цяжкасці з электраэнергіяй і палівам, былі ўведзены абмежаванні на некаторыя віды прадуктовых тавараў. У сярэдзіне лютага 1940 г. Чырвоная Армія коштам велізарных страт прарвала фінскія ўмацаванні на Карэльскім перашыйку, адкрыўшы дарогу на Выбарг. Камісарам перадавога дэсантнага атрада, які штурмаваў лінію Манэргейма, быў ураджэнец вёскі Перавоз Капыльскага раёна, у будучым віцэ-адмірал, **Мікалай Антонавіч Торык** (1906—1999). 12 сакавіка 1940 г. паміж СССР і Фінляндыяй была падпісана мірная дамова: мяжа пераносілася на поўнач да Выбарга і Сортавалы на 150 км ад Ленінграда і ўсталёўвалася ў тым месцы, дзе праходзіла да 1809 г.

22 чэрвеня 1941 г. Германія напала на СССР. Ужо на наступны дзень у Ленінградзе была аб'яўлена першая паветраная трывога, а 10 ліпеня нямецкая група армій «Поўнач» пачала наступленне на Ленінградскім напрамку. Горад пачаў рыхтавацца да новых бітваў. У маскіроўцы аб'ектаў і збудаванняў удзельнічае і архітэктар Іосіф Лангбард... Для будаўніцтва абарончых умацаванняў з Ленінграда на далёкія подступы — у раён Лугі і станцыі Дно — вывезлі народнае апалчэнне, студэнтаў інстытутаў, тэхнікумаў і ФЗВ (фабрычна-заводскіх вучылішчаў) — на будаўніцтве акопаў і супрацьтанкавых равоў працавалі да 15 тысяч чалавек на кожным з участкаў абароны. Значная колькасць з іх загінулі пад бамбардзіроўкамі, а пры набліжэнні немцаў — пад артылерыйскім і мінамётным агнём.

Сярод такіх ахвяраў было некалькі тысяч беларускіх юнакоў, якіх набралі для навучання ў Ленінградскіх вучылішчах. Шмат пазней, на 50-годдзе Перамогі, ім будзе пастаўлены ад урада Беларусі сціплы помнік на Піскароўскіх могілках. Рыхтуючы гэтую кнігу, аўтар выпадкова закрануў тэму беларусаў-навучэнцаў ФЗВ у размове з прафесарам Пецярбургскага універсітэта Мікалаем Лабушам. Аказваецца,




*Помнік беларусам — навучэнцам фабрычна-завадскіх вучылішчаў. Піскароўскія мемарыяльныя могілкі*

сярод моладзі на акопах быў (і загінуў) родны брат яго маці, Буглак; накіраванне хлопчыка з беднай сялянскай сям'і на навучанне ў Ленінград у перадваенных Пухавічах разглядалі як надзею на светлую будучыню. Я запытаўся імя хлопчыка (дзядзькі па маці), але імя прафесар не памятаў...

Адным з добраахвотнікаў народнага апалчэння быў студэнт жывапіснага факультэта Акадэміі мастацтваў Яўсей Майсеенка, які трапіў у палон і ўсю вайну правёў у нямецкім канцлагеры Альтэрграбава. Будучага акадэміка жывапісу вызвалілі ў 1945-м амерыканцы...

Трэцяга жніўня імклівае наступленне нямецкіх танкаў на Гатчыну было спынена каля Вайсковіцаў савецкім танкавым батальёнам. Ураджэнец Полацка камбат Зянон Калабанаў са сваімі 7-мі машынамі здолеў спыніць полк фашысцкіх танкаў, гэтым самым амаль на два тыдні (да 19 жніўня) адцягнуўшы захоп Гатчыны. У сярэдзіне жніўня немцы прарвалі абарону ў раёне Кінгісепа, а 28 жніўня захапілі станцыю Мга. Чыгуначная сувязь гораду з краінай была перарэзана. З поўначы пачала наступленне фінская армія, але яна спынілася на старой дзяржаўнай савецка-фінскай мяжы. У верасні немцы замкнулі кальцо блакады.

У цяжкіх баях на Пулкаўскіх вышынях сярод іншых удзельнічаў ураджэнец Бабруйска яфрэйтар **Уладзімір Міхайлавіч Міхалкін** (нар. 30.06.1927). За абарону подступаў да горада ён зарабіў два баявыя ордэны: Вялікай Айчыннай вайны II ступені і Чырвонай Зоркі. У гады вайны Уладзімір Міхалкін скончыў 1-е Ленінградскае артылерыйскае вучылішча (1944), а пасля вайны — Ваенную артылерыйскую акадэмію на Ліцейным, зрабіў бліскучую вайсковую кар'еру, стаў маршалам артылерыі.

Немцы адмовіліся ад штурму, прыняўшы рашэнне ўзяць Ленінград блакадай, артылерыйскім абстрэлам і бамбардзіроўкамі з паветра. Савецкае камандаванне хапалася за любую магчымасць кантраляваць стратэгічную сітуацыю, пры гэтым яно ішло на нечуваныя ахвяры. Затрымку поўнай блакады горада забяспечваў кантроль савецкіх войскаў над невялікім плацдармам у раёне Неўскай Дуброўкі (так званы Неўскі пятачок — тэрыторыя працягласцю 3 км, глыбінёй 2 км). Плацдарм утрымлівалі да красавіка 1942 г., і гэта каштавала 200 тысяч жыццяў — загінулі амаль дзве арміі! Сярод тых, каму пашчасціла выжыць на «Неўскім пятачку», былі бацька будучага расійскага прэзідэнта Уладзімір Пуцін і беларус-тапограф начальнік тапаграфічнай службы артпалка Аляксандр Афончанка. Гераічнае змаганне затрымала пад горадам велізарныя нямецкія сілы. Пасля перамогі над гэтай групоўкай у 1943 г. на Волхаўскім фронце паводле праекта Аляксандра Афончанкі была пабудавана драўляная арка Перамогі — хіба не першая ў гады вайны — у выглядзе трыумфальнай брамы.

Адносіны савецкага кіраўніцтва да беларусаў-вайскоўцаў было неаднолькавым. Ураджэнцы БССР карысталіся раўнапраўем, народжаных і прызваных у Заходняй Беларусі чакалі цяжкія выпрабаванні. Восенню 1941 г. на Ленінградскім фронце асобыя аддзелы правялі праверку сярод усіх ваеннаслужачых і выключылі з вайсковых падраздзяленняў усіх «заходнікаў». З гэтых людзей сфармавалі небаявыя атрады. Прымушаныя працаваць на цяжкіх работах і пазбаўленыя харчавання, людзі былі пастаўлены на мяжу галоднай смерці: норма харчавання была не салдацкая, а роўная норме непрацуючага жыхара блакаднага горада. Толькі ў сакавіку 1943 г. гэты кантынгент (тое, што ад яго засталося) вярнулі ў дзейныя вайсковыя часткі. Каларытныя ўспаміны пра працу ў адным з такіх рабочых атрадаў, а потым баявыя дзеянні на Арніенбаўмскім напрамку пакінуў ураджэнец вёскі Ачукевічы Наваградскага раёна **Уладзімір Навумавіч Хартановіч**[1].

На Волхаўскім фронце ваяваў архітэктар-салдат магілёвец **Мікалай Назар'ін**. Паводле яго праектаў будаваліся ў балотах насыпныя ячэйкі, арыгінальныя траншэі, кулямётныя пазіцыі на пнях. Два месяцы ён знаходзіўся на пярэднім краі абароны, хадзіў у разведку на захопленую ворагам тэрыторыю і склаў карту танкапраходных кірункаў. Заслужыў ордэн Чырвонай Зоркі і два — Айчыннай вайны, баявыя медалі. У зенітнай артылерыі на Чорнай рэчцы служыў малады салдат будучы народны пісьменнік Беларусі **Іван Навуменка**. Ураджэнец Васілевічаў Гомельскай вобласці **Васіль Галаўко** ваяваў як сувязіст у 14-м умацаваным раёне Ленінградскага фронта пад станцыяй Папоўка, гарадамі Пушкін, Паўлаўск і Колпіна. Начальнікам войскаў сувязі Ленінградскага фронту быў ураджэнец вёскі Віркаў Клічаўскага раёна Магілёўскай вобласці генерал-лейтэнант **Іосіф Несцеравіч Кавалёў** (1893–1969). Як камандзір знішчальна-авіяцыйнага корпуса забяспечваў абарону генерал **Сцяпан Кароль**, ураджэнец мястэчка Дварэц Слонімскага павета. Беларус, ураджэнец Пецярбурга, генерал **Роберт Іванавіч Брычонак** (1893–1972) быў начальнікам артылерыі адной са стралковых дывізій... Гэты шэраг можна доўжыць і доўжыць. Выпускнік 1940 г. Лепельскага пяхотнага вучылішча лейтэнант **Васіль Васільевіч Шахновіч** (1922–1983), ураджэнец вёскі Сярагі Слуцкага павета, прайшоў на Ленінградскім фронце першыя, самыя цяжкія пасады — камандзіра ўзвода, роты, батальёна. А ўжо пасля вайны заканчваў службу генерал-лейтэнантам, начальнікам штаба Групы савецкіх войскаў у Германіі. У шэрагах абаронцаў Ленінграда ўдзельнічаў у баях гісторык старажытнай беларускай літаратуры **Юльян Сяргеевіч Пшыркоў** (1912–1980). Нарадзіўся ён у сяле Кісцяні Рагачоўскага раёна, скончыў педагагічныя курсы ў Рагачове (1930) і да 1939 г. вучыўся на філалагічным факультэце Ленінградскага дзяржаўнага ўніверсітэта; у 1940 г. быў прызваны на вайсковую службу. Пасля вайны (з 1954 г.) Юльян Пшыркоў працаваў загад-

[1] *Хартанович В. Н.* Трудные дни ленинградской блокады: Воспоминания. Слоним, 2003. Пасля вяртання ў страявую часць Уладзімір Хартановіч паступіў у кампартыю, пры гэтым змяніўшы месца свайго нараджэння на «бээсэсэраўскае»: гл. с. 107.

чыкам сектара беларускай дакастрычніцкай літаратуры Інстытута літаратуры АН БССР у Мінску.

Па ўсім Ленінградскім фронце грымела слава снайпера 42-й арміі **Хвядоса Смалячкова** (1923—1942), ураджэнца вёскі Узнікі Быхаўскага павета, які да вайны працаваў на будоўлях горада. Ён адкрыў «асабісты рахунак» і паспеў застрэліць 125 фашысцкіх вайскоўцаў, перш чым 15 студзеня 1942 г. загінуў сам[1]. На год маладзейшы за Смалячкова быў радавы **Уладзімір Ярмак** (1924—1943), ураджэнец Мінска, які падчас разведкі ля пасёлка Сінявіна 19 ліпеня 1943 г. закрыў сабой амбразуру варожага дзота, дапамогшы выкананню баявой задачы. У 1944 г. Уладзімір Ярмак і Хвядос Смалячкоў пасмяротна ўзнагароджаны залатой зоркай Героя Савецкага Саюза.

Горад не меў патрэбных для жыцця ў аблозе запасаў правіянту і паліва. Пасля бамбардзіроўкі 8 верасня 1941 г. згарэлі Бадаеўскія склады і сітуацыя з харчаваннем стала катастрафічнай. Была ўведзена нармаваная выдача хлеба. Калі ў верасні на аднаго работніка выдавалася 600 грамаў, то ў кастрычніку норма хлеба склала 250 грамаў для тых, хто працуе, і 125 грамаў для іншых. Зіма 1941/42 г. была вельмі марознай. Тэмпература апускалася да —30° градусаў. Бракавала газы і дроў, у горадзе на паліва сталі разбіраць драўляныя будынкі. З-за адсутнасці паліва са снежня перасталі выпрацоўваць ток электрастанцыі, не працавалі водаправод і каналізацыя.

Сярод мноства мемуараў аб жыцці блакаднага горада вылучым успаміны Мікалая Амелькі, які ў гады вайны быў камандзірам вучэбнага карабля «Ленінградсавет». У першую, самую цяжкую блакадную зіму, яго карабель стаяў у Няве паблізку Валадарскага моста і даваў электрычнасць суседнім прадпрыемствам — фарфораваму заводу і піўзаводу «Вена». Капітан-лейтэнант Амелька вырашыў аднойчы наведаць бацьку і сястру, якія жылі на 2-й лініі Васільеўскага вострава: «*... Транспарту — ніякага, пайшоў пешшу, па набярэжнай на стары Неўскі праспект, праз Дварцовы мост, па Тучковай набярэжнай, усяго кіламетраў 15. Але дайшоў. Горад мяне ўразіў, на кожным кроку — замёрзлыя трупы, заснежаныя вагоны трамваяў, у сумётах тралейбусы і аўтобусы, Гасціны двор гарыць, Пасаж і Елісееўскі магазін таксама ў агні. Па вуліцах брыдуць рэдкія людзі, а, праўдзівей, цені. На 2-й лініі каля варот кожнага дома па некалькі трупаў. Падняўся ў кватэру, увайшоў у пакой — бацька і мачыха стаяць ля вакна і спрачаюцца: — які праляцеў нямецкі самалёт: месершміт ці фоке-вульф. Майму прыходу былі вельмі рады. Я ім прынёс грамаў 400 хлеба, адну цыбуліну і бутэльку хваёвага настою. Быў проста пір. У кватэры з пяці пакояў жылі пяць сем'яў, усяго адзінаццаць чалавек, пяцёра памерлі, трое — у бальніцы, засталіся тры чалавекі. Маці кажа: «Коля, у пакоі насупраць — Мікалай Фёдаравіч, сусед, памёр, а нам з бацькам яго не вынесці да варотаў». Ну, я пайшоў, сцягнуў труп да варотаў на вуліцу — там хадзілі ваенныя машыны, падбіралі трупы і адвозілі на могілкі, дзе складалі іх штабелямі...*»[2]

Нялёгка было і франтавікам. Кулямётчык Пётр Барадзін з Веткі (пасля вайны ён стане прафесарам фізікі ЛДУ) успамінаў пазней пра акопнае жыццё зімой 1942 г. пад Ленінградам: «Кулямётны разлік — пяць-шэсць чалавек. Спалі па чарзе. Прычым двое раскопвалі снег, накладалі лапнік, захутваліся ў шынялі, кладліся, а другія двое іх снегам завальвалі. Так можна было гадзіны дзве паспаць. Потым мяняліся. Пяцьдзесят гадоў назад усё гэта было, а я памятаю той сон, што мне прысніўся, калі я ў снезе спаў. Быццам бы я ў сябе на Беларусі, пад Гомелем, еду на ровары! Кручу педалі, вецер у твар, сонейка свеціць, радасць у грудзях! І тут мяне будзяць: «Ты чаго, увесь снег нагамі раскідаў!»

Выклікалі мяне аднойчы, як камандзіра, на нараду. Ісці трэба было з кіламетр. Вяртаюся ў прыцемках, насустрач кухня едзе. Пытаюся: «Што-небудзь там засталося?» «Ды вось, ёсць суп гарохавы. Куды табе наліць?» А я, на бяду, каску каля кулямёта пакінуў. Тады я ботам на снезе, пры дарозе ямачку вытаптаў: «Лі сюды!». І ён мне туды цэлы коўш супу плёснуў. Мароз моцны быў, я паскакаў каля гэтага супу, пачакаў, пакуль ён замёрзне, пад паху яго, прынёс: «Хлопцы, зараз суп есці будзем!» Разбілі яго на кавалкі і, як зараз марожаным, ласаваліся гэтым супам».

Некаторую палёгку Ленінграду дала дарога праз лёд Ладажскага возера, якую эксплуатавалі з лістапада 1941 г. да красавіка 1942 г. Гэтым шляхам падвозілі боепрыпасы і харчаванне, з горада эвакуявалі каля 500 тысяч чалавек. Аднак далёка не для ўсіх гараджан гэта была «дарога жыцця» — па лядовай тра-

[1] *Набатов Г.* Феодосий Смолячков. Л., 1964.
[2] *Амелько Н. Н.* В интересах флота и государства. Воспоминания адмирала. М., 2003. С. 50—51.




*Неўскі, 10. Мемарыяльная шыльда на будынку школы — напамінак пра вайну*

се былі дэпартаваны 30 тысяч ленінградцаў нямецкага і фінска-інгерманландскага паходжання. Большасць з іх потым загінула ў лагерах. Пра паўнавартаснае жыццё лядовай дарогі сведчыць хоць бы і той факт, што па ёй з Ленінграда ў Маскву ў снежні 1942 г. былі адпраўлены 12 скрынь з кнігамі, якія належалі бібліятэцы Акадэміі навук — гэта была кніжная выстава да адкрыцця пленарнага пасяджэння Прэзідыума АН СССР, а ў адваротным напрамку па лёдзе ішлі скрыні з кнігамі абавязковага экзэмпляра.

Нягледзячы на цяжкасці, горад паспяхова змагаўся. Вырашальную ролю ў непрыступнай абароне адыграла магутная артылерыя Балтыйскага флоту — гарматы даставалі ворага з караблёў, некаторыя артылерыйскія сістэмы знялі і перавялі бліжэй да перадавой. У вырашэнні тэхнічных задач па рамонце бронетэхнікі, а таксама ў пабудове механізмаў карыстання карабельнай ствольнай артылерыяй на Ленінградскім фронце праявіў сябе малады інжынер Металічнага завода ўраджэнец Рэчыцы **Аляксандр Ігнатавіч Чыжык** (1912–1985), пазней славуты турбабудаўнік. У шэраг буйнейшых вучоных Ленінграда, якія арганізоўвалі абарону горада, увайшоў інжынер-генерал-лейтэнант **Барыс Галёркін**, ураджэнец вёскі Прудок, што на Лепельшчыне. Яшчэ ў 1920 г. ён стаў прафесарам Петраградскага універсітэта, таксама прафесарам Інстытута шляхоў зносін. Навуковыя працы Галёркіна прысвечаны тэорыі пругкасці — яны адыгралі важную ролю ў развіцці матэматычных метадаў рашэння інжынерных задач. Займаўся Барыс Галёркін таксама будаўнічай механікай і вылічальнай матэматыкай. Як канструктар-архітэктар, член Акадэміі архітэктуры СССР удзельнічаў у праектаванні Волхаўскай ГЭС, Днепрагэса і іншых электрастанцый. Акадэмікам АН СССР нястомны шукальнік таямніц прыроды быў абраны яшчэ ў 1935 г., у 1942 г. за распрацоўку матэматычнай тэорыі цыліндрычных абалонак яму была прысуджана Сталінская прэмія. Жыў вучоны на Кронверскай, 14, кв. 16, пазней на вуліцы Каляева, 22. У яго гонар на доме ўсталявана мемарыяльная шыльда. За сваю працу акадэмік Галёркін атрымаў вышэйшыя ўзнагароды СССР — два ордэны Леніна і ганаровае званне — Заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі РСФСР (у 1934 г.). Памёр Барыс Рыгоравіч 12 ліпеня 1945 г., пахаваны на Літаратарскіх мастках Волкавых могілках. На яго магіле пастаўлены помнік з барэльефным партрэтам.

У блакадным Ленінградзе працягваў працаваць Фізіка-тэхнічны інстытут, дырэктарам якога быў прызначаны **Павел Паўлавіч Кабека** (1897–1954). Нарадзіўся ён у Вільні, гадаваўся ў маёнтку Кудрычы каля Мсціслава, закончыў сельскагаспадарчы інстытут у Горках Смаленскай вобласці (цяпер Горацкая сельгасакадэмія). У 1924 г. Кабеку размеркавалі ў Ленінградскі фізіка-тэхнічны інстытут, дзе ён нязменна працаваў да 1952 г. Яшчэ ў 1930-я гг. Павел Кабека разам з Ігарам Курчатавым даследаваў уласцівасці сегнетавай солі і вынайшаў сегнетаэлектрыкі. Пазней ён стаў заснавальнікам расійскай школы фізікі аморфнага стану. А ў час вайны Павел Паўлавіч кіраваў абароннымі даследаваннямі, прынамсі, вывучэннем стану лёду на Ладажскім возеры; распрацаваў марозаўстойлівую гуму для пакрышак шасі самалётаў. У пасляваенныя гады стаў членам-карэспандэнтам АН СССР. Пахаваны на Волкавых могілках[1].

Блакадны горад цярпеў страты як сярод радавых абаронцаў, так і сярод камандзіраў. 29 студзеня 1943 г., вяртаючыся на машыне з Кранштата, загінуў (праваліўся пад лёд) выдатны марскі афіцэр віцэ-адмірал **Валянцін Пятровіч Дрозд** (1906–1943). Ураджэнец Буда-Кашалёва Магілёўскай губерні, ён вучыўся ў Ленінградскім ваенна-марскім вучылішчы імя Фрунзе, а з 1928 г. служыў на Балтыйскім флоце: у 1933 г. камандзірам эсмінца, пазней старшым памочнікам камандзіра лінкора «Марат». У 1936–1937 гг. Валянціна Дразда

[1] *Юрчанка Г. Ф.* На Мсціслаўскай зямлі ўзгадаваны: Нарыс жыцця і навуковай дзейнасці П.П. Кабекі. Мінск, 1986, 112 с.

накіравалі ў Іспанію ў якасці інструктара-дарадчыка рэспубліканскага флоту. Пасля вяртання ён быў камандзірам брыгады эсмінцаў Балтыйскага флоту, удзельнічаў у савецка-фінляндскай вайне 1939–1940 гг. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны 35-гадовы марак-беларус атрымаў званне віцэ-адмірала, кіраваў баявымі дзеяннямі караблёў у Ірбенскім праліве і пры абароне Маазундскіх астравоў. У жніўні 1941 г. Валянцін Дрозд кіраваў пераходам эскадры з Таліна ў Кранштат, у лістападзе-снежні 1941 г. камандаваў атрадам караблёў, які правёў эвакуацыю абаронцаў паўвострава Ханка. Апошні клопат камандуючага атрадам лёгкіх сіл Чырванасцяжнага Балтыйскага флоту віцэ-адмірала Дразда — мінаванне ўсіх падначаленых яму караблёў (быў на тое загад камандуючага флотам В. Трыбуца і камандуючага фронтам Г. Жукава). Яны так і ваявалі — замінаваныя — да зняцця блакады Ленінграда. Пахавалі Валянціна Пятровіча насупраць уваходу ў сабор Аляксандра-Неўскай лаўры. Жонка — Людміла Міхайлаўна — перажыла мужа на 53 гады і пахавана побач з ім у 1996 г.




*Каляндар на 1941 г. з фондаў РНБ*

Цалкам вызвалены ад блакады горад быў у пачатку 1944 г. Радкі з узнагароднага ліста ўраджэнца Невельскага павета Віцебскай губерні **Івана Вікенцьевіча Малахоўскага** (1899–1968) сведчаць пра гэта наступным чынам: «Пры прарыве абароны немцаў пад Ленінградам (ад Пулкава да Араніенбаўма) чыгуначная берагавая артылерыя Чырванасцяжнага Балтыйскага флоту ў значнай ступені ўзмацніла артылерыю Ленінградскага фронту і спрыяла завяванню агнявой прасторы над супраціўнікам... У аперацыях удзельнічалі ўсе без выключэння форты Кранштата, берагавая абарона, караблі, Ленбаза; выкарыстанне гэтых сродкаў па пехотнай абароне, батарэях, штабах, камунікацыях было сканцэнтравана ў руках генерал-маёра Малахоўскага, з якой ён паспяхова справіўся, чым паспрыяў бліскучаму поспеху войскаў Ленінградскага фронту». Значны ўклад у абарону Ленінграда, а таксама і ў прарыў блакады зрабіў ураджэнец вёскі Сяднёўка (цяпер Руднянскі раён Смаленскай вобласці) генерал-маёр берагавой службы **Уладзімір Цімафеевіч Румянцаў** (1907–1993). Пасля заканчэння 2-й артылерыйскай школы ў Ленінградзе (1932) ён служыў у берагавой артылерыі. Вайну сустрэў намеснікам начальніка артылерыі Кранштацкай ваенна-марской крэпасці, потым ваяваў як камандзір форта «Ф», камендантам Іжорскага сектара берагавой абароны, падтрымліваў агнём 2-ю ударную армію Ленінградскага фронту[1].

Памочнікам начальніка артылерыі марской абароны Ленінграда, а з 1942 г. начальнікам палігона навуковых выпрабаванняў марской артылерыі служыў ураджэнец мястэчка Хомск Брэсцкай вобласці **Іван Даміянавіч Снітко** (1896–1981). У студзені 1944 г. артылерыйская група пад яго камандаваннем забяспечвала наступленне сухапутных войскаў пры прарыве блакады і вызваленні Чырвонага Сяла, Пушкіна, Паўлаўска. У пасляваенныя гады контр-адмірал Іван Снітко быў прызначаны на пасаду дырэктара НДІ Ваенна-марскога флоту, з 1954 г. выйшаў у адстаўку.

27 студзеня 1944 г. з нагоды зняцця блакады быў зроблены артылерыйскі салют з 324 гармат. У студзені 1944 г. шэрагу галоўных вуліц і плошчаў горада вярнулі гістарычныя назвы. Сярод іншых: Неўскі праспект (да гэтага праспект 25-га Кастрычніка), Вялікі праспект Петраградскай стараны (праспект Карла Лібкнехта), Ліцейны праспект (праспект Валадарскага), Дварцовая плошча (плошча Урыцкага), Ісакіеўская плошча (плошча

[1] *Лурье В. М.* Адмиралы и генералы Военно-Морского Флота СССР в период Великой Отечественной и советско-японских войн (1941–1945). СПб., 2001. С. 145.

Вароўскага). Вайна нанесла гораду вялікую шкоду. На 1 студзеня 1944 г. у Ленінградзе заставалася 560 тысяч жыхароў — адна шостая частка даваеннага насельніцтва. У канцы вайны, пасля вяртання з эвакуацыі, насельніцтва ледзь перавысіла 1 мільён чалавек. Памерлі з голаду і загінулі ад абстрэлаў і бомб больш за 1 мільён 200 тысяч цывільных асобаў. Было разбурана 800 прамысловых прадпрыемстваў і 3174 будынкі, горад страціў трэцюю частку ўсяго жылога фонду.

Узгадаем хоць некаторых беларусаў — ахвяр гэтага цяжкага выпрабавання. У блакадным Ленінградзе памёр ураджэнец Брэста сын праваслаўнага святара **Арсень Іванавіч Маркевіч** (1855—1942) — вядомы археолаг, архівіст, пісьменнік. З 1883 г. ён выкладаў у мужчынскай і жаночай сімферопальскіх гімназіях, з 1887 г. працаваў у Таўрыдскай вучонай архіўнай камісіі (з 1908 г. быў яе старшынёй). У 1918 г. ён спрыяў адкрыццю Сімферопальскага універсітэта, дзе быў прафесарам. Пасля смерці жонкі ў 1941 г. пераехаў да дачкі ў Ленінград.

3 лютага 1942 г. памёр супрацоўнік Кунсткамеры **Канстанцін Аляксеевіч Пушкарэвіч**. Ён нарадзіўся 22 кастрычніка 1890 г. у Брэст-Літоўску Гродзенскай губерні. Пасля заканчэння ў 1912 г. Гродзенскай гімназіі паступіў у Імператарскі Санкт-Пецярбургскі універсітэт, дзе вучыўся і спецыялізаваўся пад кіраўніцтвам праф. М. Г. Далобка, займаўся польскай і сербскай мовамі. У снежні 1917 г. яго пакінулі пры Петраградскім універсітэце для падрыхтоўкі да прафесарскай дзейнасці па кафедры славянскай філалогіі (прыгадаем, што тады ж ва універсітэце на кафедры рускай філалогіі працаваў Браніслаў Тарашкевіч). У час грамадзянскай вайны Пушкарэвіч апынуўся ў Томску, у 1918—1922 гг. працаваў там у мясцовым універсітэце, вёў заняткі па славяназнаўстве, сербскім і балгарскім эпасе і балгарскай мове. З мая 1922 г. К. А. Пушкарэвіч ужо ў Петраградзе, ён аспірант і навуковы супрацоўнік 2-га разраду Навуковадаследчага інстытута імя акад. А. Весялоўскага (пазней Інстытут моўнай культуры). У верасні 1926 г. калегія Навукова-даследчага інстытута параўнальнай гісторыі літаратуры і моваў Захаду і Усходу пры ЛДУ за подпісамі дырэктара інстытута акад. М. Я. Мара і вучонага сакратара М. Ф. Якаўлева выдала К. А. Пушкарэвічу пасведчанне: прызнавалася яго «права на вядзенне самастойнай навуковадаследчай працы і выкладанне ў вышэйшых навучальных установах Рэспублікі». Аб працах Пушкарэвіча высока адзываліся акадэмікі П. А. Лаўроў і М. С. Дзяржавін. У 20—30-я гг. ён пераважна вывучае польска-ўкраінскія літаратурныя ўзаемадачыненні і нацыянальныя праблемы ў сучаснай славістыцы, кіруе студэнцкім гуртком па вывучэнні сучаснага славянства. Канстанцін Аляксеевіч прымае актыўны ўдзел у дзейнасці клуба беларускага Дома народнай асветы. У розных навуковых аўдыторыях ён выступіў з дакладамі: «Палякі ў Сібіры», «З гісторыі літоўскіх татар», «Славянскі інстытут у Празе, гісторыя яго ўзнікнення і дзейнасці» і інш. З верасня 1931 г. Канастанцін Пушкарэвіч — старшы вучоны захоўвацель Інстытута славяназнаўства АН СССР, некаторы час працаваў у Інстытуце мовы і мыслення, а з 1 чэрвеня 1939 г. ён старшы навуковы супрацоўнік Інстытута этнаграфіі АН СССР. У 1938 г. у ЛДУ вучоны абараніў кандыдацкую дысертацыю, а 21 красавіка 1940 г. за працу «Чэхі ў Расіі» яму была прысуджана вучоная ступень доктара філалагічных навук. У жніўні-верасні 1940 г. ён быў накіраваны ў навуковую паездку ў заходнія вобласці Украіны і Беларусі, адкуль, паводле водгуку Д. К. Зяленіна, «прывёз вельмі багаты і каштоўны матэрыял». 1 снежня 1941 г. К. А. Пушкарэвіча прызначаюць загадчыкам аддзела Еўропы Інстытута этнаграфіі, але жыць яму ўжо заставалася нядоўга...

6 жніўня 1943 г. газета «Ленінградская праўда» побач са звесткамі аб ваенных дзеяннях на франтах паведаміла пра тое, што трагічна, падчас бамбардзіроўкі Лахты, загінуў **Леў Пятровіч Шышко**: «У яго асобе наша краіна страціла аднаго з найлепшых інжынераўбудаўнікоў, спецыяліста з вялізнымі ведамі і вопытам, шырокім тэхнічным кругаглядам, выключнай працавітасцю». У блакадным Ленінградзе памёр гідролаг і гідратэхнік, пецярбургскі беларус у другім пакаленні **Усевалад Радзевіч** (1878—1942), сын мазырскага паповіча і журналіста 1860-х гг., чыноўніка Міністэрства народнай асветы Міхаіла Радзевіча (пра яго гаварылася вышэй). Загінуў у 1942 г. пры абароне Ленінграда **Рыгор Самуілавіч Жалязняк** (1914—1942). Нарадзіўся ён ў Віцебску ў сям'і рабочага. Працаваў у дэпо, літаратурным супрацоўнікам газеты «Віцебскі рабочы». У 20 гадоў Рыгор Жалязняк быў ужо аўтарам зборніка паэзіі «Вясновыя будні» (Віцебск, 1934). Потым паступіў у Ленінградскі дзяржаўны інстытут гісторыі, філасофіі, літаратуры і лінгвістыкі, а ў 1936 г. перавёўся на філалагічны факультэт ЛДУ. Пасля заканчэння (у 1938 г.) тры гады навучаўся ў аспірантуры. Кандыдацкую дысертацыю на тэму «Паэзія Максіма Багдановіча»

Рыгор закончыў у 1941 г... Ад голаду памёр малады архітэктар **Майсей Васкер** — паводле сваіх праектаў яму не давялося будаваць, але ён застаўся ў гісторыі мастацтва як выдатны рысавальшчык, аўтар кніжных ілюстрацый. Таксама ад голаду і нястачы 18 лютага 1942 г. памерла ў Ленінградзе старая пецярбуржанка, ураджэнка Тубышак з Магілёўшчыны Вера Чарняева, дачка генерала расійскай і сербскай армій Міхаіла Чарняева.

Пры ўсіх стратах, змаганне горада было не пасіўнае, а актыўнае. У дні блакады ў Акадэміі мастацтваў абараняў дысертацыю па архітэктуры беларус **Уладзімір Адамавіч Кароль** — будучы народны архітэктар СССР, аўтар пасляваеннага аднаўлення галоўнага праспекта Мінска. Абарона гэтай дысертацыі транслявалася па радыё, паказваючы ўсім, што горад у аблозе думае пра будоўлі! З невялікай групай сваіх студэнтаў застаўся ў блакадным Ленінградзе ўраджэнец Наваградка прафесар **Якаў Барысавіч Зяльдовіч**, які з 1922 г. кіраваў кафедрай анатоміі ў Ленінградскім інстытуце медыцынскіх ведаў (у цяжкія дні медыкі дапамагалі жыхарам).

Пра вайну і блакаду Ленінграда напісана вельмі шмат, хоць ні адна кніга не ахапіла ўсяго. Тое, што адно з самых праўдзівых і пранізлівых апавяданняў — «Блакадную кнігу» напісалі сумесна беларускі пісьменнік Алесь Адамовіч і пісьменнік-пецярбуржац Данііл Гранін — невыпадкова. Бяда ў той вайне была паўсюль, але сканцэнтраванасць тае бяды ў Ленінградзе і на Беларусі была найбольшая. Таму гэтыя два рэгіёны Зямлі аказаліся падобнымі адзін да аднаго.

У вайне з германскім фашызмам перамог Савецкі Саюз. Важкі, стратэгічны ўклад у гэтую перамогу зрабіў ураджэнец Гродна першы намеснік (са снежня 1942 г.) начальніка Генштаба, а з лютага 1945 г. начальнік Генштаба, генерал арміі **Аляксей Інакенцьевіч Антонаў** (1896—1962). Удзельнік распрацоўкі плана вызвалення Беларусі ў 1944 г. і іншых важных аперацый Другой сусветнай вайны, удзельнік Крымскай і Патсдамскай канферэнцый, Аляксей Антонаў быў адзіны не-маршал, якога ўзнагародзілі вышэйшым ордэнам «Перамога». Пасля стварэння вайсковай арганізацыі Варшаўскага дагавора (май 1955 г.) ён стаў начальнікам Генштаба Аб'яднаных Узброеных Сілаў. З нашым горадам Аляксей Антонаў быў звязаны ў гады сваёй маладосці: першапачатковую вайсковую адукацыю ён атрымаў у Петраградзе, у 2-м кадэцкім корпусе. Пра людзей, якія арганізавалі абарону горада, пецярбуржскі беларус адмірал М. Амелька пазней выказваўся наступным чынам: «Г. К. Жукаў камандаваў Ленінградскім фронтам 27 дзён. Некаторыя даследчыкі ВАВ гаварылі і яшчэ гавораць, што Жукаў «выратаваў» Ленінград. Блакада горада цягнулася 900 дзён. Абсурдна сцвярджаць, што за 27 дзён сваім камандаваннем Ленінградскім фронтам ён выратаваў Ленінград ад блакады, тым больш у пачатку вайны. Калі гаварыць пра асобы, то гэта зрабіў Л. А. Говараў.

Я добра ведаў Г. К. Жукава. Будучы камандуючым Ціхаакіянскім флотам, асабіста яму падпарадкоўваўся. Прызнаю яго як арганізатара спынення адступлення нашых войскаў на Волзе, нягледзячы на жорсткія ме-



*Від на Біржу праз зенітныя гарматы*

тады дзеянняў Жукава пры гэтым. І, безмоўна, не прызнаю яго як «геніяльнага» палкаводца, які «выратаваў» Расію. Вядома, што ўсе вайсковыя аперацыі планаваў маршал Васілеўскі, а не Жукаў. Расію выратаваў народ, нашы Узброеныя Сілы сваёй мужнасцю, не шкадуючы жыцця»[1].

Вайна яшчэ ішла, а будаўнікі думалі пра вяртанне да мірнага жыцця: у жніўні 1944 г. ленінградзец беларускага паходжання архітэктар Іосіф Лангбард увайшоў у склад камісіі, якая займалася пытаннямі аднаўлення сталіцы Беларусі. Разам з мясцовымі архітэктарамі ён удзельнічаў у распрацоўцы эскіза новай планіроўкі Мінска, узначальваў першую майстэрню, у якой рыхтавалася праектная дакументацыя па рэканструкцыі разбураных будынкаў, адначасова сам кіраваў працай па аднаўленні гмахаў, узведзеных перад вайной паводле яго праектаў: Дома урада, Опернага тэатра, Дома афіцэраў.

### Пасля вайны надыходзіць час без вайны

Горад выйшаў з самай крывавай у гісторыі вайны з вялізнымі чалавечымі і матэрыяльнымі стратамі. Акрамя таго, што ў выніку разбурэнняў звыш 3 тыс. жылых дамоў былі зруйнаваныя, а больш як 7 тыс. моцна пашкоджаныя, 9 тысяч драўляных пабудоў падчас блакады самі гараджане разабралі на дровы. Адміністратыўныя межы Ленінграда (уадрозненне ад вобласці) ад 1930-х гг. заставаліся ранейшымі. Гэта 15 гарадскіх раёнаў: Выбаргскі, Васілеастроўскі, Валадарскі, Дзяржынскі, Прыморскі (з 1949 г. Жданаўскі), Чырвонагвардзейскі, Куйбышаўскі, Кіраўскі, Ленінскі, Маскоўскі, Кастрычніцкі, Петраградскі, Свярдлоўскі, Смольнінскі і Фрунзенскі. Пасля 1961 г. Свярдлоўскі раён ліквідавалі, уключыўшы яго тэрыторыю ў Васілеастроўскі, а Валадарскі раён перайменавалі ў Неўскі, далучыўшы да яго Рыбацкае і Абухава. У склад Вялікага Ленінграда пасля вайны ўвайшлі 5 гарадоў: Колпіна, Кранштат, Петрадварэц, Пушкін, Сестрарэцк. У 1973 г. у сувязі з вялікім новым будаўніцтвам у горадзе былі створаны два новыя раёны Чырвонагвардзейскі і Краснасельскі, а на пачатку 1980-х гг. да Вялікага Ленінграда далучаны Зеленагорск, Ламаносаў, Паўлаўск і 17 пасёлкаў гарадскога тыпу: Белавостраў, Камарова, Металастрой, Пясочны і інш.

Асноўная колькасць дэмабілізаваных і эвакуяваных ленінградцаў хутка вярнулася ў горад пасля заканчэння вайны. Агульная іх колькасць разам з тымі, хто заставаўся ў блакадным горадзе склала каля 1,7 млн чалавек. Прыкладна 1,2 млн загінулі, памёрлі ў блакадзе, на франтах і ў шпіталях па дарозе да месцаў эвакуацыі, асела там. Вайна адмоўна паўплывала на склад і якасць насельніцтва. Склалася рэзкая дыспрапорцыя паміж паламі, рознымі ўзроставымі групамі. Асабліва не хапала мужчын ад 20 да 50 гадоў. Здароўе многіх гараджан было падарванае вайной і блакадай. Да пачатку 1953 г. Ленінград без прыгарадаў налічаў 2 млн 459 тысячы чалавек (82,2% даваеннага). Першы пасляваенны перапіс насельніцтва СССР (1959 г.) паказаў, што насельніцтва горада крыху пераўзышло даваенны ўзровень — 3003,4 тысячы чалавек супраць 2992 тысяч у 1941 г.

Аб'ём вытворчасці ў прамысловасці зменшыўся больш чым на 2/3, а электраэнергіі — у 4–5 разоў. Незважаючы на намаганні, ленінградская прамысловасць дасягнула свайго даваеннага ўзроўню толькі ў 1950-я гг. І не толькі з-за недахопу энергіі і кваліфікаваных рабочых. Заводы працавалі на старым абсталяванні, самыя лепшыя машыны былі атрыманыя па рэпарацыі з Германіі. Толькі ў канцы 1960 — пачатку 1970-х гг. прамысловасць горада пачала пераабсталяванне новым — савецкім і імпартным рыштункам. У першую чаргу мадэрнізавалі машынабудаванне, якое выконвала вайсковыя заказы для пераўзбраення арміі і флоту. Дзякуючы вялікім капітальным укладанням прадукцыя машынабудавання расла больш высокімі тэмпамі, чым уся ленінградская прамысловасць агулам: за 15 гадоў (з 1970 да 1985) асноўныя фонды машынабудавання павялічыліся ўтрая. Калі ў 1960 г. прамысловая прадукцыя Ленінграда перавысіла ўзровень 1940 г. у 3,6 раза, то ў 1985-м — ужо ў 11,6 раза. Між тым доля лёгкай і харчовай прамысловасці, якія давалі ў 1960 г. 44% усёй прамысловай прадукцыі горада, знізілася да 27% у 1985 г. Вядучую ролю ў ленінградскім машынабудаванні адыгрывалі старыя, аднак цалкам пераабсталяваныя заводы Кіраўскі (былы Пуцілаўскі), Іжорскі, «Бальшавік» (былы Абухаўскі), Неўскі, Металічны, «Арсенал», Балтыйскі і Адміралцейскі суднабудаўнічыя, «Ленінец», «Звязда», «Электрасіла», «Святлана» і інш.

Акрамя ваеннай прадукцыі ў горадзе выраблялі атамныя турбіны, генератары, дызелі, рэактары, розныя тыпы марскіх караблёў, трактары, вагоны, тэлевізары, элек-

[1] *Амелько Н. Н.* В интересах флота и государства. Воспоминания адмирала. М., 2003. С. 48.

тронныя лямпы, радыёэлектроннае абсталяванне, машыны і абсталяванне для тэкстыльнай, абутковай, паліграфічнай прамысловасці. Ленінградскую прадукцыю добра ведалі і ў Беларусі. У 1952 г. Максім Лужанін пісаў у вершы «Горад мой»:

Я сябрую з мінскімі трамваямі,
Чую — звоніць — і, як другу, рад,
І заўсёды цёпла ўспамінаем мы,
Што прыслаў вагоны Ленінград...[1]

Тым часам, нягледзячы на абмежаванні ў прапісцы, шмат людзей з Беларусі выязджала ў Ленінград, дзе лягчэй было знайсці працу. Вялікі горад вабіў моладзь сваім культурным патэнцыялам.

Гісторыя прыбыцця ў пасляваенны Ленінград бацькі сённяшняга вядомага журналіста і фотамастака Андрэя Антаненкі звычайная — яна падобная да мноства такога кшталту гісторый:

**Мікалай Фаміч Антаненка** нарадзіўся 19 мая 1929 г. і вырас у Гарадоцкім раёне Віцебскай вобласці. У час вайны жыў на акупаванай тэрыторыі, спрабаваў пайсці да партызанаў, а пасля вызвалення Беларусі — збегчы на фронт, але ў абодвух выпадках яго вярталі да бацькоў. Дзень Перамогі сустрэў тым не менш у Германіі, куды быў адкамандзіраваны па коней для калгаса. Пасля вайны скончыў школу і атрымаў спецыяльнасць сталяра-чырвонадрэўшчыка. Працаваў у райкаме камсамола, пазней паступіў у Ленінградскі інстытут фізкультуры, пасля заканчэння якога застаўся жыць у Ленінградзе. Да пенсіі працаваў у Ленінградскім тапаграфічным тэхнікуме — выкладчыкам, загадчыкам завочнага аддзялення, намеснікам дырэктара па выхаваўчай працы.

У 1958 г. нарадзіўся сын — **Андрэй Мікалаевіч Антаненка**. Сярэднюю адукацыю Андрэй атрымаў у славутай Петэршуле на Неўскім (222-й сярэдняй школе), вышэйшую — на гістарычным факультэце Ленінградскага універсітэта. З 1983 г. ён працуе ў Расійскай Нацыянальнай (Публічнай) бібліятэцы, вучыцца ў аспірантуры па кафедры бібліяграфіі і кнігазнаўства Універсітэта культуры, абараняе дысертацыю на вучоную ступень кандыдата педагагічных навук. У 1991—1992 гг. быў загадчыкам Інфармацыйна-бібліяграфічнага аддзела РНБ. Пазней працаваў у рэкламна-інфармацыйным агенцтве, займаўся паліграфіяй, кнігавыданнем, графічным дызайнам, журналістыкай, фатаграфіяй. З пачатку XXI ст. — шэф-рэдактар газеты прафесійных паліграфістаў «Печатное дело». З 1985 г. Андрэй Антаненка выступае як літаратар: яго публікацыі можна сустрэць у рэгіянальных і цэнтральных выданнях, у тым ліку нататкі пра паездку на гістарычную радзіму — Беларусь — у «Беларускім зборніку». У 2005—2006 гг. адбыліся 7 персанальных выстаў яго фатаграфій — краявідаў, партрэтаў, пейзажаў пецярбургскіх прыгарадаў.



*Андрэй Антаненка*

Пасля XX з'езда КПСС (люты 1956 г.) пачалася «дэсталінізацыя» Ленінграда: праспект імя Сталіна стаў Маскоўскім, Сталінградскі праспект (былая Лігаўская вуліца) перайменавалі ў Лігаўскі праспект. Пачаўся дэмантаж помнікаў Сталіну — апошнія зніклі ўжо пасля XXII з'езда КПСС. У 1959 г. колькасць беларусаў у Ленінградзе ўзрасла да 47,3 тысячы: у паўтары разы больш у параўнанні з 1939 г. Беларусы ў 1959 г. складалі 1,4% ленінградцаў супраць 1% у 1939 г. і былі трэцяй па колькасці групай сярод нацыянальных меншасцяў, пасля габрэяў і ўкраінцаў. Гэту пазіцыю беларусы займаюць і ў дальней-

[1] Хоць, здаецца, у вершы дапушчана паэтычная вольнасць (licentia poetica): у Мінск пастаўляліся вагоны рыжскага трамвайнага завода, ленінградскія працавалі на вуліцах Віцебска.

шым, пры росце абсалютных паказчыкаў[1]. Сацыяльны партрэт гэтага 47-тысячнага люду (па беларускіх мерках — вялікі раённы горад!) самы разнастайны. Пераважаюць вясковыя хлопцы, якія выехалі з беднай пасляваеннай вёскі, каб працаваць на ленінградскіх заводах. Найбольш здольныя з іх праславіліся не толькі ў Ленінградзе, але і за яго межамі. Сярод герояў працы былі шырока вядомыя токар Г. Барткевіч і фрэзероўшчык Я. Савіч. Значная колькасць студэнтаў і вайсковых, невялікі працэнт складаюць партыйныя і савецкія чыноўнікі. Вярнулася ў горад і працягвае працаваць на яго аднаўленні даваенная беларуская інтэлігенцыя: пасля жорсткай і доўгатэрміновай вайны паўстала задача аднаўлення разбуранай і зношанай гаспадаркі і жыллёвага фонду горада і ваколіц.

За першыя пасляваенныя гады былі залечаны найбольш заўважныя раны горада. У 1945 г. метадам народнай будоўлі аднавілі Манеж і моцна пашкоджаны Акадэмічны тэатр оперы і балету. Закончылі вывад помнікаў са сховішчаў. З купалаў і шпіляў знялі маскіровачныя чахлы. У цэнтры зніклі агароды, на месцы якіх разбівалі клумбы і высаджвалі кветкі. 15 ліпеня 1945 г. на Анічкавым мосце занялі сваё месца славутыя конныя групы Клота. Аднак паглыбляўся жыллёвы крызіс, тэмпы аднаўлення былі малаздавальняючыя. У 1949 г. у горадзе было 1172 аварыйныя дамы. Адрамантаваць у бліжэйшыя гады збіраліся 272. Тым не менш у 1948 г. быў прыняты новы Генеральны план развіцця горада. Адным з яго галоўных аўтараў быў ураджэнец вёскі Старасельцы Гродзенскай губерні **Мікалай Варфаламеевіч Баранаў** (1909—1989). Мікалай Баранаў скончыў Ленінградскі інстытут грамадзянскіх інжынераў у 1931 г. Вучыўся ў Л. Ільіна, В. Шчуко, В. Гельфрэйха. У 1938 г. ён уступіў у кампартыю і быў прызначаны галоўным архітэктарам Ленінграда (заставаўся на гэтай пасадзе да 1951 г.). У гады вайны і блакады Мікалай Баранаў не толькі займаўся пытаннямі абароны горада, але і працаваў (разам з Е. Катоніным, А. Навумавым) над новым Генеральным планам. План быў прыняты ў 1948 г. (у 1951 г. зроблены карэкціроўкі) і разлічаны на 10—20 гадоў[2]. Захоўваючы развіццё горада ў паўднёвым, паўднёва-заходнім і паўднёва-ўсходнім напрамках, новы генплан прадугледжваў забудову паўночнага ўзбярэжжа дэльты Нявы. Тэрытарыяльнае развіццё мусіла ў адрозненне ад папярэдняга плана весціся канцэнтрычна. Планавалася вывесці горад да мора ў прыбярэжных раёнах Васільеўскага, Крастоўскага, Пятроўскага астравоў. У аснову жыллёвага будаўніцтва закладаўся мікрараённы прынцып. Прадугледжвалася прымяненне тыпавых рашэнняў і індустрыяльных метадаў. Акрамя генплана, Мікалай Баранаў вырашыў агульную кампаноўку ансамбля плошчы Леніна і спраектаваў новы будынак Фінляндскага вакзала, пры гэтым знакаміты помнік «Ленін выступае з браневіка» быў вынесены ад вакзала ў глыб плошчы. Мікалай Варфаламеевіч праектаваў пасляваеннае аднаўленне і рэканструкцыю помнікаў архітэктуры горада: плошчы Мастацтваў і плошчы Рэвалюцыі, забудовы Прыморскай зоны Васільеўскага вострава (1943—1966), Прыморскага праспекта (1948—1956), агульнагарадскога парку, шэрагу вялікіх грамадскіх пабудоў (у т. л. Спартыўна-канцэртны комплекс ім. У. І. Леніна на 25 тысяч гледачоў, 1980). Жыў Мікалай Баранаў на Марсавым полі, 5. У 1956 г. яго перавялі ў Маскву на пасаду віцэ-прэзідэнта і акадэміка-сакратара Акадэміі будаўніцтва і архітэктуры СССР. Акрамя прац у Пецярбургу, гэты таленавіты чалавек выканаў праект аднаўлення і развіцця Пскова (ажыццяўляецца з 1946 г.), напісаў шэраг прац па горадабудаўніцтве і архітэктуры. Узнагароджаны ордэнам Леніна[3].

Архітэктар-беларус Мікалай Назар'ін пасля вайны шмат праектаваў для паўночных раёнаў: «Новая Деревня», Ланская шаша. У 1947 г. паводле яго праектаў зроблена рэканструкцыя забудовы старой набярэжнай Вялікай Неўкі, паралельная вуліца Савушкіна таксама была рэканструявана і падоўжана. Дамы стварылі невялікія кварталы, у якіх малапавярховая забудова з кветнікамі была ўдала скампанаваная з зялянінай і вадой. У 1951—1958 гг. Назар'ін спраектаваў і пабудаваў шэраг прыкметных дамоў на Петраградскай старане: дом пісьменнікаў на вуліцы Леніна, 22—26, дом на Вялікай Пушкарскай, 11, на Кронверскім праспекце, 73. Удала ўпісаныя ў гістарычную забудову «Петраградкі», гэтыя дамы сталі арганічнай яе часткай. Вярнуўся

[1] *Смирнова Т. М.* Динамика белорусского населения Петербурга и Ленинградской области в XX веке // Белорусский сборник. Вып. 2. С. 186.

[2] *Баранов Н. В.* Генеральный план восстановления и развития Ленинграда // Возрождение. Воспоминания, очерки и документы о восстановлении Ленинграда. Л., 1977. С. 77—81.

[3] *Баранов Н. Н., Исаченко В. Г.* Главный архитектор Ленинграда Николай Баранов: Творческий путь и судьба. СПб., 2001.

да стваральнай працы архітэктар Аляксандр Афончанка — праектаваў і будаваў цэнтр Краснага Сяла, школу ў Вольгіне, шматлікія аб'екты ў Курортным раёне. З 1955 г. ён працаваў як савецкі спецыяліст у Кітайскай Народнай Рэспубліцы, вярнуўся ў Ленінград у 1957 г.

У 1948 г. цэнтральныя ўлады прынялі шэраг рашэнняў, накіраваных на аднаўленне і развіццё паліўна-энергетычнай і металургічнай базы Ленінграда, перабудовы яго прамысловасці. Шырокім фронтам аднаўляліся, рэканструяваліся і будаваліся новыя гідраўлічныя і цеплавыя электрастанцыі. На аднаўленні Волхаўскай і Свірскай ГЭС мантажом гідраагрэгатаў кіраваў ураджэнец Мінска інжынер **Абрам Гіршавіч Руднік**, пазней ён удзельнічаў у будаўніцтве іншых ГЭС СССР. Выпускнік Магілёўскага механічнага тэхнікума **Георгій Дзянісавіч Картажаў** (1907—1970) быў галоўным арганізатарам рэканструкцыі і мадэрнізацыі вытворчасці на заводзе «Рухавік» («Двигатель»), за што ў 1951 г. атрымаў Сталінскую прэмію. Вытворчасць дызельных матораў — спецыялізацыя завода «Звязда» (былая паштовая скрынка № 853). На гэтым прадпрыемстве прайшоў шлях ад памочніка майстра да генеральнага дырэктара **Валерый Анатольевіч Радчанка**. Яго родныя мясціны — вёска Студзенец і мястэчка Рось Ваўкавыскага раёна, Бяроза Картузкая на Брэстчыне. Цяжкае дзяцінства, праца, напорыстасць, навучанне... Цяпер Валерый Радчанка член Грамадскай рады Пецярбурга, Ганаровы консул Інданезіі ў Санкт-Пецярбургу. ... Малыя габарыты і маса рухавікоў, якія выпускае «Звязда», забяспечваюць вялікую энергaнасычанасць машынных аддзяленняў і дазваляюць будаваць караблі для Ваенна-Марскога флоту з выдатнымі тактыка-тэхнічнымі характарыстыкамі. Значную колькасць рухавікоў «Звязда» адпраўляе на экспарт, у тым ліку для лакаматываў Беларускай чыгункі.

Як і ў даваенны час, вядучую ролю ў СССР адыгрывалі буйнейшыя ленінградскія прадпрыемствы: «Пластпалімер», «Чырвоны трохвугольнік» («Красный треугольник»), «Пігмент» у хімічнай прамысловасці, «Скараход» і «Ленвест» — у абутковай, «Друкарскі двор» («Печатный двор») — у паліграфічнай. Для развіцця гаспадаркі краіны ў 1960—1980-я гг. вялікае значэнне мела ператварэнне некаторых прамысловых прадпрыемстваў у навукова-вытворчыя аб'яднанні (НВА): яны злучалі ў сабе, акрамя вытворчых цэхаў, праектна-канструктарскія і навукова-даследчыя аддзелы. Адным з найбольш вялікіх НПО ў горадзе стала аб'яднанне «Ленінец». Яно распрацоўвае і вырабляе радыёэлектронныя прыборы для ракет, самалётаў і караблёў. У гэтай арганізацыі з пасады іжынера да першага віцэ-прэзідэнта — выканаўчага дырэктара прайшоў шлях беларус **Леанід Рыгоравіч Галавач**. Нарадзіўся ён ў 1937 г. у Бабруйску. Скончыў Ленінградскі інстытут авіяцыйнага прыборабудавання (1961) і Ленінградскі фінансава-эканамічны інстытут (1976), у 1986 г. абараніў дысертацыю па эканоміцы. Займаўся Леанід Галавач пытаннямі акцыянавання прадпрыемстваў і стварэння новых эканамічных структур, працаваў намеснікам генеральнага дырэктара па эканамічных пытаннях НВА «Марс». У часы перабудовы ён правёў вялікую працу па рэарганізацыі НВА «Ленінец» у холдынг «Ленінец», да вытворчасці прыбораў і абсталявання дадалася актыўная дзейнасць на рынку нерухомасці, арганізацыя першых у Пецярбургу сумесных прадпрыемстваў з замежнымі фірмамі. Будуе новае жыллё і робіць рэканструкцыю старых будынкаў даччыннае прадпрыемства холдынгу «Пецярбургская нерухомасць», арганізавана вытворчасць прадукцыі разам з фірмай «Жылет» (Gilette), якая кантралюе 64% сусветнага рынку брытваў для галення. Апошнія гады прафесар Санкт-Пецярбургскай дзяржаўнай інжынерна-эканамічнай акадэміі Леанід Галавач больш увагі надае выкладчыцкай працы. Сярод іншых беларусаў, якія працавалі ў розных структурах карпарацыі «Ленінец», ураджэнец Мінска **Юрый Дзмітрыевіч Міронаў**, дырэктар стратэгічнага гаспадарчага цэнтра (1993—1996).

Яшчэ адно вялікае ленінградскае НВА — «Буревестник» — стала вядучым прадпрыемствам СССР па распрацоўцы і выпуску апаратуры для рэнтгенаўскага структурнага і спектральнага аналізу, рэнтгенаўскай мікраскапіі, імпульсных прыбораў для даследавання касмічнага выпраменьвання. Арганізаваў гэтае аб'яднанне беларус **Мікалай Іванавіч Камяк**, спецыяліст у галіне навуковага прыборабудавання. Нарадзіўся ён у 1928 г. у Мінску, у 1952 г. закончыў Ленінградскі электратэхнічны інстытут. Выкладаў у Ленінградскім электратэхнічным інстытуце, Інстытуце дакладнай механікі і оптыкі. Мікалай Камяк праявіў сябе як практык: арганізаваў распрацоўку і ўкараненне на аб'яднанні «Якуталмаз» люмінісцэнтных сепаратараў алмазаў, а таксама праявіў сябе і

ў фундаментальнай навуцы: доўгі час з'яўляўся галоўным рэдактарам часопіса «Навуковае прыборабудаванне» і рэгіянальным рэдактарам міжнароднага часопіса «X-Ray Spectrometry». За распрацоўку прынцыпова новага класа рэнтгенаўскіх прыбораў у 1978 г. ён атрымаў Дзяржаўную прэмію. Пасля Мікалая Камяка «Буревестник» узначаліў таксама беларус (ураджэнец далёкаўсходняй Савецкай Гавані) **Анатоль Мікалаевіч Мяжэвіч**, які працаваў на прадпрыемстве больш як 40 гадоў, з іх больш як 20 — на пасадзе генеральнага дырэктара.

Генеральным дырэктарам навукова-вытворчага аб'яднання «Граніт», у якім злучыліся НДІ-49 Мінсудпрама і тры суднабудаўнічыя заводы, у 1972 г. стаў ураджэнец Рагачова **Віктар Уладзіміравіч Паўлаў** (нар. у 1923 г.). У час Другой сусветнай вайны ён ваяваў на Ленінградскім фронце. Пасля вайны закончыў Ленінградскі электратэхнічны інстытут (1950) па спецыяльнасці «радыётэлекіраванне». Працаваў у Навукова-даследчым інстытуце № 49 Мінсудпрама інжынерам, начальнікам аддзела, дырэктарам. Віктар Паўлаў узначаліў комплекс работ па распрацоўцы і пастаўках спецыяльнай тэхнікі радыёэлектроннага марскога прыборабудавання. У 1970–1980-я гг. ён удзельнічаў у стварэнні найноўшых узораў ракетна-касмічнай тэхнікі. У 1984 г. атрымаў ганаровае званне Героя Сацыялістычнай Працы.

Энергетычную сістэму горада ў 70-я гг. папоўнілі самая магутная ў СССР Ленінградская атамная электрастанцыя (ЛАЭС — 4 млн кВт), пры якой вырас горад Сасновы Бор, і Кірышская цеплавая электрастанцыя (2 млн кВт). Усе ленінградскія станцыі, якія працавалі на вугалі і торфу, перайшлі на газ. Пабудовай газавых магістраляў у горадзе займаецца трэст «Ленгазспецбуд». З 1987 г. яго ўзначальвае **Аляксандр Аляксандравіч Камскі** (нар. 17.04.1947 г. у Баранавічах). У 1960–1980-я гг. была праведзена поўная рэканструкцыя ленінградскіх чыгунак — усе электрыфікаваны. Пабудаваны новыя будынкі чыгуначнага Фінляндскага вакзала, марскога пасажырскага вакзала ў Гавані і вышэй Валадарскага моста новы рачны порт з рачным вакзалам. Да марскога вакзала сталі падыходзіць турыстычныя цеплаходы, якія рабілі круізныя рэйсы па партах Паўночнай Еўропы. Хутка расла колькасць жыхароў:

| Перапіс насельніцтва, год | Насельніцтва Ленінграда (без прыгарадаў), тыс. чал. |
|---|---|
| 1959 | 3003,4 |
| 1970 | 3550,3 |
| 1979 | 4072,5 |
| 1989 | 4460,4 |

Доля жанчын, якая ў першыя пасляваенныя гады складала 59% усяго насельніцтва горада, да 1980-х гг. набліжаецца да нармальнай — 55%. Павялічылася доля пенсіянераў, у 1989 г. іх было 21% супраць 13% у пачатку 1960-х гг. Доля рабочых у складзе насельніцтва знізілася з 60% у 1950–1960-я гг. да 55% у 1970–1980-я гг.

У 1970 г. беларусаў у Ленінградзе налічвалася 64,6 тысячы, у 1979 г. — ужо 82 тысячы; паводле дадзеных апошняга ў СССР усесаюзнага перапісу (1989), беларускае насельніцтва дасягнула 93,6 тысячы, альбо 1,9% колькасці ўсіх гараджан. У вобласці ў канцы 1980-х гг. пражывала 33,7 тысячы беларусаў (2% насельніцтва)[1]. У кожнага была свая прычына прыезду ў горад, і пераважная большасць лёгка адаптавалася да Ленінграда. Пасля стараліся паспрыяць прыезду каго-небудзь са сваякоў, аднавяскоўцаў ці сяброў. Некаторыя (часцей за ўсё гэта датычыла вайскоўцаў), папрацаваўшы ў розных месцах СССР, збіраліся ўсёй сям'ёй у горадзе над Нявой. З такіх ці не кожны мог падпісацца пад словамі пецярбургскага пісьменніка вайскоўца-беларуса Аркадзя Пінчука:

«Я ніколі не забываўся, што стаўшы ленінградцам, амаль нічога не страціў, але атрымаў шмат таго, чаго мне не хапала ў папярэднім жыцці»[2].

Павелічэнне колькасці жыхароў выклікала абвастрэнне жыллёвага пытання. Недахоп жылля і перанаселенасць рабочых інтэрнатаў на буйных прадпрыемствах прывялі да абмежавання прапіскі і да з'яўлення пастановы пра забарону ў Ленінградзе ставіць на чаргу тых, хто жыў у горадзе менш чым 8 гадоў. Вырашэннем пытанняў па паляпшэнню жыллёвых умоў гараджан займаўся створаны ў студзені 1944 г. жыллёвы аддзел Ленгарвыканкама, які ў жніўні 1956 г. быў

[1] Экспресс-информация Ленинградского областного и городского управления статистики. Национальный состав населения Ленинграда // Ленинградская панорама. 1990. № 4. С. 16.

[2] *Пинчук А.* Белый аист летит. СПб., 2004. С. 487.

перайменаваны ва Упраўленне па ўліку і размеркаванні жылой плошчы. Жылля не хапала катастрафічна. Шукаючы выйсце, улада вымушана была адмовіцца ад жорсткага дзяржаўнага цэнтралізму і дазволіць стварэнне жыллёва-будаўнічых кааператываў (ЖБК). Гэтая мера прыцягнула ў будаўніцтва жылля сродкі грамадзян. У красавіку 1982 г. было створана Упраўленне жыллёва-будаўнічых кааператываў Ленгарвыканкама, якое кантралявала ўлік і прадастаўленне жылой плошчы гараджанам у новабудаваных дамах ЖБК.

Разам з ростам колькасці насельнікаў горада пашыралася і тэрыторыя забудовы. Да 1950 г. была адноўлена асвятляльная сетка, разбураная за гады вайны на 85%. Для ліхтарных слупоў упершыню скарысталі жалезабетонныя апоры, з 1955 г. лямпы напальвання замянілі люмінісцэнтныя лямпы. «Сённяшнему гараджаніну цяжка ўявіць, што ў 1950 г. галоўным клопатам жыхароў была нарыхтоўка дроў, — піша ў сваіх мемуарах адзін з пецярбургскіх беларусаў. — Асабліва наглядна гэтая праблема была бачна на складах «Ленгартопа», адкуль бясконцым патокам рухаліся аўтамашыны з дровамі, развозячы іх па ўсім горадзе. Двары дамоў былі запоўнены дровамі, штабелі ўзвышаліся ў гару, кожная кватэра мела як бы «свой» невялікі дрывяны склад... У дзень Перамогі 9 мая мае аднапалчане падымаліся на Пулкаўскія вышыні і адтуль добра бачылі цёмную «шапку» смогу, які накрываў горад. Са шматлікіх комінаў валіў чорны дым. Ураженне такое, быццам унізе вялікі кацёл, у якім вараць асфальт...»[1]. Толькі пасля ўводу магутнасцяў па вытворчасці газу ў Кохтла-Ярве і пабудовы ў 1955 г. магістральнага газаправода Серпухаў—Ленінград, працягласцю 803 км і дыяметрам трубы 700 мм, доля газу ў паліўным балансе горада склала 37% і пячное ацяпленне далей няўхільна згортвалася. У канцы 50-х гг. пачалі ўжываць новыя тэхналогіі ў будаўніцтве: паўсталі першыя ў горадзе буйнапанэльныя дамы ў Неўскім раёне (на вуліцах Палярнікаў і Сядова і на Малой Охце), пазней буйнапанэльнае будаўніцтва ахапіла іншыя раёны. З пачатку 1960-х гг. у Ленінградзе на базе заводаў жалезабетонных вырабаў створаны вялікія домабудаўнічыя камбінаты, якія ў канцы 1960-х гг. забяспечылі палову ўсяго новага жыллёвага будаўніцтва сваёй прадукцыяй — буйнапанэльнымі дамамі. З цэнтра горада на ўскраіны выязджалі жыхары расселеных камуналак. Істотным прарывам у вырашэнні транспартнай праблемы стала адкрыццё ў 1955 г. першай лініі метрапалітэна — яна атрымала назву Кіраўска-Выбаргскай. Праводзіліся значныя работы па будаўніцтве і рэканструкцыі ў гістарычным цэнтры. У 1962 г. было прынята рашэнне засыпаць Віцебскі канал, які пралягаў побач з Віцебскім вакзалам. Рашэнне гэта выканалі ў 1967 г. Разам з каналам знік Віцебскі мост. Новыя вуліцы атрымлівалі назвы ў гонар пераможнага сацыялізму (раён Купчына, дзе шэраг вуліц названы па сталіцах дзяржаў сацыялістычнага лагера: Бухарэсцкая, Будапешцкая, Пражская), або герояў свайго часу: праспекты Бальшавікоў, Энтузіястаў і Ударнікаў, якія гараджане неўзабаве празвалі «раёнам трох дурняў»... Асобную кватэру атрымалі Галіна Максімаўна Гарэцкая і яе маці Леаніла Усцінаўна Чарняўская — дачка і ўдава рэпрэсаванага акадэміка Максіма Гарэцкага. Іронія лёсу — кватэра была на праспекце Бальшавікоў — тых, якія разбурылі іх сям'ю.

Паступова паляпшаліся жыллёвыя ўмовы гараджан, пазначыўся рух з цэнтра ў новыя раёны. Калі ў пачатку 1960-х гг. у гістарычным цэнтры Ленінграда пражывала больш чым палова насельніцтва горада, то ў канцы 1980-х гг. яго доля была не больш як 30%. Колькасць жыхароў камунальных кватэр скарацілася з 50% (у 1950-я гг.) да 22% на пачатку 1990-х. У дамах, якія былі пабудаваныя да 1918 г., жыло 16% насельніцтва Ленінграда, у дамах пабудовы 1918—1940 гг. — 3%, у дамах пабудовы 1941—1960 — 12% і ў дамах, пабудаваных пасля 1960-х — 69%. Высокую пасаду намесніка загадчыка аддзела будаўніцтва ў Ленінградскай вобласці, абкаме партыі займаў **Васіль Афанасьевіч Галаўко**, ураджэнец Васілевічаў Гомельскай вобласці.

Стварэнне мінеральна-сыравіннай базы для будаўнічай індустрыі Ленінграда забяспечваў геолаг **Іван Стэфанавіч Афанасьеў** (нарадзіўся 02.01.1930 г. у вёсцы Апалонаўка Магілёўскай вобласці). З 1960 да 1974 г. ён працаваў галоўным інжынерам, пазней начальнікам Ленінградскай комплекснай геалагічнай экспедыцыі. Іван Афанасьеў закончыў у 1954 г. Горны інстытут, працоўную дзейнасць пачаў на прадпрыемствах Балгарыі і Чэхаславакіі: удзельнічаў у будаўніцтве аб'ектаў, працах па пошуку радовішчаў урану. У якасці эксперта яго накіроўвалі для аказання тэхнічнай дапамогі ў Індыю, Іран, Грэцыю, Югаславію, Чылі, Фінляндыю. Пазней ён

[1] *Головко В.* Жизнь была интересной. Кн. 1—2. СПб., 2002. С. 288, 293.

працаваў галоўным інжынерам аб’яднання «Севзапгеология» (1974–1986) і дырэктарам Усерасійскага НДІ методыкі і тэхнікі геалагаразведкі (з 1986).

На працягу многіх гадоў галавой савецкай школы механікі грунтаў і будаўніцтва фундаментаў быў **Мікалай Аляксандравіч Цытовіч** (1900–1984). Нарадзіўся ён ў вёсцы Бель на Смаленшчыне, скончыў Смаленскі політэхнічны інстытут па спецыяльнасці фізіка і матэматыка і Ленінградскі інстытут грамадзянскіх інжынераў. З 1941 г. прафесар Цытовіч выкладаў курс інжынернай геалогіі на кафедры аснаванняў, фундаментаў і механікі грунтоў у Ленінградскім інстытуце інжынераў прамысловага будаўніцтва. Пасля пераезду ў Маскву ён загадваў кафедрай у Маскоўскім інжынерна-будаўнічым інстытуце, працаваў дырэктарам Інстытута мерзлатазнаўства, удзельнічаў у праектаванні і будаўніцтве многіх гідравузлоў, быў прэзідэнтам Расійскай асацыяцыі механікі грунтоў і фундаментазнаўства. Ён — лаўрэат Сталінскай прэміі, Герой Сацыялістычнай Працы. Шмат пакаленняў будаўнікоў вучыліся па яго дапаможніках па механіцы грунтоў і будаўніцтве фундаментаў. Навуковыя працы Мікалая Цытовіча перакладзены на кітайскую, англійскую, іспанскую і французскую мовы.

Домабудаўнічыя камбінаты напачатку будавалі толькі пяціпавярховыя дамы, аднак неўзабаве сталі будаваць больш высокія: сямі-, дзевяціпавярховыя. У 1960–1970-я гг. на поўдні горада інтэнсіўна забудоўваліся кварталы ўздоўж праспектаў Маскоўскага, Новаізмайлаўскага, Гагарына, Касманаўтаў, а таксама раён вёскі Купчына, на поўначы будаваліся Гражданка, Вялікая Охта і Палюстрава. З сярэдзіны 1970-х гг. разгарнулася забудова раёнаў Шувалава-Азяркі, былога Каменданцкага аэрадрома, раёна Ржэўкі-Парахавых і пауднёвай часткі Купчына.



*Правы бераг Нявы за Валадарскім мастом інтэнсіўна забудоўваўся з канца 1960-х гадоў*

# Раздзел 14.

## ЛЕНІНГРАД — ПЕРАБУДОВА — САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ

Санкт-Пецярбург.
А ў маім Ленінградзе
столькі варон не было...
*Міша Сапега*

Сучасны Санкт-Пецярбург фармальна пачынаецца з 6 верасня 1991 г., калі гораду была вернута гістарычнае імя. Ініцыятарам аднаўлення стаў першы абраны жыхарамі мэр Анатоль Сабчак. Хоць і засталіся ў назвах шматлікія ўспаміны — трэст «Ленэнерга», газета «Ленінградская праўда», піва «Ленінградскае», рок-гурт «Ленінград», будаўнічая арганізацыя «ЛенСпецСМУ» і Ленінградская вобласць, але ўсё гэта толькі падкрэслівае наяўнасць Санкт-Пецярбурга. Адзін з феноменаў Пецярбурга заключаецца ў тым, што «калі Ленінград ізноў перайменавалі ў Санкт-Пецярбург, у суправаджэнні да вернутай назвы пачало гучаць — «паўночная сталіца». Гэты стыхійны эпітэт пайшоў гуляць па газетных палосах, па эфіры, дабраўся і да звычайнай гутаркі... Але ж «сталіца» — паняцце дзяржаўнае, а таму вымагае наяўнасці дзяржаўных устаноў... Такіх у горадзе амаль няма... І ўсё ж — сталіца»[1]. Прыгажосць горада немагчыма перадаць дакладнымі лічбамі, хоць першы мэр добра разумеў прыцягальную сілу Пецярбурга і бачыў у ім сусветнага значэння турыстычны цэнтр... А статыстыка — замест таго, каб паэтычна сказаць «Горад над ціхай Нявой...», суха паведамляе, напрыклад: на 1995 г. горад меў 401 адзінку мастоў, набярэжных пагонных метраў — 151 тысячу[2].

У 90-я гады Пецярбург разам з усёй Расіяй уступіў у новую паласу развіцця. Пачалася лібералізацыя эканомікі, якая заключалася ў вызваленні цэнаў з-пад кантролю дзяржавы, змяненнем формы ўласнасці (прыватызацыі) і рэфармаванні банкаўскай сістэмы.

Большасць людзей з тых, што рабілі перабудову ў галіне эканомікі і банкаўскай справы вучыліся па падручніках, напісаных пецярбуржскім беларусам, прафесарам Леанідам Тарасевічам: «Мікраэканоміка», «Макраэканоміка», «Агульная эканамічная тэорыя», ён жа рэдагаваў пераклад базавага падручніка П. А. Самуэльсона і В. Д. Нордкаўса «Эканоміка». Пазней за падручнікі «Мікраэканоміка» і «Макраэканоміка» прафесару Тарасевічу прысуджана прэмія Ураду Расійскай Федэрацыі ў галіне адукацыі.

Усе пераўтварэнні праводзіліся радыкальна, што выклікала крызісныя з'явы ў эканоміцы і сацыяльным жыцці, некаторыя з іх сталі хранічнымі. Эканамічны крызіс абвастраўся з-за асаблівасцяў структуры прамысловасці горада, метавіта, з-за наяўнасці вялікай колькасці прадпрыемстваў ваенна-прамысловага комплексу, якія ў папярэдні час знаходзіліся ў прывеліраваным становішчы, а цяпер пазбаўлены большасці дзяржаўных датацый. З 1991 па 1997 г. аб'ём вытворчасці ў прамысловасці горада зменшыўся больш чым у 2,5 разы. З-за скарачэння бюджэтнага фінансавання ў цяжкім становішчы апынуліся навуковыя ўстановы, у першую чаргу тыя, дзе рабілася фундаментальная навука. Значная колькасць маладых вучоных выехала за мяжу, шмат хто змяніў прафесію. Да мінімуму зменшыўся прыток у піцерскія акадэмічныя ўстановы і ВНУ таленавітай моладзі з Беларусі.

Перамена эканамічных умоў рэзка паўплывала на змяненне дэмаграфічнай сітуацыі ў горадзе. У 2000 г. колькасць пастаянных жыхароў зменшылася ў параўнанні з 1991 г. на 405 тысяч чалавек і склала 4 мільёны 630 тысяч. Галоўныя прычыны — павелічэнне смяротнасці і змяншэнне ўзроўню нараджальнасці. У 2000 г. смяротнасць у горадзе амаль у два разы перавышала нараджальнасць. Адбываўся працэс дэмаграфічнага старэння і змяншэння працаздольнага насельніцтва. Згодна са статыстыкай, у апошні год існавання Ленінграда (1990) у горадзе нарадзілася 1395 беларусаў, а ў першы год пасля перайменавання горада (1991) бацькі-беларусы нарадзілі 1089 немаўлят[3]. Пецярбуржцы-беларусы, як бы абставіны ні змяншалі іх кантакты з радзімай, стараліся

---

[1] *Холмогоров М. К.* Ненумерованное чудо света // Феномен Петербурга. СПб., 2001. С. 51.

[2] За строками цифр: С.-Петербург. 1995. СПб., 1996. С. 145.

[3] Население Санкт-Петербурга (статистический сборник) / Под ред. д.м.н. В.Г. Корюкина. СПб., 1994. С. 71.

захаваць нейкія яе знакі: беларускія кнігі ў хатняй бібліятэцы, падпіска на газету «ЛіМ», «Наша Ніва» ці «Звязда», касеты і дыскі з запісамі беларускай музыкі... Адданасць Беларусі адлюстравалася ў вершы пецярбургскай паэткі Аўгінні Кавалюк «Мой край святы»[1]:

Малюся небу над Нявою,
На Поўнач вывела сцяжа,
Ды ачышчаецца Табою
Мая душа...

Дзеці, якія нарадзіліся ў Пецярбургу, часцей за ўсё мову бацькоў не вучылі, хоць былі і выключэнні. На пытанне «Ці ездзілі вашы дзеці з Вамі ў Беларусь?» мастак Іван Чэрнякевіч так адказаў карэспандэнту газеты: «А як жа, ездзілі. Мову яны ведаюць — праўда не вельмі добра, замежнымі лепш валодаюць. Дома па-руску размаўляем. Дачка беларускія песні часам спявае... Самае галоўнае, што дзеці гэтую культуру не адмаўляюць. Можа быць таму, што я ім яе не навязваю»[2].



*Іван Чэрнякевіч у майстэрні*

Перапіс насельніцтва 2002 г. зафіксаваў у Пецярбургу 54,5 тысячы беларусаў, што склала 1,2% ад усяго насельніцтва горада. У параўнанні з перапісам 1989 г., калі беларусаў зафіксавана 93,6 тысячы, адбыліся значныя колькасныя змены: паменшала на 39,1 тысячы чалавек[3]. Прычыны гэтага розныя: менш едуць на вучобу, больш стала нелегалаў (тыя, хто прыехаў на сезонную працу, звычайна не прапісваюцца). Незалежна ад канкрэтнай колькасці пецярбургскіх беларусаў перад аўтарам гэтай кнігі паўстала задача бадай што невыканальная — немагчыма прадставіць усіх цікавых, вартых увагі людзей. Паабяцаем чытачу, што тых, каго мы не ўзгадалі ў гэтай кнізе, пастараемся прыгадаць у наступным выданні.

Як знайсці беларуса ў 4-мільённым Піцеры? Гэта не проста, але магчыма. На латках прадаўцоў CD можна купіць базу дадзеных «Адрасы і тэлефоны ў Санкт-Пецярбургу». База дадзеных — крыніца інфармацыі, у якой не ўказана ні паходжанне, ні нацыянальнасць, ні веравызнанне. Адным словам — пецярбуржцы. Але некаторых пецярбуржцаў-беларусаў можна пазнаць па характэрных прозвішчах, напрыклад, цэнтральна- і паўночна-беларускія прозвішчы на -ёнак: Майсяёнак, Кавалёнак... У базе дадзеных «Адрасы Санкт-Пецярбурга» за 2004 г. можна знайсці 34 асобы з прозвішчам Гайсёнак. Можна быць упэўненым, што пераважная большасць гэтых людзей (іх продкаў) — выхадцы з Беларусі. Іншыя роды падзяліліся: бываюць ужо Смолка, Смалянчук ці Бурачок украінскага, беларускага, рускага паходжання. Прозвішча віцэ-губернатара Віктара Лабко мы трактуем як злучэнне старажытнага балтыйскага кораня лаб-, зн. «добры» і славянскага ўтваральнага суфікса -ко: Лаб-ко — «добры чалавек». Самому віцэ-губернатару гэтая версія спадабалася, і ён выклаў яе ў адным з інтэрв'ю карэспандэнту «Камсамольскай праўды». Некаторыя прозвішчы распаўсюджаны так шырока, што пра паходжанне сваіх носьбітаў нічога не скажуць. Некаторыя ўвядуць у зман. Напрыклад, Нікалаеў — тыпова рускае прозвішча, ёсць шмат Нікалаевых башкір, удмуртаў (з іх трэці савецкі касманаўт Адрыян Нікалаеў). Аўтар гэтай кнігі, Мікалай Нікалаеў, лічыць сябе беларусам, бо радзімай для яго стала радзіма маці, вёска Нянькава, што знаходзіцца паміж Навагрудкам і Любчай. Ды й бацька, афіцэр савецкай ваеннай авіяцыі Віктар Сцяпанавіч Нікалаеў, асеўшы пасля дэмабілізацыі ў Навагрудку, пасміхаўся з мясцовых русіфікаваных жыхароў і называў сябе большым беларусам, чым яны, яго сябры і (часам) сабутэльнікі.

Пецярбургскія беларусы ў час перабудовы асабліва ўважліва сачылі за падзеямі на радзіме, якая патроху рабілася замежнай дзяржавай. Стэрэатып знаходжання ў адной краіне працягваў жыць шмат у каго з іх (як і ў беларусаў на Беларусі). Мае рацыю мінскі

---

[1] *Кавалюк А.* Адклікаюцца рэхам гады. Мінск, 2005. С. 19.
[2] *Чернякевич И.* Если язык умрет, мы станем беднее. Вечерний Петербург 21 янв. 2003. С. 5.
[3] *Смирнова Т. М.* Мы разные, но мы земляки // Город нашей общей судьбы. СПб., 2005. С. 16.

філосаф Валянцін Акудовіч — большасць былых савецкіх грамадзян незалежная Беларусь палохала — яна несла шмат незнаёмага і нясвойскага. Новыя грошы і «Пагоня» на кукардах міліцыі і войска, бел-чырвона-белы сцяг над урадавымі будынкамі. У гісторыі замест звыклых Васіля Іванавіча Чапаева і Фелікса Эдмундавіча Дзяржынскага запанавалі нейкія Альгерды, Вітаўты, Сапегі, нейкае ВКЛ, БНР і безліч незразумелага іншага. Прышоўшыя да ўлады нацыяналісты адмаўлялі ў праве на жыццё папярэдняму наробку, які перад гэтым напаўняў сэнсам і значэннем існаванне савецкага чалавека. Нацыяналісты ў Мінску прапаноўвалі жыць без майскіх і кастрычніцкіх святаў, без гонару за перамогу ў той Вялікай вайне, без успамінаў пра палёты ў космас Гагарына і сваіх родных: Кавалёнка і Клімука. Для тысяч пецярбуржцаў, якія ехалі на лета ў родную беларускую вёску, паўставаў фантом пагранічніка і мытніка замежнай дзяржавы, які ўвосень не пусціць дапамагчы бацькам выбраць бульбу...

Большасць, напэўна, не хацела незалежнасці і свабоды, бо ж мела магутную звышдзяржаву, якую стваралі ўласнымі крывёю і потам і якая праз сваю веліч надавала велічы і ўсім... А канцэптуальны разрыў нацыяналістаў з беларускім народам і эміграцыяй адбыўся не столькі з рознага стаўлення да гісторыі і ідэалогіі, колькі з ацэнкі таго, як беларусы жылі апошнія дзвесце гадоў.

Апазіцыйныя БНФаўцы на чале з Пазняком вучылі, што ўсю гэтую пару беларусы заставаліся скаланізаванымі, што дзяды і прадзеды былі рабамі Расіі, а мы, нашчадкі гэтых рабоў, сёння займелі свабоду і незалежнасць дзякуючы супраціву найлепшых з нашых продкаў і сучаснікаў. Большасць беларусаў Пецярбурга разважала інакш: яны не займелі (свабоду), а страцілі — вялікую дзяржаву, з якой мусіў лічыцца ўвесь свет, і жывучы ў якой гэты астатні свет быў і не надта патрэбны. Пецярбургскім беларусам нават смешна слухаць пра нейкае там рабства, бо добры працэнт палітычнай, эканамічнай ды інтэлектуальнай эліты горада складалі беларусы па паходжанні. І БССР у канфігурацыі СССР займала адно з самых паважных месцаў, была індустрыяльна мадэрнізаваная і мела ўзровень дабрабыту меншы толькі за Літву, Латвію, Эстонію і Маскву — побач з Ленінградам.

Паказальная статыстыка ўзроўню адукацыі насельніцтва Пецярбурга: беларусы бліжэй, чым прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў, да «сярэдняй» лічбы, адпаведна, да ўзроўню адукаванасці рускіх[1]:

| Нацыянальнасць | Жыхары, старэйшыя за 15 гадоў, тыс. | Кандыдаты і дактары навук | Вышэйшая адукацыя | Няпоўная вышэйшая адукацыя | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| рускія | 3445,1 | 28,3 (0,8%) | 927,8 (26,9%) | 6,1% | 33,8% |
| украінцы | 84,0 | 1,0 (0,8 %) | 29,0 (34,5%) | 4,5% | 40,2% |
| беларусы | 52,8 | 0,4 (0,8%) | 13,3 (25,2%) | 3,7% | 29,7% |
| яўрэі | 35,3 | 0,9 (2,5%) | 20,8 (58,9%) | 4,2% | 65,6% |
| татары | 32,6 | 0,2 (0,6%) | 7,5 (23,0%) | 5,2% | 28,8% |
| Усе | 4076,9 | 32,3 (0,8%) | 1032,3 (25,3%) | 5,6% | 31,7% |

Пры гэтым нельга сказаць, што пецярбургскія беларусы рашуча настроеныя супраць незалежнасці Беларусі. Не. Але і адмаўляцца ад сваёй вялікай гісторыі ў супольнасці з Расійскай дзяржавай ім не выпадае, бо яны нашчадкі яшчэ дарэвалюцыйных міністраў, генералаў, прафесараў, журналістаў, пісьменнікаў, інжынераў, дактароў, салістаў оперы... Ім не пасуе мяняць ролю воінаў і дойлідаў, якія «за саветамі» вызвалілі свет ад фашызму, засвоілі ладную частку свету касмічнага і збудавалі першую ў свеце камуністычную цывілізацыю, на ганебную ролю скаланізаванага раба, які сам з гэтага рабства нават вызваліцца не здолеў.

Пасля стварэння незалежных дзяржаў змяніўся статус адносін з Беларуссю Расійскай Федэрацыі. Дэкларавалiся адзіная эканамічная прастора і захаванне правоў. У горад, які сам стаў самастойным суб'ектам Расійскай Федэрацыі, часта наведваліся афіцыйныя дэлегацыі з Беларусі. Варта ўспомніць візіт прэзідэнта А. Лукашэнкі ў чэрвені 1995 г., калі было падпісана Пагадненне паміж Мэрыяй Санкт-Пецярбурга і Міністэрствам эканомікі Рэспублікі Беларусь аб гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве і створана рабочая група па супрацоўніцтве. Візіты працягваліся і пазней — пецярбуржцаў у Мінск (найбольш значныя: візіт дэлегацыі на чале з першым віцэ-губернатарам В. Шчарбаковым у чэрвені 1998 г., калі

[1] Национальный состав и владение языками. Гражданство. Кн. 2. М., 2004. С. 1452.

былі падпісаны пагадненні аб сумеснай вытворчасці транспартных сродкаў і медыкаментаў, візіт дэлегацыі на чале з губернатарам У. Якаўлевым у жніўні 2001 г.) і беларускіх афіцыйных асобаў у Пецярбург (візіт першага намесніка старшыні Урада РБ У. Даўгалёва ў красавіку 1999 г., міністра культуры Л. Гулякі ў снежні 2002 г., візіты дэлегацый магілёўскай (у 1998 і 2000 гг.) і брэсцкай (у 2002 г.) абласцей з перамовамі аб гандлёва-эканамічным і навуковатэхнічным супрацоўніцтве). Апошні — візіт прэм'ер-міністра С. Сідорскага 12 красавіка 2007 г. і яго перамовы з Іллём Клябанавым і Валянцінай Матвіенкай. Адваротны бок гэтай дружбы: грамадзяне Беларусі ў большасці выпадкаў нязвыкла, як для папярэдняй гісторыі, трактаваліся і трактуюцца як грамадзяне замежнай краіны. Гэта датычыць і 30% падатку з прыехаўшага на будаўніцтва кальцавой дарогі рабочага (як з «замежніка»), і літара «И» перад нумарам білета навуковага супрацоўніка ў Расійскую нацыянальную бібліятэку, што значыць «Иностранец». Тыя, хто званіў на радзіму, раптам паўсталі перад фактам званіць за мяжу, набіраючы ў кодзе сувязі пасля міжгародняй «васьмёркі» міжнародную «дзесятку», а толькі потым код краіны (375) і код горада (даведачнае выданне «Жоўтыя старонкі. Санкт-Пецярбург» на 2006 г. паведамляла пецярбуржцам коды 122 беларускіх гарадоў). Званіць з Піцера ў Беларусь каштавала ў некалькі разоў даражэй чым, напрыклад, у больш далёкую Германію.

Эканамічныя цяжкасці пачатку перабудовы паспрыялі развіццю стыхійнага гандлю: «чаўнакі» з Беларусі везлі ў горад малочныя прадукты, трыкатаж... Часта колькасць тавару не перавышала памераў ручнога багажу — «прадавец» стараўся яшчэ на пероне Віцебскага вакзала, дзе яго чакалі спажыўцы (радзей перакупшчыкі) тварожных сыркоў, смятаны і да таго падобнага рэалізаваць тавар і паспець на бліжэйшы цягнік да Віцебска. Некаторыя заставаліся на некалькі дзён, хадзілі па прадпрыемствах, бралі заказы... Трапна ілюструе становішча адно з «назіранняў» журналіста Віктара Дзятліковіча: «*Уладзіслаў захацеў купіць шкарпэтак. Ну, і адначасова падтрымаць айчыннага вытворцу. На вуліцы, падышоўшы да бабулек-гандлярак, угледзеў, што яму трэба, і запытаў: "А шкарпэткі беларускія?" "Беларускія, сыночак, беларускія. З Віцебска", — адказала бабулька. "Якія ж яны беларускія, — узрушылася суседка-гандлярка, — пагля́дзі, яны ж са Смаленска!" "Ну, Віцебск, Смаленск, усё адно ж Беларусь", — рэзюмавала бабка, тым самым падцвердзіўшы абгрунтаванасць беларускіх прэтэнзій на Смаленшчыну*».

Часам новы паслясавецкі Пецярбург нараджаў у сваім «заходніцкім» парыве вельмі культурна-эклектычныя і гэтым «беларускія» па падабенстве з'явы. Прыкладам, у сакавіку 1994 г. на Неўскім праспекце, на рагу з Вялікай Канюшанай, з'явілася шыльда магазіна дарагога адзення: лацінкай было напісана «Alivekt», а побач кірыліцай «Алівеkт», апошняя з-за літар «і» і «k» выглядала вельмі па-беларуску. А калі ўвосень 2002 г. на шыльдзе прадуктовага магазіна «Магазин Находка» насупраць цырка ў рускай літары «и» адламалі адну ножку, то гэта выглядала як акцыя беларускіх нацыяналістаў, бо ўвесь надпіс «магазін» быў зроблены на бела-чырвона-белым фоне колераў нацыянальнага сцяга, які незадоўга перад тым адмяніў у Беларусі Аляксандр Лукашэнка.




*Пецярбургскі матыў: магазін насупраць цырка*

Неўзабаве была прынята пастанова, каб тыя, хто прыехаў з Беларусі, абавязкова зарэгістраваліся ў трохдзённы тэрмін. Выконвалася гэтае патрабаванне кепска, але на паперы яно існавала, успомніць пра рэгістрацыю маглі ў любым выпадку. Без рэгістрацыі не прымалі на «легальную» працу, а вось на будоўлі прымалі, пры гэтым абдзіраючы прыежджых як ліпку. З раўнапраўнага грамадзяніна чалавек ператвараўся ў «арбайтэра». Праўда, для пенсіянераў — грамадзян РБ дзейнічалі льготы на праезд у гарадскім транспарце. Сотні людзей былі занятыя справай легалізацыі сваіх сваякоў (часцей за ўсё бацькоў), надання ім расійскага грамадзянства. Паралельна ў Мінску на ўрадавым узроўні, а ў Маскве на каляўрадавым (П. Барадзін) вялася прапагандысцкая кампанія пра стварэнне агульнай беларуска-расійскай дзяржавы, што ўрэшце

было замацавана ў Дамове аб стварэнні Саюзнай дзяржавы ад 8 снежня 1999 г.[1].

Аднак Дамова дамовай, а падаткі з беларусаў бралі як з замежнікаў. Толькі 10 ліпеня 2005 г. Федэральная падатковая служба Расіі выпусціла спецыяльную інструкцыю, дзе тлумачыліся новыя правілы спагнання падаходнага падатку з грамадзян Беларусі. Беларусаў прызналі фінансавымі рэзідэнтамі Расіі ад першага дня працы ў краіне, гэта значыць, што яны павінны плаціць 13% падатку. Да гэтага, каб беларуса прызналі фінасавым рэзідэнтам, трэба было пацвердзіць той факт, што ён больш як 6 месяцаў у год жыве на тэрыторыі Расіі, і ўвесь гэты час ён мусіў плаціць 30% падатку. 1 лістапада 2006 г. на пасяджэнні Кансультацыйнай рады па справах нацыянальна-культурных аб'яднанняў начальнік упраўлення Федэральнай міграцыйнай службы па Санкт-Пецярбургу і Ленінградскай вобласці Юры Бурак агучыў цікавыя лічбы. Агулам у 2006 г. у горад і Ленінградскую вобласць прыехалі 1,2 мільёна замежнікаў, у Пецярбургу іх 528 тысяч. Статыстыка па іншаземцах, якія прыехалі ў пошуках працы, выглядала наступным чынам: з агульнай колькасці ў 14 тысяч чалавек больш за ўсё грамадзян Беларусі — амаль 3,5 тысячы. Другія па колькасці ўзбекі — каля 2 тысяч, гастарбайтэраў-грузінаў усяго 39 чалавек.




*Магазін мэблі на набярэжнай Фантанкі*

Паступова ад гандлю тварагом і шкарпэткамі на Віцебскім вакзале і рынках горада, гандлёвыя адносіны Беларусі і Пецярбурга набывалі рысы сучаснага капіталізму. Прынамсі, у лістападзе 2006 г., падчас чарговай спрэчкі паміж Расіяй і Беларуссю (Расія адмовілася купляць беларускі цукар; у гэты ж час ішлі актыўныя перамовы аб продажы кампаніі «Белтрансгаз») была падпісана дамова аб супрацоўніцтве паміж «Біржай Санкт-Пецярбург» і Беларускай універсальнай таварнай біржай. Таварна-фондавая «Біржа Санкт-Пецярбург» была створана ў 1991 г. На гэтай пляцоўцы падпісваюцца ф'ючэрсныя кантракты на нафту гатунку «Brent» і на крос-курс еўра-долар. Немалое значэнне мела тая акалічнасць, што ў таварнай секцыі актыўна ішоў гандаль цукрам. Мэта дамовы з беларусамі — арганізаваць паміж біржамі супрацоўніцтва і актывізаваць біржавую дзейнасць дзеля развіцця таварных рынкаў Рэспублікі Беларусь і Паўднёва-Заходняга рэгіёна Расійскай Федэрацыі, стварыць адзіную інфармацыйную і гандлёвую прастору; выпрацаваць адзіныя стандарты тэрміналогіі і прадастаўлення інфармацыі. Як адна з галоўных разглядалася задача ўзгадніць і спрасціць доступ удзельнікаў гандлю кожнай з біржаў да заключэння кантрактаў на іншай біржы, вырашыць пытанні, якія датычаць акрэдытацыі і тэхнічных сродкаў доступу да гандлёвых сістэм на абедзвюх біржах. Аднак гэты крок, хай сабе адзін са шматлікіх, да канца не вырашае пытання інтэграцыі. Пытанне, якое пастаўлена ў вершы пецярбуржца капітана 1-га рангу Лявона Навасельскага напярэдадні Новага, 1993 г., актуальнае і дасёння:

Мне сняцца сны аб Беларусі...
Сустрэнемся ў наступны год?
Ці палітычны карагод
У рублёвай зоне жыць прымусіць?
Не ведаю, чаго шукаць,
І дзе наш будзе паратунак.
Гісторыі ліхі рахунак
Не пераждыць і не схаваць...

Напачатку 21 стагоддзя пад пратэктаратам Саюзнай дзяржавы развіваюцца некалькі важных як для Пецярбурга, так і для РБ эканамічных праектаў. Прынамсі вядучы расійскі вытворца лёгкіх высокаабаротных дызельных рухавікоў для суднабудавання і чыгуначнага транспарту ААТ «Звязда» з'яўляецца афіцыйным удзельнікам Праграмы развіцця Беларускай чыгункі да 2010 года і праграмы мадэрнізацыі дзеючага і ўкаранення новага рухомага саставу. Піцерская «Звязда» ўдзельнічае ў стварэнні новай серыі пасажырскіх дызель-цягнікоў павышанай камфортнасці, якія будуе паводле заказу Беларускай чыгункі Рыжскі вагонабудаўнічы завод.

Адно з буйнейшых навукова-вытворчых аб'яднанняў Расіі ў галіне мікраэлектронікі і

[1] Иллюстрированная история Союзного государства. М., 2004. С. 20.

мікрасістэматэхнікі, пецярбургскі «Авангард» разам з беларускай фірмай «Планар» выступілі ініцыятарамі навукова-тэхнічнай праграмы Саюзнай дзяржавы «Распрацоўка і стварэнне новага пакалення мікрасістэматэхнікі і ўніфікаваных інтэграваных сістэм двайнога прызначэння на яе аснове» на 2007—2011 гады. Прынята рашэнне ў рамках гэтай праграмы стварыць Расійска-Беларускі цэнтр «Мікрасістэматэхніка» на навукова-вытворчай базе ААТ «Авангард».

Чакаецца, што ў выніку рэалізацыі праграмы будзе створана сучасная навукова-вытворчая інфраструктура па распрацоўцы і вытворчасці кампанентнай базы і ўніфікаваных электронных модуляў для выпуску высокатэхналагічнай навукаёмістай радыёэлектроннай прадукцыі. Вобласць яе прымянення — найважнейшыя тэхнічныя сістэмы паветранага, марскога, наземнага транспарту, ракетна-касмічная тэхніка, машынабудаўнічае, энергетычнае абсталяванне, вылічальная тэхніка, сістэмы кіравання, навігацыі, сувязі, медыцынская тэхніка, экалагічны кантроль. У рэалізацыі праграмы бяруць удзел больш за 30 прадпрыемстваў Расіі і да 15 прадпрыемстваў Рэспублікі Беларусь. Сярод нашых — мінскія «Планар», «Інтэграл», НДІ радыёматэрыялаў і іншыя. Тэрмін рэалізацыі праграмы разлічаны на 2009—2012 гады.

Акрамя захадаў па стварэнні Саюзнай дзяржавы Расія—Беларусь, новыя адносіны з былымі рэспублікамі СССР Расійская Федэрацыя арганізавала і пры дапамозе СНД (Садружнасць Незалежных Дзяржаў). Пастаянная Асамблея СНД мае рэзідэнцыю ў Пецярбургу, у Таўрыдскім палацы. Пры Асамблеі дзейнічае пастаянны орган — Сакратарыят Савета Міжпарламенцкай Асамблеі (намеснікам Генеральнага сакратара Савета ў 2003 г. стаў прадстаўнік Беларусі Дзмітрый Шыла)[1]. Адказным сакратаром Пастаяннай камісіі МПА СНД па культуры, навуцы, адукацыі і інфарматыцы з 1993 г. працуе **Канстанцін Андрэевіч Пшэнко**. Род Пшэнко паходзіць з-пад Лепеля Віцебскай вобласці. Прадзеды, дзед, бабуля і бацька Канстанціна Андрэевіча нарадзіліся ў вёсцы Дубовы Лог. У сям'і захавалася старажытная традыцыя: чаргаваць імёны Андрэй і Канстанцін. Канстанцін Пшэнко нарадзіўся 13 лютага 1948 г. у г. Нея Кастрамской вобласці, у 1973 г. закончыў гістарычны факультэт Ленінградскага педінстытута ім. А. Герцэна. Да 1993 г. працаваў у педінстытуце начальнікам вучэбнай часткі і дэканам па працы з замежнымі навучэнцамі. У 2003 г. абараніў доктарскую дысертацыю на тэму «Фармаванне агульнай культурнай і адукацыйнай прасторы СНД (1991—1999)». Ён аўтар чатырох манаграфій і больш як паўсотні артыкулаў, якія выдадзены ў Расіі, Беларусі, Казахстане, Венгрыі, Галандыі і Кітаі. Жонка Канстанціна Пшэнко — загадчык вытворчасці тартоў і пірожаных «Север» — найлепшага ў горадзе. Сын згодна з сямейнай традыцыяй атрымаў імя Андрэй.




*У год 300-годдзя Пецярбурга Канстанцін Пшэнко пасадзіў дрэва ад імя Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь*

Традыцыйна лепшыя вучні беларускіх школ ехалі ў Ленінград спрабаваць свае сілы ў інстытутах гэтага горада. Шмат хто паступаў, добра вучыўся, пасля заканчэння заставаўся ў аспірантуры або атрымліваў па размеркаванні накіраванне на працу ў горадзе, часам нават «з выдзяленнем жылплошчы», што было найвышэйшай формай заахвочвання. Усяго ў 1980-я гг. горад рыхтаваў штогод 40 тысяч чалавек у ВНУ і 20 тысяч у сярэдніх спецыяльных навучальных установах. Партрэт сучаснага беларуса-пецярбуржца складаецца і з часткі гэтых выпускнікоў, выдатных індывідуальнасцяў — мастакоў, журналістаў, музыкантаў і пісьменнікаў, і са звычайных добрасумлен-

[1] Содружество независимых государств: взгляд из Санкт-Петербурга. СПб., 2003. С. 74.

ных працаўнікоў — прадстаўнікоў рабочага класа, чыноўніцтва, прадпрымальнікаў. Што пастаянна зніжаецца, дык гэта працэнт студэнтаў-беларусаў у пецярбургскіх ВНУ і сярэдніх навучальных установах.

Пецярбургская прэса першых гадоў перабудовы на Беларусь хіба што толькі звяртала ўвагу: за два гады (1992—1993) з'явілася ўсяго каля 700 публікацый (артыкулаў, рэцэнзій, паведамленняў кароткім радком, афіцыйных матэрыялаў і інш.). У 1994 г. гэтая лічба павялічваецца прыкладна ўдвая, што звязана з прэзідэнцкімі выбарамі, абмеркаваннем адзінай рублёвай зоны Беларусі і Расіі і набліжэннем 50-годдзя перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне[1].

Тэматычна пераважная большасць публікацый прысвечана сучаснай Беларусі (грамадства, гаспадарка, палітыка) — каля 300 назваў (35%), беларусам і ўраджэнцам Беларусі за яе межамі — каля 30%. 3-е месца занялі матэрыялы пра злачынствы ў сучаснай Беларусі — каля 100 назваў. 4%, што вельмі мала, матэрыялаў на тэму «Пецярбург і Беларусь» — 36 публікацый. Усяго 3,5% склалі матэрыялы па гісторыі Беларусі са старажытных часоў да 1991 г. (большасць з іх у яўрэйскай газеце «Народ мой» прысвечаны гісторыі яўрэяў — выхадцаў з Беларусі). Па сучаснай вайсковай справе мелася 4% публікацый (41 назва), 3% склалі раздзелы «Здароўе», «Навука, адукацыя», «Культура»; 2% — «Фізкультура і спорт», «Літаратура і мастацтва» — па 20 назваў. Нарэшце, менш за ўсё газеты пісалі пра мову і фальклор, рэлігію і царкву, адлюстраванне Беларусі ў мастацкай літаратуры.

Большасць матэрыялаў давалі штотыднёвік «ЧП» («Час Пик») і «Санкт-Пецярбургскія ведамасці» (так назвала сябе былая «Ленинградская правда») — па 20%, прыкладна па 12% — «Смена» і штотыднёвік «СПБЭ», «Невское время», трошкі менш — 10% — «На страже Родины», каля 5% — «Вячэрні Пецярбург», астатнія газеты значна менш: абласная «Вести», патрыятычная «Новый Петербург» і яўрэйская «Народ мой» — прыкладна па 2—2,5% публікацый.

Значная большасць публікацый належаць журналістам Алегу Груздзіловічу і Святлане Гаўрылінай. А. Груздзіловіч даваў у пецярбургскія газеты шмат артыкулаў пра крымінальныя здарэнні на Беларусі. Вось некалькі назваў з яго 48 публікацый на гэту тэму: «Баі на жывёлагадоўчым фронце» (пра ўзброены грабеж на свінаферме ў Глускім раёне), «Смеласць гарвыканкамы бярэ» (пра разгром падлеткамі будынка Талачынскага гарвыканкама), «Баця знайшоўся. Хаваўся ў лесе» (пра ўхіленне ад аплаты аліментаў у Магілёве), «На месцы злодзея так паступіў бы кожны» (пра вяртанне злодзеем няякаснага тавару ў камісійны магазін у Мінску), «У судзе запахла вэнджаным» (пра тое, як частка суда ў Гомелі была перададзена пад магазін мясакамбінату). З іншых артыкулаў А. Груздзіловіча пра Беларусь часу перабудовы можна назваць «Амінь, вуліца і дэпутаты» (пра перайменаванне ў адным з пасёлкаў Гродзенскага раёна вуліцы Леніна на вуліцу Яна Паўла II), «Магазін «Піянер» прадаў чырвоныя сцягі для трунаў» (пра рытуальныя паслугі у Гомелі). Большасць публікацый вайсковай тэматыкі — пра вывад расійскіх падраздзяленняў з тэрыторыі Беларусі.

З ураджэнцаў Беларусі найбольш пісалі пра аднаго з галоўных кіраўнікоў перабудовы ў РФ Анатоля Чубайса, эканаміста Аркадзя Вольскага і, што адпавядала духу часу, экстрасэнса Аляксандра Ільіна, таксама ураджэнца Беларусі. Рэйтынг працягваюць віцэ-прэм'ер Валерый Аксючыц і мастак Марк Шагал, фізік Жарэс Алфёраў, драматург Аляксандр Валодзін і акцёр Яфім Капелян. Слаба прадстаўлена ў перыёдыцы тэма «Пецярбург і Беларусь», пры гэтым найбольшая колькасць матэрыялаў прысвечана продажу беларускіх прадуктаў харчавання і чыгуначнаму транспарту, галоўным чынам той тэме, каб цягнікі хадзілі праз Беларусь, а не праз Прыбалтыку. Усяго толькі дзве публікацыі прысвечаны супрацоўніцтву беларускіх і пецярбуржскіх прадпрыемстваў. У гэты час прэса паведамляла пра адкрыццё ў Пецярбургу славянскай школы з беларуска-ўкраінскім класам і пра адкрыццё помніка ахвярам палітычных рэпрэсій. У публікацыях прысутнічае інфармацыя з Мінска, Брэста, Гродна і Віцебска, Магілёва і Гомеля, Слуцка, Барысава і Оршы. З цягам часу пісаць пра Беларусь сталі менш, а калі і з'яўляліся публікацыі, яны маглі быць даволі тэндэнцыйнымі, хай сабе і кампліментарнымі для Беларусі. Напрыклад, газета «Новый Петербург» 29 лістапада 2006 г. надрукавала інтэрв'ю дацэнта Санкт-Пецярбургскага электратэхнічнага універсітэта Мікалая Саф'яннікава з Ігарам Захаравым «Просты сакрэт беларускага цуда», дзе апяваецца Беларусь, якая ў

[1] Паводле матэрыялаў даклада М. А. Мамантава на канферэнцыі «Санкт-Пецярбург і беларуская культура» ў 2003 г.

большай ступені за іншыя краіны захавала набыткі сацыялістычнай эканомікі. Аўтары гэтай пахвальбы ані праблем самой Беларусі, ані асаблівасцяў супрацоўніцтва рэспублікі з Пецярбургам не кранаюць.

* * *



*Сучасная забудова. Ланскі квартал. Першую высотку на Таржкоўскай вуліцы спраектаваў архітэктар Мікалай Назар'ін, суседні жылы дом будаваў Вячаслаў Заранкоў*

У 1992 г. адбылося рэзкае падзенне аб'ёмаў жыллёвага будаўніцтва ў горадзе. Яно скарацілася ў параўнанні з папярэднім годам прыкладна на 40%. Пасля пачаўся пад'ём, і да сярэдзіны 1990-х гг. быў дасягнуты ранейшы ўзровень. Аднак становішча з жыллём у Пецярбургу было незайздросна кепскае. Кожны чацвёрты жыў у камунальнай кватэры, каля 400 тысяч чалавек — у інтэрнатах. Будаўнічая індустрыя як магла рэагавала на патрэбы жыцця. «Абвальная прыватызацыя» будаўнічых трэстаў прывяла да масавага з'яўлення акцыянерных таварыстваў. Звычайна яны захоўвалі і сваіх былых кіраўнікоў, і ранейшыя, ужо мала прыдатныя формы і метады працы. Перад будаўнікамі паўсталі праблемы капітальнай перабудовы структуры вытворчасці, гэта запатрабавала ведання сучаснага менеджменту, маркетынгу, кіравання кадрамі і фінансамі... Вельмі дапамагла тады, у 1992—1993 гг., праграма навучання «Сучасны менеджмент у будаўніцтве», якую на сродкі Еўрасаюза правялі Пецярбургскі інстытут метадаў і тэхнікі кіравання і Манчэстэрскі універсітэт навукі і тэхналогіі. Пасля навучання адбылася практычная стажыроўка кіраўнікоў пецярбургскіх кампаній у аднатыпных фірмах у Манчэстэры, наступным крокам стала наведванне Гановера і Парыжа. Адбылося знаёмства з багатым вопытам еўрапейскіх бізнэс-супольнасцяў, якія ніколі не ведалі адміністратыўна-камандных структур. Асабліва моцнае ўражанне зрабіла моц французскага саюза будаўнікоў, які аб'яднаў больш як 42 тысячы кампаній і мае значную палітычную вагу ў дзяржаве. Вярнуўшыся ў Пецярбург, удзельнікі паездкі вырашылі арганізаваць падобную супольнасць у сваім горадзе. У выніку заснавальнікамі «Саюзпетрабуда» сталі 40 кампаній, сярод якіх — «Будаўнічы трэст № 9» на чале з беларусам Уладзімірам Шышко.

Заслугай «Саюзпетрабуда» стала тое, што пачатак XXI ст. адзначыўся для горада новымі дасягненнямі ў будаўніцтве жылля. Сярод будаўнічых арганізацый на вядучыя пазіцыі выйшлі кампаніі «Будаўнічы трэст», «Будаўнічая карпарацыя адраджэнне Санкт-Пецярбурга», «ЛЭК», «Трэст-36», «Эталон-ЛенСпецСМУ» і інш. Абвастрыліся некалькі вялікіх праблем Пецярбурга: капітальнага рамонту патрабуе ўсё больш дамоў дарэвалюцыйнага фонду, скончыўся тэрмін, на які былі разлічаны «хрушчоўкі», і паўстала праблема іх замены, урэшце, паменшала свабодных пляцовак для пабудовы новых дамоў. Вялікім тэхнічным дасягненнем будаўнічай індустрыі горада з балоцістымі глебамі сталі пабудаваныя ў 2002 г. трэстам «Эталон-ЛенСпецСМУ» самыя высокія — 25-павярховыя дамы. Тым часам трэст адразу пачаў працаваць над дамамі на 36 паверхаў, а ў мэрыі сур'ёзна абмяркоўвалі пабудову хмарачоса «Газпром-сіці» вышынёй 89 паверхаў...

Жыллёвым будаўніцтвам у розных раёнах горада з 1993 г. займаецца «Трэст-36». Акрамя жылых дамоў на праспекце Энгельса, на вуліцах Сікейраса, Звёзнай, Дыбенкі, праф. Качалава, Бармалеева, у 2005 г. «Трэст-36» на правах забудоўшчыка, заказчыка і інвестара закончыў будаўніцтва 14-павярховага жылога дома з убудаванай музычнай школай і прыбудаванай канцэртнай залай у Выбаргскім раёне — на праспекце Луначарскага, 21. Галоўная рэзідэнцыя «Трэста-36» — у двары дома № 3 па вуліцы Цюленева, побач з Казанскім саборам. Унікальнай асаблівасцю гэтай будаўнічай арганізацыі з'яўляецца тое, што ад часу заснавання (паводле загаду І. Сталіна ў 1944 г. для аднаўлення разбуранага вайной Ленінграда) і да 2005 г. трэстам кіравалі толькі тры (!) генеральныя дырэктары і тры (!) галоўныя інжынеры. Неверагодная рэч для будаўнічай арганізацыі, ды і для любой савецкай арганізацыі, якая перажыла часы партыйных і кадравых чыстак... Трэцім генеральным дырэктарам (з 1993 да 2006 г.) быў выхадзец з Беларусі Гіліль Дворкін. **Гіліль Майсеевіч Дворкін** (02.12.1937—11.02.2006) нарадзіўся

на станцыі Калінкавічы Гомельскай вобласці. Першыя сем класаў закончыў у 14-й чыгуначнай школе ў Калінкавічах. Калі памерла маці, хлапчук паехаў жыць да цёткі ў Ленінград, тут закончыў вячэрнюю школу. Пасля службы ў Ваенна-марскім флоце пайшоў на будоўлю, бо будаўнікам давалі інтэрнат. Працаваў рабочым на домабудаўнічым камбінаце, станочнікам у сталярным цэху. Пастаянна вучыўся: спачатку ў тэхнікуме, а ў 1984 г. скончыў Ленінградскі фінансава-эканамічны інстытут па спецыяльнасці «Планаванне прамысловасці». Так склалася жыццё, што жонку — Браніславу Якаўлеўну — прывёз з Беларусі, са сваіх Калінкавічаў. З 1963 г. да апошніх дзён жыцця Гіліль Дворкін працаваў у будаўнічым «Трэсце-36» і прайшоў тут шлях ад рабочага да генеральнага дырэктара. Удзельнічаў у будаўніцтве аб'ектаў вялікай значнасці для Пецябурга і вобласці: заводаў «Звязда», «Сцяг Кастрычніка», «Чырвоны Хімік» і электрамеханічнага ў Пецярбургу, будаваў «Фасфарыт» у г. Кінгісепе (уключаючы і прамысловыя магутнасці на прадпрыемстве, і жылыя дамы, і водазабор), Ленінградскую кардонную фабрыку, Млынавы камбінат імя С. М. Кірава, жывапісны цэх і музей фарфоравага завода ім. Ламаносава. А ўсяго за 40 гадоў працоўнага стажу пабудаваў больш як 800 аб'ектаў. За заслугі ў галіне будаўніцтва Гілілю Дворкіну прысвоены званні Заслужаны будаўнік Расійскай Федэрацыі і Ганаровы будаўнік Расіі. Урос у Пецярбургскую глебу Гіліль Майсеевіч, але заўсёды з цеплынёй успамінаў родныя Калінкавічы, вёску Давыдаўку Азарыцкага раёна, дзе жыў яго дзед — ветэран Першай сусветнай вайны і георгіеўскі кавалер, асабісты возчык генерала Курапаткіна.



*Гіліль Дворкін*

Шмат землякоў генеральнага дырэктара працавала (і сёння працуе) у 36-м трэсце. Сярод іншых – інспектар па кадрах **Галіна Адамаўна Пугач** (родам са Светлагорскага раёна Гомельскай вобласці). Амаль не саракагадовы стаж піцерскай прапіскі ў Галіны Адамаўны, але ні на хвіліну не можа забыцца ў сталічным горадзе пра родную зямельку.



*Яфім Левін*

Да высокай, у будаўніцтве, пасады генеральнага дырэктара «Будаўнічага упраўлення-42» вырас выхадзец з Беларусі **Яфім Раманавіч Левін**, які пачынаў кар'еру будаўніка ў тым жа 36-м будтрэсце. Нарадзіўся ён 2 студзеня 1949 г. у Рэчыцы ў сям'і дырэктара мясцовага Дома культуры. Захапляўся Яфім Левін маляваннем (наведваў студыю Л. Абрамовіча), музыкай, але пасля заканчэння рэчыцкай СШ № 5 паехаў вучыцца ў Ленінградскі інжынерна-будаўнічы інстытут. Адслужыў у арміі ў войсках супрацьпаветранай абароны, вярнуўся на будоўлі Ленінграда. Працаваў прарабам, майстрам, каб у дэмакратычным 1987 г. стаць абраным начальнікам упраўлення, а пасля перабудовы ўзначаліць ЗАТ «СУ-42». Будаваў фабрыку «Чырвоны трохвугольнік», завод турбінных лапатак, разам з земляком Гілілем Дворкіным будавалі Ленінградскую кардонную фабрыку (Яфім Левін — памяшканне пад галоўную машыну, Гіліль Дворкін — складскія памяшканні). Прафесійны рост будаўніка Яфіма Левіна адбываўся на такіх складаных і адказных аб'ектах, як завод сельгасмашын, Ленінградскі малочны камбінат у прамысловай зоне «Парнас», складская

база «Саюзкнігі», «Ленвыдат». Але не адной будоўляй... Пасля таго, як жыццё прымусіла пазнаёміцца з урачамі-нейрахірургамі, Яфім Левін стаў падтрымліваць гэтых элітных па сваіх ведах і ўмельствах медыкаў. Заснаваў выдавецтва, у якім выходзіць адзіны ў свеце спецыялізаваны часопіс «Нейрахірургія і неўралогія дзіцячага ўзросту» (членам рэдкалегіі часопіса стаў зямляк ураджэнец Ліды Юрый Шчарбук) і выдаюцца кнігі па хірургіі.

Рэчыца застаецца для піцерскага будаўніка любоўю назаўсёды, як музыка. Яфім Раманавіч з задавальненнем успамінае, што некалі яго бацька дапамог стварыць пры рэчыцкім Доме культуры адзін з першых у Беларусі вакальна-інструментальных ансамбляў. Сябра Яфіма, Валера Яшкін, пайшоў адсюль працаваць у ансамбль «Лявоны» (пазней перайменаваны ў «Песняры»). У цяжкім пасляперабудовачным піцерскім жыцці Яфім Левін матэрыяльна дапамагаў землякам творчых прафесій: мастакам Віктару Сівуху і Юрыю Казаку, пісьменніку Анатолю Кірвелю. Як чалавек вельмі артыстычны Яфім Раманавіч любіць успамінаць, як у Рэчыцы малым дзіцём сядзеў на каленях акцёра Яфіма Капеляна, сам добра чытае байкі Петруся Броўкі і вершы Якуба Коласа. У галіне будаўніцтва працаваў у Ленінградзе—Пецярбургу беларус **Валянцін Васільевіч Кулеш**, дасягнуўшы ў пачатку XXI ст. высокай пасады намесніка Генеральнага дырэктара будаўнічага трэста № 37.

У 1977 г. у складзе «Галоўленінградбуда» была створана арганізацыя, якая забяспечвала мантаж ліфтаў на ўсіх новабудоўлях горада і вобласці, — «Спецтрэст № 27». Яе галоўная сядзіба знаходзіцца на Маскоўскім праспекце, 109. З 1977 г. у якасці рабочага тут пачаў працаваць беларус **Валерый Васільевіч Атрашэўскі**. Нарадзіўся ён 15 студзеня 1950 г. у вёсцы Угодзіна Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці. Адразу пасля заканчэння сярэдняй школы паступіў вучыцца ў ленінградскую Лесатэхнічную акадэмію, якая на той час насіла імя партыйнага правадыра Сяргея Міронавіча Кірава (як і Ваенна-медыцынская акадэмія, Марыінскі тэатр і іншыя ўстановы горада). У «Спецтрэсце № 27» Валерый Атрашэўскі прайшоў шлях да генеральнага дырэктара, акрамя таго, у 2007 г. яго, як аўтарытэтнага практыка-будаўніка, абралі членам Савета «Саюзпетрабуда». З радзімы Валерый Атрашэўскі вынес любоў да коней, а яшчэ — актыўнае змаганне супраць любога ўціску: пры гэтым успамінае, як пабіў вокны дырэктару роднай Угодзінскай школы адразу пасля таго, як атрымаў атэстат. Высокай адзнакай працы Валерыя Атрашэўскага стала вышэйшая для будаўніка грамадская прафесійная ўзнагарода — знак «Строительная слава», які ён атрымаў у 2007 г.



*Валерый Атрашэўскі*

Буйнапанэльнае будаўніцтва прывяло да стварэння сумнай аднастайнасці ў новых раёнах. Каб хоць крыху выправіць сітуацыю, з 1970-х гг. пачалі побач са стандартнымі сямі-, васьмі-, дзевяціпавярховымі дамамі ставіць кропачныя альбо вежавыя дамы на 12—17 паверхаў. У 70—80-я гг. такое спалучэнне розных тыпаў дамоў праводзілася ў забудове ўсіх раёнаў горада. У той жа час пабудаваны і сацыяльна-значныя аб'екты паводле індывідуальных праектаў: вялікая канцэртная зала «Кастрычніцкая» («Октябрьский»), спартыўна-канцэртны комплекс на праспекце Гагарына, выставачны комплекс у Гавані на Васільеўскім востраве. Прыкметнымі архітэктурнымі з'явамі гэтага перыяду сталі будынак аэрапорта «Пулкава», ансамблі плошчы Перамогі, гасцінічны комплекс «Прыбалтыйская». Важнай горадабудаўнічай дамінантай стаў спраектаваны архітэктарам-беларусам Мікалаем Назар'іным дом № 1 на Таржкоўскай вуліцы (1970—1981) — стромкі і эфектны семнаццаціпавярховік на беразе Чорнай рэчкі, побач з Чарнарэчанскім мостам. Праз 20 гадоў суседні дом на Таржкоўскай вуліцы быў пабудаваны пад кіраўніцтвам земляка Мікалая Назар'іна Вячаслава Заранкова.

Мы ўжо ўспаміналі, якую вялікую ролю адыгралі беларусы ў інжынерным забеспячэнні будаўніцтва дамоў, палацаў, грамадскіх будынкаў горада ў XIX ст.: Сільвіюш Лукашэвіч, Георгій Рабцэвіч, Канстанцін Ціхаміраў спецыялізаваліся на вытворчасці ацяпляльных прыбораў і печаў. Шмат тэхнічных навінак у будаўнічую прак-

тыку ўвёў інжынер-беларус Клімент Ляшэвіч: печкі з пустацелай цэглы, цагляныя духавыя цыліндрычныя каларыферы ў чахлах з бляхі, вадзяное ацяпленне нізкага ціску ад кухоннай печы, электрычныя тэрмометры, паветраныя фільтры і інш. Традыцыю ў XXI ст. працягвае **Валерый Тадэвушавіч Валадкевіч**, на чале з якім таварыства «Энергаформ» будуе новыя катлы для кацельных Пецярбурга, а таксама займаецца эксплуатацыяй імпартнага катлавога абсталявання.

Транспартную праблему новых аддаленых раёнаў дапамагалі вырашаць 80 кіламетраў новых ліній метрапалітэна, якія пабудаваныя ў 1960–1980-я гг.: яны ўзялі на сябе амаль трэцюю частку пасажыраў горада. Павялічылася колькасць тралейбусных (пераважалі машыны зробленыя ў г. Энгельсе) і аўтобусных (тут дамінавалі венгерскія «Ікарусы» і ўкраінскія «ЛАЗы») маршрутаў.

У сярэдзіне 90-х гадоў, калі Расія толькі пачала пераадольваць наступствы цяжкага крызіснага часу, пецярбуржцы са здзіўленнем назіралі, як на фоне сумных тыповых шматпавярховікаў імкліва вырастаюць новыя будынкі. На той час любое новае будаўніцтва ўспрымалася як рэдкасць, а дамы з нестандартным архітэктурным абліччам адразу прыцягвалі ўвагу. Так у Пецярбургу даведаліся і запомнілі назву «Эталон-ЛенСпецСМУ». Першыя жылыя дамы кампанія пабудавала на Каменданцкім праспекце, Гакелеўскай вуліцы. Дамы на праспекце Энгельса, 50, і праспекце Луначарскага, 76/2, сталі эталонам домабудаўніцтва другой паловы 90-х гг. Стваральнікам і кіраўніком кампаніі «Эталон-ЛенСпецСМУ» з'яўляецца **Вячаслаў Адамавіч Заранкоў**. Творчая энергія гэтага чалавека шмат у чым вызначыла стан будаўніцтва ў Санкт-Пецярбургу на мяжы тысячагоддзяў.

Вячаслаў Заранкоў нарадзіўся ў 1951 г. паблізу Оршы ў вёсцы Хадулы Зубрэвіцкага сельсавета. Сям'я Заранковых была вялікая: выхоўвалі пяцёх дзяцей. Маці — Соф'я Пятроўна працавала ў калгасе брыгадзірам. Бацька — Адам Аляксеевіч, удзельнік фінскай і айчыннай войнаў, быў цесляром на будоўлях. З дзецьмі сядзела бабуля. Вячаслаў закончыў сярэднюю школу ў пасёлку Зубрэвічы, год працаваў у геалагічнай экспедыцыі. Купіўшы на зробленыя грошы новае паліто, паехаў у Ленінград паступаць у інстытут. Аднак на ўступныя экзамены спазніўся, і так апынуўся на будоўлі. Малады арматуршчык будаўнічага трэста № 39 «Галоўзахадбуда» па кар'ернай лесвіцы рухаўся імкліва. Ужо ў 18 гадоў стаў брыгадзірам — дапамагло выдатнае веданне матэматыкі: лёгка разбіраўся ў чарцяжах. Члены яго брыгады (мужыкі за сорак) прызналі не толькі прафесійныя здольнасці, але і лідэрства маладога беларускага хлопца. Вучыцца давялося на вячэрнім аддзяленні, паступіў у Інжынерна-будаўнічы інстытут на спецыяльнасць «Прамысловае і грамадзянскае будаўніцтва». Працаваў майстрам, прарабам, начальнікам участка.



*Вячаслаў Заранкоў*

З будучай жонкай Галінай пазнаёміўся на дні нараджэння ў сябра. Разам хадзілі на каток, у тэатр; праз год пажаніліся. Першыя гады жылі ў інтэрнаце каля Троіцкага поля. Там жа нарадзіўся (8 студзеня 1973 г.) сын Дзмітрый. «У пакоі нас было дзве сям'і, — успамінае Вячаслаў Заранкоў. — З аднаго боку шафы — мы з дзіцём, а з другога боку — другая сям'я. Тры гады мы так гаравалі, потым нам далі асобны пакойчык. Для вучобы не было месца — хадзіў да ўпраўляючага, прасіў у інтэрнаце абсталяваць памяшканне для заняткаў. Ён паслаў мяне на могілкі: маўляў, ідзі, вучыся, там ціха».

Тым не менш у 1979 г. Вячаслаў Заранкоў ужо галоўны інжынер будаўнічага ўпраўлення, потым упраўляючы трэста. Будаваў вытворчыя корпусы для «Светланы», для «ЛОМО». У 1987 г. Міністэрства электроннай прамысловасці СССР прыняло рашэнне аб стварэнні спецыялізаванага будаўнічага прадпрыемства для будаўніцтва так званых чыстых пакояў — вытворчых памяшканняў для зборкі электронных прыбораў, дзе кожная пылінка «на ўліку». Так з'явілася «Эталон-ЛенСпецСМУ», а Вячаслаў Заранкоў стаў генеральным дырэктарам прадпрыемства.

Арганізацыя ствралася з нуля, пачынала ў арандаваным 12-метровым пакойчыку, дзе нават стала не знайшлося, толькі крэсла і тэлефон. На падтрымку міністэрства разлічваць не выпадала, паколькі само яно перастала існаваць. Той жа лёс напаткаў і электронную

прамысловасць, і СССР. Разлічваць давялося на ўласныя сілы, і дзяржаўнае на паперы прадпрыемства ператварылася ў вытворча-кааператыўнае. Каманда, якую ўзначаліў Вячаслаў Заранкоў, вучылася працаваць у новых эканамічных умовах. Браліся за любыя заказы. Першым непрамысловым аб'ектам «ЛенСпецСМУ» стала будка ахоўніка на аўтастаянцы на вуліцы Маршала Новікава. Першую прэс-канферэнцыю правялі ў 1989 г. у будаўнічым вагончыку. Прыйшло тады на яе 6 журналістаў.

Арыентацыя на жыллёвае будаўніцтва ў пачатку 90-х выглядала рызыкоўна, але Вячаслаў Заранкоў быў упэўнены ў поспеху. У «ЛенСпецСМУ» ўпершыню ў Расіі быў заключаны дагавор долевага ўдзелу. Прыватныя інвестыцыі ў жыллёвае будаўніцтва на дзесяцігоддзе сталі амаль не адзінай формай фінансавання. Колькасць кліентаў кампаніі дасягнула дзесяткаў тысяч.

Вытворча-кааператыўнае прадпрыемства было пераўтворана ў Закрытае акцыянернае таварыства, вакол якога ў пачатку 2000-х гг. сфармаваўся інвестыцыйна-будаўнічы холдынг «Эталон-ЛенСпецСМУ». Перад пачаткам сусветнага эканамічнага крызісу ў восень 2008 г. гэта адзін з моцнейшых удзельнікаў будаўнічага рынку Расіі і абсалютны рэкардсмен аб'ёмаў будаўніцтва па Санкт-Пецярбургу — 378 тысяч м$^2$ на працягу года. Прадпрыемствы холдынга займаюцца вытворчасцю будаўнічых матэрыялаў, праектаваннем, будаўніцтвам жылой, камерцыйнай і прамысловай нерухомасці, камунальным абслугоўваннем дамоў. Геаграфія будаўнічых пляцовак імкліва пашыраецца: у 2006 г. «ЛенСпецСМУ» будуе не толькі ў Пецярбургу, але і ў Маскве, і ў Еўропе.

«ЛенСпецСМУ» спецыялізуецца на квартальнай забудове, ставіць і вырашае буйныя горадабудаўнічыя задачы. Жылыя комплексы холдынга пецярбуржцы ведаюць па абліччы і па назвах — «Жывая Крыніца» на Паклоннай гары, «Ланскі квартал» каля Чорнай рэчкі, «Марскі Фасад» і «Марскі Каскад» у вусці ракі Смаленкі, квартал вакол станцыі метро «Акадэмічная», «Залатая Гавань» у Лахце, элітны квартал «Ля Растральных калон» паблізу стрэлкі Васільеўскага вострава.

Прэс-сакратаром у Вячаслава Заранкова працуе пецярбургская беларуска **Соф'я Анатольеўна Станкоўская**, фінансавую службу ЗАТ «Эталон-Праект», які ўваходзіць у склад «ЛенСпецСМУ», з 2003 г. узначальвае магіляўчанка **Ірына Фёдараўна Кудрашова**, камп'ютарны аддзел — ураджэнец Барані (што каля Оршы) **Аляксандр Уселадавіч Басс**, гаспадаркай галоўнага офіса кіруе палкоўнік запаса, ураджэнец вёскі Заполле Крупскага раёна Мінскай вобласці **Сяргей Васільевіч Вішняк**. Усяго ў структурах холдынгу працуюць звыш 300 беларусаў. 17 лютага 2007 г. у канферэнц-зале на Багатырскім праспекце па ініцыятыве прэзыдэнта холдынга прафесара Заранкова сустрэліся прадстаўнікі ўсіх беларускіх арганізацый горада «без гальштукаў». Былі добрыя словы і ўспаміны аб далёкай маленькай Радзіме, чыталі вершы, спявалі песні...

Вячаслаў Заранкоў мае званне Заслужаны будаўнік Расійскай Федэрацыі, узнагароджаны ганаровымі знакамі «Будаўнік Пецярбурга», «Будаўнік года — 2005». Галава «ЛенСпецСМУ» шмат робіць, каб падтрымаць праваслаўную царкву. Дзякуючы яго намаганням былі адноўлены будынкі манастыроў Іаана Кранштацкага на Карпаўцы, Навадзявочага манастыра на Маскоўскім праспекце; пабудаваны храм Св. Георгія Пераможцы ў Купчыне; будуецца новы храм ў Прыморскім раёне.

Доктар эканамічных навук прафесар Вячаслаў Заранкоў займаецца падрыхтоўкай кадраў для будаўніцтва, выкладае ў Архітэктурна-будаўнічым універсітэце. Абапіраючыся на вялізны вопыт рэалізацыі праектаў, вучоны напісаў кнігу «Кіраванне праектамі», якая ў 2006 г. мела два выданні. Манаграфія па тэорыі менеджмента не толькі атрымала высокую ацэнку навуковай і бізнес-супольнасці, але і стала падзеяй грамадскага жыцця. Чытачы палюбілі кнігу за лёгкасць чытання і нагляднасць матэрыялу. Ілюстрацыі да «Кіравання праектамі» намаляваў Віктар Ціхаміраў, вядомы пецярбургскі мастак з групы «Міцькі».

Вячаслаў Заранкоў і сам захапляецца мастацтвам. У 90-я гады ён пачаў займацца жывапісам. Спачатку ставіўся да гэтага як да адпачынку, аднак узровень яго прац (пераважна гэта пейзажы), хутка стаў прафесійным. Інжынер-будаўнік неаднойчы ўдзельнічаў у мастацкіх выставах, шэраг яго прац набылі сур'ёзныя расійскія і замежныя калекцыянеры.

Дынастыю будаўнікоў працягвае першы віцэ-прэзідэнт холдынга «Эталон-ЛенСпецСМУ» ганаровы будаўнік Расіі **Дзмітрый Заранкоў** — сын Вячаслава Адамавіча. Жонка Дзмітрыя, Юлія Заранкова — таленавіты архітэктар, аўтар прасторава-планіровачнай канцэпцыі жылога комплекса «Новае Сузор'е». Дзмітрый і Юлія

выхоўваюць сына Уладзіка і дачку Насцю — пецярбуржцаў у трэцім пакаленні.

А старэйшына дынастыі пецярбуржац Вячаслаў Заранкоў не парывае сувязяў з радзімай. У вёсцы Хадулы засталася бацькоўская хата Заранковых, куды Вячаслаў Адамавіч з сям'ёй заязджае ўсякі раз, калі ёсць магчымасць. «Зімой, калі прыязджаеш, там жа мароз 25—30 градусаў. Хатку адкрыеш, распаліш у печы, тут жа ўся радня набягае. Цесна, усе садзяцца за стол, патрэсквае агонь... Хочацца жыць дзеля такіх хвілін. Як бы ні было добра, які б ні быў дастатак, але цяпло роднай хаты, такіх момантаў, я цаню вышэй за ўсё».

Вячаслаў Заранкоў шэфствуе над сельскай школай у Зубрэвічах, у якой калісьці вучыўся, рэгулярна ладзіць экскурсійныя паездкі школьнікаў у Санкт-Пецярбург. Неад'емная частка праграмы — агляд аб'ектаў «ЛенСпецСМУ». Гэта выдатныя ўзоры сучаснага дойлідства, якія працягваюць у горадзе над Нявой традыцыі вялікіх майстроў мінулага. Дамы і кварталы, пабудаваныя Заранковым, вызначаюць архітэктурнае аблічча новых раёнаў Пецярбурга.

Перад шыкоўным дзевяціпавярховым офісам холдынга на Багатырскім праспекце, 4, кожны вечар святочна зіхацяць электрычныя агні на фігурыстым жалезным дрэве. Такая радасная ілюмінацыя цешыць не толькі тых, хто працуе ў «Эталон-ЛенСпецСМУ» але і натоўп прахожых вялікага горада. Калі вечарам ехаць на машыне на Оршу, за Коханава на Барань, убачыш такое ж самае вясёлае дрэва: выпускнік школы ў Зубрэвічах Вячаслаў Заранкоў зрабіў падарунак сваім былым настаўнікам і іх сённяшнім вучням — такі самы, як і землякам-пецярбуржцам.

На чале іншай вялікай пецярбургскай арганізацыі, «Будаўнічы трэст № 39», доўгі час знаходзіўся беларус **Уладзімір Фёдаравіч Шышко** (нар. у 1932 г.). За дваццаць гадоў пад яго кіраўніцтвам пабудаваны вялізныя карпусы на Пралетарскім заводзе, «Электрасіле» і Неўскім машынабудаўнічым заводзе, шматпавярховыя жылыя дамы на Плоўдзіўскай і Бухарэсцкай вуліцах, на праспекце Славы і Акцябрскай набярэжнай. Будаўніком Уладзімір Шышко стаў пад ціскам абставін — не паступіў у авіяцыйнае вучылішча, хоць паспяхова займаўся ў Віцебскім аэраклубе, а пачатковую школу ў роднай вёсцы Мацієва і сярэднюю ў Талачыне закончыў на выдатна, атрымаў срэбны медаль. Пасля няўдачы з авіяцыяй паехаў у Ленінградскі горны інстытут — там давалі форму, была павышаная стыпендыя, ды й жыць можна было ў сваякоў. У 1957 г. закончыў гэты старэйшы ў горадзе інстытут, атрымаў кваліфікацыю горнага інжынера. Пазней (1963—1967) тры гады навучаўся на будаўніка ў Інжынерна-будаўнічым інстытуце. Аднак другі тэхнічны дыплом атрымаць не патрапіла — за паўгода да абароны прыняў прапанову працаваць у 1-м Глаўку Міністэрства геалогіі і аховы нетраў СССР. Быў накіраваны ў Кальцоўскую экспедыцыю (г. Есентукі) на разведванне уранавых радовішчаў; у Калмыкіі, а потым у вярхоўях ракі Кубані, пад Эльбрусам атрымаў першы працоўны вопыт і цікавейшае знаёмства з «джынам», якога спачатку адкапалі ў нетрах, абагацілі, а потым фізікі і людзі ў пагонах выпусцілі з бутэлькі. Далей лёс закінуў у Эстонію ў г. Кохтла-Ярве, які быў знаёмы яшчэ па студэнцкай практыцы на сланцавых шахтах. Тут Уладзімір Шышко працаваў на будаўніцтве новых шахтаў і разрэзаў, на рэканструкцыі старых шахтаў, будаваў самую вялікую ў Еўропе шахту «Эстонія», за што атрымаў званне лаўрэата прэміі Савета Міністраў СССР, будаваў «Аміяк-200» на камбінаце імя Леніна ў Кохтла-Ярве, а таксама жыллё, аб'екты інфраструктуры горада. Прайшоў шлях ад майстра да ўпраўляючага Кохтла-Ярвенскім будаўнічым трэстам. Сувязь з Пецярбургам не перарывалася ні на адзін год. Справа ў тым, што шахты і кар'еры праектаваў Ленінградскі праектны інстытут «Гіпрашахт», і інжынер-будаўнік Уладзімір



*Уладзімір Шышко*

Шышко мусіў рэгулярна ўзгадняць плён творчага парыву распрацоўшчыкаў з рэальнай сітуацыяй на будоўлях. У 1979 г. Уладзіміра Фёдаравіча павысілі, перавёўшы ў Вялікі Ноўгарад на пасаду начальніка Тэрытарыяльнага ўпраўлення будаўніцтвам. Наўгародскія будаўнікі таксама мелі трывалыя сувязі з Пецярбургам, больш дакладна — з «Галоўзахадбудам», бо раней уваходзілі ў яго структуру. Для Уладзіміра Шышко пяць гадоў у Ноўгарадзе — гэта перш за ўсё будаўніцтва Арматурнага завода і завода «Нітраамафоска» — пад японскае абсталяванне і японскія тэхналогіі. Потым, ужо настала, вярнуўся ў Ленінград.

Заслужаны будаўнік Расійскай Федэрацыі, ганаровы будаўнік РФ, ганаровы акадэмік Расійскай Акадэміі навук, Уладзімір Шышко ўзнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, «Знак Пашаны», Дружбы народаў, медалямі, а таксама 3-ма ганаровымі ўрадавымі (СССР і Расіі) знакамі. Не менш зарабіў «узнагарод» у двухкоссі — партыйных і адміністратыўных вымоваў і спагнанняў. Часам заслужана, а часам — не, бо, як вядома, у гады будаўніцтва развітога сацыялізму пакаранне можна было атрымаць і без віны, часам проста «за таго хлопца». Асабліва «ганарыцца» Уладзімір Фёдаравіч «вышэйшай партыйнай узнагародай» — строгай вымовай Камітэта партыйнага кантролю пры ЦК КПСС за зрыў уводу абсталявання на абаронным заводзе «Юпіцер» на Валдаі. Вялікі кнігазбор Уладзіміра Шышко, які пачаў збірацца ў студэнцкія гады і актыўна папоўніўся ў гады дэфіцыту кніг, падабраны галоўным чынам з мастацкіх і геаграфічных (уключаючы картаграфічныя) выданняў.

Сёння каля 15% ад усяго аб'ёму будаўнічых матэрыялаў Паўночна-Заходняга рэгіёна РФ забяспечвае холдынг «Тэхнастром». Кампанію стварылі ў снежні 1991 г. супрацоўнікі інстытута «Гіпранеруд». Гэта была праектная арганізацыя па праектаванні і будаўніцтве прадпрыемстваў — вытворцаў будаўнічых матэрыялаў.

У 2000 г. «Тэхнастром» меў у сваім складзе 24 прадпрыемствы, на якіх працавалі каля 2000 чалавек. Кірункі дзейнасці холдынга самыя разнастайныя. Гэта здабыча і вытворчасць нярудных будаўнічых матэрыялаў, а таксама праектаванне прадпрыемстваў гэтай спецыялізацыі, вытворчасць асфальтабетонных сумесяў і пастаўкі бітумных матэрыялаў, дарожнае будаўніцтва, будаўніцтва жылых і грамадскіх будынкаў, карпаратыўная крэдытна-фінансавая дзейнасць (апошнюю з 1994 г. праводзіць Паўночны дарожны банк). Праектаваннем прадпрыемстваў нярудных будматэрыялаў займаецца праектны інстытут, створаны ў 1948 г. як галоўная арганізацыя ў СССР. З «Гіпранеруда» выйшаў першы прэзідэнт «Тэхнастрома» **Аляксандр Арсеньевіч Цалко**. Нарадзіўся Аляксандр Цалко ў Мазыры, пасля школы і службы ў арміі прыехаў вучыцца ў Ленінград — у Паўночна-заходні політэхнічны інстытут, працаваць уладкаваўся ў інстытут «Гіпранеруд». На пачатку перабудовы ў 1991 г. ён працаваў на пасадзе начальніка аднаго з вядучых аддзелаў інстытута і абраны прэзідэнтам створанага таварыства. Цяпер — член дабрачыннага савета Акадэмічнага Вялікага тэатра імя Г. Таўстаногава.



*Аляксандр Цалко*

У холдынг уваходзяць кампаніі па здабычы і вытворчасці шчэбню «Неруд-Кузнечнае», «Тэхнастром-сэрвіс» і «Лентэхстром», кампаніі «Стромгідронік» і «Сяміазерскае кар'ераўпраўленне», што спецыялізуюцца на здабычы, вытворчасці і пастаўках будаўнічага пяску і жвіру, кампанія «Ленузрыўпром», якая спецыялізуецца на бураўзрыўных работах на гранітных і іншых каменных кар'ерах Паўночна-Заходняга рэгіёна Расіі, кампанія «Петрабіт», якая пастаўляе на рынак высакаякасныя дарожныя бітумы як расійскай, так і замежнай вытворчасці. Асфальтабетонныя

і цэментабетонныя сумесі выпрабляюць восем заводаў кампаній «АБЗ «Магістраль» і «Сеўзапдарбуд». Холдынг «Тэхнастром» з'яўляецца адным з буйнейшых вытворцаў асфальтабетонных сумесяў у Санкт-Пецярбургу. На адным з асфальтабетонных заводаў ЗАТ «АБЗ Магістраль» намеснікам генеральнага дырэктара па камерцыі працуе **Таццяна Пятроўна Кіслова**, якая нарадзілася (31.12.1961) у вёсцы Забаб'е Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння сярэдняй школы ў Пірэвічах Жлобінскага раёна, Гомельскага палітэхнічнага тэхнікума і Гомельскага дзяржаўнага універсітэта ім. Францыска Скарыны па спецыяльнасці інжынер-эканаміст, Таццяна Кіслова прайшла ўсе ступені службовага росту ў мэблевай прамысловасці – ад майства змены Мазырскага мэблевага аб'яднання, да дырэктара мэблевага камбіната ў Калінкавічах, а з 2004 г. да пераезду ў Пецярбург у 2006 г. – працавала дырэктарам мазырскай фабрыкі мастацкіх вырабаў.



*Таццяна Кіслова*

Дарожным будаўніцтвам займаецца кампанія «Сеўзапдарбуд», якая мае пяць дачэрніх прадпрыемстваў. Яна мае развітую інфраструктуру па ўсім рэгіёне і валодае паркам разнастайнай дарожна-будаўнічай тэхнікі. Кампанія «Сеўзапдарбуд» пабудавала першую чаргу кальцавой аўтадарогі вакол Пецярбурга даўжынёй 22 км. Будаўніцтва жылых і грамадскіх будынкаў — спецыялізацыя кампаніі «Тэхнастром-будаўніцтва», якая мае сваю вытворчую базу і будуе жылыя комплексы як у «спальных» раёнах, так і элітнае жыллё ў гістарычнай частцы горада. Шмат працы на будаўніцтве дарог Ленінградскай вобласці і Санкт-Пецярбурга выканала фірма «Гарант», генеральным дырэктарам якой з 1989 г. працуе беларус **Уладзімір Рыгоравіч Сіраж** (нар. у 1951 г. у Калінкавічах).

У будаўнічы бізнес Санкт-Пецярбурга пад ціскам абставін трапіла і адна з лепшых з выпуску 1971 г. наваградскай 4-й школы **Зінаіда Барысаўна Ківач (Афанасьева)**. Па бласлаўленні настаўніцы хіміі Лілі Яфімаўны Рошчынай яна паехала навучацца ў Ленінград на хіміка. Грунтоўныя базавыя веды, якія атрымала ў Наваградку, дазволілі не толькі лёгка паступіць, але і мець вольны час — студэнтка-«хімічка» сур'ёзна захаплялася вывучэннем музейных экспазіцый, тэатрам, музыкай. Пазней працавала ў навукова-даследчым хімічным інстытуце. Здольнасць да працы з людзьмі прывяла яе ў педагогіку: 90-я гг. Зінаіда Барысаўна сустрэла на пасадзе завуча хімічнага тэхнікума. У часы перабудовы зарплату выкладчыкам калі і плацілі, то жыць на яе было немагчыма, а патрэбна было яшчэ гадаваць малога сына... Пайшла на курсы бухгалтараў, працавала ў сумесным прадпрыемстве з карэйцамі па дабаўленні соі ў мясныя кансервы, пазней галоўным бухгалтарам фірмы «Граніт-Кузнечнае», якая пастаўляе гранітную крошку на будоўлі Пецярбурга. Кожны свабодны вечар вучылася: гараскопы як навука, астралогія з прымяненнем камп'ютэрных праграм і ізатэрычных ведаў вабілі магчымасцю пранікнення ў тыя сферы, якія недаступныя пры матэрыялістычным падыходзе. У 2003 г. Зінаіда Барысаўна атрымала пасаду намесніка дырэктара па фінансах і эканоміцы холдынга ЛСР — буйнейшага ў горадзе вытворцы будаўнічых матэрыялаў. Новая пасада дала матэрыяльную забяспечанасць, нават дабрабыт. Засталася зацікаўленасць тэатрам, музеямі, астралогіяй.

Шмат дзяўчат з Беларусі зрабілі ў Пецярбургу кар'еру бухгалтараў. Акрамя Зінаіды Ківач прыгадаем **Валянціну Захараўну Золатаву** з Віцебска, ураджэнку Крывічоў Мядзельскага раёна **Зою Іванаўну Шыдлоўскую**... З 2001 г. фінансавым дырэктарам Санкт-Пецярбургскага інстытута экалогіі і здароўя працуе гамяльчанка **Галіна Уладзіміраўна Пеўная** (нар. 7 жніўня 1952 г.). Пасля заканчэння ў 1978 г. Ленінградскага інстытута воднага транспарту яна працавала інжынерам у Ленэнерга, Ваенна-медыцынскай акадэміі, іншых установах Пецярбурга. Галіна Уладзіміраўна выгадавала дваіх дзяцей, абодва сыны — кандыдаты медыцынскіх навук.

Працяглы час значную пасаду ў «будаўнічым Пецярбургу» займаў **Уладзімір Васільевіч Пірагоў**. Праз яго — начальніка Упраўлення дзяржаўнай няведамаснай экспертызы — прайшло шмат гарадскіх будаўнічых праектаў. Беларусь для Уладзіміра Пірагова

асацыюецца і з Полацкам, адкуль родам маці, і з Бабруйскам, дзе ён нарадзіўся і скончыў сярэднюю школу.

З 2004 да пачатку 2005 г. Камітэт па будаўніцтве мэрыі Пецярбурга узначальваў ураджэнец Віцебска **Яўген Уладзіміравіч Яцышын** (нарадзіўся 12 ліпеня 1970 г. у Віцебску). Першую вышэйшую адукацыю ён атрымаў у 1993 г. — скончыў эканамічны факультэт Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага універсітэта. У 2001 г. атрымаў другую вышэйшую адукацыю на факультэце менеджмента ў Санкт-Пецярбургскім міжнародным інстытуце менеджмента. «У старшыні Камітэта па будаўніцтву хапіла палітычнай волі карэнна памяняць палітыку ў адносінах да будаўнічай галіны; канечне, Яўген Яцышын быў своеасаблівым першапраходцам, выстаўляючы на таргі зямельныя пляцы пад забудову «кароткімі пакетамі», — гаварылі будаўнікі ў лютым 2005 г., даведаўшыся, што Яўген Яцышын падаў у адстаўку «па ўласным жаданні». Пасля працы ў Камітэце па будаўніцтве Яўген Уладзіміравіч заняў пасаду ўпраўляючага дырэктара ў магутнай прамыслова-будаўнічай групе ЛСР, з 2006 г. ён упраўляючы дырэктар Групы ЛСР па дэвёлапменту і будаўніцтву. Ганаровы будаўнік Расіі Яўген Яцышын з'яўляецца Саветнікам губернатара Санкт-Пецярбурга.



*Яўген Яцышын*

У іншай пецярбургскай будаўнічай кампаніі — «Адраджэнне» — на пасадзе старшыні Савета дырэктараў з 1999 г. працуе беларус **Ігар Віталевіч Букато**. Нарадзіўся ён (19.04.1952) у вёсцы Сноў Нясвіжскага раёна, вучыўся ў школе, якая размяшчаецца ў доме звязаных з Пецярбургам яшчэ ў XIX стагоддзі паноў Рдултоўскіх. У 1975 годзе Ігар Букато скончыў Ленінградскі палітэхнічны інстытут як інжынер-механік. На заводзе пад'ёмнатранспартнага абсталявання прайшоў шлях ад старэйшага майстра да намесніка галоўнага інжынера, потым перавёўся на камбінат абліцовачных і будаўнічых матэрыялаў начальнікам цэха апрацоўкі каменю. У гады перабудовы Ігар Букато стварыў кааператыў «Адраджэнне», які ў 1993 г. ператвораны ў акцыянернае таварыства. Таварыства займалася вытворчасцю будаўнічых матэрыялаў і дарожным будаўніцтвам. У пачатку XXI стагоддзя ў кампаніі «Адраджэнне» больш за 4500 супрацоўнікаў працуюць на 12 кар'ерах па здабычы блокаў граніта, вапняку і мармура, на шасці заводах па апрацоўцы прыроднага каменю, кар'ерах і заводах па вытворчасці шчэбня, на ўласным аўтатранспартным прадпрыемстве, у дарожна- і мостабудаўнічых арганізацыях, у праектным бюро і фірмах па ландшафтным дызайне. З праектаў, якія выканала кампанія «Адраджэнне», можна вылучыць будаўніцтва Смольнай набярэжнай, рэканструкцыю Дварцовай, Біржэвай і Сянной плошчаў, будаўніцтва развязак на праспекце Энгельса і капітальны рамонт праспекта, рэканструкцыю тратуараў і пакрыцця Неўскага праспекта, рэканструкцыю Дварцовай набярэжнай, стварэнне парка 300-годдзя Санкт-Пецярбурга, рэканструкцыю Дунайскага праспекта, інжынернага



*Ігар Букато*

абсталявання на тэрыторыі Петрапаўлаўскай крэпасці. Шмат дапамагаў Ігар Віталевіч праваслаўнай царкве, да якой пасля перабудовы вярнуліся датуль зачыненыя і разбураныя ў эпоху ваяўнічага атэізму храмы. Царкоўныя ордэны св. Сергія Раданежскага II ступені, св. Серафіма Сароўскага і царкоўны срэбны медаль св. апостала Пятра — удзячная адзнака яго руплівасці. Сярод памятных для ганаровага дарожніка Расіі Ігара Букаты месцаў Пецярбурга — сад побач з Адміралцействам. Тут недалёка ад помніка земляку-беларусу Мікалаю Пржэвальскаму расце дрэва, якое Ігар Віталевіч разам з губернатарам горада пасадзілі ў 2002 годзе, падчас свята заканчэння рэканструкцыі Александраўскага сада.

Да малодшага пакалення пецярбургскіх будаўнікоў-менеджэраў належыць беларус **Віталь Міхайлавіч Бартошык**, які займаецца сістэмамі вентыляцыі і кандыцыянавання. Нарадзіўся ён у Салігорску, гадаваўся ў дзядоў — у вёсцы Прошчыцы пад Слуцкам і ў Бялынічах. Пасля заканчэння Ленінградскага халадзільнага інстытута стварыў фірму «АЭРА-проф», аднак акрамя забеспячэння пецярбургскіх будоўляў спецыяльным абсталяваннем звярнуў увагу на сучасныя энергазберагаючыя тэхналогіі — фірма паставіла ў Беларусь і змантіравала ў Полацку першы ва Усходняй Еўропе насос, затраты энергіі на эксплуатацыю якога ў разы меншыя, чым звычайныя, што істотна важна для беднай на энергарэсурсы краіны.

У 1996—2006 гг. у Пецярбургу паспяхова працаваў гандлёвы дом «Эталон-Стекло», у паслугах якога меў вялікую патрэбу адзін з буйнейшых у Еўропе заводаў па выпуску ліставога шкла — Гомельскі шклозавод. У 1996 г. быў прыняты доўгатэрміновы план супрацоўніцтва, і ААА «Эталон-Стекло» стала першым дылерам «Гомельшкло» на тэрыторыі Расіі, атрымаўшы эксклюзіўныя правы на прадстаўленне інтарэсаў завода на тэрыторыі Санкт-Пецярбурга, Ленінградскай вобласці і Паўночна-Заходняга рэгіёна. Сярод заснавальнікаў і кіраўнікоў фірмы двое беларусаў-пецярбуржцаў: **Віктар Рыгоравіч Раговік** і **Мікалай Сцяпанавіч Петрушко**.

Паспяховую кар'еру зрабіў у будаўнічым бізнесе **Міраслаў Станіслававіч Аўгусціновіч**. Нарадзіўся ён у 1963 г. у Гродне, быў пятым сынам у рабочай сям'і. Вучыўся ў 18-й гродзенскай школе, пазней у СГПТВ-119 будаўнікоў. Здольнасці і працавітасць дазволілі маладому будаўніку пасля вучылішча паспяхова закончыць аўтатранспартны факультэт Інжынерна-эканамічнага інстытута імя Пальміра Тальяці ў Ленінградзе. Застаўся працаваць у горадзе на Няве — спачатку рабочым, потым інжынерам у «Метрабудзе». У «Метрабудзе» сустрэўся з земляком — урачом **Уладзімірам Усеваладавічам Смольскім**, які родам з-пад Скідзеля. Упартая працавітасць не давала Міраславу сядзець склаўшы рукі: ужо пасля пачатку перабудовы ён абараніў у Фінансава-эканамічным інстытуце дысертацыю аб прыродных дзяржаўных манаполіях, атрымаў ступень кандыдата эканамічных навук. Службова вырас да дырэктара ўпраўлення вытворча-тэхналагічнай камплектацыі ААТ «Метрабуд». Добрыя вынікі працы і дынамізм Міраслава Аўгусціновіча заўважылі: ён узнагароджаны сярэбраным ордэнам «Созидатель Петербурга» і медалём да 300-годдзя горада. За ўдзел у ліквідацыі аварыі, якая дзесяць гадоў псавала жыццё горада і гараджанам (размыў метро паміж станцыямі «Лясная» і «Плошча Мужнасці»), прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін уручыў Міраславу Аўгусціновічу дзяржаўную ўзнагароду.

## Манастыр. Абкам. Мэрыя.

Горадам Ленінградам у савецкія часы кіраваў Смольны. І сучасным Санкт-Пецярбургам, хоць тут і ёсць Прадстаўніцтва Прэзідэнта РФ (на набярэжнай Рабесп'ера, 8), таксама кіруе Смольны. Галоўны вучэбны корпус Смольнага манастыра (яго традыцыйна фарбуюць у жоўты колер у адрозненне ад блакітных царкоўных і манастырскіх) пабудаваў у 1806—1808 гг. архітэктар Джакама Кварэнгі. Царскім загадам тут дзейнічала выхаваўчая ўстанова для шляхетных дзяўчат. У свой час па сцежках смольнінскага парку надвячоркам прагульваліся Аляксандр II і маладая княгіня Кацярына Міхайлаўна Даўгарукая. Прагулкі былі тайныя, бо цар быў жанаты і баяўся строгай дырэктрысы жаночай школы. Пасля смерці імператрыцы Марыі Аляксандраўны ў 1880 г. Аляксандр II злучыўся марганатычным шлюбам з княгіняй Даўгарукай, прызнаўшы за сваіх нажытых з ёй дзяцей. Княгіня пераехала ў Зімні палац, і пакуль Грынявіцкі не здзейсніў сваёй задумы, жыла тут пад імем княгіні Юр'еўскай. Пасля смерці каханага яна выехала ў Францыю. Кастрычніцкая рэвалюцыя паклала канец навучанню дзяўчат шляхетнага паходжання. Смольны стаў штабам бальшавікоў, і зусім іншыя людзі сталі прагульвацца ў ягоных парках.

Былы штаб Кастрычніцкай рэвалюцыі пасля 1917 г. застаўся рэзідэнцыяй гарадскога камітэта камуністычнай партыі. Пасля забойства першага сакратара абкама Сяргея Кірава

ў 1934 г. у Смольным узмацнілі меры бяспекі і ён стаў адным з самых маладаступных для людзей месцам «народнай» улады. Пасля 1991 г. камуністычная партыя самараспусцілася, а горадам кіруе мэрыя на чале з губернатарам, якая размяшчаецца ўсё ў тым жа Смольным. Мэрыі падпарадкоўваецца шэраг камітэтаў па розных кірунках. Адбыліся і будаўнічыя перамены, якія значна змянілі выгляд будынка, асабліва ўнутраны. Змянілі настолькі, што калі ў 1995 г. здымаўся фільм пра забойства Кірава, рэжысёры вырашылі выкарыстаць менш пашкоджаныя інтэр'еры былога Екацярыненскага інстытута на Фантанцы, 36, пабудаванага тым жа архітэктарам (Джакама Кварэнгі), што і Смольны манастыр.



*Сабор Смольнага манастыра*

Пасля перабудовы кіраўнік горада пачаў называцца мэрам (Анатоль Сабчак), а потым губернатарам (Анатоль Якаўлеў, Валянціна Матвіенка). Рэзідэнцыяй мэра-губернатара заставаўся Смольны, з кабінетам губернатара на трэцім паверсе ў левым крыле будынка. У 2004 г. з мэтай забяспечыць узаемадзеянне губернатара Пецярбурга і выканаўчых органаў дзяржаўнай улады з грамадскасцю Санкт-Пецярбурга пры фармаванні і рэалізацыі палітыкі ў горадзе была створана Грамадская Рада (Общественный Совет), у якую ўвайшлі 68 чалавек: кіраўнікі прадпрыемстваў і ўстаноў культуры, артысты, музыканты, пісьменнікі. У Грамадскай Радзе шасцёра беларусаў-пецярбуржцаў: віцэ-губернатар Віктар Лабко, прамысловец Валерый Радчанка, рэктар універсітэта эканомікі і фінансаў Леанід Тарасевіч, фармацэўт Людміла Шостак, будаўнік Вячаслаў Заранкоў, літаратар Іван Сабіла.

Згадаем некалькі беларусаў, якія прайшлі па смольнінскіх паркетах у дзверы салідных кабінетаў. Адной з паспяховых можна прызнаць кар'еру ўраджэнца Талачынскага раёна **Аляксандра Мікалаевіча Сушкова**. Пасля сканчэння талачынскай СШ № 2 лёс закінуў яго на камсамольскую работу ў Падпарожскі раён Ленінградскай вобласці, пазней гэты працавіты і валявы чалавек заняў пасаду загадчыка арганізацыйнага аддзела абкама КПСС. І пры Г. Раманаве, і пры А. Зайкове Аляксандр Сушкоў быў другім па ўплывовасці чалавекам у Смольным, без яго «благаславення» не адбывалася ні адно значнае кадравае прызначэнне ў маштабах горада і вобласці. Былі сярод «назначэнцаў» і беларусы, напрыклад, **Васіль Афанасьевіч Галаўко** (нар. 23 лютага 1923 г. у Васілевічах Гомельскай вобласці). З 1950 да 1957 г. ён працаваў у выканкаме Ленінградскага гарадскога Савета спачатку кантралёрам, а потым памочнікам намесніка старшыні Ленгарвыканкама. Паводле рашэння Ленінградскага абкама КПСС у 1957 г. Васіль Галаўко быў накіраваны на пад'ём сельскай гаспадаркі Ленінградскай вобласці. У абласным упраўленні сельскай гаспадаркі ён працаваў спачатку намеснікам галоўнага інжынера, а з 1959 г. — галоўным інжынерам па будаўніцтве ў калгасах. У сувязі з рэарганізацыяй Ленінградскага абласнога ўпраўлення сельскай гаспадаркі ў чэрвені 1961 г. В. А. Галаўко перавялі ў абласное ўпраўленне «Сельгастэхніка» на пасаду начальніка ўпраўлення па будаўніцтве ў калгасах. Васіль Галаўко стварыў першыя ў СССР міжкалгасныя будаўнічыя арганізацыі — Лужскую і Баксітагорскую, якія адыгралі вялікую ролю ў развіцці будаўніцтва ў Ленінградскай вобласці. У красавіку 1965 г. Васіля Галаўко перавялі на працу ў Ленінградскі абкам КПСС на пасаду намесніка загадчыка аддзела будаўніцтва. На новай пасадзе ён арганізоўваў дзейнасць будаўнічых арганізацый і прадпрыемстваў-заказчыкаў, зрабіў вялікі ўклад у павышэнне індустрыялізацыі жыллёвага будаўніцтва ў горадзе. Пасля землятрасення ў Ташкенце ён каардынаваў дзейнасць ленінградскіх будаўнічых падраздзяленняў, якія працавалі на аднаўленні сталіцы Узбекістана. Праз дзевяць гадоў працы ў Смольным абкам накіраваў Васіля Галаўко на пасаду намесніка начальніка Ленінградскага галаўнога тэрытарыяльнага ўпраўлення Дзяржзабяспячэння СССР. У гады будаўніцтва сацыялізму і панавання планава-размеркавальнага падзелу любых матэрыяльных рэсурсаў гэта было адно з ключа-

вых месцаў кіравання развіццём горада. Пасля выхаду (у 1986 г.) на пенсію Васіль Галаўко напісаў цікавыя мемуары, у якіх непаслядоўна і часам наіўна спрабуе аналізаваць шкоду ад прыпісак за нязробленую працу з мэтай атрымання прэмій, хабарніцтва савецкіх чыноўнікаў... Але галоўнае вастрыё крытыкі (калі не сказаць — лаянкі) у мемуарах Васіля Галаўко скіравана супраць дзеячаў перабудовы — Чубайса, Гайдара, Сабчака[1].

Яшчэ адзін лёс. Сібірак **Аляксандр Тамашэвіч** (бацькі з Маладзечанскага раёна былі як кулакі сасланыя ў Сібір) прыехаў у Ленінград, працаваў майстрам і начальнікам участка на Абухаўскім (Пралетарскім) заводзе. Ён быў абраны другім, потым першым сакратаром камсамола Неўскага раёна, прызначаны дырэктарам завода касметычных вырабаў, потым накіраваны ў Смольны — курыраваў аддзел лёгкай і харчовай прамысловасці ў Ленінградскім гаркаме. Дрэнныя адносіны з першым сакратаром Салаўёвым прывялі да пераводу на «расстрэльную» пасаду начальніка галоўнага ўпраўлення грамадскага харчавання. Тут і застала Аляксандра Тамашэвіча перабудова. Ён стаў гарачым прыхільнікам новых — кааператыўных — формаў арганізацыі харчавання. «Палессе» на Чырвонагвардзейскай плошчы — так называўся першы ў горадзе кааператыў грамадскага харчавання. Меню гэтай установы ўключала стравы такой блізкай Аляксандру Тамашэвічу беларускай кухні. Крыху пазней А. Тамашэвіч сам пакінуў крэсла кіраўніка і заняўся рэстаранным бізнесам — працаваў дырэктарам вядомага рэстарана «Чайка» на канале Грыбаедава, потым арганізаваў кавярню ў двары-артыўме адрэстаўраванага дома ля Казанскага сабора.

Старажылам Смольнага, які амаль шэсць гадоў працаваў першым намеснікам кіраўніка канцылярыі, стаў **Віктар Мікалаевіч Лабко**. Канцлеры змяняліся, а ён заставаўся намеснікам. У 2003 г. Валянціна Матвіенка, выйграўшы губернатарскія выбары, абаперлася на Віктара Мікалаевіча, з якім працавала яшчэ ў 1970-я. Віктар Лабко стаў першым намеснікам губернатара і адным з найбольш уплывовых людзей у Пецярбургу. У Смольным ён заняў кабінет былой дырэктрысы. Меркаванне Віктара Мікалаевіча шмат значыць у піцерскім Заканадаўчым сходзе, да яго слоў прыслухоўваюцца ў кіраўніцтве практычна ўсіх партый горада. Ён жа ўзначаліў створаную пры ўрадзе Пецярбурга Камісію па супрацоўніцтве Санкт-Пецярбурга і Беларусі. У гісторыі горада гэта другі віцэ-губернатар — беларус: першым стаў у XIX ст. граф Эмерык Гутэн-Чапскі (гаспадар маёнтка Станькава пад Мінскам). Нарадзіўся Віктар Лабко 6 мая 1945 г. у вёсцы Клепачы Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці. З дзяцінства засталіся ў памяці аэрадром каля дзедавага хутара, рэчка Сноўка, прыгожы панскі дом Рдултоўскіх у суседнім Снове — у былым маёнтку размясцілася яго першая школа, наступнай была чыгуначная школа пры станцыі Баранавічы-Палеская. Навучанне ў чыгуначнай школе і тое, што бацькі працавалі на чыгунцы, вызначыла кірунак далейшага шляху маладога чалавека: з Баранавічаў паехаў вучыцца ў Ленінградскі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту па спецыяльнасці «Будаўніцтва чыгунак, пуць і пуцявая гаспадарка». Пасля заканчэння працаваў інжынерам праектнага інстытута, але хацелася працы больш жывой, і Віктар з «прэстыжнага» інстытуцкага месца сам папрасіўся на «непрэстыжнае» — на вытворчасць. Потым маладога спецыяліста пачалі далучаць да кіраўнічых камсамольскіх і партыйных структур. Віктар Лабко становіцца загадчыкам аддзела, другім, а неўзабаве і першым сакратаром Ленінградскага абкама УЛКСМ. У 1981 г. ён закончыў Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК КПСС, да 1986 г. працаваў у Ленінградскім абкаме КПСС, пасля — сакратаром Кампартыі Узбекістана. Вырас да намесніка загадчыка Аддзела партыйнага будаўніцтва і кадравай работы ЦК КПСС. Калі Савецкі Саюз ужо аганізаваў, Віктара Лабко пасылалі ў «гарачыя кропкі» — улагоджваць канфлікты на Каўказе, у Сярэдняй Азіі, у Літве. Можа таму перабудову сустрэў адным з першых — заявай аб звальненні (з кіруючай пасады ў ЦК КПСС!) па ўласным жаданні. Зрабіў гэта пасля таго, як паслалі ў Вільню вырашаць спрэчку паміж Бразаўскасам і Буракявічусам — прадстаўнікамі двух крайніх плыняў у кампартыі Літвы. Сустракаўся, гаварыў, пераконваў... аж раптам даведаўся пра тое, што лідэру Народнага фронту Ландсбергісу Міхаіл Гарбачоў гаворыць зусім іншае, чым яму, пасылаючы выконваць адказнае даручэнне... Генсек заяву аб звальненні падпісаў не задумваючыся. Віктар Лабко перайшоў на працу па спецыяльнасці: на Акцябрскую чыгунку, намеснікам начальніка па кадравых і сацыяльных пытаннях. Увага да патрэб і клопату людзей — гэты стрыжань дапамагаў Віктару Мікалаевічу падтрымліваць

[1] *Головко В.* Жизнь была интересной. Кн. 1–2. СПб., 2002.

аўтарытэт улады ў горадзе нават у тыя часы, калі гэтага аўтарытэту няшмат.

Аднойчы, калі яму давялося праводзіць урок Канстытуцыі Расіі ў адным з ліцэяў горада, нехта з навучэнцаў запытаўся: «Вось вы былі і камсамольскім правадыром, і партыйным сакратаром, а цяпер віцэ-губернатар. Вы памянялі перакананні?» Віктар Лабко адказаў: «Памяняць перакананні немагчыма. Можна памяняць погляды, ацэнкі, але не перакананні».



*Віктар Лабко*

Генерал-палкоўнік (гэтае званне атрымаў на чыгунцы) Віктар Лабко ўзнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэнам Святога князя Аляксандра Неўскага I ступені, ордэнам «За заслугі перад Айчынай» IV ступені; ордэнам Пятра Вялікага I ступені; медалямі «За доблесную працу ў гонар 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна», «За працоўную доблесць», «У памяць 300-годдзя Санкт-Пецярбурга», «За заслугі ў правядзенні Усерасійскага перапісу насельніцтва», медалём I ступені «За заслугі ў абароне правоў і свабодаў грамадзян», знакам «Ганаровы чыгуначнік», ганаровым знакам «За заслугі перад Санкт-Пецярбургам». Ён дзяржаўны саветнік Санкт-Пецярбурга 1-га класа.

Праца ў якасці віцэ-губернатара — не сінекура. Чаго варты быў сакавік 2005 г., калі студэнт-юрыст падаў ва Устаўны суд горада заяву, у якой паказаў юрыдычную нелегітымнасць пасады віцэ-губернатара! За справай сачылі сродкі масавай інфармацыі, дайшло да Заканадаўчага схода, які толькі і паставіў кропку: пацвердзіў легітымнасць пасады і правільнасць пазіцыі Віктара Лабко.

У 2008 г. газавую гаспадарку мегаполіса ўзначаліў сын віцэ-губернатара Канстанцін Віктаравіч Лабко, прызначаны на пасаду кіраўніка трэста «ПецярбургГаз».

* * *



*Асобная кватэра ў гістарычным цэнтры для многіх пецярбуржцаў застаецца блакітнай марай*

Прыехаць у Ленінград — адна справа, атрымаць магчымасць у ім жыць — іншая, для прыезджага шматпакутная. Пытанне з жыллём па-ранейшаму застаецца адным з самых важных і цяжкіх для асталявання ў горадзе. Генеральны план развіцця 1966 г. зыходзіў з таго, што колькасць жыхароў дасягне 4 мільёнаў да 1985 г. Фактычна ж на гэту лічбу горад выйшаў на 15 гадоў раней — да 1970 г. Вучыцца ці працаваць можна было ўладкавацца даволі лёгка, а вось атрымаць жыллё — надзвычай цяжка. Па забеспячэнні насельніцтва жыллём Ленінград быў на 16-м месцы сярод гарадоў СССР. З пачаткам перабудовы стварыліся новыя магчымасці палепшыць жыллёвыя ўмовы. З 1993 г. пачалася прыватызацыя кватэр, яны сталі аб'ектам куплі-продажу. Узнік рынак жылля, які развіваўся вельмі інтэнсіўна. Да сярэдзіны 1997 г. каля трэці пецярбургскіх кватэр былі ў прыватнай уласнасці, у горадзе дзейнічала больш як 250 агенцтваў па куплі, продажу і абмену кватэр. Цэны на жыллё беспярапынна раслі, знізіўшыся на кароткі перыяд падчас крызісу (дэфолту) жніўня 1998 г. З лютага 1997 г. у Пецярбургу пачалі праводзіць жыллёва-камунальную рэформу, што прывяло да значнага павелічэння платы за жыллё.

Дом ў завулку Антаненкі, 4, ведае большасць гараджан. Тут размешчаны Камітэт па жыллёвай палітыцы — выканаўчы орган дзяржаўнай улады Санкт-Пецярбурга. Гэтая структурная адзінка адміністрацыі горада створана 31 снежня 1996 г. дзеля правядзення адзінай палітыкі і дзяржаўнага рэгулявання ў жыллёвай сферы. З красавіка 1998 г. да 2005 г. Камітэт узначальваў **Уладзімір Мікітавіч Юркавец**. Нарадзіўся ён у 1944 г. у Магілёве. Працоўную дзейнасць пачаў у 1961 г. пасля за-

канчэння Магілёўскага будаўнічага тэхнікума. У 1969 г. закончыў Ленінградскі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту па спецыяльнасці «Прамысловае і грамадзянскае будаўніцтва» і аспірантуру НДІ камунальнай гаспадаркі. Працаваў на кіруючых пасадах у будаўнічых арганізацыях Ленінграда. З 1976 да 1980 г. Уладзімір Юркавец — старшы навуковы супрацоўнік лабараторыі перспектыў развіцця жыллёвай гаспадаркі Акадэміі камунальнай гаспадаркі. З 1980 да 1998 г. ён працаваў у аб'яднанні «Нежылы фонд», узначальваў упраўленне афармлення здзелак з нерухомасцю дэпартамента нерухомай маёмасці. У тым, што XXI ст. горад сустрэў новым законам «Аб жыллёвай палітыцы ў Санкт-Пецярбургу» (падпісаны 16 ліпеня 2001 г.), ёсць заслуга У. Юркаўца. Закон вызначыў прынцыпы і формы рэалізацыі дэкларавана-га Канстытуцыяй права жыхароў на жыллё, а таксама прадугледзеў абарону правоў грамадзян у жыллёвай сферы.

Асабліва вострай праблемай горада заставаліся жыллёвыя ўмовы тых, хто жыў у інтэрнатах. У Санкт-Пецярбургу стварылі пастаянны Савет па інтэрнатах пры губернатары, узначаліў яго старшыня камітэта па жыллёвай палітыцы; была распрацавана канцэпцыя выкарыстання інтэрнатаў і іх рассялення. Каб паскорыць вырашэнне сацыяльных праблем у жыллёвай сферы, камітэт падрыхтаваў некалькі мэтавых праграм, сярод якіх «Моладзі — даступнае жыллё» (да 2010 г. забяспечыць жыллём каля 1500 маладых сем'яў і асобных маладых грамадзян), «Рассяленне і рэканструкцыя камунальных кватэр у Санкт-Пецярбургу», «Стварэнне спецыяльных жылых дамоў для адзінокіх пажылых грамадзян у Санкт-Пецярбургу», «Развіццё доўгатэрміновага жыллёвага крэдытавання на 2002—2012 гг.».

Арганізацыя лячэння гараджан, прафілактычных і санітарна-гігіенічных мерапрыемстваў, забеспячэнне горада лекамі — усё гэта кампетэнцыя камітэта па ахове здароўя. Краевугольным каменем дзейнасці гэтага камітэта было распараджэнне мэра горада ў 1993 г. аб абавязковым медыцынскім страхаванні. У апошні год XX ст. у горадзе ўжо існавала 19 страхавых медыцынскіх кампаній, дзейнасць якіх ахоплівала ўсю сетку дзяржаўных медыцынскіх устаноў. На бюджэтным фінансаванні засталіся толькі такія віды медыцынскай дапамогі, як дэрматалогія і венералогія, туберкулёзнае лячэнне, хуткая і неадкладная дапамога і псіхіятрыя, а таксама лекі для льготных катэгорый насельніцтва.



*Юрый Шчарбук*

Склалася ў горадзе і платнае медыцынскае абслугоўванне. З 2003 г. камітэт па ахове здароўя узначальвае генерал-маёр медыцынскай службы **Юрый Аляксандравіч Шчарбук**. Нарадзіўся Юрый Шчарбук 25 сакавіка 1952 г. у Лідзе, тут жа закончыў з залатым медалём СШ № 2. Ад маці — выкладчыцы замежных і роднай беларускай моў — атрымаў значныя філалагічныя здольнасці. Аднак вучыцца пайшоў на ўрача: чатыры гады ў Гродзенскім мадінстытуце, потым перавёўся ў Самару; у выніку скончыў (у 1975 г.) вайсковы факультэт Куйбышаўскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута. Служыў у групе савецкіх войскаў у Германіі, Забайкальскай і Ленінградскай вайсковай акругах. У 1987 г. закончыў факультэт кіруючага медыцынскага саставу Ваенна-медыцынскай акадэміі імя С. Кірава. Шлях Юрыя Аляксандравіча пачынаўся ад урача агульнай практыкі, потым праз пасаду нейрахірурга, афіцэра асобнага медыцынскага батальёна прывёў на пасаду прафесара кафедры нейрахірургіі ВМА, намесніка начальніка Ваенна-медыцынскай акадэміі. Заслужаны ўрач Расійскай Федэрацыі Юрый Шчарбук з'яўляецца членам праўлення Асацыяцыі нейрахірургаў Санкт-Пецярбурга. Ён быў адным з першых, хто пачынаў у горадзе эндаскапічную хірургію, выкарыстоўваючы звыштонкія міні-эндаскопы, каб зірнуць на закранутыя хваробай часткі галаўнога і спіннога мозгу.

Апошнія свае аперацыі (перад пераходам на адміністратыўную працу) рабіў з сынам, таксама нейрахірургам. Другі сын — венеролаг, жонка Юрыя Аляксандравіча — заслужаны ўрач РФ. Акадэмік Пятроўскай акадэміі навук і мастацтваў Юрый Шчарбук аўтар 185 навуковых прац, член рэдакцыйных калегій часопісаў «Веснік Расійскай Ваенна-медыцынскай акадэміі» і «Дзіцячая неўралогія і нейрахірургія». Яго памочнік магіляўчанін **Канстанцін Іванавіч Грамыка** пасля заканчэння магілёўскай СШ № 7 вучыўся ў Мінскім медінстытуце, потым таксама перавёўся ў Самару (на той час Куйбышаў) на ваенна-медыцынскі факультэт мясцовага медінстытута. Служыў у розных акругах, удзельнічаў у баявых дзеяннях на Поўдні РФ (Кізляр, Гудэрмес, Грозны). Жонка Канстанціна Іванавіча **Кацярына Пятроўна Грамыка (Аноп)** працуе настаўніцай пачатковых класаў у 141-й школе горада. Трое іх сыноў — Аляксей, Дзмітрый і Сяргей — пецярбуржскія беларусы ў другім пакаленні.



*Канстанцін Грамыка*

Начальнікам Упраўлення кадраў і навучальных устаноў Камітэта па ахове здароўя з 2004 да 2007 г. працаваў **Пётр Станіслававіч Коўзан**. Нарадзіўся ён 29 чэрвеня 1946 г. у вёсцы Гамзічы Смаргонскага раёна. Школу закончыў у Ашмянах і паступіў у 1965 г. у Ленінградскае артылерыйскае вучылішча. Паспяховая служба ў паветрана-дэсантных войсках дала магчымасць атрымаць дазвол на працяг адукацыі: у 1978 г. Пётр Станіслававіч на выдатна скончыў Ваенна-артылерыйскую акадэмію імя Калініна. Пазней праходзіў службу на камандных і штабных пасадах у Ленінградскай ваеннай акрузе. Прымаў удзел у інспекцыях узброеных сіл у Партугаліі, Іспаніі, Германіі і іншых краінах. Палкоўнік Пётр Коўзан узнагароджаны ордэнам «За службу Радзіме ва Узброеных Сілах СССР» і 10-ю медалямі. 30 снежня 2005 г. ён быў звольнены з камітэта, а ўжо 31 снежня 2005 г. на яго месца прызначаны **Сяргей Мікалаевіч Рукавішнікаў** (нар. 05.03.1946 у Легніцы). Сяргей Рукавішнікаў у 1963 г. скончыў брэсцкую школу № 13, пазней брэсцкае медыцынскае вучылішча. Працаваў фельчарам у Брэсцкім раёне, вучыўся ў Гродзенскім, а пазней у Куйбышаўскім медынстытутах. У 1980 годзе, пасля службы ў ГСВГ, стаў памочнікам начальніка аддзела кадраў Ваенна-медыцынскай акадэміі ў Ленінградзе, у 1983—2005 гг. служыў на розных пасадах у Маскве.

Пасаду галоўнага спецыяліста аддзела аховы здароўя адміністрацыі Выбаргскага раёна Санкт-Пецярбурга заняў у 1999 г. **Валерый Іванавіч Кандраценка**. Нарадзіўся Валерый Кандраценка 8 лютага 1949 г. у вёсцы Масалыкі Горацкага раёна Магілёўскай вобласці, пасля сканчэння Шышаўскай сярэдняй школы паступіў у Віцебскі медінстытут, скончыў ваенна-медыцынскі факультэт у Куйбышаве. За перыяд службы два гады працаваў урачом у групе савецкіх ваенных спецыялістаў на Кубе, два гады — у Афганістане. Узнагароджаны ордэнам «За службу Радзіме ва Узброеных Сілах СССР» і 9-ю медалямі. Пасля звальнення ў запас і пераходу на грамадзянскую службу атрымаў званне Дзяржаўнага саветніка Санкт-Пецярбурга III класа.

Як здольны арганізатар медыцынскай дапамогі ваеннаслужачым і членам іх сем'яў праявіў сябе **Мікалай Мікалаевіч Хартановіч** (нар. 18 ліпеня 1951 г. у в. Малышы Жалудоцкага раёна Гродзенскай вобласці). Пасля заканчэння 4-х курсаў Гродзенскага медінстытута ён перавёўся на ваенна-медыцынскі факультэт Куйбышаўскага медінстытута. За першыя 30 гадоў працы (з 1971 г.) Мікалай Хартановіч кіраваў паліклінікай, чатырма рознымі шпіталямі, стаматалагічнымі і рэнтгенаўскімі кабінетамі, аздараўляльнымі ўстановамі для дзяцей і дарослых. Праца яго была адзначана ордэнам «За службу Радзіме ва Узброеных Сілах СССР» і медалямі. З 2001 г. Заслужаны ўрач Расійскай Федэрацыі палкоўнік Мікалай Хартановіч працуе вядучым

спецыялістам упраўлення нагляду за выкананнем ліцэнзійных патрабаванняў і ўмоваў.

На супрацьлеглым ад Смольнага канцы плошчы Пралетарскай дыктатуры размяшчаецца будынак кіраўніцтва Ленінградскай вобласці (якая не змяніла сваю назву разам з горадам-сталіцай). У кіраўніцтве вобласці мы можам сустрэць выхадцаў з Беларусі, прычым у самых розных структурах — ад ніжэйшых тэхнічных працаўнікоў да віцэ-губернатара і самога губернатара. У 1992 г. першым намеснікам галавы адміністрацыі Ленінградскай вобласці працаваў беларус **Валерый Радчанка**, ён адначасова быў старшынёй камітэта па планаванні. Праз некалькі гадоў ён вярнуўся дырэктарам на пецярбургскі завод «Звязда», дзе пачыналася яго працоўная біяграфія.

У 1996 г. віцэ-губернатарам Ленінградскай вобласці па прамысловасці, паліўна-энергетычным, лясным комплексе і прыродакарыстанні абраны **Валерый Паўлавіч Сердзюкоў**. Нарадзіўся Валерый Сердзюкоў 9 лістапада 1945 г. у вёсцы Харашоўка Гомельскай вобласці. Пасля школы працаваў фармоўшчыкам-ліцейшчыкам на «Гомсельмашы». Потым служыў у арміі, вучыўся ў Ленінградзе ў Горным інстытуце імя Пляханава па спецыяльнасці «Горны інжынер-эканаміст». Пасля інстытута працаваў на «Варкутавугалі», кожнае лета наведваў Харашоўку, зімой навучаўся ў Ленінградскай Вышэйшай партыйнай школе. З 1970 г. Валерый Паўлавіч на кіруючай рабоце, быў першым сакратаром Варкуцінскага абкама КПСС.



*Валерый Сердзюкоў*

У 1986 г. родную Харашоўку накрыла радыёактыўная хмара з Чарнобыля. Жыхароў праз чатыры гады адсялілі ў Гомель, усе будынкі разабралі і закапалі. Кандыдата эканамічных навук Сердзюкова якраз у той час прызначылі намеснікам генеральнага дырэктара аб'яднання «Варкутавугаль». У 1998 г. Валерый Сердзюкоў прызначаны першым віцэ-губернатарам, а ў верасні 1999 г. абраны губернатарам Ленінградскай вобласці. У параўнанні з Ленінградскай вобласцю часоў Другой сусветнай вайны, калі яна займала прастору ад Мурманска да Пскова і ад Архангельска да Кранштата, цяпер тэрыторыя істотна зменшана. Але значэнне вобласці адчувальна ўзрасло. Распад СССР і пазбаўленне Расіі зручных прыбалтыйскіх портаў на Балтыцы (Рыга, Талін, Вентспілс, Клайпеда) зрабілі відавочнымі малыя прапускныя магчымасці Пецярбургскага порта. Урад краіны вырашыў пабудаваць два вялікія порты: Усць-Лугу і Усць-Нарву, абодва на тэрыторыі Ленінградскай вобласці. Па аб'ёме працы, укладзеных грошай і важнасці вынікаў — гэта найбольшая ў Расіі будоўля. Дарэчы, старшынёй Савета дырэктараў акцыянернага таварыства «Кампанія «Усць-Луга» стаў ураджэнец Оршы Ілля Міхайлавіч Баскін.

У жніўні 2000 г. Валерый Сердзюкоў быў у Беларусі з афіцыйным візітам, сустракаўся ў Мінску з кіруючай элітай. У абмен на беларускія трактары прапанаваў пастаўкі на Гомельскі хімзавод сыравіны з Кінгісепа, высокапрадуктыўнага маладняка буйной рагатай жывёлы, цэлюлозы (справы на той час, нават на афіцыйным узроўні, стараліся рабіць менавіта на ўзаемазаліках і бартэры, мінаючы грашовыя адносіны). За адным разам наведаў Гомельшчыну, пабыў у Харашоўцы: на палянцы, дзе стаяла родная хата, на магіле бацькоў. 9 ліпеня 2004 г. Валерый Сердзюкоў атрымаў ад маскоўскага патрыярха Алексія ордэн Сергія Раданежскага II ступені за ўдзел у падрыхтоўцы горада да вяртання цудатворнага абразу Багародзіцы ў Ціхвіне.

Чыноўнікамі агульнагарадскога маштаба з'яўляюцца начальнік упраўлення прыродных рэсурсаў дэпутат заканадаўчага сходу Санкт-Пецярбурга **Алег Станіслававіч Лебедзь**, галоўным спецыялістам камітэта бяспекі Ленінградскай вобласці — ураджэнец Ашмянаў, былы марак, камандзір ракетных крэйсераў «Фрунзе» і «Пётр Вялікі» **Яўген Добрышаў**. А саветнікам губернатара Ленінградскай вобласці па пытаннях пагранічнай палітыкі — **Мікалай Іванавіч Аксёнаў**, ураджэнец

вёскі Замосце Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці. Нарадзіўся Мікалай Аксёнаў у 1957 годзе, пасля заканчэння сярэдняй школы ў Пыхані і Гомельскага палітэхнікума служыў у арміі, атрымаў вышэйшую ваенную адукацыю, служыў у пагранічных вайсках. Перш чым стаць грамадзянскім чыноўнікам, Мікалай Іванавіч шмат аддаў службе ў пагранічных войсках і контрразведцы.

* * *

Да агульнагарадскіх службаў належыць супрацьпажарная ахова, якая ў выкананні сваіх абавязкаў — прафілактыцы і тушэнні пажараў — узаемадзейнічае з гарадскімі і абласнымі камунальнымі службамі, а таксама міліцыя, якая падпарадкоўваецца Галоўнаму ўпраўленню Міністэрства ўнутраных спраў Паўночнага Захаду РФ.

Пажарная ахова ў Пецярбургу створана ў 1803 г., адсюль распаўсюдзілася на ўсю імперыю. У аддзеле эстампаў РНБ захоўваецца, напрыклад, альбом, які падарылі гродзенскія пажарнікі свайму высокаму заступніку — аднаму з вялікіх князёў. Адным з актыўных дзеячаў Расійскага пажарнага таварыства ў дарэвалюцыйным Пецярбургу быў член-сакратар Тэхнічнай камісіі беларус Цярэнці Мартынавіч Турчыновіч, аўтар кніг пра прымяненне для тушэння пажараў водапад'ёмных машын, а таксама пра супрацьпажарныя дзверы і ліштвы.



*Пецярбургскіх пажарных благаслаўляе свяшчэннік Іаан Пашкевіч*

У савецкі час рызыкоўнасць пажарнай службы, дысцыплінарныя патрабаванні і невысокія службовыя аклады прыводзілі да таго, што карэнныя ленінградцы сюды працаваць не ішлі. Улады, каб запоўніць кадрамі гэты важны сегмент гарадской гаспадаркі, давалі пажарным камунальнае жыллё. Гэта часта было вырашальным фактарам для прыехаўшых, у тым ліку беларусаў. Адказнасць службы і складанасць не палохалі. У канцы XX ст. упраўленне дзяржаўнай супрацьпажарнай службы Пецярбурга і Ленінградскай вобласці перападпарадкавалі — з Міністэрства ўнутраных спраў Міністэрству па надзвычайных сітуацыях (МНС).

Начальнікам упраўлення дзяржаўнай супрацьпажарнай службы Пецярбурга і Ленінградскай вобласці доўгі час быў **Мікалай Мікалаевіч Бакуновіч** (нар. 1 верасня 1949 г. на станцыі Талачын). Высокія арганізацыйныя здольнасці спалучаюцца ў гэтага службоўца з выдатнымі чалавечымі якасцямі: шмат каму дапамог Мікалай Бакуновіч, хоць бы і з тым службовым жыллём. Пасля заканчэння службы ён вярнуўся працаваць на зямлю — намеснікам дырэктара сельгасвытворчага кааператыва Шушары. У аддзеле кадраў гарадскога ўпраўлення супрацьпажарнай службы з 1991 да 2001 г. працавала **Алена Мікалаеўна Картавіцкая** (нар. 27 кастрычніка 1964 г. у в. Райцы Талачынскага раёна). Яна прыехала ў Ленінград пасля заканчэння філфака БДУ, не знайшоўшы працы па спецыяльнасці (настаўніцы беларускай мовы і літаратуры), пайшла працаваць у «пажарку», пазней — у бізнес з нерухомасцю ў вобласці. Тым часам яе філалагічныя веды былі скарыстаны ў Ленінградскім абласным судзе, дзе яна з 2003 г. прымае ўдзел у судовых працэсах як перакладчык з беларускай мовы. Навуковыя зацікаўленні гэтага разнастайнага чалавека праявіліся ў выступленні на канферэнцыі «Санкт-Пецярбург і беларуская культура», дзе Алена Мікалаеўна зрабіла даклад пра перапіску настаўніцы матэматыкі А. Сланеўскай з прафесарам Фёдарам Янкоўскім.

Асноўная адзінка арганізацыі пажарных у Пецярбургу — атрад. Доўгі час Васілеастроўскім атрадам (вуліца Астравумава, 21/76) кіраваў **Мікалай Віктаравіч Сукора**. Нарадзіўся ён 8 сакавіка 1961 г. у Гродне, закончыў 19-ю школу, потым на выдатна — Ленінградскае пажарнае вучылішча і Маскоўскую вышэйшую пажарна-тэхнічную школу. 11 гадоў жыў у 6-пакаёвай піцерскай камуналцы. Яшчэ ў Гродне Мікалай быў мадэлістам — паводле чэрцяжоў з чэскіх, польскіх і расійскіх часопісаў клеіў мадэлі самалётаў. Адпаведна, між іншым, і мовамі гэтымі авалодаў на добрым узроўні. Падчас службы ў Піцеры хобі змянілася: папрацаваўшы па спецыяльнасці, Мікалай

Віктаравіч стаў калекцыянерам мадэляў пажарных машынак. У яго вялізным рабочым кабінеце адна сцяна цалкам занята зашклёнымі шафамі, у якіх размяшчаецца калекцыя. Мікалай Сукора актыўна дапамагаў выданню альбома «Брандмаёры Санкт-Пецярбурга», па яго ініцыятыве ў гістарычным будынку на Вялікім праспекце Васільеўскага вострава, 73, створаны музей пажарнай аховы, пастаўлены помнік пажарным, якія загінулі. Гісторыя з гэтым помнікам стала адной з легендаў горада:

«Яшчэ ў 1930 г. у скверы перад Васілеастроўскім райкамам партыі быў адкрыты помнік У. І. Леніну: правадыр рэвалюцыі стаіць на высокім п'едэстале, ад гэтага здаецца зусім маленькім. У народзе помнік так і называюць «маленькі Ленін». Аднак, калі верыць фальклору, з ім звязаны даволі вялікі скандал. У 1982 г. перад будынкам Васілеастроўскай пажарнай часткі на Вялікім праспекце вырашылі паставіць помнік гераічным пажарным. Шматфігурную кампазіцыю ўжо адлілі ў бронзе, але помнік так і не быў усталяваны. Тады гэта растлумачылі тым, што ён нібыта будзе перашкаджаць праезду пажарных машын. Але ў горадзе з'явілася легенда, што паставіць помнік перашкаджаў райкам партыі. Маўляў, па-першае, фігуры занадта вялікія, а за два кварталы ад іх стаіць «маленькі Ленін», а па-другое, адзін з пажарных трымае ў руках сякеру, і бяжыць ён у бок бессмяротнага правадыра працоўных. Помнік пажарным цэлых 12 гадоў прастаяў у двары, і толькі ў 1995 годзе заняў сваё месца перад будынкам пажарнай часці»[1]. У 2008 г. Мікалай Сукора перайшоў на працу ў адміністрацыю Колпінскага раёна горада.

У Адміралцейскім раёне атрадам камандуе магіляўчанін палкоўнік **Віктар Андрэевіч Брык**. Ён патомны пецярбуржац — яго дзед Аляксей Цімафеевіч Кушковіч прыбыў у Ленінград у 1934 г., калі бацькі ўцякалі ад калектывізацыі беларускай вёскі. Уладкаваўся на Кананерскі суднарамонтны завод. Працавіты «кулак» стаў ударнікам працы, атрымаў вышэйшую на тыя часы ўзнагароду СССР — ордэн Леніна.

Калінінскім атрадам (Лясны праспект, 17) кіруе віцяблянін **Іван Іванавіч Чупурноў**, Кіраўскім — (вуліца Трэфалева, 43) таксама віцяблянін **Уладзімір Васільевіч Міхальчук**, 24-м Красносельскім атрадам, што на вуліцы Партызана Германа, 29, кіруе **Міхаіл Уладзіміравіч Белавусаў**. Нарадзіўся ён у вёсцы Рассвет пад Мсціславам, скончыў Ржавецкую школу, Мсціслаўскае СПТВ. Пасля арміі ў 1984 г. прыехаў у Ленінград, дзе прайшоў усе этапы пажарнай службы — ад малодшага інспектара да падпалкоўніка, начальніка атрада.

Выкладчыкам пецярбургскай Пажарнай акадэміі скончыў службу былы выпускнік 1971 г. СШ № 4 г. Навагрудка, а потым ленінградскага «Ваенмеха» **Ігар Алегавіч Лапко**. Яго жонка (і аднакласніца) **Людміла Віктараўна Лапко (Кулыба)** навучалася ў Мінску, а ў Пецярбург прыехала ўжо пасля заканчэння «ін'яза»; за доўгую і добрасумленную службу ў КДБ СССР была ўзнагароджана імянным гадзіннікам. Дачка — **Таццяна Лапко** вырасла ў Пецярбургу, стала архітэктарам.

Галоўнага страхоўшчыка пажарных і выратавальных службаў Расіі ААТ «Надзвычайная страхавая кампанія» у Пецярбургу з 2003 г. прадстаўляе дырэктар мясцовага філіяла кандыдат медыцынскіх навук **Віталь Анатольевіч Манкевіч** (нар. 22 лютага 1961 г. у Маладзечне). Віталь Манкевіч навучаўся ў Ваенна-медыцынскай акадэміі ў Ленінградзе, служыў на пасадах начальніка каманды тэрміновай медыцынскай дапамогі пошукава-выратавальнай службы ваенна-паветраных сіл, начальнікам аддзялення сасудзістай хірургіі галоўнага шпіталя Балтыйскага флоту. Звольніўшыся (у 1998 г.) з Узброеных сіл, Віталь Манкевіч стаў намеснікам дырэктара ўсерасійскага Цэнтра экстраннай і радыяцыйнай медыцыны Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Расіі. Удзельнічаў у беспаспяховай аперацыі па выратаванні экіпажа падводнай лодкі «Курск», а з 2001 г. пайшоў у новую на той час галіну — страхавую медыцыну: пачынаў як дырэктар пецярбургскага філіяла страхавой кампаніі «Прагрэс-Гарант».

* * *

З 1992 г. Пецярбург стаў адным з самых крыміналагенных рэгіёнаў Расіі. У 1993 г. узровень злачыннасці ў ім больш чым на траціну перавышаў агульнарасійскі і ў 2,7 раза маскоўскі. У горадзе было зарэгістравана ў два разы больш злачынстваў, чым у 1990 г. Пазней пачалася стабілізацыя і скарачэнне ўзроўню злачыннасці, з 1993 да 1996 г. ён зменшыўся, хоць па такіх відах правапарушэнняў, як грабяжы, разбой і крадзёж назіраўся рост. Асаблiва

[1] *Синдаловский Н. А.* Хроника Санкт-Петербурга. Годы. События. Легенды. – СПб., 2003. С. 242.

павялічылася колькасць злачынстваў, якія звязаны з наркотыкамі. Склад правапарушэнняў непазбежна вызначаецца эканамічным становішчам насельніцтва: за тыя ж гады колькасць злачынцаў-беспрацоўных вырасла ў тры разы. Частай з'явай у горадзе сталі заказныя забойствы вядомых у горадзе і за яго межамі людзей, сярод іх палітык беларускага паходжання Галіна Старавойтава. Ахова грамадскага парадку — галоўная задача міліцыі. Гэтай цяжкай і часта няўдзячнай працы прысвяцілі сябе некалькі чалавек з беларускага Пецярбурга.

**Анатоль Міхайлавіч Власюк** нарадзіўся 16 студзеня 1949 г. у вёсцы Кунаховічы Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці, бацькі Міхаіл Матвеевіч і Марыя Усцінаўна працавалі ў мясцовым калгасе «Перамога». У 1956 г. Анатоль пайшоў у першый клас Вярховічскай сярэдняй школы і ў 1966 годзе яе скончыў. Захапляўся спортам, музыкай — граў на баяне. Пасля школы паступіў у Вялікалуцкі сельскагаспадарчы інстытут на факультэт механізацыі і электрыфікацыі, а ў маі 1968 г. Анатоля прызвалі ў Савецкую Армію. Служыў у мотастралковых войсках на пасадах камандзіра аддзялення, намесніка камандзіра ўзвода. Дэмабілізаваўся старшы сержант Власюк у чэрвені 1970 г., а з ліпеня таго ж года пачалося для яго новае, пецярбургскае жыццё.



*Анатоль Власюк*

Малады інспектар крымінальнага вышуку ў 19 аддзяленні міліцыі Выбаргскага РАУС Ленінграда праз два гады сумленнай службы быў пераведзены інспектарам крымінальнага вышуку ў спецыяльнае ўпраўленне ўнутраных спраў, якое абслугоўвала закрытыя адміністратыўна-тэрытарыяльныя адзінкі, аб'екты ваенна-прамысловага комплекса на паўночным захадзе СССР, а пазней у Паўночна-Заходняй федэральнай акрузе Расійскай Федэрацыі.

Тым часам Анатоль Міхайлавіч скончыў Акадэмію МУС СССР па спецыяльнасці юрыст-правазнавец. На працягу наступных 32-х гадоў службы ў органах унутраных спраў займаў розныя пасады: старэйшы інспектар крымінальнага вышуку, старэйшы інспектар па асабліва важных справах, намеснік начальніка аддзела крымінальнага вышуку, начальнік крымінальнай міліцыі. У вольны час захоплены дачнымі справамі, зборам грыбоў, рыбалкай... Скончыў службу на пасадзе начальніка Пятага Упраўлення МУС Расіі ў званні генерал-маёра міліцыі 30 красавіка 2004 года. У роднай вёсцы ганарацца земляком-генералам, хаця бацькі, нажаль, не дажылі, каб даведацца гэтай прыемнай навіны...

Праз месяц пасля звальнення з органаў унутраных спраў Анатоль Власюк абраны акцыянерамі закрытага акцыянернага таварыства «Міжнародны дзелавой цэнтр — 2000» генеральным дырэктарам. Яго сын Сяргей і дачка Вольга пайшлі па шляху бацькі — сталі юрыстамі, супрацоўнікамі органаў унутраных спраў. Унукі Алёша, Уладзік, Іван і Вара — гэта ўжо пецярбуржскія беларусы ў трэцім пакаленні.

Да палкоўніка, загадчыка аддзела кадраў і канспірацыі Галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў Расіі па Паўночна-Заходняй федэральнай акрузе даслужыўся **Фёдар Васільевіч Грышкоў**. Нарадзіўся ён 1 кастрычніка 1952 г. у Шапчыцах Рагачоўскага раёна, там жа скончыў пачатковую школу. Прыехаў да цёткі ў Ленінград, працаваў на заводзе, вучыўся ў вячэрняй школе. Пасля вайсковай службы ў пагранічных вайсках прыйшоў у міліцыю. Служыў з 1973 да 2003 г. на пасадах участковага інспектара, міліцыянера-старшыны. У органах унутраных спраў Пецярбурга служыць ураджэнка Мікашэвічаў Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці **Альбіна Фёдараўна Макарэвіч**, яе муж — **Сцяпан Альбінавіч** родам з Баравікоў Мядзельскага раёна — афіцэр Расійскай арміі.

А вось **Лідзія Анатольеўна Курбатава** пачынала міліцэйскую кар'еру не адразу. Скончыла сярэднюю школу ў Ветцы, потым пушкінскае сельгасвучылішча, працавала ў саўгасе «Шушары». Пазней стала супрацоўнікам аддзела кадраў Галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў Расіі па Паўночна-Заходняй федэральнай акрузе, даслужылася да маёра. Дзявочае прозвішча Лідзіі Анатольеўны — Грамыка, паходзіць яна з вёскі Старыя Грамыкі Веткаўскага раёна, адкуль і Андрэй Грамыка — былы міністр замежных спраў СССР. Яны сваякі.

Да пасады начальніка Кіраўскага РАУС даслужыўся палкоўнік **Мікалай**

**Аляксандравіч Мажэйка**. Нарадзіўся ён 12 лютага 1947 г. у вёсцы Астравічы Пінскага раёна. Сярэднюю школу закончыў у Гарадышчы. Пасля арміі паехаў у Ленінград. 6 гадоў працаваў на заводзе «Чырвоны сцяг» (цяпер «Армаліт»), у 1975 г. па партыйным наборы пайшоў у міліцыю... Цяпер генеральны дырэктар ААТ «Бізнес-клуб «Юнона». Чатыры сыны Мікалая Аляксандравіча — Сяргей, Юрый, Аляксандр і Дзмітрый — папоўнілі шэрагі другога пакалення пецярбургскіх беларусаў. А выхаванец Мікалая Мажэйкі, ураджэнец Віцебскай вобласці **Антон Рышардавіч Драздовіч** прайшоўшы шлях ад лейтэнанта да палкоўніка міліцыі заняў паважную пасаду начальніка РАУС Усевалажскага раёна.



*Антон Драздовіч*

Намеснікам начальніка кафедры крымінальнага працэсу Санкт-Пецярбургскага універсітэта МУС Расіі працуе кандыдат навук **Ніна Віктараўна Матвеева**, якая нарадзілася ў Барысаве.

У Столінскім раёне Брэсцкай вобласці ў вёсцы Дубавец нарадзіўся 5 ліпеня 1955 г. **Яўген Сцяпанавіч Рашэцкі**. Хлопец рос каля прыгожай і рыбнай ракі (недалёка ад Дубаўца) Гарынь і марыў пра мора. Скончыў 8-годку ў роднай вёсцы, потым СГПТВ-56 будаўнікоў у Гомелі. Працаваў пасля яго заканчэння на будоўлях станцыі Гарынь, на меліярацыі. Чакаючы прызыву ў армію, спецыяльна займаўся ў марскім клубе, каб трапіць на марскую службу. Прызваны ў 1973 г. на 3 гады на Паўночны флот, удзельнічаў у дальнім паходзе ў Міжземнае мора. Пасля дэмабілізацыі Яўген застаўся ў Мурманску рыбаком. У 1980 г. скончыў Ленінградскую школу міліцыі, вярнуўся у Мурманск, Манчагорск. У 1982 г. ён стажыраваўся ў крымінальным вышуку Ленінграда і да 1993 г. працаваў у Мурманску. Пасля пачатку перабудовы Яўген Рашэцкі пераехаў у Ленінградскую вобласць, дзе ў бурлівыя часы перабудовы забяспечваў (да 2000 г.) парадак у цэнтры атамнай энергетыкі, горадзе Сасновы Бор. Пазней працаваў памочнікам начальніка Ленінградскай школы міліцыі, а ў 2003 г. стаў начальнікам Курортнага РАУС у Сестрарэцку.



*Фёдар Рашэцкі*

Яго аднафамілец **Фёдар Мікалаевіч Рашэцкі** (нар. у 1952 г. у Кажан-Гарадку Лунінецкага раёна) таксама абраў шлях дзяржаўнай службы і зрабіў у Ленінградзе пракурорскую кар’еру. Сярэднюю школу Фёдар закончыў у Кажан-Гарадку, з 1970 да 1972 г. служыў у войсках Урадавай сувязі пры Савеце Міністраў СССР. У Ленінград ён прыехаў у 1983 г., скончыў тут эканамічны факультэт Фінансава-эканамічнага інстытута імя А. Вазнясенскага і юрыдычны факультэт Санкт-Пецярбургскага гуманітарнага універсітэта прафсаюзаў. У чыне саветніка падаткавай службы III ранга працаваў інспектарам падаткавай службы па Неўскім раёне Пецярбурга, пазней быў намеснікам пракурора Паўночна-Заходняй транспартнай пракуратуры, начальнікам аддзела Федэральнага ўпраўлення Міністэрства юстыцыі РФ па Паўночна-Заходняй федэральнай акрузе, атрымаў чын саветніка юстыцыі I класа. Асноўную працу Фёдар Рашэцкі сумяшчае з выкладаннем у Расійскай мытнай акадэміі (пецярбургскі філіял імя В.Б.Бабкова) і з

навуковай дзейнасцю. Ён аўтар трох манаграфій і 20 навуковых артыкулаў на тэму міжнародна-прававых аспектаў супрацоўніцтва праваахоўчых органаў краін СНД у недапушчэнні кантрабанды, кандыдат юрыдычных навук. Жонка Фёдара Мікалаевіча — Людміла Фёдараўна — нарадзілася таксама ў Кажан-Гарадку. Пасля заканчэння Ленінградскага інжынерна-эканамічнага інстытута імя Тальяці яна працуе бухгалтарам, потым галоўным бухгалтарам на прамысловым прадпрыемстве. У Рашэцкіх двое дзяцей: дачка Ірына вывучае замежныя мовы, сын Юрый — юрыст. У хатняй бібліятэцы кнігі на беларускай мове: Янка Купала, І. Шамякін, В. Шыцік. Любімая страва Фёдара Рашэцкага — дранікі са смятанай; а мара (idea fix) — пераехаць пад старасць на Беларусь, у родны Кажан-Гарадок.

Следчым Санкт-Пецярбургскай пракуратуры працуе **Аляксей Мікалаевіч Курган**, беларус у другім пакаленні, сын капітана 1-га рангу Мікалая Кургана.

Пракурорам Ленінградскай вобласці стаў ураджэнец Брэсцкай вобласці **Сяргей Васільевіч Раманюк** (нар. у 1958 г.). У 1984 г. ён закончыў юрыдычны факультэт Ленінградскага універсітэта, з 1983 г. быў стажорам, памочнікам, старшым памочнікам ленінградскага пракурора па наглядзе за выкананнем закона ва ўстановах прымусовага выпраўлення-зняволення. Як пракурор вобласці Сяргей Раманюк узначаліў працу свайго ведамства з прадпрыемствамі-неплацельшчыкамі зарплаты, рабіў прадстаўленні Заканадаўчаму сходу Ленінградскай вобласці аб парушэннях Закона «Аб інвестыцыйнай дзейнасці ў Ленінградскай вобласці» (1997 г.); гучная справа, якую пракурор мусіў узяць пад свой асабісты кантроль, былі ўцёкі (у маі 2005 г.) арыштаваных з ізалятара часовага зняволення ва Усевалажску, пад час якіх быў забіты міліцыянер.



*Парадак у горадзе забяспечвае пецярбургская міліцыя*

Акрамя міліцыі, Ленінградскую атамную станцыю і шматлікія важныя (у тым ліку ядзернанебяспечныя) аб'екты ад Мурманска да Пецярбурга ахоўвае спецыяльная брыгада ўнутраных войск, камандзірам якой у 2005 г. стаў выпускнік Ашмянскай СШ № 3 палкоўнік **Віктар Францавіч Завадскі** (нарадзіўся ў Клюшчанах Астравецкага раёна 24 снежня 1968 г.). Пасля заканчэння ваеннага вучылішча малады лейтэнант патрапіў адразу на ахоплены баявымі дзеяннямі Паўночны Каўказ, дзе служыў камандзірам узвода, роты, батальёна. Баявыя ўзнагароды Віктара Завадскага — ордэн Мужнасці, медалі «За адвагу» і «За воінскую доблесць» — адзнака за сумленную і рызыкоўную службу.

Дэпутатам муніцыпальнага ўтварэння «Звёзнае» (Маскоўскі раён) з'яўляецца адзін з лепшых міліцыянераў у гэтым раёне ўчастковы ўпаўнаважаны **Аляксандр Іванавіч Шышко**, родам з Магілёўскай вобласці. Дзяржаўную інспекцыю бяспекі дарожнага руху ў Петраградскім раёне ўзначальвае таксама ўраджэнец Магілёўшчыны палкоўнік **Мікалай Міхайлавіч Рагавы**, да палкоўніка ГУУС даслужыўся **Аляксандр Іванавіч Іваноў** з Буда-Кашалёва...

* * *

Сённяшні Санкт-Пецярбург падзелены на некалькі раёнаў (Цэнтральны, Петраградскі, Васілеастроўскі, Неўскі і некалькі «спальных»), якія ў сваю чаргу падзелены на муніцыпальныя акругі, якімі кіруюць абраныя жыхарамі дэпутаты. Гэта важная для жыццядзейнасці ўсёй акругі структура: ад муніцыпалаў залежыць добраўпарадкаванасць гарадскіх тэрыторый, рамонты жыллёвага фонду, стан дарог і тратуараў і шмат што іншае. Сярод народных абраннікаў сустракаюцца і беларусы. Некалькі з іх працуюць на Петраградскай старане, прынамсі главой адміністрацыі Петраградскага раёна – **Аляксей Сямёнавіч Дзялюкін**, кандыдат тэхнічных навук, заслужаны работнік жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Нарадзіўся Аляксей Сямёнавіч на паўднёвай Смаленшчыне, у горадзе Пачынак. Выступаючы на сустрэчы з беларусамі —

ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны 29 мая 2008 г. ён прыпомніў сваю радзіму і бацьку, Сямёна Фёдаравіча Дзялюкіна, любімай песняй якога была свая, народная, дзе «...той сёмы, прыгожы ды вясёлы — ды й не схацеў мяне ўзяць!».

Муніцыпальнае аб'яднанне «Чкалаўскае» у Петраградскім раёне ўзначальвае **Мікалай Леанідавіч Марціновіч**. Ён нарадзіўся 10 сакавіка 1949 г. у вёсцы Шастовічы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці. Вырас у вялікай сялянскай сям'і. Бацька Леанід Захаравіч — франтавік, узнагароджаны ордэнам Баявога Чырвонага Сцяга. Пасля заканчэння Шастовіцкай сярэдняй школы ў 1966 г. Мікалай паспяхова скончыў Камышынскае ваеннае будаўніча-тэхнічнае вучылішча, быў накіраваны служыць у Ленінградскую акругу. За час службы прайшоў пасады ад інжынера разліку — камандзіра ўзвода да памочніка камандзіра часці па інжынерна-тэхнічнай службе. Каб атрымаць больш прафесійных ведаў, у 1981 г. закончыў Ленінградскае вышэйшае ваеннае інжынерна-будаўнічае вучылішча па спецыяльнасці «Санітарна-тэхнічнае абсталяванне будынкаў».



*Мікалай Марціновіч*

Працаваць з жыллёва-камунальнай гаспадаркай Мікалай Леанідавіч вучыцца пастаянна. У 2001 г. ён прайшоў курс у Пецярбургскім дзяржаўным інстытуце кіравання і эканомікі па спецыяльнасці «Рэгіянальнае і муніцыпальнае кіраванне», а ў 2003 г. скончыў з адзнакай Санкт-Пецярбургскі дзяржаўны універсітэт па гэтай жа спецыяльнасці. З 1980 да 2000 г. праходзіў службу ў акадэміі імя А. Мажайскага, займаў асноўныя кіруючыя пасады ў сістэме матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння буйнейшай вышэйшай навучальнай установы: намеснік начальніка кватэрна-эксплуатацыйнага аддзела, начальнік аддзела, намеснік начальніка акадэміі па матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні. Тут трэба сказаць, што Ваенна-касмічная акадэмія імя Мажайскага займае 117 будынкаў, гэта цэлы раён Петраградкі з жылымі дамамі, паліклінікай і дзіцячымі садкамі, атэлье па пашыве адзення і нават тэкстыльнай фабрыкай — шэдэўрам прамысловай архітэктуры. І зусім няпростая задача падтрымліваць у добрым стане гэты горад у горадзе, асабліва калі ўлічыць, што большасць будынкаў яшчэ царскай пабудовы.

У 1998 г. Мікалай Леанідавіч абраны старшынёй муніцыпальнага савета акругі «Чкалаўская». Прызы ў гарадскім аглядзе «Лепшы двор» — адзнака яго канкрэтнай працы па добраўпарадкаванні старой забудовы. Сам выдатны спарцмен, Марціновіч паклапаціўся пра спартыўныя аб'екты раёна: у 2003 г. у гарадскім аглядзе-конкурсе ў намінацыі «Спартыўная пляцоўка» яго муніцыпальны савет заняў 1-е месца. Неаднаразова ўзнагароджаны ганаровымі граматамі ўрада Санкт-Пецярбурга, мае ордэны «За ваенныя заслугі», «За службу Радзіме ва Узброеных Сілах СССР», шматлікія медалі... А ў суседняй з «Чкалаўскай» муніцыпальнай акрузе — «Аптэкарскім востраве — працуе **Пётр Леанідавіч Марціновіч**, брат Мікалая



*Вячаслаў Чэрэўко*

Леанідавіча. Пётр Леанідавіч галава мясцовай адміністрацыі, правадзейны саветнік муніцыпальнай службы 1 класа.

Яшчэ адзін кіраўнік гарадской муніцыпальнай акругі — беларус, працуе на Ржэўцы. Гэта **Вячаслаў Рыгоравіч Чэрэўко**, родам з вёскі Слабада Мазырскага раёна. Пасля заканчэння Інжынерна-будаўнічага інстытута застаўся ў Пецярбургу. Старшынёй пастаяннай дэпутацкай камісіі па жыллёва-камунальнай гаспадарцы ў гэтай акрузе працуе яго зямлячка **Ірына Ігараўна Рогава**. Яе шлях у Пецярбург з роднай вёскі Бібікі Мазырскага раёна прайшоў праз сярэднюю школу ў пасёлку Крынічны на Мазыршчыне і Ленінградскі інстытут халадзільнай прамысловасці. Каля старэйшай сястры Ірыны (пасля чарнобыльскай аварыі) сабраліся ў Пецярбургу абодва браты і дзве малодшыя сястры.

У Лагойскім раёне Мінскай вобласці ў 1961 годзе нарадзіўся сённяшні галава муніцыпальнай акругі «Нарвская акруга» **Аляксандр Георгіевіч Каптуровіч**. Пасля заканчэння Логава-Слабадской СШ ў Мінскім раёне і будаўнічага СГПБУ-107 у Мінску, Аляксандр Каптуровіч працаваў у Беларускім політэхнічным інстытуце, вучыўся ў Ленінградскай спецыяльнай сярэдняй школе міліцыі, служыў оперупаўнаважаным крымінальнага вышуку, вучыўся ў акадэміі МУС, служыў намеснікам начальніка аховы метрапалітэна...

У кастрычніку 2004 г. палкоўніка міліцыі і дэпутата Аляксандра Каптуровіча абралі галавой гэтага тэрытарыяльна не самага вялікага ў Пецярбургу муніцыпальнага аб'яднання. Жыллёвы фонд — 377 дамоў, колькасць насельніцтва па перапісу 2002 г. — больш за 29 тысяч чалавек. Але ў «Нарвскай акрузе» 37 прамысловых прадпрыемстваў, сярод якіх адзін з гігантаў піцерскай прамысловасці — аб'яднанне «Кіраўскі завод» — клопату з гаспадаркай муніцыпалам хапае!

Пасля звальнення ў запас пасаду галавы тэрытарыяльнага упраўлення Паўлаўскага і Пушкінскага раёнаў Пецярбурга заняў **Міхаіл Іванавіч Каратуеў**. Нарадзіўся ён 5 лістапада 1945 г. у Клінцах, маці паходзіць з Гомельскай вобласці, бацька — з Бранскай. Прафесійная кар'ера Міхаіла Каратуева — вайсковы артылерыст. Скончыў Артылерыйскую акадэмію ў Ленінградзе, а ў 1989 г. з залатым медалём — Акадэмію Генеральнага штаба. Прайшоў усе ступені службы ў войску — ад лейтэнанта, камандзіра ўзвода да генерал-палкоўніка, начальніка ракетных войскаў і артылерыі Узброеных сіл Расійскай Федэрацыі. У 2006 г. Міхаіл Каратуеў вынес на пасяджэнне ўрада Санкт-Пецярбурга праграму падрыхтоўкі да 300-годдзя Царскага сяла (г. Пушкін) на 2006–2010 гг. Прынятая Смольным праграма прадугледжвае ператварэнне г. Пушкіна ў цэнтр міжнароднага турызму; сярод буйных інвестыцыйных праектаў — рэканструкцыя аэрадрома для спартыўнай і дзелавой авіяцыі, адкрыццё гольф-клуба сусветнага класа, будаўніцтва гасцінічнага комплексу і жылых дамоў, рэстаўрацыя 31 гістарычнага помніка. Паўстала пытанне і пра вяртанне гораду Пушкіну гістарычнай назвы — Царскае сяло. Аднак задумы Міхаіла Каратуева будзе здзяйсняць яго заступнік — 6 лютага 2007 г. губернатар Валянціна Матвіенка абвясціла, што ў сувязі са станам здароўя М. Каратуеў пакідае пасаду кіраўніка Пушкінскага раёна Пецярбурга.

Месцам аздараўлення і адпачынку для многіх пецярбуржцаў з'яўляецца Курортны раён горада. Ён больш чым на 50 км цягнецца ўздоўж Паўночнага берага Фінскага заліва і складаецца з 11 гарадоў і пасёлкаў. Больш як 100 аздараўленчых устаноў круглы год прымаюць тых, хто жадае адпачыць. Доўгі час тэрытарыяльнае ўпраўленне гэтага адміністратыўнага раёна ўзначальваў беларус **Аляксандр Генадзьевіч Борыс**.

Больш як 15 гадоў працуе ў муніцыпальнай акрузе № 58 Петраградскага раёна **Аляксандр Фёдаравіч Слізкі**. Бацькі яго з Віцебшчыны:



*Аляксандр Слізкі*

мацi з Бешанковiцкага раёна, бацька — з Вiцебска. Пасляваенныя пакручастыя шляхi занеслi гэтую сям'ю ў Ваганава Усевалажскага раёна. Там i закончыў Аляксандр школу Паступiў у Ленiнградскi iнстытут савецкага гандлю iмя Энгельса, а потым вярнуўся ў Ваганава. З 1990 г. Аляксандр Слiзкi абраны намеснiкам старшынi гарадской муніцыпальнай акругi № 58, пазней дэпутатам у мунiцыпальнае аб'яднанне «Кронверскае» — гэта той раён гораду, дзе некалi былi курсы Чарняева, на якiх вучыўся Янка Купала.

Прыярытэтны кiрунак яго дзейнасцi — сацыяльная дапамога. Новы мунiцыпальны чыноўнiк адразу ж стаў намеснiкам старшынi апякунскага савета дзiцячага дома № 14 на С'езджанскай вулiцы, старшынёй апякунскага савета СШ № 86 (вулiца Мiра, 4). Дапамагаў вучням i настаўнiкам у цяжкiя гады перабудовы. Асаблiвы рэзананс сярод ветэранаў «Петраградкi» мела праграма дабрачынных абедаў напярэдаднi 60-годдзя Перамогi ў Вялiкай Айчыннай вайне. Каталiцкi дабрачынны цэнтр «Карытас Санкт-Пецярбург» пры падтрымцы дэпутата 5 дзён на тыдзень прадастаўляў для 600 ветэранаў вайны i працы бясплатны абед у кавярнi «Таццяна» на Уведзенскай вулiцы, 9, дзе загадчыцай працуе жонка Аляксандра Слiзкага — Аляксандра Сцяпанаўна. «Абеды са слязамi на вачах» — так быў названы артыкул пра гэтыя абеды ў газеце «Санкт-Пецярбургскiя ведамасцi» 16 лютага 2005 г.

Член партыi «Адзiная Расiя» Аляксандр Слiзкi ўзнагароджаны не толькi медалём «300 гадоў Санкт-Пецярбургу» — ён узнагароджаны падзякай вельмi многiх людзей, а гэта не менш важна. Сыны Аляксандра Слiзкага — Аляксандр i Мiхаiл — лiчаць сябе па бацьку беларусамi, хоць мацi iх, Аляксандра Сцяпанаўна, належыць да вепсаў — старажытнага народа, спрадвечнага насельнiка цяперашняй Ленiнградскай вобласцi.

Пастаянная ратацыя кадраў ва ўладных структурах горада адбываецца праз запрашэнне на працу ў Смольны паспяховых кiраўнiкоў нiжэйшага рангу. У лютым 2009 г. прызначэнне на пасаду старшынi камiтэта эканамiчнага развiцця, прамысловай палiтыкi i гандлю ўраду Санкт-Пецярбурга атрымаў выпускнiк механiка-матэматычнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага унiверсiтэта iмя Францыска Скарыны **Сяргей Дзмiтрыевiч Бадруноў** (нарадзiўся ў Гомельскай вобласцi 25 жнiўня 1958 г.). Пецярбуржцам Сяргей Бадруноў стаў у 1992 г., меўшы за плячыма вопыт выкладчыцкай працы ў Гомельскiм



*Сяргей Бадруноў*

унiверсiтэце i кiравання цэнтрам навуковатэхнiчнай iнфармацыi ў Гомелi, атрымаўшы дадатковую эканамiчную адукацыю ў Бельгii (брусельская Мiжнародная вышэйшая школа менеджмента) i Расii (дактарантура Расiйскай эканамiчнай акадэмii iмя Г. Пляханава). З 1992 г. ён начальнiк аддзела маркецiнга, дырэктар па знешнеэканамiчнай дзейнасцi, з 1995 г. — прэзiдэнт пецярбургскага АТ «Пiрометр»; з 1998 г. — генеральны дырэктар ААТ «Аб'яднаны авiяпрыборабудаўнiчы кансорцыум», з 2000 г. — генеральны дырэктар ААТ «Карпарацыя «Аэракасмiчнае абсталяванне», якая аб'яднала 28 прадпрыемстваў i стала першым прыватна-дзяржаўным холдынгам у ваенна-прамысловым комплексе. Апроч таго, аўтар больш як 170 навуковых прац. Прафесар, доктар эканамiчных навук С. Бадруноў выкладае на кафедры менеджмента навукi i адукацыi Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага унiверсiтэта аэракасмiчнага прыборабудавання, ён член Праўлення i першы намеснiк Расiйскага Саюза прамыслоўцаў i прадпрымальнiкаў, член Навукова-тэхнiчнага савета кампанii «Росабаронэкспарт», старшыня Савета Нацыянальнай асацыяцыi авiяпрыборабудаўнiкоў Расii, член Сусветнай канферэнцыi па падтрымцы авiёнiкi ад Расiйскай Федэрацыi, член Сусветнага клуба сяброў Эрмiтажа... Як высокi чыноўнiк урада горада i старшыня Санкт-Пецярбургскай Асацыяцыi вытворцаў аўтакампанентаў Сяргей Бадруноў мае намер развiваць у Пецярбургу аўтакластэр: «горад можа стаць другiм Дэтройтам».

# Раздзел 15.

## СУЧАСНЫ ПЕЦЯРБУРГ: ЛЮДЗІ Ў ПАГОНАХ

Упасляваенныя савецкія часы Ленінград па-ранейшаму застаецца адным з галоўных цэнтраў вайсковай адукацыі СССР — вялікую колькасць спецыялістаў рыхтавалі два дзесяткі вышэйшых ваенных навучальных устаноў. Чыста «тэхналагічна» ў гэтыя ўстановы паступаць заўсёды было лягчэй, чым у грамадзянскія інстытуты — падаць заяву трэба было па месцы жыхарства ў райваенкамат, а потым цябе пасылалі здаваць экзамены за казённы кошт — вельмі спрыяльны жыццёвы складнік. Прысутнічаў немалы рамантычны складнік: мора, космас, сучасная тэхніка. Каго з маладых летуценнікаў не цягнула да гэтых, недаступных у беднай кантынентальнай Беларусі, стыхій? Дзейнічаў і псіхалагічны складнік: быць абаронцам Айчыны — гэта дастойны занятак для маладога чалавека. Большасць ленінградскіх ваенных ВНУ — вучэльні прэстыжныя, са старымі, яшчэ з царскіх часоў традыцыямі. Найперш марскія: Падводнага плавання імя Ленінскага камсамола, Дзяржынка, марскіх афіцэраў-сувязістаў імя Папова ў Пушкіне. З сухапутных славіліся Ваенна-медыцынская акадэмія, вучылішча, якое рыхтавала ваенных чыгуначнікаў, Ваенна-будаўнічы інстытут, Акадэмія сувязі імя Будзённага, Ваенна-касмічная акадэмія імя Мажайскага.




*Помнік В.І. Чапаеву перад Акадэміяй сувязі*

Менавіта са знаёмства з вайскоўцамі-беларусамі і пачалася рэканструкцыя беларускага Пецярбурга, вынікам чаго і стала кніга, якую вы, паважаны чытач, трымаеце зараз у руках. Сустракаючыся з афіцэрамі-беларусамі, аўтар пачуў шмат займальных застольных расказаў пра розныя кур'ёзы, напрыклад, праўдзівую гісторыю аднаго саліднага цяпер палкоўніка пра розніцу паміж беларускім правінцыйным горадам і Ленінградам у савецкія часы. Вучань адной з заходнебеларускіх школ, ён паступіў у 1971 г. у Ленінградскае вышэйшае ваеннае вучылішча і быў адпушчаны першы раз у звальненне. Збылася мара паглядзець адзін з найпрыгажэйшых у свеце горадоў, калыску Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі! Малады курсант пачаў агляд з пельменнай на Неўскім праспекце, недалёка ад Маскоўскага вакзала. Усё не так, як у маленькім родным гарадку, дзе пельменных увогуле не было! Пельмені смачныя (узяў дзве порцыі), на століках — маленькія графінчыкі. Наліў сабе з гафінчыка шклянку запіць пельмені. На здзіўленыя позіркі іншых наведвальнікаў вырашыў не звяртаць увагі. Ужо дапіваючы тую шклянку, зразумеў, што на століках стаяў воцат для пельменяў! З гонарам выйшаў з пельменнай і штосілы рвануў да бліжэйшай падваротні... Апечаны страўнік дапамаглі залячыць лекары Ваенна-медыцынскай акадэміі...

Маладога чалавека ў ваенным вучылішчы атуляла атмасфера напружанага навучання, інтэнсіўных заняткаў спортам (асабліва вылучалася ў гэтым чамусьці Ваенна-касмічная акадэмія) і паважлівых адносін з боку старэйшых таварышаў і выкладчыкаў — былых франтавікоў. Камсамольская работа абавязвала не толькі да нудоты рэгулярных палітзаняткаў, але і да наведвання цэнтраў культуры горада: тэатраў, музеяў, канцэртаў. Часам дапытлівы курсант даведваўся, што сярод старэйшых афіцэраў-выкладчыкаў яго вучылішча (Акадэміі) ёсць землякі, з якімі ў неслужбовых адносінах можна карыстацца роднай мовай. Напрыклад, з генерал-маёрам Віталем Кананюком ў Ваеннай акадэміі сувязі імя Будзённага.

У самыя цяжкія дні вайны, у 1942 г., прыехаў у Ленінград лейтэнант-сувязіст **Віталь Іванавіч Кананюк**. Перад гэтым ён ўжо паваяваў на подступах да горада, амаль не два месяцы — на «Неўскім пятачку». Быў паранены і эвакуяваны, ляжаў у шпіталі, які размяшчаўся ў Марыінскім палацы на Ісакіеўскай плошчы. Успамінае, як у халодную блакадную зіму дактары і параненыя, каб сагрэцца, палілі ў буржуйках вялізныя і вельмі прыгожыя драўляныя палацавыя дзверы. Пасля выпіскі служыў камандзірам роты тэлеграфна-тэлефоннага батальёна асобнага палка сувязі Ленінградскага фронту (забяспечваў сувязь са Смольным).

Нарадзіўся Віталь 3 снежня 1919 г. у сям'і сельскага настаўніка Івана Адамавіча Кананюка ў вёсцы Вышаткі Гарадоцкага раёна Віцебскай вобласці. Будучы сувязіст вучыўся ў сярэдняй школе ў г. Сянно, у 1933—1934 гг. працаваў няштатным карэспандэнтам мінскай газеты «Чырвоная змена», друкаваўся пад псеўданімам Янка Знаёмы. Скончыўшы ў 1939 г. Маскоўскі тэхнікум сувязі, быў прызваны ў армію. Пасля вайны афіцэр Віталь Кананюк павышаў кваліфікацыю ў Ваеннай акадэміі сувязі імя С. Будзённага, закончыў яе на выдатна. Акадэмія пакінула здольнага выпускніка для выкладчыцкай і навуковай працы. Трыццаць шэсць гадоў, з 1946 да 1981 г. заставаўся Віталь Іванавіч у акадэміі. Даслужыўся да звання генерал-маёра і пасады намесніка начальніка па навуковай і вучэбнай працы. Пад яго кіраўніцтвам сярод іншых служылі і вучыліся многія беларусы, напрыклад, будучы генерал **Мікалай Іванавіч Асмалоўскі** (нар. 10 красавіка 1922 г. у Касцюковічах). Пасля выхаду ў адстаўку таленавіты адміністратар і навуковец Віталь Кананюк яшчэ амаль 20 гадоў працаваў на прадпрыемстве «Дальсувязь». У 2001 г. ён выдаў кнігу мемуараў пад назвай «Сувязь — мой лёс». Расказаў у ёй пра рэпрэсаванага і загінуўшага ў сталінскім лагеры бацьку, спыніўся на асаблівасцях вайсковай службы. Яго цікавяць праявы людскога сяброўства і маральнасць паводзін тых людзей, з якімі звёў лёс — чытачу пададзены факты і стрыманы, часцей за ўсё добразычлівы каментарый. Хоць няспешнае апавяданне ветэрана, але ж часам набывае павышанае эмацыйнае напружанне. У адным выпадку гэта датычыць агульнагарадской справы будаўніцтва метро: «на працягу чатырох скліканняў, з 1969 да 1977 г., абіраўся я дэпутатам Выбаргскага, а пасля Калінінскага раённых Саветаў народных дэпутатаў. З усяго каларыту дэпутацкай дзейнасці дазволю сабе абмежавацца толькі расказам пра тое, як стаў я датычны да гісторыі, якая сумна закончылася аварыяй на Ленінградскім метрапалітэне ў раёне плошчы Мужнасці.

А пачыналася вось з чаго. У канцы красавіка 1971 г. прыехаў у акадэмію начальнік «Ленметрабуда» Ю. Салаўёў (пазней ён быў першым сакратаром Ленінградскага абкама КПСС) з групай праекціроўшчыкаў, каб узгадніць будаўніцтва на тэрыторыі акадэміі ў непасрэднай блізкасці ад тыльнага боку галоўнага вучэбнага корпуса часовага лазнепральнага камбіната, які прызначаны для мыцця праходчыкаў пасля змены і прання іх спецадзення. Мелі намер таксама абмеркаваць пытанне пра тое, якія сумы трэба закласці ў праектна-каштарысную дакументацыю на выпадак, калі пры праходцы тунэля пад будынкам акадэміі з'явяцца ў ім трэшчыны або якія іншыя пашкоджанні. Пры абмеркаванні я рашуча выступіў супраць будаўніцтва, паколькі яно пазбавіла б нас на многія гады магчымасці карыстацца толькі што пабудаваным акадэмічным стадыёнам, а галоўнае — такое суседства недапушчальнае па спецпатрабаваннях, бо менавіта ў той частцы будынка размяшчаюцца лабараторыі з сакрэтнай і абсалютна сакрэтнай тэхнікай.

Урэшце кансэнсус, як любіў гаварыць вядомы дзеяч, дасягнуты не быў. Візіцёры паехалі з нічым! Праз некалькі дзён пазваніў мне па тэлефоне адзін з тых праекціроўшчыкаў, якія былі з Салаўёвым, і папрасіў сустрэцца. Гэта быў начальнік аддзела трасы інстытута «Ленметрапраект» Уладзімір Румін. Калі сустрэча адбылася, Уладзімір Міхайлавіч перш за ўсё шчыра прызнаўся, што яму падабаецца, як настойліва і рашуча адстойваў я на мінулай нарадзе сваё бачанне прабемы, а заўважыўшы на маім кіцелі дэпутацкі значок, вырашыў расказаць мне пра сур'ёзныя недахопы і нават пралікі праекта.

Яго пярэчанні кіраўніцтва «Ленметрапраекта» і «Ленметрабуда» катэгарычна адсоўвалі, у чым яўна праглядаліся меркаванні кан'юнктурнага характару. Дзіва што — такія лаўры чакалі аўтараў і натхняльнікаў! Упершыню ў сусветнай практыцы будуць пабудаваныя тунэлі працягласцю 600—700 метраў праз размыў, які ўтвораны рэчышчам старажытнай ракі, метадам суцэльнага замарожвання грунтоў з паверхні. Напэўна, менш чым Ленінскую прэмію не дадуць! Чаго каштавала гораду і ўсёй краіне гэтая пагоня за сусветнай славай — вядома.

А на той час не трэба было быць спецыялістам метрабуда, каб зразумець: з трох магчымых варыянтаў (будаўніцтва тунэляў адкрытым спосабам вышэй размыву, праходка ніжэй размыву і праходка праз размыў) апошні — самы дарагі і самы ненадзейны. Таму У. М. Румін звярнуўся да мяне з заклікам выступіць за адхіленне непрыдатнага праекта. Ён шчыра сказаў: «Я не магу больш пярэчыць. Мяне проста звольняць з працы, а Вы — дэпутат, генерал! Вам губляць няма чаго. Пазмагайцеся за добрую справу, перш за ўсё для вашых выбаршчыкаў — жыхароў Выбаргскай стараны». І я адгукнуўся на гэты заклік.

Падрыхтаваўшы з дапамогай У. М. Руміна прапановы пра больш рацыянальны варыянт будаўніцтва метро на гэтым участку,

я накіраваў іх як дэпутат кіраўніцтву горада. Сутнасць прапанаваў, карацей кажучы, выглядала так.

Адмовіцца ад метада суцэльнага замарожвання грунтоў, выканаць пабудову перагонных тунэляў пад размывам. Замест дзвюх станцый метро «Плошча Мужнасці» і «Політэхнічная», якія знаходзяцца на невялікай адлегласці адна ад адной, збудаваць пад зямлёй адну, больш глыбокую станцыю з двума нахільнымі эскалатарнымі хадамі, якія выходзяць і ў бок плошчы Мужнасці, і да Політэхнічнага інстытута.

...Кіраўніцтва «Ленметрабуда» і «Ленметрапраекта», адстойваючы гонар мундзіра, вышуквала самыя розныя, нават малазначныя недахопы, якія датычаць рэалізацыі маіх прапаноў, каб іх адхіліць. <..> Урэшце мае прапановы былі адхілены. Праект, які пазней назвалі авантурай стагоддзя, пачалі здзяйсняць. У выніку — аварыя ў час будаўніцтва ў 1974 г. (прарыў плывуна ў тунэль) і сапраўдная катастрофа ў 1995 г. На жаль, службовыя асобы, вінаватыя ў гэтых бедах, не панеслі не толькі крымінальнай, але нават і маральнай адказнасці»[1]. Дадамо, што праз 10 год пасля размыву рух цягнікоў метро на гэтым кірунку быў адноўлены з дапамогай італьянскага абсталявання, сума страт ад аварыі і яе ліквідацыі засталася таямніцай.

У 1965 г. Віталь Кананюк займаўся, акрамя непасрэдных службовых абавязкаў, даследаванем гісторыі гарадской скульптуры, менавіта помніка герою грамадзянскай вайны ў Расіі Васілю Чапаеву. Бронзавы помнік падчас блакады Ленінграда паставілі перад будынкам Акадэміі сувязі на фундаменце са шпалаў. У некалькіх нататках для газет «Ленинградская праўда», «Вячэрні Ленінград» і «Змена» Кананюк паведаміў гараджанам, што помнік з'яўляецца аўтарскім паўторам працы скульптара М. Манізера для Самары (1932 г.). Паўтор быў у 1934 г. адліты для Ленінграда; смерць Кірава, а потым вайна перашкодзілі яго ўстаноўцы. У гады блакады помнік на спецыяльных санках з бярвенняў адбуксіравалі з Петраградскай стараны да Акадэміі сувязі. Па ініцыятыве Віталя Кананюка ў 1968 г. была зроблена рэстаўрацыя, помнік атрымаў трывалы фундамент. Ужо ў сталым веку, будучы на пенсіі, Віталь Іванавіч актыўна працаваў у Савеце ветэранаў Акадэміі сувязі, рыхтаваў святкаванне гадавіны перамогі ў Другой сусветнай вайне ў 2005 г. А на сваёй дачнай дзялцы ў раёне Токсава вырасціў таматы, два з якіх самыя вялікія ў горадзе — 1050 і 950 грамаў.

Да пасады начальніка кафедры ў той жа Ваеннай акадэміі сувязі імя Будзённага даслужыўся ўраджэнец вёскі Бароньні Касцюковіцкага раёна **Анатоль Цітавіч Лебедзеў**. Нарадзіўся ён у 1926 г., бацька быў аўтамеханікам, маці працавала ў саўгасе, быў старэйшым з шасці дзяцей. У пачатку 2-й Сусветнай вайны падлетак выехаў у эвакуацыю ў Свярдлоўск (зараз Екацерынбург), працаваў на заводзе «Уралмаш». У 1943 г. ва ўзросце 17 гадоў запісаўся добраахвотнікам на фронт. Ваяваў у складзе 2-га Беларускага фронта на Магілёўскім кірунку. Закончыў курсы радыётэлеграфістаў, потым курсы лейтэнантаў сувязі. У 1955 г. упершыню прыехаў у Ленінград, як аказалася, назаўсёды. З адзнакай скончыў Ваенную акадэмію сувязі і застаўся тут для выканання навуковай працы ў галіне тэорыі электрычных ланцугоў, сістэм шматканальнай электрасувязі і пярвічных сістэм сувязі. Пасля абароны кандыдацкай і доктарскай дысертацый прафесар Анатоль Лебедзеў 17 гадоў узначальваў кафедру сістэмна-канальнай сувязі. У адстаўку выйшаў генерал-маёрам і заставаўся членам Вучонага савета Акадэміі. Яго дзеці — сын Ігар і дачка Вольга — пайшлі па бацьку. Абодва атрымалі вышэйшую тэхнічную адукацыю і працуюць у галіне сувязі.



*Сяргей Крыванос*

[1] *Канонюк В.И.* Связь — судьба моя. Воспоминания генерала – связиста. Санкт-Петербург, 2001. С. 195–208.

Сярод іншых выкладчыкаў Акадэміі сувязі — ураджэнец вёскі Суша Клічаўскага раёна **Сяргей Якімавіч Крыванос** (нар. 26.12.1935), выпускнік Клічаўскай школы № 1 імя генерала-танкіста Крываноса, свайго дальняга сваяка і цёзкі. Пасля заканчэння вайсковага вучылішча і акадэміі служыў у самых розных месцах — ад ракетных падраздзяленняў на тэрыторыі Казахстана да начальніка вузла сувязі штаба тылавых войскаў СССР. Паўсюль поруч з ім жонка Валянціна Рыгораўна, выпускніца філфака БДУ, клічаўчанка. З 1981 г. Сяргей Якімавіч ізноў робіцца пецярбуржцам, выкладае ў Акадэміі сувязі, а пасля выхаду ў адстаўку прыняты намеснікам генеральнага дырэктара на рыбаапрацоўчае прадпрыемства сваёй дачкі Алены Сяргееўны Рыбалкі на Пятроўскім востраве.

Пасля заканчэння ў 1946 г. Вышэйшага ваенна-марскога інжынернага вучылішча застаўся служыць у Ленінградзе ўраджэнец Мінска **Мікалай Сцяпанавіч Саламенка** (1923–1995) — быў накіраваны ў Навукова-даследчы інстытут Міністэрства абароны СССР. Праслужыў тут да 1984 г., за гэты час абраны (у 1975 г.) членам-карэспандэнтам АН СССР, у адстаўку выйшаў памочнікам начальніка НДІ. Асноўныя навуковыя працы Мікалая Сцяпанавіча гэтага перыяду былі прысвечаны праблемам дынамічнай устойлівасці абалонак пры дзяленні ударных хваляў. У 1984 г. ён стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР, Акадэмія навук абрала яго сваім правадзейным членам (акадэмікам). Апошняе дзесяцігоддзе свайго плённага жыцця Мікалай Саламенка даследаваў павышэнне надзейнасці інжынерных збудаванняў, а таксама фундаментальныя праблемы транспартных сістэм і транспартных працэсаў. У гісторыі Санкт-Пецярбурга ён застанецца як арганізатар і першы дырэктар Інстытута праблем транспарту.

У пецярбургскім беларускім руху пачатку XXI ст. удзельнічае чалавек з актыўнай жыццёвай пазіцыяй — Уладзімір Чмыроў. Адначасова ён з годнасцю працягвае традыцыі вайсковых будаўнікоў-беларусаў, якія былі закладзены, калі Мікалаеўскай ваенна-інжынернай акадэміяй у Санкт-Пецярбургу камандаваў выхадзец з віцебскай шляхты Мікалай Шыльдэр. Нарадзіўся **Уладзімір Анатольевіч Чмыроў** у 1943 г. у вёсцы Палыкавічы Магілёўскага раёна. Закончыўшы 7 класаў, паехаў вучыцца ў горнапрамысловае вучылішча, пасля працаваў машыністам электравоза на шахтах Данбаса. У гэтыя ж гады Уладзімір скончыў сярэднюю школу рабочай моладзі, быў прызваны ў Савецкую Армію. У 1967 г. ён закончыў Камышынскае ваенна-будаўнічае вучылішча, а пасля — Ленінградскае вышэйшае ваенна-інжынернае будаўнічае вучылішча. Служыў Уладзімір Чмыроў на каманднa-інжынерных пасадах ў Камышынскім вучылішчы і дзесяць гадоў у Ваенна-марскім будаўнічым упраўленні Паўночнага флоту «Поўначваенмарбуд». У 1987 г. кандыдат гістарычных навук, дацэнт Чмыроў быў прызначаны намеснікам начальніка, пазней — начальнікам Горкаўскага вышэйшага ваеннага каманднa-інжынернага будаўнічага вучылішча. У 1992–2002 гг. ён займаў пасаду начальніка Пушкінскага (пад Пецярбургам) вышэйшага ваеннага інжынернага будаўнічага вучылішча. Пры яго камандаванні вучылішча рэарганізавалі ў Ваенны інжынерна-тэхнічны універсітэт[1]. Вайсковая служба ніколі не была простай, але найбольшыя клопаты генерал-лейтэнант Уладзімір Чмыроў меў з-за сваёй прынцыповай пазіцыі супраць вайны ў Чачні. У мэрыі Санкт-Пецярбурга ён знайшоў паразуменне з будаўніком Уладзімірам Якаўлевым (другі пасля Анатоля Сабчака мэр горада), якога падтрымліваў на выбарах. Якія б высокія



*Уладзімір Чмыроў*

[1] Военный инженерно-технический университет. Исторический очерк. СПб., 1999. С. 389–390, 414–415.

пасады не займаў і важныя справы не рабіў, Уладзімір Анатольевіч не забываўся кожны год наведваць родныя Палыкавічы, дапамагчы бацьку па гаспадарцы. У 2002 г. выйшаў у адстаўку, але застаўся працаваць на пасадзе вядучага спецыяліста Ваеннага інжынерна-тэхнічнага універсітэта. Ганаровы работнік вышэйшай прафесійнай адукацыі Расіі, Уладзімір Чмыроў узнагароджаны ордэнам «За службу Радзіме ва ўзброеных сілах СССР», медалём «За баявыя заслугі», урадавымі ўзнагародамі Расіі. Першы свой медаль атрымаў за бездакорную арганізацыю службы ў Камышынскім вучылішчы, а за пабудаваныя на поўначы заводы, прычалы і жыллё ўзнагароджаны ордэнам «За ваенныя заслугі». Будаўніком, як і бацька, стаў старэйшы сын Сяргей, які цяпер жыве і працуе ў Царскім Сяле (Пушкіне). Малодшы сын — Ігар Уладзіміравіч — закончыў Ваенна-медыцынскую акадэмію, працуе ўрачом у апёкавым цэнтры ВМА. З 1998 г. Уладзімір Анатольевіч Чмыроў з'яўляецца членам праўлення «Рэгіянальнай беларускай нацыянальна-культурнай аўтаноміі Санкт-Пецярбурга». У Ваенным інжынерна-тэхнічным універсітэце пад кіраўніцтвам Уладзіміра Чмырова пачынаў служыць зямляк ураджэнец Пружанскага раёна Брэстчыны **Анатоль Уладзіміравіч Дронь**. Пазней Анатоль Дронь стаў доктарам тэхнічных навук, генеральным дырэктарам навукова-тэхнічнага цэнтра «Стройнаука-ВИТУ». А кандыдат гістарычных навук, палкоўнік **Віктар Сцяпанавіч Беразняцкі** з вёскі Савічы Брагінскага раёна Гомельскай вобласці (нар. 05.05.1958 г.) на момант падрыхтоўкі гэтай кнігі служыў на пасадзе намесніка начальніка Ваеннага інжынерна-тэхнічнага універсітэта (ВІТУ) па выхаваўчай рабоце.

Генерал-палкоўнік **Барыс Аляксеевіч Плышэўскі** нарадзіўся ў 1937 г. у беларускай сям'і ў Кіраваградзе. Адпакутаваў на Украіне акупацыю і страту бацькі і ў 1947 г. пераехаў з маці на радзіму ў Капыльскі раён, Пацейкаўскі сельсавет, вёску Душава. Барыс скончыў сямігодку ў Пацейках, потым бегаў за 8 км у Капыль — у дзесяцігодку. Да 1958 г. навучаўся ў Мінскім мінамётна-артылерыйскім вучылішчы і лейтэнантам паехаў у Петразаводск. Неўзабаве стаў — на 10 гадоў — ленінградцам: быў прызначаны ў Асінавую Рошчу камандзірам вучэбнага ўзвода, пасля вучэбнай батарэі, потым да 1970 г. навучаўся ў Артылерыйскай акадэміі. Пасля акадэміі служыў у ГСВГ на пасадах ад начальніка штаба палка да камандзіра дывізіі. З 1976 да 1979 г. генерал-маёр Барыс Плышэўскі навучаўся ў Акадэміі Генеральнага штаба. Далей — служба на пасадах камандуючага ракетнымі войскамі і артылерыяй ваенных акруг: Прыволжскай, Сярэднеазіяцкай, Паўднёва-Заходняй. На апошнюю пасаду прыехаў ужо генерал-лейтэнантам у 1984 г. А ў 1986 г. здарыўся Чарнобыль. Барыс Плышэўскі на два месяцы стаў камандуючым усімі войскамі, якія працавалі на ліквідацыі аварыі на станцыі, будаваў славуты саркафаг. Кожны дзень у шэсць гадзін раніцы дакладваў начальніку Генеральнага штаба аператыўную абстаноўку. Ад акадэміка-ядзершчыка Аляксандрава навучыўся правілам выжывання: кожны дзень перад пачаткам працы выпіць крыху гарэлкі, а пасля паходу ў «зону» — чырвонае віно. Арганізаваў падвоз «Кабернэ» з Малдавіі пры дапамозе армейскіх цыстэрнаў. Персанальны прыбор-накапляльнік паказаў, што за гэтыя два чарнобыльскія месяцы генерал-лейтэнант Плышэўскі набраў 136 рэнтген — гэта пры тым, што больш як 25 рэнтген ліквідатарам (яму таксама) дакументальна не паказвалі. Вярнуўся ў Кішынёў, а неўзабаве яго перавялі ў Санкт-Пецярбург.



*Барыс Плышэўскі*

З 1988 да 1997 г. Барыс Плышэўскі ўзначальваў Ваенна-артылерыйскую акадэмію (з 1990 г. у званні генерал-палкоўніка). Неўзабаве стаў членам-карэспандэнтам Артылерыйска-ракетнай Акадэміі навук. Кандыдат ваенных навук, прафесар Плышэўскі працаваў у акадэміі ў якасці выкладчыка і пасля выхаду (у 1997 г.) у адстаўку. Але планы змяніла сустрэча з земляком, будаўніком Вячаславам Заранковым.

Той угаварыў адстаўнога генерала ўзначаліць Упраўленне нерухомасці «ЛенСпецСМУ». Вялікі вопыт работы з людзьмі, вопыт кіравання дапамог — праца была наладжана.



*Уладзімір Дзенісенка*

Генерал-лейтэнант **Уладзімір Акімавіч Дзенісенка** нарадзіўся 20 верасня 1938 г. у вёсцы Стараселле Мазырскага раёна Гомельскай вобласці. Закончыў сямігодку ў Стараселлі, потым Мінскае суворaўскае і Мінскае артылерыйска-мінамётнае вучылішчы. Служыў 5 гадоў у Групе савецкіх войск у Германіі, потым у Беларускай ваеннай акрузе — на пасадах ад камандзіра батарэі да начальніка атылерыі дывізіі. У 1982 г. пайшоў у Афганістан, там два гады быў начальнікам артылерыі 40-й арміі. Пасля вяртання — намеснік начальніка Адэскага артылерыйскага вучылішча, начальнік Тбіліскага артылерыйскага вучылішча. З 1988 г. Уладзімір Акімавіч у Пецярбургу: начальнік 37-га НДІ Ракетных войск і артылерыі, намеснік начальніка Артылерыйскай акадэміі па вучэбнай і навуковай працы. Кандыдат ваенных навук, прафесар, член-карэспандэнт Расійскай інжынернай акадэміі Уладзімір Дзенісенка ўзнагароджаны двума ордэнамі «Чырвонай Зоркі», ордэнамі За службу Радзіме ва ўзброеных сілах СССР III і II ступеняў, «Знак Пашаны». Выйшаўшы ў адстаўку, працягвае працаваць як прафесар кафедры ўпраўлення войскамі Артылерыйскай акадэміі.

З артылерыі пачынаў службу і ўраджэнец вёскі Матырына Ушацкага раёна Віцебскай вобласці **Васіль Іванавіч Шалак** (нар. 15 лютага 1948 г.). Перад гэтым былі Матырынская васьмігодка і факультэт оптыка-механічных прыбораў Мінскага палітэхнікума. Пасля тэхнікума 19-гадовы юнак па парадзе аднаго з настаўнікаў паехаў вучыцца на спецыяльнасць, дзе оптыка-механічныя прыборы шырока выкарыстоўваюцца — скончыў Ленінградскае артылерыйскае (былое Канстанцінаўскае) вучылішча. Выдатніка вучобы, Васіля Шалака паслалі у артылерыйскую вайсковую часць у Асінавай Рошчы на пасаду зампаліта. Так і служыў па гэтай лініі — ад зампаліта батарэі да намесніка начальніка палітаддзела Ленінградскай ваеннай акругі. Апошнія 15 гадоў — у будынку Генеральгага штаба на Дварцовай плошчы. Найбольш памятнае ўражанне ад службы — цішыня горада Прыпяць у маі 1986 г. Цішыня такая, што чуваць было, як трынцяць металічныя тросікі для сцягоў аб металічныя флагштокі на пустой цэнтральнай плошчы ў горадку ядзершчыкаў. Праца па ліквідацыя аварыі на Чарнобыльскай АЭС адзначана ордэнам «Мужнасць» і кніжкай інваліда II групы. Жонка Васіля Іванавіча Вольга Аляксандраўна таксама з Беларусі, скончыла Віцебскі медыцынскі інстытут. Дзеці пайшлі па маці — дачка Аксана стаматолаг, кандыдат медыцынскіх навук, сын Уладзімір — ваенны ўрач. Пасля выхаду ў адстаўку Васіль



*Васіль Шалак*

Шалак узначаліў дабрачынны фонд «Вялікая мядзведзіца» — спатрэбілася шмат умельства, каб дапамагчы адаптавацца да рэчаіснасці людзям, якія выхаваныя ў савецкіх ідэалах і ўяўленнях. Пецярбуржцы часта бачаць белыя параходы, якія возяць нямецкіх, французскіх, англійскіх ветэранаў. Тым часам большасць мясцовых ветэранаў вайны і працы нават і марыць не маглі пра марскія падарожжы — не тая сацыяльная забяспечанасць! «Вялікая мядзведзіца» прапануе нашым ветэранам хай не круізы вакол Еўропы, але цеплаходныя прагулкі па Няве і ў Фінскі заліў. Да добрых слоў і невялікіх падарункаў на любыя сэрцу святы Дня Перамогі, Першамая ці Вялікага Кастрычніка далучаецца і Васіль Шалак. Старыя ж плацяць за клопат удзячнасцю. У адну з самых доўгіх белых начэй (22 чэрвеня) 2005 г. Васіль Шалак арганізаваў на пляцы перад саборам Петрапаўлаўскай крэпасці канцэрт карыльёну і трубы. Такім чынам ушанавалі ветэранаў усіх войнаў, пасля чаго шматлікія госці ў адным з павільёнаў крэпасці віншавалі бельгійскага карыльяніста Йо Хаазена. Добра праявіў сябе Васіль Іванавіч і як журналіст. Сярод яго журналісцкіх псеўданімаў — Матырынскі, па назве роднай вёскі.

Сучасная армія — вялізны механізм, у якім службы тылу займаюць незаўважнае месца: за забеспячэнне войскаў жыллём, амуніцыяй, харчаваннем, палівам, фінансамі і г. д. мала надзей атрымаць баявыя ўзнагароды, вылучыцца і трапіць «на від» грамадскасці ці вялікаму начальству. Аднак баяздольнасць баявых частак залежыць менавіта ад працавітасці тылавых службаў. І важнасць гэтага сектара разумеюць усе, хто знаёмы з сітуацыяй не па рэкламных роліках. Санкт-Пецярбургская ваенная акадэмія тылу і транспарту — галоўная навучальная ўстанова для тылавікоў. Сярод яе выпускнікоў, а потым выкладчыкаў — Мікалай Русакевіч і Аляксандр Чарныш — заснавальнікі Рэгіянальнай беларускай нацыянальна-культурнай аўтаноміі ў Пецярбургу. Пра іх мы раскажам ніжэй.

Сярод «тылавікоў» прайшла служба ўраджэнца Чачэрска **Алега Георгіевіча Мусакова**. Нарадзіўся Алег 10 чэрвеня 1952 г. у сям'і франтавіка, настаўніка Чачэрскай СШ № 1; маці працавала бухгалтарам на Чачэрскім лесапункце. Пасля заканчэння ў родным горадзе СШ № 2 і Кіеўскага вышэйшага зенітна-ракетнага вучылішча імя С. Кірава Алег Мусакоў пачаў службу інжынерам на заснаваным яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. заводзе па рамонце артылерыйскай тэхнікі. Быў начальнікам цэха, начальнікам аддзела тэхнічнага кантроля, галоўным канструктарам, галоўным інжэнерам... скончыў службу палкоўнікам, начальнікам завода. Пасля выхаду на пенсію Алег Георгіевіч жыве паміж Пецярбургам, дзе працуе у вялікай будаўнічай кампаніі «Строительный трест», і Сестрарэцкам, дзе збудаваў сабе з бярвення дом з печкай-грубкай (яго лецішча памясцілася акурат у двары былой дачы С. Кірава) пад паветкай... Аднойчы быў моцна ўзрушаны, выпадкова сустрэўшы на сестрарэцкім рынку землякоў: былая яго школьная настаўніца, якая ўцякла ад радыяцыі і безграшоўя з Беларусі ў Ленінінградскую вобласць, гандлявала агароднінай...



*Алег Мусакоў*

Частка спецыялістаў у пецярбургскія тылавыя службы прыйшла «з грамадзянкі». Напрыклад, палкоўнік **Міхаіл Дзмітрыевіч Глушакоў** нарадзіўся ў вёсцы Гладкова Чавускага раёна Магілёўскай вобласці. Ён пайшоў у армію як інжынер-будаўнік пасля заканчэння Растоўскага інжынерна-будаўнічага інстытута. Даслужыўся да высокай пасады начальніка кватэрна-эксплуатацыйнага аддзела Санкт-Пецярбурга. Служба яго складалася не толькі з шэрагу новабудоўляў і бясконцай чаргі рамонту гарадскога жылля. Калі пачаўся нацыянальны канфлікт у Азербайджане, Міхаіл Глушакоў тры разы разгортваў у баявы парадак дывізію — кож-

ны раз гэта былі рэзервісты з розных краёў дажываючага свой век СССР. Дзве разгорнутыя дывізіі не справіліся з задачай — салдаты або схіляліся да падтрымкі аднаго з варагуючых бакоў, або паводзілі сябе вельмі жорстка ў адносінах да ўсіх удзельнікаў, што таксама абвастрала канфлікт. Толькі трэцяя — Полацкая дывізія — змагла развесці раз'юшаных удзельнікаў армяна-азербайджанскага канфлікту.

Сярод непрыкметных пасад, без якіх армія не можа функцыянаваць, як і любы іншы сацыяльны механізм, — фінансавая служба. І тут мы сустракаем афіцэраў-беларусаў: галоўнага бухгалтара кватэрна-эксплуатацыйнага ўпраўлення (КЭУ) ЛенВА Мікалая Уладзіміравіча Жука, начальніка фінансавай інспекцыі акругі — Пятра Цімашчука.



*Сцяпан Плешчыц*

Намеснікам начальніка Санкт-Пецярбургскай Ваенна-медыцынскай акадэміі па матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні выйшаў у адстаўку капітан 1-га рангу **Сцяпан Рыгоравіч Плешчыц**. Нарадзіўся ён 25 сакавіка 1945 г. у Малечы Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Закончыў Ленінградскае вышэйшае ваенна-марское вучылішча імя У. І. Леніна, служыў на караблях Ціхаакіянскага флоту, а з 1983 да 1987 г. камандаваў вайсковай часцю ўзбраення і суднарамонту на Ленінградскай ваенна-марской базе. Пасля 1996 г. адкрыліся новыя шляхі — доктар эканамічных навук, прафесар Сцяпан Плешчыц заняў пасаду загадчыка кафедры ў Санкт-Пецярбургскім дзяржаўным інстытуце эканомікі і фінансаў. Сын Алег працягвае марскую прафесію бацькі — ён капітан 2-га рангу, служыць у Санкт-Пецярбургскім ваенна-марскім інстытуце. Дачка Наталля навучаецца на эканаміста.

Яшчэ адзін «тылавік», памочнік начальніка навукова-даследчага цэнтра Ракетных войск і артылерыі палкоўнік **Мікалай Міхайлавіч Савіцкі** заўсёды трымае ў сваім рабочым кабінеце альбом з рэпрадукцыямі карцін свайго земляка цёзкі па прозвішчы Міхаіла Савіцкага. І не таму, што яны далёкія сваякі. Яму проста падабаецца жывапіс. Нарадзіўся Мікалай Савіцкі 20 мая 1953 г. у вёсцы Філістава Талачынскага раёна Віцебскай вобласці. Сярэднюю школу закончыў у Алёнавічах, паступіў у Вольскае вышэйшае ваеннае вучылішча. Служба кідала маладога афіцэра з Забайкальскай ваеннай акругі ў Паўднёвую групу войск, з Туркестанскай вайсковай акругі ў Беларускую. У 1989 г. Савіцкі вярнуўся ў Ленінград (да гэтага вучыўся тут (1979—1982) у Ваеннай акадэміі тылу і транспарту), атрымаў адказную пасаду начальніка матэрыяльна-тэхнічнага аддзела 3-га Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі. У характарыстыцы Мікалая Міхайлавіча ёсць такая фраза: «дзякуючы выключнай асабістай настойлівасці і ініцыятыве з боку палкоўніка Савіцкага як старшыні жыллёвай камісіі ваеннаслужачыя атрымалі...» — і далей прадстаўнічы спіс кватэр: пабудаваных, купленых па сертыфікатах,



*Мікалай Савіцкі*

адрамантаваных. Акрамя ўсяго гэтага — узорнае ўтрыманне ў належным стане аўтатрактарнай тэхнікі і безаварыйнае яе эксплуатацыя, спраўнае забеспячэнне патрэб Цэнтра навуковых даследаванняў баепрыпасамі, гаруча-змазачнымі і іншымі расходнымі матэрыяламі. Сярод узнагарод Мікалая Савіцкага найбольш дарагая — медаль «За спасение погибавших», атрыманы за працу ў 1988 г. у брыгадзе грамадзянскай абароны СССР спецыяльна створанай для ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай аварыі. Пасля выхаду ў адстаўку (у 2002 г.) Мікалай Савіцкі працуе ў грамадскіх арганізацыях Пецярбурга.

Дваццаць гадоў запар кожную раніцу ехаў на службу у будынак Галоўнага штаба на Дварцовай плошчы палкоўнік **Мікалай Мікалаевіч Андрэйчанка**. Нарадзіўся ён 28 жніўня 1951 г. у вёсцы Мазонава пад Віцебскам, пасля пераезду бацькоў у Віцебск скончыў там СШ № 9. Старанна вучыўся ў Вольскім вышэйшым ваенным вучылішчы тылу: яму першаму і адзінаму спецыяльным загадам міністра абароны СССР была прысуджана персанальная стыпендыя імя Сямёна Будзённага. Скончыў вучылішча з залатым медалём, служыў у групе савецкіх войскаў у Германіі, потым Мікалая Андрэйчанку перавялі ў Волагду. Малады афіцэр не стаў шукаць нявесту ў валагодскім гарнізоне, жонку Яўгенію Пятроўну прывёз з роднага Віцебска. Тым часам паступіў у Акадэмію тылу і транспарту ў Ленінград (скончыў у 1987 г. з залатым медалём) і з 1981 г. стаў грамадзянінам паўночнай сталіцы. Дзве дачкі Мікалая і Яўгеніі Андрэйчанкаў — Алена і Вольга — пецярбургскія беларусы ў другім пакаленні. Пасля акадэміі размеркаваўся начальнікам гаспадарчага аддзела штаба Ленінградскай акругі, дзе пачаў службу... з чытання гістарычнай літаратуры. Будынак Галоўнага штаба разам з Дварцовай плошчай — архітэктурны помнік сусветнага значэння. Усе рамонты трэба было ўзгадняць з Дзяржаўнай інспекцыяй аховы помнікаў, часам (пры рашэнні каму рамантаваць, напрыклад, арку і калясніцу на ёй) гэтае ўзгадненне прымала выгляд «перапіхвання» праблемаў рамонту паміж Міністэрствам абароны і цывільнымі ўладамі. Неўзабаве Мікалай Андрэйчанка не горш за экспертаў разбіраўся ў этапах узвядзення грандыёзнага будынка на Неўскім праспекце, у асаблівасцях яго знешняга і ўнутранага дэкору, у гісторыі знакамітай бібліятэкі Генеральнага штаба. Асаблівы клопат звярнуў на аднаўленне дамавой царквы, купал якой быў некалі распісаны картай зорнага неба з дакладным размяшчэннем зорак на 12 гадзін 14 хвілін 17 кастрычніка 1888 г. — момант крушэння царскага цягніка і шчаслівага выратавання цара Аляксандра III. Пасля дэмабілізацыі ў 2002 г. Мікалай Андрэйчанка заняў адказную пасаду генеральнага дырэктара закрытага акцыянернага таварыства «Актыў» у сістэме холдынга «Эталон-ЛенСпецСМУ».



*Мікалай Андрэйчанка*

Сучасная армія выкарыстоўвае ўсе магчымыя дасягненні навукі і тэхнікі, а да некаторых спецыяльнасцяў можна наблізіцца толькі праз армію, стаўшы афіцэрам. Гэта датычыць найперш касманаўтыкі. Шырока вядомыя імёны лётчыкаў-касманаўтаў беларусаў Уладзіміра Кавалёнка і Пятра Клімука. Але акрамя іх да асваення касмічнай прасторы спрычынілася шмат інжынераў, вынаходнікаў, эксплуатацыйнікаў касмічнай тэхнікі. Значная частка іх звязана з Ленінградскай/Пецярбургскай ваенна-касмічнай акадэміяй імя Мажайскага. Акадэмія размяшчаецца часткова ў тых самых будынках, якія былі ўзведзены на Петраградскай старане ў XVIII ст. для 2-га кадэцкага корпуса. У некалькіх залах на другім паверсе месціцца музей касманаўтыкі — спадарожнікі-разведчыкі, сувязныя, скафандры, пульты кіравання...

Са школьных гадоў сніўся «рокат касмадрома» **Уладзіміру Васільевічу Езерскаму**. Нарадзіўся ён 14 кастрычніка 1957 г. у вёсцы Люшнева Баранавіцкага раёна. У 1975 г. пасля

заканчэння Новамышскай сярэдняй школы[1] паступіў у Інжынерна-касмічную акадэмію імя А. Мажайскага — адну з найстарэйшых ваенна-навучальных устаноў Расіі: яна бярэ пачатак ад вайсковай інжынернай школы, што стварыў Пётр I. Пасля заканчэння навукі быў накіраваны на касмадром Байканур, дзе праходзіў службу на інжынерных і выхаваўчых пасадах. З 1984 г. — у ВІКІ А. Мажайскага на пасадах курсавога афіцэра, ад'юнкта вочнай аспірантуры.

Пасля датэрміновай абароны дысертацыі на ступень кандыдата тэнічных навук (у 1990 г.) Уладзімір Езерскі быў прызначаны на пасаду навуковага супрацоўніка 1-й навукова-даследчыцкай лабараторыі. Адсюль у 1993 г. з пасады начальніка аддзялення — старшага навуковага супрацоўніка быў прызначаны выкладчыкам кафедры касмічных апаратаў. Выконваў абавязкі намесніка начальніка і начальніка кафедры. З 2002 г. Уладзімір Езерскі — начальнік 1-га факультэта Ваенна-касмічнай акадэміі ім. А. Ф. Мажайскага. Палкоўнік, доктар тэхнічных навук. Спецыяліст у галіне прымянення ракетна-касмічнай тэхнікі. Акрамя таго, што Уладзімір Васільевіч чытае курсы па канструкцыі і бартавых сістэмах касмічных апаратаў, ён аўтар звыш 120 навуковых прац, з якіх 8 — вынаходніцтвы.

Генерал-маёр **Віктар Пятровіч Гаеўскі** нарадзіўся 20 чэрвеня 1942 г. у вёсцы Ср. Дзяцель Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці. У 1962 г. скончыў Ульянаўскае ваеннае тэхнічнае вучылішча і быў накіраваны на службу ў Ракетныя войскі стратэгічнага прызначэння. А праз тры гады паступіў у ленінградскую Ваенную акадэмію тыла і транспарта на факультэт ракетнага паліва, якую з адзнакай скончыў у 1970 г. Пасля на працягу 15 год гарнізоны на Далёкім Усходзе, там жа было прысвоена воінскае званне генерал-маёр. З 1985 года Віктар Гаеўскі пераязджае ў Ленінград, у 1989 г. ён узначаліў спецыяльны факультэт Ваеннай акадэміі тылу і транспарта. Займаўся падрыхтоўкай спецыялістаў для армій замежных дзяржаў. У 1993 г. звольнены ў запас. Якія б ні здараліся абставіны, кожны год генерал Гаеўскі наведвае родную Беларусь — і каб з роднымі пабачыцца, і ад таго, што любімае гэта для яго месца.



*Віктар Гаеўскі*



*Васіль Канончык*

На службу ў Ваенна-касмічную акадэмію ў 1972 г. пераведзены з Беларусі **Васіль Паўлавіч Канончык** (1938–2008). Нарадзіўся ён у вёсцы Чэлішэвічы Кобрынскага раёна. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў бібліятэкарам у сельскім клубе, потым два гады служыў у Ленінградзе — у войсках супрацьпаветранай абароны. З рэкамендацыямі са службы паступіў у Львоўскае ваенна-палітычнае вучылішча, закончыўшы якое атрымаў накіраванне ў Ракетныя войскі стратэгічнага прызначэння. Дзевяць гадоў

[1] Новамышскую СШ скончыў яшчэ адзін пецярбургскі беларус-вайсковец: начальнік аддзела знешніх зносін Ленінградскай вайсковай акругі палкоўнік Генадзь Пятрушка.

службу ў дывізіі, пазіцыі якой размяшчаліся ў Жыткавічах, Петрыкаве, Баршчэўцы і Слуцку, а штаб знаходзіўся ў Мазыры. Не лёгкая, але адказная і цікавая служба. Намеснік камандзіра па палітчасці Васіль Канончык неаднаразова заступаў на баявое дзяжурства на пасаду камандзіра дзяжурных сіл дывізіёна. Сутыкаўся падчас службы з земляком, генерал-лейтэнантам Артурам Усенковым — адным з камандуючых ракетнай арміі. Прымаў удзел у рэальным баявым пуску ракеты з палігона «Капусцін Яр» у Валгаградскай вобласці. У 1972 г. служба ізноў закінула яго ў Ленінград — у Ваенна-касмічную акадэмію імя А. Мажайскага. Васіль Паўлавіч выкладаў на механічным факультэце, які рыхтуе афіцэрскія кадры для абслугоўвання перад пускам наземнага абсталявання і ракеты-насіцеля, выканання запускаў у космас. Пасля звальнення ў запас з космасам не развітаўся — да апошніх дзён працаваў загадчыкам музея касмічнай тэхнікі Ваенна-касмічнай акадэміі. З асаблівай цеплынёй Васіль Паўлавіч правёў экскурсію для пецярбургскіх беларусаў 3 ліпеня 2007 – так сталася, што гэта была апошняя сустрэча з гэтым добрым чалавекам.



*Ігар Лёўкін*

З высокімі тэхналогіямі арміі і флоту звязаны таксама супрацоўнік ВКА імя А. Мажайскага загадчык адной з вядучых кафедр **Ігар Міхайлавіч Лёўкін**. Матчына хата дасёння стаіць ў былой вёсцы Папкоўцы — цяпер гэтая вёска ўжо стала часткай Пружанаў. Калі гаварыць пра гітарыста, які памятаў і добра выконваў безліч бардаўскіх (і проста папулярных) песень, адразу ўспамінаецца палкоўнік Ігар Лёўкін. Скончыў акадэмію імя А. Мажайскага (1977). Служыў у Падмаскоўі, потым у курскім НДІ МА. За ўдзел у распрацоўцы і выпрабаваннях аўтаматызаванага наземнага інфармацыйнакіруючага комплексу касмічных сістэм быў узнагароджаны Міністэрствам абароны РФ. У 1995 г. таленавіты афіцэр вярнуўся ў Пецярбург на выкладчыцкую працу. У 1998 г. ён стаў доктарам ваенных навук, праз два гады — прафесарам. З 1998 г. Ігар Лёўкін выконвае абавязкі начальніка кафедры Ваеннага інжынерна-касмічнага універсітэта імя А. Мажайскага. Ён аўтар звыш 150 прац, акадэмік Акадэміі ваенных навук, узнагароджаны знакам «Выдатнік вынаходніцтва».

Выкладчык выніковай дысцыпліны на кафедры эксплуатацыі жыццезабеспячальных сістэм наземных і падземных ракетных і касмічных комплексаў Ваенна-інжынернай акадэміі імя А. Мажайскага **Генадзь Фабіянавіч Рабцэвіч** ваенным інжынерам стаў выпадкова. Нарадзіўся ён 2 лістапада 1965 г. у Жупранах, гадаваўся ў Ашмянскім раёне і на Палессі (в. Кавалі Ляхавіцкага раёна). Пасля заканчэння Ашмянскай сярэдняй школы шукаў сябе ў розных галінах — паступаў у Мінскае вучылішча авіятараў, Новасібірскае ваенна-палітычнае вучылішча, Беларускую сельгасакадэмію. Самыя розныя прычыны «адводзілі» юнака ад гэтых навучальных устаноў. Нарэшце спыніўся на Ваеннай інжынерна-касмічнай акадэміі ім. А. Мажайскага. Гэта была першая і адзіная «разнарадка» ў ашмянскі райваенкамат, і Генадзь з ваенкамам доўга высвятлялі: дзе тая акадэмія знаходзіцца. Высветлілася, што трэба ехаць у Ленінград. Добрае веданне матэматыкі для мажайцаў абавязковае, але гэта яшчэ не ўсё. Паспяхова заканчваюць акадэмію толькі добрыя спартсмены. Каб атрымаць залік па лыжах ва ўмовах рэальнага пацяплення клімату (практычна адсутнасці снегу), курсант Рабцэвіч прапанаваў аднойчы начальніку фізпадрыхтоўкі замест лыж паплаваць у палонцы. Той дазволіў (гэта было ў сакавіку, калі на Няве яшчэ стаіць лёд), а Фабіянавіч мужна адплаваў у сцюдзёнай вадзе — з таго часу карыстаўся нязменнай павагай выкладчыкаў і таварышаў. Лейтэнантам Генадзь Рабцэвіч стаў у 1988 г., працаваў курсавым афіцэрам, інжынер, начальнікам аддзялення навукова-

даследчай лабараторыі. Адначасова ў іншым ВНУ Пецярбурга — Інжынерна-эканамічнай акадэміі — атрымаў другую адукацыю. Час выкладчыка «Мажайкі» вельмі «сціслы» — лекцыі, практычныя заняткі, выезды з курсантамі на практыку на касмадром «Плесецк». А сумяшчэнне прафесій эканаміста-менеджэра, арганізатара вытворчасці і будаўніка дазваляе Генадзю Рабцэвічу з упэўненасцю глядзець у будучыню і прысвячаць шмат часу справам Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Як частку гэтых спраў ён разглядае выхаванне дачкі Анжалікі і сына Яна, якія нарадзіліся ўжо ў Пецярбургу. Добрыя арганізацыйныя здольнасці і выдатныя чалавечыя якасці Генадзя Рабцэвіча зрабілі яго адным з найбольш вядомых і паважаных дзеячаў беларускага руху ў Пецярбургу пачатку XXI ст.



*Генадзь Рабцэвіч*

Сярод людзей у пагонах выхадцаў з Беларусі можна знайсці ў самых розных сферах. Абставіны іх службы вымушаюць пра некаторых пакуль не ўзгадваць у друку; іншыя, пераважна пенсіянеры, ужо могуць расказаць пра сябе. А некаторыя, застаючыся ваеннымі спецыялістамі, набылі вядомасць зусім у іншых сферах чалавечай дзейнасці. Напрыклад, палкоўнік Ваенна-інжынернай касмічнай акадэміі імя А. Мажайскага **Сяргей Пятровіч Хурс** сам распрацаваў вытворчасць памятных знакаў (значкоў) і выпусціў некалькі соцень разнастайных узораў. Сярод іх ёсць серыі з караблямі Ваенна-марскога флоту, скульптурнымі і архітэктурнымі помнікамі Пецярбурга. Іншае амплуа гэтага разнастайнага чалавека — прэзідэнт Федэрацыі ўсходняга фехтавання. Шмат дасягненняў расійскай (і сусветнай) касманаўтыкі звязана з навуковымі распрацоўкамі беларусаў-мажайцаў Віталя Катовіча, Дзмітрыя Аўсюкевіча, Віктара Васкевіча. Супрацьпаветранай абароне Пецярбурга аддаў гады службы ўраджэнец вёскі Суботнікі Іўеўскага раёна **Іван Казіміравіч Пучко** (нар. 15 студзеня 1954 г.). Пасля заканчэння СШ № 10 у Лідзе і працы на Лідскім заводзе сельгасмашын ён паступіў у Віленскае вучылішча радыёэлектронікі. Для выхаду ў адстаўку палкоўніку камандзіру брыгады Івану Пучко вайсковая фартуна, «пракаціўшы» маладзенькага лейтэнанта па розных закутках СССР, падрыхтавала паўночную сталіцу — Санкт-Пецярбург. А новай галіной дзейнасці для Івана Пучко стала будаўніцтва — ён заняў пасаду намесніка начальніка ўпраўлення будаўніцтва Ленінградскай вобласці.

Да армейскай інтэлектуальнай эліты належаць і вайсковыя геадэзісты. Падрыхтоўка іх у Пецярбургу ўзыходзіць да Геадэзічнага аддзялення Генеральнага штаба. Калі доўгі час адзінымі прыборамі геадэзістаў і тапографаў заставаліся лінейка і нівелір, то цяпер зусім іншы інструментарый і новыя кірункі, кшталтам фотатапаграфіі і фотаграмметрыі, якія сталі асноўнай спецыяльнасцю Івана Манёнка. **Іван Іванавіч Манёнак** нарадзіўся 6 ліпеня 1961 г. у Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Сярэдняя школа ў вёсцы Дубна Клічаўскага раёна заахвоціла яго не толькі да канкрэтнай механізатарскай справы — аўтамашын і трактароў, але і да абстрактных матэматыкі і фізікі. 17-гадовы юнак паступіў у Ленінградскае вышэйшае ваенна-тапаграфічнае каманднае вучылішча, якое ён скончыў на выдатна ў 1982 г. Як найбольш падрыхтаваны лейтэнант застаўся ў вучылішчы, у Пецярбургу. Пасля заканчэння (таксама на выдатна) Ваенна-інжынернай акадэміі імя Куйбышава ў 1997 г. Іван Іванавіч працуе выкладчыкам, потым начальнікам геадэзічнага факультэта, загадчыкам кафедры ў філіяле Ваенна-інжынернага універсітэта. Працуе не толькі на армію — шматтысячнымі тыражамі разыходзяцца падрыхтаваныя з яго ўдзелам картаграфічныя выданні для турыстаў і аўтападарожнікаў: атласы «Санкт-Пецярбург і прыгарады», «Карэльскі перашыек», аўтадарожныя карты, план-схемы гарадоў.

Сын Івана Іванавіча Юрый Манёнак — карэнны пецярбуржац — таксама вырашыў стаць ваенным тапографам. Палкоўнік Іван Манёнак ганарыцца сваімі больш чым 350 выпускнікамі, пры гэтым з удзячнасцю ўспамінае сваіх настаўнікаў з Дубнянскай школы: Аляксандра Іванавіча Вожыка, Элеанору Адамаўну Лебедзеву, Уладзіміра Іванавіча Цітова.

Па спецыяльнасці інжынер-аэрафотагеадэзіст закончыў Ленінградскае ваеннатапаграфічнае вучылішча выпускнік СШ у Чарнаўчыцах **Аляксандр Яўгенавіч Пякарскі**, ураджэнец вёскі Івахновічы, што недалёка ад Брэста. Пазней лёс яго склаўся так, што геадэзіст-картограф пачаў прафесійна займацца выдавецкай справай. Цяпер палкоўнік Аляксандр Пякарскі начальнік друкарні 4-га філіяла Ваенвыда, жыве ў Маскве.

Выпускнік Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў **Чэслаў Міхайлавіч Германовіч** нарадзіўся ў вёсцы Казарэзы Іўеўскага раёна. Пасля заканчэння сярэдняй школы разам са сваёй аднакласніцай і будучай жонкай Аняй паехаў вучыцца ў Мінск, потым, па размеркаванні, служыць у Германскую Дэмакратычную Рэспубліку. Быў асабістым перакладчыкам камандуючага Групы савецкіх войск у Германіі падчас вырашэння пытання аб вывадзе савецкіх войскаў. На мяжы XX–XXI стст. Чэслаў Германовіч — начальнік цэнтра замежнай ваеннай інфармацыі Ленінградскай ваеннай акругі. Падтрымка палкоўніка Германовіча дазволіла Пецярбургскаму таварыству беларусістаў выдаць першую ў Пецярбургу пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі навуковую манаграфію на беларускай мове — кнігу Ф. Гурэвіч «Летапісны Наваградак». Макет кнігі зрабіў былы падначалены Чэслава Міхайлавіча, супрацоўнік выдавецтва «Агенцтва РДК-прынт» **Сяргей Савіч Протас** (нар. 20 чэрвеня 1959 г. у вёсцы Германавічы Шаркаўшчынскага раёна Віцебскай вобласці). Пасля заканчэння Германавіцкай сярэдняй школы (1976) і перакладчыцкага факультэта Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў Сяргей Протас дваццаць гадоў (1981–2001) служыў у ваеннай разведцы. Ленінградцам стаў у 1986 г., а ўжо праз два гады разам з жонкай Галінай Віктараўнай (нарадзілася ў г.п. Урэчча Любанскага раёна Мінскай вобласці) і сынам Андрэем загаспадарыў ва ўласнай кватэры ў Купчыне. Пасля выхаду на пенсію Сяргей Протас засвоіў прафесію макетоўшчыка-дызайнера кніг. У выдавецтве «Агенцтва РДК-прынт» Сяргей Савіч працуе пад кіраўніцтвам беларускі **Таццяны Уладзіміраўны Кронберг (Вашкевіч)**. Таццяна Вашкевіч нарадзілася 14 кастрычніка 1961 г. у Карагандзе ў сям'і выхадцаў з Магілёўшчыны. Яшчэ малой вярнулася з бацькамі ў Градзянку Асіповіцкага раёна, там пайшла ў школу. Пасля пятага класа дзяўчыну чакала чарговая змена месца — яна апынулася ў Клічаве і тут (у СШ № 2)



*Чэслаў Германовіч*



*Таццяна Кронберг*

закончыла сярэднюю адукацыю. Потым навучалася ў Ленінградскім паліграфічным тэхнікуме і 12 гадоў працавала на велізарным сацыялістычным прадпрыемстве «Ленвыдат». З пачаткам перабудовы Таццяна Кронберг перайшла ў камерцыйныя выдавецкія структуры, а ў 1998 г. адкрыла свой бізнес, заснаваўшы выдавецтва «РДК-Прынт». Наступным крокам да эканамічнай самастойнасці стала ўласная друкарня з высокаякаснымі японскімі машынамі. Дазвол на друкарню атрыманы 4 чэрвеня 2005 г.; назвалі новае прадпрыемства «Перамога» і асталявалі на Петраградцы, у карпусах былога прадпрыемства «Дальсувязь».

Мемарыяльная шыльда на адным са старажытных асабнякоў у цэнтры Пецярбурга паведамляе, што яшчэ ў пачатку XIX ст. тут бывалі славутыя літаратары і дыпламаты. Пазней гэты будынак стаў рэзідэнцыяй разведкі. Ваенную разведку Ленінградскай вайсковай акругі на мяжы XX–XXI стст. узначальваў **Валерый Аляксеевіч Ларчанка**. Нарадзіўся ён у Брэсцкай вобласці, гадаваўся ў Магілёўскай. Валерый Ларчанка быў адным з ініцыятараў здымкаў фільма «9-я рота», дзе сцэнарый пабудаваны на рэальных падзеях — гібелі падчас 2-й Чачэнскай вайны падначаленых генералу спецназаўцаў. У старажытным асабнякурэзідэнцыі да 2008 г. працаваў і палкоўнік **Георгій Мікалаевіч Пазняк**, які нарадзіўся ў Жалудку Гродзенскай вобласці, сярэднюю



*Уладзімір Жаваранак*

школу скончыў у суседнім Парэччы. Калі прыехаў служыць у Санкт-Пецярбург, пачаў складаць вершы. Акрамя юбілеяў сяброў і сямейных святаў закранае ў сваёй паэзіі тэмы грамадска значныя. Напрыклад, серыя мініяцюр пра Чыжыка-пыжыка, паэма пра яму пры Маскоўскім вакзале — на месцы непабудаванага вакзала высокахуткаснай чыгункі.

У снежні 2006 г. пасаду начальніка цэнтра замежнай ваеннай інфармацыі і камунікацыі заняў ураджэнец вёскі Еляшоўка Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці **Уладзімір Барысавіч Жаваранак**, які пасля заканчэння Красналуцкай сярэдняй школы і Вышэйшага ваеннага вучылішча быў накіраваны ў Ленінградскую вайсковую акругу.

Кар'еру ваеннага контрразведчыка зрабіў гамяльчанін **Анатоль Іванавіч Міхалкін** (нар. у 1950 г.). Ён скончыў Ленінградскае вышэйшае агульнакамандн ае вучылішча і новасібірскія Вышэйшыя курсы контрразведкі. Служыў на ракетным палігоне, пасля — у Варкуце. Шэсць гадоў ваяваў у Афганістане. Апошняе месца службы — намеснік начальніка аддзела ваеннай контрразведкі Ленінградскай ваеннай акругі. Пасля выхаду на пенсію ў званні палкоўніка працаваў на пасадзе дырэктара аднаго з сумесных прадпрыемстваў. Узнагароджаны двума ордэнамі Чырвонай Зоркі, медалямі, знакам «Ганаровы чэкіст».

Вайсковая біяграфія часта рабіла афіцэра ленінградцам-пецярбуржцам па некалькі разоў. Напрыклад, пагранічнік **Канстанцін Канстанцінавіч Плешко** першы раз жыў у Ленінградзе ў 1973–1984 гг., потым у 1992–1994 гг., а канчаткова вярнуўся ў Пецярбург у 1998 г. — набыў дом і асеў у Сестрарэцку. Нарадзіўся Канстанцін Канстанцінавіч падчас фашысцкай акупацыі, 4 лютага 1942 г. у вёсцы Прусы Старобінскага раёна. Бацька, былы старшыня сельсавета ў Камацэвічах, быў у Савецкай Арміі. Кастусь стаў шостым дзіцём у сям'і, якая жыла ў сваякоў (родная хата згарэла ад бамбёжкі). Неўмаўля, канечне, не памятала матчына гора і цяжкасці ваеннага, ды й пасляваеннага перыяду — сын пазней ніколі не забываўся дапамагчы братам і сёстрам, падтрымаць старую маці, якая дажыла да 84 гадоў і пахаваная ў роднай вёсцы Прусы. Тым часам закончыўшы семігодку ў Прусах і Чапялёўскую сярэднюю школу, Кастусь Плешко вучыўся ў Баранавічах на электрыка, а ў 1961 г. паступіў у пагранічнае вучылішча: першы курс у Багацціёнаўску Калінінградскай вобласці, а астатнія, у сувязі з пераносам вучылішча, — у Алма-Аце. У 1965 г. закончыў

яго на выдатна і быў накіраваны начальнікам пагранатрада на Чукотку. Потым умацоўваў расійска-кітайскую мяжу — будаваў заставы для Іманскага пагранатрада на востраве Даманскім. Камандаванне заўважыла энергічнага і працавітага афіцэра і накіравала для павышэння кваліфікацыі ў акадэмію імя Фрунзе — закончыў у 1973 г. на выдатна. Капітан Плешко служыць далей: Эстонія (востраў Саарэма), Карэлія (Сортавала), нарэшце (з 1973 г.) — ён намеснік начальніка штаба Ленінградскай пагранічнай ваеннай акругі. Да 1984 г. жыве на Марской вуліцы Васільеўскага вострава. Пасля зноў падарожжы па неабсяжнай краіне і новыя пасады: начальнік штаба Закаўказскай пагранічнай акругі, а ў трывожным 1991 г. — камандуючы Закаўказскай пагранакругай. У 1992 г. вяртаецца ў горад, які толькі што вярнуў старую назву Санкт-Пецярбург, на пасаду камандуючага Паўночна-Заходняй пагранічнай акругай. Адначасова Канстанцін Плешко прызначаны членам расійскай дэлегацыі па перагаворах з Эстоніяй, узначаліў пагранічную групу. Пад яго кіраўніцтвам была хутка і якасна праведзена дэмаркацыя расійска-эстонскай мяжы. У 1994 г. генерал-лейтэнант Плешко ўзначаліў новае ў пагранічнай службе Расіі падраздзяленне — Арктычнае пагранічнае ўпраўленне. Да 1998 г. ён змог арганізаваць пагранічную ахову расійскай Арктыкі. Акрамя таго, прымаў актыўны ўдзел у палітычным жыцці Мурманскай вобласці. Прынамсі, не без уплыву тамтэйшай беларускай дыяспары зімой 1998 г. расійскі Мурманск наведаў з афіцыйным візітам прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка — адразу пасля таго, як яму адмовілі ў такім візіце ў Калінінградскую вобласць. На сустрэчы лейтэнант запасу Аляксандр Лукашэнка запрасіў земляка генерал-лейтэнанта наведаць Радзіму, пазнаёміцца з арганізацыяй дэмаркацыі беларускіх межаў, аднак Канстанцін Плешко ветліва адмовіўся. Неўзабаве пасля гэтай сустрэчы ён дэмабілізаваўся. На новым этапе жыцця былы генерал займае пасаду генеральнага дырэктара ТАА «Патэнцыял-Леспром». Бацькаву прафесію пагранічніка працягвае старэйшы сын — палкоўнік пагранічных войск Украіны, а другі сын працуе на прадпрыемстве, якое ўзначальвае бацька.



*Канстанцін Плешко*



*Мікалай Козік*

Пасля Канстанціна Плешко яшчэ адзін беларус быў прызначаны на пасаду камандуючага Паўночна-Заходняй пагранічнай акругі: з канца 2007 г. гэта ўраджэнец Багданава, што ў Сенненскім раёне Віцебскай вобласці, генерал-лейтэнант **Мікалай Леанідавіч Козік**. Ён ужо быў пецярбуржцам: працаваў першым намеснікам упраўлення ФСБ РФ па Паўночна-Заходняй федэральнай акрузе. Акрамя таго, пасля заканчэння Алма-Ацінскага пагранічнага каманднага вучылішча КДБ СССР яму давялося паслужыць і ў Даурскім пагранічным атрадзе на Далёкім Усходзе, на Камчатцы, у 2006—2007 гг. узначальваць Уральскую пагранічную акругу, абсталёўваць мяжу РФ з Казахстанам. Усе цяжкасці качавога жыцця прафесійнага вайскоўца падзяляе з Мікалаем Козікам жонка Тамара Арсеньеўна.

Вынослівымі і дужымі вайскоўцаў усіх краёў і народаў робіць спорт. З гэтай прычыны вялікая ўвага да армейскага спорту, у якім патрэбныя людзі неардынарныя, здольныя да рэкордаў, да змагання. Рознага плана спартсменаў-беларусаў знойдзем мы ў Пецярбургу. Адным з першых, канечне, быў ужо ўзгаданы ўраджэнец Гродна **Якуб Чахоўскі**. Былога артыста-атлета, які пераносіў на адной руцэ 6 чалавек, або ў стойцы «барцоўскі мост» трымаў на сабе 10 чалавек, у лютым 1918 г. абралі віцэ-старшынёй Усерасійскага саюза барцоў-атлетаў, а з пачатку 1920 г. прызначылі кіраваць фізічнай падрыхтоўкай байцоў Петраградскай ваеннай акругі. Тады ж Якуб стаў сурэдактарам часопіса «Борец-атлет» — першага савецкага спартыўнага часопіса[1]. Памёр ён у 1941 г., пахаваны на Серафімаўскіх могілках.

Пачэснае месца ў шэрагу вышэйшых ваенных навучальных устаноў займае Санкт-Пецярбургскі інстытут ваеннай фізкультуры (Вялікі Самсоніеўскі п-т., 63). Сярод яго выпускнікоў-беларусаў шмат добрых спартсменаў і трэнераў, найбольшых службовых поспехаў дасягнуў аршанец **Уладзімір Іванавіч Філіпаў**, будучы генерал-лейтэнант, старшыня (у 1962–1970 гг.) спартыўнага камітэта Міністэрства абароны СССР.

У кастрычніку 1953 г. армейскія спартсмены Ленінградскай ваеннай акругі былі арганізаваныя ў СКА — спартыўны клуб арміі. СКА падрыхтаваў выдатных спартсменаў па самых розных відах спорту, шмат чэмпіёнаў Еўропы, свету, Алімпійскіх гульняў. Спартыўны клуб арміі атрымаў і стварыў значную матэрыяльна-тэхнічную базу для заняткаў рознымі відамі спорту. Начальнікам СКА з 1979 да 1986 г. быў падпалкоўнік **Ігар Сцяпанавіч Дзесюкевіч**. Нарадзіўся ён у Мсціславе, сярэднюю школу закончыў у Баранавічах. Добры баскетбаліст, член зборнай Беларусі сярод юнакоў, Ігар Дзесюкевіч паступіў у Ленінградскае артылерыйскае вучылішча, з 1956 г. служыў начальнікам разведкі, пасля перайшоў на пасаду начальніка фізічнай падрыхтоўкі корпуса. Яго найбольшым клопатам як начальніка СКА была пабудова спартыўнага комплексу «Хакейны». З дня адкрыцця гэтага Лядовага палаца — 1 ліпеня 1989 г. — заслужаны работнік фізічнай культуры Расійскай Федэрацыі Ігар Дзесюкевіч працуе тут дырэктарам. Пазней пад яго кіраўніцтвам пачаў працаваць грамадзянскі інжынер **Юрый Ігаравіч Дзесюкевіч** — сын.

З 1994 г. СКА кіруе палкоўнік **Васіль Антонавіч Бернацкі**. Нарадзіўся ён 8 студзеня 1958 г. у вёсцы Пяскі Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці, закончыў СШ у суседнім Белаазёрску. Добрага баксёра Васіля Бернацкага пасля школы прызвалі адразу ў спартыўную роту СКА Ленінградскай ваеннай акругі. Тэрміновую службу закончыў кандыдатам у майстры спорту па боксе, паступіў у Ваенны інстытут фізічнай культуры. Служыў начальнікам фізічнай падрыхтоўкі ў розных падраздзяленнях, потым вярнуўся ў родны СКА. Пад яго кіраўніцтвам значна ўдасканалена матэрыяльна-тэхнічная база клуба, у няпростых умовах рэформ захаваўся моцны, нацэлены на выдатныя вынікі калектыў. У 2003 г. пад кіраўніцтвам Васіля Бернацкага СКА адсвяткаваў 50-гадовы юбілей. Спартсменаў павіншавалі камандаванне Ленінградскай ваеннай акругі, прадстаўнікі грамадскасці горада; быў падрыхтаваны памятны юбілейны буклет.



*Васіль Бернацкі*

Армейскі спорт — гэта не толькі СКА. Свае спартсмены і спецыяльныя спартыўныя падраздзяленні ёсць і ў асобных родаў войска. Напрыклад, у супрацьпаветранай абароны — гэта 396-ы цэнтр спецыяльнай і фізічнай падрыхтоўкі. Начальнік цэнтра — падпалкоўнік **Аляксандр Паўлавіч Паўловіч** нарадзіўся (14.03.1959) у вёсцы Квасевічы Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці і закончыў у род-

[1] *Мядзведзеў М. Н.* Чэхаўской Д. Я. Асілак Якуба. Мінск, 1991.

най вёсцы пачатковую школу. У 17 год выканаў нарматыў майстра спорту і ўвайшоў у склад юнацкай зборнай СССР па біятлоне. У 1978 г. Аляксандр паступіў у Ленінградскі ваенны інстытут фізкультуры, неаднойчы быў прызёрам еўрапейскіх спаборніцтваў і чэмпіёнам СССР. Пасля заканчэння інстытута на час развітаўся з Пецярбургам — служыў начальнікам фізічнай падрыхтоўкі ў розных вайсковых часцях Новасібірска, Нарыльска, Масквы. Вярнуўся ў 1996 г. у Спартыўны клуб філіяла 6-й арміі супрацьпаветранай абароны, дзе акрамя традыцыйных відаў спорту, займаюцца менш распаўсюджанымі — бейсболам, рэгбі, і спецыяльнымі, прынамсі, парашутным. Пад камандай Аляксандра Паўловіча знаходзяцца 18 чэмпіёнаў свету, аднаго з іх ён «перацягнуў» у Пецярбург з Беларусі. Гэта майстар спорту міжнароднага класа **Аляксандр Мельнік** — чатырохразовы чэмпіён свету па гіравым спорце. Пецярбуржцамі сталі сыны Аляксандра: старэйшы — Артур Паўловіч — працуе над ужываннем высокіх тэхналогій, малодшы — Фелікс Паўловіч — яшчэ школьнікам выканаў нарматыў майстра спорту і прафесійна займаецца спортам: гуляе ў бейсбол і судзіць спаборніцтвы па футболе і бейсболе.



*Аляксандр Паўловіч*

Апавядаючы пра пецярбургскіх спартсменаў-беларусаў, варта ўспомніць спартыўнага журналіста Таццяну Герасімец. Нарадзілася **Таццяна Рыгораўна Герасімец (Нарко)** у вёсцы Раёўка Маладзечанскага раёна, там жа скончыла сярэднюю школу, навучалася на факультэце журналістыкі БДУ, з 1991 да 1995 г. працавала ў газеце «Физкультурник Беларуси». Займалася не толькі журналістыкай, але і спортам: біятлонам, футболам. З 1995 г. Таццяна вяла на Беларускім тэлебачанні спартыўныя навіны і спартыўныя праграмы. У 1997 г. разам з мужам Сяргеем — футбалістам «Зеніта» — пераехала ў Пецярбург, у тым жа годзе нарадзіла двайнят. Клуб адразу ж выдзеліў маладой сям'і асобную кватэру на Неўскім. Заставацца надалей толькі спартыўным журналістам малаперспектыўна, і Таццяна цяпер робіць для аднаго з беларускіх каналаў самыя розныя праграмы. Прынамсі, яна запісала ўрачыстае адкрыццё выставы «Беларускі Пецярбург» у Расійскай Нацыянальнай бібліятэцы у чэрвені 2003 г. і інтэрв'ю з яе арганізатарамі.



*Журналістка Таццяна Герасімец*

Ніякай кніжкі не хопіць, каб толькі пералічыць тых беларусаў, якія служылі ў Ленінградзе-Пецярбургу, навучаліся тут у ваенных вучылішчах ці выкладалі ў іх. Сярод дзейных афіцэраў — начальнік ракетных войскаў і артылерыі ЛенВА **Міхаіл Міхайлавіч Акулаў**. Нарадзіўся Міхаіл Міхайлавіч 20 жніўня 1953 г. у Мінску, пасля заканчэння СШ № 71 (маці і цяпер жыве на вуліцы Ландара) і Адэскага артылерыйскага вучылішча паступіў у Ленінградскую ваенна-артылерыйскую акадэмію. Служыў у Тэрмезе, на мяжы з Афганістанам. У 1997 г., пасля акадэміі Генштаба, зноў прыехаў у Пецярбург...

Пасля распаду Савецкага Саюза Расійская армія няспынна скарачалася. Зменшылася колькасць ваенна-навучальных установаў, скарацілася колькасць войскаў Ленінградскага гарнізона. Значная колькасць звольненых у запас вайскоўцаў пайшла працаваць у ахоўныя структуры, напрыклад, капітан-дэсантнік ураджэнец Ашмянаў **Валерый Сцяпанавіч Топаль**. З кожным годам змяншаецца і калісьці высокі працэнт беларусаў у войску Расійскай Федэрацыі. Суседнія былыя савецкія рэспублікі цяпер паасобку будуюць свае ўзброеныя сілы.

# Раздзел 16.

## MEDICI PETERBURGIENSI (ПЕЦЯРБУРГСКІЯ МЕДЫКІ)

Ахова здароўя працоўных — адно з дасягненняў Савецкай улады, і ва ўсе часы кіраўніцтва горада імкнулася забяспечыць гэтую галіну высокакваліфікаванымі кадрамі, неабходнымі ўстановамі і мерапрыемствамі. У 1950–1960 гг. у Ленінградзе дзейнічала звыш 30 бальніц і 59 паліклінік, акрамя гэтага, яшчэ 7 спецыяльных паліклінік і 5 псіхіятрычных бальніц. За 1966–1980 гг. колькасць бальніц павялічылася да 54, заўважна ўзрасла колькасць паліклінік. Нагрузка пры прыёме ўчастковых урачоў знізілася з 11,5 чалавека за гадзіну да 5,9 за гадзіну. Самай вялікай і багатай на традыцыі навучальнай медыцынскай установай заставалася Ваенна-медыцынская акадэмія. Кастрычніцкая рэвалюцыя шмат што змяніла ў жыцці былой сталіцы, але Ваенна-медыцынская акадэмія заставалася найменш закранутая вынікамі гэтых змяненняў. Можа ад таго, што розніца паміж дактарамі не ў тым, вайсковы ён ці цывільны, лечыць капіталіста ці сацыяліста, а ў тым, добры ён лекар ці не. Беспярашкодная ратацыя дактароў з грамадзянскіх структур у вайсковыя і наадварот у Санкт-Пецярбургу — справа звычайная.

У ВМА працягвалі вучыцца і служыць шмат беларусаў. Некаторыя з іх, адслужыўшы ў войску, перайшлі працаваць у цывільныя медыцынскія ўстановы горада, іншыя прайшлі армію і вярнуліся ў акадэмію як выкладчыкі. У пасляваенны час абазначыўся яшчэ адзін шлях: здольным хлопцам-студэнтам медыцынскіх інстытутаў Беларусі (Гродзенскага, Мінскага, Віцебскага) прапаноўвалі на апошніх курсах перавесціся ў расійскі прыволжскі горад Самару (на той час Куйбышаў) і атрымаць кваліфікацыю ваеннага ўрача на спецыяльным ваенным факультэце мясцовага медыцынскага інстытута. Павышэнне кваліфікацыі гэтыя дактары праходзілі ўжо ў Пецярбургу. Такі шлях прайшлі Валерый Кандрацэнка, Мікалай Хартановіч, Юрый Шчарбук, Канстанцін Грамыка і многія іншыя.

Пераемнасць у выкладанні медыцыны, як і пераемнасць сярод беларусаў-медыкаў, увасобіў генерал-маёр медыцынскай службы **Зміцер Мікалаевіч Лукашэвіч** (1890–1950). Нарадзіўся ён у Навагрудку, ВМА скончыў яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі — у 1914 г. З 1924 да 1950 г. служыў у акадэміі як выкладчык, старшы выкладчык, начальнік кафедры сацыяльнай гігіены (1938–1943) і адначасова быў намеснікам начальніка па навуковай працы. Распрацаваў і з 1925 г. выкладаў курс гісторыі медыцыны. У 30-я гады жыў на вуліцы Краснай Конніцы, 8, кв. 16. Пасля пачатку Другой сусветнай вайны Зміцер Лукашэвіч выконваў абавязкі начальніка ВМА (са жніўня 1941 да сакавіка 1942 г.) у складаных умовах эвакуацыі акадэміі ў Самарканд. Калі ж акадэмія ўжо разгарнулася ў тыле СССР і пачала працаваць, спецыяльнай Пастановай Дзяржаўнага Камітэта Абароны ад 28.11.1942 г. была створана кафедра гісторыі медыцыны, начальнікам якой у 1943–1950 гг. быў генерал Лукашэвіч. Гісторыкі Ваенна-медыцынскай акадэміі ўспамінаюць яго як выдатнага лектара, аднаго з лепшых лектараў ВМА. У пасляваенныя гады Зміцер Лукашэвіч жыў на вул. Вялікай Зеленіна, 14. Неўзабаве пасля яго смерці спецыяльная кафедра была закрыта, а курс гісторыі медыцыны перададзены на кафедру арганізацыі і тактыкі медыцынскай службы.

Да старэйшага пакалення належыць палкоўнік медыцынскай службы **Мікалай Фаміч Гаркун** (1893–1961). Ён нарадзіўся ў Гродне, Акадэмію закончыў у Петраградзе ў 1919 г. Да 1922 г. служыў старшым урачом кавалерыйскага палка, потым выйшаў у запас. Мабілізаваны ў 1941 г. З 1953 да 1958 г. быў начальнікам кафедры уралогіі ВМА.

У час Вялікай Айчыннай вайны служыў фельчарам **Сямён Вавілавіч Рыжкоў** (нар. у 1919 г. у сялянскай сям'і), у 1948 г. закончыў ВМА. Новыя віды зброі, якія армія прымала на ўзбраенне, неслі небяспеку і новыя праблемы не толькі тым, супраць каго іх маглі выкарастаць, але і тым, хто іх абслугоўваў, на «сваёй» тэрыторыі. Дзеля вывучэння магчымых уздзеянняў на арганізм радыяцыі і іншых фактараў па ініцыятыве Сямёна Рыжкова пры ВМА была заснавана навукова-даследчая лабараторыя — Цэнтр крыві і тканкі. Ён жа нязменна (1961–1981) кіраваў гэтым цэнтрам. За атрыманыя вынікі прафесар Рыжкоў стаў у 1978 г. лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР.

Кафедру мікрабіялогіі ВМА ўзначальваў з 1948 да 1950 г. **Іван Яўгенавіч Мінкевіч** (1894–1950). Нарадзіўся ён у вёсцы Чарняўка Магілёўскай губерні. Для многіх пакаленняў курсантаў ВМА Іван Мінкевіч

застаўся ў памяці як аўтар «Курса санітарнай бактэрыялогіі» (Л., 1940).

У 2004 г. акадэмікам Ваенна-медыцынскай акадэміі быў абраны хірург-траўматолаг і артапед **Уладзімір Міхайлавіч Шапавалаў** (нар. 14 красавіка 1946 г.). Да гэтага ён ужо атрымаў званні прафесара (1994) і заслужанага ўрача Расійскай Федэрацыі (1998). Жыццёвы шлях гэтага чалавека складаўся з выпрабаванняў, часам вельмі цяжкіх, і пераадолення нягод. Нарадзіўся Уладзімір Шапавалаў у Севастопалі, бацька — Міхаіл Мацвеевіч нечакана памёр, калі хлопчыку не было і года. Маці Соф'я Аляксандраўна з малым паехала на радзіму — у Вілейку. Цяжкія пасляваенныя гады ў разбуранай Беларусі, пяць класаў Вілейскай СШ, потым шэсць гадоў у Мінскім сувораўскім вучылішчы. «Юнацтва, перацягнутае рамянём» — так пазней назваў першую свядомую частку свайго жыцця прафесар Шапавалаў. І вылучыў сутнасць: «Поўная перабудова свядомасці ў 12 гадоў, жорсткая дысцыпліна, парадак, суровае выхаванне ў мужчынскім калектыве, засваенне паняццяў пра гонар, сумленне, адчуванне локця, абарону Айчыны і многае іншае». Пасля сувораўскага вучылішча Уладзімір навучаўся ў Ваенна-медыцынскай акадэміі імя С. М. Кірава, актыўна займаўся ў навуковым гуртку кафедры траўматалогіі і артапедыі, пасля заканчэння (1970) быў размеркаваны на пасаду камандзіра вучэбнай медыка-санітарнай роты танкавай дывізіі ў гарнізоне Барысаў-Печы. Старшы лейтэнант медыцынскай службы Шапавалаў за тры гады падрыхтаваў больш за 800 санітарных інструктараў, напісаў дапаможнік па вывучэнні тактыка-медыцынскай падрыхтоўкі малодшых медыцынскіх спецыялістаў. Адначасова экстэрнам здаў кандыдацкія экзамены на адпаведных кафедрах Беларускага дзяржаўнага універсітэта, закончыў сямімесячную інтэрнатуру па хірургіі ў Мінскім акруговым шпіталі і нават атрымаў адтуль прапанову перавесціся на аддзяленне неадкладнай хірургіі. Аднак лёс склаўся так, што У. Шапавалаў застаўся пецярбуржцам. Кіраўніцтва кафедры ваеннай траўматалогіі і артапедыі запрасіла яго ў ардынатуру. У далейшым, на працягу дзевяці гадоў, адбывалася станаўленне маладога ўрача ўжо як спецыяліста. Вынікам гэтага перыяду стала абарона кандыдацкай дысертацыі (сакавік 1983 г.) па актуальнай прабмеме касцявой гнойнай хірургіі. Менавіта ў гэты перыяд жыцця сфарміраваліся найлепшыя прафесійныя і чалавечыя якасці Уладзіміра Міхайлавіча: працавітасць, высокая працаздольнасць, уменне заставацца шчырым, цаніць дружбу. Сур'ёзным выпрабаваннем на трываласць была тэрміновая камандзіроўка ў Афганістан 28 снежня 1979 г. у складзе групы хірургаў Ваенна-медыцынскай акадэміі і потым двухмесячная праца па лячэнні першых параненых ў Ташкенцкім акруговым шпіталі.



*Уладзімір Шапавалаў*

Вельмі важным перыядам жыцця Уладзіміра Шапавалава была амаль двухгадовая камандзіроўка (1983—1984) у ахоплены вайной Афганістан. Узначаліўшы траўматалагічнае аддзяленне галоўнага шпіталя 40-й арміі ў Кабуле, ён засяродзіў галоўную ўвагу на аказанні спецыялізаванай дапамогі параненым у канечнасці, ахвярам перш за ўсё міннай зброі, паколькі яны пераважалі сярод пацыентаў. Пасля заканчэння працы ў Афганістане Уладзімір Міхайлавіч з уласцівымі яму адказнасцю і ініцыятывай уключыўся ў лячэбную працу і выкладанне на кафедры, выканаў каласальны аб'ём клінічных і палігонных эксперыментальных даследаванняў, што дазволіла не толькі абгрунтаваць кірункі прафілактыкі мінна-ўзрыўной траўмы, але і стварыць рэальныя ўзоры спецыяльнага абутку для сапёраў. Вынікам працы стала бліскучая абарона ў 1989 г. доктарскай дысертацыі «Выбуховыя пашкоджанні канечнасцяў. Абгрунтаванне і ўкараненне індывідуальных сродкаў абароны ног ваеннаслужачых (клініка-эксперыментальнае даследаванне)». Лёс, аднак, не быў спрыяльны да паспяховага медыка. Неўзабаве пасля вяртання з Афганістана Уладзімір Шапавалаў пахаваў жонку Зою (Зосю) Рыгораўну Давыдоўскую — пахаваў на яе радзіме, у Маладзечне. Але гэта было не ўсё. Ад разрыву сасуда галаўнога мозгу раптоўна і заўчасна памёр сын — старшы

лейтэнант медыцынскай службы, ад'юнкт-рэнтгенолаг. Генерал Шапавалаў застаўся паміж могілак: у Сімферопалі — бацька, у Маладзечне — любімая жонка, на Багаслоўскіх ў Пецярбургу — адзіны сын. Радок са службовай характарыстыкі: «Дзякуючы тытанічнай працы (500—600 аперацый за год), цесна звязанай з педагагічным працэсам, рацыяналізатарскай і вынаходніцкай дзейнасцю, ён заслужыў павагу з боку адміністрацыі бальніцы і начальнікаў іншых лячэбных устаноў». Жыццё для Уладзіміра Шапавалава працягвалася ў змаганні за іншыя чалавечыя жыцці, за здароўе іншых. У 1995 г. ён быў прызначаны начальнікам кафедры ваеннай траўматалогіі і артапедыі ВМА і галоўным траўматолагам Міністэрства абароны Расіі. Клопат па выхаванні ўнука Рыгора падзяліла другая жонка — Алена Аляксандраўна (Кірылава). Пад кіраўніцтвам Уладзіміра Міхайлавіча і пры яго навуковым кансультаванні абаранілі дысертацыі чатыры дактары і дваццаць два кандыдаты медыцынскіх навук. Прызнаннем яго заслуг стала таксама даручэнне вучонага савета акадэміі выступіць з актавай прамовай «Баявыя пашкоджанні апорнарухальнага апарата» ў гонар 206-й гадавіны ВМА. Умацаванню міжнароднага аўтарытэту хірурга спрыялі міжнародныя камандзіроўкі Уладзіміра Шапавалава ў ЗША, Германію, Аўстрыю, Кітай і Паўночную Карэю. На юбілейнай сустрэчы сувораўцаў у Мінску ў 2000 г. ён быў адзіным генералам са свайго выпуску...

Заслужаны ўрач Расійскай Федэрацыі доктар медыцынскіх навук **Валерый Паўлавіч Ласы** ў Пецярбургу жыве з сакавіка 1995 г., выкладае ў ВМА, там жа працуе загадчыкам кабінета функцыянальнай дыягностыкі кафедры гастраэнтэралогіі (кафедра ў 2000 г.ператворана ў 2-ю кафедру тэрапіі ўдасканалення ўрачоў). Як і для большасці вайсковых медыкаў гэта другі прыезд у горад. Першыя пяць гадоў (навучанне ў ВМА) пачаліся ў 1959 г., пасля заканчэння з залатым медалём сярэдняй школы ў Мінску. А нарадзіўся Валерый Ласы ў кастрычніку 1942 г. у г. Тарбеева Мардоўскай АССР у сям'і выхадцаў з Магілёўскай вобласці. У 1965 г. ён на выдатна скончыў Ваенна-медыцынскую акадэмію, пачаў службу ў ракетных войсках стратэгічнага прызначэння. Акрамя абавязкаў па службе, малады афіцэр з захапленнем займаўся краязнаўствам — вывучаў рэшткі сапегаўскіх замкаў і палацаў, якія знаходзіліся на невялікай адлегласці ад дыслакацыі (у Ружанах). З кастрычніка 1969 г. Валерый Ласы апынуўся ў шпітальным звяне медыцынскай службы Беларускай ваеннай акругі — ардынатарам, пазней старшым ардынатарам кардыялагічнага аддзялення 432-га акруговага ваеннага шпіталя. З 1977 да 1987 г. — ён галоўны спецыяліст БВА па функцыянальнай дыягностыцы, начальнік аддзялення функцыянальнай дыягностыкі акруговага шпіталя, узнагароджаны ганаровым знакам «Выдатнік аховы здароўя СССР» (1981). За актыўны ўдзел у ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС у маі 1986 г. узнагароджаны ордэнам Мужнасці. З 1987 да 1993 г. Валерый Паўлавіч вядучы тэрапеўт 432-га мінскага акруговага ваеннага шпіталя, палкоўнік медыцынскай службы, у 1990 г. атрымаў ганаровае званне заслужаны ўрач Беларускай ССР.



*Валерый Ласы*

Арганізацыйная занятасць у Мінску не давала часу ператварыць вялізны вопыт і практычныя напрацоўкі ў дысертацыйныя даследаванні — гэтым Валерый Паўлавіч заняўся ўжо ў Пецярбургу. Падрыхтаваў і паспяхова абараніў ў 1999 г. кандыдацкую дысертацыю па тэме «Функцыянальны стан сардэчна-сасудзістай сістэмы і асаблівасці тканкавага метабалізму ў асобаў з механічнай траўмай». Працягваў актыўную навуковую дзейнасць, галоўным кірункам якой было вывучэнне «клініка-інструментальных і лабараторных крытэрыяў ацэнкі асаблівасцяў тканкавага метабалізму пры захворваннях страўніка і кішэчніка». У 2004 г. паспяхова абараніў на гэтую тэму доктарскую дысертацыю. Вышэйшая кваліфікацыйная катэгорыя ўрача функцыя-

нальнай дыягностыкі і ўрача тэрапеўта, валоданне ўсімі неабходнымі сучаснымі метадамі абследавання і лячэння дазваляюць яму дапамагаць хворым у самых складаных выпадках. В. П. Ласы распрацаваў і ўкараніў метады комплекснага электракардыяграфічнага абследавання і пакет камп'ютэрных праграм па эхакардыяграфіі. Акрамя 78 друкаваных навуковых прац у яго актыве 68 зробленых і ўкаранёных рацыяналізатарскіх прапаноў і 3 вынаходніцтвы.

Жыццёвы шлях палкоўніка медыцынскай службы, правадзейнага члена Рускага геаграфічнага таварыства **Валерыя Дзмітрыевіча Парфёнава** (нар. 1 студзеня 1948 г.) пачынаўся ў Гомельскай вобласці. У 1966 г. ён паступіў на лячэбны факультэт Віцебскага медыцынскага інстытута, пасля сканчэння 4-х курсаў перавёўся ў Куйбышаўскі мединстытут імя Д. Ульянава. Служыў у Прыкарпацкай і Забайкальскай (Манголія) ваенных акругах. З 1994 г. Валерый Парфёнаў у Ленінградзе — выкладчык, дацэнт, а з 2000 г. — прафесар кафедры арганізацыі і тактыкі медыцынскай службы ВМА. Узначаліў кафедральную прадметна-метадычную камісію па ваенна-медыцынскай геаграфіі, напісаў значную частку ў калектыўнай манаграфіі па ваенна-медыцынскай геаграфіі. Пасля звальнення (2002) у запас Валерый Парфёнаў застаўся супрацоўнікам Навукова-даследчага цэнтра ВМА, членам двух дысертацыйных саветаў па спецыяльнасці «Грамадскае здароўе і яго ахова».

У пасёлку Зарадзвінне Добрушскага раёна ў сям'і лесніка нарадзіўся будучы пецярбуржац і вайсковы медык — **Віктар Паўлавіч Савенкоў** (10.07.1946–1.12.2007). У 1964 г. ён скончыў з залатым медалём СШ у г. п. Церахоўка Гомельскай вобласці і паступіў у Ваенна-медыцынскую акадэмію на факультэт падрыхтоўкі ўрачоў для Ваенна-марскога флоту. Служыў на Паўночным флоце, потым закончыў клінічную ардынатуру пры кафедры нейрахірургіі ВМА. У 1985–1986 гг. Віктар Савенкоў быў начальнікам нейрахірургічнага аддзялення ў шпіталі 40-й арміі ў Афганістане. З 1986 да 2005 г. ён працуе на кафедры нейрахірургіі ВМА. Віктар Паўлавіч быў клініцыстам, які паспяхова апэрыруе на ўсіх аддзелах цэнтральнай і перыферыйнай нервовай сістэмы, валодае ўсімі сучаснымі метадамі нейрахірургічных даследаванняў. Адначасова шмат часу аддаваў выкладчыцкай працы. Ён напісаў 25 лекцый для слухачоў акадэміі па розных раздзелах нейрахірургіі і склаў 40 метадычных распрацовак для правядзення практычных заняткаў па гэтай дысцыпліне, надрукаваў 66 навуковых прац, быў аўтарам 80 рацыяналізатарскіх прапаноў. Разам з жонкай Святланай Аляксееўнай (яна грузінка па нацыянальнасці) выгадавалі дваіх дзяцей: Павел Віктаравіч працуе стаматолагам, Натэлла Віктараўна — ветэрынарам. Абодва — па бацьку — беларусы. Кандыдат медыцынскіх навук, палкоўнік Віктар Савенкоў узнагароджаны ордэнамі «За службу Радзіме ва Узброеных Сілах СССР», «Знак Пашаны», «За воінскія заслугі», ордэнам Рэспублікі Афганістан «Дружба народаў», шматлікімі медалямі і знакам «Выдатнік аховы здароўя».



*Віктар Савенкоў*

Доктар медыцынскіх навук палкоўнік **Георгій Мікалаевіч Клінцэвіч** нарадзіўся 23 сакавіка 1938 г. у мястэчку Трабы Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці. Пасля заканчэння СШ у Трабах паступіў у 1955 г. у Ваенна-марскую медыцынскую акадэмію (з 1956 г. яна ўключана як асобны IV факультэт у ВМА імя С. Кірава). З 1961 г. служыў на флагманскім караблі-выратавальніку Паўночнага флоту, удзельнічаў у выратавальнай працы пры ліквідацыі аварый на караблях і падводных лодках. З 1968 г. Георгій Клінцэвіч жыве ў Ленінградзе, працуе на кафедры тэрмічных пашкоджанняў ВМА. У 1986 г. яго прызначаюць начальнікам медыцынскага ўпраўлення навуковага цэнтра Міністэрства аховы здароўя СССР па ліквідацыі наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Георгій Мікалаевіч вялікі спецыяліст у галіне аховы працы і прафесійных захворванняў, гігіенічнай дыягностыкі цеплавой тэрмарэгуляцыі чалавека, адаптавання да экстрэмальных умоў, радыяцыйнай медыцыны. Аўтар каля 200 навуковых прац, у тым ліку 5 манаграфій. Распрацаваў шмат афіцыйных дакументаў па гігіене працы, у тым ліку па медыцынскіх аспектах ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Узнагароджаны ордэнамі Мужнасці, «За службу Радзіме ва Узброеных Сілах СССР», шматлікімі медалямі.

З 1993 г. выйшаў у адстаўку, але застаўся працаваць прафесарам на кафедрах абдамінальнай хірургіі і анестэзіялогіі і рэаніматалогіі ВМА **Анатоль Ільіч Леўшанкоў**, які нарадзіўся 4 верасня 1932 г. у вёсцы Каменка Горацкага раёна Магілёўскай вобласці. У роднай вёсцы закончыў (у 1951 г., з сярэбраным медалём) сярэднюю школу, паступіў у Ваенна-медыцынскую акадэмію ў Ленінградзе. Служыў начмедам у зенітна-ракетных войсках, тры гады быў ардынатарам хірургічнага аддзялення і нештатным анестэзіёлагам у армейскім шпіталі. У Ленінград вярнуўся ў 1968 г.: абараніў кандыдацкую дысертацыю «Мас-спектраметрычны метад ацэнкі функцыі знешняга дыхання» і з 1969 г. выкладаў у Акадэміі. У 1977–1978 гг. быў камандзіраваны ў В'етнам для падрыхтоўкі выкладчыкаў па спецыяльнасці «Анестэзіялогія і рэаніматалогія». У 1982 г. абараніў доктарскую дысертацыю. З 1986 да 1993 г. узначальваў кафедру анестэзіялогіі і рэаніматалогіі ВМА, адначасова з'яўляўся галоўным анестэзіёлагам-рэаніматолагам Узброеных Сіл СССР. Пры актыўным удзеле Анатоля Леўшанкова створаны новыя дасканалыя мадэлі апаратаў штучнай вентыляцыі лёгкіх «Фаза-5», «Фаза-5 АР», «ДАР-05», «РЕАТ-П-01», якія і сёння выкарыстоўваюць практыкі. Акрамя гэтага ён стаў ініцыятарам стварэння і адным з галоўных распрацоўшчыкаў першых серыйна выпушчаных савецкіх мас-спектрометраў «МХ-6202» і «МХ-6203». Аўтар 9 вынаходніцтваў, ініцыятар стварэння штатных цэнтраў анестэзіялогіі, рэанімацыі і інтэнсіўнай тэрапіі ў акруговых і цэнтральных шпіталях краіны. Анатоль Леўшанкоў аўтар 480 навуковых прац, у тым ліку сааўтар чатырох падручнікаў па анестэзіялогіі і рэаніматалогіі, трох манаграфій, 17 навучальна-метадычных дапаможнікаў і інш., кіраўнік і кансультант 2 доктарскіх і 9 кандыдацкіх дысертацый.

Высокакваліфікаваны педагог, навуковы работнік і спецыяліст ў галіне хірургічнай гастраэнтэралогіі, хірургіі шчытападобнай залозы, гнойна-септычнай хірургіі **Аляксандр Уладзіміравіч Качаткоў** нарадзіўся 29 красавіка 1955 г. у Магілёве. У 1972 г. з залатым медалём скончыў мінскую школу № 116, паступіў у ВМА ў Ленінградзе. Пасля заканчэння акадэміі працаваў урачом у авіяцыйнай вайсковай часці ў Шчучыне. З 1981 г. Аляксандр Качаткоў ізноў у Ленінградзе, абараніў кандыдацкую і доктарскую дысертацыі, прайшоў шлях ад ад'юнкта і ардынатара да прафесара кафедры агульнай хірургіі. З 1996 г. — галоўны спецыяліст акадэміі па эндаскапіі. Палкоўнік медыцынскай службы, заслужаны урач Расійскай Федэрацыі Качаткоў аўтар 92 навуковых прац, у тым ліку раздзелаў падручнікаў «Агульная хірургія», «Практыкум па курсе агульнай хірургіі» для медыцынскіх ВНУ Расійскай Федэрацыі.



*Аляксандр Качаткоў*

Шлях да вышынь медыцынскай навукі **Уладзіміра Уладзіміравіча Шэйбака** (нар. 26 студзеня 1954 г.) пачаўся з выкліку ў ваенкамат: для чатырох хлопцаў з Любчы (Наваградскі раён) была разнарадка ў Ваенна-медыцынскую акадэмію. Уладзімір быў адным з лепшых выпускнікоў размешчанай тады ў сярэднявечных будынках Любчанскага замка сярэдняй школы, у гэтым заслуга і класнага кіраўніка, вядомага краязнаўцы Мікалая Андрэевіча Вінара. Не горш вучыўся і ў Ленінградзе — у 1977 г. скончыў ВМА з залатым медалём. Выпускнік 3-га (авіяцыйнай і касмічнай медыцыны) факультэта, Уладзімір Шэйбак размеркаваўся на пасаду старшага ардынатара палiклінікі Ваенна-касмічнай акадэміі імя Жукоўскага ў Маскве. Праз чатыры гады вярнуўся ў Ленінград, паступіў у ад'юнктуру ВМА і з таго часу стаў пецярбуржцам. Навуковая праца ў адной з лабараторый акадэміі дала матэрыял для напісання кандыдацкай (абаронена ў 1984 г.) і доктарскай (2000) дысертацый па эпідэміялогіі. Паміж дзвюма дысертацыйнымі працамі была службовая камандзіроўка ў Афганістан (1987–1988): пад час яе лекар-беларус працаваў над

лячэннем і прафілактыкай неапалітанскай ліхаманкі, якая пазбаўляла баяздольнасці цэлыя падраздзяленні... У апошні шлях Уладзіміра Уладзіміравіча праводзілі на Паўночныя могілкі Пецярбурга ў лютым 2008 г.

Яго жонка **Людміла Іосіфаўна Шэйбак** (яна родам з Ляхавічаў Навагрудскага раёна) таксама ўрач, працуе галоўным неўролагам медыцынскай службы ГУУС Пецярбурга. Разам выгадавалі двух сыноў: старэйшы — Уладзімір — пасля заканчэння інстытута працуе і жыве ў Маскве, малодшы — Ігар — скончыў Фінансава-эканамічны інстытут і працуе на Васільеўскім востраве ў фірме, што выпрацоўвае лабараторнае абсталяванне.

Пецярбургскі хірург, гастраэнтэролаг і анколаг **Уладзімір Георгіевіч Вярбіцкі** нарадзіўся 21 студзеня 1951 г. у Вілейцы Мінскай вобласці. Дзед яго, Герой Савецкага Саюза Уладзімір Лаўрыновіч, паходзіў з недалёкай ад Вілейкі вёскі Порса. Пасля заканчэння васьмі класаў СШ № 3 у Вілейцы Уладзімір паступіў у Мінскае сувораўскае вучылішча, якое закончыў у 1978 г. з залатым медалём. У 1984 г. скончыў факультэт падрыхтоўкі ўрачоў для ВМФ ВМА, пасля чаго чатыры гады служыў урачом на атамнай падводнай лодцы, атрымаў вопыт аказання хірургічнай дапамогі ў доўгатэрміновых аўтаномных плаваннях. У 1988 г. паступіў у клінічную ардынатуру пры кафедры неадкладнай хірургіі ВМА, застаўся тут працаваць. З 2000 г. — намеснік начальніка 2-й кафедры (хірургіі ўдасканалення ўрачоў) ВМА (на базе Навукова-даследчага інстытута хуткай дапамогі імя Джанелідзе). Доктар медыцынскіх навук палкоўнік Уладзімір Вярбіцкі аўтар навуковых прац па праблемах хірургічнай гастраэнтэралогіі, анкалогіі страўнікава-кішэчнага тракта. Сын Уладзіміра Георгіевіча стаў стаматолагам, ён выпускнік Санкт-Пецярбургскага медыцынскага універсітэта імя І. Паўлава.

З 1990 да 1994 г. неаднойчы выязджаў у зону аварыі Чарнобыльскай АЭС ваенны ўрач **Сяргей Уладзіміравіч Дударэнка** (нар. 22 снежня 1958 г. у Мазыры ў сям'і настаўнікаў). Сяргей Уладзіміравіч закончыў з залатым медалём сярэднюю школу ў Мазыры, а ў 1981 г. — ВМА ў Ленінградзе. Службу ён праходзіў у Беларускай ваеннай акрузе, з 1984 г. — ад'юнкт ВМА. У 2002 г. Сяргей Дударэнка абараніў доктарскую дысертацыю, якая была прысвечана механізмам захворвання ўнутраных органаў пры ўздзеянні на чалавека экстрэмальных экалагічных фактараў. Аўтар больш чым 150 навуковых прац, 5 падручнікаў, 2 манаграфій, 2 вынаходніцтваў. Сяргей Дударэнка застаўся пецярбуржцам, але ў пастаянным кантакце з радзімай: бацькі жывуць на Палессі, сястра — у Мінску. Яна — кандытат педагагічных навук, займаецца методыкай выкладання матэматыкі школьнікам.



*Сяргей Дударэнка*

«Паважаю і цаню акадэмію, якая дала мне ўсе веды, характар і дастаткова высокае месца ў грамадстве», — напісаў незадоўга да смерці **Сяргей Міхайлавіч Кудзяркоў** (16.01.1951—18.12.2002). Паходзіў Сяргей Кудзяркоў з Бабруйска, закончыў тут з сярэбраным медалём СШ № 4. У школе быў падрыхтаваны так добра, што не меў праблем з паступленнем у ВМА, якую закончыў у 1974 г. на выдатна. Пасля 5 гадоў служыў на вайсковых медыцынскіх пасадах у парашутна-дэсантных часцях паветрана-дэсантных войскаў (76-я Пскоўская дывізія). У 1976 г. Сяргей Кудзяркоў вярнуўся ў Пецярбург і да 2002 г. працаваў на кафедры агульнай і ваеннай гігіены ВМА, кандыдацкую дысертацыю прысвяціў зменам стану здароўя дэсантнікаў. Тэму сваю ведаў і з медыцынскага, і з «дэсантнага» боку: ён сам быў адным з дэсантнікаў... Старэйшы сын Аляксандр закончыў Ваенна-механічны інстытут, кім сталі малодшыя дзеці (сын Міхаіл і дачка Кацярына), Сяргей Міхайлавіч не пабачыў. Ганарыўся тым, што за 8 гадоў уласнаручна пабудаваў два драўляныя дамы...

Апавядаючы пра Беларускі Пецярбург і XIX, і XX, і новага, XXI ст., мы неаднойчы бачым, як у горад над Нявой выязджаюць купна: некалькі чалавек з вёскі, некалькі чалавек з аднае сям'і. Часта гэта браты. Вось яшчэ

адзін прыклад: медыкі браты Касачовы з вёскі Акушкі Горацкага раёна Магілёўскай вобласці. Старэйшы, **Іван Данілавіч Касачоў** (нар. 25 ліпеня 1939 г.), скончыў школу ў суседняй з Акушкамі Каменцы, у 1962 г. — ВМА, пасля чаго 6 гадоў праходзіў службу на пасадах урача ваеннай часці і начальніка хірургічнага аддзялення шпіталя ў Далёкаўсходняй ваеннай акрузе. У 1968 г. ён паступіў у ад'юнктуру пры кафедры агульнай хірургіі ВМА, пасля заканчэння застаўся выкладчыкам кафедры. Пасля абароны дысертацыі «Прымяненне морфацыкліну і аленеморфацыкліну пры лячэнні косцявых і касцёва-сустаўных панарыцыяў» распрацоўваў праблему гнойнай хірургічнай інфекцыі. Вынікам працы стала манаграфія «Панарыцый» (1975), навучальна-метадычныя дапаможнікі, лекцыі. Але калі кніга выходзіла з друку на берагах Нявы, аўтар быў ужо на супрацьлеглым канцы планеты — у 1974—1976 гг. Іван Касачоў выконваў урадавае заданне: працаваў урачом-хірургам і навуковым даследчыкам у складзе XX Савецкай антарктычнай экспедыцыі (зімоўка на антарктычнай станцыі «Ленінградская»). Доктарская дысертацыя І. Касачова прысвечана пытанням ваенна-палявой хірургіі, менавіта баявым камбінаваным паражэнням. Паспяхова абараніў гэтую працу ў 1983 г., а пра тое, што Вышэйшая атэстацыйная камісія выдала яму доктарскі дыплом, Іван Данілавіч даведаўся ўжо ў Афганістане, дзе са снежня 1983 да мая 1986 г. выконваў абавязкі галоўнага хірурга 40-й арміі. У складаных умовах горна-пустэльнай мясцовасці і гарачага клімату пад яго кіраўніцтвам вайсковыя медыкі будавалі сістэму этапнага лячэння параненых з эвакуацыяй па прызначэнні. Дарагога каштуе такі радок з характарыстыкі палкоўніка медыцынскай службы Івана Касачова: «Асабіста агледзеў звыш 20 тысяч параненых і хворых і выканаў каля 2,5 тысячы складаных хірургічных умяшальніцтваў». Адзнакамі гэтай службы сталі і ўдзячнасць выратаваных людзей, і ўрадавыя ўзнагароды: ордэн Чырвонай Зоркі (1984) і ордэн Леніна (1986). Вярнуўшыся з Афганістана, заняў пасаду намесніка начальніка кафедры агульнай хірургіі ВМА, чытаў курс агульнай хірургіі, вёў навукова-метадычную працу. У снежні 1988 г. Іван Касачоў узначаліў медыцынскі атрад ВМА, які выехаў на дапамогу ахвярам землятрасення ў Арменіі (Спітак, Ленінакан). Пасля вяртання беларуса-хірурга назначаюць намеснікам начальніка акадэміі, з яго ініцыятывы ў ВМА створаны медыцынскі атрад хуткага рэагавання на экстрымальныя сітуацыі. З яго ініцыятывы і пры непасрэдным удзеле пры акадэміі створаны шэраг лячэбна-дыягнастычных цэнтраў, а таксама вучылішча па падрыхтоўцы медыцынскіх сясцёр (1991). Іван Данілавіч быў членам секцыі Дзяржаўнага камітэта навукі і тэхнікі па прымяненні лазераў у медыцыне, старшынёй праблемнай камісіі па пераліванні крыві і яе кампанентаў, членам праблемнай камісіі «Баявая паталогія». У 1995 г. пайшоў у адстаўку, застаўшыся прафесарам кафедры агульнай хірургіі і членам спецыялізаванага вучонага савета па прысуджэнні вучоных ступеняў. Прафесар Касачоў — высокакваліфікаваны хірург, педагог, навуковы супрацоўнік і арганізатар. Ён аўтар звыш 380 навуковых прац і 200 рацыяналізатарскіх прапаноў, у тым ліку 7 манаграфій, 7 вынаходніцтваў, 13 раздзелаў у падручніках, больш як 60 навучальна-метадычных дапаможнікаў. Да афганскіх



*Іван Касачоў*



*Браты Касачовы з бацькам*

узнагарод дадаліся ордэн Працоўнага Чырвонага Сцягу (1989) і «За обустройство земли Российской» 2-й ступені (2008).

Сярэдні брат — **Мікалай Данілавіч Касачоў** (нар. 22 мая 1942 г.). Школу закончыў у 1959 г. У тым жа годзе паступіў у Ленінградскі педыятрычны медыцынскі інстытут (пазней — Санкт-Пецярбургская дзяржаўная педыятрычная акадэмія). З 1967 г. працуе ардынатарам сасудзістага аддзялення клінікі агульнай хірургіі Ленінградскага санітарна-гігіенічнага медыцынскага інстытута (пазней Санкт-Пецярбургская дзяржаўная медыцынская акадэмія імя І. Мечнікава). З 1981 г. — начальнік аддзялення сасудзістай хірургіі, узначаліў гарадскі Цэнтр неадкладнай хірургіі сасудаў.

З 1980 г. у Акадэміі паслядыпломнай адукацыі працуе малодшы з Касачовых — неўрапатолаг **Віктар Данілавіч Касачоў** (нар. 12 лютага 1947 г.). У 1971 г. ён закончыў Ленінградскі педыятрычны медыцынскі інстытут. Пасля заканчэння службы урачом у арміі, а потым працаваў неўрапатолагам у бальніцы г. Атраднае (Отрадное) Ленінградскай вобласці. З 1978 г. — у Ленінградзе: навучаўся ў клінічнай ардынатуры Санкт-Пецярбургскай акадэміі паслядыпломнай адукацыі, працаваў практыкуючым урачом. Стаж па спецыяльнасці ўрача-неўрапатолага — 33 гады. Віктар Касачоў мае 170 апублікаваных прац на тэму лячэння рассеянага склерозу, тэрапіі захворванняў нервовай сістэмы і да т. п., з іх 5 аўтарскіх пасведчанняў і патэнтаў на вынаходніцтва. У 1986 г. ён узнагароджаны нагрудным знакам «Вынаходнік СССР», а ў 2007 г. абаронена доктарская дысертацыя аб аптымізацыі, дыягностыцы, лячэнні і прагназаванні міастэніі (захворвання мышцаў).

У 1991 г., неўзабаве пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС, для дапамогі пацярпелым энергетыкам і ліквідатарам на базе ВМА ў Санкт-Пецярбургу быў створаны Усерасійскі цэнтр экалагічнай медыцыны (у 1997 г. ён пераутвораны ва Усерасійскі цэнтр экстраннай і радыяцыйнай медыцыны (УЦЭРМ) і падпарадкаваны Міністэрству па надзвычайных сітуацыях (МНС). Цэнтр супрацоўнічае з Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя па праблемах лячэння і рэабілітацыі ўдзельнікаў ядзерных і іншых катастроф, скамплектаваны кадрамі высокай кваліфікацыі (на 2006 г. тут працавалі 31 доктар і 52 кандыдаты медыцынскіх навук). З 1997 г. у Цэнтры працуе ўраджэнец Слуцка доктар медыцынскіх навук **Сяргей Сяргеевіч Алексанін** (нар. 20 жніўня 1957 г.), выпускнік школы № 10 г. Віцебска. Шлях у медыцыну для Сяргея Алексаніна пачаўся ў Віцебскім медінстытуце (скончыў у 1978 г.). Потым былі ваенна-медыцынскі факультэт Куйбышаўскага медінстытута, служба ў войску і на розных пасадах у Ваенна-медыцынскай акадэміі. У 1990–1993 гг. быў абраны дэпутатам Выбаргскага савета народных дэпутатаў Ленінграда-Пецярбурга. З 1999 г. палкоўнік запаса медыцынскай службы С. Алексанін — намеснік дырэктара УЦЭРМ па навуковай і навучальнай працы, з 2006 г. — дырэктар гэтага цэнтра. Навуковыя інтарэсы Сяргея Алексаніна — гэта праблемы функцыянальнага стану чалавека ў экстрэмальных і неспрыяльных умовах знешняга асяроддзя, прафесійная паталогія. Ён аўтар звыш 150 навуковых прац. За перыяд службы ў Ваенна-медыцынскай акадэміі быў неаднаразова камандзіраваны ў Афганістан і на тэрыторыі, радыеактыўна забруджаныя ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС. У маі-чэрвені 1999 г. у якасці галоўнага тэрапеўта працаваў у складзе аэрамабільнага шпіталя Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Расіі ў Югаславіі. Заслужаны ўрач Расійскай Федэрацыі, прафесар Сяргей Алексанін узнагароджаны ордэнам «За службу Радзіме ва Узброеных Сілах СССР», нагруднымі знакамі МНС Расіі «За заслугі», «Ганаровы знак МНС Расіі» і інш..



*Сяргей Алексанін*

Намеснікам дырэктара па клінічнай працы УЦЭРМ працуе **Юрый Іванавіч Лістападаў** (нар. 25 верасня 1960 г. у Крычаве). Да гэтага ён праявіў сябе як адзін з арганізатараў буй-

ной медыцынскай установы горада — клінікі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Расіі на 120 ложкаў, фармаваў сістэму аказання медыцынскай дапамогі ўдзельнікам ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Значны ўклад у медыцынскую навуку і ў практыку падрыхтоўкі кадраў гігіеністаў зрабіў прафесар, кавалер ордэна «Знак Пашаны» **Георгій Уладзіміравіч Селюжыцкі** (10.02.1932–21.08.2000). Нарадзіўся ён у вёсцы Бакінічы Брэсцкай вобласці. Пасля заканчэння Пінскага медыцынскага вучылішча загадваў Язвенскім фельчарска-акушэрскім пунктам. З 1954 г. лёс Георгія Селюжыцкага звязаны з Ленінградскім санітарна-гігіенічным інстытутам — ён прайшоў шлях ад студэнта і аспіранта да загадчыка кафедры, члена вучонага савета. У 1979–1991 гг. быў дэканам вядучага, санітарна-гігіенічнага факультэта. Адначасова у 1971–1997 гг. узначальваў кафедру агульнай, ваеннай, радыяцыйнай гігіены і медыцынскай экалогіі ў Санкт-Пецярбургскай дзяржаўнай медыцынскай акадэміі імя І. І. Мечнікава. З 1964 г. распрацоўваў навуковую тэму «Асновы аховы навакольнага асяроддзя і ўмоў працы пры комплекснай перапрацоўцы драўніны». Шмат гадоў Георгій Селюжыцкі быў старшынёй Пецярбургскага гарадскога, а пасля і Усерасійскага навуковага медыцынскага таварыства гігіеністаў і санітарных урачоў[1]. У яго вучыўся вядомы сёння на Беларусі ўрач і гісторык медыцыны і фармакалогіі Фёдар Ігнатовіч. Сярод вучняў Георгія Селюжыцкага ёсць некалькі беларусаў, якія засталіся жыць і працаваць у Пецярбургу. Адзін з іх — **Аляксандр Фёдаравіч Панфіленка** (нар. 1 студзеня 1959 г. у вёсцы Слабада Мазырскага раёна). Пасля інстытута ён застаўся працаваць у Балтыйскай цэнтральнай басейнавай бальніцы імя Г. Чудноўскага на пасадзе судавога ўрача на суднах ВА «Ленрыбпрам», пасля ўрача-рэнтгенолага. З 1998 г. кандыдат медыцынскіх навук, аўтар і сааўтар звыш 30 навуковых прац, 2 манаграфій, 3 патэнтаў на вынаходніцтва, Аляксандр Панфіленка галоўны ўрач клінікі № 1 УЦЭРМ Санкт-Пецярбурга. **Аляксандр Іванавіч Казачэнка** (нар. 20 кастрычніка 1953 г. у Бабруйску) у 1976 г. скончыў Ленінградскі санітарна-гігіенічны інстытут, працаваў урачом у медыцынскім аддзеле Упраўлення ваенна-будаўнічых работ па Паўночна-Заходнім рэгіёне, быў начальнікам ваеннага шпіталя Спецбуда Расіі. Узнагароджаны знакам «Выдатнік аховы здароўя СССР», медалямі СССР і Расійскай Федэрацыі. Багаты жыццёвы вопыт і назапашаныя веды палкоўнік Аляксандр Казачэнка перадае курсантам ВМА — ён дацэнт кафедры «Грамадскага здароўя і эканомікі аховы здароўя ваенных».

З Навагрудчыны паходзіць сённяшняя пецярбуржанка **Леаніла Мікалаеўна Васілеўская**. Вучылася яна ў Амневічах, дзе атрымала першы ў гісторыі амневіцкай СШ залаты медаль. Потым закончыла Смаленскі медінстытут па спецыяльнасці акушэр-гінеколаг.

Традыцыі заснавальніка навуковага акушэрства, случака Антона Красоўскага сёння ў Пецярбургу працягвае кіраўнік акушэрскага аддзела навукова-даследчага Інстытута акушэрства і гінекалогіі імя Д. Ота Расійскай акадэміі медыцынскіх навук **Валерый Васільевіч Абрамчанка**, ураджэнец Крычава (нар. 27 чэрвеня 1938 г.). У час вайны Валерый Абрамчанка страціў бацьку, пасля вяртання з эвакуацыі жыў у Магілёве ў дзеда, навучаўся у Магілёўскім медыцынскім вучылішчы. У 1957 г. паступіў у Смаленскі медыцынскі інстытут, потым перавёўся ў Ленінград і закончыў 1-ы Ленінградскі медыцынскі інстытут. Па размеркаванні Валерыя Васільевіча накіравалі ў Інстытут акушэрства і гінекалогіі імя Д. Ота. Тут, на Васільеўскім востраве, і працуе дасёння. Паводле рэйтынгу Лонданскай асацыяцыі акушэраў-гінеколагаў Валерый Абрамчанка ўваходзіць у лік дваццаці найлепшых акушэраў Еўропы. Ён сапраўдны член Міжнароднага таварыства па гестозах, віцэ-прэзідэнт Асацыяцыі перынатальнай псіхалогіі і медыцыны. У Валерыя Абрамчанкі звыш 40 спецыяльных манаграфій і кіраўніцтваў, 950 асобных навуковых публікацый. Сярод іх ёсць адна гістарычная, якая аддае даніну павагі земляку і пачынальніку прафесіі Антону Красоўскаму[2]. Прафесар В. Абрамчанка падрыхтаваў больш за 40 дактароў і кандыдатаў медыцынскіх навук.

На ахове здароўя гараджанаў побач з медыкамі стаяць фармацэўты. Найбольш аўтарытэтны беларус-фармацэўт у сучасным Пецярбургу — **Леанід Герасімавіч Марчанка**. Нарадзіўся Леанід Марчанка 11 верасня 1941 г., калі родны Крычаў быў захоплены немцамі. Бацька яго ў гэты час быў у арміі (загінуў у сакавіку 1942 г. на Волхаўскім фронце). Крычаўскую школу імя К. Маркса Леанід закончыў у 1959 г., потым

[1] Памяти профессора Георгия Владимировича Селюжицкого // Гигиена и санитария. 2001. № 2. С. 80.

[2] *Абрамченко В. В., Гендель М. Г., Сикальчук О. И.* А. Я. Крассовский. Краснодар–СПб., 2002.

па наборы трапіў вучыцца ў Ленінградскае фармацэўтычнае вучылішча. Пасля заканчэння адслужыў у арміі і вярнуўся ў Ленінград. Скончыў Хіміка-фармацэўтычны інстытут, аспірантуру, абараніў дысертацыю. Працаваў намеснікам дэкана, дэканам фармацэўтычнага факультэта. Пасаду прарэктара па навучанні Санкт-Пецярбургскай дзяржаўнай хіміка-фармацэўтычнай акадэміі прафесар Марчанка атрымаў пасля заўчаснай смерці ў жніўні 1986 г. калегі і земляка ўраджэнца Любчы Мікалая Аляксандравіча Астапкевіча. Заслужаны работнік вышэйшай школы Леанід Марчанка ў родны Крычаў стараецца з'ездзіць кожны год. Прывучыў да гэтага і сына Аляксея — дацэнта ў той жа хіміка-фармацэўтычнай акадэміі.



*Іван Лебядзевіч*

Шлях з вёскі Скрабы Шчучынскага раёна на беразе Нявы для неўрапатолага **Івана Іванавіча Лебядзевіча** (нар. 13 чэрвеня 1951 г.) пралягаў праз Гродзенскі медыцынскі інстытут і службу ў якасці начальніка неўралагічнага аддзялення шпіталя ў Стрэльне. Пасля звальнення ў 1997 г. у запас палкоўнік Лебядзевіч працуе ў медыка-сацыяльнай экспертызе Санкт-Пецярбурга. Разам з жонкай Святланай Іванаўнай (яна і калега — урач-тэрапеўт, і зямлячка — з вёскі Сялец Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці) выгадавалі дваіх дзяцей — Дзмітрыя і Ірыну. Яшчэ адна пара пецярбургскіх медыкаўбеларусаў — палкоўнік клінічнага аддзелу ВМА **Аляксандр Малахавіч Андрэенка** (ён родам з Магілёўскай вобласці) і яго жонка Таіса Аляксандраўна (з Іўя).

Ленінградскі хіміка-фармацэўтычны інстытут — базавая ВНУ для фармацэўтаў. У 1961 г. сюды перавялася з Пяцігорска Людміла Шостак. Нарадзілася **Людміла Анатольеўна Шостак (Ткачова)** 14 кастрычніка 1948 г. у Веткаўскім раёне Гомельскай вобласці. У родных Свяцілавічах яна закончыла сярэднюю школу, потым два гады працавала швачкай у Свяцілавіцкім камбінаце бытавога абслугоўвання (рэалізацыя актуальнага на той час закліка генеральнага сакратара ЦК КПСС Мікіты Хрушчова да выпускнікоў школ: перш чым паступаць у ВНУ — два гады папрацуйце!). Хіміка-фармацэўтычны інстытут абрала з-за прагі працаваць у аптэцы, а Пяцігорск — бо там жылі сваякі. Але здарылася так, што трэцякурсніцай на канікулах у Ветцы сустрэла ленінградца — выйшла замуж і перавялася ў Ленінградскі хіміка-фармацэўтычны інстытут. Не толькі добра навучалася, але і займалася грамадскай працай, хоць па грамадскай лініі больш удала ішла яе аднакурсніца Валянціна Іванаўна Матвіенка (у будучым губернатар Санкт-Пецярбурга). З пачаткам перабудовы (у 1989 г.) дзеля пробы дазволілі дзвюм (з 225) аптэкам у горадзе перайсці на дагаворныя адносіны — і адной з іх кіравала Людміла Шостак. Гэта была ўжо аптэка № 137 на праспекце Гагарына, 42, у Маскоўскім раёне. З гонарам гаварыла яна ў адным з інтэрв'ю: «У часы дэфіцыту з бальніц і аптэчнага ўпраўлення ішлі да мяне са словамі: «Нават калі ў 137-й аптэцы няма патрэбных вам лекаў, іх вам там знойдуць, з-пад зямлі дастануць!». Ну, я і старалася. І дзеля рэпутацыі аптэкі, і дзеля іх саміх. На Гагарына, 42, у маім кабінеце сядзелі паэты, акцёры, палітыкі і рэжысёры: Сяргей Міхалкоў і Аркадзь Райкін, Агамірзян і Навасёлаў, Стржэльчык, Дземіч, Волкаў — той, што ў фільме «Моцныя духам» здымаўся. Ну як такім прыгажунам не дапамагчы! Хоць калі магу, я нікому не адмаўляюся дапамагчы...»[1]. Член Грамадскай рады Санкт-Пецярбурга, Людміла Шостак з уласцівай для яе энергіяй узялася за дапамогу калегам па цэху — старым фармацэўтам, ветэранам вайны і блакады. Знайшла магчымасці выдзяляць бясплатныя лекі для атрадаў міліцыі спецыяльнага прызначэння, што ад'язджалі ў Чачню, грашовую дапамогу для сем'яў тых, хто загінуў... Сын Людмілы Анатольеўны Андрэй стаў, як і маці, фармацэўтам, дырэк-

[1] И это есть мой идеал // Грани Петербурга. 2005. № 2. С. 4.

тарам аптэкі. Дачка Святлана (Інюціна), хоць і фармацэўт па спецыяльнасці, захапілася кулінарыяй, пайшла ў рэстаранны бізнес, сын Дзмітрый займаецца аўтамабілямі. Шкада было фармацэўту Людміле Шостак, калі любімая ўнучка Ліза абрала для паступлення не хіміка-фармацэўтычны, а дзяржуніверсітэт...

У сучаснай пецярбургскай фармацэўтыцы працуюць правізар **Данута Уладзіміраўна Сергіенка** з Поразава, загадчыкі аптэк **Галіна Ягораўна Дарашкевіч** з вёскі Запалочча Магілёўскага раёна, **Вольга Іосіфаўна Ражкова** з Лепеля, **Наталля Эдуардаўна Васілюк** з Хойнікаў Гомельскай вобласці...

Спецыяльнасць правізара-фармацэўта рэдкая і сярод армейскіх медыкаў. У свой час яна была нават дэфіцытнай, таму яшчэ студэнтам Віцебскага медыцынскага інстытута **Аляксандр Раманавіч Нагібовіч** (нар. 2 чэрвеня 1947 г. у Докшыцах) атрымаў запрашэнне пайсці на службу ва Узброеныя сілы. Даў згоду, служыў загадчыкам лабараторыі, якая даследавала якасць пастаўленых у армію лекаў Уральскай вайсковай акругі, потым начальнікам базы захоўвання дзяржаўнага рэзерву медпрэпаратаў і тэхнікі ў Забайкальскай ВА. Пасля навучання на камандным факультэце ВМА ў Ленінградзе ў 1980–1982 гг. атрымаў вышэйшую вайсковую адукацыю і быў накіраваны ў сістэму забеспячэння медыцынскай службы Прыбалтыйскай вайсковай акругі. У 1989 г. Аляксандр Нагібовіч стаў пецярбуржцам, працаваў начальнікам аддзела медыцынскага забеспячэння ВМА, а з 1990 г. намеснікам начальніка акадэміі. За 14 гадоў службы ў ВМА кандыдат фармацэўтычных навук дацэнт Нагібовіч забяспечваў акадэмію неабходнай медыцынскай апаратурай, вёў 4 аптэкі, гадоўлю паддоследных жывёл, быў членам Вучонага Савета акадэміі. Працягваючы традыцыі дарэвалюцыйных беларусаў-фармацэўтаў ВМА Паўла Гаранінава з Магілёва, Генрыха Кулакоўскага з Гродзеншчыны і ураджэнца Віцебскай губерні Іосіфа Забеліна, Аляксандр Нагібовіч чытае лекцыі па фармацэўтычных дысцыплінах — не толькі ў ВМА, але і ў цывільнай Хіміка-фармацэўтычнай акадэміі. Тым часам у сям'і Аляксандра Раманавіча (жонка Клаўдзія Рыгораўна — віцяблянка) выраслі два сыны. Старэйшы Алег — эндакрынолаг, працуе начальнікам аддзялення ў адной з клінік ВМА, доктар медыцынскіх навук. Малодшы Юрый — выпускнік Ленінградскага інстытута чыгуначнага транспарту, пасля заканчэння аспірантуры працуе з вылічальнай тэхнікай. Пасля нядоўгага перабывання на пасадзе намесніка старшыні гарадскога камітэта аховы здароўя (2004–2006) заслужаны работнік аховы здароўя РФ Аляксандр Нагібовіч перайшоў на працу ў адну з даччыных структур ВМА — Усерасійскі цэнтр экстраннай і радыяцыйнай медыцыны МНС Расіі на пасаду намесніка дырэктара па перспектыўным развіцці. Ордэн «Пашаны» і 22 медалі сталі дзяржаўнымі адзнакамі яго дасягненняў па службе.

Пасля выбуху ў Чарнобылі здароўе ўдзельнікаў ліквідацыі аварыі і насельніцтва, якое пражывала на забруджанай тэрыторыі, стала прадметам увагі многіх медыкаў. Найбольш прадстаўнічыя даследаванні зрабіў пецярбургскі медык-беларус прафесар Навіцкі: ён з брыгадай урачоў ВМА абследаваў стан здароўя 20 тысяч чалавек у Хойніцкім раёне і зрабіў парадаксальную на першы погляд выснову: найбольшая смяротнасць на вывучанай забруджанай тэрыторыі адбывалася ад сардэчна-сасудзістых хвароб, а непасрэдная шкода наступстваў радыяцыі — на чацвёртым месцы.

Прафесар **Альберт Аляксандравіч Навіцкі** нарадзіўся 7 лістапада 1934 г. у Любавічах Руднянскага раёна Смаленскай вобласці. Бацькі — настаўнікі — паходзілі з Азарычаў Калінкавіцкага раёна. Дзед — георгіеўскі кавалер — быў у Азарычах спадчынным старастам (да рэвалюцыі) і старшынёй сельсавета (пры саветах, пакуль не рэпрэсавалі). У вайну Альберта Аляксандравіча і яго меншага брата Віктара захавала маці, туляючыся па акупаваных немцамі Смаленшчыне і Гомельшчыне. Пасля вайны паспяхова скончыў сярэднюю школу і ў Мазыры (на той час цэнтры Палескай вобласці) быў узнагароджаны граматай за ўдзел у мастацкай самадзейнасці. Думаў пра прафесію артыста (нават пасылалі ў тэатральны інстытут), але паступаць паехаў на доктара. Закончыўшы ў 1959 г. з залатым медалём Ваенна-медыцынскую акадэмію, Альберт Навіцкі атрымаў разнастайную клінічную падрыхтоўку пад кіраўніцтвам тэрапеўтаў акадэміка М. С. Малчанава і прафесара З. М. Валынскага, кандыдацкую дысертацыю прысвяціў вывучэнню біясінтэзу халестэрыну на розных стадыях развіцця атэрасклерозу, чым абгрунтаваў шэраг сучасных падыходаў да лячэння гэтага распаўсюджанага паражэння сардэчна-сасудзістай сістэмы. Доўгі час працаваў у Куйбышаве, у 1982 г. вярнуўся ў Ленінград, стварыў у ВМА навукова-даследчую лабараторыю баявой тэрапеўтычнай траўмы. На працягу 1983–1988 гг. служыў у Афганістане, кіраваў даследаваннямі па вы-

вучэнні зменаў у арганізме чалавека ў экстрэмальных экалагічных умовах. Альберт Аляксандравіч сфармуляваў і абгрунтаваў фундаментальную канцэпцыю сіндрому хранічнага адаптыўнага перанапружання, раскрыў механізмы яго ўзнікнення, распрацаваў навуковыя кірункі яго карэкцыі. За праведзеную працу ўзнагароджаны шасцю савецкімі і афганскімі ордэнамі. Цяпер ён віцэ-прэзідэнт Міжнароднага навуковага інстытута медыка-радыяцыйных праблем, галоўны ўрач Аздараўляльна-прафілактычнага медыцынскага цэнтра ў Санкт-Пецярбургу, акадэмік Міжнароднай акадэміі навук экалогіі і бяспекі жыццядзейнасці чалавека і прыроды, член-карэспандэнт Санкт-Пецярбургскай інжынернай акадэміі. Абедзве дачкі-блізняткі Альберта Аляксандравіча Аляксандра і Таццяна сталі медыкамі. Па слядах старэйшага брата ў Ленінград паехаў навучацца малодшы — **Віктар Аляксандравіч Навіцкі** (1941–2002). Пасля выдатнага навучання і службы ў розных вайсковых медыцынскіх падраздзяленнях Віктар Аляксандравіч заняў высокую пасаду начальніка кафедры агульнай тэрапіі № 2. Тэрапеўтам стаў сын — Андрэй Віктаравіч Навіцкі, кандыдат медыцынскіх навук.



*Альберт Навіцкі*

У гады перабудовы шмат людзей пайшлі пакручастымі сцежкамі, і часам новы шлях аказваўся вызначальным. Напрыклад, у галіне сеткавага маркетынгу біялагічных дабавак да харчовых прэпаратаў нечакана для сябе апынулася **Ганна Зянонаўна Навасельцава (Бурачэўская)**. Нарадзілася яна 10 верасня 1966 г. у вёсцы Гінеўцы Ашмянскага раёна, тут жа скончыла васьмігодку. Сярэдняя школа № 2 у Ашмянах пакінула цяжкі ўспамін: працавітасці вясковай дзяўчыны гарадскія настаўнікі нібыта не заўважалі. У 1983 г. Аня накіравалася, плачучы ад нежадання пакінуць радзіму і страху перад невядомым, да цёткі ў Ленінград. Каб атрымаць прапіску па рабочай квоце (а іншага шляху не было) скончыла вучылішча грамадскага харчавання і паступіла рабочай у сталоўку Ленінградскага электратэхнічнага інстытута. Не пакідаючы працы завочна вучылася ў Інстытуце савецкага гандлю. Першым жыццёвым поспехам стаў асобны (хай і службовы) пакой, які атрымала ў 1991 г. Наступны, 1992 год стаў знамянальны дзвюма падзеямі: скончыла інстытут і выйшла замуж за выпускніка ЛЭТІ Дзмітрыя Навасельцава. Праз год нарадзілася дачка Каця, а з 1995 г. Ганна Навасельцава пачала працаваць менеджэрам ва ўсходнееўрапейскім філіяле фірмы «Enrich international». Прадукты гэтай фірмы — важная дабаўка да харчавання тысяч людзей па ўсім свеце. Яны спрыяюць збалансаванасці мікраэлементаў, бялкоў і вугляводаў, дапамагаюць арганізму змагацца з хваробамі. Напружаная праца прынесла дабрабыт — з'явіліся свая дача, кватэра. Аднак малодшыя дзеці — Алёша і Саша — ужо не вывозіліся на цэлае лета да бабулі ў Беларусь, яны і прыроду адчуваюць інакш,



*Ганна Навасельцава*

чым старэйшая Каця. Ганна Зянонаўна шкадуе аб гэтым...

Ураджэнец вёскі Балотчыцы Слуцкага павета **Антон Алешка** (1913–1971) скончыў Ваенна-медыцынскую акадэмію ў Ленінградзе ў 1941 г., прайшоў вайну, пасля служыў урачом у Ваенна-паветраных сілах СССР. Рамантыка захапіла яго і прымусіла да напісання кніг, але гэта была не рамантыка лекарскай працы — Антон Алешка пісаў кнігі пра лётчыкаў. У Мінску ў 1957 г. выйшла аповесць «Іх першых вітае сонца», потым былі «Дарогі без слядоў» (Мінск, 1969) і «Неба на замку» (Мінск, 1974). А вось **Рыгора Іванавіча Улейчыка** (19.11.1934–2007) з вёскі Масаляны Бераставіцкага раёна Гродзенскай вобласці ВМА скіравала ў ваенна-марскую стыхію: пасля заканчэння акадэміі ён служыў урачом на надводных караблях розных тыпаў: тральшчыках, дэсантных і ракетных. У канцы 1970-х гг. выконваў абавязкі старшага памочніка начальніка медыцынскай службы Талінскай ваенна-медыцынскай базы. Пазней вярнуўся у родную акадэмію начальнікам IV факультэта, выкладаў на кафедры арганізацыі і тактыкі медыцынскай службы флоту. Пасля звальнення ў запас прызначаны загадчыкам санаторна-курортнага аддзялення клінічнага аддзела ВМА. Сын Рыгора Улейчыка — **Сяргей Рыгоравіч Улейчык** пайшоў па шляху бацькі. Ён кандыдат медыцынскіх навук, старшы выкладчык кафедры прапедэўтыкі ўнутраных хвароб ВМА.



*Грыгорый Улейчык*

Хірург-віртуоз член Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Пецярбургу **Міхаіл Змітравіч Ханевіч** нарадзіўся 20 снежня 1954 г. у вёсцы Купіцк Наваградскага раёна. Закончыў Купіцкую васьмігодку і Слонімскае медыцынскае вучылішча (1974). Працаваў фельчарам у вёсцы Дзяляцічы. У 1981 г. закончыў Ваенна-медыцынскую акадэмію ў Ленінградзе. Служыў урачом у Паўднёвай групе савецкіх войскаў. У 1984–1987 гг. — ад'юнкт пры кафедры хірургіі ўдасканалення ўрачоў ВМА, пад кіраўніцтвам прафесара І. Ярухіна. У 1988 г. абараніў дысертацыю «Даследаванне патагенезу эндатаксікозу пры пeратаніце». Прайшоў шлях ад старшага ардынатара да намесніка начальніка кафедры хірургіі ВМА. У 1993 г. абараніў доктарскую дысертацыю, прысвечаную лячэнню кішэчнай непраходнасці, і адразу атрымаў званне прафесара. З 1995 г. Міхась Ханевіч галоўны хірург клінічнай бальніцы № 20 Санкт-Пецярбурга, на гэтай базе ён стварыў у 1997 г. адзіны ў Расіі цэнтр рэканструкцыйна-ўзнаўляльнай хірургіі кішэчніка.

Сярод выратаваных М. Ханевічам пацыентаў — акадэмік Дзмітрый Ліхачоў. Урач 20-й бальніцы Іна Васільеўна Махнач расказвае, што хірург Ханевіч дапамог Ліхачову тым... што правільнай дыягностыкай адмовіў яму ў аперацыі. Гэты выпадак увайшоў у аналы савецкай медыцыны. Акадэмік пажаліўся на болі ў кішэчніку лекару сваёй акадэмічнай палiклінікі. Зрабілі рэнтген, які паказаў непраходнасць кішэчніку. Кансіліум дактароў на падставе рэнтгенаграмы прызнаў неабходнасць аперацыі. Дзмітрый Сяргеевіч Ліхачоў быў асобай ў 1990-я гг. вельмі папулярнай, пачалі абмяркоўваць, дзе рабіць аперацыю: везці ў Маскву ў «Крамлёўку» ці да замежных свяцілаў. Іна Васільеўна, якая сябравала з жонкай Ліхачова, параіла пачакаць і праканcультавацца з Міхаілам Змітравічам. Ханевіч пагаварыў з хворым, уважліва разглядаў рэнтгенаўскія здымкі, бязлітасна згібаў і разгібаў акадэміка сваімі магутнымі рукамі. Пазваніў у паліклініку АН, дзе рабілі рэнтген. «Па звычайнай тэхналогіі, — адказалі яму, — актыўнае рэчыва падмяшалі ў грэчневую кашу і праз некалькі гадзін зрабілі здымак». «Дык паспрабуйце яшчэ раз, але кашу зрабіце рэдзенькую. Ёсць у мяне вялікае сумненне ў тым, што пацыент хворы — проста сухая каша сабралася ўся ў вузкім месцы кішкі і на здымку дала падабенства пухліны!» Рэнтген паўтарылі, вынік быў такі, як прадказваў Міхась Ханевіч. Акадэмік Ліхачоў замест падарожжа ў аперацыйную прымаў удзел у пра-

цы апошняга савецкага / першага расійскага органа кіравання. Сваёй інтэлігентнасцю і мудрасцю ён шмат дапамог усталяванню новага стылю працы ўлады.



*Міхась Ханевіч*

Заслужаны ўрач Расіі з 2003 г., Міхаіл Ханевіч уваходзіць у склад праблемнай камісіі Акадэміі медыцынскіх навук Расіі па раздзеле «колапракталогія». Ён аўтар звыш 300 навуковых публікацый, у тым ліку 15 манаграфій і падручніка па хірургіі. У 2000 г. яго перавялі ў Маскву начальнікам кафедры ваенна-палявой (ваенна-марской) хірургіі Дзяржаўнага інстытута ўдасканалення ўрачоў Міністэрства абароны. Пад кіраўніцтвам Міхаіла Змітравіча былі абаронены 7 доктарскіх і 25 кандыдацкіх дысертацый. А ў 2005 г. Міхась Ханевіч дэмабілізаваўся і вярнуўся ў горад над Нявой на пасаду галоўнага хірурга Санкт-Пецярбургскага гарадскога анкалагічнага цэнтра. Вярнуўся акадэмікам Расійскай акадэміі прыродазнаўчых навук, лаўрэатам сярэбранага медаля І. Мечнікава «За ўклад у здароўе нацыі». Дачка Саша, якую Міхаіл Змітравіч яшчэ школьніцай браў на пасяджэнні суполкі, стала кандыдатам эканамічных навук, працуе ў мэрыі Санкт-Пецярбурга.

Да высокай пасады прарэктара па навуцы Ленінградскага інстытута ўдасканальвання ўрачоў даслужыўся выхадзец з сям'і беларускіх сялян **Мікалай Мікалаевіч Гурын**. Нарадзіўся ў вёсцы Цімошкавічы Карэліцкага раёна. З 1937 г. да пачатку Другой сусветнай вайны вучыўся ў Машэвіцкай пачатковай школе. Навучанне ўдалося працягнуць толькі пасля вызвалення Беларусі ад фашыстаў. Сямігодку закончыў у Смольчыцах (1945), а потым, з залатым медалём, беларускую сярэднюю школу ў Наваградку (1949). Атрыманыя ў Наваградку веды дазволілі паступіць ў прэстыжную Ваенна-марскую медыцынскую акадэмію ў Ленінградзе, а родная беларуская мова ніколі не была цяжарам ці перашкодай для навукі. Выпускнік 1955 г., Мікалай Гурын служыў урачом на эскадраным мінаносцы «Беспощадный» Чарнаморскага флоту, пазней вучыўся ў ардынатуры, працаваў начальнікам лазарэта і станцыі пералівання крыві ў Запаляр'і. З 1969 г. ён з жонкай Вольгай Піліпаўнай, таксама наваградчанкай, жыве і працуе ў Санкт-Пецярбургу. Быў ардынатарам і выкладчыкам кафедры ваенна-марской і шпітальнай хірургіі Ваенна-медыцынскай акадэміі. З 1978 г. кандыдат медыцынскіх навук палкоўнік Мікалай Гурын працаваў у Афганістане галоўным хірургам Цэнтральнага ваеннага шпіталя Афганскай арміі ў Кабуле. Ва ўспамінах, якія ён надрукаваў у 2003 г., падрабязна апісаны падзеі аднаго толькі дня — 27 снежня 1979 г., пачатку савецкай ваеннай інтэрвенцыі. Група маскоўскага спецназа «Альфа» тады штурмавала палац Хафізулы Аміна, а Мікалай Гурын знаходзіўся ўнутры гэтага палаца; пашанцавала выжыць[1]. З 1982 г. ён працуе ў Ленінградскай, пазней Санкт-Пецярбургскай медыцынскай акадэміі паслядыпломнай адукацыі загадчыкам кафедры марской і падводнай медыцыны. Вывучэнне агнястрэльных ран шматлікіх ахвяр афганскай вайны дало матэрыял для абароны доктарскай дысертацыі. Мікалай Мікалаевіч напісаў звыш 170 навуковых артыкулаў,



*Мікалай Гурын*

[1] *Гурин Н. Н.* 27 декабря 1979 года // Воспоминания выпускников Военно-Морской Медицинской Академии 1955 года. СПб., 2003. С. 39—52.

прысвечаных праблемам неадкладнай і рэканструкцыйнай хірургіі. Таксама быў сааўтарам і галоўным рэдактарам такіх фундаментальных прац, як «Ваенна-палявая хірургія» (Кабул, 1980, на мове фарсі), «Марская медыцына» (Л., 1989), «Агульная ўрачэбная практыка» (СПб., 1996. Т. 1—2). Даўні член Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Пецярбургу, ён удзельнічаў у падрыхтоўцы тэлеперадачы да святкавання 200-гадовага юбілея Адама Міцкевіча: расказаў, як навагрудская беларуская школа, дзе ён вучыўся, у 1949 г. рыхтавала і праводзіла 150-гадовы юбілей свайго славутага земляка.

Пасля заканчэння СШ № 6 г. Слоніма і Слонімскага медыцынскага вучылішча **Мікалай Уладзіміравіч Рэмез** (нар. 17 студзеня 1951 г. у в. Пруд Слонімскага раёна) адслужыў тэрміновую службу ў Беларускай ваеннай акрузе. Адтуль паступіў на марскі факультэт ВМА ў Ленінградзе, потым на Ціхаакіянскі флот. «Удзельнік падраздзялення асаблівай рызыкі» — гэты штамп у дакументах значыць, што на атамнай лодцы, калі служыў там Мікалай Рэмез, была аварыя. Выжыў, вярнуўся ў Ленінград у 1985 г., каб закончыць камандны факультэт ВМА і застацца выкладчыкам на кафедры арганізацыі і тактыкі медыцыны флоту. Пасля дэмабілізацыі ў 1998 г. працаваў галоўным урачом бальніцы «Пасажыраўтатрансу». Цяпер кандыдат медыцынскіх навук Мікалай Рэмез працуе з моладдзю. Ён намеснік дырэктара Медыка-тэхнічнага каледжа Міністэрства аховы здароўя РФ.

Адным з лідэраў пецярбургскай навуковай і практычнай хірургіі ў 1980—2009 гг. з'яўляецца **Уладзімір Фёдаравіч Озераў**. Нарадзіўся ён 13 лютага 1935 г. у вёсцы Емяльянчыкі Дзісненскага павета Віленскага ваяводства (цяпер Шаркаўшчынскі раён Віцебскай вобласці). Пасля сярэдняй школы паступіў у Ленінградскі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту, потым вучыўся ў Ваенным пажарна-тэхнічным вучылішчы, а мару стаць хірургам ажыццявіў, адвучыўшыся ў 1960—1966 гг. на факультэце падрыхтоўкі ўрачоў для Ваенна-марскога флоту ВМА. Плаваў урачом на акіянаграфічным караблі «Мікалай Зубаў», чатыры разы ў доўгатэрміновых дальніх паходах. У 1968 г. прымаў удзел у групе караблей забеспячэння пускаў «Зонда-5» і «Зонда-6» у Індыйскім акіяне, аперыраваў у моры, праводзіў прафілактычныя мерапрыемствы пры заходзе ў порты з неспрыяльнай эпідэміялагічнай абстаноўкай (Бамбей, Порт-Луі і інш.). З



*Уладзімір Озераў*

1969 г. Уладзімір Фёдаравіч навучаўся ў клінічнай ардынатуры кафедры ваенна-марской і шпітальнай хірургіі Ваенна-медыцынскай акадэміі, потым працаваў там на кафедры: старшы ардынатар, выкладчык, старшы выкладчык, намеснік начальніка клінікі па лячэбнай працы, намеснік загадчыка кафедры. Абараніў кандыдацкую і доктарскую дысертацыі. Пасля звальнення (1991) з Узброеных сіл СССР палкоўнік у адстаўцы прафесар Озераў працаваў загадчыкам аддзела хірургіі ў гарадскім дыягнастычным і кансультацыйным цэнтры № 1 на вуліцы Сікейраса, 10, потым хірургам у шпіталі хуткай дапамогі імя Джанелідзе. Заслужаны ўрач РФ Уладзімір Озераў аўтар звыш 220 навуковых прац і 20 рацыяналізатарскіх прапаноў, прысвечаных пытанням клінічнай і ваенна-марской хірургіі. Ён адказны сакратар каардынацыйнага савета па экстранай медыцынскай дапамозе і член атэстацыйнай камісіі для ўрачэй хуткай дапамогі Пецярбурга, член хірургічнага таварыства імя М. Пірагова і асацыяцыі хірургаў горада. Уладзімір Озераў таксама актыўны прыхаджанін праваслаўнага сабора Уладзімірскай Божай Маці. Для многіх курсантаў Ваенна-медыцынскай акадэміі шлях у хірургію пачынаўся з лекцый прафесара Озерава, прынамсі для ўраджэнца Міншчыны **Мікалая Мікалаевіча Лебедзева**, пазней доктара медыцынскіх навук, прафесара і дырэктара маскоўскай паліклінікі «Газпрома».

Шмат каму з пецярбуржцаў выратавалі зрок ад катаракты на вуліцы Яраслава Гашака, 21 — у клініцы «Мікрахірургія вока імя С. Фёдарава». З 1987 г. тут працуе намеснікам дырэктара па хірургіі, а пазней дырэктарам **Леанід Іосіфавіч Балашэвіч**. Нарадзіўся 6 лютага 1937 г. у Рагачове, але неўзабаве бацькоў (абодва аграномы) перавялі пад Мінск, у Заслаўе. Другая сусветная вайна раскідала сям'ю па розных кутах Беларусі. Пасля вайны Балашэвічы сабраліся ў Рудзенску. Тут Леанід скончыў сярэднюю школу, адсюль паступіў у Ваенна-медыцынскую марскую акадэмію. Служыў на атамных лодках на Камчатцы, у шпіталях на Ціхаакіянскім і Паўночным флатах. У 1974 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю, выкладаў у ВМА. Выканаў больш за 3 тысячы аперацый на воку. Цяпер доктар медыцынскіх навук прафесар Леанід Балашэвіч загадвае кафедрай афтальмалогіі Санкт-Пецярбургскай медыцынскай акадэміі паслядыпломнай адукацыі, ён правадзейны член Лазернай акадэміі навук РФ, Міжнароднай акадэміі інфарматызацыі, акадэмік Расійскай акадэміі прыродазнаўчых навук. Леанід Іосіфавіч напісаў звыш 180 навуковых артыкулаў, дзве манаграфіі, шэраг падручнікаў. Ён прымаў удзел у стварэнні першых расійскіх аргонавага і паўправадніковага лазераў, але ў сталыя гады працуе з амерыканскімі медыцынскімі лазерамі, якія распрацавала фірма «Carl Zeiss Meditec». Член вялікай чытацкай рады Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі Леанід Балашэвіч ганарыцца, што больш за 20 гадоў быў лечачым урачом акадэміка Д. Ліхачова, мае ад яго кнігі з аўтографамі.



*Леанід Балашэвіч*



*Міхаіл Захарчанка*

**Міхаіл Пятровіч Захарчанка** нарадзіўся 24 студзеня 1950 г. у мястэчку Скароднае Ельскага раёна. Сярэднюю школу ён закончыў у Гомелі, потым 4 гады навучаўся ў Віцебскім медыцынскім інстытуце, а закончыў адукацыю на ваенна-медыцынскім факультэце ў Куйбышаве. Працаваў Міхаіл Захарчанка ад'юнктам, выкладчыкам, начальнікам вучэбнай часці кафедры агульнай і ваеннай гігіены ВМА (1976–1990). Вучоную ступень кандыдата медыцынскіх навук атрымаў за распрацоўку спецыяльнай тэмы ў 1979 г., доктарскую абараніў таксама па спецыяльнай тэме ў 1987 г. Прафесар Міхаіл Захарчанка ўдзельнік ваенных дзеянняў у Афганістане (1984), узнагароджаны медалём урада Афганістана. Праз два гады прафесія кінула яго ў іншую гарачую кропку — на работы па ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. За працы ў Чарнобылі ўзнагароджаны ордэнам Мужнасці. Пасля выхаду ў запас (1990) палкоўнік Захарчанка працуе загадчыкам кафедры Санкт-Пецярбургскай дзяржаўнай медыцынскай акадэміі імя І. Мечнікава. З 2002 г. Міхаіл Пятровіч — дырэктар Санкт-Пецярбургскага інстытута экалогіі і здароўя, член доктарскіх саветаў ВМА і Медыцынскай акадэміі імя І. Мечнікава, акадэмік міжнароднай акадэміі навук экалогіі, бяспекі чалавека і прыроды, акадэмік Пятроўскай акадэміі навук і мастацтваў. Выдатныя арганізацыйныя здольнасці

Міхаіла Захарчанкі зрабілі яго арганізатарам некалькіх вялікіх міжнародных канферэнцый па актуальнай медыцынскай праблематыцы, ён стаў арганізатам спецыяльнага часопіса «Донозология», які прысвечаны пытанням прадаўжэння жыцця чалавека. Сыны Міхаіла Пятровіча — Валянцін і Міхаіл — кандыдаты медыцынскіх навук, абодва закончылі на выдатна Ваенна-медыцынскую акадэмію.

Яшчэ адным ліквідатарам аварыі на Чарнобыльскай АЭС у 1987 г. быў палкоўнік **Анатоль Фёдаравіч Шулькін** (нар. 12 студзеня 1947 г. у в. Сафонаўка Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці), які і пасля звальнення з арміі выкладаў у Санітарна-гігіенічным інстытуце і Ваенна-медыцынскай акадэміі. Добраахвотнікам паехаў у Чарнобыль **Ігар Стэфанавіч Фігурын** (нар. 29 кастрычніка 1954 г.), патомны ўрач, якога выхоўвала бабуля Ганна Уладзіславаўна, магіляўчанка. Да гэтага ён паспеў паслужыць начальнікам медыцынскай службы падводнай лодкі, удзельнічаў у трох дальніх паходах, перажыў падводны пажар... У 1989 г. Ігар Фігурын бліскуча абараніў дысертацыю, працаваў начальнікам клінікі фтызіятрыі ВМА, начальнікам цэнтральнай палiклінікі ВМА. Арганізацыйныя здольнасці і грунтоўная навуковая падрыхтоўка дапамаглі палкоўніку Ігару Фігурыну пасля звальнення з вайсковай службы пры стварэнні Міжрэгіянальнага грамадскага супрацьтуберкулёзнага фонду «Грэмфіс», у час працы галоўным урачом Гарадской бальніцы № 32, а пазней — галоўным урачом адной з лепшых бальніц Пецярбурга № 2, што ў Азярках. Як галоўны ўрач Ігар Стэфанавіч арганізаваў серыю аперацый па перасадцы органаў, сярод якіх была першая ў Расіі эфектыўная перасадка лёгкіх, распачаў будаўніцтва на тэрыторыі бальніцы царквы імя Св. спаведніка Лукі (хірурга Войны-Ясінецкага).

Частка людзей з тых, хто атрымалі медыцынскія дымломы, адышла ад медыцыны ў сумежныя спецыяльнасці. Напрыклад, ураджэнец Пінска **Мікалай Насановіч**. Пасля заканчэння ВМА ён па размеркаванні накіраваны ў Забайкальскую акругу (была і інтрыга ў тым нечаканым размеркаванні), пачаў кансультацыі з адвакатамі, і яго, як ураджэнца іншай дзяржавы — Беларусі, звольнілі з узброеных сіл РФ. Застаўся ў Пецярбургу, ужо «на гражданцы» абараніў кандыдацкую дысертацыю па медыцыне, атрымаў яшчэ



*Ігар Фігурын*

адну — юрыдычную — адукацыю і паспяхова працуе ў галіне медыцынскага страхавання.

Некалькі біяграфій нашых сучаснікаў — гэта далёка не ўвесь сучасны медыцынскі «беларускі Пецярбург». У ім яшчэ застаюцца начальнік шпіталя ветэранаў вайны **Яўген Маркавіч Агіенка**, начальнік упраўлення ў Камітэце па ахове здароўя **Аляксандр Дарафеевіч Станкевіч**, галоўны гастраэнтэролаг Міністэрства абароны **Уладзімір Барысавіч Грыневіч** родам з Міншчыны, выпускнік Слонімскага медыцынскага вучылішча **Міхаіл Анатольевіч Патлаты**, які больш за 10 гадоў узначальваў шпіталь пагранічных войскаў у Сестрарэцку, хірург-стаматолаг **Аляксандр Мечыслававіч Кавалеўскі**, **Валянцін Віктаравіч Роўба** з Ліды, ураджэнец Сапоцкіна **Жорж Вікенцьевіч Контр**, доктар медыцынскіх навук прафесар **Дзмітрый Бутко**, урач-афтальмолаг **Інна Андрэеўна Мядзведзева** з Мазыра, загадчык хірургічнага кабінету клінікі чэлесна-ліцэвой хірургіі ВМА **Георгій Сцяпанавіч Чэпік**, ён жа член Саюза пісьменнікаў і Саюза журналістаў Расіі, і шмат, шмат іншых...

# Раздзел 17.

## МЕСТА, ДЗЕ МОРА ЗЛУЧАЕЦЦА З НЕБАМ

### Пецярбургскія авіятары

Летам 1910 г. на Каменданцкім полі паблізу станцыі Скачкі Сестрарэцкай чыгункі быў пабудаваны першы ў Пецярбургу аэрадром, а на працягу амаль усяго жніўня 1910 г. тут адбывалася ўсерасійскае свята паветраплавання. Паглядзець рукатворных птушак на аэрадром з горада прыязджаў натоўп народу — да 180 тысяч чалавек. Адной з важных падзей гэтага свята стаў пералёт ураджэнца Віцебскай губерні лётчыка Г. Піятроўскага з Каменданцкага аэрадрома ў Кранштат. Газеты адзначалі, што гэты пералёт увайшоў у гісторыю не толькі расійскай, але і сусветнай авіяцыі, бо адлегласць паміж Пецярбургам і Кранштатам большая, чым шырыня Ла-Манша паміж Кале і Дуўрам, дзе выканаў свой славуты пералёт Луі Берыо. Сам лейтэнант Піятроўскі вельмі вобразна расказаў карэспандэнтам пра пасадку: «Даляцеў да Кранштата, але не ведаю, дзе зрабіць спуск — паўсюль тэлеграфныя слупы з дратамі. Пакруціўся, паглядзеў і ўбачыў шырокую плошчу каля казармаў. Спыніў матор і ледзь не па прамой лініі кінуўся на сваім аэраплане ўніз. Спусціўся паспяхова»[1]. Цікавы і складаны лёс у аднаго з першых расійскіх авіятараў **Уладзіміра Іванавіча Стрыжэўскага**. Нарадзіўся ён 26 студзеня 1894 г. у шляхецкай сям'і ў Магілёўскай губерні. Пасля сканчэння Пецярбургскага політэхнічнага інстытута добраахвотнікам пайшоў у 1914 г. на фронт, быў накіраваны на афіцэрскія курсы авіяцыі, а пасля ў Гатчынскую авіяшколу. У чэрвені 1915 г. Уладзіміру Стрыжэўскаму было прысвоена званне ваеннага лётчыка. Да канца 1915 г. ён паспеў зрабіць 43 баявыя вылеты, налятаўшы 65 гадзін 44 хвіліны, а да 1917 г. збіў сем варожых аэрапланаў і атрымаў Георгіеўскі крыж усіх ступеняў. Ужо згаданы паэт-самавук Мікалай Марозік з беларускай вёскі Лаўрышава так пісаў пра аэрапланы ў вершы «О Браняхъ и Войнахъ» (1915):

> ... мы дожили до такого века,
> Что не только бьютъ на море и на суше,
> Но бьютъ и съ воздуха въ самыя уши.
> То-есть и съ аэроплановъ стреляютъ,
> И еще как метко целяютъ.
> Значит, и на воздухе бывает война,
> Ибо обучена этому каждая страна.



*Самалёт сістэмы Блерыо, 1910 г.*

Уладзімір Стрыжэўскі разам з белай арміяй эміграваў у Югаславію, дзе стаў адным з самых вядомых лётчыкаў і стваральнікаў грамадзянскай авіяцыі гэтай краіны. Акрамя У. Стрыжэўскага і Г. Піятроўскага сярод першых расійскіх лётчыкаў былі георгіеўскі кавалер А. М. Касценчык родам са Стоўбцаў[2], поўны георгіеўскі кавалер С. А. Наздроўскі з Крычава[3]. Большасць з іх атрымалі падрыхтоўку ў Гатчынскай ваеннай авіяцыйнай школе, дзе інструктарам для ваенных лётчыкаў служыў **Леанід Андрэевіч Дацкевіч**. Нарадзіўся ён у Віцебскай губерні, скончыў Віленскае рэальнае вучылішча, Кіеўскае ваеннае вучылішча па першым разрадзе, а з 1 красавіка 1911 г. быў залічаны ў авіяцыйнае аддзяленне Афіцэрскай паветраплавальнай школы ў Гатчыне. У 1913 г. Леанід Дацкевіч вытрымаў экзамен на званне ваеннага лётчыка, а з верасня 1914 г. прызначаны камандзірам самалёта «Ілля Мурамец» № 4. Ваяваў на франтах Першай сусветнай вайны, за службу ўзнагароджаны ордэнамі Св. Ганны і Св. Станіслава. У маі 1915 г. капітан Дацкевіч быў адкамандзіраваны з дзейнай арміі ў Ваенную авіяцыйную школу і прызначаны кіраўніком практычных заняткаў і навучання палётам на Карпусным аэрадроме. Сярод яго вучняў Пётр Несцераў — лётчык, які першым выканаў «мёртвую пятлю» і зрабіў у паветры таран варожага аэраплана. Авіятары-беларусы ўдзельнічалі ў бальшавіцкім руху. Як мы ўжо

---

[1] *Король В. В.* Крылья Петербурга. СПб., 2001. С. 86.

[2] *Король В.* Командир «Ильи Муромца» // На страже родины . 1989. 14 нояб. С. 4.

[3] Аўтар дзякуе за гэтую інфармацыю гісторыку авіяцыі Уладзіміру Каралю.

згадвалі, старшынёй Белнацкама ў Петраградзе быў прызначаны падпаручнік камандзір паветраплавальнай роты **Рыгор Каўшыла**. Пра станаўленне расійскай авіяцыі, пра лётную службу і навучанне на карпусным аэрадроме ў Пецярбургу і ў Лясным, на тэарэтычных курсах Політэхнічнага інстытута для авіятараў, пра сваю гутарку з У. Леніным у Смольным расказаў у мемуарах выпускнік Мінскай гімназіі лётчык А. К. Туманскі[1].




*Леанід Сланеўскі*

Не спыняецца праца лётчыкаў і авіяінжынераў-беларусаў у пецярбургскай авіяцыі і ў нашы дні. У 1964 г. пасля заканчэння Крыварожскага авіявучылішча ў Ленінградскі аб'яднаны авіяатрад (аэрапорт) быў накіраваны **Леанід Ігнатавіч Сланеўскі**. Нарадзіўся Леанід Сланеўскі ў Гродне, у сям'і настаўнікаў: маці яго скончыла Віленскі універсітэт імя Стэафана Баторыя, бацька — Карлаў універсітэт у Празе. Нарадзіўся на трэці дзень вайны — 24 чэрвеня 1941 г. У 1948 г. пайшоў у наваградскую СШ № 1, потым тры гады вучыўся ў суседніх з Наваградкам Нягневічах. Леанід Ігнатавіч успамінае, што дырэктарам Нягневіцкай школы на той час быў Мінкевіч, будучы міністр адукацыі БССР. Бацькі Леаніда Сланеўскага — інтэлігенты з «буржуазна-нацыяналістычнай» адукацыяй вымушаны былі ў 1952 г. пераехаць у Літоўскую ССР у Эйшышкі (у Наваградку і Гродне адукаваных беларусаў баяліся і цкавалі). Працаваў Леанід Сланеўскі авіятэхнікам, а пасля сканчэння ў 1972 г. Ваенна-механічнага інстытута па спецыяльнасці «радыёэлектроніка» — інжынерам. У 1985 г. заняў высокую пасаду зменнага намесніка начальніка аэрапорта «Пулкава». Выдатнік «Аэрафлота» і Балгарскай грамадзянскай авіяцыі, ганаровы работнік транспарту РФ, ён дасёння працуе ў авіяцыі. Адзін з яго шматлікіх абавязкаў — ганаровы: у час свайго дзяжурства генерал Леанід Сланеўскі асабіста сустракае і праводзіць рэйсы, якімі ляцяць кіраўнікі Пецярбурга і Расіі.

Выхадзец з Магілёўшчыны **Уладзімір Васільевіч Кароль** звязаў сваё жыццё спачатку з ваеннай авіяцыяй, а пазней — з авіяпрадпрыемствам «Пулкава». Нарадзіўся ён 20 сакавіка 1935 г. у вёсцы Макаўка Бялыніцкага раёна, скончыў Запольскую сярэднюю школу, а пазней — вучылішча спецслужбаў Грамадзянскага паветранага флоту СССР у горадзе Крывы Рог. У 1960 г. прыехаў у Ленінград і з таго часу працуе на авіяпрадпрыемстве «Пулкава» інжынерам, потым тэхнікам. Такое «паніжэнне» статусу тлумачылася тым, што ў часы будаўніцтва «развітога сацыялізму» рабочы (у дадзенай сітуацыі тэхнік) атрымліваў заўважна большую зарплату ў параўнанні з ІТРам (інжынерна-тэхнічным работнікам). З 1960-х гг. Уладзімір Кароль пачаў пісаць у насценгазету аэрапорта Пулкава «Авіятар». Захапленне гісторыяй авіяцыі прымусіла яго без адрыву ад вытворчасці скончыць гістарычны факультэт Ленінградскага універсітэта, а пазней, у канцы 1970-х, Універсітэт рабочых карэспандэнтаў пры Доме журналістаў на Неўскім. Першыя друкаваныя публікацыі Уладзіміра Васільевіча з'явіліся ў часопісах «Нява», «Крылы Радзімы», «Грамадзянская авіяцыя». Галоўная тэма даследавання — гісторыя авіяцыі. У 1995—2002 гг. выйшлі кнігі Уладзіміра Караля «У небе Расіі», «Паветраная гавань Пецярбурга» (два выданні) і тры выданні кнігі «Крылы Пецярбурга». Ён прымае актыўны ўдзел у стварэнні музея авіяпрадпрыемства «Пулкава», стаў ініцыятарам адкрыцця мемарыяльных дошак да гадавіны лётчыка П. Несцерава і 100-годдзя



*Уладзімір Кароль*

[1] *Туманский А. К.* Полёт сквозь годы. М., 1962.

паветраплавання ў Расіі. Гісторыі паўночна-заходняга навучальна-трэніровачнага цэнтра грамадзянскай авіяцыі Расіі Уладзімір Кароль прысвяціў кнігу «Школа прафесійнага майстэрства», што ўбачыла свет у Санкт-Пецярбургу ў 2004 г. У тым жа годзе выйшла яго манаграфія «Зямля і неба генерала А. М. Каванька». У 2008 г. у Пецярбургу выйшла кніга У. Караля «Рака часу», прысвечаная гісторыі роднай вёскі Макаўка, сям'і аўтара і яго аднавяскоўцам.

Уладзімір Кароль пастаянна супрацоўнічае з беларускімі раённымі газетамі — дасылае краязнаўчыя матэрыялы ў бялыніцкую «Зару над Друццю» і крычаўскі «Ленінскі кліч», ён адзін з аўтараў кнігі «Памяць» Бялыніцкага раёна.

Ёсць беларусы і сярод лётнага складу авіятараў Пулкава, яны лятаюць і на «палцінніку» (лайнеры Ту-154) і на вялікіх Іл-86.

Камандзірам карабля працуе **Анатоль Міхайлавіч Андрэенка (Андраёнак)**, які паходзіць з Гарадоцкага раёна Віцебскай вобласці. Нарадзіўся ў 1937 г. у вёсцы Марозава, якую немцы спалілі ў час вайны. Няма цяпер на зямлі яго роднай вёскі. Бліжэйшыя населеныя пункты, што ацалелі — вёска Ляляўшчына і пасёлак Мяжа. Успамінам пра радзіму засталася самая смачная ежа Анатоля Андраёнка ў галодныя пасляваенныя гады — картапляныя аладкі з бульбы, якую знайшлі вясной, перакапаўшы поле. Адна яго бабуля была ў Ленінградзе — да яе і паехаў пасля школы. Стаў ваенным лётчыкам, адслужыўшы ў арміі, авіяцыю не пакінуў — вопытны пілот стаў камандзірам карабля Ту-154.

З пецярбургскіх лётчыкаў-беларусаў можна сабраць некалькі поўных экіпажаў карабля Ту-154: камандзірам, акрамя Анатоля Андрэенкі, можа быць **Віктар Падвіцкі** або **Пётр Васільевіч Анікей** родам з Клецка, за штурмана — мінчук **Анатоль Сцяпанавіч Трафімовіч,** за борт-інжынера — **Антон Леанідавіч Сланеўскі** — пецярбуржац, беларус у другім пакаленні.

Буйным спецыялістам па будаўніцтве аэрапортаў і аэрадромаў стаў у Ленінградзе **Васіль Міхайлавіч Кнацько**. Нарадзіўся ён 15 кастрычніка 1930 г. у пасёлку Бобр Крупскага раёна Мінскай вобласці ў вялікай сям'і, дзе было сямёра дзяцей. Васіль скончыў у 1955 г. Ваенна-паветраную акадэмію імя Мажайскага, працоўнае жыццё (вайсковую службу ў ВПС ВМФ Паўночнага флоту) пачаў на Новай Зямлі ў 1955—1957 гг. Пасля звальнення з вайсковай службы Васіль Кнацько працаваў у Акадэміі грамадзянскай авіяцыі, у 1971—1979 гг. быў намеснікам начальніка Акадэміі імя А. Мажайскага па навуковай працы, застаючыся прафесарам на кафедры эксплуатацыі аэрапортаў. З 1979 да 1995 г. доктар тэхнічных навук прафесар Васіль Міхайлавіч Кнацько загадваў кафедрай інжынернай геалогіі і грунтазнаўства геалагічнага факультэта ЛДУ, пазней застаўся прафесарам гэтай кафедры. Васіль Кнацько — лаўрэат універсітэцкай прэміі, узнагароджаны нагруднымі знакамі «Выдатнік Аэрафлота» і «Вынаходнік СССР». Апошні знак — сціплая адзнака за больш чым 100 вынаходніцтваў, якія пацверджаны аўтарскімі пасведчаннямі СССР і патэнтамі Расійскай Федэрацыі. Старэйшы сын Васіля Міхайлавіча Фёдар пайшоў у авіяцыю і стаў грамадзянінам Украіны, малодшыя дзеці Міхаіл і Алена — пецярбуржцы.

А вось справай жыцця беларуса **Аляксандра Васільевіча Карабкова** (1906—1974) стала будаўніцтваматораў для самалётаў. У Ленінград ён прыехаў пасля вайны на пасаду галоўнага металурга машынабудаўнічага завода імя У. Клімава, пазней працаваў дацэнтам Ленінградскага інстытута машынабудавання (1965—1974). Удзельнічаў ў распрацоўцы новых матэрыялаў і тэхналогіі вырабу асноўных рухавікоў для самалётаў Якаўлева, Лавачкіна, самалётаў тыпу «МИГ» і верталётаў.

## Горад і мора

Мора ў Пецярбургу мелкае, халоднае, сталёва-шэрае. Увогуле не мора, а Фінскі заліў, «Маркізава лужына». Там, дзе трэба прайсці вялікім караблям, на дне заліва прарыты Марскі канал. Па ім выходзяць на прастору Балтыкі пабудаваныя ў горадзе караблі і падводныя лодкі. Свайго значэння як цэнтра суднабудавання Пецярбург-Ленінград ад часоў Пятра не страчваў ніколі. Горад будуе ваенныя караблі і гандлёвыя судны, рыхтуе кадры для Ваенна-марскога і для грамадзянскага флоту. Гэта цэлая галіна і свая стыхія. Тут тысячы людзей, дзесяткі заводаў, навукова-даследчых інстытутаў і канструктарскіх бюро. Адміралцейскія верфі і Паўночная верф, «Балтыйскі завод», Кананерскі суднарамонтны — гэта толькі самыя значныя прадпрыемствы. Працягваюцца дасёння і традыцыі беларусаў-суднабудаўнікоў. На адной з канферэнцый «Санкт-Пецярбург і беларуская культура» расказаў пра гісторыю сваёй сям'і рэдактар часопіса «Судостроение» Уладзімір Бурачок — нашчадак магілёўчан, якія пайшлі на службу Расійскаму флоту. Адзінаццаць



*Пецярбург — марскі горад*

пакаленняў суднабудаўнікоў і марскіх афіцэраў далі Бурачкі флоту!

У савецкія часы гандлёвы порт і Кананерскі востраў з марскім каналам былі забароненай зонай, без спецыяльных пропускаў туды трапіць было нельга. Паглядзець на караблі стала магчымым толькі пасля пабудовы ў 1980-я гг. падземнага тунэля на Кананерку — у тыя гады яшчэ можна было ўбачыць прыпісаныя да порта Ленінград цеплаходы, з назвамі беларускіх гарадоў: «Новаполацк» і «Навагрудак». Абодва былі пабудаваны ў Фінляндыі («Новаполацк» у 1969 г., «Навагрудак» у 1970-м), абодва мелі дэдвэйт 13 600 тон і абслугоўвалі далёкія лініі Балтыйскага марскога параходства: вазілі воўну з Аўстраліі і Новай Зеландыі, трубы ў Нікарагуа... Каманды сябравалі з жыхарамі гарадоў, чыю назву насілі. Сяброўства гэта заключалася ў абмене візітамі капітана і першага памочніка ў адпаведны горад, а потым некалькіх асоб з адміністрацыі горада — у Ленінград. Каманды гэтых суднаў набіраліся з добрых прафесіяналаў, пра што сведчыць тэлекснае паведамленне, падпісанае ў 1983 г. начальнікам Атлантычнага раёна берагавой аховы ЗША адміралам У. Э. Кордуэлам: «Прашу давесці да ведама капітана і членаў экіпажа цеплахода «Навагрудак» маю шчырую ўдзячнасць за іх дапамогу ў пошуках паруснага судна «Сарэнта», якое цярпела бедства. Іх гатоўнасць адхіліцца ад курсу і заставацца на месцы аварыі адыграла немалаважную ролю ў правядзенні аперацыі. Жаданне маракоў прыйсці на дапамогу яхтсменам, якія апынуліся ў бядзе, адпавядае самым шляхетным традыцыям прафесійных мараплаўцаў»[1]. Пасля перабудовы савецкі флот хутка быў распрададзены. Цеплаход «Навагрудак», арыштаваны ў лютым 1996 г. за даўгі параходства, у маі таго ж года быў прададзены з аўкцыёну ў Антверпене за 24 млн бельгійскіх франкаў. Капітан Анатоль Бондар лічыў, што судна каштуе шмат даражэй, каманда, якая шмат месяцаў правяла пад арыштам у порце і не атрымлівала зарплаты, абʼявіла галадоўку... «Навагрудак» стаў уласнасцю кіпрскай кампаніі, пазней быў перапрададзены яшчэ раз і закончыў сваё жыццё з іншай назвай і пад турэцкім сцягам.

Выхадцы з Беларусі ўдзельнічалі ў будаўніцтве караблёў на пецярбургскіх верфях яшчэ ў дарэвалюцыйныя часы. Старшым памочнікам будаўніка лінкораў на Балтыйскім заводзе пачаў сваю працоўную карʼеру мінчук **Іван Іванавіч Баброў** (1882–1960). Пачалася яна ў 1910 г. пасля заканчэння Марской акадэміі. У 1915 г. ён ужо галоўны будаўнік лінейнага крэйсера «Ізмаіл». Пазней працаваў памочнікам дырэктара Пуцілаўскай верфі, дырэктарам Пуцілаўскага завода (1921–1922). Кіраваў праектаваннем і пабудовай жалезабетонных суднаў і суднаў арыгінальнай канструкцыі. Вялікі ўклад

[1] «Ленинградская правда». 1983. 8 июня.

зрабіў у развіццё драўлянага суднабудавання. Іван Баброў выкладаў у Марскім інжынерным вучылішчы, стварыў курс будаўнічай механікі (1925). У 1951 г. ён стаў лаўрэатам Сталінскай прэміі[1].

З сярэдзіны 1950-х гг. СССР распачаў шырокамаштабную працу па стварэнні акіянскага ракетна-ядзернага флоту. Асноўная адказнасць легла на плечы вучоных і суднабудаўнікоў Ленінграда, дзе сканцэнтравалася большая частка суднабудаўнічага патэнцыялу краіны і выконвалася каля 70% усіх навукова-даследчых і праектна-канструктарскіх прац па марской тэматыцы. Флагманамі былі Балтыйскі завод імя Г. К. Аржанікідзе, Адміралцейскі завод імя Жданава, Кананерскі завод. Удзельнікам пабудовы шматлікіх суднаў і караблёў быў галоўны канструктар «Адміралцейскага завода» ў 1953—1973 гг. **Арсен Аляксандравіч Гайсёнак** (1913—1984). Закончыўшы ў 1938 г. Ленінградскі караблебудаўнічы інстытут, ён па размеркаванні працаваў на заводзе «Ленінскі камсамол» у г. Камсамольску-на-Амуры. Здольнага інжынера праз два гады перавялі ў канструктарскае бюро ленінградскага завода імя А. Марці (1940), на гэтай пасадзе ён працаваў і ў блакадным горадзе. Пасля вайны кіраваў стварэннем першых расійскіх пад'ёмна-спускавых прыстасаванняў для караблёў, стаў аўтарам многіх вынаходніцтваў.

Спачатку на Балтыйскім флоце, а потым у Навукова-даследчым інстытуце сувязі ВМФ праходзіла служба радыёінжынера **Андрэя Андрэевіча Катульскага**. Нарадзіўся ён у 1941 г. у Оршы, скончыў Ваенную акадэмію сувязі імя С. М. Будзённага (1975), у 1981 г. стаў кандыдатам тэхнічных навук. Праводзіў доследы ў галіне стварэння тэхнікі для падводнакабельнай, святлосігнальнай, валаконнааптычнай, унутрыкарабельнай і аварыйнай сувязі. Андрэй Катульскі стаў вядучым спецыялістам па праблемах абароны падводнакабельнай магістральнай сувязі і стварэння комплексаў і сістэм унутрыкарабельнай сувязі.

На Балтыйскім суднабудаўнічым заводзе працаваў з 1946 г. **Канстанцін Антонавіч Шумскі** (1913—1968). Нарадзіўся ён ў вёсцы Малінаўка Магілёўскай вобласці, працаваў у ліцейных цэхах у г. Нікалаеве (1938—1941) і на Цюменскай суднаверфі (1941—1946). Прыехаў у пасляваенны Ленінград. Быў на Балтыйскім заводзе намеснікам галоўнага металурга, начальнікам цэха каляровага ліцця, начальнікам вінталіцейнага цэха, галоўным металургам завода. Вывучаў у Англіі (у 1960 г.) вытворчасць грабных вінтоў паводле тэхналогій фірмы «Стоўн». Гэтыя тэхналогіі былі скарыставаны на Балтыйскім заводзе, для чаго пабудаваны новыя цэхі ліцця і механічнай апрацоўкі грабных вінтоў з каляровых сплаваў. Выкладаў у Політэхнічным, Тэхналагічным і Караблебудаўнічым інстытутах Ленінграда[2].

Спецыялістам у галіне магнітных і электрычных палёў караблёў і іх абсталявання стаў **Яўген Паўлавіч Лапіцкі** (1918—1992). Нарадзіўся ён у Смаленску, скончыў Ленінградскі электратэхнічны інстытут у 1941 г. Два гады служыў на флоце, а з 1943 да 1979 г. працаваў у КБ Электрамартрэста і ЦНДІ імя акадэміка А. Крылова супрацоўнікам, а пазней начальнікам аддзялення электрамагнітнай абароны караблёў. Распрацаваў тэорыю, метады і сродкі кампенсацыі токаў акамулятарных батарэй, працаваў над зніжэннем магнітнага і электрычнага поля карабля.

Спецыялістам у галіне гідраўлікі і гідратэхнічных збудаванняў стаў **Дарафей Змітравіч Лапа** (1918—2000). Нарадзіўся ён у вёсцы Майск недалёка ад Бялынічаў. Скончыў Мінскі будаўнічы тэхнікум, год працаваў на будоўлях Мінска. Пасля паехаў навучацца ў Ленінградскі інжынерна-будаўнічы інстытут і трапіў у толькі што арганізаванае пры інстытуце Вышэйшае інжынерна-тэхнічнае вучылішча (ВІТУ) ВМФ. Гады навучання супалі для хлопца з цяжкімі ваеннымі выпрабаваннямі. Курсант Лапа разам з іншымі ўдзельнічаў у будаўніцтве абаронных умацаванняў на подступах да Ленінграда, потым 6—7 снежня 1941 г. разам з вучылішчам пешшу зрабіў 40-кіламетровы марш па лёдзе Ладажскага возера ў эвакуацыю — у Яраслаўль. Вучыўся старанна — у 1942—1944 гг. за выдатныя поспехі атрымліваў стыпендыю імя Сталіна (такіх стыпендый было ўсяго тры на вучылішча). Старшына Дарафей Лапа стаў першым выпускніком, які закончыў ВІТУ (1944) з залатым медалём. Застаўшыся пры вучылішчы ў ад'юнктуры, ён у 1945 г. быў разам з прафесарам М. Кандыбам камандзіраваны ў пераможаную Германію, дзе вывучаў сістэму падземных і гідратэхнічных збудаванняў немцаў; пазней гэтыя матэрыялы былі выкарыстаны ў навучальным працэсе і пры выкананні навукова-даследчых работ. Удзельнічаў у аднаўленні ваенна-марскіх баз Чарнаморскага,

[1] *Мелуа А. И.* Инженеры Санкт-Петербурга. 2-е изд., доп. СПб.; М., 1997. С. 145.

[2] *Там сама.* С. 837.

Балтыйскага і Паўночнага флатоў, у тым ліку ў 1950 і 1955 гг. будаваў ваенна-марскую базу Балтыйскага флоту Поркала-Уд на тэрыторыі Фінляндыі (прычалы, сухія докі, фартыфікацыйныя і прамысловыя збудаванні, жыллё). Службу заканчваў маючы званні доктара тэхнічных навук (з 1962 г.) і прафесара. У бацьку пайшоў сын: **Андрэй Дарафеевіч Лапа** (нар. у 1950 г.) стаў будаўніком. У пачатку XXI ст. ён узначаліў Дзяржаўны праектны інстытут па распрацоўцы генеральных планаў і праектаў будаўніцтва гарадоў. Пад кіраўніцтвам Андрэя Лапы рапрацоўваліся планы будаўніцтва новай сталіцы Казахстана — Астаны, распрацаваны праект горада-порта на Каспійскім моры Экерэма, выкананы праектныя працы для шэрага арабскіх дзяржаў па будаўніцтве курортных комплексаў. Для Пецярбурга ён спраектаваў храм у імя Дабравешчання Прасвятой Багародзіцы.

Інжынер-механік будаўнік караблёў і падводных лодак **Пётр Фёдаравіч Папковіч** (1887—1946) нарадзіўся ў сям'і чыгуначніка ў Брэсце. Скончыў Санкт-Пецярбургскі політэхнічны інстытут са званнем марскога інжынера ў 1911 г. Займаўся навуковай дзейнасцю, працаваў у КБ Балтыйскага і на Адміралцейскім заводах. Як інжынер удзельнічаў у будаўніцтве лінкораў тыпу «Севастопаль». З 1924 г. Пётр Папковіч удзельнічаў у праектаванні першых савецкіх лесавозаў, пасажырскіх цеплаходаў, караблёў для Паўночнага марскога шляху, падводных лодак «Д-1» — «Дзекабрыст», «Д-2» — «Нарадаволец» і «Д-3» — «Чырвонагвардзеец». Паралельна ён удзельнічаў у працы Рэгістра СССР, распрацоўваў Правілы пабудовы грамадзянскіх суднаў. Выкладаў на караблебудаўнічым аддзяленні Петраградскага політэхнічнага інстытута (1916). Пасля стварэння (у 1930 г.) Ленінградскага караблебудаўнічага інстытута Пётр Фёдаравіч загадваў у ім кафедрай будаўнічай механікі карабля (1930—1941), а ў 1934 г. адначасова быў прызначаны начальнікам кафедры будаўнічай механікі Ваенна-марской акадэміі. Пецярбургская навуковая школа ў галіне будаўнічай механікі карабля неадрыўна звязана з імем Пятра Папковіча. Ён правёў доследы ў галіне тэорыі пругкасці, вывучаў тэарэмы пругкасці сістэмы і абгрунтаваў эксперыментальныя метады вывучэння трываласці карабля, сам удзельнічаў у глыбакаводных пагружэннях падводнай лодкі, каб сачыць за трываласцю корпуса. Распрацаваў і ўдасканаліў метады разліку канструкцый судна на статычныя і дынамічныя нагрузкі. У 1933 г. яго абралі членам-карэспандэнтам АН СССР, у 1946 г. Пётр Фёдаравіч стаў лаўрэатам Сталінскай прэміі. Быў узнагароджаны двума ордэнамі Леніна і ордэнам Чырвонага Працоўнага Сцяга. Памёр інжынер-контр-адмірал Пётр Папковіч 3 красавіка 1946 г., пахаваны на Літаратарскіх мастках Волкавых могілак. На яго магіле ў 1948 г. пастаўлена стэла з барэльефным партрэтам работы скульптара Г. Вяцютнева і архітэктара Я. Лукіна.



*Помнік Пятру Папковічу на Літаратарскіх мастках Волкавых могілак*

Наступнае пакаленне суднабудаўнікоў прадстаўляе **Леанард Стэфанавіч Шэлест**. Нарадзіўся ён ў Століне Брэсцкай (былой Пінскай) вобласці 13 ліпеня 1940 г. Скончыў столінскую сярэднюю школу і суднамеханічны факультэт Ленінградскага інстытута воднага транспарту, працаваў канструктарам на Кананерскім суднарамонтным заводзе (1961—1969). Кананерка тады не злучалася тунэлям з мацерыком, і на працу кожны дзень трэба было плысці на пароме. Леанард Шэлест удзельнічаў у распрацоўцы новых тэхналогій «абсталівання» грабных вінтоў з выкарыстаннем жалезанікелю, абароны грабных валоў нержавеючымі наплаўкамі, паралельна вучыўся на 2-гадовым факультэце рабочых карэспандэнтаў пры Ленінградскім доме журналістаў, займаўся лёгкай атлетыкай (быў чэмпіёнам Ленінграда ў бегу на 400 метраў з бар'ерамі). У 1969—1973 гг. ён удзельнічаў у дабудове навукова-даследчага судна «Изумруд», навукова-вытворчага аб'яднання «Рытм» і тройчы хадзіў на ім у трапічныя зоны сусветнага акіяна — ад Сінгапура да Венесуэлы. Задача кожнага з паходаў заключалася ў кліматычных выпрабаваннях новай тэхнікі, сродкаў сувязі і ўзбраенняў. Здольны інжынер у 1989 г. быў пераведзены на пасаду начальніка цэха на суднабудаўнічы «Петразавод», а ў 1993 г. за-

гадам Камітэта РФ па абаронных галінах быў прызначаны дырэктарам гэтага прадпрыемства. У цяжкую пару перабудовы Леанард Стэфанавіч ажыццяўляў праграму аднаўлення суднабудаўнічай дзейнасці завода. Ва ўмовах парушэння напрацаваных сувязяў, адсутнасці заказчыкаў і попыту распачаў праграму будаўніцтва малатанажных высокатэхналагічных навукаёмістых тыпаў суднаў, хуткасных патрульных катэраў. Займаўся таксама «элітным» драўляным суднабудаваннем. Пабудова і здача дзяржаўнай камісіі поўнамаштабнай копіі боціка Пятра І — толькі адзін з этапаў гэтай дзейнасці. Была яшчэ першая ў свеце турыстычная падводная лодка «Садко», серыя патрульных катэраў для федэральных ведамстваў Расіі, арганізацыя будаўніцтва мабільных дызельэлектрычных станцый ў кантэйнерах на заказ «Газпрома». У 1997 г. з-за разыходжанняў з «Прамбудбанкам СПБ» (уладальнікам кантрольнага пакета акцый «Петразавода») у пытаннях развіцця і перспектыў прадпрыемства звольніўся з «Петразавода» і пайшоў працаваць на ТАА «Охцінская верф», дзе арганізаваў вытворчасць маламерных суднаў: прагулачных (яхты тыпу «Охта») і рыбапрамысловых.

Будаўніцтва сучаснага акіянскага флоту СССР нельга ўявіць без удзелу беларусаў. З падводных лодак, спраектаваных і пабудаваных ленінградцамі, упершыню стартавалі балістычныя ракеты: у 1955 г. — з паверхні мора, а ў 1960 г. — з-пад вады. Распрацоўку інжынерна-тэхнічных умоў гэтых стартаў забяспечваў сярод іншых выпускнік Беларускага політэхнічнага інстытута ўраджэнец в. Нарач Мядзельскага раёна **Чэслаў Андрэевіч Каспарэўскі**. Аднак пры канцы 1960-х гадоў амерыканскі флот нашмат пераўзыходзіў савецкі як па колькасці падводных лодак, так і па колькасці стратэгічных ракет на іх. Для скарэйшай ліквідацыі такога адставання ЦК КПСС даручыў ЦКБ-18 («Рубін») у Ленінградзе і Паўночнаму машынабудаўнічаму прадпрыемству ў Северадзвінску стварыць вялікую серыю падводных ракетаносцаў новага пакалення. Былі распрацаваны атамныя падводныя лодкі (АПЛ) першага (праект 667А), другога (праект 667Б) і трэцяга (праект 667БДРМ) пакаленняў. Ветэранам будаўніцтва акеанскіх падводных лодак стаў ураджэнец Лядаў Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці **Ізраіль Лазаравіч Камай** (1916–2002). Пры яго кіраўніцтве цэхам і вытворчасцю былі пабудаваны большасць АПЛ усіх тыпаў, а за вялікі ўклад у стварэнне лодак з новым відам стратэгічнай ракетнай зброі праекта 667Б у 1974 г. Ізраіль Камай стаў лаўрэатам Ленінскай прэміі. Адным з аўтараў развіцця стратэгіі падводнага караблебудавання быў беларус **Сяргей Васілевіч Слесарэвіч** (1915–1981). Выпускнік Ленінградскага караблебудаўнічага інстытута, ён з 1954 да 1981 года працаваў намеснікам галоўнага інжынера і галоўным тэхнолагам Паўночнага машынабудаўнічага прадпрыемства. За стварэнне АПЛ праекта 667Б з міжкантынентальнымі балістычнымі ракетамі Сяргей Слесарэвіч удастоены звання Героя Сацыялістычнай Працы. Памёр і пахаваны гэты выдатны інжынер у Пецярбургу. Да наступнай фармацыі будаўнікоў лодак належыць Валерыян Скалабан, які стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР 1985 г. за стварэнне АПЛ трэцяга пакалення. Нарадзіўся **Валерыян Уладзіміравіч Скалабан** (30.08.1938) у Старобіне Мінскай вобласці, пасля вайны са срэбным медалём скончыў сярэднюю школу ў Ляхавічах і ў 1961 г. з адзнакай — Ленінградскі караблебудаўнічы інстытут. Працоўную дзейнасць ён пачаў памочнікам майстра ў галоўным стапельным цэху ПА «Поўначмашпрадпрыемства». Потым быў майстрам, старэйшым майстрам, начальнікам участка ўзбраення. Прымаў непасрэдны ўдзел у будаўніцтве і выпрабаванні атамных ракетаносцаў праектаў 675, 667А, 667Б. У 1971–1973 гг. — начальнік тэхнічнага аддзела эллінга № 1, пазней намеснік начальніка цэха па новым эллінгу-2. Пасля выканання пускавога этапа кіраваў працай па забеспячэнню закладкі на стапелі галаўных караблёў трэцяга пакалення, узброеных ракетным комплексам Д-9 РМ. Канструкцыя корпуса гэтых караблёў дазваляе АПЛ прабіваць лёд для выканання ў Паўночным Ледавітым акеане ракетных стрэльбаў. Вось некалькі характарыстык монстра, плёну чалавечай думкі і ўмельства, спраектаванага і пабудаванага для перавозкі і выкарыстання зброі масавага знішчэння: даўжыня — 167 метраў, шырыня — 11,7 м, экіпаж — 130 чал., глыбіня пагружэння — 400 м, узбраенне — 16 балістычных ракет. У 1991 г. падводны крэйсер К-407 (завадскі № 385) упершыню ў гісторыі ВМФ выканаў 16-ракетны падводны залп (аперацыя «Бегемот»). У 2002 г. Валерыян Скалабан пераехаў з Северадзвінска ў Пецярбург, працаваў у ЦНДІ Тэхналогіі суднабудавання, удзельнічаў у праектаванні новых тэхнічных сродкаў дабычы нафты і газа на Арктычным шэльфе. З 2006 г. ён — вядучы спецыяліст п/а «Поўначмаш» у Санкт-Пецярбургу. Насталь-

гія па радзіме вымушае яго рэгулярна наведваць родныя Ляхавічы, па дарозе будаўнік АПЛ спыняецца ў Мінску, дзе навіны культурнага жыцця Беларусі яму перакажа брат Віталь — вядомы ў рэспубліцы гісторык і драматург.



*Валерыян Скалабан*

З морам звязаў сваю біяграфію і ўраджэнец сухапутнага Полацка **Уладзімір Аляксандравіч Серадок** (нар. у 1959 г.). Пасля заканчэння ў родным горадзе 10-й сярэдняй школы ён паступіў на суднабудаўнічы факультэт Ленінградскага караблебудаўнічага інстытута, потым працаваў інжынерам на Балтыйскім заводзе, у 1998–2004 гг. быў намеснікам дырэктара «Паўночнай верфі», у 2004–2007 гг. — генеральным дырэктарам завода «Алмаз», а са снежня 2007 г. працуе дырэктарам Сярэдне-Неўскага суднабудаўнічнага завода ў пасёлку Пантонны.

Сярод будаўнікоў савецкага падводнага флоту заўважнае месца займае яшчэ адзін беларус. **Мікалай Яўгенавіч Іваноў** (1943–2005) нарадзіўся (24 снежня 1943 г. у Магілёве) у партызанскім краі ў гады вялікай вайны, працаваць пачаў у 1962 г. як токар на Магілёўскім заводзе пад'ёмна-транспартнага абсталявання. Займаўся веласіпедам — уваходзіў у зборную каманду Беларусі. Пасля заканчэння ў 1963 г. Магілёўскага машынабудаўнічага тэхнікума працаваў тэхнікам у праектным бюро ў Кіеве, потым служыў тэрміновую ваенную службу (да лета 1965) у механічных майстэрнях батальёна аэрадромнага абслугоўвання.

У 1965–1970 гг. Мікалай Іваноў курсант караблебудаўнічага факультэта Вышэйшага Ваенна-марскога інжэнернага вучылішча імя Ф.Дзяржынскага ў Ленінградзе. Тут пазнаёміўся з новым спортам — грэбляй на шлюпках. У вучылішчы ён быў старшыной класа і пакінуў у малодшых самыя цёплыя ўспаміны. З 1970 г. малады лейтэнант служыць у Беламорскай ВМБ Чырвонасцяжнага Паўночнага флота на пасадах камандзіра БЧ-5, затым камандзіра транспартнага плавучага дока. У гэты перыяд паспяхова забяспечваў праводку па ўнутраных водных шляхах новых падводных лодак, пабудаваных на заводзе «Красное Сормово» (г. Горкій) на Паўночны флот.

Мікалай Яўгенавіч быў вялікага роста, магутнага складу. Як камандзір плавучага дока, у крайніх выпадках карыстаўся арыгінальным педагагічным прыёмам. Парушальнік дысцыпліны — старшына альбо матрос — запрашаўся ў каюту камандзіра, дзе на пераборцы віселі дзве пары баксёрскіх пальчатак. Камандзір уставаў і казаў парушальніку: «Калі можаш — абараняйся!» І здымаў пры гэтым пальчаткі з кручка. Да двубою не даходзіла, аднак колькасць парушэнняў змяншалася.

З 1975 Мікалай Яўгенавіч назаўсёды стаў пецярбуржцам — спачатку навучэнцам Ваенна-марской акадэміі, а пасля заканчэння (па спецыяльнасці «інжэнернае праектаванне караблёў ВМФ») — ваенпрэдам вайсковай часці, акрэдытаванай пры Цэнтральным канструктарскім бюро марской тэхнікі «Рубін». У 1994 г. у званні капітана 1 ранга быў звольнены ў запас і застаўся працаваць у тым жа ваенным прадстаўніцтве як вядучы спецыяліст. Падчас службы пры яго непасрэдным удзеле як спецыяліста-караблебудаўніка, пазней намесніка Галоўнага назіраліка ВМФ і Галоўнага назіральніка ВМФ былі спраектаваны, пабудаваны і здадзены Ваенна-марскому



*На помніку, што побач з ЦКБ «Рубін», прапарцыянальныя сілуэты двух распрацаваных тут падводных лодак: першай (уверсе) і адной з апошніх*

флоту падводныя лодкі шэрагу праектаў, узброеныя балістычнымі і крылатымі ракетамі, у тым ліку навейшыя для свайго часу падводныя крэйсеры тыпу «Граніт», «Антэй» і «Акула». Прымаў удзел у рашэнні складаных тэхнічных пытанняў, якія ўзнікалі падчас будаўніцтва падводных лодак, непасрэдна на суднабудаўнічым заводзе. Застаўшыся ў ваенным прадстаўніцтве ў якасці грамадзянскага спецыяліста, М. Іваноў працягваў актыўна працаваць, шчодра дзелячыся сваімі ведамі з маладымі спецыялістамі.

Неяк купіў Мікалай Яўгенавіч вельмі патрыманую «Волгу» (ГАЗ-21). Разабраў да вінціка. Нешта замяніў, нешта падправіў. Машына пачала выглядаць... Калі Мікалай адкрываў капот, то гледачы — аўтамабілісты вохалі — маторны атсек блішчаў як новы. І гэта быў заўсёдны стан аўтамабіля, а не «прэзентацыя», як зараз кажуць.



*Мікалай Іваноў*

У чэрвені 2000 г. Мікалай Іваноў перайшоў на працу ў «Рубін» на пасаду кіраўніка якасці і тэхнічнага кантролю падраздзялення вопытнай вытворчасці. Выдатныя канструктарскія і арганізатарскія здольнасці дазволілі Мікалаю Яўгенавічу забяспечыць паспяховую распрацоўку некалікіх вопытных узораў спецыяльнай тэхнікі. Хутка яго прызначылі начальнікам вядучага аддзела. А праз чатыры гады, на 63 годзе жыцця, Мікалай Яўгенавіч нечакана сканаў (пахаваны на Кавалёўскіх могілках Санкт-Пецярбурга).

Будаўнік падводных лодак беларус Мікалай Іваноў застаўся ў памяці ўсіх, хто яго ведаў як шчыры, добразычлівы, прынцыповы, патрабавальны да сябе і вельмі прыстойны чалавек. Пецярбургу ён пакінуў дачку і дзвюх унучак.

У дзяржаўнай здачы першага (галаўнога) атамнага ракетнага крэйсера праекта 1144 (тыпа «Адмірал Ушакоў», «Адмірал Лазараў», «Адмірал Нахімаў») у 1980 г. у якасці слесарамантажніка здатачнай брыгады ўдзельнічаў **Леанід Майсеевіч Сінкевіч**, ураджэнец вёскі Шкова Гомельскай вобл. (нар. 17.08.1937). Ён працаваў на Балтыйскім заводзе токарам-універсалам, расточнікам-каардынатарм, інжынерам-механікам, інжынерам-канструктарам.

Вядучым спецыялістам у галіне ходкасці карабля і прафесарам Ленінградскага караблебудаўнічага інстытута стаў гамяльчанін **Леанід Сяргеевіч Арцюшкоў** (нар. 30 красавіка 1927 г.). Леанід Арцюшкоў распрацаваў і чытаў базавыя для будучых караблебудаўнікоў курсы «Судавыя рухавікі» і «Дынаміка неньютанаўскіх вадкасцяў».

Пецярбург — горад караблёў, значыць, і марскіх парадаў. Неаднойчы ўдзельнічаў у марскіх парадах на Няве контр-адмірал **Мікалай Аляксеевіч Скок** (нар. 7 красавіка 1950 г. у в. Байкі Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці). Пасля заканчэння ў 1967 г. сярэдняй школы у Ружанах Мікалай Скок першы раз стаў пецярбуржцам: навучаўся ў Вышэйшым ваенна-марскім вучылішчы імя Фрунзе. Службу пачаў на супрацьлодачных караблях Паўночнага флоту, якія базаваліся ў г. Ара: камандзірам мінна-тарпеднай БЧ, памочнікам камандзіра і камандзірам вартавога карабля. У 1979 г. маладога афіцэра прызначаюць старшым памочнікам вялікага супрацьлодачнага карабля «Удалой», галаўнога карабля новай серыі, які толькі будаваўся ў Калінінградзе. У 1981 г. карабель перайшоў на Паўночны флот і ўвайшоў у склад брыгады супрацьлодачных караблёў, а Мікалай Скок, закончыўшы ў 1983 г. Шосты вышэйшы афіцэрскі клас ВМФ, быў прызначаны яго камандзірам. Акрамя баявога дзяжурства ў тэрытарыяльных водах СССР, «Удалой» пад камандай Мікалая Скока хадзіў у далёкія паходы: Міжземнае мора, паўночную Атлантыку. Паўторна жыхаром Пецярбурга Мікалай Аляксеевіч стаў у 1986 г. — на час навучання ў Ваенна-марской акадэміі. Потым ізноў служба на Паўночным флоце на пасадах начальніка штаба, камандзіра брыгады і камандзіра дывізіі супрацьлодачных караблёў. У 1999 г. Мікалай

Скок трэці раз і ўжо настала перабіраецца ў Пецярбург. Ён прызначаны начальнікам марскога корпуса Пятра Вялікага, былога марскога кадэцкага корпуса. У Пецярбург пераязджае сям'я: жонка і тры дачкі. У 2002 г. контр-адмірал Скок звольнены ў запас, але з морам сувязі не страціў, працуе ў Дзяржаўнай марской акадэміі імя адмірала С. Макарава намеснікам начальніка акадэміі па адміністратыўна-гаспадарчай працы. Ордэны «За ваенныя заслугі ва Узброеных Сілах РФ» і «За службу Радзіме ва Уброеных Сілах СССР» і медаль Рэспублікі Куба «За ваенную садружнасць» — гэта толькі частка шматлікіх узнагарод Мікалая Скока.



*Мікалай Скок*

У славутай «Макараўцы» (Дзяржаўнай марской акадэміі імя адмірала С. Макарава) Мікалай Скок сустрэўся з двума выкладчыкамі-землякамі. Кандыдат філасофскіх навук, выкладчык **Аляксандр Аляксандравіч Макейчык** (нар. у 1940 г.) — ураджэнец палескай вёскі Камаровічы Петрыкаўскага раёна, выпускнік Навасёлкаўскай сярэдняй школы-дзесяцігодкі. Адчуванне лучнасці з радзімай шмат пазней, ужо ў Пецярбургу, падштурхнула Аляксандра Макейчыка на складанне свайго радаводу[1]. А ў маладосці склалася так: пасля школы закончыў Бабруйскі аўтатрактарны тэхнікум і да арміі працаваў на аўтабазе ў Шчучыне. Тэрміновую вайсковую службу (на тыя часы 3 гады ў сухапутных войсках) служыў у Гарэлаве (цяпер у межах Пецярбурга), адразу пасля дэмабілізацыі ў 1963 г. паступіў на філасофскі факультэт Ленінградскага дзяржаўнага універсітэта. Першым (і назаўсёды) месцам працы маладога філосафа стала кафедра філасофіі і псіхалогіі Дзяржаўнай марской акадэміі імя адмірала С. Макарава. Творчасць Аляксандра Макейчыка надзвычай разнастайная: яму належыць канцэпцыя дыхроннасці (сацыяльнага двухчасся), а таксама спроба на падставе гэтай тэорыі раскрыць дыхронную сутнасць пераходнага працэсу ў сучаснай Беларусі; асэнсаваць «рускую ідэю» як імкненне да пераходу Расіі ад дыхроннага да авангардна-манахроннага тыпу сацыяльнага прагрэсу. У шэрагу прац распрацоўваў тэорыю каштоўнасці як аб'ектыванай аксіялагічнай ацэнкі, філасофскія аспекты кахання. Усяго навуковы наробак Аляксандра Аляксандравіча налічвае звыш 80 публікацый. У прадмове да адной з апошніх сваіх кніг ён прыгадаў дзіцячыя ўражанні ад першай сустрэчы з філасофіяй на так званай Рымшынай гары каля сваёй роднай вёскі[2]. Яму належыць першая ў беларускай (і расійскай) навуцы спроба выдання «Генеалагічнага слоўніка». Сын Аляксандра Макейчыка Аляксей паспяхова рэалізаваў мару дзяцінства — закончыў «Макараўку», у якой бацька выкладае філасофію і стаў мараком дальняга плавання, працуе па кантрактах з рознымі параходнымі кампаніямі свету.

Заўсёды нехта, апантаны морам, навучаецца ў «Макараўцы». Часам злы лёс можа спыніць гэтую навуку, як адбылося ў чэрвені 2006 г. Моцны пажар у інтэрнаце, які курсанты хацелі спачатку патушыць самі. Не справіліся, праз гадзіну выклікалі пажарных. Дапамога, як сведчаць газетныя радкі, запазнілася: «Сярод курсантаў, якія загінулі падчас пажару ў інтэрнаце Дзяржаўнай марской акадэміі ім. Макарава ў Санкт-Пецярбургу — Арцём Пінчукоў з Віцебска. Ён, як і ўсе загінулыя курсанты, навучаўся на трэцім курсе суднавадзіцельскага факультэта. Яго пахаваюць на радзіме. Усяго ў пажары загінулі 7 юнакоў».

Партовай гаспадаркай горада — прычаламі, каналамі і г. д. займалася «Марская адміністрацыя Санкт-Пецярбурга», пазней яна бы-

[1] *Макейчик А. А.* Родословная полесской крестьянской династии. Белорусский сборник Вып. 1.

[2] Вместо введения, или Философия как улыбка // Макейчик А. А. Алгоритмы философии. СПб., 2005. С. 5.

ла ператворана ў таварыства «Росморпорт». Намеснікам дырэктара «Росморпорта» прызначаны ураджэнец вёскі Будкі Нараўлянскага раёна Гомельскай вобласці **Уладзімір Адольфавіч Рафальскі**. Мары пра марскія прыгоды з маленства захаплялі жыхара сухапутнай вёскі. Пасля школы Уладзімір Рафальскі паступіў у сярэдняе мараходнае вучылішча, а потым закончыў Ленінградскі політэхнічны інстытут, Інжынерна-эканамічную акадэмію. Працаваў у «Балтыйскім марскім параходстве». Калі адбылася чарнобыльская аварыя, паехаў у Нароўлю забіраць з забруджанай зоны бацькоў, але стары Адольф Рафальскі не згадзіўся, сказаўшы, што гэта здрада Радзіме — старому чалавеку ехаць паміраць на чужыну. Так і застаўся ў роднай вёсцы. Уладзімір Рафальскі — кандыдат навук, выкладае на кафедры міжнародных адносін Інстытута марскога права, таксама ў Дзяржаўнай марской акадэміі імя адмірала С. Макарава. Праўда, колькасць гадзін на выкладанне кожны год змяншаецца, усё больш увагі забірае партовая гаспадарка. У кнізе «Памяць. Нараўлянскі раён» ён знайшоў інфармацыю пра многіх прадстаўнікоў свайго роду: былі сярод іх героі вайны і героі працы, нават адзін з архімандрытаў Аляксандра-Неўскай лаўры ў Пецярбургу быў з Рафальскіх.



*Уладзімір Рафальскі*

Імя выхадца з Беларусі доўгі час насіла Вышэйшае інжынернае ваенна-марское вучылішча, былое Марское інжынернае вучылішча імператара Мікалая I (пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі — Марское інжынернае вучылішча). 29 красавіка 1927 г. яно было перайменавана у Ваенна-марское інжынернае вучылішча імя таварыша Дзяржынскага. Але ў 1998 г. адбылася змена, імя было страчана: пастановай урада РФ на базе вучылішча імя Ф. Э. Дзяржынскага і Вышэйшага ваенна-марскога інжынернага вучылішча ў Пушкіне быў створаны Ваенна-марскі інжынерны інстытут. Імя «жалезнага Фелікса» знікла, хоць народная пагалоска і традыцыя выпускнікоў і дасёння злучае будынак Адміралцейства на беразе Нявы са словам «Дзяржынка».

Сярод выпускнікоў, супрацоўнікаў і выкладчыкаў гэтай славутай ваенна-марской вучэльні багата беларусаў. Камісарам і начальнікам Вышэйшага ваенна-марскога вучылішча імя Дзяржынскага ў 1939 г. быў прызначаны генерал-маёр берагавой службы **Пётр Сямёнавіч Бранявіцкі** (1891–4.04.1949), ураджэнец Слуцка. Марскую службу Пётр Бранявіцкі пачаў у 1912 г., спачатку матросам, потым машыністам яхты «Штандарт». У 1914–1916 гг. служыў машыністам на крэйсеры «Вараг». Пазней быў начальнікам марской базы на Салавецкіх астравах, камандзірам вучэбнага атрада ВМС. Пахаваны на Серафімаўскіх могілках.

Рэліктам дарэвалюцыйнай эпохі быў у савецкія часы інжынер-контр-адмірал **Уладзімір Аляксандравіч Саткевіч** (1876–1976). Ён нарадзіўся ў беларускай сям'і ў Кранштаце і ўсё сваё 100-гадовае жыццё прысвяціў марской службе. Скончыў Марскі кадэцкі корпус у 1896-м, потым Мінны афіцэрскі клас і гідраграфічны аддзел Марской акадэміі (1902–1904). Удзельнічаў у Цусімскім марскім баі, калі рускую эскадру разграміў японскі флот. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі беспартыйны Уладзімір Саткевіч працягваў служыць расійскаму флоту, выкладаў у ВВМВ імя Фрунзе, напісаў некалькі падручнікаў па міннай справе, тэорыі і ўстройству карабля. Калі ў 1947 г. выйшаў у адстаўку, меў узнагароды: два ордэны Чырвонага Сцяга, два — св. Станіслава, два — св. Ганны.

Доўгі час выкладаў у «Дзяржынцы» ураджэнец вёскі Дунаева Бельскага раёна Смаленскай вобласці інжынер-контр-адмірал **Леанід Іванавіч Антонаў** (1898–1969).

У кастрычніку 1998 г. на базе «Дзяржынкі» і Вышэйшага ваенна-марскога інжынернага вучылішча імя Леніна ў Пушкіне быў утвора-

ны адзіны Ваенна-марскі інжынерны інстытут. Зараз гэта унікальны шматпрофільны цэнтр падрыхтоўкі інжынераў карабельнай службы і мічманаў-тэхнікаў для Расійскага флота. На падставе міждзяржаўных дамоваў ВМІІ таксама рыхтуе інжынераў і для флатоў больш як 30 краін свету. Адзнака за гэту дзейнасць — ваенныя ордэны Рэспублікі В'етнам і Рэспублікі Куба, якімі ўзнагароджаны Інстытут. У тых узнагародах ёсць доля працы беларуса Валерыя Круковіча — капітана 1 ранга, намесніка начальніка факультэта па падрыхтоўцы замежных ваеннаслужачых. Нарадзіўся **Валерый Іванавіч Круковіч** (28.11.1963) у вёсцы Здзітава Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці, пасля заканчэння Вышэйшага ваенна-марскога інжынернага вучылішча імя Леніна ў Пушкіне служыў на баявых караблях Ваенна-марскога флота, пазней вярнуўся ў рэфармаванае роднае вучылішча выкладчыкам. У службовай характарыстыцы Валерыя Круковіча ёсць такія словы: «За вялікі асабісты ўклад, стараннасць і разумную ініцыятыву, праяўленыя пры падрыхтоўцы нацыянальных ваенных кадраў і тэхнічнага персанала замежных дзяржаў меў падзякі ад камандавання інстытута...» і яшчэ: «Кандыдат ваенных навук, дацэнт Валерый Круковіч мае вопыт у арганізацыі і навучанні ваеннаслужачых Кітая, Індыі, Алжыра, Грэцыі, Грузіі, Казахстана, Йемена, Мазамбіка, Лівіі, Сірыі, Судана, Гвінеі, Анголы, Нікарагуа...».



*Валерый Круковіч*

Сярод выпускнікоў «Дзяржынкі» знойдзем некалькі вядомых беларусаў-адміралаў: віцэ-адмірал (з 1988 г.) **Мікалай Захаравіч Бісоўка** (1930—2002) нарадзіўся ў вёсцы Глінчына Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці. У 1947—1952 гг. навучаўся ў ВВМВ імя Ф. Дзяржынскага, у 1961 г. на выдатна закончыў Ваенна-марскую акадэмію. Служыў на падводных лодках, у 1963 г. удзельнічаў у падлёдным пераходзе атамнай лодкі з Паўночнага на Ціхаакіянскі флот праз Паўночны полюс. У 1980—1990 гг. Мікалай Захаравіч Бісоўка — адмірал-інспектар ядзернай бяспекі Міністэрства абароны СССР, член міжнароднай групы экспертаў МАГАТЭ па радыяцыйным забруджванні Балтыйскага мора і мораў Паўночнага Ледавітага акіяна (абыгрываючы прозвішча адмірала, падначаленых яму строгіх інспектараў на флоце называлі «бісавы дзеці»).

Контр-адмірал **Уладзімір Афанасьевіч Зенчанка** нарадзіўся 16 ліпеня 1947 г. у вёсцы Валоўшчына Мінскага раёна. У 1965 г. скончыў заслаўскую СШ № 1, а ў 1970 г. — Ленінградскае ВВМВ імя Дзяржынскага. Пасля заканчэння ў 1979 г. Ваенна-марской акадэміі служыў у марскіх часцях і злучэннях пагранічных войскаў КДБ СССР. Быў начальнікам суднарамонтнага завода. Воінскае званне контр-адмірал атрымаў у 1988 г., а ў 1997 г. пакінуў вайсковую службу.

Але не толькі праз вучылішча імя «жалезнага Фелікса» ішлі на флот беларускія хлопцы. Будучы контр-адмірал **Васіль Емяльянавіч Ананіч** (1900—20.12.1977) нарадзіўся ў вёсцы Турэц Смалявіцкага раёна Мінскай вобласці. Юнаком трапіў у Петраград. Служыў чырвонаармейцам, чырвонафлотцам, тэлеграфістам. У 1922 г. Васіль Ананіч скончыў электрамінную школу, потым Ваенна-марское палітычнае вучылішча імя Рашаля (1928). Служыў старшым інструктарам палітаддзела брыгады тралення і загароды марскіх сіл Балтыйскага мора, камісарам падводнай лодкі «Камунар». У гады Другой сусветнай вайны Васіль Емяльянавіч Ананіч быў начальнікам палітупраўлення Паўночнага флоту. Пахаваны ў Пецярбургу на Паўночных могілках.

**Мікалай Піліпавіч Заяц** (нар. у 1889 г. у вёсцы Лапічы, зараз Асіповіцкі раён Магілёўскай вобласці) з 1908 г. навучаўся ў школе кандуктараў Балтыйскага флоту, удзельнічаў у Лядовым паходзе Балтыйскага флоту ў 1918 г. Пазней служыў камандзірам батарэі форта «Краснафлоцкі», камандзірам батарэі Шлісельбургскай крэпасці.

У Добрушы пад Гомелем нарадзіўся **Георгій Іосіфавіч Міхалькоў** (1893—1946). З пачаткам Першай сусветнай вайны яго прызвалі на марскую службу ў Петраград. Скончыў школу мінёраў вучэбнага атрада Балтыйскага флоту (1915—1916), у 1918 г. стаў членам Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (бальшавікоў). Удзельнічаў у здушэнні паўстанняў на форце «Чырвоная Горка» (1919) і ў Кранштаце (1921). Да 1930-х гг. служыў на розных караблях БФ, потым на Чарнаморскім флоце, пасля на кіруючых пасадах (па матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні) у ВМФ СССР. У 1940 г. Георгій Міхалькоў атрымаў званне контр-адмірала. Пахаваны Георгій Іосіфавіч у Санкт-Пецярбургу, на Смаленскіх праваслаўных могілках.

У цяжкія дні Першай сусветнай вайны Петраградскі марскі корпус скончыў ураджэнец вёскі Мазурына (цяпер Шумілінскі раён Віцебскай вобласці) **Мікалай Браніслававіч Паўловіч** (1897—1973). Служыў на караблях чырвонага Балтыйскага флоту, камандаваў тральшчыкам, потым эсмінцам. З 1931 г. Паўловіч выкладае ў Ваенна-марской акадэміі. Падчас савецка-фінскай вайны 1939—1940 гг. ваяваў разам са сваім земляком — віцэ-адміралам Валянцінам Драздом: быў начальнікам штаба атрада асобага прызначэння Балтыйскага флоту. З мая 1941 г. Мікалай Паўловіч стаў начальнікам кафедры агульнай тактыкі каманднага факультэта Ваенна-марской акадэміі імя Варашылава. У 1944 г. ён атрымаў званне контр-адмірала. Працы па тактыцы ваенна-марскога флоту, у тым ліку чатырохтомавае грунтоўнае даследаванне «Развіццё тактыкі Ваенна-марскога флоту» (М., 1990) паставіла Мікалая Паўловіча ў шэраг вядучых спецыялістаў сваёй галіны. У 1954 г. контр-адмірал Паўловіч выйшаў у адстаўку. У 1973 г. яго пахавалі на Серафімаўскіх могілках.

На Серафімаўскіх могілках ляжыць і прах контр-адмірала **Максіма Пятровіча Скрыганава** (1898—1951). Выхадзец з вёскі Цупер (цяпер Жлобінскі раён Гомельскай вобласці), ён пачаў марскую службу ў 1913 г., скончыўшы школу падводнага плавання, да 1916 г. служыў матросам на падводных лодках «Барс» і «Кугуар». Потым быў мінным машыністам, удзельнічаў у лядовым паходзе Балтыйскага флоту 1918 г., ваяваў з Юдзенічам. У 30-я гг. Максім Скрыганаў служыў на лінкоры «Парыжская камуна». Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны прымаў караблі па раздзеле германскага флоту.

Віцэ-адмірал **Ягор Андрэевіч Тамко** (3.09.1935—2008) нарадзіўся ў в. Лявонаўцы Міёрскага раёна Віцебскай вобласці. Закончыў сярэднюю школу ў Міёрах, навучаўся ў Вышэйшым ваенна-марскім вучылішчы імя Фрунзе ў Ленінградзе. У 1967—1973 гг. плаваў камандзірам атамнай падводнай лодкі, у 1973—1977 гг. быў начальнікам штаба 11-й




*Ваенна-марская акадэмія*

дывізіі атамных падводных лодак (тыпу «Курск»). У 1978 г., стаўшы камандзірам гэтай дывізіі, Ягор Андрэевіч асабіста ўзначаліў першы ў гісторыі ВМФ групавы падлёдны трансарктычны пераход з Матайскага заліва ў бухту КрашэнІннікава. Падчас пераходу на лодцы К-212 праекта «Скат», на якой знаходзіўся кондр-адмірал Тамко, з-за памылкі службаў БЧ-5 адбыўся выкід аварыйнай абароны ядзернага рэактара. Аднак дзякуючы зладжанай працы аператараў ГЭУ (галоўнай энергетычнай установкі) падводная лодка, якая ў гэты час знаходзілася пад суцэльным пакавым лёдам, у кароткі тэрмін узнавіла рэжым работы рэактара без спынення ходу. За гэты пераход у лістападзе 1978 г. Ягор Тамко быў узнагароджаны залатой зоркай Героя СССР. Яшчэ некалькі гадоў службы на Поўначы і Далёкім Усходзе, потым навучанне ў Ваенна-марской акадэміі імя адмірала Кузняцова. Вопытны марскі начальнік атрымаў высокае званне віцэ-адмірала і ўзначаліў Вышэйшае ваенна-марское вучылішча падводнага плавання імя Ленінскага камсамола. У маі 1992 г. звольнены ў запас. Як кандыдат ад камуністычнай партыі Герой Савецкага Саюза віцэ-адмірал Ягор Тамко ўдзельнічаў у выбарах мэра Санкт-Пецярбурга і прайграў будаўніку Уладзіміру Якаўлеву. Пазней былы марак працаваў у Навукова-даследчым інстытуце Ваенна-марскога флоту старшым навуковым супрацоўнікам.

У «Ленкоме», калі начальнікам вучылішча быў адмірал Тамко, вучыўся, сярод іншых, **Алег Рыгоравіч Папко**. Нарадзіўся ён 28 сакавіка 1959 г. у Брэсце, у 1976 г. закончыў брэсцкую сярэднюю школу № 3 і паступіў у Вышэйшае ваенна-марское вучылішча падводнага плавання імя Ленінскага камсамола, якое закончыў у 1981 г. Падчас службы на падводных лодках Паўночнага і Балтыйскага флотаў, ён прайшоў шлях ад камандзіра тарпеднай групы да камандзіра падводнай лодкі 641-га праекта. У 1993 г. Алег Папко ізноў стаў пецярбуржцам, паступіўшы на камандны факультэт Ваенна-марской акадэміі ім. Кузняцова. Пасля заканчэння Акадэміі з 1996 г. была служба на розных пасадах у Санкт-Пецярбургу, з 2003 г. ён — начальнік вучэбнага цэнтра ваенна-марскога флота па падрыхтоўцы замежных маракоў. За сумленную службу Алег Папко ўзнагароджаны 12 медалямі. Сын Алега Рыгоравіча пайшоў за бацькам, стаў афіцэрам Ваенна-марскога флоту Расіі.

У Мінску ў 1932 г. нарадзіўся **Леанід Мікалаевіч Навасельскі** — у будучым пецярбургскі навуковец, грамадска-палітычны дзеяч, ваенны марак, паэт. У 1950 г. ён закончыў мінскую сярэднюю школу № 42 і паступіў у Вышэйшае ваенна-марское інжынернае вучылішча ў горадзе Пушкіне Ленінградскай вобласці. Атрымаў дыплом інжынера-механіка. Службу пачаў на Ціхаакіянскім флоце. У 1966 г. за першы ў гісторыі падводны паход з Паўночнага Ледавітага акіяна ў Міжземнае мора ўзнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі. Праз два гады (у 1968 г.) прымаў удзел у выпрабаваннях доследнай лодкі К-27, падчас якіх разгерметызаваўся ядзерны рэактар. Лявон Навасельскі атрымаў у гэтым паходзе багаты і неацэнны вопыт эксплуатацыі розных тэхнічных прыстасаванняў у неардынарных сітуацыях, а таксама тую дозу выпраменьвання, якая пазней стала прычынай яго смерці. Пасля вяртання ў Ленінград ён працягваў працу ў навукова-даследчым інстытуце па праблемах эксплуатацыі падводных лодак. У 1975 г. абараніў дысертацыю, атрымаў навуковую ступень кандыдата тэхнічных навук і воінскае званне капітана 1 ранга.

З 1992 г. «дзядзька Лявон» — актыўны член Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Санкт-Пецярбургу, а з 1994 г. — член праўлення БГКТ. «Чалавек высокай штабной культуры», як ён сам сябе называў, Леанід Мікалаевіч падрыхтаваў усе неабходныя паперы і дамогся афіцыйнай рэгістрацыі БГКТ у мэрыі Санкт-Пецярбурга. Ён удзельнічаў у адкрыцці помніка беларусам і літоўцам — ахвярам палітычных рэпрэсій ў Левашове, пісаў карэспандэнцыі ў гарадскую беларускую газету «Родзічы», быў членам рады (скарбнікам) Санкт-Пецярбургскай суполкі Міжнароднага беларуска-расійска-японскага фонду імя Іосіфа Гашкевіча. Часам на нефармальныя сустрэчы прыносіў «Лявоніху» — так называлася моцная і духмяная наліўка, зробленая на аснове дачнай сыравіны. Да свайго заўчаснага скону вёў усё справаводства Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Чалавек сапраўды высокай культуры, Лявон Навасельскі чытаў па-французску і па-англійску, пісаў вершы на беларускай, рускай і польскай мовах.

У Ваенна-марскім інжынерным вучылішчы ў Пушкіне паралельна з Лявонам Навасельскім навучаўся **Артур Уладзіміравіч Усенкоў**, выпускнік школы ў Пірэвічах, што ў Жлобінскім раёне. Аднак пасля выпуску Артура Усенкова накіравалі не на флот, а на перакваліфікацыю ў новы на той час род войскаў. У ракетных войсках стратэгічнага прызначэння здольны лейтэнант даслужыўся да звання генерал-лейтэнанта, а пасля

дэмабілізацыі працаваў у Маскве на пасадах генеральнага дырэктара абароннага канцэрна «Рособщемаш» і старшынёй савета дырэктараў міжнароднай касмічнай кампаніі.

З марской тэматыкай былі звязаны навуковыя распрацоўкі **Аляксандра Міхайлавіча Барушкі** (1907–1981). Ён, аднак, не ствараў караблі ці абсталяванне для іх. Ён ствараў сродкі знішчэння караблёў. Нарадзіўся Аляксандр Барушка на ст. Пагодзіна на Беларусі. Паступіў у Маскоўскі механіка-машынабудаўнічы інстытут, адтуль пераведзены ў Ваенна-марскую акадэмію ў Ленінград, якую закончыў у 1933 г. Працаваў на заводзе № 178 старшым канструктарам міннага аддзела. Пад кіраўніцтвам Абрама Гейро распрацоўваў авіяцыйную міну АМГ-1 — першую савецкую беспарашутную якарную гальванаўдарную міну, якая была прынята на ўзбраенне ў 1939 г. У 1938 г. Аляксандр Барушка прызначаны начальнікам ЦКБ-36. На гэтай пасадзе ён займаўся распрацоўкай і вытворчасцю міннай і тарпеднай зброі — аднаго з важных складнікаў перамогі ў вайне. Стаў першым дырэктарам створанага ў 1944 г. НДІ-400, у задачы якога ўваходзіла канструяванне падводнай марской зброі. З невялікім перапынкам працаваў тут да 1972 г. (з 1966 г. арганізацыя перайменавана ў НДІ «Гідрапрыбор»). У перыяд яго работы распрацоўваліся новыя донныя некантактныя міны, плаваючыя міны, а таксама вялікая карабельная плаваючая міна «Краб». У 1949 г. Аляксандр Барушка стаў лаўрэатам Сталінскай прэміі[1].

Яшчэ адзін беларус, які прафесійна займаўся марскімі мінамі — інжынер-контр-адмірал **Канстанцін Іванавіч Сакольскі** (1902–1969), ураджэнец Брэст-Літоўска. З 1921 г. служыў на Балтыйскім флоце, курсантам удзельнічаў у тушэнні міннага пажару ў Кранштаце ў 1923 г. Гэты пажар «адгукнуўся» Канстанціну Сакольскаму ў 1924 г., калі ён удзельнічаў ў далёкім паходзе савецкіх ваенных караблёў (крэйсера «Аўрора» і вучэбнага судна «Камсамолец») па маршруце Кранштат–Данія–Швецыя–Нарвегія–Эдынбург. У Бергене маракоў сустракала пасол СССР у Нарвегіі А. Калантай і ад імя ЦВК СССР уручыла пяці маракам, у тым ліку К. Сакольскаму, за мужнасць пры тушэнні міннага пажару ордэн Чырвонага Сцяга. Пазней (у 1935–1938 гг.) галоўны тарпедыст Балтыйскага флоту, Канстанцін Іванавіч быў начальнікам 3-га (міннага) аддзела НІМТІ у Ленінградзе, а ў 1956–1957 гг. — намеснікам начальніка НДІ № 3 ВМФ. І невядома, які з шасці ордэнаў быў для яго даражэйшы — за дэсант у Керчанскім праліве, за размінаванне карэйскіх портаў Расін і Сайсін ці той, першы...

Шмат пазней, у 1980-я гады ў Святаноскім заліве Барэнцава мора кіраваў іспытамі марской міны МДС-1 іншы марак-беларус, контр-адмірал Станіслаў Козінцаў. На падставе тых іспытаў была распрацавана методыка па выкананню баявога манеўра па практычнай пастаноўцы міны на базе тарпеды 53-65 са стоп-схемай. А нарадзіўся **Станіслаў Мікалаевіч Козінцаў** (04.01.1948) у Калінкавічах, дасёння ў сямейным архіве на ганаровым месцы яго фатаграфія ў матроске на беразе Прыпяці ў Пінску (бацька працаваў там старшынёй калгаса). Скончыўшы на радзіме 11-годку (Калінкавіцкую СШ № 2) і атрымаўшы добрыя веды ў прыродазнаўчых навуках і званне кандыдата ў майстры спорту па вольнай і класічнай барацьбе, Станіслаў Козінцаў паступіў у 1966 г. на факультэт мінна-тарпеднага ўзбраення Ленінградскага вучылішча падводнага плавання імя Ленінскага камсамола. Пасля заканчэння вучылішча быў прызначаны начальнікам лабараторыі тарпедатэхнічнай базы Паўночнага флоту, а праз тры месяцы дамогся пераводу на падводную лодку і на пасаду камандзіра БЧ-3 ПЛБР К-145 701 праекта з 6-цю балістычнымі ракетамі. На ёй удзельнічаў у іспытах ракетнага комплекса Д-9: праведзена 12 надводных і падводных



*Станіслаў Козінцаў*

[1] *Мелуа А. И.* Инженеры Санкт-Петербурга. 2-е изд., доп.СПб.; М., 1997. С. 157.

пускаў, адзін з іх 2-ракетны. Пры адным з пускаў, з-за памылкі ў зборцы ракеты на заводзе, адбыўся ўзрыў ракеты ў шахце. Дзякуючы майстэрству камандзіра ПЛ капітана 1 ранга Юрыя Іларыёнава і ўмелым дзеяннем экіпажа ўдалася пазбегнуць гібелі падводнай лодкі.

З верасня 1984 да ліпеня 1984 г. Станіслаў Козінцаў вучыўся ў Ваенна-марской акадэміі. Пасля заканчэння вярнуўся на Паўночны флот намеснікам камандзіра (пазней і камандзірам) дывізіі атамных падводных лодак. Выконваў задачы баявой службы ў морах Паўночнага Ледавітага акіяна, Атлантыцы і Міжземным моры. З верасня 1992 г. ён ізноў, ужо настала, пецярбуржац, начальнік факультэта ўзбраення Вышэйшых афіцэрскіх класаў ВМФ. Прыемнай падзеяй у сямейным жыцці адмірала Козінцава стала ўручэнне лейтэнанціх пагонаў і корцікаў выпускнікам 2002 г. Пецярбургскага Марскога корпуса імя Пятра Вялікага, сярод якіх быў і яго сын, Аляксандр Козінцаў.

«Ленком», як скарочана называлі Вышэйшае ваенна-марское вучылішча падводнага плавання, скончыў у 1973 г. ураджэнец (нар.15.04.1951) вёскі Яфімаўка Клецкага раёна **Аляксей Міхайлавіч Малашэвіч**. А ў адстаўку выйшаў (і стаў пецярбуржцам) меўшы за плячыма 17 год службы на Паўночным флоце, скончаныя Вышэйшыя афіцэрскія класы і Акадэмію ВМФ, будучы капітанам першага ранга і камандзірам апошняй на Балтыйскім моры дывізіі атамных падводных лодак.

Незабыўныя гады маладосці аддаў першаму ў СССР цяжкаму ракетнаму крэйсеру «Кіраў» **Мікалай Мікалаевіч Курган** (нар. 11 красавіка 1955 г. у вёсцы Рэчыца Столінскага раёна Брэсцкай вобласці). Вучыўся у Рэчыцкай школе, дзе настаўнікам працаваў яго бацька, Мікалай Рыгоравіч. Добра вучыўся, добра спяваў, быў энергічным завадатарам. Пасля школы паступіў у Горкаўскае вышэйшае ваеннае вучылішча тылу, якое паспяхова скончыў у 1977 г. Малады інжынер-эканаміст лейтэнант Мікалай Курган быў уключаны на пасаду памочніка камандзіра па забеспячэнні ў склад экіпажа, які фармаваўся на Паўночным флоце для першага ў СССР цяжкага ракетнага крэйсера. На тры гады ён стаў ленінградцам: у складзе экіпажа ўдзельнічаў у заканчэнні работ па стварэнні карабля, прымаў удзел у распрацоўцы нарматыўных дакументаў па забеспячэнні карабля, забяспечваў крэйсер усім неабходным. Пасля пераходу на Паўночны флот да месца пастаяннага базіравання, пачалася дапрацоўка карабля па ўводзе яго ў склад сіл пастаяннай баявой гатоўнасці. І тут Мікалай Курган арганізаваў забеспячэнне крэйсера неабходнымі тэхнічнымі матэрыяламі, харчаваннем, рэчамі і шкіперскай маёмасцю. За паспяховае выкананне завяршальных работ капітан-лейтэнант Курган быў узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны». Пры выкананні службовых абавязкаў ён атрымаў цяжкае пашкоджанне здароўя і пасля працяглага лячэння ў шпіталі ў 1984 г. быў спісаны з марской службы; прызначаны на навукова-выпрабавальную базу ракетнага палігона. У 1991 г. за заслугі ў асваенні новых відаў ваеннай тэхнікі капітан 3-га рангу Мікалай Курган быў узнагароджаны медалём «За баявыя заслугі», а Прэзідыум Федэрацыі касманаўтыкі Расіі ўзнагародзіў яго медалём імя акадэміка У. Макеева. З 1991 г. ужо ў званні капітана 1-га рангу Мікалай Мікалаевіч з'яўляецца намеснікам начальніка ВВМВ імя М. Фрунзе па матэрыяльным забеспячэнні. Па выслузе гадоў са студзеня 2000 г. ён пераходзіць на працу дырэктара гасцініцы замежных ваеннаслужачых Галоўнага ўпраўлення міжнароднага ваеннага супрацоўніцтва Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі.

Апошні прытулак для многіх маракоў —



*Мікалай Курган*

Серафімаўскія могілкі. Сярод іншых тут пахаваны ўвесь экіпаж (118 чалавек) атамнай падводнай лодкі К-141 «Курск», якая загінула ў Паўночным моры 12 жніўня 2000 г. Побач з таварышамі ляжыць старшы памочнік

камандзіра лодкі беларус **Сяргей Дудко**, які да паступлення на ваенна-марскую службу гадаваўся ў вёсцы Невель Пінскага раёна ў бабулі Дар'і Мікітаўны Гладун.

У Пецярбургскім ваенна-марскім вучылішчы курсант — галоўны старшына Дудко быў ужо старшыной роты: для тых, хто ведае спецыфіку курсанцкага жыцця, гэта шмат пра што гаворыць! Ужо афіцэрам Сяргей Дудко прымаў удзел у паходзе атамахода Б-414 да Паўночнага полюса ў жніўні 1994 г., дзе падчас няштатнай сітуацыі праявіў мужнасць і высокі прафесіяналізм. Вось як пра гэта сказана ў яго атэстацыі: «...у час выкапання баявой задачы праявіў адвагу і мужнасць пры ўзнікненні аварыйнай сітуацыі ў першым адсеку з-за кароткага замыкання ў прыборы 66 МГК-500. Хуткімі і рашучымі дзеяннямі капітан-лейтэнант Дудко прадухіліў загаранне і задымленасць адсека, ліквідаваў аварыйную сітуацыю, якая магла прывесці да цяжкіх наступстваў». За гэты паход ён узнагароджаны медалём «За отличие в воинской службе». Пасля былі камандзірскія класы, таксама як і вучылішча закончаныя на выдатна. Мелася адбыцца добрая кар'ера, бо далёка не ўсе ў трыццаць гадоў надзяваюць пагоны капітана 2-га рангу!

Пасля ўзнікнення аварыйнай сітуацыі на «Курску» ў жніўні 2000 г. лодка жыла яшчэ 8 гадзін, тэмпература ў адсеках, дзе быў пажар, дасягала (па вывадах камісіі) 800 $^0$С! Экіпаж да апошняга мужна змагаўся за жыццё карабля і загінуў на глыбіні, не дачакаўшыся пад'ёму субмарыны. Трагедыя «Курска» мела вялікі рэзананс у грамадстве. 184-я сярэдняя школа Пецярбурга, што на Ржэўцы, была названа ў гонар падводніка Сяргея Дудко. Даведаўшыся пра катастрофу, спачуванні жонцы Сяргея Дудко Аксане, сыну Кастусю і дачцы Сафіі (яны на той час адпачывалі ў Пінску) выказаў прэзідэнт Рэспублікі Беларусь.

На Серафімаўскіх могілках можна знайсці помнік ураджэнцу Пінска контр-адміралу **Паўлу Аляксеевічу Трайніну** (1895–1956), які быў начальнікам кафедры аператыўна-тактычных навук (з чэрвеня 1947 да мая 1950 г.), аператыўнага мастацтва і агульнай тактыкі (май 1950 – чэрвень 1956 г.) Ваенна-марской акадэміі караблебудавання і ўзбраення імя Д. Крылова.

З 1995 г. да выхаду ў запас у 2005 г. намеснікам начальніка Вышэйшых спецыяльных афіцэрскіх класаў ВМФ па вучэбнай навуковай працы быў беларус **Анатоль Васільевіч Гаўрылаў**, які нарадзіўся 22 красавіка 1945 г. у вёсцы Рудзенка Жлобінскага раёна Гомельскай вобласці. У 1962 г. скончыў СШ у Пірэвічах, а ў 1968 г. — Вышэйшае ваенна-марское вучылішча імя М. Фрунзе ў Пецярбургу. Праходзіў службу на розных караблях Балтыйскага флоту, удзельнічаў у далёкіх паходах у Міжземнае мора і Атлантыку. На крэйсеры «Кастрычніцкая рэвалюцыя» Анатоль Гаўрылаў прымаў удзел у араба-ізраільскім канфлікце. Неацэнны вопыт далі пяць гадоў камандавання эскадраным мінаносцам, на якім, прынамсі, на працягу 9 месяцаў выконваў задачы баявой службы ва Усходняй частцы Атлантычнага акіяна, у Анголе, Гвінеі. У 1983 г. Анатоль Васільевіч на выдатна скончыў Ваенна-марскую акадэмію імя Грэчкі і ў 1986–1994 гг. быў начальнікам штаба, а потым апошнім камандзірам Чырвонасцяжнай Талінскай ваенна-марской базы. Пецярбуржцам кандыдат ваенных навук дацэнт Гаўрылаў стаў пасля ліквідацыі гэтай базы, у выніку атрымання Эстоніяй незалежнасці[1].



*Анатоль Гаўрылаў*

Сённяшні пецярбуржац, віцэ-адмірал **Адам Адамавіч Рымашэўскі** нарадзіўся 25 мая 1952 г. у вёсцы Гозбішчы Уздзенскага раёна Мінскай вобласці. З 1969 г. ён прайшоў шлях ад курсанта Чарнаморскага вышэйшага ваенна-марскога вучылішча імя П. Нахімава

[1] *Долготович Б.* Адмиралы земли белорусской. Минск, 2004. С. 60–61.



*Адам Рымашэўскі*

ў Севастопалі да начальніка Ваенна-марской акадэміі імя М. Г. Кузняцова. Падчас службы на караблях флота Адам Рымашэўскі неаднойчы выконваў баявыя задачы ў зоне Атлантычнага акіяна, ставіўшыся да сваіх абавязкаў сумленна і з творчым падыходам. Пазней, калі ён заняў пасаду начальніка Балтыйскага ваенна-марскога інстытута (былога Калінінградскага вышэйшага ваенна-марскога вучылішча), вопыт далёкіх паходаў дапамог яму дамагчыся значнага паляпшэння арганізацыі службы і якасці падрыхтоўкі спецыялістаў па радыётэхніцы і аўтаматызаваных сістэмах кіравання Ваенна-марскога флота. Энэргічна і з энтузіязмам узначаліў віцэ-адмірал Рымашэўскі працу па выхаванню і падрыхтоўцы каманднага саставу расійскага флота на базе Вышэйшых спецыяльных класаў Ваенна-Марскога Флота. Будучы кандыдатам ваенных навук, доктарскую дысертацыю Адам Адамавіч прысвяціў педагагічным тэхналогіям у аўтаматызаванай сістэме кіравання навучальным працэсам у вышэйшых ваенна-марскіх навучальных установах. Пад яго кіраўніцтвам праводзіцца распрацоўка трэнажорных комплексаў і выкарыстанне іх падчас навучальнага працэсу ў ВМА ім. М. Кузняцова.

Намеснікам начальніка Ваенна-марской акадэміі таксама беларус — контр-адмірал **Генадзь Іванавіч Палюховіч**. Нарадзіўся ён 17 верасня 1951 г. у Заслаўі Мінскага раёна. Скончыў у 1973 г. Ленінградскае ваенна-марское вучылішча падводнага плавання імя Ленінскага камсамола, служыў на Паўночным флоце. Пачынаў на дызельнай падводнай лодцы, потым служыў на АПЛ, з 1984 па 1987 — камандзірам лодкі. У 1987—1989 гг. на два гады стаў пецярбуржцам — вучыўся ў Ваенна-марской акадэміі. Пасля зноў Поўнач — начальнікам штаба Патаньскай Ваенна-марской базы Паўночнага флота, нарэшце, камандзірам Патаньскага раёна базіравання сіл Паўночнага флоту. Вярнуўшыся ў Пецярбург у канцы 1990-х, Генадзь Палюховіч выкладае на кафедры тактыкі падводных лодак Ваенна-марской акадэміі. Апошні камандзір расфарміраванай ў 1995 г. 3-й дывізіі атамных падводных лодак, Генадзь Палюховіч узначальвае Таварыства ветэранаў-падводнікаў гэтай дывізіі, ад імя Таварыства ўручае лаўрэатам юбілейны медаль «Ветэрану халоднай вайны на моры, за службу ў шэрагах 3-й дывізіі атамных падводных лодак».



*Генадзь Палюховіч*

**Валерый Анатольевіч Карнюшка** (11.08.1945—16.07.1996) нарадзіўся ў Барысаве. У 1963 г. ён скончыў Барысаўскую школу № 13, у 1969-м — зенітна-ракетны факультэт Ленінградскага вышэйшага ваенна-марскога вучылішча імя М.В. Фрунзэ. Служыў на розных пасадах на Балтыйскім і Паўночным флатах, у тым ліку і камандзірам карабля. Пасля вучобы ў Ваенна-марской акадэміі і акадэміі Генеральнага штаба Валерый Карнюшка быў камандзірам дывізіі ракетных караблёў Балтфлота, начальнікам штаба балтыйскай эскадры. У 1991—1995 гг. ён камандуючы Кольскай ваеннай флатыліяй, з 1995 — начальнік НДІ ВМФ. Заўчасна памёр ад сардэчнага прыступа.

У Мазыры ў сям'і настаўнікаў нарадзіўся 28 кастрычніка 1946 г. **Вячаслаў Міхайлавіч Лагір**. У школу ён пайшоў у Мінску: спачатку вычыўся ў 4-й, што насупраць ЦК Кампартыі

Беларусі, а скончыў (1964) 50-ю, што недалёка ад тэлецэнтра. З караблямі ВМФ упершыню пазнаёміўся ў судамадэльным гуртку Мінскага палаца піянераў. Потым быў курсантам у Севастопалі, у Чарнаморскім вышэйшым ваенна-марскім вучылішчы імя адмірала П. С. Нахімава. Служыць трапіў на падводныя лодкі Паўночнага флота.

У лютым 1981 года, успамінае Вячаслаў Міхайлавіч, — чарговая баявая служба. Пасля вяртання быў выкліканы да камандзіра 11 дывізіі контр-адмірала Ягора Андрэевіча Тамко ў кабінет, запомніў яго фразу: «Камандзірам ПЛ ты станеш заўсёды, а вось на вучобу ў Ваенна-марскую акадэмію можаш і не трапіць» — пасля гэтага даў згоду на залічэнне кандыдатам на паступленне ў акадэмію. Для пасады плаваючага старэйшага памочніка камандзіра ПЛ гэта было ганарова.

Першы раз пецярбуржцам (ленінградцам) быў напрацяг 1981—1983 гг. — вучоба ў Ваенна-марской акадэміі дала шмат — значна пашырыла кола знаёмых, упарадкавала па ўзроўням і павялічыла па аб'ёму веды, і самае галоўнае — далягляд і мысленне выйшлі за межы мосціка, цэнтральнага паста ПЛ і прычалу. Пасля сканчэння навучання быў прызначаны камандзірам «К-452», галаўной лодкі 670М праекта з датэрміновым прысваеннем воінскага звання «капітан 1 ранга».

Знаходзячыся ў моры ўжо на трэцяй у 1985 годдзе БС (баявой службе), пачаў заўважаць фізічную стомленасць, ажывіла атрыманная ТЛГ з Прыказам МА РФ аб прызначэнні ЗКД (намеснікам камадзіра дывізіі) у сваёй дывізіі. Вынік года для сям'і — 235 дзён адсутнічаў, дома не быў.

Пасада ЗКД не дае доўга пабыць на беразе — так і было па жыцці, да снежня 1989 г. шэсць разоў Вячаслаў Лагір хадзіў на баявыя службы старшым на борце, добра вывучыў тэатр баявых дзеянняў — Атлантыку і Міжземнае мора, тактыку дзеянняў ВМС ЗША і НАТО, ведаў, дзе і хто яго чакае — у якіх ключавых кропках маршрута пераходу; як складана і неадназначна фарсіраваць Гібралтарскі праліў — пастаянны кантроль за месцам ПЛ; што няма нічога і нікога больш шкоднага для камандзіра ПЛ чым супрацьлодачныя самалёты БПА (базавай патрульнай авіяцыі); як няпроста ўсплываць на сеансы сувязі пры інтэнсіўным суднаходстве каля берагоў Афрыкі і Італіі і асабліва сачыць за АМГ (авіяноснай шматцэлевой групай), ДэсАм (дэсантным атрадам), утрымліваючы іх ў коле стральбы сваімі ракетамі, трымаючы пры гэтым каманду лодкі ў напружанні па баявой трывозе па некалькі гадзін.

Са снежня 1989 па лістапад 1993 гг. Вячаслаў Лагір — камандзір 50-й дывізіі АПЛ, займаецца баявой падрыхтоўкай у базе і ў моры, кіруе ракетнымі і тарпеднымі стрэльбамі, іспытамі новых узораў зброі, у тым ліку РК «Онікс». У жніўні 1992 г. пасля двух гадоў камандавання дывізіяй яму было прысвоена воінскае званне «контр-адмірал».



*Вячаслаў Лагір*

Са студзеня 1995 г. Вячаслаў Міхайлавіч зноў стаў пецярбуржцам, узначаліўшы славутую сярод падводнікаў кафедру Баявога прымянення тарпедных узбраенняў падводных лодак Вышэйшых спецыяльных афіцэрскіх класаў ВМФ, працягвае выкладчыцкую працу і пасля звальнення (у 2005 г.) у запас. Агулам ён праслужыў у ВМФ 41 каляндарны год, у льготным злічэнні 57 год 11 месяцаў, баявая праца — 15 баявых служб. Сын адмірала — Сяргей Вячаслававіч — у 2000 годзе скончыў універсітэт ім. Бонч-Бруевіча, працуе ў галіне тэлекамунікацый.

Пасля смерці бацькі адмірала (Міхаіл Лагір быў старшынёй Камітэта народнага кантроля БССР) страцілася кватэра ў цэнтры Мінска, побач з паркам Горкага, але сувязі з радзімай Вячаслаў Міхайлавіч не страціў — цікавіцца гісторыяй сям'і і бацькоўскай вёскі (Ражава Даўлідоўскага с/с Нараўлянскага раёна), зрэдку наведвае сталіцу Беларусі.

Калі ў пасляваенным Савецкім Саюзе ленінградскі беларус Мікалай Браніслававіч Паўловіч быў прызнаным знаўцам тактыкі прымянення ваенна-марскога флоту, то ў наступным пакаленні пецярбургскіх беларусаў з'явіўся чалавек, які сур'ёзна спрычыніўся да выпрацоўкі стратэгіі развіцця і прымянення Ваенна-марскога флоту Расіі.



*Алег Шкіратаў*

Контр-адмірал **Алег Цімафеевіч Шкіратаў** нарадзіўся 20 мая 1948 г. у вёсцы Жалязніца Брэсцкай вобласці. У 1954–1964 гг. ён вучыўся ў Даманавіцкай СШ Івацэвіцкага раёна. Пасля скончыў Ленінградскае ВВМВ імя Ленінскага камсамола і дзве акадэміі: Ваенна-марскую ў 1984 г. і Генеральнага штаба ў 1988 г. Служыў на атамных падводных лодках Паўночнага Флота на пасадах ад камандзіра баявой часткі да камандзіра дывізіі АПЛ, тры гады быў начальнікам кафедры аператыўнага кіравання ў Ваенна-марской акадэміі ім. М. Г. Кузняцова. З 1994 г. доктар ваенных навук, прафесар Алег Шкіратаў — начальнік 24-га ЦНДІ Міністэрства абароны. У больш чым 70 кнігах і артыкулах ён распрацаваў пытанні па развіццю берагавой інфраструктуры, па стварэнні адзінай сістэмы інфармацыйнага забеспячэння флота. Алег Шкіратаў кіраваў распрацоўкай тэм «Марская стратэгія 2010», «Стратэгічнае і аператыўнае прымяненне ВМФ», «Канцэпцыя развіцця ВМФ да 2015 г.». У 2005 г. адмірал перайшоў у НПА «Імпульс» каб працягваць працу над праблемамі ўмацавання Ўзброеных Сіл Расійскай Федэрацыі

Два пакаленні чыгуначнікаў дала сям'я Шчукіных са Жлобіна. Але **Барыс Барысавіч Шчукін** (нарадзіўся 31 ліпеня 1934 г.) пайшоў іншым шляхам — стаў ваенным мараком. У родным Жлобіне і родным доме земскага ўрача Аляксея Паніна — дзеда па маці — Барыс Шчукін прабыў няшмат — бацьку перавялі ў Ленінград, потым у Маскву, дзе хлопец і перажыў Другую сусветную вайну. У 1945 г. паступіў у Рыжскае ваенна-марское нахімаўскае вучылішча, а ў 1955 г. скончыў вучылішча падводнага плавання па спецыяльнасці штурман падводнай лодкі. Пачынаў службу на Чарнаморскім флоце: ад камандзіра рулявой групы да камандзіра малой падводнай лодкі. Пазней служыў на атамных лодках, з 1966 па 1969 год — камандзірам АПЛ 7-й эскадры 1-й флатыліі падводных лодак Паўночнага флота. Разам са сваім караблём у 1968 г. заваяваў прыз Галоўнакамандуючага ВМФ за ракетную стральбу па марскіх цэлях. У 1969 г. Барыс Шчукін ізноў стаў ленінградцам — паступіў на камандны факультэт Ваенна-марской акадэміі, а пасля паспяховага заканчэння — у ад'юнктуру. Паспяхова абараніў дысертацыю на вучоную ступень кандыдата ваенна-марскіх навук і з 1974 г. прафесар Шчукін выкладае на кафедры аператыўнага мастацтва ВМФ, ён заслужаны работнік вышэйшай школы Расійскай Федэрацыі.



*Барыс Шчукін*



*Генадзь Радзеўскі*

Калі пасля заканчэння Другой сусветнай вайны ўраджэнец Бакдака Магілёўскага раёна, чыгуначнік **Антон Пятровіч Радзеўскі** (1914–1998) з Будапешта прыбыў у Ленінград, гэта толькі транзіт да вайсковай базы на тэрыторыі Фінляндыі Порккала-Уддэ. Магутныя берагавыя гарматы на фартах гэтай базы рухаліся па рэйках, абслугоўвалі іх акрамя артылерыстаў чыгуначнікі. Тут жа, у Фінляндыі, нарадзіўся (14.07.1949) сын — **Генадзь Антонавіч Радзеўскі**. У 1971 г. Генадзь Радзеўскі скончыў штурманскі факультэт Вышэйшага ваенна-марскога вучылішча імя М. Фрунзэ, потым служыў на караблях балтыйскага флоту, камандаваў тральшчыкамі, эскадраным мінаносцам «Настойлівы», старажавым караблём «Дружны». У 1987 г. скончыў камандны факультэт Ваенна-марской акадэміі, пераведзены на Паўночны флот, а пасля заканчэння ў 1995 г. акадэміі Генеральнага штаба служыў начальнікам штаба (1995–1998 гг.) і камандуючым 7-й аператыўнай (атлантычнай) эскадрай Паўночнага флота, у склад якой уваходзілі такія вядомыя караблі, як цяжкі атамны ракетны крэйсер «Пётр Вялікі», ракетны крэйсер «Маршал Усцінаў», супрацьлодачныя караблі (БПК) «Адмірал Чабаненка», «Адмірал Леўчанка», «Североморск», старажавы карабель «Задорны» і іншыя.

У 2003 г. віцэ-адмірал Генадзь Радзеўскі (гэта званне атрымаў у 1999 г.) хадзіў як старэйшы начальнік з візітам ветлівасці ў Англію на борце БПК «Адмірал Чабаненка», дзе духавы аркестр Беламорскай ВМБ і ансамбль «Северное сияние» далі цыкл канцэртаў для англічан. А ў 2004 г. звольніўся ў запас і зноў стаў пецярбуржцам.

Аб'ём нашай кнігі не дазваляе ўспамянуць малодшых марскіх афіцэраў беларусаў, зробім адно выключэнне — для крэйсера «Аўрора». У час працы над «Беларускім Пецярбургам» гэты гістарычны карабель знаходзіўся ўжо на вечнай стаянцы пры Пятроўскай набережнай Нявы — днішчам ён пасаджаны на бетонную падушку і плысці ніколі ўжо не зможа. Аднак «Аўрора» застаецца баявым караблём № 1 Балтыйскага флота і на ёй служыць невялікі экіпаж афіцэраў і матросаў. Сярод іншых — пецярбургскі беларус у трэцім пакаленні, капітан 2-га ранга **Мікалай Сяргеевіч Амелька** — унук знакамітага адмірала Мікалая Амелькі, які жыў недалёка — на Тучковай набярэжнай.



*Крэйсер «Аўрора»*

# Раздзел 18.

## ЛЮДЗІ САМЫХ РОЗНЫХ ПРАФЕСІЙ

Да часоў перабудовы сістэматворчым стрыжнем ленінградскай індустрыі працягваў заставацца ваенна-прамысловы комплекс (ВПК), які даваў у 1970—1980-я гг. да 35% агульнага аб'ёму вытворчасці, у зоне яго ўплыву знаходзілася ад 75 да 80% прадпрыемстваў горада. Пастаянна павышаўся інтэлектуальны складнік абарончых распрацовак і тэхналогій. Шырокае распаўсюджанне атрымалі, поруч з традыцыйнымі, атамнае судна- і энергамашынабудаванне, стварэнне ракетна-касмічнай тэхнікі, забеспячэнне многіх відаў узбраення найноўшымі радыётэхнічнымі сродкамі і аптычнымі сістэмамі, рухавікамі і г. д. Такая спецыялізацыя вытворчасці стварала дэфіцыт тавараў народнага спажывання. Часткова гэты дэфіцыт запаўняла лёгкая прамысловасць Беларусі. Вялікай папулярнасцю карысталіся беларускі абутак, халадзільнікі, тэлевізары, шпалеры, дываны, касметыка. Так доўжыцца да 2006 г., што паказвае знаёмства з тоўстым (1558 старонак) даведнікам «Yellow pages. Жоўтыя старонкі 2006». У раздзеле «Гандаль дыванамі» можна знайсці рэкламу ТАА «Атлант» і гандлёвага дома «ALTEX», якія заяўляюць пра сябе, як пра афіцыйных прадстаўніках беларускай фірмы «Дываны Брэста», а гандлююць і віцебскімі дыванамі. У раздзеле «Мэбля» можна знайсці пяць адрасоў магазінаў «Беларуская мэбля» і тры — «Беларускі двор». У адным з такіх «двароў», на Народнай, 43, мэблю гомельскай вытворчасці можна купіць не даражэй, чым у Мінску — прадпрыемства працуе непасрэдна ад завода-пастаўшчыка. У раздзеле «Парфума і касметычныя тавары» даведнік не змяшчае назваў «Беларуская касметыка», але гэта не адпавядае рэчаіснасці: прынамсі, у доме насупраць станцыі метро «Елізараўская» такі магазін дзейнічае з 2004 г. Папулярныя ў горадзе шпалеры беларускіх фабрык не толькі асобна выстаўляюцца ў вялікіх магазінах, але і маюць спецыялізаваны магазін «Гомельскія абоі» на Ланской шашы, 20. Назву «Беларусь» з пазітыўным значэннем у розных раёнах горада рэкламуюць спецыялізаваныя магазіны абутку: «Белвест» на Занеўскім праспекце, 10, шэсць магазінаў «Беларускі абутак» у розных частках Пецярбурга, тры магазіны «Абутак Беларусі» і адзін «Абутак Беларусі і Расіі». А вось сярод рэстаранаў з нацыянальнай кухняй «Жоўтыя старонкі» прапануюць самыя розныя, акрамя беларускіх. Нават калі мы знойдзем «Шынок» на Загарадным праспекце, 13, то гэта — рэстаран украінскай кухні... Хіба што адно выключэнне: кафэ «Бульбашонак» на вуліцы Разной, у якім гаспадарыць беларус Міхаіл Міхневіч і яго жонка Таццяна Кожухава, прапануе наведвальнікам стравы беларускай і рускай кухні. Не лепш і з алкагольнымі вырабамі. На пачатку перабудовы ў горадзе можна было шмат дзе знайсці беларускія піва і гарэлку, а гастраном «Саборнае кальцо» на вуліцы Пестэля нават меў фірменны аддзел Брэсцкага лікёра-гарэлачнага завода. Дзесьці




*Кафэ «Бульбашонак»*




*«Беларускі абутак» — у Пецярбургу гэта брэнд*

з 2000 г. усё змянілася — пецярбургскі рынак алкагольнай прадукцыі для беларускіх вытворцаў быў зачынены. Аднак пакрысе развіццё эканомікі і супрацоўніцтва з Беларуссю прыводзяць да пашырэння асартыменту беларуска-пецярбургскага гандлю і з'яўлення новых гандлёвых прадпрыемстваў, такіх, як магазін «Беларускі гасцінец» насупраць метро «Кіраўскі завод».

«Эканоміка павінна быць эканомнай» — гэты лозунг быў зусім сур'ёзна абвешчаны ў часы развалу развітага сацыялізму; ён сваёй таўталагічнай бездапаможнасцю сведчыў пра слабасць эканамічнай навукі, так залежнай у часы СССР ад ідэалогіі. Тым не менш у Ленінградзе заўсёды быў сканцэнтраваны істотны патэнцыял эканамістаў і арганізатараў вытворчасці, частка якіх — гэта ўраджэнцы Беларусі. Прыкладам, намеснікам генеральнага дырэктара буйнейшага ў Пецярбургу перапрацоўшчыка мяса ТАА «Парнас-М» працуе **Юрый Аляксандравіч Шчарбакоў**, які нарадзіўся ў перадваенным Мінску, у сям'і інспектара войск Беларускай вайсковай акругі, а былы генеральны дырэктар трэста «ЗападСельЭнергопроект» **Аляксандр Паўлавіч Шыйко** і сёння добра і з прыемнасцю гаворыць па-беларуску, успамінаючы школьныя гады ў Тураве (бацька быў накіраваны сюды з Расіі) і любімага настаўніка беларускай мовы Фёдара Міхайлавіча Саўчука. У 1980-я — 1990-я гг. на пасадзе сціплага інжынера працаваў ураджэнец беларускага Барысава **Анатоль Чубайс** — у будучым адзін з галоўных рэфарматараў расійскай эканомікі. Эканамічныя цяжкасці перыяду «развалу СССР» альбо «перабудовы» вымагалі ад прадстаўнікоў усіх галін прамысловасці і гаспадаркі знайсці новыя метады кіравання і арганізацыі, правесці рэформы існуючых структур.

Шмат беларусаў, якія працавалі над гэтымі праблемамі ў будаўнічым комплексе Пецярбурга. Сярод іншых — **Аркадзь Антонавіч Гарбуноў**. Нарадзіўся ён у 1939 г. у Магілёве. Закончыў у 1962 г. Беларускі інстытут чыгуначнага транспарту. З 1966 г. працаваў у трэсце «Севзапэлеваторстрой», з 1986 — у гэтай жа ўстанове, перайменаванай у «Ленагропромспецстроймонтаж». Пачынаў майстрам, вырас да упраўляючага трэстам. Зараз Аркадзь Гарбуноў акадэмік Санкт-Пецярбургскай інжынернай акадэміі і дырэктар навуковага цэнтра Інстытута сацыяльна-эканамічных праблем РАН. Доктар эканамічных навук, ён даследуе фактары, якія ўплываюць на сабекошт прадукцыі ў розных галінах будаўніцтва. Яго жонка — Людміла Леанідаўна — нарадзілася на Віцебшчыне. Закончыла фізмат Гомельскага педагагічнага інстытута, абараніла кандыдацкую дысертацыю па педагогіцы. Працуе ў Пецярбургскім інстытуце адукацыі дарослых. Сын стаў кандыдатам эканамічных навук.

Бізнесоўцам новай фармацыі стаў у Пецярбургу ўраджэнец Глыбокага **Міхаіл Рыгоравіч Наўмавец** (нар. 1960). Дзве вышэйшыя адукацыі — Наваполацкі інстытут і Вышэйшае інжынерна-будаўнічае вучылішча ў Ленінградзе — далі яму выдатныя веды як інжынеру-будаўніку, а працавітасць і абачлівасць дапамаглі, пасля звальнення з вайсковай службы, стварыць рэнтабельнае ТАА «Універсал-рэканструкцыя», а потым пашырыць бізнес на нерухомасць і сферу паслуг, знайсці магчымасці супрацоўніцтва з замежнымі партнёрамі.



*Міхаіл Наўмавец*

Ні падарожжы па Еўропе, ні добрыя ўмовы жыцця ў Пецярбургу не спыняюць Міхаіла Рыгоравіча каб раз на год не паехаць на родную Віцебшчыну, у Глыбокае. Пахадзіць берагам азёраў (якіх пяць у рысе горада!), успамінаючы, як некалькі разоў выганялі з цэнтральнага возера ласёў, як нябожчык-бацька бяззбройны перамог ваўка, дапамагчы маці, якая, пражыўшы зіму ў яго пецярбургскай кватэры, бы тая пералётная птушка, кожную весну пачынае хвалявацца і лічыць дні да вяртання на радзіму...

Гамяльчанка **Ала Міхайлаўна Акуліна** (нар. 4 чэрвеня 1952 г.) закончыла ў 1969 г. у родным горадзе СШ № 19, паступіла ў Беларускі політэхнічны інстытут. Выйшла замуж за свайго былога аднакласніка **Пятра Пятровіча Акуліна**, які на той час быў курсантам Вышэйшага ваенна-марскога вучылішча падводнага плавання імя Ленінскага Камсамола і навучаўся ў Ленінградзе. У лістападзе 1974 г. Ала Міхайлаўна атрымала

дыплом аб вышэйшай адукацыі, а 21 снежня 1975 г. у сям'і Акуліных у Гомелі нарадзіўся сын Аляксандр. Маладая сям'я год пажыла ў ваенным гарадку Ліінахамары Мурманскай вобласці, а пасля пераехала на пастаяннае жыхарства ў Кранштат. Тут і пачалася працоўная біяграфія Алы Акулінай: спачатку бухгалтарам на малочным заводзе, потым амаль 10 гадоў у фінансавым аддзеле Кранштацкага гарнізона. Ала Міхайлаўна з 1993 г. стала загадваць аддзелам у падаткавай інспекцыі Кранштата, а з 2003 г. яна намеснік кіраўніка Міжраённай падаткавай інспекцыі № 12 у Сестрарэцку. Па маці, фінансістам, вырашыла пайсці дачка Наташа (нарадзілася ў Кранштаце ў чэрвені 1985 г.), паступіўшы ва Універсітэт эканомікі і фінансаў. Яшчэ адзін выпускнік Беларускага політэхнічнага інстытута (1971) і аспірантуры пры ім — **Леанід Іосіфавіч Цёмкін** (нар. у 1948 г.) стаў пецярбуржцам пасля заканчэння стажыроўкі ў Масачусецкім інстытуце (ЗША). Цяпер ён узначальвае ў Пецярбургу Спецыяльнае мантажна-наладачнае упраўленне па комплексным укараненні аўтаматызаваных сістэм (СМУ «КВАРС»).

У 2004 г. у Пецярбургу з'явілася новая кампанія «Лагістыка паўночнаеўрапейскіх газаправодаў». Асноўная задача — быць прадстаўніком «Газпрома» на будоўлі двух нітак газаправоду да Выбарга і далей па дну Балтыйскага мора — у Германію. Каб узначаліць гэтае прадпрыемства, у горад з газавай сталіцы Расіі Урэнгоя прыбыў беларус Валерый Каровін.

Яго «малая радзіма» — вёска Крывічы, што на Мядзельшчыне, за некалькі кіламетраў ад старажытнага Будслава. Дырэктар Крывіцкай сярэдняй школы, дзе вучыўся **Валерый Сяргеевіч Каровін** (нар. 15 красавіка 1949 г.), пакінуў добры ўспамін і моцнае ўражанне: Віктар Іосіфавіч Міцкевіч (пляменнік Якуба Коласа) неардынарна вёў урокі, у яго вучыліся самастойна і нетыпова разважаць пра розныя прадметы; любіць Радзіму, любіць беларускую літаратуру; ён ні да чога і не прымушаў — любоў перадаецца! Сустрэўшыся ў жніўні 2005 г. з аднакласнікам-пецярбуржцам Аляксандрам Станкевічам і аўтарам гэтай кнігі, загаварылі пра літаратуру. Валерый Сяргеевіч цёпла ўспамінаў свайго нябожчыка-настаўніка, потым выказаўся пра любімага беларускага пісьменніка: «Васіль Быкаў не прэтэндуе на першынства — ён першы!».

Армію Валерый Каровін адслужыў у Карэліі ў прыгажэйшай мясціне Суаярві. Потым пачалася працоўная біяграфія: у Мінску на Беларускім оптыка-механічным аб'яднанні, адкуль маладога стараннага рабочага паслалі вучыцца па спецыяльнасці ў Ленінградскі інстытут дакладнай механікі і оптыкі. Складана было рабочаму-вылучэнцу, які за гады службы ў арміі паспеў шмат што забыць са школьнай навукі, навучацца ў самым «цяжкім» (па выкладанні матэматыкі і фізікі) інстытуце. Але не здаўся, не кінуў; на старшых курсах дагнаў па поспехах фаварытаў. Вярнуўшыся на БелОМА, працаваў канструктарам, у 1982 г. паехаў ва Урэнгой — асвойваць буйнейшае ў свеце радовішча газу.



*Валерый Каровін*

Журналісты, каб абазначыць паняцце «газаправод», часта карыстаюцца словам «труба». Для Валерыя Каровіна «труба» і «газаправод» — не сінонімы. Трубы для перадачы газу — гэта сапраўды трубы, нямецкай або японскай вытворчасці, таўшчынёй сценак 22 мм (як броня армейскага бронетранспарцёра), дыяметрам 1400 см. А газаправод — гэта дзве ніткі з пятнаццаці такіх трубаў, плюс кампрэсарныя станцыі, плюс тэлемеханіка, сіменсаўская радыёрэлейная сувязь, паветраныя лініі электраперадач. Ціск у трубах 75 атмасфер (для параўнання: бытавы газ падаецца ў пецярбургскія кватэры пад ціскам 2 атмасферы). Асаблівы клопат вядучага спецыяліста, а потым начальніка ўпраўлення «Урэнгой-газпрома» Валерыя Каровіна — кампрэсарныя станцыі ў раёне вечнай мерзлаты. Яны стаяць на палях. Палі — гэта таксама трубы (150—300 мм дыяметрам), для якіх у вечнай мерзлаце прабураны свідравіны, у сярэдзіне паля-труба,

залітая пяшчанай сумессю. Адна газакампрэсарная станцыя — гэта дзесяць тысяч такіх паляў! Валерый Каровін пабудаваў дзясяткі кампрэсарных станцый...

Заканчвалася XX стагоддзе, але ў некаторых выпадках паняцце «выжыць» на Поўначы набывала той жа сэнс, што і на вайне. Як, напрыклад, у 1987 г., калі калона з 7-мі машын з абжытага ўжо Урэнгоя рушыла на 400 кіламетраў на поўнач, у запалярны Ямбург. Зіма, пурга, балоты замерзлі, але машыны не прайшлі, заселі. Два тыдні без ацяплення... Трымацца дапамагалі думкі пра сям'ю: жонку Валянціну (выпускніца Гомельскага універсітэта, працавала ў школе настаўніцай хіміі і біялогіі), дачку Лену.

Выдатнік «Газпрома», ветэран працы «Газпрома», лаўрэат ганаровых граматаў «Газпрома», знаўца асаблівасцяў характару людзей самых розных нацый — ва Урэнгоі багата ўсіх! — Валерый Сяргеевіч найбольш успамінае мясцовы народ — хантаў. Толькі яны могуць спакойна пражыць гэтую зіму — 8 месяцаў на год. Ад іх навучыўся радавацца «боскаму дару» кароткага паўночнага лета. Сібірскія воды частавалі выгадаванага на берагах беларускай рэчкі Сэрвачы рыбака муксунам і нэльмай — вялікімі дэлікатэсамі. Але ўсё адно самымі любімымі стравамі засталіся дранікі і вараная бульба з засмажаным салам.

Кампанія «Лагістыка паўночнаеўрапейскіх газаправодаў» зарабіла ўжо сабе добры імідж. Заслуга ў гэтым не толькі Валерыя Каровіна, але і ўсяго калектыва, уключаючы галоўнага бухгалтара **Зою Іванаўну Шыдлоўскую**, якая аказалася зямлячкай генеральнага дырэктара (таксама з Крывічоў).

Родны брат Валерыя, **Анатоль Сяргеевіч Каровін,** пецярбуржцам таксама станавіўся двойчы. Пасля заканчэння Вышэйшага ваеннамарскога вучылішча імя Ф. Дзяржынскага ён 15 гадоў аддаў Паўночнаму флоту. Службу скончыў камандзірам БЧ-5 адной з атамных падводных лодак, капітанам 2-га рангу. Былы падводнік недоўга адпачываў на сушы — перабраўшыся ў Сестрарэцк, арганізаваў сетку магазінаў па продажы тавараў бытавой хіміі. У пачатку XXI ст. яны сабраліся ў Сестрарэцку: браты Валерый і Анатоль Каровіны прывезлі сюды маці, а ў родныя Крывічы час ад часу наведваюцца на магілу бацькі. Бываючы ў Беларусі, сустракаюцца са стрыечным братам Паўлам Данейкам, вядомым эканамістам, былым дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Сярод самых паспяховых бізнэсменаў Пецярбурга браты **Сяргей і Міхаіл Іванавічы Снапкі**. Старэйшы — Сяргей — нарадзіўся 13 ліпеня 1966 г. у Барысаве Мінскай вобласці, служыў у войску, пасля дэмабілізацыі ў 1990 г. працаваў у кампаніі «Фаэтон» бухгалтарам, фінансавым дырэктарам, намеснікам старшыні праўлення. У 2002 годзе ён стаў старшынёй праўлення — генеральным дырэктарам ТАА «Холдынгавая кампанія «Фаэтон». У 2007 годзе, меўшы набытак $100 мільёнаў (ацэнка часопіса «Финанс»), Сяргей Снопак заняў 431 месца ў рэйцінгу 500 багацейшых людзей Расійскай Федэрацыі.



*Сяргей Снопак*

У чэрвені 2008 Сяргей Снопак і сузаснавальнік «Фаэтона» Уладзімір Хільчанка аб'явілі аб падзеле бізнеса. На той час холдынгу споўнілася 12 год, яго абароты па розных ацэнках складалі ад 70 да 100 млрд долл. у год. Сяргей Снопак застаўся распараджальнікам галоўнага брэнда кампаніі, паліўнага і аграрнага бізнэсу. Прынамсі, у 2008 годзе «Фаэтон-Агро», ужо меўшы шэсць высокапрыбытковых малочных гаспадарак у Ленінградскай вобласці, вырашыла набыць восем гаспадарак у Цвярской, агульнай плошчай 30 тыс. га. У іх развіццё мяркуецца інвеставаць каля 560 млн. руб., у планах «Фаэтона» давесці агульнае пагалоўе асноўнага статку гаспадарак да 9,5 тыс. «Зараз у кожнай гаспадарцы, якую мы купляем, захавалася толькі па 500 галоў, прычым іх прадуктыўнасць у некалькі разоў ніжэй, чым у кароў сельгаспрадпрыемстваў Ленінградскай вобласці. Мы будзем завазіць туды новых кароў, каб у выніку ў кожнай гаспадарцы было па 1200 галоў галоўнага статку з высокай прадуктыўнасцю, — расказваў Сяргей Снопак. — Акрамя таго, у кожнай гаспадарцы будзе па 300 га аддадзена пад бульбу і па 2—3 тыс. га пад зернявыя». Аналагічныя праекты будуць запушчаны ў іншых абласцях. Пасля рэалізацыі сваіх планаў «Фаэтон-Агро» можа стаць адным з першых расійскіх агра-

прамысловых холдынгаў, спецыялізаваных на малочнай жывёлагадоўлі. Эксперты лічаць, што старшыня савета дырэктараў ХК «Фаэтон» правільна выбраў момант для пашырэння гэтага бізнеса.



*Запраўка «Фаэтон»*

З самым неабходным сучаснай цывілізацыі палівам працуе пецярбургская кампанія «Фаэтон-Аэро» — у канцы XX — пачатку XXI ст. адзін з лідэраў бензінавага рынку паўночнай сталіцы. Яна кіруе двума буйнымі сеткамі аўтазаправачных станцый з пазнавальнымі брэндамі: «AERO» і «Фаэтон». Кожнай катэгорыі кліентаў кампанія прадстаўляе зручныя сістэмы разлікаў: для фізічных асобаў гэта карта пастаяннага кліента, якая дае магчымасць уладальніку атрымліваць скідкі на ўсе віды паслуг АЗС, а таксама накапліваць бонусныя балы, якія можна абмяняць на падарунак: мойку аўтамабіля, чыстку салона альбо кубачак кавы ў кафэ АЗС. Колькасць карпаратыўных кліентаў сетак «AERO» і «Фаэтон» налічвае больш за 7000 арганізацый, сярод якіх «Ленэнэрга», «Coca-Cola», «Хлебны дом», ЛАЭС, Петраградскі Спецтранс, Спецтранс № 7, «Адраджэнне» і інш. Напачатку 2007 г. сеткі «Фаэтон» і «AERO» сталі лаўрэатам Нацыянальнай прэміі «Кампанія года» ў Паўночна-Заходняй федэральнай акрузе. Прэмія гэта ўручаецца пад патранажам Міністэрства эканамічнага развіцця і Гандлёва-Прамысловай палаты Расіі і прысуджваецца найбольш яркім і дынамічным удзельнікам расійскага рынка.

З 1996 г. у кампаніі служыць малодшы брат Сяргея Снопака, **Міхаіл Іванавіч Снопак** (нарадзіўся 17 кастрычніка 1968 г. у Барысаве). Вучыўся ён ў сярэдняй школе № 20 у Гродне, Мінскім сувораўскім вучылішчы, паступіў у Ленінградскае вышэйшае агульнавайсковае вучылішча ў Петрадварцы. У 1989 г. атрымаў афіцэрскія пагоны і дыплом. Прыняў савецкую вайсковую прысягу, накіраваны служыць пад Маскву, у славутую Канцяміраўскую дывізію. Неўзабаве СССР перастаў існаваць, і малады афіцэр перабраўся на радзіму, у Гродна. Прысягу служыць Беларусі ён даваў 31 снежня 1992 г.: пад «Пагоняй» і бел-чырвона-белым сцягам. Даслужыўшыся да капітана беларускага войска, Міхаіл Снопак падаў у адстаўку. Беларусь перажывала эканамічныя цяжкасці, і, каб пракарміць сям'ю, адстаўны капітан адправіўся разам з жонкай Аленай Яўгенаўнай (дачка вядомага гродзенскага архівіста Яўгена Мікалаевіча Жабруна) і двухгадовай дачкой Кацяй у Пецярбург. У бензінавай кампаніі пачаў працаваць простым клеркам, з часам дасягнуў высокай пасады начальніка камерцыйна-аперацыйнага ўпраўлення «Фаэтону». А гэта цяпер немалая гаспадарка: сетка з больш як 50 АЗС, плюс 27 магазінаў у Пецярбургу і Ленінградскай вобласці, плюс кампанія па аптовых пастаўках сельгаспрадуктаў і торфапрадпрыемства ў Ленвобласці. Першым карэнным пецярбуржцам у гэтай сям'і стаў сын: Андрэй Снопак нарадзіўся 13 снежня 2001 г. у горадзе над Нявой у дзень Св. Андрэя Першазваннага.



*Міхаіл Снопак*

У склад паняцця «навукова-тэхнічны патэнцыял сучаснага Пецярбурга» ўваходзіць ўзровень кваліфікацыі яго рабочых і інжынераў. Вышыню гэтага ўзроўню вызначаюць і многія «рукастыя» майстры-індывідуалы. Прыкладам, у рамонце пішучых машынак, якія да пачатку эры камп'ютэраў былі надзейнай механічнай механізацыяй любой канцылярыі, рэдакцыі ці творчай (пішучай)

асобы. Механізацыяй надзейнай, але не вечнай: рамантаваць савецкія «Украіну» або «Башкірыю» больш складана, чым «Ундэрвуд» ці «Рэмінгтон». Майстар па рамонце пішучых машынак **Анатоль Іосіфавіч Лукоўскі** па колькасці допускаў на шматлікія сакрэтныя прадпрыемствы Ленінграда быў, можа, адным з першых у горадзе. Падарожнічаў ад адной заводскай канторы да другой, даючы новае жыццё старому ламаччу ў тыя гады, калі слова «прынтар» ані ў беларускай, ані ў рускай мове не ведалі. Нарадзіўся Анатоль Лукоўскі ў Ружанах Брэсцкай вобласці. У пасляваенны Ленінград прыехаў будучы кульгавым на левую нагу. Гісторыя з нагой выйшла такая: калі ў 1941 г. немцы наступалі, прыляцеў самалёт бамбіць Ружаны. Малы Анатоль схаваўся ад бамбёжкі за хлевам. Бомба ўпала і разарвалася на двары, і толькі збітая са страхі бэлька перабіла хлопцу нагу. «А перабіла няправільна ведаеце чаму? — аднойчы запытаўся дзядзька Анатоль. — Дык я ж за хлявом ляжаў на спіне: вельмі цікава было паглядзець на самалёты!» Зарабляў майстар Лукоўскі някепска, пабудаваў трохпакаёвы кааператыў, выгадаваў дзвюх дачок, абедзвюм даў вышэйшую адукацыю. А яшчэ ўсё жыццё аддана збірае кнігі. У Ленінградзе ў 1970-я гг. можна было ў букіністаў купіць добрыя дарэвалюцыйныя выданні пра Беларусь — і Анатоль Лукоўскі іх выкупляў «пад корань». Напрыклад, усе магчымыя экзэмпляры «Живописной России. Том 3. Белоруссия и Литва», адзін пакінуў сабе, а шэсць (!) рарытэтных асобнікаў пераправіў на радзіму. Шчодра дзяліўся дублетамі з Анатолем Крукоўскім — вядомым мінскім мастаком-плакатыстам, сваім былым аднакласнікам і заўсёдным сябрам. Калекцыя з 57 атласаў і шматлікіх ліставых карт, некалькіх камплектаў энцыклапедый — ад Бракгаўза да «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» — дасёння адна з лепшых у горадзе, і не толькі па «беларусіцы». Добрае веданне рускай, польскай і нямецкай моў ніколі не замінала дзядзьку Анатолю аддаваць у размовах з сябрамі перавагу роднай — беларускай. І абедзве дачкі — Марыя і Насця — перанялі ад бацькі гэтыя веды.

На будоўлях Ленінграда знайшоў сябе выхадзец з Віцебшчыны **Пётр Іванавіч Попярадзень**. Нарадзіўся ён 26 кастрычніка 1934 г. у вёсцы Новыя Туркі Докшыцкага раёна. Пасля заканчэння сярэдняй школы ў 1951 г. па камсамольскай пуцёўцы быў накіраваны ў школу фабрычна-заводскага навучання ў Ленінград. Тут атрымаў сярэдне-тэхнічную адукацыю (прамысловае і грамадзянскае будаўніцтва) і, як выдатнік вучобы, быў размеркаваны ў сістэму Ленгарздраўаддзела, дзе прайшоў шлях ад цесляра да прараба і начальніка участка. Пад яго кіраўніцтвам праводзіўся капітальны рамонт і будаўніцтва бальнічных і лячэбна-прафілактычных устаноў горада і вобласці (каля 70 аб'ектаў), сярод якіх бальніца № 14 імя М. Валадарскага, гарадская бальніца хуткай дапамогі імя Каняшына, гарадская бальніца імя Нахімсона і інш. Пётр Попярадзень, бадай, што адзіны чалавек у будаўнічай індустрыі горада, які засвоіў усе вядомыя будаўнічыя спецыяльнасці (цесляра, тынкоўшчыка, плітачніка, муляра, паркетчыка, зваршчыка і інш.). Пастаянна ўдзельнічаў у гарадскіх і абласных спаборніцтвах на лепшага ў будаўнічых прафесіях і рэгулярна займаў прызавыя месцы. Хобі Пятра Іванавіча — пячныя работы. Разам з жонкай — Зінаідай Мацвееўнай (Дабравольскай) выгадавалі сына і дачку. З 2005 г. Пётр Іванавіч Попярадзень працуе дырэктарам будаўнічай базы дзяржаўнага унітарнага прадпрыемства «Медрамбудпраект».

Недалёка ад старажытнага Прапойска на гары знаходзіцца вёска — Кабіна Гара. Тут 16 чэрвеня 1959 г. нарадзілася **Святлана Васільеўна Аляксеева (Баранава)**. Закончыла Слаўгарадскую беларускую школу № 2; пераехаўшы ў Ленінград, навучалася ў ПТВ № 35, якое рыхтавала кантралёраў АТК (аддзела тэхнічнага кантролю). Была адной з лепшых вучаніц і атрымала накіраванне на славутае прадпрыемства, размешчанае ў самым сэрцы горада — Манетны двор. Кожны дзень хадзіла на працу турысцкім маршрутам: у Петрапаўлаўскую крэпасць. Вечарамі Святлана працягвала вучыцца — закончыла Індустрыяльны тэхнікум. Новая спецыяльнасць прывяла ў 1982 г. на Кіраўскі завод, у цэх па апрацоўцы драўніны. З Кіраўскага перайшла ў прэстыжны «Інтурыст» — так называлася не толькі фірма па абслугоўванні замежных турыстаў, але і адна з найлепшых у Ленінградзе мэблевых фабрык. У снежні 1995 г. прыняла прапанову ўзначаліць вытворчасць на Першай мэблевай фабрыцы. Пазней на Першай мэблевай атрымаў працоўны вопыт сын Сяргей, тут жа пазнаёмілася і пасябравала з **Інай Іванаўнай Гудасавай** — гамяльчанкай, якая закончыўшы гомельскую 34-ю школу і Гомельскі палітэхнічны тэхнікум прыехала ў Ленінград па размяркаванні і засталася тут, на Першай мэблевай, майстрам. Выраблююць на Першай мэблевай пераважна кухні: 300–400 на месяц. Цікавыя праекты, якаснае выкананне. Безліч варыянтаў

не толькі колераў і формаў, але і спосабаў аздаблення. Арыгінальны заказ выконвалі для горада Мірны (цэнтр здабычы алмазаў у Якуціі) — кухня з 60 прадметаў. Дастаўлялі яе асобным кантэйнерам — спачатку цягнікам, аўтамабілем, потым верталётам. Майстры з Першай мэблевай ганарацца перавагай сваіх вырабаў над прадукцыяй канкурэнтаў (галоўным чынам гэта маскоўскія і беларускія фабрыкі); у Пецярбургу выкарыстоўваюць толькі самую якасную фурнітуру і рыштунак, высокамастацкае шкло. У памяшканнях Дзяржаўнай думы Расійскай Федэрацыі стаіць добрая мэбля, якую выканалі пад кіраўніцтвам і пры ўдзеле Святланы Аляксеевай і Іны Гудасавай.

Навукова-тэхнічны патэнцыял Ленінграда — Санкт-Пецярбурга ствараўся ў інстытутах і тэхнікумах, збіраўся, канцэнтраваўся і гартаваўся на буйных і дробных прадпрыемствах. У шэрагі інжынераў і канструктараў кожны год уліваліся выпускнікі ВНУ, на працу ў горад Леніна пераводзілі лепшых спецыялістаў з розных прадпрыемстваў СССР.

З 1966 г. на Іжорскім заводзе начальнікам сталеліцейнага комплексу, а потым галоўным інжынерам металургічнай вытворчасці працаваў гамяльчанін **Сямён Іосіфавіч Рыўкін** (нар. 22 кастрычніка 1931 г.), выпускнік Ленінградскага політэхнічнага інстытута. Пад яго кіраўніцтвам і пры яго непасрэдным удзеле былі створаны і рэалізаваны тэхналогіі атрымання вялікіх адлівак з вугляродзістых і легіраваных сталяў для гідрастанцый і корпусаў караблёў.

Дырэктарам вытворчасці трактароў, а потым галоўным інжынерам на Кіраўскім заводзе ў 1972—1983 гг. працаваў ураджэнец Оршы **Юрый Аляксеевіч Собалеў** (1935—1983). Ён прымаў актыўны ўдзел у стварэнні і асваенні вытворчасці найноўшых узораў сельскагаспадарчай і бранятанкавай тэхнікі, энергетычных установак для надводных і падводных караблёў ВМФ; у 1978 г. атрымаў Ленінскую прэмію.

Важнейшыя для вялікага горада праблемы выкарыстання адкідаў вытворчасці сталі стрыжнявымі ў дзейнасці інжынера **Мікалая Рыгоравіча Шаламіцкага**. Нарадзіўся ён 7 студзеня 1956 г. у Пінску, закончыў з залатым медалём сярэднюю школу, на выдатна — Ленінградскі інстытут воднага транспарту і экстэрнам — Фінансава-эканамічны інстытут. Распрацаваў тэхналогію і спецыяльнае драбільнае абсталяванне па перапрацоўцы карысных выкапняў, устаноўку для атрымання дробнадысперснага золата з «хвастоў» абагачэння россыпаў, абсталяванне для перапрацоўкі будаўнічых матэрыялаў і прафілактыкі забруджвання навакольнага асяроддзя. Прапанаваў і ўдасканаліў метады перапрацоўкі розных відаў сыравіны для вытворчасці керамікі, адкідаў кварцавага і тэхнічнага шкла, магнітацвёрдых сплаваў у інертным асяроддзі, вугалю і адкідаў вугальнай вытворчасці, лому электроннай прамысловасці. Ён адным з першых забяспечыў рэгенерацыю ліцейных фармовачных пяскоў і вогнетрывалых матэрыялаў, рэгенерацыю абразіваў, абагачэнне алюмініевага шламу. Мікалай Шаламіцкі кіраваў распрацоўкай і ўкараненнем модульнай фабрыкі для абагачэння залатаносных парод ва ўмовах высакагор'я краін Лацінскай Амерыкі (1991), стварыў сумесныя прадпрыемствы з іншымі краінамі для вырашэння праблем па перапрацоўцы адкідаў вытворчасці.

Галоўным канструктарам шэрагу распрацовак тэлевізійнай апаратуры для супрацьпаветранай абароны была ўраджэнка Ашмянаў **Тамара Іосіфаўна Тайц**, якая з 1947 да 1981 г. працавала ва Усесаюзным навукова-даследчым інстытуце тэлебачання. Поруч з ёй з 1947 г. у НДІ тэлебачання працавала ўраджэнка г. Усвята **Марыя Іосіфаўна Мамырына** (нар. у 1921 г.). Яна ўдзельнічала ў асноўных распрацоўках інстытута: тыпавых тэлецэнтраў, перасоўных тэлевізійных установак спецзаказу для супрацьпаветранай абароны СССР. Кіравала групай па распрацоўцы перадаючых камер, была вядучым інжынерам першай у свеце тэлевізійнай перадаючай камеры для касмічных караблёў «Усход». Займалася Марыя Мамырына распрацоўкай уніфікаваных тэлевізійных перадаючых камер для касмічных караблёў, у тым ліку першай каляровай для касмічнага комплексу «Саюз-Апалон». Член Федэрацыі касманаўтыкі, Марыя Мамырына ўзнагароджана медалём АН СССР «За працу ў касманаўтыцы». У 1990 г. стаў пецярбуржцам **Пётр Іванавіч Бужынскі**, ураджэнец вёскі Кардон Шумілінскага раёна Віцебскай вобласці. Пасля заканчэння СШ № 6 і фізіка-матэматычнага факультэта Віцебскага педагагічнага інстытута ён пайшоў працаваць у тэлекамунікацыйную кампанію «Санкт-Пецярбургскае кабельнае тэлебачанне», дзе даслужыўся да пасады дырэктара.

Распрацоўка і вытворчасць тэлекамунікацыйнай тэхнікі стала справай жыцця пецярбургскага беларуса ў другім пакаленні **Сяргея Антонавіча Таразевіча**. Бацька

яго нарадзіўся на Мядзельшчыне, пасля далучэння Заходняй Беларусі да СССР прайшоў праз сталінскія рэпрэсіі; вызваліўся, асеў у Ленінградзе — механікам у Політэхнічным інстытуце. Сяргей нарадзіўся на Каменаастроўскім праспекце Петраградскай стараны, скончыў 86-ю сярэднюю школу і ЛЭТІ па спецыяльнасці радыёэлектроніка. Пасля працаваў на «Пазітроне», у НДІ «Румб». З пачаткам перабудовы арганізаваў кампанію «Телрос», цяпер старшыня савета дырэктараў.

У 1960—1970-я гг. над кіраваным тэрмаядзерным сінтэзам, фізікай плазмы і іншымі кірункамі фізікі працаваў НДІ імя Д. Яфрэмава. Тут была створана (з удзелам многіх прамысловых прадпрыемстваў горада) большасць эксперыментальных установак, у прыватнасці, буйнейшыя ў СССР «такамакі». Выдатным інжынерам у галіне будавання гэтых вялікіх машын і электрафізічнай апаратуры стаў ураджэнец Нова-Барысава **Яўген Рыгоравіч Камар** (1907—1974). Пасля заканчэння Маскоўскага энергетычнага інстытута ён прыехаў працаваць на ленінградскі завод «Электрасіла» канструктарам, галоўным канструктарам, галоўным інжынерам (1930—1949). Наступныя 20 гадоў жыцця Яўген Камар працаваў намеснікам дырэктара і дырэктарам Навукова-даследчага інстытута электрафізічнай апаратуры імя Д. Яфрэмава. Кіраваў працай па стварэнні паскаральніка зараджаных часціцаў для фундаментальных даследаванняў і прыкладнога прызначэння, эксперыментальных тэрмаядзерных установак. Атрымаў Ленінскую прэмію і пяць дзяржаўных.

Пасля заканчэння Кіеўскага політэхнічнага інстытута (1953) на Ленінградскі металічны завод прыехаў працаваць **Анатоль Фёдаравіч Паўлаў**. Нарадзіўся ён 23 жніўня 1928 г. у Рэчыцы, закончыў там СШ № 4. З 1976 да 1981 г. працаваў дырэктарам Ленінградскага завода турбінных лапатак. Выйшаўшы на пенсію, вопытны інжынер не пакінуў сувязі з вытворчасцю, а да 2004 г. працягваў працу на Металічным заводзе.

З Ленінградскім металічным заводам надоўга звязаны лёс ураджэнца Дуброўны Віцебскай вобласці **Анатоля Пятровіча Агурцова** (нар. 24 жніўня 1943 г.). Пасля заканчэння Маскоўскага энергетычнага інстытута ён 21 год працаваў на ЛМЗ інжынерам-канструктарам, начальнікам канструктарска-даследчыцкага бюро, галоўным інжынерам, генеральным дырэктарам. Анатоль Агурцоў актыўна ўдзельнічаў у падрыхтоўцы вытворчасці паравых турбін магутнасцю 700, 1000 і 1500 МВт, пікавых і паўпікавых газатурбінных установак магутнасцю 100 і 150 МВт, самых магутных радыяльна-восевых паваротна-лопасцевых гідратурбін для расійскіх і замежных электрастанцый. Пачынаючы з 1983 г. ён праводзіў работы па тэхнічным пераабсталяванні, мадэрнізацыі і падаўжэнні тэрмінаў службы энергетычнага абсталявання на важнейшых прамысловых і энергетычных аб'ектах СССР. У кароткія тэрміны былі вырашаны пытанні рэнавацыі з павелічэннем дапушчальных тэрмінаў напрацоўкі ў 2—3 разы ў адносінах да разліковых. На пасадзе старшыні Камітэта РФ па машынабудаванні (1994—1996) Анатоль Агурцоў надаваў шмат увагі пытанням павышэння надзейнасці і рэсурсу машын, павышэнню іх тэхнічнага ўзроўню і канкурэнтаздольнасці, стварэнню новых, экалагічна чыстых канструкцый і матэрыялаў, развіццю міжнароднай кааперацыі машынабудаўнічых галін. З 1996 г. ён працуе намеснікам міністра знешнеэканамічных сувязяў РФ.

Яшчэ адзін беларус, які працаваў у вышэйшым эшалоне інжынераў ЛМЗ, — **Аляксандр Чыжык**. Пасля заканчэння сярэдняй школы ў роднай Рэчыцы і Ленінградскага політэхнічнага інстытута (1935) ён працаваў інжынерам на ЛМЗ. На родным заводзе вырас да буйнейшага вучонага-металурга, заснавальніка пецярбургскай школы турбіннага матэрыялазнаўства, распрацоўшчыка турбінных матэрыялаў на дакрытычныя, крытычныя і звышкрытычныя параметры пары. Аляксандр Чыжык арганізаваў на ЛМЗ новыя металургічныя працэсы: вакуумаванне сталі пры разліўцы, аптымізацыю ахаладжвання ў працэсе гартавання, нармалізацыі вялікіх дэталяў паравых, газавых і гідратурбін. Пасля вайны ён узначаліў усе працы па забеспячэнні новымі матэрыяламі уніфікаванай серыі паравых турбін магутнасцю 25—100 МВт, за што ўзнагароджаны Сталінскай прэміяй у 1952 г. Гэтыя паравыя турбіны паспяхова эксплуатаваліся і дасягнулі напрацоўкі 270—300 тысяч гадзін (у 1990-я), што ў тры разы перавышае праектную. У пачатку 1950-х гг. Аляксандр Чыжык кіраваў уводам у эксплуатацыю першай АЭС на выкапнёвым уране ў Чэхаславакіі (Багуніцы). З сярэдзіны 1950-х гг. ён узначаліў усе працы па забеспячэнні новымі матэрыяламі паравой турбіны магутнасцю 200 МВт, за што атрымаў Ленінскую прэмію (1963). З 1972 г. ён прафесар кафедры тэхналогіі металаў і металазнаўства пры Ленінградскім

металічным заводзе. Аляксандр Ігнатавіч стаў заснавальнікам дынастыі энергабудаўнікоў. Яго сын **Андрэй Аляксандравіч Чыжык** (нар. 15 сакавіка 1937 г.) пасля заканчэння політэхнічнага інстытута працаваў у Цэнтральным котлатурбінным інстытуце імя І. Палзунова. Узначальваў аддзел, які распрацоўваў новыя сталі, сплавы, пакрыцці і тэхналогію тэрмічнай апрацоўкі ўсіх вузлоў сучаснага энергетычнага абсталявання, уключаючы тытанавыя сплавы, нержавеючыя гарачатрывалыя сталі, суперсплавы і кераміку. Дачка Аляксандра Іванавіча **Таццяна Аляксандраўна Чыжык** (нар. 28 сакавіка 1949 г.) пасля заканчэння політэхнічнага інстытута працавала на ЛМЗ інжынерам, загадчыкам лабараторыі. Яна ўпершыню правяла унікальныя доследы вязкасці разбурэння ротарных сталяў, займалася тэхнічнымі пытаннямі ўжывання новых матэрыялаў у турбабудаванні і ўдасканаленнем патрабаванняў да іх вырабу.

Ленінградскі політэхнічны інстытут закончыў у 1966 г. **Аркадзь Міхайлавіч Астафееў** (нар. 3 кастрычніка 1938 г. у вёсцы Застарынне Мінскай вобласці). Працаваў на заводзе «Электрасіла», з 1978 г. — дырэктарам навукова-вытворчага інстытута «Севзапэнергосетьпроект». Удзельнічаў у распрацоўцы праектаў і пабудове буйнейшых энергетычных сістэм у Расіі, В'етнаме, Манголіі, Кубе, Індыі, Сірыі. Праектаваў лініі перадачы электраэнергіі СССР—Фінляндыя. Найбольш складаная інжынерна-тэхнічная задача, якую змог вырашыць Аркадзь Астафееў, — праектаванне пераходу цераз Саратаўскае вадасховішча лініі 500 кВт у двухланцуговым выкананні.

Рабочым-токарам пачаў сваю кар'еру на Ленінградскім станкабудаўнічым заводзе імя Ільіча ўраджэнец вёскі Луконь Магілёўскай вобласці **Мікалай Аляксандравіч Панічаў** (нар. 3 жніўня 1934 г.). Пазней працаваў канструктарам шліфавальнага абсталявання, вечарам навучаўся ў політэхнічным інстытуце па спецыяльнасці інжынер-механік. Атрымаўшы вышэйшую адукацыю, прадстаўнік рабочага класа зрабіў бліскучую кар'еру: у 1967—1975 гг. ён кіраваў партыйнай арганізацыяй станкабудаўнічага аб'яднання імя Я. Свярдлова, а праз тры гады быў прызначаны дырэктарам роднага завода імя Ільіча. У 1960-я гг. Мікалай Панічаў зрабіў вялікі ўклад у стварэнне і выпуск асартыменту прэцызійных станкоў для апрацоўкі калек прыборных падшыпнікаў з дыяметрам пасадачнай адтуліны менш як 1 мм (раней яны закупляліся ў ЗША), а таксама ў стварэнне і выпуск станкоў для апрацоўкі базавай адтуліны карпусоў буйных дызеляў. Пасля пераезду ў Маскву Мікалай Панічаў працаваў намеснікам міністра, першым намеснікам міністра, урэшце, міністрам станкабудаўнічай і інструментальнай прамысловасці СССР. З 1992 г. ён з'яўляецца прэзідэнтам Расійскай станкабудаўнічай кампаніі «Расстанкаінструмент».

Сярод інжынераў-канструктараў, якія працавалі на абаронную прамысловасць, ганаровае месца заняў **Васіль Сцяпанавіч Старавойтаў** (1919—2002). Нарадзіўся ён у вёсцы Марозавічы Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці, у Пецярбургу стаў доктарам тэхнічных навук, прафесарам. Асноўныя працы Васіля Старавойтава прысвечаны канструяванню гусенічных машын. Выдатныя баявыя і тактыка-тэхнічныя характарыстыкі савецкіх танкаў з'явіліся дзякуючы намаганням гэтага таленавітага чалавека. Самаходнае шасі касмічнага апарата «Луноход» — плён яго працы. Незадоўга да смерці Васіля Старавойтава напаткала вялікае няшчасце — у 1998 г. на набярэжнай Мойкі невядомыя забілі з аўтамата рэдкай спецсназаўскай мадэлі «Агран» (чамусьці гэта адбілася ў памяці) яго дачку Галіну — папулярнага на той час палітыка дэмакратычнага кірунку. На Нікольскіх могілках Аляксандра-Неўскай лаўры яны ляжаць побач: бацька і дачка Старавойтавы. Суседняя магіла прыняла першага мэра Пецярбурга Анатоля Сабчака; Галіна Старавойтава была яго саратніцай.



*Магіла Старавойтавых на Нікольскіх могілках*

Сярод працаўнікоў-металургаў трэба ўспомніць галоўнага інжынера Ленінградскага доследнага завода Усесаюзнага алюмініева-магніевага інстытута выкладчыка тэхналагічнага інстытута **Ілью Захаравіча Пеўзнера** (нар. 31 снежня 1930 г.), ураджэнца Беразіно.

Перабудова ў эканоміцы і грамадскім жыцці пачатку 1990-х гг. часам прыводзіла да такіх сітуацый, што прадпрымальнікам чалавек мог стаць… вымушана. Як **Ігар Паўлавіч Шакура**, які нарадзіўся 2 кастрычніка 1956 г. у вёсцы Караліна Мінскага раёна. Закончыў сярэднюю школу ў Крупіцы і Мінскі чыгуначны тэхнікум. Пасля 20 гадоў службы на Балтыйскім і Паўночным флотах выйшаў у адстаўку. Чым было заняцца не старому яшчэ афіцэру-адстаўніку ў першыя гады перабудовы? Ігар Шакура выбраў аўтамабільныя перавозкі. Невялікая кампанія «Нью-Лэнд транспарт» аказвала паслугі па міжнародных грузаперавозках, экспедытарству і лагістыцы. Кампанія праіснавала дзесяць гадоў і ў 2004 г. збанкрутавала. Прычынай банкруцтва стала не столькі канкурэнцыя вялікіх грузаперавозчыкаў, колькі неспрыяльны характар эканамічных адносін з Рэспублікай Беларусь. Ігар Паўлавіч адкрыў беларускі філіял сваёй кампаніі з разліку эканамічнай неабходнасці, але перамог палітычны складнік: еўрапейскія перавозчыкі тады паднялі тарыфы да такіх пазіцый, што рэнтабельнасць перавозак не проста зменшылася — яна знікла.

Нашмат больш удала будаваў свой бізнес кандыдат тэхнічных навук **Анатоль Аляксандравіч Яцкевіч** (нар. 12 жніўня 1946 г. у Віцебску). У 1992 г. ад заняткаў праектаваннем машын і механізмаў ён перайшоў на пасаду дырэктара новастворанага малога прадпрыемства «Гідрасістэма»: у Пецярбургу пад кіраўніцтвам Аляксандра Яцкевіча наладзілі выпуск абсталявання, якое раней куплялі за мяжой. «Гідрасістэма» паспяхова развіваецца, з 1996 г. А. Яцкевіч — генеральны дырэктар. А яго 20 вынаходніцтваў і больш як 50 навуковых прац дапамагаюць выраблць канкурэнтназдольную прадукцыю.

Сярод працаўнікоў аграрнага сектара Ленінградскай вобласці пераважаюць выпускнікі Ленінградскага сельскагаспадарчага інстытута, сярод якіх пэўная колькасць прыехала з Беларусі, а, закончыўшы яго, звычайна заставалася працаваць у горадзе і вобласці.

На выдатна закончыў у 1960 г. Ленінградскі сельгасінстытут **Іван Яўстаф'евіч П'янкоўскі** (нар. 12 чэрвеня 1936 г. у вёсцы Лахаўшчына Брэсцкай вобласці). Намеснік старшыні Прэзідыума ВАСХНІЛ па нечарназем'ю. Спецыяліст у галіне механізацыі сельгасвытворчасці, лаўрэат прэміі Савета Міністраў СССР (1979).

З вёскі Храны Круглянскага раёна Магілёўскай вобласці прыехаў у Ленінград **Аляксандр Зміітравіч Уладыка** (нар. у 1933 г., загінуў у аўтамабільнай катастрофе 18 ліпеня 2003 г.). На радзіме ён скончыў Цяцерынскую сярэднюю школу, потым эканамічны факультэт Ленінградскага сельскагаспадарчага інстытута. З 1964 г. працаваў у Ламаносаўскім раённым упраўленні сельскай гаспадаркі, пазней стаў першым намеснікам начальніка статыстычнага ўпраўлення Ленінградскай вобласці. У 1970—1990 гг. Аляксандр Уладыка працаваў дацэнтам кафедры эканомікі Ленінградскай вышэйшай партыйнай школы, з 1990 г. ён загадчык кафедры Акадэміі менеджменту і аграбізнесу. Дзве дачкі і чатыры ўнука Аляксандра Уладыкі — гэта ўжо новае пакаленне беларускага Пецярбурга.

Недалёка ад Пецярбурга і ад месца вытоку Нявы з Ладагі ёсць райцэнтр Кіраўск. Побач з ім, у Сінявіне, пабудавана самая вялікая ў Еўропе птушкафабрыка, якая спецыялізуецца на вытворчасці яек. Ля вытокаў аб'яднання «Сінявінскае» стаяў беларус **Віктар Андрэевіч Грыдзюшка**. Пасля заканчэння Каткаўскай СШ у Глускім раёне і чатырох гадоў навучання ў Горацкай сельгасакадэміі, ён пераехаў у г. Пушкін. Закончыў тут Ленінградскі сельгасінстытут, быў накіраваны, з уласнага жадання, на пасаду галоўнага бухгалтара рыбалавецкага саўгаса на беразе Ладажскага возера. Так бы і застаўся на гэтай пасадзе, але падышоў 1976 г. і ў суседняй вёсцы пачалася будоўля птушкафабрыкі — адной з першых фабрыкі-завода ў СССР. Маладога перспектыўнага спецыяліста «пераманілі» на гэты аб'ект. Да новай працы падышоў сур'ёзна. Абараніў кандыдацкую дысертацыю па эканамічных навуках. А як цяжка было «пераступіць праз сябе», «вытраўліваючы» беларускі акцэнт! Любіў жа родную мову, кніжкі беларускія па пошце выпісваў, чытаў. Але сёй-той пасміхаўся: кандыдат навук, а па-руску не ўмее слова «брюки» або «берёза» правільна вымавіць! І Віктар перастаў заказваць кнігі па пошце, перастаў чытаць і гаварыць па-беларуску. Прыязджаючы ў Беларусь бачыў, што такое ж змаганне за «вытраўленне» з сябе (а за адно і адрачэнне) усялякіх знакаў беларушчыны публічна праводзіць аднакурснік па Горацкай акадэміі, а цяпер прэзідэнт Рэспублікі Беларусь. Аляксандр Лукашэнка дасягнуў вялікіх поспехаў: публічна па-беларуску амаль не выступаў, навучыўся гаварыць па-руску без беларусізмаў і тых моўных памылак, за якія яго абсмейвала нацыяналістычная апазіцыя. І Віктар Андрэевіч Грыдзюшка навучыўся. Ён

стаў быццам больш вучоным, але адчувае, што пры гэтым страціў нешта важнае. — Ах, ужо гэты акцэнт!



*Віктар Грыдзюшка*

Адпрацаваўшы 20 гадоў галоўным бухгалтарам, Віктара Грыдзюшку прызначылі генеральным дырэктарам «Сінявінскага». Пад яго кіраўніцтвам вырасла рэнтабельнасць прадпрыемства: яйцаноскасць 335 яек ад адной курыцы на год, фабрыка, разлічаная на вытворчасць 1 мільёна яек, давала штогод крыху больш за 2 мільёны, чысты прыбытак дасягаў 4 мільёна даляраў! Гэта быў пік дзейнасці прадпрыемства: у 2001 г. за адмысловае кіраванне Віктар Андрэевіч быў узнагароджаны ў французскіх Канах ганаровым міжнародным званнем «Генеральны менэджэр» і срэбным медалём. У 2004 г. праехаў на сваёй машыне на Беларусь – па родных мясцінах. Зайшоў у «сваю» школу — памянуць старых настаўнікаў Лідзію Васільеўну Крэйзу і Цярэнція Ісаевіча Яльчыка. А ў 2005 г. Віктар Грыдзюшка пакінуў клопаты генеральнага дырэктара «Сінявінскага» і перайшоў на працу кансультанта ў фірму «Аладушкін Групп» — найбольшае ў Пецярбургу мукамольнае прадпрыемства. Адначасова ён сакратар Прыладажскага пярвічнага аддзялення і член палітсавета Кіраўскага мясцовага аддзялення партыі «Адзіная Расія».

Больш за 1000 чалавек працуе ў вытворчым кааператыве Племзавод «Дзецкасельскі», які быў арганізаваны ў 1931 г. Тут займаюцца вытворчасцю агародніны і мясамалочнай прадукцыі, пераважна для продажу ў Паўлаўску, Пушкіне і Пецярбургу. Узначальвае племзавод «Дзецкасельскі» беларус **Віктар Мікалаевіч Брагінец**.

Кандыдат сельскагаспадарчых навук **Міхаіл Адамавіч Новікаў** (нар. 5 студзеня 1934 г. у вёсцы Бушоўка Круглянскага раёна Магілёўскай вобласці) усё свядомае жыццё аддаў працы ў Гатчынскім раёне. Пасля службы ў арміі (у якасці авіяцыйнага механіка ў Сіверскай) малады чалавек няспынна вучыцца (у Пушкінскім сельгасінстытуце, потым у Герцанаўскім пединстытуце) і працуе спачатку рабочым, аграномам, потым інструктарам райкама, загадчыкам сельгасаддзела, першым сакратаром Гатчынскага райкама КПСС. Пасля выхаду на пенсію ён займае пасады дырэктара гатчынскіх філіялаў розных расійскіх банкаў, актыўна займаецца развіццём пабрацімскіх адносінаў гарадоў Ленінградскай вобласці з гарадамі і пасёлкамі Беларусі.

Заўважнае месца ў палітычным і эканамічным жыцці Ленінградскай вобласці займае ўраджэнец Оршы **Ілля Міхайлавіч Баскін** (нар. 7 ліпеня 1956 г.) — старшыня наглядальнага савета ААТ «Мясакамбінат Інза», старшыня Савета Ленінградскага абласнога рэгіянальнага аддзялення Расійскай партыі жыцця, былы старшыня Савета дырэктараў ААТ «Кампанія Усць-Луга».



*Ілля Баскін*

Ілля Баскін скончыў Ленінградскі інжынерна-будаўнічы інстытут у 1978 г.;

працаваў на розных пасадах у будаўнічых арганізацыях Ленінграда; з 1986 г. ён намеснік генеральнага дырэктара па будаўніцтву швейнага абъяднання «Волна»; у 1988 г. арганізаваў і ўзначаліў швейны кааператыў (пазней АТ) «Гарант»; у 1993 г. стаў арганізатарам АТАТ «Порт-инвест» па будаўніцтву новага марскога порта ў Ленінградскай вобласці, пазней узначаліў акцыянернае таварыства «Усть-Луга», якое занялося будаўніцтвам порта. У красавіку 1993 г. на выбарах у Лужскім раёне Ленінградскай вобласці Ілльа Баскін быў абраны народным дэпутатам РФ, у 1992—1994 гг. ён член Савета па прадпрымальніцкай дзейнасці пры Прэзідэнце РФ, прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі прадпрымальнікаў краін Усходняй Еўропы і Азіі, у 1993—1994 гг. — член Савета па прамысловай палітыцы пры Урадзе. Ілля Міхайлавіч з'яўляецца старшынёй праўлення канцэрна «Тэхнахім», старшынёй Савета дырэктараў «Порт-банка», ён член прэзідыума Каардынацыйнага савета грамадскага аб'яднання «Круглы стол бізнэса Расіі».

Перш чым стаць упраўляючым паўночна-заходнім філіялам банку «Аграпрамкрэдыт» **Віталь Іванавіч Аляшкевіч** доўгі час працаваў у спажывецкай кааперацыі, некалькі год у Всевалажску. У гэтым бліжэйшым прыгарадзе Пецярбурга ён сустрэўся з земляком — главой адміністрацыі гораду **Мікалаем Уладзіміравічам Уласевічам** (нар у 1935 г. у Ачукевічах Навагрудскага раёна). Пасля заканчэння Любчанскай СШ Мікалай Уласевіч паехаў вучыцца ў Ленінградскі аўтадарожны тэхнікум, потым вучыўся ў Ленінградскім інстытуце метадаў і тэхнікі кіравання, працаваў у розных месцах Ленінградскай вобласці, з 1961 г. асеў ва Усевалажску. Усевалажск абралі для жыцця і працы іншыя выхадцы з Беларусі: начальнікам міліцыі тут палкоўнік **Антон Рышардавіч Драздовіч** з віцебшчыны, старшынёй райспажыўсаюза пасля Віталя Аляшкевіча стаў **Станіслаў Уладзіміравіч Багдзевіч**, які нарадзіўся (у 1954 г.) у Бакштах Шчучынскага раёна.

Пасля перабудовы новае гаспадарчае жыццё запатрабавала новых падыходаў да справы, новага кіраўніцтва. Якраз у 1991—1998 гг. адбывалася станаўленне прадпрымальніка **Аляксандра Міхайлавіча Глушчэні** (нар. у 1963 г.). Пасля заканчэння сярэдняй школы ў роднай вёсцы Марахорава Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці ён паступіў у Ленінградскі інжынерна-будаўнічы інстытут, пазней працаваў у сістэме гарадской гаспадаркі г. Пушкіна (Царскае Сяло). Пасля 1987 г. рыхтаваў дысертацыю ў родным інстытуце, адначасова працаваў у інстытуцкай навукова-даследчай лабараторыі выпрабавання будынкаў — лабараторыя праводзіла аналіз стану гістарычных помнікаў. Аляксандр заняўся распрацоўкай інвестыцыйных праектаў у будаўніцтве і рэканструкцыі, а на пачатку перабудовы вялікія магчымасці развіцця бізнесу захапілі Аляксандра Глушчэню, яго арганізатарскія здольнасці рэалізаваліся ў самых розных праектах: ад гандлю нерухомай маёмасцю да забеспячэння прадпрыемстваў змазачнымі матэрыяламі. Праз некалькі гадоў Аляксандр Глушчэня стварыў будаўнічую кампанію «Дзінас», якая спецыялізавалася на будаўніцтве партовых збудаванняў. У 1997 г. ён ужо змог дазволіць сабе ўзяць значны валютны крэдыт на развіццё ўласнага бізнесу. Крызіс 1998 г. і дэфолт кардынальна змянілі сітуацыю. Валютны курс за месяц узняўся з 6 да 21 рубля за долар, аддаваць па крэдытах трэба было ў 3,5 раза больш. Каб неяк разлічыцца, правёў рэструктурызацыю створаных прадпрыемстваў, значную частку маёмасці прадаў. У гэты цяжкі час малады прадпрымальнік зрабіў яшчэ адну важную выснову — трэба авалодаць навукай кіравання бізнесам. У 1998—2000 гг. скончыў Міжнародны інстытут менеджмента, дзе акрамя мікра- і макраэканомікі вывучаў бухгалтэрыю і вядзенне спраў, да добрай (з інстытута) нямецкай мовы дадаў свабодную англійскую. 300-годдзе Пецярбурга Аляксандр Глушчэня сустракаў як член фонду падтрымкі грамадзянскіх ініцыятыў «Санкт-Пецярбург 2015». У гэты час ён генеральны дырэктар завода пластмасавых вырабаў «Саюз», уласнік структур, што працуюць у галіне нерухомасці. Будаваць будучыню на падставе актывізацыі 10% неабыякавых да лёсу свайго горада пецярбуржцаў — вось галоўны сэнс планавання на 15 гадоў наперад. Аляксандр Глушчэня ўдзельнічаў у распрацоўцы планаў развіцця горада паводле трох сюжэтаў: ідэальнага, песімістычныга і аптымальна-рэалістычнага.

Знаную ў Пецярбургу фірму «БИК» узначальвае **Мікалай Пятровіч Ботка**. Да Пецярбурга Мікалай Пятровіч належыць умоўна — сталым (і ўлюбёным) месцам яго жыхарства стала сядзіба ў дачнай вёсцы Сіверская пад горадам. А нарадзіўся ён (12.02.1949) у вёсцы Стараселле Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці, першыя шэсць класаў школы скончыў у суседніх Савічах. Пазней воляй лёсу апынуўся ў цёткі ў Прыазерску, у 1969 г. скончыў Ленінградскі тэхнікум прамысловай цеплатэхнікі, а ў 1978 — філалагічны факультэт Ленінградскага універсітэта. Пасля армей-

скай службы працаваў у гарадскім аэрапорце Пулкава, на будаўніцтве Байкала-Амурскай чыгункі. У 1988 г. Мікалай Ботка арганізаваў адзін з першых вытворчых кааператываў у Ленінградскім рэгіёне. Кааператыў называўся па рэчцы ў Сіверскай — «Орэдзеж» — і пазней вырас у вялікую будаўнічую кампанію ЗАТ «Прамыслова-будаўнічая група «БИК». Акрамя вырабу і мантажу рознага гатунку тратуарнай пліткі, «БИК» займаецца выпускам бетону, наружным асвятленнем, будаўніцтвам інжынерных сетак. Адно з падраздзяленняў канцэрна, якое займаецца нерухомасцю, узначаліў брат Мікалая Боткі — **Канстанцін Пятровіч Ботка**, перад тым журналіст і савецкі дарадчык на Кубе і ў краінах Афрыкі. З 1994 г. да абрання ў снежні 1999 г. дэпутатам Дзяржаўнай Думы Расіі трэцяга склікання Мікалай Ботка быў генеральным дырэктарам «БИК». За працу па добраўпарадкаванню Пецярбурга ён узнагароджаны ганаровым знакам «Заслужаны дарожнік Расіі». У Дзяржаўнай Думе Мікалай Пятровіч зарэгістраваўся ў дэпутацкай фракцыі «Адзінства», стаў членам камітэта па энергетыцы, транспарту і сувязі. Як мецэнат ён падтрымлівае гарадскія сацыяльныя праграмы, Мікалай Ботка адзін з сяброў Рускага музея, дзякуючы яго дапамозе ў сценах музея адбылася не адна персанальная выстава. У доме Боткі ў Сіверскай склаўся вельмі значны збор жывапісу другой паловы 20-га стагоддзя: сярод больш як 700 карцін яго калекцыі ёсць некалькі прац лепшых мастакоў-беларусаў гэтага перыяду — Міхаіла Савіцкага і Язэпа Майсеенкі. Жонка Мікалая Пятровіча, Галіна Алегаўна, хай сабе нарадзілася і вырасла на Петраградскай старане, таксама мае беларускія карані — бабуля яе паходзіць з Рагачова. Трое іх сыноў — пецярбургскія беларусы ўжо ў другім пакаленні.

Паспяховым бізнесменам, дырэктарам ТАА «Бізнеспром» стаў у Пецярбургу **Сяргей Уладзіміравіч Верабей**, родны брат вядомага мінскага медыка. Хоць пачынаў кар'еру Сяргей Верабей як вайсковец: скончыў мінскае Суворaўскае вучылішча, Ленінградскае вышэйшае агульнакаманднае вучылішча ў Петрадварцы.

На пасадзе памочніка Старшыні Савета дырэктараў камерцыйнага холдынга «Транс-Сістэма-Сервіс» паспяхова працягвае працоўную дзейнасць былы вайсковец **Яўген Міхайлавіч Чуковіч** (нар. 5 жніўня 1958 г. у Вілейцы Мінскай вобласці). З 1965 да 1975 г. Яўген Чуковіч вучыўся ў Іжскай сярэдняй школе Вілейскага раёна, потым у 1979 г. на выдатна скончыў Свярдлоўскае вышэйшае ваенна-палітычнае танка-артылерыйскае вучылішча. Вайсковую службу на пасадах намесніка камандзіра па палітычнай (выхаваўчай) рабоце праходзіў на Усходзе, у Запаляр'і, Групе Савецкіх войскаў у Германіі. На выдатна скончыў у 1994 г. завочны факультэт маскоўскай Ваенна-палітычнай акадэміі У. І. Леніна. Апошняе месца службы — намеснік начальніка аддзела кіравання выхаваўчай працай штаба Ленінградскай вайсковай



*Мікалай Ботка*



*Яўген Чуковіч*

акругі — вызначыла месца сталай прыпіскі ў запасе: былы падпалкоўнік Яўген Чуковіч стаў жыхаром горада Пушкін (Царскае Сяло).

Пералічыць усіх выхадцаў з Беларусі, хто на дзень выдання нашай кнігі займаецца бізнэсам у Пецярбургу, практычна немагчыма, таму прыгадаем толькі некалькіх. Да генеральнага дырэктара кампаніі «Айплюс», якая займаецца медыцынскім абсталяваннем, вырасла віцябчанка **Таццяна Пракоп'еўна Барканава**, гандлям садавінай і агароднінай пасляхова займаецца фірма «Кліменціна», пецярбургскую філію якой узначальвае ўраджэнец Ваўкавыска **Расціслаў Паўлавіч Нічыпарук**, на гандлі брэсцкімі газавымі плітамі і прадуктамі харчавання спецыялізуецца фірма «Рынго», у якой працуе ўраджэнец вёскі Макшаны Сенненскага раёна Віцебскай вобласці **Васіль Пятровіч Грышанаў**, у транспартнай кампаніі працуе ўраджэнец вёскі Лошавічы Шклоўскага раёна **Мікалай Валянцінавіч Дземідзенка**. З Мазыра ў Ленінград пераехала ў 1987 г. былы намеснік генеральнага дырэктара Мазырскай трыкатажнай фабрыкі **Паліна Васільеўна Адамовіч**; у часы перабудовы яна стала прыватным прадпрымальнікам. Дачка Паліны Васільеўны, выпускніца 3-й мазырскай сярэдняй школы **Валянціна Мікалаеўна Неміна (Адамовіч)** пасля заканчэння прыродазнаўчага факультэта педагагічнага інстытута імя Герцана працавала ў школе настаўнікам біялогіі і хіміі, а пазней узначаліла аддзел па ўзаемадзеянні з грамадскімі арганізацыямі Камітэта па моладзевай палітыцы мэрыі Санкт-Пецярбурга.

Генеральным дырэктарам пецярбургскага ААТ «Мегапром», якое спецыялізуецца на будаўніцтве і капітальных рамонтах, з'яўляецца беларус **Анатоль Мікалаевіч Чабаткоў**, мантажом металічных канструкцый і металапрофілямі займаецца фірма «Мантаж-профіль», якую заснаваў выпускнік гомельскай фізіка-матэматычнай школы № 24 **Ігар Васілевіч Жук** (нар. 27.04.1979). Вышэйшую адукацыю Ігар атрымаў у Баранавічах і пецярбургскіх ВНУ, апошняя з якіх — Паўночна-Заходняя Акадэмія кіравання пры прэзідэнце Расіі. Добрай школай для маладога прадпрымальніка стала пасада камерцыйнага дырэктара ў Беларускай гандлёва-эканамічнай кампаніі. Ігар Васілевіч ганарыцца тым, што фасады шмат якіх знакавых для Пецярбурга будынкаў (метро «Волкаўская», будынак пенсійнага фонду, мытны тэрмінал на Піскароўскім, 150, і інш.) выканалі спецыялісты яго фірмы. Жонка Ігара Жука — **Святлана Анатолеўна Луцэнка** – таксама беларуска (з Брэста), працуе ў сферы турыстычнага бізнэса, яна дырэктар папулярнай у гараджан фірмы «Ілана-тур».



*Ігар Жук*

У галіне аказання рытуальных паслуг працуе ў Пецярбургу «Мемарыяльная кампанія», якую ўзначальвае беларус з Камянца Брэсцкай вобласці, эканаміст, палкоўнік запаса **Валянцін Рыгоравіч Юхімук** (1955 г. нар.). Ленінградцам Валянцін Юхімук стаў у 1972 г., паступіўшы (пасля заканчэння сярэдняй школы ў вёсцы Вярховічы, што ў Белавежскай пушчы) у Вышэйшае ваеннае будаўнічае вучылішча ў Пушкіне, пазней вучыўся на эканаміста ў Віленскім універсітэце. Ізноў вярнуўся ў Пецярбург у 1994 г., паслужыўшы дваццаць гадоў у самых розных месцах былога СССР.

* * *

Вынікі атэістычнага выхавання і змагання дзяржавы супраць царквы: у 1950—1960 гг. у Ленінградзе дзейнічала 12—14 праваслаўных храмаў. У 1956 г. вернікам перадалі Траецкі сабор Аляксандра-Неўскай лаўры, у Ленінградскай духоўнай акадэміі і семінарыі на ўсіх аддзяленнях навучаліся каля 230 чалавек, заняткі вялі 25 прафесараў і выкладчыкаў. Самая яркая фігура сярод святароў-беларусаў у гэты час — протаіерэй **Віталій Баравы**. Нарадзіўся айцец Віталій 18 студзеня 1916 г. у вёсцы Несцераўка, што ў

Докшыцкім раёне на Віцебшчыне. Адукацыю атрымаў спачатку ў Віленскай духоўнай семінарыі, а пасля — на багаслоўскім факультэце Варшаўскага універсітэта. У 1944 г. ён прыняў сан свяшчэнніка і пачаў служэнне настаяцелем Гомельскага кафедральнага сабора ў гонар святых апосталаў Пятра і Паўла. З 1945 г. чытаў курс гісторыі царквы ў Мінскай духоўнай семінарыі, быў інспектарам і сакратаром Рады. Скончыўшы ў 1953 г. экстэрнам Ленінградскую духоўную акадэмію, айцец Віталій застаўся тут як выкладчык. У Ленінградзе ён абараніў магістэрскую дысертацыю, атрымаў званне ганаровага доктара і прафесара багаслоўя. Высокі ўзровень выкладання ў акадэміі на працягу сямі гадоў вызначала і яго праца. У 1960 г. айцец Віталій пакінуў Пецярбург. Служыў супрацоўнікам аддзела знешніх царкоўных сувязяў Маскоўскага патрыярхату, быў прадстаўніком Рускай праваслаўнай царквы пры Сусветнай радзе цэркваў, настаяцелем царквы ў гонар Нараджэння Багародзіцы ў Жэневе. З нагоды 90-гадовага юбілею 18 студзеня 2006 г. у Маскоўскім Свята-Данілавым манастыры Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, патрыяршы экзарх усяе Беларусі ўручыў паважанаму протапрэсвітэру вышэйшую царкоўную ўзнагароду Беларусі — ордэн Крыжа Святой Еўфрасінні Полацкай.

Яшчэ адзін знакаміты выкладчык Ленінградскай, а потым Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі, сын беларускіх сялян з-пад Брэста, а. **Стэфан Ілліч Дымша** (1937–1994). Пасля заканчэння сярэдняй школы і — з адзнакай — Мінскай духоўнай семінарыі ў 1958 г. ён без экзаменаў быў залічаны ў Ленінградскую духоўную акадэмію. У 1964 г. а. Стэфан быў пасвечаны ў дыякана, скончыў акадэмію, атрымаўшы ступень кандыдата багаслоўя за сачыненне «Міхаіл VIII Палеолаг і Ліёнская унія» і паступіў на аддзяленне рускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Ленінградскага дзяржаўнага універсітэта. Пасля набыцця вышэйшай філалагічнай адукацыі па бласлаўленні мітрапаліта Ленінградскага і Наўгародскага Нікадзіма (Ротава) айцец Стэфан выкладае ў Ленінградскай духоўнай акадэміі царкоўнаславянскую і рускую мовы, а з 1970 г. — візантыйскае і кананічнае права. У 1973 г. свяшчэннік Стэфан Дымша быў накіраваны спецыялізавацца па кананічным праве ў Рым, у Пантыфікальны інстытут усходніх даследаванняў пры Грыгарыянскім універсітэце (Collegium russicum), і ў 1975 г. скончыў тут поўны курс з прысваеннем вучонай ступені (за абарону навуковай працы) доктара кананічнага права. Вярнуўшыся ў Пецярбург а. Стэфан працягваў займацца выкладчыцкай працай да свайго заўчаснага скону 15 лістапада 1994 г. Адначасова ён з 1976 да 1985 г. загадваў бібліятэкай Духоўнай Акадэміі. У 1976 г. быў узведзены ў сан протаіерэя, пазней быў узнагароджаны паліцай і крыжом з упрыгожваннямі. На час смерці быў настаяцелем двух пецярбургскіх храмаў, якія ўзнаўляліся: Дабравешчанскай царквы на Васільеўскім востраве і Троіцкага сабора на Ізмайлаўскім праспекце. Пахаваны а. Стэфан Дымша на Серафімаўскіх могілках, недалёка ад храма.

Вялікую ролю ў царкоўнай лучнасці Ленінграда і Беларусі адыграў айцец **Антоній (Мельнікаў)**, які ўлетку 1956 г. стаў рэктарам Мінскай духоўнай семінарыі і намеснікам манастыра ў Жыровічах (у сане архімандрыта). Архімандрыт Антоній выкладаў Новы Запавет. Цікавасць да гісторыі ў а. Антонія далёка выходзіла за рамкі канспекта: ён сам збіраў кнігі, рэпрадукцыі, карціны і іншыя прадметы мастацтва, у тым ліку беларускія ручнікі, царкоўнае вышыванне. Пад яго кіраўніцтвам працавалі ў Жыровіцах выкладчыкі з дарэвалюцыйнай вышэйшай адукацыяй: свяшчэннік Пётр Фёдаравіч Котаў, выпускнік Пецярбургскай духоўнай акадэміі 1914 г. і яго старэйшы брат Дзмітрый, які скончыў тую ж акадэмію на год раней. Аднакурснікам Д. Ф. Котава быў протаіерэй М. К. Спяранскі, які стаў у 1952 г. рэктарам Ленінградскай духоўнай акадэміі і семінарыі; дзякуючы гэтым людзям усталяваліся цесныя сувязі духоўных школ Жыровічаў і Ленінграда. З сярэдзіны 1950-х гг. у Жыровічах усё больш з'яўлялася маладых настаўнікаў — гадаванцаў адроджанай Ленінградскай духоўнай акадэміі. Царкоўны спеў семінарыстам пэўны час выкладаў знаўца рэгенцкай справы Пётр Нэнчук (1917–1982), кандыдат багаслоўя Ленінградскай духоўнай акадэміі. Раней, у гады вайны, ён кіраваў брацкім хорам Жыровіцкага манастыра. Аднакурснік Нэнчука іераманах Іаан (Снычаў), пазней мітрапаліт Санкт-Пецярбургскі і Ладажскі, быў выкладчыкам і загадчыкам бібліятэкі Мінскай семінарыі ў 1956–1957 гг. Іераманах Максім (Драбок, нар. у 1928 г.), кандыдат багаслоўя Ленінградскай духоўнай акадэміі (цяпер архіепіскап Магілёўскі і Мсціслаўскі) быў дабрачынным Жыровіцкага манастыра, а ў 1962 г. узведзены ў сан архімандрыта.

У Жыровічах архімандрыт Антоній Мельнікаў сустрэў сябра і памочніка, які стаў на шмат гадоў яго келейнікам. Гэта быў паслушнік манастыра Адам Канстанцінавіч Шалькевіч — знаўца мясцовай гісторыі, цікавы суразмоўца і глыбока набожны чалавек. Ён знаёміў намесніка з мінулым гэтых месцаў, са старажыламі. Роля Жыровіцкага манастыра ў гісторыі настолькі зацікавіла а. Антонія, што пасля, у кастрычніку 1964 г. ужо ў сане епіскапа ён абараніў у Маскоўскай духоўнай акадэміі дысертацыю на гэтую тэму. У 1960 г. Жыровічы наведаў мітрапаліт Мінскі і Беларускі Гурый (Ягораў). Ён узначаліў пасяджэнне педагагічнай рады, выпускны акт і папярэдняе яму набажэнства ў манастырскім саборы. Неўзабаве (19 верасня таго ж года) адбыўся перавод мітрапаліта Гурыя ў Ленінград.

Сямігадовае знаходжанне архімандрыта Антонія на пасту рэктара Мінскай духоўнай семінарыі і намесніка Жыровіцкага манастыра ў гады «ваяўнічай бязбожнасці» само па сабе з'явілася прапаведваннем веры і ўзорам адданасці абавязку. Увесну 1964 г. айцец Антоній быў закліканы да епіскапскага служэння, праз год правялебны Антоній атрымаў прызначэнне епіскапам Мінскім і Беларускім, свяшчэннаархімандрытам Жыровіцкага манастыра. Яго 13-гадовая праца на мінскай кафедры будзе адзначана ўзвядзеннем у сан архіепіскапа, затым мітрапаліта. З восені 1978 г. служэнне ўладыкі Антонія працягвалася ў сане мітрапаліта Ленінградскага і Наўгародскага — пасля заўчаснай смерці Нікадзіма (Ротава). У Ленінградзе Антоній сустрэў шматлікіх гадаванцаў Мінскай духоўнай семінарыі, у тым ліку і тых, каго ён сам настаўляў з яе «на працу Хрыстову». У Ленінград ён прывёз сваю калекцыю народнай вышыўкі (беларускіх ручнікоў) — пасля смерці ўладыкі калекцыя гэта згубілася[1].

Рэпрэсіі 1930-х гг. знішчылі ў Ленінградзе шмат помнікаў царкоўнай архітэктуры. Сярод тых, што засталіся і заўсёды дзейнічалі, сабор Уладзімірскай Божай Маці. Стромкія, у стылі барока, купалы гэтага храма бачылі з акон сваіх кватэр пісьменнік Фёдар Дастаеўскі, акадэмік Дзмітрый Ліхачоў. Шмат наведнікаў прыходзіла сюды нават у часы пабудовы развітога сацыялізму, калі змаганне з «опіумам для народа» было адной з галоўных задач ідэалагічнага аддзела абкама камуністычнай партыі. У гэты велічны храм на рагу Уладзімірскага і Загараднага праспектаў пасля сканчэння Ленінградскай духоўнай акадэміі прыйшоў служыць айцец **Уладзімір Фаменка**. Нарадзіўся Уладзімір Трафімавіч Фаменка 15 студзеня 1939 г. у Мінску. Скончыў мінскую сярэднюю школу, у 1962 г. духоўную семінарыю ў Жыровічах. З 1962 г. жыве і працуе ў Санкт-Пецярбургу. У 1966 г. скончыў па 1-м разрадзе Ленінградскую духоўную акадэмію, абараніўшы кандыдацкую дысертацыю на тэму «Дагматычнае значэнне шанавання абразоў». Саборны протаіерэй, настаяцель сабора Уладзімірскай іконы Божай Маці — гэтыя службовыя пасады а. Уладзіміра толькі ў нязначнай ступені адпавядаюць колькасці яго духоўнай працы



*Сабор Уладзімірскай іконы Божай Маці*



*Людміла Шостак і а. Уладзімір Фаменка*

[1] *Галкин А. К.* Антоний (Мельников) как ректор Минской духовной семинарии (1956–1963 гг.) // Белорусский сборник. Вып. 2. СПб., 2002. С. 138–149.

і арганізацыйных намаганняў. Акрамя выкання пастырскіх абавязкаў яму заўсёды патрапляе памятаць аб утрыманні у належным выглядзе знешнега выгляду і гаспадаркі аднаго з буйнейшых у горадзе храмаў, быць пастаянным аўтарам радыёперадачы «Званы» Санкт-Пецярбургскага радыё (у 1990–2000-я гг.), выступаць на сходах беларускай грамадскасці Пецярбурга. За актыўную царкоўна-грамадскую дзейнасць Уладзімір Фаменка ўзнагароджаны Маскоўскім патрыярхатам ордэнамі св. роўнаапостальнага князя Уладзіміра II ступені і св. дабравернага князя Данііла Маскоўскага II ступені, а Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы — ордэнам св. роўнаапостальнай Марыі Магдалены. Цяпер на выхадныя ён прычашчае 50–70 чалавек, а ў святы да 500–600 чалавек. Разам з матушкай Вольгай Уладзіміраўнай (родам з Гродна) а. Уладзімір выгадаваў сына (пайшоў за бацькам ў духоўнае саслоўе) і трох дачок.



*Настаяцель царквы святой вялікапакутніцы Кацярыны а. Іаан Пашкевіч*

Над сучасным Санкт-Пецярбургам узнесены дзьве фігуры анёлаў, якія ахоўваюць горад: адзін на шпілі Петрапаўлаўскай крэпасці, другі на версе Александрынскага слупа на Дварцовай плошчы. Ёсць яшчэ і трэці анёл: велічная фігура яго знаходзілася над купалам царквы св. Кацярыны на Кадзецкай (зараз З'ездаўская) лініі Васільеўскага вострава. У час нашай працы над «Беларускім Пецярбургам» старая (дарэвалюцыйнага вырабу, пашкоджаная ліхалеццем) фігура анёла стаяла ў царкоўным двары ў адмысловай драўлянай прыбудове, тут жа скульптары выраблялі дакладную копію. Клопат за аднаўленне трэцяга піцерскага анёла прыняў на сябе настаяцель Кацярынінскай царквы, протаіерэй **Іаан Пашкевіч** (нар. 26.04.1963). Ураджэнец палескай вёскі Рубель Столінскага раёна, айцец Іаан закончыў тут сярэднюю школу, пасля службы ў Савецкай Арміі быў іпадыяканам у Пермскага архіепіскапа Афанасія[1]. Скончыў Санкт-Пецярбургскую духоўныя семінарыю і акадэмію, працаваў намеснікам рэктара па гаспадарцы, служыў настаяцелем храмаў у Ламаносаве (Араніенбаўме) і Вырыцы. Стаўшы (у 2003 г.) настаяцелем храма св. Кацярыны, а. Іаан апроч богаслужэнняў павінен быў шмат увагі аддаваць рамонту і рэстаўрацыі будынку царквы — некалі зачыненай і ператворанай у завадское памяшканне. Але не толькі: ён таксама напісаў кнігу па гісторыі свайго храма і стварыў асобны сайт царквы ў інтэрнэце, у 2006 бласлаўляў пажарнікаў і асвячаў іх машыны пры стварэнні ў 2006 г. у Пецярбургу муніцыпальнай пажарнай службы...



*Адноўлены анёл чакае вяртання на купал царквы св. Кацярыны. 2009 г.*

Яскравых і жывых пецярбургскіх прыкладаў таго, што можна зрабіць руплівай працай і шчырымі малітвамі шмат. Адзін з іх — аднаўленне храма св. Аляксандра Неўскага ў Усць-Іжоры. Калі сюды настаяцелем прыйшоў беларус а. **Анатоль Мароз**, царква была зруйнаваная ўшчэнт — званіца разбурана, купал і дах знішчаны, пакрышаны сцены.

Нарадзіўся Анатоль Іосіфавіч Мароз 15 кастрычніка 1930 г. у вялікай сялянскай сям'і ў в. Вялікая Лысіца (зараз Нясвіжскі раён Мінскай вобл.). Бацька выконваў абавязкі царкоўнага дзячка, пры гэтым быў пчаляром

[1] Афанасій (Курдзюк Аляксандр Рыгоравіч, 1927–2002), былы архіепіскап Пермскі і Салікамскі. Нарадзіўся 18 лютага 1927 г. у в. Краснае Сяло Бельскага павета Беластоцкай вобласці ў сялянскай сям'і, беларус. У 1946–1952 гг. вучыўся ў маскоўскіх духоўнай семінарыі і акадэміі. Пасля таго як у жніўні 1980 г. рашэннем маскоўскага патрыярха Пімена быў створаны Пінскі вікарыят, Афанасій Курдзюк быў прызначаны вікарным епіскапам Пінскім, у 1984 г. быў перамешчаны на Пермскую кафедру.

і выдатным столярам, вырабляў нават музычныя інструменты. У юнацтве Анатоль Мароз добра граў на зробленай бацькам скрыпцы, а таксама на гармоніку, мандаліне, гітары. Пасля вайны марыў пра паступленне ў мінскую кансерваторыю. Але выпадак змяніў лёс: у 1947 г. быў аб'яўлены прыём у аднаўленую духоўную семінарыю ў Жыровіцах і настаяцель Лысіцкай царквы а. Матфей Крыцук блаславіў яго на духоўнае служэнне. Пасля выдатнага заканчэння курса ў Жыровіцах а. Анатоль пераехаў у Ленінград — спачатку вучыўся ў мясцовай Духоўнай акадэміі, а потым застаўся ў горадзе на стала. Больш як 12 год служыў у розных храмах простым свяшчэнікам, з матушкай Марыяй (яна родам з Уселюба Наваградскага раёна) выгадавалі двух дачок, дапамагалі ўнукам...



*а. Анатоль Мароз*

Першае і апошняе павышэнне па службе айцец Анатоль атрымаў у 1994 годзе, калі стаў настаяцелем вялікага храма, які трэба было падняць з руінаў. Храм гэты для Пецярбурга і ўсёй Расіі знакавы — стаіць ён на высокім беразе Нявы пры ўпадзенні ў яе ракі Іжоры акурат у тым месцы, дзе св. князь Аляксандр Яраславіч (пазней яго назавуць Неўскім) разбіў войска шведаў. Аднаўляць дапамагалі акадэмік Дзімітрый Ліхачоў, першы мэр Пецярбурга Анатоль Сабчак, а таксама жыхары і працаўнікі (у тым ліку кіраўнікі прадпрыемстваў) Колпіна, Металастроя, Усць-Іжоры. Хутка пачаліся рэгулярныя багаслужэнні, распачалося прыходскае жыццё. Прыхажан яднаді і ўрачыстая богаслужба ў суправаджэнні добра падабранага хора, і надзённыя шчырыя казанні (хай сабе з неадменным беларускім вымаўленнем). Не застаўся без рэалізацыі музычны талент айцанастаяцеля: у маі 2001 г. выйшаў кампактдыск з духоўнымі песнямі ў выкананні протаіерэя Анатоля Мароза ў суправаджэнні царкоўнага хора пад кіраўніцтвам Людмілы Бортнік — рэгента Усць-Іжорскага храма (малодшай дачкі). Мы пазнаёміліся з а. Анатолем у 2008 г., напярэдадні яго 78-годдзя: «у далёкім краі зямляк лепш як сваяк», гаварыў гэты мудры і моцны чалавек успамінаючы радзіму, умельца-бацьку, якога ў гады вайны выратаваў ад фашысцкай расправы вясковы свяшчэннік а. Матфей Крыцук, і самога айца Матфея, замучанага саветамі ў лагерах і нядаўна прылічанага да сонму святых беларускіх новамучанікаў. Айцец Анатоль ціха моліцца за гэтых людзей у храме на высокім беразе Нявы, а зробленая бацькам скрыпка як знак і голас Беларусі ляжыць у яго гарадской кватэры на вуліцы Маякоўскага.



*Царква св. Аляксандра Неўскага ў Усць-Іжоры*

Пецярбургскі мітрапаліцкі касцёл на 1-й роце пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі быў зачынены. Частку плошчы храма аддалі розным арганізацыям, у прыдатных да жылля памяшканнях манастыра парабілі велізарныя камунальныя кватэры. Аднаўленне адбылося ў 1992 г. Пасля капітальнага рамонту касцёл асвяцілі нанова — у імя Успення Прасвятой Дзевы Марыі. Пры храме была адчынена і пачала працаваць каталіцкая семінарыя. Асноўны клопат па аднаўленні касцёла і вучэльні ўзяў на сябе мітрапаліт і адміністратар для каталікоў лацінскага абраду **Тадэвуш Кандрусевіч**, лёс якога на доўгі час быў звязаны з Ленінградам—Санкт-Пецярбургам. Нарадзіўся Тадэвуш Кандрусевіч 3 студзеня 1946 г. у вёсцы Адэльск Гродзенскага раёна. Пасля школы паступіў на фізіка-матэматычны факультэт

Гродзенскага педагагічнага інстытута, але праз год яго пакінуў з-за абвінавачванняў у тым, што рэгулярна наведвае касцёл і ўдзельнічае ў набажэнствах. Малады чалавек паехаў з Беларусі ў больш талерантны (нават у гады савецкага «застою») Ленінград. У 1964 г. паступіў на энергамашынабудаўнічы факультэт політэхнічнага інстытута, які скончыў у 1970 г. У 1981 г. пачалося яго святарскае служэнне, а 13 красавіка 1991 г. папа Ян Павел II узвёў Тадэвуша Кандрусевіча ў сан архіепіскапа і прызначыў апостальскім адміністратарам для каталікоў лацінскага абраду еўрапейскай часткі Расіі. Пасля падзелу адміністратуры 23 лістапада 1999 г. а. Тадэвуш прызначаны апостальскім адміністратарам для каталікоў лацінскага абраду Поўначы еўрапейскай часткі Расіі, а ў лютым 2002 г. атрымаў прызначэнне на Мітрапаліта кафедры Маці Божай у Маскве. 3 верасня 2007 г. папа Бенедыкт XVI прызначыў архіепіскапа Тадэвуша Кандрусевіча Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім.



*Тадэвуш Кандрусевіч*

Першым пасвечаным святаром выпускніком новаадноўленай Санкт-Пецярбургскай семінарыі быў беларус, паэт **Сяржук Сурыновіч**. Яго экселенцыя біскуп Кандрусевіч прыехаў з Масквы на гэтую падзею і пасля заканчэння цырымоніі пасвячэння выказаў удзельнікам прачуленыя словы на беларускай мове, звяртаючыся перш за ўсё да прысутных у касцёле бацькоў Сержука Сурыновіча і ягоных сяброў па беларускай суполцы.



*а. Стэфан Кацінель з пецярбургскімі беларусамі*

Сённяшні настаяцель каталіцкага Кафедральнага сабора Успення Прасвятой Дзевы Марыі айцец **Стэфан Кацінель** (нар. 1 верасня 1962 г.) паходзіць з вёскі Талоцішкі Ашмянскага раёна. У глыбока веруючай і шматдзетнай сям'і сваіх бацькоў ён быў шостым, апошнім, дзіцём. Вучыўся Стэфан Міхайлавіч Кацінель у васьмігадовай школе ў суседніх з Талоцішкамі Анкудах, сямігодку закончыў у 1979 г. у Астраўцы. Пасля вайсковай службы ў Забайкаллі (Кяхта) ён паступіў у Вышэйшую духоўную семінарыю ў Рызе, закончыў у 1991 г. і быў накіраваны як вікарый у Санкт-Пецярбург, на прыход Лурдскай Божай Маці — на той час адзіны дзейны ў горадзе касцёл (у Ковенскім завулку). У 1993 г. айца Стэфана прызначылі капеланам маракоў: на гэтай пасадзе ён выконвае святарскія абавязкі для ўсіх маракоў-каталікоў, пры патрэбе выязджае на караблі, якія стаяць ў Пецярбургскім порце. У 1995 г. ён стаў настаяцелем Кафедральнага сабора Успення Прасвятой Дзевы Марыі. Мяжу тысячагоддзя айцец Стэфан сустрэў у Варшаве слухачом Універсітэта імя кардынала Стэфана Вышынскага, які закончыў у 2003 г. з вучонай ступенню кандыдата багаслоўя.

# Раздзел 19.

## ТВОРЧАЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ

Санкт-Пецярбург і будучы Ленінградам заставаўся і развіваўся як важны цэнтр культуры. Творчая інтэлігенцыя горада пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ўвасабляла лозунг бальшавікоў: «Мастацтва павінна належаць народу». Элітную культуру заможных вярхоў грамадства стараліся замяніць на культуру пралетарскую, захаваўшы па магчымасці каштоўнасці папярэдніх эпох. У студзені 1921 г. адчыніў дзверы для масавых наведванняў Эрмітаж. Да гэтага часу з яго карцiннай галерэі яшчэ не былі прададзены «Дабравешчанне» Яна Ван Эйка, «Пакланенне вешчуноў» Бацічэлі, «Венера з люстэркам» Тыцыяна, «Св. Георгій» Рафаэля і дзесяткі іншых шэдэўраў. Пасля Вялікай Айчыннай вайны шмат пуцевадзіцеляў і каталогаў заходнееўрапейскага жывапісу Эрмітажа выдаў беларус **Павел Філіпавіч Губчэўскі** (1909–1989). Каб прывучыць пралетарыят да класічнай музыкі, для рабочых рабілі бясплатныя або па зніжаных цэнах канцэрты. У ліку асабліва знамянальных дат Ленінградскай філармоніі — першае выкананне 12 мая 1926 г. Першай сімфоніі маладога музыканта Дзмітрыя Шастаковіча, які толькі год да гэтага скончыў Ленінградскую кансерваторыю. **Дзмітрый Дзмітрыевіч Шастаковіч** (1906–1975) неўзабаве стане найбольш славутым кампазітарам-пецярбуржцам. Стваральнік 15 сімфоній і струнных квартэтаў, некалькіх опер, кантат, канцэртаў і санат для розных інструментаў, рамансаў і песень, араторыі, квінтэта, а таксама аперэты, музыкі да многіх спектакляў і кінафільмаў, Шастаковіч быў пачынальнікам новай музыкі. Сярод кампазітараў XX ст. яго творы ў свеце цяпер выконваюцца найбольш часта. Яго продкі родам з Калодна Свянцянскага павета (цяпер Мядзельскі раён). Бацька кампазітара Дзмітрый Баляслававіч стаў інжынерам-хімікам, працаваў у Тэхналагічным інстытуце. Бацька памёр рана, таму, каб зарабіць на жыццё, будучаму кампазітару давялося працаваць тапёрам у толькі што пабудаваным (архітэктарам-беларусам Лялевічам) кінатэатры «Парызіяна» на Неўскім праспекце. Жыў Дзмітрый Шастаковіч перад Другой сусветнай вайной на Петраградскай старане, а пасля вайны – на вуліцы Марата. Другая яго жонка, Ірына, беларуска – дачка вядомага этнографа Антона Казіміравіча Супінскага. Карэнны жыхар Пецярбурга, Дзмітрый Шастаковіч узгадваў сваю дзедаўшчыну — край блакітных азёраў, часам – наведваў. Прыкладам у 1963 г. быў у Мінску на прэм'еры сваёй 13-й сімфоніі ў выкананні беларускіх музыкантаў. А вось іншы знакаміты пецярбуржац-кампазітар з беларускімі каранямі – Ігар Стравінскі – пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі жыў за межамі Петраграда-Ленінграда.




*Мемарыяльная шыльда на доме, у якім жыў Дз. Шастаковіч*

У чэрвені 1924 г. у Анічкавым палацы (на той час — Музей горада) адкрылася выстава «Свет мастацтваў». У ёй прымалі ўдзел 47 вядомых мастакоў: М. Бенуа, Г. Вярэйскі, М. Валошын, В. Канашэвіч, К. Пятроў-Водкін, пецярбуржац з беларускімі каранямі Мсціслаў Дабужынскі... Каля 150 мастакоў удзельнічалі ў юбілейнай выставе, якая адчынілася 6 лістапада 1927 г. у Акадэміі мастацтваў; за год да гэтага акадэмія адчыніла агульнадаступны музей. Славай акадэміі ў гэты перыяд былі жывапісцы Ісак Бродскі, Кузьма Пятроў-Водкін, Павел Філонаў, скульптар Шэр, архітэктар Ной Троцкі. Да 1934 г. зусім

недалёка ад горада (хоць фактычна за мяжой), на сваёй дачы ў Куокале жыў і працаваў магутнейшы з жывапісцаў XX ст. Ілля Рэпін.

З'явілася тэндэнцыя пераезду таленавітых музыкантаў, артыстаў, дзеячаў кіно, навукі ў Маскву, пачатак якой паклалі Максім Горкі і Карней Чукоўскі. Пасля Другой сусветнай вайны з Ленінграда з'ехалі Г. Свірыдаў, Б. Хайкін, Л. Траўберг і іншыя. У Маскву перамясціліся Акадэмія мастацтваў, выдавецтвы «Мастацкая літаратура» і «Маладая гвардыя».

Тым часам ленінградскае мастацкае асяроддзе папаўнялася таленавітай моладдзю, а сацыялістычныя прынцыпы размеркавання дазвалялі ёй выжываць і творча працаваць. У эпоху развітога сацыялізму (на пачатку 1980-х гг.) у горадзе творчая інтэлігенцыя налічвала каля адзінаццаці тысяч дзеячаў культуры. Гонарам гэтай групоўкі былі скульптар Міхаіл Анікушын, пісьменнікі Вадзім Шэфнер і Данііл Гранін, паэт Міхаіл Дудзін, кампазітары Васіль Салаўёў-Сядой, Аляксандр Пракоф'еў, Андрэй Пятроў, акцёры Аляксандр Талубееў, Міхаіл Баярскі, Аліса Фрэйндліх, тэатральны рэжысёр Георгій Таўстаногаў, кінарэжысёр Юрый Герман, дырыжоры Юрый Цемірканаў і Валерый Гергіеў. Яны былі арганізаваны ў сем творчых саюзаў (архітэктараў, журналістаў, кінематаграфістаў, кампазітараў, пісьменнікаў, тэатральных дзеячаў, мастакоў). Саюзы былі не толькі творчымі, але і дзяржаўнымі арганізацыямі, якія давалі сваім членам матэрыяльныя выгоды і ажыццяўлялі партыйна-дзяржаўны кантроль за іх дзейнасцю. Прытрымлівацца метаду сацыялістычнага рэалізму было абавязковым патрабаваннем для членаў саюзаў. Для тых, хто спавядаў іншыя прынцыпы, шлях у саюзы быў закрыты.

Шэрагі творчых работнікаў Ленінграда папаўняла таленавітая моладзь. Ураджэнец Слуцка **Барыс Ігнатовіч** (1899—1976) прыехаў у 1922-м. Працаваў у рэдакцыях часопісаў «Смехач», «Дрезина», «Бузотёр». Сябраваў з Маякоўскім, зрабіў удалую фатаграфію маладога пісьменніка Зошчанкі... Фатаграфія з хоббі Барыса Ігнатовіча паступова ператварылася ў асноўную працу. У 1925 годзе ён з'ехаў у Маскву, каб там працаваць фатографам у самых прэстыжных выданнях, а ў 1931 г. наведаў Ленінград ужо як адзін з карыфеяў савецкай мастацкай фатаграфіі — рабіў здымкі для спецыяльнага «ленінградскага» выпуску часопіса «СССР на стройке».

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі на Няву для навучання мастацтву ехалі з розных куткоў Беларусі. Частка заставалася на ўзроўні маляроў і афарміцеляў, частка падужала прайсці навукі і стаць прафесійнымі мастакамі. Да апошніх належыць жывапісец і графік **Уладзімір Змітравіч Аўлас** (1904—1975). Нарадзіўся ён ў Віленскай губерні, у 1920—1926 гг. вучыўся ў Акадэміі мастацтваў. З 1926 да 1928 г. працаваў у арцелі «Рэклама», ад 1928 да 1934 — мастаком майстэрняў Палітасветцэнтру. Пазней Уладзімір Аўлас стаў членам Ленінградскай арганізацыі Саюза савецкіх мастакоў.

Мастаком на ЛФЗ (Ленінградскім фарфоравым заводзе) доўгі час працавала беларуска **Ксенія Уладзіміраўна Ліўчак** (1906—1988). Нарадзілася яна ў Вільні ў сям'і вучонага лесавода. З 1924 г. жыла ў Ленінградзе. Закончыўшы аддзяленне керамікі ў Ленінградскім мастацка-прамысловым тэхнікуме, прыйшла на ЛФЗ. Ксенія Ліўчак на працягу ўсяго жыцця падтрымлівала творчыя і сяброўскія сувязі з адным з найбольш рэвалюцыйных авангардыстаў Ленінграда — мастаком Паўлам Філонавым. Перажыла блакаду. Перажыла свайго славутага сябра Паўла Філонава, аддаўшы шмат душэўных сіл і працы для захавання памяці пра яго. Памерла і пахавана Ксенія Уладзіміраўна на радзіме — у Пабрадзе (каля Вільні).

У Віцебску ў сям'і гадзіннікавага майстра нарадзіўся вядомы пазней жывапісец **Давід Барысавіч Альхоўскі** (1912—1978). У 1927—1930 гг. ён навучаўся ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме, пасля яго заканчэння прыехаў у горад над Нявой. Разам з сябрамі — выпускнікамі Віцебскага тэхнікума Самуілам Эйдусам і Хаімам Ліўшыцам у маі 1931 г. вучыўся ў Паўла Філонава. Пазней працаваў мастаком-афарміцелем. У 1934 г. Давід Альхоўскі паступіў у Акадэмію мастацтваў, навучаўся жывапісу ў майстэрні Ісака Бродскага. Адразу пасля заканчэння, у 1940 г., ён стаў членам Ленінградскай арганізацыі Саюза савецкіх мастакоў, з таго ж часу удзельнічаў у мастацкіх выставах. Сёння ў Акадэміі мастацтваў працуюць шмат вучняў Давіда Альхоўскага, адзін з іх выкладае малюнак на архітэктурным факультэце, гэта прафесар **Анатоль Данілавіч Лукашонак** (нар. у 1946 г.). З вёскай Гарбылі Дрысенскага раёна — радзімай бацькі — Анатоля Лукашонка ўжо нічога не звязвае. Сама вёска згарэла ў час Другой сусветнай вайны, а Анатоль нарадзіўся ў пасляваенным Днепрапятроўску, куды бацька выехаў працаваць на завод. «Чуден Днепр при тихой погоде...» — зразумець сэнс гэтых слоў Гогаля Анатолю Лукашонку было ня-

цяжка: плёскат хваляў велічнай ракі, якая ва ўсе часы звязвала народы, гарады і вёскі, ён чуў штодня, за некалькі метраў ад бацькоўскага дома адкрываліся непаўторныя дняпроўскія далягляды. У 1966 г. Анатоль Лукашонак апынуўся ў Хабараўску, і слова «армія» набыло для хлопца рэальны змест. Пасля заканчэння тэрміновай службы Анатоль паступіў у Ленінградскую акадэмію мастацтваў, потым два гады выкладаў у Краснаярскім мастацкім вучылішчы. У 1977 г. вярнуўся ў Пецярбург, працаваў у майстэрні Арэшнікава, а з 1981 г. сам выкладае ў акадэміі жывапіс, кампазіцыю і малюнак. Педагагічнае майстэрства Анатоля Лукашонка высока ацаніў пан Юхані Ярвінен, запрасіўшы яго выкладаць у Вышэйшую мастацкую школу г. Іматра (Фінляндыя).



*Анатоль Лукашонак*

«Творчасць мастака келейная, падобная да *манаскага служэння, з глыбокімі асабістымі перажываннямі, сумненнямі. Доўгія дні адзіноты і працы ў майстэрні патрабуюць эмацыянальнай разрадкі, і таму да кожнай сваёй персанальнай выставы я рыхтуюся быццам да свята, урачыстасці,* — гаворыць мастак. І разважае далей: — *Без сумнення, сама па сабе выстава — гэта не толькі вынік, справаздача, але і падстава для глыбокага роздуму: якую карціну паставіць на цэнтральнае месца, якім чынам зрабіць цэласнае ўражанне пры разнастайнасці жанраў, сюжэтаў. І ўсё ж асноўная мэта — падзяліцца з гледачом радасцю творчасці, уласным успрыняццем Свету*».

Персанальныя выставы Анатоля Лукашонка прайшлі ў філіяле Цэнтральнай выставачнай залы ў Кранштаце (1990), фінскіх гарадах Йотсено (1997) і Турку (1999), у зале Навукова-даследчага музея Акадэміі мастацтваў (2001) і нямецкім Гамбургу (2003), у Італьянскай зале Акадэміі мастацтваў (2006). Акрамя штогадовых вясновых выстаў выкладчыкаў акадэміі, у якіх мастак удзельнічае з 1996 г., яго працы былі паказаны на групавых выставах «Кітай, Італія, Расія» (1998), юбілейных выставах Саюза мастакоў Санкт-Пецярбурга ў Манежы (2002, 2008), юбілейнай выставе ў Манежы да 300-годдзя горада, групавой выставе ў аўстрыйскім Брэгенцы (2004). Апошняя, калектыўная, прысвечана каталіцкаму ордэну францысканцаў. Ініцыятар гэтай выставы перакладчык твораў Св. Фрацыска з Асізы на рускую мову Аляксандр Клястоў вельмі задаволены высокай мерай пранікнёнасці Анатоля Лукашонка ў тэматыку, звязаную з жыццём і спадчынай высока шанаванага святога.

Яшчэ адзін выкладчык Акадэміі мастацтваў — беларус жывапісец **Аляксандр Сяргеевіч Крыванос** нарадзіўся у 1967 г. у Пецярбургу. Бацька і маці — ураджэнцы Клічава. Скончыў СШ № 24 г. Ленінграда, Сяроўскае (цяпер Рэрыхаўскае) вучылішча, у 1999 г. — аддзяленне жывапісу ў Акадэміі мастацтваў. Выкладчыкі акадэміі далучылі таленавітага юнака да самай адказнай і прэстыжнай працы канца XX ст. — рэканструкцыі храма Хрыста Збаўцы ў Маскве, дзе Аляксандр рабіў роспісы на тэму 8-га Сабора і (у купале паўднёвага прыдзела) на сюжэт «І слова стала плоццю...». У 2001 г. Аляксандра Крываноса запрасілі ў Кітай — два гады выкладаў жывапіс і малюнак у Інстытуце мастацтваў Цзынані — галоўнага горада правінцыі Шандунь. Вярнуўшыся ў акадэмію, навучае малюнку студэнтаў скульптурнага і графічнага факультэтаў. Жывапісныя працы Аляксандра Крываноса ўпрыгожваюць розныя музеі і калекцыі. Ёсць і экстэр'ерныя працы для ўсіх пецярбуржцаў: паводле яго кардонаў выкананы мазаікі капліцы Аляксандра Неўскага ў Каламягах і капліцы Ратавання на водах у Кранштаце.



*Аляксандр Крыванос*

Часткай культурнай прасторы Ленінграда эпохі будавання развітога сацыялізму (і змагання з сацрэалістычным мастацтвам) стала творчасць беларускага мастака **Аляксандра Ісачова**. Ён нарадзіўся 11 студзеня 1955 г. у Рэчыцы, вучыўся ў школе-інтэрнаце для таленавітых дзяцей у Мінску. Са школы яго выгналі за дысцыпліну (адмовіўся састрыгчы доўгія валасы). Хлопец паехаў у Ленінград: працаваў лімітчыкам у зеленгасе, жыў на кватэры мастака-нефармала Георгія Міхайлава, выстаўляў свае працы на нонканфармісцкіх выставах у ДК «Газа» і ДК «Неўскі». Пры гэтым ён адвярнуўся ад модных, публічна аб'яўленых авангардам формаў мастацтва, якія панавалі ў піцерскім андэграўндзе. Магчыма, адчуваў падсвядома, што яны таксама навязаныя, магчыма, гэта была агульная туга па традыцыйным жыцці, бо традыцыя мае здаровы выток, які забяспечыў яе ўзнікненне... Жывучы паміж Рэчыцай і Ленінградам, у сваёй творчасці ён стаў бліжэй да масквічоў Іллі Глазунова і Аляксандра Шылава — мастакоў з істотнай прагай да масавай культуры. Напрыклад, Ісачоў амаль на дзесяць гадоў раней за Глазунова ўзяў за творчую тэму хрысціянства, працы іх падобныя не толькі па сюжэтах і назвах («Нясенне крыжа», «Пацалунак Іуды», «Галгофа»), але і манерай выканання... На момант сваёй заўчаснай смерці ў снежні 1987 г. Аляксандр Ісачоў быў аўтарам каля 520 жывапісных прац і каля 1000 графічных твораў.

З пачаткам перабудовы былы сябра Аляксандра Ісачова Георгій Міхайлаў адкрыў галерэю на Ліцейным праспекце, 53. Кожны год у снежні тут ладзіліся мемарыяльныя выставы Ісачова, а калі галерэя адчыніла філіял на Мойцы, 82, у новым памяшканні з'явіліся дзве мемарыяльныя залы беларускага мастака, экспануецца каля 100 яго твораў. Аляксандр Ісачоў пісаў вялікія палотны, часта шматфігурныя кампазіцыі на зусім непапулярныя ў андэграўднай тусоўцы (да якой ён належаў) тэмы, але запатрабаваныя публікай і калекцыянерамі. Некалькі гадоў пазней кнігарні запоўніліся пярэстымі вокладкамі з выявамі, нібы скапіяванымі з карцін Ісачова, на ўсе ўлюбёныя ім сюжэты: магія, прыгажуні, ведзьмакі, хрысціянства, усход...[1]

Архітэктара-беларуса **Мікалая Назар'іна** знаўцы заўсёды высока ацэньвалі не толькі як дойліда, але і як мастака-графіка, работы якога неаднойчы дэманстраваліся на выставах. У тыя ж раннія 1970-я гг. у Ленінград прыехаў навучацца на мастака **Дзмітрый Якуценя**, ураджэнец вёскі Кавалі Брэсцкай вобласці (нар. 12 сакавіка 1951 г.). Вывучаў жывапіс у рысавальных класах Акадэміі мастацтваў пад кіраўніцтвам мастака Уладзіміра Прошкіна. Атрымаўшы добрую прафесійную падрыхтоўку, Дзмітрый у 1982—1987 гг. навучаўся на мастацка-графічным факультэце Дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. Герцэна[2]. Пасля заканчэння працаваў дызайнерам, выкладаў у мастацкай школе. Любімымі тэмамі творчасці Дзмітрыя Якуцені сталі зімовыя пейзажы, краявіды прыгарадаў Пецярбурга, вуліцы горада, Фантанка, Нява, праваслаўныя саборы...

Сярод асоб мастацкага «беларускага Пецярбурга» шмат людзей розных нацыянальнасцяў. Адзін з іх — **Сяргей Вітальевіч Ткачэнка** — жывапісец, выпускнік акадэміі. Ураджэнец украінскага Палесся (родны Корастынь цяпер у зоне найбольшага забруджвання чарнобыльскай радыяцыяй), Сяргей Ткачэнка стаў песняром Віцебшчыны — радзімы сваёй жонкі Марыі Іванаўны Ткачэнкі (Кузьміной). Стары бацькоўскі сад на карціне «Яблыні» — гэта ўспамін пра дзяцінства: праца, якая заўсёды застаецца ў майстэрні мастака, як і першы «Нацюрморт з ружай і габоем». Тым часам візітнай карткай майстра сталі паэтычныя зімовыя пейзажы вёскі Галубічы, партрэты людзей з навакольных хутароў. У 1980—1990-я гг. Сяргей Ткачэнка напісаў серыю алейных партрэтаў выдатных дзеячаў беларускай культуры: пісьменнікаў Івана Чыгрынава, Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна, актрысы Стэфаніі Станюты, мастакоў і мастацтвазнаўцаў Уладзіміра Карачуна і Аляксея Марачкіна. У 2006 г. Сяргей Ткачэнка выканаў, на заказ выпускнікоў СШ № 4 г. Наваградка жывапісны партрэт першага дырэктара школы Пятра Аляксеевіча Мазуры. Лепшымі працамі пачатку XXI ст. сталі пейзажы «Сопат, сонечны дзень» і «Жэнеўскае возера». Удзел у мастацкім жыцці Пецярбурга гэтага выдатнага каларыста вельмі нязначны, хай сабе жыве ў самым цэнтры — на Пушкінскай, 11. Большасць часу Сяргей Ткачэнка праводзіць у Еўропе:

[1] *Трулль К.* Белорусский художник Александр Исачёв (1955—1987) // Александр Анатольевич Исачёв. Альбом. Минск, 2005. С. 4—11.

[2] *Шалыгин А. С.* Известные и выдающиеся художники Санкт-Петербурга в современном искусстве. Военмех, 2004.

Жэнева, Сопат, Гданьск, Кракаў. Адпаведна пераважная большасць лепшых прац засталася за мяжой. Шмат якія пецярбургскія інтэр'еры ўпрыгожваюць цікавыя жывапісныя і дэкаратыўна-прыкладныя працы **Вячаслава Іосіфавіча Гіголы** (нар. 23 жніўня 1953 г. у в. Парэчча Докшыцкага раёна Віцебскай вобл.), выпускніка мастацка-графічнага факультэта віцебскага педагагічнага інстытута. У 1987 г. Вячаслаў стаў пецярбуржцам, працуе ў розных школах горада як выкладчык мастацтва і тэхналогіі. Адначасова ён удзельнічае ў выставах, у працах па ўпрыгожванні да святаў Дварцовай плошчы, расфарбоўвае аўтамабілі, выступае на конкурсе праектаў помніка Міндоўгу...



*Сяргей Ткачэнка. Аўтапартрэт*

*«Здаўна гуртаваліся ў Пецярбургу беларусы, якія жылі тут. Дзейнічала некалі на Васільеўскім востраве выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца», ставіліся дабрачынныя тэатральныя спектаклі, гучалі песні на роднай мове...*

*Але дагэтуль не чуваць было, каб ладзіліся калі-небудзь мастацкія выставы. І вось пяць хлопцаў, сабраўшыся піць каву пасля чарговай сустрэчы ў БГКТ (Беларускае грамадска-культурнае таварыства), разам вырашылі: «калі не мы — то хто?», «калі не цяпер — то калі?». Так распачалася гэтая выстава. Як «Ноеў каўчэг» на габелене Івана Чэрнякевіча плыве да цвердзі зямной, так па «дзяржаўным» цячэнні Нявы кіруе да свайго гледача мастацкая творчасць ленінградцаў-беларусаў»,* — гэтымі словамі пачынаўся буклет мастацкай выставы «Маю гонар» у 1991 г. Яна прайшла ў Новым доме культуры на завулку Антаненкі, 1, а пасля і ў Мінску, у Доме архітэктараў на праспекце Скарыны. Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» выдала да выставы буклет з фатаграфіяй пяці мастакоў-удзельнікаў, а таксама фотаздымкамі адной працы кожнага мастака. У арганізацыі выставы актыўны ўдзел прыняў піцерскі літаратар Анатоль Кірвель, які быў аўтарам тэксту і кароткіх біяграфічных анатацый. Праз 15 год шмат што змянілася ў гэтых людзей, у 2007 г. мы працытуем буклет, дадаўшы новых фактаў:

***Казак Юрый Аляксеевіч***. *Нарадзіўся 27 лістапада 1951 г. у г. Рэчыца Гомельскай вобласці. У 1980 г. закончыў Ленінградскае мастацкае вучылішча імя В. Сярова. Будуе яхту (порт прыпіскі абавязкова Пецярбург).*

Юрый Казак сапраўды пачаў будаваць у 1990 г. яхту на Ладаге. У жніўні 2005 г. аўтар гэтай кнігі выпадкова сустрэўся з ім на Неўскім, на мосце праз Мойку: той самы высокі, сухенькі сілуэт у брызентавай панаме, той самы стыль маленькіх, сімпатычных алейных мініяцюр з краявідамі горада, якія ён прадае (часам яшчэ не высахлымі) каму-небудзь з бясконцага натоўпу турыстаў... Пагаварылі, запытаўся як яхта. Аказваецца, корпус ужо пабудаваны, можна жыць; але ветразі каштуюць дорага, патрэбны спецыяльны амаль куленепрабівальны брызент, і быццам бы абазначыўся нейкі спонсар...



*Юрый Казак на Неўскім праспекце*

***Казлоўскі Ігар Станіслававіч****. Нарадзіўся 25 снежня 1956 г. у г. Слабадское Кіраўскай вобласці ў сям'і выхадцаў з Беларусі. У 1985 г. закончыў Ленінградскае вышэйшае мастацка-прамысловае вучылішча імя В. Мухінай (інтэр'еры і абсталяванне). Харошы хлопец.*

***Рудак Юрый Аляксеевіч****. Нарадзіўся 10 лютага 1950 г. у Ленінградзе ў сям'і выхадцаў з Беларусі. У 1981 г. закончыў Ленінградскае вышэйшае мастацка-прамысловае вучылішча імя В. Мухінай (мастацкая апрацоўка металу). Сумняваецца, але ідзе.*

Пазней Юрый Рудак займаўся літаратурнай творчасцю, выкладаў мастацтва ў розных ВНУ Пецярбурга.

***Сівуха Віктар Сцяпанавіч****. Нарадзіўся 18 лістапада 1951 г. у в. Роўнае Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. У 1983 г. закончыў Ленінградскае вышэйшае мастацка-прамысловае вучылішча імя В. Мухінай (тэкстыль). Жыццё — лёс. Спасцігнеш — гукай човен Харона!*

Віктар Сівуха праявіў сябе як таленавіты стваральнік карцін-аплікацый. Пасля таго як яго творы купіў папулярны акцёр і спявак Міхаіл Баярскі, работы Віктара набылі папулярнасць, алё ён, на жаль, ужо не мог працаваць — пагаршэнне здароўя ў выніку траўмы зрабілі яго амаль непрацаздольным. Напрацоўкі бацькі развівае сын Максім.

***Чэрнякевіч Іван Міхайлавіч****. Нарадзіўся 9 красавіка 1955 г. у вёсцы Плябанцы Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці. У 1973 г. закончыў Рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве ў Мінску, у 1981 г. — Ленінградскае вышэйшае мастацка-прамысловае вучылішча імя В. Мухінай (тэкстыль). Працуе ў Мастацкім фондзе. Карыстаецца сімпатыяй у жанчын.*

На ўзгаданай выставе Іван Чэрнякевіч паказваў габелен «Ноеў каўчэг»: біблейскі карабель ужо пасля заканчэння патопу выплывае на чыстую ваду, да светлай будучыні — актуальны для пачатку перабудовы роздум. Цяпер гэты габелен з'яўляецца ўласнасцю Полацкага музея беларускага кнігадрукавання. Да характарыстыкі Івана Чэрнякевіча трэба дадаць, што ён мастак вельмі шырокага творчага дыяпазону. Акрамя згаданага «Ноева каўчэга» найбольшыя творчыя дасягненні ў працы з тканінамі — габелен для гісторыка-краязнаўчага музея ў Навагрудку (герб горада), распісныя тканіны, шоўкавыя кімано ў японскім стылі, жывапісныя карціны тэкстыльнымі фарбамі на шоўку: «Анёлы лётаюць», «Ваўкалаўк», «Беларуская міфалогія». Тканіны Івана Чэрнякевіча — гэта і заслона для палаца культуры у Ніжневартаўску, і шалікі і хусткі на паказе мод у палацы на Ліцейным, і пано ў «Сушы-бары» на вуліцы Жукоўскага. Нетрываласць матэрыялу стала прычынай таго, што некаторыя творы загінулі, як, напрыклад, распісныя шторы для сталовай завода лімоннай кіслаты на Лігаўскім праспекце. Шмат зрабіў Іван Чэрнякевіч і ў галіне традыцыйнага жывапісу (алей, палатно). Перш за ўсё гэта пейзажы Пецярбурга, партрэты (у тым ліку «Аўтапартрэт»), жанравыя гістарычныя кампазіцыі. Цыкл яго прац па гісторыі вайсковай славы Расіі ўпрыгожвае музейную залу Ваенна-касмічнай акадэміі імя Мажайскага. Тонкае пачуццё старога жывапісу дазволіла яму паспяхова працаваць як добраму капіісту. Для міністра па надзвычайных сітуацыях Сяргея Шайгу Іван Чэрнякевіч выканаў копію з Айвазоўскага, у доме славутага пецярбургскага дырыжора Максіма Шастаковіча знаходзіцца яго дасканала выкананая копія карціны Тыцыяна «Дынарый кесара». У 1990—2000-я гг. адбыўся шэраг персанальных выставаў членаў сям'і І. Чэрнякевіча (жонка Вера і сын Багдан — таксама мастакі) у гарадах Галандыі, з гэтай нагоды ён намаляваў шэраг партрэтаў мэраў, прадстаўнікоў каралевы, чыноўнікаў.



Іван Чэрнякевіч

У XXI ст. пачаў самастойна працаваць сын Івана Міхайлавіча — **Багдан Чэрнякевіч**. Ён удзельнічае ў выставах жывапісу, афармляе кнігі, працуе ў галіне архітэктурнага дызайну (скончыў адначасова Вышэйшае мастацкае вучылішча імя Мухінай і школу дызайну ў Хельсінкі). Першым поспехам Багдана Іванавіча стаў выйграны ў 2006 г. конкурс на новы дызайн крэслаў гарадскога тэатра ў Хельсінкі. Дачка Івана Чэрнякевіча Марыя атрымала прафесію мастацтвазнаўцы і прафесійна займаецца спевамі.



*Сяргей Будай*

асобе. Веды, індывідуальны падыход, якасць працы і шматгадовы вопыт дазволілі дасягнуць таго, што называецца высокім майстэрствам. Творы Сяргея Будая ў ювелірнай пластыцы адрознівае не толькі бездакорная тэхніка выканання, але і філасофскі погляд, тонкі гумар і лёгкая іронія. Майстар атрымаў дыплом выставы «Пецярбургскі ювелір» (2004), стаў лаўрэатам выставы «JUNWEX» у намінацыі «Ювелірная пластыка», пераможцам у намінацыі «Адкрыццё года» (2006); лаўрэатам Усерасійскага конкурсу залатароў на прыз «Прызнанне Санкт-Пецярбурга». Сумесна з «Неўскім прэс-клубам» і біёлагамі Санкт-Пецярбурга арганізаваў конкурс «Вожык у кішэні» з мэтай ратавання вожыкаў Пецярбурга і Ленінградскай вобласці.

Усю сілу і моц метаду сацыялістычнага рэалізму ўвасабляў сваёй творчасцю ленінградскі жывапісец-беларус **Яўсей Яўсеевіч Майсеенка**. Нарадзіўся ён ва Уваравічах Гомельскай вобласці ў 1916 г. Скончыўшы ў роднай вёсцы сярэднюю школу, падаўся па навуку мастацтва ў Маскву. Вучыўся Яўсей распісваць вырабы з металу і пап'е-машэ. Кожнае лета стажыраваўся ў падмаскоўных цэнтрах рускага народнага промыслу: Жорставе, Палеху, Фядоскіне. Аднак на вытворчасць пасля заканчэння Маскоўскага вышэйшага мастацка-прамысловага вучылішча не пайшоў. Паехаў Яўсей Майсеенка ў Ленінград і адразу (што не часта здараецца) паступіў у Акадэмію мастацтваў на жывапісны факультэт. У 1947 г. таленавіты юнак закончыў акадэмію дыпломнай карцінай «Генерал Даватар». Кожны год ездзіў у родныя Уваравічы, дапамагаў старым бацькам, маляваў. У 1958 г., калі Яўсей стаў выкладчыкам акадэміі ў якасці кіраўніка персанальнай майстэрні жывапісу, з'явілася яго першая карціна-рэмінісцэнцыя ўласнага дзяцінства: «Хлопчыкі». Галоўны творчы пад'ём жывапісца прыйшоўся на 1960—1970-я гг. Сярод творчага набытку гэтага часу паэтычныя карціны з краявідамі Беларусі: «Вёска» (1960), «Яблыні зімою» (1964), «Зямля» (1964). У 1962 г. майстэрню Яўсея Майсеенкі наведалі мастакі — сябры СССР Рокуэл Кент і Рэната Гутуза. Працягваюцца рэмінісцэнцыі ўласнага дзяцінства ўжо закаранелага гараджаніна-ленінградца. Ён малюе свайго дзеда Пракопа і сябе на карціне «Сяргей Ясенін з дзедам» (1964) і эцюдах да яе. У гэты ж час з'явіліся краявіды горада: «Тульскі завулак» (1963), «Гарадскі пейзаж» (1968). У 1970 г. Яўсей Майсеенка стаў народным мастаком СССР, у 1974 г. атрымаў Ленінскую прэмію за цыкл работ «Баявыя Гады» («Чырвоныя прыйшлі», «Таварышы», «Чарэшня», «Перамога»). А ў 1977 г. усё ўмельства, зробленае гадамі працы і шукання, усё пачуццё, захаванае з маленства да сталага веку, увасобіў у карціне «З дзяцінства». На гэтым палатне — вясковая хата, дзе ў двары фігуры дзеда, бабулі і хлопчыка, а на пярэднім плане — чалавек, якога ўжо не пазнаць — ён выйшаў за раму, у іншую прастору,



*С. Ратніцкі. Партрэт мастака Яўсея Майсеенкі ў вобразе беларускага партызана. З калекцыі М. Боткі*

адарваўшыся ад радзімы. У гэтай працы можна пачуць тую ж вытанчаную скруху, што і ў музыцы паланеза Агінскага: абодва творы пра тое ж самае; назва паланеза — «Развітанне з Радзімай» — цалкам падышла б да палатна Яўсея Майсеенкі. Калі ў 1963 г. стаў прафесарам жывапісу ў Акадэміі мастацтваў, вырашылася пытанне з жыллём: атрымалі з жонкай (скульптар Валянціна Рыбалко) кватэру на Сувораўскім праспекце, 56.

Пасля Яўсея Яўсеевіча засталося больш за 20 тысяч малюнкаў, у тым ліку шмат зробленых у Беларусі. Калі ў 1993 г. памёрла жонка мастака, скарб гэты перайшоў Акадэміі мастацтваў, а яна размеркавала малюнкі сярод правінцыйных музеяў: працы перадалі прадстаўнікам Краснадарскага краявога мастацкага музея імя Ф.А. Каваленкі, Курганскаму абласному мастацкаму музею, Прыморскай дзяржаўнай карціннай галерэі, Музею выяўленчага мастацтва Рэспублікі Карэлія, Мурманскаму мастацкаму музею, Валагодскай абласной карціннай галерэі, Новакузнецкаму мастацкаму музею. Кіравала перадачай в. а. дырэктара Навукова-даследчага музея Расійскай акадэміі мастацтваў Вераніка Траянаўна Богдан.

Яшчэ ў XIX ст. вядомыя некалькі дынастый, звязаных з Пецярбургам мастакоў-беларусаў: браты Хруцкія, Заранкі. Заснавальнікам дынастыі мастакоў у сучасным Ленінградзе-Пецярбургу стаў ураджэнец Полацка **Анатоль Сцяпанавіч Аўсянікаў** (нар. 30 красавіка 1938 г.). Жыў ён пасля вайны ў вёсцы Сяргеевічы паблізу Бабруйска, у суседніх Любонічах скончыў школу з сярэбраным медалём. Больш як 20 гадоў «шукаў сябе», займеўшы новае для беларусаў амплуа «вечнага студэнта». Па разнарадцы ваенкамата паехаў у 1956 г. паступаць у Ленінград у вайсковае вучылішча. Несвабода лагернага збору адхінула маладога чалавека ад арміі, ён уцёк з вучылішча і падаў дакументы ў Лесатэхнічную акадэмію. Адвучыўшыся тры гады і прайшоўшы ўжо практыку на Бабруйскай мэблевай фабрыцы, Анатоль зразумеў, што ўзяў з гэтай галіны ўсё лепшае і далей яго цікавіць толькі космас. Перавёўся ў Ленінградскі інстытут дакладнай механікі і оптыкі. Пасля яго заканчэння ў 1962 г. пачаў працаваць канструктарам «на скрынцы» (так называлі сакрэтныя ваенныя заводы, адрас якіх складаўся з паштовага індэкса і нумара паштовай скрынкі). Паколькі маладога інжынера і цікавіла, і прыцягвала мастацтва (ён рэгулярна наведваў жывапісную студыю), а прыборабудаванню патрабаваліся дызайнеры, Анатоль Аўсянікаў паступае на вячэрняе навучанне ў «Муху», якую закончыў у 1967 г. з дыпломам дызайнера. У «ВНИИ Научприбор» дарос да пасады загадчыка лабараторыі эстэтыкі, сеў пісаць дысертацыю «Эстэтызацыя вытворчага асяроддзя як сродак павышэння якасці прадукцыі», але раптам пакінуў Ленінград і сем гадоў жыў у Карпатах — на радзіме жонкі. Вярнуўся ў 1980 г. з малымі дзецьмі, якіх выгадаваў паводле спецыяльна распрацаванай методыцы эстэтычнага выхавання. Абодва сыны сталі мастакамі, закончылі Акадэмію мастацтваў як жывапісцы. На дзяржаўнай працы Анатоль Аўсянікаў больш не служыў, зарабляючы продажам сваіх жывапісных прац, найбольш пейзажаў.

На пачатку 2004 г. у будынку Саюза мастакоў на Вялікай Марской адбывалася выстава работ толькі што прынятых у Саюз новых членаў, адна сцяна экспазіцыі была аддадзена творам Аўсянікавых. Паступалі ў Саюз адразу ўтрох — два сыны і бацька. Усе трое экспанавалі на выставе нацюрморты, а малодшыя Аўсянікавы два партрэты бацькі: Антон намаляваў партрэт у этнаграфічным стылі, пасярод вясковага двара, на фоне беларускіх народных сельскагаспадарчых прыладаў, а малодшы Сцяпан прадставіў бацьку ў генеральскім мундзіры царскіх часоў, ствараючы рэфлексію на рэпінскія партрэты членаў Дзяржаўнага Савета.




*Сцяпан Аўсянікаў. Партрэт бацькі*

Нельга не зазначыць, што ў пасляваенны час у Акадэміі мастацтваў (інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Я. Рэпіна) вучылася шмат людзей, якія склалі падмурак беларускай мастацкай інтэлігенцыі: Н. Высоцкая,

Я. Зайцаў, А. Мазалёў, П. Масленікаў, Г. Мурамцаў, В. Мурашоў, А. Паслядовіч, У. Стэльмашонак, Я. Чамадураў, Н. Шчасная, А. Шыбнёў і інш. У пасляваенным Мінску паспяхова працаваў выпускнік Акадэміі мастацтваў 1939 г., народны архітэктар СССР Георгій Заборскі. Шмат ленінградскіх мастакоў выконвалі заказы для Беларусі. Прынамсі, Алег Весяліцкі на пачатку 1990-х гг. зрабіў мастацкую канцэпцыю Мсціслаўскага краязнаўчага музея, Аляксандр Карнілаў і Аляксандр Борсук стварылі муляжы беларускіх кніг і гравюр для музея беларускага кнігадрукавання ў Полацку, краязнаўчых музеяў у Віцебску, Мінску, Наваградку, Гродне...

* * *

Слава Петраграда—Ленінграда як асяроддзя літаратурнага жыцця звязана з імёнамі гаражан: Аляксандр Блок сузіраў гэты горад з вакна сваёй кватэры, Ганна Ахматава стаяла ў чэргах да Вялікага Дому, каб перадаць перадачу сыну, Льву Мікалаевічу Гумілёву...

Сярод перапіскі Ганны Ахматавай ёсць тры ліста з Мінска. Адрасаты — бібліятэкар Палаца культуры А. Тарасава, Б. Шэрашэўская і Ала Пакроўская (апошняя прыслала свае вершы). Сама Ганна Андрэеўна перакладала беларускую паэзію: два вершы Уладзіміра Дубоўкі («Клёны в пальцах твоих золотых», «Думы летят») і тры вершы Максіма Лужаніна: «Новы горад», «Вярблюжы караван» («Цяжка сэрцу майму трое сутак пражыць без галіны...») і прысвечаны Пушкіну «Вечнае жыццё» («Марозны дзень. Санкт-Пецярбург. Гулянне...»). Шмат вядомых савецкіх літаратараў-ленінградцаў паходзілі з беларускіх земляў, вось толькі некалькі адрасоў: на вул. Паўстання, 22, жыў папулярны драматург **Аляксандр Майсеевіч Ліўшыц**, які нарадзіўся ў 1919 г. у Мінску (пісаў пад псеўданімам Аляксандр Валодзін). Чатыры адрасы змяніў з 1915 г. у Петраградзе-Ленінградзе пісьменнік **Юрый Мікалаевіч Тынянаў** (1894—1943), нарадзіўся ён у Віцебскай губерні. На вуліцы Плуталава, 2, жыў выдатны папулярызатар навукі пісьменнік **Якаў Ісідаравіч Перэльман** (1882—1942), які нарадзіўся ў Беластоку.

Літаратары беларускага паходжання сталі часткай грамадства будаўнікоў сацыялізму. 28 студзеня 1927 г. слухачы-беларусы Ленінградскага тэхнікума кустарнай прамысловасці адправілі ліст у Цэнтральнае бюро Усебеларускага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў «Маладняк» з просьбай дапамагчы ў арганізацыі беларускіх зямляцтваў у Петраградзе. Спасылаючыся на гэты ліст, сакратар «Маладняка» В. Сташэўскі звярнуўся (3 лютага 1927 г.) у ЦВК БССР з просьбай пра вырашэнне пытання арганізацыі беларускіх зямляцтваў у Петраградзе. Да стварэння філіяла «Маладняка» спрычыніліся студэнты ленінградскага універсітэта: вядомы паэт Язэп Пушча і «літаратар-пачатковец» Рыгор Сапун, які пісаў пад псеўданімам Рыгор Папараць. Апошняга за верш «Памяці Ігнатоўскага» (прэзідэнт Беларускай акадэміі навук гісторык Усевалад Ігнатоўскі ў чаканні рэпрэсій 4 лютага 1931 г. скончыў жыццё самагубствам) выключылі з універсітэта, і ён з'ехаў на Беларусь.

Пасля пераезду сталіцы ў Маскву за кіраўнікамі-чыноўнікамі пацягнуліся выдаўцы ведамасных часопісаў, маскоўскія выданні набывалі статус цэнтральных, рэкамендаваных «для ўсіх» грамадзян СССР. Высокі ўзровень ленінградскіх часопісаў партыя часам «прыніжала». Да вайны выходзіў часопіс «Ленинград». Пасля шумнага працэсу і пастановы ЦК КПСС яго рэфармавалі, на літаратараў, якія з ім супрацоўнічалі, скіравалі рэпрэсіі. Такія акцыі нараджалі пратэст, спрыялі пераходу часткі творчай інтэлігенцыі ў пасіўны супраціў савецкай ідэалогіі. У гады пабудовы развітога сацыялізму апазіцыянеры гуртаваліся вакол мастацкіх выстаў андэграўнда, рок-клуба, «Сайгона», Пушкінскай, 11, іншых «тусовак».

Ленінград афіцыйна актыўна сябраваў з літаратамі саюзных рэспублік. Вынікам літаратурных кантактаў быў, напрыклад, выдадзены ў Мінску ў 1948 г. зборнік вершаў «Паэты Ленінграда». Яшчэ адна форма культурнага супрацоўніцтва — Тыдзень беларускай літаратуры ў Ленінградзе ў 1968 г. 13 мая 1968 г. сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Іван Мележ звярнуўся з лістом да сакратара ЦК КПБ С. Пілатовіча аб складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў для паездкі ў Ленінград у сувязі з правядзеннем там Тыдня беларускай літаратуры. На наступны дзень, 14 мая 1968 г., пра гэта ж пісаў Пілатовічу загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. Марцалеў. Кантакты пісьменнікаў адбываліся да часоў перабудовы, адзін з апошніх афіцыйных візітаў — паездка Івана Чыгрынава, Алеся Пісьмянкова і Васіля Зуёнка ў Ленінград на святкаванне 110-годдзя з дня нараджэння і 50-годдзя з дня гібелі Янкі Купалы[1].

[1] *Сабило И.* Открытый ринг. СПб., 2000. С. 560—562.

Ленінградскае аддзяленне выдавецтва «Советский писатель» у серыі «Бібліятэка паэта» выпусціла ў 1950 г. том выбраных твораў Янкі Купалы (2-е выд. — 1973 г.). Адной з апошніх праяў літаратурнага ўзаемаабмену стаў выдадзены Ленвыдам у 1983 г. 10-тысячным тыражом паэтычны зборнік «Беларусь моя: Сборник стихотворений белорусских поэтов в переводах ленинградцев». Складальнікі: Е. В. Міклашэўскі і Б. А. Кежун. Аматары паэзіі атрымалі 230 старонак з добрымі вершамі, паміж якіх «Клены в пальцах твоих золотых...» і «Думы летят...» Уладзіміра Дубоўкі ў перакладзе Г. Ахматавай. З іншых перакладчыкаў В. Шэфнер, У. Азараў, С. Батвінік, П. Жур, А. Шавялёў, Г. Пагіраў, У. Раждзественскі, А. Пракоф'еў, Н. Яворская, А. Чапураў, І. Фанякоў, А. Астроўскі, А. Аквілеў. У пасляваенныя гады сярод прадукцыі аднаго з буйнейшых у СССР выдавецтваў «Ленвыдат» былі зборнікі «Белорусские рассказы» (1952), «Белорусские басни» (1959), «Белорусские повести» (1971 і 1981). У 1990 г. «Ленвыдат» выдаў на дэфіцынты ў тыя часы кніжны рынак 200-тысячны тыраж «Дзікага палявання караля Стаха» Уладзіміра Караткевіча, а вось спроба выдаць кнігу «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» таго ж пісьменніка для пецярбургскага выдавецтва «Амфара» у 2006 г. закончылася няўдала. Адна з рэцэнзій на гэта выданне (Пятра Жаўняровіча ў 25-м нумары мінскага часопіса «Деяслоў» за 2006 г.) так і называлася: «Няўдалае прызямленне «Хрыста» ў Санкт-Пецярбурзе». У прэсе з'явіліся шматлікія крытычныя водгукі наконт якасці перакладу Аляксандра Сурніна, аказалася, што былі парушаны аўтарскія правы... Каб пазбегнуць скандалу, выдавецтва адазвала з кнігарняў тыраж кнігі і пусціла яго пад нож...

Трагічны лёс высланага, а пазней расстралянага пісьменіка і гісторыка літаратуры акадэміка Максіма Гарэцкага зрабіў ленінградцамі-пецярбуржцамі яго сям'ю. Дачка пісьменніка, **Галіна Максімаўна Гарэцкая**, успамінала добрае: калі ў 1938 г. яна паехала з Вяткі паступаць на паўночнае аддзяленне Ленінградскага педінстытута, начальнік пашпартнага стала мясцовай міліцыі выдаў пашпарт не той серыі, які даваўся «ворагам народа», а звычайны — іначай бы не паступіла. На паўночнае аддзяленне пайшла таму, што толькі «паўночнікам» давалі інтэрнат і стыпендыю — адзіны для яе сродак існавання. У 1940 г. брат Лёня стаў студэнтам Ленінградскага архітэктурнага тэхнікума. Вывучаць мансійскую, ханты і эскімоскую мовы, спасцігаць культуру народаў Поўначы Галіне было цікава, але на 4-м годзе навукі замест падручнікаў давялося ўзяць рыдлёўку. Лета 1941 г. Галіна Гарэцкая адпрацавала на акопах, потым з маці эвакуяваліся ў Кіраў (Вятку) — горад, куды перш іх выслалі з Мінска. Жылі ў той самай хаце, што і ў 1938-м. Працавалі, чакалі і перачытвалі Лёневы лісты з фронту: у сына пісьменніка Гарэцкага, напэўна, былі вялікія літаратурныя здольнасці. Аж дачакаліся пахавальнай: у баях з фашыстамі Лёня загінуў. Пасля вайны на Беларусь ехаць пабаяліся — вярнуліся ў 1947 г. у камуналку на вуліцы Пушкінскай, 11, кв. 48, вокны якой выходзілі на помнік Пушкіну. У пакойчыку (6 м$^2$) жылі ўтрох: яна з маці і Элеанора Адамаўна Бабарэка (дачка рэпрэсаванага пісьменніка Адама Бабарэкі), якая навучалася ў Лесатэхнічнай акадэміі, а потым працавала ў Гідролізным інстытуце. У 1961 г. раз'ехаліся — Гарэцкія пераехалі на вуліцу Шалгунова ў большы (16 м$^2$) пакой, Лола засталася ў цэнтры. Пазней гэтая маладая і прыгожая жанчына са зламаным лёсам скончыла жыццё самагубствам. Маці Галіны Гарэцкай Леаніла Чарняўская была інвалідам 1-й групы. Гэтая акалічнасць дапамагла ў 1970 г. атрымаць на дваіх асобную аднапакаёвую кватэру на праспекце Бальшавікоў. У беларускім руху **Леаніла Усцінаўна Чарняўская** (1893–1976) удзельнічала яшчэ ў дарэвалюцыйнай Вільні. Нарадзілася яна ў вёсцы Таргуны Докшыцкага раёна. Потым выйшла замуж за пісьменніка і гісторыка літаратуры будучага акадэміка Максіма Гарэцкага. Перажыла высылку з двума малымі дзецьмі ў Вятку, расстрэл мужа. У ленінградскі перыяд выдала дзіцячыя кнігі «Жук» (1960), «Казёл Мэка і Кудла» (1979). Пахавана Леаніла Чарняўская на Паўднёвых могілках. Галіна Максімаўна любіла казаць, што помнік маці з прыгожага граніту з ружовымі блішчынкамі паставіла не яна, а сын Лёня — грошы атрымалі за публікацыю ў часопісах яго лістоў з фронту.

У Галіны Гарэцкай была педагагічная адукацыя, але настаўніцай працаваць не дазваляла хвароба горла, давялося ўладкавацца ў паліклініку медсястрой. Так зарабіла невялічкую пенсію і захавала (наколькі дазвалялі абставіны) архівы маці і бацькі. Пасля перабудовы Галіна Гарэцкая некалькі разоў ездзіла на Беларусь, удзельнічала ў «Гарэцкіх чытаннях», прыносіла любімыя бацькавы кветкі — васількі, або канапелькі — да помніка Максіму Гарэцкаму на рагу вуліц Леніна і Рэвалюцыйнай у Мінску. Большую частку дакументаў сямейнага архіва яна пе-

радала ў 2003 г. у Дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва Беларусі, забіраць матэрыялы прыязджала дырэктар гэтай установы вядомы беларускі архівіст Ганна Вячаславаўна Запартыка. Памерла Галіна Максімаўна ў кастрычніку 2006 г., пахавана побач з маці на Паўднёвых могілках, апошні яе адрас: 8-ы Хваёвы завулак, 6-ы рад, месца № 49.

У часы застою адным з галоўных месцаў тусоўкі літаратараў і мастакоў андэграўнда стаў «Сайгон» — кафетэрый на рагу Неўскага і Уладзімірскага праспектаў (цяпер бар гасцініцы «Масква»). Тут можна было заўважыць музыканта Барыса Грабеншчыкова, літаратараў Сяргея Даўлатава і Сяргея Бялова, мастакоў—«Міцькоў»... У кожнага пасіянарыя — кампанія прыхільнікаў. Сярод заўсёднікаў «Сайгона» вечарамі тусаваўся і беларус Анатоль Кірвель. Удзень ён працаваў дворнікам, будаўніком, і такі прыдбаў сабе пакойчык у камунальнай кватэры ў выдатным месцы: у доме фельдмаршала Кутузава, якраз насупраць «Аўроры». Шмат пазней гэты пакойчык стаў рэзідэнцыяй заснаванага Анатолем выдавецтва «Новая Беларусь».

Аднойчы у майстэрні мастака Івана Чэрнякевіча пабыла віленская беларусістка Альма Лапінскене з дачкой Айстай. Гаварылі пра сучасную беларускую літаратуру ў Пецярбургу, у тым ліку пра пісьменніка Анатоля Кірвеля. Альма запытала, ці ведаюць прысутныя, што значыць па-літоўску «кірвель» — аказалася, што гэта малая сякерка. Іван адразу ж прыдумаў А. Кірвелю псеўданім «Мяфодзій Сякера». Псеўданім прыжыўся, можа і таму, што Анатоль Кірвель па камплекцыі чалавек невялічкі, але востры на слова і рухавы.

Нарадзіўся **Анатоль Мяфодзіевіч Кірвель** 23 ліпеня 1939 г. у вёсцы Вітунічы Докшыцкага раёна. Пасля вайны бацькі-настаўнікі працавалі ў вёсачцы Мядзведжына, якую ўжо праглынуў вялікі Мінск (цяпер там мікраraён «Захад-3»). Адсюль Анатоль Кірвель паступіў у Інстытут замежных моў, на нямецкае аддзяленне. За год да сканчэння кінуў навуку, пайшоў у армію (дзе пазнаёміўся з салдатам-земляком Аляксеем Марачкіным), пасля доўга падарожнічаў па прасторах СССР, працуючы то правадніком на чыгунцы, то на лесапавале... У 1977 г. Анатоль Кірвель асеў у Піцеры (назву «Ленінград» ён ніколі не прызнаваў). Пасля стварэння Беларускага грамадска-культурнага таварыства стаў актыўным удзельнікам беларускага жыцця. Трапятліва-неабыякавы да выяўленчага мастацтва, Анатоль Кірвель разам з Іванам



*С. Ткачэнка. «Натхненне. Партрэт пісьменніка Анатоля Кірвеля»*

Чэрнякевічам выступіў завадатарам мастакоў з групы «Маю гонар». За пісанне прозы ўзяўся ён даўно (урэшце, і адшукалі яго па публікацыі ў часопісе «Маладосць»), але тут адбыўся новы штуршок. «Човен Харона» (1993), «Урбанія» (1994), «Чалавеку уласціва...» і «Формула замежжа» (1996), «Ласінае крэда» (1997) — вось няпоўны пералік яго кніг. А былі яшчэ публікацыі ў газетах і часопісах. Адну з часопісных кніжак-сшыванак ілюстраваў былы армейскі саслужывец вядомы цяпер мастак Аляксей Марачкін. І яшчэ вялікая заслуга перад беларускай грамадой Пецярбурга — Анатоль Кірвель распачаў выданне газеты «Родзічы» — да ліпеня 2004 г. выйшла 15 нумароў. Памёр Анатоль Мефодзевіч 8 мая 2008 г. Пахавалі яго ў вёсцы Тарасава пад Мінскам — акурат у тыя дні, калі на званніцы Тарасаўскай царквы асвяцілі вялікі звон, на якім евангельскія цытаты адліты па-беларуску. Мы засталіся з навукамі і запаветамі Анатоля Кірвеля, напрыклад:

> Кожны нясе свой крыж. Залаты, срэбны,
> пакутніцкі...
> Але ж кожнаму — ёсць што несці.
> Ці варта праклінаць струпы ад крыжа —
> боскія крылы на тваёй спіне?

У эпахальнай падборцы Міхася Скоблы «Краса і сіла. Анталогія беларускай паэзіі XX стагоддзя» ёсць толькі адзін верш паэткі **Аўгінні Трафімаўны Кавалюк (Сідаровіч)**, 70-годдзе якой урачыста святкавала

беларуская грамадскасць горада ў Новым Доме культуры на Ісакіеўскай плошчы ў сакавіку 2004 г. На самай справе творчы набытак адносна невялікі, хоць на каляды (25 снежня) 2005 г. на кватэры Аўгінні Трафімаўны 9 чалавек з Беларускага грамадска-культурнага таварыства віншавалі яе з трыма (!) выдадзенымі за год кнігамі. Разглядалі інтэр'еры яе кватэры — старая, дарэвалюцыйная мэбля, стары жывапіс у залочаных рамах, бронзавая люстра з дарэвалюцыйных часоў... Дзядзька Лявон Кавалюк з Саколкі — муж, сябра і добры геній Аўгінні, атрымаў гэтую кватэру ад сваякоў, якімі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі «ушчыльнілі» кватэру нашчадкаў жывапісца Макоўскага... Нарадзілася Аўгіння Трафімаўна 13 сакавіка 1934 г. у вёсцы Стральцы Скідзельскага раёна. Скончыла гродзенскую школу № 9, потым у Гродне ж — Педагагічны інстытут імя Янкі Купалы. Дваццаць тры гады працавала ў Рызе настаўніцай у міжгаліновым вучылішчы павышэння кваліфікацыі для работнікаў народнай гаспадаркі. Прафесар Гродзенскага універсітэта Аляксей Пяткевіч адной з першых уключыў яе ў свой энцыклапедычны даведнік «Славутыя людзі Гродзеншчыны». З 1987 г. Аўгіння і Лявон Кавалюкі жывуць у Пецярбургу, працуюць настаўнікамі, актыўна ўдзельнічаюць у беларускім жыцці.

Настальгію па Радзіме паэтка ўмелаператварыць у радасць успамінаў:

Малюся небу над Нявою,
На Поўнач вывела сцяжа,
Ды ачышчаецца Табою
Мая душа...



*Аўгіння Кавалюк дае аўтограф спеваку Данчыку. Пецярбург, 2005 г.*

Вершы для дзяцей яна магла з аднолькавай паэтычнасцю запісаць па-беларуску, па-руску, па-польску і па-нямецку, а кнігу паэзіі «Слова жанчыны да Айчыны. Вянок санетаў» зрабіла філасофскім разважаннем пра першыя дзесяць гадоў перабудовы.

Памёрла Аўгіння Кавалюк 2 лістапада 2007 г. На Кавалёўскіх могілках пад Пецярбургам з'явілася яшчэ адно беларускае пахаванне.

«На прасторы СНД шмат выдатных беларусаў, сярод іх патрыёт славянства Іван Сабіла. Паболей бы такіх», — так заканчвалася нататка «Беларус з Санкт-Пецярбурга» ў мінскай газеце «Літаратура і мастацтва» за 17 снежня 2004 г. **Іван Іванавіч Сабіла** (пра якога тут гутарка) нарадзіўся 22 красавіка 1940 г. і вырас у Мінску, у раёне Таварнай станцыі, сярод рабочай арыстакратыі беларускай сталіцы — чыгуначнікаў. З 12 гадоў займаўся харэаграфіяй у Палацы піянераў, з 15 — боксам у таварыстве «Працоўныя рэзервы». У юнацкія гады Іван Сабіла пераехаў у Ленінград. Быў пераможцам першынства Паўночнай сталіцы па боксу. У 20 гадоў, прачытаўшы ў часопісе «Юнацтва» аповесць Радзія Пагодзіна «Дубраўка», стаў сам пісаць прозу. У 1964 г. мінскі часопіс «Нёман» надрукаваў яго першае апавяданне. Пасля заканчэння Інстытута фізічнай культуры імя Лесгафта Сабіла працуе выкладчыкам у сістэме прафтэхадукацыі, у ВВМВ імя Фрунзэ, трэнерам па боксе, літсупрацоўнікам. Друкуе аповесці і апавяданні ў часопісах «Аўрора», «Нява», «Нёман» «Наш сучаснік», «Касцёр», «Бярозка», зборніках «Форум», «Да яднання», «Дружба», «Кропка апоры». Першая кніга — аповесць «Абуджэнне» — выйшла ў Ленінградзе ў 1977 г., а ў 1980 г. узнагароджана Ганаровым дыпломам Усесаюзнага літаратурнага конкурсу імя М. Астроўскага на лепшы твор пра моладзь; Ленінградскае тэлебачанне паставіла паводле гэтай кнігі двухсерыйны фільм-спектакль з аднайменнай назвай.

Членам Саюза пісьменнікаў СССР Іван Сабіла стаў у 1983 г. Рэкамендацыю даў Радзій Пагодзін, а таксама і рэкамендацыю ў камуністычную партыю. Іван Іванавіч быў дэлегатам VIII і IX з'ездаў Саюза пісьменнікаў СССР і чатырох (з VIII па XII) з'ездаў Саюза пісьменнікаў Расіі, праз сваю актыўную жыццёвую пазіцыю быў абраны членам Грамадскай рады Санкт-Пецярбурга, членам рэдсаветаў часопісаў «Балтыка» (Талін), «Няміга літаратурная» (Мінск), «Раман-часопіс XXI стагоддзе» (Масква). Пасля распаду Саюза пісьменнікаў СССР Іван Сабіла быў (з 1993 г.) старшынёй Санкт-Пецярбургскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі, у 1998 г.

стварыў і рэдагаваў газету «Літаратурны Пецярбург». У 2000 г. убачыў свет яго аўтабіяграфічны раман «Адкрыты рынг». Кніга напісана пасля некаторага асэнсавання звязаных з распадам СССР акалічнасцяў і даволі відавочна паказала крызіс у душы папранага савецкага пісьменніка. Сакратаром пісьменніцкай партыйнай арганізацыі Івана Сабілу абралі напярэдадні перабудовы, і ён у эпоху перамен не пакінуў шэрагі камуністаў, а наадварот, стаў змагаром за зняважаныя ідэалы, спрабаваў шукаць вінаватых у развале вялікай краіны. У «Адкрытым рынгу» намаляваныя партрэты новых ворагаў, якіх Сабіла акрэсліў паняццем «межнякі»: «...Іншая справа міжнародны мяжняк. Жыве ён быццам бы тут, а нібыта і там. На самай справе і тут не тут, і там не там. Ён паміж. І ўсе інтарэсы ў яго там. І звязаны ён з такімі ж межнякамі — амерыканскімі, англійскімі, французскімі. Іх галоўнае правіла — уласныя меркантыльныя інтарэсы выдаваць за справы і сувязі цэлых народаў. Значыць, не мора сутыкаецца з морам, а пена з аднаго мора з пенай другога...». Пасля таго як у рамане заканчваюцца каларытныя ўспаміны мінскага дзяцінства і піцерскай маладосці, аўтар на падставе сваёй тэорыі пачынае дзяліць свет на межнякоў і добрых людзей, называючы і тых і другіх сваімі імёнамі. Сярод «межнякоў» Івана Сабілы на дзіва шмат аказалася землякоў, выхадцаў з Беларусі. Вось як апісана сцэна з выклікам на партбюро пісьменніка Аляксандра Валодзіна (на юбілеі маскоўскага тэатра «Современник» той выкарыстаў мацернае слова, гаворачы пра адказнага дзеяча Міністэрства культуры), дзе мінчук Валодзін (папулярны драматург, 1919 г. нараджэння) павінен быў адказваць на пытанні таварышаў на чале з мінчуком Сабілам (пачынаючы літаратар, 1941 г. нараджэння): «...Выклікалі. Ён прыйшоў — невысокі, сутулы, з мясістым, фіялетава-ружовым носам. Сеў на крэсла каля дзвярэй... Валодзін ведаў, навошта яго запрасілі. Сядзеў, паклаўшы рукі на калені. Слухаў, што гавораць партыйныя таварышы... Якое ж было маё здзіўленне, калі праз дзень ці два Аляксандр Валодзін прынёс заяву: «Прашу не лічыць мяне членам Камуністычнай партыі Савецкага Саюза»... Было зразумела галоўнае: калі пісьменнік такога ўзроўню, як Валодзін, адважваецца на падобны крок, значыць, гэта ўзгоднена з межнякамі. Значыць, будуць ламаць тое, што многія гады здавалася непахісным, непарушным...». Літаратурная прэмія імя Ф. Абрамава (2002) і прэмія Урада Санкт-Пецярбурга ў галіне літаратуры (2003) за «Адкрыты рынг» сталі сведчаннем афіцыйнага прызнання гэтага твора.



*Іван Сабіла*

12 лістапада 2003 г. рашэннем IX (нечарговага) з'езда КПРФ Іван Сабіла быў вылучаны кандыдатам у дэпутаты Дзяржаўнай Думы РФ IV склікання па акрузе № 211 ад палітычнай партыі «Камуністычная партыя Расійскай Федэрацыі». Выбары заслужаны работнік культуры РФ, правадзейны член Пятроўскай акадэміі навук і мастацтваў, член-карэспандэнт Акадэміі расійскай Славеснасці Іван Іванавіч Сабіла прайграў, але грамадскай актыўнасці не зменшыў. У Санкт-Пецярбургу, да таго як ён выехаў у 2006 г. у Маскву, пісьменнік выдаў 11 кніг, а таксама кнігу лірыкі В. Маракова «Я жыць хацеў», пераклаў з беларускай мовы на рускую вершы В. Зуёнка, С. Законнікава, А. Пісьмянкова, апавяданне Анатоля Кірвеля «Цацка».

Заўважную ролю ў развіцці літаратурных сувязяў Пецярбурга з Беларуссю адыгрывае літаратар **Барыс Акімавіч Косцін** (нар. 3 снежня 1943 г.). Ён нарадзіўся ў Томску ў эвакуяванай ленінградскай сям'і. У 1967 г. скончыў Разанскае вышэйшае ваеннае вучылішча, да 1989 г. служыў у Савецкай Арміі: у паветрана-дэсантных часцях у Пскове, Віцебску і Полацку, закончыў службу супрацоўнікам Наваполацкага ваенкамата. Пасля дэмабілізацыі перабраўся ў родны Пецярбург, забраўшы жонку-

беларуску Таццяну Антонаўну. Творчыя працы Барыса Косціна (11 кніг, шматлікія асобныя публікацыі апавяданняў і аповесцяў, сцэнарыі кіна- і тэлефільмаў) прысвечаны пераважна блізкім аўтару стыхіям: паветранаму дэсанту, гісторыі вайны 1812 г. Адной з апошніх удалых кніг з'яўляецца біяграфія генерала арміі, камандуючага паветранадэсантнымі войскамі СССР Васіля Піліпавіча Маргелава — ураджэнца Касцюковічаў. Кніга выйшла ў серыі «Жыццё выдатных людзей» маскоўскага выдавецтва «Маладая гвардыя» ў 2005 г. Талент Барыса Косціна праяўляецца і ў невялікіх тэкстах, прысвечаных добра знаёмым людзям: ягоныя характарыстыкі вельмі шчырыя і трапныя — узорным можна лічыць уступные слова да альбома мастака Анатоля Лукашонка.

Шмат хто з пецярбургскіх літаратараў адначасова займаўся журналістыкай, некаторыя журналісты паспяхова працавалі ў «вялікай» літаратуры. Больш як 35 гадоў быў карэспандэнтам армейскай газеты «Чырвоная зорка» («Красная звезда») **Аркадзь Фёдаравіч Пінчук** (нар. 11 студзеня 1930 г. у Васілевічах Гомельскай вобласці). У 1984 г. палкоўнікам ён звольніўся ў запас, але да скону працаваў у газеце за штатам. А шлях у журналістыку пачаўся з допісаў, якія ён напісаў будучы камандзірам кулямётнага ўзвода, і ўласных аматарскіх фатаграфій. Актыўнасць і прынцыповасць палкавога ваенкора прывялі да таго, што камандаванне накіравала яго вучыцца на курсы журналістыкі ў Львоўскае ваенна-палітычнае вучылішча. Пасля працаваў у газеце Прыкарпацкай ваеннай акругі, пераход у «Чырвоную зорку» быў адзнакай кар'ернага росту. Усе жыццёвыя дасягненні Аркадзя Пінчука вынікалі з яго сялянскай цягавітасці. Ён быў сапраўдны газетны, а пазней і літаратурны працаўнік, які жыў па прынцыпе «ні дня без радка!». А працаваў ён найперш для людзей у пагонах; добра разумеў і любіў тых, для каго армія стала справай усяго жыцця.



*Іван Сабіла, Мікола Нікалаеў, Аркадзь Пінчук*

Калі служыў на Беларусі, стаў (у 1969 г.) членам Саюза пісьменнікаў — рэкамендацыі далі Анатоль Дзялендзік і Андрэй Макаёнак. Тады ж пры падтрымцы Івана Шамякіна ў Мінску на беларускай мове выйшла кніга «Многа-мала», была пастаўлена аднайменная радыёп'еса на Беларускім радыё. У 1977 г. служба занесла Аркадзя Пінчука начальнікам карпункта армейскай газеты ў Ленінградзе. Так тут і застаўся, хоць штогод наведваў Беларусь — прыязджаў да сястры ў Васілевічы. У 1990-я гг. Аркадзь Пінчук стварыў міжнародную асацыяцыю пісьменнікаў баталістаў і марыністаў Пецярбурга (увайшлі 86 чалавек), арганізаваў выданне серыі «Не дзеля славы», ладзіў канферэнцыі ў гонар вядомых военачальнікаў. 11 студзеня 2005 г. пісьменнік адзначыў 75-годдзе, перад юбілеем выйшла яго займальная аўтабіяграфічная кніга «Белы бусел ляціць». Атрымаў некалькі літаратурных узнагарод, у тым ліку ў 2006 г. Дзяржаўную прэмію Расіі імя Г. К. Жукава. У 2005 г. ён стаў лаўрэатам самага прэстыжнага ў Санкт-Пецярбургу прафесійнага конкурса журналістаў «Залатое пяро».

Памёр Аркадзь Пінчук 11 сакавіка 2008 г., пахаваны на Сестрарэцкіх могілках. Побач — пустая магіла з капсулай зямлі з брацкіх могілак у Волагдзе, дзе быў растраляны пад час сталінскіх рэпрэсій бацька, побач — магіла маці, якую прывёз з Васілевічаў і даглядаў, пакуль яна ў 102 гады не пакінула гэты свет... Да апошняга дня ён захоўваў востры розум, вобразнасць мыслення і бойкае пяро. Пранікнёна выступаў у 2007 годзе на сходзе беларусаў Пецярбурга ў «ЛенСпецСМУ» — заклікаў землякоў да памяркоўнасці. І пісаў ад душы, з талентам, пра які кажуць, што гэта ад Бога.

Журналіст **Анатоль Сцяпанавіч Ежэлеў** нарадзіўся ў 1932 г. у вёсцы Гронаў Чэрыкаўскага раёна. У 1950 г. прыехаў у Ленінград, працаваў на будоўлі, у 1954 г. паехаў добраахвотнікам на цаліну. Адтуль паступіў ва універсітэт, у 1963 г. закончыў журфак. Працаваў у газеце «Смена», потым уласным карэспандэнтам «Известий» па Паўночным Захадзе (гэтая газета да самай перабудовы мела свой карпункт па адрасе Неўскі, 19). Любіў пісаць пра Карэлію, пра леспрамгасы, дзе беларусаў працавала больш, чым карэлаў. Каб адаптаваць сябе да Расіі, Анатоль Ежэлеў прыдумаў пра сваю родную вёску легенду,

што яе заснавалі рускія архангельскія мужыкі для здабычы лесу і пабудовы «ладей» на загад Пятра І. Адной з мішэняў публічнай крытыкі Анатоля Ежэлева стаў зямляк будаўнік Уладзімір Шышко: журналіст прыходзіў на планёркі, даведваўся пра праблемы з першых рук і адразу ж даваў матэрыялы ў газеты. На пачатку перабудовы (у 1989 г.) Ежэлеў быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР, ініцыяваў стварэнне камісіі па правах чалавека. Стварыў газету «Час Пик». Калі Анатоль Ежэлеў працаваў у выбарчай кампаніі губернатара вобласці Густава (супраць кандыдата Сердзюкова), на сабе адчуў цяжар прафесіі — невядомыя збілі і пакалечылі журналіста. Апошняе, пасля сур'ёзнага лячэння, прадпрыемства Анатоля Ежэлева — праваахоўны часопіс «Terra incognita», які ён выдаваў у 2001–2003 гг.

Яшчэ адзін вядомы пецярбургскі журналіст — **Мікалай Аляксандравіч Кандраценка.** Нарадзіўся ў 1930 г. у вёсцы Новая Ельня Краснапольскага раёна Магілёўскай вобласці. Пасля вайны скончыў сярэднюю школу ў Гомелі і паступіў на аддзяленне журналістыкі філфака Ленінградскага універсітэта (факультэта журналістыкі тады яшчэ не было). Працаваў у раённых і абласных газетах у Яраслаўскай і Наўгародскай абласцях, а ў 1969 г. з пасады загадчыка аддзела газеты «Наўгародская праўда» Мікалай Кандраценка перайшоў на працу ў ленінградскае аддзяленне ИТАР-ТАСС. Пры непасрэдным удзеле Мікалая Аляксандравіча прайшло станаўленне дыпламатычнай службы Пецярбурга (прадстаўніцтва МЗС Расіі ў Пецярбургу) — гэта той працэс, які можна назваць дэлегаваннем гораду часткі паўнамоцтваў сталіцы. Свае ўражанні ад падарожжаў па Еўропе Мікалай Кандраценка занатаваў у шматлікіх матэрыялах для прэсы, а ў 2002 г. выдаў асобнай кніжкай[1].

З сярэдзіны 1990-х гг. пецярбуржцы часта сустракаюцца ў газетах з матэрыяламі, аўтарам якіх з'яўляецца журналістка **Святлана Гаўрыліна**. Нарадзілася Святлана ў вёсцы Жыдамля Гродзенскага раёна, пасля заканчэння вясковай школы паступіла на філфак Ленінградскага дзяржаўнага універсітэта і паспяхова яго скончыла ў 1981 г. Працавала журналістам у газетах «Смена», «Санкт-Петербургский Час пик», «Дело», «Невское время». У тым, што падчас перабудовы ў пецярбургскіх СМІ часта з'яўляліся матэрыялы, датычныя Беларусі, ёсць вялікая доля працы Святланы Гаўрылінай.

У газеце Ленінградскай вайсковай акругі «На страже Родины» пачаў сваю працоўную кар'еру **Сяргей Антонавіч Марцінкевіч** (нар. 11 мая 1962 г.) — пасля заканчэння СШ № 19 у родным Бабруйску і Львоўскага ваеннапалітычнага вучылішча. У 2006 г. палкоўнік Сяргей Марцінкевіч — галоўны рэдактар гэтай газеты, акрамя таго, журналіст Сяргей Мартынкевіч (змяніўшы прозвішча) — каардынатар прэс-службы аўтаасацыяцыі Санкт-Пецярбурга, супрацоўнік аўтамабільнай газеты «Клаксон». З матэрыяламі пра беларускі Пецярбург Сяргей Марцінкевіч час ад часу выступае на старонках мінскай газеты «Літаратура і мастацтва».



*Сяргей Марцінкевіч*

* * *

Не зважаючы на надзвычайную цэнтралізацыю і канцэнтрацыю культурнага патэнцыялу РСФСР у Маскве, Ленінград (пазней Пецярбург) прадаўжаў заставацца прыцягальным месцам для дзеячаў культуры; тут працавалі шматлікія мастацкія навучальныя ўстановы, якія прыцягвалі таленавітую моладзь, у тым ліку і з Беларусі. А для выпускнікоў мінскіх і віцебскіх мастацкіх вучэльняў гонарам было знайсці ў Піцеры прымяненне сваім здольнасцям.

Тэатральны Пецярбург заўсёды меў асаблівую прывабнасць. Каб наблізіцца да гэтага мастацтва, ураджэнец вёскі Аскеры Бешанковіцкага раёна **Аляксандр Залманавіч Гуткові**ч (1920–1989) прыехаў у 18 гадоў у Ленінград, паступіў рабочым у

[1] *Кондратенко А. Н.* На европейском перекрёстке. СПб., 2002.

тэатр імя Горкага. У 1939 г. ён паступіў на рэжысёрскі факультэт Ленінградскага тэатральнага інстытута. Закончыць перашкодзіла вайна, пасля давучваўся ў Мінску. Стаў вядомым літаратарам, аўтарам шматлікіх пастаўленых п’ес, заслужаным дзеячам мастацтваў БССР. Падобны лёс і ў народнага артыста **Леаніда Гдальевіча Рахленкі**, які нарадзіўся на станцыі Церахоўка Гомельскага павета. Навучаўся ў Ленінградскім інстытуце сцэнічнага мастацтва ў Л. Віўена і С. Радлава, з 1926 г. працаваў у Ленінградскім рабочым тэатры Пралеткульта. У 1929 г. Леанід Рахленка пераехаў у Мінск, у Беларускі тэатр імя Янкі Купалы (у 1937–1943 гг. — мастацкі кіраўнік гэтага тэатра). Працаваў акцёрам, сыграў шэраг запамінальных характарных роляў, выступаў на радыё. Інстытут сцэнічнага мастацтва скончыў у 1935 г. вядомы пазней акцёр кіно **Пётр Мартынавіч Алейнікаў** (1914–1965), ураджэнец вёскі Крывель Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці.

Папулярны беларускі кампазітар-песеннік **Адам Герасімавіч Русак** (1904–1987) не толькі навучаўся ў Ленінградзе, але і больш як дзесяць гадоў тут працаваў. Нарадзіўся ён на Капыльшчыне, у вёсцы Пясочнае. Яшчэ падчас навучання ў Беларускім музычным тэхнікуме (скончыў у 1930 г.) таленавіты юнак пачаў выступаць у мінскім друку з вершамі. Атрымаўшы сярэднюю адукацыю, паступіў у Ленінградскую кансерваторыю (закончыў у 1934 г.). У 1932–1949 гг. Адам Русак працаваў салістам аркестра ў ленінградскім Малым оперным тэатры. Сувязяў з Радзімай не траціў ніколі: пасылаў у Мінск свае песні, у 1946 г. выдаў паэтычны зборнік «На родных палетках». У 1949 г. сталым ужо музыкантам пераехаў у Мінск, пачаў працаваць салістам аркестра «Белдзяржфілармоніі». Адначасова працягваў пісаць песні, з якіх «Бывайце здаровы», «Лясная песня», «Толькі з табою» сталі сапраўды народнымі. У адзін час з Русаком у Ленінградзе навучалася і працавала актрыса Вялікага драматычнага тэатра **Стэфана Андрэеўна Васюкевіч** (1909 г. н.) з вёскі Іванкі Ашмянскага павета. Лёс яе трагічны: арыштаваная ў ноч на 27 жніўня 1937 г. у сваёй кватэры на 2-й лініі Васільеўскага вострава, д. 1/3, кв. 5. Артыстка, якой было ўсяго 28 гадоў, была абвінавачана ў шпіянажы і расстраляна 1 лістапада 1937 г.

На тэатральных падмостках сённяшняга Пецярбурга найбольш папулярная беларуска працуе ў тэатры камедыі на Неўскім. **Ірына Мазуркевіч** нарадзілася ў 1958 г. у Мазыры і рана стала самастойнай. Маці — выхавацель у школе-інтэрнаце і бацька — інжынер з пяці гадоў запісалі дачку ў спартыўны гурток. Восем гадоў заняткаў гімнастыкай прывялі да таго, што стройная фігура засталася ёй на многія гады. Да заняткаў у школе Ірына падыходзіла адказна: «...ведала: зраблю ўрокі, атрымаю для іх, бацькоў, пяцёркі, а ўсё астатняе — гэта мой вольны час». У гэты ўласны вольны час яна не была анёлкам: «У дзяцінстве што толькі я ні вытварала: лазіла па пажарных лесвіцах, чаплялася на дрэвы, заўсёды падала адтуль — у мяне летам каленкі і не зажывалі. Маці кожны раз успамінае, як я нырала з лодкі ў Прыпяць. А гэта вельмі небяспечная рака, там шмат танула людзей...».




*Афіша да фільма «Як цар Пётр арапа жаніў» з выявамі Ірыны Мазуркевіч і Уладзіміра Высоцкага*

У 15 гадоў Ірына, скончыўшы восем класаў, паехала з сяброўкамі паступаць у Ніжні Ноўгарад у тэатральнае вучылішча. З усіх чатырох пашчасціла толькі Ірыне, а сяброўкі вярнуліся дамоў. Потым усе яны скончылі піцерскі Інстытут культуры... А ўжо праз год пачынаючая актрыса вельмі ўдала выканала ролю гімнасткі, прататыпам якой была славутая зямлячка Вольга Корбут, у фільме «Дзіва з коскамі». Немалое значэнне мела тое, што Ірына сама займалася гэтым відам спорту. Фільм пра дзяўчыну-гімнастку яшчэ не паспеў выйсці на экраны, а Ірыну паклікалі на адну з галоўных роляў у іншай кінакарціне — «Сказ пра тое, як цар Пётр

арапа ажаніў» рэжысёра А. Мітты, дзе працавала разам з папулярным акцёрам і бардам Уладзімірам Высоцкім. Потым актрыса часта здымалася ў кіно. У 1979 г. ёй давялося сыграць Патрыцыю ў музычнай камедыі Н. Бірмана «Трое ў лодцы, не лічачы сабакі», былі ролі ў камедыях Д. Астрахана «Усё будзе добра» (1995) і «Нядзеля ў жаночай лазні» (2005). У фільме Эльдара Разанава «Замоўце слова аб бедным гусары» (1980) яна была дачкой правінцыйнага трагіка Бубянцова, здымалася ў трылеры «Калекцыянер» (2001) і шмат інш. Але галоўнай працай быў тэатр. У 1977 г. Ірына прыехала ў Ленінград і была прынята ў трупу Тэатра Ленсавета. У чэрвені 1980 г. яна пакінула свайго грамадзянскага мужа і выйшла замуж за калегу-акцёра Аляксандра Равіковіча, які быў на 21 год старэйшы за 18-гадовую актрысу. У 1988 г. Ірына Мазуркевіч пакіне Тэатр імя Ленсавета, каб перайсці ў Тэатр камедыі імя М. Акімава, дзе паступова яна стане ў шэраг вядучых актрыс.

У сярэдзіне 1990-х гг., як і шмат хто з артыстаў, Ірына трапіла ў цяжкае становішча: не было працы ні ў тэатры, ні ў кіно. Быў нават перыяд, калі садзілася за руль уласнай машыны, каб падзарабіць. У XXI ст. Ірына Мазуркевіч ізноў шмат працуе творча. У Тэатры камедыі ў яе рэпертуары: Зоя Пельц у спектаклі «Зойкіна кватэра», Місіс Пэйдж — «Віндзорскія свавольніцы», Стэфі Блондл — «Хачу здымацца ў кіно», Эмілія Марці — «Сродак Макропуласа». Апошнюю ролю актрыса лічыць адной з найлепшых у сваёй біяграфіі. Што да кіно, то Ірына Мазуркевіч здымаецца са сваім мужам Анатолем Равіковічам у папулярных серыялах «Вуліцы разбітых ліхтароў» і «Рэкламнае агенцтва».

Тэатральныя сувязі Пецярбурга і Мінска існуюць і ў XXI стагоддзі. Адна з іх праяў — праца беларускага рэжысёра Мікалая Пінігіна ў Вялікім драматычным тэатры імя Таўстаногава на Фантанцы. У чэрвені 2008 г. інтэрнэт-газета напіша аб гэтым у нечаканым ракурсе: «зараз больш часу ён бывае ў Санкт-Пецярбургу, чымсці ў Мінску. Тым не меньш ездзіць туды і назад яму прыходзіцца даволі часта: у Мінску ён робіць тэатральныя пастаноўкі і вядзе тэлепраграму «Народжаныя ў СССР». Вадзіцельскі стаж у яго каля дзесяці год. Зараз Пінігін ездзіць на срабрыстым Opel Zafira з расійскімі нумарамі».

На пачатку 1920-х гг. Уладзімір Ленін сказаў: «Пакуль народ непісьменны, з усіх мастацтваў для нас найважнейшымі з'яўляюцца кіно і цырк»! З пецярбургскіх цыркачоў-беларусаў мы ведаем хіба толькі Якуба Чахаўскога, пра якога ўжо была гутарка, а вось у ленінградскім кіно і пасля вяртання студыі «Савецкая Беларусь» у Мінск працавалі шмат выхадцаў з Беларусі.

Кінарэжысёр **Іосіф Яфімавіч Хейфец** нарадзіўся ў Мінску (1905—1995), скончыў Ленінградскі тэхнікум экраннага мастацтва (1927), а пасля — кінафакультэт Інстытута гісторыі мастацтваў (1928). Працаваць у кінематографе Іосіф пачынаў сумеснымі пастаноўкамі з Аляксандрам Зархі, арганізаваўшы ў 1929 г. Першую камсамольскую пастановачную брыгаду. Супрацоўніцтва працягвалася да 1950 г. Самымі славутымі творамі брыгады сталі гісторыка-рэвалюцыйныя фільмы «Дэпутат Балтыкі» і «Член урада» — яны паказвалі, як новая сацыяльная рэальнасць змяняе людзей. У гады Другой сусветнай вайны былі пастаўлены фільмы «Яго завуць Сухэ-Батар», «Малахаў курган», «Разгром Японіі». У 1950-я гг., працуючы самастойна, Іосіф Хейфец звярнуўся да сучаснасці: «Справа Румянцава», «Вялікая сям'я» адкрылі для савецкіх гледачоў асаблівую тэму — Чэхаў і каханне. Неяк Чэхаў у сваіх запісных кніжках занатаваў — сустрэліся два чалавекі, палюбілі адно аднаго і былі нешчаслівыя. Чаму? Адказ на гэтае пытанне Іосіф Хейфіц шукаў у фільмах паводле Чэхава: «У горадзе С.», «Дама з сабачкам», «Кепскі добры чалавек». Рэжысёр быў заслужаны і прызнаны, сведчаннем чаму вышэйшыя дзяржаўныя ўзнагароды СССР: два ордэны Леніна, два ордэны Працоўнага Чырвонага Сцяга, званне народнага артыста СССР (1964) і Героя Сацыялістычнай Працы (1975).

Значны ўклад у кінамастацтва зрабіў і **Яфім Захаравіч Капелян**, які нарадзіўся 12 красавіка 1912 г. у Рэчыцы; тут прайшлі яго дзіцячыя і юнацкія гады. Пасля школы паехаў паступаць у Ленінград на архітэктурны факультэт Акадэміі мастацтваў. Аднак жыццё склалася інакш: у 1935 г. ён скончыў студыю пры ленінградскім Вялікім драматычным тэатры і быў прыняты ў яго трупу, а ў час Вялікай Айчыннай вайны, у 1941—1943 гг., служыў у франтавым Тэатры народнага апалчэння.

Знакаміты акцёр Армен Джыгарханян у адным з інтэрв'ю так сказаў пра свайго калегу па цэху: «Быў такі выдатны акцёр Яфім Капелян. Вось ён на сцэне практычна нічога не рабіў. Ён проста глядзеў, гаварыў, нават не размахваў рукамі. Але ён існаваў так, што яму нічога не трэба было рабіць — дастаткова было проста ўдзельнічаць».

На сцэне Вялікага драматычнага тэатра, дзе акцёр працаваў усё жыццё, ён стварыў шмат




*Магіла Яфіма Капеляна на Літаратарскіх мастках Волкавых могілак*

рознахарактарных роляў, сярод якіх Джэксан («Не схіліўшыя галовы» Дугласа і Сміта), Марыо («Сеньёр Марыо піша камедыю» Нікалаі), Вяршынін («Тры сястры» Чэхава), Сава Марозаў («Трэцяя варта» Капралава і Туманава). У кіно Яфім Капелян пачаў здымацца з 1935 г. і сыграў больш чым у 70 фільмах. Майстэрства акцёра дазволіла Капеляну стварыць запамінальныя вобразы нават у невялікіх ролях: Рулявы («Танкер «Дэрбент», 1941), поп Гапон («Пралог», 1956), атаман Бурнаш («Няўлоўныя мсціўцы», 1967), Бурцаў («Аповесць аб чалавечым сэрцы», 1976). Сярод лепшых кінароляў Капеляна можна назваць Саву Марозава ў фільме Сямёна Туманава «Мікалай Бауман» і Свідрыгайлава ў экранізацыі рамана Фёдара Дастаеўскага «Злачынства і пакаранне» Льва Куліджанава. Акрамя таго, рэжысёры неаднойчы запрашалі Яфіма Капеляна чытаць тэкст ад аўтара, і непаўторны голас акцёра шмат хто памятае па легендарным шматсерыйным тэлефільме Таццяны Ліёзнавай «Семнаццаць імгненняў вясны» (1973). Гэтая ўдалая праца Капеляна нарадзіла шмат анекдотаў, у якіх удзельнічаў яго голас, кшталтам:

«Нарада ў Рэйхстагу. Урываецца Штырліц у форме палкоўніка савецкай арміі і «мочыць» усіх з ППШ. Голас Яфіма Капеляна за кадрам: «Яшчэ ніколі Штырліц не быў так блізка да правалу». Папулярнасць выявілася ў прысваенні ў 1973 г. ганаровага звання Народны артыст СССР. Калі ў сакавіку 1975 г. акцёра хавалі на Літаратарскіх мастках Волкавых могілак, сабраўся вялізны натоўп народа. Землякоў, якія паказвалі пашпарт з пазначэннем месца нараджэння «Рэчыца», міліцыя прапускала беспярэшкодна.

У складаныя часы перабудовы спецыяльнасць «мастак-пастаноўшчык тэатра і кіно» атрымаў у Інстытуце тэатра музыкі і кіно (цяпер Тэатральная акадэмія) на Махавой гамяльчанін **Вітаўт (Віктар) Драздоў** (нар. 16 мая 1965 г.). Пасля заканчэння 11-й гомельскай сярэдняй школы і ПТВ-137 народных промыслаў Вітаўт навучаўся ў мастацкім вучылішчы, потым адслужыў пад Хабараўскам тэрміновую вайсковую службу. З абранага шляху не збочваў, трымаўся выпадковымі заробкамі, пакуль не атрымаў магчымасць працаваць для сур'ёзнага кіно. Удзельнічаў у працы над фільмамі «Усход—Захад» Р. Варнье (1989), «Калядная гісторыя» А. Краўчука і Ю. Фецінга (2000), «Апошні цягнік» А. Германа (2003). Ад Вітаўта Драздова прыналежнасць да старажытнага родавага герба «Равіч» атрымала дачка Яна.

* * *

Сапраўдны сімвал высокай якасці пецярбургскай класічнай музычнай школы — Марыінскі тэатр. У паўднёва-заходнім напрамку ад Ісакіеўскага сабора знаходзіцца плошча, якая ў XVIII ст. называлася Карусельнай, а пазней — Тэатральнай. Архітэктар Альберт Кавос пабудаваў тут новы будынак галоўнага ў горадзе Опернага тэатра. У гонар жонкі імператара Аляксандра II Марыі Аляксандраўны ён стаў называцца Марыінскі. Тэатр адкрыўся 2 кастрычніка 1860 г. операй Міхаіла Глінкі «Жыццё за цара». Паводле сведчанняў сучаснікаў, тэатр



*Марыінскі тэатр. Зала*

быў «найшыкоўнейшы ў Еўропе». Прыгожая дэкаратыўная аздоба глядзельнай залы з XIX ст. захавалася да нашых дзён амаль не пашкоджанай. Урачыстае ўбранне залы складаецца з утульных крэслаў і шматколернага жывапіснага плафона, бліскучых белых скульптур, мяккага ззяння пазалоты, блакітнага колеру абівак і драпіровак і, нарэшце, з бронзавых кандэлябраў і велізарнай трох'яруснай бронзавай люстры з крыштальнымі падвескамі.

Своеасаблівай эмблемай тэатра стала заслона, створаная ў 1914 г. паводле эскізаў мастака А. Галавіна (праўда, у 1952 г. мастакі С. Вірсаладзе і М. Зандзін змянілі гаму заслоны з цёмна-чырвонай на блакітна-сінюю, у адпаведнасці з асноўным тонам дэкору глядзельнай залы). Пад'ёмная падлога аркестравай ямы і іншыя тэхнічныя прыстасаванні дазваляюць дасягаць складаных дэкаратыўных эфектаў і разнастайна выкарыстоўваць аркестр. Будынкі тэатра некалькі разоў рамантаваліся і рэканструяваліся (апошні раз у 1960 г.). У канцы 2005 г. распачалося будаўніцтва новай сцэны тэатра, якая размесціцца побач са старым будынкам XIX ст., на тэрыторыі так званага Літоўскага квартала, паміж набярэжнай Крукава канала, вуліцай Саюза Пячатнікаў, Мінскім завулкам і вуліцай Дзекабрыстаў. На гэтай тэрыторыі мяркуецца захаваць фрагмент «Літоўскага рынку», што пабудаваны ў XVIII ст. архітэктарам Джакама Кварэнгі, а таксама паставіць новы будынак з галоўнай залай на дзве тысячы месцаў. Дзяржаўная праграма рэстаўрацыі, рэканструкцыі і пашырэння Марыінскага тэатра прадугледжвае



*Уладзімір Жывапісцаў*

таксама рэстаўрацыю гістарычнага будынка: фасадаў і глядзельнай залы з паляпшэннем яе акустычных характарыстык (вядома, што цяпер лепшая акустыка ў першым радзе трэцяга яруса), мадэрнізацыю інжынерных сістэм і сцэнічнага абсталявання. У 2004 г. у міжнародным конкурсе на праект новага будынка тэатра прымалі ўдзел 11 аўтарскіх калектываў, у тым ліку прызнаныя лідэры сусветнай архітэктуры: Марыё Бота, Ханс Холяйн, Арата Ісадзакі, Эрык ван Эгераат, Дамінік Перо і Эрык Мос. Перамогу атрымаў француз Дамінік Перо. Будаўніцтва мяркуецца закончыць у 2009 г. Гэта адзін з самых буйных інвестыцыйных праектаў Пецярбурга, пры гэтым вялізныя сродкі прызначаны на мерапрыемствы па вызваленні гарадской тэрыторыі (куды трапіў помнік архітэктуры «сталінскага ампіру» ДК 1-й Пяцігодкі) пад забудову.

З дарэвалюцыйных часоў працавалі ў Марыінскім артысты-беларусы — пра баса Фёдара Стравінскага мы ўжо ўспаміналі. Сённяшняя «Марыінка» таксама мае ў сваіх сцэнах беларусаў. У самых розных амплуа: дырыжор, салісты оперы і балета, артысты хору, мастак і музыканты аркестра. Не адбудзецца спектакль і без дэкарацыйна-механічнай службы, дзе намеснікам начальніка беларус гамяльчанін **Аляксандр Станіслававіч Казлоўскі**.

Опера Марыінскага тэатра складаецца са 111 чалавек хору і 88 салістаў. Сярод салістаў — тэнар **Уладзімір Жывапісцаў**, які нарадзіўся ў Добрушы. Скончыўшы Адэскую дзяржаўную кансерваторыю па класе вакала ў 1982 г., як барытон ён пачаў працаваць у Ленінградскім акадэмічным Малым тэатры оперы і балета імя Мусаргскага. Праз пяць гадоў Уладзіміра запрасілі салістам у Дзяржаўны камерны музычны тэатр «Санктъ-Петербургъ Опера» (1988—1994). 1994 год стаў значнай вехай у біяграфіі музыканта: ён прайшоў стажыроўку ў Вакальнай акадэміі італьянскага горада Озімо і з сезона 1994/95 г. выступае на сцэне Марыінскага тэатра. У барытонавым рэпертуары Уладзіміра Жывапісцава — Фігара з «Севільскага цырульніка», Жорж Жэрмон з «Травіяты». Ён спявае Раберта ў «Іаланце», князя Ялецкага ў «Пікавай даме», Падкалёсіна ў «Жаніцьбе». Як тэнар ён выконвае партыі Гаро ў «Мадам Батэрфляй», Індыйскага госця ў «Садко», Баяна ў «Руслане і Людміле», Ганца ў «Аідзе», Іудзея ў «Саламеі», удзельнічае ў пастаноўках «Хаваншчыны», «Мазепы», «Чароўнай флейты», «Пікавай дамы», «Лэдзі Макбет Мцэнскага павета»,

«Навучання ў манастыры», «Гісторыі Кая і Герды», «Князя Ігара», «Самнамбулы», «Барыса Гадунова», «Снягурачкі», «Лючыі дзі Ламермур», «Набука» і іншых. Гастрольныя паездкі далі спеваку магчымасць выступіць на лепшых сцэнах і канцэртных пляцоўках усіх кантынентаў.



*Сяргей Драбышэўскі*

Тэнар **Сяргей Драбышэўскі** хоць і нарадзіўся на Поўначы (Мурманск), аднак жыццё яго звязала з радзімай продкаў: менавіта ў Мінску ён скончыў Акадэмію музыкі і пачаў сваю сольную кар'еру: з 1992 да 2004 г. быў салістам Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы Рэспублікі Беларусь. З Мінска ён выязджаў для ўдзелу ў прэстыжных вакальных спаборніцтвах: на III Міжнародны конкурс маладых оперных спевакоў імя М. Рымскага-Корсакава ў Санкт-Пецярбург і на Міжнародны конкурс у Будапешт у 1998 г. З 2000 г. Сяргей Драбышэўскі — саліст Марыінскага тэатра: на гэтай сцэне ў яго выкананні гучаць партыі Баяна ў «Руслане і Людміле», Уладзіміра ў «Князі Ігары», герцага Мантуанскага ў «Рыгалета», Дона Карласа, Рыкарда ў «Балі-маскарадзе», Макдуфа ў «Макбет», Эдгара ў «Лючыі дзі Ламермур», Рынуча ў «Джані Скікі», Фро ў «Золаце Рэйна», у «Рэквіеме» Вердзі. Спявак выступаў у Нацыянальнай оперы Будапешта, у Латвійскім нацыянальным оперным тэатры, у тэатры Сан-Карла (Лісабон), у оперных тэатрах Бруселя (Бельгія), Людвігсхафена (Германія), Клагенфурта (Аўстрыя), а таксама на міжнародных музычных фестывалях у Манаўсе і Салатурне (Швейцарыя).



*Сяргей Драбышэўскі спявае партыю герцага Мантуанскага ў «Рыгалета»*

Барытон **Уладзімір Мароз** скончыў Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі ў 1999 г. Ён — лаўрэат некалькіх прэстыжных конкурсаў: Міжнароднага кон-



*Уладзімір Мароз*

курса імя Лысенкі (1997), Міжнародных конкурсаў Алены Абразцовай (1999), імя Рымскага-Корсакава (2000), імя Манюшкі (2004), удзельнічаў у Міжнародным конкурсе оперных спевакоў Пласіда Домінга Operalia (2000). Дэбют студэнта прафесара Анатоля Генералава адбыўся яшчэ падчас навучання ў Мінску, у заглаўнай партыі «Яўгенія Анегіна» П. Чайкоўскага. З 1997 да 1999 г. Уладзімір Мароз быў салістам Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы Рэспублікі Беларусь, а пасля заканчэння Акадэміі музыкі напрацягу наступных пяці гадоў (да 2004 г.) ён выходзіў на сцэну Марыінскага тэатра ў якасці саліста Акадэміі маладых спевакоў. З 2005 г. ён саліст трупы Марыінскага тэатра і выступае ў многіх яго спектаклях: «Яўген Анегін» (Яўген Анегін), «Іаланта» (Роберт) і «Пікавая дама» (Ялецкі) П. Чайкоўскага, «Садко» (Ведзянецкі госць) і «Снягурачка» (Мізгір) М. Рымскага-Корсакава, «Дон Карлас» (Радрыга) Дж. Вердзі і інш. Сярод гастрольных выступленняў барытона Уладзіміра Мароза — удзел у канцэртах і спектаклях на пляцоўках Ізраіля, Англіі, Кітая, Італіі, Швейцарыі, Аўстрыі. Акрамя таго, у 2002 г. на сцэне Вашынгтонскай оперы выканаў партыю Марселя («Багема»); у партыі Анегіна выступіў на фестывалі ў Эксан-Правансе (Францыя), а таксама на сцэне тэатра Шатле (Парыж) і на сцэне Уэльскай Нацыянальнай оперы (Кардыф).



*Уладзімір Мароз у ролі Яўгена Анегіна*

Яшчэ адзін барытон Марыінскага тэатра — **Уладзіслаў Сулімскі** — родам з Маладзечна, дзе і пачаў узыходжанне да сваіх вяршынь з паступлення ў Маладзечанскае музычнае вучылішча (выпускнік 1997 г.). Потым была Санкт-Пецярбургская дзяржаўная кансерваторыя, затым — акадэмія маладых спевакоў Марыінскага тэатра (2000—2004), у складзе якой ён выступаў у розных канцэртах на сцэнічных пляцоўках Парыжа, Лондана, Бостана, Бамбея, Рыма, Хельсінкі.



*Уладзіслаў Сулімскі*

Да моманту залічэння ў трупу Марыінскага ў якасці саліста (2004) Уладзіслаў Сулімскі стаў дыпламантам некалькіх міжнародных конкурсаў: імя С. Манюшкі (Варшава, 2001), імя М. А. Рымскага-Корсакава (Санкт-Пецярбург, 2002), імя П. Лісіцыяна (Уладзікаўказ, 2003). У складзе трупы Марыінскага тэатра ён гастраляваў у ЗША,



*Уладзіслаў Сулімскі ў ролі князя Ялецкага ў «Пікавай даме»*

Японіі, Англіі, Фінляндыі, Францыі. З кастрычніка 2004 г. спявак пачаў навучацца ў Мілане (Італія) у прафесара Р. Метрэ. Акрамя таго, ён быў удзельнікам майстар-класаў прызнаных мэтраў музыкі: Алены Абразцовай, Дзмітрыя Хварастоўскага, Уладзіміра Атлантава, Дзяніса О'Ніла, Рэнаты Скотта. У рэпертуары Уладзіслава Сулімскага — Пастар у «Хаваншчыне», Анегін, Эбн-Хакія ў «Іяланце», Радрыга дзі Поза ў «Дон Карласе», Джанні Скіккі, Эней, Князь Елецкі ў «Пікавай даме», Андрэй Балконскі, Лорд Генры Эштон у «Лючыі дзі Ламмермур», Жорж Жэрмон у «Травіяце», Форд у «Фальстафе», партыя барытона ў «Карміна Бурана».



*Аляксей Танавіцкі*

Мінчанін **Аляксей Танавіцкі** на сённяшні дзень — адзін з самых перспектыўных басоў на сцэне Марыінскага тэатра. Выпускнік Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі стаў лаўрэатам некалькіх міжнародных конкурсаў: маладых оперных спевакоў імя М. А. Рымскага-Корсакава (Санкт-Пецярбург, 2003), Алены Абразцовай (Санкт-Пецярбург, 1999 і 2005), III Міжнароднага конкурса вакалістаў у Кітаі (Нінгбо, 2005), IV Міжнароднага конкурса вакалістаў у Японіі (Шызуока, 2005). З 1999 г. жыццё Аляксея Танавіцкага (спачатку ў якасці саліста Акадэміі маладых спевакоў) непарыўна звязана з раскладам рэпетыцый, канцэртаў і спектакляў Марыінкі. Ён удзельнічае ў многіх пастаноўках тэатра, выконвае ролі Фарлафа («Руслан і Людміла»), Камандора («Каменны госць»), Варлаама («Барыс Гадуноў»), Першага стральца («Хаваншчына»), Князя Галіцкага («Князь Ігар»), Кічыгі і Мамырава («Чарадзейка»), Рэнэ («Іаланта»), Бярмяты («Снягурачка»), Малюты Скуратава («Царская Нявеста»), Бурундая («Казанне аб нябачным горадзе Кіцежы і дзеве Фяўроніі»), Цара Дадона («Залаты пеўнік»), Раменюка («Сямён Катко»), генерала Ярмолава («Вайна і мір»), Івана Якаўлевіча («Нос»), Дона Базыліо («Севільскі цырульнік»), Дона Прудэнцыо («Падарожжа ў Рэймс»), Раймонда («Лючыя дзі Ламермур»), Захарыі («Набука»), Спарафучыле («Рыгалета»), Колена («Багема»), Абімелеха («Самсон і Даліла»), Хагена («Гібель багоў»).



*Аляксей Танавіцкі ў ролі Івана Грознага ў «Пскавіцянцы»*

Сярод яго работ у міжнародных пастаноўках — партыі Банка («Макбет» Вердзі) у Нацыянальнай оперы Будапешта (2002, 2004) і Караля Трэф («Любоў да трох апельсінаў» Пракоф'ева) у Нацыянальнай оперы Люксембурга (2005) і на фестывалі ў Экс-ан-Правансе (Францыя, 2005). У 223-м сезоне на фестывалі «Зоркі белых начэй» Аляксей Танавіцкі адкрываў цыкл з твораў суайчынніка Дзмітрыя Шастаковіча (удзельнічаў у выкананні Чатырнаццатай сімфоніі пад кіраўніцтвам сына вялікага кампазітара) і добра паказаў сябе ў ролі Вотана («Золата Рэйна» з Валерыем Гергіевым).

У сям'і вайсковага доктара ў Мінску нарадзілася будучая прыма оперы Марыінскага тэатра **Кацярына Семянчук**. Бацька служыў у многіх «гарачых кропках». Каб дзяўчынка магла спакойна вучыцца, яна з маці заставалася ў дзеда — спартыўнага суддзі, а пазней выкладчыка фізкультуры адной з мінскіх школ Уладзіміра Койфмана. У сталіцы Беларусі скончыла 102-ю музычную школу па класе акардэона, паступіла ў музвучылішча, а



*Кацярына Семянчук*

з другога курса была прынята ў Беларускую кансерваторыю ў клас Валянціны Мікалаеўны Раговіч. Яшчэ першакурсніцай Кацярына стала дыпламантам конкурсу оперных выканаўцаў у Карлавых Варах. З трэцяга курса яна перавялася ў Пецярбургскую кансерваторыю. У 2001 г. меццо-сапрана таленавітай вучаніцы Акадэміі маладых спевакоў Марыінскага тэатра ўпершыню пачуў англійскі прынц Чарльз — на міжнародным конкурсе ў Кардыфе. Пад кіраўніцтвам Ларысы Гергіевай беларуская спявачка пашырыла рэпертуар партыямі Кармэн, Паліны ў «Пікавай даме», Вольгі ў «Яўгене Анегіне», Шарлоты ў «Вертэры». Як выканаўца партыі Соні яна ўдзельнічала ў прэм'еры оперы «Вайна і мір» у лонданскім тэатры Ковент-Гардэн і нью-йоркскім Метраполітэн-опера. 9 красавіка 2005 г. Кацярына Семянчук па просьбе англійскага прынца Чарльза спявала праваслаўны сімвал веры (на музыку Аляксандра Грачанінава) на цырымоніі царкоўнага благаславення яго шлюбу з Камілай Паркер-Боўлз. І адразу ў Пецярбург — саліраваць у «Асуджэнні Фаўста» Берліёза. «Для мяне заўсёды важна несці вобраз, раскрыць яго. Цікава, што, калі спяваю, бачу ўсіх у зале, асабліва на канцэрце: хто як рэагуе, хто куды глядзіць. Непасрэдны кантакт павінен быць з гледачом, ёсць рэчы, якія трэба спяваць, гледзячы ў вочы, толькі тады атрымліваецца», — гаворыць Кацярына Семянчук.



*Кацярына Семянчук у ролі Кармэн*



*Ірына Гардзей*

Пасля заканчэння ў Мінску ў 1991 г. Беларускай кансерваторыі паспяховую кар'еру спявачкі зрабіла **Ірына Гардзей**. Яна выступала як салістка тэатраў Масквы і Екацерынбурга, стала лаўрэатам Міжнароднага конкурсу імя Віньеса (Барселона, 1993). У 1995 г. Ірына дэбютавала на сцэне тэатра Comunale (Фларэнцыя) у ролі Амеліі ў оперы Вердзі «Баль-маскарад». У 1996 г. выканала гэтую ж ролю на сцэне Staatsoper (г. Вена). З 1999 г. Ірына Гардзей — пецярбурржанка, працуе ў Марыінскім тэатры. У рэпертуары Ірыны Гардзей адпаведныя яе сапрана ролі: Ліза («Пікавая дама»), Норма («Норма»), Абігаль («Набука»), Лэдзі Макбет («Макбет»), Амелія («Баль-маскарад»), Леанора («Сіла лёсу»), Лізавета Валуа («Дон Карлас»), Аіда («Аіда»), Сантуца («Вясковы гонар»), Неда («Паяцы»), Тоска («Тоска»), Батэрфляй («Мадам Батэрфляй»), Турандот («Турандот»), «Рэквіем» Вердзі. У



*Ірына Гардзей у ролі Абігалі ў «Набука»*

складзе опернай трупы Марыінскага тэатра спявачка гастралявала ў Англіі, Італіі, ЗША, Аўстрыі, Фінляндыі, Германіі. Прымала ўдзел у фестывалях у Мікелі (Фінляндыя), Ратэрдаме (Галандыя), Тэль-Авіве (Ізраіль), Салатурне (Швейцарыя). З дзвюма канцэртнымі праграмамі яна гастралявала ў Бостане (ЗША). У 2002 г. дэбютавала ў Вашынгтонскай оперы, дзе выканала партыю Ледзі Макбет («Макбет»), а ў 2003 г. дэбютавала ў гэтым жа спектаклі ў Метраполітэн-опера. У 2004 г. Ірына Гардзей дэбютавала ў оперным тэатры Любляны (Славенія) у партыі Аіды.

Пасля вакальнага факультэта Ленінградскай кансерваторыі (навучаўся ў 1984—1990) размеркаваўся ў Марыінскі тэатр **Мікалай Іосіфавіч Крук** (нар. 15 снежня 1958 г. у в. Новыя Зеляbuilding Чэрвенскага раёна Мінскай вобласці). Скончыў Мікалай Грабёнскую сярэднюю школу і Гродзенскае музычна-педагагічнае вучылішча, армію адслужыў у Вільні. Перш чым паступаць у кансерваторыю, займаўся на вакальным факультэце Мінскага музычнага вучылішча. Ужо будучы студэнтам кансерваторыі, стаў лаўрэатам усерасійскага конкурса савецкай песні. Цяпер драматычны тэнар Мікалай Крук — саліст, артыст хору. Удзельнічае ці не ва ўсіх оперных спектаклях Марыінкі, а тасама ў камерных канцэртах. Сам піша песні. Родны брат Мікалая Іван Крук працуе ў Мінску. Ён вядомы этнолаг, аўтар кніг і артыкулаў пра традыцыйныя і новыя беларускія абрады.

Адзін з 15 дырыжораў сённяшняга Марыінскага тэатра — **Міхаіл Аляксандравіч Сінькевіч** (нар. у 1969 г.). Ён закончыў ажно два факультэты Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі імя М. Рымскага-Корсакава (у 1990 г. — харавога дырыжавання, а ў 1994 г. — оперна-сімфанічнага дырыжавання, клас прафесара І. А. Мусіна). Бацька Міхаіла — інжынер, маці — выкладчыца замежных моў: беларуская інтэлігенцыя ў першым пакаленні; у Пухавіцкім і Дзяржынскім раёнах жывуць дзяды — сяляне. У радаводзе выявілася і сувязь з Пецярбургам: дзед па маці, Мяфодзій Іванішын, скончыў Ленінградскае артылерыйскае вучылішча і ў 1942 г. загінуў, абараняючы горад, на Ленінградскім фронце. Міхаіла Сінькевіча з малых гадоў аддалі навучацца музыцы ў мінскую спецыяльную музычную школу. Праблем з паступленнем у Пецярбургскую кансерваторыю ў юнака не было — дапамагло педагагічнае майстэрства мінскіх педагогаў: Таісіі Аляксандраўны Міронавай і Алены Сяргееўны Собалевай. Адвучыўшыся ў Пецярбургу, Міхаіл вярнуўся на радзіму — з 1994 г. ён дырыжор Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі. Працаваў над спектаклямі «Чароўная флейта», «Вяселле Фігара», «Севільскі цырульнік», «Травіята», «Аіда», «Мадам Батэрфляй», «Шчаўкунчык», «Царская нявеста», «Моцарт і Сальеры», «Князь Ігар», «Стварэнне свету», «Пацалунак феі», «Жар-птушка». У складзе трупы тэатра гастраляваў па Еўропе. Два гады (1997—1998) Сінькевіч працаваў галоўным запрошаным дырыжорам у Дзяржаўным музычным тэатры Беларусі. Дырыжаваў спектаклямі «Цыганскі барон», «Лятучая мыш», «Жызель», «Дон Кіхот». Разам з тэатрам гастраляваў у Швейцарыі і Германіі. У якасці запрошанага дырыжора супрацоўнічаў з Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам Беларусі. Зрэдку наведваў Пецярбург: у 1996 г. дырыжаваў спектаклем «Званочак» у Дзяржаўным камерным музычным тэатры «Санктъ-Петербургъ Опера».



*За дырыжорскім пультам Міхаіл Сінькевіч*

У 2000 г. Міхаіл Сінькевіч па запрашэнні маэстра Валерыя Гергіева пераехаў у Пецярбург і пачаў працаваць у Марыінскім тэатры, дзе дырыжуе спектаклямі «Мадам Батэрфляй», «Лючыя дзі Ламермур», «Лятучы галандзец», «Баль-маскарад», «Золата Рэйна»,

«Сіла лёсу», «Лэдзі Макбет Мцэнскага павета», «Саламея», «Макбет», «Валькірыя», «Вяселле Фігара», «Турандот», «Пікавая дама», «Садко», «Баядэрка» (рэканструкцыя спектакля 1900 г.). Неаднойчы дырыжаваў сольнымі канцэртамі вядучых артыстаў оперы Марыінскага тэатра. У 2001 г. Міхаіл Сінькевіч прымаў удзел у Зальцбургскім фестывалі (Salzburg Festspiele) у якасці музычнага асістэнта Валерыя Гергіева (спектакль «Лэдзі Макбет Мцэнскага павета»), на Мельбурнскім фестывалі 2001 г. ён дырыжаваў спектаклем «Саламея». У ліпені 2002 г. музыкант удзельнічаў у гастролях балетнай трупы Марыінскага тэатра ў Метраполітэн-опера (Нью-Йорк), дзе дырыжаваў спектаклямі «Баядэрка» (рэканструкцыя спектакля 1900 г.) і «Каштоўнасці».

Сярод 180 інструменталістаў галоўнага аркестра таксама ёсць таленавітыя музыканты-беларусы. Групу ударных (яна ў галоўным аркестры складаецца з 11 чалавек) узначальвае саліст **Валерый Жаўнерчык**, сольныя партыі на габоі выконвае **Павел Кундзянок** — выпускнік Магілёўскага музычнага вучылішча. Паступленне ў Санкт-Пецярбургскую кансерваторыю шмат у чым вызначыла сённяшняе жыццё маладога выканаўцы, і вось ужо некалькі гадоў ён працуе ў аркестры былога імператарскага тэатра.

Балетная трупа Марыінкі, якая складаецца больш як з 230 танцоўшчыкаў, мае разбудаваную ў выглядзе пірамiды структуру: на самым версе 6 балерын і 6 прэм'ераў, потым 15 першых танцоўшчыкаў, 16 другіх танцоўшчыкаў, 34 карыфеяў і салістаў характарных танцаў, 129 чалавек складаюць кардэбалет, ніжэйшыя ў іерархіі — 30 дапаможных танцоўшчыкаў...

На самай вышыні пірамiды, сярод прэм'ераў, знаходзіцца беларус **Ігар Колб**, які знаходзіцца ў залатым узросце танцоўшчыка: калі ўжо вельмі шмат умееш і яшчэ шмат чаго хочацца дасягнуць.

Ураджэнец Пінска Ігар Колб навучаўся ў Мінску ў Беларускім дзяржаўным харэаграфічным вучылішчы (клас А. І. Калядзенкі). Апошні вучэбны семестр ён сумяшчаў з працай у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры балета Рэспублікі Беларусь. Славуты калектыў Марыінкі прыняў яго пасля таго, як таленавіты беларус у 1995 г. выйграў прэстыжны пецярбургскі конкурс Vaganova-Prix. З 1998 г. Ігар Колб — саліст, у рэпертуары якога амаль не ўся сусветная балетная класіка. Вось пералік толькі асноўных яго спектакляў і роляў: «Сільфіда» (Джэймс); «Жызель» (Альберт); «Карсар» (Алі); Grand pas з балета «Пахіта»; «Лебядзінае возера» (Прынц Зігфрыд); Pas de six з балета «Эсмеральда»; «Спячая прыгажуня» ў рэдакцыі Канстанціна Сяргеева (Прынц Дэзірэ); «Спячая прыгажуня», харэаграфія Марыуса Пеціпа, рэдакцыя 1890 г. (Прынц Дэзірэ); «Баядэрка», харэаграфія Марыуса Пеціпа, рэдакцыя 1900 г. (Салор); «Раймонда» (Беранжэ); «Шчаўкунчык» у рэдакцыі Васіля Вайнанена (Прынц); «Бахчысарайскі фантан» (Вацлаў); «Рамео і Джульета» (Трубадур); «Папялушка», харэаграфія Аляксея Ратманскага (Прынц); балеты Міхаіла Фокіна «Шапеніяна», «Прывід ружы»; балеты Джорджа Баланчына «Сімфонія до-мажор» (I частка), «Шатландская сімфонія», Tchaikovsky Pas de deux, «Каштоўнасці» («Дыяменты»); балет Джэрома Робінса «У ночы» (II дуэт); балеты Уільяма Фарсайта «Steptext», «Там, дзе вісяць залатыя вішні».



*Ігар Колб*

У 2002 г. Ігар Колб ужо як пецярбургскі танцоўшчык дэбютаваў на сцэне Рымскай оперы ў партыі прынца Дэзірэ ў балеце «Спячая прыгажуня» (версія Рудольфа Нурэева). На заканчэнні 223-га сезона Марыінскага тэатра на фестывалі «Зоркі белых начэй» разам з прымай Ульянай Лапаткінай ён танцаваў «Ленінградскую сімфонію» (для абодвух салістаў гэтае выступленне стала прэм'ерным). У 2006 г. беларускі балерон дэбютаваў на сцэне Венскай оперы ў балеце П. Чайкоўскага «Лебядзінае возера» (версія Рудольфа Нурэева).

Калі нехта з гараджан ці гасцей не змог дастаць білеты ў «Марыінку», сучасны Пецярбург прапануе іншыя добрыя канцэртныя і тэатральныя пляцоўкі — тэатры, Мюзік-хол, рэстараны з жывой і прафесійнай музыкай... Адным з цэнтраў мастацкага жыцця ў горадзе стала вялікая канцэртная зала

«Кастрычніцкая», дзе дырэктарам беларуска **Эма Васільеўна Лаўрыновіч**.

У 1985 г. прыйшоў працаваць у Ленканцэрт выпускнік Беларускай кансерваторыі **Анатоль Уладзіміравіч Барысевіч**. Здольнага спевака заўважыў дырэктар Ленінградскай філармоніі Юрый Цемірканаў і запрасіў да сябе, а пазней «сасватаў» вядучым салістам оперы ў Нальчык. Пасля Нальчыка было яшчэ сем сезонаў ў Екацярынбургу, дзе Анатоль Барысевіч выканаў вядучыя партыі ў самых славутых оперных спектаклях, тады ж пазнаёміўся з будучым прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным. Але ў 1998 г. вярнуўся ў Пецярбург, каб стаць вядучым салістам (драматычны тэнар) тэатра оперы і балета імя Мусаргскага. Заняты ў 24 спектаклях. Нарадзіўся Анатоль Барысевіч ў Лунінецкім раёне, вучыўся ў Дварэцкай СШ, потым у Гродзенскім культасветвучылішчы.



*Таццяна Карэнька*

Салістка балета Санкт-Пецярбургскага Мюзік-хола **Таццяна Мікалаеўна Карэнька** нарадзілася ў Докшыцах, закончыла школу імя Івана Палявога. У 1989 г. паехала ў Ленінград навучацца на мадэльера. Тое, што Таццяна вельмі поўная дзяўчына, ёй не замінала. У Правабярэжным Доме творчасці вяла гурткі мадэлявання, пакуль у 1992 г. не стала членам новазаснаванага калектыву «Балет 240 тон». Аб'ездзіла з гэтым калектывам паўсвета, найбольш запомніліся выступленні ў Польшчы з Марыляй Радовіч і гастролі ў Бразіліі. Вясной 2004 г. Таццяна закончыла Пецярбургскі універсітэт культуры і мастацтва. У інстытуце сустрэлася з земляком — загадчыкам кафедры народных інструментаў прафесарам **Мікалаем Аляксандравічам Краўцовым**. Бацька Мікалая Краўцова — Аляксандр Васільевіч Краўцоў родам з Талачынскага раёна, скончыў у Ленінградзе Ваенна-марскую медыцынскую акадэмію, у час Другой сусветнай вайны служыў на Далёкім Усходзе. Там і пазнаёміўся з будучай жонкай, амурскай казачкай.

Беларускае грамадска-культурнае таварыства на юбілейным вечары паэткі Аўгінні Кавалюк пазнаёмілася ў 2005 г. з прыгожай дзяўчынай у народным строі, якая хораша спявала для прысутных «Купалінку», іншыя народныя песні. Гэта была **Вітлана Віктараўна Гарбачова**. Нарадзілася Вітлана ў маладой студэнцкай сям'і ў 1979 г. у Віцебску. Бацька (пазней мастак) і маці (цяпер педагог) навучаліся на мастацка-графічным факультэце Віцебскага педінстытута, пасля заканчэння паехалі працаваць у Докшыцы. У 1995 г. Вітлана стала фіналісткай конкурсу «Усе мы родам з дзяцінства», і гэта вызначыла яе лёс — дзяўчына хацела спяваць! Пасля заканчэння факультэта мастацтваў мінскага Недзяржаўнага інстытута сучасных ведаў паехала ў Докшыцы, кіравала эстраднай студыяй у роднай школе. У 2003 г., адразу пасля конкурсу «Маладыя галасы», прыехала ў Санкт-Пецярбург, пачала працаваць у дзяржаўным тэатры «Мюзік-хол». Летам 2004 г. стала фіналісткай тэлевізійнага музычнага конкурса «Новае пакаленне». Працуе ў славутым пецярбургскім клубе-казіно «Асторыя» ў шоу-кабарэ, прымае ўдзел у канцэртных мерапрыемствах, якія праводзяцца ў горадзе.



*Вітлана Гарбачова*

У галіне эстраднай музыкі ў 1980–1990-я гг. вельмі папулярным не толькі ў Пецярбургу, але і ў Беларусі стаў кампазітар **Ігар Яўгенавіч Карнялюк** (нарадзіўся 16 лістапада 1962 г. у Брэсце). Ігар закончыў музычнае вучылішча пры Ленінградскай кансерваторыі, кампазітарскі факультэт кансерваторыі (1987). З 1985 г. ён быў музычным кіраўніком тэатра «БУФФ» (шмат пазней з гэтым жа піцерскім тэатрам будзе звязаны лёс зямлячкі Карнелюка, актрысы **Алены Верабей**). З 1988 г. Ігар — эстрадны спявак і кампазітар. Напісаў дзве сімфоніі, шматлікія камерныя і харавыя творы, музыку да кіно і да дзіцячага мюзікла «Доктар Айбаліт». Ён аўтар больш як 100 песень, якія выконвалі папулярныя эстрадныя спевакі Міхаіл Баярскі, Ганна Вескі, Піліп Кіркораў, Ала Пугачова і іншыя. Акрамя 5 папулярных альбомаў 1989–2003 гг. Ігар Карнялюк дуэтам са спявачкай Эдзітай П'ехай выканаў дзве свае песні, якія не ўвайшлі ў альбомы: «Паслухай» і «Белы вечар». Выдаў некалькі сольных пласцінак і CD[1]. У 1990 г. Карнялюк зняўся ў музычным тэлефільме «Куд-куд-куды, альбо Правінцыйныя гісторыі з інтэрмедыямі і дывертысментам у фінале», а ў 1992 г. пра творчасць кампазітара быў зняты тэлефільм «Пусть говорят». У XXI ст. з'явіліся новыя цікавыя музычныя працы Ігара Карнелюка, прынамсі, музыка да кінафільмаў «Ідыёт», «Дзевятая рота».



*Ігар Карнялюк*

У лістападзе 2006 г. рэжысёр Уладзімір Бортка перадаў Ігару Карнелюку толькі што атрыманую ім ад тэлеакадэмікаў прэмію «Тэфі». Прэмію Бортка атрымаў за рэжысуру тэлевізійнага серыяла «Майстар і Маргарыта»: «Я сапраўды ўпэўнены, што заслуга Ігара Карнелюка ў поспеху «Майстра і Маргарыты» не менш як 50 працэнтаў, і проста хачу аддаць яму заслужаную ўзнагароду», — паведаміў рэжысёр журналістам.

Пасля таго як паводле матываў рамана Андрэя Канстанцінава «Журналіст» у Тунісе, Азейбарджане, Маскве і Пецярбургу быў зняты серыял «Рускі пераклад», пісьменнік сказаў у адным з інтэрв'ю: «Асаблівая ўдзячнасць Ігару Крнелюку за музыку, ён сатварыў такія ўражлівыя стылізацыі, што нават арабы думалі: ўсходнія матывы пісаў арабскі кампазітар»[2].

Пад песню Ігара Карнелюка «Горад, якога няма» Яўген Плюшчанка стаў чэмпіёнам па фігурным катанні, мелодыя загучала ў мабільных тэлефонах. У планах — працяг супрацоўніцтва кампазітара з рэжысёрам У. Борткам, на гэты раз праца над фільмам «Тарас Бульба». «Я нарадзіўся ў Заходняй Беларусі і знаёмы і з польскім, і з украінскім, і з беларускім фальклорам. Тым не менш зараз я рыхтуюся і вывучаю архаічны фальклор, таму што хачу выкарыстоўваць менавіта сапраўдную музыку, а не наноснае, што прынесена XIX ст. Менавіта тое, што спявалі ў тыя часы», — патлумачыў Карнялюк.

Мінскае музычнае вучылішча ў 1998 г. закончыла **Ірына Базылева (Герасімава)** (нар. у сакавіку 1979 г. у Мінску), адначасова спявала ў царкве Св. Марыі Магдалены. Пасля вучылішча паехала ў Пецярбург, прайшла па конкурсе ў кансерваторыю і далучылася да школы гісторыкаў музыкі. Вывучала знаменны распеў, расшыфроўвала старажытныя — «крукавыя» — запісы музыкі, пераводзіла ў сучасную натацыю. Найбольш жа Ірыну прывабіла царкоўная музыка Беларусі XVII–XVIII стст., і кніга «Ірмалой» як яе крыніца. Пачаткам працы над гэтай тэмай стаў даклад пра Ірмалоі XVIII ст. з Полацкай епархіі на 9-й міжнароднай канферэнцыі «Санкт-Пецярбург і беларуская культура» ў чэрвені 2001 г. Пазней даследчыца займалася біяграфіяй і творчасцю кампазітара і тэарэтыка музыкі XVII ст. Мікалая Дылецкага, знайшла ў архівах яго невядомыя творы. Яшчэ студэнткай у 2000 г. узялася пісаць песні. Першая была «Пахне чабор» на словы Петруся Броўкі. Потым «Салаўі» на словы Алеся Звонака, потым чытала Якуба Коласа і заспявала кавалак

[1] *Васильев В. К., Кузин О. С., Угрюмов В. Б.* Кто есть кто в Санкт-Петербурге. СПб., 2000. С. 175.

[2] *Константинов А.* «Иногда мне казалось, что я умираю» // Петербургский дневник. 2006. 6 ноября. С. 5.

з «Сымона-музыкі»... Віленскі храм Святой Ганны ўбачыла ўпершыню на паштоўцы ў дзень запісу сваёй песні на словы аднайменнага верша Максіма Багдановіча. Праграмная песня гэтага перыяду — «Аснежаная Літва» на словы Алега Лойкі. Праўда, ад тэкста верша, які паэт напісаў пра сацыялістычнае спаборніцтва беларускага і жмудскага калгасаў, засталася толькі малая частка, але частка знакавая, сімвалічная.

На сродкі, якія сабрала дыяспара (найперш Анатоль Разумаў і Міхась Прахорчык), быў зроблены студыйны запіс з аўтарскім вакалам, гітарным акампанементам Алены Лебедзевай і Данілы Шутко, удзелам музыкаў, якія гралі на альце, ударных, флейце. Пробны CD-альбом быў названы «Сшытак студэнткі Ірыны Базылёвай за 2000–2001 гг.». Лявон Рыбкін — гукааператар Палаца творчасці юнакоў (былы Анічкаў палац) па тактах збіраў са шматлікіх дубляў дасягненні нявопытнай студэнткі ў адно — каб было што паказаць — і сам палюбіў песьню «Пахне чабор». У «Сшытку...» ёсць вынікі працы з музычным матэрыялам беларускіх Ірмалояў. Гэта ірмас «Бог вялікі», а таксама сціхіра на Увядзенне ў храм Багародзіцы «Днесь верннии ликовствуем» (абодва песнапенні з паўночнабеларускіх Ірмалояў XVIII ст.). Сярод іншых музычных кампазіцый: «Да Нёмна» і «Дзень добры» на словы Адама Міцкевіча, гістарычна-музычныя замалёўкі на вершы Максіма Багдановіча «Псалтыр», «Летапісец» і «Перапісчык», песні на словы Ніны Загорскай «Талент Касандры», Ларысы Геніюш «Два рэхі», Яўгеніі Янішчыц «Да сустрэчы». Арыгінальныя кампазіцыі створаны на вершы беластоцкага беларускага паэта Віктара Шведа «Bardzo prosze» і мінскага літаратара Алеся Пісьмянкова «Там». Заканчвае дыск-альбом цудоўна агучаная малітва «Ойча наш» у перакладзе са славянскай Рыгора Барадуліна. Нажаль пробны CD так і застаўся пробным, «Сшытак...» да сёння застаецца чарнавіком. Праўда, некалькі песень прагучалі на беларускім радыё, але прафесійнага выканання музычныя творы Ірыны Базылевай пакуль што не дачакаліся.

У 1992 г. прыехаў у горад, стаў удзельнікам і салістам тэатра «Паўлінава пяро» спявак **Лявон Габрусёнак**. Нарадзіўся музыкант 16 жніўня 1954 г. у вёсцы Залессе Расонскага раёна. Скончыў Наваполацкае музычнае вучылішча і студыю Галіны Гальпер пры Петразаводскай кансерваторыі. Працаваў у філармоніях Новасібірска і Смаленска, быў вядучым салістам ансамбля «Кантэле» ў Петразаводску. У Пецярбургу, акрамя тэатральных заняткаў, працуе пеўчым у царкве Св. Кацярыны ў Дзевяткіне, удзельнічае ў канцэртным жыцці, вядзе радыёперадачы «Радыё «Марыя». Найбольш значнымі для беларускай дыяспары былі выкананні Лявонам Габрусёнкам гімна «Магутны Божа» пры адкрыцці крыжа-помніка ў Левашове ў 1993 г., канцэртнае выкананне твораў Ігара Мацыеўскага (рамансы на словы Максіма Багдановіча).



*Лявон Габрусёнак*

Каб стаць мастацтвазнаўцам, прыехала ў Пецярбург у 2004 г. выпускніца Беларускай акадэміі музыкі **Наталля Сяргееўна Кардаш** (нар. у Мінску 17 чэрвеня 1979 г.). Да гэтага яна паспела папрацаваць ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы Рэспублікі Беларусь у літаратурна-драматургічным бюро, у Беларускай дзяржаўнай філармоніі як рэдактар інфармацыйна-выдавецкага аддзела, зрабіць шэраг сюжэтаў для Першага нацыянальнага тэлеканала Беларусі і напісаць некалькі сцэнарыяў для тэлеканала «Лад».

У Паўночнай сталіцы прайшла магістратуру Еўрапейскага ўніверсітэта па факультэце гісторыі мастацтваў, а ў 2006 г. паступіла ў аспірантуру Расійскага інстытута гісторыі мастацтваў, у 2006–2007 гг. атрымлівала стыпендыю Oxford Russia Fund Scholar.

Наталля Кардаш займаецца гісторыяй музычнага тэатра, найбольшую ўвагу аддае творчасці кампазітара з беларускімі каранямі Ігара Стравінскага. У 2006 г. яна выступа-

ла як запрошаны лектар Інстытута «Про Артэ» з цыклам «Сучасны оперны тэатр: жыццё ў гісторыях». Адна з лепшых лекцый «Васемнаццатае стагоддзе ў дваццатым. Опера Ігара Стравінскага «Прыгоды распутніка» упершыню адбылася 9 чэрвеня 2006 г.

З 2005 года яе артыкулы з'яўляюцца ў газетах і часопісах «Мариинский театр», «Вечерний Петербург», Symphonium.ru (Санкт-Пецярбург), «Страстной бульвар, 10» (Масква), Інтэрнет-выданнях «Континент» і «Горизонт» (ЗША) — агульная колькасць яе публікацый ужо большая за 100. Не пакідаючы заняткаў у аспірантуры, Наталля Кардаш з 2007 г. працуе як прэс-аташэ Міхайлаўскага тэатра оперы і балета.



*Наталля Кардаш*

Шлях у музычнае мастацтва для ураджэнца вёскі Куранец Вілейскага раёна **Леаніда Валянцінавіча Левашкевіча** (нар. 26 сакавіка 1958 г.) быў праз... «Ленінградскі камбінат мучніста-кандытарскіх вырабаў». Восем гадоў (да 1990-га) працаваў тут выпускнік пецярбургскага Санітарна-гігіенічнага інстытута Леанід Левашкевіч санітарным урачом. Перабудова абудзіла ў выхаванца вілейскай музычнай школы (клас Валерыя Шчогалева) даўняе жаданне займацца музыкай. Леанід не толькі пачаў актыўна працаваць як кампазітар, але і як менеджэр: ён дырэктар творчай садружнасці «Маэстра» — секстэту прафесіяналаў, якія выконваюць народную, класічную і эстрадную музыку. Калектыў, які часам называюць «Віртуозы Пецярбурга», стаў стваральнікам і выканаўцам праграм, што выконваюцца на лепшых канцэртных пляцоўках Пецярбурга; выступленні праходзяць і ў залах Пецяргофа, Канстанцінаўскага палаца ў Стрэльні. Музыка Леаніда Левашкевіча займае ўжо сем кампакт-дыскаў. Як кампазітар і дырэктар ён працуе ў садружнасці з калегам санітарным урачом Уладзімірам Гапонавым. Займацца музычным менеджментам старэйшаму брату дапамагае малодшы, Аляксандр Левашкевіч (нар. у 1962 г. у Куранцы), хоць па базавай адукацыі ён таксама санітарны ўрач. З 2001 г. музыка Леаніда Левашкевіча гучыць на пецярбургскім і расійскім радыё, у тэлевізійных перадачах, а сярод найбольш удзячных слухачоў дачка Юля — студэнтка факультэта псіхалогіі «вялікага» універсітэта. Кампазітар часта звяртаецца да пецярбургскіх матываў, пра што сведчаць назвы кампазіцый «Восень на Елагіным востраве», «Фантаны Пецяргофа», «Вальс у Царскім Сяле», «Пецярбургскі вальс», а таксама да традыцыйных жанраў беларускай музыкі — ён стварыў некалькі паланезаў, полек, мазурак.



*Леанід Левашкевіч пасля аўтарскага канцэрта з нагоды ўласнага 50-годдзя. Пецяргоф, 2008 г.*

У 2008 годзе адбыўся піцерскі канцэрт папулярнага беларускага гурта OSIMIRA, пасля якога змяніўся лёс яго кіраўніка, знанага фолькмузыканта **Андрэя (Андруся) Палаўчэні** — ён стаў пецярбуржцам. Пачынаў Андрэй як тэлевядучы на магілёўскім тэлебачанні, зрабіўшы серыю праграм «Ключы ад гораду», за якую атрымаў прыз «Тэлевяршыня» як найлепшы рэгіянальны тэлежурналіст. Музыкі OSIMIRA жывуць ў розных гарадах — частка ў Магілёве, астатнія ў Віцебску. «800 кіламетраў — адлегласць зусім невялікая і нашай агульнай справе не перашкаджае», — Андрусь пачаў ездзіць на рэпетыцыі ў родны горад на начным цягніку з Піцера. «Мы не граем фольк, мы працуем у плыні этна-музыкі — паняцці больш

шырокім, — разважае музыка і дадае: — Але мы ўсведамляем, што нашы аранжыроўкі народных песень зроблены з пункту гледжання гарадскіх жыхароў. Каб выконваць сапраўдны фольк, трэба нарадзіцца і жыць у вёсцы».

Заўсёды існаваў і адваротны рух музыкантаў: з Пецярбурга на Беларусь. У 1930–1950-я гг. у Мінску плённа працавалі выпускнікі Пецярбургскай кансерваторыі Васіль Залатароў і Мікалай Аладаў, а ад 1960-х гг. ужо іх вучні — кампазітары Анатоль Багатыроў, Дзмітрый Лукас, Уладзімір Алоўнікаў, Пётр Падкавыраў, Леў Абеліёвіч, Фёдар Пыталёў, Алег Сонін, Людміла Шлег. Тое ж можна сказаць пра спевакоў, танцоўшчыкаў, інструменталістаў... Але сувязі Санкт-Пецярбурга і Беларусі — гэта ўжо сюжэт іншай працы.



*Такія дні — і ціша і мароз,*
*Пустое неба — у Пецярбурзе рэдкасць*

# Раздзел 20.

## У ВЫШЭЙШАЙ ШКОЛЕ І АКАДЭМІЧНАЙ НАВУЦЫ СУЧАСНАГА ГОРАДА

Колькасць цывільных вышэйшых навучальных устаноў у Ленінградзе напярэдадні Другой сусветнай вайны налічвала 62 адзінкі, пасля вайны зменшылася спачатку да 56, потым да 41 і надоўга стабілізавалася. Вядучымі ВНУ заставаліся Ленінградскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. А. Жданава, інстытуты — Політэхнічны імя М. І. Калініна, Педагагічны імя А. І. Герцана, Горны імя Г. В. Пляханава, Электратэхнічны імя У. І. Ульянава (Леніна), Савецкага гандлю імя Ф. Энгельса, Фінансава-эканамічны імя М. А. Вазнясенскага, Тэхналагічны імя Ленсавета і інш. Яны рыхтавалі высокакваліфікаваныя кадры для патрэб горада і для многіх рэгіёнаў СССР. У 1970—1976 гг. на ўсіх формах навучання толькі ў цывільных ВНУ навучаліся штогод 272—274 тысячы чалавек, сярод выкладчыкаў працавалі 1700 дактароў і 12 тысяч кандыдатаў навук. Вышэйшая школа пры такой колькасці занятых зрабілася важным горадафармуючым элементам. Сярод ваенных вучылішчаў і акадэміяў вялікім прэстыжам карысталіся Ваенна-марская акадэмія, Ваенна-медыцынская акадэмія, Акадэмія тылу і транспарту, Артылерыйская акадэмія, Акадэмія сувязі, Вышэйшыя ваенна-марскія вучылішчы імя М. Фрунзе і Ленінскага камсамола, радыёэлектронікі імя прафесара Папова, ЛенВОКУ, тапаграфічнае вучылішча, Вышэйшае ваенна-інжынернае будаўнічае вучылішча імя генерала арміі А. Камароўскага і інш.

Расказваючы пра вышэйшую адукацыю ў Пецярбургу, мы знаходзілі беларусаў-выкладчыкаў амаль ва ўсіх цывільных і ваенных установах дарэвалюцыйнага горада. У савецкія часы колькасць ВНУ значна павялічылася, але карціна не змянілася.

«Першы сярод роўных» па-ранейшаму Дзяржаўны ўніверсітэт (пасля масавага ў гады перабудовы перайменавання шматлікіх інстытутаў ва ўніверсітэты яго часам называюць «вялікі ўніверсітэт». Універсітэт у савецкі час насіў імя кіраўніка ленінградскай партыйнай арганізацыі А. Жданава, аднак з перабудовай імя партыйнага лідэра лёгка «адстала» ад назвы гэтай старой вышэйшай школы. У пачатку XXI ст. тут працавала багата выхадцаў з Беларусі, найбольшую вагу мелі прафесары: фізік Пётр Барадзін, філосаф Мікалай Бязлепкін, сацыёлаг Святаслаў Бразевіч, гісторыкі Віктар Брачоў і Станіслаў Варашылаў, географ Анатоль Ісачэнка, геолаг Васіль Кнацько, біёлаг Ян Камісарчык, палітолаг Мікалай Лабуш, філосаф Уладзімір Лісоўскі[1]. На гістарычным факультэце гісторыяй ЗША і пратэстанцкіх цэркваў займаецца беларуска, кандыдат гістарычных навук **Святлана Уладзіміраўна Шэршнёва**. Мастацтвазнавец Іван Чачот належыць да патомных пецярбургскіх беларусаў. На геалагічным факультэце доўгі час працаваў выхадзец з беларускіх рэгіёнаў Браншчыны дацэнт **Фёдар Анісімавіч Шыбанаў**. Прафесар Анатоль Ісачэнка ўспамінае, што гэты выдатны картограф і любімы студэнтамі выкладчык да смерці гаварыў з выразным беларускім акцэнтам. Акцэнт, можа, і дазваляўся, а вось паўнавартаснае выкладанне літаратурнай беларускай мовы ўніверсітэт так і не змог арганізаваць. У вучэбных праграмах у пачатку XXI ст. яна прысутнічае толькі як другая славянская мова для паланістаў, на кафедры славянскай філалогіі. Выкладанне Наталлі Яўгенаўны Боевай, якая не ўмее гаварыць па-беларуску, таксама не спрыяе поспеху гэтага прадмета сярод студэнтаў. І гэта ў тым універсітэце, у якім некалі Браніслаў Тарашкевіч пад кіраўніцтвам акадэміка Шахматава заняўся распрацоўкай першай беларускай граматыкі!

З апошніх дасягненняў універсітэта ў галіне беларусістыкі можна назваць хіба што інтэрнэт-сайт з літаратурай пра Беларусь (у тым ліку поўнатэкставыя базы) зроблены на кафедры этнаграфіі і антрапалогіі ў 2004—2008 гг. Асабліва каштоўная падборка літаратуры па некаторых памежных рэгіёнах Расійскай Федэрацыі, дзе жывуць беларусы (Пскоўская і Смаленская вобласці), а таксама справаздача аб экспедыцыях пад кіраўніцтвам Ігара Вярняева ў Себежскі раён Пскоўскай вобласці з архіва кафедры этнаграфіі і антрапалогіі СПбДУ: http://by.ethnology.ru.

Прозвішча Лабуш шырока вядомае ў Мінску дзякуючы папулярнасці акцёра Тэатра

[1] Профессора Санкт-Петербургского государственного унивеситета. Биографический словарь. СПб., 2004.

імя Янкі Купалы. У Пецярбургу працуе брат акцёра Мікалай Лабуш — доктар палітычных навук, прафесар «вялікага універсітэта» адразу на двух факультэтах: на кафедры міжнароднай журналістыкі факультэта журналістыкі і на кафедры канфліктаалогіі філасофскага факультэта. Нарадзіўся **Мікалай Сяргеевіч Лабуш** 7 верасня 1951 г. у Пухавічах, пасля заканчэння на выдатна Кіеўскага вышэйшага ваенна-марскога палітычнага вучылішча служыў на Паўночным флоце. Заканчэнне ў 1980 г. педагагічнага факультэта Ваенна-палітычнай акадэміі ў Маскве з залатым медалём дазволіла яму займаць пасады выкладчыка ў ваенна-марскіх вучылішчах: 1983—1985 гг. — у Вышэйшым ваенна-марскім інжынерным вучылішчы імя Ф. Дзяржынскага (цяпер — Санкт-Пецярбургскі Ваенна-марскі інжынерны інстытут); 1987—1992 гг. — у Ваенна-марской акадэміі. З 1993 да 2001 г. капітан І рангу Мікалай Лабуш узначальваў кафедру грамадскіх навук Вышэйшага ваенна-марскога ордэна Леніна Чырвонасцяжнага вучылішча імя М. Фрунзе, быў удзельнікам вяртання гэтаму вучылішчу гістарычнай назвы: Марскі корпус Пятра Вялікага — Санкт-Пецярбургскі ваенна-марскі інстытут. Сферу навуковых інтарэсаў прафесара Лабуша акрэслівае назва яго доктарскай дысертацыі: «Сілавы механізм дзяржавы і грамадства (палітыка-сацыялагічны аналіз)». Сюды ж трапляюць палітычныя праблемы нацыянальнай бяспекі, масмедыйныя тэхналогіі рэгулявання і кіравання палітычнымі канфліктамі. Жонка прафесара Мікалая Лабуша Ірына Міхайлаўна таксама беларуска, паходзіць з Пухавічаў, працуе ў Дзяржаўнай палярнай акадэміі. Пецярбуржцамі ў другім пакаленні сталі іх сын Аляксандр і дачка Вольга.

Пасля таго як ў 1976 г. беларус **Уладзімір Цімафеевіч Лісоўскі** (1929—2002) абараніў ў Ленінградскім універсітэце доктарскую дысертацыю «Фарміраванне асобы сучаснага студэнта», а таксама выдаў (разам з С. Іконнікавай) кнігу «Моладзь пра сябе, пра сваіх равеснікаў», якая была перакладзена на 12 замежных моў, яго ўпэўнена залічваюць да стваральнікаў новай навуковай школы «сацыялогія моладзі». Нарадзіўся Уладзімір Лісоўскі ў Барысаве Мінскай вобласці ў рабочай сям'і. Школу рабочай моладзі закончыў у 1949 г. у Ленінградзе, пазней навучаўся ў Юрыдычным інстытуце імя М. Калініна, а аспірантуру прайшоў у часы «адлігі» (1961—1964) пры Ленінградскім інстытуце тэатра, музыкі і кінематаграфіі. Пры канцы жыцця ён быў членам-карэспандэнтам Расійскай акадэміі адукацыі, рыцарам Мальтыйскага ордэна (з 1998 г.), членам Вучонага савета па абароне доктарскіх дысертацый Санкт-Пецярбургскага універсітэта, аўтарам 20 манаграфій, з якіх 4 перакладзены на замежныя мовы.

Прафесарам кафедры гісторыі рускай філасофіі філасофскага факультэта Санкт-Пецярбургскага ДУ ў 2001 г. стаў ураджэнец Магілёва **Мікалай Іванавіч Бязлепкін** (нар. 20 чэрвеня 1950 г.). Папрацаваўшы пасля сярэдняй школы слесарам-мантажнікам у Магілёве, Мікалай паступіў у Ленінградскае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча войск супрацьпаветранай абароны. З курсанцкіх гадоў займаўся навуковай працай, галоўным чынам, філасофіяй мовы і метадалогіяй навукі. Пасля заканчэння філасофскага аддзялення ваенна-педагагічнага факультэта Ваенна-палітычнай акадэміі Мікалай Бязлепкін быў прызначаны выкладчыкам філасофіі Ленінградскага вышэйшага зенітнага ракетнага каманднага вучылішча. Тут ён падрыхтаваў і абараніў дысертацыю на тэму «Мова ваеннай навукі як сродак пазнавальнай дзейнасці ваенных кадраў. Метадалагічны аналіз». З 1988 г. Мікалай Іванавіч служыць у Ваеннай артылерыйскай акадэміі, у 1994—2001 гг. на пасадзе начальніка кафедры гуманітарных і сацыяльна-эканамічных дысцыплін. Пасля звальнення ў 2001 г. з Узброеных Сіл Мікалай Бязлепкін працуе дэканам факультэта сацыяльнага кіравання ў Інстытуце ўпраўлення і эканомікі, адначасова займае па сумяшчальніцтве пасаду прафесара і члена дысертацыйнага савета Санкт-Пецярбургскага універсітэта. Яго манаграфія «Філасофія мовы ў Расіі: вопыт гісторыка-тэарытычнага даследавання» (1999) стала заўважнай падзеяй у навуцы на мяжы тысячагоддзяў.

Вёска Чыстыя Лужы Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці цяпер не існуе. Былыя яе насельнікі жывуць у Ветцы, а на тэрыторыі паселішча даўно загаспадарылі вайсковыя. Тым не менш назва яе ніколі не забудзецца яшчэ і праз тое, што гэта радзіма прафесара-фізіка **Пятра Барадзіна** (1923—2001, пахаваны на Охцінскіх могілках). Сын сялян Міхаіла і Пелагеі Барадзіных, Пётр закончыўшы Веткаўскую СШ, паступіў у чэрвені 1941 г. у Вышэйшае ваенна-марское інжынернае вучылішча ў Ленінградзе, а праз пяць месяцаў разам з іншымі курсантамі патрапіў на фронт у марскую пяхоту. Прайшоў усе франты Другой сусветнай вайны, атрымаў чатыры раненні, быў узнагароджаны чатырнаццацю

медалямі і чатырма ордэнамі. У верасні 1945 г. дэмабілізаваўся і паступіў на фізічны факультэт Ленінградскага універсітэта. Вучыўся з захапленнем, пасляхова займаўся спортам — меў разрад па плаванні і гімнастыцы, быў чэмпіёнам універсітэта па фехтаванні. У пачатку 1950-х гг. маладому інжынеру завода «Электрасіла» Пятру Барадзіну, нядаўняму выпускніку фізфака, даручылі сканструяваць прыбор для замярэння велічыні магнітных палёў блокаў сінхрафазатрона. Унікальны прыбор Барадзін не толькі распрацаваў, але і зрабіў сваімі рукамі. І вось калі трэба было праверыць яго ў рабоце, Барадзіну давялося залезці ў зазор паміж блокамі, каб там, у сярэдзіне магніта, замераць магнітныя палі асобных яго секцый. Раптам самаадчуванне рэзка пагоршылася, з'явіўся боль у грудзях. Гэта дала аб сабе знаць вайна — невялікі асколак сядзеў у двух сантыметрах ад сэрца. Калі напружанне ў магніце павялічылася, асколак пачало «цягнуць».



*Пётр Барадзін*

Адпрацаваўшы два гады на вытворчасці, Пётр Барадзін вярнуўся ва універсітэт, а праз восем гадоў тут жа абараніў першую ў СССР дысертацыю па ЯМЗ-спектраскапіі (даследаванні спектраў ядзернага магнітнага рэзанатара фтору ў шэрагу яго злучэнняў). Пры дапамозе распрацаванага ім прыбора можна зафіксаваць ядзерны выбух на супрацьлеглым канцы зямнога шара. Прафесар кафедры квантавых і магнітных з'яў фізфака Пётр Міхайлавіч аўтар каля 200 навуковых прац і 12 вынаходніцтваў, чытаў лекцыі па ядзерных магнітных рэзанатарах ва універсітэтах ГДР, Кубы, В'етнама і Кітая. Быў членам Навуковага савета АН СССР па праблеме «Радыёспектраскапія кандэнсаваных асяроддзяў». Пецярбургскімі беларусамі ў другім пакаленні сталі яго сын Ігар — супрацоўнік службы авіяцыйных перавозак і дачка Аня — мастак, член Саюза мастакоў (трагічна загінула 30 лістапада 2000 г.).

На толькі што адкрыты пасля доўгага перапынку гістарычны факультэт Ленінградскага універсітэта сярод іншых паступіў у 1937 г. **Станіслаў Іванавіч Варашылаў**. Нарадзіўся ён 10 кастрычніка 1919 г. у вёсцы Клімаўшчына Расонскага раёна Віцебскай вобласці, у Расонах скончыў сярэднюю школу. Спецыялізаваўся ў прафесара С. Б. Окуня па гісторыі Чарнаморскага флоту. З пачаткам вайны Станіслаў паступіў у народнае апалчэнне, потым у дзейную армію, дзе дзякуючы веданню нямецкай мовы быў прызначаны перакладчыкам. Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны хутка напісаў дысертацыю па палітычных партыях у Аўстрыі (дзе ён знаходзіўся ў складзе савецкіх акупацыйных войскаў). Пасля абароны ў 1954 г. застаўся на гістарычным факультэце, працаваў тут да 2004 г. прафесарам кафедры новай і навейшай гісторыі. Да больш маладога пакалення прафесараў гістарычнага факультэта СПбДУ належыць **Віктар Сцяпанавіч Брачоў** (нар. 26 мая 1947 г. у вёсцы Мацешы Ахрэмаўскага сельсавета Браслаўскага раёна). Пецярбуржцам Віктар Брачоў стаў у 1971 г., паступіўшы ў аспірантуру Інстытута гісторыі пасля заканчэння Пскоўскага педагагічнага інстытута. Працаваў у Музеі гісторыі Ленінградскага універсітэта, выкладаў у Педагагічным інстытуце. У 1985 г. абараніў дысертацыю «Пецярбургская археаграфічная камісія (1861–1917 гг.)», а ў 1996 г. — доктарскую дысертацыю пра гісторыка С. Ф. Платонава. Назвы шматлікіх кніг гісторыка адлюстроўваюць яго зацікаўленні: «Наша універсітэцкая школа рускіх гісторыкаў і яе лёс», «Замежная агентура дэпартамента паліцыі», «За кулісамі бачнай улады: масоны ў Расіі (1731–2001)», «Рускі гісторык А.Е. Праснякоў» і інш.

Яшчэ адзін беларус-прафесар СПБДу, **Анатоль Рыгоравіч Ісачэнка** (нар. 28 мая 1922 г.), зрабіў сабе імя ў распрацоўцы праблем фундаментальнай і прыкладной геаграфіі, найбольш ландшафтазнаўства і



*Анатоль Ісачэнка*

тэматычнага картаграфавання, аптымізацыі прыроднага асяроддзя (экалагічная геаграфія). Нарадзіўся Анатоль Ісачэнка ў Гомелі, бацька належаў да эліты рабочага класа — працаваў друкаром. Пасля заканчэння адной з пяці гомельскіх «Сталінскіх» школ юнак паступіў на геаграфічны факультэт Ленінградскага універсітэта, але скончыў універсітэт толькі ў 1947 г. — перашкодзіла вайна. Пасля навучання застаўся ў аспірантуры, у 1951 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю, у 1963 г. — доктарскую. У 1957–1959 гг. Анатоль Рыгоравіч выкладаў у Пекінскім універсітэце і універсітэце імя Сун-Ятсена ў горадзе Гуанчжоў, у 1960–1970 гг. кіраваў ландшафтнымі даследаваннямі на Поўначы і Паўночным Захадзе Расіі, у Прыбалтыцы і на Палессі. Анатоль Ісачэнка аўтар 32 манаграфій і звыш 340 навуковых публікацый, некалькі сотняў распрацаваных ім арыгінальных тэматычных карт надрукаваны асобна, увайшлі ў склад комплексных атласаў, выкарыстаны як дадаткі да кніг і артыкулаў. З 1950 г. Анатоль Рыгоравіч працуе ў Рускім геаграфічным таварыстве, шмат гадоў быў членам Вучонага савета і Прэзідыума таварыства, ён рэдактар часопіса «Известия РГО». Два родныя браты Анатоля сталі архітэктарамі. **Валерый Ісачэнка** працуе ў Пецярбургу, шмат піша пра захаванне помнікаў архітэктуры і гарадскога асяроддзя, вядзе цыкл краязнаўчых лекцый ў Расійскай Нацыянальнай бібліятэцы. Уладзімір Ісачэнка — вядомы мінскі дойлід. Географам, па бацьку, стаў сын Анатоля Рыгоравіча — Рыгор Анатольевіч Ісачэнка.

На Беларусі плённа працавалі і працуюць шматлікія выхаванцы Ленінградскага дзяржаўнага універсітэта. Сярод іншых можна ўспомніць прафесара БДУ, выпускніка ЛДУ 1977 г., філосафа Канстанціна Мікалаевіча Кунцэвіча — даследчыка лібералізму, канстытуцыйнага права, пытанняў консульскай дзейнасці. Загадчыкам аддзела публікацый Нацыянальнага архіва РБ стаў выпускнік ЛДУ 1970 г. кандыдат гістарычных навук Віталь Уладзіміравіч Скалабан. А тым часам падрастае новае пакаленне універсантаў-беларусаў: у галіне сярэдневяковай гісторыі спецыялізуецца супрацоўнік гістфака, пецярбуржац па нараджэнню **Аляксей Кібінь** (нар. 27 чэрвеня 1985 г.), сын маёра савецкай арміі **Сяргея Збышкавіча Кібіня**, ураджэнца вёскі Раготна Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці. Тэма навуковых доследаў Аляксея Сяргеевіча – гісторыя ранняга феадалізму ва Усходняй Еўропе. Ён вывучае акалічнасці гібелі на беларускіх землях (у Панямонні) св. Бруна з Кварфурту, лацінскага місіянера, дыпламата і пісьменніка пачатку XI ст., А. Кібіню належыць арыгінальная гіпотэза аб тым, што яцьвягі – гэта не асаблівая народнасць, а карпаратыўнае злучэнне рабаўнікоў-нарманаў, якіх лёс у гэты ж перыяд закінуў на берагі Нёмана. Добрая філалагічная падрыхтоўка (абазнанасць у лацінскай, літоўскай, польскай і шэрагу еўрапейскіх моваў) не замінае (як часам гэта здараецца сярод мінскіх калег) маладому гісторыку пісаць па-беларуску.



*Аляксей Кібінь*

А на філалагічным факультэце «вялікага універсітэта» пад кіраўніцтвам прафесара Леанарда Герцэнберга лінгвістыкай (а ў вольны час перакладамі з латышскай і літоўскай на беларускую мову) займаецца мінчанка па нараджэнню (нар. 2 мая 1981 г.), выпускніца філфака БДУ **Анжаліка Дубасава**. У 2008 г. яна абараніла ў Пецярбургскім універсітэце кандыдацкую дысертацыю, прысвечаную рэканструкцыі кансанантызму (сістэмы зычных літар) у балтыйскіх мовах.



*Анжаліка Дубасава*

Часта выхаванец Ленінградскага дзяржаўнага універсітэта дапамагае сваёй «малой радзіме» парадай ці справай, як дапамагае, напрыклад, кандыдат філалагічных навук, выкладчык нямецкай мовы **Васіль Пятровіч Шадэка** (нар. у вёсцы Пушкі Лёзненскага раёна Віцебскай вобласці 27 студзеня 1955 г.) выкладчыкам роднай школы ў г. Лёзна Віцебскай вобласці.

Пасля перабудовы колькасць ВНУ зноў заўважна павялічылася — за кошт арганізацыі так званых недзяржаўных і камерцыйных навучальных установ. Некаторыя з новастворaных інстытутаў, праіснаваўшы кароткі час, зачыніліся, некаторыя набылі аўтарытэт і «сталі на ногі» — напрыклад, Еўрапейскі універсітэт, або Інстытут кіравання і эканомікі. Пасля перабудовы нашмат менш стала студэнтаў-беларусаў: жыць у далёкім і дарагім Пецярбургу складана. Паказальны лёс студэнткі **Таццяны Раманавай**, выпускніцы СШ № 4 г. Наваградка. Яна паступіла ў Пецярбургскі фінансава-эканамічны інстытут у 1999 г. і, каб падпрацаваць, прыйшла ў Расійскую Нацыянальную бібліятэку. У аддзеле кадраў дзяўчыне адмовілі з-за адсутнасці пастаяннай прапіскі (студэнтам прапіска давалася толькі часовая). Працавала за «падстаўную» аднакурсніцу-пецярбуржанку. На пятым курсе Таццяна перайшла працаваць з бібліятэкі ў кампанію «Кансультант-плюс» — разносіць і інсталяваць на камп'ютэры кліентаў заканадаўчую базу «Кансультант». Пры гэтам заробкі былі нашмат большыя, чым у бібліятэцы. Між тым Таццяна вывучыла законы, якія яна дапамагла інсталяваць і дамаглася прыёму ў фірму «Кансультант» на легальных умовах (пры гэтым з беларускай — наваградскай — прапіскай!) і спагнаннем 13% падатку, а не 30%, як з замежнага жыхара). У 2004 г. яна паспяхова атрымала вышэйшую адукацыю і паступіла ў аспірантуру «Фінэка».



*Таццяна Раманава*

З выкладчыкаў-беларусаў у ленінградскіх ВНУ мы ўжо ўспаміналі Майсея Майсеенку з Акадэміі мастацтваў, Аляксандра Макейчыка з «Макараўкі», шэраг прафесараў у акадэміях Ваенна-медыцынскай і Ваенна-касмічнай імя Мажайскага. Спіс гэты, канечне, скарочаны. Напрыклад, у Лесатэхнічнай акадэміі з гонарам працягвае традыцыі прафесара Кайгародава прафесар **Аляксандр Фёдаравіч Галавач**, ураджэнец Бабруйска.

За Львіным мастком праз Кацярынінскі канал (былы канал Грыбаедава) пачынаецца тэрыторыя Універсітэта эканомікі і фінансаў. Яго памяшканні пабудаваны яшчэ ў пачатку XIX ст. для Дзяржаўнага асігнацыйнага бан-

ка — забудова цягнецца аж да Банкаўскага завулка. З боку Садовай вуліцы яго тэрыторыя насупраць Апраксіна двара абмежавана прыгожымі кратамі, за якімі растуць высачэзныя дубы. З 1991 г. рэктарам «Фінэка» працуе беларус **Леанід Сцяпанавіч Тарасевіч**. Нарадзіўся Леанід Тарасевіч у 1937 г. у вёсцы Случанка Беластоцкай вобласці. Калі пасля Другой сусветнай вайны частка Заходняй Беларусі адыйшла ў склад Польшчы, бацькі прынялі рашэнне з'ехаць у Савецкую Беларусь, а частка Тарасевічаў засталася на Беласточчыне: сусветна вядомы мастак Лёнік Тарасевіч — гэта сын дваюраднага брата Леаніда Сцяпанавіча.



*Леанід Тарасевіч*

У 1955 г. Леанід Тарасевіч скончыў Навагрудскі фінансавы тэхнікум, пасля заканчэння Ленінградскага фінансава-эканамічага інстытута (1959) застаўся працаваць асістэнтам, старшым выкладчыкам, дацэнтам. З 1978 г. — прафесар кафедры эканамічнай тэорыі. Акрамя навуковай працы, выкладчыка Леаніда Тарасевіча заўсёды прыцягвала праца дыдактычная — ён сааўтар 8 падручнікаў па розных эканамічных дысцыплінах. Няхутка, але паслядоўна прасоўваўся Леанід Сцяпанавіч па службовай лесвіцы: з 1968 да 1972 г. ён дэкан фінансава-эканамічнага факультэта, з 1975 г. — прарэктар ЛФЭІ па вучэбнай рабоце. Пасля 1991 г. пад кіраўніцтвам прафесара Тарасевіча «Фінэк» атрымаў статус універсітэта і больш як 10 гадоў запар узначальваў рэйтынг эканамічных ВНУ Расіі.

Рэктар Леанід Тарасевіч стаў членам экспертнай рады Вышэйшай атэстацыйнай калегіі Расіі, акрэдытацыйнай калегіі Міністэрства адукацыі Расійскай Федэрацыі, Міжнароднага інстытута дзяржаўных (публічных) фінансаў. Паміж яго грамадскіх пасадаў — намеснік Старшыні Савета рэктараў ВНУ Санкт-Пецярбурга, галоўны рэдактар часопіса «Известия Санкт-Петербургского государственного университета экономики и финансов», член рэдкалегій шэрагу эканамічных часопісаў Расіі. Прафесар Тарасевіч падрыхтаваў больш як 40 дактароў і кандыдатаў эканамічных навук. Добрасумленная праца адзначана ўзнагародамі: расійскімі ордэнамі Дружбы народаў і «Гонару», медалём «За доблесную працу», Леанід Сцяпанавіч з'яўляецца Ганаровым працаўніком вышэйшай прафесійнай адукацыі Расіі, Ганаровым доктарам універсітэта Цынь Хуа (Пекін, КНР), камандорам французскага ордэна «Акадэмічных пальмаў». За падручнікі «Макраэканоміка» і «Мікраэканоміка» прафесару Тарасевічу прысуджана прэмія Урада Расійскай Федэрацыі ў галіне адукацыі за 2000 г. У 2007 г. Леанід Сцяпанавіч адзначыў 70-годдзе і пакінуў рэктарства, заняўшы ганаровую пасаду прэзідэнта універсітэта эканомікі і фінансаў.

Кафедрай эканомікі і арганізацыі вытворчасці Ленінградскага інстытута авіяцыйнага прыборабудавання 25 гадоў кіраваў ураджэнец Бялынічаў **Эдуард Вікенцьевіч Мінько** (нар. 1 сакавіка 1939 г.). Пасля заканчэння бялыніцкай СШ № 2 ён паступіў (у 1956 г.) у Ленінградскі інстытут авіяцыйнага прыборабудавання, закончыў яго па спецыяльнасці канструяванне радыёапаратуры. Эдуард Мінько — прафесар эканомікі і менеджменту, аўтар звыш 650 публікацый. Пад кіраўніцтвам Эдуарда Мінько навучаўся і абараніў дысертацыю **Валерый Георгіевіч Храмаўскіх**. Нарадзіўся Валерый у сям'і вайскоўца на Сахаліне, яшчэ дашкольнікам пераехаў на радзіму маці — у Слонім. Тут добра вучыўся ў СШ № 4, у 1974 г. паступіў у ЛІАП. Пасля пачатку перабудовы кандыдат тэхнічных навук Валерый Храмаўскіх заняўся пытаннямі фінансавання эканомікі — стварыў Паўночна-Заходні інвестыцыйны цэнтр, стаў яго прэзідэнтам. Туга па Беларусі і жывое прыцяжэнне (маці і сястра засталіся ў Слоніме) сталі адной з прычынаў стварэння сумеснага расійска-беларускага прадпрыемства. Аднак неспрыяльная кан'юнктура зрабіла яго не-

рэнтабельным, і ў 1997 г. Валерый Георгіевіч адмовіўся ад бізнесу ў Беларусі.

У Політэхнічным інстытуце ці не 30 гадоў загадчыкам кафедры менеджменту працаваў **Уладзімір Аляксеевіч Казлоўскі** (нар. 21 мая 1930 г. у Оршы). Бацька Уладзіміра, чырвонаармеец-віцяблянін, ваяваў з Будзённым пад Варшавай, потым, як член камуністычнай партыі, стаў вылучэнцам. Аляксей Казлоўскі паступіў у Горацкую акадэмію на электрамеханічны факультэт, але з-за адсутнасці прафесараў яго перавялі ў Ленінградскі політэхнічны інстытут. Забраў у Ленінград жонку і сына. Уладзімір з бацькамі жыў у пралетарскіх камуналках у гарадку на Лясным праспекце, 65. Калі бацька закончыў інстытут і стаў дырэктарам ленінградскай высакавольтавай сеткі, пераехалі ў добрую кватэру на Петраградку, хлопец пайшоў вучыцца ў 46-ю школу. Потым былі вайна, эвакуацыя. Пасля вайны Уладзімір Казлоўскі закончыў Нахімаўскае вучылішча і ў 1952 г. — штурманскі факультэт Ваенна-марскога вучылішча імя Фрунзе. Дэмабілізаваўся рана, з прычыны скарачэння ў 1957 г. Ваенна-марскога флоту. Каб атрымаць цывільную спецыяльнасць, пайшоў па другую адукацыю: закончыў радыёфізічны факультэт Політэхнічнага інстытута. Застаўся працаваць у інстытуцкім вылічальным цэнтры. Якраз у той час цэнтр распрацоўваў (разам з эканамістамі) навуковыя падставы вытворчасці трактароў на Кіраўскім заводзе. Доктар эканамічных навук Уладзімір Казлоўскі з 1982 г. асноўныя навуковыя даследаванні прысвячае эканамічным праблемам робата-комплексаў.

У Горным інстытуце дэканам факультэта асваення падземнай прасторы працуе доктар геолага-мінералагічных навук **Анатоль Рыгоравіч Пратасеня** (нар. 18 сакавіка 1942 г. у пасёлку Мажа Мінскай вобласці). Пасля заканчэння сярэдняй школы на Міншчыне Анатоль Пратасеня паступіў у Ленінградскі горны інстытут, а потым — на механіка-матэматычны факультэт ЛДУ. Атрыманыя веды далі магчымасць ўжо праз тры гады пасля заканчэння універсітэта абараніць доктарскую дысертацыю (1973). Застаўся загадваць кафедрай у родным інстытуце. Пры гэтым Анатоль Рыгоравіч — акадэмік 4-х акадэмій.

З 1993 г. яшчэ адзін факультэт (горнамеханічны) у Горным інстытуце ўзначальвае ураджэнец Беларусі **Ігар Парфёнавіч Цімафееў**. Нарадзіўся Ігар Цімафееў 23 мая 1932 г. у Магілёве, пасля заканчэння ленінградскага Горнага інстытута доўгі час працаваў у інстытуце «Гіпранікель», адначасова ўзначальваў (з 1966 г.) у родным інстытуце кафедру канструявання горных машын і тэхналогіі машынабудавання. Непасрэдна ўдзельнічаў у праектаванні новых машын, у тым ліку складаных, шагаючых падводных, для нафтаздабычы.



*Анатоль Пратасеня*

У XXI ст. шматлікая прафесура вышэйшай школы ў Пецярбургу змяніла свой modus vivendi — спосаб жыцця. Калі раней выкладчык, як правіла, трымаўся аднаго месца службы, то цяпер невысокія аклады дзяржаўнай службы прымусілі іх шукаць падпрацоўкі, а шматлікія новыя, у тым ліку камерцыйныя, інстытуты з ахвотай давалі месца працы вопытным спецыялістам. У вышэйшую і сярэднюю адукацыю пайшлі працаваць выкладчыкамі многія з вайсковых пенсіянераў. Адзін з такіх — **Святаслаў Станіслававіч Бразевіч**. Нарадзіўся ён 24 лютага 1954 г. у в. Чэрнішкі Астравецкага раёна. Маці — настаўніца пачатковых класаў у мясцовай школе — усё зрабіла, каб даляглядам яе сына стала вялікая навука, але сама вельмі рана пакінула гэты свет. У Гудагайскую васьмігодку Святаслаў прыйшоў чацвёртакласнікам, а закончыўшы яе, працягваў навучанне ў Астравецкай сярэдняй школе. Далей была служба ў Групе савецкіх войскаў у Германіі, навучанне ў Данецкім вышэйшым вучылішчы інжынерных войскаў і войскаў сувязі. З 1982 г. Святаслаў Бразевіч жыве ў Пецярбургу, служыць у Вышэйшым ваенным інжынерна-будаўнічым вучылішчы імя генерала арміі А. Камароўскага. Службу

сумяшчаў з актыўнай навуковай дзейнасцю: у 1993 г. атрымаў вучоную ступень кандыдата гістарычных навук, а ў 1997 г. — абараніў доктарскую дысертацыю «Ваенная сацыялогія ў Расіі: ідэі, праблемы, вопыт (сярэдзіна XIX — пачатак XX ст.», у 1999 г. стаў прафесарам. Пасля звальнення ў запас (у 2001 г. у званні палкоўніка) Святаслаў Станіслававіч загадвае кафедрай сацыялогіі і кіравання персаналам Санкт-Пецярбургскага інстытута кіравання і эканомікі, таксама працуе прафесарам на кафедры тэорыі і гісторыі сацыялогіі ў Санкт-Пецярбургскім дзяржаўным універсітэце. Ён старшыня ваеннай секцыі Санкт-Пецярбургскай асацыяцыі сацыёлагаў. Сыны — Ігар і Дзмітрый Святаслававічы — пецярбуржцы ў другім пакаленні.



*Пётр Юнацкевіч*

На ніве педагогікі Санкт-Пецярбурга заўважная праца братоў Юнацкевічаў з Пінска. **Пётр Іванавіч Юнацкевіч** (нар. 19 сакавіка 1970 г.) на выдатна скончыў Спецыяльнае прафесійна-тэхнічнае вучылішча № 88 горада Пінска па спецыяльнасці маляр-штукатур 3 разраду і адразу ж (у 1987 г.) паступіў у Рыжскае вышэйшае ваенна-палітычнае чырвонасцяжнае вучылішча імя Маршала СССР Бірузова С. С. У выніку перабудовы вучылішча ліквідавалі, а курсанты «разыйшліся» па іншых вайсковых ВНУ. Пётр Юнацкевіч у 1992 г. скончыў Ваенны інжэнерна-касмічны інстытут імя А. Ф. Мажайскага. Служыў у Ракетных вайсках стратэгічнага прызначэння і Ваенна-касмічных вайсках Расіі, займаючыся навуковай працай ў галіне педагогікі і псіхалогіі. У 1997 г. абараніў кандыдацкую, а ў 2000 г. — доктарскую дысертацыю, абедзве працы — гэта вывучэнне, дыягностыка і выпрацоўка методык карэкцыі суіцыдных паводзін ваеннаслужачых.

З 2001 па 2005 г. Пётр Іванавіч сумяшчае працу прафесара кафедры юрыдычнай псіхалогіі Санкт-Пецярбургскага універсітэта МУС Расіі, прафесара кафедры ваеннай педагогікі і псіхалогіі Санкт-Пецярбургскага ваеннага інстытута ўнутраных войск, прафесара кафедры педагогікі і псіхалогіі сям'і Расійскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя А. І. Герцана, пазней працуе ў Інстытуце адукацыі дарослых Расійскай акадэміі адукацыі, а з 2008 г. з'яўляецца намеснікам кіраўніка Базавай арганізацыі краін-удзельнікаў СНД па адукацыі дарослых і асветнай дзейнасці. Напісаў звыш 200 навуковых прац, 10 манаграфій, пад яго кіраўніцтвам падрыхтаваны і абаронены чатыры кандыдацкія дысертацыі.

Адзін з праектаў, заснаваных Пятром Юнацкевічам называецца «Інстытут маральнасці». Ён накіраваны на развіццё наднацыянальнай, надпартыйнай, надрэлігійнай і наддзяржаўнай ідэі, якая вылучаецца як базавая для вызначэння сістэмы каштоўнасцяў любога чалавека (ненанясенне шкоды сабе, іншым людзям, прыродзе, падтрыманне баланса духоўных і матэрыяльных памкненняў і дзеянняў, правоў і абавязкаў перад грамадствам). Гэтыя каштоўнасці даходзяць да чалавека праз сістэму камунікацыі (дыскурсаў),



*Расціслаў Юнацкевіч*

накіраваных на масавую этычную ацэнку сацыяльна-значных рашэнняў.

За старэйшым пайшоў малодшы брат, **Расціслаў Іванавіч Юнацкевіч** (нар. у Пінску 28 ліпеня 1972 г.), закончыў пінскую сярэднюю школу № 9. Захаваў добры ўспамін пра любімых настаўнікаў — Марыю Фадзееўну Кушнярэвіч і Святлану Барысаўну Бізукойць. Пасля школы навучаўся ў пінскім ПТВ-88 будаўнікоў, потым паступіў у «Мажайку» і пераехаў у Пецярбург. У 2001 г. Расціслаў Іванавіч абараніў кандыдацкую дысертацыю па праблемах аўтаматызацыі сістэм кіравання і сувязі. Але служыць у Ваенна-касмічных войсках далей не захацеў — звольніўся са службы і стаў загадчыкам агенцтва нерухомасці «Легіён», адначасова начальнікам метадычнага аддзела Інстытута нерухомасці Пецярбурга, адначасова старшым выкладчыкам кафедры юрыдычнай псіхалогіі універсітэта МУС. Жонку прывёз з роднага Пінска, а вось іх сын Арцемій і дачка Арыяна ўжо карэнныя пецярбуржцы.

Ураджэнец Полацка кандыдат гістарычных навук **Алег Лысенка** з 1981 г. чытае лекцыі і праводзіць метадычныя заняткі на семінарах, курсах павышэння кваліфікацыі настаўнікаў і супрацоўнікаў музеяў у сістэме Міністэрства народнай адукацыі і Міністэрства культуры РФ (Універсітэт педагагічнага майстэрства, Абласны інстытут павышэння кваліфікацыі настаўнікаў і інш.). Акрамя таго ён з'яўляецца дацэнтам кафедры музеязнаўства і экскурсійнай працы факультэта культуралогіі Санкт-Пецярбургскага універсітэта культуры і мастацтваў (чытае курс «Навуковае праектаванне музейных экспазіцый» і спецкурс «Экспазіцыя як сінтэз музейнай дзейнасці і канцэптуальная прастора музея»), з 1993 г. працуе на пасадзе дацэнта кафедры старажытнага спеўнага мастацтва і фальклору Санкт-Пецярбургскай дзяржаўнай кансерваторыі (чытае курс лекцый «Рэчы ў этнакультурнай прасторы»).

У грамадска-палітычным жыцці Расіі, а значыць і Санкт-Пецярбурга, ад перабудовы і на працягу ўсяго пражытага намі ў XXI ст. часу гучала тэма вайны ў Чачні. Да гэтай драмы далучыліся і некаторыя з пецярбургскіх беларусаў, асабліва з тых, хто служыў у расійскіх сілавых структурах.

«У Чачні расійскія сілавыя ведамствы сутыкнуліся з якасна новымі абставінамі, прынцыпова нетыповай для іх аператыўнай абстаноўкай. Яны аказаліся ўдзельнікамі шырокамаштабнага ўнутранага ўзброенага канфлікту, які мае шэраг прыкмет лакальнай вайны. Паход, падобны да вызвалення Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі, у Чачні не атрымаўся. Давялося весці баявыя дзеянні з комплексным агнявым паражэннем, атакамі, штурмамі, манеўрамі. Спецыяльная аперацыя набыла характар зацяглага агульнавайсковага бою. Гэта абумовіла інтэнсіўнае прымяненне нетрадыцыйных для ўнутраных узброеных канфліктаў сіл і сродкаў: танкаў, артылерыі, франтавой авіяцыі і верталётаў...», — так пачаў адзін з аналітычных артыкулаў дацэнт Санкт-Пецярбургскага універсітэта МУС РФ палкоўнік **Аляксандр Антонавіч Станкевіч**. Напісана з уласнага вопыту: у 1995 г. пры ліквідацыі ўзброеных фармаванняў у Чачэнскай Рэспубліцы Аляксандр Станкевіч камандаваў аператыўнай групай адной з часцей дывізіі імя Феліксa Дзяржынскага. Нарадзіўся Аляксандр Антонавіч 8 ліпеня 1954 г. у старажытных Крывічах Мядзельскага раёна, у родным мястэчку скончыў школу, потым былі вучылішча ў Саратаве і Ваенная Акадэмія імя М. Фрунзе ў Маскве. Загартоўка, якую далі бацькі Яніна Антонаўна і Антон Захаравіч, а таксама любімыя настаўнікі Ліна Пятроўна Пінчук, Ніна Якаўлеўна Камінская, Эльвіра Канстанцінаўна Дубаневіч, дапамагла выдатна вучыцца і займаць акрэсленую жыццёвую пазіцыю. Больш за 30 гадоў служыў Аляксандр на камандных пасадах ва Унутраных войсках, выкладаў у Ваенным інстытуце і на ваеннай кафедры Санкт-Пецярбургскага універсітэта МУС. Напісаў звыш 30 артыкулаў і метадычных дапаможнікаў, шэраг з якіх рэкамендаваны Галоўным камандаваннем войск для выкарыстання ў камандзірскай падрыхтоўцы афіцэраў. Пасля дэмабілізацыі Аляксандр



*Аляксандр Станкевіч*

Станкевіч прайшоў курс навучання ў Стакгольме і Парыжы ў рамках Дзяржаўнай праграмы РФ «Здароўе нацыі». Будучы дырэктарам у кампаніі «SANTEGRA» займаецца развіццём парафармацэўтычнага кірунку ў Пецярбургу і вобласці. Унук матроса-балтыйца Захара Станкевіча недалёка ад Ладажскага возера пабудаваў дом і пасадзіў сад. А яшчэ выгадаваў двух сыноў: Дзмітрый і Ігар Станкевічы цяпер пецярбуржцы, кожны шукае свой шлях у жыцці.

Добрыя арганізацыйныя здольнасці і выдатныя чалавечыя якасці Аляксандра Станкевіча зрабілі яго адным з найбольш вядомых і паважаных дзеячаў беларускага руху ў Пецярбургу пачатку XXI ст.

Калі для братоў Юнацкевічаў ці Аляксандра Станкевіча Санкт-Пецярбургскі універсітэт Міністэрства ўнутраных спраў Расіі толькі адна з ВНУ, дзе яны чытаюць лекцыі, то для прарэктара гэтага універсітэта беларуса **Леаніда Трафімавіча Барадаўкі** (нар. 27 сакавіка 1952 г. у вёсцы Яснаўка Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці) гэта — галоўнае месца працы. Генерал доктар педагагічных навук Леанід Барадаўка праходзіў службу на пасадах курсавога афіцэра, камандзіра роты, начальніка факультэта, намесніка начальніка вучылішча ўнутраных войскаў МУС Расіі — аднаго з самых вялікіх у краіне. Пазней ён намеснік начальніка Санкт-Пецярбургскай акадэміі МУС Расіі па службова-баявой падрыхтоўцы, начальнік факультэта падрыхтоўкі следчых работнікаў, намеснік начальніка, урэшце, начальнік Санкт-Пецярбургскага універсітэта МУС Расіі. Мае дзяржаўныя ўзнагароды: ордэн «За службу Радзіме ва Узброеных сілах СССР», ордэн «За заслугі перад Айчынай». Вынікам навуковых і метадычных распрацовак Леаніда Барадаўкі стаў шэраг кніг, прысвечаных тэарэтычным асновам і практыцы прафесійнага выхавання супрацоўнікаў праваахоўчых органаў у ВНУ, выхаванню свядомай дысцыпліны ваеннаслужачых, асновам бяспекі вайсковай службы, кіраванню ўзводам у баі, арганізацыі, узбраенню і тактыцы дзеянняў падраздзяленняў арміі Кітая.

Пад камандай Леаніда Барадаўкі ва Універсітэце МУС працуе выкладчыкам ураджэнец Гомеля выпускнік гомельскай СШ № 33 **Андрэй Барысавіч Кітаеў**. Пасля заканчэння Рыжскага ваеннага вучылішча Андрэй Кітаеў служыў у ракетных часцях на Беларусі (Паставы — Слуцк — Пухавічы — Петрыкаў), а пасля звальнення ў 1994 г. пераехаў у Пецярбург. Паралельна з выкладаннем спецыяльных дысцыплін Андрэй Кітаеў займаецца журналісцкай працай, ён аўтар гісторыі сям'і Кітаевых, якую напісаў на падставе архіўных дакументаў чатырох пакаленняў сваіх продкаў.

У сярэдзіне XIX ст. у будынку, які мае адрас вул. Вялікая Марская, 16, а цягнецца аж да Мойкі, 61, і Кірпічнага завулка, 8, была вялізная зала для канцэртаў, што памятала выступленне Ферэнца Ліста. Побач, у кватэры вядомага скульптара В. Мухінай, жыла жонка Уладзіміра Леніна Надзея Крупская. У гэтым доме жылі спявак Фёдар Шаляпін і пісьменнік Аляксандр Купрын. Сёння тут размяшчаецца Дзяржаўны універсітэт тэлекамунікацый імя М. Бонч-Бруевіча. Пасля Другой сусветнай вайны намеснікам дырэктара гэтай школы кадраў сувязістаў працаваў ураджэнец хутара Буткі Мінскай вобласці **Мікалай Васілевіч Бутко**. У сённяшнім медыцынскім Пецярбургу важнае месца займае яго ўнук, **Дзімітрый Юр'евіч Бутко** — спецыяліст па неўралогіі, прафесар, доктар медыцынскіх навук. Пасля сканчэння Ваенна-Медыцынскай акадэміі Дзімітрый Бутко служыў доктарам на дызельных падводных лодках, потым працаваў у ВМА і ў Педыятрычнай акадэміі, нарэшце намеснікам дырэктара па вучэбнай і навуковай працы міжнароднай клінікі Медэм.

Энцыклапедыя паведамляе, што пасёлак гарадскога тыпу Антопаль — гэта цэнтр сельсавета ў Драгічынскім раёне Брэсцкай вобласці: 2400 жыхароў, дзве школы (руская і беларуская), дом культуры... крама... Выпускнік антопальскай беларускай школы **Аляксандр Аляксандравіч Гогаль** (нар. 12 чэрвеня 1946 г.) меў чацвёркі толькі па рускай і беларускай мовах, па астатніх прадметах — выдатна. Сын сувязіста, ён вырашыў працягваць бацькаву прафесію яшчэ ў шостым класе. Паступаць паехаў у 1963 г. у Маскоўскі універсітэт, але не закончыў здаваць уступныя экзамены. Збянтэжыла тройка за пісьмовую працу па матэматыцы і тое, што не ўмеў пісаць некаторыя сімвалы, хоць і ведаў, што за гэтымі палачкамі, якія не вывучалі ў антопальскай школе, хавалася. Сакратар прыёмнай камісіі ўгаворвала застацца і пераконвала, што пісьмовая тройка — гэта прахадны бал, аднак Аляксандр забраў дакументы і паехаў з Масквы ў Ленінград. Выйшаў, расказвае, на досвітку на Маскоўскім вакзале, людзей няма, толькі адзін прахожы сабачку выгульвае. Распытаў малады чалавек, дзе вучаць на цікавую яму спецыяльнасць. Той прыпомніў пра Электратэхнічны інстытут імя Ульянава-Леніна і Электратэхнічны інстытут імя Бонч-

Бруевіча. Ульянава-Леніна далёка (патрэбнай веткі метро тады яшчэ не было), а «Бонч» — блізютка — па Неўскім, да трэцяга моста і налева. Выбар быў зроблены на карысць прафесара Бонч-Бруевіча.



*Аляксандр Гогаль*

Задачкі на ўступных экзаменах рашыў гуляючы, вучыўся зацікаўлена. Са студэнцкіх часоў Аляксандр Гогаль развіваўся як спецыяліст у галіне тэлевізійных вымярэнняў і вымярэнняў каляровых характарыстык аб'ектаў. Палюбіў кафедру тэлебачання, пры якой працаваў інжынерам, малодшым навуковым супрацоўнікам, стажорам-даследчыкам; у 1974 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю, а ў 31 год стаў дэканам факультэта... Памятныя тыя гады, бо дэкан — апошні з кіраўніцтва, хто кантактуе з «жывым» студэнтам, хто студэнтаў памятае, каго студэнты памятаюць... З 1979 г. Аляксандр Гогаль — дацэнт кафедры тэлебачання, з 1987 г. — прарэктар інстытута. У перыяд перабудовы (з 1992 г.) ён прызначаны першым прарэктарам ЛЭТІ, а ў 1999 г. абраны рэктарам на той час ужо Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага універсітэта тэлекамунікацый імя праф. Бонч-Бруевіча. Мае званні «Майстар сувязі» і «Ганаровы сувязіст», з'яўляецца правадзейным членам Міжнароднай акадэміі навук Вышэйшай школы і Міжнароднай акадэміі сувязі. Аляксандр Аляксандравіч сааўтар трох падручнікаў па тэлебачанні і кнігі «Развіццё сувязі ў Расіі. З гісторыі ў будучыню», над якой ён працаваў разам з міністрам РФ па сувязі і інфарматызацыі Л. Д. Рэйманам. Аляксандр Гогаль працягвае добрую традыцыю беларусаў-электратэхнікаў дарэвалюцыйнага Пецярбурга — Іпаліта Яўневіча і Уладзіміра Міткевіча. Апошні не толькі выкладаў электратэхніку ў Пецярбургскім электратэхнічным інстытуце, але і працаваў (у 1914–1919 гг.) кансультантам завода «Сіменс-Гальске». Аляксандр Гогаль стаў рухавіком аднаўлення кантактаў з гэтай сусветна вядомай электратэхнічнай фірмай. Яшчэ ў 1993 г. ён наладзіў сумеснае навучанне пецярбургскіх, калінінградскіх і нямецкіх студэнтаў, у 2003 г. разам з членам цэнтральнага праўлення і кіраўніком дэпартаменту фірмы «Сіменс АГ» Фолькерам Юнгам выпусціў кнігу «Siemens: мінулае, сучаснасць, будучыня тэлекамунікацыі Расіі». Акрамя добра падабранага гістарычнага матэрыялу гэтая кніга паказвае сучаснасць і разважае пра будучыню. Некаторыя разважанні апошняй часткі, акрамя агляду тэхнічных праблем, датычаць, між іншым, гандлю кнігай праз Інтэрнэт: «Нам ужо не трэба будзе шукаць кампетэнтнага прадаўца, з якім выпадкова пазнаёміліся падчас апошняга наведвання кнігарні. Калі вы не ўпэўнены, ці добрая кніга, то можна будзе выкарыстаць водгукі іншых кліентаў або крытычны каментарый выдаўцтва. Часам нават можна атрымаць з сеціва кавалкі тэксту, для пробнага чытання без капання на кніжных паліцах»[1], — зручная, але бязрадасная перспектыва.

Рэктар Гогаль ганарыцца, што вытрымаў «на плаву» карабель інстытута ў цяжкія гады перабудовы і занядбання ганаровай прафесіі інжынера. Мінулі гады, калі Электратэхнічнаму інстытуту не было чым заплаціць за спаленую пры навучанні студэнтаў электрычнасць, а ахвотных навучацца было так мала, што мусілі скарачаць прыём студэнтаў. У 2003-м, юбілейным для Пецярбурга годзе, конкурс у «Бонч» складаў ужо 20 чалавек на месца, акрамя 600 чалавек бясплатных месцаў набіралі яшчэ і 600 на платнае навучанне.

Дырэктар сацыялагічнай лабараторыі Санкт-Пецярбургскага політэхнічнага універсітэта **Ігар Уладзіміравіч Жураўскі** пры ўсёй важнасці сваёй прафесійнай дзейнасці застаецца ў гісторыі беларускага Пецярбурга перш за ўсё са сваімі творчымі працамі. Ён нарадзіўся ў Ленінградзе, закончыў філасофскі факультэт універсітэта. Кіпучую творчую

[1] *Юнг Ф., Гоголь А. А.* Siemens: прошлое, настоящее, будущее телекоммуникации России. Мюнхен–СПб., 2003. С. 250.

энергію накіраваў на мастацкую фатаграфію і выраб цацак. Больш як 300 экспанатаў яго хатняга музея — героі казак і мультфільмаў, якіх Ігар Жураўскі выконвае з педантычнай дакладнасцю паводле аўтарскіх апісанняў — ці то персанаж аўтарскі (Урфін Джус і яго драўляныя салдаты), ці то казачны (Баба Яга). Персанальная выстава самаробных цацак у Расійскай Нацыянальнай бібліятэцы дала шматлікія пазітыўныя водгукі. Яшчэ адно захапленне Ігара Жураўскага — фатаграфія, якая таксама прынесла творчы здабытак. Ён нястомны шукальнік арыгінальных сюжэтаў, у тым ліку гарадскіх пейзажаў у нязвыклых ракурсах, з прыемнасцю здымае прыроду. Цыклы фотаздымкаў «Ваколіцы Пецярбурга ў спалучэнні з сярэднявечнымі японскімі хайку» і «Гарадскія акалічнасці» сталі заўважнай з'явай у мастацкім жыцці. Навуковыя зацікаўленні Ігара Уладзіміравіча праявіліся ў выступленні на канферэнцыі «Санкт-Пецярбург і беларуская культура» з тэмай «Цар Гарох», якое ён ілюстраваў самаробнымі цацкамі. У актыве таксама чатыры выставы (у розных бібліятэках горада) цацак, якія ажывілі герояў любімых дзіцячых кніг.



*Ігар Жураўскі*

Месцам нефармальных кантактаў пецярбургскіх вучоных быў і застаецца Дом вучоных імя М. Горкага АН СССР, якому аддадзены адзін з прыгажэйшых палацаў Дварцовай набярэжнай, былы (у царскія часы) асабняк Міністэрства замежных спраў Расіі. На працягу некалькіх гадоў (1973—1985) у ім навуковай секцыяй «Аэрапорты і аўтамабільныя дарогі» кіраваў беларус прафесар **Васіль Кнацько**. Адным з кіраўнікоў Дома вучоных на мяжы XXI ст. стаў доктар тэхнічных навук **Януш Браніслававіч Данілевіч** (нар. 6 снежня 1931 г. у Вільні), які ў 1950—1970-я гг. паспяхова займаўся праблемамі энергетыкі ў Пецярбургскім навуковым цэнтры РАН.

На кнігазнаўчых чытаннях, арганізаваных Вілі Пятрыцкім, па беларускай праблематыцы выступалі мінчанін Георгій Галенчанка і Яраслаў Ісаевіч з Львова. Стваральнікам новага навуковага кірунку і секцыі мнемалогіі ў ленінградскім Доме вучоных стаў ураджэнец Беластока **Леанід Паўлавіч Крайзмер** (нар. 29 мая 1912 г.). Мнемалогію ён вызначыў як навуку пра памяць кібернетычных сістэм, безадносна да іх прыроды: сюды ўключаецца памяць чалавека і жывёл, памяць тэхнічных сістэм, памяць грамадства — бібліятэкі, фанатэкі, архівы etc. У 1960-я гг. Леанід Крайзмер выканаў шэраг важных фундаментальных даследаванняў у галіне мнемалогіі ў сувязі з развіццём вылічальнай тэхнікі ў СССР — прыгадаем, што гэта былі тыя няпростыя часы, калі кібернетыку афіцыйна лічылі буржуазнай ілжэнавукай.

Акрамя Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі, у часы СССР важным цэнтрам археалагічнага вывучэння Беларусі было Ленінградскае аддзяленне Інстытута археалогіі АН СССР. Адсюль у 1956 г. на даследаванне тэрыторыі Заходняй Беларусі была накіравана экспедыцыя пад кіраўніцтвам **Фрыды Давыдаўны Гурэвіч** (1911—1987). У басейне Верхняга Нёмана экспедыцыя знайшла шэраг гарадзішчаў, неўмацаваных паселішчаў, курганных і грунтовых магільнікаў. Выхад ў свет манаграфіі Ф. Гурэвіч «Древности Белорусского Понеманья» (М.-Л., 1962) і навукова-папулярнай кнігі «Древние города Белорусского Понеманья» (Мінск, 1982) раздзелены перыядам у дваццаць гадоў, але тым не менш цесна звязаны паміж сабой. Абедзве прысвечаны гарадам Панямоння, усе звесткі пра гісторыю якіх абмяжоўваліся вельмі скупымі ўспамінамі ў летапісах канца XII ст. Уважліва прааналізаваўшы матэрыялы археалагічных помнікаў вельмі вялікага храналагічнага дыяпазону, супаставіўшы іх з дадзенымі археалагічных раскопак і з пісьмовымі сведчаннямі, аўтар прыйшла да важных высноў этнагенетычнага характару. Яна паказвае, што засяленне Беларусі са старажытных часоў і да ўтварэння беларускай

народнасці ішло неперарыўнымі хвалямі, якія складаліся з розных этнічных кампанентаў: яны змешваліся, зліваліся і ўзаемадзейнічалі адзін з другім, а таксама адны з іх асімілявалі другіх. Гэта былі першабытныя славянскія і ўсходнелітоўскія плямёны. Ф. Д. Гурэвіч пераканаўча паказала, наколькі памылковая ўстойлівая думка гісторыкаў пра тое, што славяне з'явіліся на гэтай тэрыторыі не раней як у XI ст. Археалагічны матэрыял дазволіў ёй лічыць, што ўжо ў канцы I тысячагоддзя н.э. у Панямонні выразна паўстала славяна-літоўская этнічная мяжа, якая захоўвалася на працягу некалькіх стагоддзяў. Паводле даследчыцы, ужо з канца X — пачатку XI ст. Беларускае Панямонне паўстае як адзін з выразных асяродкаў культуры, які ўвабраў у сябе шматлікія элементы культуры суседняй паўднёва-заходняй Русі і ўсходніх балтаў.

У навукова-папулярнай кнізе «Древние города Белорусского Понеманья» сцісла, у вельмі лаканічнай форме падведзены вынікі археалагічных даследаванняў старажытных гарадоў — Ваўкавыска, Гродна, Навагрудка. Прадставіўшы гарады Панямоння ва ўсім багацці іх гаспадарчага і культурнага развіцця, Ф. Д. Гурэвіч зрабіла неацэнны ўклад у вывучэнне старабеларускай гарадской культуры XII—XIII стст., надала ёй новыя фарбы і новае гучанне.

У кожнага даследчыка ёсць свае навуковыя сюжэты і помнікі, якія маюць асаблівую прыцягальную сілу, і праца над іх вывучэннем выклікае стан вялізнага творчага ўздыму. Безумоўна, такім помнікам стаў для Ф. Д. Гурэвіч Навагрудак — аб'ект напружанай барацьбы паміж самаўладцам Літоўскай зямлі Міндоўгам і князем Даніілам Галіцкім яшчэ ў XIII ст. Раскопкі гэтага помніка пад кіраўніцтвам Ф. Д. Гурэвіч праводзіліся з 1956 да 1985 г. Знаходкі кожнага палявога сезона прывозіліся ў Ленінград, тут рабіліся прадметам вывучэння не толькі самой Ф. Д. Гурэвіч, але і іншых спецыялістаў — гісторыкаў, мастацтвазнаўцаў... Ужо першыя доследы паказалі, што Навагрудак рэзка адрозніваецца ад тыповых гарадскіх пасяленняў лясной паласы XII—XIII стст. Вынікі раскопак Навагрудскага замка пададзены ў іншай кнізе, якую чытач атрымаў толькі ў 2003 г., хоць апошнюю кропку ў ёй Ф. Д. Гурэвіч паставіла літаральна напярэдадні свайго скону. Манаграфія «Старажытны Навагрудак — летапісны Новогородок», якая выйшла дзякуючы ініцыятыве вучняў і сяброў Ф. Гурэвіч, застаецца адной з найлепшых савецкіх археалагічных манаграфій. Тое, што яна спазнілася амаль на пятнаццаць гадоў, не змяншае вартасці выдання. Матэрыялы археалагічных раскопак Замкавай гары Навагрудка скарыстае гісторык, археолаг, культуролаг, краязнавец. Багатая эрудыцыя і велізарная працаздольнасць аўтара, педантычнасць і паслядоўнасць яе палявой работы далі магчымасць «загаварыць» навагрудскім узвышшам, а зацікаўленаму чытачу прасачыць за лёсам аднаго з самых старажытных беларускіх гарадоў.

Акрамя Ф. Д. Гурэвіч археалагічныя раскопкі на тэрыторыі Беларусі праводзілі іншыя ленінградскія археолагі: раскапаў і зрабіў рэканструкцыі знешняга выгляду полацкіх дамангольскіх цэркваў Павел Рапапорт, Марыяна Малеўская-Малевіч вывучала архітэктуру Навагрудскага дзядзінца, раскапала тут муры праваслаўнай царквы XIV ст. і рэшткі больш позняга уніяцкага храма XVIII ст., а Міхаіл Каргер у тым жа Навагрудку пры раскопках Барысаглебскай царквы высветліў, што ў далітоўскі перыяд яна была абкружана галерэяй і мела падлогу з паліванай плітачкі розных колераў. Супрацоўніца Рускага музея І. Пляшанава даследавала тураўскі разны абразок XVI ст. князя Фёдара Яраславіча, супрацоўніца Дзяржаўнага Эрмітажа Р. Джан-Паладзян вывучала шкляны посуд з раскопак Навагрудка, ленінградскі архітэктар-гісторык Ю. Спягальскі зрабіў рэканструкцыю пабудоў навагрудскага вакольнага горада, а супрацоўнік Пушкінскага Дома (Інстытут рускай літаратуры) І. Яромін падрыхтаваў шэраг грунтоўных даследаванняў па Кірыле Тураўскім і апублікаваў тэксты Сімяона Полацкага... Спіс гэты далёка не поўны.

Прыродазнаўцаў беларускага паходжання ў Ленінградзе-Пецярбургу працавала шмат, яны прадстаўляюць розныя галіны і адгалінаванні навукі пра навакольны свет.

Фізік **Аляксандр Браніслававіч Вярыга** (1893—1953) прадметам сваіх навуковых зацікаўленняў зрабіў касмічныя промні і радыяцыю. Працаваць пачаў у радыевым інстытуце ў Петраградзе (1918) і Галоўнай геафізічнай абсерваторыі (1925—1937). Прага спазнаць універсалізм прыроды спакусіла Аляксандра Вярыгу да ўдзелу ў экспедыцыях на Эльбрус, пагружэнняў на падводнай лодцы, паветраплаванняў на стратастаце. Значным укладам у навуку стала яго прапанова падзяляць касмічныя промні на мяккія і жосткія.

З інтэлігентнай сям'і віленскіх настаўнікаў паходзілі два выдатныя пецярбургскія

навукоўцы-прыродазнаўцы: астраном **Дзмітрый Ануфрыевіч Махнач** (1904–1978) і біяхімік **Уладзімір Ануфрыевіч Махнач** (1899–1974). У 1907 г., пасля смерці маці, бацька — школьны настаўнік перавёз хлопчыкаў на сваю радзіму ў Рэчыцу Мінскай губерні (цяпер Гомельская вобласць), дзе яны вучыліся ў сярэдняй школе. Дзмітрый у 1930 г. закончыў фізіка-матэматычны факультэт Ленінградскага універсітэта. Студэнтам удзельнічаў у навуковых экспедыцыях: у 1927 г. ад Пулкаўскай абсерваторыі на мыс Нанісары, у 1928 г. даследаваў паскарэнне сілы цяжару ў Крыме (Астранамічны інстытут АН СССР). У 1933 г. ён удзельнік экспедыцыі на мыс Чалюскіна на ледаколе «Сібіракоў» пад кіраўніцтвам прафесара В. Ю. Візэ, а ў 1937 г. — экспедыцыі Галоўнага ўпраўлення Паўночнага марскога шляху (Севморпути) на востраў Урангеля. У гады Другой сусветнай вайны Дзмітрый Ануфрыевіч праводзіў палявыя доследы для Галоўнага ўпраўлення гідралогіі і картаграфіі пры СНК СССР на палярным Урале. Пасля заканчэння вайны працаваў у Пулкаўскай абсерваторыі, выкладаў у ВНУ Ленінграда. Доктар фізіка-матэматычных навук і прафесар Дзмітрый Махнач стварыў арыгінальную тэорыю пабудовы ізафот камет і сфармуляваў асноўны закон размеркавання бачнай яркасці ў галаве каметы пры ўмове раўнамернай эмісіі часціц у часе і прасторы (закон Махнача) незалежна ад накіраванасці зроку назіральніка адносна гэтай сілы. Ён упершыню паказаў, што фотаметрычнае ядро каметы не супадае з гравітацыйным цэнтрам, давёў, што адхіленні ад закону размеркавання бачнай яркасці звязаны з неізатопнасцю эмісіі бацькоўскіх малекул галавы каметы і асаблівасцямі фотадысацыяцыі малекул, якія свецяцца. Даследаваў прычыны фармавання хваста камет і вызначыў іх асноўныя фізічныя характарыстыкі. Дзмітрый Махнач надрукаваў свае навуковыя працы ў перыёдыках «Доклады АН СССР» і «Астрономический журнал».

Нашмат больш цяжкі лёс напаткаў яго роднага брата біяхіміка **Уладзіміра Ануфрыевіча Махнача** (1899–1974). Бліскучая кар’ера біёлага прывяла яго пасля атрымання вышэйшай адукацыі ў Ленінградзе на Далёкі Усход на пасаду дырэктара інстытута ва Уладзівастоку. Абвінавачанне ў шпіянажы на карысць Японіі адмовіць было немагчыма хоць бы з прычыны абсурднасці. На той час Уладзімір Махнач яшчэ не стаў стваральнікам новага класа лекавых прэпаратаў — ёдвысокапалімераў, у тым ліку ёдынолу. Навуковае адкрыццё ён зрабіў у сталінскім лагеры, калі дапамагаў пазбаўленым вітамінаў і добрага харчавання вязням змагацца з эпідэміяй, атрымаўшы лекавы ёд з бульбянога шалупіння. Карысць і роднаму краю, паколькі тэрыторыя Беларусі належыць да зоны беднай на ёд[1]. Каштоўнасць прац Уладзіміра Махнача асаблівая для распаўсюджвання ёдаванай солі — гэта асабліва важна на тэрыторыях забруджаных радыеактыўнымі элементамі — наступствам чарнобыльскай аварыі. У каталогу Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі да сёння побач стаяць карткі з апісаннем кніг Уладзіміра і Змітра Махначоў, а таксама ўрача Іны Васільеўны Махнач — жонкі Уладзіміра Ануфрыевіча.

Значны ўклад у біялогію зрабіў у Ленінградзе-Пецярбургу ўраджэнец г. Калінкавічы **Ян Юдавіч Камісарчык** (нар. 31 жніўня 1927 г.) — доктар біялагічных навук, прафесар, навуковы супрацоўнік Інстытута цыталогіі РАН. Ён распрацаваў і ўдасканаліў фізічныя метады прэпаравання аб’ектаў для наступнага аналізу электроннай мікраскапіяй і ў выніку атрымаў прынцыпова важныя звесткі ў галіне мембраннай і клеткавай біялогіі.

Ленінградскі політэхнічны інстытут імя М. Калініна закончыў ў 1942 г. **Міхаіл Іванавіч Будыка** (нар. 20 студзеня 1920 г. у Гомелі). Адразу пасля выпуску ўладкаваўся ў Галоўную геафізічную абсерваторыю імя А. Ваейкава і працаваў тут да 1975 г., у тым ліку ў 1954–1972 гг. — дырэктарам. З 1975 г. Міхаіл Будыка загадчык аддзела вывучэння змен клімату Дзяржаўнага гідралагічнага інстытута. Займаўся ён даследаваннямі ў галіне кліматалогіі, фізікі атмасферы, гідралогіі сушы, акіяналогіі, фізічнай геаграфіі, палеанталогіі, геахіміі. З 1964 г. быў абраны членам-карэспандэнтам АН СССР, з 1992 г. — правадзейным членам (акадэмікам) Акадэміі навук. Міхаіл Іванавіч вельмі пладавіты аўтар: ён напісаў 24 навуковыя манаграфіі і дзве навукова-папулярныя кнігі. Акадэмік Будыка — ганаровы член Геаграфічнага таварыства і Амерыканскага метэаралагічнага таварыства. Ён таксама лаўрэат навуковых прэмій: Ленінскай (1958), імя А. Вінаградава (1981), імя А. Грыгор’ева (1955), узнагароджаны шматлікімі ордэнамі і медалямі, сярод якіх залаты медаль імя Ф. Літке (1972), залаты медаль Сусветнай метэаралагічнай асацыяцыі (1987), медаль імя Роберта Хортана (1994).

[1] *Мохнач В. О.* Иод и проблемы жизни. Л., 1974.

У сакавіку 2006 г. у Пецярбургскай філармоніі адбыўся канцэрт ў гонар самага знакамітага сучасніка — прадстаўніка прыродазнаўчых навук, ганаровага грамадзяніна Віцебска, Санкт-Пецярбурга і Мінска. Горад ганараваў фізіка **Жарэса Іванавіча Алфёрава**, які нарадзіўся 15 сакавіка 1930 г. у Віцебску. Бацькі яго — Іван Карпавіч і Ганна Уладзіміраўна, нарадзіліся і жылі ў Беларусі. Бацька ўдзельнічаў у Кастрычніцкай рэвалюцыі, у часы Грамадзянскай вайны камандаваў палком Чырвонай арміі. На момант нараджэння сына Жарэса быў дырэктарам аднаго з заводаў у Віцебску. Вучыўся Жарэс Алфёраў у мінскай сярэдняй школе № 42, якую закончыў у 1947 г. Паступіў у Беларускі політэхнічны інстытут, потым перавёўся ў Ленінградскі электратэхнічны інстытут, які выдатна скончыў у 1952 г. З 1953 г. Алфёраў працуе ў Фізіка-тэхнічным інстытуце імя Іоффе АН СССР: з 1973 г. — загадчык лабараторыі, з 1987 г. — дырэктар. Адначасова з 1972 г. малады фізік з'яўляецца прафесарам кафедры оптаэлектронікі Ленінградскага электратэхнічнага інстытута (цяпер Санкт-Пецярбургскі электратэхнічны універсітэт) і дэканам фізіка-тэхнічнага факультэта Ленінградскага політэхнічнага інстытута.



*Жарэс Алфёраў*

Жарэс Алфёраў прымаў удзел у стварэнні першых савецкіх транзістараў і фотадыёдаў, магутных германіевых выпрамляльнікаў. Некаторыя вынікі яго фундаментальных прац леглі ў аснову вытворчасці сонечных элементаў для касмічных батарэй. Вучоны-фізік патрохуператвараўся ў адміністратара навукі. З 1989 г. Ж. Алфёраў — старшыня прэзідыума Санкт-Пецярбургскага навуковага цэнтра Расійскай АН. У 1991 г. яго абралі віцэ-прэзідэнтам РАН. Самая прэстыжная ўзнагарода — Нобелеўская прэмія ў галіне фізікі была прысуджана яму (сумесна з амерыканскімі вучонымі Гербертам Кромерам і Джэкам Кілбі) у 2000 г. У ліпені 2006 г. вучоны прыбыў у Мінск разам з кіраўнікамі фондаў яго імя, якія дзейнічаюць у Санкт-Пецярбургу і Італіі. Падчас сустрэчы з прэм'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь Сяргеем Сідорскім дамовіўся пра супрацоўніцтва праз Парк высокіх тэхналогій у развіцці і ўжыванні паўправадніковых электронных прыладаў, а таксама пра інфармацыйныя тэхналогіі ўвогуле. Актыўна ўдзельнічае Жарэс Алфёраў у палітычным жыцці Пецярбурга. Перад муніцыпальнымі выбарамі (27 студзеня 2007 г.) Санкт-Пецярбургскае гарадское аддзяленне КПРФ выпусціла газету-аднадзёнку «Питерская Правда», дзе вялікімі чырвонымі літарамі было набрана: «***Жарэс Алфёраў, віцэ-прэзідэнт РАН, лаўрэат Нобелеўскай прэміі: я — з піцерскімі камуністамі!***». Далей акадэмік жорстка крытыкаваў галоўныя праекты дзейнага мэра Валянціны Матвіенкі.

Побач з Жарэсам Алфёравым усё жыццё працаваў яго зямляк, спецыяліст у галіне оптыкі і фізікі цвёрдага цела, ураджэнец Оршы **Барыс Пятровіч Захарчэня** (1.05.1928–10.04.2005). Пасля навучання ў Ленінградскім універсітэце малады фізік прыйшоў у Фізіка-тэхнічны інстыт імя А. Іоффе АН СССР лабарантам, потым быў малодшым навуковым супрацоўнікам, а з 1989 г. Барыс Захарчэня прызначаны дырэктарам аддзялення фізікі цвёрдага цела. Таленавіты навуковец шмат часу аддаваў выкладчыцкай працы: з 1972 г. да канца жыцця ён быў прафесарам кафедры оптаэлектронікі Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага электратэхнічнага універсітэта (ЛЭТУ) імя У. Ульянава (Леніна), доўгі




*Магіла Барыса Захарчэні на Нікольскіх могілках Аляксандра-Неўскай лаўры*

час — галоўным рэдактарам часопіса «Фізіка цвёрдага цела». У 1976 г. Барыса Пятровіча абралі членам-карэспандэнтам АН СССР, у 1992 г. — акадэмікам РАН. Сярод найбольшых ягоных дасягненняў у навуцы — доказ (у 1967—1968 гг.) існавання дыямагнітных эксітонаў; у 1977 г. сумесна з калегамі Барыс Захарчэня адкрыў эфект выстройвання гарачых электронаў святлом. Вялікі ўклад ён зрабіў у развіццё шэрагу кірункаў оптыкі і спектраскапіі крышталяў, а таксама выкарыстанне ў тэхніцы фазавага пераходу метал-паўправаднік у аксідах ванадыю. За навуковыя адкрыцці Барыс Пятровіч у 1966 г. узнагароджаны Ленінскай, а ў 1977 г. — Дзяржаўнай прэміяй СССР.

У галіне праектавання і канструявання радыёэлектронных і электронных вылічальных прыбораў выдатных поспехаў дасягнуў ураджэнец г. Багушэўска Віцебскай вобласці **Пётр Ільіч Аўсішчэр** (2.06.1928—25.08.1999). Выпускнік Ленінградскага інстытута авіяцыйнага прыборабудавання, доктар тэхнічных навук (1989), ён распрацаваў функцыянальна-вузлавы метад праектавання радыёэлектроннай апаратуры. Яго распрацоўка — БНК (базавыя нясучыя канструкцыі) — дасёння застаецца фундаментам для тыпізацыі рашэнняў электронных модуляў. Пётр Аўсішчэр зрабіў важкі ўклад у методыку стварэння высокатэхналагічнай радыёэлектроннай апаратуры абароннага і народна-гаспадарчага прызначэння. Старэйшы сын Пятра Ільіча Леанід працуе цяпер у тэкстыльнай прамысловасці, малодшы — Ігар Пятровіч — кіруе фірмай, якая распрацоўвае і вырабляе сістэмы бяспекі.

Найвялікшым знаўцам фізічных праблем метралогіі быў **Сцяпан Вячаслававіч Гарбацэвіч** (1905—1979). Нарадзіўся ён у вёсцы Скароднае на Гомельшчыне. Закончыў у 1930 г. Ленінградскі політэхнічны інстытут. Пяцьдзесят два гады (1927—1979) адпрацаваў у Галоўнай палаце мераў і вагаў (пазней Навукова-даследчы інстытут метралогіі імя Д. Мендзялеева): навуковым супрацоўнікам, кіраўніком лабараторыі, намеснікам дырэктара. Сцяпан Гарбацэвіч распрацаваў метады і прыборы для вымярэнняў электрычнай магутнасці, энергіі высокіх напружанняў і вялікіх токаў. Акрамя гэтага ён прымаў удзел у распрацоўцы і ўдасканаленні эталонаў адзінак фізічных велічынь, у прыватнасці, эталона ампера, вольта і ома (1944—1960). Выкладаў у Інстытуце інжынераў чыгуначнага транспарту, Вышэйшым ваенна-марскім інжынерным вучылішчы імя Дзяржынскага, Ленінградскім караблебудаўнічым інстытуце, загадваў кафедрай фізікі ў Паўночна-Заходнім завочным політэхнічным інстытуце. Яго зямляк і старэйшы калега — ураджэнец вёскі Мецярэчча Гродзенскай губерні **Аляксандр Мікалаевіч Дабрахотаў** (1868—1942). Скончыў фізіка-матэматычны факультэт Санкт-Пецярбургскага універсітэта (1894) і з гэтага года да смерці працаваў у Галоўнай палаце мераў і вагаў на пасадах упраўляючага (1921—1922), дырэктара Праверачнага інстытута (1922—1929), кіраўніка лабараторыі мераў масы і групы лабараторый асноўных адзінак (1934—1942). Памёр у блакадным Ленінградзе. Займаўся вызначэннем шчыльнасці і аб'ёму парашковых рэчываў, для чаго сканструяваў арыгінальныя вымяральныя прыборы: аб'ёмамеры, нармальныя пуркі, ізахронныя і метралагічныя вагі.

Супрацоўніцай інстытута «Ленгідрапраект» стала пасля заканчэння геаграфічнага факультэта ЛДУ **Раіса Міхайлаўна Барадзіна**. Нарадзілася 23 верасня 1930 г. у Ветцы, пасля вайны і эвакуацыі ў Саратаў вярнулася ў родны горад, закончыла тут сярэднюю школу (яе аднакласнікам быў Уладзімір Ігнацьевіч Бровікаў, у будучым старшыня Савета Міністраў БССР). Паступіла на фізічны факультэт Ленінградскага універсітэта, але, сустрэўшыся ў студэнцкім інтэрнаце з навучэнцамі геафака, якія ўсё лета праводзілі ў экспедыцыях і вярталіся поўныя незабыўных уражанняў і (што немалаважна), зарабіўшы значныя «палявыя» грошы, Раіса перавялася на факультэт геаграфіі. Працавала на будоўлях Саяна-Шушанскай і Краснаярскай гідраэлектрастанцый, удзельнічала ў падрыхтоўцы будаўніцтва і эксплуатацыі пецярбургскай дамбы. Пасля выхаду на пенсію Раіса Міхайлаўна з уласцівай ёй энергічнасцю ўзялася за прапаганду роднай беларускай песні. 21 сакавіка 2006 г. (у дзень роднай мовы) яна па сваёй ініцыятыве выступіла перад студэнтамі-паланістамі філфака ЛДУ, якія выбралі для вывучэння як другую славянскую беларускую мову. Развучыла з імі песню на словы Ніла Гілевіча «Родная мова», музыку да якой напісала яе родная сястра мінчанка Ніна Сакалова (Барадзіна). Растлумачыла студэнтам, што кампазітар навучалася ў гэтым жа будынку, на ўсходнім факультэце ЛДУ.

Адным з буйнейшых інстытутаў Расійскай Акадэміі навук з'яўляецца Пецярбургскі батанічны інстытут. Яшчэ ў XIX ст. багатую калекцыю флоры Сібіры сабраў і перадаў у Галоўны батанічны сад на Петраградскай

старане беларус-падарожнік, геабатанік і ўрач **Т. Аўгусціновіч** (1809–1891), які нарадзіўся ў Віленскай губерні. У савецкі час з Батанічным інстытутам звязаны лёсы некалькіх выдатных беларусаў. Найперш гэта **Васіль Феафілавіч Купрэвіч** (1897–1969). Ураджэнец вёскі Кальнікі Барысаўскага павета (цяпер Смалявіцкі раён), ён пецярбуржцам першы раз стаў у 1913 г., калі прыехаў сюды вучыцца ў школе юнгаў. У 1915 г., калі ўжо ішла Першая сусветная вайна, Васіля Купрэвіча прызвалі на службу на баявы карабель Балтыйскага флоту эсмінец «Самсон». У пачатку кастрычніка 1917 г. ён удзельнічаў у Маазундскім марскім баі з нямецкай эскадрай, а ўжо 25 кастрычніка прымаў удзел ва ўстанаўленні Савецкай улады ў Петраградзе. Першы петраградскі перыяд жыцця Васіля Купрэвіча скончыўся ў 1918 г. — малады чалавек сур'ёзна захварэў, быў дэмабілізаваны з флоту і выехаў на радзіму, каб заняцца там біялогіяй. Другі раз у горадзе Купрэвіч з'явіўся ў 1931 г.: Інстытут біялагічных навук АН БССР прыняў яго ў аспірантуру і накіраваў для навуковай падрыхтоўкі ў Ленінград. Пад кіраўніцтвам акадэміка У. Любіменкі і прафесара У. Траншэля ён у 1934 г. абараніў у Батанічным інстытуце кандыдацкую дысертацыю «Фізіялагічныя звесткі пра шкоднасць грыбных і вірусных хвароб культурных раслін»[1]. Прыехаў у Мінск толькі на кароткі перыяд — каб у 1938 г. вярнуцца ў Ленінградскі батанічны інстытут на пасаду навуковага супрацоўніка, а неўзабаве і загадчыка лабараторыі. У 1949 г. Прэзідыум АН СССР прызначыў Васіля Купрэвіча дырэктарам Батанічнага інстытута АН СССР. Тыповы вылучэнец, ён пакінуў па сабе добры ўспамін у родным інстытуце. У студзені 1952 г. В. Купрэвіч стаў прэзідэнтам Акадэміі навук Беларусі і пераязджае жыць у Мінск[2].

У XXI ст. пасаду намесніка дырэктара па навуцы Батанічнага інстытута выконвае беларус **Дзмітрый Віктаравіч Гільтман**, выпускнік 19-й мінскай сярэдняй школы, які пасля мэтавай аспірантуры застаўся ў Пецярбургу.



*Мечыслаў Жыгала*

Нарыс пра прадстаўнікоў вышэйшай школы будзе няпоўны, калі не ўспомніць ураджэнку Кранштадта прафесара кафедры псіхалогіі Санкт-Пецярбургскага універсітэта культуры, доктара філасофскіх навук **Людмілу Міхайлаўну Панкову**, бо яе другая радзіма — вёска Рудня Расонскага раёна Віцебскай вобласці. Яшчэ адзін вядомы ў горадзе філосаф-беларус — **Рыгор Васілевіч Стэльмашук** (нар. 06.05.1941 у в. Дружылавічы Янаўскага раёна Брэсцкай вобласці). Выпускнік СШ у Дастоеве стаў доктарам філасофскіх навук, спецыялістам па сацыяльнай філасофіі і культуралогіі, адным з заснавальнікаў Ленінградскага дзяржаўнага універсітэта імя А.С. Пушкіна (абрэвіятура назвы — ЛДУ — падобная на абрэвіятуру назвы «вялікага» універсітэта да перайменавання гораду). А вось выпускнік факультэта геаграфіі і біялогіі Ленінградскага педагагічнага інстытута **Мечыслаў Леапольдавіч Жыгала** (нар. 25.01.1957 у Беліцы Лідскага раёна) пачынаў сваю кар'еру настаўнікам у ведамасных чыгуначных школах Ленінградскай вобласці. Пасля 18 гадоў дырэктарства ў школе пасёлка Мга ён перайшоў на працу ў Пецярбург, дзе ўзначаліў дырэкцыю сацыяльнай сферы Кастрычніцкай чыгункі — велізарную гаспадарку, якая складаецца не толькі з сярэдніх школаў і спецыяльных навучальных установаў, але і дзіцячых аздараўляльных лагераў, базаў адпачынку, дамоў культуры, раскіданых на прасторы ад Мурманска да Пскова.

[1] *Ганчарык М. М.* Рэвалюцыянер, арганізатар, вучоны. Жыццё і дзейнасць В. Ф. Купрэвіча (1897–1969). Мінск, 1981.

[2] Як прэзідэнт АН БССР Васіль Купрэвіч паспрыяў пераезду ў Мінск многіх вучоных-ленінградцаў: фізікаў А. Сеўчанкі, Б. Сцяпанава, М. Ельяшэвіча, матэматыкаў М. Яругіна, У. Крылова, біёлагаў М. Турбіна, І. Булыгіна і іншых.

# Раздзел 21.

## БЕЛАРУСКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ Ў СУЧАСНЫМ ПЕЦЯРБУРГУ

У 2003 г. Санкт-Пецярбургу споўнілася 300 гадоў. Горад сустракаў канец свайго трэцяга стагоддзя і пачатак чацвёртага не ў лепшай форме: ад 1980-х гг. колькасць жыхароў у Пецярбургу пастаянна меншала. У 2003 г. нарадзіліся 37 тысяч чалавек, а памерлі — 75 тысяч[1].

Да юбілею рыхтаваліся: на Неўскім былі пакладзены тратуары з гранітнай пліткі, адрамантавана шмат фасадаў, умацаваны фундаменты Публічнай бібліятэкі, пакладзены пласцікавыя трубы для водаправода і заменена пакрыццё Неўскага, Уладзімірскага, Ліцейнага і Загараднага праспектаў... Гораду дарылі падарункі іншыя гарады і краіны. Швейцарцы падаравалі швейцарскія гадзіннікі, якія зманціравалі на цэнтральных вуліцах і перонах Віцебскага вакзала, латышы падарылі помнік Пятру І, які выпадкова апынуўся ў Рызе (тым самым ад яго пазбавіліся), фіны падарылі ачышчальныя збудаванні (станцыю аэрацыі), тым самым ачысціўшы ваду Фінскага заліва ад значнай часткі бруду вялікага горада... Беларускім падарункам была стылізаваная пад старажытнасць гармата, якую адлілі на адным з віцебскіх заводаў.

Былі і лакальныя святы. Радаснай падзеяй ў жыцці Спаса-Паргалаўскай царквы стала ўсталяванне на званіцы новых званоў: «Колокол сей лит в год 300-летия Санкт-Петербурга, для храма образа Спаса Нерукотворнаго в Шувалове при Его Святейшестве Алексии II, Патриархе Московском а Всея Руси, и высокопреосвященнейшем Владимире, митрополите Санкт-Петербургском и Ладожском, во время настоятельства протоиерея Михаила Сечейко...» — апавядае надпіс, выліты на самым вялікім звоне. Для а. Міхаіла Сячэйка, ураджэнца вёскі Горна Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці, 2003 год быў 51-м годам пастырскага служэння ў Пецярбургу.

Вялікі рэзананс сярод простых гараджан мелі адкрыццё музея і памятнай дошкі ў гонар беларуса-падводніка Героя Расіі Сяргея Дудко ў сярэдняй школе № 134, а таксама гастролі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, які прывёз у Пецярбург спектакль «Чорная панна Нясвіжа». Сярод наведвальнікаў Расійскай нацыянальнай бібліятэкі вялікім поспехам карысталася выстава «Санкт-Пецярбург і беларуская культура», прымеркаваная да 300-годдзя Пецярбурга. Выстава была арганізавана сумесна з Нацыянальным архівам Рэспублікі Беларусь, які прадставіў копіі дакументаў пра дзейнасць петраградскіх беларускіх арганізацый (напрыклад, Камітэта па дапамозе бежанцам у гады Першай сусветнай вайны) і выдатных асоб (Б. Эпімаха-Шыпілы). Выставу рыхтавала з расійскага боку Ніна Ігараўна Бяляева, з беларускага — Віталь Уладзіміравіч Скалабан. Рэпартаж аб адкрыцці зрабіла для БТ журналістка Таццяна Герасімец.

Былі ў юбілейным годзе і такія праекты, удзел у якіх прымалі пецярбургскія беларусы. У кастрычніку 2003 г. выдавецтва «Чырвоны матрос» рэалізавала чарговы кніжны праект папулярнай пецярбургскай творчай групы «Міцькі», які меў непасрэднае дачыненне да беларускага Пецярбурга. Кніжка з серыі «Пра...» называлася «Пра сялянку Міхайлаву. Успаміны себежскай сялянкі Таццяны Сяргееўны Міхайлавай». Мемуары рыхтаваў да друку «міцёк» **Міша Сапега** — унук выхадца з-пад Віцебска. Асновай гэтай кніжкі сталі ўспаміны жыцця сялянкі з глухой беларускай вёскі пад Себежам Таццяны Дуброўскай, якая ў маладыя гады выехала ў Пецярбург і пражыла тут значную частку свайго жыцця.

Адным з найбольш заўважных падарункаў гораду да 300-годдзя стала рэстаўрацыя і аднаўленне Цэнтральнага музея сувязі імя А. С. Папова, які знаходзіцца насупраць Галоўпаштампта, у палацы графа Безбародкі. Палац пабудаваў у XVIII ст. архітэктар Джакама Кварэнгі, за савецкі час музей сувязі заняпаў, а палац знаходзіўся ў аварыйным стане. Дзякуючы намаганням тэлефоннага канцэрна «Паўночна-Заходні тэлекам» і спонсарскай дапамозе сотавых тэлефонных кампаній музей атрымаў новае жыццё, новую экспазіцыю. Працай па аднаўленні кіраваў намеснік дырэктара «Тэлекама» інжынер-будаўнік **Георгій Барысавіч Чарняк** (нар. 20 кастрычніка 1949 г. у Гомелі). За распрацоўку дызайн-канцэпцыі, праекта экспазіцыі і пра-

[1] Медицина Петербурга. 2005. № 6. С. 2.

грамы рэалізацыі першай чаргі музея старшыня Праўлення фонду «Расійскі фонд гісторыі сувязі» Георгій Чарняк стаў лаўрэатам прэміі ўрада Санкт-Пецярбурга.



*Георгій Чарняк*

Першыя беларускія грамадскія арганізацыі ў Пецярбургу арганізаваныя яшчэ ў XIX ст. Гэта былі студэнты, згуртаваныя вакол часопіса «Гоман» або сабраныя ў гурток беларусазнаўства універсітэта. Пазней гэта нацыянальна-культурныя арганізацыі «Беларуская хатка», «Беларускі домасветы», «Беларускае студэнцкае зямляцтва». Яны мелі розныя статуты, іх члены па-рознаму ўяўлялі свае задачы. Колькасць актыўных беларускіх грамадскіх дзеячаў была абмежаваная, і адны і тыя ж асобы ўдзельнічалі ў розных таварыствах і суполках.

У пасляваенныя гады нацыянальных арганізацый у горадзе не было. Грамадска-палітычнае жыццё абмяжоўвалася ладжанымі КПСС палітінфармацыямі і арганізаванымі акцыямі кшталту візіта пісьменнікаў і «дзён культуры»; неафіцыйна сябры-землякі збіраліся адзін у аднаго на кватэрах, пілі, з перасцярогай разважалі пра палітыку і культуру. У часы панавання камуністычнай ідэалогіі суіснавалі дзве тэндэнцыі: адна заклікала савецкіх людзей будаваць сацыялістычную па змесце і нацыянальную па форме культуру, другая, асабліва ў апошнія, крызісныя дзесяцігоддзі «застою», дэкларавала неабходнасць фарміраваць новую адзіную супольнасць — савецкі народ. Пэўная колькасць пецярбургскіх беларусаў падтрымлівала ідэю новай супольнасці, у якой яны ўжо знайшлі сваё, і не найгоршае, месца. Аднак працэнт тых, хто захоўваў сваю нацыянальную свядомасць як беларус, заставаўся значным. Больш за тое, агульная тэндэнцыя сярод ленінградскіх беларусаў на працягу другой паловы XX ст. — павелічэнне колькасці людзей, якія называлі роднай мову сваёй нацыянальнасці. Згодна са статыстыкай, у 1959 г. беларускую мову назвалі роднай 27,2% беларусаў, у 1979 — 29,9%, у 1989 — 32,1%. З 93 564 ленінградскіх беларусаў (на 1989 г.) 30 019 чалавек назвалі роднай беларускую мову, 63 269 — рускую, 133 — украінскую, 5 — татарскую і 138 — іншыя мовы. У вобласці з 33 704 беларусаў 12 325 чалавек назвалі роднай мову сваёй нацыянальнасці, 21230 — рускую, 52 — украінскую, 97 — іншыя мовы[1]. Такім чынам, сярод беларускага насельніцтва вобласці захаванасць роднай мовы — 36,6% — аказалася вышэй, чым сярод іншых жыхароў Ленінграда[2].

Пасля дэмакратычных пераўтварэнняў у грамадстве, якія пачаліся ў 1990-я гг., у Пецярбургу ўзніклі новыя арганізацыі, у тым ліку нацыянальна-культурныя. На 2004 г. мелася пяць беларускіх арганізацый[3]. Некаторыя з беларусаў удзельнічалі ў агульнагарадскіх мерапрыемствах па рабоце з нацыянальнымі меншасцямі, арганізаваных Домам нацыянальных культур. Адначасова дзейнічалі і недзяржаўныя структуры, прынамсі спявак Лявон Габрусёнак вёў беларускую радыёперадачу «Магутны Божа» на хвалях радыёстанцыі «Марыя» на УКХ (FM) і сярэдніх хвалях.

300-годдзю Санкт-Пецярбурга была прысвечана канферэнцыя «Санкт-Пецярбург у лёсах народаў Расіі», якая прайшла 28–30 кастрычніка 2003 г. пад эгідай Камітэта па знешніх сувязях адміністрацыі Санкт-Пецярбурга, навуковага цэнтра «Петраполь» і «Санкт-Пецярбургскага Дома нацыянальных культур». Канферэнцыя адбылася ў Каледжы

[1] Распределение населения Ленинграда и Ленинградской области по национальности и родному языку, по материалам Всесоюзной переписи населения. Л., 1990. С. 3, 122.

[2] *Смирнова Т. М.* Динамика белорусского населения Петербурга и Ленинградской области в XX в. // Белорусский сборник. Вып. 2. СПб., 2002.

[3] *Романова Н. М., Михайленко В. В.* Национальные общества Санкт-Петербурга XVIII–XXI вв. СПб., 2004. С. 109–110.

традыцыйнай культуры, на Далёкаўсходнім праспекце, 51.

Адна з прычын стварэння грамадскіх арганізацый — быць разам з Беларуссю, не страціць яе, не страціць тое, што было ў СССР. Хоць большасць выхадцаў з Беларусі афармілі расійскае грамадзянства, але шмат хто гэтым не задаволены — лепш было б двайное.

Некалі Максім Багдановіч у вершы «Эміграцкая песня» сфармуляваў думкі эмігранта такім чынам: «...Не рассталіся б мы з родным краем, каб было дзеля нас у ім хлеба!». На пачатку XXI ст. філосаф Валянцін Акудовіч зрабіў новыя фармулёўкі, пад якія падлягае эміграцыя савецкага перыяду, якая і эміграцыяй сябе ў большасці не лічыць (былі ж адной краінай!): «Краіна Беларусь жыве без нас. Без нас будуюцца дамы, дарогі і масты, без нас рухаюцца машыны, цягнікі і лётаюць самалёты, без нас працуюць фабрыкі, заводы, банкі, пасольствы і міністэрствы, без нас садзіцца бульба, дзеюцца навуковыя росшукі і бізнесовыя аперацыі. Без нас спартсмены ладзяць свае спаборніцтвы, турфірмы — вандроўкі, а філармоніі — канцэрты. Без нас гуляюць вяселлі, спраўляюць хаўтуры, гадуюць і навучаюць дзяцей. Без нас фарміруюць знешнюю палітыку, ствараюць тэлепраграмы, трымаюць эканоміку і выбіраюць прэзідэнта...» З гэтага вялізнага спіса ці не найбольш хвалюе «без нас садзіцца бульба...»: кожную вясну дапамагаць садзіць, а ўвосень — выбіраць бульбу з горада на радзіму цягнецца цэлая армія новых гараджан.

Шмат хто з пецярбуржцаў робіць спробы падтрымліваць сувязі з Беларуссю праз грамадскія і палітычныя арганізацыі, для іншых беларуская суполка — гэта спосаб захаваць сваю аўтэнтычнасць у шматнацыянальным асяроддзі мегаполіса. Розныя задачы прывялі да стварэння некалькіх розных паводле задач і складу беларускіх згуртаванняў. Пастараемся коратка расказаць пра асноўныя з іх.

## Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Пецярбургу (БГКТ)

Першая пасляваенная грамадская беларуская арганізацыя ў горадзе была створана 30 красавіка 1989 г., у дзень нараджэння будучага нязменнага старшыні Валянціна Грыцкевіча[1]. Дакументам, важным для высвятлення абставін гэтай гістарычнай падзеі, з'яўляецца экзэмпляр кніжкі Валянціна Грыцкевіча «Эдуард Пякарскі. Біяграфічны нарыс», якая толькі што выйшла ў Мінску. Першымі, каму аўтар падарыў экзэмпляры з аўтографам, былі члены арганізацыйнага камітэта будучага БГКТ. Адзін з паасобнікаў мае такі дарчы надпіс: «Міколу Нікалаеву з найлепшымі пачуццямі! В. Грыцкевіч. 30.IV.89». На чыстым адвароце вокладкі запіс, які зроблены вечарам таго ж дня: «Дата падпісання гэтай кніжкі нек. чынам гістарычная — сёння адбылося першае паседж. ініцыятыўнай групы па стварэнню БГКТ у Л-дзе; былі В. Грыцкевіч (імяніннік) Мацыеўскі (фалькларыст, укр.) Алег Лысенка і я. М. Нікалаеў».

**Валянцін Пятровіч Грыцкевіч** нарадзіўся ў сям'і настаўніка і ўрача. У 1950 г. ён скончыў мінскую сярэднюю школу № 42. Карыстаючыся наяўнасцю розных формаў вышэйшай адукацыі (дзённай, вячэрняй і завочнай), ён паступіў адразу ў тры вышэйшыя навучальныя ўстановы і ўсе тры паспяхова скончыў: Інстытут замежных моў (1955), Мінскі медыцынскі інстытут (1956) і гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1957). Працаваў урачом ва Узлянах Рудзенскага раёна Мінскай вобласці (1956—1957), у Мінску (1957—1969),



*Валянцін Грыцкевіч*

[1] *Грицкевич В. П.* Белорусское общественно-культурное товарищество в Санкт-Петербурге // Город нашей общей судьбы. СПб., 2005. С. 332—341.

Ленінградзе (1969–1971), старшым навуковым супрацоўнікам Ваенна-медыцынскага музея (1971–1995). Адначасова выкладаў гісторыю ў Ленінградскім інстытуце культуры (з 1980 г.), з 1988 г. — дацэнт кафедры музеязнаўства гэтага ж інстытута (цяпер Санкт-Пецярбургскі універсітэт культуры). Шмат навуковых даследаванняў Валянціна Грыцкевіча прысвечана гісторыі медыцыны: кнігі «З факелам Гіпакрата» (Мінск, 1987), «Адысея навагрудскай лекаркі: Саламея Русецкая» (Мінск, 1989), «Ваенныя медыкі — кавалеры ордэна Славы трох ступеняў» (Л., 1975, сумесна з Ф. Сатрапінскім); ён склаў анатаваны каталог «Успаміны і дзённікі ў фондах ваенна-медыцынскага музея». Другая плынь яго заняткаў і зацікаўленняў — гісторыя падарожжаў. «Падарожжы нашых землякоў» (Мінск, 1989), «Дзесяць шляхоў з Вільні» (Вільня, 1979, на літ. мове), «Нашы славутыя землякі» (Мінск, 1984), «Ад Нёмана да берагоў Ціхага акіяна» (Мінск, 1986), «Эдуард Пякарскі» (Мінск, 1989), «Шляхі вялі праз Беларусь» (Мінск, 1980, сумесна з А. Мальдзісам). Выдаў падручнік па музейнай справе ў свеце, рабіў пераклады на беларускую літаратурных твораў з рускай і англійскай моў.

Валянцін Грыцкевіч — адзін з арганізатараў, першы і нязменны старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Пецярбургу, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі, Міжнароднага ПЭН-цэнтра, ганаровы член Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, член Рускага геаграфічнага таварыства, Пецярбургскага таварыства гісторыі медыцыны, член Вялікай рады згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

Адным з актыўных членаў БГКТ стаў яго сузаснавальнік кампазітар **Ігар Уладзіміравіч Мацыеўскі**.

Нельга сказаць, што наша эпоха прайшла пад музыку Мацыеўскага. Але эпоха была акурат такая, як музыка Мацыеўскага: часам рваная, няроўная, з фарсажамі, часам смяшлівая, з рознымі інструментамі. Традыцыі класікі ў спалучэнні з авангардам. Тут і сола на віяланчэлі, і скрыпка з фартэпіяна, і проста фартэпіяна і вакал – мужчынскі і жаночы, і бурлеска для трубы і фартэпіяна, і сола на арфе... па-польску, па-руску, па-беларуску. Па польску з рускім акцэнтам (бо выканаўцы рускія), па-беларуску – з тым жа акцэнтам па той жа прычыне. Аўтарскі вечар кампазітара 12 лютага 2008 г. у Малой зале імя Міхаіла Глінкі Санкт-Пецярбургскай акадэмічнай філармоніі пачынаўся чытаннем Адама Міцкевіча і Паланэзам, а заканчваўся бліскучай прэм'ерай трох частак «Мессы» па-беларуску, у выкананні камернага хору «Россіка» пад кіраўніцтвам Валянціны Капыловай-Панчанка. «Хвалі душа мая Госпада» – спявалі артысты па-нашаму, замест звыклага для сябе «Хвалі душа моя Господа».



*Ігар Мацыеўскі*

Паміж гэтымі знакавымі нумарамі былі фартэпіянны цыкл з менуэтам, калядкай, пастаралькай, мазуркай і полькай, а таксама саната «Уступленне ў Апакаліпсіс» для віяланчэлі сола, два вакальныя цыклы на вершы Тадэвуша Ружэвіча (па-польску) і вакальны цыкл «Байкі» на вершы Яна Бжэхвы (таксама па-польску). Паэма-прэлюдыя для арфы «Сонца гор» і музыка да нязнятага кінафільма «Лятаючы меч» выконваліся толькі на мове музыкі, без слоў.

Ігар Мацыеўскі скончыў Львоўскую і Ленінградскую кансерваторыі. Ён не толькі кампазітар, але і вучоны-музыказнаўца: доктар мастацтвазнаўства, прафесар, заслужаны дзеяч мастацтва Украіны і заслужаны дзеяч мастацтва Польшчы. Гэты выдатны музыкант шматразова звяртаўся ў сваёй творчасці да беларускіх матываў, тэкстаў беларускіх паэтаў (найперш Максіма Багдановіча). Разам з жонкай Галінай Валянцінаўнай Таўлай (дачкой вядомага заходнебеларускага паэта) ён уважліва вывучае музычныя асаблівасці памежжа: беларуска-расійскага на Невельшчыне і Смаленшчыне, беларуска-польскага на Беласточчыне. У пецярбургскім выдавецтве «Вольная Беларусь» выйшаў зборнік музычных твораў Ігара Мацыеўскага на словы беларускіх паэтаў.

Месцам збору супольнікаў стаў Музей этнаграфіі народаў СССР. У кіназале музея 30 верасня 1989 г. выступіў з канцэртам-гутаркай амерыканскі беларус Багдан Андрусішын (Данчык) — сваяк пецярбуржанкі Маргарыты Пяровай, выдатны спявак і гітарыст. Расказваў пра жыццё беларускай эміграцыі ў Злучаных Штатах Амерыкі, адказваў на пытанні. Спяваў беларускія і ўкраінскія народныя песні, песні Ігара Лучанка, песні на англійскай, іспанскай і французкай мовах. Паўнюткая зала (больш за 200 чалавек) з захапленнем вітала Данчыка. Другая частка канцэрта адбылася ў экспазіцыі музея, дзе прадстаўлена беларуская хата XIX ст. і аўтэнтычныя беларускія рэчы таго часу. Важным мерапрыемствам БГКТ стаў цыкл лекцый «Старонкі гісторыі і культуры Беларусі», з якімі рэгулярна, кожны другі тыдзень, выступалі Васіль Булкін (дацэнт ЛДУ), Алег Лысенка (супрацоўнік музея этнаграфіі), Аляксандр Госцеў (Гродна), Мікола Нікалаеў. Першую лекцыю «Асноўныя этапы і міфы гісторыі Беларусі» прачытаў 24 снежня 1989 г. Валянцін Грыцкевіч, на той час дацэнт Ленінградскага інстытута культуры. Неўзабаве да суполкі далучыліся мастакі Іван Чэрнякевіч, Вітаўт Драздоў, Віктар Сівуха, ваенныя маракі Міхаіл Прахорчык і Лявон Навасельскі, настаўніцы Аўгіння Кавалюк і Алена Картавіцкая, бібліятэкары Марыя Ткачэнка і Анатоль Разумаў, фармацэўт Данута Сергіенка (Паплаўская), студэнт Тэхналагічнага інстытута Даніла Жукоўскі, студэнтка біяфака універсітэта Алена Кабачэўская, урачы Марыя Чапялёва і Міхась Ханевіч, інжынер Пётра Амбрасовіч і іншыя. Старшынёй таварыства абралі Валянціна Грыцкевіча, намеснікам старшыні — Маргарыту Пярову (сваячку славутых віленскіх Луцкевічаў).

У пачатку 1990-х гг. тэма нацыянальна-культурных меншасцяў была прываблівай для сродкаў масавай інфармацыі, беларускае таварыства некалькі разоў прагучала ў перадачах ленінградскага радыё, шмат публікацый у розных газетах зрабіла член таварыства журналістка Святлана Гаўрыліна. Адным з першых актыўна далучыўся да працы таварыства **Міхаіл Мікалаевіч Прахорчык**, капітан 2-га рангу, ураджэнец вёскі Зажэвічы Салігорскага раёна. Пасля заканчэння Севастопальскага вышэйшага інжынернага вучылішча ён 9 гадоў праслужыў на Паўночным флоце, плаваў на атамных падводных лодках. Дзевяць аўтаномных паходаў па 3 месяцы кожны — значыць, 27 месяцаў Міхась сядзеў у жалезнай субмарыне, не бачачы божага свету! Падчас службы зарабіў званне ветэрана падраздзялення асаблівай рызыкі — такое званне давалася за ліквідацыю аварый на рэактары. У 1979 г. Міхаіла Прахорчыка перавялі ў Ленінград у ЦНДІ МА ВМФ, дзе да выхаду на пенсію ён распрацоўваў тэму кансервацыі атамных падводных ракетаносцаў.

Пра існаванне беларускай суполкі Міхась Прахорчык пачуў па радыё, адразу ж адшукаў БГКТ і рэгулярна наведваў пасяджэнні. Пазней прывёў свайго калегу па працы, капітана 1-га рангу Лявона Навасельскага, «дзядзьку Лявона». Таварыства збіралася ў Музеі этнаграфіі народаў СССР, але зарэгістравана было на Фантанцы, 36, з дазволу дырэктара Расійскай нацыянальнай бібліятэкі Уладзіміра Зайцава (умовай было тое, што ніякіх збораў на Фантанцы праводзіцца не будзе). Дзякуючы намаганням Лявона Навасельскага мэрыя Санкт-Пецярбурга зарэгістравала БГКТ 15 красавіка 1992 г. Гэта было першае ў найноўшай гісторыі горада афіцыйнае беларускае аб'яднанне. БГКТ супрацоўнічала з іншымі нацыянальнымі аб'яднаннямі Пецярбурга: некалькі пасяджэнняў былі праведзены сумесна з прадстаўнікамі Літоўскага культурнага таварыства. Алег Лысенка неўзабаве адышоў ад працы таварыства, а яшчэ праз нейкі час адміністрацыя музея, які пераназвалі ў Музей народаў Расіі, прапанавала таварыству не праводзіць зборы на яго тэрыторыі. Таварыства пасіўна супраціўлялася: калі ў зале, дзе збіраліся, выключалі святло, супольшчыкі пераходзілі пад лесвіцу або ў залы, дзе была разгорнута экспазіцыя «Беларусы». Тым часам паступіла прапанова ад Дома нацыянальных культур, які мясціўся ў ДК імя Кірава на Васільеўскім востраве, стаць калектыўным членам гэтай установы. Месцазнаходжанне ДК імя Кірава было нязручнае, баяліся адміністрацыйнага ўціску, таму таварыства адмовілася. Некалькі пасяджэнняў прайшлі ў сярэдняй школе № 294, у Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы Выбаргскага раёна. У канцы 1990-х гг. Валянцін Грыцкевіч, карыстаючыся старым знаёмствам з дырэктарам Новага Дома культуры (пазней Дом народнай творчасці), перавёў таварыства на Ісакіеўскую плошчу (завулак Антаненкі, пазней Новы завулак, 2).

Запамінальнымі падзеямі сталі сустрэчы членаў Таварыства з дзеячамі беларускай культуры: пісьменніцай Вольгай Іпатавай, майстрам вырабу народных інструментаў Уладзімірам Пузынем, гісторыкамі Міхасём Ткачовым і Алесем Смаленчуком, а таксама канцэрт дзіцячага ансамбля танцаў з Міханавічаў пад кіраўніцтвам Л. Рыжковай. Наведвалі тавары-

ства і беларускія палітыкі: Станіслаў Шушкевіч, Зянон Пазняк, Алег Трусаў, Юрый Хадыка, Пётр Краўчанка. Апошняя сустрэча прайшла пры вялікім зборы народа, вострай дыскусіі (выступленне П. Краўчанка зрабіў на беларускай мове, а адказы на пытанні — на мове пытання). У гарадскіх газетах, часопісах і на радыё з'явілася шмат водгукаў, якія адзначалі самастойную пазіцыю аўтара.

Актыўнымі членамі БГКТ сталі нашчадкі некалькіх беларускіх сем'яў, якія жылі ў Пецярбургу яшчэ на мяжы XIX–XX стст. На рагу Ліцейнага і Пестэля жылі сваякі Луцкевічаў: **Маргарыта Сяргееўна Пярова** з дачкой Наташай і бабуля **Марыя Аляксандраўна Чапялёва**. Маргарыта Пярова нарадзілася ў Манчагорску, вырасла ў Расіі і гаварыць па-беларуску навучылася пасля знаёмства з гісторыяй сям'і і ўсведамленнем значнасці ўкладу яе продкаў у беларускую культуру. Яе актыўная дзейнасць мела самыя розныя праявы: або збіралася ў іх хаце моладзь на 25 сакавіка, або гатавала смачны пірог і прыносіла яго на паседжанне суполкі, часам прыязджала ў Левашова на Дзяды з памінальнымі аладкамі, пісала ў беларускую перыёдыку артыкулы пра гісторыю сваёй сям'і, выступала на канферэнцыі «Санкт-Пецярбург і беларуская культура», арганізоўвала сустрэчы пецярбургскіх беларусаў са сваім пляменнікам спеваком Багданам Андрусішыным (Данчыкам), у яе кватэры на Ліцейным сустракаліся і з Сержуком Сокалавым-Воюшам, і з Зянонам Пазняком. Пасля выхаду на пенсію (яна працавала інжынерам-хімікам) Маргарыта Сяргееўна атрымала другую вышэйшую адукацыю ў Інстытуце культуры (музеязнаўства), потым займалася на курсах у Генеалагічным інстытуце Расійскай нацыянальнай бібліятэкі. У іх хаце (і на Ліцейным, і пазней на Кірачнай) на сценах — даваенныя фатаграфіі пляца ў Мінску, які адабралі саветы: цяпер на той зямлі на беразе Свіслачы парк, у якім пабудаваны Музей Янкі Купалы.

У сакавіку 1998 г. урачыстым пасяджэннем і канцэртам Беларускае грамадска-культурнае таварыства ўшанавала юбілей стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі. 6 жніўня 2003 г. пры актыўным ўдзеле Пятра Амбрасовіча адбылася вечарына, прысвечаная 750-годдзю каранацыі Міндоўга. Абмяркоўваліся праекты помніка Міндоўгу мастакоў Ігара Жураўскага, Івана Чэрнякевіча, Вячаслава Гіголы. БГКТ заставалася адзінай легальнай грамадска-культурнай арганізацыяй ў горадзе, якая існавала па-за межамі афіцыйнага «Дома нацыянальных культур». У 2005 г. з'явіліся новыя члены — студэнты Політэхнічнага універсітэта Каця Нішт і Лена Валынец. Мерапрыемствы БГКТ заўсёды ўпрыгожвае добрым спевам і трапным словам **Бажэна Іосіфаўна Грыгор'ева**, якая звычайна прыходзіць на пасяджэнні ў нацыянальным убранні.

Кірунак сваёй дзейнасці таварыства азначыла статутнымі мэтамі: вывучэнне і папулярызацыя беларускай мовы і культуры сярод жыхароў Пецярбурга; лекцыі, творчыя сустрэчы, канцэрты, мастацкія выставы на розных пляцоўках горада. Пад эгідай БГКТ доўгі час дзейнічала група мастакоў «Маем гонар». Удзельніца БГКТ настаўніца Алена Картавіцкая стала першым афіцыйным перакладчыкам з беларускай мовы ў абласным судзе. Новы імпульс дзейнасці БГКТ надалі пасля 2006 г. Аляксандр Станкевіч і Генадзь Рабцэвіч. На арганізаваных імі хай не вялікіх (8–12 чалавек), але рэгулярных сустрэчах (кантынгент прысутных мяняўся) знаёміліся і ўдзельнічалі ў дыскусіях, прысвечаных бацькаўшчыне, пецярбургскія будаўнікі, урачы, мастакі, бізнесмены.

Не ўсе пачынанні БГКТ заканчваліся паспяхова. Можна прыпомніць няўдалую спробу арганізаваць асобны беларускі праваслаўны прыход. У 1992 г. члены таварыства (В. Грыцкевіч, І. Чэрнякевіч, М. Пярова, А. Язвіцкі, М. Нікалаеў, С. Гаўрыліна, Л. Навасельскі і інш.) пабылі на прыёме ў епіскапа Санкт-Пецярбургскага і Ладажскага Іаана (Снычава), які благаславіў рэстаўрацыю царквы-ратонды (Дабравешчанская царква на Прыморскім праспекце), незадоўга перад тым вернутую царкве, і паабяцаў пашукаць святара-беларуса, які б мог гаварыць казанні на беларускай мове. Арганізаваць рамонты храма ўзяўся член суполкі, пецярбургскі рэстаўратар Алег Язвіцкі (унук апошняга дарэвалюцыйнага рэктара мінскай духоўнай семінарыі). Аднак справа не атрымалася.

Рэгулярнай падзеяй для членаў БГКТ стала наведванне могілак у пасёлку Левашова, дзе ў супольнасці з Літоўскім нацыянальным таварыствам паставілі помнік-крыж бязвінна загінулым у гады сталінскіх рэпрэсій (ідэя Анатоля Разумава, праект і выкананне помніка — Іван Чэрнякевіч). Крыж гэты быў асвечаны праваслаўным і каталіцкім святарамі,

[1] *Грицкевич В. П.* Белорусское общественно-культурное товарищество в Санкт-Петербурге // Город нашей общей судьбы. СПб., 2005. С. 336.

упершыню над гэтымі магілкамі прагучала і яўрэйская памінальная малітва равіна, паколькі загінулых ад тэрору ўраджэнцаў Беларусі і Літвы — беларусаў, літоўцаў, рускіх, палякаў, яўрэяў — аб'яднала не тая кроў, якая цякла ў іх жылах, а тая, якая з жылаў выцякала[1]. Цырымонію адкрыцця помніка здымала група Беларускага тэлебачання (рэжысёр А. Сухоцкі). Каля гэтага памятнага знака штогод на Дзяды збіраюцца людзі.

## Расійска-Беларускае брацтва

Грамадская арганізацыя «Расійска-Беларускае брацтва» ўтворана ў снежні 1996 г., праз два гады — у 1998 г. — зарэгістравана як міжрэгіянальная грамадская арганізацыя. Яе галоўная статутная мэта: садзейнічаць аднаўленню сувязяў Рэспублікі Беларусь і Расіі. Арганізацыйны сход прайшоў у Ваенна-механічным інстытуце, рэктар гэтай ВНУ Ю. Савельеў даў брацтву юрыдычны адрас: 198005, Санкт-Пецярбург, 1-я Чырвонаармейская, 1/21. Галоўнымі арганізатарамі сталі камуністы Ленінграда члены Расійскай камуністычнай рабочай партыі. «Расійска-Беларускае брацтва» актыўна падтрымлівала прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі, калі ён вылучаўся на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь: былі накіраваны адозвы ў газеты, на тэлебачанне, радыё. Актывісты «Брацтва» выступілі ў абарону А. Лукашэнкі і пасля таго, як гэты палітык ініцыіраваў замену старажытнай нацыянальнай сімволікі (герба «Пагоня» і бела-чырвона-белага сцяга) на сімволіку савецкіх часоў. Старшынёй і адным з ініцыятараў стварэння Расійска-Беларускага брацтва з'яўляецца ўраджэнец Смаленшчыны прафесар педінстытута (зараз — Педагагічны універсітэт) імя Герцэна **Аляксей Васільевіч Варанцоў**, які ў 1994—1998 гг. абіраўся дэпутатам заканадаўчага сходу Санкт-Пецярбурга і ўзначальваў камісію па вышэйшай школе і навуцы.



*Аляксей Варанцоў*

Памочнік дэпутата Варанцова інжынер-пенсіянер **Васіль Мікалаевіч Кузьмічоў** найбольш займаўся практычнай працай, у верасні 2006 г. ён быў абраны старшынёй выканкама брацтва. Пасля таго як Аляксей Варанцоў стаў амаль на чатыры гады віцэ-губернатарам Ленінградскай вобласці па сацыяльным развіцці, пасяджэнні брацтва праходзілі ў памяшканні урада Ленінградскай вобласці. Кіруючым органам Расійска-Беларускага брацтва з'яўляецца савет, у які ўвайшлі пісьменнік Іван Сабіла, акадэмік Жарэс Алфёраў, прэзідэнт Пятроўскай акадэміі навук і мастацтваў прафесар Л. М. Майбарада, памочнікі старшыні Камітэта па справах СНД Савета Федэрацыі Г. Ф. Гарбуноў і Е. У. Кісліцына, намеснік Аляксея Варанцова Уладзімір Варанкоў, Герой Савецкага Саюза І. Ф. Клачкоў, паэт і журналіст А. В. Антонаў і іншыя. Акрамя таго, некалькі ўстаноў горада сталі калектыўнымі членамі. Члены брацтва на кастрычніцкія і першамайскія дэманстрацыі выходзілі з транспарантам «Да здравствует российско-белорусское братство» і партрэтамі прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. У Расійскім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя А. Герцэна рэгулярна праводзіліся прэзентацыі кніг па развіцці двухбаковага супрацоўніцтва Беларусі і Расіі, якія выдадзены ў Пецярбургу пры падтрымцы брацтва і Пятроўскай акадэміі навук і мастацтваў[1], а таксама некаторых іншагародніх выданняў гэтай тэматыкі[2]. Члены брацтва дапамагалі сваім старым сябрам вырашаць жыццёвыя праблемы, прынамсі, Іван Сабіла пры дапамозе сакратара партарганізацыі фабрыкі «Пралетарскі труд» беларускі **Галіны Кажэўнікавай**

[1] *Климин И. И.* Беларусь и Россия — трудный путь к воссоединению. СПб., 2001; Лебедев С. В., Стельмашук Г. В. Белорусский феномен. — СПб., 2006.

[2] *Качалов В. В.* Союзное государство Беларусь — Россия — новая форма интеграции. Смоленск, 2002; Качалов В. В., Чепуров В. М. Союз Белоруссии и России: желательное и возможное. — М., 2001; Социально-экономические, политические и духовные основы создания Союзного государства. М., 2003.

атрымаў добры пакойчык, а наўзамен апрацоўваў апісанні дасягненняў прадпрыемства ў брыгадным падрадзе і КПУ (каэфіцыент працоўнага ўдзелу) для спецыяльнага часопіса «Абутковая прамысловасць»[1]. Важнай культурнай акцыяй брацтва стала выданне кнігі члена прызідыўма гэтай арганізацыі **Рыгора Мікітавіча Купрыяшчанкі** «Край мой партызанскі». Змест кнігі: гістарычны нарыс баявых дзеянняў партызан на Гомельшчыне (у якіх Рыгор Мікітавіч асабіста ўдзельнічаў). У асобе аўтара злучаюцца беларус, ганаровы грамадзянін Буда-Кашалёва і стары ленінградзец. Гэта добра напісаныя мемуары чалавека цікавага лёсу, капітана 1-га рангу, шматгадовага прарэктара Ленінградскай вышэйшай партыйнай школы. Ураджэнец вёскі Каромка, што на Буда-Кашалёўшчыне, Рыгор Купрыяшчанка дзеліцца з чытачом сваімі ацэнкамі падзей перабудовы і распаду СССР, уражаннямі ад прачытаных кніг беларускіх аўтараў, успамінамі аб сустрэчах і лёсах беларускіх партызан, удзеле ў апошнім парадзе ветэранаў Другой сусветнай вайны на Краснай плошчы. Некаторыя старонкі кнігі звернуты непасрэдна да сына Аляксандра Рыгоравіча — юрыста, ветэрана ваенна-паветраных сіл, пецярбуржца ў другім пакаленні.



*Рыгор Купрыяшчанка і Васіль Шалак*

Паколькі БГКТ і Расійска-Беларускае брацтва ахоплівалі далёка не ўсіх актыўных прадстаўнікоў беларускай дыяспары, узнікла яшчэ адна арганізацыя, у якой аб'ядналіся галоўным чынам афіцэры-беларусы, якія служылі ў Санкт-Пецярбургскім гарнізоне.

### Беларуская абшчына Санкт-Пецярбурга і Ленінградскай вобласці

Дэклараваная мэта гэтай арганізацыі — культурна-асветніцкая, адукацыйная, эканамічная праца членаў таварыства, скіраваная на ўмацаванне сувязяў з Рэспублікай Беларусь. Беларуская абшчына Санкт-Пецярбурга і Ленінградскай вобласці зарэгістравана як Міжрэгіянальнае грамадскае аб'яднанне 26 студзеня 1998 г. па хатнім адрасе яе старшыні палкоўніка Аляксандра Чарныша: праспект Народнага Апалчэння, д. 221, кв. 210.



*Аляксандр Чарныш*

**Аляксандр Антонавіч Чарныш** нарадзіўся 30 верасня 1934 г. у Бабруйску, пасля заканчэння сярэдняй школы № 6 і (на выдатна) аўтатрактарнага тэхнікума ў родным горадзе паступіў у Ленінградскую ваенна-транспартную акадэмію імя Кагановіча. Служыў у Прыкарпацкай ваеннай акрузе, а з 1969 г. пераведзены выкладчыкам Ленінградскай ваеннай акадэміі тылу і транспарту, на аўтамабільны факультэт. Працаваў тут і пасля звальнення (у чыне палкоўніка) да 1996 г.

У 1998 г. былы вучань Аляксандра Чарныша **Уладзімір Анатольевіч Сцяпанаў**, які вярнуўся з Чачні ў званні генерала, прапанаваў стварыць беларускую арганізацыю. Беларуская абшчына Санкт-Пецярбурга і Ленінградскай вобласці займела ўласны офіс (пакойчык у памяшканні магазіна «Дом беларускай мэблі» ў гандлёвых радах Гасцінага двара на вул. Садовай, 62). Гаспадар сеткі мэблевых магазінаў **Ігар Котаў** увайшоў у праўленне новастворанай арганізацыі. Рэальная праца заключалася ў дапамозе супрацоўнікам аддзялення пасоль-

[1] *Сабило И.* Открытый ринг. СПб., 2000. С. 472.

ства Беларусі ў арганізацыі супрацоўніцтва Рэспублікі Беларусь з Санкт-Пецярбургам. Праз тры з паловай гады, 23 ліпеня 2001 г., Аляксандр Антонавіч Чарныш зарэгістраваў грамадскую арганізацыю больш высокага парадку.

### Рэгіянальная беларуская нацыянальна-культурная аўтаномія Санкт-Пецярбурга

Працягам Беларускай абшчыны Санкт-Пецярбурга і Ленінградскай вобласці стала Рэгіянальная беларуская нацыянальна-культурная аўтаномія Санкт-Пецярбурга. Больш высокі ўзровень патрабаваў саўдзелу некалькіх грамадскіх арганізацый, якімі сталі, акрамя «Беларускай абшчыны...», грамадска-патрыятычны саюз «Партыя міру нацый, аб'яднанняў і абшчын» і грамадская арганізацыя «Беларускае зямляцтва». Відавочнай выгадай стала тое, што «Рэгіянальная аўтаномія...» мела права, згодна з дзейным заканадаўствам, атрымліваць грашовую падтрымку ад камітэта па знешніх сувязях мэрыі Санкт-Пецярбурга.

Старшынёй савета Аўтаноміі стаў палкоўнік Аляксандр Чарныш, яго намеснікам — кандыдат ваенных навук палкоўнік Мікалай Русакевіч. 28 лютага 2007 г. на справаздачна-выбарчай канферэнцыі старшынёй савета быў абраны Мікалай Русакевіч. Членамі савета сталі Мікалай Андрэйчанка, Сяргей Вішняк, Ліля Сямёнава, Мікалай Марціновіч, Мікалай Савіцкі, Фелікс Шаўцоў, Аляксандр Чарныш, Уладзімір Чмыроў.



*Нацыянальна-культурная аўтаномія. 2000 г.*

**Мікалай Яўгенавіч Русакевіч** (нар. 13 кастрычніка 1954 г. у вёсцы Ахоцічы Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці у сям'і беларускага партызана Яўгена Лукіча Русакевіча) закончыў Алянскую васьмігадовую школу, а потым вячэрнюю СШ № 6 г. Мінска і ГПТВ-94 пры трактарным заводзе. Пасля службы ў славутых Пячах пад Барысавам паступіў у Вольскае вучылішча тылу. Па сканчэнні шэсць гадоў служыў на Урале, потым паступіў у Акадэмію тылу і транспарту ў Ленінградзе. Вучыўся тут у 1983–1986 гг. Пасля службы ў ГСВГ вярнуўся ўжо ў Санкт-Пецярбург і ў сваёй акадэміі быў залічаны ад'юнктам на кафедру кіравання тылам. У 1994 г. абараніў дысертацыю на вучоную ступень кандыдата ваенных навук. Акрамя таго, што палкоўнік Мікалай Русакевіч чытаў спецыяльныя дысцыпліны ў Акадэміі тылу і транспарту, ён быў загадчыкам кафедры ў Інстытуце эканомікі і кіравання, выкладаў ва Універсітэце эканомікі і фінансаў. Старэйшая яго дачка Алеся стала хірургам, малодшая — Вольга — скончыла Універсітэт нізкатэмпературных і харчовых тэхналогій.



*Мікалай Русакевіч*

У розны час актыўна супрацоўнічалі з нацыянальна-культурнай аўтаноміяй дырэктар аўтабазы «Ленэнерга» Сяргей Пятроў, Ала Рам'янава, Фелікс Шаўцоў, Іван Сабіла, Уладзімір Сцяпанаў, Аркадзь Пінчук.

Мэты новага аб'яднання запісаны ў статуце: захаванне самабытнасці развіцця мовы, адукацыі, нацыянальнай культуры грамадзян Расійскай Федэрацыі, якія прылічваюць сябе да этнічнай супольнасці беларусаў; спрыянне ў захаванні і развіцці культуры беларускага народа, умацаванне братніх сувязяў паміж рускім і беларускім народамі, дасягненне

ўзаемаразумення з іншымі нацыянальнымі аб'яднаннямі Санкт-Пецярбурга.

Сярод спраў арганізацыі можна вылучыць працу з Саветам ветэранаў: перагледзеўшы архівы гэтай арганізацыі, Аляксандр Чарныш выдзеліў каля 300 беларусаў-жыхароў Пецярбурга, якія ў гады Другой сусветнай вайны вызвалялі тэрыторыю Беларусі ад нямецка-фашысцкіх войскаў. Усім ім на юбілей вызвалення Беларусі былі адпраўлены паштоўкі, падпісаныя прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам. Калі А. Лукашэнка прыбыў у 2003 г. на святкаванне юбілею Пецярбурга, ён выступіў у складзе зборнай Беларусі ў хакейнай сустрэчы са зборнай Пецярбурга. Члены Рэгіянальнай беларускай нацыянальна-культурнай аўтаноміі Санкт-Пецярбурга забяспечылі добрую яўку гледачоў на гэты матч — сабралі студэнтаў і курсантаў ваенных вучылішчаў. Горш атрымліваліся эканамічныя праекты. Прынамсі ідэя, каб да 300-годдзя Паўночнай сталіцы Беларусь «падарыла» Пецярбургу 18 тысяч $м^2$ адрэстаўраванага Нікольскага гасцінага двара (з правам адкрыцця ў ім беларускага гандлёва-камерцыйнага цэнтра) так і не была рэалізавана. Не ўдалося пралабіраваць праекты вытворчасці ў Пецярбургу гарадскіх аўтобусаў, распрацаваных у Мінску. Аднак А. Чарнышу ўдалося выступіць у падтрымку А. Р. Лукашэнкі ў газеце «Новый Петербург». Старшыня таварыства Аляксандр Чарныш стаў адным з аўтараў выдання, якое сабрала інфармацыю аб адносінах Пецярбурга з краінамі — членамі СНД[1].

Беларуская нацыянальна-культурная аўтаномія правяла некалькі значных культурных мерапрыемстваў. Напрыклад, добрай рэкламай беларускай драматургіі стала пастаноўка п'есы Кандрата Крапівы «Брама неўміручасці» ў сярэдняй школе № 134 імя падводніка Сяргея Дудко. У першым квартале 2007 г. прайшло некалькі рэпетыцый, а галоўны спектакль для гасцей — пецярбургскіх беларусаў — адбыўся ў красавіку, пасля паездкі артыстаў-школьнікаў у Беларусь. У зале прысутнічалі прадстаўнікі нацыянальна-культурнай аўтаноміі, Беларускага грамадска-культурнага таварыства, Расійска-Беларускага брацтва, ганаровым госцем была маці Сяргея Дудко. Касцюмы, парыкі і грым школьнікі набылі пры падтрымцы галавы муніцыпальнага ўтварэння «Ржэўка» Вячаслава Чараўко і дэпутата Ірыны Рогавай. Ролі выканалі Канстанцін Казмірчук, Яўген Сямро, Жэня Чаплінская, Аляксандр Макрушын, Наста Корасцелева, Мікалай Братчыкаў, Крысціна Рашоева, Аня Караташ і іншыя. Пасля спектакля былі падарункі артыстам і іх мастацкім кіраўнікам, шчырыя словы падзякі. 3 ліпеня 2007 года ў Ваенна-касмічнай акадэміі імя Мажайскага, пры падтрымцы выхадцаў з Гомельскай вобласці, главы Чкалаўскага муніцыпальнага ўтварэння Мікалая Марціновіча і яго брата Пятра Марціновіча прайшла сустрэча зямлякоў, якая была прысвечана вызваленню Беларусі ад нямецкіх захопнікаў. Удзельнікі сустрэчы агледзелі музей касмічнай тэхнікі, віншавалі ўдзельнікаў вайны, спявалі беларускія песні. На сустрэчы выступіў Мікалай Нікалаеў, які расказаў аб падрыхтоўцы выдання кнігі «Беларускі Пецярбург».

Праз чатыры дні ў Акруговым доме афіцэраў гэта свята было працягнена, там пры падтрымцы старшыні Расійска-Беларускага брацтва Аляксея Варанцова, главы муніцыпальнага ўтварэння «Ржэўка» Вячэслава Чараўко і дэпутата Ірыны Рогавай быў арганізаваны святочны вечар і канцэрт.

На трэці з'езд беларусаў Расіі, які адбыўся 13 кастрычніка ў Маскве, дэлегатамі ад Беларускай рэгіянальнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі былі камандыраваны Мікалай Русакевіч, Мікалай Андрэйчанка, Сяргей Вішняк, Мікалай Савіцкі, Аляксандр Гукаў, Ліля Сямёнава, Ірына Рогава, Надзея Чэшка, Іван Сабіла, Аляксандр Сідорка. Старшыня савета Аўтаноміі М. Русакевіч выступіў з дакладам: падзяліўся вопытам працы, выказаў галоўныя праблемы, якія перашкаджаюць працаваць арганізацыі. Па выніках галасавання, членамі савета Федэральнай аўтаноміі былі абраны Мікалай Русакевіч і Іван Сабіла (пераехаўшы ў Маскву апошні не страціў сувязяў з «родным» Пецярбургам).

2 красавіка 2008 г. у Доме нацыянальнасцей сабраліся прадстаўнікі практычна ўсіх беларускіх арганізацый, каб адзначыць «Дзень яднання народаў Расіі і Беларусі». Гэта сустрэча была прадоўжана 11 красавіка ў Вялікай канцэртнай зале «Акцябрскі» з удзелам папулярных артыстаў з Беларусі — музычных груп «Песняры», «Верасы» і «Сябры». Цёпла сустрэлі беларусы Пецярбурга і жыхары горада старых артыстаў і даўно любімыя мелодыі.

## Беларуска-расійскі культурна-дзелавы цэнтр

Створаны ў сакавіку 2004 г. як некамерцыйная грамадская арганізацыя для спры-

[1] Содружество независимых государств: взгляд из Санкт-Петербурга. СПб., 2004. С. 3, 47–50.

яння камерцыйнай дзейнасці. Старшынёй савета быў абраны **Сяргей Георгіевіч Бяляеў**, прэзідэнт Міжнароднага банкаўскага інстытута, у памяшканні якога (Неўскі, 58) «Цэнтр» і быў зарэгістраваны. Намеснікам стаў Аляксандр Чарныш, генеральным дырэктарам — Уладзімір Сцяпанаў.

## Беларускае зямляцтва ў Санкт-Пецярбургу

Створана з мэтай наладжваць культурныя і эканамічныя сувязі паміж беларусамі Расіі і Рэспублікай Беларусь. Прэзідэнтам з'яўляецца **Ліля Канстанцінаўна Сямёнава**, адрас рэгістрацыі «Беларускага зямляцтва»: 190000, Санкт-Пецярбург, завулак Антаненкі, 2, каб. 12. Актыў гэтай арганізацыі склалі 5 чалавек. Рэальная дзейнасць акрэслена ўдзелам ў гарадскіх мерапрыемствах, якія звязаны кантактамі з Рэспублікай Беларусь. Ліля Сямёнава нарадзілася 7 студзеня 1951 г. у вёсцы Кабылякі Ваўкавыскага раёна. Закончыла сярэднюю школу ў пасёлку Краснасельскі, потым Мінскі радыётэхнічны тэхнікум і Ленінградскую вышэйшую прафсаюзную школу. З 1976 г. жыве ў Пецярбургу, працуе ў турыстычным бізнесе. На 2005 г. яна — выканаўчы дырэктар турыстычнай групы «Аркадзія», адна з формаў працы гэтай фірмы — арганізацыя (пры падтрымцы адміністрацыі раёнаў Санкт-Пецярбурга) падлеткавай турыстыкі ў Беларусь, па месцах баявой славы.

## Санкт-Пецярбургская асацыяцыя беларусістаў

Дзякуючы збегу акалічнасцяў у стварэнні Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў у 1991 г. у Варшаве прымаў удзел прадстаўнік Санкт-Пецярбурга супрацоўнік Расійскай нацыянальнай бібліятэкі Мікола Нікалаеў. Пасля вяртання ў горад над Нявой ён стаў ініцыятарам заснавання Санкт-Пецярбургскай філіі гэтай асацыяцыі. Большасць з пакліканых на першы сход асоб былі вучоныя-гуманітарыі, прадметам навуковых доследаў якіх была гісторыя Беларусі. Арганізацыйнае пасяджэнне прайшло ў аддзеле газет РНБ, на Фантанцы, 36. Сярод прысутных: археолагі Марыяна Малеўская-Малевіч і Васіль Булкін, гісторык Валянцін Грыцкевіч, культуролаг Аляксандр Мыльнікаў. Апошняга абралі старшынёй Пецярбургскай асацыяцыі. Юрыдычнай рэгістрацыі ў Пецярбургу асацыяцыя не мела, трактуючы сябе як філію зарэгістраванай у Мінску Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Асноўным відам дзейнасці для новастворанай супольнасці стала падрыхтоўка і правядзенне гадавой навуковай канферэнцыі. Тэма першай канферэнцыі «Санкт-Пецярбург і беларуская культура» ператварылася ў сталую назву; у чэрвені 2008 г. адбылася ўжо 16-я штогадовая канферэнцыя.

Усяго на пасяджэннях было прадстаўлена больш за 200 дакладаў гісторыка-культурнай тэматыкі. Пляцоўку для канферэнцый дала Расійская нацыянальная бібліятэка: большасць з іх прайшлі ў канферэнц-зале на Садовай, 18, некалькі — на Фантанцы, 36. Шэсць канферэнцый былі прысвечаны вядомым дзеячам беларускай культуры: Яўхіму Карскаму, Міколу Ермаловічу, кнігапісцу Мацею Дзесятаму, Адаму Міцкевічу, Паўлу Шэйну і Міхаілу Каяловічу і адна — выдатнаму пецярбургскаму славісту заўчасна памерламу старшыні асацыяцыі Аляксандру Сяргеевічу Мыльнікаву. У рамах 4-й канферэнцыі адбылася дэманстрацыя відэафільма балета «Паланез», які падрыхтаваў беларускі кампазітар Яўген Паплаўскі паводле матэрыялаў пецярбургскіх архіваў.

На канферэнцыі выступалі супрацоўнікі Расійскай нацыянальнай бібліятэкі: Аляксей Аляксееў, Валерый Антонаў, Вольга Бабук, Наталля Грынчанка, Сяргей Жамайціс, Дзмітрый Левін, Марыя Лукоўская, Марк Мамантаў, Ірына Матвеева, Павел Мядзведзеў, Наталля Патрушава, Наталля Рамазанава, Аляксей Раздорскі, Анатоль Разумаў, Наталля Рогава, Марыя Ткачэнка, Вольга Шэлюта, Дзяніс Шылаў і Міхаіл Эльзон.



*Удзельнікі канферэнцыі «Санкт-Пецярбург і беларуская культура», 2001 г.*

Акрамя таго, у канферэнцыі прымалі ўдзел супрацоўнікі Дзяржаўнага Эрмітажа (Барыс Сапуноў, Мая Еўтушэнка), прадстаўнікі Бібліятэкі Акадэміі навук (Алена Камісарава, Вольга Гусева, Аляксандр Гладкі), супрацоўнікі Інстытута гісторыі мастацтваў (Ігар Мацыеўскі, Галіна Таўлай, Іна Чудзінава), Санкт-Пецярбургскага універсітэта культуры (Валянцін Грыцкевіч, Кастусь Казаронак), По-

літэхнічнага універсітэта (Ігар Жураўскі), Кунсткамеры (Аляксандр Мыльнікаў, Аляксандр Рэшатаў), Музея этнаграфіі народаў Расіі (Алег Лысенка), Лесатэхнічнай акадэміі (Пётра Кропаў), Дзяржаўнага універсітэта (Васіль Булкін, Іван Чачот), Санкт-Пецярбургскага універсітэта аэракасмічнага прыборабудавання (Тамара Смірнова), Еўрапейскага універсітэта ў Пецярбургу (Наталля Кардаш), Музея М. Ламаносава (Таццяна Маісеева), Дзяржаўнай кансерваторыі (Ірына Базылева), Пушкінскага Дома (Таццяна Карская, унучка акадэміка-беларусіста), Дзяржаўнага універсітэта эканомікі і фінансаў (Таццяна Раманава) і іншыя.

У канферэнцыі ўдзельнічалі вучоныя з Мінска (Генадзь Сагановіч, Віталь Скалабан, Надзея Усава, Радаслава Аладава, Алена Рай, Ірына Гапоненка), Гродна (Альбіна Семянчук, Генадзь Смалянчук, Генадзь Семянчук), Салігорска (Ларыса Бойка).

Сталымі ўдзельнікамі былі даследчыкі з навуковых установаў Варшавы (Міхал Кандрацюк, Юрка Туронак), Кракава (Івона Пятшкевіч, Ліля Коўкель), Катавіц (Іаланта Гвёздзік, Здзіслаў Янэчак, Эдвард Ружыцкі), Беластока (Антоні Мірановіч, Пётр Хомік, Ян Насовіч, Ванда Супа, Галіна Параф'яновіч), Ольштына (Зоя Ярашэвіч-Пераслаўцаў), Любліна (Рышард Радзік, Кшыштаф Краўчык), Будапешта (Андраш Золтан), Стакгольма (Андрэй Катлярчук) і Масквы (Ігар Андрэеў, Інэса Слюнькова).



*Валерый Антонаў*

Паводле матэрыялаў канферэнцыі выдадзены чатыры выпускі «Беларускага зборніка». Галоўным іх рэдактарам быў гісторык і бібліёграф выпускнік Ленінградскага універсітэта **Валерый Васільевіч Антонаў** (нар. 5 жніўня 1953 г.) — супрацоўнік Расійскай нацыянальнай бібліятэкі, чалавек, без перабольшвання, энцыклапедычных ведаў. Праца над навуковай тэмай «Палітыка напалеонаўскай Францыі на акупаваных землях Еўропы» прывяла яго да неабходнасці вывучыць мовы ўсіх акупаваных французамі народаў, уключаючы такія рэдкія, як венгерская, літоўская і беларуская. Хоць у адносінах да апошняй была яшчэ і іншая матывацыя: выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» зрабіла Валерыя Антонава адным са сваіх сталых аўтараў і навуковым кансультантам. А яшчэ карэнны пецярбуржац Валерый Антонаў памятаў сваю бабулю, якая паходзіла са старажытнага беларускага Рослаўля, што недалёка ад Смаленска.

Тэматыка матэрыялаў зборнікаў вельмі разнастайная. Этнакультурная і этнапалітычная гісторыя і сучасны стан гістарычнай навукі Беларусі, пытанні генеалогіі і крыніцы па гісторыі руска-беларускіх эканамічных сувязяў, помнікі старабеларускага кнігадрукавання ў дапятроўскай Расіі і культурныя ўзаемаадносіны XIX—XX стст., гісторыя царквы і царкоўных бібліятэк — гэта толькі няпоўнае кола праблем. Шмат якія з артыкулаў заснаваны на ўпершыню ўведзеных у навуковы ўжытак крыніцах з пецярбургскіх бібліятэк, музеяў і архіваў.

Беларусістыка з'яўляецца часткай славяназнаўства — навуковага комплексу, які вывучае мовы, гісторыю і культуру славянскіх народаў, іх узаемаадносіны паміж сабой і іншымі народамі. На момант правядзення канферэнцый і выдання «Беларускага зборніка» ў межах славяназнаўства зацвердзіліся два падыходы. З аднаго боку, супастаўляльны, параўнальна-гістарычны, пры якім за прыярытэт выступае даследаванне, так бы мовіць, скразных праблем: славянскі этнагенез, складанне сярэднявечных славянскіх этнічных супольнасцяў, фарміраванне нацый і нацыянальных культур, міжславянскія ўзаемадачыненні, эвалюцыя ідэй «славянскай узаемнасці» і г. д. З другога боку, вывучаецца гісторыя, культура, мова асобных народаў (так званае краязнаўчае вывучэнне). Абодва гэтыя падыходы ўзаемазвязаны. Бо нельга паўнавартасна вывучаць беларусаў па-за агульнагістарычным кантэкстам і без тэарэтычных распрацовак, але і разгляд тэарэтычнай праблематыкі без уліку вынікаў канкрэтных краіназнаўчых даследаванняў можа ператварыцца ў спекуляцыю. Аўтары зборніка імкнуліся пазбегнуць абедзвюх небяспек, каб пры тых ці іншых недахопах, пры практычнай немагчымасці ахапіць усе аспекты гісторыі і культуры Беларусі, прапанаваныя для публікацыі працы паспрыялі далей-

шаму развіццю пецярбургскай беларусістыкі. Выдаўцы, акрамя ўсяго, мелі і спецыфічную зацікаўленасць, не вельмі ўласцівую для акадэмічнага славяназнаўства, але важную для нацыянальнай бібліятэкі — гэта стымуляванне вывучэння Беларусі ў сферы бібліяграфіі, кадыкалогіі, гісторыі кнігі.

Ва ўступе да першага выпуску адзначана, што выдаўцоў не палохае некаторая пярэстасць зборніка; у наступным яна павялічылася яшчэ больш, паколькі да чатырох рубрык — «Артыкулы», «Публікацыі», «Паведамленні і нататкі», «Агляды і рэцэнзіі» — дадаліся дзве новыя. Адна з іх, «Бібліяграфічныя і даведачныя матэрыялы», дастаткова традыцыйная ў навуковым выданні; другая ж — «Мая Беларусь» — гэта спроба сабраць, зафіксаваць уражанні пра краіну і народ з боку, вачыма самых розных людзей. Неістотнае і штодзённае часта з дыстанцыі гадоў аказваецца зусім іншым; тэарэтычнаму крыніцазнаўству даўно вядомая тая ісціна, што ў памяці лепш за ўсё захоўваюцца факты экстраардынарныя, а рэаліі штодзённага жыцця, як само сабой зразумелае, забываюцца, скажаюцца, робяцца незразумелымі ўжо ў бліжэйшых пакаленнях. І яшчэ: рэдкалегія лічыла за варты ўвагі прадмет не толькі Беларусь і яе народ у аб'ектыўным сэнсе, але і іх вобраз, які склаўся ў свядомасці наваколля, з усімі стэрэатыпамі і неадпаведнасцямі. Побытавая свядомасць моцна ўздзейнічае на этнічныя ўяўленні, а тыя, у сваю чаргу, на гістарычныя падзеі. Сур'ёзнасць гэтай праблематыкі не падлягае сумненню.

Пачынаючы з другога выпуску ў «Беларускім зборніку» з'явіліся артыкулы на польскай мове. Калегі з Польшчы з самага пачатку прымалі ўдзел у пецярбургскіх канферэнцыях; была вялікая спакуса перакласці польскія тэксты на рускую мову і гэтым забяспечыць ім большы рэзананс у Расіі (ды, бадай, і на Беларусі). Усё ж рэдкалегія адмовілася ад гэтага, у мэтах у пэўнай ступені педагагічных: валоданне польскай мовай, хоць бы на ўзроўні чытання, падаецца абавязковай умовай для прэтэндэнтаў на які б там ні было ўклад у беларусістыку. У адным з водгукаў на першы выпуск было заўважана, што выданню «трэба думаць, наканавана доўгае жыццё»[1] — гэтыя словы самі выдаўцы стасавалі не столькі да самога выдання, колькі да відавочнай актуальнасці і запатрабаванасці беларусазнаўчай тэматыкі.



*Сустрэча пецярбургскіх беларусаў з гісторыкам Генадзем Сагановічам*

## Санкт-Пецярбургскі клуб беларусаў

Спроба стварыць элітны клуб з землякоў, якія апынуліся на вяршыні Пецярбургскай улады, належыць былому намесніку камандуючага Ленінградскай ваеннай акругай генерал-лейтэнанту **Ігару Іванавічу Кавалёву** (родам з-пад Оршы). Зарэгістраваны «Санкт-Пецярбургскі клуб беларусаў» у мэрыі 2 лістапада 2000 г. Статутныя мэты: захаванне і развіццё нацыянальных традыцый, знаёмства з імі пецярбуржцаў, правядзенне адпачынку. Усяго «Клуб» аб'яднаў не больш як 30 чалавек, для якіх былі нават надрукаваны спецыяльныя клубныя білеты на пласцікавых картках. Сярод членаў — Вячаслаў Заранкоў, Леанід Тарасевіч, Сяргей Алексанін і інш.

Віцэ-прэзідэнтам стаў **Алег Анатольевіч Нікіцін**, прэзідэнт ЗАТ «Холдынгавая кампанія «Гранд» (нарадзіўся 28 снежня 1959 г. у Кобрыне). Пасля заканчэння кобрынскай СШ № 1 вучыўся ў Брэсцкім інжынерна-будаўнічым інстытуце, Акадэміі абаронных галінаў прамысловасці ў Маскве, скончыў школу менеджэраў па спецыяльнасці «кіраванне прадпрыемствам ва ўмовах рыначных адносін»: мае кваліфікацыю «спецыяліст па антыкрызісным кіраванні прадпрыемствам». Этапы росту адлюстроўвае працоўная біяграфія: служба ў Савецкай Арміі, пасля якой працаваў шафёрам, пазней займаў кіруючыя пасады ў сістэме жыллёва-камунальнай гаспадаркі Ленінграда; працаваў намеснікам старшыні кааператыва «Бытаўтаматыка», дырэктарам брокерскай фірмы «Авіяпром». У 1997–1999 гг. Алег Нікіцін — генеральны дырэктар ЗАТ «Лукойл-Санкт-Пецярбург»; з 1992 г. — стваральнік і прэзідэнт ЗАТ «Холдынгавая кампанія «Гранд». Ён член камісіі па развіццю супрацоўніцтва Санкт-Пецярбурга і Беларусі, першы віцэ-прэзідэнт

[1] Беларускі гістарычны агляд. 1998. Сш. 1. С. 534.



*Алег Нікіцін*

рэгіянальнай грамадскай арганізацыі «Санкт-Пецярбургскі клуб беларусаў», член праўлення грамадскага фонда «Дайце дзіцяці шанец», член дабрачыннага савета рэабілітацыйнага цэнтра нарказалежных хворых.

У Клуба беларусаў далей, чым некалькі сустрэч і частавання бульбянымі аладкамі, справа не пайшла.




*Білет СПБ Клуба беларусаў*

## Дыпламатычнае прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь

Дыпламатычныя адносіны незалежнай Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі прайшлі пасля перабудовы шлях станаўлення і былі арганізаваны іначай, чым пры СССР. У гэты час жыццё было неўпарадкавае, старыя арыенціры зніклі, новыя не паспелі яшчэ зфарміравацца. Гаспадарчыя сувязі былі парушаныя. У цягніках, якімі ехалі з Беларусі ў Пецярбург падарожным не давалі спакою праверкі беларускіх, потым літоўскіх, потым латышскіх, потым расійскіх пагранічнікаў і мытнікаў. Дзеля аблягчэння сітуацыі ў 1994 годзе цягнікі Варшава-Пецярбург і Берлін-Пецярбург пайшлі мінаючы Латвію і Літву (праз Полацк і Ліду), а затым і ўвогуле былі знятыя. З Беларусі «на гастролі ў Піцер» прыбывалі крымінальнікі, што давала клопату мясцовай міліцыі. З прычыны замены пашпартоў СССР на новыя, шмат перад кім паўстала праблема выбару і афармлення грамадзянства.

У Маскве адкрылася пасольства РБ, а ў Санкт-Пецярбургу 25 кастрычніка 1998 г. з'явілася аддзяленне пасольства, якое ўзначаліў кіраўнік аддзялення. Па традыцыі гэтую асобу называлі консулам. У задачы аддзялення пасольства РБ, акрамя консульскай дапамогі грамадзянам Беларусі і афармлення віз замежнікам, уваходзяць пытанні наладжвання гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва Беларусі з Санкт-Пецярбургам, Ленінградскай, Наўгародскай і Пскоўскай абласцямі РФ.

Першы консул — кіраўнік аддзялення пасольства Рэспублікі Беларусь — **Уладзімір Міхайлавіч Рудзянкоў**. Прафесар Беларускага політэхнічнага інстытута, сын рэпрэсаванай данской казачкі і беларуса-эмігранта. Вярнуўся з Дона на Гомельшчыну — радзіму бацькі, атрымаў добрую прыродазнаўчую адукацыю, хоць заўсёды меў сантымент да народнай культуры і фальклору. Клопатам Уладзіміра Рудзянкова было адшукана памяшканне на набярэжнай Рабесп'ера 8/46, кв. 66. Прэстыжны раён горада, недалёка ад Смольнага, але размешчана было прадстаўніцтва так, што бел-чырвона-белы (а пазней чырвона-зялёны) сцяг убачыць можна было хіба што толькі з Нявы. Консульства спрыяла кантактам беларускіх прадпрыемстваў і вытворцаў з пецярбуржскімі спажыўцамі: на спецыялізаваных выстаўках былі прадстаўлены беларускія аўтамабілі і трактары, беларускае піва і прадукты харчавання. Аднак афіцыйныя прадстаўнікі РБ абміналі мерапрыемствы, на якіх пецярбуржцы, у тым ліку і мясцовая беларуская дыяспара, асуджалі злачынствы савецкай улады. Прынамсі ні консул У. Рудзянкоў, ні яго пераемнік В. Шаладонаў не палічылі за патрэбнае (не мелі дазволу?) наведаць манумент ахвярам палітычных рэпрэсій ў Левашове.

Другі консул — **Васіль Іванавіч Шаладонаў** — ураджэнец вёскі Граб'е Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння юрыдычнага факультэта Белдзяржуніверсітэ-

та ён працаваў у органах пракуратуры, з 1990 г. быў абраны народным дэпутатам БССР, затым намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета БССР. У гады перабудовы (1992–1995) Васіль Шаладонаў — генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь. Ён застаўся ва ўспамінах пецярбургскай дыяспары як чалавек, які ўпершыню шырока прадставіў у сучасным горадзе менавіта беларускае мастацтва. Да гэтага па лініі МЗС практыкавалася запрашэнне мінскіх артыстаў з «класічным» рэпертуарам. На фоне вельмі высокай пецярбургскай школы яны ў лепшы бок не вылучаліся, публіка іх лёгка забывала. Васіль Шаладонаў запрашаў на афіцыйныя мерапрыемствы выканаўцаў, якія неслі ў горад высокапрафесійнае беларускае мастацтва.

У апошнія дні 2002 г. у Малой зале Пецярбургскай кансерваторыі адбыўся канцэрт мінскага ансабля салістаў «Класік-Авангард» пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава. Вядучым праграмы выступіў знакаміты гісторык музыкі Віктар Скарабагатаў. Ён прадстаўляў слухачам беларускія творы XVII, XVIII, XIX і XX стст. («Віленскі сшытак», М. Радзівіл, К. Ельскі, С. Манюшка, В. Капыцько, Г. Гарэлава, В. Кузняцоў), акцэнтаваў увагу на асаблівасцях самой музыкі і яе выканання, расказваў гістарычныя анекдоты... Пры канцы першага аддзялення канцэрта ён звярнуўся да залы з паведамленнем: «*Шаноўныя прысутныя! Я вельмі рэдка ў сваім жыцці выходжу да публікі ў такой незвычайнай для мяне ролі — вядучага, бо маю зусім іншую адукацыю і прафесію. Бывае, я і дырыжырую, а маэстра Байдаў мне чамусьці дазваляе гэта рабіць. Вось і зараз дазволіў. Прагучыць урывак з оперы Віктара Капыцько «Яго жонкі». Рэч складаная і «страшная». Каб уявіць сабе, што гэта за музыка, дастаткова назваць асноўнага героя — герцаг Сіняя Барада. Паслухайце, якім уяўляе яго кампазітар*». Павярнуўшыся да ансамбля, Скарабагатаў прадырыжаваў тэмпераментны ўступ, а потым павярнуўся да публікі і праспяваў арыю Сіняй Барады. Тут трэба сказаць, што музыказнаўства і гісторыя музыкі — гэта другая прафесія Віктара Скарабагатава, а па першай спецыяльнасці ён — вядучы бас Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі, выканаўца з высокай культурай спеву і чалавек, адораны магутным голасам прыгожага тэмбру. Арыя закончылася эфектным выхадам на высокі «ля-бемоль». Публіка была ў захапленні, поспех надзвычайны!

З іншага боку, у дзейнасці В. Шаладонава (як і яго папярэдніка і паслядоўніка) выявілася абыякавасць да беларускіх старажытнасцяў (гістарычных і мастацкіх помнікаў), якія захоўваюцца ў розных пецярбургскіх зборах — магчыма, ад недаацэнкі гэтай сферы, магчыма, і ад слабага ведання гісторыі. Афіцыйная Беларусь і яе прадстаўнік у горадзе заклапочаны былі пераважна гаспадарчымі праектамі. Хоць будучы чалавекам вялікай фізічнай сілы Васіль Іванавіч да гісторыі спрычыніўся: асабіста зацягнуў на басціён Петрапаўлаўскай крэпасці маленькую гармату, якую ад імя беларускага народа падарылі гораду на 300-годдзе. У часы Васіля Шаладонава асабліва адчулася розніца ў падыходах да працы ў Пецярбургу беларускага дыпламатычнага прадстаўніцтва і польскага консуляту. Клопатамі польскага консула Качмарэка і віцэ-консула Гралі былі выдадзены каталогі кніг нясвіжскай замкавай бібліятэкі і дакументы па гісторыі картаграфіі беларускіх земляў, прычым рыхтавалі гэтыя кнігі высокакваліфікаваныя пецярбургскія даследчыкі, а «шапку» (і параўнальна невялікія сродкі) давала польскае консульства. У выніку дакументы выйшлі ў серыі «Помнікі польскай гісторыі». Беларускія дыпламаты рабілі выгляд, што не разумеюць значэння нацыянальных прыярытэтаў (а, магчыма, і сапраўды не разумелі). Пасля вяртання ў Мінск Васіль Шаладонаў узначальваў мінскае прадстаўніцтва Пастаяннага камітэта Беларуска-расійскага саюза, а ў лютым 2007 г. трагічна загінуў ад побытавай апёкавай траўмы.

Трэцім консулам стаў **Міхаіл Іванавіч Русы**, ураджэнец Тураўшчыны, да пераезду ў Пецярбург — міністр сельскай гаспадаркі РБ. Прыступіўшы да выканання абавязкаў у сакавіку–красавіку 2004 г., ён разгарнуў актыўную дзейнасць па віншаванні ветэранаў Другой сусветнай вайны, удзельнікаў бітваў за Беларусь. У восені 2004 г. Міхаіла Русага абралі дэпутатам і ён вярнуўся на радзіму. Апошняе, што паспеў зрабіць — перанесці консульства ў новае памяшканне на вуліцы Бонч-Бруевіча, 3.

Пасля некаторага перапынку на пачатку лета 2006 г. аддзяленне пасольства РБ узначаліў магілёвец **Дзмітрый Аляксандравіч Сівіцкі**, а на дапамогу яму ў канцы таго ж года быў прызначаны першы сакратар, куратар консульскіх і гандлёва-эканамічных пытанняў, ураджэнец Ашмянаў **Уладзімір Уладзіміравіч Няронскі**. Пачатак дзейнасці Д. Сівіцкага супаў з важнай міжнароднай падзеяй: у ліпені 2006 г. ў Канстанцінаўскім палацы ў Стрэльне адбылася сустрэча кіраўнікоў 8 вядучых дзяржаў свету (саміт G-8). Падчас саміту ў горадзе сканцэнтраваліся не толькі

антыглабалісты, якіх абмежавалі тэрыторыяй стадыёна імя Кірава (яшчэ да зносу старога стадыёна): падцягнуліся і беларускія апазіцыянеры, якіх хутка нейтралізавалі спецслужбы. 21 ліпеня пад загалоўкам «Чаму беларуская амбасада не абараніла сваіх грамадзян падчас G8 у Пецярбургу?» газета «Наша Ніва» паведамляла: «Беларускія моладзевыя актывісты, якія пацярпелі ад міліцыі ў час саміта G8, у лісце кіраўніку аддзялення пасольства Беларусі ў Пецярбургу Дзмітрыю Сівіцкаму задаюць пытанне: «Чаму пасольства Рэспублікі Беларусь у Расіі не абараняе правы грамадзян сваёй краіны?».

Безумоўным поспехам працы Д. Сівіцкага ў Пецярбургу з'явілася значнае павялічэнне гандлёва-эканамічных сувязяў Рэспублікі Беларусь з Санкт-Пецярбургам і ўсім Паўночна-Заходнім рэгіёнам Расіі. На пачатку чэрвеня 2008 г., падчас 12-га Пецярбургскага эканамічнага форума на Васільеўскім востраве вырашаліся лёсы сусветнай эканомікі: у мерапрыемстве ўзялі ўдзел больш за 10 тысяч чалавек, у тым ліку і 800 прадстаўнікоў СМІ. На форум прыехалі 74 афіцыйныя дэлегацыі, прысутнічалі кіраўнікі дзяржаў, прэм'еры, віцэ-прэм'еры, міністры, кіраўнікі сусветных кампаній. Сярод пытанняў, што абмяркоўваліся на форуме, многія ў той ці іншай ступені датычыліся і інтарэсаў Беларусі. Напрыклад, «Нацыянальныя інтарэсы і глабальныя правілы: выклікі будучыні», «Свет адной валюты», «Энергетыка — глабальныя ігракі і арбітры. Узаемазалежнасць, партнёрства, канкурэнцыя».

Аднак, як пісаў крыху пазней карэспандэнт мінскай «Звязды»: «...беларусаў [там] не было. Прынамсі, ні ў спісах удзельнікаў, ні жыўцом нікога знайсці не ўдалося. Беларуская дэлегацыя на чале з віцэ-прэм'ерам Беларусі Андрэем Кабяковым працавала ў гэты ж час паралельна, у рэзідэнцыі губернатара Ленінградскай вобласці. На пасяджэнні сумеснай камісіі разглядаліся пытанні супрацоўніцтва гандлёва-прамысловых палат, паставак трактароў і сельскагаспадарчай тэхнікі з Беларусі, узаемных паставак прадукцыі аграпрамысловага комплексу, развіцця супрацоўніцтва і кааперацыі ў галіне будаўніцтва, рэалізацыі сумесных праектаў на тэрыторыі Ленінградскай вобласці. На прэс-канферэнцыі па выніках пасяджэння адзначана, што гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва паміж Рэспублікай Беларусь і Ленінградскай вобласцю развіваецца дынамічна. Хаця сальда гандлю для Беларусі з Ленінградскай вобласцю складваецца адмоўнае. Падчас пасяджэння сумеснай камісіі Андрэй Кабякоў выканаў і яшчэ адну прыемную місію: уручыў беларускі ордэн Пашаны губернатару Ленінградскай вобласці Валерыю Сердзюкову за значны ўклад у развіццё гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і рэгіёнам Расійскай Федэрацыі.



*Мікола Нікалаеў знаёміць першага намесніка міністра культуры РБ Уладзіміра Рылатку і консула РБ у СПБ Дзмітрыя Сівіцкага з пецярбургскім экзэмплярам Брэсцкай біблії 1563 г.*

Акрамя дыпламатычнага прадстаўніцтва у Санкт-Пецярбургу дзейнічаюць прадстаўніцтвы буйных беларускіх фірмаў, прыкладам, генеральнае прадстаўніцтва Мінскага аўтазавода, якое ўзначаліў Аляксандр Тадэвушавіч Зарэмба. Мінскі трактарны завод стварыў сваё прадстаўніцтва ў 1994 г. З 2000 г. завод змяніў форму працы на расійскім рынку і прадстаўніцтву дадзены статус дылера па продажы прадукцыі МТЗ у Пецярбургу і рэгіёне. Акрамя продажу (штогод каля 650 адзінак тэхнікі) прадстаўніцтва займаецца тэхнічным абслугоўваннем, рамонтам, арганізацыяй майстэрняў, складоў... Арганізавана некалькі пляцовак: на Васільеўскім востраве, на вуліцы Бела Куна і на ўездзе ў горад каля Пулкава. Узначальвае прадстаўніцтва **Ігар Уладзіміравіч Рудзянкоў**, сын першага консула РБ у Пецярбургу. Нарадзіўся ён 29 мая 1963 г. у Мінску, закончыў СШ № 130 і машынабудаўнічы факультэт Тэхналагічнага інстытута.

## Заканчэнне

Пакуль не былі напісаны апошнія радкі гэтай кнігі, аўтар вагаўся над яе загалоўкам. Рабочых варыянтаў было два: «Беларусы ў Пецярбургу» альбо «Беларускі Пецярбург». У дыскусію аб назве незаўважна ўключыліся і ўспамянутыя ў тэксце сучаснікі. Роздум над лёсамі людзей і вынікамі падзей прывёў, урэшце, да назвы «Беларускі Пецярбург». Прычына ў тым, што 300-гадовая гісторыя прысутнасці ў Пецярбургу выхадцаў з Беларусі дае нам падставы трактаваць населены пункт на берагах Нявы не проста як вялікі беларускі горад, але для канца XVIII – пачатку XX стагоддзя і як адну з беларускіх сталіц — нароўні з Вільняй.

Гэта вынікае са складу насельнікаў (у XIX ст. Санкт-Пецярбург–Петраград па колькасці жыхароў-беларусаў стаў самым вялікім у свеце гарадскім паселішчам), значнасці прынятых тут рашэнняў і зробленай тут працы, а таксама шматслойнасці і пераемнасці ў Пецярбургу беларускай прысутнасці і беларускай культуры. Вось толькі адзін прыклад: у гэтым горадзе жыў і вучыўся рэвалюцыянер Кастусь Каліноўскі, з гэтага гораду прыйшоў загад на яго смяротнае пакаранне і ў гэтым жа горадзе пра Кастуся Каліноўскага шмат пазней знялі першае беларускае кіно. А ў той час, калі былы чытач пецярбургскай Імператарскай Публічнай бібліятэкі Кастусь Каліноўскі выдаваў на Гродзеншчыне першую беларускую газету, а потым пайшоў дзеля сваіх ідэалаў на шыбеніцу, яго зямляк-пецярбуржац, супрацоўнік гэтай жа бібліятэкі Каятан Касовіч не толькі абмяркоўваў з расійскімі інтэлектуаламі спосабы лячэння хваробы названай «польскім бунтам», але і ўсё зрабіў, каб выдаць друкам першы навуковы слоўнік беларускай мовы. І гэты (складзены Іванам Насовічам) слоўнік выйшаў менавіта ў Пецярбургу, пад рэдакцыяй дырэктара Публічнай бібліятэкі, сакурсніка і сябры Каятана Касовіча, акадэміка Афанасія Бычкова!

Мала таго, што ў Пецярбургу знаходзіцца самы старажытны беларускі рукапіс біблійных кніг і найбольшая ў свеце калекцыя выданняў Францыска Скарыны — містычная Паўночная Сталіца здаўна засяляецца легендамі, адна з якіх апавядае пра тое, што славуты сярэдневяковы лекар, перакладчык Бібліі і беларускі першадрукар жыў і працаваў менавіта ў Піцеры. Расказваюць таксама, што беларуская прысутнасць у Пецярбургу пачалася ад сябры маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча (бацькі Пятра Першага) св. Афанасія Філіповіча, бо па загаду Пятра ў новазаснаваную сталіцу прывезлі галаву св. Афанасія, якая быццам бы перажыла эпоху ваяўнічага атэізму і дасёння павінна знаходзіцца недзе ў скляпеннях Казанскага сабору. А тое, што менавіта беларус Сімяон Полацкі прадказаў нараджэнне будучага заснавальніка Санкт-Пецярбурга Пятра Вялікага і яго слаўнае цараванне вядома кожнаму, хто хоць крыху цікавіцца астралогіяй.

Канечне, вывучэнне паўночнай сталіцы трэба працягваць і паглыбляць з улікам яе кантактаў з правінцыяй (альбо з метраполіяй — у нашым выпадку прымяняльныя абодва тэрміны). Не раскрыта яшчэ багацейшая скарбніца беларускай гісторыі — архівы, перанесеныя ў свой час на Няву з Жыровіцкага манастыра, Полацкай акадэміі, Наваградскай мітраполіі і Нясвіжскага замка, мала вядомыя датычныя Беларусі дакументы Сената і Сінода. Колькасць дакументаў (аб'ём інфармацыі) у іх супаставімы з патэнцыялам гродзенскіх, мінскіх, варшаўскіх і віленскіх сховішчаў разам узятых. Дзеля гісторыі культуры важна папрацаваць над рэканструкцыяй і вывучэннем вывезеных з Беларусі ў Пецярбург бібліятэк князёў Радзівілаў і Сапегаў, а таксама кніг са шматлікіх манастыроў, улічваючы пры гэтым, што існаваў рух і ў адваротным кірунку: у XX ст. на Беларусь пераехалі вялікія кнігазборы пецярбургскіх прафесараў Ігара Яроміна, Яўхіма Карскага, Браніслава Эпімаха-Шыпілы і Паўла Беркава. Тысячы тысяч прадметаў беларускай спадчыны знаходзяцца ў Пецярбургу. Гэта нумізматыка і гістарычная зброя, побытавыя рэчы сялян і помнікі фатаграфіі XIX стагоддзя, творы беларусаў-архітэктараў, жывапісцаў, мазаістаў, прыродазнаўчыя калекцыі І. Гашкевіча, М. Пржэвальскага, М. Ісаковіча, помнікі тэхнікі, пабудаваныя ў фірмах інжынераў К. Ляшэвіча, С. Лукашэвіча, Г. Рабцэвіча... Яны патрабуюць увагі і клопату. Яны, нажаль, могуць быць незваротна страчаны, як страцілася частка кніг Радзівілаў падчас пажару бібліятэкі Акадэміі навук, альбо страчаны праз адарванасць ад свайго ранейшага лёсу, як рэчы з Нясвіжа і Ружанаў, перададзеныя савецкімі ўладамі ў Кракаў і Вашаву, альбо скрадзеная з кватэры аўтара гэтай кнігі беларуская каменная сякера, якую некалі падарылі вучні Лукашоўскай школы Пастаўскага раёна свайму настаўніку гісторыі.

Увагі, клопату і добразычлівай зацікаўленасці патрабуюць таксама людзі — і продкі, і сучаснікі. Апынуўшыся ў Паўночнай сталіцы ў атачэнні розных народаў, нашы землякі мусілі прыстасавацца да культурнага плюралізму, перасячэння культураў больш моцных, чым беларуская. Прыкладам, калі ў 1848 г. у сталічны універсітэт з Мінска прыехаў вучыцца будучы славуты адвакат і вядомы літаратар Уладзімір Спасовіч, ён здымаў пакойчык разам з варшавякам, лютэранінам габрэйскага паходжання Маўрыкіям Баляславам Вольффам, які праз нейкі час стаў Маўрыкіем Восіпавічам Вольфам — мільянерам, адным з багацейшых кнігавыдаўцоў Расіі. Памятаючы аб тым студэнцкім сяброўстве лягчэй зразумець чаму, напрыклад, пры падрыхтоўцы манументальнага 12-томавага выдання Вольфа «Дзеяпісы краю ў перакладзе з мовы лацінскай на польскую» большасць працы выканаў У. Спасовіч пры ўдзеле віленчукоў У. Сыракомлі і І. Йохера. А падзеі жыцця сучаснага беларускага Пецярбурга шмат лягчэй зразумець, калі ведаць, прыкладам, што адказны супрацоўнік ленінградскага абкаму партыі Васіль Галаўко і карэспандэнт газеты «Красная звезда» пісьменнік Віктар Пінчук — родныя браты, студэнтка фінансава-эканамічнага інстытута Таццяна Раманава, якая ў гады перабудовы змагаецца за права афіцыйна працаваць у Пецярбургу з наваградскай прапіскай і беларускім пашпартам — пляменніца рэктара свайго інстытута, прафесар-медык Мікалай Гурын і яго жонка Вольга Філіпаўна (Мажэйка) звязаны з генералам-авіятарам Леанідам Сланеўскім тым, што яго маці была іх класным кіраўніком у Наваградскай школе і выдатна навучыла матэматыкі... Такіх біяграфічных таямніц і акалічнасцяў — безліч. Часта чалавечыя лёсы залежаць ад эканамічных абставін — на шмат якія піцерскія прадпрыемствы перайшлі спецыялісты з беларускіх заводаў-партнёраў. Вось прыклад: сёння генеральным дырэктарам пецярбургскай фірмы «Аўтакампаненты і абсталяванне» працуе кандыдат хімічных навук **Валерый Паўлавіч Кісялевіч** (нар. 25.10.1954 г. у Маларыце Брэсцкай вобласці), выпускнік Беларускага тэхналагічнага інстытута; намеснікам па аўтапрамысловаму кластэру ў яго **Максім Анатолевіч Захарэвіч**, ураджэнец Жодзіна, кандыдат эканамічных навук, выпускнік Беларускай політэхнічнай акадэміі. Бацька Максіма Захарэвіча, ураджэнец Барысава, кандыдат тэхнічных навук **Анатоль Паўлавіч Захарэвіч** (нар. 20.05.1950 г.) працуе генеральным дырэктарам ААТ «Расійскі авіяпрыборабудаўнічы альянс», а ўсе трое да пераезду ў Пецярбург працавалі ў беларускім прыборабудаўнічым аб'яднанні «Экран».



*Віталь Несцяровіч*

А вось выпускнік слонімскай СШ № 1 **Віталь Станіслававіч Несцяровіч** (нар. 12.02.1952 г.) перш чым узначаліць фірму, якая займаецца паектаваннем і будаўніцтвам энергетычнага абсталявання і інжынерных сістэм, доўгі час служыў на розных афіцэрскіх пасадах ва Ўзброеных сілах СССР, ад Грузіі да Германіі. Аднак СССР развалíўся, узброеныя сілы скараціліся і малады палкоўнік вырашыў паспрабаваць сілы ў іншай сферы дзейнасці. Сябры дапамаглі асталявацца ў Пецярбургу, традыцыйным цэнтры энергамашынабудавання. Заснаванае Віталем Несяцяровічам у 2003 годзе ЗАТ «ЭК-Праект» стала часткай групы кампаній «ЭнергаКапітал». Яно спецыялізуецца на праектаванні і пабудове кацельных установак магутнасцю да 50 МВт (вадагрэйных, паравых, тэрмамасляных), якія працуюць на розных відах паліва і прымяняюцца як для камунальных, так і для тэхналагічных мэтаў. Акрамя таго, фірма займаецца іжынернымі сеткамі, дызель-генератарнымі ўстаноўкамі, у тым ліку ў кантэйнерным выкананні, модульнымі кацельнымі, паветрана-кампрэсарнымі і насоснымі станцыямі. Працоўнымі дасягненнямі сталі энергаблок з 30-ці мікратурбін і 2 вадагрэйныя катлы на спартыўна-аздараўляльным комплексе «Ігора», тэрмамасляная кацельная

магутнасцю 39 МВт на дрэваперапрацоўчым прадпрыемстве ў горадзе Таржок, а таксама больш за 70 розных па магутнасці кацельных і энергаблокаў у розных рэгіёнах Расіі. Асабістымі дасягненнямі Віталя Станіслававіча сталі перамога над цяжкасцямі лёсу (у 1988 г. пры родах памерла першая жонка, пакінуўшы яго з двума маленькімі дзецьмі), дружба людзей, якім ён дапамог па жыцці, магчымасць кожны год наведаць родны Слонім. Хаця, прыкладам, са сваёй зямлячкай-сланімчанкай, заслужаным урачом Расіі **Галінай Мікалаеўнай Сцепаненка (Бандаровіч)** яму лягчэй сустрэцца ў Піцеры, дзе яна больш за сорак год працуе стаматолагам, галоўным урачом спецыялізаванай палiклінікі на Басковым, 22.

Як мантажнік радыёапаратуры на аршанскім заводзе «Чырвоны кастрычнік» пачаў працаваць ў 1977 г. **Міхаіл Клімавіч Сапега**, які нарадзіўся (30.11.1960 г.) у горадзе Барань Віцебскай вобласці. У 1986 годзе ён скончыў Ленінградскі фінансава-эканамічны інстытут і прыйшоў на піцерскае вытворчае аб'яднанне «Арсенал». Працаваў інжынерам, фінансавым дырэктарам, першым намеснікам генеральнага дырэктара. З 1997 да 2004 г. займаў пасады дырэктара завода артылерыйскіх і пускавых установак. А з 2003 г. да 2008 г. Міхаіл Сапега — старшыня Савета дырэктараў, з чэрвеня 2008 г. — генеральны дырэктар ААТ «Машынабудаўнічы завод «Арсенал» — аднаго з буйнейшых і старэйшых пецярбургскіх ваенных заводаў. Міжволі ўспамінаецца лёс ураджэнца вёскі Пясчаная Наваградскага павета Мінскай губерні **Пятра Емельянавіча Хінейко** (1882—1950 гг.). Натхніўшыся дакладам Льва Троцкага на VIII Надзвычайным з'ездзе Саветаў (у снежні 1920 г.), дэлегат гэтага з'езда Пётр Хінейко



*Пётр Марціновіч*

прыйшоў на вядучы энергабудаўнічы аб'ект Петраграда — Металічны завод, стаў адным з першых ударнікаў вытворчасці, ініцыятарам сустрэчнага промфінплана. Адзнакай стала ўзнагарода ў 1931 г. ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Рэшту жыцця, уключаючы гады вайны і блакады, працаваў брыгадзірам па зборцы ротараў паравых турбін паратурбіннага цэха № 1 Металічнага завода.



У канцы 20-га стагоддзя старую частку Пецярбурга сустрэла бяда: разбурэнне вонкавага аблічча гістарычнага цэнтра. Напалоханыя разгулам злачыннасці жыхары замест старых драўляных дзвярэй навешвалі ў парадных больш бяспечныя жалезныя, а пасля прыватызацыі асобных кватэр (не дамоў!) новыя ўласнікі сталі замяняць старыя драўляныя ваконныя рамы на пластыкавыя і метала-, дрэва-пластыкавыя. У выніку фасады гістарычных будынкаў большай часткай засталіся беззваротна сапсаваныя: замест прадуманых архітэктарамі наборных (а часта і розных) драўляных дзвярэй з бронзавымі ручкамі паўсюды паўсталі браніраваныя дзверы, часам шаляваныя, якія дзятва хутка распісала фарбамі з балончыкаў для пакраскі аўтамашын. Не рэгуляваная замена вокнаў прывяла да таго, што рамы на адным доме часта маюць розны колер і, што здаецца яшчэ горшым, яны розныя па малюнку. У выніку да вуліцы звернуты пластыкавыя белыя, наперамешку з карычневымі рамы, сярод якіх зрэдку яшчэ здараецца сустрэць аўтэнтычныя дарэвалюцыйныя, што выкананы па арыгінальных

праектах. Бронзавыя ручкі і іншыя дэталі сарваныя нашчэнт, прыгажэйшыя занесены ў антыкварныя крамы, большасць здадзена на лом каляровых металаў. Цэнтр Пецярбурга, які некалі занеслі ў спіс ЮНЭСКА як цалкам захаваны помнік XIX стагоддзя, страціў сваю прывабнасць — нешматлікія шыкоўна адрэстаўраваныя помнікі архітэктуры гэта толькі падкрэсліваюць. Кіраўнікі муніцыпальных аб'яднанняў, ад якіх залежыць стан прасторы кожнага раёна, працягваюць займацца забеспячэннем мінімальнай жыццядзейнасці старога фонду: заменай ліфтаў, рамонтамі газа-, цепла- і водаправодаў, вывазам смецця, паржавелымі ліхтарамі... Намаганні муніцыпалаў-беларусаў у гэтым жа рэчышчы.

Пачатак дваццаць першага стагоддзя можна смела назваць часам адраджэння ў Пецярбургу хрысціянства. Ад старых часоў у горадзе ацалела толькі адна драўляная царква — гэта храм св. Дзмітрыя Салунскага ў Каламягах (каля метро «Піянерская»). Калі сюды прыйшоў настаецелем ураджэнец вёскі Радчык Столінскага раёна протаіерэй **Іпаліт Кавальскі** (нар. 1948), драўляныя канструкцыі былі зношаныя, крыжы на купалах нахіліліся так, што іх падвязвалі дротам, тэрыторыя стала прахадным дваром... Самааддана працаваў з нешматлікімі памочнікамі а. Іпаліт: фарбаваў храм, перакрываў дах, умацоўваў купалы і крыжы. Пастараўся, каб вакол ягонай царквы было шмат кветак, бо і яны славяць Творцу ўсяго бачнага і нябачнага. Аднавіў каплічку ў імя Аляксандра Неўскага і традыцыю хрэснага ходу да яе ў дзень памяці дабраверная князя. Арганізаваў сталярную майстэрню (так важную для аднаўлення помніка драўлянага дойлідства), дабудаваў царкоўны дом. Ачышчаная старая сажалка ператварылася ў цудоўны ціхі астравок прыроды пасярод гарадскога тлуму, царкоўная тэрыторыя ўпарадкавана і абнесена прыгожай агароджай кавальскай работы, тут любімае месца прагулак маладых мамаў з маленькімі дзецьмі. Храм напоўніўся святынямі: ў ім прысутнічаюць частачкі мошчаў святога вялікапакутніка Дзмітрыя Салунскага, святога вялікапакутніка Панцелеймана, святой прападобнай мучаніцы Яўгеніі. Дзякуючы клопатам а. Іпаліта храм застаецца яркай архітэктурнай дамінантай паміж сучаснай забудовы, захоўваючы згадку пра першапачатковае аблічча Каламяг.



а. Міхаіл Сячэйко

Шлях да веры шмат для каго з пецярбургскай інтэлігенцыі праходзіў праз гутаркі з а. **Міхаілам Сячэйко**, які з 1952 да 1995 г. служыў у Князь-Уладзімірскім саборы на Петраградскай старане. Ураджэнец вёскі Горна Зэльвінскага раёна Городзенскай вобласці (нар. 05.04.1929), а. Міхаіл прайшоў франты 2-й Сусветнай вайны як сувязіст-чырвонаармеец, быў паранены і ўзнагароджаны баявым ордэнам (гэта ўзнагарода пазней часта выконвала ролю індульгенцыі пры кантактах з упаўнаважаным па рэлігіі). Пасля вайны вучыўся (разам з а. Анатолем Марозам) у Жыровіцкай семінарыі, потым абодвух лёс прывёў у Санкт-Пецярбург, дзе яны ў Духоўнай акадэміі слухалі, між іншым,



Аляксандр Каптуровіч

блiскучыя лекцыi свайго земляка, прафесара а. Вiталя Баравога. Менавiта ў той час да беларускай, польскай i славянскай моваў дадалiся ў актыўным ужытку а. Мiхаiла Сячэйко свабодная руская i грэчаская. «Госпадзi, наставi мяне праўдаю Тваёй» — ён звяртаў асаблiвую ўвагу на гэты малiтоўны зварот, прапаведваючы перад жыхарамi «калыскi сацыялiстычнай рэвалюцыi». Прыхаджане адгукалiся сэрцам. З 1995 г. а. Мiхаiл пераведзены настаецелем у царкву, якая пасля пабудовы i асвячэння (у 1880 г.) нiколi не зачынялася — гэта храм Спаса Нерукатворнага (Спаса Паргалаўская царква). Выдатная памяць, каласальная эрудыцыя i рытарскае красамоўства старэйшага па гадах святара Санкт-Пецярбургскай епархii зрабiлi яго адным з наймацнейшых прапаведнiкаў часу ганенняў на царкву i пачатку адраджэння. Падчас знаёмства з аўтарам «Беларускага Пецярбурга» 80-гадовы пастыр шмат расказваў пра ўдзел беларусаў у царкоўным i каля-царкоўным жыццi Ленiнграда, пра шчыры супрацiў ваяўнiчаму атэiзму адных i даносы на сваiх ад iншых. Сцiпла, хiба што з унутраным гонарам успамiнае а. Мiхаiл Сячэйко пра свой уклад у рэстаўрацыю разбуранай царквы ў роднай Зэльве.

Дзякуючы падтрымцы з гораду над Нявой паўстала не толькi зэльвенская царква. У Iвенцы дасёння дзейнiчае касцёл, якi пабудаваў у 1905—1907 гг. пецярбуржац, генерал Эдвард Каверскi, а ў недалёкай ад Зэльвы Белiцы Лiдскага раёна будынак касцёла зусiм нядаўна, у 2007 г., атрымаў прыгожую агароджу кавальскай пецярбургскай работы дзякуючы дабрадзейству земляка, генерал-лейтэнанта-чыгуначнiка Мечыслава Леапольдавiча Жыгалы.

Пад час працы над «Беларускiм Пецярбургам» аўтар пасябраваў i супрацоўнiчаў не толькi са многiмi землякамi-пецярбуржцамi, але i з жыхарамi Рэспублiкi Беларусь: таленавiтым мiнскiм журналiстам **Мiхаiлам Мiкалаевiчам Шыманскiм**, начальнiкам аддзелу па архiвах i справаводству Гродзенскага аблвыканкама, аўтарам даведнiкаў па горадзе над Нёманам **Яўгенам Мiкалаевiчам Жабруном**, кампазiтарам **Яўгенам Паплаўскiм**... За сем год працы колькасць знаёмстваў геаметрычна павялiчвалася, працэс стаў няспынным. Мы ўдзячны лёсу за асабiстае знаёмства з усiмi сучаснiкамi-пецярбужцамi, выдатнымi i моцнымi асобамi, сярод якiх i палкоўнiк запасу **Iван Iванавiч Снопак**, ураджэнец вёскi Ваганiчы Гараднянскага раёна Чарнiгаўскай вобласцi, якi пачынаў вайсковую службу сяржантам, камандзiрам «Кацюшы», а пасля заканчэння двух ваенных вучылiшчаў i акадэмii iмя М. Фрунзэ займаў у ГСВГ (групе савецкiх войскаў у Германii) генерал-лейтэнанцкую пасаду намеснiка камандуючага армiяй па баявой падрыхтоўцы. У 1997 г. ён разам з жонкай, педагогам-фiлолагам Рэммай Пятроўнай пераехаў у Пецярбург, каб дапамагаць гадаваць унукаў, парадай i працай падтрымаць двух сыноў — былых афiцэраў, а зараз паспяховых бiзнэсменаў.

У сiлавых структурах больш як 20 гадоў служыў член саюза пiсьменнiкаў **Вячаслаў Аляксандравiч Аўсянiкаў**, што родам з вёскi Тартак Новамышскага раёна Баранавiцкай вобласцi (нар. 02.02.1947), якi ў сваёй творчасцi закранае i марскую тэматыку (ён скончыў «макараўку», плаваў); з пецярбургскай мiлiцыяй звязалi свой лёс намеснiк начальнiка штаба ГУУС па г. Санкт-Пецярбургу i Ленiнградскай вобласцi, палкоўнiк мiлiцыi, ураджэнец вёскi Углы Нараўлянскага раёна Гомельскай вобласцi **Аляксей Мiкалаевiч Савiцкi**, якi за ўдзел у збройных канфлiктах канца 20-га i пачатку 21-га стагоддзяў (Армения, Чачня i iнш.) узнагароджаны медалём ордэна «За заслугi перад Айчынай» 1-й i 2-й ступеняў i iмяннной зброяй, а таксама яго жонка — мазыранка **Ала Мiкалаеўна Савiцкая**.

У Пецярбургу мы пазнаёмiлiся з капiтанам 1-га рангу, кандыдатам ваенных навук **Аляксандрам Якаўлевiчам Азаранкам** (нар. 01.02.1945 у Быхаўскiм раёне), якi пасля службы на Паўночным флоце займаецца дачай у Пецяргофе i навуковымi распрацоўкамi ў 24-м ЦНДI. Выдатны расказчык i былы спартсмен-баксёр, Аляксандр Азаранка дасёння ганарыцца, што будучы курсантам Севастопальскага вышэйшага ваенна-марскога вучылiшча так правучыў аднакурснiка (таксама спартсмена, да таго ж сына вялiкага начальнiка), якi здзекаваўся з беларускага вымаўлення слоў «марак» i «брукi», што цэлы ўзвод не адразу змог адцягнуць яго ад абiдчыка. Той учынак мог бы скончыцца i выключэннем (= развiтаннем з марай пра марскую службу), але начальства абмежавалася пераводам курсанта-выдатнiка ў iншае (ленiнградскае) вучылiшча, на менш прэстыжную спецыяльнасць.

Назiраннi за асеўшымi (як у мiнулым, так i сёння) ў Пецярбургу беларусамi паказвае, што большасць з iх нiколi не выкрэслiвала радзiму са свайго жыцця, адсюль наша нязгода з высновай мiнскага фiлосафа Iгара Бабкова

пра тое, што «Беларуская транскультурнасць — гэта перш за ўсё досьвед культурнай а-нармальнасці, які суб'ектыўна перажываецца як комплекс непаўнавартасці, як пэўная культурная траўма...»[1] — мы бачым такое ў вельмі нязначнай часткі людзей. А ўчынак курсанта Аляксандра Азаранкі толькі адзін з абвяргаючых прыкладаў. Больш таго: паўстанне беларускага нацыянальна-культурнага руху, усведамленне сваёй нацыянальнай годнасці ў «транскультурных» беларусаў Пецярбурга адбывалася нашмат лягчэй, чым на этнічнай радзіме. І падобна, што працэс гэты не скончыцца, аж пакуль не скончыцца Горад. Патрыятызм пецярбуржцаў-беларусаў стасуецца з хрысціянскім поглядам на гэты культурны фенамен, сфармуляваны ў свой час мансіньёрам Альбертам Раўхам, дырэктарам Інстытута Усходніх цэркваў у Рэгензбургу:

*«Патрыятызм — гэта вельмі добра, ён як раз і дапамагае зацвердзіць ідэнтычнасць. Можна быць патрыётам, але бачыць і іншых, якія таксама любяць свой народ, сваю гісторыю, паважаць іх. Сапраўдны патрыятызм заўсёды злучае чалавека і краіну з іншымі «патрыятызмамі» ...у наш час глабалізацыі, калі адчынены межы, калі так развітыя ўсе сродкі камунікацыі, патрыятызм не можа быць зусім асобным, такі правінцыялізм больш немагчымы».*

Не зважаючы на рознае дзяржаўнае падпарадкаванне, Пецярбург з Беларуссю de facto ўжо шмат гадоў знаходзяцца ў адной прасторы. Сучасная мабільная моладзь часта пакідае бацькоўскі дом, каб паехаць у іншы горад, іншую краіну. Аднак шмат хто застаецца ў Пецярбургу, працягваючы занятак бацькоў; так зрабілі, прыкладам, пайшоўшы працаваць на чыгунку, Ігар Віктаравіч Лабко, Міраслаў і Фелікс Жыгалы. Гэты аспект праблемы бацькоў і дзяцей закранае і палкоўніка-пецярбуржца Валянціна Юхімука, у якога абое дзеці, і сын і дачка, вярнуліся з Пецярбурга на Беларусь: Сяргей Валянцінавіч арганізаваў у Брэсце свій бізнес, Юля Валянцінаўна скончыла Брэсцкі універсітэт як псіхолаг і засталася на радзіме продкаў. Бацьку застаецца жыць на два дамы: адзін з іх на беразе Нявы, другі, што ў Камянцы — на краі Белавежскай пушчы. І любімы праваслаўны храм, куды на святы даяжджае Валянцін Рыгоравіч, стаіць на высокім беразе Нявы ў Усць-Іжоры: гэта царква св. Аляксандра Неўскага, якую некалі дапамагаў падымаць з руіны а. Анатолю Марозу.



*Валянцін Юхімук*

Яшчэ адной важнай рысай сталічнага Пецярбурга з'яўляецца пераемнасць традыцый і прысутнасць (дзейнасць) тут адразу некалькіх пакаленняў беларускай інтэлігенцыі. Пражыўшы адведзены Богам тэрмін пакаленні «выроўніваюцца», што асабліва адчуваецца на старых гарадскіх могілках. Прыкладам, на Нікольскіх у Аляксандра-Неўскай Лаўры побач апынуліся гісторык царквы Міхаіл Каяловіч і канструктар «Лунахода» Васіль Старавойтаў, дзеяч славянскага руху XIX ст. Антон Будзіловіч і акадэмік-фізік Барыс Захарчэня, мастак-манархіст Міхаіл Мікешын і адмірал-камуніст Валянцін Дрозд. Сённяшнім днём у Пецярбургу ўнук акдэміка-філолага Яўхіма Карскага, іжынер Аляксандр Карскі піша біяграфію дзеда, а ўнук адмірала флота Мікалая Амелькі, капітан 2-га рангу Мікалай Амелька паміж вахтамі на рэвалюцыйным крэйсеры «Аўрора» вывучае сваю сямейную гісторыю... унукам і праўнукам застаецца падтрымліваць і захоўваць добрыя традыцыі. А сённяшнія пецярбуржцы-беларусы могуць выявіць таленты нечакана ў самых розных праявах жыцця, прыкладам, перамагаць у штогадовых конкурсах гарадскіх прыгажунь. Тытул «Міс Пецярбург» заваявалі: у 2004 г. — Юля Трашчанок, у 2005 г. — Люба Маскалец, у 2006 г. — Насця Міхайловіч, у 2007 г. — Ліда Свінцёнак.

Кожны з пецярбургскіх беларусаў, хто лічыць места над Нявой сваёй другой

[1] *Бобков И.* Этика пограничья: транскультурность как белорусский опыт // Петекрёстки № 4/5. 2005. С. 133.

радзімай, ведае, што менавіта ад яго ідзе адлік каардынат у прасторы горада, кожны мае сваё шчымлівае пачуццё самотнай адзіноты, на якое абапіраецца наша самастойнасць і самадастатковасць. Гэта пачуццё трапна зафіксавана ў вершы выкладчыцы факультэта журналістыкі «вялікага» універсітэта, ураджэнкі Гомеля, паэтэсы Святланы Бадруновай:

**На Стрэлцы**

*......................сябрам*

Любімыя! Мне радасна і страшна
Усведамляць, што кожным новым ранкам
У Няве падлёднай новая вада.

Такія дні — і ціша і мароз,
Пустое неба — ў Пецярбурзе рэдкасць,
І горад жоўта-шызай-сінявой
Устае трохмернай галаграмай
Кругом мяне, і калі скіраваць
Вачмі направа — пойдзе ён налева,
Як па дузе, і значыць, ад мяне
Ідзе адлік каардынат прасторы.
А час — час згорнуты ў ва мне
Спружынай, што не хоча прачынацца,
Разсунуцца... А горад светлы, ціхі
І нязменны... Толькі там, пад крыгай
Глухога льду бяжыць жыццё,
Як нейкі знак другога вымярэньня,
І мой спакой — мой OXYZ —

Парушаны. Парушаны. І што ж? З усмешкай
Раблю я нетаропкі крок
Ды не на вось абсцыс кірункам Стрэлкі
Васілеўскага вострава — а ўнутр
Сябе. І адпускаецца спружына,
Абодва накірункі — ўперад,
Да невядомага, і адваротны, да былога, -
Аднолькава даступныя. ДамЫ
Мяняюцца: яны ўжо маладзейшыя,
А значыць, пастарэлі. І рака ужо
Гатова ўскрыцца. Гэта значыць, скора
Жывы струмень прамые вочы мне,
І я пабачу караблі ў заліве,
І бэз на Марсавым і вас, мае

Любімыя. Мне радасна. І страшна...

Заснавальнік выдавецтва «Чырвоны матрос», знакаміты пецярбуржскі паэт Міша Сапега больш лаканічны:

**Начны шпацыр**

Нідзе не спяшаю. Самому
і лёгка мне і самотна крыху...
Вецер сціх.
Толькі — белая ноч.
Толькі чорная Чорная рэчка.



Згодна сацыялагічных апытанняў нашых сучаснікаў, у будаванні ўласнай ідэнтычнасці вельмі вялікай з'яўляецца роля ведаў аб мінулым. На пытанне «што ў першую чаргу звязваецца ў Вас з думкай аб сваім народзе?» людзі часцей за ўсё (48%, дадзеныя 2003 г.) выбіраюць адказ «наша мінулае, наша гісторыя» («месца, дзе вырас» ідзе наступным — 43%)[1]. Мы звярнуліся да гісторыі пецярбургскіх беларусаў, стараючыся не абыйсці ўвагай месца, дзе кожны з іх нарадзіўся і вырас; па-магчымасці сабралі звесткі для вялікай карціны пад назвай «Беларускі Пецярбург» і зрабілі ў гэтай кнізе першы, эскізны яшчэ, яе накід. Спадзяемся, што будучыя чытачы паведамяць нам і новыя факты і свае заўвагі. Аддаўшы ў друк першую версію кнігі, мы з нецярплівасцю чакаем магчымасці працягваць працу. У сувязі з гэтым намерам ласкавая просьба прыслаць заўвагі (удакладненні) на надрукаваныя матэрыялы, а таксама звесткі пра вядомых Вам пецярбургскіх беларусаў на адрас mikkola1955@mail.ru.

[1] *Левинсон А.* Архив и простота // Новое литературное обозрение № 74 (4'2005). С. 40.

